Пераклад Васіля Раманава 2016 год.

Марозаў Мікалай Аляксандравіч

# Хрыстос

(Гісторыя чалавечай культуры ў прыродазнаўча-навуковым асьвятленні.)

# Кніга V

Руіны і прывіды


НИКОЛАЙ МОРОЗОВ
ХРИСТОС
V
Шольтэ
ГОСУДАРСТВЕННОЕ ИЗДАТЕЛЬСТВО
1 9 2 9

# ЗМЕСТ

# Прадмова да V кнігі.

Маім заданнем было пагадненне гістарычнай навукі, узятай ва ўсёй яе агульнасьці, з навукамі прыродазнаўчымі, далёка апярэдзіўшымі яе ў наш час, і евангельскі Хрыстос набывае ў мяне не вялікую ролю, як самотная чалавечая фігура сярод вялікай выявы прыроды. Але я пачаў сваё выкладанне з яго, каб зацікавіць сваім прадметам па магчымасьці больш шырокае кола чытачоў.

А ў спосабе выкладання для мяне ўзніклі вялікія цяжкасьці.

Таму што падставай і кіраўніком усіх гэтых высноваў, такіх нечаканых для маіх сучаснікаў, паслужылі мае, яшчэ нікому ў той час невядомыя, астранамічныя вызначэнні часу ўзнікнення шмат якіх старажытных ці старых гістарычных дакументаў, змяшчаючых у сабе дастатковыя астранамічныя ўказанні. І калі б я пачаў з публікацыі сваіх метадаў вылічэння, напаўняючы адразу ж сотні старонак выпрацаванымі мной для гэтага дапаможнымі табліцамі, то я, нават і зацікавіўшы з дзясятак людзей першым томам, усё ж адштурхнуў бы ўсіх астатніх, таму што нашы не матэматыкі, не фізікі і не астраномы баяцца нябеснай механікі, як полымя.

Вось чаму, не друкуючы адразу выпрацаваныя мной спосабы вылічэння, дзякуючы якім я меў магчымасць амаль імгненна вызначаць час якога заўгодна спалучэння планет на пацягу гістарычнага і да-гістарычнага прамежку часу, я толькі сам карыстаўся сваімі метадамі, а для праверкі дакладнасьці маіх вылічэнняў адсылаў чытача да спецыялных табліц Нейгебаўэра ці Ньюкомба, грунтуючыся на якіх можна было зрабіць (ды і то ў выпадку поўнага ведання вылічальнай астраноміі) толькі праверку ўжо атрыманых мной вынікаў, і ніяк немагчыма было знайсьці самім гэтыя вынікі. А праўдзівасць маіх вызначэнняў часу сонечных і месяцовым зацьменняў я прапанаваў правяраць мяне грунтуючыся на нямецкіх канонах зацьменняў Апольцэра і Генцэля.

Але працягваць так адсылаць да аўтарытэтаў да канца майго шматтомнага дасьледавання, было немагчыма. Нават не ва ўсіх астраномаў ёсць пад рукой пазначаныя мной кнігі, ды і прыдатныя яны, як я ўжо згадваў, толькі для праверкі ўжо знойдзеных раней вынікаў, таму што адказваюць не на пытанне: «пад час якога года і дня адбылося на працягу шматлікіх стагоддзяў пазначанае ў дакуменце спалучэння планет?» – а, наадварот, на пытанне: «якім было спалучэнне планет пад час вядомага дня»? У гістарычных жа дакументах патрэбна заўсёды менавіта вызначэнне года і дня грунтуючыся на ўжо вядомым спалучэнні планет.

Для таго каб уся мая праца была зразумелай для здольнага яе працягваць і не страціла сваёй навуковай пераканаўчасьці для чытача цікавячагася гістарычнымі пытаннямі, я павінен быў, нарэшце, даць магчымасць карыстацца маімі метадамі ўсім жадаючым. І я вырашыў публікаваць гэтыя метады адзін за адным у розных тамах маёй працы ў выглядзе пралогаў і інтэрмедый, перабіваючы імі агульнае, усім даступнае выкладанне асноўнага прадмета майго дасьледавання. Так, у чацьвёртай кнізе «Хрыста» я даў у пралогу свой метад «гісторыка-астранамічнай выведкі» грунтуючыся на пазначаным у нейкім дакуменце спалучэнні планет, а тут, у выглядзе інтэрмедыі, я даю сваю класіфікацыю ўсіх сонечных і месяцовых зацьменняў ад пачатку нашай эры і да ўсталявання рыгарыянскага календара, каб кожны мог адразу ж вызначыць, калі адбыліся прыдатныя да дасьледуемага апісання зацьменні.

Усе гэтыя пралогі і інтэрмедыі, паўтараю, неабходны толькі для тых, хто пажадае мяне пераверыць ці выкарыстаць мае метады для дасьледавання для новых гістарычных дакументаў, а астатнія могуць нават і не глядзець на прыкладзеныя табліцы.

Але я магу зараз жа суцешыць і не вельмі схільных да матэматыкі чытачоў, сказаўшы, што ніякіх вылічальных табліц, накшталт прыведзеных у чацьвёртым і ў гэтым томе, у мяне больш не будзе. Хаця астранамічных вызначэнняў у застаючыхся яшчэ не надрукаванымі шостым і сёмым тамах маёй працы (якія рзглядаюць месапатамскія клінапісы, ягіпецкія іерогліфы, арабескі і іншыя гістарычныя першакрыніцы) і будзе прыведзена не менш чым паўсотні, але я там вызначаю іхны час грунтуючыся ўжо не новых метадах вылічэнняў, а непасрэдна паказваючы на тыя ці іншыя старонкі прыведзеных тут табліц. Уся чыста гістарычная частка напісана і ў гэтых тамах у такім жа агульнадаступным выглядзе, як тут выкладзена рэчаісная гісторыя горада Рыма і рэчаісная гісторыя горада Афіны, пры гэтым вынікі атрымліваюцца тымі ж самымі. І ягіпецкая, і месапатамская, і індуская, і нават тыбецкая і кітайская праўдзівыя гісторыі не прасягаюць далёка за пачатак еўрапейскага сярэднявечча.

Із новых крытычных водгукаў на ўжо надрукаваныя чатыры тамы я тут пазначу, перадусім, артыкул прафесара П. Прэабражэнскага ў «Праўдзе» 13 траўня 1928 г. пад назвай: «У абарону гістарычнай навукі ад рэалізму», якую лепш было б назваць: «У абарону класіцызму ад рэалізму». Нягледзячы на свой палемічны характар яна зрабіла на мяне самае суцяшальнае ўражанне тым, што аўтар ад ранейшай контратакі на мяне перайшоў на сама-абараняючага становішча, і гэта дазваляе мне спадзявацца, што ён і цалкам пакіне свае пазіцыі непрымірымасьці пасьля надрукавання апошняй кнігі «Хрыста».

Другі артыкул у «Праўдзе» 27 траўня 1928 г., абараняючы крытычную частку маёй працы, належыць вядомаму палітыка-эканамісту Н. Н. Суханаву, які ў якасьці падцверджання маіх сумневаў у праўдзівасьці старажытнай гісторыі, і асабліва яе храналогіі, прыводзіць наступны цікавы факт:

«Некалькі дзён назад наш маскоўскі Музей рэвалюцыі сабраў непасрэдных удзельнікаў першага паседжання Пецярбургскай Рады Працоўных Дэпутатаў 27 лютага 1917 года. Мэтай сходу было, уласна, высвятленне фізіяноміі і працы Часовага Выканаўчага Камітэта, склікаўшага першую раду і ногул служыўшага цэнтрам пад час першых гадзін паўстання. Значэнне, якое мела гэтая ўстанова, было выключна вялікім. Выява ж успамінаў, выкрыўшаяся ў музеі Рэвалюцыі, была вельмі дзіўнай. Сябры Часовага Выканаўчага Камітэта паведамілі пра свае ўласныя нядаўнія, адзіныя і непаўтарымыя здзяйсненні так, як карыстаючыся самымі агульнымі, расплыўчатымі славамі перадаюць чуткі людзі чуўшыя звон. Самастойна, да дапытлівага допыту, яны выявіліся няздольнымі аднавіць якія б там ні было выразныя дэталі. І ў прыватнасьці яны не разумелі: адкуль узялася, кім была напісана, якім чынам надрукавана і пашырана паказаная ім у музеі іх уласная пракламацыя, склікаючая раду ў Таўрычным палацы ў 7 гадзін вечара... Між іншым, у дачыненні да гэтай даты паміж удзельнікамі нарады таксама ўзніклі цікавыя непагаднені. Адны сцвярджалі, што першае паседжанне рады пачалося ўжо ў 5-6 гадзін (пры поўным дзённым асьвятленні!); іншыя дапасавалі яго да 9 гадзін вечара (да ночы!). І гэта ў дачыненні да дня паўстання, калі гісторыя лічыла перыяды гадзінамі і нават хвілінамі! Гэта распавядаюць людзі, рукамі якіх рабіліся нядаўнія падзеі!

«Няма нічога дзіўнага, што пры такіх акалічнасьцях старанныя і сумленныя навукоўцы не вераць на слова ні паведамленням сведак, ні надрукаваным дакументам. І вось, напрыклад, яны вызначылі, што Шэкспір – гэта не Шэкспір. Але хто ж ён быў, чый гэта псеўданім, – яны, нягледзячы на ўсю стараннасць, вызначыць ніяк не могуць. Справа мае дачыненне да XVII стагоддзя, да эпохі развітага друкарства, да самай культурнай краіны тагачаснага сьвету. Але навукоўцы сумленна адказваюць: не ведаем, – ignoramus – пра асобу Шэкспіра, тым больш пра яго бацьку ці пра яго жонку.

«А вось цалкам іншая справа – Арыстоцель. Хаця тут і 2 200 гадоў, але ўсё як на далоні. Бацькам яго быў лекар Нікамах. Маючы роўна 17 гадоў ад нараджэння мудрэц прыбыў у Афіны, дзе і навучаўся мудрасьці ў Платона, вучня таго самага Сакрата, жонка якога мела імя Ксантыпа (ісуюць, як вядома, праўдзівыя паведамленні пра яе характар). Вучыўся Арыстоцель у Платона роўна 20 гадоў... А потым, чытаем мы ў той жа «Вялікай Энцыклапедыі»: «У 343 годзе да Н. Х. Арыстоцель бярэ на сябе абавязкі па выхаванню і навучанню 13-ці гадовага Аляксандра, сына Піліпа Македонскага». І калі Аляксандр пазней (толькі паслухайце!) шыратой свайго розуму і адукаванасьцю пераўзыходзіў усіх сучасных яму палітычных дзеячоў, то ў гэтым, без сумневаў, выявіліся плады выпрацаванага ім пад час юнацтва, пад кіраўніцтвам Арыстоцеля, шырокага разумовага светапогляду»... «Такіх поспехаў Арыстоцель дасягнуў за тры гады – да 340. Потым ён «купіў пляцоўку зямлі для сваёй уласнай школы па суседству з храмам Апалона Лікійскага». Памёр ён у 322 годзе да Н. Х, – праўда, невядома ў які дзень тыдня, але ва ўсякім разе «ад ранейшай хваробы страўніка (Вялікая Сав. Энц. III. 327)».

І вось, Н. Н. Суханаў першым адважыўся сказаць друкавана, што мая кніга «Хрыстос», якая ўсебакова крытыкуе такія сведчанні, ніяк не бунт у гістарычнай навуцы, а ва ўсякім разе пачатак рэвалюцыі ў ёй.

Так менавіта я і глядзеў на гэтую сваю працу з таго самага моманту, калі ў мяне, яшчэ больш трыццаці гадоў назад, намаляўся яе агульны абрыс. Я меў намер толькі расхістаць старыя гістарычныя бастыёны з узнятай на іх, бачна ці нябачна, харугвай «Нерукатворнага Спасу», і толькі пазначыць агульнымі рысамі магчымасць пабудавання на парэштках старога гістарычнага ўмацвання (у якім шмат хто і зараз шукаюць сабе абароны) новай, асэнсаванай гістарычнай навукі на эвалюцыйных падставах, у пагадненні з геаграфіяй, геафізікай, грамадзкай псіхалогіяй, палітычнай эканоміяй, гісторыяй матэрыяльнай культуры і цалкам з усім сучасным прыродазнаўствам. А распрацоўку дэталяў, вядома, змогуць выканаць толькі спецыялісты ў розных напрамках гэтай складанай вобласьці ведаў.

Дзяржаўны Навуковы Інстытут ім. Лесгафта.
Астранамічнае аддзяленне. 1928.
Мікалай Марозаў.

# Інтэрмедыя

## Праўдзівыя сведкі зямных падзей.



Мал. 1
Вечныя сведкі зямных падзей. Нябесныя сьвяцілы і задыякальнае сьвятло.

# Глава I

## Сведчанні месяца. Сэнс нашых месяцовых хронік і іхнае выкарыстанне пры гістарычных дасьледаваннях.

Поўны Месяц заходзіць у перавышаючы яго амаль удвая (згода з дыяметрам) конус зямнога ценю перад поўным зацьменнем.

У той вобласці гістарычнай навукі, якая апускаецца ў глыбіню мінулага за сярэднія стагоддзі, мы ўвесь час сустракаемся з выказваннем: «згодна са сведчаннем старажытных...». У адным дакуменце старажытныя сведчаць нам, што на 31 годзе валадарання Актавіяна Аўгуста ў бога нарадзіўся сын ад жыдоўскай дзяўчыны на імя Марылля. У другім дакуменце яны ж сведчаць, што ў іхны час Сірыус быў чырвоным, а не блакітнавата-белым як зараз, хаця з сучаснага боку гледжання, прызнаючага ў ім не запаленую на небе лямпачку, а вялізнае сьвяціла, гэта змена колеру ў яго нашмат менш праўдападобная, чым, напрыклад, ператварэнне ўсяго лісьця ў зямных раслін за дзве тысячы гадоў гістарычнага існавання чалавецтва ў сучасны зялёны колер із чырвонага ці фіялетавага, якімі яны, будзем лічыць, былі пры тым жа Актавіяну Аўгусце.

Такія «сведчанні» мы знаходзім у гісторыкаў старажытнасьці без канца, але кожны раз, калі ў нас атрымліваецца дакапацца да іхнай першакрыніцы, выяўляецца, што гэтыя «сведчанні старажытных» ператвараюцца ў ілжэсведчанні каго-небудзь са шматлікіх аўтараў-апакрыфісаў Эпохі Адраджэння. Здавалася б для старажытнай гісторыі немагчыма мець пры такіх умовах ніякага крытэру праўдападобнасьці, але на шчасьце ў нас ёсць сведкі, на праўдзівасць якіх можна спадзявацца. Гэта, перадусім, Сонца і Месяц, якія ўвесь час назіраюць за зямнымі падзеямі. Вельмі часта яны даюць нам магчымасць адразу адрозніць праўду ад фантазіі, і дакумент, які змяшчае праўдзівыя сведанні пра іх, можна прызнаць, з вялікай ступенню ўпэўненасьці, праўдзівым і ў астатнім.

У рукапіснай літаратуры старажытнасьці і сярэдніх стагоддзяў, напісанай збольшага на лацінскай і грэцкай і збольшага па іншых мовах, як, напрыклад, на арабскай і яго варыянце – старажытнажыдоўскай, на пярсідзкай і яе папярэдніку – месапатамскай, ці, нарэшце, на іерагліфічнай ягіпецкай і на копцкай мовах, мы ўвесь час сустракаем указанні на астранамічныя з'явы той Эпохі. Часам гэта – поўны пералік усіх «сямі планет» старажытнасьці пад іхнымі звычайнымі ці сімвалічнымі найменнямі і з указаннем іхнага месцавання адносна сузор'яў; часам – гэта апісанні з'яўлення і бачнасьці камет, якія завуцца то хвастатымі зоркамі, то палымянымі мячамі, то анёламі неба, узброенымі знішчаючай зброяй; але самымі частымі з’яўляюцца, нярэдка вельмі падрабязныя, паведамленні пра сонечныя і месяцовыя зацьменні.

На прыкладзе ўсяго папярэднічаўшага выкладання мы ўжо бачылі, што ў дакладнай гістарычнай навуцы немагчыма і кроку ступіць не звяртаючыся да сонечных і месяцовых зацьменняў з мэтай праўдзівга храналагізавання не толькі саміх падзей мінулага жыцця зямных народаў, але нават і першакрыніц, якія паведамляюць нам пра іх.

Вось, напрыклад, адно із зацьменняў, ужо цытаванае мной у ранейшых кнігах, прыпісваемае Ціту Лівію. Я яго даю ў перакладзе П. Андрыянава, толькі з некаторымі маімі тлумачэннямі.

«*Калі ўмацаванне лагера было закончана, француз Сюльпіс* (на-лаціне Сульпіцый гал), *вайсковы суддзя*[1] *2-га легіёна, які быў спаведнікам* (прэтарам)[2] *пад час папярэднічаўшага года, паклікаўшы з дазвалення консула ваяроў на сход* (напярэдадні

[1] На-лаціне tribunus – слова таго ж кораня як і трыбунал.

[2] Цікава, што ад гэтага звання паходзіць і французкая назва сьвятара «praitre».

бітвы з македонцамі), *абвясьціў, што пад час надыходзячай ночы, – хай ніхто не лічыць гэта за дзіва! – ад другой да чацьвёртай гадзіны ночы будзе месяцовае зацьменне. Дзякуючы таму што гэтая з'ява адбываецца натуральным чынам і ў пэўны час, то пра яе можна ведаць папярэдне і прадказваць яе. А таму, як не выклікае здзіўлення тое, што Месяц то выглядае як поўнае кола, то, падчас маладзіка, мае форму невялікага рога, таму што Сонца і Месяц узыходзяць і заходзяць згодна з вызначанымі часовымі суадносінамі* (і Месяц асвятляецца толькі Сонцам), *то не патрэбна лічыць за прадвесьце і тую акалічнасць, што сьвятло Месяца зацямняецца, калі яго накрывае цень Зямлі*».

«*Пад час ночы напярэдадні вераснёўскіх нон* (г.азн. 6 верасня), *калі ў пазначаны час адбылося месяцовае зацьменне, мудрасць француза здалася раманскім ваярам амаль боскай. На македанянаў жа гэта падзейнічала як злавеснае прадвесьце, прадракаючае знікненне іхнага царства і народа. Так жа патлумачыў гэтую з'яву і іхны прадказальнік. Крык і лямант чуліся ў іхным лагеры, пакуль Месяц зноў не заблішчэў сваім сьвятлом*» (Ціт Лівій: Рымская гісторыя ад заснавання сталіцы, кн. 44, § 37).

Вось надзвычай дакладнае апісанне месяцовага зацьмення перад бітвай раманаў з македонскім царом Пярсеем, адбыўшайся, як паведамляе нам «гістарычная традыцыя», у 586 годзе ад «заснавання горада Рыма», і нам кажуць, што гэтая бітва была за 168 гадоў да пачатку нашай эры. Калі б (паўтараю для памяці чытача ужо аднойчы прыведзенае мной параўнанне!) такую прамову выказаў Напалеон I перад бітвай пад Аўстэрліцам, то вы, вядома, не здзівіліся б. Але калі вам паведамляюць, што гэта было ў тыя часы, калі ў горах Паўднёвай Яўропы яшчэ жылі пячорныя людзі, вы маеце права засумнявацца, і паспрабаваць паглядзець, ці не было нечага падобнага пазьней, асабліва, калі вы бачыце, што пад час пазначанага гістарычнай традыцыяй моманту нічога такога не было.

Як я ўжо паведамляў у маіх папярэдніх тамах, творы ўсіх класічных аўтараў, у тым ліку і Ціта Лівія, дайшлі да нас ці выключна ў друкаваных выданнях першых стагоддзяў друкарства, ці ў рукапісах на пергаменце, старажытнасьць якіх амаль ніколі не апускаецца у глыбіню часоў далей XI стагоддзя. Дадзены рукапіс, захоўваемы зараз у Венскай Дзяржаўнай бібліятэцы, быў «знойдзены» ў Гесэне, у горадзе Лорш, у Бенедыктынскім кляштары, у першай палове XVI стагоддзя, і быў адразу ж надрукаваны ў Базельскім выданні 1531 года.

Пры такіх умовах заўсёды магчыма выказаць думку пра апакрыфічнасць калі не ўсяго твора, то магчымасць дадванняў да яго на працягу наступных эпох.

Грунтуючыся на маючыхся ў наш час нямецкіх выданнях Апольцэра (Canon der Finsternisse) ці Генцэля (Spezieller Canon der Sonnen- und Mondfisternisse fur das Laodergebiet der klassischen Altertumswissenschaf ten und der Zeitraum von 900 vor Chr. bis 600 nach Chr.) вельмі цяжка хутка арыентавацца ў выпадках, падобных толькі што прыведзенаму, ці пераверыць, наколькі задавальняючымі з’яўляюцца рашэнні, даваемыя папярэднічаўшымі нам дасьледчыкамі. Акрамя таго, толькі што паказаныя «каноны», як вялікія фаліянты, загрувашчаныя падцверджваючымі вылічальнымі аргументамі, прыдатныя толькі для астраномаў, і не паказваюць адразу ўсяго, што патрэбна для гісторыка. Усё гэта і заахвоціла мяне стварыць прыкладаемую сістэматычную храналогію сонечных і месяцовых зацьменняў, размеркаваўшы іх па сузор'ях і па юліянскіх месяцах і паказаўшы ўмовы іх бачнасьці на небе, чаго няма ў названых мной аўтараў.

ТАБЛІЧКА А.

Мясцовыя пачаткі сутак на захадзе Старога сьвету.

| | Згодна з грынвіцкім часам | Згодна з берлінскім часам |
|---|---|---|
| Мадрыд | -0 гадзін -14 хвіл. -45 сек. | -1 гадзіна -8 хвіл. -20 сек. |
| Грынвіч | 0 гадзін 0 хвіл. 0 сек. | -0 гадзін -53 хвіл. -35 сек. |
| Рым | +0 гадзін 49 хвіл. 56 сек. | -0 гадзін -3 хвіл. -39 сек. |
| Берлін | +0 гадзін 53 хвіл. 56 сек. | 0 гадзін 0 хвіл. 0 сек. |
| Вена | +1 гадзіна 5 хвіл. 21 сек. | +0 гадзін 11 хвіл. 46 сек. |
| Афіны | + 1 гадзіна 34 хвіл. 53 сек. | +0 гадзін 41 хвіл. 18 сек. |
| Пулкава | +2 гадзіны 1 хвіл. 18 сек. | + 1 гадзіна 7 хвіл. 43 сек. |
| Каір | + 2 гадзіны 4 хвіл. – | + 1 гадзіна 11 хвіл. – |
| Псеўда-Ерусалім (Эль-Кудс) | + 2 гадзіны 20 хвіл. – | + 1 гадзіна 27 хвіл. – |
| Псеўда-Вавілон (Тынтыр, Кандыгір) | + 2 гадзіны 56 хвіл. – | + 2 гадзіны. 3 хвіл. – |

Згодна са сваім выглядам мае храналагічныя табліцы – простыя лічбы, але гэтыя лічбы вельмі красамоўныя. Яны без якога б то ні было апісання даюць яскравую выяву кожнага зацьмення ва ўсіх яго падрабязнасьцях для кожнага месца зямной паверхні. І я зноў тут паўтараю тое ж самае, што паведамляў у чацьвёртым томе пра табліцы для вызначэння планетных спалучэнняў: просты чытач можа прапусьціць гэтую маю астранамічную інтэрмедыю і пачынаць чытаць з першай часткі, а калі нехта будзе мець жаданне выкарыстаць гэтыя табліцы да справы, то хай не панаракае на мяне за тое, што я ахвяраваў для іх некалькі дзясяткаў старонак маёй кнігі.

Патлумачу, перадусім, значэнне лічбаў у гэтых месяцовых табліцах (табл. I-XXXII).

Першая лічба зверху пазначае год зацьмення; другая, злучаная з ёй рысачкай, з’яўляецца пазначэннем дня месяца, пазначанага рымскай лічбай зверху слупка. У другім радку – першая лічба пазначае гадзіну сутак, а другая – хвіліну сярэдзіны зацьмення ад грынвіцкай поўначы, а пры пераходзе да іншага часу патрэбна карыстацца таблічкай А (стар. 6). У трэццім радку пазначана максімальная велічыня зацьмення ў звычайных астранамічных адзінках, лічачы 12.0 (ці як яго пазначаюць 12"0) за поўнае зацьменне; 6.0 за палавіннае і г.д. (напрыклад, 18.0 азначае такое пры якім хорда зямнога ценю, праходзімая цэнтрам Месяца, перавышае яе дыяметр на яго палову). Гэта азначае што кожнае месяцовае зацьменне больш чым 12.0 з’яўляецца звыш-поўным. А ў апошніх двух радках паказана месца зенітавай бачнасьці Месяца з зямной паверхні падчас сярэдзіны зацьмення ў градусах зямной даўгаты ад Грынвіцкага мерыдыяна (перадапошні радок) і ў градусах зямной шыраты (апошні радок).

Так, першае згуртаванне дзён у снежаньскім (г.зн. XII) слупку табліцы месяцовых зацьменняў першага стагоддзя (табліца I)

0-29
14-31
7.0
+145
+24

чытаецца: месяцовае зацьменне пачатковага (нулявога) гада нашай эры (г.зн. года, які быў паміж 1 годам нашай эры і мінус 1 да яе), 29 снежня ў 14 гадзін 31 хвіліну ад грынвіцкай поўначы з максімальнай фазай 7"0 (г.азн. засланілася 7/12 долей месяцовага папярочніка)[3] пры зянітавай бачнасьці Месяца над +145° зямной даўгаты ад Грынвіча і +24° зямной шыраты.

[3] А калі б фаза выявілася большай чым 12.0, напрыклад, 22.5, то гэта азначала б, што шырыня зямнога ценю на шляху Месяца была на 10.5 больш, чым месяцовы папярочнік, і таму поўная фаза была працяглай.




Мал. 3

Мапа паўночнага і часткі паўднёвага неба для знаходжання месца сонечных і месяцовых зацьменняў, паказаных у табліцах II главы. Каардынаты дадзены для эпохі 1900 года ў гадзінах прамога ўзыходжання. Пры перакладзе іх у градусы трэба кіравацца лічбамі, якія стаяць проста над адпавядаючымі «гадзінамі» (і табліцай на стр. 136 у IV кнізе «Хрыста»).




Мал. 4

Бачнасць месяцовых зацьменняў з розных месцаў зямной паверхні. Дадзена на прыкладзе трох зацьменняў на мерыдыяне 150° ад Грынвіча. $Z_1$-снежаньскага, бачнага ў зеніце заўсёды каля –23° паўночнай шыраты, $Z_2$ – раўнадзённага (сакавіцкага ці вераснёўскага),

бачнага ў зяніце заўсёды каля 0° зямной шыраты, і $Z_3$ – чэрвеньскага, бачнага ў зяніце заўсёды каля 23° паўднёвай шыраты.

Зразумела, што кожнае месяцовае зацьменне бывае бачным з усяго таго паўшар'я Зямлі, з якога ў гэты час бачны Месяц. Каб вызначыць у які час ночы і ў якім становішчы над гарызонтам яно назіралася з таго ці іншага месца зямной паверхні, возьмем меркатараву мапу зямнога шара (мал. 4) і пазначым на ёй кропку зянітнай бачнасьці дадзенага нам зацьмення, напрыклад, зацьменне 19 чэрвеня 243 года, зенітная бачнасць якога $Z_2$ была каля 150° грынвіцкай даўгаты і –24° шыроты). Пазначым на экватары нашай мапы дзьве кропкі, адстаячыя ад кропкі $Z_2$ на +90° і –90° па даўгаце. Пазначым таксама і на мерыдыяне $Z_2$ (калі гэта магчыма) дзьве дадатковыя кропкі, адстаячыя ад $Z_2$ на ±90° па шыраце. Паўночная кропка выявіцца ў нашым выпадку на 90°–24°, г.азн. на 66° паўночнай шыраты, а паўднёвая павінна быць на 90°+24, г.азн. на 114° паўднёвай шыраты, што азн. яно павінна перамясьціцца на процілеглае паўшар'е Зямлі на 24° палярнай адлегласьці. Гэта азначае, яна ляжа на 66° паўднёвай шыраты, і на 150°+180°, г.азн. на 330° усходняй даўгаты, ці на –360+330, г.азн. на –30° заходняй даўгаты ад Грынвіча.

Злучыўшы гэтыя чатыры кропкі тлустай сінусоіднай лініяй (мал. 4) мы пабачым, што сярэдзіна дадзенага нам зацьмення была бачнай толькі з таго боку гэтай сінусоіды, пасярэдзіне якой размяшчаецца кропка $Z_2$. Іншымі словамі: яго сярэдзіна была бачнай апоўначы толькі на мерыдыяне $Z_2$. Пры заходзе Сонца і ўзыходзе Месяца сярэдзіна гэтага зацьмення была бачнай на прасторы ўсёй левай часткі нашай тлустай сінусоіды, размешчанай на ўсход ад мерыдыяна $Z_2$, а на ўзыходзе Сонца і заходзе Месяца сярэдзіна гэтага зацьмення была бачнай на прасторы ўсёй заходняй часткі той жа тлустай сінусоіды. У верхняй кропцы (каля 150° даўготы) сярэдзіна была бачнай, калі Месяц на хвіліну паказаўся над паўночным гарызонтам, для таго, каб зноў зайсьці, а больш на паўнач ад шыраты –66° усё зацьменне не было бачным, таму што Месяц у гэты дзень там не ўзышоў.

На поўдні ж наадварот. У кропцы каля 30° заходняй даўгаты зацьменне адбылося ў тую хвіліну, калі апускаючыся Месяц напалову апускаецца за небасхіл (калі не ўлічваць рэфракцыю, злёгку павялічаючую яго) для таго, каб зноў падняцца над ім, г.азн. тут узыход і заход аб'ядналіся. А на шыротах размешчаных больш на паўдзень ад пазначанай Месяц пад час дня гэтага зацьмення цалкам не заходзіў.

Гэтая дыграма дае крайні выпадак, які можа быць толькі пад час другой паловы рыгарыянскага чэрвеня, калі месяцовыя зацьменні адбываюцца пасьля пачатку нашай эры ў сузор'і Стральца на 23°-24° паўднёвага схілення. Адваротная ёй крывая (пункцірная сінусоіда для $Z_1$) была б паказніцай снежаньскіх зацьменняў (адбываючыхся зараз у сузор'і Двайнят на 23°-24° паўднёвага схілення).

Для раўнадзённых жа зацьменняў, адбываючыхся ў сакавіку і ў верасні (пад час нашай эры ў сузор'ях Рыб і Панны) каля самага нябеснага экватара, напрыклад, у кропцы 23, бачнасць сярэдзіны зацьмення (калі не ўлічваць рэфракцыю месяцовага сьвятла, злёгку памяншаючую ці павялічваючу яе час) будзе, вядома, абмежавана непасрэдна мерыдыяльнымі лініямі, адстаячымі ад зянітнай бачнасьці $Z_3$ зацьменні на +90° і –90°. А ў прамежкавых выпадках месяцовыя зацьменні будуць адбывацца пад час кожнага дня ад пачатку кліматычнага (рыгарыянскага) года на вызначаным схіленні, а, такім чынам, і зянітнымі яны будуць на вызначанай геаграфічнай шыраце, прамежкавай паміж $Z_1$ і $Z_2$. Для гэтых

зацьменняў вобласць бачнасьці цэнтральнай фазы на прасторы ўмераных кліматычных паясоў будзе прамежкавай паміж абодвума кардынальнымі выпадкамі.

Дзякуючы таму, што як пачатак так і заканчэнне самых глыбокіх месяцовых зацьменняў знаходзяцца ад паказанай вам яго сярэдзіны амаль на дзьве гадзіны часу (112 хвілін), пачаткі самых глыбокіх месяцовых зацьменняў раней іхнай сярэдняй фазы будуць бачнымі яшчэ на 28° далей на ўсход, а заканчэнні зацьменняў пасьля іхнай сярэдны фазы будуць яшчэ бачнымі далей на захад на 28°, як і паказана на малюнку дадатковым пункцірам. У выпадку менш глыбокіх месяцовых зацьменняў гэтыя дадатковыя вобласьці бачнасьці будуць карацей адпаведна лічбам таблічкі В.

Такім чынам, для таго каб атрымаць умовы бачнасьці месяцовага зацьмення з розных кропак зямной паверхні, дастаткова вызначыць толькі грунтуючыся на нашых табліцах даўгату і шырату яго зянітнай бачнасьці і перанесьці на мапе адпаведна направа ці налева тыя нашы крывыя памежныя лініі (на мал. 4.), якія адпавядаюць дадзенаму месяцу дасьледуемага зацьмення.

А для таго каб вызначыць, у якім месцы неба адбылося гэтае зацьменне, мы карыстаемся надпісам над яго слупком у табліцах I-XXXII. Так у выпадку зацьмення 29 снежня нулявога года нашай эры (г.азн. таго, якое адбылося перад яе першым годам) мы бачым надпіс (табл. I):

«**11 снежня 103°, сярэдзіна Стралка**». Гэта азначае, што «пад 103° экліптыкальнай даўгаты пасярэдзіне сузор'я Стралка зацьменне Месяца адбылося (пад час першага стагоддзя) на 11 дзень юліянскага снежня. А ў нашым прыкладзе пазначана 29 снежня, г.азн. на 18 дзён пазьней. На працягу гэтага часу цень Зямлі (ідучы геліяцэнтрычна амаль па 1° за суткі) праходзіць 18°. Гэта азначае дадзенае зацьменне адбылося пад 103°+18°, г.азн. каля 121° экліптыкальнай даўгаты згодна з каардынатамі 1900 года і, як бачна із таблічкі С, адбылося на 4-м градусе сузор'я Рака, калі будзем карыстацца сучаснымі межамі сузор'яў, пазначанымі на мапах Альбрэхта Дзюрэра 1515 года[4]. А калі будзем грунтавацца на да-Дзюрэраўскіх выраўненых межах (таблічка С налева), то 121° будзе на 6-м градусе Рака грунтуючыся на каардынатах сучасных нябесных мап.

ТАБЛІЧКА В.

Палавінкі перыядаў, праходзячых ад пачатку месяцовага зацьмення да сярэдзіны поўнай фазы, палова працягласьці поўнай фазы зацьмення і геадэзічная дададзеная даўгата няпоўнай бачнасьці зацьмення.

| Велічыня максімальнай фазы | $^1/_2$ агульнай працягласьці зацьмення | $^1/_2$ працягласьці поўнага пацямнення | Дададзеная даўгата не поўнай бачнасьці |
|---|---|---|---|
| 0"5 | 23 хвіл. | – | ± 6° |
| 1"0 | 33 хвіл. | – | ± 8° |
| 2"0 | 46 хвіл. | – | ±11°5 |
| 3"0 | 56 хвіл. | – | ±14° |
| 4"0 | 61 хвіл. | – | ±17° |
| 5"0 | 71 хвіл. | – | ±18° |
| 6"0 | 76 хвіл. | – | ±19° |
| 7"0 | 81 хвіл. | – | ±20° |
| 8"0 | 86 хвіл. | – | ±21°5 |

[4] Гл. пра гэта ў чацьвёртай кнізе «Хрыста».

| | | | |
|---|---|---|---|
| 9"0 | 90 хвіл. | – | ±22°5 |
| 10"0 | 93 хвіл. | – | ±23° |
| 11"0 | 96 хвіл. | – | ±23°5 |
| 12"0 | 99 хвіл. | 0 | ±25° |
| 13"0 | 102 хвіл. | 22 хвіл. | ±25°5 |
| 14"0 | 104 хвіл. | 31 хвіл. | ±26° |
| 15"0 | 106 хвіл. | 36 хвіл. | ±26°5 |
| 16"0 | 107 хвіл. | 41 хвіл. | ±27° |
| 17"0 | 109 хвіл. | 44 хвіл. | ±27°5 |
| 18"0 | 110 хвіл. | 47 хвіл. | ±27°5 |
| 19"0 | 110 хвіл. | 49 хвіл. | ±27°5 |
| 20"0 | 111 хвіл. | 50 хвіл. | ±27°5 |
| 21"0 | 112 хвіл. | 51 хвіл. | ±28° |
| 22"0 | 112 хвіл. | 52 хвіл. | ±28° |
| 22"7 | 112 хвіл. | 52 хвіл. | ±28° |

Само сабой зразумела, што экліптыкальная даўгата, дадзеная намі зверху слупкоў месяцовых табліц для цэлага стагоддзя, мае толькі сярэдні характар, бо пры высакосных гадах кожны дзень месяца, пачынаючы з сакавіка, праектуецца на небе на градус далей, чым пад час папярэднічаўшага года і, акрамя таго, да заканчэння сутак экліптыкальная даўгата зацьмення таксама амаль на градус большая, чым на іхным пачатку, ды і да заканчэння стагоддзя яна амаль на градус большая, чым пры яго пачатку. Гэта азначае, недакладнасць тут можа дасягаць да ± 3°. Але пры гісторыка-астранамічным дасьледаванні, калі ў большасьці выпадкаў патрэбна ведаць толькі само сузор'е, і рэдка яго пачатак, сярэдзіну ці заканчэнне, такая недакладнасць не мае ніякага значэння. А калі дасьледаванне скончана, і з нейкай нагоды пажадана ўдакладніць месца зацьмення да доляў градуса, можна карыстацца месяцовымі табліцамі размешчанымі ў чацьвёртай кнізе «Хрыста».

ТАБЛІЧКА С.

Экліптыкальныя межы і сярэдзіны сузор'яў Задыяка згодна з каардынатамі 1900 года.

| Нівеліраваныя межы і сярэдзіны задыякальных сузор'яў | Дзюрэравы межы і сярэдзіны задыякальных сузор'яў. |
|---|---|
| 355° мяжа Вадаліва. | 345° мяжа Вадаліва. |
| 340° сярэдзіна Вадаліва. | 336° сярэдзіна Вадаліва. |
| 325° іхная мяжа. | 328° іхная мяжа. |
| 310° сярэдзіна Казярога. | 314° сярэдзіна Казярога. |
| 295° іхная мяжа. | 300° іхная мяжа. |
| 280° сярэдзіна Стралка. | 283° сярэдзіна Стралка. |
| 265° іхная мяжа. | 265° іхная мяжа. |
| 250° сярэдзіна Скарпіёна. | 250° сярэдзіна Скарпіёна. |
| 235° іхная мяжа. | 235° іхная мяжа. |
| 220° сярэдзіна Шаляў. | 224° сярэдзіна Шаляў. |
| 205 іхная мяжа. | 214° іхная мяжа. |
| 190° сярэдзіна Панны. | 193° сярэдзіна Панны. |
| 175° іхная мяжа. | 173° іхная мяжа |
| 160° сярэдзіна Ільва. | 158° сярэдзіна Ільва. |
| 145° іхная мяжа. | 142° іхная мяжа. |
| 130° сярэдзіна Рака. | 129° сярэдзіна Рака. |
| 115° іхная мяжа. | 117" іхная мяжа. |
| 100° сярэдзіна Двайнят | 103° сярэдзіна Двайнят. |
| 85° іхная мяжа. | 88° іхная мяжа. |
| 70° сярэдзіна Цяляці. | 69° сярэдзіна Цяляці. |
| 55° з мяжа . | 50° іхная мяжа. |

| | |
|---|---|
| 40° сярэдзіна Авена. | 38° сярэдзіна Авена. |
| 25° іхная мяжа. | 25° іхная мяжа. |
| 10° сярэдзіна Рыб. | 5° сярэдзіна Рыб. |
| 355° мяжа Рыб. | 345° мяжа Рыб. |

Практычна ж у гэтым ніколі не ўзнікае патрэбы. Таму што пры разліках нябеснай тапаграфіі сонечных і месяцовых зацьменняў на вельмі далёкія гады, ніколі не патрэбна забывацца, што і самі канфігурацыі сузор'яў пераменяюцца з плынню стагоддзяў з нагоды ўласнага руху зорак. Вось, напрыклад, хоць бы вядомая ўсім Вялікая Мядзведзіца (мал. 5). На верхнім малюнку паказаны ўласны рух яе зорак (згодна з накірункам рысачак), а знізу паказаны вынікі. Малюнак A паказвае яе канфігурацыю за 50000 гадоў да нашага часу; малюнак B – яе сучасны выгляд і малюнак C – такі выгляд яна будзе мець праз 50 000 гадоў. Яшчэ больш цікавым з'яўляецца агульны рух Гіяд побач з Альдэбаранам, які таксама мае свой уласны рух (мал. 6). Які ж сэнс мела б пры чыста гістарычных пошуках ускладняць табліцы бясконцымі дадатковымі аргументамі зрушэнняў кароткага і доўгага перыяду, калі само зорнае неба не дае нам трывалай падставы для абсалютнай тапаграфіі сваіх з'яваў?




Мал. 5

Уласныя рухі зорак Вялікай Мядзведзіцы і перамены яе канфігурацыі.

A – такой яна была за 50000 гадоў да нашага часу, B – зараз, і C – будзе праз 50 000 гадоў.




Мал. 6
Уласны рух Гіяд сярод суседніх буйных зорак.

Адзначу яшчэ, што са шматлікіх цыклаў месяцовых зацьменняў, знойдзеных мной, грунтуючыся на прыкладзеных ніжэй месяцовым табліцам (I-XXXII) самым лепшым выявіўся цыкл роўны 521 гадам, той жа самы, які знайшоў і Лерш у 1889 годзе[5]. Выпішам, напрыклад із нашых табліц, усе месяцовыя зацьменні адбыўшыяся 1-га, 2-ога, і 3-га юліянскага студзеня (таблічка Е).

Заўважаемая тут часам розніца амаль на поўныя суткі з'яўляецца вынікам дадавання аднаго дня пад час высакоснага года. Нават велічыня зацямнення тут вызначаецца прыблізна, як бачна із параўнання максімальных фаз у адным і тым жа радку табліцы D, ці, яшчэ лепш із табліцы Е, а адрозненні ў гадзінах залежаць ад нераўнамернасьці руху Месяца.

Мы бачым тут, што максімальная фаза злёгку памяншаецца да 2084 года, а ваганне дзён студзеня паміж 8 і 10 яго днямі залежыць галоўным чынам ад неаднолькавасьці задыякальнай тапаграфіі пачаткаў простых і высакосных юліянскіх гадоў і нераўнамернасьці месяцовага руху. Пры перакладзе гэтага гадавога зрушэння ў сутачнае мы знойдзем, што кожны прамежак роўны 190295,3 дням ± некалькі гадзін.

ТАБЛІЧКА D.

Узор 521-гадовага цыкла месяцовых зацьменняў. Зацьменні паблізу 1 студзеня.

| Першая серыя месяцовых зацьменняў каля 1 студзеня | | Другая серыя праз 521 год | Трэццяя серыя яшчэ праз 521 год |
|---|---|---|---|
| 19 | 93-I-1; 15 г. 55 хв. 4″8 | 614-I-1; 22 г. 32 хв. 7″6 | 1135-I-1; 23 г. 13 хв. 19″5 |
| 19 | 112-I-14; 23 г. 13 хв. 19″5 | 633-I-1; 9 г. 39 хв. 21″6 | 1154-I-1; 17 г. 19 хв. 19″8 |
| 19/27 | 131-I-1; 9 г. 25 хв. 9″6 | 652-I-1; 16 г. 49 хв. 6″7 | 1171-I-1; 3 г. 5 хв. 9″2 |
| 27/19 | 158-I-2; 14 г. 27 хв. 2″7 | 679-I-2; 19 г. 52 хв. 3″2 | 1200-I-3; 5 г. 28 хв. 5″1 |
| 19 | 177-I-2; 10 г. 57 хв. 19″0 | 698-I-2; 10 г. 10 хв. 19″7 | 1219-I-2; 13 г. 57 хв. 20″5 |
| 19/27 | 196-I-3; 11 г. 21 хв. 11″6 | 717-I-2; 7 г. 48 хв. 10″4 | 1238-I-2; 5 г. 52 хв. 8″7 |
| 27 | (233-I-4; 19 г. 18 хв. 3″6) | (744-I-4; 1 г. 48 хв. 5″1) | 1263-I-3; 12 г. 43 хв. 5″3 |

ТАБЛІЧКА Е.

[5] Lersch: Einleitung in die Chronologie. 1889. p. 58.

Узор 521-летняга цыкла месяцовых зацьменняў на працягу 3000 юліянскіх гадоў.
Зацьменні паблізу 9 студзеня.

| |
|---|
| Год –1042-I-10; 4 г. 19 хв. ад грынвічскай поўначы 20″1 |
| Год –521-I-10; 1 г. 45 хв. ад грынвічскай поўначы 22″0 |
| Год 0-I-9; 23 г. 14 хв. ад грынвічскай поўначы 21″5 |
| Год +521-I-8; 23 г. 20 хв. ад грынвічскай поўначы 20″0 |
| Год +1042-I-9; 4 г. 10 хв. ад грынвічскай поўначы 17″8 |
| Год +1503-I-9; 13 г. 24 хв. ад грынвічскай поўначы 15″8 |
| Год +2084-I-10; 23 г. 10 хв. ад грынвічскай поўначы 14″1 |

Другім са знойдзеных мной, грунтуючыя на табліцах I-XXXII цыклаў, месяцовых зацьменняў з'яўляецца 130-гадовы плюс 2 дні 16 гадзін, узоры якога прыведзены ў таблічках F і G. Першая таблічка дае прыклад зацьменняў для ўзыходзячага вузла месяцовай арбіты, а другая для сыходзячага вузла, пры гэтым сыходзячыя зацьменні паўтараюцца праз 65 гадоў плюс 1 дзень пасля ўзыходзячых.

## ТАБЛІЧКА F.
## Тры ўзоры знойдзенага мной 130-гадовага (плюс 2 дні 46 гадзін) цыкла месяцовых зацьменняў.

А. Зацьменні ўзыходзячага вузла (14 здзяйненняў запар на працягу 1690 гадоў). (Пн – Месяц зацямняўся з поўначы, Пд – з поўдня і Ц – цэнтральна. Гады юліянскія, гадзіны ад грынвіцкай поўначы.)

| Узор жнівеньска-верасьнёўскіх зацьменняў месяца | Узор красавіцка-травеньскіх зацьменняў месяца | Узор снежаньска-студзеньскіх зацьменняў месяца |
|---|---|---|
| Натуральны пачатак цыкла | Натуральны пачатак цыкла | Натуральны пачатак цыкла |
| –187-VIII-1; 19 г. 59 хв. 0″2 Пн. | –386-IV-15; 19 г. 26 хв. 1″4 Пн. | –716-XII-23; 20 г. 3 хв. 3″8 Пн. |
| –57-VIII-4; 11 г. 5 хв. 5″9 Пн. | –256-IV-17; 14 г. 14 хв. 3″6 Пн | –586-XII-28; 11 г. 5 хв. 5″9 Пн. |
| +73-VIII-1; 12 г. 27 хв. 7″7 Пн. | –126-IV-21; 11 г. 14 хв. 4″5 Пн | –456-XII-31; 3 г. 14 хв. 7″8 Пн. |
| 203-VIII-10; 9 г. 40 хв. 10″1 Пн. | +4-IV-23; 12 г. 40 хв. 11″1 Пн. | –325-I-3; 13 г. 37 хв. 12″1 Пн. |
| 333-VIII-12; 9 г. 14 хв. 15″7 Пн. | 134- IV-26; 3 г. 41 хв. 14″2 Пн. | –195-I-25; 2 г. 55 хв. 16″9 Пн. |
| 463-VIII-15; 0 г. 19 хв. 19″0 Пн. | 264- IV-28; 21 г. 50 хв. 15″9 Пн. | –65-I-11; 5 г. 38 хв. 21″7 Пн. |
| 593-VIII-17; 21 г. 51 хв. 20″8 Пн. | 394- V-2; 5 г. 15 хв. 20″8 Ц. | +65-I-11; 5 г. 38 хв. 21″9 Ц. |
| 723-VIII-20; 21 г. 18 хв. 19″8 Пд. | 524- V-3; 18 г. 21 хв. 20″3 Пд. | 195-I-13; 19 г. 41 хв. 18″9 Пд. |
| 853-VIII-22; 13 г. 20 хв. 14″6 Пд. | 654-V-7; 7 г. 44 хв. 16″2 Пд. | 325-I-16; 0 г. 32 хв. 13″7 Пд. |
| 963-VIII-26; 8 г. 51 хв. 11″8 Пд. | 784-V-9; 20 г. 53 хв. 14″3 Пд. | 453-I-19; 20 г. 17 хв. 12″3 Пд. |
| 1113-VIII-28; 13 г. 52 хв. 9″9 Пд. | 914-V-12; 9 г. 54 хв. 10″1 Пд. | 585-I-21; 12 г. 47 хв. 9″4 Пд. |
| 1243-VIII-31; 3 г. 29 хв. 4″6 Пд. | 1044-V-14; 17 г. 35 хв. 4″2 Пд. | 715-I-24; 12 г. 0 хв. 3″0 Пд. |
| 1378-IX-2; 21 г. прапушчана ў Апольцара. | 1174-V-18; 1 г. 25 хв. 3″2 Пд. | 843-I-27; 9 г. 32 хв. 1″3 Пд. |
| 1508-IX-5? ........... 0″0 Пд. | 1304-V-20; 1 г. 56 хв. 0″2 Пд. | 975-I-30; ............ 0″0 Пд. |
| Натуральнае заканчэнне цыкла | Натуральнае заканчэнне цыкла | Натуральнае заканчэнне цыкла |

Аўтограф у кнізе знізу гэтай старонкі:
(Цікавым цыклам з’яўляецца 521*4 = 1084 гады, пры ім зацьменні паўтараюцца амаль на той жа [шырацe] і трохі ўсходней і каля 14 [дзён] пазней згодна з юліянскім злічэннем.

## ТАБЛІЧКА G.
## Тры ўзоры знойдзенага мной 130-гадовага (плюс 2 дні 16 гадзін) цыкла месяцовых зацьменняў.

Б. Зацьменні сыходзячага вузла (14 здзяйсняў запар на працягу 1690 гадоў).
(Яны адбываюцца пасярэдзіне прамежкаў паміж зацьменнямі папярэднічаўшай табліцы праз 65 гадоў пасьля кожнага з іх.)

| Узор жнівеньска-верасьнёўскіх зацьменняў месяца | Узор красавіцка-травеньскіх зацьменняў месяца | Узор снежаньска-студзеньскіх зацьменняў месяца |
|---|---|---|
| Натуральны пачатак цыкла | Натуральны пачатак цыкла | Натуральны пачатак цыкла |

| | | |
|---|---|---|
| –252-VII-31; ........... 0″0 Пд. | –321-IV-16; прапушчана ў Апольцара. | –781-XII-24; 15 г. 16 хв. 1″9 Пд. |
| –122-VIII-2; 18 г. 59 хв. 1″8 Пд. | –191-IV-19; 16 г. 1 хв. 6″0 Пд | –651-XII-27; 9 г. 58 хв. 2″2(?) Пд. |
| +8-VIII-5; 14 г. 53 хв. 4″9 Пд. | –61-IV-22; 8 г. 43 хв. 8″8 Пд | –521-XII-30; 17 г. 12 хв. 8″2 Пд. |
| 138-VIII-8; 7 г. 42 хв. 10″8 Пд. | +69-IV-25; 4 г. 39 хв. 10″4 Пд. | –390-I-1; 6 г. 46 хв. 12″0 Пд. |
| 268-VIII-10; 6 г. 17 хв. 13″3 Пд. | 199- IV-28; 9 г. 7 хв. 15″7 Пд. | –260-I-4; 20 г. 32 хв. 13″1 Пд. |
| 398-VIII-14; 3 г. 55 хв. 15″3 Пд. | 329-IV-29; 22 г. 50 хв. 19″7 Пд. | –130-I-7; 9 г. 48 хв. 17″3 Пд. |
| 528-VIII-16; 0 г. 49 хв. 20″6 Пн. | 459-V-3; 14 г. 52 хв. 21″9 Ц. | 0-I-9; 23 г. 14 хв. 21″5 Ц. |
| 658-VIII-18; 18 г. 40 хв. 10″9 Пн. | 589-V-6; 1 г. 11 хв. 19″3 Пн. | +130-I-12; 7 г. 11 хв. 19″3 Пн. |
| 788-VIII-21; 15 г. 30 хв. 17″8 Пн. | 719-V-8; 14 г. 1 хв. 15″0 Пн. | 260-I-16; 1 г. 10 хв. 17″7 Пн. |
| 918-VIII-24; 17 г. 30 хв. 15″0 Пн. | 849-V-11; 0 г. 39 хв. 10″1 Пн. | 390-I-17; 16 г. 13 хв. 14″0 Пн. |
| 1048-VIII-26; 8 г. 20 хв. 9″6 Пн. | 979-V-14; 16 г. 19 хв. 8″8 Пн. | 520-I-20; 18 г. 11 хв. 8″4 Пн. |
| 1178-VIII-30; 2 г. 3 хв. 5″9 Пн. | 1109-V-16; 5 г. 52 хв. 5″2 Пн. | 650-I-23; 15 г. 7 хв. 7″0 Пн. |
| 1308-IX-1; 9 г. 53 хв. 4″5 Пн. | 1239-V-19; прапушчана ў Апольцара. | 780-I-26; 9 г. 24 хв. 4″7 Пн. |
| 1438-IX-3? ........... 0″0 Пн. | 1369-V-21; ............ 0″0 Пн. | 910-I-29; ............ 0″0 Пн. |
| Натуральнае заканчэнне цыкла | Натуральнае заканчэнне цыкла | Натуральнае заканчэнне цыкла |

Пн – зацьменні з паўднёвага канца Месяца; Пн – з паўночнага і Ц – чыста цэнтральныя.

Гэты цыкл яшчэ лепшы, чым 521-гадовы. Ён дае 14 паўтарэнняў для кожнага месяцовага зацьмення і прыдатны на працягу 1690 юліянскіх гадоў, а потым надоўга знікае з нагоды лёгка назіраемай на саміх табліцах. Справа ў наступным.

Разгледзім спачатку першую таблічку (F), якая мае дачыненне да зацьменняў узыходзячага вузла. Пры кожным першым зацьменні гэтага выпадку цень Зямлі толькі злёгку засланяе паўночную частку Месяца і зацьменне назіраецца ў вельмі малой фазе; пры наступных трох выпадках зацямненне з поўначы паслядоўна робіцца ўсё большым, і Месяц у момант сярэдзіны зацьмення заўсёды мае выгляд кубачка. Ад пятага да дзевятага выпадку, зацьменні бываюць поўнымі, а пры апошніх чатырох выпадках цень Зямлі засланяе паўднёвую частку Месяца ўсё менш і менш, пры гэтым не засланяемая частка Месяца мае выгляд капелюша.

А пры зацьменнях сыходзячага вузла месяцовай арбіты зацямненні ідуць, наадварот, часткамі з поўдня на поўнач, як гэта бачыць сам чытач пры параўнанні адпаведных слупкоў абедзьвюх табліц.

У абедзьвюх таблічках заўважаецца такая правільнасць павелічэння зацямненняў аж да поўнага і цэнтральнага выпадку (Ц) і такая правільнасць яго памяншэння, што мы адразу можам паказаць, грунтуючыся на гэтым цыкле кожнае прапушчанае папярэднімі дасьледчыкамі зацьменне і адразу вызначыць яго дзень з верагоднай памылкай толькі на некалькі гадзін і максімальную фазу з вельмі малой памылкай у яе велічыні. Так у першай із нашых таблічак (F), складзенай грунтуючыся на Апольцэру, мы бачым, што ён прапусьціў зацьменне каля 2 верасня 1378 года з максімальнай фазай каля 1″0. А ў другой таблічцы (G). Апольцэр прапусьціў зацьменне 16 красавіка мінус 321 года з максімальнай фазай каля 2"0 і зацьменне 19 траўня 1239 года з максімальнай фазай каля 1″5. **Вазьміце ў нашых табліцах кожнае зацьменне і вы адразу ж знойдзеце да яго ўвесь гэты цыкл із 14-ці зацьменняў на працягу 1690 гадоў.**

Калі б старажытным быў вядомы гэты цыкл, то, улічваючы ўплыў высакоснасьці, яны б мелі магчымасць прадказаць усе месяцовыя зацьменні і іхны выгляд за выключэннем самых нязначных з дакладнасьцю да некалькіх гадзін. Але яны яго не маглі ведаць, таму што для гэтага патрэбна больш за 1000 гадоў поўнага рэгістравання месяцовых зацьменняў на абодвух паўшар'ях Зямлі.

Дадам яшчэ, што для вызначэння таго, ці адбылося дадзенае няпоўнае зацьменне Месяца на яго паўночным ці на яго паўднёвым баку патрэбна толькі

паглядзець у нашых табліцах, па якому паўшар'ю Зямлі прайшла сярэдняя лінія сонечнага зацьмення, адбыўшагася за 14 ці праз 14 дзён. Такое сонечнае зацьменне амаль заўсёды бывае, а калі яго няма, то патрэбна браць праз (ці да) 130 гадоў ± каля 14 дзён ад дасьледуемага месяцовага, ці праз (да) 260 ± каля 14 дзён, ці праз (да) 390 ± каля 14 і г.д.). Калі цэнтральная частка такога зацьмення ішла па паўночнаму паўшар'ю Зямлі, то паўночная ж частка Месяца была зацемненай і ў выпадку дасьледуемага намі месяцовага зацьмення, і яго бачная частка мела ў такім выпадку выгляд кубачка ( ), як паведамляецца ў некаторых старажыных дакументах. А ў тых выпадках, калі замест поўнага зацямнення патрапіўшай у цень часткі Месяца было толькі яе «пераўтварэнне» ў чырвоны колер дзякуючы рэфракцыі сонечных прамянёў у зямной атмасферы, здаецца быццам бы на медзяной талерцы ляжыць акрываўленая галава, як у паданні пра «адсячэнне галавы Яна Ахрышчэльніка». Дакладна так жа і наадварот. Калі сярэдзіна паласы сонечнага зацьмення праз 14, ці за 14 дзён лічачы ад няпоўнага месяцовага (ці праз-да 130 ± каля 14, ці праз-да 261 ± каля 14, ці праз-да 390 ± каля 14 і г.д.) ішла па паўднёваму паўшар'ю Зямлі, то была зацемнена паўднёвая частка Месяца, і яго бачная частка ўяўлялася ў выглядзе капялюшыка ( ), часам на чырвонай галаве.




Мал. 7

Цэнтральнае месяцовае і сонечнае поўныя зацьменні, адбываючыяся звычайна праз 14 дзён адно пасьля другога.




Мал. 8

Неадбыўшыяся сонечнае і месяцовае зацьменні. Із гэтага бачна, што калі б сонечны цень прайшоў па паўднёваму паўшар'ю Зямлі, то і зямны цень захапіў бы паўднёвы край Месяца (і наадварот).




Мал. 9

Месяцовае зацьменне каля сыходзячага вузла месяцовай арбіты.

ТАБЛІЧКА Н.

Тэрміналогія Лацінскага Календара.

| |
|---|
| Календы (скліканні) – першы дзень кожнага юліянскага месяца ў сярэднявечных латынянаў, сьвята Юноны (іянійкі, па-жыдоўску: галубкі). |
| Іды (раздзелы) – 15-ы дзень сакавіка, траўня, ліпеня і кастрычніка, і 13-ы дзень астатніх месяцаў, сьвята бога-бацькі (на-лаціне ю-пітэра). |
| Ноны (прысьвечаныя Ноне-Клатоне, пралцы чалавечага жыцця). 7-я дні студзеня, лютага, красавіка, чэрвеня, жніўня, верасня, лістапада і снежня, і 5-я дні астатніх. |
| Усе іншыя дні лічыліся назад ад гэтых дат, як бы ў чаканні іх. Так пярэдадне (pridie) студзеньскіх календаў прыпадала на 31 снежня, 2-гі дзень студзеньскіх ідаў – на 13 студзеня, пярэдадне вераснёўскіх нонаў – на 6 верасня; 2-і дзень вераснёўскіх нон – на 5 верасня, 3-ці дзень вераснёўскіх нонаў – на 4 верасня і г.д. |

Якой лёгкай і нескладанай робіцца пераверка гістарычнай храналогіі дзякуючы нашым табліцам і прыкладзеным малюнкам (мал.4), бачна із наступнага прыклада.

Калі магло адбыцца апісанае тут (стар. 4) месяцовае зацьменне «француза Сюльпіса» пярэдадня вераснёўскіх нонаў?

Спачатку перавядзём гэтае сярэдневечнае злічэнне на сучаснае юліянскае карыстаючыся таблічкай Н. Знаходзім, што гаворка ідзе пра зацьменне пад час ночы з 5 на 6 дзень юліянскага верасня.

Перадусім адзначаем, што тут існуе некаторая невызначанасць. Ад якой гадзіны Сюльпіс пачынаў злічэнне начных гадзін?



Мал. 10
Пачатак крывавага месяцовага зацьмення, калі замест поўнага зацямнення назіраецца, дзякуючы рэфракцыі сонечных прамянёў у зямной атмасферы, толькі ператварэнне Месяца ў чырвоны выгляд.

Ці ад поўначы, як мы, ці ад заходу Сонца, як старажытныя астраномы?

Усё гэта вымушае нас не абмяжоўвацца выпісваннем із нашых табліц, толькі тых зацьменняў, якія пазначаны дадзенымі нам у дакуменце гадзінамі, пералічыўшы іх з грынвіцкага на македонскі час (грунтуючыся на табліцы А на стр. 6), а браць да ўвагі ўсе зацьменні ад вечара 5 верасня і да раніцы 7 верасня згодна з сучасным злічэннем.

Знаходзім у нашых Месяцовых табліцах слупок «Верасень» і із яго выпісваем усе зацьменні, пазначаныя ў першым радку ззаду лічбамі 5, 6 і 7 і бачныя пад час ночы ў Яўропе.

З 1-й серыі такіх зацьменняў, адбыўшыхся паміж 1476 і 1570 гадамі, мы знаходзім толькі адно прыдатнае: месяцовае пад час ночы з 5 на 6 верасня 1522 года ў 23 гадзіны 46 хвілін (г.азн. 5 верасня перад грынвіцкай поўначчу і праз дзьве гадзіны пасля яе згодна з македонскім часам), поўнае, з максімальнай фазай 13"3. Зянітнае над 2° зямной даўгаты ад Грынвіча, і –3° зямной шыраты.

Яно цалкам дапасуе.

Толькі што ж мы бачым? Яно адбылося ўсяго за 9 гадоў да друкавання кніг «Шаноўнага Лівійца» (Ціта Лівія па-грэцку)! Вось сапраўды вельмі дзіўнае супадзенне[6]!

У другой серыі вераснёўскіх перад-нонаўскіх месяцовых зацьменняў, адбыўшайся за 521 год да гэтай (955-1066 гг.). мы не знаходзім ніводнага цалкам дапасуючага.

Месяцовае вечарам 6 верасня 1066 года ў 15 гадзін 59 хвілін ад грынвіцкай поўначы, з няпоўнай максімальнай фазай 8"6 і зянітнае над 119° зямной даўгаты і 5° зямной шыраты. Яно пачалося ў Македоніі яшчэ да заходу Сонца, і там можна было назіраць толькі яго заканчэнне. Мала дапасуе.

Із трэццяй серыі такіх зацьменняў, адбыўшыхся за 521 год перад гэтым у перыяд (414-564 гг.), мы маем толькі тры мала дапасуючыя:

1. Месяцовае 6 верасня 564 года ў 16 гадзін 52 хвіліны ад грынвіцкай поўначы, з максімальнай фазай 22"6, г.азн. вельмі глыбокае. Але яно было зянітным толькі над 106° зямной даўгаты ад Грынвіча і –7° зямной шыраты, і ў Македоніі магло быць бачным толькі яго закачэнне. Мала дапасуе.

2. Месяцовае 6 верасня 545 года ў 16 гадзін 23 хвіліны ад грынвіцкай поўначы, з няпоўнай максімальнай фазай 7"8 і зянітнае над 113° зямной даўгаты і 7° зямной шыраты, пры гэтым яго заканчэнне магло быць бачным толькі на абшарах Ўсходняй Яўропы. Не дапасуе.

3. Месяцовае ад 4 на 5 верасня 415 года з сярэдзінай у 2 гадзіны 50 хвілін ад грынвіцкай поўначы. Самая вялікая фаза 11"7 балаў, амаль цалкам поўнае зацьменне. У Рыме было бачна ўсё, а ў Афінах і Мемфісе пачатак і сярэдзіна, г.азн. раніцай 5 верасьня Месяц там зайшоў яшчэ ў стане няпоўнага зацямнення ад яшчэ не паспеўшага сысьці з яго зямнога ценю. Гэтае зацьменне, пачаўшаяся паміж 2 і 3 гадзінамі македонскага часу, адлічаемага ад поўначы, дапасуе да прадказанага Сюльпісам, толькі ў тым выпадку, калі ён і вераснёўскія ноны лічыў ад 5, а не ад 7 верасня.

Із чацьвёртай серыі такіх зацьменняў, адбыўшыхся на пачатку нашай эры і перад яе пачаткам, мы зноў маем толькі адно амаль прыдатнае зацьменне.

Месяцовае 6 верасня 24 года ў 19 гадзі 11 хвілін, няпоўнае, з максімальнай фазай 6"5. Калі француз Сюльпіс лічыў час ад заходу Сонца, то яно, вядома, дапасуе. Але як мог чалавек, які злічае час грунтуючыся на такой пастаянна змяняючайся падставе загадзя вылічыць зацьменне?

Уласна кажучы, гэтым і павінна было б закончыцца наша дасьледаванне. Пасьля пачатку нашай эры больш не было месяцовых зацьменняў прыпадаючых на 5-6 верасня, а раней гэтага пачатку шукаць не мае сэнсу, бо тады яшчэ не існавала дакладнага календара. Менавіта таму я і не меў жадання абцяжарваць гэты том некалькімі дзясяткамі табліц маючых дачыненне да ранейшых стагоддзяў, тым больш, што яны ўжо надрукаваны мной у V томе «Известия Государственного Научного института имени Лесгафта», і там чытач можа знайсьці ў дадатак да толькі што прыведзеных зацьменняў яшчэ адзін выпадак:

Месяцовае зацьменне **5 верасня мінус 41 года** (г.азн. ужо да пачатку нашай эры, а згодна з гістарычным злічэннем ў 42 годзе да «Н. Х.»), з сярэдзінай у 18 гадзін 55 хвілін пасля грынвіцкай поўначы, г.азн. ужо вечарам нонаў, а не напярэдадні іх, і таму не дапасуючае.

---

[6] Яно настолькі ўражваючае, што мне і ў галаву не прыйшло зазірнуць у XVI стагоддзе, калі я згадваў пра яго ў ранейшых тамах.

стагоддзяў былі пакрыты хаткамі славянскіх гавяднікаў, і яны вадзілі быдла на вадапой да крыніц, маючых у класікаў найменне Аганіпы і Іпакрэны. Пра старажытны класічны Алімп навакольныя жыхары нічога не чулі, і там, дзе класікі ўяўляюць паганскае сьвяцілішча, падарожнікі ў рэчаіснасці знаходзяць толькі грэцкую царкву[22].

Славянскім словам «Топальвозера» навакольнымі жыхарамі яго берагоў завецца класічнае Капаідзкае возера; Алімпія мае назву Мірака, Мікены – Харваты (Храваці), а Платэя – Кохла... На Пелапанэсе мы знаходзім мястэчкі Валгасту, Гарыцу, Граніну, Крывіцу, Падгору, Логавы (Глогавы), Варсавы, Склабіцы, Камяніцы, Кракавы, Хлемацы (Хмеліца), Нязэра, Рахавы, Лукавіцы, Прасто і цэлы шэраг падобных іншых[23]. І калі сярод заходне-еўрапейскіх навукоўцаў, не ведаючых рускую мову, яшчэ могуць існаваць спрэчкі пра тое, ці славянскія гэта словы ці пераіначаныя грэцкія, то мы, рускія, адразу пазнаём тут роднае, і нам смешна нават даказваць гэта.

На «Марафонскай раўніне» мы таксама маем мястэчкі Враны, Цастуны (Частуны), Мазі, якія цяжка прызнаць не за славянскія. Мы знаходзім такія ж найменні і ў іншых мясцовасьцях Грэцыі, і вось узнікае пытанне, як жа яны туды патрапілі, калі славяне не былі карэнным насельніцтвам Грэцыі? Выказаць меркаванне, што ў грэкаў існавала мода называць свае мястэчкі славянскімі найменнямі, як у нас зараз грэцкімі, немагчыма, калі грэкі сапраўды былі больш культурным народам чым тагачасныя славяне. Застаецца толькі адна, найбольш праўдападобная з культурна-гістарычнага боку гледжання здагадка, што самі грэкі, памножыўшыся на сваёй радзіме (іянічных выспах), паступова перасяляліся на Балканскую паўвыспу і асімілявалі славянаў, спачатку жыўшых у Марэі (г.азн. «каля Мора»), з нагоды чаго за шматлікімі мястэчкамі і захаваліся ранейшыя славянскія назвы.

Але мы бачым, што на ўсім працягу сярэдніх стагоддзяў грэкі ў сумесі са славянамі яшчэ не зрабіліся высокакультурным народам і зацята супраціві́ліся, пад уплывам сваіх жрацоў, спробе Канстантынопальскіх імператараў знішчыць у іх глыбокае шанаванне статуй і маляваных выяваў.

Аднак прыйшло і на іхную вуліцу сьвята. Афінская грачанка Ірына ў 770 годзе адружылася з сынам «рымскага цэзара» Кастуся Капраніма і 17 снежня была абвешчана «аўгусьцейшай». У якасьці грачанкі яна, вядома, мела вялікае жаданне ўзвысіць сваіх суайчыннікаў на іхнай дзікай радзіме, і, атрымаўшы пасьля сьмерці чалавека Ільва IV у 775 годзе рэгенцтва над малалетнім сынам Кастусём, не прапусьціла выпадку гэта зрабіць.

«Славянскія народнасьці, – паведамляе Грэгарэвіус[24], – пашырыліся тады па ўсёй паўвыспе». Маючы на мэце іхнае падпарадкаванне імператрыца ў 783 годзе накіравала ў Грэцыю шматлікае войска пад кіраўніцтвам свайго канцлера і палюбоўніка, патрыцыя Стаўракія. Гэты вайсковы правадыр перамог славінаў спачатку каля Фесаліі і ў Элладзе і абклаў іх данінай, а потым перайшоў праз перасмык у Пелапанэс. З вялікай здабычай і шматлікімі славянскімі палоннымі вярнуўся ён з заваяванай зямлі, і ў студзені 784 года яму быў наладжаны трыумф

[22] P. Delambre: Notice sur les ruines de I'Hieron des muses dans I*Helicon (Archive des miss, scientif. IV. 1867. p. 169).

[23] J. H. Krause: Geograpliie des Griechentands, у Энцыклапедыі Гіршая Грубера, т. 83, стар. 296.

[24] Грэгарэвіус, стар. 62.

на Канстантынопальскім гіпадроме. Больш дакладныя паведамленні пра гэты паход адсутнічаюць. Ні Карынф, ні Фівы, ні Афіны і тады не згадваюцца.

Грэцыя была нават месцам спасылкі. Палітычна небяспечных людзей у тыя часы звычайна выпраўлялі ў розныя глухія месцы імперыі, напрыклад, у Фесалонікі, Херсон, Эпідамы і на аддаленыя выспы. І вось усе пяць братоў Ільва IV, апошнія законныя спадкаемцы ісаўрыйскай дынастыі, якіх асьцерагалася Ірына, былі выпраўлены якраз у Афіны. Але там яны наладзілі стасункі са славянскімі князямі і тыя, пагадзіўшыся з нейкай партыяй у Грэцыі, намерыліся абвясьціць аднаго із іх імператарам. Задума змоўцаў была выкрыта, і дзеля выведвання справы імператрыца накіравала ў Афіны Феафілакта. Вышук паказаў, што прынцы стварылі там сабе цэлую партыю, з нагоды чаго і былі вывезены і паселены ў Панорме. А Ірына на сёмым сусветным саборы ў Нікеі, у 787 годзе, аднавіла ўшанаванне выяваў, і, відаць, не ў сэнсе адных намаляваных абразоў, але і статуй, як у каталікоў.

І вось **Грэцыя ў VIII стагоддзі ўпершыню выступае на рэчаісныя гістарычныя падмосткі, як краіна паўстанцаў і перамяшанага, больш чым напалову славянскага, насельніцтва.**

Хутка пасьля заняцця пасада Нічыпарам славяне Грэцыі зноў задумалі мяцеж. Распавядаючы пра гэта, Кастусь Парфірародны паведамляе, што яны, паўстаўшы, спустошылі ўладанні сваіх грэцкіх суседзяў. Гэтае паўстанне паступова пашыралася ўсё далей і яго мэтай было захапіць патраскі порт. Пелапанэскія славяне аблажылі гэты горад з боку сушы ў 805 ці 807 годзе, а з боку мора іх падтрымліваў флот ісламітаў, з якімі, грунтуючыся на гэтым факце, паўстанцы заключылі пагадненне. Патрасцы абараняліся адважна, чакаючы ад карынфскага стратэга падмацавання. Адна із наладжаных імі вылазак мела вынікам разлад у войску абложваючых, а раптоўнае з'яўленне карынфскага падмацавання завяршыла перамогу грэкаў над славянамі. Такім чынам была знішчана апошняя і найбольш грозная спроба славянскага насельніцтва паўднёвай Грэцыі здабыць незалежнасць. Імператар Нічыпар I у якасьці ўзнагароды патрасцаў падвысіў іхнае біскупства да ўзроўню мітраполіі. Пераможаных славянаў ён замацаваў за царквой св. Андрэя, мяркуемага абаронцы абложанага горада, абавязаўшы іх штогадова выплочваць дзясятую частку прыбыткаў на карысць гэтай царквы.

А што ж адбывалася ў гэты час у Афінах?

Горад Афіны, як мы бачылі, быў выведзены із забыцця сваёй дачкой Ірынай. Падобнае ж шчасьце ў другі раз выпала яму на долю праз некалькі гадоў пасьля пазбаўлення пасады гэтай імператрыцы. У Афінах жыла пляменіца Ірыны – Феафана, адружаная з нейкім шляхетным чалавекам. Абставіны склаліся так, што Нічыпар пачаў шукаць жонку для свайго сына і суваладара Стаўратыя (811-812гг.). Ён загадаў наладзіць абранне кандыдатак у маладыя на абшарах усёй імперыі, і яго пасланнікі звярнулі асаблівую ўвагу на Феафана[25]. Яе адружанне са сваім першым чалавекам без далейшых акалічнасьцей было скасавана і 20 снежня 507 года яна была павянчана з цэзарам.

Такім чынам, грэцкі імператарскі вянок насілі ўжо тры афінянкі – Афінаіда, Ірына і Феафана. І гэта тым больш годна ўвагі, што ніводзін із ураджэнцаў старажытнай Грэцыі не толькі не занімаў візантыйскі пасад, але за ўвесь час існавання ўсходне-рымскай імперыі нават не занімаў колькі-небудзь выбітной

[25] Абранне маладой адбывалася і ў 838 годзе, калі Феафіл абвянчаўся з Фядорай, дачкой турыярха Марына.

пасады[26]. А пасьля падзення імператрыцы Феафана Эллада зноў настолькі знікае з гістарычных падмосткаў, што немагчыма нават знайсьці пра яе згадванне ў паведамленнях пра нейкія тагачасныя падзеі. Адзіным выключэннем з'яўляецца Пелапанэс, дзе славяне асабліва супрацiўляліся грэцкай уладзе і не аднойчы давалі нагоду візантыйцам брацъ удзел ў мясцовых справах.



# Глава II

## Паступовы ўздым грэцкай культуры на абшарах паўвыспавай Грэцыі і падпарадкаванне грэкамі

[26] Грэгарэвіус, стар. 65.

першапачатковага славянскага насельніцтва пачынаючы з VIII стагоддзя нашай эры. Пашырэнне ў Грэцыі евангельскага хрысьціянства.

На Пелапанэсе, нягледзячы на паразу каля Патраса, славянскія плямёны яшчэ не былі цалкам падпарадкаваны, і яны зноў паднялі паўстанне пад час валадарання апошняга імператара-іконазмагальніка Феафіла (829-842 г) і яго жонкі Феадоры, якая, у якасьці апякунні свайго сына Міхала III, кіравала імперыяй ад 842 да 867 года і канчаткова аднавіла ўшанаванне выяваў. Вайсковаму правадыру Феадоры, пелапанэскаму стратэгу Феактысту Брыенію давялося нават, сабраўшы значнае войска із фракійцаў, македонцаў і іншых народаў, зноў наладзіць паход супраць «псеўда-старажытнай» Грэцыі. Феактыст канчаткова падпарадкаваў славянскія акругі, за выключэннем паселішчаў чарытаў і мялінгаў каля Тайгэта, якія, хаця і абавязаліся плаціць даніну, але працягвалі і далей супраціўляцца ў сваіх горных умацаваннях і неаднаразова паўставалі нават і пазьней[27].

Затое ў іншых «псеўда-старажытных» грэцкіх правінцыях славянства было канчаткова падпарадкавана і быў ўсталяваны аўтарытэт імператарскага кіравання. Некаторыя, ажыўляемыя гандлем гарады, асабліва Патрас, пачалі квітнець. Да нас дайшлі паведамленні пра вялізнае багацце адной шляхетнай грачанкі Даніілы, жыхаркі толькі што згаданага прыморскага горада, нагадваючыя казкі із "Тысяча і адна ноч".

На яе прадпрыемствах, – кажуць нам, – выраблялася самае каштоўнае адзенне і нават шыкоўны пасуд са срэбра і золата.

Гэтая заможная ўдава як быццам бы заснавала нават падмурак дастатку Васіля I, родапачынальніка македонскай дынастыі. Ён прыбыў пад час валадарання імператара Феафіла ў Патру ў якасьці стайніка пры візантыйскім вяльможы, захварэў і знайшоў у сядзібе Даніілы руплівы догляд. Забіўшы Міхала III, прыгажун і асілак Васіль захапіў імператарскі пасад і паклікаў да сябе сваю ранейшую дабрадзейку. Дэніела распачала далёкае падарожжа на Басфор, размяшчаючыся ў насілках нападобе легендарнай царыцы Зіновіі, суправаджаемая пышнай сьвітай, а на незлічоных клункавых жывёлах за ёю везліся гасьцінцы для імператара. Гэта былі разнастайныя цудоўныя пасудзіны (відавочна, із тых, якія зараз дапасуюцца да класічнага перыяда), а яе дываны і адзенне былі такімі тонкімі, што іх «можна было схаваць у трасьцінцы».

Дэніела падаравала імператару сотні рабоў і валахаў і сотні працаўніц, майстэрскіх у вышыванні[28]. Васіль сустрэў яе з царскімі ўшанаваннямі ў Мангаўрскім палацы і пазьней яна наведала Візантыю другі раз дзеля спаткання з сынам Васіля – Ільвом VI, успадкаваўшым пасад у 887 годзе, і зрабіла яго спадкаемцам усёй сваёй маёмасьці. Інвентар гэтай спадчыны, – калі ён не

[27] Constantio Porphyrogen. De adimnistr. imper. C. 50, p. 22. Абодва гэтыя племяёны аселі, згодна з яго сведчаннем, па абодва бакі Тайгэта. Гелас быў названы Чэра і ператварыўся ў галоўнае умацаванне чарытаў. L. Heuzey (Le mont Olympe et l'Acarnanie. Парыж 1860) згадвае пра Нячэру, ці Чэру, як пра возера і пра мястэчка на фесалійскіх ніжніх схілах псеўда-Алімпа. Ён лічыць гэтае слова баўгарскім.

[28] Тыяфан у Continuatio (lib. V, 318) пералічвае гэтых працаўніц. Хаця Pariset у Histoire de la sole (II, 29), а следам за ім і Hoyd у Geschichte d. Levanthandeis I. 62) слушна пераконвае, што Феафан меў на ўвазе толькі ільняное адзенне, але ўсё ж магчыма, што Дэнэіла валодала і шаўковымі фабрыкамі. Пра яе ж паведамляюць Cedrenus (II. 237) і Zonaras (XVI, 10). Гл. Ф. Грэгарэвіус: Гісторыя горада Афіны пад час сярэдніх стагоддзяў, стар. 67 рускага перакладу.

з’яўляецца вынікам чыстай фантазіі яго аўтара, – дае ўяўленне пра такое дзіўнае багацце грашамі, каштоўнасьцямі і землямі, што імператар змог без асаблівай шкоды для сябе вызваліць 3 000 рабоў Данielы, пасяліўшы іх асаднікамі ў Апуліі. І як бы мы ні паставіліся да праўдзівасьці ўсяго паведамляемага пра яе, але гісторыя гэтай заможнай жанчыны ва ўсякім разе сведчыць, што маёнткавалодаючы стан ў Грэцыі ўжо ў IX стагоддзі дасягнуў значнага дабрабыту, і гэта, вядома, не абмяжавалася толькі адным Патрасам. Элінская культура пад час IX стагоддзя паднімалася і ва ўсіх іншых мясцовасьцях Грэцыі, а першапачатковы славянскі элемент тут пачаў прыніжацца. Знікненню яго ў Грэцыі магло спрыяць штучнае ўсталяванне ў ёй візантыйскіх вайсковых паселішчаў, звычайны заход для перанясення пануючай народнасьці з адной краіны ў іншую.

І вось, чытач, што ж атрымліваецца? Атрымліваецца ж тое, што пад час тых старажытных стагоддзяў, да якіх класікі дапасуюць росквіт грэцкай культуры, на грэцкай паўвыспе жылі цалкам не грэкі, а славяне і што сапраўды на месцы сучасных Афінаў тады яшчэ існаваў «дрымучы лес». Феафан называе гэтыя гвалтоўныя перасяленні грэкаў на славянскія землі варварствам, распавядаючы пра засяленне Склабініі грэцкімі асаднікамі згодна з дырэктывай імператара Нічыпара. «Калі ў дадзеным выпадку, – разважае гісторык сярэднявечных Афін[29] – пад Склабініяй разумеюцца Македонія і Фракія, то падобныя ж заходы яшчэ раней маглі мець дачыненне да Грэцыі, і такім чынам маса славянаў магла прыняць грэцкую мову і культуру. Візантыйскае вайсковае ўладкаванне і грэцкі збор законаў, – кажа ён, – разбурылі славянскае племянное ўладкаванне на абшарах Грэцыі, а яшчэ больш моцнае ўздзеянне ў гэтым накірунку зрабілі хрысьціянскія місіянеры. Праваслаўная царква адкрыла шырокаму славянскаму сьвету новыя шляхі да культурнага развіцця. Скіфы (г.зн. паўднёвыя славяне кіеўскага перыяду) абавязаны Візантыі першым знаёмствам з тымі патрэбамі, якія ўзвышаюць народы над іхным натуральным станам; яны запазычыліся са скарбніцы элінскай адукаванасьці нават альфабэт для сваёй нацыянальнай мовы. Само палітычнае ўладкаванне дзяржаваў накшталт Сербіі, Краацціі і Баўгарыі было б незразумелым без прыкладу Візантыі. Ды і само нараджэнне славянскіх дзяржаваў засталося б для нас цёмным, калі б не існаваў твор «De administrando imperio», напісаны грэцкім імператарам-навукоўцам.

А з нашага боку гледжання гэта атрымліваецца яшчэ больш проста. Евангельскае ж хрысціянства і ўзнікла толькі перад гэтым. Каля 700 года нашай эры Марк Афінскі напісаў Евангелле Марка, Ян Дамаскі амаль адначасова з ім – Евангелле Яна[30], і каля 800 года з'явілася і Евангелле Мацьвея, напісанае, магчыма, Хведарам Студытам.

А ўсе ж славяне, жыўшыя на поўдзень ад Дуная, аж да мыса Тэнарон, былі тады паганцамі. Ды і ў Грэцыі яны ўшаноўвалі стодаў сваёй першапачатковай рэлігіі. Калі евангельскае хрысціянства дастаткова набрала моцы, перш за ўсё пачалося руплівае далучэнне славянаў да бога-ратавальніка, і гэтую місію ўзялі на сябе два браты із Фесалонік – Кірыл і Мяфодзій, а хан Багарыс (цар Барыс) навязаў Евангелле ўсёй сваёй шляхце і народу з дапамогай зброі, пасьля таго як прыняў хрышчэнне ў 861 годзе.

Пад уплывам Евангелля Мацьвея, ухваляўшага іначаства (слова тое ж, што і еўнухі), цэлая сетка новастворанных манастэрыёнаў і цэркваў распаўсюдзілася па

[29] Грэгарэвіус: Гісторыя горада Афінаў у сярэдні вякі, стар. 67, рускага перакладу 1900 г.
[30] Гл. «Хрыстос», І кніга.

грэцкіх правінцыях, згуртаваўшыся каля мітраполій і епіскапій, дзейнасць якіх, пачынаючы з IX стагоддзя, значна ўзмацнілася.

Захаваліся дакументы адносна ўладкавання манастэрыёнаў і ў Элладзе. Так, каля сярэдзіны X стагоддзя ў Факідзе ўзнік знакаміты манастэрыён св. Лукі Малодшага, з'яўляючагася, як я давёў яшчэ ў першай кнізе «Хрыста», імаверным аўтарам Евангелля Лукі і пачатку «Здзяйсненняў апосталаў». Ён быў родам з Эгіны. Марскія рабаўнікі, ісламіты з Крыта, напалі на Эгіну, і сям'я дзеда Лукі перасялілася ў македонскую Касторыю, дзе і нарадзіўся будучы сьвяты на прыканцы XI стагоддзя.

Падпарадкоўваючыся схільнасьці да містыцызму, ён абраў адасобленую гару Іяніцу каля марскога берага Факіды для пустыннажыхарства, пакуль рабаўнічы напад з боку баўгар, якімі тады кіраваў магутны цар Сымон, не прымусіў яго зноў да збягання. Лука накіраваўся ў Патраскую вобласць, дзе на працягу дзесяці гадоў служыў нейкаму стоўпніку. Пасьля сьмерці баўгарскага цара Сымона ў 927 годзе, калі на пасад узышоў яго мірашануючы сын Пятро, Лука вярнуўся назад у сваё пустыннае месцажыхарства Іяніцу. Рабаўнічы набег турак[31] на Элладу прымусіў пустынніка ў другі раз шукаць выратавання на выспе Ампела, і толькі праз некаторы час Лука накіраваўся ў Сатырыён (у Факідзе), дзе некаторыя і іншыя яго таварышы заснавалі месцажыхарства. У Сатырыёне Лука і памёр у 946 годзе, набыўшы рэпутацыю найвялікшага сьвятога і цудадзея, «ураджэнца Эллады, яе ўпрыгожваннем і славай», як яго называе сучасны яму біёграф.

Хрысьціянскае падзвіжніцтва ў Грэцыі з асаблівай магутнасьцю пашырылася з той пары, калі на канстынопальскі пасад ўзышла македонская дынастыя пры Васілю II, сына простага селяніна-славяніна, дамогшагася ў 867 годзе імператарскага пасада. За выключэннем некалькіх перапынкаў македонская дынастыя панавала над Візантыяй амаль цэлых два стагоддзі і вельмі апекавала навукі. Пры ёй элінства ў правінцыях дасягнула перавагі і збольшага пашырылася і ў заходняй Азіі.

У Эладзе і на Пелапанэсе мы сустракаем у другой палове X стагоддзя падзвіжніка нагадваючага Луку. Вялікі прапаведнік Нікан, армянін, прыплыў на Саламін, які знайшоў цалкам ненаселеным, і адтуль пераехаў у Афіны, дзе зачараваў афінянаў сваімі прамовамі, «нібы сірэна – песьнямі»[32].

Падпарадкаванне славянаў першапачаткова насяляўшых ўсю Балканскую паўвыспу, выспавымі грэкамі, а яшчэ больш далучэнне іх да хрысьціянства з'яўляецца вельмі цікавай старонкай гісторыі грэцкай культуры. У тых правінцыях сучаснай Грэцыі, дзе славянскія плямёны жылі згуртаванымі пселішчамі, яны, нават і пасьля далучэння да хрысьціянства, працягвалі жыць самабытным жыццём, і прайшло шмат часу, перш чым яны былі паглынуты элінствам. Грунтуючыся на гэтым лёгка можна зразумець, што ў сярэдзіне X стагоддзя Эллада і Пелапанэс маглі ўяўляцца імператару Кастусю Парфірароднаму варварскімі краінамі, ды і ў XIII стагоддзі франкскія заваёўнікі знайшлі ў Марэі славянскае насельніцтва.

Нават пад час значна больш позняй эпохі ў Чаконіі адрознівалі славян ад грэкаў, пелапанэсцаў і візантыйцаў[33]. Хаця славяне Грэцыі для царкоўнага ўжывання карысталіся мовай царквы, але іхная гаворка знікла далёка не так хутка і поўна, як знікла ламбардская гаворка ў Італіі. Гэты факт тлумачыцца не толькі тым,

---

[31] «Жыццё св. Лукі» прама называе гэтых марскіх разбойнікаў туркамі:ἔθνος τῶν τούρκων.

[32] Vita S. Niconis.

[33] Mazaris: Гутарка памёршых, 22 (Ellisen. Anal. IV. 239).

што грэцкія славяне жылі тут згуртаванымі грамадствамі, але і тым што і сам культурны ўплыў элінаў тут далёка не быў такім пераважаючым, якім быў уплыў Італіі з яе гарадамі і рымскім папствам у Ламбардыі. Тая ж з'ява пазьней назіралася і ў асяроддзі албанцаў у Элладзе, народная гаворка якіх і да гэтага часу не зінікла ў бедна населенай краіне.

Але калі ламбардцы і замянілі сваю германскую гаворку на італійскую мову, то яны да XII стагоддзя захаўвалі свой нацыянальны збор законаў і радавыя імёны, якімі поўняцца да XII стагоддзя ўсе грамадзянскія і царкоўныя дакументы Італіі. Ламбардзкая радавітая шляхта была зародкам гістарычных прозвішчаў Італіі, якія да гэтага часу выяўляюцца там падмуркам арыстакратызму. Нічога падобнага не заўважаецца ў Грэцыі, дзе не знойдзеш ніводнага славянскага радавога імя, што дарэчы тлумачыцца спрадвечным жаданнем славянаў запазычваць замежны выгляд. Так Кастусь Парфірародны паведамляе пра славянскага вяльможу Мікіту Рэнтакіёса із Пелапанэса, які, парадніўшыся з родам імператара Рамана Лекапена, вельмі ганарыўся нібы-та сваім грэцкім паходжаннем, хаця яго славянскае аблічча і абудзіла кпівыя заўвагі з боку візантыйскага граматыка Яўхіма. Падобным чынам дзейнічалі і іншыя славяне на Пелапанэсе: нават жа і мы, аддаленыя рускія, усе маем амаль выключна грэцкія імёны і з такім жа правам можам лічыцца за нашчадкаў «антычных» грэкаў. «Магутнасць, якую выявіла рамейская імперыя (як называла Візантыя сама сябе) у ажыццяўленні гіганцкага задання асіміляцыі сваіх складаючых элементаў нягрэцкага паходжання, сапраўды здзіўляе» – кажа Грэгарэвіус[34]. Толькі сербы і баўгары на Балканскай паўвыспе захавалі сваю самабытнасць, стварыўшы нацыянальныя дзяржавы.

І рэлігія, і права, і норавы, і, нарэшце, культурная мова цалкам перайшлі ў Марэі ад грэкаў да варвараў. Варвары за некаторымі выключэннямі былі ператвораны элінствам у сучасных новагрэкаў. Славянскія гаворкі мелі такое малое ўздзеянне на ўтварэнне новагрэцкай мовы, што запазычанні з іх ледзь разлічаюцца, тады як турэцкі і албанскі ўплывы пакінулі пасьля сабе выразныя сьляды[35]. У знакамітым Марэйскім летапісе, уяўляючым помнік народнай мовы новагрэкаў закачэння XVI стагоддзя, «можна знайсьці нейкія французкія і італьянскія словы, але ніводнага (?) славянскага».

Гіганцкае пачынанне нацыянальнага пашырэння Грэцыі было абцяжарана для македонскай дынастыі безперапыннымі войнамі з азіятамі і баўгарамі, якія ладзілі марскія напады на яе выспы і ўзбярэжжа аж да Атыкі.

Але калі б і тады на слабыя Афіны абрынулася бедства варожай заваёвы, то без сумневаў, нягледзячы на варварскі стан летапісання ў дадзеную эпоху, пра падобную падзею захавалася б сведчанне ў каго-небудзь із летапісцаў. Аднак ні гісторыя, ні паданні не згадваюць пра гэта. «Маўчанне, – піша Грэгарэвіус[36], – такое поўнае, што вывучаючы сведчанні жыцця знакамітага горада пад час апісваемых стагоддзяў, цешыцца, нібы вялікай адкрыццю, калі знаходзіць хаця б маленечкія (і прытым вельмі познія) сведчанні, накшталт існуючых у «Жыціі св.

---

[34] Стар. 73

[35] Міклошыч (Die slav. Elemente im Neu-Grich.) аспрэчвае ўплыў славянскай мовы на ўтварэнне спражэнняў і скланенняў новагрэцкай мовы. Навагрэцкі нявызначаны склон з дадаваннем злучніка і канчатка абагульняе гэтую мову з мовамі баўгарскай і албанскай. Міклошыч параўноўвае славянскі ўплыў на грэцкую мову з уплывам кельцкай мовы на французкю і ангельскую. Мове выспавых грэкаў славянізмы амаль цалкам чужыя.

[36] Стар. 74.

Лукі», пра тое, быццам бы гэты цудадзей наведаў Афіны, маліўся ў праваслаўнай царкве «Партэнона» і знайшоў прыстанак у адным із тамтэйшых кляштароў».

Дзе-нідзе нам трапляюцца імёны афінскіх біскупаў, асабліва ў вядомай падзеямі спрэчцы із-за патрыярхата паміж Фоціем і Ігнатам, меўшай наступствам аддзяленне рымскай царквы ад усходняй.

Нават і сярод біскупстваў Рымскай (Візантыйскай) імперыі Афіны занімалі тады толькі 28-е месца. Афінскі мітрапаліт меў тытул экзарха ўсёй Эллады, падобна таму як карынфскі мітрапаліт называўся экзархам усяго Пелапанэса. Але апошняму былі падначалены цэлых дзесяць вікарных біскупстваў – Эйрыпас, Арэас, Карстас, Партас, Эўбея, Дыаулія, Каранея, Аўлона і выспы Скірас, Андрас і Сіра, а ў Атыцы не згадваецца ні пра адно біскупства, акрамя афінскага.

Пачатую заснавальнікам македонскай дынастыі Васілём І заваёву славянскіх балканскіх зямель пераможна завяршыў Васіль ІІ. Ён захапіў усе ўмацаваныя гарады баўгарскай зямлі да Іянічнага мора і ўрачыста ўступіў у балгарскую сталіцу Ахрыду, «перапоўненую казачнымі багаццямі».

Такім чынам Баўгарыя, адначасова з Сербіяй, была далучана да Візантыйскай імперыі, як асобная правінцыя. Із Ахрыды Васіль ІІ пайшоў назад, і прайшоў уздоўж усяго грэцкага матэрыка. Ён агледзеў у Фермапілах умацаванне Скелас, пабудаванае каля гары Рупенас для аховы Эллады, а потым праз Беотыю прайшоў у 1018 годзе ў Афіны, дзе меў намер адсвяткаваць свой трыумф.

Прыбыццё імператара было вялікім ушанаваннем для глухога горада. Візантыйскія летапісцы, якія зрабілі ласку пазначыць гэтую важную для Афінаў падзею, коратка паведамляюць, што імператар адслужыў у цэркве Богамаці падзячнае набажэнства за дараваную яму перамогу над баўгарамі і ўпрыгожыў храм шматлікімі цудоўнымі дарункамі, а потым пайшоў далей у Канстантынопаль. Яны не адзіным словам не абмовіліся ні пра працягласць знаходжання імператара ў Афінах, ні пра тое, што яго там цікавіла.

Нават і падчас закалотаў, ахапіўшых візантыйскае царства пасьля сьмерці Васіля ІІ у 1025 годзе, Эллада дзякуючы аддаленасьці не зрабілася падмосткамі пабоішчаў, а калі і зведвала ўзрушэнні, то толькі хуткамінаючыя. Скіфскі народ печанегі, жыўшы па Дняпру і Днястру, у 970 годзе ўжо ладзіўшы напады ў хаўрусе з рускімі на Канстантынопаль, а потым урываўшыся ў Фесалію, пашырыў зараз свае набегі аж да Фермапілаў. Дакладна так жа ўзені неаднаразова перапраўляліся праз Дунай, і аднойчы здзейснілі набег нават на Элладу. Яшчэ больш жудаснай падзеяй было паўстанне сербаў і новае паўстанне баўгар, якія скасавалі візантыйскае валадаранне пад правадырствам Делеанаса і аднавілі сваю незалежнасць.

Баўгарскае войска пад правадырствам Анфіма, верагодна ў 1040 годзе нават уварвалася праз Фермапільскую цясьніну ў Беотыю, дзе стратэг фемы (акругі) Эллада было перакрыў баўгарам далейшы рух да Фіваў, але загінуў у крывавай бітве. Потым, кажуць, гарадзкі порт Пірэй быў заваяваны знакамітым нарвежскім (!!) волатам Гаральдам, які паміж 1033 і 1043 гадамі кіраваў варажскімі наймітамі ў Візантыі і пасьля вялікіх учынкаў здзейсненых на Міжземным моры, вярнуўся назад у сваю паўночную бацькаўшчыну, дзе ў 1147 годзе і заняў каралеўскі нарвежскі пасад. Здавалася б, што адна толькі думка пра такое злучэнне адна з адной аддаленай Нарвегіі і Грэцыі павінна было б выклікаць смех. Але нават і гэтая недарэчнасць знайшла сабе абаронцаў. Справа ў тым, што перад арсеналам у Венецыі красуецца вялізная мармуровая статуя седзячага ільва, якую Францэска

Маразіні вывез у 1688 годзе із Пірэя згодна з правам вайсковай здабычы. На грудзях і на баку ў ільва высечаны разцом варварскія надпісы, у якіх прызнаны рунічны надпіс. Дасьледчык прачытаў з яго: «Гаральд Доўгі загадаў Асмунду высекчы гэтыя руны, захапіўшы Пірэйскі порт з дапамогай нармандзкай дружыны і пакараўшы мяцежны грэцкі народ».

Аднак жа, новы дасьведчаны чытальнік рунаў, шведзкі навуковец Софус Буге[37], прызнаў гэтае тлумачэнне не больш, як гульнёй ўяўлення. Ён сцвярджае толькі тое, што надпіс на пірэйскім ільве сапраўды рунічны, але моцна пашкоджаны ад часу, так што наўрад ці ў ім можна разабраць хаця б адзінае слова. А згодна з манерай, з якой гэтыя змеяпадобныя надпісы нанесены на камень і па майстэрску пераплецены адзін з адным у палосы, Бугу робіць выснову, што яна высечана каля паловы XI стагоддзя заехаўшым шведам із Упландыі. Дзіцячая забава вандраўнікоў пакідаць на старых помніках свае імёны і выслоўі такая ж старая, як і чалавечае марнатраўства. Так, вандруючыя грэкі і рымляне пакрылі Мемнонаў калас паблізу Фіваў у Ягіпце надпісамі, якія нават саслужылі навуцы некаторую службу. Чаму ж дзівіцца, калі дакладна такія ж нарманскія турысты пакінулі паведамленне пра сваё кароткачасовае знаходжанне ў Пірэі на антычным мармуровым ільве ў выглядзе загадкавых надпісаў, якіяператварылі гэтую статую для дасьледчыкаў у сфінкса?

Такім чынам адпадаюць усе цудоўныя высновы, зробленыя для Афінаў на падставе няправільна патлумачаных рун.

Сама сага пра Гаральда нічога не ведае пра гераічныя здзяйсненні сына волата Сігурда ў Грэцыі. Яна толькі апісвае яго прыгоды ў Міклагардзе ці Канстантынопалі, дзе герой пад час валадарання імператрыцы Зоі і яе апошняга чалавека, Кастуся IX Манамаха, кіраваў варажскай дружынай і «аб'ездзіў усе грэцкія моры». Памылковай з’яўляецца і іншая думка, далучаная да сагі пра Гаральда, быццам бы былая веліч Афінаў знайшла водгук нават у песьнях поўначы, і быццам бы нават у Ісландыі апяваўся «сьвяты горад Афіны, – прамаці разнастайных ведаў, апякуна ўсіх філосафаў і самы шыкоўны, самы знакаміты із усіх грэцкіх гарадоў». Па-сутнасьці ж горад Афіны цалкам не згадваецца ў скандынаўскіх песьнях, хаця старажытна-паўночныя паданні сёе-тое і ведаюць пра яго. Старажытныя легенды згадваюць пра Атэнісборге, а гэта даводзіць, што на скандынаўскіх мараплаўцаў у Афінах зрабіў вялікае ўражанне менавіта ўзвышаючыся над імі ўмацаваны Акропаль, дакладна так жа, як пазней і франкі ў Афінах галоўным чынам адзначылі кастэль (замак) Сецінас. Сага пра Дыянісія паведамляе пра наведванне Атэніса апосталам Паўлам; сага пра Марыллю Магдаліну паведамляе пра наведванне Афінаў св. Марфай, а ў «Vita Patrorum» («Жыцціі бацькоў») апісваецца наведванне Афінаў нейкім юнаком, які быў выпраўлены ў гэты горад для наведвання школы. Лацінскі тэкст, дададзены да апошняга апавядання, сведчыць, што гэтая сага з'яўляецца толькі яго пераказам. Тое ж самае даводзіцца сказаць і адносна астатніх скандынаўскіх паданняў. У «Эдзе» паведамляецца, напрыклад, пра граматыка Даната, і адначасова заўважаецца, што мастацтва красамоўства, якое рымскія мудрацы набылі ў грэцкім Атэнісборгу і пазней перанеслі на лацінскую глебу, было тым жа самым, што і паэтычная творчасць, запазычаная Одзінам і перанесеная ім на поўнач, з чым з

[37] Sophus Bugge. Штомесячнік шведзкай Акадэміі Навук 1875г. Стар. 97-101. Пагляд Буге падзяляе і Wilhelm Thomson у Капенгагене ў сваім творы: The relations betwin ancient Russia and Scandinavia. 1877. стар. 109.

нашага боку гледжання, лічачым і «Эду» познім сярэднявечным творам, немагчыма не пагадзіцца.

Падарожжы старажытных заходніх паломнікаў у Сірыю таксама не ўтрымліваюць сведчанняў пра тагачаснае становішча Афінаў. Ні ў паломніцтве гальскага біскупа Аркульфа, дапасуемага да 700 года, ні ў вандраванні Вілібальда, дапасуемага да 722-728 гг, Афіны не згадваюцца. Паломнікі туды не зазіралі, бо з Сіракузаў кіраваліся на Манембазію морам, а адтуль далей праз Кос і Самас на Эфес. Дакладна так жа і Ліутпранд Краменскі, выпраўляючыся пасланнікам у Канстантынопаль, у 968 годзе не заязджаў у Афіны. Паломнікі накіроўваліся морам із Апуліі праз Корфу на Лепанта, а адтуль ужо сухім шляхам у Фесалію ці ж плылі ў Сірыю із Месіны праз Архіпелаг. Некаторыя абіралі шлях, паказаны ў Itinerarium'е старажытных ерусалімскіх паломнікаў, г.азн, праз Вугоршчыну на Канстантынопаль. Менавіта гэтым шляхам ехалі граф Гільём Ангулемскі і абат Рышар Вердэнскі ў 1026 і 1027 гадах, і па гэтаму ж шляху быў здзейснены вялікі паход паломнікаў пад правадырствам біскупа Зігфрыда Майнцскага і Інгульфа Крайландскага.

Скандынаўскія паломнікі карысталася трыма шляхамі: усходнім – праз Расію, заходнім – уздоўж берагоў Гішпаніі і Афрыкі і паўднёвым – праз Італію, які звычайна меў назву Romaverg. Абат Мікалай Сямундарсан пры сваім падарожжы ў 1151 годзе ехаў із Аальсборга праз Германію і Швайцарыю ў Аосту, потым праз Таскану ў Рым, потым праз Беневент, Бары і Манаполі ў Дурацца. Потым ён ехаў уздоўж узбярэжжа Пелапанэса ў Кос і далей праз Цыкладзкія выспы ў Сірыю. Мікалай Сямундарсан пры здзяйсненні гэтага падарожжа так жа мала думаў пра наведванне Афінаў, як і іншыя паўночныя вандраўнікі, калі ехалі ў Грэцыю із Венецыі. Пра Севульфа таксама невядома, ці наведваў ён Афіны. Гэты вандраўнік ехаў на Патрас, Карынф, Лівадостра і Фівы, а адтуль у Неграпонт, дзе і зафрахтаваў карабель. У справаздачы пра сваё падарожжа ён згадвае пра Афіны мімаходзь, як пра мясцовасць, размешчаную ад Карынфа на адлегласьці двух дзён шляху. Сучасныя гісторыкі тлумачаць такое грэбаванне Афінамі тым, што гэты горад не валодаў хрысьціянскімі сьвятынямі маючымі сусьветную вядомасць, ды і згодна з геаграфічным становішчам не выяўляючым патрэбы спынення ў ім пры падарожжы з захаду на ўсход. Але такія меркаванні павінны быць дапасаванымі і да «класічных Афінаў». І ў іх не маглі з'явіцца асаблівыя прынады для культурных людзей пры такім глухім месцаванні і пры адсутнасьці адмысловых дзіваў прыроды, накшталт дзейнічаюга вулкана ці чаго-небудзь падобнага.

# Глава III

## Першае разумовае абуджэнне Грэцыі ў XI стагоддзі нашай эры.

Толькі пачынаючы з паловы XI стагоддзя адбываецца разумовае збліжэнне візантыйцаў з Грэцыяй, што, відаць, і мела наступствам з'яўленне эллінізму. Дапытлівыя грэкі, атрымаўшы адукацыю ў Канстантынопалі пасьлядоўна займалі ў сталіцы патрыяршы пасад пад час росквіту навуковых заняткаў пры імператарах, быўшых вельмі адукаванымі і разумеўшых, што толькі школы і адукаванасць могуць надаць іхнай імперыі магутнасць і бляск. Так выказваецца сама

імператрыца Еўдакія, жонка спачатку Кастуся Дука, а потым Рамана Дыягена, у сваім творы «Кветкі фіялак»[38], уяўляючым із сябе навуковы слоўнік, у якім паведамляецца пра антычных багоў, герояў і мудрацоў Грэцыі, але ніяк не пра сьвятых і не бацькоў царквы. Толькі... праўдзівасць «Кветак фіялак» лічыцца спрэчнай нават у асяроддзі эліністаў.

Толькі пад час эпохі македонскай дынастыі пад уплывам намаганняў Фоція навуковыя заняткі ў Канстантынопалі набываюць большае развіццё, пра што сведчыць, між іншым, і літаратурная дзейнасць Ільва VI Філосафа, і асабліва яго сына, Кастуся Парфірароднага. Потым, пачынаючы з XI стагоддзя, пры канстантынопальскім імператарскім двары зноў назіраецца ўздым навуковага духу. Хаця, як валадар, Кастусь Манамах і не ўяўляў асаблівага значэння, але да адукацыі ён ставіўся добразычліва і пашыраў у візантыйскай акадэміі правазнаўства, філасофію і філалогію. Душой гэтага накірунку быў Міхал Псёл (г.азн. Заіка). Народзіўшыся ў 1018 г. і пасталеўшы ў Візантыі, ён набыў дзіўныя для свайго часу энцыклапедычныя веды і пры пяці імператарах меў велізнае значэннем у дзяржаўнай радзе. Ён напісаў каштоўны гістарычны твор, апісваючы валадаранне грэцкіх цароў ад 976 да 1077 года[39]. «Ніхто із заходніх гуманістаў,– сведчыць Грэгарэвіус[40], – не здолеў бы стварыць такіх тонкіх згодна з псіхалогіяй і абстаўленых такімі глыбокімі філасофскімі ведамі твораў, якімі з’яўляюцца прамовы Псёла, прысьвечаныя ўспамінам пра яго маці, пра граматыка Мікіту і пра трох выбітных патрыярхаў таго часу – Міхала Керуларыя, Кастуся Ліхуда і Яна Ксіфіліна. І калі мы нават будзем прытрымлівацца меркавання, што ўсё гэта больш позьнія апокрыфы, то ўсё ж Псёл стаяў на чале візантыйскай акадэміі, і імператар Кастусь Манамах надаў яму пышны тытул князя філосафаў».

Вось мы і дайшлі зараз да абуджэння Грэцыі на прыканцы X стагоддзя «пасьля шматстагоддзевага сну».. Але ці сапраўды яна некалі і не спала перад гэтым перыядам?

Падумайце толькі, чытач, сур'ёзна над тым, пра што вы толькі што даведаліся, не столькі із маіх слоў і разважанняў, а ад самага дасьведчанага і працавітага спецыяліста ў пытанні сярэднявечнай гісторыі Афінаў, ад самога Фердынанда Грэгарэвіуса, паведамленнямі якога я тут выключна карыстаўся пры выкладанні ўсёй фактычнай часткі свайго дасьледавання. Рэзюмую ж гэтыя паведамленні яшчэ раз. «На месцы, дзе зараз размешчаны Афіны, на пачатку сярэдніх стагоддзяў яшчэ існаваў **незаселены лес**...» «Асноўнае вясковае насельніцтва Грэцыі, пра што сведчаць шматлікія парэшткі славянскіх найменняў у шмат якіх месцах Марэі, было **славянскім**, а грэкі нават пад час сярэдніх стагоддзяў складалі там толькі прыйшоўшы із Канстантынопаля і выспаў **пануючы** стан... Узровень культуры на гэтым канцы Балканскай паўвыспы быў такім вартым жалю, што слова «грэк» ці «эллін» у асяроддзі візантыйцаў, ганарліва называўшых сябе рымлянамі (рамеямі па-грэцку), **было пагардлівым**, а Афіны, калі яны, нарэшце, былі заўважаны гісторыяй, служылі месцам спасылкі, падобна астатнім глухім месцам. «**Ніякіх** геафізічных ці палітычных **здарэнняў** у гэтай мясцовасьці, абароненай ад ворагаў сваёй дзікай прыродай і глухім месцаваннем **не было** пад час сярэдніх стагоддзяў і тым больш ў спрадвечныя часы». «Калі б славяне пад час сярэднявечча вынішчылі ўсё старажытна-грэцкае класічнае насельніцтва, як

[38] Eudociae Augustae: Violarium.
[39] Выдадзена Sathas'ом у IV тамах (Biblioth. Graec).
[40] Грэгарэвіус, стар. 84.

пераконваюць жадаючыя прымірыць паданні пра старажытную высокую культуру гэтай краіны з яе сярэднявечным і (нават сучасным) вартым жалю становішчам, то гэтае жахлівае варварства **не прайшло** б не толькі не заўважаным, але нават **без выбуху жаху і абурэння** грэцкіх і лацінскіх хранікёраў, ужо не рэдкіх пад час гэтага перыяду еўрапейскага жыцця...»

Такімі з’яўляюцца асноўныя факты грэцкай гісторыі на працягу ўсяго таго храналагічнага перыяду, які мы маем магчымасць выразна бачыць. І ўсе геафізічныя, эканамічныя і культурна-гістарычныя меркаванні прыводзяць да высновы, што тут і не магло існаваць нічога іншага, акрамя толькі што апісанага намі. Ды і наша астранамічная праверка гісторыі Фукідыда і ўсіх нашых старажытных лацінскіх і грэцкіх першакрыніц ужо паказала ў чацьвёртай кнізе «Хрыста», што яны апраўдваюцца астраноміяй толькі пасьля 400 года нашай эры, калі Грэцыя існавала ў толькі што апісаным глухім і дзікім стане, і ўсе без выключэнняў аспрэчваюцца астраноміяй раней гэтага года, г.азн. пад час таго перыяду, да якога дапасуецца класічная чароўная казка пра старажытную культурную Элладу з яе навукоўцамі, апярэдзіўшымі на тысячу з гакам гадоў ідэі Каперніка пра абарачэнне Зямлі вакол Сонца, ці ідэі Лавуазье пра атамарнае ўладкаванне рэчыва і г, д.

Але калі ўсё гэта была толькі казка Эпохі Адраджэння, то калі і дзе яна пачала ствараца, і як патлумачыць існаванне тых парэшткаў, якія мы зараз знаходзім у Грэцыі?

Мы толькі што дайшлі да першых верагодных (адпаведна агульным эвалюцыйным уяўленням) паведамленняў пра абуджэнне Грэцыі, ды і то не ў Афінах, а ў Канстантынопалі пры Кастусю Манамаху (1042-1054), калі з'явіўся «князь філосафаў» Міхал Псёл, заснавальнік навук, нешта нападобе нашага Ламаносава; упершыню на працягу нашага выразнага гістарычнага бачання стварыўшага вучэнне пра тое, быццам бы «толькі сьвет ідэй з'яўляецца рэчаісным існаваннем, а сьвет падзей з’яўляецца толькі яго ўяўляемай копіяй». А зараз гэтае самае вучэнне прыпісваецца Платону!

Зразумела, што такая велічная асоба не магла не выклікаць узнікненне легендаў пра сябе і не заахвоціць наступных аўтараў яго школы выдаваць свае творы, дзеля іхнага лепшага пашырэння, за напісаныя знакамітым Псёлам. Цяжка дапусьціць, каб не існавала жадаючых прыпісаць яму нават шэраг прыватных лістоў, да самага часу друкавання яго твораў. Давяраць ім усебакова немагчыма, а таму і высновы гісторыкаў, «быццам бы ён шкадаваў пра глыбокую цемру, ахапіўшую некалі славутую ведамі Элладу», не вартыя даверу.

У гістарычнай працы Псёла найменне Афінаў згадваецца толькі аднойчы, без якога б то ні было дачынення да старажытнасьці. Ён адзначае што ў яго час Афіны, Нікамедыя, Александрыя, Фінікія, Рым і нават Канстантынопаль ні ў якім навуковым накірунку выбітнога значэння не маюць[41]. А ў лістах, прыпісваемых яму, Псёл выказваецца пра Афіны як пра ўжо загінуўшы горад. «Калі чытаеш у Псёла дакары, накіраваныя на візантыйскіх крытыкаў Грэцыі за іхную фанабэрыстасць – кажа Грэгарэвіус[42], – то мімаволі згадваеш Пятрарку, які папракае кардынала Авіньёнскага за тое, што той адчувае цяжар ад таго што жыве ў апусьцелым Рыме, і выказвае здзіўленне, як 20-30 прэлатаў не могуць

[41] Sathas IV. 123. Псёл, падобна ўсім візантыйцам, ужывае слова «рымлянін» для пазначэння грэкаў. Так, напрыклад ён называе Факіяна Ρωμαῖος;. V, 522.
[42] Грэгарэвіус, стар. 86.

уладкавацца ў Рыме, дзе шматлікія імператары, валадары, незлічоныя грамадзяне і чужаземцы жылі ў багацці».

Так і Псёл піша невядомаму:

«*Калі перапоўненая славы і неаднаразова апетая Эллада, дзе нарадзіліся марафонскія ваяры, Піліпы і Аляксандры, недастаткова для цябе цікавая, то што ж цябе можа задаволіць на гэтым сьвеце? Няўжо тая мітусьлівая хлусня, якую ўзвялі на Атыку і Пірэй прамоўцы і мудрацы? І са мной здарылася шмат у чым тое ж, што і з Афінамі. Там ноч схавала ўсё да самых назваў размаляванай хрызіпавай галерэі, акадэміі і ліцэя, а ў ва мне жывуць толькі голыя назвы навук і замілаванне перад славай філасофіі, рэчаісную сутнасць якіх выявілі акалічнасьці*».

Але ці існавалі ў XI стагоддзі такія ўяўленні пра старажытную Элладу? Увесь жа характар гэтага ліста, невядома дзе знойдзенага і чамусьці прыпісанага Псёлу, даказвае яго прыналежнасць да Эпохі Гуманізму.

Сваё апісанне Атыкі ён засноўвае на Страбоне і на Паўзаніі, апакрыфічнасць якога я хутка пакажу, і карыстаецца толькі старажытнымі назвамі мясцовасьцей нападобе Суніён, Марафон, Трыкарыта, Рамна, Кефісія, Сфета, Дэкалеі, ці ж гор нападобе Гіметы, Лікабеты, Парнас і Карыдаўл. Нідзе ён не карыстаецца іхнымі ужываемымі ў той час мясцовымі найменнямі. Адносна Афінаў Псёл абмяжоўваецца толькі кароткім пералікам старажытных будынкаў і аднойчы лірычна заўважае: «*усё тут дыхае подыхам музаў і грацый, бо нават парэшткі гэтага горада ўяўляюць большую каштоўнасць, чым некаторыя неразбураныя гарады*».

Толькі таямнічая навука магія, з якой злучалася медыцына, відаць, гнездавалася між іншым у той час і ў Афінах. Так пра нейкага астролага Катанангіса паведамляецца, быццам бы ён пад час валадарання Аляксея І (1081-1118) прыбыў із Афінаў у Канстантынопаль, але ўсе яго прадказанні тут выявіліся ілжывымі.

# Глава IV

## Афіны і паўвыспавая Грэцыя на пачатку крыжовых паходаў.

Пяройдзем зараз да XI стагоддзя.

І на Захадзе, і на Ўсходзе адбываліся вялікія падзеі. Туркі прыйшлі ў грэцкую Малую Азію і заснавалі тут дзяржаву Рум (Раманію), са сталіцай Іконіум. Нарманы пад правадырствам Роберта Гіскара захапілі візантыйскія правінцыі Апулію і Калабрыю, і ў 1072 годзе забралі ў ісламітаў выспу Сіцылія. Нармандская дзяржава паўднёвай Італіі, якая згодна з месцаванем свайго ўзбярэжжа схільнага да Ляванта, брала ўдзел і ў лёсе Грэцыі. Але калі Гіскар у траўні 1081 года выправіўся морам із Бryндызі, каб зацвердзіцца ў Албаніі і заваяваць Дурацо, якое было ключом Ілірыі на Адрыятыцы, ён натыкнуўся ў асобе імператара Аляксея Камніна на разумнага суперніка. Знемагаючы ад сухапутных войнаў, урад Камніна пачаў будаўніцтва новых для таго часу караблёў, што патрабавала значных выдаткаў, і таму выявіўся няздольным ачысьціць мора ад марскіх рабаўнікоў, і закрыць варожым эскадрам доступ у Гелеспонт і Басфор. І гэтая слабасць Візантыі дала магчымасць прыморскім гарадам Захаду заснаваць свае асады на Ўсходзе. Венецыя тады ўжо пачынала апярэджваць сваіх суперніц – Амальфі, Пізу і Геную. Янаператварылася ў вольны і заможны гандлёвы горад, і пад яе заступніцтва на прыканцы X стагоддзя перайшлі нават прыморскія далмацкія гарады.

А зараз дзякуючы з'яўленню нармандцаў наступіў час калі Венецыя на сотні гадоў ператварылася ў неабмежаваную валадарку над усім Міжземным морам. І гэта было непазбежна. Дзякуючы таму што Аляксей І не змог выставіць супраць нармандцаў дастатковай колькасьці караблёў, то ён звярнуўся за дапамогай да моцнай сваім флотам рэспублікі св. Марка. За гэта ў траўні 1082 года ён перадаў венецыянцам манапольны гандаль у грэцкіх водах Міжземнага мора, разам з самымі важнымі гарадамі і партамі ў Азіі і Яўропе, з якімі венецыянцам неабходна было стасавацца: Патрас, Карынф, Аргас, Наўплію, Эпір, Фівы, Афіны і іншыя. Гэта было першае згадванне пра стасункі Венецыянскай рэспублікі з Афінамі[43].

Венецыянскі флот пад кіраўніцтвам дожа Дамевіка Сельвы, нягледзячы на некалькі паразаў, саслужыў грэцкаму імператару тую службу, на якую той разлічваў. Дачка Аляксея апісала гэтую барацьбу і нават перадала склад невялікага візантыйскага войска. Яна пералічвае турак, пасяліўшыхся ў Баўгарыі вакол Ахрыды, маніхеяў, г.азн. паўлікіянскіх сектантаў, якіх Кастусь Капранім перасяліў із Азіі ў Фракію, франкскіх наймітаў, да якіх варта далучыць варангаў (варагаў), і нямідаў (немцаў), і, нарэшце, македонскае і фесалійскае рушанне. Але і яна ніколі і нідзе не згадвае пра войска із Эллады і Пелапанэса. Такім чынам адважнае пачынанне нармандцаў паралізавала, галоўным чынам, Венецыя. Потым пачаліся новыя яшчэ больш значныя падзеі.

Праз дзесяць гадоў пачаўся першы ваяўнічы рух Яўропы на ўсход дзеля вызвалення Псеўда-Ерусаліма. Заваяваная туркамі Нікея была нанова далучана да Грэцкай імперыі. Рыцарскія ленныя дзяржавы франкаў у Псеўда-Ерусаліме, Трыпалісе, Антыёхіі і Эдэсе на некаторы час утварылі шэраг перадавых умацаванняў абараняўшых Канстантынопаль з боку Азіі. Усходне-рымскі імператар зараз набыў магчымасць забраць у турак назад Лідыю і Памфілію і такія міжземнаморскія пярліны, як Хіяс і Родас. Аднак адрозненне паміж грэцкім усходам і рымска-германскім захадам выявілася занадта глыбім, каб супольныя намаганні маглі працягвацца доўга. Утварэнне імперыі Карла Вялікага з арыентацыяй на Рым раз'яднала захад Яўропы з Візантыяй у палітычным сэнсе, а спрэчка пра ўзаемныя дачыненні паміж рымскай і грэцкай царквой мела наступствам царкоўны разрыў.

Захад, незалежна ад магутнай папскай улады, мог супрацьпаставіць Візантыі юнацкую дзейнасць свайго ваяўнічага дваранства і рыцарства, і імкненне грамадзянскіх гандлёвых рэспублік да свайго няўхільнага развіцця. Крыжовыя паходы хутка выразна набылі выгляд гістарычнага імкнення Яўропы далучыць да сферы ўплыву заходне-еўрапейскіх дзяржаваў як Грэцыю так і Ўсход. Меўшы падмуркам дагматычнае тлумачэнне ўсіх боскіх і зямных дачыненняў прынцып свецкай улады папаў узмацніўся да такой ступні, што ні візантыйскі цэзарызм, ні ўсходняя царква не змаглі стварыць яму дастатковай процівагі. Ужо Рыгор VII з дапамогай крыжовага паходу на ісламітаў у Азіі меў намер дамагчыся далучэння ўсходняй царквы да Рыма, і ў выпадку калі папства, павялічыўшае сваё значэнне да ўзроўню ўсёахопліваючай магутнасьці, уступала ў хаўрус з ваяўнічымі захапленнямі Захаду і імкненнем заходніх прыморскіх гарадоў да каланізацыі Ўсходу, то, вядома, у хвалях новай плыні грэцкая імперыя павінна была загінуць.

Аляксей I, здолеўшы шчасьліва адбіць нармандцаў, печанегаў, куманаў і сельджукаў, папярэдзіў небяспеку для сябе першага крыжовага паходу і нават змог

---

[43] Прывілей дараваны венецыянцам імператарам Аляксеем III у лістападзе 1198 г. Нарманаў я называю нармандцамі дзеля геаграфічнай выразнасьці.

выкарыстаць яго сабе на карысць, а валадара Антыёхіі, Баэмунда, падначаліў сваёй вярхоўнай уладзе. Спадкаемцай яго сына ў красавіку 1143 года зрабіўся яшчэ больш бліскучы Мануіл І, якому давялося адбіць адзін із самых жорсткіх нападаў з боку нармандцаў, калі іхныя ваяўнічныя памкненні ўзначаліў пляменнік Гіскара, Роджар ІІ, які стаў каралём Сіцыліі аб'яднанай з Апуліяй.

Наша гісторыка-астранамічная выведка адносна часу Пелапанэскай вайны за гегемонію, апісанай Фукідыдам, дала як самую прыдатную дату для першага із пазначаных там сонечных зацьменняў 2 жніўня 1133 года, для другога сонечнага 20 сакавіка 1140 года і для трэццяга месяцовага – 3 жніўня 1151 года. І вось, якраз у гэты самы час і адбылося сутыкненне сіцылійска-апулійскага караля Роджара ІІ з візантыйскім імператарам Мануілам. Ці не з'яўляецца яна апокрыфам, сюжэт якога запазычаны з таго часу? Існуе шмат цікавых, супадзенняў.

Роджар ІІ вельмі ўдала выкарыстаў другі крыжовы паход, распачаты германскім каралём Конрадам ІІІ і французкім каралём Людовікам VII, для таго, каб наладзіць вайсковы набег на Грэцыю, адкуль імператар Мануіл вывеў войска ў Канстантынопаль. Сіцылійскі адмірал, Рыгор Антыяхійскі, грэк згодна з паходжаннем, у 1146 годзе на чале моцнага флоту здзейсніў спачатку напад на выспу Корфу і потым, аб'ехаўшы вакол Пелапанэса, здзейсніў не маючую станоўчага выніку спробу аблажыць добра ўмацаваную Манембазію. Ён абрабаваў узбярэжжа Ахаі і Этоліі і зайшоў у Карынфскую бухту, дзе і высадзіўся ў порце Салон. Нармандзкае войска адсюль пайшло на Фівы, пакінутыя без якой бы то ні было абароны стратэгам Эллады. Гэты заможны горад, нароўні з Карынфам і нават Канстантынопалем, славіўся шаўковымі фабрыкамі; тут ужо на працягу соцень гадоў выраблялася большасць таго адзення із пунсовага аксаміту, на якае існаваў сталы попыт, дзякуючы раскошы, панаваўшай тады пры дварах і ў царкоўных звычаях. Візантыйскі ўрад апекаваў гэтую значную, хаця і штучную, прамысловасць з такой клапатлівасьцю, што нават вызваліў ад ваярскай павіннасьці рыбакоў, ездзіўшых із Карынфа, Навіліёна, Халкіды, Харыста і Афінаў на лоўлю пурпурных ракавін, і раўніва аберагаў таямніцы шаўковай вытворчасьці ад замежнікаў. Вырабніцства шоўку набыло ў Грэцыі такія памеры, што яна выявілася ў стане вытрымаць суперніцтва нават Персіі і Сірыі.

Нармандцы павезлі з сабой шмат майстроў шаўковых тканін і пурпурных фарбавальнікаў. Кароль Роджар пасяліў іх у Палерма, каб наладзіць вырабніцства шаўковай тканіны ў Сіцыліі. Лёс Фіваў зведаў і Карынф, з'яўляўшыся тады ў Грэцыі нароўні з Фесалонікамі значным апорным пунктам левантыйскага гандлю.

Нармандцы, відаць, уварваліся і ў межы атычнай вобласьці, але толькі адзін нямецкі летапісец, паведамляе, быццам бы яны дайшлі да Афінаў і разрабавалі іх.

Змрочнае становішча Афінаў раптам асьвятляецца толькі дзякуючы таму, што там на шматлікія гады пасяляецца Міхал Акамінат, старэйшы брат вядомага візантыйскага летапісца і дзяржаўнага дзеяча Мікіты, які нарадзіўся ў 1140 годзе ў Фрыгіі. У юнацкім узросьце ён выправіўся ў Канстантынопаль з мэтай набыцця адукацыі. Сусветная сталіца знаходзілася тады пад кіраваннем Мануіла І, блішчэла пышнасьцю і жыццём, і ў ёй квітнелі школы красамоўства, філасофіі і багаслоўя. Шмат якія навукоўцы набылі тут сабе славу сапраўдных класікаў, як, напрыклад, Ян Ксіфілін, Кастусь Манас, Хведар Прадром, а больш усіх геніяльны Яўстафій, набыўшы станавішча настаўніка і сябра юнага Міхала Акаміната. Сядзіба Яўстафія была месцам сходаў для ўсіх канстантынопальскіх навукоўцаў, і Яўхім, высокаадукаваны неапатраскі мітрапаліт ці хучэй усяго, той хто піша ад яго імя пад

час Эпохі Адраджэння, параўноўвае салон Яўстафія з (ужо ўяўлямымі ім) «старажытна-афінскімі акадэміямі».

Дынастыя Камнінаў наогул апекавала навукоўцаў і заахвочвала навукі. Аляксей I Камнін і асабліва Мануіл былі і самі вельмі адукаванымі людзьмі. Прынцэса Ганна, жонка не менш высокаадукаванага кесара Нічыпара Брэінія, летапісы якога яна прадоўжыла, стварыла свайму бацьку біяграфічны помнік у «Алексіядзе». Адукаванасць грэкаў той эпохі, з'яўляецца яшчэ перамяшаннем багаслоўскай вучонасьці з класіцызмам Эпохі Адраджэння і з рыторыкай, якой тады грэкі злоўжывалі да такой ступені, што лепшыя візантыйскія тварэнні Яўстафія і абодвух братоў Акамінатаў стамляюць вялікай колькасцю напышлівасьцей.

Вышэйшае грэцкае сьвятарства пад час той эпохі налічвала ў сваім асяроддзі некалькі выбітных асоб, якія завяршылі сваю адукацыю ў Канстантынопальскай школе. Некаторыя із біскупаў Эллады і Пелапанэса, па большай частцы школьныя сябры і таварышы Міхала Акаміната, набылі славу дзякуючы сваёй класічнай вучонасьці. Такімі, напрыклад, з’яўляюцца Яўхім Неапатраскі і Рыгор Карынфскі, аўтар некалькіх граматычных і багаслоўскіх твораў, Мікалай Мефонскі, які пад час той эпохі напісаў твор супраць апошняга філосафа Прокла (калі гэтая яго кніга не апокрыф). З 1160 года архібіскупскі пасад у Фесалоніках займаў славуты Яўстафій, самая выбітная зорка візантыйскай вучонасьці з часоў Міхала Псёла. Ён даўно ўжо дзейнічаў у гэтым вялікай горадзе, калі яго таленавіты вучань Акамінат, магчыма, дзякуючы яго ж заступніцтву, быў закліканы заняць пасад афінскага мітрапаліта.

Само сабой зразумела, што ўсім гэтым сведчанням старажытных гісторыкаў немагчыма давяраць безумоўна, ужо маючы вялізную колькасць даказаных апокрыфаў.

Найбольш праўдзівымі дакументамі для гісторыі Афінаў гэтага часу з'яўляюцца толькі выпадковыя надпісы на яе будынках. Рускі архімандрыт Антоній адкрыў такія надпісы на сьцяне царквы Нікадзіма, а Пітакіс знайшоў некалькі іншых на сьценах і калонах Тэзеева храма і Партэнона. Яны надрапаны афінскімі сьвятарамі як буйнымі, так і дробнымі літарамі і часьцей усяго сустракаюцца каля галоўнага і каля бакавых уваходаў у цэркві. Як агульнае правіла, можна пазначыць, што яны маюць царкоўны характар, змяшчаючы ў сабе малітвы, звернутыя да бога і яго дагоднікаў, ці некралагічныя даты, і толькі ў вельмі рэдкіх выпадках змяшчаюцца сведчанні пра пабудову цэркваў.

Сучасныя дасьледчыкі Афінаў прыйшлі да высновы, што першыя з іх дапасуюць да XII стагоддя, і што падобная эпіграфіка мела працяг да найноўшых часоў. Так, на паўднёвым боку «Тезеева храма» знайшлі надпіс, паведамляўшы пра здарыўшуюся ў Афінах у 1555 годзе чуму, якая забрала шмат тысячаў народа і кастрыётаў, г.зн. турэцкіх насельнікаў Акропаля. За выключэннем нешматлікіх больш чым сумнеўных надпісаў, датаваных VIII і IX стагоддзямі, у якіх летазлічэнне апакрыфічна лічыцца ад Н. Х., усе астатнія адпаведна з візантыйскім звычаем датуюцца «ад стварэння сьвету», і, толькі пачынаючы з 1600 года, храналагічнае датаванне пазначаецца ад хрысьціянскай эры і арабскімі лічбамі.

Уплыў часу і надвор'я моцна абцяжарылі разуменне гэтых невялякіх надпісаў, і яны таксама не асьвятляюць гісторыю горада Афіны пад час сярэдніх стагоддзяў хрысьціянства. У Афінах мы не сустракаем, як у Рыме, мармуровых статуй памёршых біскупаў і пробашчаў кляштароў, сенатараў, суддзяў і грамадзян.

Нешматлікія надмагільныя камяні, адзін-другі саркафаг без нейкіх статуй ды некалькі надпісаў – вось і ўсё, што захавалася ў Афінах ад мінулага.

Вельмі значныя доказы сведчаць на карысць таго, што Міхал Акамінат заняў у Афінах архіпастырскую катэдру яшчэ да 1175 года. Афіняне адсвяткавалі прыезд новага архібіскупа ўрачыстымі гуляннямі і скокамі. Месцам жыхарства для сябе ён абраў Акрапаль, дзе ўжо і раней размяшчалася біскупства, але гэта яшчэ не азначае, што тады Акрапаль быў ужо ў тым выглядзе, пра які сведчаць яго сучасныя парэшткі.



Мал. 27
Храм Нябеснай Панне ў Афінах (Партэнон па-грэцку), якім ён быў у XIV стагоддзі.

Акамінат знайшоў сабор Партэнон ужо ўпрыгожаным малярствам і каштоўнымі ахвяраваннямі, дапасуючыміся да часоў Васіля Балгарабойцы. Ісландзец Севульф, які пачаў паломніцтва ў Ерусалім паміж 1102 і 1103 гадамі, заўважае ў апісанні свайго падарожжа: «АФІНЫ, дзе павучаў апостал Павел, знаходзяцца на адлегласьці двух дзён язды ад Карынфа. Там знаходзіцца царква найсьцейшай панны Марыллі з агніцай, у якой нязгасаючы гарыць масла». Да часоў Севульфа адносіцца і Liber Guidonis, дзе Гвідон, між іншым, піша: «Афіны былі некалі маці філосафаў і прамоўцаў. Тут знаходзіцца ў храме боская і нязгасаючая агніца, маючая назву Propylia (г.азн. дваровая, ад прапілей – двор). Яна спрадвеку пабудавана з дзіўнай пышнасьцю царом Язонам із цудоўнага знаходзімага там каменя і прысьвечана багародзіцы прыснапанне Марыллі». Такімі з'яўляюцца першыя гістарычныя згадванні пра знакаміты Партэнон, як пра храм, прысьвечаным Панне Марыллі Афінскай (адкуль і грэцкае імя Ацевайа Партэнас). Гэта быў звычайны хрысьціянскі храм і, хутчэй усяго, яшчэ не ў тым выглядзе, якім яго малююць нам сучасныя парэшткі.



Мал. 28
Так званае ўсеафінскае сьвята (панафінея), скульптура на фрызе храма Нябеснай Панне (Партенона).

Суцяшаючы ўяўляемых нашчадкаў Перыкла тым, што быццам бы час няздольны сьцерці пячатку шляхетнасьці, якую іхныя продкі быццам бы наклалі на іх, аўтар пішучы ад імя Акаміната, па-сутнасьці выказвае чыста схаластычнае вучэнне пра пастаянства відаў. Ён пераконвае афінянаў захаваць і надалей шляхетнасць іхных продкаў, якія былі самымі вялікадушнымі і зычлівымі із усіх грэкаў і нічога так моцна не шанавалі, як прыгожыя прамовы і музыку. «Так, – сведчыць ён, – нават падчас чумы Перыкл супакойваў народнае незадавальненне прамовамі, а гнеў Аляксандра памякчала гранне на флейце Цімафея. У якасьці хрысьціянаў афінянам належыць пераўзыходзіць якасьцямі Арыстыда, Аякса, Дыягена, Перыкла, Фемістокла і марафонскіх ваяроў. Яны з'яўляюцца шляхетнымі аліўкавымі тронкамі, прышчэпленымі да паганскіх дзічкоў, і напаўняючыміся ў сядзібе госпада апостальскай расой. Некалі ў Акропалі цяплілася нязгасаючая агніца бязвер'я, але гэтае ілжывае сьвятло, нібы-та мігаценне сьветлячка, пацямнела, калі сонца праўды, ахінаемае прыснапаннай, узышло над горадам і пазбавіла Акропаль ад тыраніі ілжывай прыснапанны. Нібы-та із саміх нябёсаў заззяла зараз із Акропаля вечная агніца, асьвятляючы сабой не толькі Афіны і Атыку, але і ўвесь сьвет».

Захоплены красамоўствам, аўтар параўнаў тут сябе нават з Майсеем, уявіўшы сябе не ў афінскім умацаванні, а на гары Харыва ці нават на цьвердзі нябеснай.

Уся гэтая прамова, бяспрэчна, была складзена ад імя Акаміната больш познім аўтарам Эпохі Адраджэння, як бачна із яе шматлікіх анахранізмаў. Бедствы Афінаў Акамінат малюе ў сваіх лістах з красамоўствам роспачы; гэтыя лісты, разам з тым, даюць адзіную ў сваім родзе, сапраўдную выяву стану горада на працягу сярэдніх стагоддзяў.

Адсутнасьць прамысловасьці ў Афінах Акамінат аплаквае ў першым жа лісьце. Ён выказвае прашэнне Гардыкійскаму біскупу даслаць экіпажных майстроў, таму што афінскія вырабы, у тым ліку нават і сельскагаспадарчыя прылады, вельмі незадавальняючыя. Тым часам калі ў Фівах, Карынфе квітнела шаўковая прамысловасць, у Афінах немагчыма было знайсьці ніводнага ткача шаўковых тканін.

Пераведзены із сусьветнай сталіцы – Канстантынопаля – у правінцыйнае мястэчка Афіны, Міхал Акамінат, «апынуўся паміж варварамі», і асьцерагаўся, «як бы і самому не здзічэць». Відавочна, яму згадваўся кплівы водгук Апалонія Тыянскага, дайшоўшы да нас дзякуючы Філастрату, калі ён пазьней пісаў Рыгору Цесаракантапехісу:

«*Дзякуючы таму што я даўно ўжо жыву ў Афінах, то ператварыўся ў варвара*».

Гэтае часта ўжываемае Акамінатам выказванне існавала здаўна. Існавала нават прыказка.

*Οὐ βαρβάρων γῆν, αλλ' ἰδων την Έλλάδα*
*Εβαρβαρώθης καί λόγον καί τόν τρόπον.*
*(Ты пеставаў не варварскую зямлю, а Элладу,*
*А ператварыўся ты ў варвара як згодна з вымаўленнем так і норавамі.)*

«*Як павінен я пакутаваць,* – пісаў Міхал патрыярху Хвядосу, – *я, які аддалены ад якой бы то ні было мудрасьці і асуджаны жыць у Афінах сярод натоўпу варвараў, абдзеленых філасофіяй*»!

Падобныя скаргі вельмі праўдападобныя. Так, два вершы таго часу, прысьвечаныя Хведарам Прадромам імператару Мануілу, напісаны на вульгарнай грэцкай мове. Падобным жа з’яўляецца і дыдактычны верш Spaneas, які некаторыя прыпісвалі імператару Аляксею І. Нават праз чатыры стагоддзі пасьля гэтага гаворка афінянаў лічылася – маючы падставы ці не – за адзін із найбольш нячыстых дыялектаў Грэцыі.

Само сабой зразумела, што да якіх бы то ні было выкаванняў пра «чысьціню» ці «забруджанасць» нейкага вымаўлення мы павінны ставіцца вельмі ўмоўна.

Калі я пад час юнацтва, перапрануўшыся селянінам, праходзіў пад выглядам вандруючага багамольца із Курскай у Варонежскую губернію, сялянка гэтай мясцовасьці, гаварыўшая на кур'ёзнай сумесі рускай і ўкраінскай моваў, не паверыла маім словам, быццам бы я жыву ў Курску і на маё пытанне: «чаму?» – адказала: «таму што ты размаўляеш не чыста».

Так мог ставіцца да афінскага вымаўлення і канстантынопалец Акамінат, чуючы ў Афінах тое самае вымаўленне, якое мы зараз называем класічным, і без сумневаў выказваемся на ім так, што калі б Перыкл сапраўды існаваў, то ён затыкнуў бы вушы пры першых жа нашых словах, ды і у нашым грэцкім правапісанні з яго ўмоўнасьцямі і разнастайнымі надлітарнымі пазначэннямі, ён не зразумеў бы нічога, таму што нават пад час сярэдніх стагоддзяў усе пісалі надрадковымі літарамі без падзелу словаў адзін ад аднаго і не мелі ніякага разумення пра знакі прыпынку.

Так і заўвагі Акаміната і іншых канстантынопальцаў пра «чысціню» ці «забруджанасць» афінскай мовы ў XI стагоддзі проста суб'ектыўныя, і нічога асаблівага нам не паведамляюць. Тут самым цікавым з‘яўляецца толькі той факт, што тым часам як канстантынопальскія пісьменнікі-рамеі пагарджалі грэкамі, на захадзе Яўропы пачалі стварацца легенды пра іхную неабмежаваную вучонасць. Сцвярджалі, напрыклад, што Афіны ў XII стагоддзі нават для грузінскага царства ў Закаўказзі служылі рассаднікам навукі.

Знакаміты армянскі гісторык Вардан, жыўшы ў XIII стагоддзі, паведамляе пра свайго цара Давыда II:

«Маючы жаданне прасьвяціць невуцкі грузінскі народ, ён выбраў сарок маладых людзей, якіх і выправіў у Грэцыю, каб яны там навучылі грэцкую мову, пераклалі з яе розныя творы на грузінскую мову і гэтыя пераклады прывезлі на

радзіму. Так яны, сапраўды, і зрабілі, але, відаць, не ў Элладзе, а ў Фесалоніках, у Афонскім кляштары, і перадусім у Канстантынопалі».

Яшчэ большая клапатлівасць пра грузінскую адукаванасць прыпісваецца славутай царыцы Тамары, якая ад 1184 да 1211 года кіравала Грузіяй падобна другой Семірамідзе. Пры яе двары жыў знакаміты грузінскі паэт Шата Руставелі. Ён уславіў розум і прыгажосць сваёй царыцы ў Тамарыядзе і, сярод шматлікіх вершаў напісаў, запазычаны з пярсідзкага, эпас «Чалавек у барсавай шкуры». Паведамляюць, быццам бы ў 1192 годзе ён, разам з іншымі маладымі грузінамі, быў у Афінах і там перачытаў творы атычных філосафаў і гісторыкаў, вывучыў нават музыку, і, вярнуўшыся да царыцы Тамары, атрымаў пры ёй пасаду бібліятэкара.

Нават ангельцы выказваюць дамаганні на тое, што быццам бы каля гэтага часу ў Афінах вучыліся некалькі брытанскіх навукоўцаў і ў тым ліку вядомы лекар Ян Эгідый. Ангельскі летапісец Мацьвей Парыс паведамляе, што ў 1202 годзе, пад час трэццяга ці чацьвёртага года валадарання караля Яна, некалькі грэцкіх філосафаў прыехалі із Афінаў да ангельскага двара, бралі там удзел у царкоўных дыспутах і рабілі спробы перацягнуць да сябе насельніцтва, пакуль кароль не загадаў ім маўчаць і не прагнаў з краіны.

Гэты ж Парыс паведамляе, што яго больш стары сучаснік ляйчэстарскі архідыякан Ян Безінгстокс аднойчы абвясьціў лінкальнскаму біскупу, што за час яго навуковых заняткаў у Афінах ён даведаўся ад адукаваных грэцкіх дактароў шмат чаго такога, што засталося невядомым для латынянаў, і між іншым даведаўся, быццам бы ў Афінах існуюць духоўныя тэстаменты 12 біблейскіх патрыярхаў, якія былі ўтоены жыдамі праз зайздрасць. Ён прывёз із Афінаў у Англію грэцкія пазначэнні лічбаў і некаторыя кнігі, якія пераклаў на лацінку, у тым ліку і граматыку, якою яго забяспечылі афіняне.

Яшчэ больш дзіўным з’яўляецца паведамленне таго ж Мацьвея Парыса, быццам бы Безінгстокс, нягледзячы на свае навуковыя заняткі ў Парыжы, лепшымі сваімі ведамі абавязаны дзяўчыне, якой не было і 20 гадоў ад роду, – Канстанціне, дачцэ афінскага архібіскупа, якая без памылак прадказвала жадаючым чуму, навальніцы, сонечныя зацьменні і нават землятрусы.

Мацьвей Парыс нават сцвярджае, быццам бы гэтыя дзіўныя паведамленні ён асабіста запазычыў ад Безінгстокса, і таму некаторыя гісторыкі цалкам верылі, што «яшчэ задаўга да таго часу, калі пад час Эпохі Адраджэння італьянскія жанчыны славіліся сваім розумам і ведамі, грачанкі вылучаліся сваёй класічнай адукаванасьцю».

Але ці можам мы сур'ёзна ставіцца да такіх сведчанняў? Вядома, не.

Якія байкі ў тыя лёгкаверныя часы мелі пашырэнне ў Ангельшчыне сведчыць вядомае апавяданне таго ж летапісца пра «вечнага жыда». Мацьвей Парыс цалкам сур'ёзна сцвярджае, што ў 1228 годзе ў Сэнт-Албанскае абацства прыбыў армянскі архібіскуп і пераканаў тамтэйшых манахаў, што асабіста знаёмы з Ёсіфам Картафілам, Ірадавым брамнікам, які некалі выштурхаў Езуса Хрыста із судзільні. Гэты Картафіл нярэдка наведвае Арменію і незадоўга перад ад'ездам адтуль архібіскупа абедаў у яго. І той жа армянскі архібіскуп запэўніваў ангельцаў, быццам бы Ноявы каўчэг па-ранейшаму яшчэ стаіць на Арараце.

Гэта сведчыць толькі пра адно: заходнія еўрапейцы ўжо тады лічылі, што Афіны з'яўляюцца вышэйшай школай для выбітных эліністаў, што там вывучала навукі не толькі знакамітая панціфіцына Яна ў IX стагоддзі, але нават Скот

Эпігена, хаця гэты тагачасны найвялікшы знаўца грэцкай мовы насамрэч набыў свае веды на Захадзе ў ірландзкіх кляштарскіх школах. Із Ірландыі яшчэ Карл Вялікі выпісваў настаўнікаў для сваёй schola palatina. Невыразныя сьляды існавання элінічных школ і ўспамінаў пра Афіны знаходзяцца і ў Італіі. Ян Дыякан, які ў IX стагоддзі напісаў «Жыцьё Рыгора Вялікага», прызнае за гэтым «вялікім рымскім першасьвятаром» адзіны недахоп – незнаёмства з грэцкай мовай, да якой ён далучае напышлівае выказванне «fecundissima virgo Cecropia»[44].

Гэта азначае, што нельга здзіўляцца і таму, што «Саксонскі летапіс» паведамляе, быццам бы рымскі імператар Клаўдый выправіў сваіх сыноў у Афіны, «дзе знаходзілася лепшая школа», і што Фларызель Нікейскі (у знакамітым рамане Амадыса дэ-Гауда) паведамляе, быццам бы рыцараўскі Агезілай Калхоскі вывучаў навукі ў Афінах.

Такая слава за Афінамі замацавалася ўжо ў XII і ў XIII стагоддзях. У сваім «Speculum rerum», гэтай генеалогіі ўсіх каралёў і імператараў, Готфрыд Вітэрбароскі пераконвае, што рымляне і германцы з'яўляюцца толькі адгалінаваннямі траянцаў, а апошнія паходзяць ад Юпітара, цара афінянаў. Юпітар, быццам бы, нарадзіўся ў Афінах царскім сынам, і ад яго філосафы запазычылі свае вучэнні. Горад Афіны, быццам бы, быў пабудаваны ім і прысьвечаны Мінерве, з'яўляючайся цьвярдыняй мудрасьці. Ніябея, першая жонка Юпітара, валадарыла, быццам бы, у Афінах і падаравала ім самы старажытны судоўнік. Юнона ж, другая жонка Юпітара, была маці Даная, ад якога пайшлі данайцы ці грэкі.

А потым, быццам бы, напісанае ім афінскае права было перанесена ў італійскі Рым. Усе мастацтвы і навукі павінны ўзводзіцца да Юпітара і да Афінаў.

Ад заходніх хрысьціянскіх навукоўцаў слава Афінаў перайшла і да ісламітаў, дбайных перакладчыкаў на мову Карана самых знакамітых грэцкіх філасофскіх і медычных твораў. Істары, напісаўшы геаграфічны твор, апакрыфічна дапасуемы да X стагоддзя, згадвае пра Афіны, апісваючы атачэнне Міжземнага мора, якое, на яго думку, абмывае Галіцыю, Францыю і Рым, а яго прыбярэжжа цягнецца ад Канстантынопаля да Афінаў і Рыма. Ён сцвярджае, што Рым і Афіны з'яўляюцца месцам засяроджання румаў (г.азн. рымлянаў, раманцаў), а Афіны, у прыватнасьці, служаць месцазнаходжаннем мудрасьці юнанаў (Iûnan), г.азн. старажытных грэкаў, аберагаючых там сваю навуку і філасофію[45].

Водгаласам гэтай пагалоскі з'яўляецца і адзіны верш, прыпісваемы Міхалу Акамінату:

*Павага да Афінаў, чыя слава некалі далёка грымела,*
*Напісала гэтыя радкі, але яна гуляе толькі з аблокамі,*
*І гарачы запал сваіх парываў астужае ў цені.*
*Ніколі, на жаль! ніколі больш нейкае вока*
*Не ўгледзіць тут горада,*
*Некалі так славіўшагася ў песьнях!*
*Незлічоны ў бегу эанаў час*
*Пахаваў горад пад кацячыміся камянямі і сьмеццем.*
*Пакуты безнадзейных пажаданняў адчуваю я,*
*Якому адмоўлена паглядам сучаснасьці*
*Прикрасьціся насамрэч у тое, што паважаецца.*
*Толькі той можа памераць запал сваёй павагі*

[44] Ян Дыякан, II, гл. 14.

[45] Тэкст Істары выдадзены Дэ-Гуэ ў Лейдэне ў 1870 годзе. Ён і Эдрызі – адзіныя ісламіцкія географы, згадваючыя пра Афіны. Астатнія, нападобе Абулфеда, запазычалі ў іх (Грэгарэвіус, стар. 115, нататка).

*Чароўнай бачнасьцю,*
*Хто сустракаецца з дружалюбным аблічча м.*
*Я ж, няшчасны, прыпадабняюся Іксіёну.*
*Я так жа паважаю Афіны, як ён Геру,*
*Але ён пазней абдымаў, прынамсі,*
*Хаця б бліскучую яе цень.*
*Шкада мне! Што я выношу, што я выказваю і што тут апісваю?*
*Я жыву ў Афінах, а тым часам Афінаў не бачу,*
*Тут толькі апусьцелае харосто засыпанае жудасным сьмеццем.*
*О, горад бядотнасьці! Куды зніклі твае храмы?*
*Якім чынам усё тут загінула і ператварылася ў адно паданне?*
*Дзе суд, і суддзі, і катэдры прамоўцаў, і падача галасоў,*
*І законы, і народныя сходы,*
*І моц прамоўцаў, і нарады,*
*І пышнасць сьвятых сьвяткаванняў,*
*І гераізм стратэгаў у змаганнях на сушы і на моры,*
*І багатыя формамі музы, і магутнасць мышлення?*
*Згуба паглынула ўсю славу Афінаў цалкам,*
*Яна не ажывае ні ў адзіным удары сэрца,*
*І не захавалася ад яе ні найменшага следу*»[46].

Так, запытаем і мы, як гэта ўсё магло зьнікнуць без сьледу за час сярэдніх стагоддзяў?

І мы павінны адказаць: ніяк не магло.

Уся старажытная веліч Грэцыі – міф, і нам застаецца толькі дасьледаваць, якім жа чынам і калі ён мог быць створаны?

Гэтаму мы і прысьвецім наступную главу.

# Глава V

## Феадальная мазаіка франкскіх рыцарскіх герцагстваў і рэспублік на грэцкім усходзе XIII-XIV стагоддзяў.

Уцёкі візантыйскага прынца на Захад, першыя крыжовыя паходы і адважныя памкненні венецыянцаў завалодаць Міжземным морам, – усё гэта разам узятае спарадзіла адну із найвялікшых падзей XIII стагоддзя – замену грэцкага царства на поўдні Балканскай паўвыспы і на Архіпелагу на лацінскае на два стагоддзі.

[46] Boissonade: Anecd. Grec. V. 374



Мал. 29
Грэцкая жаночая галава эпохі рыцарскай Грэцыі, якая лічыцца класікамі за галаву старажытнай паганскай Венеры.

Не адзін папа Інакенцій III быў нагодай таго новага паходу, які пераважна і набыў назву Лацінскага. Яго задумалі і выканалі шмат якія магутныя васалы і рыцары, французы, бельгійцы і збольшага немцы. У іхным ліку мы знаходзім і маладога графа Балдуіна Фландрскага, і маршала Шампані Готфрыда дэ-Вілегардуэна, і графа Гуга дэ-Сэн-Поль, і Людовіка дэ-Блоа, і П'ера дэ-Брашэйль, і Кона дэ-Бецюнь, і абодвух братоў дэ-Шампліт, не кажучы ўжо пра іншую шляхту. Крыжакі павінны былі накіравацца, згодна з задумкамі папы, у Ягіпет, які лічыўся ключом для далейшага заваяваня Сірыі, але збег цэлага шэрагу акалічнасьцей скасаваў яго анты-ісламітскі характар. На вачах здзіўленага папы гэтае пачынанне са святога прадпрыемства ператварылася ледзь ці не ў самае свецкае із усіх калі-небудзь адбываўшыхся ў сьвеце.

Заваяванне Канстантынопаля заходнімі рыцарамі было адным із самых адважных ваяўнічых здяйсненняў, занесеных на старонкі гісторыі.

Дзякуючы чыста палітычнай мэце, якая выявілася ў лацінскага крыжовага паходу, ён стаў у рэзкую супярэчнасць з містычнымі ідэаламі ранейшых ваяўнічых паломніцтваў. Нечападзяваная развязка паходу спачатку напалохала папу, але яго неўзабаве павінна было супакоіць тое меркаванне, што гэты дзіўны збег абставін абумовіў для яго магчымасць аб'ядначь Усход і Захад у адну вялікую хрысьціянскую дзяржаву. Такім чынам Інакенцій спачатку выявіўся абураным патуральнікам, а потым магутным хаўруснікам і саўдзельнікам канстантынопальскіх заваёўнікаў. А гэтыя апошнія выявіліся як бы прыладай узнёслай аддаленай ідэі, таму што для папства ва ўсёй гэтай справе на першы план выступіла падпарадкаванне адзінай вялікай нацыянальнай царквы, якая не была падначалена духоўнай уладзе Рыма.

9 траўня 1204 года франкскія заваёўнікі Канстантынопаля абвясцілі графа Балдуіна імператарам Раманіі (г.азн. **Рыма**, як называлі сваю краіну візантыйцы) і

следам за гэым каранавалі яго ў Сафійскай царкве. З'яўляючыся прадстаўнікамі трох розных пачаткаў – Германскай імперыі, Венецыянскай рэспублікі і крыжацкага войска, вайсковыя правадыры падзялілі паміж сабой грэцкія правінцыі ў Азіі і Яўропе на падставе пагаднення, выпрацаванага імі яшчэ ў сакавіку.

Чвэрць дзяржавы, а менавіта: Канстантынопаль, Фракія і некалькі выспаў дасталіся на долю нова-абранага імператара, а астатнія тры чвэрці былі падзелены паміж Венецыяй і войскам паломнікаў, пры гэтым рэспубліка Сьвятога Марка забяспечыла за сабой захаванне ўсіх гандлёвых прывілеяў, якія ёй некалі даравалі візантыйскія імператары ў залатых булах, у тым ліку і права валодання самымі важнымі портамі, узбярэжжамі і выспамі.

Што ж у гэты час уяўляў сабой Канстантынопаль? Яўстафій Фесалонікскі ўсхваляе яго як сталіцу сьвету, упрыгожванне чалавецтва, называе яго цудоўным і ветлым вокам зямлі, радзімай красамоўных дабрачыннасьцей, без якіх сам сьвет не быў бы сьветам, раем, змяшчаючым ў сабе ўсе даброты і выліваючым незлічоныя дабрадзействы на ўвесь сьвет. Мікіта Ханіят называе Візантыю цудоўным градам Кастуся, усімі ўхваляемым, да якога накіроўваюцца ўсе чалавечыя жаданні, а здзіўлены Вілегардуэн адклікаецца пра Канстантынопаль, як пра самы заможны ва ўсім сьвеце горад, валадарачы над усімі іншымі[47]. У ім у гэты час ужо квітнелі навукі. Нават самы жудасны із яго тыранаў – Андронік, і той заяўляў, што філасофія з'яўляецца нябеснай магутнасьцю і неацэньваемай згодна са сваімі заслугамі.

Яшчэ ў 1167 годзе лекар Гільём вывез із Канстантынопаля розныя манускрыпты ў Францыю. Італьянцы ахвотна куплялі грэцкія рукапісы і яшчэ да заваёвы Канстантынопаля вывозілі іх, нагружаючы імі цэлыя (?) караблі, як гэта заўважае Міхал Акамінат. У Фесалоніках нармандцы таксама хутка знайшлі італійскіх скупшчыкаў для тамтэйшых збораў рукапісаў, і яны былі саступлены амаль дарэмна.

З паловы XII стагоддзя ў Візантыйскім царстве ўсталяваліся дачыненні нагадваючыя заходні феадалізм. Імператары пачалі аддаваць цэлыя краіны пад кіраванне ўплывовым вяльможам, а намесьнікі гэтых апошніх спрабавалі дамагацца незалежнасьці. Такім чынам, у Трапезундзе ўтварылася амаль незалежнае герцагства, а на Кіпры Ісак Камнін ад 1184 года пачаў сваё паступовае ператварэнне ў незалежнага валадара, пакуль ангельскі кароль і крыжак Рычард Ільвінае Сэрца не забраў у яго ў 1191 годзе гэтую выспу і не прадаў яе тампліерам.

Паведамленне пра тое, што франкі завалодалі Афінамі, выклікала здзіўленне на Захадзе, дзякуючы таму што там навукоўцы ў манастэрыёнах і школах мелі самыя фантастычныя ўяўленні пра гэты глухі на справе горад. Альберык De Trois Fontaines занёс у летапіс пад 1205 годам:

«*Атон дэ-ла-Рош, сын дваранiна Понцiя дэ-ла-Рош у Бургундыi, цудоўнай чынам зрабiўся герцагам афiнскiм i фiўскiм*».

Пасьля геаічнай барацьбы Шампліт і Вільгардуэн заснавалі ў Марэі княства, якое набыло назву Ахайя, і яно, падобна герцагству Афінскаму, на дзьвесьце гадоў перажыло лацінскую імперыю ў Канстантынопалі. Шампліт быў прызнаны князем Ахайскім ужо ў лістападзе 1205 года.

У той час як лацінская Візантыя мела сур'ёзныя пагрозы з боку яе ворагаў (дэспата Арты, баўгар і грэцкага цара ў Нікеі), лацінскія дзяржавы мелі

[47] Яўстафій: De emenda vita monarchica, гл. 84. Мікіта: De Urbe capta, стар. 774: Вільгардуэн, выд. Н. дэ-Вайлі, стар. 72.

магчымасць вольна развівацца на поўдні. У такім становішчы знаходзіліся княства Ахайя, ленныя ўладанні ў Фівах і ў Афінах, на Эўбеі і на іншых грэцкіх выспах, якімі завалодалі генуэзцы і венецыянцы. Рэспубліка Сьвятога Марка выявілася не ў стане наладзіць кіраванне ва ўсіх грэцкіх абласьцямі, якія ёй былі перапрададзены згодна з дамовай пра падзел. Яна прапанавала сваёй шляхце, каб тыя на свае сродкі занялі гэтыя вобласьці і, грунтуючыся на праве заваявання, валодала імі на правах спадчынных венецыянскіх ленаў. Венецыянскія нобілі, прагнуўшыя прыгод, накіраваліся ў грэцкія моры, уяўляючы сябе арганаўтамі XIII стагоддзя. Левант пад час той эпохі з'яўляўся для французаў і італьянцаў тым жа, чым праз тры стагоддзі зрабілася Амерыка для гішпанцаў.

Хутка ўзніклі вельмі цікавыя выспавыя дзяржавы. Адна із іх належала Гізам (на выспах Тэнас, Мікенас, Скапелас), другая – Джусьцінам (на Тэа і Церыфосе), трэццяя – Наваджыязам (на Сантарыне), чацьвёртая – Веніям (на Венерынай выспе Чэрыга). У той жа час Марына Сануда заснаваў значнае Цыкладзкае герцагства на Архіпелагу, са сталіцаю ў Наксасе, а буйная выспа Крыт, некалі належаўшая легендарнаму Мінасу, пасьля працяглага змагання была непасрэдна падпарадкавана рэспубліцы Сьвятога Марка.

Для Атона дэ-ла-Рош зараз знайшоўся вольны час, каб канчаткова ўладкавацца ў Афінскай дзяржаве. Бяручы да ўвагі сусьветную вядомасць Афін ён аддаў перавагу тытулавацца імем самога горада. У афіцыйных актах франкі і нават сам папа называюць яго sire d'Athenes, і гэты сьціплы тытул «сір» быў пераінчаны грэкамі на іхнай мове ў «кіра» і вырас у іхных вачах да велічнага тытула «мегаскір» (вялікі валадар). І вось, пасьля ўсіх неспадзяванняў, да якіх прывяло нас астранамічнае дасьледаванне старажытнай гісторыі, мімаволі ўзнікае думка, што і легендарныя пярсідзкія Кіры, ці не набылі свае найменні ад французкага слова sire?..

Пад дзеянне франкскага права, якім рэгуляваліся асабістая воля і юрыдычныя і дзяржаўныя дачыненні заваёўнікаў падпадаў толькі адзіна кіруючы стан латынянаў; астатнія ж станы, складаўшыяся із грэкаў, былі вырачаны на прававую і дзяржаўную залежнасць. Падмурак гэтага ўладкавання было лёгка заснаваць, як толькі мегаскір размеркаваў зямлю паміж сваімі дружыннікамі і абавязаў апошніх адбываць ваярскую службу і быць васальнымі вернападданымі.

Падобныя ж падставы мелі дзяржавы крыжакоў утварыўшыяся ў Сірыі і на Кіпры. На апошняй жыватворнай выспе першы франкскі кароль Гюі дэ-Лузіньяк стварыў трыста бароній для рыцараў, меўшых права насіць залатыя шпоры, і дзьвесце драбнейшых ленных валоданняў.

Марэя згодна з самой сваёй прыродай выявілася асабліва прыдатнай для наладжвання ў ёй леннага ўладкавання. Там і ўварыліся самыя магутныя баронствы з залежнымі ад іх рыцарскімі ленамі. Яшчэ і да гэтага часу парэшткі замкаў (палеакастраў – як іх называюць грэкі) у Калаўрыце, Акаве, Карытэне, Герацы, Вялігосьці, Пасаве, Каландрыцы і ў іншых месцах, выяўляюцца відавочнымі доказамі заможнага жыцця франкскага дваранства ў Марэі. Толькі ў Атыцы не існуе колькі-небудзь значных падобных парэшткаў, за выключэннем франкскіх вартаўнічых веж уздоўж марскога ўзбярэжжа. У Беотыі парэшткі замкаў сустракаюцца часьцей, але ў параўнанні з Марэяй іхная колькасць нікчэмная. Падставы гэтага ў тым, што ў Атыцы і Беотыі не ўзнікла такіх баронстваў, як Матагрыфон (Акова), у складзе якога было 24, ці як Карытэна, у якім было 22 рыцарскія лены. Перадаванне зямель спадчынным валадарам ці баронам, якія ў

сваю чаргу зараз жа раздавалі ад сябе рыцарскія лены, вядома, павінна было адбывацца і ў Афінскай дзяржаве, таму што ўся сукупнасць палітычнага ўладкавання, дзеяння судовай сістмы і само адбыванне ваярскай службы ў кожнай із франкскіх мясцовасьцей, было заснавана на леннай сістэме і на выкананні ваярскай павіннасьці адпаведна з памерам нерухомасьці. І, відавочна, што там, дзе дзяржавы былі больш драбнымі, пабудовы іхных уладальнікаў, вядома, былі нязначнымі і таму лягчэй знікалі пазьней.

Дзякуючы таму што мегаскір згодна з правам заваёўніка глядзеў на сябе, як на ўласніка ўсёй краіны, то ён узяў сабе ў якасьці даменіяльных валоданняў Фівы і Афіны, а таксама і маёнткі, якія раней уваходзілі ў склад візантыйскага імператарскага фіску, а іншыя землі раздаў царкве і дружыннікам у якасьці ленаў. Да нас не дайшло дакументаў грунтуючыся на якіх можна было б скласьці сабе ўяўленне пра тое, як адбывалася размеркаванне зямель. Калі ў некаторых выпадках у грэцкіх уладальнікаў і была забрана іхная уласнасць пад рознымі падставамі, то ўсё ж, наогул, уварванне франкаў не мела наступствам барацьбу, і, напэўна, з тубыльцамі адбылося ўзаемнае пагадненне. Колькасць прыйшоўшых рыцараў была такой нікчэмнай, што за элінамі само сабой павінны былі застацца шмат якія землі.

Пераварот у землеўласніцкіх дачыненнях павінен быў найбольш адчувальна адбіцца толькі на ўладальніках грэцкіх латыфундый, на вяльможах і на царкве, а на вясковым шараговым насельніцтве вельмі мала. Яны пад час эпохі франкскага заваявання ўжо знаходзіліся ў Грэцыі ў заняволеным стане так жа, як і ў феадальных дзяржавах Яўропы. Ужо пры візантыйскім кіраванні вясковае насельніцтва размяркавалася на два станы: на вольных землябобаў (κωπίται), меўшых права ўласнасьці на зямлю і асаднікаў (παροικοι), пазбаўленых гэтага права.

Андронік І спрабаваў выкараніць дасягнуўшую празмернай магутнасьці арыстакратыю грэцкіх буйных зямельных уласнікаў, але яго падзенне перашкодзіла яму ажыццявіць гэтую рэформу. Латыфундыі паглыналі надзелы вольных землябобаў, а дробныя прыватныя ўладанні перайшлі пад валоданне незлічоных цэркваў, прыдворных і правінцыйных урадоўцаў, ці ж былі далучаны да дзяржаўных маёнткаў.

У выніку і ў візантыйскім царстве ўтварылася два станы насельніцтва з падобнымі палітычнымі норавамі: заможных (δυνατοί) і бедных (πένητες). Апошнімі з'яўляліся парэшткі вольных грамадзянаў і землеўладальнікаў, меўшых ўласную волю, але ў рэчаіснасьці знаходзіўшыхся пад уладай нейкіх прыватных патронаў, і толькі адзін крок аддзяляў іх ад стану асаднікаў ці перыекаў, якія былі абавязаны адбываць паншчыну на карысць сваіх гаспадароў.

Франкскім валадарам і новым землеўладальнікам насельніцтва працягвала плаціць тыя ж падаткі і выконваць тыя ж павіннасьці, якія раней яно адбывала на карысць імператарскага ўрада і архонтаў. Пры франках яно, верагодней усяго, нават выявілася ў выйгрышы, таму што выплочваемыя падаткі ішлі не ў скарб далёкай Візантыі, а выдаткаваліся валадаром у самой краіне. Перыекі жператварыліся непасрэдна ў віланаў (villani) франкскіх уладальнікаў. Яны зрабіліся жывым інвентаром ленных васалаў і лацінскай царквы.

Калі імператар Балдуін усталёўваў валадаранне ў прызначаных яму краях, ён захаваў нязменнымі дзейнічаўшыя ў іх законы, а вялікія гарады, нападобе Фесалонік, перадалі сябе франкам пад умовай таго, што іхныя старадаўнія вольнасьці і звычаі будуць захаваны за імі. Шамрліт і Вільгуардэн падкупілі

жыхароў Марэі сваёй павагай да тубыльных законаў і да правоў валодання ўласнасьцю.

Інакш справа была з царквой.

Пасля таго як дож Дандала змог усталяваць венецыянца Франчэска Маразіні на патрыяршы пасад, які той і заняў у храме Сафіі, ён пачаў перамяняць, дзе толькі магчыма, грэцкіх біскупаў на лацінскіх сьвятароў, а праваслаўных ці праганяць, ці прымушаць прызнаць вяршынства папы. Цэлыя натоўпы каталіцкіх сьвятароў суправаджалі заваёўнікаў у паходзе і прагнулі завалодаць здабычай у выглядзе цэркваў і прыходў. У Фівах і Афінах, архібіскупы якіх былі выпраўлены ў спасылку, усе галоўныя храмы былі перададзены лацінскаму кліру. Новы валадар пакінуў за грэцкімі таварыствамі толькі столькі другарадных цэркваў і прыбыткаў, колькі ён палічыў патрэбным. Не малая колькасць грэцкіх «айцоў» (папасаў) часткава дзякуючы баязні, часткава бяручы да ўвагі дальнабачныя меркаванні, паслухмяна падпарадкавалася франкскай царкоўнай сістэме, таму што толькі на такіх умовах праваслаўнае сьвятарства магло захаваць падначаленую ім царкоўную нерухомасць. У межах епархіі каталіцкага архібіскупа ў будучым ніякі грэк не мог быць пасьвечаны ў сьвятары мінуючы дазвол каталіцкага архібіскупа і ўладальніка той мясцовасьці, да якой быў прыпісаны грэцкі храм.

Толькі з гэтага моманту ўпершыню і пачынаецца складная і праўдападобная гісторыя Афінаў і ўсёй Грэцыі.

Француз Берард быў прызначаны Атонам дэ-ла-Рош на пасаду архібіскупа Афінаў і заняў пасад у Партэнонскім храме. Інакенцій III, які ў 1206 годзе зацвердзіў Берарда ў новым званні распарадзіўся праз кардынал-легата Бенедыкта дакладна ўсталяваць колькасць канонікаў у Афінах. Ён захаваў за архібіскупам усе правы яго грэцкіх папярэднікаў у афінскай правінцыі, даў метраполіі тыя ж статуты, якія мела парыжская царква, і паставіў іх пад адменнае заступніцтва апостала Пятра.

Вельмі цікава прыслухацца да велічнай рымскай прозы, якой самы ўладашануючы із усіх папаў піша пра Афіны.

«*Літасць Божая не дае загінуць старажытнай славе горада Афіны*, – выказваецца ён у буле да Берарда. – *Пры самым сваім заснаванні гэты горад ухальна абвясьціў першападставы сапраўднай рэлігіі. Афіны ўшаноўвалі спачатку тройцу ілжывых багоў, у трох асобах складаўшых адзінства. У апошнія ж часы гэты культ пераатварыўся ў вызнанне праўдзівай і непадзельнай Троцы. Вывучэнне свецкіх ведаў Афіны занядбалі з усім запалам дзеля боскай мудрасьці, цьвярдыню знакамітай Паллады ператварылі ў сьціплы прыстанкам славутай багамаці і прыйшлі да спазнання праўдзівага бога, праз доўгі час пасьля таго як быў пабудаваны ахвярнік невядомаму богу. Гэты горад, носячы слаўнае найменне і перапоўнены самым дасканалым хараством, перадусім выпрацаваў філасофскае мастацтва, а потым спасьціг праўдзівыя апасталічныя вераванні. Напаўняючы паэтаў ведамі і праз іх усьведамляючы прароцтвы, Афіны зрабіліся маці майстэрстваў і набылі славу горада мудрасьці. Каб патлумачыць гэта, мы можам параўнаць Афіны з горадам Керыаф-Сеферу, таму што калі Гафаніїл падначаліў гэтую мясцовасць уладзе Халева, то яму была падаравана дачка апошняга, Ахса, у якасьці жонкі. Умілаваны ў Хрысьце брат і высокашаноўны архіпастар! Дзякуючы таму што зараз гэты услаўлены горад перадаўся Богу, то, каб утрымаць яго на шляху праўдзівай набожнасьці, ты аб'яднаўся з Афінамі, як з духоўнай нарачонай. Згодна з даходзячымі да мяне паведамленнямі, гэты горад прагне тваіх павучанняў з такой жа палкасьцю, як Ахса, а таму я лічу своечасовым напаіць прагнучых расой апостальскага добраславення. У якасьці шанавання гэтага м прызнаём за адпавядаючае нашаму абавязку з дапамгай гэтай нашай граматы, прыняць пад наш апастальскі нагляд*

*гэты горад, із твораў якога некалі, як нам добра вядома, вылівалася ледзь ці не на ўвесь сьвет сукупнасць усіх ведаў, і таму мы ўхваляем тваё законнае заступніцтва*».

Ці з'яўляецца гэтая була апакрыфічнай ці не? У апошнім выпадку мы павінны зрабіць выснову: што ўжо на прыканцы XII стагоддзя пра Афіны ў асяроддзі заходнееўрапейскіх тэолагаў замацавалася фантастычнае ўяўленне, як пра знакаміты ў старажытнасьці горад дахрысьціянскага паходжання. І вось, глухое грэцкае мястэчка, аточанае арэолам у розумах заходніх еўрапейцаў падобна сірыйскаму Эль-Кудсу, ужо сто гадоў таму назад пературанаму ў евангельскі Ерусалім, пачынае пературацца ў прытулак дахрысьціянскіх музаў і дахрысьціянскай вучонасьці і каля яго пачынаюць ствараецца не толькі міфы, але і адметная тэалогія із парэшкаў сярэднявечных вальнадумстваў і філалагічных непаразуменняў.

Усё гэта і праглядае ў буле Інакенція.

Пад найменнем паганскай тройцы Інакенцій, відавочна, мае на ўвазе Зеўса, Апалона і Афіну, не разумеючы іхнага паходжання. А на самай справе Зеўс быў тым жа богам-айцом, бог сьвятла Апалон з'яўляўся яго ўвасабленнем у выглядзе сына, і Афінская Панна (Атенайя Партэнас) была толькі заходняй Мадоннай.

Інакенцій ужо не разумее гэтага.

Францысканцы ў гэты час ужо пашырыліся па ўсёй Грэцыі, і заснавалі манастэрыёны ў Эўбеі, Фівах, Афінах, Патрасе, Кларэнце і на выспе Крыт. Дэ-ла-Рош паклікаў у Афіны таксама і цыстэрцыянцаў із абацтва Бельво ў Бургундыі, дзе знаходзіўся яго радавы магільны склеп і перадаў ім рзмешчаны каля сьвятога шляху ў Элеўзіс базылянскі манастэрыён, які па-грэцку і зараз мае назву Дафні, а франкі пераіначылі гэтую назву ў Дальфінет. Падобна рыцарскім братэрствам тампліераў, янітаў, у Грэцыі набыў уладанні і тэўтонскі ордэн, якому правадыры крыжакоў ад самага пачатку надавалі адменныя перавагі, таму што яго пасяленні адначасова з'яўляліся і вайсковымі асадамі. Нямецкі ордэн мечнікаў асабліва зацвердзіўся ў Марэі. Готфрыд Вілегардуэн заснаваў там у Андравідзе шпіталь у гонар сьвятога Якава; да яго ж уладанняў належаў у афінскай епархіі і Макрыйскі шпіталь у гонар таго ж сьвятога.

Усяго праз чатыры гады пасьля заснавання Лацінскай федэрацыі, яе імператар Генрых склікаў у траўні месяцы парламент на Равенікскім полі паблізу Зейтуна, каб папярэдзіць звады і абавязаць імперскіх васалаў прысягай на вернасць.

А што ж у гэты час адбывалася ў Канстантынопалі? Пры імператары Роберту дэ-Куртэнэ (1221-1228) лацінская імперыя на Басфоры скарацілася амаль выключна да тэрыторыі аднаго Канстантынопаля, і яго цвярдыня з'яўлялася як бы месцам заняволення для спадкаемцаў Балдуіна, таму што баўгары, нікейскія грэкі і эпіроты із Арты ўсё цясьней і цясьней сьціскалі варожае кола, ахопліваючае былую сусьветную сталіцу.

Франкскія заваёўнікі Грэцыі, відаць, яшчэ не мелі ніякіх уяўленняў пра класіцызм. Ніякіх апісанняў «старажытных помнікаў» ў іх яшчэ няма.

«Цэлыя стагоддзі павінны былі прайсьці, – зноў выказваецца наш адзіны сур'ёзны гісторык горада Афіны часоў сярэдневечча Грэгарэвіус, – сам Канстантынопаль павінен быў атурэчыцца і само існаванне Афінаў павінна было забыца перш чым паехалі з Захаду ў Элладу ў XIX стагоддзі нашчадкі гэтых латынянаў XIII стагоддзя з мэтай дасьледаваць з захопленай набожнасьцю усе

занесеныя тут пылам парэшткі, сама памяць пра якія захавалася хіба што ў некалькіх назвах гарадоў і мястэчак».

Але гэтая самая захопленасць і была нагодай таго што яны пакрыўдзілі сваіх крыжацкіх продкаў, дапасаваўшы самыя значныя із іхных пабудоваў да міфічнай старажытнасьці.

Шматлікія парэшткі феадальных замкаў, асабліва на Пелапанэсе, сведчаць пра жалезную энергію, пра багацце і бляск тагачаснага лацінскага рыцарства. Пэрскія прозвішчы Алеманаў у Петры, Роз’ераў у Акаве, Бруйераў у Карытэне, Турнэ ў Аркадзкім Калаўрыце, Шарпіны ў Восьціцы, бельгійскіх Валенкураў у Вялігосьціі, і Нэлы ў Пасаве, напаўнялі свае замкі мітуслівым жыццём. Княжы двор Готфрыда II Вілегардуэна, пры якім служыла ад 700 да 1 000 рыцараў, нават на Захадзе набыў вядомасць у якасьці школы самых вытанчаных звычаяў. Андравіда ў Элідзе, абароненая моцнымі гатычнымі замкамі, служыла рэзідэнцыяй валадарам Ахайі, таксама як і суседні порт Кларэнца каля перадгор'яў Хеланата, насупраць мыса Зантэ. На гэтым мысе высіўся пабудаваны Готфрыдам для аховы порта добра ўмацаваны, замак Клермон, інакш званы «Castel Tornese», таму што ў ім выраблялiся з 1250 года «deniers tournois», якія ўяўлялі із сябе паўсюдна пашыраную па Грэцыі ахейскую разменную манету. У Элідзе вырасла ўмацаванне «Понцік» ці «Бельведэр», з вышыні якога вока абдымала ўзбярэжжа Этоліі, выспы Закінф, Кефалонію і Ціаку, а з боку сушы зялёныя раўніны Пенея аж да Эрімантыйскага нагорнага лесу на паўночным усходзе і да горнага ланцуга, з якога на поўнач ад Алімпіі збягае струмень Ладон.

Менш бліскучымі былі рэзідэнцыі мегаскіра ў Фівах і Афінах. Дзякуючы таму што Атыка была беднай краінай, а яе сталіца ляжала ў баку і не магла з'яўляцца цэнтрам, то Гвіда I у якасьці сваёй рэзідэнцыі пераважна выкарыстоўваў Фівы, размешчаныя ва ўрадлівай Беотыі, якія ён злучыў выдатнымі дарогамі як з франкскімі дзяржавамі на Эўбеі, так і з размешчанымі на поўначы Элладай і Ахейскім княствам. Беотыя славілася здаровым кліматам і шматводнасьцю, а навакол яе працякалі знакамітыя ў паэзіі ручаі Даркэ і Арэтуза, Эпікрэнэ і Ісменас. Яшчэ першы мегаскір дараваў свайму пляменіку Гвіда дэ-ла-Рош палову Фіваў у якасьці лена, а другую палову дараваў сваёй сястры Боне, і тая прынесла гэты надзел у якасьці пасага свайму чалавеку Бэле (Авелю) – сыну Жака дэ-Сэнт-Амер. Такім чынам фландрскі род Сэнт-Амераў зацвердзіўся ў Фівах, і набыў палову тамтэйшых уладанняў з васьму рыцарскімі ленамі.

Кадмейскі замак, некалі служыўшы месцам жыхарства для візантыйскага стратэга, лёгка мог быць пераўтвораны ў рэзідэнцыю для мегаскіра. Горад Фівы тады карыстаўся слыннасьцю дзякуючы сваіх ільняным і шаўковым фабрыкам. Для прывядзення іх у дзейнасць карысталіся шматводнымі ручаямі Ісменас і Даркэ. Яшчэ ў 1195 годзе сельджукскі султан Іконіума, з нагоды заключэння мірнай дамовы з Аляксеем III, запатрабаваў ад яго, як асабліва пажаданы дарунак, сорак шаўковых адзенняў, выраблаўшыхся там для імператара.

У Фівах і ў Афінах аселі генуэзскія купцы і спрабавалі выштурхнуць із тамтэйшых рынкаў венецыянцаў. Гвіда заступаўся за стасункі з імі, і 24 снежня 1240 года забяспечыў за генуэзцамі спакойнае знаходжанне ў сваіх уладаннях. Ён дараваў ім, як у Фівах, так і ў Афінах, вызваленне ад падаткаў (за выключэннем вывазной пошліны на шаўковую тканіну, вырабляемую ва ўладаннях мегаскіра), і нават уласную юрысдыкцыю адносна грамадзянска-прававых спрэчак.

Трывалы мір па ўсёй сваёй краіне, грэцкае насельніцтва якой падпарадкавалася без супраціву свайму лёсу, даў мегаскіру Гвіда магчымасць клапаціцца пра развіццё гандлю і сельскай гаспадаркі ў Беотыі і Атыцы. А потым ён атрымаў ад французкага караля Людовіка IX тытул герцага афінскага. І вельмі цікава з боку гледжання легендарнасьці ўсёй старажытнай гісторыі, што заходнія паэты ўжывалі гэты ж тытул, надаючы яго, як быццам бы старажытнае званне, міфічнаму заснавальніку горада Афіны. Яшчэ Гібон заўважыў, што Бакачыа ў «Тезеідзе», Чаўсер ў адным са сваіх «Кентэрберыйскіх апавяданняў» і Шэкспір у «Снабачанні пад час летняй ночы» называюць старажытнага Тэзея афінскім герцагам. Ды і Дантэ, будучы сучаснікам ла-Раша, у XII песьні свайго «Пекла» вымушае Вяргілія звярнуцца да Мінатаўра з наступным выказваннем:

*Forse*
*Tu credi, che sia l'duca d'Atene,*
*Che su nel mondo la raorte ti porse?*
*(Ужо ці не лічыш ты сябе герцагам афінскім,*
*Што нават пад зямлёй перасследуе цябе сьмерць*?)

А Рамон Мунтанер, гісторык каталонцаў і сучаснік Дантэ, уяўляў сабе нават гамераўскага Менелая «афінскім герцагам». Ён паведамляе ў адным месцы, што на мысе Артакі ў Малой Азіі знаходзілася траянская застава, недалёка ад выспы Тэнедас, куды звычайна пад час вызначанага месяца выпраўляліся шляхетныя людзі, мужчыны і жанчыны балканскай Раманіі, у якасьці паломнікаў для ўшанавання божай статуі. І вось, калі аднойчы Алена, жонка герцага афінскага, выправілася туды ў суправаджэнні сотні рыцараў на ўшанаванне, яе заўважыў сын траянскага караля – Парыс, забіў усю яе сьвіту, складаўшуюся із 100 рыцараў, і скраў прыгажуню-герцагіню.

Такой была ў XIII стагоддзі Іліяда Гамера, выявіўшаяся эпапеяй із часоў крыжовых паходаў!!

Але вернемся да нашага пытання.

Ноччу 25 ліпеня 1261 года вайсковы правадыр нікейскага імператара Міхала выступіў із Малой Азіі з войскам у Фракію, каб уціхамірыць паўстаўшых эпіротаў. Усяго толькі з 800 віфінскіх вершнікаў і з невялікім атрадам пяхоты ён знянацку захапіў, дзякуючы шчасьліваму выпадку, дрэнна ахоўваемы Канстантынопаль. Падпалены ўварваўшыміся пажар паралізаваў супраціўленне франкаў, у якіх не знайшлося ніводнага правадыра; лацінскі імператар Балдуін, страціўшы надзею абараніцца, кінуўся з натоўпам уцекачоў на венецыянскую галеру і збег.

Пасланнікі прывезлі гэтае неспадзяванае паведамленне нікейскаму імператару ў Німфею ў Лідыі, і 15 жніўня Міхал VIII без якой бы то ні было ўрачыстасьці зайшоў праз Залатую браму ў Канстантынопаль. Наперадзе яго несьлі выяву Панны Марылі «Правадніцы»; ён быў урачыста каранаваны ў Сафійскім саборы праваслаўным патрыярхам і з гэтай пары атрымаў найменне Новага Кастуся.

А Балдуін II, суправаджаемы патрыярхам Джусьцініапам і іншымі ўцекачамі, накіраваўся перадусім на Эўбею, потым наведаў Афіны, дзе яго атачылі ранейшыя васалы: эўбейскія тэрціеры ла-Рашы, венецыянскі бальі Неграпонта Ларэнда Тыепола, жонка герцага Наксоскага, і шмат якія іншыя шляхетныя франкі. Але імператар-выгнаннік не меў магчымасьці дараваць ім іншыя ўшанаванні, акрамя пасьвячэння ў рыцары. Ён быў павінен барону Карыстоса Атону дэ-Сікон 5 000 гіперыераў, замест якіх пакінуў яму адну са шматлікіх рук Яна Хрышчэльніка, і з'явіўся ў Францыю як прэтэндэнт на сваю згубленую дзяржаву.

Але гэта ніколькі не пашкодзіла лацінскай федэрацыі на абшарах уласна Грэцыі. Міхал VIII, запанаваўшы ў Канстантынопалі, толькі замяніў там франкскую дынастыю на грэцкую, але ён і не думаў варагаваць без патрэбы з замацаваўшыміся на паўвыспе лацінскімі феадаламі. Ён схіліў на свой бок нават папу. Калі ў 1274 годзе на Ліёнскім саборы ён праз сваіх амбасадараў пачаў размову пра злучэнне цэркваў, Рыгор X тым ахвотней пагадзіўся паслабіць небяспечную і для яго самога магутнасць караля Карла Анжуйскага, выступіўшы супраць планаў апошняга наконт Усходу. Аднак франкская Марэя прынесла прысягу на вернасць не Міхалу VIII, а магутнаму валадару Неапаля і Сіцыліі, «мова і паходжанне якога былі французкімі, і каралеўства якога было недалёка ад гэтай краіны».

З гэтай пары герцаг афінскі прызнаваў сябе яго леннікам, і заходні ўплыў на абшарах паўвыспавай Грэцыі зрабіўся яшчэ больш моцным.



Мал. 30
Храм Зеўса Алімпійскага.

# Глава VI

## Разважанні перад порцікам антычнага храма.

1-га траўня 1278 года ў Каламаце памёр прынц Гільём II, апошні із заваёўнікаў Пелапанэса па мужчынскай лініі, і правы на спадчыну Вілегардуэна перайшлі праз дачку Гільёма Ізабелу спачатку да Анжуйскага роду, потым ад жанчыны да жанчыны, ад прынца да прынца пачалі пераходзіць і да іншых «радоў».

«Жанчыны, – сведчыць Грэгарэвіус[48], – даволі часта ў Яўропе плялі павуціннe дынастычнай палітыкі і злучалі лёс дзяржавы са сваім уласным лёсам, але рэдка дзе яны мелі такі ўплыў, як у франкскай Грэцыі, дзе салічны закон не меў

[48] Стар. 188, 23 рускага перакладу.

магутнасьці, з нагоды чаго радавыя ўладанні і палітычныя правы пераходзілі па спадчыне і да сыноў, і да дачок. Але калі жаночы ўплыў і мала спрыяў ваяўнічасьці, то шмат спрыяў культуры. Згадаем толькі рускую Кацярыну II, сяброўку Вальтэра, і ангельскіх Лізавету і Вікторыю».

Я не маю месца і жадання распавядаць тут чытачу больш пдрабязна, згодна з прыкладам усіх гісторыкаў Грэцыі гэтага часу, грунтуючыся на канстантынопальскіх хроніках і паўднёва-еўрапейскіх архівах, як тая ці іншая прыгожая грэцкая прынцэса жадала ці не жадала адружвацца з такім-та галантным грэцкім герцагам ці графам, і якія сямейныя радасьці ці дзяржаўныя непрыемнасьці былі наступствам гэтага. Усё гэта толькі пена на хвалях больш глыбокага народнага жыцця, развіваўшагася згодна са сваімі натуральнымі эвалюцыйнымі законамі. Немагчыма ж сапраўды ўяўляць, быццам бы народы паўтараюць кожны рух сваіх валадароў, як гэта ўяўляецца ў балеце, згодна з апісаннем яго знакамітай мадам дэ-Курдзюкоў у гумарыстычнай паэме Мятлева:

Вось нейкі шэльма кароль даў іншаму sa parole,
Што з дачкой сына адружыць і ніяк ужо не пераменіць
Слова царскае... І вось, захапляецца народ.
Толькі сын закаханы ў іншую.
– «Я маладую, маўляў, бракую не буду адружвацца з ёю!»
І вось, дзівіцца народ.
– «Як бракуеш? Дзеля суседства ты адружыся! не то спадчыны
Я цябе пазбаўлю!»
І вось, засмучаецца народ.
Што ж? Не патрэбна мне кароны! Мне народныя паклоны
Не патрэбны, валадар!..
І вось, крыўдзіцца народ.




Мал. 31
Мапа франка-рыцарскай Грэцыі XIII стагоддзя згодна з William Miller: The latins in the Levant.

Нічога падобнага ў рэчаіснасьці, вядома, ніколі не было, хаця ўсе нашы першакрыніцы па старажытнай гісторыі і апісваюць думкі, дзеянні і нават размовы паміж сабой цэлых народаў цалкам падобна таму, як і Мятляеў у сваёй паэме, відавочна паказваючы гэтым такое ж сваё стваральніцтва і нерэчаіснасць апісваемых імі здарэнняў.

З боку гледжання навуковага гісторыка цары і каралі дынастычнага перыяду эвалюцыі дзяржаваў былі толькі прыдарожнымі слупамі на доўгім, звілістым шляху, які выходзячы із імглістай даўніны і працягваючыся далей не выяўляючы якой бы то ні было залежнасьці ад іх, адпавядае тапаграфічным умовам мясцовасьці. Гэтыя вехі немагчыма не ўлічваць пры сучасным строга навуковым дасьледаванні старажытнай гісторыі чалавечай культуры, таму што ўсе нашы першакрыніцы храналагізуюць падзеі арыентуючыся на іх, хаця б для сучаснага глыбакадумнага і ўсебакова адукаванага гісторыка і зразумела, што калі нейкім царам і давялося мець вялікую ініцыятарскую ролю ў палітычным ці сацыяльным жыцці народаў, то не таму, што яны сядзелі на пасадзе, а выключна дзякуючы таму, што яны выпадкова былі выбітнымі асобамі і выразнікамі ўжо наспеўшых пераўтварэнняў. Толькі з падобнага боку гледжання іхныя біяграфіі і заслугоўваюць такой жа цікавасьці, як і жыццяапісанні астатніх выбітных людзей.

Шляхетныя каталанцы і быўшыя з імі заадно згуртаванні галоўных гарадоў Грэцыі абвясьцілі на сваім з'ездзе герцагам афінскім і неапатрыйскім арагонскага караля Пэдра IV.

11 верасня 1380 года новы валадар апавясьцціў кашталяна і раду горада Афіны, што ён прыняў іхную прысягу. Бойль прасіў караля даць яму жаўнераў для ўзмацнення гарнізона гарадзкога ўмацавання, і Пэдра выправіў з ім дванаццаць стралкоў. Із гэтага можна бачыць, якімі нікчэмныя былі да вынаходніцтва гармат гарнізоны гарадоў.

У загадзе свайму скарбніку Пэдра заўважыў, што ён лічыць гэтае падмацаванне патрэбным з той нагоды, што ўмацаванне Сэцін (як зваўся на працягу ўсяго сярэдневечча сучасны Акрапаль) з’яўляецца лепшай каштоўнасьцю ў сьвеце.

Слова «Акрапаль», – сведчыць Грэгарэвіус, – было цалкам невядомым на працягу ўсяго сярэдневечча. Так паэт Ламбер ле-Тор выказваецца ў сваёй «Аляксандрэідзе» што Афіны непрыступныя, таму што размешчаны над морам, а пра Акрапаль ён ведае так жа мала, як і Бакачыа ў сваёй «Тэзеідзе». Ні той, ні другі не знаходзілі ў сваіх першакрыніцах гэтага псеўда-антычнага найменя. Гішпанцы, як і ўсе франкі, называлі гэтае сваё афінскае ўмацаванне Castell Setines (Сэцінскі замак), і толькі на пачатку кнігадрукавання за ім замацавалася такая частая ў класічных грэцкіх пісьменнікаў назва Акрапаль (па-руску: верхні горад). Гэта азначае што і пабудаваны ён быў не раней заканчэння сярэднявечча.

Каталонскі дасьледчык, якому мы абавязаны гэтым і шматлікімі іншымі паведамленнямі пра Пэдра IV, як пра герцага афінскага, з поўным правам выводзіць із вышэйпрыведзенага выслоўя караля, што каталонцы былі далёка не такімі пазбаўленымі якога б то ні было пачуцця хараства жаўнерамі, як прынята лічыць. Сам Пэдра IV быў вельмі адукаваным чалавекам, астролагам, алхімікам і цудоўным трубадурам. Падобна свайму дзеду Хаіму I, ён нават стварыў на каталонскай мове хроніку свайго валадарання. І яго ўхвальныя словы пра ўмацаванне Сацін з'яўляюцца, – кажа Грэгарэвіус, – як бы першым раптоўным праблiскам пачынаючагася «Адраджэння». У Лярыдзе, із якой ён пісаў прыведзены намі ліст, існаваў ад 1300 года самы старажытны каталонскі ўніверсітэт, дзе выкладалі подач з юрыспрудэнцыяй і медыцынай таксама і філасофію і вольныя мастацтвы. Эпоха Пэдра IV была часам росквіту навук і паэзіі ў Каталоніі і Арагоніі.

Цікава, што **адным із першых дзеячаў гуманізму быў арагонец** Хуан Фердынанд дэ-Эрэдыа, сучаснік валадарання каталонцаў і Афінах. Знакаміты госмейстар ордэна янітаў, ён быў сябрам Пэдра IV, якога падтрымаў у міжусобнай вайне супраць арагонскай вуніі. Якім ні кароткачасовым было знаходжанне Эрэдыа на Родасе і ў Грэцыі, ён паспеў, аднак, набыць там некаторыя веды. Ён загадаў перакласьці французкую хроніку Марэі на арагонскую мову, і сабраў у сваім авіньёнскім палацы цэлую бібліятэку. Гуманітарная адукацыя робіць гэтага гішпанца адным із самых выбітных прадстаўнікоў ранняга адраджэння, побач з Пятраркай і Бакачыа.

Пэдра IV асабліва ўважліва ставіўся да мегарскага біскупа, якому дараваў маёнткі ў Фівах і прызначыў рэнту із прыбыткаў капэлы св. Варфаламея, уладкаванай у палацы ў Сэціне (Акропалі). Гэта першае паведамленне пра палац у афінскім умацаванні і пра размешчаную ў ім капэлу. Разам з тым ён загадаў свайму

віцэ-каралю паклапаціцца, каб усе незаконна адабраныя ў грэцкіх цэркваў уладанні былі ім вернуты.

Новы валадар Афінскага герцагства імкнуўся стварыць найлепшыя дачыненні з грэкамі, сярод якіх ён меў не мала мужных і адданых прыхільнікаў.

Пэдра ўзнагародзіў сваіх прыхільнікаў, грэкаў і франкаў, прывілеямі і маёнткамі. Так, Бернарда Балестар атрымаў замак Стыры ў Беотыі, а Якаву Ферцеру, які пры заваяванні Лівадыі страціў свае маёнткі, былі дараваны ўладанні аднаго здрадніка.

У ленным рэгістры караля Пэдра IV пералічаны самыя значныя феадалы Афінскага герцагства пад гішпанскай уладай і паміж імі: «Дон Людовік Фадрыке дэ-Арагон, граф Сола і валадар Цэйтуна».

Ён памёр у другой палове 1382 года і разам з ім знік апошні выбітны чалавек каталонскіх Афінаў і загас яго род. Ад сваёй жонкі Алены Кантакузен ён меў толькі адну дачку Марылю, спадкаемцу Салоны і Цэйтуна. Дынастычны лёс графства зараз залежаў ад адружання гэтай дзяўчыны, і яшчэ пры жыцці дона Людовіка віконт Ракаберці прасіў руку Марылі для свайго сына Бернадуха, і маладыя людзі былі, сапраўды, заручаны са згоды караля Пэдра.

Але самога віконта ў гэты час не было ў Грэцыі. Юнай прынцэсе пагражаў лёс няшчасьлівай Матыльды Генегаў. Спачатку яна была даручана апекаванню вялікага юстыцыарыя дона Артале дэ-Алагона, але ў 1379 годзе граф Агаста, адзін із прыхільнікаў Пэдра, выкраў інфанту і завёз яе ў свой замак Агаста на Сіцыліі. Ракаберці каля 1382 года з чатырма галерамі прыехаў туды і забраў інфанту з сабой ў Кальяры, але кароль Пэдра адружыў з ёю свайго ўнука Марціна.

У ліпені 1383 года памёр Якаў дэ-Бо, апошні франкскі валадар, меўшы тытул грэцкага імператара.

Майёта дэ-Какерэль, былы балі рода дэ-Бо, завалодаў разам са сваімі жаўнерамі яго зямлёй так жа, як гэта некалі раней зрабілі каталонцы з Атыкай і Беотыяй. Ён абвясьціў сябе імператарскім балі Ахейскага княства і горада Лепанта, а наступныя за ім згодна са значэннем кіраўнікі, П'етра Бурда дэ-Сэн-Суперан і Берарда Варваса прысвоілі сабе званне імператарскіх капітанаў таго ж княства. Такім чынам наварцы занялі ў краіне месца французкага леннага дваранства, і захапілі ахейскія маёнткі Ач’яолі.

Але жыццёвыя сілы гішпанскай арыстакратыі ў Элладзе былі ўжо вычарпаны. Без непасрэднай сувязі з мясцовым насельніцтвам і са сваёй радзімай, яны закончылі асіміляваннем з грэкамі.

# Глава VIII

## Афінскае герцагства пры фларэнтыйскім пратэктараце.

Адважным чалавекам, якому было наканавана прагнаць рэшткі каталонцаў із краіны, быў не ваяр, а купец Нерыо, успадкаваўшы поспех і значную частку маёмасьці свайго прыёмнага бацькі Міколы Ач’яолі. Хаця Нерыо і быў уладальнікам карынфскай гавані, адкуль ён выпраўляў піратаў за здабычай, у яго самога не было вайсковых караблёў. Яго войска таксама было нязначным, яно складалася галоўным чынам із наймітаў: албанцаў і турак. Ён таксама шукаў рукі юнай Марылі для свайго сваяка П'етра Сарачэна. Але яе ганарлівая маці, адмовіўшы яму як выскачцы, заручыла сваю дачку са Стэфанам Дукай, сербскім

князьком у Фесаліі. Абражаны Нерыо пачаў супраць яе вайну, і гарнізон, страціўшы надзею на падмацаванне із Гішпаніі, здаў яму замак Сацін (згодна з сучаснай назвай – Акропаль) каля 1387 года. Такім чынам пляменік Мікола Ач’ьяолі зайшоў пераможцай у афінскае ўмацаванне, і каталонскаму панаванню надышоў канец.

Ні ў аднаго летапісца мы не знаходзім ніякіх паведамленняў, калі і як не стала каталонцаў у Грэцыі. Усе гэтыя Ларыа, Навелесы, Фустары, Балестары да такой ступені зніклі із Атыкі, што самыя старанныя пошукі не могуць выявіць ніводнага сьледу ад іхнага былога існавання. Ні ў Афінах, ні цалкам у Грэцыі каталонцы не пакінулі ніякіх помнікаў свайго валадарання, калі мы не дапасуем да часу іхнага кіравання частку атычных руінаў.

Са з'яўленнем Нерыо ўлада фларэнтыйскага капіталу замяніла ў Афінах рыцарства крыжовых паходаў і вайсковую дзяржаву гішпанскіх канкістадораў.

Гісторыя Фларэнтыйскай рэспублікі ўяўляе сабой выдатны прыклад горада, культурна-гістарычнае значэнне якога на вечныя часы адбілася на жыцці чалавецтва. Ніводны горад не даў такой колькасьці розумаў, вытанчанасьці і хараства, як Фларэнцыя, і ўжо на прыканцы XIV стагоддзя яна дасягнула заўважаемага становішча. З вялікай дальнабачнасьцю яна здолела захаваць сваю незалежнасць, нягледзячы на бязлітасныя звады гвельфаў і гібелінаў, дваранства і простага люду, і здолела пазбегнуць тыраніі. Павага да волі, патрыятызм і нястомная энергія ва ўсіх грамадзкіх і прыватных справах паставілі гэты горад на першае месца сярод усіх астатніх гарадоў-згуртаванняў сярэдняй Італіі. Разумнае дэмакратычнае заканадаўства паслабіла няроўнасць паміж станамі і стварыла вольную дзяржаву, у якой кожны сумленны і энергічны грамадзянін меў магчымасць дасягнуць самым высокіх прыступак пашаны.

Венецыя, Генуя і Піза, занятыя каланіяльнымі справамі ў Грэцыі, мала звярталі ўвагі на справы ў Італіі. Папства было ў выгнанні ў Авіньёне, і пульс нацыянальнага жыцця Італіі біўся пад час гэтай эпохі пераважна ў Фларэнцыі. Тут быў першы цэнтр сучаснай еўрапейскай культуры. Галоўныя ручаі пачынаючагася «класіцызму» ў выглядзе яго апакрыфічнай літаратуры сцякаліся ў гэту майстэрню гуманізму, у дзейнсьці якой хутка пачалі браць ўдзел і перасяліўшыя сюды грэцкія навукоўцы і пісьменнікі.

Калі Нерыа Ач’яолі зрабіўся афінскім гаспадаром, Фларэнцыя была ўжо заліта сьвятлом ранняга адраджэння. Арнольфа, Джыёта, Андрэа Пазана і Аркап’я ўпрыгожылі гэты горад сваімі творамі. Аднаго генія Дантэ было б дастаткова, каб забяспечыць ёй вечную славу. Пасьля Дантэ з'явіўся Пятрарка, найвялікшы лірык Італіі са здзіўляючай цікаўнасьцю да ўсіх абласьцей ведаў. А Бакачыа, сябар вялікага сенешаля Ач’яолі, у гэты час ужо скончыў сваю бліскучую дзейнасць паэта і прадвесніка антычнай навукі. Ён памёр 21 снежня 1375 года, за дзесяць гадоў да таго, як Нерыа стаў валадаром Афінаў. А пасьля яго Дына Кампан’і і Вілані адкрылі доўгую чараду выдатных фларэнтыйскіх гісторыкаў.

Нерыа Ач’яолі наладзіў ажыўленыя стасункі італьянцаў з Афінамі, і яны ўступілі ў апошнюю стадыю свайго самастойнага жыцця пад уладай франкскіх валадароў, якая можа быць названа фларэнтыйскай эпохай. Дарэчы, фларэнтыйцы наладзілі больш блізкія і больш гуманныя адносіны з грэкамі, чым іхныя папярэднікі.

Так лёгка дастаўшаяся Нерыо герцагства Афінскае складалася ў належачых яму частках із Мегары, Атыкі і Беотыі, але ў гэты апошні край ўжо праніклі туркі,

якія, напэўна, у якасьці часовых хаўруснікаў Нерыа ці яго наймітаў, занялі Лівадыю. А Сілона і Баданіца засталіся па-за ўладай Нерыа так жа, як і Аргаліда, належаўшая роду Энгіен. Такім чынам толькі Атыка і Беотыя зведалі поўны пераварот у сваіх маёмасных стасунках. Разам з гішпанскім валадараннем тут знік і феадалізм. Ранейшыя валадары зніклі, іх змяніў заможны купец і набытыя ім землі былі яго прыватнымі ўладаннямі. Ён мог раздаваць іх сваім сябрам і супрацоўнікам, але баронамі ён іх не рабіў.

Нерыа не браў удзел у справах лацінскай царквы ў Грэцыі. Рэзідэнцыяй каталіцкага архібіскупа застаўся Партэнон. Але, не зважаючы ўвагі на незадавальненне лацінскага сьвятарства і рымскай курыі, ён прызнаў правы і грэцкага мітрапаліта Дарафея, прызначанага ў Афіны сінодам із Фесалонік.

15 студзеня 1387 года ў Афінах Нерыа даў адной асобе дыплом на грэцкай мове, які грунтуючыся на гэтым факце, быў тут афіцыйна прызнаным так жа, як у Аргасе, у Наўпліі і на венецыянскім Корфу.

Імператара візантыйскага і ўсю нацыянальную партыю элінаў ён схіліў на свой бок аднаўленнем праваслаўнай царквы ў Афінах, потым у 1388 годзе ён адружыў сваю дачку Барталамею, самую прыгожую дзяўчыну таго часу (як яе назваў Халкакандзілас), з грэцкім прынцам на Пелапанэсе Хведарам Палеолагам, якога імператар Ян V, яго бацька, прызначыў дэспатам Мізітры. У якасьці пасага яна прынесла яму права на будучае валоданне Карынфам. Другую сваю дачку, Франчэску, ён адружыў з Карлам Тонка I, пфальцграфам кефалонскім і закінфскім і герцагам леўкадыйскім, адным із самых буйных валадароў заходняй Грэцыі.

Заступніцтва Венецыі зрабіла фларэнтыйскага авантурыста ўсемагутным. Рэспубліка св. Марка зноў дабілася поўнага панавання на прасторах грэцкіх мораў, дзе плавала тры тысячы венецыянскіх караблёў. Без вялікіх цяжкасьцей венецыянцы набылі на Грэцкай паўвыспе гавані Аргас і Наўплію, дзе род д'Энгіен згас разам з Гвіда, пакінуўшага спадкаемніцай адзіную дачку Марылю. Яшчэ падчас панавання каталонцаў у Афінах ён прызначыў яе ў жонкі Хуану да Ларыо, але палітычнае мастацтва Венецыі скасавала гэтае адружанне і пасьля сьмерці Гвіда ўладкавала ў 1377 годзе адружанне Марылі з венецыянскім дваранінам П'етра Карыара. Жанчыны заўсёды былі падставай дынастычных змен у франкскай Грэцыі, і зараз адна з іх прынесла Венецыі Аргас і Наўплію.

Венецыянцы занялі Наўплію, але ў Аргасе іх папярэдзіў дэспат мізітрыйскі Хведар. Падахвочваемы сваім зяцем Нерыа, ён наладзіў нечаканы напад на ўмацаванне. Цяжкасьць збірання дастатковага флоту і баязнь усхваляваць Грэцыю вайной, якая магла б прынесьці карысць толькі туркам, заахвоцілі венецыянскую сеньярыю выкарыстаць замест зброі сродкі дыпламатычнага мастацтва. І яна дзеля гэтага заключыла хаўрус з наварцамі на Пелапанэсе.

Згодна з запрашэннем Сэн-Суперана ўладзіць спэчкі пра Аргас на асабістым спатканні на Пелапанэсе, Нерыа, забяспечаны ахоўнай граматай, з'явіўся да сваіх падступных ворагаў. А яны захапілі яго і заняволілі ў замку Лістрэн.

Каб вызваліцца, ён абяцаў аддаць венецыянцам у якасьці закладніцы самую шануемую сваю дачку Франчэску, якая будзе ўтрымліվацца ў Неграпонтэ да таго часу, пакуль Аргас будзе канчаткова перададзены рэспубліцы. А трымаўшыя яго ў палоне наварцы са свайго боку запатрабавалі ад яго яшчэ і значны выкуп. Для гэтай мэты Нерыа канфіскаваў амаль усе царкоўныя скарбніцы сваёй краіны і абабраў нават Партэон, зняўшы срэбныя шчыты з яго партала. Калі ўмацаванне

Магара было перададзена венецыянцам, ён атрымаў волю і напрыканцы таго ж года вярнуўся ў Карынф.

Вызваліўшыся із палону, Нерыа пачаў з дапамогай дыпламатычнага мастацтва спраўляцца са сваімі цяжкімі акалічнасьцямі. Каб скасаваць разлікі наварцаў, ён прапанаваў хаўрус графу савойскаму.

А тым часам султан Баязет, жорстка ціснуўшы пасьля заваявання Сербіі на працягу некаторага часу на імператара Мануіла, заключыў з ім мірную дамову і на прыканцы 1392 года выправіў свайго пашу Эўрэнас-бека з войскам на Фесалію. Нерыа, дарэмна клікаўшы на дапамогу венецыянцаў, выратаваўся тым, што адразу ж прызнаў сябе васалам і даннікам султана. З гэтага моманту лёс Афінаў быў толькі пытаннем часу.

Нерыа абвінаваціў грэцкага архібіскупа Зьміцера ў тым, што ён, дзякуючы нацыянальнай нянавісьці да латынянаў, паклікаў турак і такім чынам заплаціў здрадай за дабрадзействы зробленыя праваслаўнай царкве новым валадаром Афінаў. Мітрапаліт збег у Канстантынопаль, дзе стаў пад абарону сінода. Але Нерыа запатрабаваў ад візантыйскага патрыярха пазбавіць здрадніка пасады. Сінод апраўдаў Зьміцера ў вылучаных на яго абвінавачваннях, але прызначыў афінскім мітрапалітам замест яго Макарыя.

Турэцкая небяспека вымусіла Нерыа сур'ёзна ўладкаваць свае непаразуменні з Венецыянскай рэспублікай. Ён прымусіў Хведара здаць Аргас венецыянцам, а сам атрымаў ад іх назад Мегару. Ён памёр у верасні 1394 года, перадаўшы ўсю краіну пад абарону Венецыянскай рэспублікі.

Дачка знакамітага грэцкага натарыуса Зьміцера, Марыля Рэндзі, была яго каханкай, і із таго, што ў сваім тэстаменце ён загадвае, каб гэтая жанчына была ад гэтага часу вольнай і захавала сваю маёмасць, відаць, што франкскае права яе бацькі не шырылася на яе. Нерыа меў ад яе незаконнага сына Антоніо, якому адпісаў замак Лівадыю і кіраванне Фівамі. Сваю старэйшую дачку, жонку дэспата Хведара, ён лічыў дастаткова забяспечанай і таму пакінуў ёй толькі пазыковы абавязак на 9 700 дукатаў, Франчэску ж, жонку Карла Тока, прызначыў сваёй універсальнай спадчынніцай. Яна павінна была атрымаць Мегару і Базіліку, таксама як і іншыя належаўшыя яму землі, якія яшчэ не былі адпісаны іншым.

Нерыа пакінуў легаты і іншым сваякам, прызначыў вялікія сумы на дабрачынныя мэты і вярнуў капітулам канфіскаваныя ў іх цэрквы. З асаблівай набожнасьцю ён паставіўся да Партэнона (храма Санта-Марылі ў Афінах), дзе ён жадаў быць пахаваным. Ён пакінуў гэтай царкве капітал дастатковы для ўтрымання дваццаці сьвятароў, якім ставілася ў абавязак служыць імшы за спачын яго душы. Сваю каштоўную стайню ён таксама адпісаў Партэнону. Увесь посуд і каштоўнасьці, забраныя ім у час патрэбы на выкуп сябе ад наварцаў, павінны былі быць вернуты цэркве, яе галоўныя дзьверы нанова пасярэбраны, яе ўтрыманне і рамонт не павінны былі пераносіцца на сродкі горада. Нават і сам горад Нерыа адпісаў ва ўласнасць Партэнону[57], і ўсе правы, дараваныя гэтаму храму, паставіў пад абарону Венецыянскай рэспублікі.

Адсюль і узнікла легенда, што Афінская Панна (Афіна Партэнас) была пад час класічных часоў заступніцай Афін.

У якасьці царкоўнай маёмасьці, горад зрабіўся духоўнай бароніяй Партэнона, якою ўжо быў у гэты час Патрас, метраполія Ахаі. Ён ставіўся да

[57] Вось уласны тэкст гэтага месца тэстаменту: item lassamo all ecclesia di S. Maria di Athene la citta di Athene con tutte le sue pertinentie e ration.

прычта Партэнона прыблізна ў такія ж дачыненні, як Рым да сабора апостала Пятра ў да папы, але гэта працягвалася нядоўга.

Усе ўсходнія эліны ў гэты час ужо прызнавалі Баязета сваім валадаром. Нішто не рабілася без яго згоды, кожны валадар, пачынаючы з самога візантыйскага імператара, быў яго васалам, купляў яго ласку данінай і, думаючы пра самазахаванне і ўзмацненне, пакладаўся на асманаў. Грэцкія валадары цiснуліся пры яго двары ў Адрыянопалі, пад яго сьцягамі служылі нават сыны імператара. Жахлівы легіён янычараў утварыўся із хрысьціянскіх дзяцей, адарваных ад родных сядзібаў і выхаваных у ісламіцстве.

Праваслаўны мітрапаліт Макарый, раз’юшаны з нагоды пераходу Афінаў да лацінскай царквы, пачаў таемныя перамовы з туркамі, і праз некалькі месяцаў пасьля сьмерці Нерыа паша Цімуфташ уварваўся ў Атыку і без цяжкасьцей захапіў ніжнюю частку Афінаў. Толькі ў Акропалі, узмоцненым падчас панавання гішпанцаў новымі ўмацаваннямі, трымаўся адважны намесьнік Матэа-дэ-Мантона, адзін із душапрыказчыкаў Нерыа.

Цясьнімы туркамі, ён выправіў пасланнікаў у Неграпонт, прапануючы тамтэйшаму венецыянскаму бальі Андрэа Бемба вызваліць горад і завалодаць ім на карысць рэспублікі на ўмовах, забяспечваючых афіянам іхныя правы і вольнасьці. Бемба выправіў із Эўбеі атрад, які вымусіў турак адступіць із Афінаў і Атыкі. Тады Мантана здаў венецыянцам Акропаль, і напрыканцы 1394 года ільвіны сьцяг св. Марка ўпершыню залунаў на зубцах уяўнага ўмацавання Кекропса.

18 сакавіка 1395 года сенат Венецыі пастанавіў прыняць на сябе кіраванне горадам. У сваім акце ён абвяшчаў, што не годна для рэспублікі адмаўляцца ад Афінаў, таму што ў іншым выпадку яны пяройдуць у рукі турак, чым будуць вырачаны на згубу суседнія ўладанні, якія маюць вялікую каштоўнасць для Венецыі. Рэспубліка ўступае ў валоданне горадам, прызнаючы і зацверджваючы ўсе правы, вольнасьці, прывілеі і спрадвечныя звычаі, выкананне якіх ужо пад прысягай абяцана неграпонтцкім бальі ў дамове з Матэа дэ-Мантона. У пастанове рады была і непасрэдная спасылка на тэстамент Нерыа, згодна з якім рэспубліка павінна была ўзяць на сябе кіраванне над Афінамі. Але дараванне ўсяго горада Партэнону было замоўчана. З нагоды таго, што ахова Афінаў патрабавала вялікіх выдаткаў, то нават была прынята пастанова часова скараціць колькасць яго канонікаў да васьмі.

Герцагства Афінскае магло зараз лічыцца неіснуючым; Карынф, які быў злучаны з ім толькі праз асобу Нерыа, належаў Хведару дэспату Мізітры; Мегара – графу Тока, Беотыя – Антоніа Ач’яолі; а іншыя вобласьці, быўшыя некалі правінцыямі ці бароніямі герцага Афінскага, у гэты час былі адарваны ад Афінаў турэцкім нашэсьцем. Толькі Атыка і Аргаліда былі пад уладай Венецыі.



Мал. 33
Мастацкія залатыя і срэбныя рэчы герцагінь і прынцэс рыцарскай Грэцыі XIII стагоддзя, дапасуемыя артадаксальнымі класікамі да дагістарычнай старажытнасьці: 1 і 2 – ланцужкі; 3 – жаночы пояс; 4 – бранзалет; 5 – завушніца (згдна з Гіро. Прыватнае і грамадзкае жыццё грэкаў).

# Глава IX

## Першае з'яўленне «персаў-заваёўнікаў» у паўвыспавай Грэцыі.

У 1393 годзе Баязет, «цар персаў» (як тагачасныя грэкі называлі сваіх азіяцкіх заваёўнікаў, якіх мы зараз называем туркамі), захапіў Відын, Нікапаль і Сілістрыю, пазбавіў пасады апошняга баўгарскага караля Сысмана і далучыў яго

зямлю да сваёй манархіі. Потым ён завалодаў гарадамі каля Чорнага мора і македонскім узбярэжжам і, аблажыў Канстантынопаль, адрэзаўшы яго ад навакольнага сьвету. Сярод грэцкіх валадароў, яго даннікаў, якія сабраліся пры яго двары ў Сасеры, быў таксама дэспат Хведор, брат Мануіла. Але Баязету надакучылі іхныя нямоглыя падкопы, і ён вырашыў канчаткова захапіць элінскія правінцыі. Яго войска, выпраўленае праз Атрыс захапіла Ларысу, Фарсал і Цэйтун, спусьціўшыся ў даліну Сперхія, захапіла Неапатрыю, некалі злучаную з герцагствам Афінскім, і ўварвалася ў Факіду і Лакрыду праз Фермапілы.

Уладальніцай Салоны была яшчэ Алена Кантакузін, удава апошняга Фадрыкэ, але там сваволіў яе каханак сьвятар. Частка грэкаў была ў хаўрусе з туркамі; факідзкі арцыбіскуп Серафім здрадзіў роднай краіне і перадаў яе султану. Ледзь толькі паказаліся туркі, Алена адчыніла ім вароты горада. Баязет трымаў яе з тых часоў у ганаровым палоне, а яе дачка Марыля была ўзята ў яго гарэм. Такім было заканчэнне роду графа Салонскага. Горад і ўся Факіда сталі турэцкімі.

Асабіста аблажыўшы Канстантынопаль, султан Баязет выправіў свайго вайсковага правадыра Якуба і Эўрэнас-бека з пяцідзесяцітысячным войскам на Пелапанэс. Першы раз асманскае войска прыйшло ў Грэцыю праз перасмык. Аргас здаўся 3 ліпеня 1397 года. Горад быў разрабаваны і насельніцтва прададзена ў рабства. Венецыянцы здолелі затрымацца толькі ў Наўплійскім умацаванні.

Франкская Марэя ў гэты час належала наварскаму вікарыю Суперану. Князем Ахайскім яго прызначыў у 1396 годзе кароль Уладзіслаў з дапамогай такога ж дыплома, якім ён раней узвёў Нерыа Ач’яолі у званне герцага афінскага. Суперан выратаваўся ад прыступу, зрабіўшыся даннікам султана.

Спарта таксама змагла пазбегнуць пагражаўшай ёй долі. Дэспат Хведар утрымаўся тут і ў іншых умацаваннях дзякуючы таму, што туркі былі недастаткова моцнымі, каб скарыць Лаконію.

А венецыянцы працягвалі пры дапамозе сваіх падэстаў і капітанаў кіраваць Афінамі, у якіх усё яшчэ заставаліся прыхільнікі рода Ач’яолі. Апошні прадстаўнік гэтага рода Антоніа ў 1402 годзе раптоўна завалодаў гэтым горадам пры іхнай дапамозе і аблажыў яго замак Сецін, які мы зараз завём Акропалем. Калі апошні конь і апошняя траўка ва ўмацаванні былі з'едзены, яго венецыянскі гарнізон здаўся.

Заваяванне Афінаў сыну Нерыа палегчыла гіганцкая катастрофа, часова скасаваўшая магутнасць турак і трымаўшая усе заходнія дзяржавы ў ліхаманкавым узрушэнні. Жахлівым правадыром гэтага ўрагану быў Цімур. Пераможна пройшоўшы праз Сірыю ў Арменію і Малую Азію, ён сустрэўся тут з дзяржавай султанаў, адзінай азіяцкай дзяржавай, здольнай перагарадзіць яму шлях.

Змаганне двух самых магутных валадароў гэтага часу за права валодання Пярэдняй Азіяй і, магчыма, сусветнага панавання была вырашана ў крывавай бітве каля Ангоры 20 ліпеня 1402 года. Цудоўна ўзброенае і дысцыплінаванае войска Баязета было знішчана масай мангольскіх ордаў, сам ганарлівы султан быў палонным прыведзены ў намёт Цімура. Канстантынопаль і грэцкія дзяржавы былі амаль з дапамогай цуда пазбаўлены ад немінучай пагібелі. Цімур захапіў Брусу; ён зрабіў сваім васалам імператара невялікага, але квітнеючага Трапезунда і разбурыў Сьмірну; але каля Гелеспонта ён спыніўся, таму што акрамя 22 трапезундзкіх караблёў у яго не было флоту, які змог бы пераправіць яго войска ў Яўропу. Разбурыўшы дзяржаву асманаў у Малой Азіі і аднавіўшы, у якасьці сваіх васалаў, заваяваных яшчэ Мурадам, сяльджукскіх князёў у іхных уладаннях Ментэшы,

Кермане, Айдыне і Кірамане, ён у 1403 годзе пакінуў пярэднюю Азію і вярнуўся ў Самарканд.

Вестка пра гэтыя надзвычайныя падзеі дайшла да імператара Мануіла, калі ён знаходзіўся пры двары Карла VI у Парыжы, куды прыбылі пасланнікі, заклікаючы яго ў Канстантынопаль і даючы яму нават надзею на хаўрус з Цімурам. Але перш чым ён паспеў здабыць на Захадзе сродкі і войска для вяртання на радзіму, Сулейман, старэйшы сын Баязета, быў абвешчаны ў Адрыянопалі наступнікам свайго бацькі.

Цяжкае становішча ў Яўропе і Малой Азіі, дзе сельджукскі валадар Карамана і іншыя валадары ставіліся да яго варожа, вымусіла султана перадусім уладкаваць усе непаразуменні з усходне-еўрапейскімі дзяржавамі. Грэцкаму імператару ён вярнуў Фесалонікі з македонскімі правінцыямі, выспы Скапелас, Скіатас, Скірас, усю Фесалію, частку Пелапанэса і нават умацаванні на чарнаморскім узбярэжжы. Родасцам ён саступіў Салону; Венецыянскай рэспубліцы ён абяцаў вярнуць Афіны і даравать пляцоўку роўную пяці мілям даўжыні на грэцкай паўвыспе каля Эўрыпа насупраць Неграпонта.

Але перадачы Афінаў, пазначанай у мірнай дамове, венецыянская сіньёрыя так і не дамаглася ад яе нечаканага ўладальніка Антоніа. Рэспубліка прыйшла да высновы, што лепш адмовіцца ад фактычнага валодання Афінамі, зрабіўшы сына Нерыа толькі сваім васалам. Такая дамова і была складзена 31 сакавіка 1405 года ў Венецыі. Рэспубліка дазволіла яму валодаць краінай, умацаваннем і горадам, з усім належачым, правамі і перавагамі, а ён і яго спадкаемцы павінны былі штогадова ў калядны дзень ахвяраваць цэркве Св. Марка ў Венецыі шаўковую плашчаніцу коштам ў 1 000 дукатаў. Акрамя таго, ён абавязаўся быць сябрам сяброў і ворагам ворагаў Венецыі.

Забяспечыўшы сабе мір з султанам, грэцкі імператар каля 1415 года пачаў з надзвычайнай стараннасьцю будаваць «Гексаміліён", г.азн. загараджаючую сьцяну праз Істм, з дапамогай венецыянцаў. Грэкі лічылі, што такая перашкода зробіць Пелапанэс недаступным для непрыяцеля. Тысячы працоўнікоў былі сабраны для гэтай гіганцкай пабудовы. 13 сакавіка 1415 года Канстантынопальскі імператар сам прыбыў у Кенхрэю, дзе яго віталі прадстаўнікі венецыянскіх кіраўнікоў Мадэна і Корана: 8 красавіка пачаліся працы, і за 26 дзён паміж двума морамі вырасла вялізная сьцяна з іравамі, двума ўмацаваннямі і 153 умацаванымі вежамі. 26 чэрвеня імператар напісаў із Гексаміліёна ліст дожу Тамаза Мачаніга, у якім паведамляў яму пра заканчэнне прац, і венецыянцы павіншавалі яго. Сучаснікі былі здзіўлены гэтай пабудовай, але ў іх хутка з’явілася падстава каб пераканацца, што для янычараў яна не ўяўляла вялікай перашкоды.

У той самы час, калі паўночная Эллада ўжо перайшла пад уладу туркаў і воблака пагібелі ўжо насілася над усёй Візантыяй, апошнія праблескі нацыянальнай сьвядомасьці грэкаў захаваліся на Пелапанэсе. Мануіл II мог лічыцца вярхоўным валадаром і ў франкскай Марэі, дзе Чэнтурыёнэ прынёс яму прысягу. Такім чынам цэнтр цяжару грэцкай манархіі, страціўшай амаль усе свае складовыя часткі, быў перанесены на Пелапанэс, пакуль яшчэ параўнальна бяспечны ад напору туркаў. Мізітра (ці Спарта) з'яўлялася ў гэты час палітычным і духоўным цэнтрам элінізму.

# Глава X

# Рэчаісны пачатак чароўнай казкі пра старажытную класічную Элладу.

Мы пераканаліся толькі што, што ў «Рыцарскай Грэцыі» XII-XV стагоддзяў былі і сродкі і здольнасьці для ўзвядзення тых будынкаў, наяўнасць якіх зараз уражвае наша ўяўленне, і што раней гэтага перыяду ў ёй не існавала і не магло існаваць для іх ні сродкаў, ні здольнасьцей, ды і жылі ў ёй, згодна з высновамі этнографаў, не грэкі, а славяне.

А адносна таго, што ў структуры каталіцкіх храмаў Эпохі Адраджэння існавалі такія ж статуі, як і ў структуры грэцкіх храмаў, прапісваемых так званай грэцкай класічнай старажытнасьці, не можа быць сумневаў. Вось напрыклад, хоць бы тры скульптурныя выявы, захаваўшыяся ў сьцяне старажытнага сабора ў Бэмберзе (мал. 34).



Мал. 34
Статуі ў сьцяне старажытнага каталіцкага сабора ў Бамбергу ў Баварыі, як доказ аднастайнасьці каталіцкай царкоўнай структуры Эпохі Адраджэння са структурай грэцкіх храмаў, няправільна дапасуемых да дахрысьціянскай старажытнасьці.

Але як жа і калі за Грэцыяй была ўсталявана рэпутацыя яе ранейшай, але знікшай велічы? – Цалкам такая ж як і за ўсімі цудадзейнымі парэшткамі ў праваслаўных і каталіцкіх кляштарах. Падобна таму як адзін із шарлатанаў, выведзеных на падмосткі Мальерам, сказаў: «calomniez, calomniez, il en restera toujors quelque chose!», так можна сказаць і наадварот: «хваліце, хваліце каго заўгодна, і за ім утворыцца арэол велічы!» На гэтым заснавана кожная рэклама, а таму нам застаецца толькі адказаць на пытанне: чым жа пачалося рэкламаванне Афінаў падчас крыжовых паходаў і пад час рыцарскага перыяду Грэцыі? Гэтае пытанне адказвае само за сябе: самімі крыжовымі паходамі і самім яе рыцарствам! Тут упершыню павінна было набыць развіццё паўнапраўнасць жанчын і нават яе культ сярод мужчын.

Калі пад час першых гадоў каланізацыі Амерыкі і Аўстраліі ў гэтыя краіны пераехалі амаль выключна адны мужчыны, якія знаходзілі сабе сяброўак толькі сярод дзікіх і мала іх разумеючых тубыльных, каляровых жанчын, кожная прыехаўшая туды маладая і добра разумеўшая іх міс здавалася адвыкшым перасяленцам спусьціўшымся з неба анёлам, за якога кожны быў гатовы кінуцца ў полымя і ў ваду. Так было, вядома, і тут, і ў гэтым натуральная разгадка таго ўплыву, які набылі ў Грэцыі, прыязджаючыя сюды заходнія француженкі, італьянкі і гішпанкі, вольна размаўляўшыя на той жа самай мове, што і рыцары і з тымі ж культурнымі звычкамі і расавымі асаблівасьцямі. І жанчыны, вядома, выкарысталі свае перавагамі тут як для інтэлектуальнай, так і для грамадзянскай эмансіпацыі, не губляючы сваёй жаноцасьці, што мы і бачым на прыкладзе жаночых тыпаў класічнай літаратуры. Адлюстраванне іхнага арэолу на іхных радзімах і чуткі пра подзвігі іхных герояў-рыцараў, старазова павялічаныя дзякуючы аддаленасьці і стварылі пра Грэцыю чароўнае ўяўленне. А пасьля заваёвы Псеўда-Ерусаліма туркамі, калі арэол непераможнасьці гэтых Ахілаў і Аяксаў – пачаў тускнець, а іхныя нашчадкі, не атрымліваючы новых падмацаванняў і матэрыяльных сродкаў з Захаду, пачалі драбнець, дзічэць і асіміляваціца з новымі пераможцамі, увесь гэты арэол пачаў дапасоўвацца і таксама цалкам натуральна з этна-псіхалагічнага боку гледжання, да ўяўляемай «старажытнай Грэцыі», дзе быццам бы і былі створаны гэтыя літаратурныя, паэтычныя, мастацкія і архітэктурныя творы.

«*Спарта» Палеолагаў,* – сведчыць гісторык горада Афіны часоў сярэдневечча Фердынанд Грэгарэвіус, – за якім я тут іду як верны спадарожнік пры выкладанні ўсёй фактычнай часткі майго твора[58], – *была маленькім мястэчкам, адрэзаным ад усяго сьвету і знаходзіўшымся ў пастаянных стасунках з непакорлівымі плямёнамі Тайгета. Візантыйцам насельніцтва Лаконіі здавалася, вядома, грубым і варварскім. Тое, што некалі Міхал Акамінат казаў пра Афіны, паўтарыў зараз пра Спарту Мазарыс, аўтар аднаго сатырычнага дыялога памёршых: жыць тут азначае зведваць небяспеку ператварыцца ў варвара.* Але ёсць *доказы, што ўжо ў XIV стагоддзі ў Спарце існавала школа пісцоў старажытных рукапісаў і што Мізітрыйскі двор можна было параўнаць са шматлікімі дварамі італьянскага адраджэння, напрыклад, з дваром Монтэфельтрэ ва Ўрбіна і Ганзага ў Мантуі. Ён з'яўляецца як бы агменем грэцкага гуманізму (г.азн. класіцызму)*».

«*Там, пры двары Хведара II жыў,* – сведчыць Грэгарэвіус[59], – *знакаміты візантыец Рыгор Геміст* (Плетан), *як бы ажыўшы антычны элін, неаплатонік нападобе*

[58] Гл. 23.
[59] Стар. 309.

*Прокла і фантастычны прыхільнік старажытных багаў*[60]. *Такімі ж да некаторай ступені былі ўслед за ім і італьянскія гуманісты пад кіраўніцтвам Пампонія Лета. Цалкам зразумела, што грэк, адушаўлёны гарачай павагай да бацькаўшчыны, здольны прадстаўнік класічнай філасофіі, мог паставіцца адмоўна да тагачаснай хрысьціянскай царквы, як рымскай, так і праваслаўнай*». «*Плетан* (як і Платон) *заснаваў нейкую акадэмічную секту ў гэтым родзе. Да яго вучняў, калі не да адэптаў яго містычнай рэлігійнай філасофіі, належалі і такія выбітныя платонікі, як Мануіл Хрызалора і Вісарыён*».

«*У часы фларэнтыйскай уніі ён перанёс знічку паганства ў гэты горад. Плетан быў тут першым прадвеснікам Платона і, як пераконвае Фіцынус, меў уплыў на Казіма дзі-Медычы настолькі, што сама ідэя заснавання ў Фларэнцыі платонаўскай акадэміі абавязана пераважна яму сваім паходжаннем*».

І вось сама сабой узнікае ідэя, што першакрыніцай падання пра Платона і з'яўляецца гэты Плетан... А адносна таго, што грэцкія тэксты твораў прыпісваемых зараз Платону належаць розным больш познім аўтарам я ўжо выказваўся ў трэццяй кнізе «Хрыста».

Ад 1430 года, на абшарах усёй Грэцыі толькі адзін Антоніа Ач’яолі быў франкскім валадаром, які (хаця таксама быў ужо васалам султана) кіраваў уласнай дзяржавай, заснаванай яшчэ шляхам лацінскай заваёвы. Хаця становішча і яго дзяржавы было далёка не бліскучым, але яна ўсё ж зведала менш нягод ад жахаў вайны, чым іншыя грэцкія землі. На змрочным фоне ўсеагульнага спусташэння Афіны маглі яшчэ і зараз здавацца аазісам у пустыні.

Грэцкі гісторык, афінянін Халкакандзілас, лічыў Ач’яолі самым шчасьлівым валадаром і выказваўся пра яго так:

«*Ён жыў у дабрабыце, дзякуючы таму, што цудоўна абставіў сваё кіраванне ва ўсіх унутраных і вонкавых справах. Дамова з венецыянцамі забяспечвала яму спакой, сваёй разважлівасьці ён абавязаны доўгім і шчаслівым жыццём. Ён станавіўся больш заможным дзякуючы таму, што мудра кіраваў сваёй дзяржавай, і пышна ўпрыгожыў Афіны*» (IV, 215, 216).

Згодна з яго запэўніваннямі, гэты герцаг, улада якога па-ранейшаму была заснавана на ленным і прыгонным праве, быў надзвычай заможным і таму меў за час свайго шматгадовага кіравання магчымасць скончыць тое, што, магчыма, было пачата яго бацькам Нерыа, які, згодна са сведчаннямі гісторыка, таксама ўпрыгожыў Афіны выдатнымі пабудовамі.

Дзе ж зараз усе гэтыя пабудовы?

Грэгарэвіус на першае месца ставіць Акрапаль і прама выказваецца:

«*Гісторыя гэтага самага магутнага ўмацавання Атыкі, аж да эпохі турак хаваецца ў цемры. Верагодна ўжо ла-Рошы, а потым гішпанцы наладзілі тут умацаванне. Да 1821 года пад франкскімі бастыёнамі яшчэ хаваліся вадаводныя трубы каля Пантэона ў межах умацавання. Але наогул пабудовы і перабудовы ў Акрапалі пры ўсіх франкскіх герцагах да такой ступені схаваны для нас, што мы нічога не ведаем пра паходжанне нават так званай франкскай вежы ці пра час пабудовы «Валяр'янавай сьцяны», злучаючай невялікую частку горада з Акрапалем*».

І вось гэтая цемра рассейваецца з новага боку гледжання, паказваючага нам, што ўсе пабудовы Акрапаля зроблены на працягу рыцарскіх часоў, а ранейшымі парэшткамі, калі такія тут існавалі, з'яўляліся толькі візантыйскія ўмацаванні не раней Юстыніяна. Тое ж самае даводзіцца сказаць і пра Партэнон, які заўсёды быў

[60] Галоўны твор Плетана (з якога магчыма і спісаны Платон), кажуць, быў спалена патрыярхам Генадзем. Яго парэшткі выдадзены ў 1858 годзе «Аляксандрам», пад назвай «Traite des lois».

толькі храмам Афінскай Панны, правобразам якой, як і ў выпадку каталіцкай Мадонны, было сузор'е Панны, штогадова нараджаючае бога-Сонца, а храм Зеўса быў сярэднявечны храм хрысьціянскага бога-бацькі і г.д.

Паглядзім зараз і на літаратурныя сведчанні.

«*Перад самым заваяваннем Грэцыі асманамі*, – выказваецца гісторык сярэднявечных Афінаў, – *тут з'явілася некалькі слаўных мужоў навукі. Геміст Плетан* – як ужо было задана – *асьвяціў сваім талентам маленькую Спарту. Адначасна з ім у якасьці дзяржаўнага чалавека вылучыўся Рыгор Франца із Манембазіі – той самы, які, быдучы сасланым на Корфу, стаў пазьней гісторыкам пераходу сваёй радзімы пад уладу турак. У той жа час у Афінах з'явіўся наступнік Дэксіпа, Лаонік Халкакандылас, сын архонта.*

«*Другі Халкакандылас, на імя Зьміцер, які нарадзіўся ў Афінах у 1424 годзе, быў, здаецца, родным братам гісторыка. Сярод грэцкіх настаўнікаў Італіі ён займае ганаровае месца разам з Рыгорам Трапезундзкім* (стварыўшым Альмагест Пталямея), *Аргіропулай, Хведарам Газай, Ласкарысам і Мусурусам. Ён выкладаў у Перуджы, Фларэнцыі і Мілане, дзе і памёр да 1511 года. Пад яго рэдакцыяй* ***у Мілане былі ўпершыню надрукаваны Гамер, Ісакрат і Свіда****. Ён склаў таксама грэцкую граматыку пад загалоўкам «Эротэмата», ды і сын яго Васіль быў таксама вядомым у Італіі ў якасьці філолага*».



Мал. 35.
Бюст бацькі трагікаў Эсхіла, захоўваючыся ў Капіталійскім музеі ў Рыме (з нашага боку гледжання гэта аперцэпцыя нейкага скульптара Эпохі Адраджэння).

Гісторыкаў жа па думку Грэгарэвіуса тут не было, што і цалкам зразумела, калі іхныя творы былі апакрыфікаваны ў дахрысьціянскія часы. «Толькі адна Марэя праславілася нацыянальным летапісам, – сведчыць ён – які, на шчасьце, захаваўся дзякуючы копіям у некаторых заходніх бібліятэках». Тым часам як да нас не дайшло ніводнага выкладання гісторыі Афінаў пры франкскіх герцагах, мы маем зараз і грэцкую і французкую хронікі заваёвы Пелапанэса франкамі. Гэта каштоўныя помнікі абедзьвух моваў, на якіх тут размаўлялі ў XIV стагоддзі, маючыя і гістарычнае значэнне, нягледзячы на байкі і памылкі, змешчаныя ў іх. «Грэцкая хроніка выкладзена ў форме народнай гераічнай эпапеі, адрозніваючайся

ад прозы толькі «палітычным» вершам. Дзякуючы таму, што яна задумана шырэй, паўней і арыгінальней, чым французкая празаічная, то лічаць, што апошняя ўяўляе сабой толькі адну із яе версій» (хутчэй наадварот: пашырэнні заўсёды рабіліся пазьней). Яна была перакладзена таксама на італійскую мову і, згодна з даручэннем знакамітага Эрэдыа, перакладзена нават на каталонскую мову[61].

Без сумневаў, складальнік грэцкай эпапеі быў чалавекам, глыбока прасякнутым франкскім нацыяналізмам. Ён не толькі ідэалізуе франкаў, але надае самы неўтаймаваны выраз сваёй пагардзе да грэкаў і да іхнай царквы. Ён выяўляе глыбокае знаёмства з грэцкім жыццём і ўвесь час перадае ў народнай форме французкія гістарычныя і геаграфічныя назвы ў Марэі. Таму ў ім мяркуюць грэка-франка.

Ва ўсякім разе гэтая вершаваная хроніка даводзіць, што перавага грэцкай мовы была ў Грэцыі таго часу такой вялікай, што яе былі вымушаны вучыць нават франкі. «*Колькасць замежных словаў у мове гэтай грэцкай хронікі надзвычай вялікая, але мы,* – паведамляе Грэгарэвіус (гл. XXV), *– на жаль, не маем ніякай магчымасьці параўнаць яе з атычнай народнай мовай XIV стагоддзя. У нас няма ніводнага ўзору гэтай мовы, бо нешматлікія грэцкія акты із канцылярыі Ач'яолі, дайшоўшыя да нас, паказваюць, што іхныя грэцкія натарыусы ў службовых дакументах ужо карысталіся класічнай мовай*».

Фларэнцыя ў гэты час была перапоўнена грэкамі: Гемістас, Плетан, Хведар Газа, навуковец біскуп Эфескі Марк, праславіўшыся пазней, Вісарыён Нікенскі і іншыя візантыйцы знайшлі ў Італіі другую радзіму.

З таго часу, як калабрыец Лявонцій Пілат, дзякуючы Бакачыа зрабіўся ў 1360 годзе выкладчыкам грэцкай мовы ў Фларэнцыі, тут не спыняліся заняткі элінскай навукай. З 1397 года ў Фларэнцыі вучыў Мануіл Хрызалора, вучнямі якога былі Бруні, Міколі, Манэці, Поджыа і Траверсары. Як Строцы так і Медычы, асабліва, Казіма, былі філэлінамі, яны падтрымлівалі сваім багаццем не толькі падаючы візантыйскі пасад, але і грэцкую літаратуру.

Зараз паглядзім зноў, калі і кім былі адкрыты класічныя старажытнасьці?

---

[61] Знойдзены абедзьве хронікі Бюшонам. Ён надрукаваў французкі тэкст Livre de la Conqueste грунтуючыся на знойдзеным ім у Бруселі ў 1845 г. манускрыпце, а грэцкі раней, у 1841 г. грунтуючыся на парыжскім манускрыпце, які быў вядомы яшчэ Дзю-Канжу, і пазней грунтуючыся на поўным капенгагенскім рукапісе Livre de la Conquesle даведзеным да 1346 г. Грэцкая хроніка заканчваецца 1292 годам, французкая – 1304: потым ідзе храналагічны агляд да 1322 г. Бюшон лічыць першапачатковым французкі тэкст; яго думку падзяляе Tozer: The franks in the Peloponnese, але Elissen знаходзіў падставы Бюшона недастатковымі. Малады амерыканскі навуковец, Джон Сміт, прысьвяціў гэтаму спрэчнаму пытанню асобную дысертацыю, прызнаўшы арыгінальнасць за грэцкім тэкстам. Арагонская апрацоўка з'яўляецца скарачэннем гэтай хронікі, але з дадаткамі із іншых крыніц. Яна даведзена да 1377 г. (Грэгарэвіус, гл. XXV).



Мал. 36
Пасад Дыёніса Элентэрскага, як бачна па надпісе на ім самім. Із фатаграфічнага здымка ў Сарбоне ў Парыжы.

«*Толькі напачатку XV стагоддзя* – сведчыць той жа Грэгарэвіус – *Кірыак дэ-Піцыколі стварае грэцкую археалогію*».

Ён нарадзіўся ў 1391 годзе ў Аноне, шумным камерцыйным горадзе, меўшым даўнія сувязі з візантыйскай манархіяй і доўга браўшым удзел у гандлі з Усходам побач з Венецыяй, Генуяй, Барселонай і Марселем. Першапачаткова прызначаны да камерцыйнай кар'еры, ён быў захоплены гуманітарнымі плынямі свайго часу і да прыроджанага жадання бачыць чужыя краіны ў ім далучылася захапленне старажытнасьцю.

У гэты час цэнтрамі развіцця класіцызму былі двары: Яўгена IV, Мікалая V, Федэрыга Ўрбінскага, Казіма Медычы і Ганзага ў Мантуі.

«*Сучаснікамі Кірыака дзі-Піцыколі былі важакі Эпохі Адраджэння: Паджао, Траверсары, Манэцці, Міколі, Леанарда Арыціна, Гуарына Веронскі, Флаўта Бонда, пераўзыходзіўшыя яго ведамі. Але ў той час як гэтыя пісьменнікі шукалі, спісвалі, перакладалі* (і часьцей усяго пісалі самі!) *грэцкія рукапісы і стваралі* (фіктыўныя!) *падставы рымскай археалогіі; тым часам як вялікія майстры, нападобе Лявона Батыста Альберці, вывучаючы рымскія разваліны і засвойваючы прынцыпы Вітрувія* (апакрыфічнага!), *уводзілі ў практыку* (фантастычныя) *пачаткі антычнага дойлідства, Кірыак з запалам палымянага дасьледчыка прыводзіў у сувязь заходнюю навуку са сьветам усходніх развалін. Ён наведаў некалькі разоў Грэцыю, быў на Архіпелагу, у Малой Азіі, Сірыі і нават у Ягіпце*».

Лічыць, што ў краіну эллінаў Кірыака вабіла захапленне перад гэтай радзімай прыгажосьці і духу, азначала б ставіць яго занадта высока. Яго хутчэй усяго проста вабіў запал антыквара. Ён збіраў медалі, творы мастацтва і кнігі, замалёўваў помнікі, і не шкадаваў намаганняў спісваючы надпісы на месцы. Таму ён можа лічыцца заснавальнікам навукі пра надпісы (эпіграфікі). Збор надпісаў, які ён назваў «каментарамі старажытнасьці», быў самым галоўным вынікам яго нястомных вандровак. Яго вандраванні ахопліваюць перыяд роўны 35 гадам, таму што ён пачаў падарожжы ў 1412 годзе вандраваннем у Ягіпет, на Родас і ў Малую Азію і закончыў, здаецца, каля 1447 года Азіяй і Грэцыяй.

І што ж паведамляе гэты наш заснавальнік класічнай археалогіі?

Пірэй у яго час выявіўся ў поўным запусьценні, з гіганцкімі падмуркамі ранейшых сьцен, парэшткамі двух круглых веж і вялікім мармуровым ільвом у порце. Із Афінаў ён выправіўся ў Мегару, потым праз Істм, дзе сьцяну, адноўленую (г.азн. проста пабудаваную!) імператарам Мануілам ён знайшоў ужо разбуранай туркамі, быў у Карынфе, Сікіёне і праз Патрас паехаў да герцага Карла II у Леўкадыю. Ён наведаў Корфу і, аб'ездзіўшы Эпір і Далмацыю, вярнуўся на радзіму.

Потым у 1447 годзе ён зноў ездзіў у Афіны і пісаў пра гэтае наведванне аднаму са сваіх сябраў: «Калі я выправіўся да фларэнтыйца Нерыа Ач’яолі, сучаснага афінскага герцага разам з яго стрыечным братам Нерыа, мы знайшлі яго ў **Акропалі**, самай высокай частцы ўмацаванага горада».

І вось, Кірыак выяўляецца першым назваўшым Castel Settino такім найменнем.

Той факт, што італьянскія шукальнікі старажытных рукапісаў не ездзілі за імі ў Афіны, даказвае што гэты горад філосафаў не лічыўся тады на Захадзе за асабліва вялікі кніжны рынак ці проста не вырабляў падробак класічнай літаратуры, што рабілі, відаць, шмат якія із іншых горадоў Пелапанэса: Мадэна, Наўплія, Манембасія, не згадваючы ўжо пра Афон і Канстантынопаль. Сапраўды, калі Ян Ласкарыс у 1491-1492 гадах падарожнічаў па Грэцыі і Ўсходу адмыслова з мэтай абагачэння фларэнтыйскай бібліятэкі Медычы, ён набываў манускрыпты перадусім у Корфу, Арце, Фесалоніках, на Крыце, на Пелапанэсе, у Афонскіх кляштарах і ў Канстантынопалі. У ліку рукапісаў, знойдзеных і прывезеных ім у Фларэнцыю, былі і каментары Прокла да «Рэспублікі» Платона ў выглядзе «выдатнага спіса X стагоддзя», належаўшаму, згодна з надпісам на першым лістку, афіняніну Гармонію, але не паведамляецца, што Ласкарыс набыў гэты рукапіс менавіта ў Афінах. «Асабліва ж шмат цудоўных каліграфаў даставіла выспа Крыт, але мы ведаем, што яшчэ апостал Павел выказваўся пра яго жыхароў: «Усе крыцяне падманшчыкі! Нібы звяры яны злыя і лянівыя чэравы». (Ліст А Ціту I. 13).

І гэтае сведчанне «самога апостала» вельмі насьцярожвае ў дачыненні да знаходак з'явіўшыхся ў Яўропе з такой выспы.

Калі б у палацы Ач’яолі у Акропалі існаваў нейкі збор рэдкіх грэцкіх кніг, то такі скарб наўрад ці выслізнуў бы ад дапытлівага пагляду Кірыака, і ён дзе-небудзь зрабіў бы нататкі пра гэта. Так, напрыклад, ён не прамінуў пазначыць, што ў Калаўрыце ў аднаго класічна адукаванага чалавека Рыгора Кантакузена ён знайшоў збор кніг, адкуль набыў **Герадота**. У Корфу ён таксама набываў рукапісы, але ўсе ў невядомых людзей, а ў бібліятэках грэцкіх магнатаў не знайшоў нічога старажытнага!

«*Жарснае імкненне італьянцаў калекцыянаваць старажытнасьці павярнулася натуральным чынам на Грэцыю. У Венецыі ўсе захапляліся грэцкімі медалямі. Знакаміты Траверсары быў у захапленні ад залатой манеты Веранікі, а Кірыак у 1432 годзе паказваў гэтаму гуманісту ў Балонні залатыя і срэбныя манеты Лізімаха, Піліпа і Аляксандра* (!). *Фларэнтыйцы не адставалі ад іншых у гэтым захапленні. Паджыа Брачыаліні, збіраўшы на сваёй віле ў Вальдарна антыкі, даручыў аднаму вандруючаму па Ўсходу мінарыту прывезьці яму статую Мінервы, Юноны і Дыянісія із Хіяса, дзе былі знойдзены ў адным гроце сотні* (!!) *такіх статуй. Такім чынам грэцкія землі пратварыліся ў скарбніцы старажытнага мастацтва*!» – наіўна ўсклікае Грэгарэвіус.

«*Падобна Рыму і амаль кожнаму іншаму гораду антычнага паходжання* (г.азн. антычнай рэпутацыі), *Афіны лічыліся перапоўненымі шматлікімі парэшткамі старажытных пабудоваў, выкарыстоўваўшыміся самым непадыходзячым чынам.*

*Шыкоўныя вазы і саркафагі служылі ў якасьці карытаў для вадапою* (і не пабіліся на працягу такога тысячагадовага ўжывання!), *мармуровыя пліты із тэатраў і порцікаў ляжалі каля парогаў ці служылі ў якасьці сталоў у майстэрнях; дасьведчаныя ў мастацтве сьвятары і грамадзяне прыстасоўвалі да сьцен цэркваў і сядзіб розныя скульптурныя творы*»[62]. Калі французкі вандраўнік Спон наведаў у 1675 годзе Афіны, ён пабачыў тут шмат сядзіб над дзьвярамі якіх былі прыроблены статуэткі ці адломкі барэльефаў, і ён заўважыў, што ў шмат якіх цэрквах і ў прыватных сядзібах існуюць антычныя надпісы. Езуіт Бабін, наведаўшы Афіны адначасова са Спонам, малюе іх горадам з вузкімі вуліцамі без маставых, з вартымі жалю хацінкамі, але не із дрэва, як у Канстантынопалі, а із каменя, здабытага (быццам бы) са стажытных руінаў.

Так сведчылі заязджаўшыя з Захаду падарожнікі, падымаючы ўсё вышэй і вышэй рэпутацыю Афінаў як атычнага дзіва, а на месцы выяўлялася цалкам іншае.

*Ніводзін із афінскіх антыквараў, ніводзін із тутэйшых герцагаў, ведаючы пра ўсё захапленне пошукамі прыязджаўшых да іх заходніх гасьцей не толькі не падараваў ім нічога із гэтых ляжаўшых абы-дзе скарбаў, але «не прыйшоў да думкі зрабіць тут хоць нейкае тапаграфічнае дасьледаванне ці раскоп, таму што і адзінае сведчанне, быццам бы Антоніа Ач'яолі зрабіў нешта падобнае, грунтуецца на адным нічым не падцверджанным згадванні. Дакладна так жа ніводзін із заходніх падарожнікаў да Кірыака не рабіў у Афінах археалагічных дасьледаванняў. Крыштафора Буаідэльмонта, аб'ездзіўшы ў 1413 годзе берагі і выспы Грэцыі і склаўшы ў 1417-1421 гг. свой Isolarium, не палічыў патрэбным, хаця і сам быў фларэнтыйцам, выказаць нейкую ўвагу Афінам*».

Толькі Кірыак прынёс сюды дух Адраджэння, хаця ён, нягледзячы на сваё знаёмства з грэцкай мовай, не мог пахваліцца вялікай вучонасьцю.

«*8 красавіка я прыбыў у Афіны*, – піша ён[63]. – *Тут перадусім мой позірк спыніўся на гіганцкіх развалінах сьцен, а ў самым горадзе паўсюдна, як быцца бы на нівах, выдатныя мармуровыя будынкі, сядзібы, сьвятыя храмы, скульптурныя выявы разнастайных рэчаў, выраблены з дзіўным майстэрствам – усё ў выглядзе велічэзных развалін і адломкаў. Але самая дзіўная пабудова – гэта шыкоўны, цудоўны храм багіні Палады над гарадзкім умацаваннем, боскае стварэнне Фідыя з 58 чароўнымі калонамі ў 7 пальмамі ў папярочніку. Абодва яго франтоны, сьцяны, карнізы і эпістылі ўпрыгожаны лепшымі статуямі, якія калі-небудзь стварала рука мастака*».

А дзе ж зараз усё гэта?

Здавалася б, што ніводнае іншае месца ў Афінах не магло даць яму больш шматлікіх матэрыялаў, чым Акропаль, а між іншым ён прыводзіць толькі адзін надпіс на яго варотах і другі ў першым надворку. Ён знайшоў толькі два надпісы на Партэноне ў паблізу палаца.

А навейшыя дасьледчыкі знайшлі і тут, і там, такія надпісы, якія, здавалася б, не мог бы не заўважыць Кірыак... Як гэта патлумачыць? Апокрыфамі? – Не! – запэўніваюць нас. – Відавочна «Тэатр Дыянісія» і сьвяцілішча Асклепія тады былі амаль цалкам пад зямлёй, інакш Кірыак спісаў бы і тут некалькі надпісаў, асабліва із мармуровых лаваў. Дзякуючы гэтаму яму застаўся невядомым і вялікі надпіс на падножжы статуі Адрыяна, якую размясьцілі ў тэатры афінскія філы гэтаму «дабрадзею горада»[64].

Іншыя надпісы ў гонар Адрыяна, сабраныя Кірыакам, складаюць настолькі непараўнальна вялікую частку яго афінскай калекцыі, што нават аднаго гэтага

[62] Грэгарэвіус, гл. XXVI.
[63] Epigr. чэр. 37.
[64] Грэгарэвіус, гл. XXVI.

збору было б дастаткова, каб бачыць, якой вялікай была яго вядомсць. Але ці сапраўды гэты Адрыян быў імператар, а не папай Адрыянам? Ці, магчыма, гэта было проста мясцовым найменне заснавальніка грэцкай рыцарскай імперыі, таму што гэтае слова проста азначае "адрыятычны", а рыцары з'явіліся сюды праз Адрыятычнае мора? Кірыак сведчыць, што ў парэштках Алімпія, ад якога да яго часу захавалася яшчэ 21 калона з папярочнымі бэлькамі, ён знайшоў некалькі пастаментаў, на якіх некалі стаялі статуі, узведзеныя грэцкімі гарадамі «алімпійцу Адрыяну» з нагоды асьвячэння гэтага храма. Кірыак нават спісаў некаторыя надпісы з гэтых пастаментаў, а зараз ад іх няма і сьледу, як і ад іншых яго надпісаў.

Із усяго што ён бачыў да гэтага часу захаваліся: Арэапаг са сваімі 30 калонамі, храм Тэзея (згодна з Кірыакам – Марса), агора (форум), сонечны гадзіннік «Андроніка Кірэста», палічаны Кірыакам за храм Эала, помнік Філапапа і гімназія без назвы. Такім з'яўляецца яго інвентар афінскіх помнікаў, які, праўда, карацейшы чым сучасны, але ўсё ж змяшчае самыя галоўныя із сучасных антычных парэшткаў горада Афіны.

А па сутнасьці Кірыак звярнуў увагу толькі на дзьве антычныя пабудовы: на Прапілеі і на Партэнон. Ён яшчэ не ведае класічнага наймення «Прапілеі» і яшчэ няма ў яго нататках найменняў Эрэхтыён і храм Нікэ. Ён назваў Прапілеі ўсходнім словам «аўл», і апісаў гэты аўл у выглядзе пышнай залы, із якой вонкі выступае чатырохкалонны порцік, а ўсярэдзіне на дванаццаці калонах у два шэрагі спачывае бліскучая штучная мармуровая столь.

Але якім жа чынам, запытаеце вы, Кірыак у XVI стагоддзі даведаўся пра найменні і прызначэнне некалькіх афінскіх класічных пабудоваў, забытых усімі больш чым паўтары тысяч гадоў назад? Выяўляецца, што вельмі проста:

«*Свае афінскія дасьледаванні Кірыак рабіў,* – сведчыць Грэгарэвіус[65], – ***без сумневаў*** *пры дапамозе* ***мясцовых знаўцаў старажытнасьцей****, без дапамогі якіх ён не здолеў бы арыентавацца ў развалінах горада. У XV стагоддзі тут* ***павінны былі*** *адрадзіцца археолагі, магчыма, нават праваднікі, чычэронэ, дзякуючы таму што да гэтага часу стасункі Захада з Афінамі сталі больш жвавымі, чым у часы каталонцаў. Шматлікія адукаваныя італьянцы, наведваўшыя двор Ач'яолі, без сумневаў,* ***павінны былі*** *мець патрэбу ў праваднікох. Таму тут* ***мог*** *ажыць* (відавочна, із памёршых, і прытым праз тысячу гадоў пасьля сьмерці і поўнага забыцця ўсімі, згодна з яго ж высновамі), *хаця б у вельмі сьціплай форме, старажытны інстытут афінскіх праваднікоў, квітнеўшы яшчэ ў часы Паўзанія* (якога ён лічыць аўтарам другога стагоддзя). *Рэшткі класічнай старажытнасьці былі адзіным гонарам афінянаў, вечна заклікаўшымі іх да змагання з варварствам, наклаўшым руку на стварэнні іхных продкаў. У школах, якія,* ***вядома****, існавалі, хаця і ў стане вартым жалю, граматык яшчэ кідаў слабое сьвятло на афінскія развалiны. Ні імёны старых багінь, ні міфалагічныя паданні не былі, вядома, вынішчаны царквой у сьвядомасьці народа; яны жылі ў хрысьціянскай форме ў выглядзе паданняў і нават у народных звычаях. А памяць пра вялікіх мужоў старажытнасьці, хаця і затуманеная стагоддзямі варварства, жыла ў народнай памяці невынішчальным скарбам*».

І вось, чытач, невыразнае зрабілася раптам відавочным, пасьля дадавання да ўласных развaжанняў некалькіх «вядома», і «без сумневаў»! Выдатны спосаб доказу!

Але далей, той жа аўтар робіцца больш разважлівым.

---

[65] Грэгарэвіус, стар. 340.

«*Дзякуючы таму, што з цягам часу*, – выказваецца ён, – *першапачатковае прызначэнне большасьці антычных афінскіх помнікаў, ад якіх, у шмат якіх выпадках, засталіся адны развалiны,* ***было забыта****, то фантазія аматараў старажытнасьці і народа паспрабавала звязаць іх з імёнамі выбітных мужоў мінулага. Вялікія масы развалін насілі ў Афінах звычайна толькі назву царскага палаца* (βασιλικά), *ці палацыёна. Калі першае, быўшы грэцкім словам, нагадвае пра рымскую і візантыйскую манархію, то другое, відавочна, прынесена латынянамі* (італьянскае palazzo – палац). *Прапілеі мелі ў Афінах назву – Вялікі Палац* (Palation Megiston па-грэцку), *рэшткі Алімпіёна мелі назву – царскі палац* (Βασιλεῖα), ***таму што ніхто не ведаў, што гэта – парэшткі ад некалі сусветна вядомага храма Зеўса Алімпійскага.*** *Міхал Акамінат нават і не згадвае пра яго, а Кірыяк называе гэтыя велічэзныя развалiны з гіганцкімі калонамі замест класічнага храма Зеўса палацам Адрыяна, як называлі яго яму і самі афіняне*[66]. Гэтая назва – кажуць нам – быццам бы была абумоўлена надпісамі ад імя гэтага імператара. Яшчэ ў 1672 годзе Бабін не ведаў, дзе знаходзіцца ў Афінах храм Зеўса. Ды і праз некалькі гадоў пасьля яго навуковец-вандраўнік Спон быў у такім жа няведанні.

«*Паданн*і, – выказваецца далей Грэгарэвіус[67], – *захоўваемыя не столькі ў народным асяроддзі, колькі ў асяродзі мясцовых аматараў старажытнасьці* (якіх згодна са словамі таго ж самага аўтара не існавала ў Грэцыі на працягу ўсяго сярэдневечча!), *злучалі са шматлікімі парэшткамі імёны вялікіх афінянаў: так, напрыклад, у Піле Агоры і ў Стоі Адрыяна разлічалі палацы Феміcтокла і Перыкла; у сьценах Адэона – палац Мільтыяда, а ў іншых парэштках нікому невядомых будынкаў – сядзібы Солана, Фукідыда і Алкмеона.*

*Яшчэ ў 1674 годзе французкаму маркізу Ноэнталю паказвалі старажытныя парэшткі палаца Перыкла, а Вежу Вятроў называлі магільняй Сакрата. Успаміны пра Дэмасфена злучаліся з захаваўшымся да нашых дзён выдатным круглым порцікам з шасьцю карынфскімі калонамі, на якіх некалі стаяў трыножнік. Гэты помнік, ўпрыгожваючы разам з такімі ж іншымі вуліцу Трыножнікаў, пад час сярэдневечча меў назву, згодна са сведчаннем Міхала Акаміната, ліхтар Дэмасфена* (а зараз ён пераназваны ў помнік Лізікрата). *Распавядалася, што Дэмасфен выдаляўся сюды для заняткаў, пры гэтым запальваў у гонар сваіх богаў сьвяцільні, ад дыму якіх пачарнеў мармур. Іншыя помнікі гэтага тыпу на той жа вуліцы лічыліся згодна з паданнем* (г.азн. згодна з агульным уяўленнем) *таксама сядзібамі таго ці іншага знакамітага афіняніна.*

У часы Кірыяка Акадэміяй называлі нейкае згуртаванне базылік ці вялікіх парэшткаў, месца якіх зараз вызначыць немагчыма. Паказвалі таксама «вучэльню» Платона «ў садзе». Здаецца, гэта была адна із веж у садах Ампелакіпі, класічным Алапецы. Некаторыя, дарэчы, размяшчалі тут школу элеатаў. Хадзілі паданні пра школы нейкага Палідзела і Дыядора на Гімеце. Магчыма, што пры гэтым мелі на ўвазе і манастэрыён Кайсарыяні на гары. Грэцкія манастэрыёнцы наогул вельмі высока ставілі званне «філосафа».

Ліцэй ці Дыдаскаліён Арыстоцеля размяшчалі ў парэштках тэатра Дыянісія, пад двума калонамі харасічнага помніка Тразіла. Кірыяк нават заўважыў, што парэшткі вадавода Адрыяна маюць у афінскім народзе назву «Studia Aristotelis».

---

[66] Ad domos Hadriani Principis, marmoreis et imanibus columnis, sed magna ex parte collapsis. У аддзелах № 79 і 81 ён называе гэты будынак проста палатай (palatia), а ў № 87 дае яму імя Hadriani aedes. Дакладна так жа і Венскі Ананім называе Алімпій – Царскай сядзібай, ды і Кабазілас таксама (Грэгарэвіус, гл. XXVI). Ніхто не называе яго храмам Зеўса!

[67] Гл. XXVI.

Школу Эпікура размяшчалі нават у Акропалі, а храм Ніцы лічылі за музычную школу Піфагора. На захад ад Акропаля паказвалі школу цынікаў, побач з якой незразумелым чынам апынулася школа трагікаў. Руіны ў Каліроэ выяўляліся парэшткамі сьцэны Арыстафана.

«Нястомная стараннасць, – кажа Грэгарэвіус[68], – з якой Кірыак мераў і замалёўваў помнікі і спісваў з іх надпісы, **павінна было** зрабіць на афінянаў значнае ўражанне. Сумнеўна, каб да Кірыака нейкаму грэку прыйшла ў галаву думка рабіць калекцыю афінскіх надпісаў. А Кірыак дзейнічаў ужо пераймаючы ў збіральнікаў рымскіх надпісаў. У Рыме раней сярэдзіны XIV стагоддзя ўжо была створана калекцыя трыбуна Кола ды-Рыенца, а яшчэ раней было складзена пашыранае апісанне горада Рыма – «Mirabilia Romae» – і ўсе яны былі складзены так жа легкадумна, як і фантастычна. Але мы тут бачым, што і ў Рыме археалогія пачалася позна.

Хаця знаходжанне Кірыака ў Афінах было нядоўгім, але яно паспела пакінуць тут некаторы духоўны сьлед. Магчыма, яго ўплыву мы абавязаны двум грэцкім фрагментам, якія можна назваць «Афінскімі Мірабіліямі». Яны падобныя згодна з характарам на «Mirabilia Romae» XII стагоддзя, якія ў часы Кірыака былі адзіным археалагічным даведнікам па Вечнаму Гораду і заставаліся ў гэтай ролі нават і пасьля таго, **як Флавіа Біонда зрабіў першыя спробы навуковага апісання Рыма**. Падабенства гэтых археалагічных аглядаў Афінаў і Рыма абумоўлена цалкам аднолькавымі міфалагічнымі поглядамі на старажытнасьць і яе помнікі пад час таго цёмнага перыяду. «*Калі гэтыя апісанні*, – сведчыць аўтар, – *і не маюць амаль ніякай навуковай каштоўнасці* (быццам бы?!), *то мы ў іх усё ж маем **адзіныя** грэцкія творы характару «**із часоў Паўзанія**»* (які, як мы паказалі ў трэццяй кнізе «Хрыста», сам з'яўляецца позьнім апокрыфам Эпохі Адраджэння). На хрысьціянскія старажытнасьці горада складальнік не звярнуў ніякай увагі.

Упікаць грэкаў і аматараў класічнай старажытнасьці гэтага часу ў тым, што яны не пакінулі нашчадкам ні тапаграфічнай мапы Атыкі, ні плана горада Афіны, азначала б патрабаваць ад іх немагчымага. У нас няма ні планаў, ні панарам нават вялізнагаа сярэднявечнага Канстантынопаля і таму, зразумела, іх не маглі пакінуць маленькія Афіны. Вельмі мала планаў і малюнкаў нават такога горада, як Рым. Акрамя вядомага плана Рыма эпохі Інакенція III і яго сімвалічнай выявы на Залатой буле імператара Людвіга Баварскага, усё яны належаць ўжо эпосе Ранняга Адраджэння.

Толькі ў XVI стагоддзі на Захадзе ўзніклі выявы Афінаў, хаця і ў ні да чаго непрыдатнай і відавочна фантастычнай форме, дзеля ўпрыгожвання малюнкамі кніг хаця што-небудзь паведамляўшых пра Грэцыю. У рукапісах Касмаграфіі Пталямея і ў «Isolarium» Бандэльмонтэ Афіны намаляваны ў выглядзе замка з зубчатымі сьценамі і вежамі і з надпісам: Афіны зараз Сетыны (Athene nunc Setines). У хроніцы Жана дэ-Курсі яны намаляваны ў выглядзе фландрскага горада. У вядомай Нюрнбергскай хроніцы Гатмана Шэдэля яны ж маюць выгляд нямецкага горада, з надпісам «Athene vel Minerva», дзе размешчана і царква з гатычным франтонам каля мора, а замак са скляпеннямі на ўзвышшы, з круглай вежай і сьценамі павінен нагадваць Акропаль. Але гэта проста шаблон, якія паўтараецца ў той жа хроніцы і для выявы Александрыі, падобна таму як чалавечае аблічча выгравіраванае на дрэве, з надпісам Сафокл, служыць так жа для выявы і

---

[68] Стар. 342.

Ксенакрата і нават рымскага гісторыка Плаціны. Нішто не паказвае адрозенне часоў і аперцэпцый больш выразна, чым параўнанне гэтага смешнага нюрнбергскага партрэта Сафокла з яго статуяй у Латэранскім музеі. У сусветнай хроніцы, складаючайся із выдатных мініяцюр без тэксту, выкананых Беноца дзі Лезе (Gozzoli), вучнем Джавані да Фіезола ў XV стагоддзі, Афіны цалкам адсутнічаюць, хоць у гэтым выдатным альбоме існуюць выявы не толькі Тэзея і Кодра і знакамітых афінскіх філосафаў і паэтаў, але і неаторых старажытных гарадоў, як, напрыклад, Троя, Карфаген і Рым.

Такой з’яўляецца гісторыя адкрыцця і вызначэння старажытных класічных парэшткаў у Афінах і цалкам у Грэцыі напярэдадні яе заваяванні туркамі.

Канстантынопаль быў заваяваны 29 траўня 1453 года Магаметам II, і апошні яго цар Кастусь знайшоў смерць на парэштках Візантыі.



Мал. 37

Такім ўяўляецца хатняе жыццё прывілеяваных станаў у франка-рыцарскай Грэцыі XIII стагоддзя, калі мы дапасуем да яго класічныя апісанні (із карціны Сяміцкага: Сьвечачыся чарвячок).



Мал. 38

Такімі ўяўляюцца дзяўчыны франка-рыцарскай Грэцыі, калі мы дапасуем да іх класічныя апісанні (із карціны Лосева: Адказ каханаму).

Вялічэзны досьвед, вялікая спроба злучыць грэцкі Ўсход з Захадам, пачаты Яўропай яшчэ пад час эпохі крыжовых паходаў, не мела поспеху. Заваяванне Магаметам II Канстантынопаля 29 траўня 1452 года мела наступствам толькі

пустыя ламентацыі заходніх гуманістаў, ды не маючыя адказу заклікі папы пачаць новы крыжовы паход. Кожная вялікая бяда вымушае зведаўшых паразу ўзвальваць віну са сваіх на чужыя плечы. Так і грэкі глядзелі на падзенне сваёй сталіцы, як на кару, насланую богам на Палеалогаў за ўнію з рымскай царквой. А папа, і разам з ім увесь Захад, сцвярджалі, наадварот, што гэтая жахлівая катастрофа – заслужаная кара грэкам за іхную схізму.

Страшэнны голад лютаваў у гэты час у Элладзе, і розумы забабонных народаў былі ўражаны з'яўленнем каметы. (Камета 1457 года ў Пярсею). Амар-паша ўварваўся ў Атыку, спусташаючы краіну і забіраючы ў рабства жыхароў. Але і сярод афінянаў існавала партыя, якая праз нянавісць да франкаў радавалася ўварванню асманаў, называючы іх сваімі вызваліцелямі і маючая таемную надзею, што турэцкае валадаранне забяспечыць ім не толькі поўнае захаванне, але і аднаўленне ўсіх уладанняў грэцкай царквы.

Апошні афінскі герцаг Франка, замкнуўшыся ў Акропалі, мужна адбіваў прыступы Амара. Замак быў забяспечаны новымі ўмацаваннямі, якія маглі выстаяць нават супраць турэцкай артылерыі. На працягу двух гадоў трымаліся рыцары ў Акропалі, не саступаючы «персам». Але, нарэшце, і яны былі вымушаны здацца. Заняўшы ў 1458 годзе Акропаль, туркі адразу ж забаранілі ўваход у яго як грэкам, так і латынянам. Лацінскія храмы ў Акропалі былі зачынены і спынілі сваё існаванне, і мы зараз знаходзім іхныя руіны, фантастычна дапасуемыя да даўніх-даўнім стагоддзяў.

Партэнон быў у 1458 годзе ператвораны ў галоўную мячэць турэцкіх Афінаў: ахвярнік і іканастас зніклі, хрысьціянскае малярства замазана вапнай. У глыбіні храма пастаўлены магаметанскі налой, і ўладкавана павёрнутая да сьвятой Мекі ніша. Над паўднёва-заходнім кутом храма вырас стройны мінарэт, па прыступках якога пачаў кожны дзень паднімацца на вяршыню муэдзін, каб абвяшчаць над пагружаным у ранішнюю цішыню горадам, што «няма бога акрамя бога, а Магамет – яго прарок».

Невуцкае праваслаўнае сьвятарства радавалася, а адукаваныя грэкі, забыўшыся пра сваё варожае стаўленне да латынянаў, пачалі масамі высяляцца ў чужыя краіны. Захад прымаў іх гасьцінна. «*Іхныя вайскоўцы*, – кажа Грэгарэвіус, – *служылі ў еўрапейскіх войсках у якасьці стратэгаў. Іхная арыстакратыя знаходзіла прытулак ў навучальных установах Італіі, пераносячы сюды грэцкую літаратуру. Яны заснавалі ў асяроддзі адукаванага грамадства Захаду пачатак эпохі філэлінізма, які пазьней зрабіўся адным із самых важных маральных фактараў эпохі гуманізму. Намаганнямі Вісарыёна, Халкакандыласа, Ласкарыса, Аргіропула, Газы і іншых былі створаны ў Італіі вялікія рассаднікі навейшай адукаванасьці Яўропы, а ў нівеліраванай Грэцыі, разам са знікненнем вышэйшых станаў і з высяленнем за мяжу ўсяго моцнага і інтэлігентнага, засталася толькі аднастайная маса рабоў, і яе вывучэнне было перанесена на далёкі Захад*».

Такім чынам на парэштках храмаў, тэатраў і палацаў сярэднявечнай рыцарскай Грэцыі і ўзнікла чароўная казка пра «старажытную класічную Элладу».



Мал. 39
Галоўкі герцагінь і прынцэс франка-рыцарскай Грэцыі XIII стагоддзя, якія артадаксальнымі класікамі лічацца за выявы старажытных грачанак (згодна з Гірам: Прыватнае і грамадзкае жыццё грэкаў).

# Частка другая

## Чароўная казка пра старажытны псеўда-паганскі Рым.



Мал. 40
Выгляд маўзалея ў Рыме, звычайна называемага (volgarmente detto) «магільняй Гарацыяў і Курыацыяў», а ў сапраўднасьці гэта старажытная пабудова продкаў графаў Альбані каля іхнай вілы.

# Глава I

## Агульная характарыстыка рымскай гісторыі «Шаноўнага Лівійца» (Ціта Лівія).



Мал. 41
Парэшткі так званай «сьцяны Ромула» (згодна з фатаграфіяй).

Пры агульнай характарыстыцы твораў Шаноўнага Лівійца (па-грэцку Ціта Лівія), я перадусім скажу, што із вялізнай колькасці 144 прыпісваемых яму кніг па рымскай гісторыі «Ад заснавання сталіцы» існуюць на сёняшні дзень толькі

трыццаць пяць, распадаючыхся на тры згуртаванні, забяспечаныя асобнымі прадмовамі і моцна разлічаючыся па складу, так што не могучыя належаць аднаму і таму ж аўтару.

Нам паведамляюць, што Ціт Лівій нарадзіўся ў 59 годзе «да Нараджэння Хрыста» і карыстаўся 75 кнігамі, напісанымі пад час папярэднічаўшага пакалення Чубатым Асілкам (Валерам Антыатам на-лаціне). Усе яны, – паведамляюць нам, – пазьней зніклі без сьледу, акрамя некалькіх цытат, напісаных ад імя гэтага «Чубатага Асілка»[69] у творах больш позніх аўтараў. Із іх «Чэрвеньскі» (на-лаціне Квінтыліян) знаходзіць у асобе Шаноўнага Лівійца «малочную паловусасьпеласць»[70]; «Маўчальнік» (на-лаціне Тацыт) і «Старац» (на-лаціне Сенека) завуць яго красамоўнейшым із пісьменнікаў[71].

А знакаміты «Завялы Гарох» (на-лаціне Марк Цыцэрон), квітнеўшы пад час папярэднічаўшага пакалення і памёршы згодна з запэўніваннямі гісторыкаў за 43 гады да «Нараджэня Хрыстова», калі Лівійцу было ужо 16 гадоў, нічога не ведае пра яго папярэднікаў і прастадушна выказваецца: «у асяроддзі нашай (г.азн. лацінскай) літаратуры адсутнічае гісторыя»[72].

І вось атрымліваецца, што «Шаноўны Лівіец», які быў цалкам без папярэднікаў, напісаў усе свае 144 гістарычныя кнігі, няйнакш як «ад Духу сьвятога», калі ён сапраўды пісаў іх напачатку нашай эры «перад нараджэннем хрыстовым», а не пад час Эпохі Адраджэння, калі разнамоўныя апавяданні пра вялікую лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкую імперыю наступнікаў Аўрэліяна сапраўды маглі даць дастатковы матэрыял, каб зрабіць з іх нават і чатыры імперыі, па-рознаму аперцэпцыруючы тых жа самых дзеячаў.

З гэтага боку гледжання, як адзіна рацыянальнага, я і буду разбіраць кнігі Шаноўнага Лівійца, выкарыстоўваючы свой астранамічны і іншыя свае метады.

Паглядзім спачатку на склад аўтара ў першай дэкадзе яго кніг (1-10), якая цалкам адарвана ад астатніх і адрозніваецца ад іх тым, што ў ёй цалкам не апісваецца ніякіх «знакаў і дзіваў», якімі перапоўнены астатнія дэкады.

«*Ці будуць мець сэнс намаганні*, – пачынае ён мудрагелістым складам Эпохі Адраджэння, навочна паказваючым, што аўтар ужо звыкся з беглым чытаннем і хуткапісаннем, якія былі невядомымі нават пад час сярэдневечча, – *ці будзуць мець сэнс намаганні, калі я напішу гісторыю рымскага народа ад заснавання сталіцы*?

«*Гэтага я добра не ведаю, ды калі б і ведаў, то не адважыўся б паведаміць*.

«*Справа у тым, што падобнае пачынанне, як я бачу, і старое* (!!) *і шмат кім* (?!) *выпрабаванае, пры гэтым увесь час з'яўляюцца новыя пісьменнікі* (хто ж із такой шматлікасьці?) *думаючыя; ці паведаміць нешта новае з боку фактаў, ці пераўзысьці суровую старажытнасьць мастацтвам выкладання. Але як бы там ні было, а ўсё ж прыемна будзе і мне, наколькі хопіць маіх здольнасьцей, паслужыць справе ўшанавання здзяйсненняў першага народа на зямлі. І калі маё імя ў такім натоўпе пісьменнікаў* (?) *застанецца ў цені, то я буду суцяшаць сябе славай і веліччу сваіх супернікаў*» (каго ж?).

А «Завялы Гарох» – Марк Цыцэрон, – яго сучаснік, паведамляе, як мы толькі што згадвалі, што «*сярод рымскай літаратуры цалкам адсутнічае гісторыя*». Вось і пагадніце гэтыя сведчанні як пажадаеце з боку гледжання старой храналогіі!

Але прачытайце і далей.

---

[69] Valerius – Асілак, і Antias ад antiae – чубок ва ўбранні валос жанчын, чубок у коней.

[70] Lactea ubertas (Quintil., X, I, 32).

[71] Tacitus: Annales. IV, 34; Seneca, De Ira, I, 20.

[72] Abest historia litteris noslris (De leg. I, 2).

«*Акрамя таго, гэтая справа патрабуе вялікіх намаганняў, таму што патрэбна аднавіць падзеі больш чым за 700-гадовы прамежак часу, і прытым із жыцця дзяржавы пачаўшайся із малога і пашырыўшайся да таго, што яе велічыня ўжо станавіцца для яе цяжарам. Нарэшце, большасьці маіх чытачоў, без сумневаў, дастравіць мала задавальнення гісторыя ўзнікнення горада і самыя блізкія да гэтага падзеі; яны ж спяшаюцца пазнаёміцца з новымі, найбольш блізкімі да нас падзеямі, калі здольнасьці залішне магутнага народа пачалі вынішчаць самі сябе* (але ж падобнае можна было сказаць толькі пасьля распаду імперыі Кастуся І напачатку сярэдніх стагоддзяў!). *Я буду ўзнагароджаны ўжо і тым, што адвярнуся ад перажытых намі бедстваў* (якіх жа, калі гэта быў час Актавіяна Аўгуста?) *хаця б на той час, пакуль усёй сваёй душой буду аддаңы аднаўленню тых старажытных падзей. Тут я не буду адчуваць ніякай трывогі, якая, калі і не ў стане адхіліць розум пісьменніка ад праўды, то ўсё ж можа засмуціць яго.*

«*Я не маю намеру ні сцвярджаць, ні аспрэчваць паведамленні пра падзеі, якія папярэднічалі заснаванню, ці, больш дакладна, дазволу лёсу на заснаванне горада* (Urbis): *усе яны больш упрыгожаны паэтычнымі прыдумкамі, чым грунтуюцца на не выклікаючых сумневаў гістарычных сведчаннях. Старажытнасьці дазваляецца асьвячаць узнікненне гарадоў, дамешваючы божае да чалавечага. І калі нейкаму народу патрэбна дазволіць асьвяціць сваё ўзнікненне і прыпісаць яго багам, то раманскі народ набыў гэтае права сваім ваярскім гераізмам, і народы, зміраючыяся з яго ўладай, павінны пакорліва зміраццa і з тым, калі ён называе сваім родапачынальнікам і бацькам заснавальніка сваёй сталіцы не каго іншага, як Марса. Я таксама не надам асаблівага значэння таму, як паставяцца і ацэняць людзі гэтае паведамлене і іншыя яму падобныя.*

*Для мяне мае значэнне толькі тое, каб кожны ўважліва прасачыў якім было жыццё, якімі былі норавы, якімі людзі, і якімі сродкамі ў перыяды мірнага часу і вайны яны здабывалі і павялічвалі магутнасць дзяржавы. Хай потым чытач прасочыць, як маральнасць з паступовым знікненнем парадку пачала хістацца, як яна потым усё больш і больш стала хіліцца да заняпаду і, нарэшце, абвалілася.*

*Так мы і дайшлі, нарэшце, да рэчаіснага становішча, калі ўжо не можам выносіць цяжар заганаў і сродкаў супраць іх. Вось у гэтым і складаецца маральная карысць і плённасць вывучэння гісторыя, што разнастайныя прыклады назіраеш у ёй як быццам бы ў бліскучым люстэрку. Адсюль можна ўзяць і для сябе, і для сваёй дзяржавы ўзоры, годныя пераймання, тут жа знойдзеш і ганебнае, чаго варта пазбягаць*.

*Не ведаю, ці падманвае мяне павага да пачатай працы, ці сапраўды ніколі не існавала дзяржавы, больш вялікай, больш маральнай, больш шматлікай добрымі прыкладамі, дзяржавы, у якую б так позна пракраліся прагнасць і раскоша і дзе б даўжэй выказвалася такая вялікая павага беднасьці і ўстрыманню. Чым менш было сродкаў, тым менш ганяліся за імі... Толькі нядаўна багацці спарадзілі прагнасць, а шматлікасць задавальненняў спарадзіла запал губіць сябе і ўсіх раскошай і распустай. Але хай хаця б пачатак такога вялікага пачынання будзе вольным ад скаргаў, якія і тады непрыемныя, калі іх немагчыма пазбегнуць*».

Пасля гэтага мудрагелістага ўступлення пачынаецца гісторыя сямі першых міфічных цароў міфічнай Рымскай дзяржавы, быццам бы заснаванай Ромулам і Рэмам (спісанымі ў асноўным з Кастуся І і забітага ім суваладара Ліцынія). А заканчаецца яна праз 410 гадоў існавання гэтага горада, калі ў ім налічвалася, кажуць нам, 262.322 жыхароў. (Калі лічыць, што Ромул спісаны з Аўрэліяна, то попіс дапасуецца да 685 года нашай эры.)

Трэцяя дэкада (кнігі 31-32) утрымлівае гісторыю вайны з Карфагенам і пачынаецца такой прадмовай[73].

«*У гэтай частцы маёй працы я лічу патрэбным папярэдне сказаць тое, што вялікая частка пісьменнікаў лічыць патрэбным выказваць у* ***загалоўку сваіх прац****.*

*Зараз я пачну апісваць падзеі вайны, самай выдатнай із усіх калі-небудзь адбыўшыхся, вайны, якую карфагенцы пад правадырствам Ганібала вялі з рымскім народам. Па таго часу яшчэ ніколі такія моцныя дзяржавы не змагаліся за панаванне; і пад час змагання наверсе не было такой, магутнасьці. Вайсковае мастацтва абодва народы ведалі добра, і давялі гэта на прыкладзе падчас першай Пунічнай вайны.*

*У падзеях гэтай вайны шчасьце было такім пераменлівым, што перамогшы бок наўрад ці быў не бліжэй да пагібелі чым другі. Якімі ні вялікімі былі сродкі з абодвух бакоў, але пачуцці разлютаванасьці і нянавісьці былі хутчэй усяго больш моцнымі за іх. Рымляне вельмі абураліся, што пераможаныя пачалі з імі, пераможцамі, наступальную вайну. Карфагенцы дзейнічалі пад уплывам усьведамлення, што яны саступілі несправядлівай і тыранічнай магутнасьці.*

*Пагалоска сцвярджае, што калі Ганібалу было яшчэ дзевяць гадоў ад роду, ён падзіцячаму лашчыўся да бацькі, просячы ўзяць яго з сабой ў Гішпанію. Гамількар у гэты час прыносіў ахвяры, збіраючыся, пасьля заканчэння вайсковых дзеянняў у Афрыцы, перайсьці туды. Ён падвёў сына да ахвярніка і загадаў яму, паклаўшы руку на сьвятыню, даць клятву, што ён будзе ворагам рымскага народа, як толькі дасягне сталага ўзросту. Вялікі дух Гамількара быў засмучаны стратай Сіцыліі і Сардыніі. Ён прытрымліваўся той думкі, што Сіцылія была занадта паспешна саступлена ў прыпадку заўчаснай роспачы і што рымляне падступна выкарысталі хваляванні ў Афрыцы і, не абмежаваўшыся далучэннем Сардзініі, узялі яшчэ кантрыбуцыю».*

Чацьвёртая дэкада (кнігі 30-40) і пятая напалову дэкада (кнігі 41-45), якой заканчваецца твор «Шаноўнага Лівійца», утрымвае гісторыю «Македонскай вайны» ў перамежку з іншымі, і таксама пачынаецца асобнай прадмовай, чаго пазбаўлены астатнія кнігі. Такім чынам і гэтую палову дэкады можна лічыць цалкам незалежным творам толькі злучаным з папярэднічаўшымі дэкадамі штучным пераходным мастком у выглядзе прадмовы.

Вось гэтая прадмова-масток.

«*Мне прыемна, што я дайшоў да заканчэння Пунічнай вайны, як быццам бы я сам браў удзел у яе цяжкасьцях і небяспеках. Хаця чалавеку адважыўшамуся заявіць, што ён напіша ўсю рымскую гісторыю, цалкам не вынікала б адчуваць стамленне ад асобных частак такога вялікага твору, але мне прыходзіць на розум, што 63 гады, мінуўшыя ад першай Пунічнай вайны да заканчэння другой, занялі ў мяне столькі ж кніг, колькі 487 гадоў ад заснавання горада да консульства А. Клаўдзія, пачаўшага першую вайну з карфагенцамі. Таму я прадбачу, што, падобна таму, як сыходзяць у мора, спужаўшыся мялізнаў каля берага, так і я, чым далей пасоўваюся наперад, тым больш трапляю ў вялікую і так бы мовіць не маючую дна глыбіню, і маё пачынанне ўсё павялічваецца, хаця спачатку здавалася, што, па меры заканчэння першых частак, яно паменшыцца.*

*Пасьля заключэння міру з пунійцамі хутка пачалася Македонская вайна, якую ніяк немагчыма параўнаць з папярэдняй ні згодна з небяспекай, ні згодна з гераізмам правадыроў, ні згодна з магутнасьцю ваяроў, але якая наўрад ці мнш ухвальная, калі прыняць да ўвагі бляск старажытных цароў, даўнюю славу народа і велічыню дзяржавы, некалі заваяваўшай зброяй шмат еўрапейскіх мясцовасьцей і вялікую частку Азіі. Дарэчы, вайна з Пілінам, пачатая 10 гадоў таму назад, была спынена за тры гады перад тым, і вінаватымі вайны і міру былі эталійцы. Вызваліўшыся пасьля заключэння міру з пунійцамі ад вайны і бубучы варожа пастаўленымі супраць Піліпа, як за парушэнне міру з эалійцамі*

---

[73] Прадмовай, устаўленай у першую кнігу трэццяй дэкады, г.азн. у 21 кнігу агульнай нумарацыі («Карфагенская дэкада»).

*і іншымі хаўруснікамі той жа краіны, так і за выпраўленне дапаможнага войска разам з грашамі Ганібалу і пунам, рымляне паслухалі прашэнні афінянаў, загнаных пасьля спусташэння палеткаў у горад, і аднавілі вайну з Пілiпам. Амаль у той жа час з'явіліся амбасадары ад цара Атала і ад родасцаў з паведамленнем, што і ў дзяржавах Азіі адбываюцца хваляванні. З гэтай нагоды ягіпецкаму цару Пталямею былі ад рымлян выпраўлены тры амбасадары з прашэннем захаваць да рымскага народа ранейшае стаўленне, калі крыўды вымусяць рымлянаў пачаць вайну супраць Піліпа*».



Мал. 42
«Антычная» статуя Ганібала, захоўваемая ў Неапалітанскім музеі (згодна з нашай храналогіяй тварэнне Эпохі Адраджэння).

Я не працягваю далей цытаваць гэтую прадмову, таму што яно непрыкметна пераходзіць у апавяданне, а толькі яшчэ раз адзначу, што, пад назвай «Гісторыя раманскага народа ад заснавання сталіцы» сапраўды злучаны паміж сабой тры цалкам незалежныя творы розных аўтараў.

У іх мы маем шэраг апавяданнаў, якія адносяцца да гісторыі гэтага царства, прыведзеных паміж сабой ў штучную сувязь, за выключэннем перапынення паміж апавяданнямі ў першых дзесяці кнігах і ў наступных 25, з нагоды чаго тут і лічацца згубленымі дзесяць кніг. Існуюць жа, як я ўжо паведамляў, так званыя: «Першая дэкада», г.зн. 10 кніг, стаячых асобна і змяшчаючых гісторыю «Рыма» ад яго заснавання да 410 года яго існавання (да –292 г. згодна з храналогіяй Скалігера, які жыў у XVI стагоддзі), а ўся «другая дэкада», г.азн. кнігі 11-20, лічыцца згубленай, і далейшае злічэнне пачынаецца з 21-й кнігі і даводзіцца да 40-й. Гэта і ёсць «трэццяя і чацьвёртая дэкады», якія быццам бы змяшчаюць «гісторыю «Рыма» ад –217 да –176 года.

Толькі яны адны (30 кніг) і ўвайшлі ў першае выданне Ціта Лівія каля 1469 года, надрукаванае ў Рыме грунтуючыся на згубленым рукапісе невядомага мне паходжання. Пазней у Гесене быў «знойдзены» у горадзе Лорш у Бенедыктынскім кляштары, рукапіс, змяшчаючы яшчэ пяць кніг (41-45), якія лічацца працягам 4-й

дэкады і ўтрымліваюць «гісторыю рымлянаў ад –176 да –165 гадоў» згодна з той жа храналогіяй Скалігера і Пятавіуса.

Гэты рукапіс зараз знаходзіцца у Венскай дзяржаўнай бібліятэцы.

Ніякіх іншых рукапісаў апошніх кніг не існуе. Паспрабуем жа вызначыць час апісваемых тут падзей. А адносна месца падзей я пазначу толькі, што рымлянамі (рамейцамі, ад слова Roma – Рым) заўсёды навывалі сябе не італійцы, а грэкі, а таму і Горад (Urbs) Шаноўнага Лівійца больш падобны на Канстантынопаль, чым на італійскі Рым.

# Глава II

## Астранамічныя зачэпкі ў кнігах «Шаноўнага Лівійца».

У першай дэкадзе я не знайшоў ніякіх астранамічных указанняў, і таму пакуль пакідаю яе ў баку.

У трэццяй дэкадзе (кн. 21-30) змяшчаецца апісанне «Пунічных войнаў», г.азн. змагання рымлянаў з пунамі, як звалі быццам бы жыхароў Туніса і Алжыра. Там да пачатку нашай эры мяркуецца існаванне міфічнай дзяржавы на чале з Ганібалам, а ў 439 годзе нашай эры туды была пашырана Гензерыхам вандальская (вандэйская) дзяржава, зрабіўшая сваёй сталіцай Картаген, далучыўшая да сябе Балеарскія выспы, Корсіку, Сардынію і частку Сіцыліі, і ладзіўшая набегі на Італію. Толькі ў 533 г., праз 94 гады існавання Картагена, рымляне  перамаглі яе канчаткова і далучылі да сябе пад найменнем правінцыі Юстыніяны.

Тут мы маем згадванне пра два сонечныя зацьменні. Адно ў 22-й кнізе (§ 1) і другое ў 30-й кнізе (§ $38_8$), праз 14 гадоў пасьля першага згодна з традыцыйным злічэннем і, акрамя таго, яшчэ камету, «хвост якой працягнуўся праз усё неба».

У чацьвёртай дэкадзе (кн. 31-40) выкладаецца гісторыя «Македонскай вайны», і вайны з Антыёхам Вялікім, «сынам божым» (дзякуючы таму, што яго бацька Антыёх II быў празваны Богам (Θεος), а дзед ратавальнікам (Σωτηρ) з указаннем на вельмі дакладна апісанае сонечнае зацьменне, за пяць дзён да квінтыльскіх ідаў (г.азн. 10 ліпеня).

А ў дададзеных Гесенскіх кнігах (менавіта ў 44-ай) даецца вельмі падрабязнае апісанне месяцовага зацьмення напярэдадні вераснёўскіх нонаў (г.азн. ноч з 4 на 5 верасня).

Разам: **цэлых пяць зацьменняў** і адна камета.

Але тут мы зараз жа натыкаемся на непаразуменне, зразумелае толькі для астранома. Калі лічыць дададзеныя кнігі пятай дэкады, знойдзеныя ў гесенскім Бенедыктынскім кляштары, простым працягам папярэднічаўшых, то вераснёўскае месяцовае зацьменне грунтуючыся на простым падліку гісторыкаў было праз 22 гады пасьля сонечнага ліпеньскага. А астранамічна гэта немагчыма.

Калі прыняць да ўвагі рух вузлоў месяцовай арбіты (паблізу якіх толькі і могуць быць зацьменні), то атрымаецца, што праз 32 гады пасьля сонечнага зацьмення ў ліпені (у сузор'і Рака) не можа быць месяцовага зацьмення ў верасні (у сузор'і Рыб), а толькі ў лістападзе ці снежні (у Раку ці Двайнятах), і гэта ўсё адно гунтуючыся на якім стылі мы не лічылі б месяцы, нават і ў тым выпадку, калі будзем шукаць тагачасны ліпень у нашым студзені ці як вам дагодна інакш.

Нават і скарачэнне года замест $365^1/_4$ дзён да 360 ці да 355 тут не дапамагае. Калі сонечнае зацьменне было за пяць дзён да квінтыльскіх ідаў (г.азн. каля 10 ліпеня), то наступнае за ім месяцовае за дзень да вераснёвых нонаў (якія святкаваліся 5 верасня) будзе толькі ці праз 7 гадоў ці праз 34, рэдка 26. А 22 гады тэарэтычна немагчымы, нават і ў тым выпадку, калі замест 10 ліпеня возьмем 11 ці 9, а замест 4 верасня возьмем 3 ці 5 (г.азн. самі ноны).

Із гэтага відавочна, што паміж чацьвёртай дэкадай і першымі кнігамі пятай існуе перапынак ці зрух храналогіі, і разуменню пытання не дапамагае нават і тое калі будзем лічыць, што існуе памылка ў назве дадзенага месяца квінтыля, замест секстыля ці квадрылія.

Я спрабаваў лічыць па чарзе, што гэта травень, чэрвень і жнівень і ўсё адно нічога не атрымлівалася.

Гэта азначае, што ніякай памылкы ў назве месяцаў у аўтара няма, а апошнія шэсць кніг далучаны штучна да астатніх ужо пасьля з'яўлення першых.

Разгледзім жа кожную із атрыманых намі серый асобна.

## I. Псеўда-пятая дэкада.

Пачнём з апошняй псеўда-пятай дэкады. Там у 44 главе існуе дзіўнае, згодна з дакладнасьцю апісання, месяцовае зацьменне. Пра яго я ужо паведамляў у трэццяй кнізе «Хрыста» і тут у пралогу, але для складнасьці выкладання паўтараю яшчэ.

«*Прайшоў час і летняга сонцастаяння*» (XI,IV,36,I) ..... *Калі ўмацаванне лагера было закончана* (супраць цара Пярсея[74] ў Македоніі), *консул Сюльпіс Француз, вайсковы суддзя 2-га легіёна ... абвясьціў, што «ў наступную ноч – хай ніхто не лічыць гэта за дзіва! –* ***ад 2-ой да 4-ай гадзіны ночы адбудзецца месяцовае зацьменне.*** *Дзякуючы таму што гэтая з'ява адбываецца натуральным чынам, і ў вызначаны час, то пра яе можна ведаць наперад і прадказаць яе. А таму, як ніхто не здзіўляецца таму, што Месяц то з'яўляецца ў выглядзе поўнага кола, то, мае форму невялікага рога, таму што Сонца і Месяц адпаведна ўзыходзяць у вызначаны час так не патрэбна лічыць знакам і тую акалічнасць, што сьвятло Месяцы засланяецца, калі яго пакрые цень Зямлі». Пад час* ***ночы напярэдадні вераснёвых нонаў*** **(г.азн. з 4 на 5 верасня),** ***калі ў пазначаную гадзіну адбылося месяцовае зацьменне, мудрасць француза здалася рымскім ваярам амаль боскай***[75]. *На македанянаў жа гэта падзейнічала як сумны знак, прадвесьціўшы знікненне іхнага царства і пагібель народа. Так ім патлумачыў гэтую з'яву і прадазальнік. Крыкі і лямант чуліся ў лагеры македанянаў, пакуль Месяц зноў не заблішчэў сваім сьвятлом* (XLIV, 37)».

І вось, нас пераконваюць, што гэтую прамову вымавіў рымскі вайсковы суддзя за 2000(!) гадоў да нашых дзён – і прытым, згодна з Пятавіусам, нават не 4 верасня, а «20 чэрвеня мінус 167 года, і пад час стагоддзя, калі яшчэ не было вядома ніякіх «чэрвеняў» і «ліпеняў».

Я запэўніваю прама: гэтаму немагчыма паверыць хаця б на адну секунду. Таму што нават простыя маладзікі навучаліся прадказваць толькі ў IV стагоддзі нашай эры пры Гілелі II, які, кажуць нам, першым апублікаваў (якраз каля часу

---

[74] Славянскае імя Барыс лёгка магло ператварыцца ў Грэцыі ў сугучнае яму Парыс, бо грэкі не ўмелі вымаўляць выбуховае б, а разам з тым і ў Пярсей. Я выказваю гэтую здагадку, таму што гаворка ідзе пра Македонію, на месцы сучасняй Баўгарыі.

[75] «C. Sulpicius gallus.... pronunciavit: nocte proxima, ne quid it pro portento accipiret, ab hora secunda usque ad quartam, lunam defecturam esse, id quia naturali ordine statio temporibus fiat et sciri ante et praedici posse... Nocte, quam pridie Nonas semptembres insecuta est dies, edita hora cum luna defecisset, romanis militibus galli sapientia prope divina videri (XLIV, 36).

Васіля Вялікага) у 370 годзе 19-гадовы цыкл, лёгшы ў грунт месяцовага жыдоўскага календара. А тут французу Сюльпісу ўжо лічыцца вядомай сістэма Пталямея з шарападобнай Зямлёй! Такая прамова не магла быць выказанай раней V, ці нават X стагоддзя нашай эры.

Астраном-храналагіст XVI стагоддзя Пятавіус, упершыню заснаваўшы разам са знакамітым Скалігерам падмуркі сучаснай старажытнай храналогіі, прыйшоў да дзіўнай (I,81) высновы, быццам бы гэта было месяцовае зацьменне мінус 167 года 21 чэрвеня (замест ночы з 4 на 5 верасня!). Аднак гэта ўжо цалкам немагчыма. Нават жа і акрамя замены 4 верасня на 21 чэрвеня летняе сонцастаянне ў мінус 167 годзе было 23 чэрвеня, а прамова Француза была выказана, як бачна із самога апавядання Лівія, пасьля яго, а не за 5 дзён да яго!

Гэтая акалічнасць ужо звяртала на сябе ўвагу больш пазьніх дасьледчыкаў, але ніякага іншага прыдатнага зацьмення яны не змаглі знайсьці на працягу шматлікіх дзесяцігоддзяў назад і наперад ад прызначанага для гэтых падзей часу, і дзякуючы гэтаму гісторыкі і да гэтага часу пагадняюцца з мінус 167 годам (г.азн. з другім стагоддзем **да пачатку** нашай эры). З нашага ж боку гледжання безперапыннасьці ў эвалюцыі чалавечай культуры гэтаму апрыёры немагчыма паверыць. Тут непазбежна вынікае дапусьціць, што вышэйпрыведзенае месца вельмі позьняга паходжання. Разумеючы выказванне ў літаральным сэнсе, што апісваемая падзея была ўжо пасьля летняга сонцастаяння (пры гэтым грунтуючыся на сэнсе фразы можна дапусьціць што яна магла адбыцца і нашмат пазьней яго) і бяручы да ўвагі выказванне «напярэдадні вераснёвых нонаў», г.азн. пад час ночы з 4 на 5 верасня[76], за літаральна дакладнае, я, грунтуючыся на табліцах у пралогу гэтай кнігі, дадаю тут спіс усіх месяцовых зацьменняў, адбыўшыяся пад час 3-4-5 верасня юліянскага злічэння, аж да часу надрукавання кніг Ціта Лівія (табл. XCII).

ТАБЛІЦА XCVII.

Месяцовыя зацьменні каля 5 верасня юліянскага злічэння (для псеўда-пятай дэкады кніг Ціта Лівія).

| |
|---|
| -562 год 5 верасня 15 гадзін 20 хвілін грынвіцкага часу. Максімальная велічыня 3″9, нябачнае ў Яўропе. |
| -133 год 3 верасня 18 гадзін 39 хвілін грынвіцкага часу. 3″2. Сярэдзіна і заканчэнне бачны ў Яўропе вечарам. |
| *-106 г. 4 верасня 23 г. 22 хв. грынвіцкага часу. 5″9. Усё бачна ў Яўропе. Канун нонаў. |
| -68 г. 3 верасня. 5″6. Нябачна ў Яўропе. |
| -41 г. 5 верасня. 5″0. У Яўропе сярэдзіна і заканчэнне (вечарам пасьля нонаў). |
| **+415 г. Ноч перад 5 верасня 2 г. 48 хв. грынвіцкага часу. 11″7. У Рыме ўсё, у Афінах пачатак і сярэдзіна (пасьля паўночы, перад нонамі). |
| **+434 г. 4 верасня 18 г. 24 хв. грынвіцкага часу. 17″6. У Яўропе пачатак, сярэдзіна і заканчэнне (вечарам перад нонамі). |
| ?+453 г. 4 верасня. 2″0. Сярэдзіна ў 2 г. 52 хв. ночы згодна з грынвіцкім часам. Усё бачна ў Яўропе. Ноч ад 3 на 4 верасня. (Не дапасуе). |
| +480 г. 5 верасня. 7″6. Сярэдзіна 5 г. 5 хв. грынвіч. час. Бачны толькі пачатак (раніцай, мала разлічаемая фаза). |
| +499 г. 5 верасня. 21″3. Нябачна ў Рыме, а ў Афінах закначэнне (вечарам пасьля нонаў). |
| +518 г. 5 верасня. 6″5. Нябачнаў Яўропе. |
| ?+936 г. 4 верасня. 13″9. Зянітнае -24° даўгаты ад Грынвіча; -7° шыраты. 1 гадзіна 33 хв. ночы Грынвіча (ноч ад 3 на 4верасня; рана). |

[76] Нонамі зваліся 5-я дні месяцаў, акрамя сакавіка, траўня, ліпеня і кастрычніка, калі яны прыпадалі на 7-ы дзень.

| |
|---|
| **+955 г. 4 верасня. 16″1. Зян. -12˚ ; -6˚. У 23 гадзіна 8 хв. Грынвіча пад час ночы ад 4 на 5 верася. Пярэдадне нонаў. |
| +1001 г. 5 верасня. 10″6. Нябачна ў Яўропе. |
| **+1020 г. 4 верасня. 18″7. Зяніт. +13˚ -6˚. у 23 гадзіны 4 хв. Грынвіч. ночы ад 4 на 5 верасня. Пярэдадне нонаў. |
| +1039 г. 5 верасня. 4″0. Нябачна ў Яўропе. |
| ?+1457 г. 3 верасня. 15″2. Зянітнае +22˚ -4˚. У 22 г. 6 хв. Грынвіча. Бачна ў Яўропе пад час ночы ад 3 на 4 верасня. Рана? |
| ?+1476 г. 3 верасня. 15″5. Зянітнае +21˚ -4˚ шыраты. У 22 г. 33 хв. Грынвіча. Бачна ў Яўропе пад час ночы ад 3 на 4 верасня. Рана? |
| +1522 г. 5 верасня. 13″3. Зянітнае +2˚ -3˚ шыраты. У 23 г. 46 хв. Грынвіча. Пад час ночы ад 5 на 4 верасня. Позна. |
| +1641 г. 5 верасня. 15″7. Нябачна ў Яўропе. |
| +1660 г. 4 верасня. 1″1. Нябачна ў Яўропе. |
| NB. Зорачкамі (*) пазначаны зацьменні блізкія да паведамляемага Лівіем часу. Максімальная велічыня роўная $^{1}/_{12}$ долей месяцовага дыяметра. |

Мы бачым, што на працягу перыяда пазначаемага Пятавіусам (а дзякуючы яму і сучаснымі гісторыкамі), г.азн. каля мінус 167 года, нічога падобнага на апісанае зацьменне не было[77].

А із прыдатных дзён зацьменне мінус 133 года адпадае, таму што тады, пасьля заходу Сонца каля 6 гадзін вечара Месяц узышоў у невялікім часковым зацьменні, якое ўжо заканчвалася, было цяжка разлічымым з нагоды малой фазы і вечаровага змяркання, ды і адылося не 4-га, а вечарам 3-га верасня. Перад поўначчу зацьменне 4 верасня мінус 105 года (23 г 22 хв.) з'яўляецца першым прыдатным. Яно было бачным пад час ночы ад 4 на 5 верасня (у зяніце пад +9° зямной даўгаты ад Грынвіча і –9° зямной шыраты) у 23 гадзіны 22 хвіліны ад грынвіцкай поўночы, у выглядзе палавіннага, а ў Македоніі яго сярэдзіна была каля 2 гадзін ночы. Але ў гэты час яшчэ не існавала сістэмы Пталямея і ніхто не быў здольным прадказваць зацьменні з такой дакладнасьцю.

Потым мы адразу пераскокваем да V стагоддзя нашай эры, калі адукаваны астраном таксама наўрад ці быў здольным прадказваць такія з'явы, і перадусім сустракаем зацьменне, сярэдзіна якога была бачнай якраз перад нонскім світанкам **5 верасьня 415** г. Яно цалкам дапасуе, але, акрамя яго, цалкам дапасуе і зацьменне пад час ночы ад **4 на 5 верасня 434 года**, калі поўнае месяцовае зацьменне адбылося пасьля поўначы перад вераснёўскімі нонамі.

А пасьля яго мы адразу пераскокваем да месяцовых зацьменняў 936, 955 і 1020 гадоў.

Але зацьменне 936 года не задавальняе ўсім парабаваням. Хаця яно і адбылося ад 2 да 4 гадзін ночы ў Македоніі, але адбылося пад час ночы ад 3 на 4 верасня, г.азн. паміж прадказаннем і выкананнем прайшло дзьве ночы, што не адпавядае апісанню.

**Зацьменне 955 года з'яўляецца таксама, як і 415 года, бездакорна прыдатным**. Яно таксама адбылося пад час ночы ад 4 на 5 верасня, г.азн. якраз напярэдадні вераснёўскіх нонаў, наступіўшых, пасьля гэтай ночы, і было вельмі глыбокім (10"6), хаця і не поўным.

**Цалкам падыходзіць таксама і зацьменне пад час ночы ад 4 на 5 верасня 1020 года**, якое, акрамя таго, было і поўным, і вельмі-глыбокім (18"7).

---

[77] Гады да пачатку нашай эры я не змог размясціць у гэтай кнізе, каб не вельмі павялічваць яе, але яны дадзены мной у «Павеамленнях Дзяржаўнага Навуковага Інстытута імя Лесгафта», т. V і VI.

А пасьля яго да нашых дзён не было нейкіх прыдатных зацьменняў.

Што ж мы тут бачым? Традыцыйная храналогія не падцвердзілася астраноміяй, якая адразу дапасуе не раней як да 415 ці 434 гадам нашай эры, ці нават да 955 ці 1020 гадам.

Наколькі ж пазначаныя намі тры прыдатныя зацьменні адпавядаюць апісваемай Лівійцам гістарычнай эпосе? Ці была нейкая вайна італійцаў ці грэкаў (**рамеяў**) з македонцамі пад час нейкай са знойдзеных з дапамогай астраноміі дат?

Разгедзім спачатку самае позняе із гэтых зацьменняў.

## А. Гістарычнае становішча двух больш пазьніх із прыведзеных тут рашэнняў.

Гісторыя паведамляе, што рэшткай Візантыйскай імперыі на Балканскай паўвыспе кіравала македонская дынастыя, ад 867 да 1056 года, даўшая некалькі выбітных манархаў. Падчас зацьмення 936 года ў Візантыі валадарыў Кастусь Парфірародны (913-953), а праз два гады пасьля яго сьмерці адбылося зацьменне 955 г. пры яго наступніку Стэфане (945-959), таксама із македонскай дынастыі. На захадзе ў гэты час валадарыў знакаміты Атон Вялікі, які заняў германскі пасад якраз у 936 годзе падчас трэццяга са знойдзеных намі прыдатных месяцовых зацьменняў. Яшчэ да яго, пачынаючы ад 894 года, сярэдняя і паўднёвая Яўропа пачала зведваць пастаянныя напады магіяраў (нямецкае – Magiaren), няправільна атаясамляемых намі з мадзярамі, ці ўграмі (нямецкае – Hungern), няправільна пераіначаным намі ў вугорцаў. Атон быў вымушаны часта змагацца з паўстаўшымі супраць яго багемскімі і латарынгскімі васаламі, паставіў у ленную залежнасць галіславянаў (лузітанаў у паўночнай Багеміі), дацкага караля і каранаваўся ў 951 годзе ламбардзкай каронай. Пасьля бліскучай перамогі над магіярамі каля Аўбурга (у паўднёва-заходняй Баварыі, у Швабіі) 10 жніўня 955 года як раз блізка ад бяспрэчна дапасуючагася зацьмення 5 верасня 955 года ён вярнуўся ў Італію і ў 962 годзе ўрачыста усклаў на сваю галаў карону нанова ўтворанай Сьвятой Рымскай імперыі ў склад якой такім чынам увайшлі Нямеччына і Паўночная Італія разам з Рымскай вобласьцю. Ён гвалтоўна замяніў непадпарадкаваўшагася яму вялікага рымскага пантыфікса і памёр у 973 годзе. А ў паўднёвай Італіі ў гэты час працягвалі панаваць македона-грэкі нават і пры яго сыне Атоне II (973-983) і яго ўнуку Атоне III (983-1002 г.), перамогшыя войска Атона II пры Сквілачы з дапамогай закліканых імі ісламітаў.

Наколькі ўсё гэта адпавядае апавяданню ў псеўда-пятай дэкадзе кніг Ціта Лівія?

У гэтай дэкадзе – знойдзенай, нагадаю, толькі ў Бенедыктынскім Гесенскім кляштары ужо пасьля надрукавання першых кніг і палічанай за іхны працяг, – паведамляецца перадусім (у кнізе 21) пра вайну «рымлянаў» пад правадырствам Клаўдыя з Аўстрыяй (Істрыяй[78]), Гішпаніяй, Сардзініяй і Генуяй (Лігурыяй). пра трыумф (г.азн. пра вянчанне ці каранаванне) Клаўдыя за перамогі ў Аўстрыі, Генуі і Гішпаніі, і тут жа зроблены нечаканы дадатак пра Антыёха Эпіфана, як пра асобу яшчэ жывую, фігуруючую ў біблейскіх кнігах Макавеі[79]. Але я пакуль не звяртаю на гэта ўвагу[80] і перахожу да непасрэдна цікавячага нас месца, пра смерць сьвятога

[78] Лацінская назва Аўстрыі.

[79] Макавеі ў перакладзе з жыдоўскай азначае Молаты, па-французку Мартэлы, што дзіўным чынам супадае з найменнем дынастыі Каралінгаў (714-987) Мартэламі пpазванымі згодна з іхным родапачынальнікам Карлам Молатам.

[80] Прапаную чытачам самім паглядзець на § 20 кнігі 41, каб пераканацца ў гэтым асабіста.

дэцэмвіра рэлігійнай калегіі ў Рыме Эмілія Паўла (аналагічнага старэйшаму кардыналу сучаснай сьвятой калегіі пантыфікальных кардыналаў, які і да гэтага часу ў Італіі мае назву дэкан, г.азн. грэцкі аналаг дэцэмвіра) і пра выбранне на яго месца Валеры Месала. Калі мы згадаем, што акрамя гэтага дэкана-дэцэмвіра пад час апісваемага намі перыяду ў Рыме існаваў і Pontifex Maximus, яшчэ не надаўшы сабе афіцыйны тытул папа, але ўжо меўшы тытул сьвятрствуючага цара – rex sacrorum, rex sacrificulus, – то аналогія духоўнага жыцця Рымскай вобласьці пад час перыяду Лівіевай легендарнай рэспублікі ад пазбаўлення пасады Тарквінія Ганарлівага да Актавіяна, які працягваўся каля 480 гадоў, з жыццём тэакратычнай рэспублікі ў Рыме ад пазбаўлення пасады Ромула-Аўгустула да Атона (таксама каля 480 гадоў) робіцца вельмі значным. Пасьля сьмерці Эмілія зараз жа пачаліся, згодна з Цітам Лівіем, прыгатаванні да вайны з «македонскім царом Пярсеем» і з царом Аталам, якая закончылася іхнай паразай, і гэта складае галоўны змест астатніх кніг той жа серыі. Перамогшы і паланіўшы Пярсея вайсковы правадыр Эмілій Павел атрымлівае ўрачыстае вянчанне ў Рыме, і гэтым заканчаецца апавяданне. Бяспрэчна, усё апавяданне Ціта Лівія пра македонскую вайну магло быць спісана з часу бітвы пад Аўгсбургам, але яго датаванне, 10 жніўня, было шостым днём ідаў, а не пярэдаднем нонаў, і калі гісторыкі тут не мыляюцца на тры тыдні, то і гэтае зацьменне не дапасуе гістарычнаму становішчу.

У выніку із усёй пазнейшай серыі прыдатных зацьменняў, у нас застаецца толькі зацьменне 1020 года... Але яго можна браць у разлік толькі ў тым выпадку, калі мы будзем лічыць, што тут існуе наўмысная падробка. А для такой высновы ў нас не існуе ніякіх фактаў, тым больш што мы маем яшчэ два здавальняючыя сярэднявечныя рашэнні: у 415 і ў 434 гадах.

## Б. Гістарычнае становішча двух больш ранейшых із нашых чатырох рашэнняў.

415-ы год прыпадае на час валадарання Ганорыя, і ў такім выпадку заканчэнне Македонскай вайны налягае па вайну італійцаў з вест-готамі, жыўшымі па ніжняй плыні Дуная, як і сучасныя вугорцы. Тады і Лівіяў цар «Атал» налягае на Атала ж, якога гоцкі кароль Аларых самавольна прызначыў імператарам захаду замест Ганорыя.

Я не буду параўноўваць гэтыя абодва варыянты Атала. А толькі паведамлю, што на Аларыхава Атала пайшоў вайсковы правадыр Ганорыя Канстанцый, адпавядаючы французу Сюльпісу. Ён за Альпамі перамог вестготаў і завалодаў іхнай сталіцай, якраз каля 415 года. Атал трапіў у палон, яго выставілі ў Равене на пасмешышча народа і выправілі ў выгнанне на выспу Ліпара.

Гісторыкі дапасуюць гэтую бітву да снежня 414 года, а згодна з нашым злічэннем яна адбылася 5 верасня 415 года, на 8 месяцаў пазьней. Акрамя таго, я не хачу замоўчваць той факт, што існаваў яшчэ і іншы больш знакаміты Атал, якога мы называем Атылай. Другое задавальняючае рашэнне, із даваемых нам астраноміяй, 434 год, якраз і налягае на гэтага Атала, таму што ад 433 года ён валадарыў у Паноніі, аб’яднаўшы пад сваёй уладай гунаў, скіфаў (славянаў) і германцаў, заснаваўшы вялізную дзяржаву ад Волгі да Рэйна і вымусіўшы ўсходняга імператара Хвядоса II плаціць сабе даніну. Нас пераконваюць што каля 451 года ён перайшоў Рэйн, зведаў паразу ад заходне-рымскага вайсковага правадыра Аэцыя, але потым пайшоў у Італію і, вярнуўшыся нечакана ў Панонію, памёр у 453 годзе.

Пакідаючы гісторыкам пытанне атаясамлення іншых асоб у апавяданні Ціта Лівія (бо ўсё гэта псеўданімы, як і сам аўтар) і тлумачэнне непадобнасьці лакалізацыі і характарыстыкі асобных падзей, я лічу вырашаным пытанне пра час месяцовага зацьмення, прадказанага французам Сюльпісам. Гэта было зацьменне раніцай перад 5 верасня 415 года нашай эры ці вечарам перад 5 верасня 434 года. Ранейшых рашэнняў не існуе.

## II. Псеўда-чацьвёртая дэкада.

Пяройдзем зараз да сонечнага зацьмення 10 ліпеня, апісанаму ў чацьвёртай дэкадзе кніжак Ціта Лівія. Згодна са звычайнай храналогіяй яно павінна было б адбыцца за 22 гады раней вышэйапісанага месяцовага, г.азн. 10 ліпеня 393 года, але я ўжо паказаў, што гэта тэарэтычна немагчыма. Перад вышэйапісаным вераснёўскім месяцовым зацьменнем сонечныя маглі адбыцца ў ліпені, грунтуючыся на рухах вузлоў месяцовай арбіты, толькі раней на 7, на 26, ці на 34 гады. Гэта азначае, што мы будзем шукаць час самастойна, не звяртаючы ўвагі на гэтае ўказанне.

Вось апісанне ў Лівія. «*Калі консул выпраўляўся на вайну* (у Грэцыю) *із порта Бryndызі* (у Калабрыі) *падчас сьвятаў у гонар Апалона, за 5 дзён да ліпеньскіх ідаў* (г.азн. 10 ліпеня), *днём, пры добрым надвор'і, адбылося зацьменне*[81], *таму што Месяц падышоў пад дыск Сонца*» (XXVII, 4,4).

Тут у арыгінале паведамляецца: Interdiu lux obcurata est, cum luna sub orbem soils subisset.

Але сонечныя зацьменні каля 10 ліпеня, пачынаючы ад мінус 800 года і заканчаючы 1589 годам нашай эры, адбываліся толькі пад час дзён пазначаных у табліцы CXVIII.

ТАБЛІЦА CXVIII[82].

Сонечныя зацьменні каля 5-га дня перад ліпеньскімі ідамі (для псеўда-чацьвёртай дэкады кніг Ціта Лівія).

| |
|---|
| Год –596-VII-9. Усё бачна ў Паўднёвай Яўропе, акрамя Рыма, але дзевяты дзень не прыдатны. |
| Год +9-VII-10. 18 г. 4 хв.; нябачнае ў Яўропе. |
| Год +28-VII-10. 18 г. 51 хв.; у Ангельшчыне поўнае, передзаходзячае. У Рыме відаць не было. |
| Год +47-VII-11. 16 г. 0 хв.; прыпалярнае; нябачнае ў Паўднёвай Яўропе. |
| Год +112-VII-11. 15 г. 0 хв.; прыпалярнае; нябачнае ў Паўднёвай Яўропе. |
| Год +427-VII-10. Паўночнае прыпалярнае; нябачнае ў Паўднёвай Яўропе. |
| Год +446-VII-10. 2 г. 26 хв.; нябачнае ў Яўропе. |
| Год +492-VII-10. Прыпалярнае; нябачнае ў Паўднёвай Яўропе. |
| Год +511-VII-10. 22 г. 45 хв.; нябачнае ў Яўропе. |

[81] Квінтыл, ці ліпень, – пяты рымскі месяц, лічачы першым сакавік. Тут пазначана 10 ліпеня, таму што ідамі (якія прысьвячаліся як сьвяточны дзень богу-Бацьку, на-лаціне Idae) называліся 13-я дні месяцаў, акрамя сакавіка, траўня, ліпеня і кастрычніка, пад час якіх гэтая сьвята прызначалася на 15-ы дзень. Гэта азначае, што калі выказванне «за 5 дзён» адпавядае літаральнаму злічэнню згодна з календаром, то грунтуючыся на сучасным гістарычным злічэнні гэта будзе 10 ліпеня.

[82] Тры лічбы ў кутавых дужках пазначаюць: першая даўгату/шырату той мясцовасьці зямнога шара, дзе цэнтральная фаза дадзенага зацьмення назіраецца на ўзыходзе Сонца; другая даўгату/шырату таго месца зямнога шара, дзе дадзенае зацьменне назіраецца ў паўдзённай бачнасьці і трэццяя даўгату/шырату таго месца зямнога шара, дзе дадзенае зацьменне назіраецца ў вечаровай бачнасьці (пры злічэнні даўгот ад грынвіцкага мерыдыяна).

| |
|---|
| © Год +530-VII-10. 16 г. 27 хв. Ішло па лініі [$^{-135\circ}/_{+14}{}^{\circ}$; $^{-65}{}_{\circ}/_{+35\circ}$; $^{+3^{\circ}}/_{+10^{\circ}}$ ]; першае із бачымых перад заходам у Рыме(1″6) і ў Афінах (1″2). Гл. заўвагу знізу. |
| Год +549-VII-10. 6 г. 9 хв.; [$^{-175\circ}/_{+57}{}^{\circ}$; $^{-58}{}_{\circ}/_{+84\circ}$; $^{+50^{\circ}}/_{+52^{\circ}}$ ]; нябачнае ў Паўднёвай Яўропе. Гл. заўвагу ніжэй. |
| Год +557-VII-11. 23 г. 20 хв.; нябачнае ў Яўропе. |
| Год +576-VII-11. 23 г. 55 хв.; нябачнае ў Яўропе. |
| © Год +967-VII-10. 6 г. 58 хв. [+2°/$_{+25}{}^{\circ}$; $^{+79\circ}{}_{/+34\circ}$; $^{+138^{\circ}}/_{-3^{\circ}}$ ];. У Італіі раніцай у выглядзе частковага з Месяцам пад Сонцам, усё бачна ў Яўропе. |
| Год +1013-VII-11. Паўднёвае, каляпалярнае. |
| © Год +1032-VII-10. 7 г. 22 хв. Усё бачна ў Паўднёвай Яўропе, але ў вельмі малой фазе. |
| Год +1051-VII-10. 18 г. 27 хв.; нябачнае ў Яўропе. |
| Год +1070-VII-10. Прыпалярнае; нябачнае ў Яўропе. |
| Год +1078-VII-11. Прыпалярнае; нябачнае ў Яўропе. |
| Год +1097-VII-11. 20 г. 48 хв.; нябачнае ў Яўропе. |
| Год +1116-VII-11. 21 г. 350 хв.; нябачнае ў Яўропе. |
| Год +1507-VII-10. 3 г. 9 хв.; нябачнае ў Яўропе. |
| Год +1515-VII-10. Прыпалярнае; нябачнае ў Яўропе. |
| Год +1534-VII-11. 7 г. 55 хв.; [$^{-13\circ}/_{+54}{}^{\circ}$; $^{+58\circ}{}_{/+54\circ}$; $^{+41^{\circ}}/_{+52^{\circ}}$ ]. |
| Тры лічбы ў кутавых косках азначаюць: першая даўгата/шырата той мясцовасьці зямной паверхні, дзе цэнтральная фаза пазначанага зацьменны назіраецца пад час узыходжання Сонца; другая даўгату/шырату той мясцовасьці зямной паверхні, дзе пазначанае зацьменне назіраецца пад час паўдзённай бачнасьці і трэццяя даўгату/шырату той мясцовасьці зямной паверхні, дзе пазначанае зацьменне назіраецца ў заходзячай бачнасьці (пры злічэнні даўгаты ад Грынвіцкага мерыдыяна). |

Із усіх гэтых зацьменняў у Паўднёвай і Сярэдняй Італіі былі бачнымі толькі:

– Сонечнае зацьменне 10 ліпеня +530 гада нашай эры перад заходам, калі ў Рыме пад Сонца падышоў Месяц, засланіўшы (у Рыме і Афінах) каля 1/8 часткі яго дыска, і потым Сонца зайшло. Гэта першае сонечнае зацьменне, цалкам прыдатнае да апісання Ціта Лівія, пачынаючы з IX стагоддзя да пачатку нашай эры. У выглядзе поўнага зацьмення Сонца ўзышло ў гэты дзень у Ціхім акіяне, мела выгляд перадпаўдзённага на поўдні Злучаных Штатаў, паўдзённым на захадзе Атлантычнага акіяна і захадзячым у выглядзе поўнага зацьмення каля берагоў Гвінейскага заліва.

– Сонечнае зацьменне 10 ліпеня 967 года. Яно было пачынаючы з самых старажытных часоў толькі другім прыблізна прыдатным да апісанага Лівіем. У гэты дзень Сонца ўзышло ў поўным зацьменні ў Сахары, было такім жа паўдзённым у Малой Азіі, паўдзённым у Гімалаях і вечаровым – у Новай Гвінеі. У Рыме і Афінах яно мела вельмі вялікую фазу, Месяц засланіў знізу не менш 9/10 долей сонечнага дыска. І гэта вельмі прыдатнае зацьменне.

– Сонечнае зацьменне 10 ліпеня 1032 года. Сонца ўзышло ў выглядзе колападобнага зацьмення ў Паўднёвай Афрыцы, выглядала такім жа перадпаўдзённым на поўдзень ад Самалі і заходзячым у Аўстраліі. У Паўднёвай Яўропе яно наўрад ці было заўважана і, акрамя таго, пазнавата.

Вось і ўсе зацьменні, якія нам дае астраномія недалёка ад пазначанай Лівіем даты. Пад час самой даты, калі грунтавацца на звычайным календавым злічэнні, г.азн. лічыць 5 дзень ліпеньскіх ідаў = 10 ліпеня, мы маем тры бачныя ў Яўропе за ўвесь гістарычны перыяд часу[83].

[83] Старадаўняе рашэнне Пятавіуса і Скалігера (абодва XVI стагоддзе), грунтаваўшаяся на тым апрыёрным дапушчэнні, што квінтылій у –189 году адпавядаў сучаснаму сакавіку, аспрэчана Хушке ў яго дасьледаванні

Разгледзім жа гістарычнае становішча і пад час гэтых зацьменняў.

## А. Гістарычнае становішча першага рашэння.

530-ы год наступіў праз 54 гады пасьля знікнення Заходняй Рымскай імперыі, і ў Візантыі ў гэты час валадарыў Юстыніян (527-565), які толькі што заключыў «вечнае замірэнне» з нападаўшым на Візантыю «пярсідзкім» царом Хазроем I і рыхтаваўся да марской вайны з вандаламі (г.азн. вандэйцамі) быццам бы жыўшымі не каля Пірынеяў, а ў паўночнай Афрыцы, і выправіў туды войска пад правадырствам Велісарыя. Злічэнне грунтуючыся на календах у гэты час яшчэ квітнела не толькі ў Італіі, але нават і ў Англіі, як бачна із Англа-саксонскай хронікі (Anglo-saxon-chronicle, I, 28; II, 15), дзе пад 540 годам значыцца: An 540 her sunne abeostrode on XII Kal. Iulii (у гэтым 540 годзе Сонца зацямнілася дванаццатага ліпеньскіх календаў), і гэта цалкам адпавядае вылічэнням: якраз пад час пазначанага дня (20 чэрвеня 540 года) адбылося поўнае сонечнае зацьменне, ішоўшае праз сярэдзіну Італіі і Балканскай паўвыспы.

А пасада консулаў у Рымскай вобласьці і ў Візантыі працягвала існаваць нават і пасьля знікнення Заходняй Рымскай імперыі, у першапачатковым выглядзе намесьнікаў, да паловы V стагоддзя, пасьля чаго консулы ператварыліся не ў намесьнікаў сваіх мясцовасьцей, а толькі ў дарадцаў і пазней утварылі згуртаванне conseliers d'etat – дзяржаўных дарадцаў.

У Італіі ў гэты час, г.азн. да 526 года, валадарыў у Равене Тэадорых Вялікі, а пасьля яго, яго дачка Амалазунта, забітая сваім чалавекам Тэадотам, заваладарыўшым замест яе. Візантыйскі «вярхоўны консул» Юстыніян, абураны гэтым учынкам, выправіў у 566 годзе супраць яго Велісарыя, які захапіў усе гарады Ніжняй Італіі і накіраваўся на Рым, абараняемы ў гэты час чатырма тысячамі готаў (немцаў). Рым адчыніў яму браму, але ў сваю чаргу быў абложаны замяніўшым Тэадота Віцігесам, адступіўшым ад Рыма праз год і захапіўшым Мілан. Такім было гістарычнае становішча зацьмення 530 года і яно настолькі мала падобна на апісаныя ў Лівія падставы абвяшчэння рымлянамі вайны сірыйскаму цару Антыёху і на заваёву яго азіяцкіх правінцый, што пра гэта не мае сэнсу і разважаць.

## Б. Гістарычнае становішча другога рашэння.

967 год, калі 10 ліпеня адбылося другое, астранамічна амаль прыдатнае да апісанага Цітам Лівіем, сонечнае зацьменне, характарызуецца Георгам Вэберам (згодна з Грэгарэвіусам) у яго Ўсеагульнай гісторыі так (т, V, ч. II. 4):

«*Валоданні рымскага біскупа* (г.азн. Рымская вобласць у першай палове X стагоддзя) *былі забраны ў яго драпежнікамі, а яго духоўнае валадаранне зрабілася нямоглым, ператварылая ў пусты тытул. Змрок пашыраецца над Рымам, і ў гэтым змроку зрэдку мільгаюць прабліскі сьвятла, у выглядзе паведамленняў іншаземных летапісцаў, невыразнымі контурамі малюючых гэты перыяд. Неадукаваныя сварлівыя бароны рымскай Кампаніі, маючыя званне консулаў ці сенатараў, распутныя вялікія пантыфексы, выбіраныя із асяроддзя сварлівых вяльможаў, распушчаныя жанчыны, нямоглыя вайсковыя правадыры, якія з'яўляюцца, б'юцца, знікаюць, як здані, – вось фігуры, праносячыяся перад нашым паглядам у змроку закалотаў*».

Такой з’яўляецца напышлівая цытата Вэбера із кнігі Грэгарэвіуса, а сам Вэбер дадае да яе:

---

адносна старажытнага лацінскага года. Стоквел лічыў, што ў гэтым выпадку гаворка ідзе пра зацьменне –187 гада 17 ліпеня (замест 10 ліпеня). Фактам жа застаецца толькі тое, што прыдатнага зацьмення за ўвесь час да 10 ліпеня 967 года нашай эры не было для гэтага апісання, як хранолагі ні імкнуліся скараціць «старажытнарымскі год».

«*Пры ўсёй недастатковасьці сведчанняў пра становішча Рыма ў Х стагоддзі, мы бачым, што там, грунтуючыся на характарыстыках іншаземных манахаў, тады панавалі людзі не маючыя сораму, забыўшыяся пра бога і сумленне*.

*Вялікі пантыфекс Ян Х, наступнік Сергія ІІІ, пабудаваўшага Латэранскую базіліку згодна з планам разбурыўшайся* (г.азн., імаверна ніколі не існаваўшай) *ранейшай, быў першым вялікім рымскім пантыфексам, узведзеным на пасад партыяй вяльможаў... Ліутпранд паведамляе, што ён, будучы сьвятаром у Равене, часта ездзіў у Рым выконваючы даручэнні архібіскупа, стаў каханкам Тэадоры, вельмі вядомай рымскай арыстакраткі, жонкі рымскага консула, ці, як інакш зваўся гэты сан, сенатара Тэафілакта. Тэадора зрабіла яго вялікім понтыфексам*.

*Магчыма, гэтае апавяданне* (працягвае Вэбер) *належыць да ліку выдумак, якіх шмат у Ліутпранда* (Крэмонкага біскупа ў Ламбардыі, які напісаў пад назвай Antapodosis гісторыю свайго часу ад 886 да 950 года і памёршага ў 972 годзе), *але не выклікае сумневаў, што Ян быў узведзены на пантыфікальны пасад арыстакратычнай партыяй, у руках якой тады была свецкая ўлада над* (рэспубліканскім) *Рымам*....

*Ён не шкадаваў саступак і гасьцінцаў, каб набыць спрыянне князёў неапалітанскага, гаэцкага, капуанскага, салернскага. Дзякуючы гэтаму была здабыта* (14 чэрвеня 916 г.) *над ісламітамі бліскучая перамога на рацэ Гарыльяна* (у Ніжняй Італіі), *былі разбураны іхныя ўмацаванні на ніжнім працягу гэтай ракі і надоўга спынены іхныя набегі. Пераможац у бітве на Гарыльяна Альберых быў уславўлены, як другі Сцыпіён, прызначаны консулам рымлянаў і ўзнагароджаны шматлікімі маёнткамі. Але, здаецца, шчасьце зрабіла яго занадта напышлівым. Паведамляюць, што ён самавольна абвясьціў сябе рымскім патрыцыям, г.азн. вярхоўным валадаром і пачаў кіраваць у Рыме дэспатычна. Вялікі пантыфік змог прагнаць яго. А ён, як паведамляюць, паклікаў на дапамогу магіараў* (мадзяраў). *Раззлаваныя рымляне захапілі яго замак і забілі яго». Пазней быў задушаны* (у 928 годзе) *і пайшоўшы за ім вялікі пантыфекс Ян Х, і ўся ўлада ў Рыме засяродзілася ў руках Маросіі* (Марусі), *дочкі Тэадоры, якая прыняла тытул патрыцыі* (кіраўніцы) *і зрабіла вялікім пантыфексам свайго сына пад імем Яна ХІ.*

*У той жа час утварыўся і ўмацаваўся стан спадароў* (nobles, Adel) *у адрозненне ад астатняга плебсу, г.азн. простага народа, ператварыўшагася ў плебеяў, і пачала пашырацца ў пісьмовым ўжыванні раманская мова, першы помнік якой – формулы прысягі – захаваны Нітгардам*».

Із гэтай кароткай нататкі знакамітага нямецкага гісторыка мы бачым, што агульныя абрысы ўнутранага жыцця Рымскай рэспублікі першай паловы Х стагоддзя (нягледзячы на недахоп паведамленяў пра яго) вельмі падобныя на тое, што мы назіраем у трэццяй і чацьвёртай дэкадах кніг Ціта Лівія, утвараючых незалежнае цэлае, ахопліваючае перыяд часу каля 29 гадоў і зараз дапауемае да дагістарычнага часу.

І тут і там мы бачым консулаў і сенатараў, патрыцыяў і плябеяў, пад тымі ж самымі найменнямі, различаем і трыумфы пераможцаў і існаванне недалёка Венецыянскай рэспублікі – «старажытнай Венетыі» – быццам бы яшчэ за 200 гадоў да пачатку нашай эры гандляваўшай бурштынам, прывозімым з Балтыйскага мора і славіўшайся сваёй ваўнянай тканінай, са старажытнымі гарадамі Адрыяй, Аквілеяй, Фельтрыяй, Альцінай, і зараз існуючымі пад тымі ж найменнямі[84] і меўшымі з VIII стагоддзя нашай эры такое ж рэспубліканскае кіраванне з дожамі (г.азн. навукоўцамі ад лацінскага dox ці doctuc) у намінальнай частцы кіравання

---

[84] А із іншых: Патавія зараз ператварылася ў Падую, Віцэтыя ў Вічэнцу, Апітэрый – у Ацерца, Тарвізій – у Трэвізу і г.д.

замест рымскіх вялікіх пантыфексаў, апакрыфічна называемых папамі, хаця гэты тытул пачынаецца толькі з Рыгора VII (1073г.).

Усё гэта, пасьля вылічэння намі часу, апісанага Цітам Лівіем сонечнага зацьмення за 5 дзён да ліпеньскіх ідаў 967 гада нашай эры, прымушае нас звярнуць сур'ёзная ўвагу на чацьвёртую дэкаду кніг Ціта Лівія... Атрымліваецца, як быццам бы, што і старажытная Венецыя, і старажытны рэспубліканскі Рым носяць у класічнай старажытнасьці вельмі позняе сярэднявечнае адзенне, падобна міфічным багам і героям, якіх мастакі пярэдадня Эпохі Адраджэння апраналі на сваіх малюнках у батфорты, жабо і капелюшы з пер’ем свайго ўласнага часу.

Тая вельмі неухвальная характарыстыка, якую нам далі адносна Рымскай рэспублікі X стагоддзя Грэгарэвіус і Вэбер, не павінна нас бянтэжыць. Яны самі прызнаюцца, што не маюць пра гэты час ніякіх праўдзівых паведамленняў і таму цалкам дарэчна задаць пытанне: ці не асьвеціць нам яго Ціт Лівій, якога мы зараз павінны прызнаць за апакрыфічнага аўтара Эпохі Адраджэння, пісаўшага не раней першай паловы XV стагоддзя?

## B. Гістарычнае становішча трэццяга рашэння.

Для трэццяга і апошняга рашэння пытання пра час, таго месца кніг Шаноўнага Лівійца (табл. CXVIII), дзе ён выказваецца «пра Месяц, падышоўшы пад дыск Сонца пасярод дня», атрымаўся, як мы бачылі, настолькі позны час – 1032 год, – што, як быццам, нават і не варта спыняцца на яго гістарычным становішчы. Гэта быў час развіцця гарадзкіх рэспублік у Італіі, пашырэння каралеўскай улады ў Германіі, пры заснаванні ў ёй франконскай дынастыі Конрадам II, і ўсё тут мала адпавядае апісанню Шаноўнага Лівійца.

З гістарычнага боку гледжання ў гэтай чацьвёртай дэкадзе можна спыніцца толькі на 10 ліпеня 530 і 10 ліпеня 967 года.

* * *

А як жа – запытаеце вы мяне – патлумачыць нам тое, што із двух адзіна задавальняючых рашэнняў, атрыманых намі (у табліцы CXVII) для псеўда-чацьвёртай дэкады і двух атрыманых (у табліцы CXVIII) для псеўда-пятай дэкады, адпаведныя зацьменні псеўда-чацьвёртай выявіліся не раней, як павінна было б быць, а пазней зацьменняў псеўда-пятай дэкады? Сонечнае ж зацьменне 530 года, апісанае ў псеўда-чацьвёртай дэкадзе, на 115 гадоў пазьней адпавядаючага яму месяцовага зацьмення 414 (ці 434) года, апісанага ў псеўда-пятай дэкадзе, а сонечнае зацьменне 967 года, апісанае ў 37 кнізе Ціта Лівія (г.азн. у чацьвёртай дэкадзе), прыпадае ў нас на 12 гадоў пазьней папярэднічаўшага месяцовага (955 год), апісанага ў кнізе 44 (г.азн. у пятай дэкадзе)?

Відавочна, што ўпарадкаванне кніг, а з імі і главаў у творы Лівія пераблытана, і кожнае із апавяданняў гэтага зборніка мы павінны разглядаць асобна, як і легенды пра Езуса ў Евангеллях, ці ж мы павінны цалкам не давяраць дакладнасьці датавання разглядаемых намі зараз зацьменняў і лічыць, што яно было пазначана не адразу, а ўсталявана ў сваёй першакрыніцы грунтуючыся на ўспамінах старажылаў, ужо забыўшыхся пра дакладны дзень падзеі.

Але ж гэтым самым мы прызнаём, што старажылы пераблыталі і ўсё астатняе... А калі мы будзем зацята сцвярджаць, што яны пераблыталі толькі вылічаныя намі падзеі, але дакладна перадавалі не вылічаныя, і дзеля падцверджання невылічанага будзем выпраўляць вылічанае, пераносячы, напрыклад, сакавіцкія зацьменні на снежань, то ў такім выпадку, бясспрэчна, астраномія падцвердзіць што заўгодна.

Не пойдзем жа па гэтай вельмі сумнеўнай дарозе і калі ў чацьвёртай дэкадзе Шаноўнага Лівійца сказана (кн. 37, §4), што 10-11 ліпеня ў Рыме адбылося сонечнае зацьменне, таму што Месяц падышоў пад дыск Сонца, то і будзем разумець гэта ліаральна, а не неяк па іншаму, як тэолагі разумеюць Евангелле, хаця б для гэтага і давялося дапусьціць, што твор Ціта Лівія не з’яўляецца суцэльным пасьлядоўным апавяданнем, а зборам шматлікіх асобных апавяданняў, размеркаваных аўтарам згодна з фіктыўнай храналагічнай сувяззю адзін з адным. Той факт, што храналогія тут фіктыўная, даказваецца і другім сонечным зацьменнем, якое Лівій пазначае ў сакавіку месяцы праз два гады пасьля вышэйапісанага ім зацьмення за 5 дзён да ліпеньскіх ідаў, г.азн. 10 ліпеня, калі «Месяц падышоў сярод яснага дня пад дыск Сонца».

І тут таксама мы зноў маем тое ж тэарэтычнае непаразуменне. Праз два гады пасьля ліпеньскага сонечнага зацьмення не можа быць сакавіцкага, якога патрабуе Лівій, а толькі чэрвеньска-травеньскае, ці лістападаўска-снежаньскае.

Вось як апісана гэта другое зацьменне ў главе XXXVIII, у § 4.

«*Пад час сакавіцкіх ідаў,* – паведамляе Лівій, – *М. Валеры-Месала і Г. Лівій-Салінатар пачалі выконваць консульскія абавязкі і раіліся з сенатам пра кіраванне дзяржавай... Але перш чым новыя службовыя асобы выправіліся ў свае правінцыі на ўсіх скрыжаваннях на працягу 3-ох дзён ладзіліся ўлагоджваючыя набажэнствы згодна з дырэктывай калегіі дэцэмвіраў* (кардыналаў) *з нагоды таго, што пад час дня, прыблізна паміж 3-яй і 4-й гадзінамі, наступіў змрок. Было таксама прызначана дзевяцідзённае ахвяраванне з нагоды таго, што на Авентыне* (у Рыме) *ішоў каменны дождж*».

Мы ведаем, што сакавіцкія іды заўсёды прыпадалі на 15 сакавіка, гэта азначае, што апісанае зацьменне адбылося ці ў другой палове сакавіка, ці ў красавіку, а што гэта была не выпадковая цемра ад хмары, паказваюць трохдзённыя набажэнствы. Яны ж прызначаліся толькі з нагоды выключных нябесных з'яваў. Але калі ж пад час другой паловы сакавіка ці ў красавіку адбыліся пасьляпаўдзённыя зацьменні?

Гісторыкі, дзякуючы пачынанню Скалігера, лічаць, што апісанае тут зацьменне адбылося праз два гады пасьля папярэднічаўшага ліпеньскага зацьмення (566 год ад «заснавання Рыма»), і знаходзяць для яго 17 ліпеня мінус 187 года (г.азн. у другім стагоддзі да пачатку нашай эры), цалкам не бяручы ў разлік тое, што консулы, пачаўшыя выконваць свае абавязкі пад час сакавіцкіх ідаў, не маглі заседзецца ў Рыме да 17 ліпеня і не з'ехаць у свае правінцыі, не зведаўшы ўсеагульнага абурэння суграмадзянаў. Гэта азначае, што крайнім тэрмінам для гэтага зацьмення з'яўляецца палова траўня, патрэбным для збораў і нарад з сенатам пра палітычны курс якога патрэбна будзе прытрымлівацца, як намесьнікам двух частак дзяржавы, ды і у чаканні спадарожнага ветру.

Паглядзім жа, што тут нам дае астраномія, пры параўнанні гэтага апісання з рашэннямі табліцы CXVIII для зацьмення 10 ліпеня, лічачы, што консулы маглі затрымацца да траўня праз дрэннае надвор'е.

1) пасьля зацьмення 10 ліпеня 530 года праз два гады адбылося сонечнае зацьменне 20 траўня 532 года, але яно адбылося толькі ў 17 гадзін 37 хвілін ад грынвіцкай поўначы, г.азн, было вечаровым поўным у паўднёвай частцы Атлантычнага акіяна, куды прыйшло із Паўднёвай Амерыкі. Яго наўрад ці магчыма браць да ўвагі. А пасьля яго прыдатнае зацьменне адбылося толькі праз чатыры гады – 29 красавіка 534 года з сярэдняй фазай у 7 гадзін 6 хвілін ад грынвіцкай поўначы, добра бачнае ў значнай фазе на ўсіх узбярэжжах Міжземнага мора.

2) пасьля сонечнага зацьмення 10 ліпеня 967 года праз $2^3/_4$ года адбылося сонечнае зацьменне 8 траўня 970 года з сярэдняй фазай у 3 гадзіны 34 хвіліны ад грынвіцкай поўначы, канец якога быў цудоўна бачным у Паўднёвае Яўропе на ўзыходзе Сонца.

Такім з'яўляецца адзіна прыдатнае зацьменне праз два гады пасьля апісанага ў XXXVII кнізе, як гэта патрабуецца тэкстам Лівія. Нічога іншага я не магу тут прапанаваць чытачу.

## III. Псеўда-трэццяя дэкада.

Разгледзім жа з гэтага боку гледжання астранамічныя з'явы, пазначаныя ў Ціта Лівія і ў псеўда-трэццяй дэкадзе.

Вось як ён апісвае ў псеўда-трыццатай кнізе (XXX, 38) сонечнае зацьменне, бачанае вясной у Італіі і дапасуемае ім да часу за 13-14 гадоў перад папярэднічаўшым ліпеньскім:

«*Першая вестка пра аднаўленне вайсковых дзеянняў з боку картагенян выклікала ў Рыме трывогу, і Тыберыю Клаўдыю было загадана паспешна выправіцца з флотам у Сіцылію і адтуль у Афрыку. Тыберый Клаўдый марудзіў з прыгатаваннем і спускам караблёў... Выклікалі жах паведамленні пра знакі, з'явіўшыяся якраз каля таго часу, калі ўзніклі чуткі пра аднаўленне вайсковых дзеянняў. У* ***Кумах*** (у італьянскім Куміяне паблізу Турына) ***бачылі, што дыск Сонца паменшыўся***[85] *і паўшоў каменны дождж*; *у вобласьці Вялітр у зямлі ўтварыўся вялізны правал, і бездань паглынула дрэвы. У Арыцыі маланка стукнула ў форум і каля лавак, а ў Фрузіноне – у некалькіх месяцах у сьцяну і ў вароты. Ішоў каменны дождж і на Палаціне* (у Рыме). *Гэтае* (сонечнае) ***зацьменне*** *згодна са звычаем бацькоў было адкуплена дзевяцідзённым ахвяраваннем, а астатнія* (знакі) – *прынясеннем у ахвяру буйных жывёл*» (XXX, 37).

*Калі Клаўдый, нарэшце, выправіўся із горада, яго заспела жахлівая бура паміж Казанскай і Ларатанскай гаванямі і мела наступствам жах... Потым ён накіраваўся да Сардыніі і калі плыў тут навокал Вар'яцкіх гор, ён зведаў яшчэ больш жахлівы буран... Шмат караблёў было сапсавана і страціла начыненне, некаторыя пабіліся. Зведаўшы нястачы флот прыстаў да Каралаў. Пакуль тут рамантавалі выцягнутыя на сушу караблі, наступіла зіма, год скончыўся... і ніхто не пажадаў падоўжыць яго ўладу»* (за гэтыя няшчасьці). (XXX, 39.)

Ці можна тут лічыць за сонечнае зацьменне выказванне: «*у Кумах* (г.азн. у Куміяне ў Італіі) *дыск Сонца здаваўся паменшаным і ішоў каменны дождж*»? Бяспрэчна так, таму што далей паведамляецца што гэтая з'ява было адкуплена набажэнствамі. Пятавіус дапасаваў яго да зацьмення 6 траўня мінус 202 года, бачным у поўнай фазе пасьля паўдня на Шатландзкіх выспах і ў Швецыі. Гофман шукаў яго 25 красавіка мінус 201 года, але яго зацьменне было бачна толькі ў Амерыцы; Рычолі і Сейфарт (Seyffortt) прапанавалі 4 сакавіка мінус 199 года, але і гэта было прыпалярнае зацьменне, якое не магло быць бачным у Паўднёвай Яўропе.

Пасля таго, як мы даказалі поўную адсутнасьць пад час старажытнасьці хаця б аднаго прыдатнага зацьмення для главы XXX той жа серыі кніг Ціта Лівія, аж да 364-367 гадоў нашай эры, мы павінны шукаць гэтае зацьменне ў X стагоддзі нашай эры, калі лічыць тут апавяданне пра Ганібала маючым дачыненне да ісламітаў. А калі гэта не задавальняе гістарычнаму становішчу, то патрэбна дапасаваць яго да V стагоддзя нашай жа эры і шукаць крыніцы апавядання і нападаў на Рым картагенскіх вандалаў (вандэйцаў). Грунтуючыся на заканчэнні толькі што

[85] Cumis solis orbis minui visus est et pluit lapideo imbri (30, 37).

прыведзенага апісання яно павінна было быць перадвеснавым, і, калі гаворка ідзе пра сарацынаў, павінна быць каля 953-957 гадоў. Аднак у гэты перыяд былі толькі намёкі на зацьменні.



Мал. 43
Каметы па старажытных малюнках (із Любінецкага).

Із усіх засланенняў Сонца ў X стагоддзі зацьменне 16 красавіка 953 года было назіраемым у поўным выглядзе толькі ў цэнтральнай Афрыцы, а ніяк не ў Кумах (г.азн. у Куміяна ў паўночна-заходняй Італіі). Зацьменне 6 красавіка 954 года цалкам не было бачным у Яўропе, а толькі ў заходнім паўшар'і.

Зацьменне 14 лютага 956 года было бачным толькі па Паўднёвым паўшар'і Зямлі, а зацьменне 2 лютага 957 года таксама было бачным толькі на заходняй палове шара.

І толькі зацьменне 29 ліпеня 957 года магло быць бачным у Італіі як частковае перадзаходзячае і ў вельмі малой фазе.

А другое сонечнае зацьменне, прыдатнае да апісанага, адбылося 19 ліпеня 938 года, калі Сонца ўзышло ў поўным зацьменні ў Атлантычным акіяне, выглядала такім жа перадпаўдзённым у Ламбардыі, паўдзённым у Каспійскім моры і вечаровым – на Цэлебасе. Але чаму ж яго бачылі толькі ў Куміяне, каля Турына? Няўжо ўся астатняя Італія магла быць у гэты ліпеньскі час пад аблокамі?

Вось чаму я думаю, што ўся гэтая серыя (ад 21 да 30 кнігі), паведамляючая пра карфагенскія войны з Ганібалам, з’яўляецца апавяданнем пра больш старажытны перыяд, толькі штучна дададзены сюды.

Гэта азначае што нам застаецца знайсьці адпаведнае зацьменне пры нападах із Картагены вандалаў (вандэйцаў) на Італію і Рымскую вобласць у V стагоддзі нашай эры.

Зробім жа гэта і тут грунтуючыся на сукупнасьці нябесных з'яваў.

Перадусім адзначым, што за два гады перад толькі што апісаным зацьменнем у Кумпана «*хвост каметы працягнуўся ад усходу і да захаду*» (кніга 29. 14).

А потым гадоў за 12 перад гэтай каметай зноў адбылося, зацьменне Сонца, запісанае, як я ужо паведамляў, у XXII кнізе (§1):

«*Набліжалася вясна. Ганібал пакінуў зімовыя кватэры ... перайсьці Апеніны... У Рыме пад час сакавіцкіх ідаў, нанова абраны консул К. Сервілій прыступіў да выканання сваіх абавязкаў... У Сардыніі Сонца змяніла свой выгляд, і яго дыск* ***выглядаў паменшаным***[86]...

*Пастанавілі: паднесьці богу-Бацьку залатую маланку, а Анувіянскай Багародзіцы-царыцы*[87] *і Анувіянскай Багародзіцы-захавальніцы – паднесьці вялікія ахвяраванні.*

*Нарэшце, ужо ў снежні месяцы, на цэлыя суткі было абвешчана святкаванне Сатурналій*[88]*, і з тых часоў народа загадана здзяйсняць гэтае сьвята на вечныя часы*» (XXII, I).

Чытача не павінна тут бянтэжыць апісанне фантастычных падзей, атачаючых дзьве караценькія фразы пра зацьменне. Усё гэта толькі даводзіць, што зацьменне пры консулу Сервіліі у Сіцыліі сапраўды было вельмі вялікім перад сакавіцкім, больш верагодна лютаўскім, і вымусіўшым разгуляцца фантазію. Але яно, відавочна, не было поўным у Рыме, таму што ў такім выпадку было б павядомлена і пра цемру пасярод дня.

Такім чынам, перад намі стаіць заданне знайсьці такую пасьлядоўнасць нябесных з'яваў.

А. – Сонечнае зацьменне, бачнае ў Сардыніі вясной ў вялікім выглядзе, у меншым у Арпіна пад Неапалем, але не адзначанае ў Рыме, іншымі словамі, перадзаходзячае амаль у поўным выглядзе ў Сардыніі.

У. – Вялікую камету гадоў праз адзінаццаць пасьля яго.

З. – Новае сонечнае зацьменне праз два гады пасьля каметы, бачнае каля заканчэння лютага ў Кумiяна, на самым паўночным захадзе сучаснай Італіі, але таксама не адзначанае ў Рыме, г.азн. вечаровае ў Куміяне.

Гэтая пасьлядоўнасць трох з'яваў з'яўляецца асабліва характэрыстычнай дзякуючы прысутнасьці каметы, і таму, знайшоўшы яе, мы можам быць упэўнены, што нам не будзе патрэбы шукаць іншага рашэння.

Я паспрабаваў вырашыць гэтае заданне (для рымска-карфагенскай вайны апісанай у Лівія) грунтуючыся на сукупнасьці лютаўска-сакавіцкіх зацьменняў, дадзеных у табліцы XCIX ад мінус 516 да плюс 1485 года, і перадусім знайшоў:

А. – Сонечнае зацьменне 6 сакавіка 946 года, у 9 гадзін 13 хвілін ад грынвіцкай поўначы ўзыходзячае ў поўным выглядзе пад –20° грынвіцкай даўгаты і –9° шыраты; паўдзённае пад 40° грынвіцкай даўгаты і +19° шыроты і вечаровае пад 106° грынвіцкай даўгаты і +48 шыроты.

В. – Сакавіцкая камета 956 года, пра якую ў летапісе Шэ-кэ паведамляецца: «*была вечарамі камета ў вобласьці α-β-γ Арыёна. Яе хвост паказваў на ўсход*».

С. – Сонечнае зацьменне 8 траўня 970 года амаль поўнае ў Італіі пры ўзыходзячым Сонцы. Але яно адбылося не праз два гады пасьля каметы, а праз дваццаць чатыры, і раней гэтага я не мог знайсьці нічога прыдатнага.

---

[86] In Sardinia... soils orbis minui visum... et Arpis Parmas in coelovisas pugnantemque cum luna solem.

[87] На-лаціне Juno, па-грэцку Нрα (Эра), маці Апалона і іншых богаў, сугучна з нашым храналагічным тэрмінам Эра.

[88] Сатурналіі святкаваліся ад 17 па 21 снежня.

Непараўнальна большае падабенства мы атрымліваем у плюс пятым стагоддзі нашай эры, падцверджваючы маю выснову, што Ганібал з'яўляецца легендарызаваным правадыром картагенскіх вандалаў (вандэйцаў), Гензерыхам, пры гэтым і горадам Картаген, магла быць сучасная Кртагена ў Гішпаніі, а не ў Тунісе. Вось гэтыя два зацьменні і камета.

ТАБЛІЦА XCIX.

Сонечныя зацьменні ў лютым і ў сакавіку з вялікай фазай у Італіі (для вызначэння вясновага сонечнага зацьмення ў Сардыніі каля сакавіцкіх ідаў, апісанага ў псеўда-трэццяй дэкадзе (XXII, 1) Ціта Лівія).

| | |
|---|---|
| –516 сакавіка 28, максімум у Рыме 5"6 | 304 лютага 22, у Рыме 6"8 |
| –486 лютага 26, у Рыме 5"4 | 305 лютага 10, у Рыме 7"2 |
| –477 лютага 17, у Рыме 10"6 | 332 сакавіка 13, у Рыме 9"6 |
| –432 сакавіка 30, у Рыме 10"8 | 359 сакавіка 15, у Рыме 12"0 (першае поўнае) |
| –423 сакавіка 21, у Рыме 9"4 | 443 сакавіка 17, пачатак перад заходам |
| –404 сакавіка 21, у Рыме 9"0 | 453 лютага 17, так жа |
| –347 лютага 19, у Рыме 11"2 | 489 сакавіка 18, сярэдзіна перад узыходам |
| –274 сакавіка 24, у Рыме 2"2 | 507 сакавіка 29, у Рыме 7"2 |
| –262 лютага 9, у Рыме 8"6 | 538 лютага 15, у Рыме 9"7 |
| –243 лютага 9 (Сонца ўзышло ў выглядзе частковага зацьмення) | 547 лютага 16, у Рыме 5"6 |
| –216 лютага 11, у Рыме 7"8 | 591 сакавіка 30, пры заходзе |
| –208 сакавіка 13, у Рыме 7"2 | 592 сакавіка 19, у Рыме 10"6 |
| –189 сакавіка 14, у Рыме 10"8 | 601 сакавіка 10, ранішняе слабое |
| –180 сакавіка 4, Сонца ўзышло у ў выглядзе частковага зацьмення. | 704 сакавіка 10, вечаровае слабое |
| –162 сакавіка 15, у Рыме 10"8 | 789 лютага 10, слабое ранішняе |
| –104 лютага 3, у Рыме 9"8 | 852 сакавіка 24, значнае вечаровае |
| –77 сакавіка 6, у Рыме 11"0 | 862 сакавіка 3, падобнае перадпаўдзённае |
| –60 сакавіка 27, пачалося перад заходам | 916 красавіка 8, падобнае |
| –50 сакавіка 7, у Рыме 10"6 | 946 сакавіка 6, перадпаўдзённае значнае |
| +5 сакавіка 28, у Рыме 5"0 | 992 сакавіка 7, перадпаўдзённае значнае |
| +17 лютага 15, у Рыме 10"2 | 1010 мапа 18, перадзаходзяче моцнае |
| +26 лютага 69, у Рыме 7"8 | 1058 лютага 25, перадзаходзячае моцнае |
| +44 лютага 17, пачалося перад заходам | 1086 лютага 16, вечаровае моцнае |
| +52 сакавіка 19, у Рыме 0"5 | 1112 сакавіка 29, вечаровае моцнае |
| +71 сакавіка 29, у Рыме 9"6 | 1140 сакавіка 20, вечаровае значнае |
| +80 сакавіка 10, у Рыме 9"6 | 1159 нарта 21, вечаровае слабое |
| 129 лютага 6, Сонца зайшло пры пачатку зацьмення | 1207 лютага 28, паўдзённае моцнае |
| 165 лютага 28, у Рыме 2"7 | 1216 лютага 19, ранішняе значнае |
| 174 лютага 19, у Рыме Сонца ўзышло пад канец зацьмення | 1270 сакавіка 23, ранішняе моцнае |
| 184 лютага 29, у Рыме 6"5 | 1337 сакавіка 3, перадпаўдзённае значнае |
| 211 сакавіка 2, зайшло на пачатку зацьмення | 1364 сакавіка 4, пасьляпаўдзённае слабое |
| 228 мар1а 23, у Рыме 10"0 | 1365 лютага 21, пасьляпаўдзённае слабое |
| 278 лютага 9, у Рыме 7"6 | 1419 сакавіка 26, перадпаўдзённае значнае |
| 295 сакавіка 3, у Рыме 11"0 | 1431 лютага 17, вечаровае поўнае |
| | 1459 лютага 3, вечаровае слабое |
| | 1485 сакавіка 16, вечаровае моцнае |

NS. Фаза пазначана для Рыма.

**Першае зацьменне адбылося 17 сакавіка 443 года**, калі зайшло ў выглядзе амаль поўнага зацямнення каля берагоў Корсікі і Сардыніі, а ў Арпіна ў месяцападобным выглядзе.

**Следам за ім праз сем гадоў была знакамітая камета** Галея ў траўні-ліпені 450 года.

**Другое сонечнае зацьменне адбылося праз два гады пасьля каметы, г.азн. 24 лютага 453 года** амаль такое ж, як і папярэдняе. Сонца зайшло паблізу Куміяны ў выглядзе поўнага зацьмення, а ў Рыме ў выглядзе невялікай фазы, што магло быць і не заўважана пры імглістым небасхіле.

Мы бачым, што ўся трыяда ажыццявілася цалкам. Першае зацьменне выявілася гады на тры бліжэй да пазнакі, чым атрымліваецца згодна з разлікамі Пятавіуса, але памылка цалкам магчымая, калі час быў пазначаны не адразу ж, а грунтуючыся на ўспамінах старажылаў.

## V. Агульная выснова.

Рэзюмуем жа ўсё павядомленае тут.

У прыкладзенай табліцы (табл. С) я канспектаваў вылічаемую астранамічную частку выкладння Шаноўнага Лівійца.

«Пунічная» вайна, апісаная ў «псеўда-трэцціяй дэкадзе» яго кніг, выявілася заключаючай у сябе нябесныя з'явы, адбыўшыяся не раней 443-453 гадоў нашай эры.

«Македонская» вайна, апісаная ў «псеўда-чацьвёртай дэкадзе», выявілася заключаючай у сябе нябесныя з'явы, адбыўшыяся не раней 967 гада нашай эры.

А ў апошнюю напаловудэкаду, дзе апісваюцца галоўным чынам «Істрыйскія» войны, пракралася месяцовае зацьменне 415 года нашай жа эры.

Такім чынам мы вызначылі час падзей, апісваемых у кнігах, «Ціта Лівія», але не час яго ўласнага жыцця. Гэта – схаваўшыся пад псеўданімам, яшчэ невядомы аўтар Эпохі Адраджэння, пісаўшы грунтуючыся на нейкіх даволі дакладных дакументах, але шмат фантазіяваўшы ад сябе, як і «Фукідыд», відаць, яго папярэднік ці сучаснік. Пры асьвятленні падзей, і нават у фактах ён зашыфраваў сваіх герояў псеўданімамі, магчыма, згодна са звычаем таго часу хаваць свае веды ад непасьвечаных і паведамляць псеўданімы дзейнічаючых асоб толькі «годным».

Нумарацыя яго кніг пераблытана. Першыя 10 кніг наўрад ці належаць яго пяру, таму што там адсутнічаюць частачкі пра знаменні і цуды.

ТАБЛІЦА С.

Агульны агляд вылічваемых астранамічных з'яваў у кнігах «Ціта Лівія».

Найбольш верагодныя даты.

| У Ціта Лівія | | Згодна з сучасным астранамічным злічэннем |
|---|---|---|
| Рым Ромула | А “Першая дэкада”. Няма ніводнай вылічваемай асранамічнай з’явы. | А ....................................... |
| Пу ніч на я вай на | В “Псеўда трэцціяя дэкада” | В для “Псеўда трэцціяй дэкады” маем: |
| | Кн. 22 §1. Сонечнае зацьменне на Сардыніі вясной 538 года ад заснаваня “Горада”. | 17 сакавіка 443 года амаль поўнае пры заходанні Сонца на Сардыніі, цяжка заўважаемае ў Рыме. |
| | Кн. 29 § 14. Камета папярок неба ў 550 годзе ад заснаваня “Горада”. | Камета Галея ў траўні-чэрвені 451 года. |
| | Кн. 30 § 38. Сонечнае зацьменне ў Куміяна вясной 552 года ад заснаваня “Горада”. | 24 лютага 453 года поўнае, пад час заходу Сонца ў Куміяна (паблізу Турына ў паўночна-заходняй Італіі), цяжка разлічымае ў Рыме. |

| | | |
|---|---|---|
| Вайна з Антыёхам і Македонскія войны. Макавеі існавалі пры яго сыну, Антыёху V. | С “Псеўда чацьвёртая дэкада” | С для “Псеўда чацьвёртай дэкады” маем: |
| | Кн. 37 § 4. Сонечнае зацьменне каля 11 ліпеня 564 года ад заснаваня “Горада”. | 10 ліпеня 967 года ранішняе частковае. |
| | І праз два гады | І амаль праз тры гады |
| | Кн. 38 § 36. Сонечнае зацьменне каля 11 сакавіка-красвіка 566 года ад заснаваня “Горада”. | 8 траўня 970 года на ўзходячым Сонцы. |
| Ісрыйскія войны | Д “Псеўда пятая паловудэкада” (дадатак да псеўда-чацьвёртай дэкады) | Д Для “псеўда-пятай паловудэкады” |
| | Кн. 44 § 36. Месяцовае зацьменне француза Сюльпіса пад час ночы на 5 верасня 686 года ад заснаваня “Горада”. | Зацьменне падчас ночы на 5 верасня 415 (ці нават 955) года нашай эры, апісанае французам Сюльпісам. |

Самым лепшым рашэннем для гэтага зборніка з’яўляецца падзяліць яго на чатыры цалкам незалежныя адзін ад аднаго творы, не надаючы ніякага значэння дададзеным пазьней, у выглядзе прадмоваў, пераходным масткам адзін да аднаго. А перш за ўсё не варта забывацца, што гэта ўсё – чароўная казка.

# Глава III

## Знаменні і цуды ў кнігах, прыпісваемых Ціту Лівію.

У папярэдніх кнігах «Хрыста» чытач ужо бачыў, да якой ступені забабоннымі былі старажытныя аўтары. А што ж мы знаходзім у Шаноўнага Лівійца?

У першай дэкадзе, распавядаючай пра старажытны Рым, у яго няма ніводнага дзіва, а далей яны ўтрымліваюцца ў кожнай главе, чым і даводзіцца, акрамя ўсяго астатняга, што першая дэкада напісана іншым аўтарам. Але і ў астатніх дэкадах яны выкладаюцца толькі ў выглядзе чутак ў больш прыстойным, чым у тагачасных тэолагаў, выглядзе:

**Кніга XXI, 62.**

«*На працягу зімы* (1-га года Пунічнай вайны, калі Ганібал пераходзіў Апеніны, для чаго Пятавіус вылічыў 533 год ab urbe, г.азн. «ад заснавання горада») *у Рыме і яго наваколлях адбылося шмат надзвычай цудоўных з'яваў; а дзякуючы таму што розумы былі схільнымі да забабонных жахаў, то людзі з прагнасьцю лавілі падобныя чуткі і ахвотна ім верылі. Між іншым паведамлялі, што на базары, дзе прадаецца зеляніна, дзіцёнак вольнага паходжання закрычаў: «трыумф!», а на другім базары, дзе прадаюцца быкі, адзін з іх сам сабой залез на трэцці паверх і, напалоханы крыкамі жыхароў, кінуўся адтуль уніз. Паведамлялі таксама, што на небе гарэлі выявы караблёў* (navium speciem de caelo affulsisse); *што ў храм святой Надзеі, які на Зяленінным базары, стукнуў гром, што ў Ланувіі дзіда прыйшла ў рух; што там жа крумкач заляцеў у храм «Богамаці»* (г.азн. маці богаў Юноны, адпавядаючай ўзятай на неба Каталіцкай богамаці; гэтая імя паходзіць ад біблейскага слова, ІУНЕ – галубка). *І сеў гэты крумкач на сам ложак багіні. Пераказвалі, што на Амітэрнскім полі бачылі нешта падобнае на людзей апранутых у белае адзенне* (як правяднікі ў Апакаліпсісе), *але гэтыя здані ні да каго бізка не набліжаліся. Яшчэ паведамлялі, што ў Піцэне ішоў каменны дождж* (зноў як у Апакаліпсісе); *што ў Цэрах аракульныя дошчачкі* (sortes) *павыцягваліся, і што ў Францыі* (Галіі) *воўк скраў із ножнаў у вартавога жаўнера меч. Што да гэтых цудоўных з'яваў дэцэмвірам* (г.азн. калегіі абраных духоўных

саноўнікаў, адпавядаючых кардыналам, із якіх старэйшы і зараз мае назву дэкана, г.азн. дзясятніка)[89], *было загадана параіцца са сьвятым пісаннем* (libros). *Што ж да каменнага дажджу, таго, што здарыўся ў Піцэне, то быў выдадзены загад пра дзевяцідзённае ахвяраванне, і ў збаўляючых звычаях бралі ўдзел амаль усе грамадзяне. Перадусім горад быў вычышчаны, і прынесены ахвяры першаступенным сьвятым згодна з рытуалам. У Ланувіі у храм Богамаці занесены падарунак – сорак фунтаў золата. У Авентыне асьвечана яе медзяная выява, – прынашэнне рымскіх жанчын. У Цэрах, дзе аракульныя дошчачкі* (для лёсавызначэння) *падоўжыліся, было загадана наладзіць лектыстэрній (*г.азн. гулянку, пры якой сярод балюючых сядзела выява іхнага бога накшталт таемнай вячэры), *а ў Альгідзе, адслужыць набажэнства багіні Шчасьця* (Фартуне); *у Рыме быў наладжаны лектыстэрній багіні Юнацтва, асобнае набажэнства Геркулесу* (біблейскаму Самсону*), і ўсенароднае падсьціланне пульвінарый* (г.азн. падушачак, падсьцілаўшыхся пад іх). *Генію былі прынесены пяць вялікіх ахвяр; і было даручана сьвятару К. Атылію Серану даць зарокі на той выпадак, калі на працягу дзесяці гадоў бацькаўшчына захаваецца ў тым жа становішчы. Гэтыя збавіцельныя звычаі і зарокі, зробленыя згодна з указаннем багаслоўскіх кніг* (libris sibylinis ад жыдоўскага ЩАБЭЛ – слава бога), *трохі супакоілі розумы, устрывожаныя забабоннымі жахамі*»[90].

**Кніга XXII, I.**

«*Агульнае пачуццё жаху* (у Рыме перад Ганібалам у тым жа 535 годзе ad Urbe) *узмацнілася* (да вясны*) з нагоды цудоўных з'яваў, паведамленні пра якія раз-пораз прыходзілі з розных бакоў; на Сіцыліі навершшы дзідаў у ваяроў гарэлі полымем; на Сардыніі ў вершніка, аглядаўшага каравулы, заканчэнне кінжала, які ён трымаў у руцэ, было як бы палаючым. Па берагах гарэлі вогнішчы ў шмат якіх месцах; на двух шчытах выступіў крывавы пот; некалькі ваяроў было забіта маланкай;* ***Сонца перамяніла свой выгляд і паказалася ў паменшаным выглядзе****. У Прэнесьце з неба падалі гарачыя камяні*; *у Арпах назіралі на небе падабенства вайсковых шчытоў і змаганне Сонца з Месяцам* (Пятавіус палічыў гэта за сонечнае зацьменне 11 лютага –246 года з фазай каля 8"3 у Рыме, у 3 гадзіны апаўдні, а ў мяне атрымалася шмат рашэнняў для сярэдніх стагоддзяў). *У Капенах* ***пасярод дня выйшла два Месяцы****. У Цэрах вада крыніцы бегла, як бы перамяшаная з крывёй* (згодна з Апакаліпсісам); *крывавыя плямы былі заўважаны тамсама ў самой крыніцы Геркулеса* (Самсона). *У Антыі ў кошыкі жнеяк патрапілі заплямленыя крывёю каласы. У Фалерах бачылі, што неба як бы расчынілася і адтуль з’явілася цудоўнае сьвятло*; *пласьцінкі* (для лёсавызначэння царкоўнымі аракуламі) *самі сабой паменшыліся, і адна із іх выпала; на ёй быў надпіс: «Март* (Марс, біблейскі Мардук[91]) *устрасае зброяй». У той жа час у Рыме на статуі бога Ваяроў на Апіевай*

---

[89] Зараз колькасць кардыналаў у Рыме пры папе паменшылася да сямі.

[90] Чытач бачыць сам, што гэтае апісанне дзіваў цалкам не падобна на старажытныя апісанні. Тое ж мы бачым і далей.

[91] Марс ці Март (род. Martis) ад біблейскага МРД – мяцежнік, адкуль і месапатамскі Мардук, ён жа планета Марс. Згодна са старадаўнім юліянскім календаром ён адпавядае апусканню сузор'я Авена ў полымя вечаровага зарыва і месяцу сакавіку (Марсу), падчас якога быў слупаваны евангельскі Хрыстос. Згодна з грэцкай міфалогіяй Марс меў назву Арэс, ад жыдоўскага АРЫЕ – леў, адкуль і імя Арый аднагучнае з хрысьціянскімі імёнамі Леў і Лявон (французкае Леон). Лічыцца, што культ Марса бярэ пачатак ад старажытнага глыбокага ўшанавання ільвоў, дзеля залагоджвання якіх на ўскраек мястэчак прыводзіліся авечкі і цяляты. Пазьней пад час перасялення богаў на неба зямны леў перайшоў у сузор'е Ільва, знак усёпажыраючай летняй спёкі ў паўднёвых краінах, астралагічную сядзібу Сонца, апускаўшуюся пад час тагачаснага ліпеня ў полымя вечаровага зарыва. Астралагічнае пераўтварэнне грознага бога нябесных ваяроў, Саваофа-Араса-Марса-Ільва ў Авена, забітага за грахі людзей, павінна было адбыцца толькі пасьля слупавання евангельскага настаўніка ў сакавіку, г.азн, пад час месяца Марса-Саваофа. Дадам яшчэ, што войны ў старажытнасьці пачыналіся звычайна ў сакавіку.

*дарозе ў выявы ваўкоў выступіў пот. У Капуі бачылі неба, як бы ўсё ў полымі і падабенства Месяца, падаючага з дажджом. Паверылі і іншым цудоўным з'явам, менш годным даверу: запэўнівалі, што ў некаторых коз замест поўсьці выраслі валасы; што курыца ператварылася ў пеўня, а певень у курыцу. Консул паведаміў усё гэта сенату і прывёў на іхныя вочы сьведак, а потым запытаў сенатараў пра іхныя думкі. Вырашана: з нагоды гэтых цудоўных з'яваў прынесьці збаўляючыя ахвяраванні часткова із буйных жывёл, часткова із малочных, і на працягу трох дзён прамаўляць агульныя маленні каля падножжаў усіх выяваў. Пра ўсе гэтыя з'явы дэцэмвірам загадана параіцца з багаслоўскімі кнігамі і зрабіць адпаведна з воляй богаў, выказанай у сьвятых радках. На падставе справаздач дэцэмвіраў прызначана: паднесьці богу-Бацьку* (выкарыстана яго жыдоўска-лацінскае імя: Йе-Pater = Юпітар) *залатую грымотную стралу роўную 50 фунтам вагі, а богамаці* (Юноне-Галубцы) *і багіні навукі*[92] *– срэбра. Дакладна гэтак жа і Авентынскай богамаці-царыцы і Анувійскай богамаці-захавальніцы прынесьці вялікія ахвяры. Рымскія жанчыны, склаўшыся паміж сабой кожная адпаведна свайму дастатку, павінны былі несьці на Авентын свой падарунак Богамаці-царыцы і наладзіць ёй падсціланне падушак, а адпушчаніцы павінны былі скласьціся і занесьці падарунак Феропіі. Калі ўсё гэта было выканана, тады самі дэцэмвіры, у Ардэі, на грамадзкім пляцу, прынесьлі вялікія ахвяры. Нарэшце, ужо ў снежні былі прынесены ахвяры ў Рыме, каля храма Сатурна*[93] *і наладжана падсьціланне падушак* (падсьцілалі самі сенатары) *і баляванне для народа. На цэлыя суткі было абвешчана сьвяткаванне Сатурналій і з таго часу на вечныя часы народу загадана ладзіць гэтае сьвята*».



[92] Мінерве ад біблейскага МНЕ-РОЎ – адзінка незлічонасьці, багіня злічэння, з двума сьвятамі квінкватрый (г.азн. пяцібрамных пасьвячэнняў): першае – навуковае – у сакавіку, каля вясновага раўнадзенства, і другое – сьвята мастацтва – у чэрвені пад час летняга сонцастаяння. Па-грэцку Мінерва мела назву Палада – багіня полымя – ад біблейскага ПЛДЕ – полымя. Лічыцца, што яе культ бярэ пачатак ад полымяшанавання, а Афіна-Палада азначае проста Афінская багіня полымя. Напэўна, на яе пасадзе гарэла нязгасаючае полымя. Цікава, што і слова Веста, полымя якой падтрымвалі вясталкі-манашкі, таксама жыдоўскага паходжання ад ВШТ (ці ВСТ) – сарамлівасць; пры гэтым значэнне слова пачало перамяняцца пераходзячы ў ганебнасць.

[93] Відаць, ад біблейскага ШТН ці Сатон, што азначае перашкаджаючы. Па-грэцку Сатурн мае назву Кронас таксама, верагодна, ад біблейскага КРН – рог, лёс, рок.

Мал. 44
Месяцовае зацьменне, аточанае галасам.



Мал. 49
Дождж знічак.

Я не буду тут выпісваць астатнія «знаменні і цуды», апісаннем якіх, як лічылі, пачынаюцца для надання цікавасьці амаль усе главы Шаноўнага Лівійца, акрамя асобна стаячай першай дэкады, каб не стамляць чытача іх аднастайнасьцю, і закончу гэтую частачку толькі адным выпісам, каб паказаць, што ва ўсіх гэтых дзівах ужо праглядаецца больш позні еўрапейскі аўтар. Пад 585 годам ab Urbae мы бачым наступную нататку ад імя «Ціта і Лівія».

**Кніга XXIII, 9-13.**

«*Я ведаю, што дзякуючы абыякаваму стаўленню, з нагоды чаго зараз наогул лічаць, што багі нічога не прадвяшчаюць, сведчанні ні пра адно дзіва не пашыраюцца сярод народа і не заносяцца ў летапісы. Але вось, апісваючы старажытныя падзеі, я не ведаю, якім чынам, я засвойваю сабе старажытны склад думак і лічу за грэх меркаванне, што не мае сэнсу ўключаць у маю гісторыю тое, што тыя самыя мудрыя мужы прызнавалі годным увагі дзяржавы*». А потым пасьля гэтага цікавага прабачэння, магчымага толькі ў вуснах аўтара новага часу, калі містычныя пгляды на прыроду пачалі замяняцца рэалістычнымі, аўтар па ранейшым працягвае: *«Так із Апагніі ў тым годзе паведамілі пра два дзівы: на небе была бачна знічка* (метэарыт), *і карова загаварыла. Яе пачалі даглядаць на грамадзкія сродкі. У Ментурнах пад час гэтых дзён неба здавалася падпаленым. У Рэаце ішоў каменны дождж. У Кумах у крамлі статуя Апалона тры дні і тры ночы плакала. У Рыме двое храмавых вартаўнікоў паведамілі: адзін – што ў храме Фартуны шмат хто бачыў змею з грэбнем, другі – што ў храме Першароднай Фартуны, які знаходзіцца на ўзгорку, адбылося два розныя цуды: на двары вырасла пальма, і сярод белага дня ішоў крывавы дождж. Потым яшчэ два цудоўныя знаменні не былі прызнаны, – адно таму, што адбылося на прыватным месцы* (згода са сведчаннем Т. Марцыя Фігула, у яго на двары вырасла пальма), *другое таму, што здарылася на чужацкай зямлі. Паведамлялі, акрамя таго, што ў Фрэгелах у сядзібе Л. Атрэя дзіда, купленая ім для свайго сына-ваяра, сярод дня гарэла на працягу больш за дзьве гадзіны, але полымя нікольк не пашкодзіла яму. З нагоды гэтых боскіх знакаў дэцэмвіры зрабілі даведку ў Пісанні і пералічылі, якім сьвятым консулы павінны прынесьці*

*40 буйных ахвярных жывёл. Яны прызначылі ўсенароднае набажэнства і загадалі, каб усе ўрадоўцы ва ўсіх ложах богаў прынесьлі вялікія ахвяры, і каб народ быў у вянках. Усё было зроблена, як загадалі дэцэмвіры*».

А пасьля гэтага, у 44 кнізе (§ 36-37), апісваецца ўжо не аднойчы цытаванае намі месяцовае зацьменне 9 верасня 415 года нашай эры[94], прадказанае з ўсімі падрабязнасьцямі французам Сюльпісам, даўшага пры гэтым і сучаснае тлумачэнне месяцовых зацьменняў. I я ўжо выкзваў меркаване, што аднаго гэтага месца было б дастаткова для таго, каб прызнаць кнігі Шаноўнага Лівійца за творы Эпохі Адраджэння.

Патрэбна, аднак, заўважыць, што гэтае месца, пачынаючы ад § 36 да 39 уключна, з'яўляецца, магчыма, дададзеным: перад ім лічацца згубленымі чатыры, а пасьля яго два лісты рукапісу.

Такім астранамічным дзівам я і закончу свае вытрымкі із Ціта Лілія. Пазначу, што набіраў ён свае дзівы вельмі неаглядна. Адны і тыя ж знаменні фігуруюць у яго пад некалькімі гадамі, і калі ён падобным жа чынам падбіраў свае паведамленні і пра вайсковую гісторыю Рыма, то давяраць ім немагчыма. Мы бачым тут ваюючымі сярэднявечных консулаў, г.азн. дарадцаў, штогадова выпраляемых у правінцыю, бачым калегію сьвятароў (pontifices), падобную на рымскіх кардыналаў, бачым і сярэднявечнага найвялікшага пантыфекса (Pontifex Maximus), як зваліся пад час сярэдневечча рымскія папы, і ў той жа час згадваем, што гэта было званне таксама і заходне-рымскіх імператараў, якія таксама абіраліся пажыццёва.

Што ж да паведамляемых Лівіем цудаў, то гэта характэрныя сярэднявечныя дзівы, якія апісваліся на працягу ўсёй Эпохі Адраджэння, а найменні пералічаных у яго багоў з'ўляюцца толькі рознымі тытуламі хрысьціянскіх богаў і напаловубагоў, маючых назву сьвятыя.

I калі тут шмат было богамаці пад найменнем Галубак (Юнонаў), якія лічыліся заступніцамі розных гарадоў, то яшчэ больш мы маем іх у сучаснай хрысьціянскай царкве: і Суздальскіх, і Казанскіх, і розных іншых багародзіц-паннаў, аж да багародзіцы-трохручыцы.

Параўнайце апісанне гэтых знаменняў і цудаў «Шаноўнага Лівійца» хаця б з падобнай жа хронікай Лікасфена, належачай ужо да эпохі друкавання, і вы самі пераканаецеся, што гэтыя дзьве кнігі – родныя сёстры.

# Глава IV

## Скасаванне ў сталіцы закона супраць жаночых убораў.

Як узор чыста сярэднявечнай рыторыкі «Шаноўнага Лівійца» я дадаю літаральна паўтораны ўрывак (хаця і са скарачэннем некалькіх не маючых таленту і карысьці шматслоўяў) яго апавядання пра скасаванне Апіева закона супраць «жаночай раскошы», прынятага быццам бы яшчэ за 1 000 гадоў да таго часу, як сярэднявечныя манахі пачалі патрабаваць ад жанчын таго ж[95].

Вось як ён апісвае гэту гісторыю з жаночымі ўборамі.

---

[94] «Хрыстос», трэццяя кніга, стар. 231 і тут у пралогу.

[95] Агульная храналогія дапасуе яго да мінус 208 года нашай эры, а «Шаноўны Лівіец» пазначае апісваемую ім жаночую ўрачыстасць 545 годам ад заснавання горада».

**Кніга XXXIV.**

«*Сярод клопатаў пра вялікія войны, ледзь толькі скончаных ці яшчэ маючых адбыцца, узнікла падзея малаважная, але ператварыўшаяся з нагоды захаплення партый у вялікую спрэчку. Народныя трыбуны М. Фунданій і Л. Валеры выйшлі да народа з прапановай скасаваць Апіевы закон. Гэты закон правёў народны трыбун М. Апій пры консульстве Кв. Фабія і Т. Семпронія, пад час самога разгару Пунічнай вайны. Згодна з ім ніводная рымская дама не павінна была мець золата больш чым палова ўнцыі, не магла апранаць шматкаляровае адзенне і ездзіць у парным экіпажы па Рыму ці па іншаму гораду, ці ў іхным наваколлі, бліжэй чым 1000 крокаў. Выключэннем былі толькі выпадкі выездаў пры публічных ахвяраваннях*.

*Народныя трыбуны М. і Т. Юнін Бруты вступілі за абарону Апіева закона і заявілі, што яны не дапусьцяць яго скасавання, і шмат шляхетных асоб, выступіла як за закон, так і супраць яго. Капітолій напоўніла маса людзей, стаяўшыж за і супраць. Ніводную із рымскіх жанчын не змаглі затрымаць у сядзібе ні аўтарытэт валадароў, ні пачуццё прыстойнасьці, ні ўлада яе чалавека. Яны запаланілі ўсе вуліцы горада і падыходы да форума, і малілі ішоўшых туды мужчын, каб зараз пры квітнеючым становішчы ў дзяржаве, пры павялічваючымся з дня на дзень усеагульным дабрабыце грамадзянаў, было дазволена і ім вярнуць ранейшыя ўпрыгожванні. Натоўп жанчын павялічваўся з кожны днём, яны прыходзілі нават із іншых гарадоў і гандлёвых месцаў.*

*Яны звярталіся да консулаў, прэтараў і іншых службовых асобаў і ўпрошвалі іх. Але цалкам няўмольным для іх выявіўся адзін із консулаў. М. Порцый Катон, які так выказваўся ў абарону скасоўваемага закона:*

«*Калі б кожны із нас, грамадзяне, узяў сабе за правіла падтрымліваць сваё права і высокае значэнне мужа ў дачыненні да маці сямейства, то менш было б нам клопатаў з жанчынамі; а зараз наша воля, зведаўшы паразу ў сядзібе ад жаночага сваволля, і тут, на форуме ўціскаецца і ўтоптваецца імі ў бруд. І дзякуючы таму што мы не змаглі даць рады кожны адной толькі сваёй жонцы, то зараз трымцім перад усімі. Я лічыў байкай і прыдумкай паведамленне, што ўсё мужчынскае насельніцтва з коранем было вынішчана на нейкай выспе з нагоды жаночай змовы*[96]*, але зараз бачу, што ад кожнага роду людзей пагражае небяспека калі дазволіць ім сходкі, сходы і таемныя нарады. Я ніяк не магу вырашыць для сябе, што горш: ці сам гэты выпадак ці прыклад, які ён падае? Прыклад мае дачыненне да нас, консулаў, і іншых кіруючых асоб, а выпадак мае больш дачыненне да вас, грамадзяне. Таму што вам, хто будзе падаваць галасы, належыць права вырашыць, ці будзе карыснай для дзяржавы гэтая прапанова ці не. Гэтае абурэнне жанчын (ці адбылося яно само сабой, ці дзякуючы вашаму, Фунданій і Валер, падбухторванню) складае без сумневаў віну службовых асоб. Але я не ведаю, ці з'яўляецца яно больш ганебным для вас, трыбуны, ці для консулаў: для вас, калі вы давялі трыбуцкія мецяжы ўжо да таго, што падбухторваеце жанчын, і для нас, калі зараз даводзіцца прымаць законы пра выдаленне жанчын, як былі некалі прыняты пра выдаленне плябеяў*».

«*Вы часта чулі, як я скардзіўся на марнатраўнасць жанчын і мужчын, не толькі прыватных асоб, але і службовых, і на тое, што дзяржава пакутуе ад двух асноўных заганаў, ад прагнасьці і раскошы, якія знішчылі ўсе вялікія дзяржавы* (якія ж да знішчэння Рыма?) *Чым больш лепшым і радасным робіцца з кожны днём становішча дзяржавы, чым больш пашыраецца наша ўлада, – мы ўжо пераходзім у Грэцыю і Азію, краіны, перапоўненыя рознымі прынадамі для захапленняў, мы працягваем свае рукі нават да царскіх скарбніц, – тым больш я баюся, што ўсе гэтыя рэчы хутчэй завалодаюць намі, чым мы імі. На бяду, паверце мне, прынесены ў наш горад карціны із Сіракузаў. Ужо занадта шмат хто, чую я, ухваляюць і захапляюцца мастацкімі творам Карынфа і Афінаў і смяюцца над глінянымі выявамі рымскіх сьвятых на франтонах храмаў. Але я*

---

[96] На Лемнасе, дзе толькі Гіспіпіла выратавала свайго бацьку Фанта, цара выспы.

*аддаю перавагу гэтым нашым літасьцівым богам, і такімі ж літасьцівымі, спадзяюся, яны будуць і далей, калі мы дазволім ім магчымасць заставацца на сваіх месцах...*

*Няўжо вы, грамадзяне, маеце жаданне выклікаць паміж сваімі жонкамі такое спаборніцтва, каб заможныя жонкі імкнуліся да набыцця таго, чаго ніякая іншая жанчына не зможа набыць, а бедныя жонкі падалі ад стомы, каб не быць пагарджаемай за сваю беднату? Сапраўды, яны пачнуць сароміцца таго, чаго не патрэбна, і перастануць сароміцца таго, чаго патрэбна сароміцца. Усё, што толькі будзе здольнай, кожная жанчына будзе набываць дзякуючы сваім сродкам, а чаго не будзе ў стане набыць, пра тое пачне прасіць у чалавека. Няшчасным будзе як той чалавек, які саступіць прашэнням сваёй жонкі, так і той, які не саступіць, калі пабачыць, што іншы дае ёй тое, чаго ён не даў. Вось і зараз яны просяць чужых мужоў і, што яшчэ больш жудасна, патрабуюць для сябе галасоў, і дасягаюць абяцання ад некаторых асоб.*

*Ты чалавек саступаеш жонцы ва ўсім, што мае дачыненне да цябе, тваіх спраў і тваіх дзяцей і таму, як толькі закон перастане вызначаць мяжу марнатраўнасьці тваёй жонкі, ты ніколі не здолееш усталяваць ёй мяжу. Такім чынам, мая думка такая, што Апіеў закон ніякім чынам не павінен быць скасаваны. Але якім бы ні было ваша рашэнне, маё жаданне застаецца адзіным: каб усе багі даравалі вам шчасьце*».

Пасьля гэтага і народныя трыбуны, заяўляўшыя раней, што яны будуць пратэставаць супраць скасавання Апіева закона, дадалі некалькі слоў у падобным сэнсе. Пасьля гэтага Валер выказаў такую прамову ў якасьці абароны абнародаванай ім прапановы.

«*Калі б толькі прыватныя асобы выступалі з ухваламі ці крытыкай нашай прапановы, то я таксама моўчкі чакаў бы вашага рашэння, лічачы, што дастаткова выказана мяркаванняў у абарону той і другой думкі. Зараз жа, калі шаноўны консул Порцый, аспрэчваў нашу прапанову не толькі сваім аўтарытэтам, які і без слоў меў бы дастатковую магутнасць, але і з дапамогай доўгай і старанна абдуманай прамовы, то трэба сказаць некалькі слоў і ў адказ... Сходкай, абурэннем і жаночым занядбаннем сваіх абавязкаў ён называе той факт, што рымскія жанчыны ў грамадзкіх месцах прасілі вас, каб выдадзены супраць іх падчас вайны, пры цяжкіх абставінах, закон, быў скасаваны зараз у перыяд замірэння, пры росквіце і павялічэнні дастатку ў дзяржаве. Я ведаю, што існуюць моцныя словы, падбіраемые з мэтай павялічыць сур'ёзнасць справы, і што Катон, як усім нам вядома, не толькі сур'ёзны прамоўца, але часам нават суровы, нягледзячы на пакорлівасць свайго характару. Але што ж такога новага зрабілі рымскія жанчыны, калі прыйшлі натоўпам на публічнае месца з нагоды пытання, якое закранае іхныя інтарэсы? Хіба ж да гэтага часу яны ніколі не з'яўляліся ў публічным месцы? Карыстаюся тваім творам «Пачаткі»*[97] *супраць цябе. Пачуй жа, як часта* (у цябе ж) *жанчыны рабілі гэта і прытым заўсёды для грамадзкай выгоды. Яшчэ пад час валадарання Ромула, калі, пасьля захопу Капітолія сабінянамі, пачалася бойка на сярэдзіне форума, ці не дзякуючы таму што рымскія жанчын узялі ўдзел у гэтай сраве была спынена бойка паміж двума войскамі? Калі, пасьля выгнання цароў, легіёны вольскаў пад правадырствам Марцыя Карыялана размясьціліся лагерам каля пятага каменя, ці не жанчыны павярнулі назад гэтае войска, якім наш горад мог быць знішчаны? А калі горад быў ужо захоплены франкамі, дзякуючы чаму ён быў выкуплены? Рымскія жанчыны з агульнай згоды, прынесьлі золата на ахвярнік бацькаўшчыны. Але, каб не прыводзіць старажытных прыкладаў, скажу што і пад час біжэйшай вайны, калі былі патрэбны грошы, ці не грошы ўдоваў дапамаглі дзяржаўнаму скарбу? А калі пад час цяжкіх абставін на дапамогу заклікаліся нават новыя багі, ці не ўсё рымскія жанчыны выправіліся да мора дзеля сустрэчы Ідэйкай Богамаці*?...

---

[97] Спасылка на «Пачаткі» ў дадзеным месцы анахранізм; згодна з гістарычнай традыцыяй гэты твор напісаны Катонам гадоў на 25 пазьней.

*Прыступаю зараз да справы, пра якую ідзе гаворка. Тлумачэнні консула падзелены на дзьве часткі. Па-першае, ён выказаў абурэнне на тое, што цалкам касуецца нейкі закон, і па-другое, што касуецца той менавіта закон, які выдадзены дзеля ўтаймавання жаночай раскошы. Першая частка прамовы, накіравана на абарону законаў цалкам, здаецца годнай для консула, і другая – супраць раскошы – пагадняецца з найвялікшай строгасьцю нораваў. Пагэтаму, калі мы не пакажам таго ілжывага, што змяшчаецца ў той і другой частках, то гэта пагражае небяспекай, як бы вы не зрабілі б нейкую памылку. Я павінен прызнаць, што ніводзін із тых законаў, якія выдадзены не на кароткі час, а на вечныя часы дзеля пастаяннай карысьці, не павінен быць скасоўваемы, за выключэннем таго выпадку, калі досьвед паказаў яго немэтазгоднасць, ці нейкая перамена становішча дзяржавы зрабіла яго не маючым карысьці. Але законы, выдадзеныя толькі дзякуючы існаванню вядомым абставін, згодна з маім перакананнем, так бы мовіць, сьмяротныя і іх неабходна скасаваць пасьля знікнення гэтых абставін. Законы выдадзеныя пры панаванні міру большай часткай скасоўваюцца пры вайне, выдадзеныя падчас вайны, скасоўваюцца пры мірным жыцці, дакладна так, як пры кіраванні караблём адны прыёмы прыдатныя пры спрыяльным надвор'і, іншыя – пры буране...*

*Да якога ж разраду належыць закон, які мы маем намер скасаваць? Калі гэта старадаўні царскі закон, узнікшы разам з самім горадам, ці, непасрэдна пасьля таго, запісаны на дванаццаці табліцах дэцэмвірамі, абранымі для складання законаў, і калі, згодна з меркаваннем нашых продкаў, без гэтага закону не змог быць захаваны жаночы гонар, то і нам патрэбна асьцерагацца, каб разам з яго скасаваннем не пазбавіць жанчын сораму і бязгрэшнасьці. Але хто ж не ведае, што гэта новы закон, выдадзены пад час консульства Кв. Фабія і Т. Семпронія, 20 гадоў таму назад? Таму што і без яго рымскія жанчыны жылі, захоўваючы выдатныя норавы на працягу стольких гадоў, то якая ж пагражае небяспека, каб яны пасьля яго скасавання не захапіліся раскошай?*

*Няўжо толькі нашым жонкам не дастанецца плён замірэння і грамадзкага спакою? Мы, мужы, будзем прыбірацца ў пурпур і апранацца ў прэтэксту пры выкананні дзяржаўных пасад і набажэнскіх званняў; нашы дзеці будуць апранацца ў тогі, аблямаваныя пурпурам у асадах і муніцыпіях; тут у Рыме нават самаму нізкаму разраду людзей – участковым кіраўнікам – нададзена права насіць тогу, прэтэксту, і не толькі пры жыцці карыстацца такім адрозненнем, але і пасьля сьмерці быць спаленым у ёй. Няўжо толькі жанчынам мы забаронім нашэнне пурпуру? Тым часам як табе, мужу, можна выкарыстоўваць пурпур нават для прыгатавання гунькі, няўжо ты не дазволіш маці сямейства мець пурпуровае адзенне, няўжо твой конь будзе пакрыты прыгажэй, чым апранута твая жонка? Але ў дачыненні да пурпуру, які вышароўваецца, зношваецца, я бачу, хаця і несправядлівую, але ўсё ж некаторую падставу для скупасьці. А што гэта за скнарлівасць у дачыненні да золата, у якім не бывае ніякай страты, акрамя платы за яго апрацоўку? Хутчэй у ім дапамога нам як для прыватных, так і для грамадзкіх патрэб, як вы ўжо выпрабавалі. Прамоўца запэўніў, што паміж жанчынамі не будзе суперніцтва, калі ніводная не будзе мець упрыгожванняў. Але, клянуся вам, усе нашы жонкі ўжо смуткуюць і абураюцца, бачачы, што пазбаўлены тых упрыгожванняў, якія дазволена мець жонкам хаўруснікаў лацінскага племені, што самі яны ходзяць пешшу, калі тыя блішчаць золатам і пурпурам і раз'язджаюць па гораду ў калясніцах, як быццам бы вярхоўная ўлада належыць іхнай дзяржаве, а не нашай. Гэта магло б раздражніць самалюбства нават мужчын, а што вы думаеце пра пачуцці слабых жанчын, якія прыходзяць у хваляванне нават ад дробязяў?... Вы павінны трымаць іх пад сваёй уладай і пад апекай, але не ў рабстве, і аддаваць перавагу звацца бацькамі ці мужамі, чым гаспадарамі. Ненавісныя словы ўжыў зараз консул, кажучы пра жаночае абурэнне і выдаленне. Сапраўды, падумаеш, пагражае небяспека, каб яны не занялі Сьвятую гару ці Авентын, як некалі разгневаныя плебеі. Але не, гэтай далікатнай стаці давядзецца*

*перанесьці ўсё, што б вы ні вырашылі, і чым больш вы магутныя, тым больш умерана павінны карыстацца ўладай».*

*На наступны дзень пасьля гэтых прамоваў супраць закона і яго абарону, яшчэ значна большы натоўп жанчын высыпаў на вуліцу. Суцэльнай масай яны сталі каля дзьвярэй Брутаў, якія пратэставалі супраць прапановы таварыша зьнішчыць закон супраць іхных убораў, і разышліся толькі тады, калі трыбуны адмовіліся ад свайго пратэсту.*

*«Пасля гэтага не было ўжо ніякага сумневу ў тым, што ўсе пададуць галасы за скасаванне закона. І ён быў скасаваны праз 20 гадоў пасьля выдання».*

Такім, чытач, выяўляецца адлюстраванне нораваў, апісваемых Цітам Лівіем, такія прамовы яго прамоўцаў! Усё гэта не толькі нічым не нагадвае вам склад сапраўды старажытных кніг нападобе «Кнігі Быцця» ці «Мудрасьці Езуса сына Сірахава» ці нават «Евангелля ад Яна», але дыхае Эпохай Адраджэння, якая ў рэчаіснасьці была якраз эпохай зараджэння падобных вялікіх кампілятыўных твораў.

У гэтым апавяданні шмат што псіхалагічна праўдападобна, але не ў дачыненні да старажытнасьці, а хутчэй да таго часу сярэдневечча, калі ўжо пачалі развівацца рыцарскія пачуцці да жанчыны, немагчымыя пад час грубай старажытнасьці з яе шматжонствам і магчымыя толькі з усталяваннем аднаадружвання.

Так! Тут апісваецца псіхалагічны стан манагамнага грамадства, а ніяк не гарэмныя норавы гінекіяў. Псіхалогія тут дакладна адлюстравана ў прамовах абодвух прамоўцаў, але... і тут адразу ўзнікае пытанне: а якім жа чынам Ціт Лівій аднавіў гэтыя прамовы, адгучаўшыя за сотні гадоў да яго, калі яшчэ не існавала не толькі стэнаграфіі, але нават і хуткапісання?

Відавочна ж, што ён склаў іх сам, а ў такім выпадку ён так жа паспяхова мог скласьці і ўсё астатняе...

# Глава V

## Пра вэрхалы пад час псеўда-класічнага перыяду.

Пазнаёмімся спачатку са стылем чацьвёртай дэкады Ціта Лівія.

Вось што паведамляе «Шаноўны Лівіец» у 39 кнізе свайго (?) вялізнага твора:

**Кніга XXXIX.**

«*Нейкі грэк нешляхетнага паходжання прыбыў спачатку ў Этрурыю. Не валодаючы ніводным мастацтвам із тых, якія ўдасканальваюць душу і цела і якія прынёс да нас у вялікай колькасці самы асьвечаны народ* (г.азн. грэкі), *ён быў сьвятаром самага нізкага гатунку і вяшчуном. Ён быў не із тых, якія, не карыстаючыся таямнічымі прыёмамі, адкрыта заяўляюць пра сваё рамяство і пра сваю навуку, і гэтым надаюць розумам скажоныя думкі, а прадстаўніком таемных начных сьвятадзеянняў. То былі таемствы паведамляемыя толькі нешматлікім. Потым яны пачалі пашырацца сярод мужчын і жанчын. У іх да рэлігійных звычаяў дадаваліся асалоды віном і баляваннем, каб прыцягнуць яшчэ большую колькасць прыхільнікаў.*

*Віно распальвала жарсьці, а змрок ночы ў стане перамяшання мужчын і жанчын, як асоб юнага веку, так і старых, зьнішчаў якое б то ні было пачуццё сарамлівасьці. Спачатку пачалі ўзнікаць разнастайныя спакушэнні, таму што кожны знаходзіў гатовае задавальненне таго імкнення, да якога быў найбольш схільны згодна з прыродай. І справа*

*не абмежавалася аднымі оргіямі, адной распушчанасьцю шляхетных юнакоў і жанчын без разбору. Із тых жа майстэрняў пачалі выходзіць ілжэсведкі, падробленыя пячаткі, тэстаменты і даносы; адтуль жа прыйшлі атручванні і забойствы, здзейсненыя дома, так што часам не знаходзілі нават трупаў, каб іх пахаваць. Шмат злачынстваў здзяйснялася з дапамогай хітрасьці, яшчэ больш з дапамогай гвалту. Утойванню гвалту спрыяла тое, што за гулам завыванняў і громам тымпанаў і кімвалаў у храме, немагчыма было пачуць крыкі людзей прасіўшых пра дапамогу*».

Чытач бачыць сам, што тут аўтар кніг Ціта Лівія пускаецца ў рамантыку так званых рытуальных забойстваў, у якіх сярэднявечныя хрысьціянскія пісьменнікі абвінавачвалі чужыя ім секты хрысьціянаў і юдэяў, цалкам не маючы ніякага ўяўлення пра псіхалагічную наіўнасць і недарэчнасць падобных прадуктаў свайго разгуляўшагася ўяўлення. Якім чынам маглі завыванні цэлага натоўпу і грыменне тымпанаў і кімвалаў спрыяць утойванню гвалтаў і забойстваў, а не мець у выніку іхнае хуткае дазнанне, прыцягваючы да таго месца цікавасць усіх суседзяў? Для чалавека які правёў шмат гадоў у складзе таемных таварыстваў, як я, гэта здаецца да такой ступені дзікім і смешным, што сорамна нават і чытаць падобнае месца. Уявіце сабе толькі: амаль ці не штодзённыя чарговыя сходы натоўпу змоўшчыкаў, здзяйсняючых таемныя гвалтаванні з музыкай і завываннямі на ўсю вуліцу, каб не было чуваць крыкаў іхных ахвяр! І ніхто із атачаючых людзей не заўважае гэтага на працягу шматлікіх гадоў! Што можа быць больш недарэчным такой прыдумкі! Але будзем працягваць выпіс далей.

«*Гэтае ганебнае зло пракралася, як заразлівая хвароба, із Этрурыі ў Рым,* – паведамляе далей Ціт Лівій. – *Спачатку яно не заўважалася, з нагоды велічыні горада, больш шырокага і прыдатнага для падобных бязладдзяў. Але, нарэшце, консул П. Пастумій быў азнаёмлены з гэтым пры наступных абставінах. П. Эбутый, бацька якога адбываў службу ў кавалерыі, застаўшыся сіратой і страціўшы потым сваіх апекуноў, выхоўваўся пад наглядам сваёй маці Дуроніі і вотчыма Тыберыя Семпронія Рутыла. Маці была цалкам адданай свайму чалавеку, а вотчым, здзяйсняючы нагляд так дрэнна, што не змог даць справаздачу, пажадаў нейкім чынам пазбавіцца ад сіраты, ці зрабіць яго залежным ад сябе.*

*Адзіным сродкам спакусіць яго былі вэрхалы. Маці, паклікаўшы свайго сына, паведаміла яму, што падчас яго хваробы яна дала зарок прысьвяціць яго служэнню Бахусу, як ён толькі акрыяе. З ласкі багаў, яе маленне было пачута, і яна жадае выканаць свой зарок. Яму патрэбна дзесяць дзён заставацца цнатлівым, і на дзясяты дзень, калі ён паабедае, добра памыецца, яна завядзе яго ў сьвяцілішча.*

*Паблізу ад іх жыла вядомая ўсім публічная жанчына, вольнаадпушчаніца Гіспала Фецэнія, стаяўшая вышэй таго занятку, да якога прызвычаілася будучы нявольніцай, і дзякуючы якому яна жыла пасьля таго, як яе адпусьцілі на волю. З нагоды суседства паміж Эбутыем і ёю ў іх узнікла сувязь, не прыносіўшая ніякай шкоды ні маёмасьці, ні добраму імені маладога чалавека. Таму што гэтая жанчына пакахала яго сама і першай шукала знаёмства. А так як яго родныя былі вельмі скупымі, то яна дапамагала яму сваімі сродкамі. Яе прыхільнасць дайшла нават да таго, што пасьля сьмерці свайго апекуна, застаўшыся самастойнай, яна прасіла ў трыбунаў і ў прэтара сабе апекуна, а, робячы тэстамент, прызначыла Эбутыя сваім адзіным спадкаемцай.*

*Дзякуючы таму, што пры такіх доказах кахання,* – працягвае аўтар свой дрэнны раман, – *у іх не было адзін ад аднаго таямніц, то малады чалавек жартам параіў ёй не здзіўляцца, калі ён некалькі начэй будзе спаць асобна: ён маўляў жадае із рэлігійнага пачуцця пасьвяціць сябе ў таемствы Бахуса, каб выканаць зарок, дадзены маці за яго акрыянне.*

*Пры гэтым паведамленні Гіспала ўсклікнула ў стане хвалявання:*

*– Хай Бог абароніць! Лепш для мяне і для цябе памерці чым здзейсніць гэта!*

*Яна пачала заклікаць праклёны і пагрозы на галовы тых, хто даў такую параду.*

*Малады чалавек, здзіўляючыся яе словам і моцнаму хваляванню, папрасіў яе ўстрымацца ад праклёнаў, таму што так яму загадала зрабіць яго ўласная маці са згоды вотчыма.*

*– Такім чынам, – запярэчыла яна, – твой вотчым* (таму што абвінавацьваць маці, магчыма, грэх) *такім спосабам спяшаецца пазбавіць цябе цнатлівасьці* (?!), *добрага імя, надзеі і жыцця»*.

*Юнак яшчэ больш здзівіўся і папрасіў яе патлумачыць у чым справа.*

*Тады, молячы богаў і багінь даравацъ ёй, калі каханне вымушае яе адкрыць тое, што павінна захоўвацца ў таямніцы, яна паведаміла яму, што, быўшы прыслужніцай, яна была ў гэтым сьвяцілішчы, суправаджаючы сваю спадарыню, але, зрабіўшыся вольнай, ніколі туды не хадзіла. Яна ведае, што гэта – месца разнастайнай распусты. Ужо на* ***працягу двух гадоў вядома****, што там нікога не прысьвячаюць старэй 20 гадоў. Кожнага, як толькі заводзяць туды, перадаюць сьвятарам, як ахвяру Бахусу. Тыя заводзяць яго ў такое месца,* ***дзе чуюцца завыванні, спеў, музыка, звон кімвалаў і тымпанаў****, каб было немагчыма пачуць крыкі пра дапамогу пры здзяйсненні над ім гнюснага гвалту* (працягвае фантазіраваць аўтар, забываючыся, што грукат павінен яшчэ больш прыцягваць увагу якога заўгодна мінака*). Яна пераканаўча просіць яго якім заўгодна спосабам разладзіць гэтую задуму і не імкнуцца туды, дзе спачатку патрэбна будзе зведаць гідотныя абразы, а потым самаму здзяйсняць іх.*

*Яна толькі тады адпусьціла маладога чалавека, калі той даў слова гонару, што ўхіліцца ад гэтых сьвятадзействаў.*

*Пасьля вяртання дахаты, калі маці загаварыла пра ўсё тое, што згодна з патрабаваннем культу патрэбна выканаць у гэты і ў наступныя дні, ён адказаў, што нічога падобнага ён не зробіць і не жадае прысвячаць сябе ў гэтыя таемствы. Дуронія* (яго маці) *гнеўна закрычала, што юнак не можа і дзесяці начэй пражыць без Гіспалы і, будучы зачараваны спакуслівымі лашчаннямі гэтай яхідны, не адчувае павагі ні да сваёй маці, ні да айчыма, ні да багоў. Потым і маці і айчым з лаянкай выгналі яго із сядзібы з дапамогай чатырох рабоў. Малады чалавек пайшоў да сваёй цёткі і паведаміў ёй, за што яго прагнала маці, а на наступны дзень, згодна з парадай цёткі, ён паведаміў пра сваю справу без сведак консулу Пастумію...*

*Лічачы дастотка дасьведчаным, што данос Эбутыя не ілжывы, консул, адпусьціўшы яго, папрасіў цётку паклікаць да сябе вольнаадпушчаніцу Гіспалу... Атрымаўшы такое запрашэнне, Гіспала вельмі ўстрывожылася тым, што яе клічуць да такой шляхетнай і паважанай жанчыны, а калі потым пабачыла перад яе сядзібай ліктараў, усю консульскую сьвіту і самога консула, то ледзь не страціла прытомнасць.*

*Яе завялі ва ўнутраныя пакоі, і консул у прысутнасьці сваёй цешчы, пачаў запэўніваць яе, што ёй няма чаго баяцца, калі яна скажа праўду. Хай яна верыць слову такой жанчыны, як Сульпіцыя, ці яго самога, і адкрые яму ўсё, што звычайна адбывалася ў гаі Семелы пры начным служэнні на сьвяце Бахуса.*

*Пачуўшы гэта, няшчасная жанчына так спалохалася, і ўся задрыжэла, што доўгі час не была ў стане вымавіць хаця б слова... Не сумняваючыся ў тым, што Эбутый выдаў таямніцу, як гэта і было на самай справе, яна ўпала да ног Сульпіцыя, і спачатку пачала маліць яе не ператвараць пустую размову вольнаадпушчаніцы са сваім каханкам не тое што ў сур'ёзную, але нават і ў крымінальную справу; яна маўляў нагаварыла ўсё гэта з мэтай напалохаць, а не таму, што нешта ведала.*

*Пастумій у гневе закрычаў:*

*– Ты магчыма лічыш, што яшчэ і зараз жартуеш са сваім каханкам Эбутыем, а не прамаўляеш у сядзібе самай шаноўнай жанчыны і пры гэтым з консулам!.*

*Сульпіцыя падняла трапечучую ад перапалоху жанчыну, супакойваючы яе і ў той жа час супакойваючы гнеў свайго зяця.*

*Нарэшце, Гіспала падбадзёрылася і, вельмі ўпікаючы Эбутыя, што ён такім чынам аддзячыў яе за зробленыя ёю яму паслугі, прамовіла, што вельмі баіцца богаў, пра таемны культ якіх яна паведаміла, але яшчэ больш баіцца людзей, якія сваімі ўласнымі рукамі разарвуць яе, як даносчыцу. Таму яна моліць Сульпіцыю і консула выдаліць яе куды-небудзь за межы Італіі, дзе яна магла б правесьці астатак жыцця ў бяспецы.*

*Консул папрасіў яе супакоіцца і запэўніў, што ён паклапоціцца пра яе бяспеку ў Рыме.*

*Тады Гіспала выкрыла паходжанне таемнага культу. Спачатку гэта была сьвяцільня, прызначаная для жанчын, і ніводзін мужчына звычайна туды не дапускаўся. На працягу года было толькі тры вызначаныя дні, калі адбывалася пасьвячэнне ў культ Бахуса і рымскія жанчыны па чарзе былі выбіраемы ў якасьці жрыц. Але Пакула Анія із Кампаніі, будучы жрыцай, ўсё перамяніла, як бы згодна з загадам багоў. Яна першай дапусьціла мужчын, прысьвяціўшы ў таемствы сваіх сыноў Міная і Герэнія Тэрыніяў* (працягвае фантазіраваць аўтар, ужо забыўшыся, што згодна з яго ж словамі ўсё гэта наладзіў «грэк нешляхетнага паходжання, прыбыўшы спачатку у Этрурыю*). Яна ж* (Пакула*), замест дзённага, ўсталявала начное служэнне і замест трох дзён на год прызначала па пяць дзён за месяц для прысвячэння ў таемствы. З таго часу, як набажэнствы пачалі здзяйсняць разам, мужчыны разам з жанчынамі, да іх далучылася распушчанасць, уласьцівая начному часу, і пачалі дапускацца розныя злачынствы і прыкрасьці; большую распушчанасць дапускалі паміж сабой мужчыны, чым жанчыны. Калі нехта выказвае агіду да заганы ці неахвотна здзяйсняе злачынствы, таго забіваюць, як ахвярную жывёлу. Нічога не лічыць за грэх, лічыцца ў іх падмуркам веры. Мужчыны, як бы ахопленыя ўтарапёнасьцю, прaракаюць, суправаджаючы свае словы ашалелымі рухамі цела;* ***жанчыны, ва ўборы вакханак, з распушчанымі валасамі збягаюць да Тыбра, трымаючы ў руцэ падпаленыя паходні, апускаюць іх у ваду і выцягваюць зноў палаючымі, бо яны прыгатаваны із сумесі серы і непагашанай вапны****».*

Ды дазволіць мне чытач тут зноў спыніцца. Уявіце, што апісанае купанне ў вадзе вакханак з паходнямі адбываецца ў вашым уласным горадзе, у працякаючай праз яго рэчцы, па якой увесь час праходзяць ці стаяць на якары розныя караблі, не кажучы ўжо пра гуляючую па беразе моладзь. Няўжо ж усё гэта так бы і засталося незаўважаным на працягу двух гадоў? Няўжо для выяўлення такіх рэлігійных вар'яцтваў спатрэбілася б сведчанне куртызанкі Гіспалы і выгнанне із сваёй сядзібы маці і апекуном яе каханка Эбутыя?

Я думаю, што калі вам, чытач, больш дзевяці гадоў, то вы самі пагадзіцеся, што для таго каб стала вядома пра такія штотыднёвыя оргіі не было ніякай патрэбы ні ў Гіспале, ні ў Эбутыі, ні ў яго апекуне. А справа яшчэ больш пагаршаецца наступнымі радкамі аўтара.

«*Яны* (г.азн. збягаючыяся да Тыбра з паходнямі рымскія жанчыны) *крычаць пры гэтым, што багі выкралі тых людзей, якіх завабілі ў таемныя пячоры, прывязалі там да прыстасавання і не пажадаўшых даць клятву браць удзел у здзяйсненні злачынстваў ці пераносіць ганьбаванне.*

*Пасьвечаных,* – працягвае Гіспала, – *было ужо дастаткова шмат, яны налічвалі амаль другі народ у Рыме, і ў іхным ліку былі некаторыя шляхетныя мужчыны і жанчыны. На працягу апошніх двух гадоў вызначана не далучаць нікога старэй чым 20 гадоў: шукаючы такі ўзрост, які быў бы схільны да памылак і псавання.*

*Закончыўшы гэтае сведчанне, Гіспала зноў упала да ног консула, паўтараючы тыя ж самыя прашэнні пра выдаленне яе із Італіі. Консул папрасіў цешчу прыгатаваць якую-небудзь частку сядзібы, дзе яна магла б размясьціцца на некаторы час. Ёй прызначылі пакой на верхнім паверсе; лесвіца, вядучая на вуліцу, была загароджана і ўваход да яе быў магчымым толькі праз іншыя пакоі. Адразу перанесьлі туды ўсю маёмасць Гіспалы і*

*выклікалі ўсю яе прыслугу. Эбутыю ж было загадала перабрацца да аднаго із кліентаў консула.*

*Такім чынам, калі абодва сведкі апынуліся пад наглядам Пастумія, ён перанёс абмяркаванне гэтай справы ў сенат, паведаміўшы ўсё пасьлядоўна, як тое, пра што ён даведаўся спачатку, так і тое, пра што ён выведаў пазьней. Сенатары (*які́я, відавочна, вельмі моцна спалі начамі адмыслова для таго каб не чуць аглушаючага шуму гэтых зборышчаў*) былі вельмі ўстрывожаны за лёс дзяржавы, асцерагаючыся, каб падобныя таварыствы і начныя сходкі не мелі наступствам нейкую таемную шкоды ці небяспеку, а прыватным чынам – кожны баяўся за лёс сваіх сям'яў, каб нехта са сваякоў не выявіўся вінаватым.*

*Сенат пастанавіў: выказаць падзяку консулу за тое, што ён правёў дазнанне гэтай справы з асаблівым імпэтам і без непатрэбнай агалоскі* (!!!). *Потым даручыў консулам па-за чаргова прыступіць да выведвання справы пра вэрхалы і пра начныя сьвятадзействы, паклапаціцца пра бяспеку даносчыкаў Эбутыя і Гіспалы і пра заахвочванне з дапамогай узнагарод іншых даносчыкаў; сьвятароў жа гэтага культу, выявіцца яны мужчынамі ці жанчынамі, адшукаць не толькі ў Рыме, але і па ўсіх рынках* (?!) *і месцам сходаў, каб яны былі пад наглядам консулаў…*

*Пад час ночы, наступнай за тым днём, калі гэтая справа была абвешчана на народным сходзе, каля брамы былі пастаўлены каравулы, і начныя трыўмвіры схапілі і прывялі назад шмат уцекачоў. Быў зроблены данос на шмат якія асобы. Некаторыя із іх, мужчыны і жанчыны, скончылі жыццё самагубствам. Была пагалоска, быццам бы больш чым 7 000 мужчын і жанчын бралі ўдзел у гэтай рэлігійнай змове. Стала вядома, што галоўнымі асобамі таемнага таварыства былі рымскія плябеі М. і Г. Атыніі, фаліск Л. Спітарній і кампанец Міній Цэрэній. Ад іх паходзілі ўсе злачынствы і зладзействы; яны былі вярхоўнымі сьвятарамі і заснавальнікамі гэтага культу. Паспрабавалі схапіць іх як магчыма хутчэй. Яны былі прыведзены да консулаў, прызналі сябе вінаватымі, і прысуд над імі быў неадкладна выкананы.*

*Тыя, хто былі толькі пасьвечанымі і, на падставе сьвятой формулы, толькі паўтаралі за жрацамі словы, вымаўляючы клятву змяшчаўшую ў сабе гнюсны абавязак браць удзел у якіх бы то ні было злачынствах і зладзействах, але яшчэ не здзейснілі ні над сабой ні над іншымі тых злачынстваў, выканаць якія былі абавязаны клятвай, былі пакінуты ў вязьніцы; тых жа, якія бралі ўдзел ў ганьбаваннях ці забойствах і заплямілі сябеілжэсведчаннямі, падробкай пячатак, падробкай тэстаментаў і іншымі злачынствамі, пакаралі сьмерцю. Больш было пакараных сьмерцю, чым закутых у кайданы... Асуджаных на сьмерць жанчын перадавалі сваякам, ці тым, пад ўладай каго яны знаходзіліся, каб тыя самі пакаралі іх сьмерцю, а калі не знаходзілася прыдатнага выканаўцы пакарання сьмерцю, то іх каралі сьмерцю публічна.*

*Потым консулам было дадзена даручэнне знішчыць усе сьвяцілішчы Вакха спачатку ў Рыме, а потым на прасторы ўсёй Італіі****, акрамя ахвярнікаў і статуй, асьвечаных у старажытнасьці****. На будучы час сенацкай пастановай забаранялася ладзіць вэрхалы ў Рыме і ў Італіі; калі ж нехта будзе лічыць гэтае служэнне сталым і абавязковым для сябе і не пажадае адмовіцца ад яго не гвалтуючы свайго сумлення і не здзяйсняючы граху, той павінен заявіць пра гэта гарадзкому прэтару, які запытае адносна гэтай справы меркаванне сената. Калі сенат у складзе не менш сотні сябраў дазволіць некаму гэтае служэнне, то той можа здзяйсняць яго, толькі пры ўмове, што на сьвятадзействе прысутнічала б не больш за пяць чалавек і не было б ні агульнай касы, ні старшыні сьвятадзейства, ні сьвятара.*

*…Праз некалькі час у Рыме з'явіўся С. Пастумій; згодна з яго справаздачай была выдадзена сенацкая пастанова пра ўзнагароджанне Эбутыя і Гіспалы Фецэніі, дзякуючы ўдзелу якіх былі выяўлены* (відавочныя!) *вэрхалы; была выдадзена сенацкая пастанова, каб гарадзкія квестары выдалі із дзяржаўнага скарбу па 100 000 асаў кожнаму з іх, каб*

*консул наладзіў перамовы з народнымі трыбунамі пра прыняцце, як магчыма хутчэй прапановы, якая б палічыла скончаным для П. Эбутыя тэрмін вайсковай службы: ён не павінен больш служыць супраць сваёй волі, і цэнзар не павінен прызначаць яму казённага каня. Феценыі Гіспале было нададзена права дараваць сваю маёмасць ці частку яе, адружвацца па-за межамі свайго роду, абіраць сабе апекуна, адружвацца з вольнанароджаным, не прыносячы ніякай шкоды ці ганьбы таму, хто адружыцца з ёю. Консулы і прэтары, як тагачасныя так і іхныя наступнікі, павінны клапаціцца пра тое, каб гэтая жанчына не зведвала ніякіх абраз і карысталася бяспекай. Такой была маўляў воля сената, і ён лічыць справядлівым, каб так было*».

*Пра ўвесь гэты былі зроблены прапановы народу і ўсё было выканана грунтуючыся на сенацкай пастанове. Пытанне адносна бяспекі і ўзнагароды іншых даносчыкаў было пакінута на рашэнне консулаў*».

Такімі словамі першакрыніца нашых ведаў пра стара-рымскае жыццё – Ціт Лівій – заканчвае гэтае сваё апавяданне, магчыма і не падазраючы пра яго недарэчнасць. І вось, мімаволі зноў і зноў узнікае пытанне: ці не такімі ж з'яўляюцца і яго іншыя апавяданні ці не з'яўляецца чароўнай казкай і ўсё тое, што ён паведамляе нам пра старажытны магутны горад Рым, у тым ліку і пра скасаванне ў ім законаў супраць жаночых убораў? І ці не прасьцей дапусьціць, што ў той час, да якога дапасуюцца ўсе гэтыя падзеі, у Італіі ўсё яшчэ хадзілі летам голымі, а зімой ў звярыных скурах?

# Частка VI

## Задняпроўскія атаманы ў кнігах Ціта Лівія[98].

Я не маю тут месца каб пералічваць іншыя ўзоры псеўдагістарычных паведамленняў Шаноўнага Лівійца, падобныя тым якія толькі што павядомлены: пра знаменні і цуды, пра скасаванне законаў супраць жаночай раскошы і пра выведванне вэрхалаў у Рыме. Дастаткова і гэтых прыкладаў. Але я не магу ўстрымацца ад таго, каб не паведаміць чытачу пра тое, што Ціт Лівій «яшчэ да пачатку нашай эры» ўжо ведаў пра нашых задняпроўскіх атаманаў. Вось гэтае кур'ёзнае месца.

Пад 563 годам «ab Urbe» мы чытаем у Ціта Лівія паведамленне пра краіну Атаманію (г.азн. пра нешта падобнае на Запарожскую Сеч) у наступных выказваннях:

«*Амінандр, мала спадзяючыся на сваіх ваяроў, выпрасіў у консула невялікі атрад, і падчас паходу на Гомфы адразу ўзяў прыступам горад Феку, размешчаны паміж Гомфамі і вузкім праходам, аддзяляючым Фесалію ад Атаманіі. Тут ён наладзіў напад на Гомфы і, пасьля некалькіх дзён зацятай аблогі гарада, прыставіўшы ўсходы да сьцен, вымусіў яго здацца. Гэта выклікала вялікі жах у фесалійцаў: адзін за адным здаліся жыхары Аргента, Ферынія, Тымора, Легінаў, Стрымона, Лампса, і іншых суседніх нязначных умацаванняў.*

*А дзякуючы гэтаму атаманы і эталяне, пазбавіўшыся баязні перад македанянамі, пачалі атрымліваць дзякуючы чужой перамозе выгаду для сябе. Фесалія, не ведаўшая, каго лічыць ворагам, каго хаўруснікам, зведала рабаванні адначасова ад трох войскаў*».

**Кніга XXX VI, 14.**

«*Выпадкова пад час гэтых дзён консул М. Ацылій, пераправіўшыся праз мора з 20 000 пяхоты, 2 000 вершнікаў і 15 сланамі, загадаў вайсковым трыбунам весьці пешае*

[98] Ἀθαμάνοι – атаманы, сугучна з нянецкім Hauptman.

*войска ў Ларысу, а сам з вешнікамі прыбыў да цара Піліпа ў Лімней. З прыходам консула неадкладна наступіла здача горада: быў перададзены і царскі гарнізон, а з ім і атаманы. Із Лімнея консул накіраваўся ў Пелінеей, дзе першымі выказалі сваю пакорнасць атаманы.*

*Калі ён выходзіў із горада, цар Піліп, выпадкова трапіўшыся яму насустрач, жадаючы пасмяяцца над ім, аддаў загад прывітаць яго як цара і сам, падышоўшы да яго, жартаўліва назваў братам, што вельмі мала было да твару асобе яго стану. За гэта яго адвялі да консула, дзе ён быў памешчаны пад варту і крыху пазьней у кайданах выпраўлены ў Рым. Увесь натоўп атаманаў і ваяроў Антыёха, якія складалі гарнізоны здаўшыхся на працягу гэтых дзён гарадоў, быў перададзены цару Піліпу Вялікаградзкаму, а іх было да 4 000 чалавек*».

Чытач ужо заўважыў, што тут штосьці шмат Піліпаў... спачатку проста «цар Піліп», і потым «Піліп Вялікаградзкі» (Мегапалітанскі па-грэцку). А тым часам мы ведаем, што грэцкія ўласныя імёны пачалі давацца не-грэкам толькі пад час хрысьціянскага перыяду, і што да гэтага часу ўсюды існавалі нацыянальныя: Святаслаў, Уладзімір і г.д. ды і мясцовасьці пачалі набываць грэцкія найменні ў нягрэцкіх краінах, толькі як грэцкія асады, ці таксама пад час хрысьціянскага перыяду у гонар нейкага із грэцкіх сьвятых, ушаноўваемага і тут.

Ужо дзякуючы аднаму гэтаму бачна, што справа адбываецца пад час Візантыйскай эпохі, ці ж імёны абодвух Піліпаў, патрэбна перакладаць згодна з іхным значэннем – Конелюбы, як і павінна быць у атаманаў. Будзем жа чытаць далей:

«*Консул накіраваўся ў Ларысу, маючы на мэце абмеркаваць там агульны план вайсковых дзеянняў. На шляху туды яго сустрэлі пасланнікі із Кіерыя і Метраполя, перадаючы свае гарады. Піліп асабліва літасьціва паставіўся да палонных атаманаў, каб праз іх набыць сімпатыі да сябе ўсяго гэтага племені. А калі з'явілася надзея завалодаць усёй Атаманіяй, то ён павёў туды войска, паслаўшы наперад у гэтыя гарады палонных. Яны вельмі моцна паўплывалі на сваіх суайчыннікаў, распавядаючы пра літасьцівае стаўленне да іх цара і пра яго шчодрасць. Амінандр жа, прысутнасць якога магла б утрымаць некаторых у падпарадкаванні яму, асьцерагаючыся, як бы яго не выдалі Піліпу, яго ужо даўняму ворагу, і рымлянам, па справядлівасьці варожа наладжаным супраць яго за здраду, пакінуў сваё царства і выдаліўся ў Амбракію з жонкай і дзецьмі.*

«*Такім чынам уся Атаманія падпарадкавалася ўладзе Піліпа Вялікаградзкага*».



Мал. 46
Вартаўнічая вежа запарожцаў (карціна Васількоўскага).

**Кніга XXXVIII, 1.**

«*Атаманія ў 565 годзе «ab Urbe», пасьля выгнання Амінандра, была занята царскім гарнізонам пад кіраваннем філіпавых намесьнікаў, якія дзякуючы свайму напышліваму і неўтаймаванаму кіраванню вымусілі пашкадаваць пра Амінандра. У знаходзіўшагася тады ў Этоліі ў выгнанні Амінандра дзякуючы лістам сваіх прыхільнікаў, паведамляўшых яму пра становішча ў Атаманіі, ўзнікла надзея зноў завалодаць сваім царствам. Выправіўшы назад падданых, ён паведаміў праз іх старэйшынам у Аргыфеі, – то была сталіца Атаманіі – што ён, атрымаўшы ад эталян дапаможнае войска, прыбудзе ў Атаманію, калі яму будзе дакладна вядомы настрой яго суайчыннікаў. Потым ён вёў перамовы з апаклетамі эталійцаў, утвараючымі хаўрусную раду народа, і з іхным прэтарам* (французкае praitre) *Накандрам.*

*Пераканаўшыся, што яны на ўсё гатовы, ён адразу апавясьціў іх, у які дзень прыйдзе з войскам у Атаманію.*

*Спачатку супраць македонскага гарнізона было толькі чатыры змоўцы. Із іх кожны ўзяў сабе для выканання прадпрыемства па 6 памагатых. Потым, мельмі мала спадзяючыся на такую невялікую колькасць, больш зручную для захавання справы ў таямніцы, чым для яе выканання, яны дадалі да ранейшай колькасьці яшчэ такую ж.*

*Калі іх стала 52, яны падзяліліся на чатыры часткі. Адна частка накіравалася ў Гераклею, другая ў Тетрафілію, дзе раней звычайна захоўваўся царскі скарб, трэцяя ў Феадорыю, чацьвёртая ў Аргіфею. Усё дамовіліся спачатку спакойна паказвацца на форуме, як быццам бы яны з'явіліся дзеля сваіх прыватных справаў, а пад час прызначанага дня яны вырашылі запрасіць увесь народ прагнаць із крамлёў македонскія гарнізоны.*

*Калі гэты дзень надышоў і Амінандр з 1000 эталійцаў ужо знаходзіўся ў межах Атаманіі, тады, згодна з дамаўленасьцю, македонскія гарнізоны адначасна былі прагнаны із чатырох месцаў, а ў астатнія гарады паўсюдна былі разасланы лісты з пераканнямі вызваліцца ад неўтаймаванага панавання Піліпа і зноў пайсьці пад уладу да свайго ўспадкаваўшага пасад ад бацькоў законнага цара.*

*Адусюль выганяюць македанянаў.*

*Толькі горад Фіён на працягу некалькіх дзён супраціўляўся аблажыўшым яго, дзякуючы таму што правадыр гарнізона Ксенон перахапіў ліст, і царскае войска захапіла крэмль. Потым і гэты горад перадаўся Амінандру, і ўся Атамнія апынулася пад яго ўладай за выключэннем умацавання Атэней, размешчанага каля самай мяжы Македоніі».*

Так заканчаецца ў Шаноўнага Лівійца яго караценькае апавяданне пра Атаманію.

Што ж гэта за краіна Атаманія, што за горад Аргіфея, што за цар Амінандр? Апошнія дзьве назвы, вядома, непасрэдна-грэцкія найменні, а першае мае нацыянальны характар. І вось бяручы да ўвагі, што гэтая краіна з паўночнага ўсходу прылягала да Балканскай паўвыспы, мы не знаходзім для яе іншага месца, акрамя Дняпроўскай вобласьці, якая пад час сярэдневечча сапраўды кіравалася атаманамі...

Іншых атаманаў ніколі нідзе не існавала, хаця б гэтае слова і паходзіла ад германскага Hauptmann.

Новы доказ позняга ўзнікнення кніг «Шаноўнага Лівійца»!



Мал. 47
Сучасныя ўяўленні пра задняпроўскіх атаманаў. Скульптура Пазена: «Скіф».

# Глава VII

## Што ўяўляла сабой старажытна-рымскае царства «Шаноўнага Лівійца»?

Мы разгледзелі з літаратурнага боку апошнія кнігі Ціта Лівія і паказалі іх позняе паходжанне. Разгледзім жа зараз і яго першыя дзесяць кніг, маючых ужо цалкам іншы характар.

Вось перада мной зноў «Першая дэкада» лацінскага зборніка пад назвай «Titi Livii ab Urbe condita Libiri». У перакладзе гэта азначае, – як я ўжо выказваўся, – «Кнігі Шаноўнага Лівійца ад заснавання сталіцы». Слова шаноўны па-грэцку вымаўляецца цітас, скарочана ад **ціметас** і таму гэтага шаноўнага лівійца і пачалі зваць Цітам Лівіем.

А што да зместу гэтых кніг, то яны ўяўляюць нешта замкнёнае ў саміх сабе.

Тут на вельмі добра распрацаванай «класічнай» лацінскай мове распавядаецца, як дачка цара Суцяшальніка Настаўніка (па-біблейску Нумітара) із Белай Аброці (Альбалонгі), нарадзіла, падобна Панне Марылі у хрысьціянскай тэалогіі, ад Бога Нябесных Ваяроў (па-біблейску Саваафа, а па-лаціне Марса) двух сыноў-двайнят: Носаражка і Насарога (Ромула і Рэма па-біблейску). Але брат іхнага дзеда завалодаў яго пасадам і загадаў утапіць абодвух немаўлят, як і евангельскі Ірад спрабаваў загубіць нованароджанага Езуса.

Аднак Носарожак і Насарог не загінулі. Яны былі знойдзены ў лесе ваўчыцай, выгадаваўшай іх сваім малаком (мал. 48), а потым яны былі выхаваны пастухом Кульгавым Волатам (Фаустулам) і яго жонкай. Пасталеўшы, яны заснавалі горад, які назвалі згодна са сваіх імем: Рома і Рым. Такім з’яўляецца пачатак, згодна са сведчаннем Шаноўнага Лівійца, знакамітай рымскай імперыі і быццам бы не на берагах Басфора на Балканскай паўвыспе, дзе спрадвеку жылі рамеі (па-руску грэкі), а на берагах Тыбра ў Італіі, дзе толькі напачатку сярэдневечча ўзнік горад Рым.



Мал. 48
Міфічны пачатак магутнага Рыма. Ваўчыца корміць яго заснавальнікаў Ромула і Рэма (Рыма).

Не кажучы ўжо пра відавочную легендарнасць гэтага апавядання, у кожнага чытача, знаёмага з жыдоўскай гаворкай старажытна-арабскай мовы, зараз жа тут узнікае, як я ўжо згадваў, непаразуенне: чаму ж заснавальнікі Рымскай імперыі, узнікшай быццам бы ў Італіі, носяць не італьянскія, а жыдоўска-арабскія ці маўрытанскія імёны, якія гучаць цалкам па-чужому на мове старажытнага Лацыума? На-лацінцы ж слова Ромул і Рэм не маюць ніякага сэнсу, а на біблейскай мове – гэта два вымаўленні слова насарог[99].

Потым і ўсе шэсць наступных за Ромулам цароў гэтай дэкады кніг «Шаноўнага Лівійца» (г.азн. насельніка Лівійскага ўзбярэжжа паміж Ягіптам і Гішпаніяй), носяць таксама не італа-лацінскія, а жыдоўскія імёны, і толькі прыметнікі да іх маюць лацінскае паходжанне. Так Нума Пампілій азначае Суцяшальнік Трубны[100], тое ж, што жыдоўскае Навум; Тулл Гасьцілій азначае Высокі Грозны[101], Анк Марцый азначае Сакавіцкі Асьвечаны, пры гэтым АНК

[99] Біблейскае напісанне РМ – насарог, вымаўляецца як РАМ, РОМ, РЫМ і РАІМ. Ранейшыя дасьледчыкі лічылі, што гэта чыста міфічная жывёла – казярог ці аднарог, але ж і міф часта мае рэчаісны грунт. Рымская імперыя ў перакладзе з гэтай мовы азначае простая Імперыя насарога (Аднарога), а горад Рым – горад насарога. Дакладна так жа і сам Нумітар, дзед Ромула, мае не лацінскае, а арабска-жыдоўскае найменне, якое гучыць נחומתר (НХУМ-ТР) – Суцяшальнік-Настаўнік, а пастух Фаўстул (ці Паўстул) раскладаецца на פסח (ПСХ) – кульгавы і תל (ТЛ) – высокі.

[100] Ад נחום (Навум) – суцяшальнік і pompilius – трубны, пышны.

[101] Ад תלה (ТЛІ) – уздымаць ці תל (ТЛ) – вышыня і hostilis – грозны.

з’яўляецца толькі асобным вымаўленне жыдоўскага слова Енах[102]; Тарквіній Прыск азначае Старажытны Настаўнік Працы[103]; Сервій Тулій[104] азначае Полымя вышыні госпада, і, нарэшце, Люцый Тарквіній Суперб, няправільна перакладаемы як Ганарлівы, азначае Найсьвяцейшы Найвелічны Настаўнік Працы. Тут першы пачатак тытулаў: Ваша Вялікасць і Ваша Высокасць. У гэтых лацінскіх эпітэтах мы ўжо заўважаем нешта роднае сярэднявечнаму прыдворнаму этыкету.

Але чаму ж імёны ўсіх сямі цароў гэтай легендарнай манархіі Насарога, змест якой увесь перамяшаны з міфамі (падобна таму, які мы ўжо паведамілі пра паходжанне заснавальнікаў горада Насарога ад біблейскага бога Ваярстваў Саваафа, па-лаціне Марса), – чаму ўсе яны арабска-жыдоўскага кораня? Ці не варта із гэтага зрабіць выснову, што старажытнарымская дзяржава была дзяржавай ягіпецкай і што яе афіцыйнай мовай была жыдоўская?

Мне здаецца, што такая выснова было б яшчэ несвоечасовай, хаця факт біблейскіх імёнаў усіх сямі старажытна-рімскіх цароў ды і самога Рыма ў наяўнасьці. Значна прасьцей дапусьціць, што першакрыніцамі кніг «Шаноўнага Лівійца» былі маўрытанскія дакументы, і што імёны ўсіх сямі цароў імперыі Насарога ў іх былі перакладзенымі са старажытна-грэцкай ці старажытна-італьянскай моваў, ці, проста аб’ядноўваюць сабой розныя эпохі рэчаіснай імперыі, існаваўшай у Яўропе на берагах Міжземнага мора ў больш познія часы.

Акрамя таго, мы не можам не пазначыць, што ў схематызме гэтых сямі цароў нейкую ролю брала і маўрытанская астралогія V стагоддзя нашай эры. Сапраўды, параўнаўшы іхныя імёны з найменнямі сямі планет, у тым парадку, якім нам іх дае старажытны каляндар у назвах дзён тыдня на заходне-еўрапейскіх мовах, мы не можам не заўважыць некаторага паралелізму. Толькі прыгледзьцеся да наступных радкоў:

*Нядзеля (па па-ангельску Sunday – дзень Сонца) – Ромул; ці Сьвяты Квірыт (г.азн. сьвяты валадар ад грэцкага кір – гаспадар).*

*Панядзелак (Lunday – дзень Месяца) – Нума Пампілій, Суцяшальнік Трубны (Месяц часта мае выгляд рога).*

*Аўторак (па-французку Mardi – дзень Марса) – Тул Гастылій (ваяўнічы).*

*Серада (Mercredi – дзень Меркурыя) – Анк Марцый (межавы).*

*Чацьвер (Jeudi – дзень Еговы) – Тарквіній Старажытны.*

*Пятніца (Vendredi – дзень Венеры) – Сервій Тулій.*

*Субота (па-ангельску Saturday – дзень Сатурна) – Тарквіній Велічны.*

---

[102] Ад חנוך (ХНУК) – пасьвечаны, Хрыстос па-грэцку. Гэта імя прарока Енаха, жывым забранага на неба, якому Каран (19, 57, 58) прыпісвае вынаходніцтва пісьменства і ўсіх навук. «Кніга Енаха» існуе ў перакладах з рукапісу, знойдзенага ў Абісініі ангельцам Брусам на прыканцы XVII стагоддзя. А прыметнік Марцый можа паходзіць ад martius – сакавіцкі і нават ад marca – мяжа.

[103] Ад תור (ТОР) – навучаць і קין (КІН) – праца, і ад priscus – старажытны.

[104] Ад סרב (СРВ) – паліць ці סרף (СРФ) – спальваючы і תל (ТЛ)– вышыня госпадавага.



Мал. 49

Старажытны каляндар. Зверху глядзяць дні тыдня ў парадку: Сатурн-субота, Сонца-нядзеля, Месяц-панядзелак, Марс-аўторак, Меркурый-серада, Юпітар-чацьвер, Венера-пятніца. Пасярэдзіне – 12 месяцаў года ў выглядзе 12 сузор'яў Задыяка. Па баках – 30 дзён месяца.

Штучнасць гэтага кабалістычнага дапасавання сямі старажытна-рымскіх цароў Шаноўнага Лівійца да сямі дзён тыдня, якія ўсе аднолькавыя, акрамя Нядзелі, відавочная, і таму, натуральна, тут няма ў нас ніякай магчымасьці для дэталёвага супастаўлення. Але ўжо сам факт супадзення лічбы сем ва ўсіх трох параўнаннях ужо дастаткова сведчыць пра іхную схематычнасць, а не рэчаіснасць.

Мы ўжо ведаем, што Сярэдне-Рымская імперыя, заснаваная Юліем Цэзарам і яго наступнікам Актавіянам Сьвятым (Augustus), налягла ў нас храналагічна на Нова-Рымскую імперыю, заснаваную Канстанцыям Рудым (Хлорам) і яго наступнікам Кастусём Сьвятым (гл. дыяграму на стр. 344-345 (мал. 50)).

Число лет царствования царей псевдо=„Первой" Романской Империи: 45 40 35 30 25 20 15 10 5

Число лет царствования царей псевдо=„Третьей" и псевдо=„Второй" 5 10 15 20 25 30 35 40 45 Романской Империи

1. Ромул Квирин 37 (т.е. Государь Романский)
2. Нума Помпилий 43 (т.е. Наум Трубный)
3. Тулл Гостилий..............32 (т.е. Враждебное Величество)
4. Анк Марций..................24 (т.е. Енох Межевой)
5. Тарквиний Древний 38 (т.е. Древний Наставник Труда)
6. Сервий Туллий 43 (т.е. Слуга Величества Божьего)
7. Тарквиний Пышный..................24 (т.е. Пышный Наставник Труда)

от 306 = по 31 337 год
от 337 = по 26 363 лет
от 363 = по 15 378 лет
от 378 = по 17 395 лет
от 395 = по 28 423 лет
от 423 = по 52 475 года

37. Константин I + Лициний=36; Октавиан=37
43 { Констанций II=24; Тиверий =24; Констант =15; ..........; Константин II= 2; ..........; Юлиан..... = 2; Калигула= 4
32 { Валентиниан I =13; Клавдий =13; Валент.......... =14; Нерон.......=12; Валентиниан II = 5; Веспасиан= 9
26 { Грациан = 9; Тит-Веспасиан = 11; Феодосий = 17; Тит-Домициан = 15
41 { Аркадий = 3; Траян....=19; Гонорий =28; Адриан =22
43 { Аэций=Опекун21; Антонин Пий=23; Валентиниан III=22?; Антонин Философ=20
21 { Рецимер..............=16; Коммод........=13; Ромул Августул = 7; Пертинакс....= ?

Мал. 50

Прыкладная схема аб'яднання аднайменных царгародзкіх кесараў Сакрата Схаластыка, пачынаючы з Кастуся Вялікага і Ліцынія для таго, каб із іх арымалася апакаліптычная лічба «сем цароў» Ціта Лівія, пачынаючы з Ромула і Рэма.

Адсюль лёгка зрабіць выснову, што і дасьледуемае зараз намі гістарычнае паданне, павядомленае нам невядомым лацінскім аўтарам грунтаваўшымся на нейкіх старажытных лівійскіх, г.азн. маўрытанскіх, дакументах, уяўляе сабой толькі трэцці варыянт той жа сусьветнай імперыі Канстанцыя Рудога і Кастуся Сьвятога (ці па-сучасняму – найясьнейшага), якім зрабіўся ў свой час і Ромул, прылічаны пасьля сваёй смерці, як сведчыць гісторыя, да багоў з дадаткам тытула: квірын, г.азн. гасподзь. Звычайна гэты тытул выводзіцца ад слова quiris – маленькая дзіда, але гэтая словаўтваэнне не з'яўляецца пераканаўчым. Лягчэй ўявіць, што гэта было грэцкае слова Кюрыос (Κύριος) – гаспадар, асіміляваўшаяся ў вуснах народа з quiris, як у нас рупія ператварылася ў рубель, асіміляваўшыся з дзеясловам рубаю. Відавочна, што Рымская імперыя Кастуся Вялікага так уразіла ўяўленне наступных за ёю пакаленняў, што яе гісторыя пісалася не адзін, а некалькі разоў, і ў Лацыуме, і ў Візантыі, і ў Александрыі Ягіпецкай, і ў маўраў па суседству з Гішпаніяй і са старажытнай Лівіяй.

Я ўжо выказваўся, што ў старажытнасьці ў людзей яшчэ не было, як у нас, уласных афіцыйных імёнаў, таму што не было ніякіх замежных і мясцовых сьвятых, пад заступніцтва якіх аддаваліся б нованароджаныя, бяручы іхныя імёны; не было і метрычных кніг і пашпартоў і іншых пасьведчанняў асобы, патрабуючых вызначанага імя. Само сабой зразумела, што ўсе больш-менш выбітныя гістарычныя дзеячы дайшлі да нас пад такімі ж саманабытымі пазней найменнямі, якія ў старажытных бурсах і гімназіях даваліся большасьці навучэнцаў у асяроддзі іхных таварышаў. Менавіта такія найменні і дайшлі да нас: напрыклад, Вяргілій Марон, у перакладзе: Дзявочы каштанавы арэх; Марк Цыцэрон, у перакладзе: Завялы гарох; Нярон, у перакладзе: Брунет і г.д. І само сабой зразумела, што падобныя найменні не распаўсюджваліся на замежныя мовы, а на кожнай даваліся новыя ці перакладаліся згодна са сваім сэнсам, як гэта ў рэдкіх выпадках робім і

мы, называючы, напрыклад, Лявона Магнуса – Ільвом Вялікім ці Барбаросу – Рудая Барада.

Адсюль цалкам зразумела, што і пры першых спробах напісаць гісторыю Рымскай імперыі сытукнуліся з праблемай адсутнасьці вызначаных уласных імёнаў у дзеячаў і з адсутнасьцю вызначанай храналогіі ў іхнай пасьлядоўнасьці. Ва ўрыўкавых першакрыніцах існавалі толькі больш-менш дакладныя паведамлені пра працягласць валадарання цароў.

Вось чаму пры падобных умовах, пры аднолькавасьці найменняў, некалькі аднайменных дзеячоў маглі быць аб'яднаны ў адну асобу, калі яны жылі адначасова ці адзін следам за другім. І, наадварот, цэлае гістарычнае паведамленне пра справы нейкай дынастыі магло быць палічана за паведамленне пра іншую, калі яно было напісана на іншай мове, і для яго пасьлядоўных дзеячаў там існавалі асобныя імёны. Ды і геаграфічныя падрабязнасьці таксама былі цяжка распазнаваемымі: Манблан, напрыклад, на біблейскай мове мог набыць найменне Ліван, якое ў перакладзе таксама азначае Белая Гара. Адно і тое ж мора мы называем Чорным, французы – Mer noire, немцы – Schwarze Meer, ангельцы – Black See і г.д. Пра ўсё гэта я ўжо выказваўся у першай кнізе «Хрыста».

Вядома, ведаючы мовы, тут яшчэ магчыма адразу заўважыць тоеснаць. А як здагадацца, што, напрыклад, грэцкае найменне Гелеспонт з'яўляецца Мармуровым морам з Дарданэламі, і што Алемань, Дэйтшланд, і Германія адна і тая ж краіна? А такіх розных найменняў шмат у старажытнай гісторыі. Вось, напрыклад, усім вядомы «сьвяты горад – Ерусалім». Туды ходзяць пілігрымы з усіх хрысьціянскіх краін, а ў асяроддзі мясцовых жыхароў ён са спрадвечных часоў мае назву Эль-Кудс (г.азн. горад сьвятога Іллі), а не Ерусалім. Хто і як усталяваў, што біблейскі евангельскі Ерусалім менавіта і знаходзіцца ў Эль-Кудсе? Мы не ведаем. А вось і іншы прыклад – біблейскае імя МЦ-РЫМ. Гэтае слова, вядома, можна палічыць, як і робіцца да гэтага часу, не імкнучыся дашукацца да сэнсу, за множны лік ад арабскага наймення Мазр. Але ў такім выпадку і перакладаць яго трэба не Ягіпет, а Ягіпты, г.азн. лічачы за штосьці складанае. Калі ж мы жадаем зразумець якім чынам узнікла такое найменне і што яно азначала першапачаткова, то ў нас тут няма іншага тлумачэння, як прызнаць, што МЦ-РЫМ, г.азн. Высокі Рым, напышлівая імперыя Насарога, з'яўяецца той жа самай Візантыйска-Рымскай імперыяй, да якой належаў і Ягіпет. Навейшае арабскае слова Мазр з гэтага боку гледжання будзе толькі скарачэннем сэнсавага аб'ёму ад першапачатковага слова Міц-Рым, некалі пашыраўшагася на ўсе ўладанні і асады Імперыі Насарога.

Усе гэтыя меркаванні зноў наводзяць на думку, што першая дэкада кніг «Шаноўнага Лівійца», г.азн. Ціта Лівія, з'яўляецца толькі трэццім варыянтам той жа самай царгародзка-рымскай гісторыі IV і V стагоддзяў нашай эры, з якой спісана і гісторыя наступнікаў Актавіяна Аўгуста, перанесеная ў італьянскі Рым.

Але першае ж чытанне паказвае, што яна ўжо надзвычай легендарызавана і, акрамя таго, схематызавана згодна з загадзя складзеным планам каб падвесьці «старажытна-рымскую» гісторыю пад апакаліптычнае прароцтва, чаму і колькасць цароў тут скарочана да сямі, для пагаднення з «сям'ю царамі, седзячымі на звера-насарогу, пабарвёным крывёй праведнікаў».

На прыкладзенай сінаптычнай таблічцы (мал. 50) я спрабаваў навочна паказаць паралелізм гэтых сямі цароў з візантыйска-рымскімі.

Першы із іх Ромул, астралагічна кіруемы, як мы бачылі, самім Сонцам, так падобны на Кастуся «Сьвятога», што гэта проста кідаецца ў вочы. Абодва

заснавалі, – як я ўжо паведамляў, – сталіцы адпаведна свайму імені, абодва забілі сваіх суваладароў, абодва нададзілі грамадзянскае і вайсковае ўладкаванне «Рымскай» дзяржавы, валадарылі звыш трыццаці гадоў і абодва пасьля сьмерці прылічаны да ліку сьвятых. Сабінянаў, з якімі ваяваў Ромул, даводзіцца прызнаць за савойцаў, яны ж, у іншых кнігах маюць назву кімбры ад галоўнага горада Савоі Chamberi, пры гэтым французкі гук “ш” у лацінскім вымаўленні перайшоў, як і заўсёды, у “к”. А ў «другой імперыі» Ромул адпавядае Актавіяну Найсьвятлейшаму.

Другі цар «Шаноўнага Лівійца» – Нума Пампілій, астралагічна кіруемы Месяцам, з'яўляецца аб’яднаннем адразу трох спадкаемцаў Кастуся, магчыма, дзякуючы захапленню тэндэнцыйнымі апакаліптычнымі меркаваннямі, а магчыма і дзякуючы проста адсутнасьці імёнаў і падобнасьці мянушак: усе яны мелі адну і тую ж мянушку – Устойлівы. Магчыма, толькі для таго, каб адрозніць гэтых суваладароў адзін ад аднаго, наша візантыйская першакрыніца пра іх – Сакрат Схаластык у сваёй «Царкоўнай Гісторыі» і дапасаваў тут розныя сканчэнні: Канстан-цый, Канстан-с і Кастан-тын, а гэтае адрозненне цалкам неперакладаема на арабска-жыдоўскую мову, у якой адсутнічаюць такіх удакладненні. Ці не таму ў найменні «Суцяшальнік Трубны» гэтыя тры суваладары дадаліся адзін да аднаго ў пасьлядоўным парадку, прытым гады іхнага валадарання склаліся і далі з дадаваннем Юльяна лічбу 43 гады?

Бяручы да ўвагі, што пад час IV стагоддзя быў выпрацаваны юліянскі каляндар, першапачаткова складзены пры Канстанцыі Рудым (ён жа Юлій Цэзар), і набыўшы, як я давяду далей, сваю канчатковую форму пры Юльяне, мы адразу разумеем каштоўнасць указання на тое ж самае і падчас валадарання Нумы. Яго мянушка Суцяшальнік Трубны, можа азначаць не толькі пышны, але і месяцовы, таму што без дакладнага ведання рухаў Месяца год не мог быць усталяваны, а Месяц пад час малых фазаў уяўляўся ў форме трубы. Акрамя таго, Ціт Лівій пазначае, што тады ж былі выпрацаваны і асновы рэлігіі, а згодна з маімі вылічэннямі менавіта ў часы Канстанцыя і жылі Арый-Арон і ўжо зведаў пакуты Васіль Вялікі – евангельскі Хрыстос.

Трэцці цар «Шаноўнага Лівійца» – Высокі-Грозны (Тул Гастылій), астралагічна кіруемы планетай Марс, налягае ў нас на трох Валянцінаў, пры якіх жыў і заснавальнік хрысьціянскага набажэнства «Вялікі цар». Тулу прыпісваецца разбурэнне Альбалонгі, што ў перакладзе азначае Белая Аброць, тое ж што Белград і Спарта па-грэцку[105]. А ў псеўда другой імперыі гэтаму грознаму цару адпавядаюць легендарныя ганіцелі хрысціянаў: Клаўдый, Нярон і Веспасіян.

Чацьвёрты цар «Шаноўнага Лівійца» – Анк-Марцый, астралагічна кіруемы планетай Меркурый, зноў з'яўляецца злучэннем разам дваіх суваладароў, сьвядома (каб прывесьці ўсю колькасць цароў да апакаліптычнай сямёркі) ці несьвядома, дзякуючы аднолькавасьці мянушак: якія абодва мелі найменне Ціт. Аўтар паведамляе, што тады каля вусьця Тыбра была пабудавана гавань для Рыма, і гэта паказвае на тое, што толькі каля 380-х гада ў Рымскай вобласьці пачалося правільнае карабельнае плаванне. Да таго ж часу адносіцца і арганізацыя земляробства ў Раманіі, напэўна, з нагоды вынаходніцтва жалезных земляробчых прылад і размежавання гаспадарак, стаўшых уласніцкімі. Гэта і можа патлумачыць прыметнік martius да імя Анк, ад лацінскага слова marca – мяжа. Згадаем, акрамя

---

[105] Alba – азначае белая, longa (франкскае longe) азначае – конскі павадок, а Спарта (σπάρτη) па-грэцку азначае – пятля, цугля, вяроўка.

таго, што яго аналаг сярод дзён тыдня Mercredi-Меркурый носіць імя апекуна марскога гандлю і земляробства.

Пяты цар «Шаноўнага Лівійца» – Старажытны Настаўнік Працы, астралагічна кіруемы Юпітарам-Еговай, зноў з'яўляецца аб'яднаннем двух імператараў-суваладароў: Аркадзя і Ганорыя. На працягу гэтага часу, згодна з Лівіем, былі ўведзены знакі царскай годнасьці, узведзена судзілішча (форум) і цырк, г.азн. царква. Гэтаму ж цару прыпісваецца ўладаімкнучаяся жонка Танаквіль, што азначае па-жыдоўску Шакалка Нікчэмнасьці. Яна адпавядае апакаліптычнай Ізабелі, г.азн. жонцы Аркадзя – Еўдаксіі.

У гэты ж час павінна было адбыцца першае вывяржэнне Вязувія, дапасуемае да 79 года пасьля нараджэння евангельскага Ратавальніка.

Шосты цар «Шаноўнага Лівійца» – Сервій Тулій, астралагічна кіруемы планетай Венера, насіў, згодна са сведчаннем аўтара, імя Мастарно. Ён падзяліў рымскі народ на пяць станаў адпаведна маёмасьці і на цэнтурыі, і храналагічна налягае на Аэцыя, які валадарыў 33 гады, як апякун, а потым як суваладар Валентыніяна III. Але замест 33 гадоў яму прыпісваецца 43, што можа быць патлумачана тым, што да 33 гадоў дададзена яшчэ 10 гадоў суцаравання Валентыніяна пасьля заканчэння апекі ці гэта проста недакладнасць ведаў аўтара.

Сёмы і апошні цар «Шаноўнага Лівійца» – яго сьветнасць Тарквіній Велічны, астралагічна кіруемы забіваючым Сатурнам, храналагічна налягае на Рэцімера, які валадарыў да 472 года, калі нечуванае да гэтага часу вывяржэнне Вязувія 6 лістапада 472 года (пры якім, напэўна, і былі канчаткова пахаваны Геркуланум і Пампея, ці Стабія) мела наступствам вялізнае маральнае ўзрушэнне ў Раманскай імперыі і было нагодай агульнага развалу ўсяго клерыкальнага ўладкавання на берагах Міжземнага мора.

Мы бачым, што вельмі істотныя прыкметы паралелізму паміж Візантыйскай імперыяй Кастуся I і Рамансавай імперыяй Ромула праглядаюцца тут ад пачатку да заканчэння, хаця, дзякуючы размяшчэнню ў адзін пасьлядоўны шэраг аднайменных суваладароў, час існавання Сусьветнай Рымскай імперыі Кастуся I падвоены ў Рымскай імперыі Ромула і працягнуты тут замест 120 гадоў да 240.

Чаму зроблена гэтае падваенне? Чаму злучаны разам аднайменныя прадстаўнікі і нават парачка рознайменных? Чаму выкінуты ўсе імператары, цараваўшыя менш чым год?

Тлумачэнне можа быць толькі адным. Колькасць паказаных тут рымскіх цароў – сем, падведзена пад лічбу сямі планет і дзён тыдня, і пад лічбу сямі апакаліптычных цароў, паказаных для гэтай жа імперыі, а лічба гадоў агульнага іхнага валадарання 120 падвоены да 240, для таго, каб падвесьці іх пад 24 гадзіны сутак, па 10 дзяленняў у кожнай гадзіне. Гэта яскравы прыклад нацягванняў старажытнай кабалістыкі, выкарыстоўвайшай самыя сумнеўныя захады, каб апраўдаць сябе. Нездарма ж Рэнан шукаў сямёрку апакаліптычных цароў менавіта ў Рымскай імперыі, але ён шукаў іх не ў шэрагу іхнага другасна-міражнага адлюстравання візантыйска-рымскіх спадкаемцаў Дыяклетыяна, а ў шэрагу іхнага першапачатковага адлюстравання, у якім Кастусь апакрыфіраваўся ў старажытную гісторыю ў выглядзе Актавіяна Аўгуста. Тая акалічнасць, што ўсе імёны візантыйска-рымскіх цароў тут узяты не ад грэцкіх ці лацінскіх каранёў, а ад арабска-жыдоўскіх, паказвае, што і арыгінальныя першакрыніцы гэтага варыянту гісторыі Візантыйска-рымскай імперыі былі напісаны на адной із нееўрапейскіх моваў і толькі пазьней перакладзены на лацінку.

Гэты варыянт заканчваецца момантам знікнення Заходняй часткі імперыі пад уплывам жахлівага вывяржэння Вязувія, загубіўшага галоўны горад старажытнай Італіі Пампею, заменены сучасным Неапалем, але з яшчэ большым культурным і гандлёвым значэннем. Пра гэту падзею нічога не паведамляецца ў дайшоўшых да нас дзесяці кнігах Ціта Лівія, таму што інакш было б немагчыма перанесьці час падзей так глыбока ў глыбіню мінулага.

Наступная дэкада (г.азн. кн. 11-20), дзе павінны былі б утрымлівацца паведамленні пра вязувіанскую катастрофу, лічыцца «страчанай», а зараз мы бачым, што яна была страчана не без намеру.

Мы не павінны забывацца, што ўсе стыхійныя бедствы тады прыпісваліся гневу богаў за грахі цароў і прызначаемых імі ўладаўцаў. Пакуль мы пры спробе тлумачэння эвалюцыі рэлігіі і грамадзкага жыцця старажытных дзяржаваў на берагах Міжземнага мора будзем ігнараваць уплыў такіх магутных фактараў, як вывяржэнні Вязувія і Этны і злучаных з імі землятрусаў, на псіхіку старажытных народаў у гэтай геаграфічнай вобласьці і на псіхіку іхных забабонных валадароў, мы не будзем у стане зразумець самыя рэзкія перамены ў праявах тагачаснага грамадзкага жыцця. У дадзеным выпадку мы не можам не нагадаць зноў і зноў, што пасьля першага жахлівага вывяржэння Вязувія і шэрага папярэднічаўшым яму землятрусаў на ўсім поўдні Яўропы, з'явіўся Апакаліпсіс з яго грымотамі і маланкамі на галовы зямных цароў і з прадказаннем, што Рымская імперыя загіне ў полымі, што спрыяла хуткаму пашырэнню месіянскага хрысьціянства, туліўшагася яшчэ да канца IV стагоддзя, як бачна із самога Апакаліпсіса, толькі ў сямі малаазіяцкіх таварыствах. Аднак чыста ідэйныя павучанні не маглі самі па сабе мець наступствам дзяржаўны пераварот, і мы бачым, што нягледзячы на новы ўздым апакаліптычнай творчасьці пад час сярэдзіны IV стагоддзя ў выглядзе прароцтваў Іезекііла, Захар-Іі, Іса-Іі, Ераміі, Амоса і г.д. хрысьціянства яшчэ не стала кіраваць сьветам.

Але вось 6 лістапада 472 года адбыліся новы жудасны землятрус і вывяржэнне Вязувія, дым якога далятаў да самога Канстантынопаля. Рабы ў дзяржаве паўсталі на сваіх гаспадароў, атачаючыя народы ўзбунтаваліся, старая дынастыя была зрынута і Заходняя арыянская (г.азн. Аронава) імперыя перайшла да апакаліптычнага каталіцызму, які, як мы хутка пабачым, яшчэ немагчыма атаясаміць з евангельскім хрысьціянствам, узнікшым, згодна з нашай новай храналогіяй толькі напярэдадні крыжовых паходаў.



Мал. 31

Магільня Сцыпіёна Афрыканскага (згодна з Вагнерам).

# Частка трэццяя.

Гістарычныя разважанні.



Мал. 52.
Астролаг XIII стагоддзя.

## Глава I.

Чатыры евангеллі вялікай Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай клерыкальнай імперыі Дыяклетыяна.




Мал. 53
Медаль Лукула.

Перадусім я дазволю сабе паведаміць тут некаторыя свае даўнія развожанні.

Калі кнігі Шаноўнага Лівійца, як і ўсе падобныя астатнія, апакрыфічныя і ніякага «Жалезнага Рыма» ў Італіі ніколі не існавала, то як жа была створана пра яго такая грунтоўная чароўная казка?

Пра гэта я ўжо мімаходзь выказваўся ў першых тамах «Хрыста», буду грунтоўна разважаць і на прыканцы гэтага самага тома на падставе чыста гістарычных дасьледаванняў пра сярэднявечны Рым, але каб вывучыць гэтае першарадна важнае для гісторыі еўрапейскай культуры пытанне з розных бакоў гледжання, пагавару і тут.

Калі маюць на ўвазе «Рымскую імперыю», то большасць сучасных адукаваных людзей уяўляюць яе прыблізна ў выглядзе сучаснай Англа-Індускай; з адзіным спадчынным імператарам – каралём у італійскім Рыме – яго намесьнікамі ў іншых іншамоўных мясцовасьцях і са шматлікімі губернатарамі ў асадах, якія прызначаліся і замяняліся цэнтральнай уладай і не мелі права ваяваць паміж сабой без яго спагады і згоды...

А тым часам, няма нічога больш памылковага такой думкі. Старажытная «Рымская імперыя» на працягу ўсіх перыядаў свайго існавання была падобнай больш на сучасныя звязы, накшталт быўшага Траістага паміж Германіяй, Аўстрыяй і Італіяй. Лацінская, грэцкая і ягіпецкая (арабска-маўрытанская і копцкая) часткі жылі ў ёй цалкам незалежным жыццём, і калі прызнавалі ў дадзены гістарычны перыяд вяршынство нейкай адной вобласьці, лічыўшайся найбольш моцнай ці культурнай, то падобным жа чынам, як і ў Траістым звязе прызнавалася гегемонія Германіі.

Дакладна так жа з’яўляюцца няправільнымі нашы ўяўленні і пра тамтэйшых імператараў, як пра спадчынных, нават у тым сэнсе, якімі яны былі на Русі пад час ўдзельнага перыяд яе гісторыі.

Праўда, падзел «Імперыі Кастуся» паміж трыма яго аднайменнымі сынамі, атрымаўшымі імёны: Кастусь (Другі), Канстанцый і Канстанц, значэнне якіх па-грэцку адно і тое ж – «Устойлівы», з’яўляецца першай і прытым натуральнай спробай перайсьці да ўдзельнага права. Але выклікае вялікія сумневы тое, што ў Кастуся I было толькі трое сыноў, а не нашмат больш, як і ў наступных імператарскіх пакаленнях, аж да знікнення Заходняй часткі імперыі адразу следам за жахлівым землятрусам у Кампаны і выбухам Вязувія 6 лістапада 472 года.

Нас пераконваюць, што тыя, каго ў нас называюць кіраўнікамі «Вялікай міжземнай імперыі да чацьвёртага стагоддзя», насілі ў рэчаіснасьці найменне консулаў, г.азн. дарадцаў, абіраўшыхся па двое – адзін для адной, другі для другой паловы імперыі, апраналіся ў парфіру (toga purpurea) і мелі: пасад пад назвай sella curales, г.азн. курульныя крэслы, і па 12 ліктараў, г.азн. цырымоніймайстраў, якія насілі перад імі ў выпадку ўрачыстасьцей пучкі дубцоў з сякерай пасярэдзіне, у адзнаку таго, што ім належыць права пакарання вінаватых. Гістарычнае паданне, у выглядзе, напрыклад, трэццяй дэкады кніг Ціта Лівія, паведамляе нам, што консулы абіраліся штогадова із князёў, г.азн. патрыцыяў, «на адзін год», які набываў назву згодна з іхным імем, пры адсутнасьці над імі нейкай іншай больш высокай улады.

Аднак бяручы да ўвагі этнапсіхалагічныя меркаванні з гэтым цяжка пагадзіцца, таму што аднойчы атрымаўшы рэчаісную вярхоўную ўладу, яны, вядома, сабралі б за год свайго кіравання такую колькасць сваіх ранейшых прыхільнікаў ці новых залежачых ад іх людзей, якія змаглі б фактычна гарантаваць ім верхавенства на працягу шэрага наступных за першым гадоў. Таму што кожны абмяжоўваючы закон, калі б ён і быў аднойчы прыняты, скасоўваецца рэчаіснай вярхоўнай уладай, якую ён абмяжоўвае. Такія штогадовыя замены самастойных консулаў, пра якія нам паведамляе трэццяя дэкада кніг Ціта Лівія, і іншыя падобныя, маглі б існаваць толькі ў фантастычным рамане, а не ў гісторыі рэчаіснага палітычнага жыцця, узорам якога можа служыць нам зараз жыццё кожнай еўрапейскай ці амерыканскай рэспублікі.

Іншая справа, калі на чале дзяржавы стаіць нязменны вайсковы правадыр, г.азн. імператар, ці тэакратычны кіраўнік, як у сярэднявечнай папскай вобласьці. Тады ён мог бы паспяхова настойваць на штогадовай змене консулаў, і яны падпарадкаваліся б гэтаму, баючыся страціць галаву ў выпадку свайго перавыбрання. Так гэта, відаць, і было ў Рыме да 534 года нашай эры, калі Вялісарый і Нарсэс вайскаводы Юстыніяна, пакарылі (у 534 г.) Ост-Гоцкае каралеўства, а ў Канстантынопалі так было, кажуць нам, да 541 года, пры тым жа Юстыніяне.

Імператары старажытнага Міжземнаморскага хаўруса, відаць, нават не былі спадчыннымі, а абвяшчаліся кожны раз войскам, накшталт таго як гэта было ў XIX стагоддзі ў іспанскіх рэспубліках Паўднёвай Амерыкі з яе прэзідэнтамі, і гэта амаль заўсёды мела наступствам войны розных абласьцей адна з другой, пакуль пераможац не забяспечваў за сабой першынство ў фактычна аднаўляўшымся вайсковым хаўрусе. А культурнае жыццё ішло сваім шляхам, і цэнтр палітычнай магутнасьці не заўсёды з'яўляўся і цэнтрам разумовай дзейнасьці.

Пры вывучэнні старажытнай гісторыі (якой я больш усяго цікавіўся пад час першых гадоў свайго папярэдняга заняволення, да суда), маю асаблівую ўвагу звяртала на сябе, як я ужо не раз пазначаў, агульнае падабенства паміж сабой трох перыядаў гісторыі гэтага старажытнага Міжземнага Хаўруса.

Перадусім, у Італіі – чытаў я грунтуючыся на Вэберу, Шлосеру і іншых тагачасных універсітэцкіх курсах, – узнікла із першапачатковай дэмакратыі першая вайсковая манархічная дзяржава Ромула і Рэма, дасягнуўшая значнай ступені культуры, і яе заснавальнік Ромул, забіўшы свайго суваладара Рэма, быў прызнаны забраным на неба пасьля смерці, як і ўсе праваслаўныя сьвятыя, і яму, як і гэтым апошнім былі пабудаваны храмы і ладзіліся адмысловыя набажэнствы. Потым праз два з паловай стагоддзі гэтая манархія знікла, замяніўшыся смутным часам і

рэспублікай, якая таксама выявілася не даўгавечнай. Прыйшла другая сацыягенічная хваля, і новая вайсковая манархічная дзяржава была заснавана Актавіянам Аўгустам і яго суваладаром Антоніем. І тут галоўны дзеяч забіў другога і таксама атрымаў найменне Аўгуста (г.азн. Сьвятога), г.азн. быў прылічаны, як і Ромул, да ліку сьвятых. Але і яго манархія таксама знікла праз два з паловай стагоддзі і замянілася смутным часам, пакуль не прыйшла трэццяя сацыягенічная хваля і калі трэццяя манархічная дзяржава раскінула свае арлiныя крылы над Балканскай паўвыспай, Заходняй Азіяй, Ягіптам у Італіяй. І яе заснавальнік Кастусь забіў свайго суваладара Ліцынія і быў прылічаны да ліку сьвятых, і яму таксама былі пабудаваны храмы, і здзяйсняюцца набажэнствы да гэтага часу.

Але і гэтая трэццяя манархія праіснавала, калі лічыць да яе «апошняга консула ў 534 годзе», таксама каля двух з паловай, стагоддзяў і замянілася смутным часам і распаданнем на сярэднявечныя рэспублікі і княствы.

Чаму тут было тры хвалі? Чым патлумачыць іхнае агульнае, эскізнае падабенства нават у шматлікіх пасьлядоўных дэталях жыцця?

Усё гэта было для мяне цалкам незразумела да таго часу, пакуль я змог з дапамогай астраноміі вылічыць, што евангельскі Хрыстос быў слупаваны 21 сакавіка 368 года, што Апакаліпсіс быў напісаны 30 верасня 395 года, і што ганіцель хрысьціянаў Нярон спісаны з імператара-консула Валента, пры якім, згодна з Сакратам Навукоўцам, таксама перасл дваліся хрысьціяне.

Гэта азначае Нярон спісаны з Валента, – зрабіў я выснову. Такім чынам, і ўсе папярэднічаўшыя яму і наступныя за ім імператары другой сацыягенічнай хвалі на ўзбярэжжах Міжземнага мора маглі быць спісаны з папярэднічаўшых яму і наступных за ім цароў, і тады абедзьве гісторыі выяўляюцца толькі двума варыянтамі адной і той жа лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкай гісторыі, памылкова дапасаванай да двух розных эпох, таму што імёны цароў у адной былі лацінскімі, а ў другой – грэцкімі.

І я не стамлюся паўтараць (каб чытач гэта цвёрда запомніў), што аж да хрысьціянства і клерыкальнай рэгістрацыі нованароджаных, у людзей яшчэ не існавала ўласных назаўжды нязменных імёнаў, даючыхся, як нашы, пры хрышчэнні; не было і метрычных кніг, у якія яны б запісваліся, як абавязковыя на ўсё жыццё. Калі ў нейкай сям’і нараджалася дзіця, ні бацьку, ні маці не прыходзіла нават у галаву даваць яму нейкае імя; яны прастадушна называлі яго «сын» ці «дачка» і больш нічога. Калі нараджалася другое дзіцё, яны так і звалі яго «другі», трэцяга звалі «трэцці», чацьвёртага «чацьвёрты», і г.д.

Усё гэта і засталося ў найменнях старажытных гістарычных дзеячаў, у імёнах: Секунд, Тэрцый, Кварт, Квінт, Сікст і г.д. аж да Сэптымій і Актавіян. Можна сказаць з упэўненасьцю, што падобны ж спосаб пазначэння існаваў і ў іншых народаў старажытнасьці, умеўшых лічыць. Толькі чужыя людзі грунтуючыся на нейкай характэрнай прыкмеце давалі пазьней дзецям ці ўжо сталым асобам адпаведную мянушку, адкуль і ўтварыліся такія жаночыя імёны, занесеныя нават у хрысьціянскія святцы, як Арыядна, г.азн. верная жонка (відавочна, набыўшая гэтае найменне ужо пасьля адружання), Ксантыпа, г.азн. гнядая кабыла, відавочна, названая так не ў дзяцінстве, Маўра – чорная, Макрына – сухая, Платаніда – шырокавыглядаючая, Руфіна – рудаватая, Серафіма – палымяная, Сасіпатра – выратаваўшая бацьку, Хрысія – залатакудрая, Аквіліна –

арліца, Драсіда – арасіцельніца, Яўсевія – набожная, Еўсталія – прыбраная, Геліканіда – з гары Гелікон і г.д.

Ды і для мужчын у святцах існуюць аналагічныя найменні сярод асоб, прылічаных да праваслаўных сьвятых: так Герант азначае састарэлы (набыўшы гэтую мянушку, відавочна, не пры нараджэнні), Копрый – гнойная купка, Карнілій – рагаты, Авенір – бацька сьвятла, Агаў – саранча, Аліпій – безжурботны, Артэмон – верхні ветразь, Архіп – конедаглядчык, Віанор – жорсткі, Гемел – блізнюк, Гервасій – дзіданосец, Дула – раб, Явіл – добры плывун, Екдыт – распрануты, Екзакустадыён – палкавы суддзя, Гермій – вястун бога, Адрыян – з Адрыятыкі, Ісаўр – касматы, Ямліх – аматар вершаў, Януарый – брамнік, Ясон – лекар, Кіндэй – небяспечны, Кадрат – чатырохкутны, Крысп – кучаравы, Лікарыён – ваўчаня, Лангін – доўгі, Маруф – лысаваты, Мялецій – клапатлівы, Мемнон – памятны, Менгін – моцная дзіда, Макей – насмешнік, Ніктапаліён – робячы начамі грамадзкія справы, Піёній – тлусты, Прыск – трухлявы, Руф – руды, Сакердон – сьвятар, Селеній – лунатык, Таўрыён – бычыны, Тарас – неспакойны, Трыфан – спешчаны, Турвон – віхур, Уар (Вар) – крываногі, Філолаг – аматар літаратуры, Фінеес – медзяны рот, Сарвін – парткі і г.д.

Ужо грунтуючыся на адным толькі значэнні гэтых праваслаўных імёнаў хто можа ўсумніцца ў тым, што яны былі дадзены не бацькамі, якія тады звалі іх проста: першы, першая, другі, другая і г.д.,. а ўяўляюць сабой найменні ці мянушкі, атрыманыя пазьней, ад атачаючых людзей. Калі ж хто із дзяцей ці падлеткаў не выяўляў адменных прыкмет, то яго проста звалі сын такога-та, ці вось такі, адкуль і пайшоў сучасны звычай захоўваць за дзецьмі радавыя імёны.

Такім чынам, у старажытнасьці ў людзей не існавала афіцыйна зарэгістраваных імёнаў ужо дзякуючы толькі таму, што не было нідзе метрычных кніг. У іх не было таксама і звычаю даваць дзецям, як у нас зараз, замежныя імёны, без перакладу, не маючыя для дадзенай нацыі значэння. Гэта было для іх усё адно, як даць сыну ці дачцэ, у выглядзе імені, нейкі выпадковы набор гукаў, накшталт таракатха, куркуркур і г.д. Нават сучасным футурыстам гэта не прыходзіць у галаву, ды і дзеці, падросшы, адмовіліся б ад такіх імёнаў.

Што ж да прозвішчаў маючых сэнс, накшталт пералічаных намі, то ў выбітнога грамадзкага дзеяча іх магло існаваць нават на яго роднай мове не адно, а некалькі як добрых, так і благіх, як ухвальных, так і лаючых, у залежнасці ад таго, былі яны дадзены яго прыхільнікамі ці супернікамі. У Гішпаніі і зараз у арыстакратычных радах кожны прадстаўнік сямейства мае столькі розных радавых мянушак, што імі можна запоўніць цэлую старонку, ды і індывідуальна пры хрышчэнні ў каталікоў і пратэстантаў немаўляці даюцца па некалькі імёнаў адразу. Так было і ў шляхетных грамадзянаў Вялікай Міжземнаморскай імперыі, дзе на захадзе панавала лаціна-італьянская, на еўрапейскім усходзе – эліна-грэцкая, а на паўднёвым усходзе, у Ягіпце і Сірыі – араба-жыдоўская літаратурная мовы. У тым выпадку, калі запісы пра нейкага дзеяча вяліся людзьмі, пісаўшымі на эліна-грэцкай ці на рымскай, ці на араба-жыдоўскай мове, – то на кожнай мове яго імёны выпрацоўваліся самастойна грунтуючыся на тых рысах і асаблівасьцях, якія асабліва блізка закраналі дадзеную іншамоўную народнасць ці асабліва кідаліся ёй у вочы.

Таму сярэднявечны навуковец, атрымаўшы магчымасць вывучыць чужыя мовы, лёгка мог адну і тую ж гісторыю палічыць за тры асобныя гісторыі і, размясьціўшы іх храналагічна дапасуючыміся да розных эпох, зрабіць із яе

трохперыядную гісторыю. А гэта асабліва лёгка магло здарыцца таму, што не толькі імёны, але і характарыстыка асобных дзеячаў непазбежна павінна была адрозніваецца ў розных аўтараў ці кампілятараў, глядзеўшых на іх і на сучасныя ім падзеі з розных бакоў гледжання. Адны аўтары пазначалі перш за ўсё адны падзеі, замаўчаўшы іншыя, а другія, наадварот. Пры аддаленасьці мясцовасьцей і пераіначванні невыразных пагалосак, якія даходзілі да пішучых пры перадачы паведамлення не сведкамі, а праз шмат якія рукі, паведамленні нават і пра адну і тую ж складаную падзею лёгка маглі змяніцца да непазнавальнасьці, як гэта бывае пры вядомай «гульні ў тэлефон», калі некалькі чалавек сядаюць колам і шэптам перадаюць адзін аднаму нейкае доўгае паведамленне.

У гэтым выпадку найбольш аб'ектыўным і найменш пераменлівым пры перадачах з'яўляецца самы элементарны і не паддаючыся тэндэнцыйнаму асьвятленню факт, якім з'яўляецца працягласць жыцця дадзенага дзеяча ці працягласць валадарання дадзенага імператара, тым больш, што ў старажытнасьці, калі яшчэ не было ўсталявана нейкай агульнапрынятай эры, і гады валадарання апошняга валадара служылі адзіным штандарам гістарычнай храналогіі.

Вось чаму і я, усумніўшыся на падставе маіх астранамічных вылічэнняў у правільнасьці падзелу рымскай гісторыі на тры перыяды, узяў менавіта гэта штандар, за асноўную прыкмету, як гэта і паказаў у першай кнізе «Хрыста». Але я рэзюмую для памяці чытача гэта і тут, таму што ад выдання першага тома прайшло ўжо шмат часу.

Гісторыя старажытнай Візантыйска-Рымска-Ягіпецкай імперыі дайшла да нас у трох наступных асноўных першакрыніцах.

Першая першакрыніца, дайшла да нас у першай дэкадзе лацінскіх кніг Ціта Лівія, імя якога ў перакладзе на рускую мову азначае проста – Шаноўны Лівіец і ўяўляе відавочна не імя, а найменне ці псеўданім.

У ёй усе сем апісаных цароў размешчаны ў італійскім «Рыме», але маюць не лаціна-італійскія і нават не эліна-грэцкія, а араба-жыдоўскія імёны: Ромул, Нума, Тулл, Анк, Тарквіній, Тулій, і Тарквіній II з лацінскімі прыметнікамі, прытым Ромул – па-жыдоўску азначае Насарог (Аднарог), тое ж і яго брат Рэм; Нума Пампілій – азначае Суцяшальнік і г.д., пра што я ўжо распавёў у папярэднічаўшай частцы.

Гэтыя кнігі «Шаноўнага Лівійца» дайшлі да нас на лацінскай мове, але тая акалічнасць, што асноўныя імёны цароў у іх араба-жыдоўскія, вымушае нас ці ўсумніцца, што краіна, у якой яны валадарылі, была Італія, ці дапусьціць, што яе першакрыніцамі былі злёгку астралізаваныя і легендарызаваныя спробы напісаць гісторыю цароў Вялікай Міжземнаморскай Імперыі грунтуючыся на лівійскіх, г.азн. маўрытанскім матэрыялах, з тэндэнцыйным скарачэннем колькасьці цароў да сямі, грунтуючыся на кабалістычных і астралагічных меркаваннях. Час, калі яна напісана, невядомы, таму што ўпершыню яе знайшлі толькі пад час Эпохі Адраджэння, ды і ўсе астатнія дакументы, у якіх яна цытуецца ці згадваецца (напрыклад, у Плінія Малодшага) «знойдзены» не раней гэтага ж часу. Акрамя таго і склад «Шаноўнага Лівійца», як мы ўжо бачылі, вельмі развіты і нават мастацкі і паказвае ніяк не на першапачатковую, а на больш познюю эпоху эвалюцыі літаратурнай творчасьці.

Тое, што гэта не просты пераклад з араба-жыдоўскай мовы, адразу бачна, таму што старажытныя пераклады заўсёды вызначаліся падрадковымі заўвагамі, а дзякуючы гэтаму дрэннай і заблытанай мовай. Пятавіус і Скалігер, першыя

крытычныя дасьледчыкі дайшоўшых да іх старажытных кніг і першыя храналагісты паведамляных у іх падзей (жыўшыя на прыканцы Эпохі Адраджэння), дапасавалі пачатак падзей, апісваемых у гэтай кнізе, да 753 года да пачатку нашай эры. Але іхныя доказы вельмі наіўныя для сучаснага дасьледчыка, і таму ўвесь гэты перыяд ужо пачынаючы з заканчэння XIX стагоддзя лічыцца самімі гісторыкамі легендарным.

Другая першакрыніца. Мы яе маем на грэцкай мове ў «Царкоўнай гісторыі» Яўсевія Памфіла, імя якога ў перакладзе азначае Усім-любы Пабожны Чалавек і таму ўяўляе сабой не сапраўднае імя, а найменне ананімнага аўтара. Але і гэтая першакрыніца не першапачатковая, хаця із яе і запазычаны «Лацінскі летапіс» Карнэлія Тацыта, імя якога азначае Рагаты Маўчун. «Усім-любы» пачынае сваю гісторыю з таго моманту, калі «вайсковая ўлада Ляпіда і Антонія перайшла да Аўгуста (г.азн. да Актавіяна), які, прыняўшы тытул князя (princeps – прынц), пачаў кіраваць «усімі часткамі рэспублікі, паслабеўшымі ад грамадзянскіх войнаў» (I, 1). Заканчваецца ж гэтая гісторыя вайсковай дыктатурай Чорнага Князя, г.азн. Нярона. Прозвішчы цароў у ёй амаль усё лацінскага паходжання. Яны ж захаваліся і ў Усім-Любага Пабожнага Чалавека, хоць кніга яго і напісана па-грэцку. Гэтаму ж аўтару прыпісваецца і другая першакрыніца па дадзенау пытанню: «Хроніка», знойдзеная на лацінскай і на армянскай мовах, але не існуючая на грэцкай. Яна напісана грунтуючыся, відаць, на тых жа лацінскіх першакрыніцах і даводзіць падзеі да 325 года нашай эры, калі Кастусь склікаў Нікейскі Сабор. Склад яе таксама вельмі добры, выяўляючы больш позьнюю эпоху літаратурнай творчасьці...

Цэнтрам падзей тут выстаўлены таксама італійскі Рым, а час падзей Скалігерам і Пятавіусам дапасаваны да першых стагоддзяў нашай эры.

Трэцяя першакрыніца. Царкоўная гісторыя Сакрата Схаластыка, імя якога ў перакладзе на нашу мову азначае Навуковы Ахавальнік Улады.

Яна напісана на грэцкай мове, але імёны цароў і іншых дзеячаў дадзены то па-грэцку, то на-лаціне, паказваючы гэтым, што «Навуковы Ахавальнік Улады» карыстаўся як тымі, так і іншымі крыніцамі.

Цэнтрам дзеяння тут выстаўлены Цар-Горад на Басфоры, які мясцовымі туркамі завецца зараз Істамбулам, а хрысьціянскімі грэкамі – Канстантынопалем. Пачатак дзеяння, г.азн. заснаванне гэтага горада імператарам, якому ён дае імя Ўстойлівы ці Сын Устойлівага (на-лаціне Кастусь), дапасуецца Скалігерам, Пятавіусам і іншымі сучаснымі ім храналагістамі, да 330 года нашай эры. І гэтым разам з дастаткова пераканаўчымі храналагічнымі довадамі.

Сэнс найменняў цароў і іншых дзеячаў у «Навуковага Ахавальніка Ўлады» іншы, чым у «Усім-Любага Пабожнага Чалавека» ці ў "Шаноўнага Лівійца», але некаторыя із самых выбітных падзей часам дзіўна супадаюць ва ўсіх трох, як я ўжо казаў вышэй, і нават не аднойчы, каб чытач гэта трывала запомніў.

А зараз зноў нагадаю толькі пра пачаткі трох вышэйпаказаных «перыядаў» старажытнай Пантыйскай гісторыі.

Першы перыяд пачаўся згодна з «Шаноўным Лівійцам» з двух «Насарогаў» Ромула і Рэма, із якіх першы пазней забіў свайго суваладара, а потым быў прылічаны да сьвятых пад імем Квірын.

Другі перыяд пачаўся згодна з «Усім-Любага Пабожнага Чалавека» са Сьвятога сонечнага цара Восьмага сына (па-грэцку Гая Юлія Цэзара Актавіяна) і яго суваладара Антонія, імя якога азначае Пенячы Каня, г.азн. хвацкі навершнік.

І тут галоўны дзеяч забівае другога а потым атрымлівае тытул Сьвятога (на-лаціны Аўгуста).

Трэцці перыяд пачынаецца згодна з «Навуковым Ахавальнікам Улады» са Сьвятога-Бялявага-Годнага-Ўстойлівага цара (па-грэцку Гая Флавія Валера Кастуся Цэзара) у суваладаранні з Прамяністым (Ліцыніем) і зноў галоўны дзеяч перамагае і забівае свайго суваладара, а потым прылічваецца да сьвятых.

Такім з'яўляецца эскізнае падабенства заснавальнікаў трох перыядаў Пантыйскай імперыі. Але яно працягваецца і далей, калі ўсе тры гісторыі мы прымем за варыянты адной і той жа пачаўшайся з заснавання Цара-Горада і перанясём сюды цэнтр падзей.

# Глава II.

## Яшчэ раз пра паралелізм дынастычных падзей Другой і Трэццяй рымскіх імперый з некаторымі спасылкамі на гісторыю біблейскіх цароў.



Мал. 54
Сучасны выгляд Басфорскага Рыма (Царгорада).

У першай кнізе Хрыста я ўжо паказваў у табліцы XXII з дапамогай графічнага спосаба дзіўны паралелізм у часах валадарання і ў самой характарыстыцы наступнікаў Сулы (Другая імперыя) і наступнікам Аўрэліяна (Трэццяя імперыя). Але тады чытач яшчэ не быў падрыхтаваны да хуткага ўспрымання гістарычнага значэння такога супастаўлення. Зараз, калі ў другой і трэццяй кнігах «Хрыста» я ўжо дастаткова разгледзеў фізічныя, эканамічныя і філалагічныя падставы майго супастаўлення, настаў час зноў вярнуцца да яго. Я размяшчаю тут (табл. СІ, стар. 344, 345), маю табліцу із першай кнігі «Хрыста» каб чытач адразу бачыў, што сапраўды храналогія Другой імперыі спісана з храналогіі Трэццяй; яе левы бок уяўляе люстэркавае адвображванне правага, і кожны цар Другой імперыі з'яўляецца двайніком нейкага із цароў Трэццяй, наколькі гэта

дазваляе аперцэпцыйнасць успрымання, розная ў розных аўтараў. Разледзім жа яе з канца.

ТАБЛІЦА CI.

*Сравнение времен царствования последовательных царей «Второй Римской Империи» и царей «Третьей Римской Империи».*

| Число лет царствования 40 35 30 25 20 15 10 5 | Число лет царствования 5 10 15 20 25 30 35 40 |
|---|---|
| Цари „Второй" Империи | Цари „Третьей" Империи. |
| ?? (-82-78) Люций Сулла (библейский Саул) Restitutor Urbis 4г. | 5л. Люций Авреллиан „Восстановитель Империи" (Restitutor Orbis, 270-275) |
| Сдвиг в 8 лет. | Сдвиг в 9 лет. |
| Страшное земле- | трясение с Лациуме. |
| ?? (-70,-48) Гней Помпей Великий, Триумфатор 22г. | 21г. Диоклетиан Божественный (Iovius, 284-305) |
| Сдвиг в 3 года | |
| ?? (-45-44) Юлий Цезарь Победитель 1г. | 1г. Констанций Рыжий (Хлор) Победитель (305-306) |
| Сдвиг в 21 год. | |
| ?? (-23,+14) Гай Октавиан Святой (Август) 37л. | 31г. Гай Константин Святой (306-337) |
| Начало единоверия (фарисейства). | Никейский Собор 325г. |
| (14-36) Тиберий Черный 24г. | 24г. Констанций II (337-361) |
| ?? (36-40) Гай Цезарь „Солдатский Сапог (Калигула)"; бог 4г. | 2г. Цезарь Юлиан, Полководец и Философ, Отступник веры (361-363) |
| ?? (41-54) Клавдий и Мессалина 13л. | 13л. Валентиниан (363 376) |
| ?? (54-68) Нерон Хозяин (Домиций) 10л. | 14л. Валент (363-378) |
| Распятие Христа | 368г. |
| ?? (69) Служака (Сербий) Гальба Около года | Менее года. Иовиан - „Служака" (363) |
| ?? (70-80) Два Тита - Веспасиана 10л. | 9л. Грациан (после Валента 378-383) и Валентиниан II (378-387) |
| ?? (80-96) Тит Домициан 16л. | 17л. Феодосий Великий (378-395) |
| ?? (96-98) Нерва 2г. | 2г.(?) Стиликон (395-397) ?? |
| ?? (98-117) Траян „Наилучший 19л. | 13л. Аркадий (395-408) |
| Землетр. 395г. Появление | Апокалипсиса. |
| ?? (117-138) Адриан Адриатический 22г. | 28л. Гонорий (Тит по гречески, 395-423) |
| ?? (138-161) Тит Антонин Пий 23г. | 21г. Аэций, опекун над Валентинианом (423-444) |
| ?? (161-180) Марк - Аврелий Антонин - Философ 20л. | 11л. Валентиниан III (444-455) |
| Время библейских | пророков. |
| ?? (180-192) Люций - Коммод 13л. | 16л. Рецимер (456-472) |
| ?? (193) Публий Гельвий Пертинакс 1г. | 1г. Ромул - Августул (475) |
| ?? (193-211) Люций Септимий Север 18л. | 17л. Одоакр (476-493) |
| ?? (188-217) Марк - Аврелий - Антонин - Каракалла 29л.?? | 33г. Теодорих Великий (493-526) |
| (ввел галльскую (французскую) одежду и даровал права римского гражданства всему свободному населению Западной Империи. | (Основал ост-готское царство в Италии, поощрял науки и искусства, сравнял в правах иностранцев с римлянами). |
| Конец аналогии. | Конец „Третьей" Империи. |

Здзіўляючы паралелізм перыядаў валадарання пасьлядоўных цароў Другой Рымскай імперыі (лакалізаванай у Італійскім Рыме) і Трэццяй Рымскай імперыі (месьціўшайся ў Царгорадзе).

Вывяржэнне Вязувія ў 472 годзе, калі быў забіты Рыцымер і ў Рымскай вобласьці пачалася трохгадовая анархія аж да нашэсьця Адаакра, было пачаткам заканчэння Трэццяй імперыі, пасьля чаго ўлада перайшла да германцаў. А ў Другой імперыі Марк Аўрэлій-Антанін-Каракала, паралельна гэтаму пераходу ўлады, уводзіць французкае адзенне і ўсё насельніцтва атрымлівае правы рымскага грамадзянства, што зводзіцца да таго ж. І аналагічна гэтаму ў біблейскім Багазмагальніцкім царстве з'яўляецца «пачвара перасяленец (Тыглатпаласар) пры цараванні Факхе, таксама азначаючы пачатак канца для Багазмагальніцкага царства.

Пойдзем адсюль назад у глыбіню стагоддзяў.

Згодна з грэцкімі крыніцамі Ганорый у Трэццяй імперыі перасяліўся за Адрыятычнае мора, стаўшы выключна заходнім імператарам, а згодна з лацінскімі крыніцамі ён жа завецца Адрыятычным (Адрыянам) і дапасуецца да Другой імперыі. А ў Бібліі той жа цар названы Еравaамам II. Гэта адна і тая ж асоба у аперцэпцыі трох нацыянальных і далёкіх адзін ад аднаго аўтараў. Жудаснае вывяржэння Вязувія і землятрус, разбурыўшыя Пампею, адбыліся, згодна з традыцыяй, за два гады да сьмерці гэтага Ціта-Ганорыя. Гэта азначае, калі лічыць,

што Ганорый памёр у 423 годзе нашай эры, яно адбылося ў 431 годзе, праз тры гады пасьля Амосава зацьмення 418 года, прайшоўшага праз Рым, і праз 26 гадоў пасьля з'яўлення Апакаліпсіса. Хвядос у Трэццяй імперыі адпавядае Іе-Ахазу Бібліі, які валадарыў таксама 17 гадоў і ваяваў з «горцамі», пакуль не набыў сабе «Ратавальніка», пасьля якога жыў мірна, аналагічна Хвядосу, задушыўшаму сірыйскае паўстанне і амаль разбурыўшаму Антыёхію і таксама меўшага свайго «ратавальніка» Яна Залатавуста. А двайнік Хвядоса ў Другой імперыі – Даміцыян валадарыў 16 гадоў, спачатку апякаючы навукі, а потым наладзіўшы перасьлед хрысьціянаў, пры якім зведаў пакуты Ян Багаслоў, двайнік Яна Залатавуста. Згодна з нашымі параўнаннямі гэта была адна і тая ж асоба, патроіўшаяся ў розных і далёка жыўшых адзін ад аднаго аўтараў, пазначаўшых аперцэпцыйна і перспектыўна толькі тое із яго жыцця, што было ім бліжэй, змаўчаўшы пра астатняе. Гэта тое ж самае, што малюнкі таго ж самага будынка, зробленыя з розных бакоў. Цалкам немагчыма здагадацца, што яны – адзін і той жа будынак.

Перад гэтым Даміцыянам-Хвядосам-Ахазіяй (11-17-17 гадоў), згодна з лацінскімі крыніцамі, валадарыў пераследчык хрысьціянства Нярон (псеўда 54-68 гг.), і ён храналагічна налягае на Валента (363-378), пры якім жыў Васіль Вялікі, ён жа евангельскі Хрыстос. Валенту адпавядае ў Бібліі бязбожны цар Ахаў, пры якім жыў вялікі прарок Ілля (г.азн. другая аперцэпцыя евангельскага Хрыста), таксама ўзнесены жывым на неба. Калі параўнаць гэта храналагічна, то, ведаючы із грэцкіх крыніц, што Нярон-Валент-Ахаў валадарыў паміж 363 і 378 гадамі і атаясаміўшы Езуса з Іллёй-Сонцам, узнесеным на неба ўжо пасьля сьмерці Ахава, даводзіцца зрабіць выснову, што евангельскі Езус пасьля свайго слупавання жыў, як і Васіль Вялікі, да 378-380 года і што Яну Залатавусту адпавядае ў Бібліі прарок Ялісей.

Перад Валетам жыў знакаміты імператар Трэццяй імперыі Юльян Цэзар, сябар філосафаў, а яго двайнікам у Другой імперыі з'яўляецца Гай Цэзар «Жаўнерскі Бот» (Калігула), здзейсніўшы паход у Галію, і быццам бы таксама пачаўшы зваць сябе богам (Элі). Дакладна так жа і згодна з Бібліяй, «Жаўнерскаму Боту» адпавядае цар Іла, ці, больш правільна, Алі (таксама бог па-жыдоўску), забіты сваім вайсковым правадыром Замврыем, як Юлій Цэзар забіты Брутам, але, як пабачым далей, забойства Юльяна храналагічна перасунута назад, каб стварыць легенду пра Юлія Цэзара.

Перад Тыберыем, згодна з лацінскімі крыніцамі, валадарыў у Другой рымскай імперыі Гай Юлій Цэзар Актавіян Аўгуст, пры гэтым слова Аўгуст з’яўляецца не імем, а тытулам, і азначае проста «Сьвятая асоба», як афіцыйна зваліся і наступныя хрысьціянскія імператары (найясьнейшыя асобы). Ён завецца Першым рымскім імператарам і храналагічна налягае таксама на Першага візантыйскага імператара Гая Флавія Валера Кастуся Вялікага, абвешчанага Аўгустам у 306 годзе.

Гай Кастусь, пасьля прыняцця тытула «Найясьнейшы», валадарыў, згодна з візантыйскімі крыніцамі, 31 год (306-337), а Гай Юлій Цэзар Актавіян пасьля прыняцця гэтага ж тытула валадарыў, згодна з лацінскімі крыніцамі, каля 37 гадоў (ад -23 да 14), а яго біблейскае адлюстраванне – Ераваам I атрымаў ад жыдоўскага аўтара толькі 21 год. Якія меркаванні кіравалі тут пры адыманні 7 гадоў – для нас не мае значэння і мы параўнаем толькі характарыстыкі абодвух двайнікоў.

Найясьнейшы Кастусь Вялікі, пасьля сьмерці свайго бацькі Канстанцыя Хлора (г.азн. Рудога), з якім Біблія і аб'яднала яго дзякуючы адназначнасьці імёнаў, выявіўся, згодна з візантыйскімі крыніцамі, спачатку суваладаром Марка Аўрэлія

Максенцыя ў Італіі і Публія Флавія Галерэя Валяр'яна Ліцынія – на Ўсходзе, і наладзіў з імі трыўмвірат. Але хутка ён перамог спачатку Марка Аўрэлія Максенцыя, утапіўшагася пры гэтым у Тыбры, а потым і Ліцынія на Ўсходзе і зрабіўся аднаўладным валадаром усёй імперыі.

А яго двайнік – Гай Юлій Цэзар Актавіян Аўгуст, згодна з лацінскімі крыніцамі, прыехаў у Рым, калі спадчына яго айчыма была ўжо быццам бы захоплена яго суваладарамі Антоніем (адпавядаючым Ліцынію грэцкіх першакрыніц) і Маркам Эміліям Ляпідам, адпавядаючым Марку Аўрэлію Максенцыю. Утварыўшы на пачатку з імі трыўмвірат, ён пазьней перамог Ляпіда ў Сіцыліі, а потым і свайго ўсходняга суваладара Антонія, разам з яго ягіпецкай жонкай, прыгажуняй Клеапатрай, у бітве пры Акцыуме (Актэону) на заходнім беразе Грэцыі.

Пасля гэтага Гай Цэзар Актівіян, як і Гай Цэзар Кастусь, зрабіўшыся аднаўладнымі, кіраваў з «мудрай умеранасьцю». Ён – паведамляюць нам лацінскія першакрыніцы – пераіначыў кіраванне правінцыямі, аднавіў дысцыпліну ў войску і зрабіў захады да паляпшэння нораваў. Пры ім было залатое стагоддзе рымскай літаратуры, былі заваяваны Гішпанія, Панонія, Далмацыя, Ілірыя і зроблены спробы далучыць Германію. Яму ж прыпісваюць трох жонак, дарэчы, відаць, не адразу, а адну пасьля другой, прытым з першай ён развёўся. І Актавіяна і Кастуся пасьля сьмерці прызналі напаловубогам.

Тут мы зноў дайшлі, як і пры параўнанні ізраільскіх цароў з рымскімі, да амаль поўнага накладання выбітных «рымскіх цароў» Другой імперыі (ад Гая Юлія Цэзара Актавіяна Аўгуста да Ціта), на візантыйска-рымскіх ад Кастуся I да Ганорыя. Уся серыя першых толькі храналагічна пасунулася наперад каля 340-350 гадоў. А ў Бібліі Кастусю адпавядае Ераваам, які ўвёў іконашанаванне.

Гэта тры варыянты той жа самай дынастычнай гісторыі.

* * *

Цалкам такі ж паралелізм Другой лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкай імперыі з Трэццяй імперыяй захоўваецца і да Кастуся I.

Параўнаем, напрыклад, Дыяклетыяна і Пампея, ды дарэчы дададзім да іх і Давыда.

I. Давыд. Давыду, згодна з Бібліяй, не было яшчэ 30 гадоў, калі ён заняў пасад. Яго першай рэзідэнцыяй быў Хеб-Рон, але ён перанёс яе ў «Моцнае ўмацаванне» на мяжы паміж краінай богаслаўцаў і веніямінаўцаў у Іе-вуз, ці Вуз-Іе (назва, перанесеная потым на Візантыю) і назваў яе згодна са сваім імем «Горад Умілаванага».

«Новая сталіца заквітнела пышна і заможна і зрабілася адным із самых знакамітых гарадоў у гісторыі чалавецтва, – кажа пра яе адзін гісторык, называючы яе горадам Святога замірэння («Ерусалімам»). Давыд перанёс туды «Каўчэг запавету» з дзесяццю запаветамі, прызначыў адменных асоб для здзяйснення набажэнстваў, утварыў дзяржаўную раду. Потым ён пачаў войны: перамог качэўнікаў і захапіў іхную сталіцу «Гот», перамог мааваў-горцаў, захапіў Дамаск, потым падначаліў сабе дзікіх вешнікаў і стралкоў «ідумеян». Зараз ён кіраваў вялізнай імперыяй, але заганарыўся, пакараў сьмерцю свайго вайскавода Бого-Сьвета, каб забраць яго жонку, завёў гарэм і памёр у старым веку».

II. Пампей. Гней Пампей Вялікі (г.азн. вялікі правадыр) згодна з лацінскай аперцэпцыяй задушыў народнае паўстанне ў Сіцыліі і ў Афрыцы, закончыў вайну з арабамі, вызваліў мора ад піратаў, перамог каля Еўфрата Мітрыдата VI Эўпатара,

малаазіяцкага цара, але пасьля сваркі з Гаем Юліем Цэзарам, сваім суваладаром, выдаліўся на Ўсход і, пераможаны ў Фесаліі, збег у Ягіпет да Пталямея Аўлета, дзе быў забіты.



Мал. 55.
Статуя ў Неапалітанскім нацыянальнай музеі, якая лічыцца за антычны бюст Пампея (тоеснага з нашага боку гледжання з Дыяклетыянам-Богапакліканым і з біблейскім Давыдам).

Яго суваладар Марк Ліцыній Крас, пераможац Спартака, празваны Dives (багаты), зрабіўся праконсулам Сірыі ў 55 годзе. Ён зведаў паразу ад персаў пры Карах і быў забіты. Ён валодаў незлічонымі багаццямі, быў 17 гадоў консулам Усходу разам з Пампеем. Гэта, відаць, ён даў пачатак лягендзе пра апошняга Лідыйскага цара Крэза (па-грэцку Κροίσος), які валодаў незлічонымі багаццямі і быў пераможаны пярсідзкім царом Госпадам (Кірам). Яго рэзідэнцыяй лічыцца горад Сарды. Толькі час яго жыцця ў гэтым выпадку перанесены, да -567– 547 гадам, але і Крэз атрымаў ад гісторыкаў таксама 20 гадоў валадарання.

III. Дыяклетыян. Гней Аўрэлій Дыяклетыян, празваны Боскім, быў абвешчаны – згодна з грэка-лацінскімі пісьменнікамі – імператарам 17 верасня +284 года ў Халкідоне на паўночна-заходнім беразе Малой Азіі. Ён пачаў валадаранне ў сукіраўніцстве з Канстанцыям Рудым (г.азн. Юліем Цэзарам), атрымаўшым Гішпанію, Галію і Брытанію (цэзар Заходу), і з Маркам Аўрэліем-Валерам-Максіміянам (285-305 гг.), атрымаўшым Афрыку і Італію. Але ў 305 годзе Максіміян быў прымушаны Канстанцыям Хлорам адмовіцца ад пасада, у 308 збег і ў 310 забіты ў Марсэлі. Яго дублікат – Гай Галеры Валер Максіміян, з 292 года зяць Дыяклетыяна, перамог персаў, і зрабіўся царом Грэцыі, Фракіі, Ілірыі і Македоніі. Сам жа Дыяклетыян разам з Максіміянам адмовіўся ад улады і памёр у Салоніках у Далмацыі ў 313 годзе.



Мал. 56.
Статуя ў Неапалітанскім нацыянальным музеі, лічымая за антычны бюст Юлія Цэзара (тоеснага з нашага боку гледжання з Канстанцыям Хлорам, і, напэўна, з Урыем Бібліі ці з Евасфеем).

Мы бачым, што і Пампей і Дыяклетыян былі сябрамі трыўмвірату, а астатнія падрабязнасьці іхнай дзейнасьці перададзены кожным із трох разнамоўных і рознакраінных аўтараў аднабакова і аперцэпцыйна, як і павінна было адбыцца пры незалежнасьці пісання адзін ад аднаго.

Разгледзім зараз іхных суваладароў.

Суваладаром Дыяклетыяна ў Трэццяй імперыі, згодна з грэка-лацінскімі крыніцамі, з'яўляецца Канстанцый Хлор (Руды) 305-306 (1 год). На пачатку з 293 года цэзар Захаду (перамог германцаў пры Лангу і Віндонісе (Вене) у 298 годзе), потым, пасьля адмовы Максіміліяна ад Італіі, і пасьля сьмерці Дыяклетыяна, абвешчаны ў 305 годзе «вярхоўным імператарам Рымскай імперыі».



Мал. 57.
Выява Брута ў вайсковым плашчы і з падстрыжанай барадой. Бюст, лічымы за антычны. Зараз у Капіталійскім музеі.

А суваладаром яго двайніка – Пампея – у Другой імперыі, згодна з лацінскімі крыніцамі, лічыцца Гай Юлій Цэзар – перша-імператар Рымскай імперыі (псеўда – 45, –44 г.) Ён падпарадкаваў Галію і Германію, быў цэзарам Заходу пры сувадаранні з Пампеем і Красам, потым прагнаў Пампея із Італіі на Балканскую паўвыспу і перамог яго там пры Фарсале ў Фесаліі. Пампей збег у Ягіпет, дзе быў забіты дарадцамі цара Пталямея Аўлета. Потым Цэзар прызначыў жонку Антонія Клеапатру царыцай Ягіпта.

Хто ж адпавядае Канстанцыю Хлору ў Бібліі сярод цароў абранага народа боскага? Мы не бачым у Давыда кампаньёна, падобнага Канстанцыю Хлору, калі не лічыць такім Евасфея, сына Савула, ці вайсковага правадыра Сьвета-Бога (Урыю), і таму можна думаць, што Канстанцый Хлор ў жыдоўскай версіі не адрозніваючыся ад Кастуся (абодва імені азначаюць: Устойлівы), зліўся з ім у біяграфіі бацькі іконашанавальнай ерасі Ераваама.

Пяройдзем зараз да заснавальнікаў усіх трох царстваў.

Вось яны ўсе тры зліўшыя згодна з нашай тэорыяй у адно:

I. Згодна з біблейскай кнігай «Цары», Савул, памазаны на царства прарокам Самуілам (1. 10), першы цар богазмагальнікаў, сабраўшы апалчэнне, прагнаў Нааса, амачыцкага (самніцкага) цара ад Іевуса Галаадзкага (І-Віш-Глэд), перамог качэўнікаў (па-жыдоўску: палестынцы) і «персаў» з дапамогай Давыда, які забіў іхнага правадыра Галіяфа, і паланіў Агаса, аманіцкага цара. Але ён пачаў дзейнічаць самавольна, не слухаючы прарока Самуіла. За гэта той таемна памазаў на царства «бялявага Давыда» – юнака-музыку. За ўхвалы ад народа Савул пачаў пераследаваць Давыда, і той выдаліўся ў іншую вобласць, дзе набраў сваё войска. Качэўнікі зноў наладзілі напад на Савула, і той скончыў жыццё самагубствам.



Мал. 58.
Статуя ў Ватыканскім музеі ў Рыме, лічымая за антычны бюст Антонія, чалавека Клеапатры.

II. А згодна з лацінскімі першакрыніцамі яго аналаг, Сула (Луцый Карнэлій Фелікс, псеўда –89 і –79 гг.) дыктатар Рымскай вобласьці, празваны Аднаўляльнікам Сусьветнай Улады (Restitutor Orbis) спачатку служыў пад кіраванем Марыля ў Афрыцы, вызначыўся ў паходзе на кімбраў і тэўтонаў (савойцаў і германцаў), потым у вайне з самніцянамі ў сярэдняй Італіі. Ён быў абраны консулам і быў ім да сваёй сьмерці (8 ці 9 гадоў). Перамогшы Мітрыдата

«пярсідзкага цара», ён вярнуўся ў Італію, дзе зацьвердзілася партыя Марыля. Але ён яе збольшага перамог, збольшага перацягнуў на свой бок і, перамогшы каля сьцен Рыма (біблейскага Іевуса Галаадзкага) сына Марыля, перабіў усіх яго ваяроў. Зрабіўшыся валадаром Рыма, ён прагнаў із яго ўсіх прыхільнікаў Марыля са шляхты.

III. А згодна з грэцкімі гісторыкамі Люцый Даміцый Аўрэліян (+270, +275), празваны Restitutor Urbis (аднаўляльнік горада), выгнаў маркаманаў і алеманаў (г.азн. кімбраў і тэўтонаў Сулы, і «аманіцянаў» Савула) із Італіі, умацаваў «Рым» сьцяной, закончанай у 276 г. Ён, відавочна, і быў рэчаісным заснавальнікам Рыма. Потым ён перамог готаў, перайшоўшых Дунай, і захапіў Пальмірскае царства Богажывучай (Зенобіі, 276 г.). Мы бачым, што і тут асноўныя падзеі тоесныя, толькі немцы-тэўтоны Сулы заменены немцамі-готамі, і царства Мітрыдата заменена царствам Богажывучай.

Думка, што гэтая «Пальміра» з'яўляецца не чым іншым, як адназначачым з ёю (па-арамейску) Тадморам у Сірыі, разбураным, як сведчыць традыцыя, арабамі ў 744 годзе і зараз уяўляючым вартую жалю вёсачку без якога б то ні было мінулага і будучыні, была ўпершыню выказана Вудам і Доўкінсам[106] у 1812 годзе, а ў апошні час гэтыя невялікія парэшткі дасьледаваны Абамелек-Лазаравым (Пальміра, 1885 г.). Аднак згодна з геаграфічнымі і геалагічнымі ўмовамі вельмі неверагодна існаванне тут знакамітага пальмірскага царства, і я лічу, што маецца на ўвазе Ягіпет, а ў Тадморы існавала толькі нейкае другараднае стратэгічнае ўмацаванне.

Аўрэліян быў забіты падчас паходу на персаў, а Савул, згодна з Бібліяй, сам скончыў жыццё самагубствам пры другім нападзе качэўнікаў.

* * *

Я не маю дастаткова месца ў гэтай кнізе для таго, каб разгледзець да дробязяў запланаваны тут мной паралелізм дынастычных падзей другой Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі, пачынаючайся з «аднаўляльніка Сусьветнай імперыі Сулы, з дынастычнымі падзеямі Трэццяй імперыі», пачынаючайся з аднаўляльніка «Сусветнай сталіцы» Аўрэліяна. Для гэтага патрэбна асобная кніга. Але і таго, што я паведаміў тут і паведаміў у першай кнізе «Хрыста», цалкам дастаткова, каб паказаць, што гэта не дзьве пасьлядоўна існаваўшыя імперыі, а толькі дзьве розныя аперцэпцыі адной і той жа імперыі. Ды і біблейскае паданне пра Савула, заснавальніка біблейскай сьвятой імперыі, імя якога з'яўляецца толькі пераінаЧаным вымаўленнем імені Сула, з'яўляецца толькі трэццяй аперцэпцыяй той жа самай імперыі Аўрэліяна.

Такім чынам усё Другое Рымскае царства на чале з Аўгустам Цэзарам пры безстароннім стаўленні ператварылася ў міраж Трэццяга Рымскага царства, якое адзіна і існавала ў рэчаіснасьці, а першае царства на чале з Ромулам і Рэмам, а таксама і ўсё біблейскае «царства Давыда» выяўляюцца міражамі міражу. Разам з гэтым зніклі із вобласьці самастойнага дасьледавання ўсё хрысьціянства першых трох стагоддзяў нашай эры і ўсё юдэйства да з'яўлення на сьвет Арыя-Арона на прыканцы III стагоддзя нашай эры.

Зразумелым стала і тое, што ніводнае із сонечных і месяцовых зацьменняў, разабраных намі ў чацьвёртай кнізе «Хрыста», не апраўдалася да канца III стагоддзя, а з IV стагоддзя ўсе апраўдаліся.

---

[106] Wood et Dawkins: Les Ruines de Palmyre. 1812 г.

# Глава III.

## Высновы із павядомленага.




Delenda est Cartago!

Ды дазволіць мне чытач зноў вярнуцца да так званага «сьвятога пісання».

У другой кнізе «Хрыста» мы ўжо бачылі, што **Біблія з’яўляецца энцыклапедыяй ўсіх старажытных ведаў**. Там утрымліваюцца пачаткі і заалогіі, і астраноміі, і юрыспрудэнцыі, і этнаграфіі. Яна не прамінае нават дробных народнасьцей, і як маглі яе дасьледчыкі да гэтага часу думаць, што ёй нічога не было вядома пра старажытны магутны горад Рым, пра лацінаў, і элінаў, панаваўшых падчас яе складання ва ўсіх берагавых краінах Міжземнага мора і, як пераконваюць нас, нават у тых самых месцах, дзе складалася Біблія? Тая акалічнасць, што пабудова горада Рыма прыпісана не аднаму чалавеку, а дзвум з сугучнымі імёнамі, паказвае толькі на тое, што для «краіны Рым» са старажытных часоў існавалі дзьве назвы: Рома на Захадзе (Roma Eterna – Вечны Рым сучасных італьянцаў) і Рым (ці Рэм) – на Ўсходзе, што і захавалася ў славянаў. Ад назвы Рома паходзіць Ромул, заснавальнік Заходняй імперыі, а ад назвы Рым паходзіць Рэм, заснавальнік усходняга Рыма, а памяншальная назва Romulus – Рымчык, – паказвае, што Заходняя імперыя лічылася маладзейшай за Ўсходнюю.

І вось я зноў пытаю, што ж такое азначае Рома і Рым? Пад час старажытнасьці не давалася назваў у выглядзе безсэнсоўнага спалучэнняў гукаў, ды не даецца і зараз. Калі ж у наш час большасць асабістых ці геаграфічных наймнняў не мае сэнсу на мясцовай мове, то толькі дзякуючы таму, што гэтыя наймні спачатку былі дадзены замежнікамі, на мове якіх такое найменне мела цалкам вызначаны сэнс. І раптам выяўляецца, што на старажытнай італійскай мове назва сваёй сталіцы не мае сэнсу, а на грэцкай не мае сэнсу і само іхнае нацыянальнае наймнне **рамаі**, г.азн. рымляне, як яны самі завуць сябе пачынаючы са спрадвечных часоў разам з румынамі і румеламі, а слова грэкі, таксама не грэцкае, з'явілася пазней (ад славянскага гаракі-горцы?).

Відавочна, што імя **рамеі** прыйшло адтуль, дзе яно мела вызначаны сэнс. Прыгледзеўшыся да жыдоўскай мовы, якая была першай культурнай і

міжнароднай, мы адразу і знаходзім у ёй абедзьве назвы Рыма і нават трэццюю. Паглядзіце, напрыклад, у кароткі, але цудоўны ва ўсім, акрамя адсутнасьці тлумачэння сэнсу ўласных найменняў, жыдоўскі і халдэйскі слоўнік О. Н. Штэйнберга і вы знойдзеце там наступнае месца:

«ראם (РАМ і РОМ), ראים (РАІМ), ці רים (РЫМ) уяўляе із сябе згодна з навейшымі дасьледаваннямі род антылопы (Antilope leucoryx, L.). Гэтае слова згадваецца ў Лічбах (23, 22); у Псалмах (92, 11 і 22, 22); у Ёва (39, 9); у Ісайі (34, 7). А пра маладую жывёлу казалі: בן־ראים (БН-РАІМ) – сын Рома. (29, 6)». (Псалмы ў Штэйнберга дадзены згодна з жыдоўскай нумарацыяй і адносна антылопы спасылка зроблена на Setzens Reisen, III, 393 і IV, 496.)

Я не меў магчымасьці прачытаць згадваемыя тут вандраванні Зэтцэна, але якімі б ні былі яго высновы, зводзячыяся, вядома, да таго, што антылопа з мясцовым нйеннем Рэхем водзіцца ў Тыбеце, але як пагадзіцца з тым, што да гэтай самай казы могуць мець дачыненне паказаныя самім Штэйнбергам выказванні Бібліі? Вось яны:

«*Магутны бог Грамабой. У яго магутнасць Рыма* (Лічбы, 23, 22)»; «*загінуць, рассыплюцца ўсе, робячыя няпраўду, а мой рог ты ўзвысіш, як рог Рыма* (Пс. 92, II)». «*Выратуй мяне Грамабой ад пашчы Ільва і ад рога Рыма. Пачуй мяне* (Пс. 22, 7)». «*Ці пажадае Рым служыць табе? Ці будзе ён начаваць пры тваіх Ясьлях? Хто прывяжа Рым вяроўкай каля баразны? Ці будзе ён баранаваць за табой даліны? Ці будзеш спаспадзявацца на яго таму, што вялікай з'яўляецца яго магутнасць і ці падасі яму сваю працу*? (Ёў, 39, 9-II)».

А вось, нарэшце, і месца, дзе гэты самы Рым ужо сімвалізуецца сузор'ем Аднарога (Насарога).

«*Вялікая ў Грамабоя ахвяра па Басфоры*[107] *і вялікае закланне ў зямлі Візантыйскай*[108]*. Упадуць з імі і Рым, і Цяльцы з Валамі, і зямля будзе напоена іхнай крывёй, і глеба будзе насычана іхным тлушчам* (Іс., 34, 7)».

(Дадам у дужках, што я лічу гэта за апісанне апускання сузор'яў Цяляці і Рыма-Аднарога ў крывавую палосу вечаровага зарыва, назіраемыя з берагоў Басфора.)

Пакідаючы пакуль у баку апошнюю цытату пра Рым пры Басфоры, я спынюся толькі на трох першых, дзе гэтая жывёла называецца то Рамам, то Ромам, то Раімам, то Рымам. Няўжо, чытач, і ў вашых вачах апісаны ў іх жудасны апакаліптычны звер, ад рога якога просяць выратавання, як ад пасткі ільва, і магутнасць якога параўноўваюць з магутнасьцю самога бога Грамабоя, падобен на тыбецкую баязлівую казу-антылопу – Antilope leucoryx, – у якой пры тым жа маецца два рогі, а не адзін? Жаданне неадменна падцвердзіць месапатамскае паходжанне Бібліі прывяло набожнага вандраўніка Зэтцэна да таго, што ён, падобна дзіцяці, спалохаўся горнай антылопы і атаясаміў яе з ільвом!

Мы ж не пойдзем сьледам за ім і скажам проста: тут пышна апісаны насарог, вялізная, нязграбная жывёла, сярэдняя, згодна са сваёй структурай, паміж сланом і каровай, прыходзячая ў лютасць пры выглядзе набліжаючагася чалавека і адразу нападаючага на яго, валячы сваім магутным рогам на насу ўсё сустракамае і ламаючая ім нават даволі тоўстыя дрэвы. Із насарогаў, акрамя паўднёва-афрыканскага – белага (Rhinoceros Sinus) – існуе яшчэ індыйскі (Rhinoceros Indicus)

---

[107] אבצרה (БЦРЕ), а па-грэцку і па-славянску перакладзена; Васор (Басор), г.азн. непасрэдна лічылася за Басфор.

[108] אדום (АДУМ) у сярэднявечных рабінаў – Візантыйская імперыя.

з адным рогам, і ўсходне-афрыканскі (Rhinoceros Bicornis), у якога за пярэднім вялікім рогам на насу, дасягаючым даўжыні чалавечай рукі, ёсць яшчэ другі рог – меншы (мал. 59). Ён і да гэтага часу водзіцца на берагах верхняга Нілу і яго прытокаў каля Абісініі, праводзячы вялікую частку часу на мелкаводдзі у зарасніках. Менавіта гэты ягіпецкі аднарог і апісаны ў Бібліі, і ён жа перайшоў у лік сузор'яў, спачатку ў тое, якое мы зараз завём Казярогам і якое раней малявалася ў выглядзе аднарога з рыбіным хвастом, у адзнаку таго, што ён жыве ў рэках. А потым гэты ж біблейскі насарог пранік на мапу неба і ў выглядзе сузор'я Аднарога, нападаючага на Арыёна, г.азн на Арыяніна.



Мал. 59
Двухрогі насарог (Rhinoceros africanus) згодна з сучаснымі малюнкамі.

Адсюль зразумела, што назва Рымскай імперыі жыдоўска-маўрытанскага паходжання, што яно ўзнікла ў Ягіпце і азначае Магутны Насарог, і што гэты звер быў у старажытнасьці знакам усёй Рымскай імперыі каля берагоў Міжземнага мора ад Ягіпта і Балкан да сучаснай Італіі і Гішпаніі, ператварыўшыся пазьней пры перакладзе на грэцкую мову ў Аднарога і ў Казярога.

Для Ягіпта ж у Бібліі была цалкам іншая назва; зямля Хама. Арабы ж яшчэ завуць яго Мазр[109], што па-жыдоўску азначае Задыяк.

Гэта азначае, што Рымская імперыя, грунтуючыся на чыста лінгвістычных меркаваннях, спачатку ўзнікла ад ягіпецкіх асаднікаў (жыдоў), і нам толькі застаецца зараз праверыць, грунтуючыся на натур-гістарычным метадзе, які кладзе за падставу культурнага развіцця дадзенай краіны яе прыроду і геаграфічныя

[109] מזר (МЗР) – Задыяк. (У кнізе פוד?)

ўмовы, ці мог сучасны італійскі горад Рым згодна са сваім геаграфічным становішчам быць цэнтрам нейкай цалкам свецкай сусьветнай імперыі?

Да таго часу, пакуль не была вынайдзена чыгунка, цэнтры сусветнага гандлю маглі ўзнікаць, як я ўжо даводзіў у папярэднічаўшых кнігах «Хрыста», толькі ва ўтоках вялікіх рэк, у басейне якіх ззаду ляжалі ўрадлівыя раўніны, а спераду звілістая берагавая лінія ці выспы, даваўшыя магчымасць старажытным марудным і недасканалым караблям у кожную хвіліну знайсьці прыстанак ад непагодзі і такім чынам дабрацца да іншых мясцовасцей, багатых чужымі прадуктамі годнымі для абмену. Старажытны жыхар з яго недасканалымі ведамі не быў яшчэ з гэтага боку гледжання ўладаром прыроды: ён быў толькі яе дзіцём, якога яна паступова ўзводзіла на больш высокія прыступкі дасканаласьці, выпрацоўваючы ў той ці іншай геаграфічнай вобласьці розныя характары, розныя густы, розныя памкненні. З такога боку гледжання ўся гісторыя чалавечай культуры напісана асобнымі іерогліфамі на геаграфічнай мапе і, для таго каб аднавіць яе агульны ход, не трэба гістарычных паданняў, а трэба толькі ведаць фізічную геаграфію.

Асаблівасьці басейна Міжземнага мора ўжо паказалі нам, што марскі гандаль, а з ім і цывілізацыя, як непасрэдны вынік назапашвання дадатковых каштоўнасцей, давалі ў старыну магчымасць вызваліцца ад непасрэднай фізічнай працы не аднаму толькі валадарачаму свецкаму ці духоўнаму стану, але і гандлёвай частцы насельніцтва, самай рухомай тады розумам і справай і самай дасьведчанай пра разумовае і эканамічнае жыццё іншых краін і пра асаблівасьці іхнай прыроды.

Арганізм здаровага чалавека кожныя суткі выпрацоўвае ў сабе шляхам адмысловых хімічных працэсаў вядомую колькасць надмернай фізічнай энергіі, трохі большую ў адных індывідаў і трохі меншую ў другіх, і яна згодна з фізіялагічнымі законамі не можа неператварыцца ў нейкую дзейнасць. Із гэтага зразумела, што толькі незнаёмыя з асновамі сучаснага прыродазнаўства могуць сцвярджаць, быццам бы нейкі чалавек можа хаця б тыдзень, а не тое што ўсё жыццё, нічога не рабіць.

Як увесь час палімы паравоз не можа не везьці куды-небудзь свой цягнік, не выбухнуўшы ад паступова павялічваючайся ў ім дадатковай энергіі вадзяного газу, так і чалавечы здаровы і правільна сілкуюмы арганізм не можа знаходзіцца без дзейнасьці. І вось пры рацыянальным вывучэнні жыцця чалавечых грамадстваў выяўляецца такі выдатны факт. Асноўныя законы эвалюцыі чалавечага роду выпрацавалі ў яго пакаленнях асаблівую схільнасць накіроўваць надмерную энергію амаль кожнага арганізма больш на мазгавую дзейнасць, чым на дзейнасць рукамі і нагамі, і вынікі гэтай працы, дзякуючы здольнасьці размаўляць, а потым вынаходніцтву пісьмовасьці, атрымвалі магчымасць, падобна полымю ад запаленай свечкі, перадавацца неабмежаванай колькасці іншых розумаў, адкладаючыся ў падсьвядомым назапашвальніку абодвух паўшар'яў іхнага галаўнога мозгу. Празмерныя каштоўнасьці гандлю такім чынам спарадзілі культуру, і, раз узнікшы, яна ўжо фізічна не магла перапыніцца ці знікнуць у тых краінах, дзе яна пачалася, пры адсутнасьці нейкай радыкальнай перамены да горшага іхнага клімату ці глебы. Яе развіццё магло выявіцца толькі бош хуткім у іншых мясцовасьцях, якія, згодна са сваімі фізічнымі ўмовамі, былі здольнымі да пышнага развіцця толькі ва ўмовах наступнай стадыі культурнай эвалюцыі, падобна таму як вяршыні высокіх гор сталі прыдатнымі для гнездавання толькі тых птушак, продкі якіх спачатку ладзілі гнёзды ніжэй, на дрэвах. Так, Англія магла і павінна была стаць цэнтрам сусветнай культуры толькі пасьля таго, як гэтая

культура ўжо прайшла праз Грэцкі архіпелаг, Ягіпет і Венецыю. А ў будучым, дзякуючы чыгункам, тэлеграфам і надыходзячай эры паветра-плавання, перадавымі і найбольш актыўнымі дзеячамі сусветнай культуры будуць нацыі, паспеўшыя засяліць на зямной паверхні самую вялікую колькасць прыдатных да земляробства шырокіх раўнін.

У гэтым, між іншым, складаўся трагізм і былой германскай імперыі. Падняўшыся на самую вяршыню культурнага жыцця, яна інстынктыўна жадала пашырэння на Ўсход, захапіўшы магутным напорам Расію, а потым і ўсю Азію, забяспечыўшы сабе ўсходнія рудні Францыі і пахіснуўшы каланіяльную магутнасць сваіх суперніц. Але гэта супярэчыла жыццёвым інтарэсам ужо значна адстаўшай ад яе адносна колькасьці свайго насельніцтва Францыі, якая таму і схілілася для працягвання свайго высока-культурнага становішча да процілеглай тады ёй па духу і малакультурную, але фізічна моцную, дзякуючы сваім неабсяжным раўнінам Рускую імперыю. Германскаму ўраду для свайго пашырэння на Ўсход не заставалася іншага выбару, як спачатку на працягу некалькіх тыдняў перамагчы Францыю, каб потым усёй сваёй магутнасьцю накіравацца туды, куды, у глыбіні душы, яна толькі і жадала: на шырокі Ўсход. Але гэтага не магло адбыцца ў рэчаіснасьці. На Далёкі Ўсход ужо ішла нашмат ранейшая англа-амерыканская культура, і ў выніку адбылося тое, што можна было і прадказаць. Германская імперыя, нягледзячы на сапраўды нечалавечыя намаганні, была пераможана, дзякуючы далучэнню да справы шырока разліўшайся па зямной паверхні англа-амерыканскай расы, і паспела знясіліць толькі сваю ўсходнюю суперніцу.

У выніку атрымалася, што пераможанымі выявіліся абедзьве напачатку сутыкнуўшыяся вайсковыя імперыі, якія здаваліся найбольш жахлівымі для астатняй, менш ваяўнічай часткі чалавецтва. Меркурый перамог Марса.

Ды прабачыць мне чытач гэтае новае адступленне. Але яно патрэбна. Таму што мінулая гісторыя чалавечай культуры лепш усяго асьвятляецца сучаснай, і абедзьве так цесна пераплятаюцца з геаграфіяй, псіхалогіяй, астраноміяй, фізікай, хіміяй, тэхнікай і іхнымі адгалінаваннямі ведаў, што частыя адхіленні ў іхныя вобласьці цалкам неабходны для таго, каб мой, зараз вельмі незвычайны, недавер да старажытных гістарычных паданняў і да іхнай храналогіі не здаўся вынікам недастатковага знаёмства з імі.

Я тут меў жаданне толькі зноў нагадаць, што эвалюцыйная заканамернасць і бесперапыннасць чалавечай культуры з’яўляецца такім ж фактам, як і бесперапыннае станенне чалавечага арганізма, а таму і ўсе падзеі, якія не адпавядаюць яму, мы павінны без непатрэбных спрэчак адкінуць, як ужо адкідаюцца свецкімі гісторыкамі паведамленні пра шматлікія дзівы, як рэлігійныя, так і свецкія, нападобе, напрыклад, заснавання Першай рымскай імперыі двума братамі.

Ніхто зараз ужо не верыць, што першыя цары і заснавальнікі Вялікага Рыма, браты Ромул і Рэм, нарадзіліся каля 780 года да нашай эры ад бога вайны Марса і Рэі Сільвіі, дочкі цара Нумітара із Альбалонгі, і што іхны дзядзька Амулій, завалодаўшы пасадам, загадаў іх утапіць, але кінутыя немаўляты былі ўскормлены ваўчыцай, і потым выхаваны пастухом Фаўстулам і яго жонкай Акай Ларэнцыяй. Ніхто не верыць, што пасталеўшы, яны пабудавалі ў 753 годзе ў Сярэдняй Італіі горад Рым, даволі далёка ад утокі ракі Тыбр, насяліўшы яго сваімі паплечнікамі, якія пазьней захапілі сабе дзяўчат сабінянак і зрабілі іх сваімі жонкамі; што Ромул

потым забіў свайго брата Рэма, заснаваў грамадзянскія і вайсковыя законы, заснаваў Сенат і Народны сход із патрыцыяў, г.азн. паўнапраўных грамадзянаў, не дазволіўшы браць у ім удзел плябеям (г.азн. простаму народу, які пазьней вельмі памножыўся) і, нарэшце, у 716 годзе да нашай эры быў прыняты на неба, пад найменнем Квірын, г.азн. «гасподзь», у лік богаў.

Якім ні падрабязным і грунтоўным з’яўляецца гэтае апісанне ў Ціта Лівія і ў іншых, падцверджваючых яго псеўда-старажытных гісторыкаў з усімі дакладнымі гадамі і дакладным пералікам сваякоў і знаёмых, але сучасны гісторык ужо не надае такому апавяданню гістарычнага значэння, хаця усё ж існуюць яшчэ некаторыя, сцвярджаючыя на падставе гэтай самай легенды, што італійскі горад Рым сапраўды быў пабудаваны ў 753 годзе да пачатку нашай эры, што пасьля Ромула ў ім валадарыў ад 715 да 672 года за пачаткам нашай эры Нума Пампілій, які заснаваў дзяржаўную рэлігію з абавязковым ушанаваннем планет. Такія гісторыкі пералічваюць нам і самыя яго планеты – Меркурый, ці двухаблічны Янус, бог ўваходу і выхаду із сядзібы, пачатку і заканчэння, таму што гэтая планета толькі калі-нікалі паказвае сваё аблічча то спераду, то ззаду Сонца; Венера, выйшаўшая із марской пены, крыважэрны Марс, магутны Юпітар з яго жонкай Юнонай, Дыяна – Месяц, Веста – багіня хатняга агменю, у храме якой на Палацінскім узгорку падтрымлівалася (больш за 1 000 гадоў!) вечнае полымя пад наглядам манашак ці, хутчэй, баядэрак-вясталак аж да 382 года нашай эры, калі гэта было забаронена імператарам Грацыянам.

Хаця падобныя гісторыкі ўжо і не вераць, што Сатурн, зрынуты з нябёсаў, збег яшчэ да Ромула ў Італію і навучыў італьянцаў земляробству, але яны ўсё яшчэ імкнуцца нас пераканаць, што кожны раз, калі ён прыходзіў у сваю нябесную сядзібу – сузор'е Казярога – у яго гонар сьвяткаваліся сямідзённыя, вясёлыя Сатурналіі, сучасныя італьянскія карнавалы, служыўшыя знакам вяртання залатога стагоддзя. Хаця яны ўжо і не вераць, што Юпітар адмыслова ахоўваў рымскую дзяржаву, але ўсё яшчэ сцвярджаюць, што Тарквіній Ганарлівы – адзін із старажытных легендарных рымскіх цароў – пабудаваў яму храм, існаваўшы не разбурыўшыся тысячу гадоў ад –V да +V стагоддзя нашай эры ва ўмацаванні Рыма – Капітоліі, і што Тарквіній Прыск яшчэ раней яго ( –616, –578) пабудаваў каля Рыма Вялікі Цырк (Circus Maximus), дзе можна было ладзіць манеўры, спаборнічаць на конях і калясьніцах і паляваць на прывозімых туды дзікіх звяроў.

Але няцяжка пераканацца, нават і без маіх астранамічных пераверак, што ўвесь гэты перыяд рымскіх цароў – суцэльная легенда, як і ўсё наступнае да пачатку нашай эры, улучаючы сюды не толькі «самніцкія», але і «пунічныя» вайны Рыма з Картагенам, геаграфічна магчымыя толькі ў тым выпадку, калі мы будзем лічыць гэты Картаген за гішпанскую Картахену, а пунаў, за гішпанскіх маўраў.

Гісторыку тут застаецца толькі адно: прасачыць, якія падзеі нашай эры маглі б даць ім пачатак, а я толькі адзначу тут, што найменне Карфаген таксама жыдоўскае і азначае Новы Горад[110], таксама як і Неапаль па-грэцку, а пуны (poeni), дакладней, фёны, з’яўляецца толькі іншым вымаўленнем слова фінікійцы. Ды і царыца Дыдона, пабудаваўшая Карфаген, таксама жыдоўка, таму што гэтае імя па-жыдоўску азначае «Іхны суддзя» і нават згадваецца непасрэдна ў Бібліі, дзе Дэдан (аднайменны з Дыдонай) называецца ўнукам Бацькі-Рыма (Абрама, Быццё, 25, 3).

---

[110] Ад קרת (КРТ) – горад, חדש (ХДШ) – новы, што было перароблена грэкамі ў Καρχηδών, а гішпанцамі ў Картагену.

Немагчыма не адзначыць таксама і тое, што са словам пуны сугучна слова эспаны (гішпанцы), бо прыстаўка “эс” звычайная ў раманскіх мовах (эскадра, эспланада і г.д.).

Разгледзім жа бесстаронне зноў гэтыя «фінікійскія дзівы», калі чытач ужо забыўся пра тое, што я паведамляў пра іх у першым томе.

Перадусім, ці мог некалі ўтварыцца вялікі гандлёвы і палітычны партовы горад у адкрытым жорсткім паўночным вятрам заліве на поўдзень ад сучаснага Туніса, каля сучаснай арабскай вёсачкі Сідзі-Бу-Саід, на адлегласьці амаль двух соцень кіламетраў ад бліжэйшага берага Сіцыліі і амаль трох соцень ад Сардыніі, на неўрадлівай берагавой паласе Афрыкі, за якой ляжыць няплодная пустыня? Ці маглі выходзіць адсюль у адкрытае мора старажытныя караблі, пры адсутнасьці компаса і пры нізкім стане тэхнікі, калі апісваемыя нам гісторыкамі непаваротлівыя, грувасткія баржы на вёслах хадзілі не хутчэй чым пешы чалавек, ды і на ветразях былі ў поўнай залежнасьці ад вятроў? Ці мог гэты горад, пабудаваны царыцай Дыдонай, ці некім іншы, каля сучаснай вёсачкі Сідзі-Бу-Саід прагнаць грэкаў із Сіцыліі, Сардыніі, нават із Корсікі, пакарыць у III стагоддзі да пачатку нашай эры аддаленую Гішпанію і валодаць на працягу больш стагоддзя самым магутным гандлёвым і вайсковым флотам?

Зірніце на мапу і вы адкажаце: гэты Сідзі-Бу-Саід мог быць толькі гняздом марскіх рабаўнікоў, якім сапраўды і быў непадалёк ад яго, але ў непараўнальна лепшай мясцовасьці, горад Туніс, аж да XIX стагоддзя, калі ангельцы канчаткова знішчылі пірацтва на Міжземным моры. Так! Для цэнтральнага пункта пірацкай дзяржавы пасьля вынаходніцтва компаса гэта было самае прыдатнае месца на ростанях ад заходняга басейна Міжземнага мора да ўсходняга. І такая дзяржава непазбежна павінна была тут утварыцца пад час таго гістарычнага перыяда, калі мараплаўства развілося да такой ступені, што караблі маглі плаваць выходзячы за бачнасць свайго берага. Але гэта пачалося ўжо толькі пад час сярэдневечча, калі верыць таму, што Флавіа Джона не вынайшаў компас каля 1320 года нашай эры, а толькі ўдасканаліў больш старажытную прыладу, ужо даўно вядомую маўрытанскім мараплаўцам. Але ж гэта – фантазія.

А для вялікага гандлёва-вайсковага і культурнага цэнтра ні каля Туніса, ні тым больш каля Сідзі-Бу-Саіда (псеўда-Картагена) не існавала ніякай кропкі апірышча і ніколі не будзе. Уся гісторыя Вялікага Карфагена, як і гісторыя Фінікіі, – адна чароўная казка фантазіраваўшага рэнесансу, гістарычны міраж, адлюстраванне ў мінулае нейкіх больш пазьніх падзей. Нашмат лягчэй дапусьціць, што пад Картагенам маюцца на ўвазе не парэшткі каля вёсачкі Сідзі-Бу-Саід, а гішпанская Картахена, дзе, сапраўды, існуюць добрыя ўмовы для ўзнікнення значнага гандлёвага пункта, і тады змаганне паміж Рымам і Картагенам звядзецца на змагання паміж маўрытанскай Гішпаніяй і арыянскай Італіяй. Размяшчаць добра ўмацаваны горад каля Туніса было б магчымым, толькі лічачы яго не за самастойную дзяржаву, а за заходні фарпост вялікай Ягіпецкай імперыі, ахапліваючую ўсю поўнач Афрыкі, і тады фінікійскія («пунічныя») вайны рымлянаў былі б войнамі з ягіпцянамі, але таксама не раней V стагоддзя нашай эры.

Хутчэй жа за ўсё легенда пра гэтыя вайны ўзнікла пад час сярэдневечча із наступных, ужо больш верагодных гістарычных падзей. У 439 годзе нашай эры кароль гішпанскіх вандалаў (вандэйцаў) Гензерых пачаў рабіць частыя набегі на мала культурную тады Італію, а ў 455 годзе разрабаваў нават сам Рым. Але ўсё

гэта, вядома, не магло працягвацца шмат стагоддзяў, бо італійцы ў хаўрусе з грэкамі былі больш магутнымі чым вандэйцы, і ў 534 годзе вандальска-маўрскі Картаген (дзе б ён ні знаходзіўся) быў абложаны і захоплены вайсковым правадыром імператара Юстыніяна Вялізарыем. Што ж да Сідзі-Бу-Саідзкага «Новага Горада» (Картагена), то гэты былы фарпост марскога разбою, кажуць нам, быў разбураны арабамі ў 697 годзе, і яго парэштткі перанесены (!) да ўтокі бліжэйшай рэчкі, дзе пад найменнем Туніс ён існуе і да гэтага часу, як порт трэццяга гатунку ў Міжземным моры, усё чаго ён толькі і змог дасягнуць згодна са сваім геаграфічным месцаваннем. Такім чынам увесь перыяд, старажытных пунічных войнаў Рыма – чысты міф.

Разгледзім жа з нашага натур-гістарычнага боку гледжання і больш познюю гісторыю італійскага горада Рым.

Згодна са сваім геаграфічным месцаваннем паблізу Пантыйскіх балот, на адлегласьці сарака кіламетраў ад утокі, хаця і суднаходнай, але невялікай ракі Тыбр, ён не мог быць да вынаходніцтва чыгункі гандлёвым, а, такім чынам, заможным і высокакультурным портам старажытнасьці. У гэтым дачыненні вялікую перавагу ва ўсім заходнім басейне Міжземнага мора меў і мае перад ім Марсэль, паблізу ўтокі Роны, і нават Месіна на Сіцыліі мае большае значэнне. Як цэнтр працягла існаваўшай сьвецкай сусьветнай дзяржавы па ўсяму узбярэжжу Міжземнага мора, Рым таксама, патрэбна сказаць гэта прама і адважна, цалкам недапушчальны з натур-гістарычнага боку гледжання. Паглядзіце на ўсе такія цэнтры: Мадрыд, Парыж, Берлін, Вена, Пекін, Візантыя, Каір, Масква. Яны таксама ўтварыліся не выпадкова. Усе яны займаюць цэнтральнае становішча ў шырокіх, культурных адносна прыродных умоваў, раўнінах і знаходзяцца на сярэдзіне плыні шырока разгалінаваных па іх, прыдатных для плавання, рэчак, якія ў Канстантынопалі замянялі вузкія пралівы. Рым у гэтым дачыненні саступае ім усім, і таму немагчыма нават і падумаць, каб ён некалі, як рэчаісная палітычная магутнасць, мог супернічаць з Візантыяй ці з Венецыяй. А тым часам, нашы прадзеды нас запэўніваюць і прытым надзвычай настойліва, што гэты горад без порта і добрых шляхоў стасункаў па-за Італіяй па сушы і па вадзе панаваў да пачатку III стагоддзя нашай эры над ўсімі ўзбярэжжамі Міжземнага мора, што рымскія легіёны тады хадзілі паўсюль, і ў Ягіпет, і ў Малую Азію, і ў Францыю, і ў Германію, і ў Гішпанію, і нават на Брытанскія выспы... Але ж усю гэтую чароўную казку зручней пісаць вершамі, чым прозай!

Мы павінны прама і адважна сказаць, гледзячы на геаграфічную мапу: што сусветнае значэнне пад час старажытнасьці і сярэдневечча горад Рым мог мець толькі як цэнтр рэлігійнага жыцця, што я і буду дэталёва разгляаць далей у гэтай самай кнізе.

Падобныя цэнтры не маюць патрэбы ні ў партах, ні ў шырокіх раўнінах. Мека, Ласа, Ерусалім узніклі ў некультурных кутках, на мяжы пустыннай мясцовасьці, і дасягнулі значэння буйных гарадоў толькі дзякуючы пілігрымам і самаахвотным ахвяраванням вернікаў: сама іхная маладасягаемасць і дзікасць спрыяла іхнай славе ў аддаленых культурных месцах.

Рэлігійныя цэнтры – гэта «вечная памяць» пра нарадзіўшыхся там, але сфарміраваўшыхся ў культурных цэнтрах, далёка ад сваёй радзімы, геніяльных асоб, адчыніўшых новае сьвятло пазнання для будучых пакаленняў, і мы бачым, што пілігрымствы ладзяцца не толькі ў Ватыкан і ў Сьвяты Салім, але і ў хаткі, дзе нарадзіўся Ньютан, дзе нарадзіўся Шэкспір, і ў Ясную Паляну Ільва Таўстога...

Бяспрэчна, паўтараю для выразнасьці, ніякі геній не можа развіцца сам сабой ў цалкам дзікай мясцовасьці, і Ньютан, выкрадзены ў дзяцінстве арабамі і выгадаваны ў аазісе пустыні, саспеў бы толькі да ўзроўня выбітнога жывёлавода ці магаметанскага прапаведніка. Значны лішак фізічнай энергіі, штосутачна выдаткоўваемы выключным арганізмам, знайшоў бы пры іншых умовах жыцця цалкам іншы накірунак, і таму можна сцвярджаць, што для таго каб нейкі зноў народжаны патэнцыйны геній змог падняцца не толькі над нізінамі, а і над самымі магутнымі вяршынямі сучасных яму ведаў, неабходны былі як пад час старажытнасьці, так і пад час сярэдневечча, дзьве ўмовы.

Першая ўмова палягае ў тым, каб пад час дзяцінства і юнацтва, ды і потым на працягу ўсяго жыцця, ён быў бы пазбаўлены неабходнасьці цяжка працаваць дзеля свайго існаваня, для таго каб увесь штодзённы лішак яго фізіялагічнай энергіі, вырабляемы абменам рэчаў яго цела, цалкам быў бы накіраваны на назапашванне разнастайных і рознабаковых паведамленняў у падсьвядомай вобласьці гемісфер свайго мозгу, той вобласьці, якая падказвае нам нашы ідэі нават у сне і ад структуры і ўтрымання якіх залежыць шырата ці вузкасць усьведамляемага нашым мозачкам механічнага мыслення гэтых гемісфер.

Другая ўмова складаецца ў тым, каб такі патэнцыйна адораны пры самым сваім зачацці арганізм правёў сваё ранняе дзяцінства пад уплывам малаадукаваных людзей і на ўскраіне культурнага сьвету, дзе з’яўляюцца моцнымі непасрэдныя намовы прыроды, і каб потым, дзякуючы той ці іншай выпадковасьці, ён атрымаў магчымасць далучыцца да самых высокіх і разнастайных ведаў сваёй эпохі. Тады ў падсьвядомай механічнай дзейнасьці яго мазгавых гемісфер будуць, хаця б і непрыкметна для яго ўсьведамлення, але вечна змагацца, два напрамкі мала падобных намоваў, перашкаджаючы адна адной зайсьці ў нейкае із глыбока выкапаных рэчышчаў, у якіх замест мыслення і фантазіі пачынае функцыянаваць галоўным чынам усё падказваючая памяць, і вобласць усьведамлення (якая хутчэй усяго лакалізуецца ў мозачку) атрымлівае ў сваё распараджэнне із гемісфер вялікага мозгу толькі доўгія асацыяцыі не арыгінальных ідэй, якія яна не мае магчымасьці, пры самых вялікіх намаганнях, павярнуць на новыя нязвыклыя шляхі і спалучэнні.

Із гэтага зразумела, чаму большасць геніяльных людзей паходзяць не із арыстакратыі, дзеці якой, хаця і забяспечаны і навучаны з дзяцінства, але адразу ўспрымаюць у свае мазгавыя гемісферы аднастайны шэраг ведаў; зразумела і тое, чаму гэтыя геніяльныя людзі нараджаюцца большай часткай не ў вышэйшых цэнтрах культуры свайго часу, а ў правінцыі, але следам за тым, так ці інакш, трапляюць у гэтыя цэнтры і далучаюцца да іхнага поўнага разумовага жыцця.

Зразумелым робіцца і тое, што ў старажытнасьці, калі такіх людзей прылічвалі да шэрагу багаў ці ўзводзілі ў сьвятыя, месцамі пілігрымства (і, у залежнасці ад гэтага, адмысловымі цэнтрамі рэлігійна-культурнага жыцця) нярэдка станавіліся аддаленыя месцы іхнага нараджэння, як бы надоўга асьвятлючыся сьвятлом іхнага генію. Так паднялася пачынаючы з VII стагоддзя нашай эры аддаленая Мека, меркаванае месца нараджэння Магамета, дзякуючы таму, што туды з усіх бакоў магаметанскага сьвету да гэтага часу штогадова збіраецца каля 100 000 прыхільнікаў, несучы свае ахвяраванні; так паднялася на пачатку XV стагоддзя Ласа ў Тыбеце, меркаванае месца нараджэння заснавальніка ламаізму Джанкавы, сучасная рэзідэнцыя Далай-Ламы. Так падняўся не раней заканчэння VI стагоддзя нашай эры Ерусалім, меркаванае месца нараджэння ці сьмерці таго, хто

даў нагоду да ўзнікнення евангельскіх паданняў пра Ратавальніка-«Езуса», і так жа падняўся Рым, не як месца дзейнасьці апостала Пятра, асоба якога яшчэ менш высветлена, чым асоба яго меркаванага «настаўніка (ці хутчэй вучня)», а як цэнтр узніклага ў ім з нейкай нагоды культа Мадоны.

Аднак тут існавала і іншая, чыста фізічная нагода, якая адна магла высока падняць яго рэлігійны прэстыж пры першым пробліску еўрапейска-азіяцка-афрыканскай цывілізацыі на ўзбярэжжах Міжземнага мора.

Рым размяшчаецца на шляху ў Неапаль, над якім дыхае полымем і дымам падземнае царства Плутона, вырываючаяся із жарала Вязувія і абуджаючы забабонны жах у кожнага нават здалёк. На поўдзень ад яго, у Месінскім заліве, імкнуліся «праглынуць кожны праплываючы карабель» знакамітыя віры Сцыла і Харыбда, і над імі дыхала полымем, серай і дымам другая брама ў глыбіню пекла – Этна, не кажучы ўжо пра вулкан Стромбалі на Ліпарскіх ці Эольскіх выспах паблізу Сіцыліі. Нічога падобнага старажытны сьвет не ведаў на зямной паверхні, і таму Сярэдняя і Паўднёвая Італія павінна была здавацца яму звышнатуральнай краінай дзіваў, прыстанкам богаў, нават і да вывяржэнняў, праглынуўшых Геркуланум і Пампею і абсыпаўшых попелам самыя аддаленыя вобласьці ўзбярэжжаў Міжземнага мора. Падстава таго, што цэнтр рэлігійнага жыцця захаду развіўся не каля самага падножжа Вязувія, а на адлегласьці двух соцень кіламетраў на поўнач ад яго, магла палягаць у тым, што Рым згодна са сваім становішчам на рацэ Тыбр быў сапраўды натуральным цэнтрам мясцовасьці, якую немагчыма было абмінуць пілігрымам, кіруючымся да падножжа Вязувія. Сусветнае рэлігійнае панаванне Рыма магло ўзнікнуць толькі пасьля знішчэння Геркуланума і Пампеі і грунтавацца толькі на прэстыжы размешчаных за ім вулканічных краін пад час хрысьціянскага перыяду, а ніяк не дзякуючы адным яго жалезным легіёнам, якіх пры тым жа і не магло ўзнікнуць у гэтай мясцовасьці, пазбаўленай жалезнай руды.

Ды дазволіць мне чытач выказаць тут і яшчэ некалькі скептычных ці нават ерэтычных думак і з нагоды фізічнай магчымасьці існавання ў той час такіх легіёнаў, якімі іх апісваюць нам нашы сярэднявечныя першакрыніцы.

У адным із часопісаў 1918 года я аднойчы прачытаў такое павучанне: «Калі грукочуць гарматы, законы маўчаць, – сказаў Цыцэрон». Усе мае суразмоўцы вельмі смяяліся над гэтымі цыцэронаўскімі гарматамі, а я мімаволі падумаў: «ці не над сабой мы смяёмся?» Ці нашмат больш дакладнымі з’яўляюцца і нашы ўласныя веды пра часы Цыцэрона і пра вайсковае жыццё таго часу? Ці з’яўляюцца слушнымі нашы ўяўленні і пра самі вялікія імперыі старажытнасьці?

Шмат хто, нават із асяроддзя сярэднеадукаваных людзей, як я ўжо згадваў, уяўляюць Рымскую імперыю пры цэзарах чымсьці нападобе Рускай XIX стагоддзя, г.азн. шырокай вобласьцю навакол Міжземнага мора, фактычна кіруемай із Рыма як цэнтра, накшталт імператарскага Пецярбурга... Ён вызначае грамадзянскія, вайсковыя і нават рэлігійныя законы, абавязковыя для ўсяго насельніцтва і прызначае ў розныя правінцыі кіраўнікоў грунтуючыся толькі на сваім меркаванні, знішчыўшы спадчынную ўладу ранейшых тамтэйшых князькоў... Але так можна лічыць, толькі цалкам не ўяўляючы сабе вялізную цяжкасць тагачасных спалучэнняў як морам так і сушай. Рым ад Візантыі, і Візантыя ад Ягіпецкай Александрыі тады былі нашмат больш далекімі адносна патрэбнага выдаткавання часу для сухапутнага падарожжа, чым мы зараз ад Паўднёвай Афрыкі, а пра малую ёмістасць і вялікую павольнасць веславых караблёў, якія былі больш падобнымі на нашы лодкі, чым на сучасныя караблі, няма чаго і разважаць. Як жа можна было

пры такіх умовах падтрымаць хаця б на працягу аднаго года рэчаісную ўладу нейкага із гэтых цэнтраў над дзвума іншымі?

Бяспрэчна, добра ўзброены атрад налічваючы некалькі соцень авантурыстаў мог, выдаткаваўшы год ці два, зайсьці вельмі далёка, ледзь не да Індыі, сілкуючыся ўвесь час дзякуючы рабаванню сустракаемых на шляху населеных месцаў. Але ніякай трывалай улады, акрамя разбурэнняў, такі атрад пакінуць за сабой не быў здольным, таму што пакідаць сур'ёзныя гарнізоныў на сваім шляху ён не меў ніякай магчымасьці, не рызыкуючы растаць самому, а ісьці ў больш вялікай колькасьці, чым некалькі соцень чалавек, па правінцыяльных мясцовасьцях было немагчыма. Жыхары ж ў старажытнасьці разбягаліся, схаваўшы ўсё, што магчыма, яшчэ за некалькі дзён да набегу чужаземцаў і, нават застаючыся дома, не змаглі б даць дастатковую колькасць прадуктаў для вялікага згуртавання людзей, дзякуючы адсутнасьці добра арганізаванай інтэнданцкай часткі.

І вось, чытаючы пра паходы Аляксандра Македонскага ці Юлія Цэзара, ці пра адступленне 10 000 грэкаў пры Ксенафонце, немагчыма не задаць сабе пытанне: а чым жа сілкавалася на працягу свайго шматмесяцовага шляху такая арда? Калі нават мы і будзем лічыць за мгчымае везьці за сабой із вялікіх культурных цэнтраў значныя ўюкі на вярблюдах, то іх па дарозе ўвесь час даводзілася б папаўняць з дапамогай гвалту, сярод варожых, і не толькі разбягаючыхся, але нярэдка і выказвачых супраціўленне людзей. І, вядома, аднойчы здзейсніўшы такі паход у Індыю, наўрад ці нехта адважыўся б паўтарыць яго яшчэ раз, і пра гэта мясцовае насельніцтва ведала. Разбегшыся пры набліжэнні пагрозы, вынесшы і схаваўшы ўсё, што магчыма, насельніцтва збіралася зноў пасьля яе мінання і пачынала жыць ранейшым жыццём.

Старажытныя паходы мне больш усяго нагадваюць падарожжа Стэнлі ў сярэдзіну цэнтральнай Афрыкі. Выправіўшыся першы раз у 1871 годзе згодна з даручэннэм Нью-Ёркскай газеты «Геральд» шукаць Лівінгстона, ён доўга хадзіў з атрадам складаючымся із некалькіх дзясяткаў чалавек, то як гандляр, мяняючы розныя дробныя цацкі і рэдкую для неграў тканіну на іхныя харчы (калі яго сустракалі прыязна), то пракладаючы сабе дарогу дасканалай еўрапейскай зброяй, дзе яго не жадалі прапусціць. Ён тады адкрыў і апісаў столькі новых і цікавых мясцовасьцей, што ў старажытнасьці яго, вядома, назвалі б заваёўнікам усёй Афрыкі. Але ці было гэта заваяваннем? Вядома, не.

І я тут маю намер зноў паўтарыць: ні Рымская, ні Візантыйская, ні Ягіпецкая імперыі не былі падобнымі не тое што на Рускую XIX стагоддзя, але нават і на Германскую, дзе над асобнымі напаловузалежнымі каралямі і князямі валадарыў цар-цароў у Прусіі, адзіна меўшы права абвяшчаць вайну і заключаць мірныя пагадненні. Усе старажытныя імперыі, хутчэй усяго, былі падобнымі на Германскі звяз 1815 года пад гегемоніяй Аўстрыі, паўстаўшы як процівага магутнасьці Францыі і існаваўшы да 1866 года, калі гегемонія перайшла да Прусіі. Так і Рымская імперыя была звязам некалькіх незалежных царстваў, кіраваўшыхся сваімі спадчыннымі ці абвешчаны войскам манархамі, меўшых свае мясцовыя законы, ваяваўшых адзін з адным і мірыўшыхся, калі было пажадана, але намінальна прызнаваўшых першынство рымскага, ягіпецкага ці візантыйскага субрата і падносіўшых яму штогадовыя дарункі. Яго намеснікамі ў іх былі простыя консулы, якія карысталіся экстэрытарыянальнасьцю і судзілі сваіх супляменнікаў толькі згодна са сваімі законамі, як гэта было ў шмат якіх усходніх імперыях і ў XIX стагоддзі.

Афарбоўка старажытных гістарычных імперый у адзін і той жа колер на нашых гістарычных атласах выfinancial ўрабляе ў падсьвядомых абласьцях нашых мазгавых гемісфераў цалкам памылковае ўражанне, ад якога цяжка пазбавіцца нашай сьвядомасьці. Такім чынам, Рымская імперыя часоў Езуса і біблейскіх прарокаў (ці будзем мы яе дапасаваць да IV і V стагоддзяў нашай эры ці пакінем ранейшую храналогію) была не аднастайнай імперыяй, а пярэстым калектывам цалкам незалежных каралеўстваў і княстваў, із якіх некаторыя былі больш заможнымі, культурнымі і нават больш магутнымі чым Рымская вобласць у Італіі. Але прэстыж гэтай вобласьці падтрымліваўся дзякуючы адбываючымся там цудоўным з'явам полымедыхаючых гор і жывых марскіх безданяў, навочна сведчыўшыя кожнаму, што гэта абранае жыллё богаў, а разам з імі і боскіх заканадаўцаў у асобе вялікіх пантыфексаў, заўсёды меўшых з багамі непасрэдную сувязь.

Пераглядаючы ў такім сэнсе, перадусім, Евангеллі, мы знаходзім там пра горад Рым вельмі мала і гэта сведчыць, што яны былі напісаны тады, калі пра яго яшчэ не была створана чароўная казка. Адно месца ў Яна (12.20), паўторанае і Лукой (33.30), паведамляе, што на слупе Езуса пры яго ўкрыжаванні быў надпіс грэцкімі, жыдоўскімі і рымскімі літарамі. А іншае месца ў таго ж Яна (11.48) распавядае, быццам бы «ерусалімскія» служкі культу паведамлялі пра Езуса: «гэты чалавек здзяйсняе шмат дзіваў; калі пакінем яго так, то ўсе павераць у яго, і тады прыйдуць рымляне і завалодаюць нашым народам і краінай».

Непаразуменне складаецца тут у тым, што згодна з самімі ж Евангеллямі рымляне ў гэты час ужо валодалі Ерусалімам, так што ім не было патрэбы і прыходзіць. Толькі ў Здзяйсненнях апосталаў пра Рым паведамляецца вельмі шмат. Апостал Павел называе там сябе «рымскім грамадзянінам» (22.26), у іх згадваецца і Італія (18.2), і паведамляецца, што Павел прыплыў у Рым на караблі (28.16).

Цалкам іншае ў жыдоўскай Бібліі, дзе слова МІЦ-РЫМ, як мы бачылі, ужываецца вельмі часта. Праўда, габраісты і тэолагі тлумачаць яго, як множны лік ад слова МЦР – цясьніна (пераносна: прыгнёт) і геаграфічна дапасуюць да Ягіпта, на падставе падабенства гэтага слова з арабскім МЗР. Але МЗР па-жыдоўску азначае «Задыяк». А Міц-рымскага цара Біблія называе, як мы бачылі ў другой кнізе «Хрыста», ПРЭХ'ам, што больш нагадвае пераіначанае грэцкае слова патрыярх, г.азн. кіраўнік бацькаўшчыны, чым імя міфічнага ягіпецкага бога солпца Фра, тым больш, што ягіпецкія цары нават і ў іерогліфах ніколі не завуцца фараонамі: іх спрадвечнае найменне – сутэны, г.азн. султаны, і шэфты, г.азн. шэфы.

Але як бы чытач ні глядзеў на ўсе гэтыя мае меркаванні пра «старажытны магутны Рым», але асноўныя высновы застаюцца неаспрэчнымі. Згодна са сваім геаграфічным месцаваннем Рымская вобласць прыстасавана прыродай да ўзнікнення ў ёй шырокага рэлігійнага і культурна-містычнага жыцця, але ніяк не цэнтра сусветнага сьвецкага валадарства. Кастусь I меў рацыю, калі заснаваў, а не перанёс адсюль, сваю рэзідэнцыю на берагах Басфора, інакш з ім было б тое ж, што з ерусалімскім каралём крыжакоў Балдуінам: ён апынуўся б за межамі якой бы то ні было адміністрацыйна-аб'ядноўваючай дзейнасьці, не «Пашыральнікам народа», як яго назвалі ў Бібліі, а скарачальнікам. I мы сапраўды бачым, што ўжо праз 12 гадоў пасьля аддзялення ад Візантыі Рым у 410 годзе быў захоплены Аларыхам, а Гішпанія і Францыя забраны германскімі каралямі. Калі б сталіца Захаду была своечасова перанесена адсюль ў Марсэль, з адкрытымі шляхамі стратэгічнага спалучэння па Роне і Сене ў глыбіню тагачаснай Францыі, пры магчымасьці берагавых стасункаў з усёй Італіяй і з дастатковым абараняючым гарнізонам і

рачным флотам у Турыне, каб кантраляваць басейн ракі Роны, то ніякага падзення Заходне-Рымскай імперыі, ні ў 476 г., ні пазней, не было б, нягледзячы на землятрусы ў паўднёвай Італіі і на самыя магутныя вывяржэнні Вязувія.

Што ж мне застаецца яшчэ сказаць, чуючы, як і зараз некаторымі паўтараюцца старыя гістарычныя зады, у якіх патрабуючае тлумачання само лічыцца тлумачачым немагчымае патлумачыць?

Калі Рым згодна са сваім стратэга-геаграфічным становішчам цалкам непрыстасаваны для таго, каб быць цэнтрам вайсковай дзяржавы, то як жа – кажуць мне зноў і зноў – ён ім быў да Кастуся I? Як жа яго «жалезныя легіёны» змаглі падпарадкаваць яшчэ да пачатку нашай эры ўсё ўзбярэжжа Міжземнага мора? Як жа Пампей з гэтага цэнтра, не маючага нават прыстойнай гавані, «знішчыў у 67 годзе да пачатку нашай эры марское пірацтва»? Як ён, не маючы дастатковых і забяспечваючых флангі і тыл сухапутных шляхоў паведамленняў і спосабаў падвозу правіянту, здзейсніў адсюль пераможны паход у Понт і ў Сірыю? Як Юлій Цэзар, пасварыўшыся з Пампеем, перамог яго войска ў 48-м годзе да пачатку нашай эры не тут, а каля гары Алімп у Грэцыі, і як ён пазней праз два гады перамог яго сына нават у самым Ягіпце, тады як у параўнальна блізкай Германіі ён не змог здабыць перамогу «дзякуючы выпадковай паразе Вара ў Тэўтабургскім лесе», нягледзячы на тое, што германцы тады знаходзіліся ў напалову дзікім стане, і, акрамя Вара, у яго існавалі і іншыя вайсковыя правадыры? Як мог пазней, ужо ў 101-102 гадах нашай эры, імператар Траян заваяваць адсюль (уявіце толькі сабе!) Аравію, Арменію, Месапатамію, Асірыю?

Пры ўсіх гэтых недарэчных са стратэгічнага і геаграфічнага бакоў гледжання пытаннях мне нічога не застаецца рабіць, як сказаць:

– Нічога падобнага не было, таму што не магло быць. Гэта дзіцячае лапатанне, ненаўмысны падман дзіцяці дзіцём, а пасьля таго як дзеці выраслі, – гэта здзекі над самымі элементарнымі падставамі сучаснай навуковай стратэгіі.

Я не ведаю, вядома, што па гэтаму пытанню сказаў бы знакаміты нямецкі стратэг Мольтке, і што думаюць сучасныя знакамітыя фельдмаршалы ўсеагульнай вайны – Гіндэнбург і Фош, – але я ведаю толькі адно, што яны самі ніколі б так не зрабілі, а калі б і зрабілі, то з імі здарылася б тое ж самае, што з ужо згаданым мной рыцарам крыжовых паходаў Балдуінам, калі ён стаў ерусалімскім каралём, ці з Напалеонам I, калі ён дайшоў да Масквы.

Пры рэчаіснай лакалізацыі цэнтраў улады ўся вайсковая гісторыя Рыма, аж да Кастуся I, адна чароўная казка, а не меўшая месца ў гісторыі.

Сусветнае значэнне горада Рым ад самога яго заснавання магло быць, як і зараз, толькі ў яго рэлігійным уплыве. А таму і ўся яго гісторыя да Кастуся I перасаджана сюды з іншых градак і, напэўна, хаця б і збольшага складзена грунтуючыся на гісторыі Візантыі і Ягіпта, якімі яны былі на пачатку нашай эры і напярэдадні сярэдніх стагоддзяў, таму што Ягіпет сапраўды мог быць моцнай імперыяй, дзякуючы Кіпрскім і Сінайскім рудням і свайму месцаванню ва ўтоках Вялікай Афрыканскай ракі і на злучэнні басейна Міжземнага мора з залівамі Індыйскага акіяна, а Візантыя з Македоніяй – дзякуючы балканскім рудням і конегадоўлі.

Толькі іхныя легіёны тады мелі магчымасць заваяваць Аравію, Месапатамію і Арменію, а ніяк не прыхадні з другога канца Старога сьвету, з тагачаснага італійскага мястэчка Сьвятога Пятра сярод балот.

# Глава IV.
## Рэчаісны пачатак Раманскай (Рымскай) імперыі з геаграфічнага боку гледжання і з боку гледжання матэрыяльнай культуры.

З боку гледжання гісторыі матэрыяльнай культуры старажытная «Жалезная імперыя» без сумневаў павінна была пачацца там, дзе ўпершыню пачалі выраблаць жалеза і каваць з яго тэхнічныя і вайсковыя прылады, а не там, дзе гэтага матэрыялу ніколі не было. А са стратэгічнага боку гледжання яна, акрамя таго, павінна была пачацца ў такім месцы, із якога былі найбольш блізкімі і найбольш гарантаванымі шляхі паведамлення, як з месцамі вырабу жалеза, так і з найбольш забяспечанымі прыродай культурнымі мясцовасцямі, а ніяк не ў такім месцы, якое было далёка і ад жалезных і ад медзяных рудняў і ляжала ўдалечыні ад стратэгічнага цэнтра сваёй імперыі.

Аспрэчваць гэта асноўнае цверджанне эвалюцыі чалавечай культуры азначае пускацца ў містыцызм і замест натуральнай зямной падстававасьці ў пасьлядоўным развіцці чалавечых падзей шукаць звышнатуральную падстававасць.




Мал. 60

Сучасная этнаграфічная мапа Яўропы (згодна з Г. Івановым: Падручнік геаграфіі).

З апошняга боку гледжання цалкам зразумела, што сярэднявечныя каталіцкія аўтары ў сваіх творах, служачых зараз для нас першакрыніцамі, выводзілі старажытную Міжземнаморскую імперыю із італійскай Рымскай вобласьці, дзе знаходзіўся пасад «намесьніка Хрыста», нягледзячы на тое, што ні ў палітычна-эканамічным, ні ў стратэгічным дачыненні гэты горад цалкам непрыдатны для свецкага валадарства над Балканскай паўвыспай, самай блізкай да жалезных рудняў, ні тым больш над Анатоліяй, самай блізкай да кіпрскіх медзяных рудняў, адкуль і сама лацінская назва медзі купрум (cuprum) і дзе, згодна з вельмі старажытным паданнем узнік і чалавечы род[111], ці над Сірыяй і асабліва Ягіптам з яго густым і спрадвеку культурным насельніцтвам. Пры першым поглядзе на геалагічную і палітычна-эканамічную мапу ўзбярэжжаў Міжземнага мора цалкам

[111] Анаталійскае вучэнне пра паходжанне чалавека ў процівагу «экуменійскаму».

зразумела, што без дапамогі звышнатуральных магутнасьцей, ствараючых дабро і зло дзе пажадаецца і грэбуючых якімі б то ні было геаграфічнымі і тэхнічнымі цяжкасьцямі, нічога падобнага не магло адбыцца. З рэчаіснага боку гледжання італійская Рымская вобласць ніколі не была і не будзе свецкім валадаром Усходу, нягледзячы нават на сваю «духоўную ўладу над усім каталіцкім сьветам». Тым больш не магла яна ім быць да таго часу, пакуль яшчэ не стала цэнтрам хрысьціянства. Цяжка нават уявіць сабе, як гэты перажытак старажытнага пагляду на гісторыю народаў мог трымацца да сучаснасьці, калі гісторыкі ўжо перасталі на кожным кроку паказваць замест натуральных паставаў на «Боскі палец», ці спасылацца ўсюды, як у «Сьвятой гісторыі», на тое што ў чалавечых спрэчках за ўладу і нават у саміх бітвах, вырашаўшых лёсы дзяржаў, брала ўдзел нябачнае нябеснае войска, прыносіўшае перамогу найбольш набожным валадарам.




Мал. 61
Сучасная шчыльнасць насельніцтва ў Яўропе (згодна з Г. Івановым: Падручнік геаграфіі).

Згодна з геаграфічнымі ўмовамі, пачаткам Раманскай сусьветнай імперыі магла быць толькі Румынія, пра што сведчыць і сама яе, да гэтага часу захаваўшаяся, назва Romania (Ромънія па-баўгарску), з далучэннем да яе Рамеліі (Румеліі) з яе старажытнымі гарадамі: Філіпопалем (горадам Піліпа – бацькі Аляксандра Македонскага), Адрыянопалем (горадам Адрыяна) на суднаходнай рэчцы Марылца і з горадам навукоўцаў Сафіяй (горадам Мудрасьці), дзе і зараз існуе ўніверсітэт і добрая кніжная бібліятэка.




Дзвум часткам гэтай вобласьці, Раманіі і Румеліі, і адпавядае паданне пра заснаванне Раманскай імперыі двума братамі Ромулам і Рэмам. Адсюль самы блізкі шлях праз Сафію да Трансільваніі з яе «Руднымі гарамі», адна назва якіх паказвае на іх вялізнае значэнне для старажытнай культуры. Там да гэтага часу у вялікай колькасьці здабываецца жалезная руда і, важны для выплаўлення з яе жалеза, вугаль. Ды і сама нямецкая назва галоўнага горада гэтай мясцовасьці Буда-Пешта – Печка (Оффен), нягледзячы на тое, што дзякуючы лагоднасьці клімата сваёй мясцовасьці ён мала мае патрэбу ў печках, паказвае на яго, як на старажытны цэнтр выплаўлення жалеза із жалезнай руды. У гэтай жа мясцовасьці пачынаючы з самых старажытных часоў здабываліся і іншыя металы, у тым ліку і золата, маючае вельмі вялікае значэнне для гандлю. А як яго тут было шмат, сведчыць ўжо адна тая акалічнасць, што яго не паспелі выбраць і да гэтага часу, хаця і моцна паменшылі яго колькасць.

Із гэтай Раманіі (ці Македоніі), а не з італійскага Рыма выйшаў і міфічны Аляксандр Македонскі, першы заваёўнік Грэцыі, Малой Азіі, Месапатаміі і Ягіпта, г.азн. усёй той вобласьці, якая пасьля далучэння да яе Італіі, Галіі, Гішпаніі і Туніса, стала звацца, у адрозненне ад іх, Усходняй (і, відавочна, першапачатковай) Раманскай імперыяй. А дамінуючае значэнне Македоніі было такім вялікім, што і пазьней, ужо пасьля адпадзення ўсяго Ўсходу дзякуючы развіццю магаметанства, у Візантыі з 867 да 1056 год валадарыла «македонская» дынастыя, заснаваная раманска-македонскім кавалерыстам Васілём. Ды і пасьля гэтага, калі анаталійскія

туркі ўжо заваявалі Балканскую паўвыспу, рэзідэнцыя турэцкіх імператараў ад 1360 да 1453 года была ў тым жа Адрыянопалі, у якім, як паказвае само яго найменне, жыў і імператар Адрыян і, відавочна, грунтуючыся на тых жа самых стратэгічных меркаваннях, цалкам зразумелых пры першым паглядзе на геаграфічную мапу зямной паверхні. Потым, калі з’яўленне вялікіх марскіх караблёў зрабіла немагчымым размяшчэне флота ў мелкай Марылцы, сталіца была перанесена ў Канстантынопаль, г.азн. у тое ж месца, злучаючае Яўропу і Азію, у якім за тысячу гадоў да таго часу і Дыяклетыян, які нарадзіўся таксама на Балканскай паўвыспе ў Далмацыі, быў абвешчаны сваімі легіёнамі 17 верасня 428 года вярхоўным кірўнікам Раманскай (г.азн. Румынскай) імперыі.

Гэта адбылося не ў аддаленым італійскім Рыме, а на Басфоры, у Халкідоне, паўночнае прадмесьце якога было пазьней пераназвана ў Канстантынопаль. Гэта адбылося ў самым лепшым стратэгічным месцы старажытнага культурнага сьвету. Там Дыяклетыян і быў абвешчаны імператарам, а аддалены Лацыум, павярнуўшыся спінай да ўсяго Ўсходу змог даведацца пра гэта толькі праз некалькі тыдняў, і калі б пажадаў запярэчыць, то ўсё адно нічога не здолеў бы зрабіць.

Акрамя таго, скажыце самі: што ўяўляла сабой Турэцкая імперыя пасьля 1362 года, калі султан Мурад, завалодаўшы Фракіяй (г.азн. той жа Македоніяй) і перанёсшы сваю рэзідэнцыю ў Адрыянопаль, вымусіў сербаў і баўгар плаціць сабе даніну? Што ўяўляла сабой яго імперыя, асабліва пачынаючы з 1453 года, калі султан Магамет II, пасьля таго як яго папярэднікі падпарадкавалі Боснію, Герцагавіну, Албанію, Валахію, Македонію і Фесалію, перанёс сваю сталіцу ў Канстантынопаль на Залаты Рог?

Чатырыста гадоў існавала гэтая турэцкая імперыя Мурада і Магамета II, і, не звяртаючы ўвагі на яе ісламіцкую веру, параўнайце толькі яе геаграфічныя межы з межамі Ўсходняй Рымскай імперыі часоў знакамітага Хвядоса II і Юстыніяна I, заснаваўшага таксама не ў Рыме, а тут жа ў Канстантынопалі «Рымскае права». Паглядзіце на гістарычныя мапы, і вы самі пабачыце, што гэта тая ж самая Раманская імперыя, толькі далмацкая дынастыя Дыяклетыяна замянілася тут анаталійскай дынастыяй Мурада, ды тройчы перамянлася ў ёй пануючая рэлігія: арыянства спачатку было заменена праваслаўем, а потым праваслаўе магаметанствам, якое, як я пакажу далей, з'яўляецца толькі адгалінаваннем арыянства.

Адсюль былі родам розныя цары гэтай Балканскай імперыі, а якімі былі іхыя імёны – гэта амаль цалкам не мае значэння для ходу гісторыі, якім кіравалі, як і ўсюды, не багі і не асобы, а перадусім геафізічныя фактары.

Чытач зараз бачыць, якой была аж да нашых дзён прыцягваючая магутнасць гэтага выдатнага геафізічнага цэнтра на ўзбярэжжах Мармуровага мора. Гэта яна (а не багі) двойчы стварыла тут аднолькавую, адносна сваіх межаў, пераважна вялізную імперыю.

Ці створыць яна яе яшчэ і ў будучыні? Гэта пакажа яна сама, а мы можам толькі сказаць, што недарэмна ўсе рускія і іншыя імперыялісты імкнуліся захапіць гэтую вобласць у свае рукі.

А што ж стварыў італійскі Рым на працягу прамежку часу, ахопліваючага трохі больш чым паўтары тысячы гадоў, на працягу якога нашы гістарычныя помнікі падцверджваюцца астранамічнымі вылічэннямі часу часта пазначаных у іх нябесных падзей? Пра гэта я падрабязна буду разважаць ў апошніх главах гэтай

пятай кнігі майго культурна-гістарычнага дасьледавання, а зараз дзеля зразумеласьці толькі рэзюмую іхны змест. Вось гэтае рэзюмэ:

Ніколі на працягу ўсяго свайго існаваня Рым не быў рэзідэнцыяй свецкай улады так званых «рымскіх імператараў», а хіба толькі месцам іхных пілігрымстваў, дзеля глыбокага ўшанавання заўсёды маламоцнага ў вайсковым дачыненні намесьніка бога на зямлі, падобна аддаленай Мецы для мусульманскага Ўсходу. І такая роля была вельмі натуральнай для яго геаграфічнай вобласьці, паблізу якой адбываліся таямнічыя і жудасныя для старажытнага сьвету сейсмічныя з'явы: мясцовасьці, дзе грукатлівы Вязувій нечакана хаваў пад сваім попелам цэлыя гарады, а Сальфатар Флегрэйскіх палёў лічыўся ўваходам у падземнае царства; краіны, на марскім шляху ў якую размяшчаліся Сцыла і Харыбда і дыміліся Этна і Стромбалі.

У гэтай геафізічнай асаблівасьці і было ўсё значэнне Рымскай вобласьці на ўсім працягу праглядаемай сучаснай рацыянальнай гісторыяй, гледзячай у глыб стагоддзяў, а далей пачынаюцца адны міражы. Нават і адразу пасьля канчатковага аддзяленне захаду Яўропы ад эліна-сірыйска-ягіпецкага Ўсходу ў 395 годзе, рэзідэнцыяй заходняй свецкай улады зрабірася Равена на берагах Адрыятычнага мора, куды, а не ў нязручны Рым, і перасяліўся жыць «заходне-рымскі» імператар Ганорый, аддзяліўшыся ад свайго брата ўсходне-раманскага Аркадзя; у Равене, а не ў Рыме, знаходзяцца і самыя старажытныя помнікі італійскага дойлідства. Такімі з’яўляюцца яе пабудовы найбольш архаічнага выгляду: сабор з баптыстэрыямі, дапасуемы да V стагоддзя, царква св. Віталя, дапасуемая да VI стагоддзя, базыліка Апалінара і г.д. Але і Равена не магла доўга служыць геаграфічным цэнтрам шырокай заходне-еўрапейскай дзяржавы, і таму ўся заходняя частка Міжземнаморскай імперыі Дыяклетыяна хутка распалася на кавалкі з самастойнымі, нацыянальнымі цэнтрамі, із якіх адзін із найважнейшых павінен быў натуральна з'явіцца ва ўтоцы ракі По (Венецыянская вобласць), другі ў басейне Роны, а трэцці на берагах Гвадалквівіра, на Іберыйскай паўвыспе. Сам жа Рым мог заставацца толькі вялікім рэлігійным пунктам, і калі ён зараз зрабіўся адміністрацыйным цэнтрам аб'яднанай Італіі, то дзякуючы выключна таму, што вынаходніцства чыгуначных стасункаў разбурыла натуральныя перашкоды краіны і незвычайна скараціла адлегласьці. Без гэтай жа акалічнасьці італійскім каралям непазбежна давялося б перанесьці сваю рэзідэнцыю ў Мілан.

Такім чынам, для правільнага разумення старажытнай гісторыі мы, перадусім, павінны вызваліццца ад нададзенай нам з дзяцінства ідэі, што Рымская імперыя пачалася із італійскага Рыма, ці што Рым некалі меў нейкі уплыў на яе адміністрацыйнае жыццё, і мог прызначаць і пазбаўляць пасады «загадам свайго сената» яе вайсковых валадароў, мясцаваўшыхся са сваім войскам за тры дзевяць зямель ад яго ў трыдзясятым царстве, якія толькі пасмяяліся б над дырэктывамі «зазнаўшыхся правінцыялаў». Нават у часы самага моцнага разгару забабонаў, калі напалоханыя прароцтвамі каралі поўзалі на каленях перад вялікімі рымскімі пантыфексамі і нават прызнавалі іхную свецкую ўладу над сабой, яна была толькі намінальнай, таму што ў сярэднявечных пантыфексаў ці ў замяніўшых іх з часу Гільдэбранда ў XI стагоддзі папаў не было магчымасьці ў сваім аддаленні ад галоўных стратэгічных цэнтраў хутка і своечасова выкарыстаць сваё войса, ды і каралі хадзілі каяцца ў сваіх грахах нават не ў Рым, а ў Каносу ў Рэджыо-нель-Эміліа ў Сярэдняй частцы Італіі.

Тым менш магла выходзіць із італійскага Рыма нейкая кіруючая ўлада пад час дахрысьціянскага перыяду.

Усе геаграфічныя, геалагічныя і геафізічныя асаблівасьці басейна Міжземнага мора аднагалосна сведчаць, што аб'яднанне гэтага басейна магло адбыцца толькі із Балканскай Раманіі праз Басфор на поўдзень і ўсход, і праз Атрынцкі праліў на захад, калі караблебудаванне дасягнула такой ступені развіцця, што можна было падарожнчаць із Корфу ў Атрынта без вялікай рызыкі. Старажытная румынская мова была роднай лацінскай, але значна змяніўшаяся пазней пад уплывам славянскіх гаворак і падзяліўшаяся зараз на дакайска-раманскую, служачую ў якасьці літаратурнай, на істра-раманскую і на македонска-раманскую. У якасьці ларатурнай яна пачала адраджацца толькі з XVIII ст., а перад тым літаратурнай мовай была грэцкая. І я асабліва пазначаю той факт, што сярэднявечная назва візантыйцаў, як яны самі сябе называлі, была не грэкі, і не эліны, а, рамеі (ρωμαίοι), адкуль і назва ўсяго іхнаг царства была Ρώμη (Roma), а ў рускім вымаўленні Рым.

У адпаведнасьці з нашай тэорыяй пра паходжанне імперыі Дыяклетыяна із Румыніі і ад рамеяў (балканцаў) знаходзіцца, паўтараю, і легенда пра Аляксандра Македонскага, сына румынскага цара Піліпа II. Ён – запэўніваюць нас – быў абраны на пасад амфіктыёнам, г.азн. сенатам сьвятога горада Дэльфы, завалодаў усёй Элладай, але быў забіты Паўзаніем падчас вайны супраць персаў у 336 г. «да Нараджэння Хрыстова». Яму ўспадкоўваў яго сын Аляксандр Македонскі, вучань Арыстоцеля. Пераправіўшыся са сваімі вершнікамі праз Дарданэлы, ён, – кажуць нам, – праскакаў, як пазьней Пізара ў Амерыцы, праз усю Малую Азію і Сірыю і Ягіпет, усіх перамагаючы перавагай сваёй, напэўна, жалезнай ці яшчэ медзянай зброі і нябачанымі яшчэ ў гэтых краях вершнікамі на конях. Ён заснаваў ва ўтоцы Нілу Александрыю, але не застаўся ў ёй, а пайшоў у Месапатамію і ў Персію, дайшоў, – кажуць нам, – да ракі Сыр-Дар'я паблізу Аральскага мора і там адружыўся з дачкой мясцовага цара Раксанай. Вярнуўшыся ў Румынію, ён і на сваёй радзіме пачаў уводзіць усходнія звычаі, чым, быццам бы, выклікаў незадавальненне насельніцтва. Потым, у 327 годзе да пачатку нашай эры, ён, быццам бы, пайшоў у Індыю, але быў вымушаны вярнуцца адтуль праз незадавальненне сваіх жаўнераў стомленых такім вельмі далёкім паходам па пустынях Белуджыстана. Ён памёр – кажуць нам – у «Вавілоне» ў чэрвені 323 г. і таксама да «Нрадэня Хрыста».

Але мы ўжо вылічылі, што «Нараджэнне Хрыста» прыпадае на час каля 333 года нашай еўрапейскай грамадзянска-каляндарнай эры, і із гэтага вынікае, што Аляксандр Вялікі, валадарыўшы 12 гадоў, панаваў над усёй Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыяй, г.азн. над тым, што мы называем Усходняй Раманскай імперыяй, пачынаючы ад 5 года да пачатку нашай грамадзянскай эры, да 7 года пасьля яе, а таму прыходзім да высновы, што наша грамадзянская эра з'яўляецца, магчыма, эрай Александрыйскай, бяручай пачатак ад заснавання гэтага горада (ab Urbe condita).

Гэта і была б самая старажытная храналагічная дата «Раманскай (Рымскай) гісторыі», калі мы не жадаем атаясамляць Аляксандра Македонскага з Аляксандрам Сяверам.

Ягіпецкія Пталямеі з гэтага боку гледжання перасоўваюцца ў I, II і III стагоддзі нашай эры, а ўсе ягіпецкія дынастыі да іх выяўляюцца шматразовымі пераноскамі з тых жа самых раманскіх спадкаемцаў Богапрызванага Дыяклетыяна

пры варыяцыях іхных найменняў і здзяйсненняў. Нават жа знакамітыя ягіпецкія піраміды маюць сабе псеўда-класічных аналогаў у Яўропе (мал. 62).



Мал. 62
Так званая магільня Кая Цэсція (Cajo Cestio) на Астыйскай дарозе каля старадаўняй брамы (Porta Fregimina) у італійскім Рыме, маючай назву ў народзе брма Св. Паўла.



Мал. 63
Так званыя «магільні фараонаў» у Ягіпце. Ці магчыма грунтуючыся на адзінстве іхнага стылю з магільняй Кая Цэсція зрабіць выснову і пра адзінства эпохі і пахавальнага звычаю?

# Частка чацьвёртая.

Гістарычныя снабачанні.



Мал. 64
Гістарычнае снабачанне.
Манумент у гонар бязгрэшнага зачацця ўзведзены ў Рыме папай Піем IX (1816-1878 гг.) у адзнаку гэтай дзіўнай падзеі. На Гішпанскім пляцы (Piazzo di Spagna).

# Глава I.

## Маўклівы Гісторык (Тацыт).



Мал. 65
Гістарычнае снабачане.
Юлій Цэзар пераходзіць праз Рубікон.

У папярэдніх кнігах «Хрыста» я ужо не раз паказваў між іншым на позняе паходжанне кніг, прыпісваемых гэтаму аўтару, і на тое, што іх напісаў Паджыо Брачыаліні у XV стагоддзі нашай эры. Але з нагоды той важнасьці для гісторыі «класічнага Рыма», якую прыпісваюць Тацыту, пагавару і тут пра іх больш падрабязна.

Публій Карнэлій Тацыт, – пераконваюць нас аўтары Эпохі Адраджэння, – нарадзіўся каля 55 года «пасьля Нараджэння Хрыста» пры Чорным імператары (Нярону), быў сябрам Плінія Малодшага і памёр пры Адрыятычным імператары (Адрыяне) каля 120 года пасьля таго ж славутага «Нараджэння Хрыста», якое звычайна дапасуюць да прамежку ад 2 да 5 года перад пачаткам нашай эры (а згодна з маімі вылічэннямі рэчаісны заснавальнік хрысьціянства нарадзіўся каля 333 года нашай эры).

Тацыт першым выкарыстаў маральныя павучанні для выхавання будучых гістарычных дзеячоў, а склад яго твораў чыста белетрыстычны ці публіцыстычны.

У сваім «Жыццяапісанні Агрыколы»[112] ён паведамляе між іншым звесткі пра насельніцтва Брытанскіх выспаў і пра норавы, рымскага грамадства «пры імператары Даміцыяне», прытым манера апавяданна тая ж самая, што ў Салюстыя.

У невялікім творы «Пра паходжанне, месцаванне і норавы германскага народа»[113] ён прыводзіць цалкам анахранічную для таго часу паралель паміж слабасьцю (!) тагачасных рымлянаў і магутнасьцю германцаў. Ён радуецца толькі таму, што германскія дзяржавы разрознены, і прадбачыць магчымасць узнікнення з іх магутнай пан-германскай, імперыі, што, вядома, магло быць зроблена толькі пасьля яе з'яўлення пры Атоне Вялікім.

Але галоўнымі творамі Тацыта лічацца дзьве яго кнігі:

1. «Летапісы» (Annales), якія змяшчаюць гісторыю Рымскай імперыі пры Тыверыю, Калігуле, Клаўдыю і Няроне, даўно выклікаўшыя сумневы ў іхнай праўдзвасьці, як іхны працяг.

[112] De vita et moribus Julii Agricolae, 46 частачак.

[113] De Origine, Situ, Moribus ac populis Germ norum.

2. «Гісторыі» (Historiae), ахапліваючыя смутны час Гальбы, Атона і Вітэлія да ўцаравання Веспасіяна.

Згодна са сваімі перакананнямі ён прыхільнік арыстакратычнай рэспублікі ў тым выглядзе, у якім яна існавала ў італійскіх гарадах XIII-XV стагоддзяў.

Наколькі ж праўдзівымі з’яўляюцца яго творы?

Асобныя недарэчнасьці і анахранізмы ў яго апавяданніх і нават развaжаннях заўважалі ўжо і Вальтэр і Амадэй Ц'еры і наш Пушкін, – але толькі пачынаючы ад заканчэня XIX стагоддзя пачалі з'яўляцца сур'ёзныя гістарычныя працы, цалкам аспрэчваючыя праўдзівасць яго кніг.

Так, ангельскі гісторык Рос напісаў у 1878 годзе грунтоўную кнігу: «Тацыт і Паджыо Брачыаліні»[114], дзе ён даводзіў самым пераканаўчым чынам, што «Летапісы» Тацыта складзены Паджыо. Гэтае ж меркаванне падтрымаў Гашар (Hochard) у 1890 годзе ў сваёй кнізе «Пра праўдзівасць Летапісаў і Гісторыі Тацыта», і з часу выдання яго кнігі гэтае пытанне можна лічыць вырашаным канчаткова.

Падставамі такой высновы з'яўляюцца:

1) поўная немагчымасць назапасіць шмат із таго, што паведамляецца ў «Летапісах» і ў «Гісторыі» Тацыта раней Эпохі Адраджэння;

2) літаратурныя прыёмы гэтых кніг і іхная мова настолькі тоесны з прыёмамі і мовай Паджыо, што ўжо адна гэтая акалічнасць павінна выклікаць падазрэнні;

3) тыповая для XV стагоддзя павага да непрыстойнасьцей, якая, – дадам ад сябе, – вымушае мяне дапасаваць да таго ж часу і Пятронія (знойдзенага таксама Паджыо) і Ювенала, і Марцыяна і шмат іншых класікаў, і, нарэшце;

4) крайняя сумнеўнасць умоваў, пры якіх Паджыо ўпершыню «знайшоў Тацыта», цалкам невядомага пад час сярэдневечча.

Не маючы месца рабіць тут падрабязнае выкладанне вынікаў навейшай крытыкі ў дачыненні да Тацыта, я абмяжуюся толькі кароткім рэзюмэ гэтых прац, дадаўшы да яго вытрымкі із кнігі А. Амфітэатрава «Зьвер із Бездані», якую я праверыў асабіста грунтуючыся на Гашары і знайшоў выкладанне Амфітэатрава вельмі ўдалым, хаця ён усё ж не жадае адмовіцца ад думкі пра існаванне Тацыта, як гісторыка, пад час старажытнасьці.

І гэта тым лепш для мяне, таму што немагчыма будзе папракнуць маё выкладанне у тэндэнцыйнасьці.

Паджыо Брачыаліні, – паведамляе аўтар «Зьвера із Бездані», як ён называе грунтуючыся на Апакаліпсісе Рымскую імперыю, – нарадзіўся ў 1380 годзе ў Тэра Нуова, маленькім мястэчку паблізу Фларэнцыі, і ўжо ў раннім узросьце праславіўся юнаком вельмі адукаваным і вострага розуму. Сваю службовую кар'еру ён пачаў пры кардынале Бары, але неўзабаве мы бачым яго пры двары папы Баніфацыя IX у званні капіявальніка (scriptor pontificus). Паціху ён узвысіўся да пасады сакратара пры адным із урадаўцаў-рэдактараў. Яго абавязкам было выпраўляць афіцыйныя дакументы – ліставанне, граматы і рэзалюцыі, выходзіўшыя ад імя папы. Ён суправаджаў папу Яна XXIII на Канстанцкі сабор 1414 г., і калі той быў пазбаўлены пасады (1415) гэтым саборам, Паджыо таксама згубіў пасаду і, так бы мовіць, павіс у паветры.

Праз некаторы час, ён паступіў на службу да Генры Бафора, брата караля Генрыха IV, біскупа і пазьней кардынала. Але, падмануўшыся ў сваіх разліках на

[114] Ross: Tacitus and Bracciolini. The Annals, forged ia the XV centuri. 1878 (Тацыт і Брачыаліні. «Летапісы», падробленыя ў XV стагоддзі).

вялікія прыбыткі, ён ужо ў 1422 годзе зноў у Фларэнцыі, і потым у Рыме, дзе папа Марцін V, наступнік Яна XXIII, вярнуў яму старую пасаду сакратара пры найсьвяцейшым пасадзе. Лацінскай мове ён вучыўся ў Джавані Мальпагіні, равенскага сябра Пятраркі, а грэцкай – у Хрызалора (Chrisoloras, памёр у 1415). Ведаў ён і жыдоўскую мову. Старажытнасць ён вывучаў з такім палкім захапленнм, што яго амаль было немагчыма сустрэць інакш як за лацінскай ці грэцкай кнігай ці за вытрымкамі із іх. Гэта быў сапраўдны паглынальнік бібліятэк, і пад канец жыцця Паджыо напісаў, ужо пад сваім імем, шэраг вясёлых (і непрыстойных) апавяданнаў пад загалоўкам «Facetiae» (1450 г.), а таксама не асабліва праўдзівую гісторыю Фларэнцыі і шэраг іншых апавяданняў і памфлетаў. Пазнейшая французкая крытыка паставіла яго на адзін ровень з лепшымі аўтарамі Эпохі Адраджэння.



Мал. 66

Гістарычнае снабачанне.

Юлій Цэзар выказвае прамову (із кнігі Фелье: Жыццё знакамітых рымлянаў).

Як высока яго шанавалі, даводзяць яго ганарары. За прысьвячэнне «Кірапедыі» Альфонсу Арагонскаму Паджыо атрымаў 600 залатых, г.азн. каля 7200

франкаў, а згодна з тагачасным коштам грошай гэта быў вялізны капітал. Літаратура вылучыла яго ў шэрагі дзяржаўных дзеячоў і сваё жыццё ён скончыў на вышыні вялікага і валадарачага паста – канцлерам Фларэнтыйскай рэспублікі, так што першую палову італійскага XV стагоддзя шмат што лічыў магчымым называць «стагоддзем Паджыо».



Мал. 67
Гістарычнае снабачанне. Сон Брута пасьля забіцця ім Юлія Цэзара (із кнігі Фелье: Жыццё знакамітых рымлянаў).

Такімі зяўляюцца сьветлыя бакі дзейнасьці гэтага выбітнога чалавека. Паглядзім ценевыя.

Паджыо меў сварлівы характар і перасварыўся з усімі літаратурнымі славутасьцямі яго эпохі – Аўрыспай, Гуарыяна, Вісарыёнам, а асабліва з Філельфа і Валою

У Канстанцы, у Лондане, і ўсюды ён жыве шырокім жыццём гулякі: вялікі аматар непрыстойных выяваў, апавяданняў і вершаў, а ў сталым веку і сам іх руплівы і распушчаны выдумшчык, у чым яго жорстка папракае Вала. Шырокі лад

жыцця каштаваў Паджыо Брачыаліні вельмі дорага і, з маладосьці перавышаў яго наяўныя сродкі, прымушаюы яго вечна мець патрэбу ў грашах.

Крыніцай дадатковых заробкаў для яго было пошукі, прыгатаванне і рэдактаванне спісаў антычных аўтараў грунтуючыся на «праўдзівых» манускрыптах. У XV стагоддзі, калі ўсе з прагнасьцю імкнуліся шукаць звыш меры услаўляюмую старажытнасць, гэта быў вельмі прыбытковы занятак. Пры дапамозе фларэнтыйскага навукоўцы, кнігавыдаўца і кнігапрадаўца Мікола Міколі (1363-1437), які ў той час быў царом літаратурнага рынку, Паджыо Брачыаліні наладзіў нешта нападобе пастаяннай студыі па апрацоўцы антычнай літаратуры і далучыў да справы цэлы шэраг супрацоўнікаў і контрагентаў, вельмі адукаваных і здольных, але запар з цёмнымі плямамі на рэпутацыях: тут былі і Чынча Рымлянін, і Барталамеа, і Мантэпульчана, і П'етра Ламбартэскі...

Свае першыя «знаходкі» Паджыо Брачыаліні і Барталамеа дзі Мантэпульчана зрабілі пад час эпохі Канстанцкага сабора, калі пазбаўленне пасады Яна XXIII паставіла іх, як звольненых папскіх сакратароў, у самае крытычнае становішча. У забытай сырой вежы Сэн-Галенскага кляштара, «у якой заняволены не пражыў бы і трох дзён», яны, згодна з іхнымі словамі, знайшлі кучу старажытных манускрыптаў: творы Квінтыліяна, Валера Флака, Асконія Педыяна, Нонія Марцэла, Проба і іншых, якія і паказалі выдаўцам. Гэта вырабіла не проста сэнсацыю, а проста-такі літаратурную эпоху: усе пачалі шукаць у старых вежах старажытныя манускрыпты, і самі асабіста, і праз іншых, абяцаючы за знаходкі старажытных аўтараў вялікія грошы, і няма ніякага сумневу, што Міколі, якому із гэтых скарбаў дасталася ільвіная доля, добра нажыўся і марыў нажыцца яшчэ. Так Паджыо перадаў Міколі і «Буколікі» Кальпурнія і некалькі главаў Пятронія (са сваіх ранейшых твораў!).



Мал. 68

Гістарычнае снабачанне. Выкраданне сабінянак. Выява Жака Давыда (1748-1825).

Манускрыпт, выходзіўшы із майстэрні Паджыо, цаніўся вельмі высока, і ён выпускаў іх шмат. У сваіх лістах ён раз-пораз патрабуе ад Міколі паперу, пергамент, пераплётны прыклад, і калі выдавец спазняецца з дастаўкай, Паджыо плачацца, што яму даводзіцца дарэмна карміць сваіх майстроў дзякуючы перапынкам у ходзе працы. Бясспрэчна, яго пісары выпрацоўвалі пераважна хадавы, другарадны тавар, у якім самай каштоўнай была толькі рэдакцыя Паджыо. Аматарскія асобнікі гаспадар рыхтаваў сам, і які кошт ён прызначаў за іх можна

скласьці  ўяўленне грунтуючыся на такім прыкладзе. Прадаўшы Альфонсу Арагонскаму ўласную копію Ціта Лівія, Паджыо на заробленыя грошы купіў сабе вілу ў Фларэнцыі. З герцага д'Эстэ ён узяў сто дукатаў (1200 франкаў) за лісты св. Ераніма, ды і то з вялікім незадавальненнем, верагодна вымушаны гэта зрабіць праз недахоп сродкаў, ці таму, што твор заляжаўся, таму што айцы царквы ў стагоддзе Адраджэння прадаваліся не так бойка, як паганскія філосафы. Кліентамі Паджыо былі Медычы, Сфорца, д'Эстэ, шматлікія арыстакратычныя рады Англіі, бургундзкі герцагскі род, кардыналы Арсіні, Колана, буйныя багацеі, такія як Барталамеа дзі Бардыа, і ўніверсітэты, якія ў тую пару, дзякуючы шчодрасьці асьвечаных валадароў, пачалі абзаводзіцца бібліятэкамі, і хутка пашыралі свае старыя кнігасховішчы. Паджыо зарабляў вельмі вялікія грошы і пакінуў сваім дзецям вялізную маёмаць, якую тыя надзвычай хутка змарнавалі. Але няма ніякага сумневу, што жыў ён – прынамсі вельмі доўга, гадоў да сарака – выдаткуючы больш сваіх патаянных прыбыткаў і часта, каб пазбавіць сябе ад даўгоў, меў патрэбу ў нейкім экстраным вялікім кушы, які быў вымушаны здабываць таксама экстрэннымі сродкамі. А ў выбары апошніх Паджыо быў не вельмі пераборлівым.

Такім з’яўляецца чалавек, які «знайшоў» не толькі шмат згаданых, тут класічных аўтараў, але таксама і гісторыка Тацыта. Паглядзім зараз як ён яго знайшоў.

Асноўныя рукапісы двух Тацытавых твораў «Летапісы» і «Гісторыі», вядомыя пад найменнем Першага і Другога Медыцэйскага Спіса, знаходзяцца зараз у Фларэнцыі ў кнігасховішчы Bibliotheca Laurentiana.

Паджыо Брачыаліні і яго цесць Буондэльмонці былі ў ліку дырэктараў-заснавальнікаў гэтага кнігасховішча. «Другі» Медыцэйскі Спіс больш старажытны за першы, калі не адносна паходжання, то адносна друкавання, гадоў на 80. На першай яго старонцы значыцца:

**Cornelius Tacitus et Opera Apuleii. Conventus Sancti Marci de Florentia. De hereditate Niccolai Niccoli Florentissimi, viri doctissimi**. (Карнэлій Тацыт і творы Апулея, із кніг кляштара св. Марка ў Фларэнцыі. Перададзены ў спадчыну ад Мікалая Міколі фларэнтыйскага выдатнага грамадзяніна і найвучонейшага мужа.)

У гэтым спісе із Тацыта змяшчаецца толькі шэсць апошніх кніг «Летапісу» і пяць першых кніг «Гісторыі». У гэтых сваіх частках ён з'яўляецца прататыпам для ўсіх астатніх копій, маюць прэтэнзіі па старажытнасьць: Фернезскага спіса із Ватыкана, Буда-Пешцкага, Вальфэнбютэльскага і інш. Першае друкаванае выданне Тацыта зробленае ў Венецыі Джавані Спірою ці яго братам Вандэлінам каля 1470 года, надрукавана із гэтага «другога» Медыцэйскага спіса, ці – згодна з паданнем – із яго дакладнай копіі, захоўваўшайся ў Венецыі ў бібліятэцы пры саборы св. Марка. Але адтуль ён «знік», г.азн. ніколі там і не быў.

«Першы» ж Медыэйскі спіс быў знойдзены і набыты папай Ільвом X праз 80 гадоў пасьля «другога» і неадкладна надрукаваны ім (1515) у Рыме, падназіраннем Піліпа Берэальда Малодшага і пад назвай:

**Cornelii Taciti historiaruin libri quinque nuper in Germania inventi.** (Пяць кніг гісторый Карнэлія Тацыта, нядаўна знойдзеныя ў Германіі.)

Гэты Медыцэйскі спіс і папярэднічаўшы яму (няправільна названы «другім») даюць поўны збор усяго, што дайшло да нас із гістарычных твораў Тацыта. Мова, манера выкладання, тон і ўсе літаратурныя вартасьці і недахопы выяўляюць іх несумнеўнае адзінства і даводзяць, што перад намі праца аднаго аўтара. Істотным

адрозненнем паміж імі з'яўляецца толькі іхны почырк. «Другі спіс» выкананы так званым ламбардзкім пісаннем, а «першы» каралінскім (мал. 69).




Мал. 69
Узоры почыркаў, якімі напісаны рукапісы двух кніг, прыпісваемых Тацыту. Зверху – ламбардзкі, знізе – каралінскі.

Пра тое, што быццам бы Тацыта ведалі і чыталі даўно, мы маем паведамленні: ад яго падробленага сучасніка Плінія Малодшага; ад яго падробленага ворага – хрысьціянскага апалагета Тэртуліяна, які дапасуецца да III стагоддзя; ад Флавія Веніска; ад Пабожнага Ераніма, які дапасуецца да IV стагоддзя; ад Паўла Арэзія, Сідонія і Апалінарыя, дапасуемых да V стагоддзя, і ад Касіядора, дапасуемага гісторыкамі да VI стагоддзя... Але іхныя рукапісы «былі знойдзены» таксама ў адну эпоху з вышэйпрыведзенымі кнігамі Тацыта, так што даводзяць сабой толькі тое, што і яны ілжывыя. Потым імя Тацыта – кажуць нам– «знікае із памяці цывілізаванага сьвету» на шмат стагоддзяў.

Хаця Флавій Веніск і паведамляе, што сам імператар ганарыўся паходжаннем ад Тацыта і як ён загадаў, каб спісы твораў яго вялікага продка былі

ва ўсіх публічных бібліятэках імперыі, але літаратура не захавала нам ніякіх сьлядоў тагачаснага тацытава аўтарства. Лацінскія граматыкі канца Рымскай імперыі, Сервій Прысцыен і Ноній Марцэл, руплівыя цітатары і пералічальнікі імёнаў сваёй літаратуры, не згадваюць пра Тацыта і, відавочна, пра яго не ведаюць.

Але раптам, у IX стагоддзі (праз пяць соцень гадоў) імя Тацыта дзіўным чынам ўсплывае ў хроніцы Фрэкульфа, біскупа ў Лізьё, а ў XI стагоддзі ў «Polycraticon'e», памфлеце Яна Салісберыйскага супраць каралеўскай улады. Аднак, згодна з заўвагай Гашара, гэтыя абодва згадванні цалкам агульнага характару і не паведамляюць пра Тацыта нічога тыповага, так што няма ніякай падставы меркаваць, быццам бы ў бібліятэках Фрэкульфа ці Яна Салюсберыйскага існавалі нейкія творы Тацыта.

Такім чынам, на ўсім працягу сярэдніх стагоддзяў, ні ў працах, ні ў лістах навукоўцаў ніводнага разу не мільгае намёк на нейкі захаваўшыся рукапіс Тацыта, хаця вельмі часта адзін просіць для чытання, другі для таго каб перапісаць, творы Салюстыя, Святонія, Цыцэрона, Квінтыліяна, Макробія і іншых лацінскіх аўтараў. Гэта азначае, хто б ні быў аўтарам тацытавых твораў, але даводзіцца пагадзіцца з Росам і Гошарам у іхным цверджанні, што на прыканцы XIV і напачатку XV стагоддзя пра Тацыта ніхто із адукаваных людзей не меў ніякага разумення. Верылі ў яго невядомую веліч і, вядома, марылі: «ах, калі б знайсьці!». Марыллі ідэалісты, марылі і практыкі. Была патрэба завяршыць знаходкі рымскай літаратуры Тацытам, Кожны кнігапрадавец разумеў, што знайсьці Тацыта азначае нажыць капітал. І вось попыт нарадзіў прапанову. Тацыт знайшоўся.

У лістападзе 1425 года Паджыо із Рыма паведаміў Міколі ў Фларэнцыі, што «нейкі манах мой прыяцель», прапануе партыю старажытных рукапісаў, якія патрэбна атрымаць у Нюрнбергу, і ў ліку іх «некалькі твораў Тацыта».

Міколі вельмі зацікавіўся і неадкладна выявіў згоду на заключэнне пагаднення, але, да яго здзіўлення і неспакою, атрыманне ім прапанаванай яму рэдкасьці зацягваецца перш на два месяца, потам на восем і г.д. Паджыо відавочна цягне справу пад рознымі адгаворкамі, а ў траўні 1427 года Міколі становіцца вядома, што яго прыяцель вядзе перамовы пра рукапіс Тацыта таксама і з Казьмою Медычы. На яго запыт Паджыо дае даволі заблытаны адказ, із якога зразумела толькі адно, што ў той час кнігі Тацыта ў яго не было, а быў, быццам бы, каталог аднаго нямецкага кляштара ў Герсфельдзе (упершыню тут ён назваў і мясцовасць), у якім, сярод іншых важных рукапісаў: – Імія на Марцэліна, першай дэкады Ціта Лівія, прамоваў Цыцэрона – існуе і том Карнэлія Тацыта.



Мал. 70
Гістарычнае снабачанне. Тыберый-Клаўдый і Агрыпіна Малодшая ва ўяўленні Рубенса (галерэя выяваў у Рыме).

Герсфельд – гэта мястэчка ў Гесене, на Фульдзе, і тамтэйшае абацтва, здаецца, было аб'яднана з Фульдзкім агульным кіраваннем. Манаху, – кажа тут Паджыо, – «патрэбны грошы», і сам неміласэрдна блытаецца: манах – яго сябар, але, быўшы ў Рыме, чамусьці не наведаў яго, і патрэбна дамагчыся знайсьці яго кружным шляхам. Кнігі ж знаходзяцца далёка, у Герсфельдзе, а атрымаць іх патрэбна ў Нюрнбергу і г.д. На заканчэнні Паджыо спачатку забываецца паслаць Міколі абяцаны Герсфельдзкі каталог, а калі раздражнёны выдавец запатрабаваў каталог да сябе, то ў ім ніякага Тацыта не выявілася. У такой дзіўнай цяганіне непаразуменняў, маючай усе прыкметы штучнасьці, праходзяць і 1427 і 1428 гады. Нарэшце 26 лютага 1429 года – гэта азначае праз тры з паловай гады пасьля таго як пачалося гэтае ліставанне, – Паджыо паведамляе Міколі, што таямнічы «герсфельдзкі манах» зноў прыбыў у Рым, але без кнігі. Паджыо запэўнівае, што ён зрабіў манаху жорсткую вымову, і той, напалохаўшыся, зараз жа выправіўся ў Германію за Тацытам. «Я ўпэўнены, што хутка мы атрымаем рукапіс, таму што манах не можа абыйсьціся без маёй пратэкцыі па справах свайго кляштара».



Мал. 71
Гістарычнае снабачанне. Адпачынак панны Марылі з немаўлём Езусам і яе фіктыўным чалавекам Ёсіфам пры яе збяганні ў Міц-Рым.

На гэтым і спыняецца ліставанне паміж Паджыо і Міколі пра герсфельдзкага Тацыта, што тлумачыцца тым, што яны сустрэліся летам 1429 года ў Таскане. Расцягнуўшыся амаль на пяць гадоў «адкрыццё» Паджыо стала вядомым раней, чым быў дастаўлены ім Тацыт, і вакол яго раіліся дзіўныя чуткі. Апошнія Міколі вельмі хвалявалі, а Паджыо адказваў: «Я ведаю ўсе песьні, якія спяваюцца на гэты конт і адкуль яны бярэцца, дык вось жа, калі прыбудзе Тацыт, я знарок вазьму, ды і добра прыхаваю яго ад усіх чужых». Здавалася б, – справядліва заўважае Гашар – самым лепшым доказам праўдзівасьці рукапісу ад розных чутак было паказаць яго ўсяму навуковаму сьвету, патлумачыўшы ўсе сакрэты яго паходжання. А Паджыо, наадварот, зноў толькі абяцае, відавочна хітруе і гуляе ў цёмную.



Мал. 72
Гістарычнае снабачанне. Марылй у балоце Ментурны (із кнігі Фелье: Жыццё знакамітых рымлянаў)

Невядома, ці адразу Паджыо і Міколі надрукавалі копіі із кнігі Тацыта, якімі іх ашчасьлівіў таямнічы манах, калі толькі такі манах наогул існаваў. Але гэта, нарэшце, адбылося. «Ламбардзкі» спіс з'явіўся ў некалькіх копіях і ў распараджэнні Паджыо; калі верыць яго лістам, існуе яшчэ нейкі старажытны Тацыт, напісаны антычнымі (каралінскімі) літарамі. Даты лістоў відаць прыдуманы Паджыо, каб зацвердзіць рэпутацыю праўдзівасьці за яго ламбардзкім спісам, які адразу ж пачаў пашырацца па розных княжых бібліятэках, і каб падрыхтаваць дарогу другому спісу, напісанаму каралінскім почыркам.

Гісторыя пераставіла іхную чарговасць: «першы» спіс Паджыо зрабіўся Другім Медытэйскім, а «другі» зрабіўся Першым Медытэйскім, як даводзіць Гашар.



Мал. 73
Гістарычнае снабачанне. Суд Брута (із кнігі Фелье: Жыццё знакамітых рымлянаў).

Вывучаючы гісторыю паходжання «другога» спіса Тацыта, г.азн. І Медытэйскага спіса, напісанага каралінскім пісьмом, немагчыма не заўважыць, што і тут паўтараецца легенда, атачаўшая толькі што разабраны намі спіс Міколі. Зноў на падмостках з’яўляецца недасягальны паўночны кляштар, зноў нейкія таямнічыя неназываемыя манахі. Нейкі нямецкі манах прыносіць папу Ільву Х пачатковыя пяць главаў Тацытавых «Летапісаў». Папа ў захапленні, прызначае быццам бы манаха выдаўцом гэтага твору. Манах адмаўляецца, кажучы, што ён малапісьменны. Карацей, аднаўляецца легенда пра дастаўніка папярэдняга Медытэйскага спіса герсфельдзкім манахам, толькі на гэты раз перанесеная у Карвэй. Пасярэднікам гандлю легенда называе тады збіральніка падаткаў на карысць сьвятога пасада, пазней архібіскупа Міланскага. Аднак Арчымбольдзі не паведамляе пра гэтую акалічнасць ніводнага слова, хаця Леў Х – нібы-та праз яго – заплаціў за рукапіс 500 цэхінаў, г.азн. 6 000 франкаў, згодна з тагачасным коштам грошай – вялікую суму. Гэтыя вечныя таямнічыя манахі, без імя, невядомага паходжання і месца жыхарства, лічацца Гашарам за прадаўжальнікаў фальсіфікацыйнай сістэмы, распрацаванай Паджыо. Іх ніхто не бачыць і не ведае, але сёння адзін із іх прыносіць са Швецыі ці Даніі згубленую дэкаду Ціта Лівія, заўтра другі таямнічы манах із Карвеі ці Фульды прыносіць Тацыта і г.д. І заўсёды чамусьці із далёкай, цяжка дасягаемай поўначы, і заўсёды з'яўляецца якраз з тым самым таварам, якога нехапае кніжнаму рынку.



Мал. 74
Гістарычнае снабачанне. Старажытна-пярсідзкая царэўна Раксана, нарачоная Аляксандра Македонскага (із выявы мастака Садомы, 1477-1549 гг.: вяселле Аляксандра).

Пераходзячы да зместу кніг Тацыта, Гашар выказвае шэраг меркаванняў, згодна з якімі гэтыя абодва творы, адзіна нам вядомыя, не могуць належаць пяру старажытнага аўтара.

Вось некаторыя із яго меркаванняў. Тацыт дрэнна ведае гісторыю рымскага заканадаўства. Распавядаючы пра пашырэнне Клаўдыем рымскага памор'я, ён паведамляе, што раней гэта рабілі толькі Сула і Аўгуст – і забываецца пра... Юлія Цэзара. Ён вельмі дрэнна ведае геаграфію старажытна-рымскай дзяржавы (вандраванне Германіка, тэатр вайны Корбулона і г.д.) і нават яе межы, якія ён пашырае для сваіх дзён толькі да Чырвонага мора. Сутыкнуўшыся з цяжкасьцю перад гэтай загадкай тэксту, класікі спрабавалі бачыць у Чырвоным моры – Пярсідзкі заліў, а ў абмоўцы Тацыта намёк на паход Траяна, які дайшоў са сваім войскам да Карманіі. Цікава, што грунтуючыся менавіта на гэтым месцы «Летапісу» навукоўцы вызначалі год яго з'яўлення (пасьля 115 года).



Мал. 75
Гістарычнае снабачанне. «Найлепшы завяршальнік» (Арыстоцель па-грэцку), быццам бы завяршыўшы ўсе навукі яшчэ паміж 344 і 323 гадамі да пачатку нашай эры і памёршы ў Халкідзе ў выгнанні ад хваробы страўніка (згодна са старадаўняй статуяй).

У эпізодзе сьмерці Агрыпіны, мяркуемы Тацыт не ведае марской справы. Дакладна гэтак жа слабы ён і ў вайсковай справе, што вельмі дзіўна для дзяржаўнай асобы ў антычным Рыме, дзе згодна з класічнымі ўяўленнямі перш

усяго грамадзяніна выхоўвалі як жаўнера, але цалкам натуральна для навукоўцы XV стагоддзя: Паджыо быў чалавек кабінетны і менш ўсяго ваяр. Вайсковую справу ён не вывучаў нават тэарэтычна, і меў уяўленне пра вайну грунтуючыся на меркаваннях цывільнага чалавека, ды на чутках. Гашар і тлумачыць гэтым цьмянасць і невыразнасць апісання большасьці вайсковых падзей у Тацыта.

Вялічэзны спіс недарэчнасьцей Тацыта таксама налічвае Гастон Буасье, што, аднак, не мае наступствам сумневаў у праўдзівасьці твораў меркаванага старажытна-рымскага гісторыка.

Рэпутацыю праўдзівасьці Тацыта значна падтрымала ў свой час знаходка ў Ліёне (у 1528 годзе) бронзавых дошак з урыўкамі прамовы Клаўдыя на карысць грамадзянскага раўнапраўя галаў, тоеснай з такой жа прамовай гэтага валадара ў «Летапісах» Тацыта. Але Гашар пераканаўча даводзіць, што аўтар Тацыта ніколі не бачыў ліёнскіх бронзавых дошак. І, наадварот, аўтар ліёнскіх дошак ужо ведаў Тацыта, і ў такім выпадку, іхны тэкст – такая ж штучная ампліфікацыя адпаведнага месца ў «Аналах», як самі «Аналы» – вольная ампліфікацыя Святонія, Дыёна-Касія, Плутарха і інш. На думку Гашара, бронзавыя ліёнскія дошкі з’яўляюцца ўдалай падробкай XV стагоддзя.

Пералічыўшы шмат памылак, якіх не мог зрабіць рымлянін першага стагоддзя, Гошар пазначае і тыя із іх, якія выкрываюць у аўтары чалавека са сьветапоглядам і традыцыямі XV стагоддзя. Калі Тацыт выказваецца пра Лондан, як пра горад ужо знакаміты вялікім і ажыўленым гандлем, гэта, вядома, словы не рымляніна першага стагоддзя, а ўражанні самога Паджыо Брачыаліні, у якога менавіта ў Лондане і ўзнікла ідэя «знайсьці Тацыта». Паведамляючы пра парфянскія бязладдзі пад час кіравання Клаўдыя, уяўны Тацыт вымушае Мегердата захапіць «Нінэвію, старажытную сталіцу Асірыі»... А між іншым, у той час нават яе парэштткі не былі вядомыя (etiam periere runae). Адкуль жа магла такая дзіўная абмоўка з’явіцца ў тэксце тацытавых «Аналаў»? Яе падказала, вядома, хрысьціянскае ўяўленне аўтара, насычанае Бібліяй і айцамі царквы. А дзякуючы таму што ў Аміяна Марцэліна, якога Паджыо добра ведаў, згадваецца Нінас, ці Ніні́с, як бы аднайменны з Нінэвіяй, то аўтару здалося панадлівым паўтарыць самотнае і памылковае згадванне Пабожнага Ераніма, быццам бы ў яго часы на месцы меркаваных руінаў Нінэвіі зноў пачало развівацца жыццё. Той жа хрысьціянскі, а не рымскі пагляд вымушае ілжэ-Тацыта бачыць у звычаі абразання хлопчыкаў выключна юдэйскі звычай, усталяваны з мэтай вылучыць жыдоў із асяроддзя іншых народаў (ut diversitate noseantur).

Усе папярэднічаўшыя меркаванні выказаны Гашарам для таго, каб давесьці, што «наш» Тацыт – падроблены Тацыт, і што Паджыо Брачыаліні падыходзіў на роль падробшчыка Тацыта. Выдатна, што ў гэты перыяд свайго жыцця Паджыо, наогул вельмі пладавіты, не піша амаль нічога арыгінальнага. За выключэннем трактата «Пра скупасць», усе яго філасофскія творы больш позняга паходжання, таксама як і «Гісторыя Фларэнцыі», праца яго старасьці, напісаная, калі ён быў ужо на вяршыні сваёй велічы, канцлерам Фларэнтыйскай рэспублікі. А пад час маладосьці ён бясконца сістэматычна і аднабакова вучыцца, мабыць, дрэсіруючы сябе для нейкай адказнай працы па рымскай гісторыі. Міколі ледзь паспявае пасылаць яму то Аміяна Марцэліна, то Плутарха, то Геаграфію Пталямея і г.д.

У поўным узбраенні такой падрыхтоўкі ён і закідвае у 1425 годзе вуду наконт Тацыта. Што гэта была толькі спроба, відавочна із цяганіны, якая пачалася пасьля таго як Міколі схапіў прынаду і справа расьцягнулася на чатыры гады.

Паджыо паабяцаў выдаўцу працу, якую разлічваў хутка скончыць, але праца выявілася больш складанай, сур'ёзнай і патрабуючай больш намаганняў, чым ён разлічваў. І вось, яму давялося хітрыць, вылузвацца, прыдумляць нагоды адцягвана справы з месяца на месяц, а на прыканцы, напэўна, усё ж прызнацца ва ўсім Міколі. Той жа ведаў свайго мудрагелістага сябра наскрозь, ды ўжо і быў пасьвечаны ў таемны заказ Ламбертэскі.  Пагэтаму Гашар лічыць, што сваю падробку Паджыо пачаў адзін, але ён не змог падмануць Міколі, і кнігавыдавец зрабіўся яго пасобнікам.



Мал. 76
Гістарычная галюцынацыя. Выява Паленава: Забава старажытнарымскага кесара.

Дзякуючы шматлікасьці доказаў, хаця і запар ускосных, праз экзэгезу, Гашар змог пахіснуць давер чытача да сапраўднасьці Тацыта ў дачыненні да адной із яго

двух кніжак. Але ж іх дзьве. Іхныя першапачатковыя рукапісы рэзка адрозніваюцца почыркамі і фарматам і знойдзены на прамежку часу добрых 60 гадоў. Калі ў абодвух творах без сумневаў вытрыманы тон і мова аднаго аўтара, то, вядома, лічачы аўтарства Паджыо Брачыаліні для «Другога» Медытэйскага спіса даказаным, мы адчыняем гэтай гіпотэзе дзьверы і да Першаша спіса. Толькі чаму ж Паджыо не палічыў патрэбным падрабіць Тацыта адразу, падобнымі асобнікамі?

Гашар адказвае:

– Таму што, знойшоўшы два манускрыпта, адрозныя згодна з фарматам і почыркам, як бы ўрыўкі із двух рукапісаў розных стагоддзяў, Паджыо меў намер замясьці сляды сваёй падробкі і збіць з панталыку навуковую крытыку.

А чаму ж ён не надрукаваў пры сваім жыцці і першыя кнігі «Летапісу»?

Гашар адказвае:

– Таму што ў 30-х гадах яго кар’ера пайшла ў гару і ён перастаў мець патрэбу ў заробках такога сумнеўнага тыпу. Яго ўжо праславілі і абагацілі творы падпісаныя яго ўласным імем. Ён стаў асобай. А «знаходак старажытных аўтараў» ён за 80 гадоў свайго жыцця зрабіў так шмат, што можна было, нарэшце, і спыніцца. Ён «знайшоў» поўнага Квінтыліяна, трактаты Цыцэрона «De legibus» і «De finibus», і сем яго прамоваў: творы Лукрэцыя, Пятронія, Плаўта, Тэртуліяна, некаторыя творы Аміяна Марцэліна, Кальпурнія Сікула і г.д.

Сапраўды, выснова Гашара, што Паджыо насыціўся на прыканцы жыцця сваёй апакрыфічнай літаратурай і пачаў пісаць выключна пад сваім імем, вельмі праўдападобная.

«З маладосьці, – выказваецца Амфітэатраў, – калі пісьменніка цісьне беднасць і ён прабівае сабе дарогу, навуковая містыфікацыя менш трывожыць яго сумленне. А ў старога заслужанага навукоўцы, якому ўжо не патрэбны ні новая мітусьня каля яго імя, ні грошы і ён жыве навукай для навукі, у мысьляра, супакоенага жыццём, наўрад ці ўзнікне жаданне рабіць падобную справу, калі яно не будзе заахвочана нейкімі вельмі высокімі меркаваннямі, хаця б напрыклад, палымяным патрыятызмам, які натхніў чэха Вячаслава Ганку таксама «знайсьці» Краледворскі рукапіс, ці маларосa Срэзнеўскага, калі ён «знайшоў» казацкую думу пра Самко Мушкета. Агульнае ж правіла складаецца ў тым, што літаратурныя містыфікатары, таксама як усе пераймальнікі і стылізатары, бываюць маладымі. Макферсон (1738-1796) «адшукаў» паэзію Асіяна ва ўзросьце 22 гадоў ад нараджэння, Чэтэртон (1752-1770) падрабіў балады Роулэя на сямнаццатым годзе свайго жыцця».

ВЫСНОВЫ.

Такой неадназначнай выяўляецца гісторыя з'яўлення ў XV стагоддзі твораў Тацыта, але пад час гэтай жа эпохі (яшчэ раней Паджыо) быў знойдзены і Ціт Лівіі. Адзін із яго асобнікаў быццам бы быў знойдзены на Гіёне, адной з Гебрыдзкіх выспаў, у кляштары Сьвятога Каламбана, дзе хаваліся шатландзкія каралі. Гэты рукапіс быў разважліва вывезены туды, – паведамляў выдаўцам прапаноўваўшы ім яе на продаж, – шатландскім каралём Фергусам, яшчэ ў часы разрабавання Рыма Аларыхам і знаходзіўся там, старанна захоўваемы манахамі ад усяго сьвету на працягу амаль тысячагоддзя баючыся магчымасьці яго выкрадання – кім вы думаеце? – дацкімі непісьменнымі марскімі рабаўнікамі!

Але вось прыйшло XV стагоддзе з яго жарсным імкненнем да «старажытнай літаратуры», якая ўяўлялася тады нашмат больш мудрай і таленавітай чым новая, дзякуючы таму што ранейшае меркаванне грунтавалася на тым цверджанні, што

быццам бы чалавек быў самым адукаваным і таленавітым на пачатку свайго існавання і з тых часоў паступова зводзіўся. Гэта была гіпотэза ўсеагульнага дэкадансу, дыяметральна процілеглая сучаснай эвалюцыйнай тэорыі, і таму зразумела, што яна, як ілжывая, магла быць абгрунтавана толькі сістэмай апокрыфаў і падробак, якія і заквітнелі ў XV-XVI стагоддзях раскошнымі кветкамі незлічоных фальсіфікацый.

Але гэтая сістэма не магла трымацца ў строгай таямніцы, таму што ўслаўленыя ў якасьці старажытных славутасьцей сучасныя аўтары не маглі, калі-нікалі, ўстрымацца ад таго каб не пахваліцца ў асяроддзі сябраў тым, што вядомая ўсім кніга на самай справе з’яўляецца стварэнем іхнга ўласнага таленту.

У гэтым і была нагода недаверу сучаснікаў да ўвесь час «знаходзімых» тады рукапісаў, і нагода тых «песень», якія, згодна са словамі Паджыо, спяваліся наконт яго Тацыта і, відаць, так гучна, што «другі» яго рукапіс, напісаны, вядома, тым жа Паджыо, пабачыў сьвет толькі праз 80 гадоў пасьля першага, калі «песьні» дзядоў пра першы рукапіс былі ўжо забыты ўнукамі.

Падобны ж недавер сустрэў і рукапіс Ціта Лівія, знойдзены, быццам бы, на Гебрыдзкіх выспах. Ён быў прапанаваны ў бібліятэку французкага караля Франсуа I, але бібліятэкар паставіў пад сумнеў яго праўдзівасць, і кароль адмовіўся яго купляць. Само сабой зразумела, што падобныя акалічнасьці, суправаджаючыя знаходкі пад час Эпохі Адраджэння ўсіх без выключэнняў старажытных класічных аўтараў, прыводзяць да думкі, што ніякай класічнай эпохі ў старажытнасьці ніколі не існавала, і ўся еўрапейская вытанчаная, навуковая і гістарычная літаратура развівалася згодна з тымі ж натуральнымі законамі бесперапыннай эвалюцыйнай пераемнасьці без перыядаў знікнення і без перыядаў адраджэння падобна старажытнай птушцы Фенікс «з уласнага попелу», а наадварот, таксама пераемна ад пакалення да пакалення, як і астатняе жыццё чалавецтва.



Мал. 77
Гістарычнае снабачанне. Сьвятарка багіні Весты ў старажытным Рыме – вясталка (выява Каўфмана).

Але птушка Фенікс – міф, у якім бы сэнсе вы яго ні разумелі, і нічым, акрамя міфа, такая птушка не можа быць, таму што «ўсё жывое із яйка» і ніколі не ператвараецца зноў у яйка.

Нас імкнуцца запэўніць, быццам бы антычную культуру знішчылі не то варвары, не то хрысьціяне ці ісламіты, якія былі такімі ж варварамі. Я не збіраюся аспрэчваць тое, што яны былі варварамі з нашага сучаснага боку гледжання і што ў дачыненні да сучаснай вольнай навукі ўсе старажытныя аўтарытарныя рэлігіі з'яўляюцца бар'ерамі, якія даводзіцца з цяжкасьцямі пераадолець для таго, каб мэтанакіравана працягваць навуковыя дасьледаванні. Але чым далей я паглыбляўся ў прадмет гэтай сваёй працы, тым больш пераконваюся, што на пачатку свайго з'яўлення на сьвет ніводная рэлігія не была бар'ерам, а ў сваёй ідэалогіі з'яўлялася самай высокай праявай філасофскай думкі свайго часу.

Біблейская ідэя пра стварэнне сьвету за шэсць дзён нарабіла шмат зла, калі з'явілася сістэма Каперніка, але да яе з’яўлення яна адна давала адказ чалавеку на пытанне: як з’явілася ўсё на Сьвеце?

Нам паказваюць на ісламіцкіх і на хрысьціянскіх дэмагогаў, якія быццам бы спалілі перад сярэднімі стагоддзямі лепшыя бібліятэкі старажытнасьці, а я задаю пытанне: ды ці сапраўды існавалі самі гэтыя бібліятэкі?

Па дачыненні да ісламіцтва мы ведаем, што першыя халіфы не толькі не былі ворагамі, але апекунамі навук і літаратуры. Варта толькі згадацьпра усім вядомага Гарун-аль-Рашыда. Ці былі ворагамі навукі і літаратуры першыя хрысьціянскія імператары Візантыі? Варта толькі згадаць Юстыніяна. Нам кажуць пра захоп італійскага Рыма готамі, але мы не маем сведчанняў, што Тэадорых Вялікі, які заснаваў сваю сталіцу напачатку VI стагоддзя ў Равене, спаліў у ім нейкія кнігасховішчы.



Мал. 78
Гістарычнае снабачанне. Актавіян Аўгуст у латах (згодна з выявай, якая лічыцца антычнай).

Я не выказваю сумневаў у тым, што як хрысьціянская, так і ісламіцкая рэлігіі спачатку ўзвысіліся і набралі моц шляхам дэмагогіі, і што гэта суправаджалася рабаваннямі заможных станаў насельніцтва, ад якіх не былі здольнымі ўстрымаць натоўп сваіх дзікіх празелітаў яе ідэйныя кіраўнікі. Але паўстаўшыя рабы заўсёды хапалі залатыя і срэбныя рэчы, каштоўную мэблю і адзенне сваіх і чужых гаспадароў, а не кнігі, з якімі яны не ведалі, што рабіць.

Вядома, часовае знікненне із грамадзкай арэны культурных станаў пры рэлігійных рэвалюцыях непазбежна мела наступствам і часовае прыпыненне развіцця вытанчаных мастацтваў і самай высокай разумовай творчасьці, але гэтае прыпыненне не магло працягвацца больш чым некалькі дзясяткаў гадоў, на працягу

якіх асноўныя законы жыцця вылучалі із дзяцей былых рабаўнікоў, якія зараз зрабіліся дзякуючы самаму факту рабавання заможнымі, новай інтэлігенцыі, пераемна працягваўшай культурную працу ранейшай, загінуўшай: гэта асноўны закон устойлівасьці кожнага чалавечага грамадства. Ды і прыпыненне эвалюцыі не было адваротным рухам, а толькі спыненнем руху наперад, і прытым яно мела ўласьцівасць лакалізавацца ў вызначаным этнічным басейне, не пашыраючыяся на астатнія, больш высокія згодна са сваім культурным развіццём.

Як струмені вады маюць уласцівасць сцякаць з вяршынь гор у даліны, а потым у нізіны, так і рэлігійныя і ідэйныя плыні, а з імі і ўсе культурныя грамадзкія набыцці толькі тады набываюць хуткае пашырэнне ў асяроддзі ўсяго чалавецтва, калі яны пачынаюцца на вярхах культурнага жыцця дадзенага часу ў яе самых буйных цэнтрах і ад іх накіроўваюцца на перыферыю, а не наадварот. Гэта выразна заўважаецца на ўсім працягу новага часу і той часткі сярэдніх стагоддзяў, у дачыненні да якой мы маем праўдзівыя дакументы.

І, вось, нас пераконваюць, што ў часы старажытнасьці было наадварот... Але гэта так жа дзіўна для сучаснага розуму, выхаванага на прыродазнаўстве, як і цверджанне, што ў тыя часы рэкі цяклі калі-нікалі із нізін на вяршыні гор. Евангельскія бедныя рыбакі, як і сучасныя рыбакі ці нават кіталовы, не маглі вучыць розуму самых высокіх прадстаўнікоў сучаснай ім навукі і культуры, але гэтыя самыя высокія прадстаўнікі заўсёды мелі магчымасць выкарыстоўваць іх для здзяйснення пераваротy, калі закасьцянелыя перажыткі старога сьветапогляду ці ўладкавання рабіліся для іх перашкодай.

Так было і ў момант узнікнення хрысьціянства і ісламіцства напачатку сярэдніх стагоддзяў. А «Эпоха Адраджэння» была на самай справе – «Эпохай Зараджэння», але дзякуючы ўмовам рэлігійнага жыцця свайго часу і іншым нагодам, гэтае «зараджэнне» выявілася ў вельмі арыгінальнай форме – у апакрыфізме, г.азн. сістэматычным прыпісванні сваіх уласных твораў міфічным асобам старажытнасьці. Пра ўсё гэта я ўжо дастаткова разважаў у трэццім томе «Хрыста», робячы выснову, што і сама лацінская мова, на якой напісаны класічныя творы, з'яўляецца элінізаванай італійскай мовай і што гэтая «лацінская мова» ніколі не існавала ў якасьці мовы на якой размаўляла ўсё насельніцства нейкай мясцовасьці.

# Глава II.

## Падарожжа па старажытнай Элладзе «Заспакойваючага Нуду».

Вось перад намі дзесяцікніжнае «Падарожжа» Паўзанія[115], дзе ён апісвае выбітныя месцы Грэцыі, падзяляючы яе, як і пры існаванні феадальных лацінскіх дзяржаваў XIII стагоддзя, на: Атыку, Карынфіку, Лаконіку, Месенію, Іліду, Ахаю, Аркадыю, Беотыю і Факіду і дапаўняючы этнаграфічную частку пастаяннымі дадаваннямі фантастычнага характару.

[115] Я цытую з некаторымі папраўкамі грунтуючыся на грэцкім тэксце рускі пераклад гэтай кнігі: Паўзаній, «Апісанне Эллады ці падарожжа па Грэцыі ў II стагоддзі пасьля Н. Х.», з дадаткам артыкулаў: «Гісторыка-літаратурнае значэнне Паўзанія», «Кароткі нарыс гісторыі грэцкага мастацтва» і «Радаводныя табліцы элінскіх дынастый», пераклад Г. Янчэўскага 1889 г.

Імя Паўзаній азначае «Заспакойваючы Нуду»[116], і пра яго жыццё абсалютна нічога невядомае, акрамя таго, што можна знайсьці ў яго адзіным уласным творы[117].

Прафесар І. Шуберт у сваім артыкуле «Гісторыка-літаратурнае значэнне Паўзанія» выказваецца, што «не існуе іншага старажытнага пісьменніка, дзякуючы якому, як Паўзанію, мы былі б абавязаны такімі ведамі пра старажытную Грэцыю, пра яе рэлігійнае жыццё і мастацтва. Можна не задумваючыся сказаць, што без яго цэлыя краіны Грэцыі былі б для нас цалкам невядомымі. Некаторыя рэлігійныя звычаі і формы вераванняў нам перададзены толькі ім, і без яго наўрад ці б існавала гісторыя грэцкага мастацтва».



Мал. 79
Гістарычны сон. Сьмерць Архімеда, апошнімі славамі якога былі: «не чапай мае малюнкі!». (Із гістарычнай кнігі канца XIX стагоддзя.)

І, сапраўды, Паўзаній нябачна прысутнічае ва ўсіх сучасных творах пра класічную Эладу і не дарэмна яго завуць «Даведнікам па старажытнай Грэцыі». У яго рэзюмаваны ці проста паведамляюцца амаль усе сведчанні класічных аўтараў з дадаваннем яшчэ большага ад сябе; паведамляецца гісторыя шмат якіх месцаў, і прыведзены злучаныя з імі народныя мясцовыя легенды. Немагчыма не заўважыць, што аўтар не толькі перачытаў усё тое, што мы знаходзім зараз у класічнай літаратуры, але і сам наведаў большасць грэцкіх гарадоў свайго часу, дадаўшы да іх згодна са сваім крайнім разуменнем, як бачаныя самім, і тыя гарады і мястэчкі, пра якія дзе-небудзь чытаў. Спачатку гісторыкі шчыра верылі, што ўсе гэтыя

---

[116] Παυσ-ανιας – заспакойваючы нуду ці боль.

[117] Адзін час лічылі, што гэта – Паўзаній із Кесарыі, пра якога згадвае Філастрат, але пазней гэтая думка была прызнана неабгрунтаванай, таму што той Заспакойваючы Нуду быў рытарам, а не географам.

месцы пазней зніклі не пакінуўшы слядоў, а потым пачалі наогул сумнявацца ў праўдзівасьці Паўзанія. На прыканцы XIX стагоддзя з'явіўся, нарэшце, археолаг А. Кальман, прыват-дацэнт Берлінскага ўніверсітэта, які ў сваёй кнізе «Паўзаній-Даведнік»[118] дэталёва параўнаў яго апісанні з іншымі грэцкімі аўтарамі і цалкам разкрытыкаваў усю яго кнігу, рэзюмаваўшы, нарэшце, сваё дасьледаванне так:

«Паўзаній не выяўляе ні таленту, ні сумленнай працы. Ён, як і сучасныя праваднікі для замежнікаў, быў невукам горшага гатунку... Вусныя паданні, якія былі яго галоўнымі крыніцамі, не маглі не быць сумнеўнай вартасьці, а менавіта на гэтую неустойлівую глебу і абапіраецца твор, які ў класічнай археалогіі павінен быць кнігай кніг. Пацешымся ж такому адкрыццю і таму што навука пра помнікі старажытнай Грэцыі заснавана не на адных прымхах і самаволі нейкага позьняга, працаваўшага грунтуючыся на чутках сірыйца ці малазійца, вельмі сумнеўнага таленту, але адыходзіць у больш ранняе стагоддзе, калі яшчэ збіралі і дасьледавалі з непасрэдным жаданнем паслужыць праўдзе».

Так быў выкрыты Паўзаній у 1886 годзе ў Берліне, і не дзіўна, што большасць артадаксальных класікаў не падзялялі думку Кальмана. А тым часам яна заснавана на фактах і па сваёй сутнасьці з'яўляецца пярэднем і нашай высновы, што Паўзаній цалкам не старажытны пісьменнік, а яго кніга з’яўляецца вельмі позьнім апокрыфам, напісаным незадоўга да свайго друкавання.

З гэтага боку гледжання тлумачыцца і здзіўленні ўсіх ранейшых дасьледчыкаў яго кнігі.

«Якім чынам патлумачыць, – выказваецца, напрыклад, Шуберт, – што чалавек з такой стараннасьцю выконваючы рэлігійныя звычаі, вандруючы па Палестыне і Ягіпту, да дробязяў ведаўючы заходні бераг Малой Азіі, пабываўшы ў Рыме і зрабіўшы Грэцыю прадметам свайго апісання, нідзе не згадвае пра хрысьціянства, падарожнічаючы ў такі час, калі ў гэтых краінах было не мала вельмі вядомых хрысьціянскіх цэркваў? Гэтая з'ява такая дзіўная, што мы мімаволі, хаця і цалкам дарэмна імкнёмся дашукацца нагоды».

І гэтае здзіўленне Шуберта з’яўляецца цалкам зразумелым. Паўзаній з падрабязнасьцямі апісвае служэнні ўсім багам[119]; пачынае цэлае вандраванне ў Фрыгію дзеля Дэметры[120]; шкадуе пра тое, што спазніўся на адкрыццё храма Эўрымоны[121]; паведамляе, што на адлегласьці 50 стадыях ад зараз бязлюднага горада Ціменія Наўплія існуе крыніца Кінаф, «у якой кожны год, кажуць, купаецца Гера (Ἡρα), жонка Жывога бога (Зеўса па-грэцку), і выходзіць із яе вады зноў цнатлівай»[122]. Ён па сакрэту паведамляе нават рэлігійныя таямніцы, напрыклад, кажучы, што на выспе Эгіна, на самым высокім месцы стаіць «ледзь ўзвышаючыся над зямлёю ахвярнік Эакіёна, пад якім пахаваны Эак, але гэта – сьвятая таямніца!» (кн. II, § 29, 8). Згадвае пра жыдоў, паведамляе, між іншым, што ў «жыдоўскай зямлі, каля горада Іопы, каля самага мора, існуе крыніца з чырвонай вадой, нічым не адрозніваючайся колерам ад крыві, і дадае, што мясцовыя жыхары паведамляюць, быццам бы ў ёй Пярсей змыў з сябе кроў забітай ім марской пачвары пры выратаванні дачкі Цэфея»[123]. А вось, пра хрысціянаў у яго ні слова,

---

[118] Dr. A. Kalkmann: Pausanias der Periget. Untersuchung uber seine Schriftstellerei und seine Quellen. 1886.
[119] Гл. Kruger: Theologumena Pausanie. 1860 г.
[120] Паўзаній, VIII, § 42, 11.
[121] Там жа, VIII. 41. 6.
[122] Там жа, II, 32, 2.
[123] Там жа, IV, § 19, 1.

хаця выпадкова аўтар ужывае адно выказванне, характэрызуючае яго мову, як мову хрысьціянскага пісьменніка.

«Калі спартанцы, – паведамляе ён, – кінулі Арыстадэма ў глыбокі падземны правал Кеаду, да яго падляцеў арол і асьцярожна апусьціў яго на дно. Потым туды праз нару залезла лісіца, і ён, схапіўшы яе за хвост, быў выцягнуты ёю на паверхню. Ён вярнуўся ў Афіны, і гэта здалося спартанцам такім жа неверагодным, як калі б хто сказаў, што ён ажыў із памёршых».

Але ж выказванне «ажыў із памёршых» з’яўляецца спецыяльна хрысьціянскім, пашырыўшымся із вялікоднай літургіі. Атрымліваецца, што аўтар быў хрысьціянінам і толькі робіць выгляд, што нічога не ведае пра існаванне сваёй рэлігіі.

Я не знайшоў у Паўзанія астранамічных указанняў, даючых магчымасць вызначыць яго час, але ў II кнізе (§ 1, 2) ён выказваецца, што горад Карынф быў «адноўлены» царом, «які даў Рыму яго сучасная выгляд», а ў V кнізе (§ 1, 2), што «з часу атрымання карынфянамі іхнай зямлі ад рымскага цара да сучаснасьці прайшло 217 гадоў».

Лічачы «цара» за Юлія і дапасаваўшы «аднаўленне» Карынфа да мінус 43 года, Вестэрман вызначыў час напісання V кнігі Паўзанія роўны 217 году нашай эры. З нашага боку гледжання, атаясамляючага Юлія Цэзара з Канстанцыям Хларам (306 г.), гэта ўжо прыпадае на 523 год нашай эры, г.азн. на час імператара Юстыніяна. Але ці маем мы нейкія падставы атаясамляць цара, даўшага Рыму сучасны выгляд, з Юліем Цэзарам? Вядома, ніякіх.

Дык дасьледуем жа і гэтую кнігу грунтуючыся на яе сутнасьці і без наданняў.



Мал. 80
Гістарычнае снабачанне: «Жыццё ў старажытнай шчасьлівай, пастухоўскай Аркадыі», Выява Пусена.

Каб скласьці ўяўленне пра прыёмы выкладання, характэрызуючыя разглядаемую кнігу, разгледзім перадусім апісанне ў ёй знакамітай у класікаў пякельнай ракі Стыкс:

«*Калі із Фенэя ісьці на захад, г.азн. на заход Сонца, то левая дарога вядзе ў горад Нанакрыс і да вады ракі Стыкс. Нанакрыс пад час старажытнасьці быў аркадзкім умацаваннем і атрымаў сваю назву ад імя жонкі Лікаёна. Пры мне ад яго засталіся толькі парэшткі, ды і тыя дрэнна бачныя. Недалёка ад гэтых парэшткаў знаходзіцца высокі абрыў скалы, такой вышыні, якую я яшчэ не бачыў. Із гэтага абрыва капае вада, якую грэкі завуць «вадой Стыкса*».

*Паэт Гезіад у сваёй паэме «Боганараджэнне»* (Феагонія), – *калі толькі яна належыць Гезіаду! – паведамляе, што Стыкс* (г.азн. Затаўраваная рака) *была дачкой Акіяна і жонкай волата Землеўстрасальніка*». *Тое ж самае паведамляе і паэт Лін*[124]. *Я чытаў яго вершы і знаходжу іх падробленымі. Але і крыцянін Настойлівы* (Эпіменід) *сведчыць, што Стыкс была дачкой Акіяна, толькі сужыцелька не Землеўстрасальніка* (Паланта), *а нейкага Полымякідацеля* (Паланта*), ад якога нарадзіла Яхідну, не згараючую ў полымі*.

*Гамер, – працягвае аўтар, – асабліва часта ўжываў найменне Стыкс.*

*– Ды будуць мне сведкамі гэтая зямля і шырокае неба, і капаючая вада Стыкса, –* знаходзім мы ў яго.

*Відавочна, Гамер выказвае гэта так, як калі б сам бачыў тутэйшую капаючую ваду Стыкса. Пры пералічэнні паплечнікаў Гунея ён паказвае, што вада ракі «Заклад Адплаты»* (Тытарысія) *цячэ са Стыкса, а далей сцвярджае, што і ў пекле ёсць вада Стыкса. Так у яго афінская Цнатлівая панна*[125], *нагадваючы богу-Бацьку, што толькі дзякуючы ёй Геркулес здзейсніў вычыны, прызначаныя яму «Богазнайшоўшым*» (Эўрысфеем), *выказваецца*:

*Калі б я гэта наперад ведала сваім прарочым сэрцам, што «Богазнайшоўшы» пасылаў яго да добра замкнёных дзьвярэй Пекла, каб са змрочнай апраметнай вывесьці Пякельную Сабаку*[126], *то не выратаваўся б ён ад жудасных хваль Стыкса.*

*Тая вада, якая капае са скалы, што каля Нанакрыса, ільецца на іншую высокую скалу, потым знікае пад ёю і зліваецца з ракой Магутнай* (Кратыда). *Яна мае тую ўласцівасць, што прыносіць сьмерць выпіўшаму яе ваду чалавеку і кожнай іншай жывой істоце. Кажуць, што калі, аднойчы, козы напіліся яе вады, то ўсе здохлі. Пазней былі заўважаны і іншыя асаблівасьці гэтай ракі. Кожная шкляная пасудзіна, фарфоравая і нават каменная, і кожная гліняная рэч разрываецца ад вады Стыкса, а рогавыя і касьцяныя вырабы, жалеза, медзь, свінец, волава, срэбра і бурштын, бываюць раз'ядамыя ёю. Тое ж самае здараецца і з золатам, хаця лесбаская паэтка* (мал. 81) *і кажа, што золата не пакрывае ніякая іржа, і хаця гэта пацдверджваецца і самім золатам*.

---

[124] Г. азн. рыбак, ад λινεύς – вудзячы рыбу; імя Гезіад азначае спявак Ізіды, рака Стыкс азначае Затаўраваная, а грэцкае Палант (адкуль і Палантына ў Італіі) я вывожу ад πάλλω – вагаю, скалынаю, у дадзеным выпадку: землескалынаю.

[125] Атэнайя – па-грэцку.

[126] Пазначу, што гэтая легенда моцна нагадвае Арыён, спускаючыся пад гарызонт, каб вывесьці адтуль на сьвітанні сузор'е Вялікага Сабакі, пры гэтым Стыксам у гэтым выпадку выяўляецца сузор'е ракі Эрыдан.



Мал. 81
Гістарычнае снабачанне: Герма грэцкай паэткі Сафо, «дзясятай музы», нарадзіўшайся на выспе Лесбас у Мітыленах каля 500 года да пачатку нашай эры і стварыўшай сапфічны верш (узор скульптуры часоў латынізаванай Грэцыі XIII-XV стагоддзяў нашай эры, лічымай за старажытную антычную статую).

*Аднак самым простым рэчам бог часам надае магутнасць і славу рэчаў выдатных. Воцат, напрыклад, растварае жэмчуг, а казіная кроў, размякчае нават дыямент – самы цьвёрды камень. Такім жа чынам і вада Стыкса няздольная распусьціць конскі капыт. Калі ў капыт наліць гэтую ваду, то яна затрымліваецца ў ім і ані не раз'ядае яго. Кажуць, што і Аляксандр, сын Піліпа, быў атручаны вадой Стыкса, але ці так гэта, я не ведаю*».

Такімі, тыповымі сярэднявечнымі з'яўляюцца ўяўленні ў «вандраванні Паўзанія па Грэцыі», малюючы, як мы бачым, менавіта тую Грэцыю, якая існавала падчас мазаікі Феадальных лацінскіх дзяржаваў, узнікшых у XIII стагоддзі нашай эры на Ўсходзе, а не легендарную Элладу аркадзкіх пастушкоў. Нават у кнізе пра саму Аркадыю, ён выказвае цалкам не аркадзкае[127]:

«*У жыдоў, у Саліме, у тым самым горадзе, які быў дашчэнту разбураны рымскім імператарам, знаходзіцца магільня нейкай жыдоўкі Алены* (верагодна, Прыгожай Алены, таму што па-жыдоўску такое імя адсутнічае). *Дзьверы гэтай магільні, зробленыя із каменя, таксама як і іншыя яе часткі, раз на год пад час аднаго і таго ж дня і часу, – з дапамогай вядомага механаізму расчыняюцца самі сабой і потым, праз некаторы час, зноў зачыняюцца на год. А калі б хто пажадаў зрабіць гэта самавольна, то хутчэй змог бы разбурыць, чым расчыніць яе магільню*»

[127] Кн. VIII, § 16. 5.



Мал. 82
Гістарычнае снабачанне: Асклепій (Ασκλεπιος – Эскулап), сын Апалона і Караніды, бацька лекараў, вучань Цэнтаўра Хірона, ажыўшы із памёршых. Забіты маланкай Зеўсам, пасьля скаргі Плутона і далучаны да багоў. (Узор скульптуры часоў латынізаванай Грэцыі XIII-XV стагоддзяў, лічымай за старажытны антычны твор.)

Гэтую Алену, згодна са словамі аўтара, лічаць, у давяршэнне астатніх нечаканасьцей, за жонку «асірыйскага цара», сучасніцай імператара Клаўдыя, якая шчодра даравала «ерусалімскаму» храму, якога тады, як мы ўжо ведаем, яшчэ і не было ў Палестынскім Эль-Кудсе.

Каб вызначыць час жыцця «Заспакаіцеля Нуды», між іншым, выкарыстоўвалі і тое, што ў сваёй кнізе[128] ён выказваецца пра Антаніна Набожнага. Але ён атаясамляе яго (можаце сабе ўявіць!) з выгнаўшым маўраў із Яўропы, што адбылося ў XV стагоддзі нашай эры!

Прачытайце толькі наступнае месца:

«*Кажуць, што нехта Добры чалавек (па-грэцку Эвандр) быў сынам Гермія і німфы, дачкі Ладона. Выпраўлены на высяленне з войскам із палантыйскіх аркадзян, ён, каля ракі Тыбр, заснаваў горад Паллантый, які пазней склаў частку Рыма, і толькі пазьней із яго імя згубілася адно "л" і адно "н" і ён стаў звацца Палатынам. Вось гэта* (?) *і было падставай літасьцівага стаўлення імператара Адрыяна да Палантына. Ён шмат спрыяў палантыйцам, не быў пачынальнікам ніводнай вайны згодна з ўласным жаданнем і пачынаўшых яе строга караў. Такім чынам, калі пачалі вайну маўры, вельмі шматлікае і незалежнае качавое лівійскае племя, яшчэ больш ваяўнічае, чым украінцы* (скіфы), *бо жывуць не ў павозках, а заўсёды на конях, – і самі, і іхныя жонкі, – Антанін прагнаў іх цалкам із краіны* (із Гішпаніі!) *і вымусіў бегчы ў крайнія мясцовасьці Лівіі, да гары Атлант і да прыатлантычных жыхароў. Дакладна так жа ён забраў вялікую*

[128] Кн. VIII. 43. 2.

*частку зямлі ад брытанскіх піратаў* (брыгантаў), *якія са зброяй у руках нападалі на належаўшую Рыму Генуэзскую вобласць. А калі жахлівы землятрус спустошыў лікійскія і карыйскія гарады Кос і Радос, імператар Антанін не шкадаваў выдаткаў і намаганняў дзеля іхнага аднаўлення. Пра шчодрасць, з якой ён дапамагаў маючым патрэбу грэкам і варварам, і пра яго велічэзныя пабудовы ў Элладзе, Іёніі, Карфагене і Сірыі, пісалі ўжо іншыя з дастатковай падрабязнасьцю. Але ён пакінуў па сабе яшчэ вось якую памяць. Згодна з законам, тыя грэкі, якія лічыліся лацінскімі грамадзянамі, не мелі права перадаваць сваю маёмасць дзецям, калі іхныя дзеці жылі ў грэцкіх гарадах, а павінны былі перадаваць чужым ці ў царскі скарб. Імператар Антанін скасаваў гэты закон і дазволіў грэкам перадаваць спадчыну дзецям, таму што кіраваўся больш чалавекалюбствам, чым выкананнем закона, карыснага толькі для абагачэння скарбу. Рымляне назвалі яго набожным за яго асаблівую рэлігійнасць, а на маю думку, ён быў годным насіць нават і імя Кіра Старэйшага, якога назвалі бацькам* (Кір па-грэцку азначае бог, валадар).



Мал. 83

Гістарычнае снабачанне: Антычны бюст грэцкага філосафа Сакрата, жыўшага быццам бы яшчэ за 470 гадоў да пачатку нашай эры ў Афінах.

*Спадкаемцай свайго царства Антанін пакінуў аднайменнага яму сына Антаніна Другога. Гэты Антанін утаймаваў сваёй зброяй германцаў, распачаўшых з ім вайну і ўціскі, хаця яны былі самым ваяўнічым і шматлікім варварскім племем у Яўропе, а таксама ён утаймаваў і племя сарматаў*» (палякаў).

На падставе гэтага апавядання і лічаць Паўзанія жыўшым пры сыне Антаніна Набожнага, на падставе таго, што больш познія імператары ў яго не згадваюцца.



Мал. 84
Гістарычнае снабачанне: Гіпарх, бацька астраноміі, адкрыўшы раўнадзенствы яшчэ задоўга да ўсталявання юліянскага календара, паміж 190-125 гг. «да Н. Х.».

Але калі нават мы і атаясамім, як зрабілі ў першай нашай кнізе, Антаніна Філосафа з Валентыніянам III (444-455 гг.), то ўсё ж не будзем у стане дапасаваць разглядаемую намі кнігу да V стагоддзя нашай эры, на той простай падставе, што аўтар цытуе амаль усіх апакрыфічных пісьменнікаў, пачынаючы з Арыстафана, Сафокла і Эсхіла і заканчаючы Герадотам, Фукідыдам і нават Платонам. Да гэтай жа высновы прыводзяць і некаторыя этнаграфічныя месцы яго кнігі.



Мал. 85
Гістарычнае снабачанне: Старажытна-ягіпецкі цар Пталямей Браталюб, пасяліўшы навукі ў Ягіпце яшчэ быццам бы за 285-247 гадоў да пачатку нашай эры.

Вось, напрыклад, урывак пра ўварванне французаў у Грэцыю (нагадаем, што французы і зараз па-грэцку маюць назву галы і галаты):

«*Галаты* (французы) *жывуць на самым краю Яўропы, каля вялікага і недасягаемага да канца мора, маючага прылівы і адлівы, і вырабляючага звяроў цалкам непадобных на існуючыя ў іншых морах. Праз іхную краіну працякае рака Эрыдан,* (зараз рака Па ў Ламбардыі), *на якой, згодна з паданнямі, дочкі Сонца* (Геліяса) *аплакваюць лёс свайго брата Метэора. Галатамі іх пачалі зваць пазьней, а спачаку яны называлі сябе, як і іншыя іх звалі, кельтамі* (франкамі).

*Із іх сабралася войска і, накіраваўшыся да Іанійскага* (Адрыятычнага) *мора, яны пакарылі ілірыйскі народ і ўсе плямёны аж да Македоніі, потым пакарылі македанянаў, і зрабілі набег на Фесалію. Калі яны былі ўжо недалёка ад Фермапілаў, усе эліны, вельмі ўзрушаныя некалі Аляксандрам, а яшчэ раней Пілірам, і пазьней зноў абрабаваныя Антыпатрам і Касандрам, спакойна глядзелі на наступленне варвараў, і бяручы да ўвагі сваю немач нітрохі не лічылі ганебным для сябе не бараніцца*».

Чытач, знаёмы з гісторыяй крыжовых паходаў, сам, вядома, бачыць, што тут апісваецца заваёва Балканскай паўвыспы французкімі рыцарамі, а калі паглядзіць далей, то знойдзе і апісанне пасялення гэтых рыцараў у Малой Азіі і Сірыі.

«*Але афіняне,* – працягвае ён, – *не гледзячы на тое, што больш за ўсіх элінаў былі знясілены працяглай вайной з Македоніяй і зведалі шмат цяжкіх параз, усё ж вырашыліся выправіцца ў Фермапілы з прыбыўшымі грэкамі і для гэтага абралі правадыром Каліпа. Заняўшы самую вузкую частку праходу ў Элладу, яны доўга стрымлівалі варвараў; але*

*французы знайшлі тую самую сцяжынку, па якой некалі правёў мідыйцаў трахінянін Эфіалт і, паціснуўшы стаяўшых тут факійцаў, непрыкметна для іншых грэкаў перайшлі раку Эту. Афіняне, аточаныя з абодвух бакоў, выявілі сябе годнымі свайго імя і па-геройску адбівалі варвараў*».

*Асабліва цяжка даводзілася быўшым на караблях, таму што Ламіакскі заліў пры Фермапілах, уяўляе сабой балота (падставай чаго, на маю думку, з'яўляецца зліваючаяся тут з морам цёплая вада). Прыняўшы на палубу выратаваўшыхся эллінаў, яны былі вымушы плыць па гэтаму балоту з караблямі, нагружанымі зброяй і людзьмі. Так афіняне ратавалі грэкаў!*

*Тым часам французы* (галаты) *сталі па гэты бок Фермапілаў і, лічачы ўжо не маючым значэння для сябе заняцце астатніх паселішчаў, паспяшаліся, галоўным чынам, у Дэльфы – абрабаваць скарбы Загубленага бога* (Апалона па-грэцку). *Але тут супраць іх выступілі дэльфійцы і жыўшыя каля Парнаса факейцы; прыйшло войска і ад этолаў, юнакі якіх у тыя часы асабліва вызначаліся вайсковым гераізмам. А калі справа дайшла да рукапашнай бітвы, раптам у французаў стукнула маланка, з Парнаса паляцелі камяні, і перад варварамі паўсталі тры ўзброеныя мужы-страшыдлы. Гэта, кажуць, былі: два ад гіпербарэяў* (г.азн. жыхароў паўночных палярных краін) *– Гіперох і Амадок, а трэцці – Полымя* (Пір), *сын Ахіла. За такую дапамогу дэльфійцы з гэтага часу пачалі намінальна ўшаноўваць Полымя* (Піра*), а раней яго магільня заставалася занядбаній, як варожая.*



Мал. 86

Гістарычнае снабачанне: Гулянне сярод статуй у шчасьлівай Грэцыі. Выява Альма-Тадэма.

*Галоўнае войска французаў перапраўілася тады ў Малую Азію, і пачало рабаваць узбярэжжа да таго часу, пакуль жыхары Пергама, старажытнай Тэўфраніі* (г.азн. туркі), *прагналі іх ад мора далей у сучасную Галатыю, дзе яны за р. Сангары захапілі фрыгійскі горад Анкіру* (Якар) *і там пасяліліся. Горад Анкіра быў заснаваны сынам Гордзія – Мідай, а той якар, які знайшоў Міда, яшчэ ў мой час знаходзіўся ў храме Жывога бога* (Зеўса); *там жа і вядомая крыніца Міда, у якой, згодна з паданнем, Міда перамяшаў ваду з віном, каб злавіць Сірэна. Акрамя Анкіры, яны захапілі яшчэ Песінунт, што пад гарой Агдзістыс, вядомы магільняй Ата*».



Мал. 87
Гістарычнае снабачанне: Разгляданне каштоўных упрыгожванняў у шчасьлівай старажытнай Грэцыі. Выява Альма-Тадэма.

Але ж гэта, чытач, апісаны ўвесь трэцці і чацьвёрты крыжовыя паходы! Гэта азначае кніга закончана не раней XVI стагоддзя і таму зразумела, што аўтар ужо быў знаёмы з усімі «класічнымі» пісьменнікамі Эпохі Адраджэння.



Мал. 88
Гістарычнае снабачанне: Вечаровая размова ў шчасьлівай старажытнай Грэцыі. Выява Бакаловіча.

А далей «Заспакойваючы Нуду», г.азн. Паўзаній па-грэцку[129], ці яго намесьнік, шматслоўна паўтарае ўсё вышэйсказанае, надаючы французкім вайскавым правадырам імёны: Волгій, Врэн, Камбаўл, Керфорый і Акіфорый, фанетычна цалкам немагчымыя ні на адной із заходне-еўрапейках моваў. І калі апошнія два імёны – Керфорый і Акіфорый мы можам палічыць за іхныя грэцкія найменні Трубаносец і Дзіданосец, то першыя тры магчыма вывесьці толькі ад славянскіх словаў: волга, варона і камбала. Дзякуючы ўжо гэтаму аднаму ўсё апісанне «Заспакойваючага Нуду» губляе характар гістарычнасьці.

Але калі гэтая кніга належыць нават і Эпосе Адраджэння, то наколкі рэчаісна яна апісвае тагачасны стан Эллады? Мы ўжо бачылі гэта на пыкладзе фантастычнага апісання ракі Стыкс, а калі чытачу мала, то вось яшчэ ўзор заалагічных уяўленняў аўтара.



[129] Кн. X, § 23, 4.

Мал. 89
Гістарычнае снабачанне: Малады нявольнік забаўляе сваю гаспадыню граннем на ліры. Выява Бакаловіча.

«*Некаторыя лічаць,* – выказваецца ён, – *што ў сланоў выходзяць із пысы не рогі, а зубы. Такія людзі хай паглядзяць на келтыйскіх ласёў ці на эфіёпскіх быкоў! У ласёў самцоў рогі растуць на бровах, а ў самак яны наогул адсутнічаюць, ды і у эфіёпскіх быкоў рогі растуць на насу. Што ж дзіўнага, калі рогі вырастуць і з вуснаў? Дакладна вядома таксама што на працягу вядомых гадоў рогі спадаюць і зноў вырастаюць, напрыклад, у аленяў, дзікіх коз і іншых. Тое ж самае бывае і ў сланоў. Але ніколі не бывае, каб зубы другі раз вырасталі ў дарослай жывёлы. Якім жа чынам яны б вырасталі ў слана, калі б гэта былі не рогі, а зубы? Нарэшце, зубы не паддаюцца нават полымю, тады як рогі быкоў і аленяў набываюць на вогнішчы якую заўгодна форму; плоскую, круглую, і інш. Мы ведаем, што ў рачных коней і свіней іклы вырастаюць із ніжняй сківіцы, але не ведаем, каб рогі ў каго-небудзь вырасталі са сківіц. А ў слана,* – ды будзе ўсім вядома, – *рогі ідуць ад скроняў уніз і потым выходзяць вонкі. Гэта я паведамляю грунтуючыся не на чутках, а таму што сам бачыў чэрап слана ў Кампаніі, у храме Бязгрэшнай* (па-грэцку Артэміды), *амаль у 30 стадыях ад Капуі, галоўнага-гарады Кампаніі*».

Не менш цікавымі з’яўляюцца ў яго і некаторыя іншыя апісанні жывёл.

«*Трытоны,* – паведамляе ён, – *маюць такі выгляд: на галаве валасы колеру балацянай жабы, і прытым такія, што адзін волас немагчыма аддзяліць ад іншага: усё цела пакрыта тонкай луской, як у рыбы спіна. Пад вушамі жабры, нос як у чалавека, рот шырэй, а зубы як у дзікіх звяроў. Іхныя вочы, здаецца, блакітныя, маюцца і рукі, і пальцы з пазногцямі нападобе ракавін; ад грудзей і жывата ідзе хвост замест ног, як у дэльфінаў. Я бачыў і эфіёпскіх быкоў, якіх правільна завуць насарогамі, таму што на заканчэнні носа ў кожнага існуе рог і над ім другі, невялікі, а рагоў на галаве цалкам няма. Бачыў я і пеонскіх быкоў, пакрытых густой поўсьцю, асабліва каля грудзей і падбародка. Бачыў і індыйскіх вярблюдаў, у якіх колер поўсьці падобных на барсавы.*



Мал. 90
Рэчаісны від трытонаў. Triton palmatus.



Мал. 91

Рэчаісны від трытонаў. Triton taeneatus.

«*Існуе жывёла, якая мае назву алкі, на выляд яна не то алень, не то вярблюд, і жыве ў нямецкай зямлі. Із усіх жывёл, вядомых чалавеку, аднаго алкі немагчыма высачыць ці падпільнаваць. Толькі хіба калі бывае паляванне на іншых звяроў, бог прывядзе і яго ў рукі паляўнічых. Яна, кажуць, чуе чалавека на вельмі далёкай адлегласьці і хаваецца ў ярах і ў самых глыбокіх пячорах. Таму палюючыя на яго, атачыўшы раўніну не менш чым на 100 стадый, ці гару, імкнуцца не разарваць кола, а ўсё больш і больш сціскаючы прастору, аглядаюць усё, што ёсць у сярэдзіне кола, а разам з тым і алкі. Але калі там яго не знаходзіцца, то няма ніякай магчымасьці злавіць яго інакш.*

*Той звер, пра якога згадвае Ктэсій у апавяданнях пра індусаў, і які па-іхняму мае назву мартыёра, а па-грэцку людаед* (андрафаг), *на маю думку, з'яўляецца тыграм. Згодна са словамі Ктэсія, у яго ў кожнай сківіцы тры шэрагі зубоў, а на канцы хваста некалькі джалаў. Сваімі джаламі ён быццам бы бароніцца і кідае іх ад сябе, як стралок стрэлы. Гэтаму паданню Ктэсія я цалкам не веру, і мне здаецца індусы самі яго прыдумалі праз вялікі жах перад такім зверам. І на конт колеру яны памыляюцца, лічачы яго чырвоным, напэўна, толькі таму, што, калі глядзець на тыгра пры заходзе сонцы, то ад шпаркасьці бегу ці ад пастаянных рухаў, ён, сапраўды здаецца чырвоным і аднаколерным, тым больш, што не паказваецца блізка.*

*Наогул я думаю, калі б нехта дайшоў да крайніх межаў Лівіі ці Індыі, ці Аравіі, каб паглядзець там на жывёл, якія звычайна насяляюць Грэцыю, то не знайшоў бы іх там цалкам, ці яны б мелі там цалкам іншы выгляд. Адрозненні паветра і глебы вырабляюць адрозненні ў выглядзе не толькі чалавека, але і ўсяго астатняга. Так, лівійскія вужы маюць такі ж колер скуры, як і ягіпецкія, але эфіёпскі клімат вырабляе чорных вужоў такіх жа, як і тамтэйшыя людзі. Гэта азначае: да незвычайнага патрэбна ставіцца, з аднаго боку, не вельмі легкаверна, а з другога – без асаблівага недаверу. Так і я, хаця і не бачыў крылатых змеяў, аднак, веру, што яны існуюць, таму што адзін фрыгіец прывёз у Іёнію скарпіёна, у якога былі крылы цалкам такія ж, як у саранчы*»[130].

Я не буду рабіць далейшых выпісаў із «Заспакойваючага Нуду». Я думаю, што і гэтымі нешматлікімі цытатамі нуда ўжо дастатковая заспакоена ў чытача.

Уся вялізная кніга Паўзанія напоўнена міфічнымі паданнямі і апісаннямі розных «помнікаў старажытнасьці», і з яе вельмі шмат бралі навейшыя аўтары «класічнага перыяду Эллады». Яна мае каштоўнасць у якасьці ўзору уяўленняў, склаўшыхся пра старажытнае жыццё хутка пасьля вынаходніцтва друкарства ў Яўропе, але ніяк не ў якасьці дакумента II стагоддзя, якім яна ніколі не была.

Мы бачым тут толькі ідэі Эпохі Адраджэння. А знаёмства аўтара з класічнай літаратурай, із якой ён запазычыў сваіх апісанняў нашмат больш, чым із уласных падарожжаў, проста здзіўляе. Ён жа цытуе каля 160 псеўда-старажытных аўтараў і, за выключэннем апісак, цытуе іх у той самай рэдакцыі, у якой яны былі надрукаваны!

Усё гэта прыводзіць да высновы, што Паўзаній жыў ніяк не раней XVI стагоддзя нашай эры, калі класічныя творы ўжо былі паўсюдна пашыраны па Заходняй і Паўднёвай Яўропе з дапамогай друкавальнага стану. Інакш ён ніякім чынам не змог бы так добра азнаёміцца з імі ўсімі.

# Частка пятая.

[130] Багамол? У павуковападобных крылаў ніколі не бывае. (Заўвага перакладчыка)

Рэчаісны пачатак горада Рым.



Мал. 92
Парэшткі храма Багіні Мудрасьці (Minerva Medica), дзе, «лічыцца (cosi creduto)», была знойдзена знакамітая статуя гэтай багіні.

# УСТУП.



Мал. 93
Маўзалей у Равене, лічымы за магільню Тэадорыха Гоцкага (памёр 526 г.), заснавальніка Остгоцкага каралеўства ў Італіі.

Калі аднаму са знакамітых прыродазнаўцаў XIX стагоддзя задалі пытанне, чаму ён, будучы чыстым рэалістам і эвалюцыяністам, не дапускаючым ніякіх цудаў у прыродзе, штотыднёва ходзіць ў царкву, дзе ўсё поўніцца супрацьлеглымі настроямі, ён адказаў:

– Калі я пераступаю парог царквы, я забываюся пра свой навуковы кабінет, а калі пераступаю яго парог я забываюся пра царкву.

Але калі падобны падзел рэлігіі і навукі і быў яшчэ дамэтным для навукоўца XIX стагоддзя, то ён фактычна немагчымы зараз, асабліва для гісторыка. **Гісторыя навуковай думкі чалавецтва пад час старажытнасьці не можа быць разглядаемай па-за яе сувяззю з тагачаснымі рэлігійнымі ўяўленнямі**, і наадварот: **развіццё рэлігійных уяўленняў не можа быць дасьледавана па-за яго сувяззю з гісторыяй тагачасных навук.** Абодва гэтыя працэсы ўвесь час перапляталіся адзін з адным, як дзьве вяроўкі ў адным ліну, вабячы чалавецтва ўсё далей наперад і наперад.

Плаціна паміж храмам і ўніверсітэтам, гэтымі двума караблямі псіхічнага жыцця чалавецтва, плыўшымі некалі побач у блакітную далечыню таго ж самага бясконцага мора, пачала будавацца толькі з часоў вымушанага каталіцкай царквой адрачэння Галілея ад створанага Капернікам вучэння пра вярчэнне Зямлі вакол Сонца і спалення жывым Джардана Бруна на вогнішчы за адмову адрачыся ад гэтага ўяўлення. Гэтая плаціна ўсё надбудоўвалася і падаўжалася да гэтага часу, але далейшае яе павелічэне ўжо фізічна немагчыма, і яна павінна быць разабрана зараз, хаця б гэта і пагражала катастрафічнай паводкай і крушэннем таго карабля, які дзякуючы ёй выявіўся плывучым на шмат больш нізкім узроўні.

Без знішчэння гэтай плаціны, якая і сама пачала стыхійна прарывацца ва ўсіх накірунках, немагчыма далейшае развіццё ні рэчаіснай навуковай думкі, ні рэчаіснага рэлігійнага пачуцця, як адной із праяваў усьведамлення свайго адзінства з атачаючай прыродай, бясконцым сусьветам.

І ўсё імкненне сучаснага навукоўца павінна быць накіравана толькі на тое, каб надаць хуткай, і ўсё адно непазбежнай катастрофе, ці, дакладней, рэвалюцыі ў вобласьці рэлігійнага пачуцця, найменш небяспечны характар.

З гэтым настроем я і прыступаю зараз да выкладння рэчаіснай гісторыі вялікага рэлігійнага цэнтра Заходняй Яўропы і ўсяго каталіцкага сьвету – яго «Вечнага Горада», Рыма, да якога, згодна са словамі сярэднявечных пілігрымаў, вядуць усё дарогі.

# Глава I.

## На мяжы паміж фантазіяй і рэчаіснасьцю.

У аддзеле «Гістарычныя разважанні» я ўжо дастаткова паказваў на тое, што італійскі горад Рым дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу ніколі не мог быць цэнтрам магутнай імперыі, а толькі цэнтрам заходне-еўрапейскага інтэлектуальнага жыцця, і гэта ж нам навочна зараз пкажа ўся яго сярэднявечная гісторыя.

Маючы намер хоць неяк перайсьці праз бяздонную прорву паміж чароўнай казкай пра старажытны магутны Рым і рэчаісным італійскім Рымам, узнікшую падчас сярэдневечча і існуючую да сённяшняга дня, адзін із самых грунтоўных яго

гісторыкаў – Фердынанд Грэгарэвіус[131] будуе паміж абодвума наступны паветраны мост:

«*З таго часу,* – выказваецца ён[132], – *як дзяржава готаў закончыла сваё існаванне, антычны лад Італіі і Рыма* ***цалкам знік****. Законы, помнікі і нават гістарычныя ўспаміны, – усё было аддадзена забыццю. Храмы ператварыліся ў развалiны; невялікую частку ранейшага імператарскага палаца займаў візантыйскі герцаг* (dux)*, які-небудзь еўнух двара грэцкага імператара ці напалову азіяцкі вайскавы правадыр з сакратарамі, слугамі і вартай. Велічныя форумы цэзараў і рымскага народа адышлі ў вобласць паданняў. Тэатры і вялізны* (Circus maximus) *былі завалены смеццем і зарасьлі травой; неабсяжныя тэрмы імператарскіх часоў, не забяспечваючыяся вадой і ўжо больш не выкарыстоўваўшыяся па свайму прызначэнню, былі падобнымі на спустошаныя і пакінутыя гарады, паўсюль абросшыя плюшчом.*

*Мы не ў стане перанесьціся ў душы рымлянаў часоў Нарзэса, візантыйскага вайскавода, прагнаўшага готаў із Італіі ў 554 годзе нашай эры і перажыць тыя пачуцці, якія адчуваў гэты рымлянін, калі ён блукаў па паміраючаму Рыму і бачыў, як разбураюцца ці ўжо ляжаць разбуранымі праславіўшыяся на ўвесь сьвет помнікі старажытнасьці, незлічоныя храмы, аркі, тэатры, калоны і статуі. Колькі б мы ні спрабавалі аднавіць выяву таго спусташэння, якое зьведаў Рым следам за катастрофай, напаткаўшай яго ў прамежак ад 541 да 552 года пры остгоцкім заваяванні Татылай, утварыўшым для яго цэлую эпоху, і потым пад час першапачатковага панавання візантыйцаў, калі рымскі народ,* ***налічваючы нікчэмную колькасць людзей****, гінучы ад голаду і чумы, уціскаемы ламбардцамі, як бы загубіўся на велічэзнай прасторы горада цэзараў, – мы не ў стане аднавіць гэтую выяву ва ўсім яе жахлівым змроку.*

*Як казурка ператвараецца ў лялечку, так Рым дзіўным чынам ператварыўся ў кляштар. Метраполія ўсяго сьвету ператварылася ў горад духоўных асоб. Сьвятары і манахі пачалі без стамлення будаваць у гэтым горадзе цэрквы і кляштары, і падначалілі ўсё яго існаванне сваёй уладзе. Грамадзянскае ж насельніцтва горада, пазбаўленае хоць нейкага палітычнага значэння, глыбока дэградаваўшае, цалкам страціўшае хоць нейкую маральную магутнасць, як бы пагрузілася ў працяглы сон, які працягваўся да таго часу, пакуль, нарэшце, у XIII стагоддзі голас вялікага рымскага пантыфекса Баніфацыя IV не заклікаў рымскі народ да новай дзейнасьці*».

Ці няпраўда, чытач, як усё гэта паэтычна? Цалкам як із «Метамарфозаў» Авідыя ці із «Тысячы і адной ночы» вядомай прыдумляльшчыцы Шахеразады!.. Прыйшоў, – пераконваюць нас, – нейкі немец Татыла ў 541 годзе нашай эры, і на працягу яго адзінаццацігадовага сьціплага валадарання магутны і велічны на працягу больш чым тысячы гадоў рымскі народ раптам ператварыўся ў «нікчэмны як адносна колькасьці так і адосна маральных якасьцей» і «дзіўным чынам» ператварыўся ў кляштар, «пагрузіўшыся ў векавы сон», пакуль магутны голас вярхоўнага жраца бога Грамабоя, Pontifex Maximus'а Баніфацыя «не заклікаў рымскі народ да новай дзейнасьці» і не «аднавіў забытыя законы і помнікі», і не згадаў, невядома з дапамогай якіх сваіх разумовых здольнасьцей, забытыя ўсімі гістарычныя ўспаміны».

Такой з'яўляецца магутнасць выбітных асоб! – усклікнем мы, – згодна з адным толькі ўзмахам іхнай рукі, – як аднагалосна сведчаць усе старажытныя аўтары, – бурацца гарады і зноў вырастаюць на сваіх парэштках...

*«Стане на горы – горы дрыжаць! Ляжа на ваду – вада кіпяць!*
*Ці горад закране – горад разбурыцца. Вежы рукой за аблокі кідае!»*

---

[131] Ferdinand Gregorovius; Geschichte der Stadt Rom im Mittelalter 1859 –1813. Існуе рускі пераклад.
[132] Ф. Грэгарэвіус, т. II, гл. I.

Усё гэта мы ўжо бачылі ў нашым ранейшым выкладанні на прыкладзе магутнай Спарты, раптам ператварыўшайся ў маленькую вёсачку Спарці, і на прыкладзе месапатамскіх вялізнейшых гарадоў – Вавілона і Нінэвіі, – раптам ператварыўшыяся у невялікія парэшткі ў Куюнджыцы паблізу Багдада, і ў Кандыгіры на працягу паўднёвай плыні Еўфрата. А ўсяго больш мы бачылі гэта на прыкладзе «Палестынскага Ерусаліма», размяшчаемага ў сучасным турэцкім гарадку Эль-Кудсе, і некалькі разоў узнікаўшага і знікаўшага з паверхні зямлі, то дзякуючы ўзмаху італійскай царскай рукі, то згодна з загадам самога бога-Грамабоя, стваральніка зямлі і сямі нябёсаў над ёю.

Дык што ж дзіўнага ў тым, што цалкам падобнае, ці нават яшчэ больш пышнае апавяданне мы чытаем і пра сталіцу сусветнай хрысьціянскай царквы? Яна ж рэзідэнцыя намесьнікаў хрыстовых на зямлі, якім прызначана безперапынна сядзець на сваіх пасадах, у патройных тыярах, аж да другога прышэсьця Хрыста і ўсеагульнага ажывання калі-небудзь і дзе-небудзь жыўшых на зямлі людзей, пачынаючы ад напалову малпаў – антрапапітэкаў ледавіковага перыяду і заканчаючы сучаснымі бязбожнікамі ўсіх сацыялістычных партый... З першага ж позірку бачна, што месцам, куды яны павінны будуць сабрацца дзеля жахлівага суда над сабой, не можа быць горадам непрыкметна ўзнікшым толькі ў пятым стагоддзі далей ад Вязувія замест засыпаных ранейшых «Іерусалімаў» – Геркуланума і Пампеі. Для такога горада патрэбна пышнае, хаця б і паганскае мінулае, і вось, частка тых дзяржаўных падзей, цэнтрам якіх згодна з тапаграфічнымі, металургічнымі і мараходнымі ўмовамі магла быць толькі Рамея, якую назву і да гэтага часу мае па-грэцку Балканская паўвыспа, была перанесена ў Італію з перасоўваннем у мінулыя стагоддзі, спачатку на 300, а потым яшчэ і на тысячу гадоў, на падстае чаго і ўзніклі легенды спачатку пра магутны Рым Юлія Цэзара, а потым пра такі ж Рым знакамітых двайнят Ромула і Рэма. А для пераходу ад гэтага міфічнага «Жалезнага Рыма» да адзінага рэчаіснага, мастацкага і каталіцкага Рыма, як новаа рэлігійнага цэнтра ранейшых прыхільнікаў бога-Грамабоя на Вязувіі, ператварыўшыхся ў хрысьціянаў, быў створаны той штучна-кратападобны, вытанчана-літаратурны паветраны мост, які я толькі што прывёў запазычыўшы ў Грэгарэвіуса. Але чытач сам бачыць, што для рэлігійнага цэнтра хрысьціянскіх пілігрымаў (калі арэнай дзейнасьці чалавека, які даў нагоду для ўзнікнення легендаў пра Хрыста, сапраўды былі наваколлі Вязувія) Рым прыстасаваны самай прыродай, як горад на бяспечнай адлегласьці ад полымядыхаючай гары і на прамым шляху да яе з кантынента, а для цэнтра сусветнай імперыі ён быў нікуды не прыдатны ні згодна з тапаграфічнымі, ні металургічнымі, ні мараходнымі ўмовамі свайго месцавання.

Прагледзім жа яго рэчаісную гісторыю, грунтуючыся, галоўным чынам, на творах Грэгарэвіуса, як лепшага гісторыка сярэднявечнага Рыма.

Пачатак узвышэння Рыма, як рэлігійнага цэнтра, аўтар дапасуе да напалову легендарнага псеўда-папы, а на самай справе яшчэ вярхоўнага рымскага жраца (pontifex maximus'у) Бенядыкта I (574-578 гг.) заснавальніка каталіцкага навуковага сьвятарства, біяграфію якога, не прапускаючы і ўведзеных у яго нячысьцікаў, ён прыводзіць грунтуючыся на каталіцкіх Жыціях сьвятых, хаця гэта крыніца вельмі позьняга часу – пярэдадня друкарскай эпохі.

Але перш чым даць характарыстыку Бенядыкту, мне і тут даводзіцца скасаваць адно важнае непаразуменне, звычайнае ў сучасных чытачоў. Амаль усе лічаць, што каталіцкае сьвятарства было манаскім, як і зараз, пачынаючы з самых

старажытных часоў, а тым часам гэта глыбокая памылка. Абавязковая неадружанасць заходняга сьвятарства была ўведзена толькі напярэдадні крыжовых паходаў вялікім рымскім пантыфексом Рыгорам VII (1073-1085), які, напэўна, дзеля аб'яднання лацінскай царквы з грэцкай, упершыню загадаў называць сябе і сваіх наступнікаў (а таксама заднім днём і папярэднікаў) не рымскім тытулам pontifex maximus, г.азн. вялікі першасьвятар, як мы бачым у класічных пісьменнікаў, лічачыхся паганскімі, а грэцкім словам папа (πάππας), г.азн. бацька, адкуль і рускае слова: **поп**.

Вось чаму і я дзеля пазбягання ілжывых асацыяцый ідэй у чытача падзяляю ўсю пераемнасць рымскага першасьвятарства на тры перыяды:

I – легендарная эпоха рымскіх «назіральнікаў» (біскупаў па-грэцку);

II – эпоха свецкіх вялікіх рымскіх пантыфексаў;

III – эпоха клерыкальных вялікіх рымскіх пантыфексаў;

IV – эпоха каранаваных рымскіх вялікіх пантыфексаў і

V – эпоха рымскіх папаў, пачаўшаяся толькі з 1073 года нашай эры.

А дзеля навочнасьці я тут даю ў выглядзе пантыфікальнай пераемнасьці храналагічныя вехі ўсёй рымскай гісторыі.

Але з нагоды непаразуменняў паміж наданымі нам уяўленнямі пра старажытную каталіцкую царкву і яе рэчаісным тагачасным станам, я спачатку паведамлю грунтуючыся на Е. Трубяцкім, **якім было рэчаіснае сьвятарства ў Заходняй Яўропе пад час сярэднявечча.**

Ці даўно, перадусім, у каталікоў уведзена неадружванне сьвятарства і яго залежнасць выключна ад Рыма? Выяўляецца, што толькі на прыканцы XI стагоддзя нашай эры.

У Італіі, Германіі, Францыі, Англіі і Гішпаніі аж да XI стагоддзя сьвятары, дыяканы і царкоўныя служкі, звычайна былі яшчэ адружанымі і біскупы таксама жылі ў ідавочным адружанні[133]. У пісьменнікаў X і XI стагоддзяў мы раз пораз чытаем, што той ці іншы сьвятар ці біскуп Заходняй Яўропы надзяліў пасагам із царкоўнай маёмасьці сваіх дачок ці ўзбагаціў ёй жа сваіх сыноў. Сьвятары прызначаюцца пасьля нарады з прыходам ці без яе каралеўскай уладай, і гэта мае назву свецкай інвестытуры. Толькі пасьля яе здзяйсняецца біскупапалія – накладанне рукі, ўяўляючай простае зацверджанне каралеўскага прызначэння. Тое ж было і ў дачыненні да абатаў кляштароў такімі ж адружанымі асобамі.

Мімаволі ўзнікае пытанне: ды ці былі неадружанымі і тагачасныя манахі, у тых выпадках, калі яны не былі інакамі, г.азн. еўнухамі, як гэтае слова пішацца па-грэцку (ἑυνοῦχος)? Таму што слова манах ніяк немагчыма выводзіць выключна ад слова самотны (грэцкае монас), таму што і само кляштарскае таварыства было тыповым калектывам, як процілегласць адзіноце ці пустэльніцтву пустыннікаў, якія адзіна і маглі звацца манахамі ў сучасным сэнсе слова. А кляштар, па-грэцку мон-астэрыён, заключае ў сабе, акрамя “мон”, яшчэ і галоўны корань “астэрыён”, г.азн. сузор'е, у адзнаку таго, што там біскупы (г.азн. назіральнікі) спецыяльна назіралі за рухамі нябесных сьвяцілаў.

Можна думаць, што слова кляштар паходзіць ад жыдоўскага מנה (МНЕ-МОНА) – вылічаць, вызначаць і אסתר (АСТР – зорка), што азначае зоркалічыльнік. Аналагічна гэтаму гучыць і лацінская назва кляштара monasterium ад moneo – навучаю, падказваю і aster – зорка, а таксама і грэцкае монастэрыён (μοναστηριον),

[133] Б. Трубяцкі: Рэлігійна-грамадзкі ідэал папы Рыгора,VII.

адкуль паходзіць ман-астрыя (μον-αστρια), па нашаму – манашка, і мон-астэр (μον-αστήρ), па нашаму – манах. У тым, што і ў грэцкай назве асноўным корнем слова з’яўляецца астэр – зорка, не можа быць сумневаў, а прыстаўка μον з’яляецца толькі магчымай асіміляцыяй з грэцкім словам монас (пустыннік), з нагоды таго, што назіральнікі неба па начах натуральна з'яўляліся часовымі пустыннікамі.

У папярэднічаючых кнігах «Хрыста» я ужо не раз паказваў на небяспеку ўжывання ў навуковай літаратуры слоў-хамелеонаў, як я называю словы не цалкам вызначанага сэнсу, ці, яшчэ больш, словы перамяняючыя свой сэнс у залежасьці ад часу і ад мясцовасьці ў якой яны ўжываліся. Вялікая большасць спрэчак і непаразуменняў мае падставай розныя аперцэпцыі іхнага сэнсу ў розных асоб. Гэта ўсё адно, як калі б людзі размаўлялі на розных мовах.

– C'est pour qui? – запытаў француз-гувернёр у старой паскай сядзібе аднаго краўца.

– Шапка, а не парткі! – адказаў той.

– C'est pour vous? – паўтарыў француз.

– Самога цябе задзяру! – запярэчыў яму, раззлаваўшыся, кравец.

І не раз, слухаючы гарачыя спрэчкі прадстаўнікоў розных фракцый на палітычных сходах, мне ў галаву прыходзіў гэты, яшчэ ў дзяцінстве чуты мной анекдот.

Як шмат мы штодзённа ўжываем слоў, значэння якіх выразна не разумеем ці разумеем аднабакова! Мы вымаўляем салавей і мімаволі ўяўляем сабе грунтуючыся на заканчэнні слова птушачку выключна мужчынскай стаці; мы вымаўляем: сойка – і нам уяўляецца птушачка выключна жаночай стаці... Увесь сьвет, дзякуючы моўным заканчэнням, набывае для нас, асабліва ў паэзіі, сэксуальны характар. У алегарычнай казцы мы адружваем ляўконію з маргарыткай, а не маргарытку з ружай. І вось выходзіць у выніку, што ў тых выпадках, калі на розных мовах тое ці іншае слова мае розныя стацевыя заканчэнні, шмат якія вершы ці казкі выяўляюцца неперакладальнымі. Толькі ангельцы із усіх еўрапейскіх народаў пазбавілі сваю мову ад стацевых канчаткаў і таму распараджаюцца сваімі словамі ў паэзіі і ў мастацкай алегарычнай прозе больш вальна, чым мы.

У шмат якіх выпадках мы, як загіпнатызаваныя, ужываем звыклыя нам з дзяцінства словы, цалкам не бяручы да ўвагі тое, што не маем пра пазначаемыя імі прадметы ніякага ўяўлення.

Вось хаця б той жа «салавей». Вы лічыце, быццам бы ведаеце, што пазначае гэтае слова? А я вам скажу, калі вы не заолаг і не бачылі гэтую птушачку ў клетцы, то не пазнаеце яе, калі я вам прынясу яе і пакажу... Вось зязюля... якое ўяўленне вы маеце пра яе? Толькі тое, што яна кукуе, але гэтае ўяўленне, як вы самі пагадзіцеся, вельмі аднабаковае. У абодвух гэтых выпадках вы ведаеце хаця б галасы, а вось, напрыклад, сойка, чыжык, ці цэлы шэраг іншых жывёл і расьлін, назвы якіх для нас з’яўляюцца простымі гукамі, а вы іх ужываеце з дзяцінства цалкам як папугаі, не ведаючы, што яны пазначаюць, і нават не імкнучыся даведацца.

Я, напрыклад, сустракаў пад час свайго юнацства настаўнікаў гісторыі сярэдніх навучальных установаў, якія так звыкліся ўжываць назвы мясцовасьцей, паблізу якіх адбыліся нейкія выдатныя падзеі, накшталт Марафон, Рубікон і г.д., што ім нават і ў галаву не прыходзіла паглядзець, дзе знаходзяцца гэтыя месцы на геаграфічнай мапе, і падумаць, ці адпавядаюць іхныя фізічныя асаблівасьці апісваемым падзеям. Я не кажу ўжо пра старажытных героеў, накшталт Юлія Цэзара, Аляксандра Македонскага і г.д., пра сапраўдны характар і асобы якіх мы заўсёды маем толькі фантастычныя ўяўленні, розныя ў кожнага паведамляючага

пра іх, як пра нешта знаёмае, але ва ўсіх нас, безумоўна, узнікаюць пры гэтым няправільныя і адрозныя адзін ад аднаго ўяўленні.

Мы ўсе ходзім напалову загіпнатызаванымі.

Такія пераіначванні і аперцэпцыі трэба мець на ўвазе, асабліва пры вывучэнні старажытнай і сярэднявечнай гісторыі народаў і дзяржаваў, але яшчэ больш трэба быць асьцярожнымі з тымі славамі-хамелеонамі, якія з плынню стагоддзяў перамянілі свой сэнс.

Да такіх хамелеонаў асабліва належаць словы: бог, царква, кляштар.

Разуменне Бог трансфармавалася ад простага ўяўлення пра волата, царква трансфармавалася ад цырка, а кляштар ад першапачатковай абсерваторыі для назірання нябесных сьвяціў, пра што сведчыць і сама яго назва ман-астр (μοναστηριόν, monasterium). Тут ман, як я ўжо паведамляў, – наступная трансфармацыя жыдоўскага мані (ці мэне), захаваўшагася ў надпісе Мані-Факел-Фарс[134], якую ў прароцтве «Данііл» намалявала палаючая рука падчас балявання Валтасара. А слова астэр – нябеснае сьвяціла – усім вядомае і захаваўшаяся ў нас у словах: астралогія, астраномія, астрафізіка і г.д., а па-жыдоўску ў імені Эсфір (Эстэр) – зорка.

Із гэтага відавочна, што слова кляштар у літаральным перакладзе азначае зорка-мер, г.азн. месца, дзе рабілася вымярэнне зорак.

Дзе і пры якіх умовах такая спачатку астралагічная ўстанова ўпершыню ператварылася ў тую манаскую, якую мы маем зараз, – гэта яшчэ патрабуе свайго дасьледавання. Адно толькі зразумела, што падобнае пераўтварэнне не магло адбыцца раней сярэдневечча нашай эры. А таму, каб і ў мяне з маім чытачом не атрымалася таго ж непаразумення, як у прыведзенай мной размове француза-гувернёра з краўцом, я буду гэтыя ўстановы, пакуль гаворка ідзе пра сярэдневечча, называць не кляштарамі, а згодна з першапачатковым вымаўленнем іхных найменняў – манастэрыёнамі, і іхных насельнікаў не манахамі, а манастэрыянцамі і манастэрыянкамі, загадзя не дапасуючы да іхнага жыцці ні абавязковай неадружальнасьці, ні абавязковых штодзённых набажэнстваў, падобных на сучасныя.

Старажытныя манастэрыёны ўжо адпаведна толькі кораню свайго імя – астэр – больш нагадваюць храмы Астарце – багіні зорак, чым прыстанак сучасных манахаў, хаця і магчыма, што ў асяроддзі іхных першапачатковых насельнікаў-мужчын аддавалі перавагу неадружанаму становішчу. Пад час старажытнасьці жанчыны лічыліся, адпаведна самой сваёй прыродзе, няздольнымі да заняткаў тагачаснымі навукамі, накшталт алхіміі, магіі, матэматыкі, медыцыны і тэалагічнай філасофіі разам з вывучэннем грэцкай і жыдоўскай моваў, а таму і сама пісьмовасць, як сродак для гэтага, пры адсутнасьці белетрыстыкі, здавалася непатрэбнай для іх. Ды і мужчыны із прывілеяваных пластоў насельніцтва імкнуліся тады, галоўным чынам, да вайсковай службы. Канцылярый не было, усё рабілася на словах, хаця гэта і мела наступствам поўную самаволю ўлады, спадкаемцы якой не былі абмежаваны рашэннямі сваіх папярэднікаў, а для гандляроў былі патрэбны толькі некалькі лікавых знакаў, ды прылады для злічэння, і ў крайнім выпадку пры складаных гандлёвых аперацыях знаёмства з альфабэтам. А тагачасным навукам, – гэтым астралогіі, алхіміі, медыцыне, магіі, матэматыцы і тэалагічнай філасофіі разам з патрэбнымі для іх грэцкай і жыдоўскай мовамі, –

---

[134] Ці згодна з новым вымаўленнем Мэне-мене Тэкел Парсін – Вымяральнік памераў: Шалі і Пярсея.

маглі ахвотна пасьвячаць сваё жыццё толькі выключныя розумы ці людзі, зведаўшыя цяжкія сямейныя страты і імкнуўшыяся да жыцця ў далечыні ад асоб іншай стаці, якія абуджалі у іх сумныя ўспаміны пра загінуўшае мінулае ці, у выпадку падманутых чаканняў, гаркату і недавер.

Не чакаючы для сябе больш нічога прыемнага на зямлі, такі чалавек паварочваўся да неба, імкнучыся выведаць яго таямніцы. Калі ён быў заможным, то аддаваў сваю зямлю і маёнтак пад гэты зоркамер-манастэрыён, дзе і прысьвячаў аспапак свайго жыцця пералічаным мной навукам, запрасіўшы да сябе ўсіх жадаючых навучацца ім. Ніякага зароку вечнай неадружальнасьці, вядома, не патрабавалася, але гэта атрымлівалася фактычна, дзякуючы немагчымасьці паяднаць тагачаснае сямейнае жыццё са штоначнымі астралагічнымі заняткамі і таямнічымі лабараторыямі. Ніякага зароку вечнага жыцця ў гэтай установе таксама, вядома, не патрабавалася, і каго пачыналі зааблівацьназад у грамадзкае жыццё нейкія памкненні, той вольна сыходзіў, як сыходзілі і з тагачаснай вайсковай службы, якая была таксама яшчэ выключна добраахвотнай ці наёмнай на тэрмін, да якой імкнуліся таксама, галоўным чынам, асобы яшчэ не абцяжараныя сям'ёй.

Магчыма, што і самі званніцы ў нашых цэрквах спачатку ўзніклі ў якасьці вежаў для больш зручнага назірання за ўзыходамі і заходамі сьвяцілаў над аддаленым гарызонтам, вышэй засланяўшых яго няроўнасьцей, а таксама і гнамонаў для вымярэння руху гэтых жа сьвяцілаў грунтуючыся на цені вежавай вяршыні, і толькі пазьней, калі набажэнскія містэрыі, як натуральны вынік заблудзіўшагася ў супранатуралізме першапачатковага чалавечага мышлення, пачалі выціскаць першапачатковую назіральную і дасьледніцкую мэту, на іх былі павешаны званы для склікання публікі.

Такому ўяўленню пра паходжанне старажытных манастэрыёнаў і іхнай першапачатковай навуковай мэце адпавядае і іхнае сярэднявечнае становішча, калі яны сапраўды былі сховішчамі навукі. Напрыклад у Францыі дзяўчынкі із прывілеяваных станаў насельнцства аж да XX стагоддзя выхоўваліся амаль выключна ў кляштарах, не робячыся ад гэтага манашкамі.

Такому ж уяўленню, аж да царкоўнай рэвалюцыі Рыгора Гільдэбранда, адпавядаюць і тагачасныя манастэрыёнскія ордэны тампліераў, францысканцаў і г.д. Слова ордэн, паходзіць ад лацінскага «ordo» і азначае згуртаванне, а сябры гэтых згуртаванняў нават і не жылі ў манастэрыёнах, г.азн. маглі ўжо мець сем’і, ці ў кожны час набыць іх, захоўваючы да свайго калектыву толькі вызначаныя абавязкі, як запасныя ў вайсковай службе, і атрымліваючы ад усяго згуртавання абарону і дапамогу ў выпадку патрэбы, як гэта было, напрыклад, у масонаў, дзе неаружальнасць ніколі не практыкавалася.

І калі мы падыйдзем да вывучэння сярэднявечнага «манаства» з гэтага боку гледжання[135], то шмат што, цяжка тлумачымае зараз у старажытных паведамленнях, адразу робіцца для нас цалкам натуральным і зразумелым.

Такім чынам лінгвістычныя сьляды непасрэдна прыводзяць нас да высновы, што першапачаткова кляштары былі школамі астралогіі, а не згуртаваннямі еўнухаў. Каталіцкая царква ўяўляе сабой нават і ў XI стагоддзі няскладнае зборышча асобных мясцовых цэркваў і, такім чынам, яшчэ не стала сусветнай

[135] Адзначу, што нават і зараз слова «манах» не можа быць выведзена ад грэцкага «монас» – адзін, калі ён жыве не пустыннікам у пустыні, а ў кляштары сябрам згуртавання, г.азн. у поўнай процілегласьці з разуменнем адзінота.

каталіцкай. Царкоўныя пісьменнікі XI стагоддзя жаляцца на тое, што з нагоды свецкага прызначэння (інвестытуры) адружаныя сьвятары падлізваюцца да магутных парафіянаў, ператвараюцца ў прыдворных, вядуць свецкі лад жыцця. Яны весела жывуць пры царскіх палацах і выконваюць даручэнні сваіх валадароў, не маючых анічога агульнага з царкоўным служэннем. Але із гэтага зразумела, што сярэднявечнае сьвятарства было не іерархічнай арганізацыяй, а асобнымі свецкімі людзьмі.

Чытаючы першакрыніцы сярэднявечнай гісторыі Рымскай царквы, а не іхную больш пазнюю тэндэнцыйную апрацоўку каталіцкім сьвятарствам пасьля XII стагоддзя нашай эры, мы са здзіўленнем бачым, што ў рымскай царкве падчас яе гэтага сямейнага перыяду не было нават і папаў, а толькі вярхоўныя рымскія першасьвятары, якія мелі назву, як і ў класічных пісьменнікаў, вялікія пантыфексы (pontifex maximus), а грэцкае слова папа (πάππας), г.азн. бацька, не ўжывалася. Першым, хто загадаў так называць сябе і сваіх наступнікаў (а таксама даў нагоду называць гэтым імем і папярэднікаў), быў вялікі рымскі пантыфекс Рыгор Гідьдэбранд, на прыканцы XI стагоддзя, якога царкоўныя гісторыкі завуць Рыгорам VII. Ды і манаскае сьвятарства заснавана толькі тым жа Рыгорам Гільдэбрандам (1073-1085 г.) напярэдадні крыжовых паходаў. У яго змаганні супраць адружання сьвятарства, супраць сіманіі (г.азн. перадачы храмаў дзецям згодна з прыкладам «Сымона» ці іхны продаж) і супраць свецкай інвестытуры праходзіць чырвонай ніткай адзін агульны матыў: сьвятарства павінна парваць з роднаснымі сувязямі, мясцовымі інтарэсамі, мясцовымі мірскімі валадарамі для таго, каб стаць цалкам і выключна «іерархіяй апостала Сымона-Пятра»... Але із гэтага зразумела, што каталіцкая царква, як арганізацыя сьвятарства, з'явілася толькі ў XI стагоддзі нашай эры.

Рыгор Гільдэбранд у шэрагу лістоў настойвае таксама і на тым, быццам бы нават і Гішпанія «спрадвеку належала св. Пятру», і таму гішпанскія прынцы могуць валодаць землямі, заваяванымі там у ісламітаў, толькі ў якасьці васалаў «папы». Гільдэбранд хутчэй гатовы змірыцца з валадараннем няверных у Гішпаніі, чым дапусьціць нейкае парушэнне гэтых «правоў апостала Пятра» з боку хрысьціянаў... Але із гэтага відавочна, што ў Гішпаніі аж да заканчэння крыжовых паходаў існавала нейкае сваё нацыянальнае, не рымска-каталіцкае сьвятарства...

Нацыянальныя адрозненні ў набажэнствах ўяўляюцца яму ерэтычнымі; нацыянальны гішпанскі звычай для яго «таледзкія забабоны». Толькі лацінская мова – каталіцкая, а ўсе іншыя – мовы ерэтыкоў. Ён настойвае на паўсюдным увядзенні лацінскага звычаю, каб рымская царква «сілкавала даручаных ёй сыноў не рознымі сасцамі і не розным малаком, каб, згодна з апосталам (1, Кор. 1,10), яна была адзінай і не было паміж намі расколаў»... Але із гэтага зразумела, што і лацінская мова ўведзена для набажэнстваў у якасьці абавязковай, толькі ў XI стагоддзі...

Яшчэ перад заняццем пасада Рыгорам VII кардынал Даміяні, выказваючыся на карысць скасавання сямейнага побыту кліру, меў жаданне наладзіць жыццё сьвятарства грунтуючыся на камуністычных пачатках. Духоўныя асобы, існуючыя пры адной біскупскай царкве, павінны, згодна з яго думкай, складаць кананічны інтэрнат, г.азн. спаць у агульным памяшканні, дзяліць агульную трапезу і, не маючы нічога свайго, супольна карыстацца прыбыткамі із царкоўнай маёмасьці... Але із гэтага зразумела, што кляштарскіх таварыстваў да яго яшчэ не існавала, і яны былі ўведзены ім толькі з вялікімі цяжкасьцямі.

З нагоды супраціву адружаных духоўных асоб, рымскі пантыфікат быў вымушаны звярнуцца да дапамогі мяча. Дзякуючы ўплыву таго ж Гільдэбранда (тады яшчэ не папы Рыгора) правадыр патараў (г.азн. патараў-айцоў) Эрлембальд на чале самай беднай масы насельніцтва пачаў збіваць і рабаваць адружаных і сіманійных сьвятароў Мілана. Апякуемы апостальскім пасадам, рух гэтых патараў-айцоў, знарок перарobленых пазней у «патараў», суправаджаўся ўвесь час гвалтаваннямі, рабаваннямі і разнастайнымі здзекамі над адружанымі сьвятарамі. Калі Рыгор заняў «апостальскі пасад», ён працягваў укараняць рэформу з дапамогай такіх жа захадаў і ў Германіі пры спрыянні герцагаў і іншых буйных васалаў германскага караля... Але із гэтага зразумела, што да таго часу служкі культу нават не мелі на Захадзе назву патары.

Прыхільнікі імперыі, баронячы свецкую інвестытуру, спасылаюцца на сьвятарскі характар царскай улады. Дзякуючы свайму памазанню – сцвярджалі яны – кароль перастае быць простым парафіянінам. З яго санам злучаецца асобны прароцкі дар, якога не пазбаўлены нават цары-паганцы; яму надаецца звыш здольнасць адгадваць волю Прывіду; грунтуючыся на здольнасьці нададзенага яму дару сьвятога духу, ён мае магчымасць распазнаваць і прызначаць на вакантныя катэдры толькі дагодных богу абраннікаў. А із асяроддзя ўсіх цароў вылучаецца князь над князямі – імператар Сьвятой рымскай імперыі, – валадар усяго сусьвету, крыніца якога б то ні было закону і ўлады на зямлі. Ён – непасрэдны прадстаўнік «Хрыста» на зямлі. Калі іншым царам належыць улада над тымі ці іншымі мясцовымі цэрквамі, то імператар закліканы валадарыць і над самім Рымскім пантыфікальным пасадам, г.азн. над вяршыняй сусьветнай іерархіі. А пісьменнікі імперыялісты непасрэдна разглядаюць права імператара замяшчаць рымскую катэдру, як прыватную праяву яго ўлады над царквой цалкам. Гэта – толькі асобны выпадак інвестытуры, хаця прызначэнне рымскіх біскупаў і не суправаджаецца дараваннем ім кія і кола. У гэтай тэорыі Сьвятой рымскай імперыі, абвешчанай пісьменнікамі-імперыялістамі той эпохі, быў выказаны ідэал, да якога ў рэчаіснасьці імкнуліся імператары. Генрых III прызначыў аднаго за другім чатырох вялікіх пантыфексаў на апостальскі пасад; а Генрых IV двойчы пазбаўляў пасада Рыгора, і ў Брыксене, на саборы германскіх і італійскіх біскупаў, прызначыў на яго месца антыпапу Віберта (Клімента III). Так спрэчка пра інвестытуру толькі тады набыла сваю вастрыню.

Калі імператар бароніць супраць папы цэласць і адзінства імперыі, то і папы, у якіх ператварыліся вялікія рымскія пантыфексы з часу Рыгора Гільдэбранда, ваююць за само існаванне пантыфікальнай тэакратыі... Але із гэтага зразумела, што сьвятарства выйшла са стану простых царскіх урадоўцаў, накшталт свецкіх настаўнікаў, толькі пасьля Генрыха IV.

Зямная іерархія згодна з вучэннем Рыгора будуецца падобна нябеснай, іерархіі анёлаў. У лісьце да трох французскіх арцыбіскупаў, напісаным у 1079 годзе, ён тлумачыць, што ўсё ўладкаванне сусьвету грунтуецца на іерархічных пачатках. На ўсходах істот кожнае стварэнне адрозніваецца ад іншых сваім чынам, прытым ніжэйшыя прыступкі павінны падначальвацца больш высокім. Нават чыны нябеснага ваярства – анёлы, арханёлы, херувімы і серафімы, як сведчыць сам Хрыстос, не роўныя паміж сабой аносна ступені значэння і ўлады, і ўсё ж у анёльскім грамадстве пануе мір і згода. Усе гэтыя анёлы, размяшчаючыся ў стройным упарадкавані іерархічных прыступак, утвараюць адзіную курыю, адзінае царства нябеснага цара. Такое ж упарадкаванне павінна панаваць і ў царкве –

гэтым зямным адлюстраванні «божага царства». Тут таксама павінны існаваць іерархічныя прыступкі чыноў – біскупы, арцыбіскупы і патрыярхі, – што павінна знаходзіць сабе завяршэнне ў адзіным кіраўніку – папе-айцу... Але із гэтага відавочна, што падобнай іерархіі да XI стагоддзя яшчэ не існавала, інакш Рыгору не было б патрэбы паўтараць усім вядомыя зады.

Дзякуючы апосталу Пятру яго спадкаемец, рымскі першасьвятар ператвараецца ў бачны ўсім цэнтр дзеяння божай мілаты на зямлі. Яго здзяйсненні, як службовай асобы, гэта – здзяйсненні самога вярхоўнага апостала. Жыццё і дзейнасць кожнага папы-айца ў вачах Рыгора набывае характар неабходнасьці. Як ён, так і іншыя пісьменнікі яго накірунку, бачаць у асобных папах (сьвядома пашыраючы гэта новае найменне і на папярэднічаўшых рымскіх вялікіх пантыфексаў) абраннікаў мілаты апостала Пятра, дзейнічаючай з непераадольнай магутнасьцю. Св. Пятро – сцвярдаюць яны – загадзя прадбачыць і абірае сваіх наступнікаў і кіруе іхнымі здзяйсненнямі задаўга да іх узвядзення на апостальскі пасад. Пасьля пасьвячэння ў вялікія рымскія пантыфексы са звычайным рымскім сьвятаром адбываецца тое ж дзіва, як і з вярхоўным апосталам: яго нямоглая чалавечая сутнасць ператвараецца ў цьвёрдую скалу, у непаломны камень веры. Адсюль паходзіць вера ў бязгрэшнасць «папы»... І із гэтага ж зразумела, што такога ўяўлення пра рымскага кіраўніка царквы да яго не было.

Згодна з сэнсам гэтай сьвядома ці несьвядома падробленай тэорыі Рыгора Гільдэбранда царква грунтуецца на дваістай падставе: на мілаце св. Пятра і на заслугах св. Пятра. «*Замест Хрыста яго вярхоўны апостал робіцца сродкам выратавання людзей*, – выказваецца Е. Трубяцкі. – *Хрыстос кіруе царквой не непасрэдна сам, а толькі праз гэтага вярхоўнага апостала. У якасьці сусьветнага пастыра «папа» выказваецца і дзейнічае як «вікарый св. Пятра». Ад яго імя ён абяцае людзям рай ці пекла, зямныя ці нябесныя ўзнагароды і кары, забірае царствы ў адных і перадае іншым, «злучае і дазваляе»; дзякуючы св. Пятру здзяйсняецца цалкам усё тое, што робіцца «мілатой» на зямлі. У тым вобразе рымскай пантыфікальнай тэакратыі, які дае нам Рыгор, міфічная фігура Пятра напаўняе сабой ўвесь першы план і толькі за ім на другім плане віднеецца ў аблоках невыразнае аблічча евангельскага «Ратавальніка*».

Так позна ўладкавалася каталіцкая царква ў яе сучасным выглядзе!

Прасочым жа з гэтага новага боку гледжання гісторыю горада Рыма, як выключна клерыкальнай сталіцы, якая фізічна не магла быць цэнтрам магутнай вайсковай дзяржавы. Але перш чым гэта зрабіць, я тут прыкладаю той афіцыйны пералік рымскіх вялікіх першасьвятароў, які да XII стагоддзя складзены грунтуючыся амаль выключна на «Liber Papalis», напісанай не раней XII стагоддзя нашай эры і якім карыстаюцца, без неабходнай крытычнай апрацоўкі, ўсе гісторыкі каталіцкай царквы. Увесь першы перыяд – да Мелхіяда (г.азн. Царуючага, 311 г.) – тут чысты міф; другі – пантыфікальны перыяд – мала надзейны, але заслугоўвае сур'ёзнага разбору, і толькі пяты – папскі перыяд з 1073 года не абуджае сумневаў.

# Глава II.

## Храналагічныя вехі гісторыі рымскага біскупства, пантыфіката і папізму.

### І перыяд:

Ілжывыя вехі. Легендарная эпоха рымскіх назіральнікаў (episcopi). (Ад псеўда –33 да 440 г. нашай эры.)

Выказванне «рымскі назіральнік» з’яўляецца літаральным перакладам выказвання «рымскі біскуп». А пераклад тут патрэбны, таму што звычайнае свецкае грэцкае слова назіральнік (ἐπισκόπος) набыло ў нас выключна царкоўны сэнс і выклікае ілжывае ўяўленне. Першапачатковым жа сэнсам слова біскуп з’яўляецца разглядальнік, ад таго ж кораня “скоп”, як і тэлескоп у сучасных астраномаў, прылада для разглядання.

І падабенства тут не толькі філалагічнае, але і згодна з сэнсам: заняткам «разглядальнікаў» і было назіранне за нябеснымі з'явамі і іхнае тлумачэнне для публікі ў якасьці прадказанняў. Гэта былі людзі сямейныя, як і паведамляецца ў біяграфіях першага з іх – апостала Пятра – і як будзе бачна із далейшага нашага выкладання. Дадам пры гэтым, што і кляштароў у нашым сэнсе слова тады не нідзе не існавала да Х стагоддзя нашай эры, а былі толькі мон-астэры (μοναστηριοι), г.азн. месцы для назірання зорак, чаму і іхныя насельнікі, амаль заўсёды людзі сталага ўзросту, стаміўшыяся ад звычайнага жыцця і выраўшыяся цалкам прысьвяціць сябе навуцы, мелі назву мон-астэры. Слова манах з'явілася каля Х стагоддзя, і толькі апакрыфіравана на ранейшых манастэрыянцаў, як пабачым далей.

Царкоўныя аўтары надаюць першым 43 рымскім назіральнікам прыведзеныя тут гады. Але гэта ілжывыя вехі ужо грунтуючыся на адным тым, што хрысьціянская царква, як мы бачылі, узнікла толькі на прыканцы IV стагоддзя нашай эры. Сур'ёзнаму дасьледчыку тут застаецца толькі вызначыць, якім чынам і з каго спісаны гэтыя асобы

| Псеўда-гады (ад) | | Псеўда-гады (да) | Псеўда-гады (ад) | | Псеўда-гады (да) |
|---|---|---|---|---|---|
| 53 | Ап. Пятро | 67 | 259 | Дзіянісій (із манастырыянцаў) | 269 |
| 67 | Лін | 79 | 269 | Фелікс I | 274 |
| 79 | Кліт, Аненкліт ці Анакліт | 91 | 275 | Еўтыхіян | 283 |
| 91 | Клімент | 100 | 283 | Кайі | 296 |
| 100 | Еварыст | 109 | 296 | Марцэлін | 304 |
| 109 | Аляксандр I | 119 | Вакансія на працягу чатырох гадоў | | |
| 119 | Ксіст ці Сікст I | 128 | 308 | Марцэл | 310 |
| 128 | Тэлесфор (із пустынікаў) | 139 | 310 | Яўсевій (18 красавіка -26 верасня, медык) | 310 |
| 139 | Гігін (із навукоўцаў) | 142 | 311 | Мелхіад | 314 |
| 142 | Пій I | 157 | 314 | Сільвестр I | 335 |
| 157 | Анікіт ці Аніцэт | 168 | 336 | Марк (студз. 18-кастр. 7) | 336 |
| 168 | Сатэр (Ратавальнік) | 176 | 337 | Юлій I | 352 |
| 177 | Елеферый | 190 | 352 | Ліберый | 366 |
| 190 | Віктар I | 202 | (Фелікс II 355-8) | | |
| 202 | Зефірын | 218 | 366 | Дамас | 384 |
| 218 | Каліст ці Калікст | 223 | (Урсін 366-7) | | |
| 223 | Урбан I | 230 | 384 | Сірыцый | 398 |
| 230 | Пантыян | 235 | 398 | Анастас I | 401 |
| 235 | Фабіян | 250 | 402 | Інакенцій I | 417 |
| 250 | Карнэлій | 252 | 417 | Зосім | 418 |
| (Навацыян 251) | | | 418 | Баніфацый I | 422 |
| 252 | Люцый I | 253 | (Еўлалій 418-19) | | |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 253 | Стэфан I | 257 | 422 | Цэлестын I | 432 |
| 57 | Сікст, ці Ксікст II | 258 | 432 | Сікст III | 440 |

# II Перыяд:

## Сумнеўныя вехі. Эпоха свецкіх вялікіх рымскіх пантыфексаў (Pontifici Maximi) (ад 440 да 768 гады.)

Першы із рымскіх назіральнікаў, які загадаў называць сябе вялікім рымскім пантыфексам (Pontifex Maximus)[136], быў Леў I (440-461 гг.). У рэчаіснасьці з яго і пачынаюцца pontifici maximi і апакаліптычнае хрысьціянства, бо да гэтага часу мог пашырыцца толькі Апакаліпсіс, напісаны 30 верасня 395 юліянскага года, а Евангелляў і лістоў апосталаў яшчэ не існавала. Гэта быў таксама час і біблейскіх прарокаў (Іезекіла, Ісаі, Ераміі і інш.), і праваслаўе яшчэ не аддзялілася ад арыянства, таму што і само імя першага pontifex maximus'а – Леў з’яўляецца простым перакладам біблейскага слова Арый.

Такім чынам, грунтуючыся на нашых рэчаісных гістарычных паведамленнях, мы бачым, што першым вялікім рымскім пантыфексам (Pontifex Maximus) быў Леў I з 440-461 гадоў. А тым часам нас пераконваюць, што першым Pontifex Maximus быў яшчэ Нума Пампілій, валадарыўшы ў Рыме ад 716 да 672 года «да Нараджэння Хрыста», і што гэта выбарная на ўсё жыццё пасада была – паганскай! Але ў такім выпадку як жа адважыўся б Леў I прыняць такое дз’ябалава найменне? Толькі з боку гледжання нашай новай храналогіі, якая лічыць усю класічную рымскую гісторыю за міф Эпохі Адраджэння, заснаваны на апакрыфізме сярэднявечнага жыцця, тут робіцца усё зразумелым. І гэтыя пантыфексы былі, як і біскупы-назіральнікі, яшчэ сямейнымі, нават свецкімі людзьмі.

| Псеўда-гады (ад) | | Псеўда-гады (да) | Псеўда-гады (ад) | | Псеўда-гады (да) |
|---|---|---|---|---|---|
| 440 | Леў I | 461 | 625 | Ганорый I | 638 |
| 461 | Іларый | 468 | 638 | Севярын | 640 |
| 468 | Сімпліцый | 483 | 640 | Ян IV | 642 |
| 483 | Фелікс III | 492 | 642 | Хведар | 649 |
| 492 | Геласій I | 496 | 649 | Мартын I | 653 |
| 496 | Анастас II | 498 | 654 | Яўген I | 657 |
| 498 | Сімах | 514 | 657 | Віталіян | 672 |
| (Лаўрэн 498-505) | | | 672 | Адэадат (із манастэрыянцаў) | 676 |
| 514 | Армізда | 523 | 676 | Дон | 678 |
| 523 | Ян I | 526 | 678 | Агафон | 681 |
| 526 | Фелікс V | 530 | 682 | Леў II | 683 |
| 530 | Баніфацый II | 532 | 683 | Бенедыкт II | 685 |
| (Дыяскор 17 вер.-14 кастр., 530) | | | 685 | Ян V | 686 |
| 532 | Ян II | 535 | 686 | Конан | 687 |
| 535 | Агапет I | 536 | (Пасхалій -687-92) | | |
| 536 | Сільверый | 537 | (Хведар вер. – снеж. 683) | | |
| 537 | Вігілій | 555 | 687 | Сергій I | 701 |
| 555 | Пелагій I | 560 | 701 | Ян VI | 705 |
| 560 | Ян III | 573 | 705 | Ян VII | 707 |

[136] Гэтае слова звычайна выводзяць ад pontifacio – раблю масты (напэўна, на неба!), але мне здаецца, што яно з’яўляецца толькі вульгарызацыяй слова patefacio – высвятляю, і напачатку азначала выведнік прадказанняў (patefax).

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 574 | Бенедыкт I | 578 | 708 | Сісінній (студз. – 7 лют.) | 708 |
| (чума 590 г. і пачатак культа Мадонны) | | | 708 | Кастусь I | 715 |
| 578 | Пелагій II | 590 | 715 | Рыгор II | 731 |
| 590 | Рыгор I | 604 | 731 | Рыгор III | 741 |
| 604 | Сабініян | 606 | 741 | Захарыя | 752 |
| 607 | Баніфацый III (19 лют.-12 лістапада) | 607 | 752 | Стэфан I (памёр без пасьвячэння) | 752 |
| 608 | Баніфацый IV | 615 | 752 | Стэфан II | 757 |
| 615 | Дэусдэніт | 618 | 757 | Павел I | 767 |
| 619 | Баніфацый V | 625 | (Кастусь II 767-8) | | |
| | | | (Піліп 768) | | |

# III Перыяд:

## Прыблізныя вехі. Эпоха клерыкальных вялікіх рымскіх пантыфексаў (Pontifici Maximi).

Толькі з канца VIII стагоддзя пры вялікім рымскім пантыфексе Стэфану III з'яўляецца саборная пастанова пра тое, што рымскім пантыфексам не можа быць асоба не меўшая перад тым ніякага духоўнага звання. Закона пра тое, што жанчына не можа займаць духоўных пасадаў, яшчэ няма.

| Псеўда-гады (ад) | | Псеўда-гады (да) | Псеўда-гады (ад) | | Псеўда-гады (да) |
|---|---|---|---|---|---|
| 768 | Стэфан III | 772 | (Ян – студз. 844) | | |
| 772 | Адрыян I | 795 | 844 | Сергій II | 847 |
| 795 | Леў III | 816 | 847 | Леў IV | 855 |
| 816 | Стэфан IV | 817 | (Анастас жнівень-верасень 855) | | |
| 817 | Пасхалій I | 824 | 855 | Джавана, вялікая рымская пантыфіцына | 857 |
| 824 | Яўген II | 827 | | | |
| 827 | Валянцін (памёр праз месяц) | 827 | 855? | Бенедыкт III (яе намесьнік) | 858 |
| 827 | Рыгор IV | 844 | | | |

# IV Перыяд:

## магчыма рэчаісныя вехі.
## Эпоха каранаваных рымскіх вялікіх пантыфексаў (Pontifici Maximi).

Першым із вялікіх рымскіх пантыфексаў, надзеўшым на сябе тыяру, быў Мікалай, называемы пазнейшымі аўтарамі Мікалаем Першым. Адносна таго, што ён быў першым з гэтым імем, відаць, няма падставаў сумнявацца, а адносна Аляксандраў, Піеў, Феліксаў, Баніфацыяў, Цэлестынаў, першыя прадстаўнікі якіх маюцца пад час легендарнага перыяда, можна з упэўненасьцю сказаць, што «нумарацыя» іх перабольшана. Ад гэтага перыяду пачынаюцца прэтэнзіі рымскага пантыфекса на першынство.

| Псеўда-гады (ад) | | Псеўда-гады (да) | Псеўда-гады (ад) | | Псеўда-гады (да) |
|---|---|---|---|---|---|
| 858 | Мікалай I | 867 | 965 | Ян XIII | 972 |
| 867 | Адрыян II | 872 | 972 | Бенедыкт VI | 974 |
| 872 | Ян VIII | 882 | (Баніфацый VII чэрвень-жн. 974) | | |
| 882 | Марын I | 884 | 977 | Бенедыкт VII | 983 |
| 884 | Адрыян III | 885 | 983 | Ян XIV | 984 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 885 | Стэфан V | 891 | (Баніфацый VII, зноў 984-5) | | |
| 891 | Фармоз | 896 | 985 | Ян XV | 996 |
| 896 | Баніфацый VI (травень-чэрвень) | 896 | 996 | Рыгор V | 999 |
| 896 | Стэфан VI | 897 | (Ян XVI, 997- 8) | | |
| 897 | Раман (ліпень-лістапад) | 897 | 999 | Сільвестр II | 1003 |
| 897 | Хведар II (лістапад-снежань) | 897 | 1003 | Ян XVI (13 студз.-7 сн.) | 1003 |
| 898 | Ян IX | 900 | 1003 | Ян XVII | 1009 |
| 900 | Бенедыкт IV | 903 | 1009 | Сергій IV | 1009 |
| 903 | Леў V (жн. – вер.) | 903 | 1012 | Бенядыкт VIII | 1024 |
| 903 | Хрыстафор | 904 | (Рыгор студз.-сн. 1012) | | |
| 904 | Сергій III | 911 | 1024 | Ян XVIII | 1033 |
| 911 | Анастас III | 913 | 1033 | Бенядыкт IX | 1046 |
| 913 | Лондон | 914 | (Сільвестр III 1044-46) | | |
| 914 | Ян X | 928 | 1045 | Рыгор VI | 1046 |
| 928 | Леў VI | 929 | 1046 | Клімент II | 1047 |
| 929 | Стэфан VII | 931 | 1047 | Дамас II | 1048 |
| 931 | Ян XI | 936 | 1048 | Леў IX | 1054 |
| 936 | Леў VII | 939 | 1054 | Віктар II | 1057 |
| 939 | Стэфан VIII | 942 | 1057 | Стэфан IX | 1058 |
| 942 | Марын II | 946 | – (Бенядыкт X . . 1058-9) | | |
| 946 | Агапет II | 955 | 1059 | Мікалай II | 1061 |
| 955 | Ян XII | 963 | 1061 | Аляксандр II | 1073 |
| 963 | Леў VIII | 965 | – (Ганорый II 1061-1069) | | |
| (Бенядыкт V травень-чэрвень 964) | | | | | |

# V Перыяд:

## Праўдзівыя вехі. Эпоха рымскіх папаў. (Ад 1073 да 1823 года.)

Толькі з гэтага моманту (як пабачым далей) пачалося евангельскае хрысьціянства і хрысьціянская ідэалогія.

Толькі Рыгор VII усталяваў неадружальнасць лацінскага сьвятарства і замест сярэднявечнай лацінскай назвы «вялікі пантыфекс» (pontifex maximus) загадаў называць сябе і сваіх наступнікаў грэцкім словам папа (πάππας)– бацька.

| Псеўда-гады (ад) | | Псеўда-гады (да) | Псеўда-гады (ад) | | Псеўда-гады (да) |
|---|---|---|---|---|---|
| 1073 | Рыгор VII | 1085 | 1378 | Урбанаў VI | ? |
| – (Клімент III 1080-1100) | | | 1378 | (Клімент VII у Авіньёне) | ? |
| 1086 | Віктар III | 1087 | 1389 | Баніфацый IX | ? |
| 1088 | Урбан II | 1099 | 1394 | (Бенядыкт XIII у Авіньёне пазбаўлены пасады ) | 1417 |
| 1099 | Пасхалій II | 1118 | 1404 | Інакенцій VII | ? |
| – (Феадорых 1100) | | | 1406 | Рыгор XII (адрокся) | 1415 |
| 1099 | Альберт | 1102 | 1409 | Аляксандр V (лінія Пізанскага сабора) | |
| – (Сільвестр IV 1105-1111) | | | 1410 | Ян XXIII | |
| 1118 | Геласій II | 1119 | 1417 | Мартын V, абр. Канстанц. саборам | 1431 |
| – (Рыгор VIII 1119-1121) | | | 1431 | Яўген IV | ? |
| 1119 | Калікст II | 1124 | – (Фелікс V антыпапа 1439-1449) | | |
| 1124 | Ганорый II | 1130 | 1447 | Мікалай V | ? |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1130 | Інакенцій I | 1143 | 1455 | Каліст III | ? |
| – | (Анакліт II 1130-1138) | | 1458 | Пій | ? |
| 1143 | Цэлестын II | 1144 | 1464 | Павел II | ? |
| 1144 | Люцый II | 1145 | 1471 | Сікст IV | ? |
| 1145 | Яўген III | 1153 | 1484 | Інакенцій IV | ? |
| 1153 | Анастас IV | 1154 | 1492 | Аляксандр VI | ? |
| 1154 | Адрыян IV | 1159 | 1503 | Пій III (22 вер., 18 кастр.) | ? |
| 1159 | Аляксандр III | 1181 | – | Юлій II | ? |
| – | (Віктар IV 1159-1164) | | 1513 | Леў X | 1521 |
| – | (Пасхалій III 1164-1168) | | 1522 | Адрыян VI | 1523 |
| – | (Каліст III 1168-1178) | | 1523 | Клімент VII | 1534 |
| – | (Інакенцій III 1178-1180) | | 1534 | Павел III | 1549 |
| 1181 | Люцый III | 1185 | 1550 | Юлій III | 1555 |
| 1185 | Урбан III | 1187 | 1555 | Маркел II | ? |
| 1187 | Рыгор VIII (20 кастр.-17 сн.) | 1187 | 1555 | Павел IV | 1559 |
| 1187 | Клімент III | 1191 | 1559 | Пій IV | 1565 |
| 1191 | Цэлестын III | 1198 | 1566 | Пій V | 1572 |
| 1198 | Інакенцій III | 1216 | 1572 | Рыгор XIII | 1585 |
| 1216 | Ганорый III | 1227 | 1585 | Сікст V | 1590 |
| 1227 | Рыгор IX | 1241 | 1590 | Урбан VII | ? |
| 1241 | Цэлестын IV (26 кастр., 17 лістапада) | 1241 | 1590 | Рыгор XIV | 1591 |
| 1243 | Інакенцій IV | 1254 | 1591 | Інакенцій IX | ? |
| 1254 | Аляксандр IV | 1261 | 1592 | Клімент VIII | 1605 |
| 1261 | Урбан IV | 1264 | 1605 | Леў XI | ? |
| 1264 | Клімент IV | 1268 | 1605 | Павел V | 1621 |
| 1271 | Рыгор X | 1276 | 1621 | Рыгор XV | 1623 |
| 1276 | Інакенцій V (21 лют., 22 чэрв.) | 1276 | 1623 | Урбан VIII | 1644 |
| 1276 | Адрыян V | 1276 | 1644 | Інакенцій X | 1655 |
| 1276 | Ян XXI | 1277 | 1655 | Аляксандр VII | 1667 |
| 1277 | Мікалай III | 1280 | 1667 | Клімент IX | 1669 |
| 1281 | Мартын IV | 1285 | 1670 | Клімент X | 1676 |
| 1285 | Ганорый IV | 1287 | 1676 | Інакенцій XI | 1689 |
| 1288 | Мікалай IV | 1292 | 1689 | Аляксандр VIII | 1691 |
| 1294 | Цэлестын V (5 ліп., 3снеж.) | 1294 | 1691 | Інакенцій XIII | 1700 |
| 1294 | Баніфацый VIII | 1303 | 1700 | Клімент XI | 1721 |
| 1303 | Бенядыкт XI | 1304 | 1721 | Інакенцій XII | 1724 |
| 1305 | Клімент V | 1314 | 1724 | Бенядыкт XIII | 1730 |
| 1316 | Ян XXII (Мікалай V антыпапа . . . 1328-9) | ? | 1730 | Клімент XII | 1740 |
| 1334 | Бенядыкт XII | ? | 1740 | Бенядыкт XIV | 1756 |
| 1342 | Клімент VI | ? | 1758 | Клімент XIII | 1768 |
| 1352 | Інакенцій VI | ? | 1769 | Клімент XIV | 1774 |
| 1362 | Урбанаў V | ? | 1775 | Пій VI | 1799 |
| 1370 | Рыгор XI | ? | 1800 | Пій VII | 1823 |

Такімі з’яўляюцца храналагічныя вехі рэчаіснай гісторыі горада Рыма, непарыўна злучанай з гісторыяй рымскага пантыфікату і потым аж да аб'яднання Італіі ў сярэдзіне XIX стагоддзя – з гісторыяй рымскага папства. Я размяшчаю іх тут, каб чытач мог арыентавацца па іх пры чытанні наступнага выкладання.

# Глава III.

# Першыя гады вялікіх рымскіх пантыфексаў (pontifici maximi). Узнікненне культу нябеснай Панны-мадонны пасярод жахаў чумы 590 года.

Пакінем пакуль у баку ілжывыя вехі рымскага біскупства, пачынаючыяся з апостала Пятра, каб яны не завялі нас у грузкае балота, і пачнём наша выкладанне з больш годнага веры пантыфікальнага перыяду горада Рыма. Будзем кіравацца толькі што прыведзенымі яго храналагічнымі вехамі і разгледзім яго рэчаісную гісторыю, пачынаючы з «Блаславёнага», на-лаціне Бенедыкта, першага вялікага рымскага жраца (pontifex maximus'a).

Ён быў выхадцам із Нурсіі і, паведамляюць нам, ва ўзросьце чатырнаццаці гадоў прыйшоў вучыцца ў Рым. У Транстэверыне да гэтага часу паказваюць на невялікую царкву san Benedetto in Piscinula, як на месца, дзе стаяла сядзіба яго заможнага бацькі. Выдаліўшыся ў Сублаквеум, дзе рака Аніён абвадняе адну із самых прыгожых далін Італіі, Бенедыкт, – паведамляе нам аўтар яго жыцця, – пасяліўся ў адной із пячор, куды яму прыносіў ежу анахарэт Раман. Паўсюдна пачалі разыходзіцца весткі пра яго сьвятасць, да яго пачалі далучацца аднолькава думаючыя з ім уцекачы ад сьвету, і хутка Бенедыкт ужо наладзіў у гарах 12 невялікіх манастэрыёнаў.

Тут, падтрымлівамы «сваёй сястрой Схаластыкай», ён пражыў шмат гадоў, «займаючыся складаннем статута свайго ордэна», але яго дзейнасць спарадзіла зайздрасць сьвятароў у Варыі і Вівавара, і яны пакляліся прагнаць сьвятога з яго сховішча. Падобна сярэднявечным нячысьцікам, гэтыя сьвятары аднойчы прывялі ў кляштар сем прыгожых гетэр, і некаторыя із вучняў Бенедыкта не змаглі выстаяць супраць спакусы. Сьвяты вырашыў пакінуць апаганенае сховішча і пайшоў, суправаджаемы крумкачамі, і анёлы нанізвалі яму шлях.

Ён накіраваўся на гару Castrum у Кампаны, дзе яшчэ былі паганцы, неадкладна знішчыў ахвярнікі стодаў, загадаў разбурыць храм Апалона (відавочна, не ведаючы яшчэ што гэта толькі адно із найменняў Хрыста), і з яго парэшткаў пабудаваў кляштар, не баючыся дз’ябла, які, седзячы на кінутай калоне разбуранага храма, перашкаджаў узвядзенню будынка. Гэты кляштар, вядомы пазьней пад найменнем абацтва Монтэ-Казіна, стаў з цягам часу метраполіяй усіх бенедыктынскіх кляштароў Захаду.

У адным дакуменце X стагоддзя, не пазьнейшым, чым і астатнія, на якіх пабудавана гэтая біяграфія, паведамляецца, што Тэртул падараваў Бенедыкту, які ўжо стаў вярхоўным рымскім пантыфексам (pontifex maximus), 7000 рабоў разам з гарадамі Месінай і Палерма, і гэта ж падцверджаецца прывілеем ад імя псеўда-папы (а на справе яшчэ вялікага рымскага пантыфекса) Захара (741-752 гг.), існуючага да гэтага часу у копіі XI стагоддзя. Але само сабой зразумела, што сучасныя царкоўныя аўтары лічаць такі дакумент, супярэчачы сучаснай маралі, «поўнай недарэчнасьцю», хаця ўжо і не згадваюць пра «нячысьціка на бервяне», перашкаджаўшаму сьвятому будаваць хрысьціянскі храм на месцы псеўда-паганскага[137].

[137] Luigi Tusti: Storia della Badia di Monte Casini. 1842.



Мал. 94
Парэшткі старадаўняга будынка ў Рыме, які лічыцца класікамі за Храм Замірэння (Tempio della Pace), «пабудаваны на парэштках залатога палаца Нярона рымскім імператарам Флавіем Веспасіянам», пры якім быццам бы загінулі Геркуланум і Пампея. Згодна з нашым меркаваннем гэта мог бы быць адноўлены пад час сярэднявечча (але не на сваім месцы) ерусалімскі храм-палац (рускае: харомы).

У Монтэ Казіна, – запэўніваюць нас, – наведаў сьвятога і нямецкі герой Татыла, які, згодна са сведчаннямі гісторыкаў-фантазёраў Эпохі Адраджэння, толькі што знішчыў класічны Рым адным узмахам сваёй рукі. Татыла з'явіўся да яго пераапранутым, але ўсё ж Бенедыкт зараз жа пазнаў яго, прадказаў яму лёс, і абвясьціў (на шчасьце дарэмна) пра разбурэнне Рыма **стыхіямі**. Потым ён памёр у Монтэ-Казіна ў 544(578?)годзе, хутка пасьля сьмерці сваёй набожнай «сястры Схаластыкі». Паданне далучыла да жыццёвага шляху гэтага заснавальніка рымскага пантыфікату шмат паэтычных паданняў, складаючых змест незлічоных фрэсак, напісаных на сьценах цэркваў пазнейшымі сярэднявечнымі мастакамі.

Калі мы будзем складаць уяўленне пра першапачатковы ордэн бенедыктынцаў толькі грунтуючыся на падставах сучаснага манаства, то мы не будзем у стане правільна ацаніць яго дзейнасць. Гэты ордэн спачатку быў чыста навуковым і асьветніцкім. Бенедыктынцы былі «настаўнікамі земляробства, ремеслаў, мастацтваў і навук у шмат якіх землях Яўропы», і да іхнага ордэна далучаліся сыны самых заможных і ганаровых бацькоў, жадаючы пасьвяціць сваё жыццё навукам. Дзякуючы сваім навуковым заняткам, бенедыктынцы хутка пашырыліся па захадзе Яўропы, спачатку ў Гішпаніі, Францыі, Італіі, Англіі, а з VIII стагоддзя і ў Германіі з'явілася вялікая колькасць бенедыктынскіх манастэрыёнаў-акадэмій.

Да гэтага ж часу дапасуецца з'яўленне ў Італіі і жаночых манастэрыёнаў, ініцыятаркай якіх лічыцца сьвятая Марцэла, сучасніца пабожнага Ераніма, дапасуемага тэолагамі да 330-419 гадоў «пасля Нараджэння Хрыста». Але і жаночыя манастэрыёны, калі яны сапраўды тады ўжо існавалі, мы не павінны

атаясамляць з сучаснымі. Іхныя жыхаркі зваліся «пасьвечанымі» (sanctimoniales), а пра тагачаснае хрысьціянства пры ўважлівым дасьледаванні даводзіцца сказаць, што яно больш было падобным на паганства. Так, напрыклад, Борджыа[138] прыводзіць гімн, дапасуемы ім да 667 года нашай эры, дзе апісваецца заканчэнне ў італійскай Ламбардыі (Лангабардыі) культу Змеяў, нагадваючых «медзянога змея Майсея» і сузорнага змея астролагаў, і паведамляецца, што нават пад час сярэдневечча ў іх яшчэ існавалі сьвятыя дрэвы, нагадваючыя біблейскія сьвятыя гаі. Дакладна так жа і дзяржаўнае ўладкаванне тагачаснага горада Рыма ўвесь час называецца рэспублікай, як у класікаў.

«*Пачніце перамовы*, – піша вялікі рымскі пантыфекс (pontifex maximus) Пелагій (578-590г.) у Візантыю да дыякана Рыгора і назіральніка (біскупа) Себастыяна, – *і паспрабуйце абодва дапамагчы нам, як магчыма хутчэй. Рэспубліка ў безнадзейным становішчы, і мы вырачаны на сьмерць, калі бог не памякчыць сэрца набожнейшага імператара, каб ён пашкадаваў сваіх верных служак і выправіў сюды вайсковага магістра і гердога*[139]. *Асабліва рымская зямля мае патрэбу ў якім-небудзь гарнізоне, а экзарх нам піша, што ён не ў стане дапамагчы, і клянецца, што ў яго няма дастатковых сродкаў нават для абароны сваёй Равенаскай вобласьці. Ды надась цару бог выправіць нам хуткую дапамогу, перш чым войска бязбожнага народа* (ламбардцаў) *будзе ў стане захапіць тыя гарады, якімі яшчэ валодае рэспубліка*».

Відаць, у гэтым выпадку маюцца на ўвазе ерэтычныя ламбардцы, таму што яны часта супрацьпастаўляюцца французам, і ў выдатным лісьце Пелагія II да Аўнахара, назіральніка ў Аксеры, вельмі вызначана выказваецца думка, што прававерныя франкі прызначаны провідам выратаваць Рым ад рук лангабардаў. У гэты ж час і візантыйскі імператар Маўрыкій вёў дзейныя перамовы з каралём франкаў Хільдэбертам, схіляючы яго да вайны з ламбардцамі (лангабардамі). У 584 годзе Хільдэберт ужо ўступіў з войскам у Італію, але потым заключыў з каралём Аўтарысам мірнае пагадненне і вярнуўся назад.

«*Падзеі наступных гадоў,* – паведамляе Грэгарэвіус[140], – *нам невядомы, таму што хронікі таго часу, аднаскладовыя і цьмяныя, згадваюць толькі пра бедствы, нагодай якіх былі стыхійныя праявы прыроды і чума*». «*На прыканцы 589 года,* – паведамляе Рыгор Турскі[141], – *Тыбр пакрыў горад такой вялізнай колькасьцю вады, што старажытныя будынкі пападалі і царкоўныя жытніцы былі знішчаны*». *Яшчэ больш жудаснымі былі спусташэнні, якія вырабіла чума, але яна выявілася ўжо пазьней, напачатку 590 года*».

Наўрад ці ў які іншы час «чорная сьмерць» наводзіла на людзей такі жах, як тады. Пракоп і потым Павел Дыякан падрабязна апісалі яе: «*Людзям здавалася, што ў паветры чутны гукі труб, што на сядзібах з'яўляецца анёл сьмерці, а па вуліцах носіцца дэман чумы з прывідамі і імгненна ўражвае сьмерцю кожнага сустрэўшагася. Хворыя паміралі, пагружаныя ў глыбокі сон ці палаючы ад унутранага жару. Іхныя вантробы: пакрываліся нарывамі, і ў пухлінах утрымлівалася чорнае, як вугаль, рэчыва*».

8 лютага 590 года і сам Пелагій II памёр ад чумы.

Пасьля яго сьмерці выбар сьвятарства ўпаў на Рыгора, які лічыцца адным із найвялікшых вярхоўных рымскіх пантыфексаў. Гэта так званы Рыгор Вялікі.

---

[138] Borgia: Memor. di Benvenuto II, 277.

[139] Першым царом, які пачаў ужываць выказванне «боскай літасьцю», лічыцца Піпін (G. Waitz: Deutsche Verfassungsgeschichte III, 198)

[140] Т. II, стар. 21.

[141] Historia francorum 10, c. 1.

Яго бацьку, – паведамляюць нам яны, – клікалі Гардыянам, а маці – Сільвіяй, і ёй належаў палац на Авентыне. Лічылася, што ён прысьвеціць сябе грамадзянскай кар'еры, для чаго ён вывучыў усе рытарычныя і дыялектычныя навукі, выкладаўшыяся тады ў Рыме. Потым ён заняў пасаду прэфекта горада і яшчэ раней, чым быў пасьвечаны, загадаў на працягу трох дзён ладзіць збавіцельныя працэсіі, каб папрасіць у бога збавення ад чумы, якая яшчэ больш лютавала[142]. У прыпісваемай яму пакаяльнай прамове ад 29 жніўня 590 года, пры Сонцы, ўступаючым у сузор'е Панны, у царкве сьвятой Сабіны, аўтар сведчыць, што рымляне паміралі ў вялікай колькасьці, і ў сядзібах не заставалася нікога. Усё насельніцтва горада ён падзяліў згодна з узростам і званнем на сем згуртаванняў, із якіх кожнае павінна была сабрацца ў вызначанай царкве, і потым накіравацца да аднаго месца – да базылікі найсьвяцейшай Панны. Сьвятарства, на чале якога сталі сьвятары шостай акругі, ішло – паведамляюць нам – ад царквы Казьмы і Даміяна; абаты, суправаджаемыя манастэрыянцамі, ішлі са сьвятарамі чацьвёртай акругі ад царквы Гервасія і Пратаса. Ад царквы Марцэліна і Пятра ішлі абатысы і ўсе пасьвечаныя панны са сьвятарамі першай акругі; усе быўшыя ў Рыме дзеці накіроўваліся ад царквы Яна і Паўла да Цэліі са сьвятарамі другой акругі; усе парафіяне – ад царквы Стэфана на Цэліі са сьвятарамі сёмай акругі; удовы – ад царквы Яўхіміі са сьвятарамі пятай акругі; і, нарэшце, усе адружаныя жанчыны – ад царквы Кліментыя са сьвятарамі трэццяй акругі.

«*Чумную працэсію 590 года,* – сведчыць Грэгарэвіус,*– можна было б прызнаць падзеяй, з якой пачынаецца сярэдневечнае існаванне Рыма*»[143].

І гэта было цалкам натуральна: чумная працэсія 590 года была пачаткам культу «Прачыстай Панны». Паглядзім толькі, што паведамляюць нам першакрыніцы пра яе вынікі.

Разам з удзельнікамі працэсіі рухалася і чума, уражваючы сьмерцю то аднаго, то другога із іх. Але вось, – паведамляюць нам «Жыцці сьвятых», – «*як бы ў адказ на гарачыя маленні нябеснай Панны* (знакам якой служыла сузор'е Панны) *перад вачамі народа ўзнікла нябесная выява: над помнікам Адрыяна з'явіўся* (на небе) *арханёл Міхал. Ён укладаў у ножны, свой палаючы меч* (камету) *даючы тым зразумець, што чума з гэтага часу спыніцца*». У сувязі з гэтай падзеяй маўзалей Адрыяна і меў у X стагоддзі назву замак Анёла, а на вяршыні маўзалея, – невядома, менавіта калі, але не раней VIII стагоддзя, – была пабудавана капэла св. Міхала. Бронзавая выява арханёла з распрасьцёртымі крыламі, кладучая свой меч у ножны, высіцца і зараз над гэтым выдатным помнікам старога дойлідства.

І іншыя легенды прыпісваюць спыненне чумы выяве нябеснай Панны, якую вярхоўны рымскі пантыфекс загадаў несьці падчас працэсіі, і яе самай старажытнай выявай лічыцца тая, якая знаходзіцца ў Ара-цэлі (Ara-coeli). Там жа некалі можна было бачыць і выяву чумы на срэбных дзьвярах, за якімі змяшчаўся гэты абраз вырабніцтва XV стагоддзя. Другая, змешчаная ў Ара-цэлі выява, напісаная на аспідным камені, уяўляе самую чумную працэсію, пасярод якой нясуць на насілках выяву Мадонны.

Гэта азначае выратаванне ад чумы 590 года сапраўды прыпісвалі нябеснай Панне ў гэта мела вынікам культ Мадонны на Захадзе[144]. А на Ўсходзе, згодна са

---

[142] Прапаную параўнаць гэтую чуму з апісанай у Фукідыда (Хрыстос, IV кніга).

[143] Том II, стар. 26. рускага перакладу.

[144] Яе імя Марыя паходзіць ад жыдоўскага М-РЫМ (רים-מ) і чытаецца зараз Марыам. Сэнс тлумачыцца як «міравыя галінкі гаркаты», але множны лік тут відавочна недарэчны. Нашмат больш праўдападобней

сведчаннем візантыйскіх клерыкалаў, назва «багародзіца» была ўсталявана за маці «Хрыста» ўпершыню Кірылам Александрыйскім, пры вялікім супраціве Канстантынопальскага патрыярха Нясторыя яшчэ быццам бы на Эфескім саборы 451 года. Аднак такое царкоўнае паведамленне і ўсе сведчанні пра яго атачэнне носяць характар апакрыфічнасьці. Магчыма, што на Эфескі сабор перанесена пастанова Цвінскага (Дзвінскага) сабора, адбыўшагася у Малой Азіі праз 6 гадоў пасьля апісанай чумы (у 586 (596?) годзе). Цікава, што як раз у гэты ж час кіпела сярод клерыкалаў і спэчка супраць монафізіцтва (г.азн. аднасутнасьці) цела Езуса.

Вывучаючы астралагічнае атачэнне падзеі, мы бачым на тагачасным небе наступнае:

1. Пад 590 годам камет у кітайскіх летапісах не значыцца, але пад 565 і 568 пазначана, напэўна, адна і тая ж камета на ліпень, жнівень, верасень і кастрычнік, надзвычай прыдатная да выпадку. Ці не памылка тут у злічэнні гадоў? Гэта тая самая камета, якая, прайшоўшы праз сузор'і Шаляў, Змеятрымальніка-Вымяральніка і, накіраваўшыся да ног Пярсея, дала нагоду да ўзнікнення біблейскага прароцтва: «Мані, Факел, Фарэс»[145].

Але ў такім выпадку, дзе ж зроблена памылка ў годзе? Ці ў вызначэнні часу чумной працэсіі? Ва ўсякім разе адрозненне тут не такое ўжо і значнае, каб была нагода пра яе сур'ёзна турбавацца, тым больш, што ў розных першакрыніцах час гэтай каметы вызначаецца па рознаму, і яна распалася як бы на цэлае гняздо камет. Так Рычыолі паказвае на паведамленні пра з'яўленне каметы: у 570, 587, 589, 594, 597 гадах, а ў кітайцаў існавалі яшчэ ўказанні на 588 і 594 гады. Супадзенне атрымліваецца толькі для 594 года, ды і яно можа быць палічана выпадковым. Зразумела толькі адно: каля часу чумной працэсіі з маленнямі да Нябеснай Панны пра выратаванне, на небе сапраўды была вялікая камета, але розныя хранікёры пазначылі яе год на ўсім прамежку ад 565 па 594 год. Бачныя простым вокам каметы не з'яўляюцца так часта, як тут паказана.

2. З кастрычніка па травень 590 года Юпітар увесь час ганяўся за Сатурнам у Двайнятах, апісваючы пятлю, у якой пераганяў яго тры разы і потым пачаў адыходзіць ад яго ў сузор'е Рака. З верасня па красавік, Марс апісваў перад імі такую ж пятлю, але ўдвая большага памеру ў Раку. На пачатку траўня, пры Сонцы ў Цяляці, ён перайшоў у Ільва; напачатку ліпеня, калі Сатурн і Юпітар выйшлі із за Сонца на ўсходзе, Марс перайшоў на захадзе ў Панну; на пачатку верасня, калі Сонца было ў Панне, Марс перайшоў у Шалі, на пачатку кастрычніка, пры Сонцы ў Шалях, – у Скарпіёна, калі, вядома, усё з жахам чакалі поўнай згубы ад чумы. Але вось як бы ў адказ на маленні выміраючых людзей, выйшла на ранішнім небе із-за Сонца Панна і чума пачала спадаць. Як было не прыпісаць сваё выратаванне гэтай абаронцы?

Я не магу не прывесьці тут згодна з гэтай нагодай свой верш «із Зорных песень», надрукаваны ўжо некалькі гадоў назад:

*Зорная Панна.*
*Хутка восень заменіць лета, і, як рэха далёкіх, краін,*
*Чую я ў імгле світання гімн забыты хрысьціянаў:*
*– Закончаны час господняга гнева, яркія зоркі на нябёсах!*

---

перакладаць яго: Рымская Панна, паралельна Афінскай Панне (Афіна Партэнас), таму што слова Рым па-жыдоўску мае напісанне, РМ і РЫМ і РАІМ, а прэфікс М з'яўляецца характарыстыкай якаснага ўжывання слова. А яшчэ больш верагодна, як пабачым далей, што корань гэтага наймення – marina (марская).

[145] Гл. «Хрыстос», кн. I, частка II, гл. IX.

*Над світаннем падымаецца Панна з яркім Коласам у руках.*
*«Зорны сьвет мілоту шле ў праменях ва ўсе канцы,*
*«І, як знаменне замірэння, там, у зяніце, Двайняты».*
*Хто прынёс мне думкі гэтыя? Ці варажба старога вяшчуна?*
*Ці гучаць яшчэ на сьвеце гэтыя старадаўнія словы?*
*Вечным жыццём мы абвіты, сутнасьцю яго дыхаючы,*
*У адно цэлае з сусьветам паяднаны ў нас і цела і душа.*
*Нашы душы – віядукі із глыбінь былых стагоддзяў,*
*У па іх ідуць адтуль гукі аддаленых галасоў.*
*І зараз у імгле прамяністай я з хваляваннем пачуў*
*Водгалас веры чыстай у багоў начных сьвяціл.*
*Гэта культ Прадвечнай Панне, ім поўніцца душа мая,*
*Ёй забытыя напевы са стагоддзяў пачуў я.*
*Гэта выйшлі хрысціяне назіраць яе ўзыходжанне,*
*І спявае ёй на кургане гімн схіліўшыся народ.*




Мал. 95
Сузор'е Нябеснай Панны (Мадонны), выходзячае раніцамі ў кастрычніку і лістападзе із прамянёў світання на ўсходзе над знакам правасуддзя – Шалямі, тым часам як сузор'е сьмерці – Скарпіён – згарае вечарамі ў полымі вечаровага зарыва (згодна з малюнкам XIX стагоддзя).

Так! Менавіта, тады сярод жахаў чумы павінен быў адбыцца рэчаісны пачатак каталіцкага культу Мадонны, перайшоўшы пазней і на Ўсход у Візантыю.

І само сабой зразумела, што на сваім доўгім шляху па стагоддзях і разнамоўных народах уяўленне пра яе не засталося нязменным, асабліва таму, што і само яе імя перамянялася пры пераходзе із адной мовы на другую. Сапраўды, адкуль бярэ пачатак яе імя **Марыля**? Спрабавалі вывесьці яго ад жыдоўскага слова марыам, што азначае «гаркота», але гэтае вывядзенне відавочна тэндэнцыйнае, таму што заснавана на нададзенай ідэі пра палестынскіх жыдоў, якія быццам бы папярэднічалі хрысціянам, ды і сэнс такога імя не цалкам дапасуе да дзяўчыны. Найбольш разумным тлумачэннем з'яўляецца тут тое, што гэтае імя з’яўляецца толькі прыстасаваннем да жыдоўскай мовы італійска-лацінскага слова marina г.азн. Марская, што засталося і ў існуючым да гэтага часу імені Марына. Да

нябеснай, сузорнай Панны гэты эпітэт цалкам падыходзіць, таму што, згодна са стажытнымі ўяўленнямі пра плоскую Зямлю, плаваючую, як плыт, па атачаючаму яго мору-акіяну, сузор'е Панны разам з усімі іншымі лічылася штосутачна выходзячым із гэтага мора-акіяна і штосутачна апускаючымся ў яго.

Але падобна таму як у ранейшай праваслаўнай Расіі існавалі багародзіцы: Казанская, Іверская, Трохручыца, Суцяшальніца Смуткуючых і г.д., так і ў сярэднявечным хрысьціянстве ў залежнасьці ад выгляду яе статуй і месца іхных храмаў з'явіліся Нябесныя Панны: Маці Боская (Дэметра па-грэцку), Ушаноўваемая (Венера на-лаціне), Узыходзячая із пены марскіх хваль (Афрадыта па-грэцку), Боская (Дыяна на-грэка-лаціне), Паветраная (Юнона на-лаціне), Валадарыца (Гера на-лаціне), Афінская Панна (Афіна Партэнас па-грэцку) і г.д. і г.д. І ўсе яны із простых найменняў адной і той жа сузорнай Панны, ператварыліся ва ўяўленні класікаў у розных дахрысьціянскіх багінь. А пераход нябеснай Панны (мал. 95) у сучасную (рыс, 97) мы назіраем на шматлікіх сярэднявечных выявах, малюючых яе сярод зорак, і між іншым на карціне Мурыльё «Зачацце Панны Марылі», дзе яна паказана на Месяцы (мал. 96).





Мал. 96
Далейшае развіццё культу Нябеснай Панны. Выява Мурыльё (1617-1862 г.): «Зачацце Панны Марылі» ў сувязі з нованароджаным Месяцам (Мадрыд, Прадо).



Мал. 97
Канчатковае развіццё культу Нябеснай Панны. Выява Несьцерава: Богамаці.

Зацьверджанне абрання Рыгора на пасаду вярхоўнага рымскага жраца-першасьвятара было атрымана із Канстантынопаля, але Рыгор – паведамляюць нам аўтары яго жыцця – наполахаўся будучай сваёй задачы. Ён (быццам бы) збег із Рыма з купцамі і схаваўся ў яры, пакрытым лесам. Рымскія грамадзяне пачалі яго шукаць, і ім дапамог – згодна з адной версіяй – выпраменьваючы сьвятло галуб, згодна з другой – слуп сьвятла, пазначыўшы тое месца, дзе хаваўся Рыгор.

Знойдзены ўцякач быў урачыста прыведзены да «сьвятога Пятра» і 3 верасня 590 года пасьвечаны ў вялікія рымскія пантыфексы.

У гэты час яшчэ не згадваецца ні пра якога герцага (dux) Рыма і нідзе няма гаворкі пра рымскае герцагства. У некаторых гарадах існуюць comites і трыбуны, а ў Рыме і яго вобласьці мы знаходзім magister militum, як галоўнага вайскавода, надзеленага ўсёю ўладай герцага. У руках гэтай кіруючай асобы былі засяроджаны вайсковыя судовыя справы; пенсіён войскоўцам дасылаўся із Равены ці із Канстантынопаля і, калі даходзіў да Рыма, выплочваўся праз Эрагатара.

У гэты час ужо існаваў прэфект Італіі, таксама як і прэфекты Афрыкі і Ілірыі, г.азн. тых трох дыяцэзій, якія, згодна са сведчаннямі класікаў, былі некалі падначалены прэтарыянскаму (г.азн. сьвятарскаму[146]) прэфекту Італіі. Непасрэдна яны кіравалі ўсім тым што мела дачыненне да фінансавых і судовых справаў і кіравання гарадоў. У VI стагоддзі, калі вайсковая ўлада мела поўную перавагу, яшчэ не існавала шырокіх паўнамоцтваў гарадзкога прэфекта і нават пасьля 600 года, калі прэфектам быў Ян, мы не сустракаем згадванняў пра іх да 774 года, хаця гэтая гарадзкая пасада пад час самых позьніх гадоў сярэдневечча набывае не малое значэнне і дала нагоду легендам пра прэтараў і прэфектаў уяўляемага старажытнага, класічнага Рыма.

«Пра тое, што тады ўяўляў сабой сенат, – паведамляе Грэгарэвіус[147], – мы нічога не ведаем. Тыя пісьменнікі, якія сцвярджаюць, што ён і тады існаваў, прыводзяць на карысць сваёй думкі месца із прагматычнай санкцыі Юстыніяна – данясенне Сеандра пра выпраўленне некалькіх сенатараў у 579 годзе ў Канстантынопаль – і спасылаюцца на існаванне пасады прэфекта, лічачы, што апошні быў, як у творах класічных пісьменнікаў, кіраўніком сената.

Заходняе сьвятарства тады – паўтараю – было сямейным. Яго неадружанасць была ўсталявана толькі Рыгорам VII (1073-1085), які ўпершыню загадаў вярхоўных рымскіх першасьвятароў называць па-грэцку – папамі, ад грэцкага слова πάππας (папас), г.азн. бацька, адкуль і рускае – поп.

Царкоўных маёнткаў было шмат і яны былі вялікімі, так што вярхоўны рымскі пантыфекс, хаця у не быў валадарачым герцагам, але ўсё ж лічыўся самым заможным землеўласнікам у Італіі. Усё гэта рабіла яго становішча падобным на становішча буйнога валадара. Уладанні рымскай царквы былі раскіданы па шмат якіх краінах; яна мела свае патрымоніі, ці дамены, і ў Сіцыліі, і ў Кампаны, па ўсёй паўднёвай Італіі, у Далмацыі, Ілірыі, Валіі, Сардыніі, Корсіцы, Лігурыі і ў Катыйскіх Альпах. Падобна каралю, прызначаўшаму ў правінцыі сваіх упаўнаважаных, пантыфекс пасылаў у гэтыя патрымоніі «рэктараў» і яны былі абавязаны сачыць, як за духоўнымі, так і за свецкімі справамі. Із лістоў, якія быццам бы пісаў Рыгор сектарам патрымоній, можна скласьці ўяўленне пра ўмовы, у якіх тады знаходзіўся рымскі селянін. Маёнткі царквы апрацоўвалі колана, прымацаваныя да свайго лапіка зямлі. Колан плаціў храму даніну грашамі ці натурай. Гэтая даніна мела назву pensio, і яе збіралі conductores, зборшчыкі падаткаў. Для кожнага колана вёўся рэгістр выкананых ім прац, так званы libellus securitatis, на які калон мог спасылацца для свайго апраўдання.

Багаццю вялікага пантыфекса Рым быў абавязаны, як сваім адасабленнем ад ламбардцаў, так і сваім калі-нікалі амаль незалежным становішчам у дачыненні да

[146] Praetor – praitre.
[147] Грэгарэвіус, ч. II, стар. 44.

Равэны. А перад імператарам царква надзявала на сябе маску крайняй беднаты. Каб чытач меў уяўленне пра рабскае становішча тагачаснага рымскага пантыфіката да візантыйскіх імператараў, я прывяду такое паведамленне Грэгарэвіуса[148].

«*Сярод няўстойлівасці міру Рым быў раптам усхваляваны паведамленнем пра крывавы пераварот у Канстантынопалі. Мужны імператар Маўрыкій, з такім поспехам бараніўшы імперыю супраць авараў, стаў ахвярай вайсковага мяцяжу і яго пасад стаў набыткам адной із самых жудасных пачвар, якую калі-небудзь ведала візантыйская гісторыя. Мяцежнік Фака, просты цэнтурыён, заплямлены крывёй імператара і яго пяці сыноў, якіх ён з неверагодным варварствам загадаў зарэзаць на вачах у бацькі, стаў валадаром у палацы Юстыніяна з 23 лістапада 602 года. Новы імператар не замарудзіў выправіць у Рым сваю ўласную выяву і выяву сваёй жонкі Лявонціі і 25 красавіка 603 года яны былі атрыманы ў Рыме.*

*Такім быў стары звычай. Кожны візантыйскі імператар, сядаючы на пасад, пасылаў правінцыйным уладам у суправаджэнні жаўнераў і музыкантаў, сваю выяву і выяву сваёй жонкі, што мела назвуя «laurata», – дзякую таму, што абедзьве галовы на іх упрыгожваліся лаўровымі вянкамі. Гэтыя выявы як бы атаясамлялі імператараў, і таму сустракаліся народам урачыста і ганарова, з запаленымі свечкамі, як божыя істоты, і потым ставіліся ў сьвятое месца.*

*І вось, калі выявы Факі і яго жонкі былі дастаўлены ў Рым, сьвятарства і шляхта сабраліся ў базыліцы Юлія ў Латэране і з крыкамі: «Доўгія гады найясьнейшаму Фацэ і Найясьнейшай Лявонціі!», абвясьцілі тырана імператарам. І Рыгор загадаў паставіць яго выяву ў капліцы пакутніка Цэзарыя.*

*У глыбіні сваёй душы, – здагадваецца аўтар, – Рыгор павінен быў адчуваць агіду да імператара, дасягнуўшага улады, запляміўшы сябе крывёй. Але палітычныя меркаванні прымусілі яго вітаць Факу і Лявонцію вернападданіцкім лістом. У сваім лісьце да іх Рыгор выказваецца пра весялосць на небе і зямлі пры іхным уцараванні, як быццам са сьмерцю справядлівага і асабіста добра ставіўшагася да Рыгора Маўрыкія для Рыма скасоўвалася невыцерпнае ярмо, а з новым кіраваўніцтвам наставала эра волі і дабрабыту. Немагчыма чытаць гэтыя лісты без абурэння[149]. Яны з'яўляюцца цёмнай плямай у жыцці вялікага чалавека і таксама ганьбяць яго, як ганьбіць Рым калона, узведзеная там у гонар Факі на форуме*».

Так выказваецца безстаронні гісторык сярэднявечнага Рыма, а для нас яго словы вельмі важныя. Яны з'яўляюцца доказам трэццяраднага значэння італійскага Рыма ў жыцці сапраўднай Рамейскай імперыі, цэнтрам цяжару якой заўсёды былі берагі Басфора.

* * *

Я не магу зноў не перасьцерагчы чытача супраць ужо бясспрэчна існуючага ў яго ўяўлення пра старажытнасьць папства, як царкоўнага інстытута Заходне-Еўрапейскай царквы. Нічога падобнага на справе не было.

Што сказалі б вы, калі б у гэтай маёй кнізе, сярод выдатных гістарычных дзеячаў, я згадаў пра «аўстрыйскую імператрыцу Брунгільду», дачку «вестгоцкага імператара Атанагільда», ці пра «імператара ўсёй Расіі Ігара Рурыкавіча» і пра «яго жонку набожнейшую самаўладнейшую імператрыцу Вольгу»?

Вы проста засмяяліся бы і сказалі, што я не маю ніякага разумення пра развіццё імперыялізму ў еўрапейскіх дзяржавах, бо ў той час яшчэ не існавала ніякага ўялення пра імператараў і імператрыц.

Але ці не тая ж самая недарэчнасць выходзіць і ў тым выпадку, калі царкоўныя гісторыкі называюць рымскімі папамі сярэднявечных вялікіх рымскіх

---

148 Грэгарэвіус, ч. II, стар. 53.
149 Epist. 38, XI і 44, XI.

пантыфексаў (pontifici maximi) паміж 440 і 1073 гадамі нашай эры, калі ніводзін із іх нават у снабачаннях не чуў пра такое званне, калі на літары папа на-лаціне пачынаўся толькі papaver – мак?

Усім жа гісторыкам каталіцызму добра вядома, што тытул папа, у дачыненні да рымскіх вярхоўных жрацоў-першасьвятароў пачаў ужывуцца толькі з 1073-1085 гадоў пашай эры, згодна з булай Рыгора VII, які і сам да яе меў тытул “вялікі рымскі пантыфекс” (pontifex maximus), г.азн. той жа тытул, які мы бачым і ў творах усіх «класічных» аўтараў, дапасуючых, аднак, гэты тытул да паганскіх жрацоў. Само слова – папа, адсутнічаючае ў лацінскай мове, было, як я не стамлюся паўтараць, узята ад грэцкага πάππας, г.азн. бацюшка, адкуль і рускае поп, і дапасаваць яго да рымскіх вярхоўных першасьвятароў да Рыгора VII у адзінаццатым стагоддзі нашай эры тое ж самае, што называць жонку Ігара Вольгу набожнейшай самаўладнейшай імператрыцай усёй Расіі.

Для чаго ж была зроблена гэтая анахранічная перастанова слова папа, замест pontifex maximus? Памылкова? Вядома, не! Перастанова была зроблена для таго, каб засланіць метамарфозу хрысьціянскай рэлігіі да пачатку XI стагоддзя нашай эры, калі яна із політэістычнай пачала ператварацца ў сучасную (трытэістычную, дзякуючы з'яўленню і пашыранню Евангелляў напярэдадні гэтага перыяду.

А ранейшая рымская рэлігія была яшчэ да-евангельскай, напалову паганскай, той самай, якой яна і апісваецца ў класічных аўтараў, толькі з дадаваннем апакаліптычнага чакання заканчэння сьвету. Аб'яднанне назвы вялікіх рымскіх пантыфексаў першага гістарычнага перыяду з апошнім перыядам служыла толькі сродкам для прыкрыцця метамарфозы хрысьціянства на прыканцы X стагоддзя. Адзінства назваў надавала і адзінства ўяўленняў, і чытачам сьвятых кніг пачало здавацца, што іхная царква і рэлігія заставаліся нязменнымі пачынаючы з самых старажытных часоў. А калі мы адкінем гэтыя пазнейшыя наданні пра ранейшыя перыяды рымскай царквы, то застанемся ў поўным няведанні нават і адносна грамадзянскага становішча яе ранніх вярхоўных пантыфексаў. Ці былі яны абавязкова выбіраемымі? – Мы ведаем, што ў некаторых выпадках гэтая пасада пераходзіла ад бацькі да сына... Ці былі яны абавязкова мужчынамі? – Мы ведаем, што адным із pontifex maximus'еўшы была жанчына Джавана (898-900 гг.), хаця больш пазьнія аўтары і паведамляюць быццам бы аж да нараджэння дзіцяці яна пераапраналася ў мужчынскае адзенне... Ці адракаліся яны ад сям'і? Сам легендарны заснавальнік рымскага першасьвятарства апостал Сымон-Пятро быў сямейным чалавекам з сынамі і дочкамі, народжанымі ім ужо ў апостальскім званні, калі такое сапраўды некалі яму належала. Неадружальнасць жа каталіцкага сьвятарства ўсталявана толькі ў XI стагоддзі тым жа Рыгорам VII (1073-1085 гг.), які ўпершыню прысвоіў сабе і грэцкі тытул папа і загадаў называцца так сваім наступнікам, а неадружанымі раней былі толькі пустыннікі.

Пераглядаючы нашу адзіную (і таксама вельмі позьнюю) першакрыніцу «Кнігу пантыфексаў» (Liber Pontificalis)[150], мы бачым на працягу ўсёй яе першай часткі, ахопліваючай перыяд да 715 года, толькі некалькі выпадкаў пазначэння папярэднічаўшага становішча рымскіх пантыфексаў. Так, пра легендарнага Гігіна паведамляецца, што ён быў перад тым афінскім навукоўцам (Hyginus, natione graecus, ex philosofo, de Athenis); пра легендарнага Яўсевія, што ён быў перад тым грэцкім лекарам (Eusebiu natione graecus, ex medico). Пра папярэднічаючы (а такім

[150] Яе першая частка маецца ў Акадэмічнай бібліятэцы ў выданні Мамзена: Gesfa Pontificum Romanorum 1898 г.

чынам і наступны) цэлібат паведамляецца толькі ў дачыненні да чатырох выпадкаў: у выпадку Тэлесфора (Telesphor natione graecus ex anachorita), у выпадку Дыянісія (Dionysius ex monacho), у выпадку Агата (Agato, natione sicula ex monachis) і ў выпадку Адэадата, дапасуемага ужо да 672-676 гадоў (Adeodatus, natione romanus ex monachis de patre Jobiano).

А пра тое, што вялікі рымскі пантыфекс раней свайго абрання на гэтую пасаду ужо меў нейкі царкоўны чын, за ўсе першыя сем стагоддзяў нашай эры мы маем толькі адно паведамленне пра Яўгена, дапасуемага да 654-657 гадоў (Eugenius, natione romanus de regione prima Aventinense clcricus a cunabulis).

Гэта азначае, што астатніх даводзіцца лічыць сямейнымі свецкімі людзьмі аж да XI стагоддзя нашай эры. Такімі яны і заставаліся.

Я не магу тут жа не нагадаць чытачу, што ніякіх праўдзівых дакументаў у архівах Ватыкана не толькі пра сутнасць тагачаснай рэлігіі, але нават і пратаколаў пра абранне ў Рыме таго ці іншага «вялікага пантыфекса» не існуе за ўвесь сярэднявечны перыяд да прысваення рымскімі пантыфексамі тытула папаў у XI стагоддзі.

Адзінай першакрыніцай, выяўляючай само існаванне шмат каго із іх, з'яўляецца толькі «Liber Pontificalis» («Кніга рымскіх пантыфексаў») позьняга паходжання, таму што даводзіць іхны спіс да крыжовых паходаў. Гэтай кнігай невядомага паходжання і павінны былі кіравацца ўсе больш позьнія гісторыкі рымскай рэлігіі, як ягіптолагі турынскім папірусам, не адважваючыся выйсьці із дадзенай для іх тут збруі, як коні із аглобляў, каб цалкам не пераблытаць увесь багаж свайго царкоўна-гістарычнага каравана.




Мал. 98

Яўропа заканчэння VI стагоддзя нашай эры. Лангабардзкая (Ламбардзкая) арыянская дзяржава займае ўсю Італію, акрамя Рымскай вобласьці ці нават і яе.

Шостае стагоддзе, без сумневаў, было адным із самых цікавых у развіцці рэлігійнай думкі. Напярэдадні яго, як мы бачылі, з'явіліся біблейскія прароцтвы: Адужае-бог (Іезекі-іл), Будучыня-выратаванне (Іса-ія), Памятае-Грамабой (Захарія) і гэтак далей, як перайманні Апакаліпсіса. З аднаго боку, пачалося месіянства ў Яўропе, з іншага – ізмаэліцтва, г.азн. богаадчуванне ці так званае мусульманства ў Азіі і Афрыцы, яшчэ нічым не вызначаўшаяся ад юдаізму.

У Італію рэлігійнае абнаўленне было занесена ламбардцамі, у Галію – вестготамі, у Брытанію – саксамі. Жыццёвай асновай гэтых набіраючыхся моцы рэлігійных груп вы'явіўся рымскі пантыфікат. Перамогшы паганства, ён памаленьку прывёў заходне-еўрапейскія краіны да адзінства, якое пазьней павінна было знешне набыць палітычную форму ў выглядзе Сьвятой (найясьнейшай) Рымскай Імперыі, але таксама не тут, а на берагах Дуная.

Падобна таму як жахлівае вывяржэння Вязувія ў IV стагоддзі «выявіла атачаючым народам глухасць гняўлівага бога-Грамабоя да ляманту малячыхся яму і вымусілі народы маліцца яго літасьціваму сыну апакаліптычнаму Авену, якім мы яго знаходзім у катакомбах, так было і зараз. Калі жахлівая чума ўразіла ўсе народы на берагах Міжземнага мора і іхныя маленні звернутыя да бога-Авена (ён жа Хрыстос), скіраваныя на нябёсы, не дапамаглі, усе сэрцы схіліліся да жонкі бога-Грамабоя – міласьцівай і прыгожай Панне-Мадонне. Усе працэсіі зараз накіроўваліся як із Рыма, так і з яго наваколляў да пабудаванага ёй храма, атрымаўшага назву «Сьвятая Марыля Старэйшая» (Santa Maria Maggiore). Не разлютаваны падобна свайму бацьку сын боскі, а закаханая жонка бязлітаснага бога-бацькі заклікалася зараз выратаваць людзей. І гэта цалкам зразумела. Калі нейкі жорсткі гаспадар і яго сын не жадалі палегчыць непасільную ношу сваіх рабоў, яны заўсёды, не без поспеху, звярталіся да сваёй добрай гаспадарыні, каб яна заступілася за іх перад гаспадаром.

«*Не Хрыстос, а яго маці заклікалася выратаваць людзей*», – паведамляе нам гісторык Сярэднявечнага Рыма[151]. Гэта азначае, што сапраўды, шанаванне Панны Марылі, пераважаючае зараз у Італіі і Грэцыі, узнікла падчас чумы. «*Да гэтай чумы такая ж працэсія была б злучана з імем Хрыста, і ў часы вандалаў і готаў – з імем апостала Пятра. А зараз ва ўяўленні людзей, шукаўшых заступніцтва, богамаці ўяўлялася больш адзыўчывай, чым яе сын, суровае адлюстраванне якога на мазаічных выявах сведчыла людзям, што яны знойдуць у ім толькі палохаючага суддзю ўсяго сьвету*».

Такімі з'яўляюцца не толькі мае, але і ўласныя словы Грэгарэвіуса.

І жонка бога-Грамабоя, як мы бачылі вышэй, дапамагла: пашырэнне чумы спынілася і заступніцтва нябеснай Панны лічылася з гэтага часу даказаным.

Такім чынам культ Мадонны і згодна з самымі артадаксальнымі гісторыкамі пачаўся з жудаснай павальнай хваробы 590 года нашай эры, я тут мы маем новы дзіўны прыклад уплыву стыхійных бедстваў на эвалюцыю рэлігійных уяўленняў. Хрысьціянская рэлігія з яе тройцай багоў, з нябесным раем і падземным пеклам, была натуральным вынікам вулканічных, сейсмічных і інфекцыйных бедстваў у паўднёвай Яўропе. Як землятрусы прыпісваліся гневу чалавекападобнага стваральніка нябёсаў і зямлі, так і інфекцыі паслужылі грунтам для складанай хрысьціянскай дэманалогіі, злучанай з падземнымі нябачнымі, як паветра, істотамі,

[151] Ф. Грэгарэвіус: Гісторыя горада Рыма пад час сярэдневечча. Рускі пераклад, т. II., стар. 63.

варожымі нябёсам, і гэтая сувязь паміж чалавечымі хваробамі і злымі духамі і дэманамі ўсіх рэлігій заслугоўваюць асобнай распрацоўкі.

Культ Мадонны, узнікшы ў Рыме, адразу ж пашырыўся і на Грэцыю, якую таксама спустошыла тая ж самая чума 590 г., але і тут я павінен перасьцерагчы чытача ад поўнага атаясамлення той Мадонны, якой будавалі храмы на прыканцы VI стагоддзя нашай эры, з сучаснай багародзіцай. Яна, як і зараз, тады пазначалася шматлікімі імёнамі. Як мы завём яе то богамаці, то цнатлівай паннай, то паннай Марыляй, так і тады яе звалі то Мадонай (маёй гаспадыняй), то Дэметрай (богамаці), то Дыянай (боскай), то проста Паннай (партэнас – па-грэцку), як завецца і зараз сузор'е Панны. А сімвалізавалі яе, то Месяцам, спадарожнікам Сонца, то галубкай, найменне якой па-грэцку чытаецца перыстэра[152], г.азн. міжзорная. Гэта азначае, што і трэцяя асоба хрысьціянскай тройцы, малюемая над царкоўнымі ахвярнікамі ў выглядзе гэтай жа галубкі, спачатку была – жонкай бога-бацькі, і толькі праз некалькі стагоддзяў пазьней была перайменавана ў «сьвятога духа» (замест «сьвятая душа»). З гэтага боку гледжання і большасць так званых класічных, багінь і напаловубагінь, асабліва жонка бога-Грамабоя, з’яўляюцца толькі рознымі аперцэпцыямі адной і той жа сузорнай Панны, кожны год нараджаючай бога-Сонца. Із гэтага мы бачым, што як сам Рыгор Вялікі быў у рэчаіснасьці не папай, а рымскім пантыфекс-максімусам, г.азн. вялікім першасьвятаром, так і заснаваны ім культ Мадоны быў на самай справе культам сузор'я Панны, выратаваўшай народ ад чумы, калі Сонца зайшло ў Панну.

Адзначым, што, згодна з паданнем пра яго жыццё, Рыгор Вялікі быў знойдзены «хаваўшымся ў яры» і гвалтоўна пасьвечаным натоўпам у званне вялікага першасьвятара якраз 3 верасня 590 года, калі Сонца ўступіла ў сузор'е Панны. Цалкам магчыма, што пачынаючы з гэтага часу год і пачалі лічыць з верасня, калі гэтая Панна, нарадзіўшы Сонца, спыніла чуму. Вось амаль і ўсё, што мы можам сказаць пра заснавальніка культу Мадоны. Ён памёр, – паведамляюць нам, – у 603 годзе, павярнуўшы з дапамогай місіянераў у хрысьціянства ангельцаў, а што да прыпісваемых яму твораў, «знойдзеных» у XIII стагоддзі ў розных кляштарах Заходняй Яўропы і ўпершыню надрукаваных толькі ў 1705 годзе, то і «Regula Pastorales», і «Размова пра замагільнае жыццё», і ўсе іншыя, прыпісваемыя яму значныя творы рэлігійнага зместу, згодна са свёй больш позняй ідэалогіяй, маглі быць канчаткова адрэгаванымі ад яго імя не раней як у XI стагоддзі нашай эры. Захаўшыміся ў першапачатковым выглядзе могуць быць прызнаны толькі яго некаторыя невялікія лісты.

Ці існавала ў яго час, акрамя глыбокага ўшанавання бога-Грамабоя, яго жонкі і сыну, таксама і глыбокае ўшанаванне іншых багоў? Доказам гэтага служыць тое, што тады, як мы ўжо бачылі, ушаноўвалі і сьвятыя дрэвы і вялікіх нябожчыкаў.

Ды і сапраўды: калі гарачыя прашэнні не выконваў ні бог-бацька, ні бог-сын, ні сама мадона, то чаму было б не памаліцца пра заступніцтва і арханёлу Гаўрыілу ці Міхалу, ці іншым сынам і дочкам таго ж бога-бацькі, ці дагадзіўшым богу людзям, душы якіх ззяюць на небе ў выглядзе зорачак? Чаму не памаліцца і парэшткам памёршых, якія бог захаваў ад гніення?

«Схільны да п*ачуццёвасьці рымскі народ*, – зноў выказваецца Грэгарэвіус[153] – *ніколі не быў схільным да монатэізму. Ледзь паспеўшы зрабіцца хрысьціянамі, рымляне*

[152] Περιστερά скарочанае Περι-αστέρα.

[153] Том II, стар. 64 рускага перакладу.

*неадкладна пачалі рабіць набыткам свайго горада* (які спрадвеку быў пантэонам багаў), *усіх з'яўляўшыхся ў правінцыях новых сьвятых, і пачалі будаваць цэрквы ў іхны гонар і збіраць іхныя парэшткі. Школ свецкіх навук не існавала, галасоў крытычнай думкі не было чуваць, і гэта давала поўную волю развіццю містычнай летуценнасьці і груба-матэрыяльнага культу*».

Гісторыкі царквы сцвярджаюць, быццам бы імператрыца Кастуся папрасіла Рыгора саступіць ёй для спавядальні, пабудаванай ёю ў Візантыі ў яе палацы, галаву апостала Паўла ці нейкую іншую частку яго цела. А Рыгор быццам бы адказаў імператрыцы лістом, у якім пісаў, што дакрануцца да парэшткаў і нават зірнуць на іх, з’яўляецца такім злачынствам, за якое трэба плаціць сьмерцю; што ён сам меў намер зрабіць некаторыя нязначныя выпраўленні ў труне св. Паўла, але можа засьведчыць (відавочна, словам гонару), што адзін із тых, каму была даручана гэтая праца, адважыўся ў гэты час дакрануцца да парэшткаў нават і не належаўшых апосталу, але, усё ж такі, быў адразу ж пакараны сьмерцю, і што, калі нейкі Пелагій, будуючы капліцу св. Лаўрэну, непадумаўшы загадаў адчыніць яго труну, то не прайшло і дзесяці дзён, як усе манахі і наглядальнікі царквы, бачыўшыя парэшткі, памёрлі.

Ці павінны мы і гэты ліст лічыць сапраўдным? – Калі так, то неабходна будзе прызнаць, што Рыгор Вялікі быў адначасова і вялікім шэльмай, а калі гэта больш позьняя падробка ад яго імя, то такімі ж павінны быць прызнаны і іншыя прыпісваемыя яму творы.

Вось, напрыклад, у лісьце 23, ён паведамляе, што аднаму ламбардзкаму жаўнеру ўсадзіўся ў шыю меч, калі ён надумаў перарабіць крыж. У сваім трэццім дыялогу (с. 30) ён сур'ёзна паведамляе, што пры асьвячэнні ім цэрквы ў Субуры, дз’ябал у выглядзе свінні пачаў лазіць паміж нагамі прысутнічаўшых і выскачыў, нарэшце, праз дзьверы. Тры ночы пасьля гэтага была чутнай жахлівая валтузня пад кроквамі царквы, а потым на яе ахвярнік апусьцілася духмянае воблака.

У адным месцы Рыгор апісвае геену дакладна падобную на апісаную ў паэме Дантэ. І няхай пісьменнікі новых стагоддзяў кнігадрукавання неаднаразова запэўніваюць нас, што яго дыялогі былі яшчэ ў VIII стагоддзі перакладзены на арабскую мову, мы маем поўнае права ўсумніцца ў гэтым, таму што ніякіх рэчаісных доказаў сваіх запэўніванняў яны нам не паведамляюць. А аўтар гэтых «Дыялогаў Рыгора Вялікага» сам выяўляе свой больш позні час, тым што падзяляе ўсе хрысьціянскія забабоны XVI стагоддзя.

# Глава IV.

## Рымскія жрацы і храмы VII стагоддзя нашай эры.

Хрысьціянскі сьветапогляд VII стагоддзя быў трохі іншым, чым мы прызвычаіліся лічыць.

Вось, напрыклад, у Ватыкане існуе (пад № 1665) паэма Прамоўцы (сьмерць якога дапасуюць да 560 года) пра апостала Пятра, у якой паведамляецца, што яна «была прачытана аўтарам прысутнічаючым у базыліцы св. Пятра ў 544 годзе». А ў гэтай паэме Алімп замяшчае хрысьціянскі рай і спадар-бог называецца проста Грамабоем. Ды і ірландзкі манастэрыёнец, Калумбан (памёр у 615 г.) малюе

Хрыста дзейнічаючым разам з данаямі і з Пігмаліёнам, у адной кампаніі з Гектарам і з Ахілесам[154].

Пра сумесь паганства з хрысьціянствам у часы Карла Вялікага ўжо дастаткова выказваўся і Піпер у сваёй «Міфалогіі і сімволіцы хрысьціянскага мастацтва»[155].

Пасьля Рыгора Вялікага ў Рыме існавалі яшчэ дзва вялікія пантыфексы – Сабініян і Баніфацый III, абодва менш за год і таксама згодна з прызначэннем візантыйскіх імператараў, а потым найбольш працяглы тэрмін вялікім рымскім пантыфексам быў Баніфацый IV (608-615 гг.), пры якім з'явіўся Пантэон (мал. 99).



Мал. 99

Унутраны выгляд царквы Santa Maria ad Martires, званай Ратондай і лічымая класікамі за Пантэон Агрыпы.

Што мы ведаем пра час пабудовы Пантэона ў Рыме? Разгледзім спачатку дакументы.

1. У 1866 годзе, «у мясцовасьці Dia Dea, на шляху ў Порта, была знойдзена дошка, на якой нейкія арвальскія браты (fratres arvales) надрапалі, што яны мелі намер наведаць Пантэон (in Pantheo). Са звычайнай паспешнасьцю аматары даўніны прызналі гэтую дошку за самае старажытнае згадванне пра Пантэон і дапасавалі да часоў Нярона. Грунтуюыся на сэнсе надпісу яны палічылі, што Пантэон ужо і ў тыя часы служыў для набажэнстваў[156]. Але мы маем поўнае права толькі ўсміхнуцца спасылкам на такія «старажытныя дакументы 1866 года». Сама Dia Dea (г.азн. боская багіня) была хутчэй усяго каталіцкая мадонай, а «арвальскія браты» не рымскай жрэцкай калегіяй, а арвальскімі манахамі.

2. Апакрыфічны Пліній у сваёй «Прыродазнаўчай гісторыі» сведчыць, што Пантэон быў пабудаваны Агрыпай у гонар бога Ўсявышняга[157]. Згодна з нашай храналогіяй Агрыпа быў вайсковым правадыром Кастуся I, з якім атаясамляецца

[154] S. Columbani: Poёmata. Epist. ad Fedolium (Max. Bibl. XII, стар. 34).

[155] Piper: Mythologie und Symbolik der Christlichen Kunst. I. 139.

[156] De Rossi (BulleL 1866, № 4).

[157] Pantheon Jovi Ultori ab Agrippa factum (Plinius, Historia Naturalis, 36, 24).

Актавіян Аўгуст, а таму і храм можна было б дапасаваць да IV стагоддзя нашай эры; калі б былі падставы верыць гэтай кнізе, знойдзенай толькі па час Эпохі Адраджэння.

3. Абсалютна апакрыфічны Дыён Касій[158] паведамляе:

«Пантэон атрымаў такую назву, таму што яго купал падобны на неба». Але згодна са сваім складам і сюжэтам Дыён пісаў яшчэ пазьней за Плінія.

4. Самая ранняя выява Пантэона належыць заканчэнню XV ці пачатку XVI стагоддзя. Гэта малюнак Guiliano da Santa Gallo, сучасніка Рафаэля[159].

Вось і ўсе першакрыніцы маючыя дачыненне да Пантэона, годныя згадвання. Усё астатняе толькі здагадкі вельмі больш позьніх, нават сучасных нам аўтараў.

Зараз разгледзім міфы пра гэтую пабудову. Нас пераконваюць, што Пантэон быў пабудаваны яшчэ пад час паганскага перыяду для Кібельскай Боскай Маці[160], пры гэтым Кібелай звалася быццам бы адна із фрыгійскіх гор. Але гэты паганскі храм, – пераконваюць нам, – стаяў нікому непатрэбны на працягу некалькіх стагоддзяў да вялікага рымскага пантыфекса Баніфацыя IV (608-615 гг.), які «**на яго парэштках**» зноў пабудаваў храм Боскай маці, але ўжо хрысьціянскай. «І вось пад скляпеннямі гэтага (зараз ужо Баніфацыева) Пантэона – паведамляе Фердынанд Грэгарэвіус[161], – упершыню загучала gloria in excelsis (услаўленне ў гонар вышэйшага бога), і рымляне мелі магчымасць назіраць, як напалоханыя нячысьцікі збягалі праз адтуліну каля купала: іх было столькі ж, колькі было паганскіх богаў ў храме, на парэштках якога быў пабудаваны Пантэон».

Такім чынам, ва ўсякім разе, той Пантэон, які мы зараз маем у Рыме, пабудаваны не Агрыпай ў І стагоддзі да пачатку пашай эры, а вялікім рымскім пантыфексам Баніфацыем IV паміж 608 і 615 гадамі нашай эры. А як жа дапасавалі гэтую пабудову да І стагоддзя да пачатку нашай эры?

«У XII стагоддзі, – працягвае Грэгарэвіус, – стала вядома (відавочна, дзякуючы апакрыфічнаму Дыёну Касію), што Пантэон быў пабудаваны Агрыпай (63-12 гг.), вайсковым правадыром Актавіяна Аўгуста», і такім чынам існаваў ужо за 600 гадоў да Баніфацыя. А тая акалічнасць, што ён і ў VII стагоддзі выявіўся прысьвечаным той жа «баганараджальніцы», прыводзіцца аўтарам у сувязь з аналагічнымі апавяданнямі латыністаў Эпохі Адраджэння і пра іншыя хрысьціянскія пабудовы.

Так, напрыклад, імі паведамляецца, што быццам бы і храм Кузьмы і Дәміяна быў пабудаваны нашмат раней іх у гонар Ромула і Рэма; быццам бы царква сьвятой Сабіны была пабудавана не ў яе гонар, а яшчэ раней у гонар Дыяны; быццам бы храм Рыгора Пераможцы з’яўляецца храмам Марса. Але ці не прасьцей лічыць, што ў гэтых выпадках маюцца на ўвазе толькі розныя назвы тых жа самых рэчаў? А гэта тым больш праўдападобна, што і Актавіян Аўгуст спісаны з імператара Кастуся І.

Лацінскія Жыцці сьвятых (Martirologium Romanum) паведамляюць, што асьвячэнне Пантэона адбылся 13 траўня, а пра год сведчанні разыходзяцца. Адны

---

[158] Dio Cassias, LIII, 24, I.

[159] Passavaut: Raphaël von Urbino, I, 322.

[160] Κυβήλη лацінскае Cybele, з тытулам Боская маці (Кібельская боганараджальніца).

[161] Ф. Грэгарэвіус: Гісторыя горада Рыма пад час сярэдневечча, т. II,. стар. 93 рускага перакладу 1903 года.

дапасуюць яго да 604, другія да 606, трэццiя да 609 i да 610 гадоў[162] (пры Сатурне і Юпітары ў Вадаліву).

Пад час гэтага дня пры выходжанні Авена із прамянёў ранішняга світання і зараз здзяйсняецца святкаванне асьвячэння Пантэона, афіцыйна называемага ўжо Santa Maria Rotonda, а сьвята «ўсіх сьвятых» спраўляецца 1 лістапада (пры Сонцы над сузор'ем Ахвярніка), што, напэўна, усталявана не раней як Рыгорам IV (827-844 гг.)[163].

Цікава, што ў XIII стагоддзі кожны новы рымскі сенатар даваў папе клятву аберагаць гэтую царкву, разам з замкам Анёла і базылікай св. Пятра. А згодна са сваёй архітэктурай і параўнальна невялікай велічынёй Пантэон, сапраўды, можа быць дапасаваны да VII стагоддзя нашай эры.

Не бяручы да ўвагі апакрыфічную літаратуру пра «перад баганарадзіўшую Кібельскую боганараджальніцу», якой яго быццам бы некалі прысьвяцілі, – мы можам прызнаць цалкам рэчаісным, што гэты храм быў пабудаваны каля 609 года пры вялікім рымскім пантыфексе Баніфацыю IV. Але мы маем поўнае права сумнявацца ў тым, каб царкоўная служба ў той час была такая ж, як пачынаючы з XI стагоддзя нашай эры, калі пачалася эпоха каталіцкіх папаў, першым із якіх, паўтараю, быў Рыгор VII (1073-1085 гг.). Ды і сама тагачасная рымская рэлігія была, напэўна, бліжэй да мітраізму (адкуль слова мітрапаліт), так што і існаванне выказвання: «Слава ў вышніх богу», ад якога кінуліся на ўцёкі чэрці, мы можам лічыць настолькі ж патрабуючым доказаў, як і існаванне саміх чарцей. Усё гэта хутчэй усяго з’яўляецца прыдумкамі створанымі ўяўленнем тэолагаў для таго, каб патлумачыць традыцыйна захаваўшуюся за храмам Santa Maria Rotonda назву Пантэон, што азначае храм прысьвечаны ўсім багам, тады як згодна з царкоўнымі меркаваннямі новага часу вярхоўны жрэц Баніфацый IV, палічаны ў XIII стагоддзі за папу, ужо не павінен быў, у якасьці такога, прызнаваць ніякіх богаў і паўбагоў, акрамя бога бацькі, бога сына і бога сьвятога духа, пры паніжэнні астатніх да ўзроўню сьвятых і анёлаў розных чыноў.

Пасьля сьмерці Баніфацыя IV у 615 годзе, візантыйскі імператар Гераклій зацьвердзіў у якасьці вялікага рымскага пантыфекса Дыядота (Богу Адданага).

«Лацінскі народ у той час, – паведамляе Ф. Грэгарэвіус[164], – набраўся моцы дзякуючы ўплыву на яго царквы, і пачаў варожа ставіцца да валадарства грэкаў, час-ад-часу паднімаючы паўстанні супраць іх, ды і самі візантыйскія намеснікі ў Італіі пачалі імкнуцца да самастойнасьці». А з нашага боку гледжання рэлігія ў гэтым выпадку не мела ніякага значэння. Заходняя Яўропа пачала набіраць магутнасць дзякуючы развіццю ў ёй распрацоўкі жалеза. Да той пары пакуль галоўным матэрыялам для вырабу прылад была медзь – галоўныя рудні якой існавалі на Кіпры – усход Міжземнага мора натуральна панаваў. Але вось, пачалося вырабніцтва жалеза ў Багеміі і на Гарцы (дзе якраз пачынаючы з V стагоддзя пачалі ў вялікай колькасьці здабываць срэбра, медзь і жалеза), і цэнтр культурнага жыцця, дзякуючы сякерам, пілам і плугам, натуральна перамясьціўся ў Сярэднюю Яўропу. Рымская царква з'явілася толькі выразніцай гэтых культурных дасягненняў і, грунтуючыся на адрозненнях у дагматах, таксама пачала браць удзел

[162] Siegbert: Chronic,дае 609 год; Annales monaster. даюць 609 год; Marianus Scotus дае 610год; Ado Wienn дае 604 год; Hcrm. Contractus дае 609 год (Jaffe: Reg. Pontif.выд., стар. 220).
[163] Грэгарэвіус, т. II, стар. 94 руск. выд.
[164] Том II, стар. 95.

у вялікім змаганні з грэцкім дзяржаўным пачаткам, змаганні меўшым вялізныя наступствы для ўсяго Захаду.

Дыядот памёр 8 лістапада 618 года, напэўна, ад чумы, і перш чым быў пасьвечаны яго наступнік, неапалітанец Баніфацый V, у Равене пачалося, услед за першым, і другое паўстанне супраць валадарання візантыйскіх цэзараў. Гэтым разам на яго чале быў сам італійскі экзарх Элеўтэрый. Візантыйскі цэзар быў заняты войнамі з персамі і аварамі, і гэта навяло славалюбівага валаха на думку выкарыстаць такі спрыяльны момант, каб зрабіцца незалежным. Ён абвясьціў сябе цэзарам Італіі і пайшоў на Рым, каб тут узаконіць сваё ўзурпатарства. Але ўласныя ж ваяры забілі яго ў Кастэль-Лучэолі і выправілі яго галаву ў Канстантынопаль. Гэта адбылося ў 619 годзе, а ў снежні таго ж года была здзейснена ардынацыя Баніфацыя V, пра якога мы таксама не маем ніякіх паведамленняў, акрамя колькасці гадоў яго кіравання. Відаць, ён памёр у кастрычніку 625 года. Ды і цалкам гісторыя Рыма пад час першай паловы VII стагоддзя пакрыта глыбокім змрокам. Адзінай яе першакрыніцай з'яўляецца «Кніга пантыфексаў». Ні пра яго герцага, ні пра каменданта (magister militum), ні пра прэфекта нідзе не згадваецца і мы дарэмна будзем шукаць нейкія сьляды рымскага грамадзянскага жыцця і гарадзкога грамадзкага ўладкавання таго часу.

Звычайна пра сьмерць рымскага вялікага пантыфекса паведамлялі экзарху праз архіпрасвітара, архідыякана і прыміцэрыя натарывусаў, пры гэтым выпраўлялася зняважаючае прашэнне пра зацьверджанне новага выбару не толькі да яго, але і да арцыбіскупа і да суддзяў Равены, якая з’яўлялася і зараз, як і раней, сталіцай Італіі, каб і яны малілі экзарха зацьвердзіць абранне.

Палітычная нікчэмнасць італійскага Рыма ў яго глухмені, нягледзячы на чароды пілігрымаў із кантынента, і ўсёмагутнасць улады равенскага экзарха ў Італіі VII стагоддзя з яго вяршынством над царквой, так несумнеўна даводзіцца зняважальнымі формамі гэтых прашэнняў, што няма патрэбы нават і шукаць іншых падцверджанняў.

У мяне няма месца распавядаць пра дзейнасць наступнага за тым рымскага вялікага пантыфекса Ганорыя (625-628 г.), пра яго замірэнне з хрысьціянамі монафелітамі (аднавольцамі), якіх атаясамляюць з маранітамі, існаваўшымі ў Сірыі да XIX вена, і з арыянамі – ламбардцамі. Я толькі зноў адзначу, што хрысьціянскі першасьвятар Арый і біблейскі Арон адна і тая ж асоба, а таму і тагачаснае змаганне рымскай царквы з арыянамі зводзіцца на змагання прыхільнікаў Васіля Вялікага з прыхільнікамі Арыя-Арона, ці, выказваючыся евангельскай тэрміналогіяй, да змагання Хрыста з фарысеямі.

Згодна з нашымі дасьледаваннямі, выкладзенымі ў першай і другой кнігах «Хрыста», гэта была яшчэ эпоха развіцця біблейскага месіянства і вельмі магчыма, што тагачасныя арыяне, яшчэ практыкавалі звычай абразання і таму нічым істотным не адрозніваліся ад ізраэлітаў і ізмаэлітаў, а каталікі, як выяўляецца біблейская кніга «Цароў», «прызнаючы свайго бога-Грамабоя, ушаноўвалі і багоў іншых народаў».

Гісторыкі царквы паведамляюць нам пра вялікія пабудовы Ганорыя, здзейсненыя дзякуючы таму, што ў яго скарбніцы сабралася шмат прынашэнняў пілігрымаў і збораў із царкоўных маёнткаў і іх патрэбна было на штосьці выдаткаваць. У лагічнасьці такой высновы, вядома, немагчыма сумняваца: усе шыкоўныя пабудовы з’яўляюцца толькі натуральнай крышталізацыяй вялікай колькасьці папярэдніх зберажэнняў чалавечай працы, сабраных гвалтоўна ці на

падставе выратавання душы ў выглядзе куч золата ці крэдытных знакаў, якія было недарэчным захоўваць без карысьці ў склепах, а праесьці ці прапіць было немагчыма дзякуючы нікчэмнай ёмістасьці чалавечых страўнікаў, не перавышаючай двух літраў у самых высокіх людзей. Толькі на вялікія пабудовы і можна было выдаткаваць вялікія зберажэнні.

Так павінна было адбывацца і заўсёды адбывалася, а існаванне вялікіх грашовых зберажэнняў і вялікіх прыбыткаў ад пілігрымаў і тэрытарыяльных уладанняў з’яўляецца цалкам праўдападобным для рымскага пантыфікату VII стагоддзя.

З эканамічнага боку гледжання неправўдападобнымі з’яўляюцца толькі гіпнатызуючыя нас да гэтага часу паведамленні апокрыфаў Эпохі Адраджэння, быццам бы амаль усе сучасныя рымскія храмы замянілі існаваўшыя на гэтых месцах яшчэ лепшыя паганскія, з'явіўшыяся насуперак Марксу і Энгельсу яшчэ да пачатку нашай эры. Усё гэта рэзка супярэчыць не толькі вучэнню пра працоўную і дададзеную каштоўнасць, але і сучаснай фізічнай энергетыцы з яе кілаграма-метрамі працы, і матэрыяльнай культуры, сцвярджаючай, што без адмысловых прылад немагчыма абцясаць камяні. Вось чаму, калі нас пераконваюць, напрыклад, што сучасны храм св. Адрыяна пабудаваны вялікім пантыфексам Ганорыем у XII стагоддзі із парэшткаў знакамітага рымскага сената, то мы хутчэй можам паверыць, што тут пад час сярэдневечча проста маліліся імператару Адрыяну, толькі ў XII стагоддзі ператворанаму із абагаўляемых цароў у іхнага пакутніка.

Аналагічнае мы можам сказаць і пра царкву св. Лаўрэна in Miranda (г.азн. каранаванага лаўрамі на здзіўленне), які замяніў быццам бы храм, прысьвечаны Антаніну Пію і яго легкадумнай жонцы Фаўсьціне; і пра храм сьвятой Марыі (Santa Maria in inferno), які замяніў быццам бы існаваўшы тут спрадвеку храм Весты[165] з памяшканнем для манашак-вясталак; і пра царкву Кузьмы і Даміяна, замяніўшы быццам бы храм Ромулу і Рэму.

Мімаволі прыходзіць у галаву: ці не былі ўсе гэтыя храмы сапраўды пабудаваны рымскімі пантыфексамі VII стагоддзя ў гонар самім Антаніну і Фаўсьціне, Ромулу і Рэму, Адрыяну і Дыяне, далучаных тады да багоў (г.азн. сьвятых)? Ці немагчыма выказаць здагадку, што толькі пазьней, пасьля скасаваня значэння старых багаў пад час папскага перыяду, пачаўшагася, як мы бачылі, толькі з 1073 года нашай эры пры Рыгору VII, яны былі пераназваны ў св. Кузьму і Даміяна і гэтак далей, з перенясеннем шматбожнага культу папярэднічаўшых рымскіх пантыфексаў за пачатак нашай эры?

З боку гледжання гісторыі рэлігійнай эвалюцыі на берагах Міжземнага мора гэты самае праўдападобнае рашэнне пытання.

Пра лацінскую мову таго часу (калі ён не нашмат больш позні штучны твор) можа служыць надпіс у базыліцы св. Агнэсы (г.азн. Авечкі-Рахілі) па-за горадам, за Porta Nomentana, прыпісваемы першасьвятару Ганорыю (625-638 гг.):

Aurea concisis surgit pictura metallis
Et complexa simul clauditur ipsa dies.
Fontibus et niveis credas aurora subire,
Correptas nubes roribus arva rigans.
Vel qualem inter sidera lucem proferet Iris

---

[165] Г.азн. Пакрытай Панны, ад італійскага vesta – адзенне, пакрывала (адсюль жа французкае vetu), напэўна, таму, што яна малявалася ў чадры ці пад вэлюмам; у рускай царкве нават існуе сьвята: пакрывала найсьвяцейшай боанараджальніцы. Ці гэта ад жыдоўскага ВШТ – полымя.

Purpureusque pavo ipse colore nitons.
Qui potuit noctis, vel lucis reddere finem,
Martyrum e bustis hinc reppulit illo chaos.
Sursum versa nutu, quod cunctis cernitur usque
Praesul Honorius haec vota dicata dedit.
Vestibus et factis signantur illius ora,
Excitat aspectu lucida corda gerens[166].
(Залатая статуя із разьбянога металу ўзвышаецца і ловіць у сябе ззянне дня.
Ты мог бы падумаць, што гэта Аўрора паднялася із белых хваль
І ветрык нясе кучаравае воблака, абвадняючае нівы.
Так узгараецца сярод зорак бліскучая Ірыда,
Так зіхаціць яскравымі фарбамі пурпурны паўлін...
Загадаўшы ночы закончыцца і дню настаць
Прагнаўшы змрок ад гэтай пакутніцкай магілы.
Накіруй пагляд свой наверх, як могуць усе прыходзячыя.
Гэты абяцаны дарунак прынесены Ганорыем.
Яго выяву ты можаш пазнаць грунтуючыся на яго ўборы і зробленым ім,
Яго сьветлая душа абуджае радасць у сэрцы гледача.)

У адным месцы «Кнігі пантыфексаў» згадваецца, што Ганорый пабудаваў млын каля гарадзкой сьцяны, каля «вадавода Траяна», праводзіўшага ваду із Сабатынскага возера[167]. Дзякуючы таму што млыны на Янкуле ні ў якім выпадку не маглі дейнічаць без вады, якую дастаўляў менавіта гэты вадавод, то такое ўказанне можа прывесьці да высновы, што і сам вадавод Траяна быў пабудаваны ні ў якім выпадку не раней, як Велізарыем (544-549 гг.).

Ганорый І памёр у 638 годзе і пахаваны ў базыліцы св. Пятра. Натуральна ўзнікае пытанне: ці не прыпісваюцца некаторыя пабудовы гэтых больш позніх рымскіх вялікіх пантыфексаў Ганорыеў імператару Ганорыю?

Пасьля Ганорыя І некаторы час кіравалі малазначымыя Севярын, Ян IV, Хведар, Марцін, Яўген, і, нарэшце, Віталіян, пры якім Рым наведаў візантыйскі цэсар Кастусь (4-ы).

Самі таго не падазраючы, гісторыкі гэтай падзеі выразнымі рысамі малююць тагачаснае правінцыйнае становішча Рыма, вельмі супярэчачымі экстравагантным уяўленням пра яго класічнае мінулае.

«*Можна сабе ўявіць*, – усклікае Грэгарэвіус[168], – *якое хваляванне авалодала даўно пакінутым* (?) *горадам, калі ў ім з'явіўся сам імператар-валадар! Прыбыццё ў Рым візантыйскага манарха, які ўсё яшчэ адпаведна праву называў сябе імператарам рымлянаў, было тут вялікай падзеяй. «Кніга пантыфексаў» перадае цырыманіял яго сустрэчы, у вышэйшай ступені выдатны ўжо дзякуючы аднаму таму, што ён супадае са звычаямі выконваўшыміся на працягу ўсяго сярэдневечча пры сустрэчы германскіх імператараў. Папа, сьвятарства і прадстаўнікі Рыма з крыжамі, харугвамі і свечкамі, сустрэлі Кастуся за горадам каля шостага верставога каменя. Урачыстае ўступленне імператара ў Рым адбылося ў сераду 5-га ліпеня 663 года. Пад час бліжэйшай суботы імператар прайшоў да царквы Santa Maria Maggiore і ў ёй зрабіў прынашэнні. У нядзелю ён выправіўся ў складзе ўрачыстай працэсіі, суправаджаемы войскам, у базіліку св.*

[166] Gruter, 1172, 4.
[167] Вось адпаведнае месца «Кнігі пантыфексаў»: Et ibi constituit molam in loco Trajani juxta murum civitatis, et formam, quae dicit aquam a loco Sabbatino, et sub se formam, quae conducit aquam ad Tiberim (Vita Honorii у «Liber Pontificalis».
[168] Гісторыя горада Рыма, т. II, стар. 127.

*Пятра, быў сустрэты на шляху сьвятарствам і потым вялікім пантыфексам, які і завёў яго ў базіліку.*

«*Вартае жалю становішча Віталіяна і яго пакора перад Кастусём*, – працягвае наіўна аўтар, – *мімаволі выклікаюць спачуванне. Патрэбна было прайсьці цэламу шэрагу стагоддзяў, каб гэтае гледзішча пантыфікальнага прыніжэння замянілася падзеяй у Кносе. Выгляд імператара, які сваім наведваннем горада выяўляў толькі спагаду да яго насельнікаў, і выгляд грэцкіх царадворцаў, якія глядзелі на рымлянаў з поўнай пагардай, павінны былі выклікаць горкія ўспаміны* (?) *і ў саміх рымлянаў, бачыўшых паўсюдна навокал сябе толькі галечу. І мы лічым вельмі праўдападобным, што менавіта дзякуючы гэтай нагодзе пазьней у X стагоддзі прагучаў чулліва голас, аплакваўшы прыніжэнне Рыма.*

«*О Рым*! – пісаў нехта, – *ты гінеш! Вольныя грамадзяне твае апрацоўваюць нівы пелазгаў. Над табой валадараць рабы рабоў, народ, сабраны із самых аддаленых канцоў зямлі! Канстантынопаль квітнее і называецца новым Рымам, а твае, о, старажытны Рым, умацаванні і сьцены ператвараюцца ў парэшткі! Старажытны паэт прадказаў табе ўсё гэта ў сваёй песьні, і калі б ласка Пятра і Паўла не ахоўвалі цябе, то ты даўно загінуў бы ў няшчасьцях. Жорсткія і агідныя еўнухі надзелі на цябе ярмо, а некалі ты так яскрава зіхацеў славай шляхетных людзей*»[169].

Жадаючы патлумачыць, чаму ў сярэднявечным Рыме не выявілася ніякіх статуй старажытных імператараў, гісторыкі сцвярджаюць, што іх усе, акрамя вершнай статуі Марка Аўрэлія, вывез у Канстантынопаль гэты самы Кастусь. Але, на жаль! І ў сярэднявечным Канстантынопалі іх не выявілася, а што да быццам бы пакінутай гэтым імператарам на памяць вершнай статуі Марка Аўрэлія, то «невуцкі народ і асабліва сьвятарства сярэдневечча» называлі яе імем самога Кастуся. Такім чынам, выяўляецца, што яна хутчэй усяго і была зроблена ў Рыме ў адзнаку памяці наведвання яго Кастусём IV пасьля 663 года, але пазьней, з нагоды яе неадпаведнасьці з яго благой рэпутацыяй была апакрыфікавана спачатку Кастусю Вялікаму за 350 гадоў назад, а потым яшчэ і за 550 гадоў Марку Аўрэлію Антаніну Філосафу.

А калі мне запярэчаць, што немагчыма ж, нарэшце, лічыць за апокрыф ці выдумку кожнае старажытнае паведамленне, непагадняючаяся з маёй тэорыяй бесперапыннай эвалюцыйнай пераемнасьці чалавечай культуры, то я адкажу, што справа тут ідзе не пра адну гэтую тэорыю, але і пра непагадненне нашых старажытных інфарматараў з цьвярозым розумам, як з падставай якога б то ні было навуковага дасьледавання.

Вось, нас пераконваюць, напрыклад, што яшчэ за 1 000 гадоў «да Нараджэння Хрыста» жыў на беразе ракі Ніл Майсей. Яму прывязлі з возера некалькі вазоў лісьця тамтэйшай расьліны папірусу, ён склеіў іх невядома якім клеем у доўгія палосы, накшталт сучасных палотнаў і паклаў іх, з нагоды адсутнасьці сталоў, на зямлю. Потым ён узяў у правую руку, з нагоды адутнасьці алоўка і пярын, завостраны кіёк і, абмакваючы яго ў разведзеную вадой сажу, напісаў пад дыктоўку бога Грамабоя гісторыю ўсяго, што адбылося да яго ад стварэння сьвету, і што абылося пры ім. Потым ён апісаў, нарэшце, нават і сваю ўласную сьмерць і пахаванне і паведаміў як яго аплакваў народ (Гл. Другазаконне Майсея, 34, 5-12).

Прайшло каля 2 000 гадоў і яго кнігі ўвесь час цудоўным чынам перапісваліся тысячы разоў без змен, цудоўным чынам былі перакладзены

[169] Лацінскі арыгінал гэтай элегіі Muratori запазычыў із Moben Codex, дапасуючы яго да X стагоддзя.

сямюдзесяццю перакладчыкамі на грэцкую мову, потым, Еранімам, на лацінскую мову. Святы дух не дазволіў пры гэтым перакладчыкам зрабіць ніводнай памылкі, і цэлую тысячу гадоў ніхто не дазваляў сабе іх патлумачыць, а як толькі закончылася гэтая тысяча, раптам з'явіўся цэлы кораб тлумачальнікаў і дапаўняльнікаў – талмудыстаў, не пакінуўшых без шырокіх каментараў ніводнай літары. Чатыры евангелісты на беразе рэчкі Шарыят Эль-Кэбірэ, атрымаўшай у хрысьціян не належачую ёй назва Ярдан, таксама атрымалі некалькі вазоў папірусу із Ягіпта, склеілі іх у палотнішчы і, лежачы на пяску Генісарэцкага возера, напісалі на іх (часта тымі ж самымі выказванямі і таксама кійком памочаным у разведзеную вадой сажу і вымалёўваючы асобна кожную літару) чатыры Евангеллі, Апакаліпсіс, кнігу сваіх здзяйсненняў і шэраг лістоў да аднаверцаў таксама пад дыктоўку сьвятога духа. І вось хрысьціянская рэлігія, узнікшая ва ўсім сваім аб'ёме адразу, застаецца нязменнай амаль дзьве тысячы гадоў. Сьвятыя айцы Нікейскага сабору рэзюмуюць яе ў навекі нязменным «Знаку веры», як веру ў бога бацьку, бога сына і бога сьвятога духа, тройцы аднасутнай і непадзельнай, і з тых часоў ад «папы» Міласьціваго (Клімента), айца каталіцкай царквы, памёршага ў 102 годзе нашай эры і да сучаснага нам рымскага папы, усё застаецца нязменным.

Не будзем тут закранаць маю эвалюцыйную тэорыю рэлігій і проста запытаем: ці пагадняецца ўсё гэта з цьвярозым розумам і з гісторыяй матэрыяльнай культуры? Вы самі адкажаце, што не. А калі не, то і мая спроба дэталёва паказаць магчымасць рацыянальнага паходжання сучаснага рэлігійнага сьветапогляду, не можа быць аспрэчана простай спасылкай на дакумент няпэўнага часу і няпэўнага паходжання.

Аспрэчваннем маёй тэорыі можа служыць толькі дакумент не выклікаючы сумневаў, накшталт геркуланумскага ці пампейскага, а ў некаторых выпадках накшталт надпісаў у катакомбах ці на сьценах ягіпецкіх храмаў. Але менавіта яны і сведчаць на карысць маёй тэорыі, пасьля іхнага астранамічнага храналагіравання. На яе ж карысць сведчаць і такія факты, як толькі што прыведзенае апавяданне пра ватыканскую бронзавую статую вершніка. Ва ўсіх сучасных кнігах вы знойдзеце яе пад найменнем «статуя Марка Аўрэлія з другога стагоддзя нашай эры», невядома згодна з чыім вызначэннем, а, пакапаўшыся ў першакрыніцах, вы раптам даведваецеся, што «невуцкі народ і асабліва сьвятарства» звалі яе «статуяй цэзара Кастуся», і што «яна звалася такім імем на працягу усяго сярэдневечча»[170].

Нават назва гэтага Кастуся «Вялікі, Набожны, Шчасьлівы і Трыумфатар» (D. N. Constantino Maximo, Pio, Felici ac Triumphatori) нічога не даводзіць, таму што гэтае ліслівае пасьляслоўе дадавалася не да аднаго Кастуся I, а да ўсіх візантыйскіх цароў, накшталт таго як у Рускай імперыі за абедняй згадвалі кожнага «набожнейшага, самаўладнейшага, вялікага гасудара нашага, імператара»...

Тут я павінен зноў зрабіць сур'ёзнае папярэджанне: не кожная манета, дзе пад грубым абрысам агульначалавечага профілю напісана CONS. MAG. азначае Кастуся I, а не Кастуся IX, сучасніка крыжовых паходаў, і не кожны помнік старажытнасьці, дапасуемы зараз, напрыклад, да Траяна, належыць першаму стагоддзю нашай эры. Траян (г.азн. траянскі), гэта нейкая мянушка, даўшая нагоду пад час сярэдневечча для вялікай колькасці легендаў у сярэдняй Яўропе. Яно згадваецца нават у старарускім «Слове пра полк Ігаравы»[171], якое не можа быць напісаным раней XII стагоддзя, таму што сам Ігар лічыцца палоненым полаўцамі

[170] Vincenzo Tizzani: La Status equestre di Marco Aurelio. Roma, 1880.
[171] Весялоўскі: «Легенды пра Траяна. Часопіс Мі-ва Народнай Асьветы. 1880, № 7.

(туркамі) у 1185 годзе, і ў ім слушна апісваецца сонечнае зацьменне 1 траўня 1185 года, а рукапіс, згарэўшы ў Маскве ў 1812 годзе быў, як сцвярджаюць самі гісторыкі, не раней XV стагоддзя.

Якім жа чынам гэтая легендарная асоба, жыўшая пад час эпохі крыжовых паходаў, магла б быць водгаласам тысячу гадоў назад сышоўшага ў магілу ў Рыме цэзара Марка Ўльпіцыя, невядома чаму атрымаўшага найменне «Траянскага» (Траяна)[172]?

# Глава V.

## Пашырэнне духоўнай улады вярхоўных рымскіх пантыфексаў на заходне-еўрапейскія краіны. Першая пастанова пра тое, што вялікія пантыфексы павінны паходзіць са сьвятарства.

Пры вялікім рымскім пантыфексе Агафону быў, – паведамляюць нам, – скліканы Кастусём Паганатам шосты (?) Сусьветны сабор 7 лістапада 680 года ў Візантыйскім палацы Труле, які працягваўся да 16 верасня 681 года ў 12 актах, на якім быццам бы было ўсталявана двухволле Езуса (адна воля – божая і другая – чалавечая), «пасьля чаго на народ апусьцілася ў адзнаку асуджэння адзінавольцаў (монафелітаў) з неба маса чорнага павуціння». Перад гэтым у Італіі зноў лютавала чума, ад якой вымерла амаль уся Павія[173], і рэштка яе насельніцтва выратавалася толькі дзякуючы таму, што ў яе прынесьлі мошчы рымскага вайсковага трыбуна Себастыяна. Рыгор Пераможац і Себастыян раней зваліся Дыяскурамі, г.азн. выхаванцамі бога-Грамабоя[174], і атаясамляліся з Кастарам і Палуксам сузор'я Двайнят; Рыгор маляваўся таксама і ў выглядзе Пярсей на кані, забіваючым цмока і ратуючым царэўну (Андрамеду), якую бацька павінен быў аддаць Цмоку. У Афінах ён атаясамляўся з богам Марсам[175].

На заканчэнні VI стагоддзя ў якасьці вялікіх рымскіх пантыфексаў пачалі часта абірацца грэкі і сірыйцы (г.азн. жыды). Але нягледзячы на гэта пры адным з іх Сергію Сірыйцу (677-701), у Італіі ўпершыню пачалася ўсьведамленне сваёй нацыянальнасьці і змаганне супраць Візантыі. Каля 694 года італьянцы з дапамогай узброенага войска гвалтоўна і паспяхова абаранілі свайго вялікага пантыфекса Сергія ад атрада, прысланага Юстыніянам II з мэтай арыштаваць яго за непаслушэнства.

Глыбокая павага да Рыма і ўшанаванне апостала Пятра, як і яго наступнікаў на рымскім пасадзе, усё больш і больш пашыраліся на Захадзе. Але як жа гэта магло здарыцца, калі сам апостал Пятро быў міфічнай асобай? – Мне здаецца гэта можна патлумачыць толькі так: у Рыме быў пабудаваны вялікі каменны храм – базыліка Петры на грэка-лацінскай мове таго часу. А потым слова петрас (камень) і

---

[172] Слова Траян сугучна толькі з італійскім traino (Французкім traine) – сьвіта і можа быць перакладзена: сьвіцкі, La roba trainata – сукенка са шлейфам.

[173] Paulus Diacon VI, c. 5.

[174] Δίος-Κοΰος – гадаванец бога-Грамабоя.

[175] Jacobus de Voragine, памёршы ў 1298 годзе (Historia Lombardica).

было палічана за асобу паклаўшую пачатак рымскаму пантыфікату. Ці ж тут зваліўся **метэарыт**.

Легендарная магільня гэтага вярхоўнага апостала ў зіхацячай золатам базіліцы паціху і зрабілася для Захада сьвятыняй. З сярэдзіны VII стагоддзя горад ужо наведвалі тысячы паломнікаў із Галіі, Гішпаніі і Брытаніі. Падыходзячы да Рыма, паломнікі падалі перад ім на калені, як перад паўстаўшым перад іхнымі вачамі раем. Са сьпевамі гімнаў яны ўступалі ў горад і шукалі багадзельныя сядзібы. Тут яны знаходзілі і прытулак, і сваіх суайчыннікаў, якія маглі служыць ім праваднікамі ў іхных вандроўках па цэрквах і катакомбах. Вярнуўшыся да сябе на радзіму, яны паведамлялі дзівы пра прыгажосць Сьвятога Горада і абуджалі жарснае жаданне і ў іншых яго пабачыць. Усё гэта вельмі спрыяла імкненню вярхоўных рымскіх пантыфексаў упрыгожваць Рым новымі шыкаўнымі будынкамі і пашыраць чароўныя казкі пра іхную старажытнасьць, хаця па-ранейшаму яны не маглі даць яму ніякай свецкай магутнасьці дзякуючы непрыдатнаму стратэгічнаму становішчу ў глыбіні паўвыспы, без гавані, пры нязручнасьці тагачасных сухапутных шляхоў.

Такім чынам, дзякуючы паломнікам, паміж горадам, з аднаго боку, і захадам і поўначчу, – з другога, наладжвалася жывая інтэлектуальная сувязь і гэтая сувязь еўрапейскіх народаў з «маці чалавецтва» была больш глыбокай, чым тая, якая магла б быць дасягнутай дзякуючы самым паспяховым вайсковым перамогам.

У 689 годзе Рым быў здзіўлены з'яўленнем у ім Кадвалы, караля заходніх саксаў. Апрануты ў белае адзенне, з доўгімі распушчанымі валасамі, з запаленай свечкай ў руцэ, ён прыняў тут пад час Вялікай Суботы хрышчэнне ў легендарнай парфіравай хрысьцільні Кастуся і атрымаў імя Пятро. Ці зрабіла гэтая цырымонія на саксонскага героя занадта моцнае ўражанне ці клімат Італіі выявіўся пагібельным для яго, але ўжо 20 красавіка таго ж года ён памёр. Рымляне пахавалі яго ў атрыуме храма Пятра і зрабілі над яго магільняй пышны надпіс, які захаваўся да нашых дзён. У ім паведамляцца, што Кадвала прыйшоў у горад Ромула з далёкіх краёў Брытаніі, ішоў праз моры і землі розных народаў і з'явіўся ва ўшаноўваемы храм Пятра, каб прынесьці апосталу таямнічы дарунак. Ён кінуў свае багацці і пасад, свае гарады, замкі, сваё магутнае каралеўства, сваіх дзяцей, сваю ваярскую здабычу, сваіх продкаў і сваіх багоў, каб паглядзець на пасад Пятра, і аддаў «царства зямное», каб набыць царства нябеснае.

Такія каючыяся каралі прыходзілі ў Рым, вядома, не з пустымі рукамі і, акрамя сваёй пакутуючай душы, праносілі ў падарунак «св. Каменю» не мала і золата. Падарункі Захаду рабіліся з кожным годам усё больш вялікімі і служылі для рымскіх пантыфексаў крыніцай сродкаў, патрэбных для таго, каб надаваць рымскім манументам усё большую пышнасць. Сергій прыкладаў для гэтага шмат клопатаў і намаганняў. У большай частцы храмаў ён завёў каштоўнае начыненне. Мастацтва мазаістаў і ліцейнікаў працягвала развівацца і іхнае спаборніцтва з канстантынопальскімі не спынялася. Нават дараносіцам і скініям над ахвярнікамі, дзе ставілася чара, надавалася форма храма, зробленага із парфіру і завершанага купалам, які пакрываўся золатам і ўпрыгожваўся каштоўнымі камянямі.

Сергій памёр 7 верасня 701 года, а 30 кастрычніка таго ж года на пасад «св. Каменя» ўжо ўступіў грэк Ян VI. Імператарам у той час быў Тыберый Апсімар, чатыры гады таму назад пазбавіўшы пасада Лявонція. Ён загадаў свайму экзарху Феафілакту ісьці із Сіцыліі на Рым. Экзарх заняў яго, але нацыянальная сьвядомасць латынянаў была ўжо дастаткова абуджана і італійская міліцыя

размясьцілася перад сьценамі горада. Толькі сам вялікі рымскі пантыфекс выратаваў экзарха. Загадаўшы зачыніць браму, ён пераканаў міліцыю адступіць. Вялікія рымскія першасьвятары таго часу яшчэ не пераставалі прызнаваць сябе падданымі імператара. Яны з'яўляліся пасярэднікамі пры кожным паўстанні і цьвёрда стаялі за аўтарытэт імперыі. У гэты ж час і ламбардзкія валадары і біскупы, зрабіліся дбайнымі змагарамі за рымскі культ. Яны будавалі ў сябе храмавыя мястэчкі, дзе ламбардзкія манастэрыянцы аддаваліся вывучэнню навук.

Паўстанне ў Равене супраць улады Візантыі пачалося ў 710 ці ў 711 годзе. Паўстаўшы горад абвясьціў сваім правадыром (Capitano del popolo) Рыгора, сына пакаранага сьмерцю візантыйскім імператарам Іянікія. Новы правадыр падзяліў горад на 12 частак адпаведна колькасьці атрадаў гарадзкой міліцыі. Іхныя сьцягі мелі назву: Равэна, Bandus I, Bandus II, Новы Сьцяг, Непераможны, Канстантынопальскі, Непахісны, Бадзёры, Міланскі, Веронскі, Сьцяг Класіса і Сьцяг згуртавання біскупа з клірам і храмавай прыслугай. Такая арганізацыя міліцыі працягвала існаваць у Равэне яшчэ і ў IX стагоддзі, і няма сумневаў, што ўладкаванне міліцыі ў Рыме было падобным, дзе яна павінна была адпавядаць акругам горада. У той жа час Рыгор арганізаваў канфедэрацыю гарадоў, першую, пра якую мы ведаем, у гісторыі. Да хаўрусу далучылася амаль уся вобласць экзархата, г.азн. гарады: Сарксена (Сарсіна), Цэрвія, Цэзена, Форум Пампілія (Фарлімпопалі), Форум Лівія (Фарлі), Фавенцыя (Фаэнца), Форум Карнелія (Імола) і Банонія (Балоння). Гэты выдатны хаўрус лацінскіх гарадоў, утварыўшыся задоўга да таго як Мілан і Фларэнцыя набылі вядомасць і сталі магутнымі, быў пачаткам сярэднявечнай эпохі Італіі. Ён быў першым крокам да камунальнай самастойнасьці рэспублік. На жаль, літаратурныя крыніцы таго часу не даюць нам у гэтым дачыненні ніякіх указанняў. А ў «Кнізе пантыфексаў» першы раз у гэтым выпадку з'яўляецца выказванне: «Герцагства рымскае». Адначасова з герцагствам упершыню згадваецца таксама і кіраваўшы ім герцаг, г.азн. па-нашаму правадыр (dux).

Гэта быў Хрыстафор, прызначаны герцагам яшчэ пры ранейшым урадзе. Імператар Вардан пазбавіў яго пасада і ён быў замешчаны прыбыўшым із Равэны ў Рым Пятром. Але большасць народа абвясьціла, што не жадае мець правадыра, прызначанага імператарам, і горад падзяліўся на дзьве партыі. Партыя большасьці, меўшая назву «хрысьціянская», трымала бок Хрыстафора; другая партыя пад правадырствам Агафона, стаяла за Пятра, і «Кніга пантыфексаў» дае гэтаму змаганню класічную назву грамадзянскай вайны (bellum civile). Змагаўшыяся партыі сышліся на Via Sacra перад палацам цэзараў, але былі паміраны сьвятарамі, а праз некалькі дзён із Сіцыліі прыйшло паведамленне пра тое, што цэзар Вардан у Візантыі пазбаўлены пасада і асьлеплены.

Гэтымі падзеямі заканчваецца ў «Кнізе пантыфексаў» («Liber Pontificalis») апісанне жыцця вялікага пантыфекса Кастуся. Ён памёр 8 красавіка 715 года.

Следам за ім рымскі пасад зноў заняў рымлянін – Рыгор II. Няма сумневаў, што рымскі народ абраў сваім вярхоўным пантыфексам чалавека сваёй нацыянальнасьці, грунтуючыся на варожых пачуццях да Візантыі, і гэтае абранне (пасьля сямі папярэднічаўшых сямітаў і грэкаў) было значнай падзеяй, меўшай за сабой не мала складанасьцей. Англа-саксы, некалі далучаныя да царквы Рыгорам I, да гэтага часу сталі місіянерамі ў Германіі; Рыгор II прызначыў знакамітага Вінфрыда на пасаду германскага назіральніка (біскупа) і выправіў яго, у якасьці апостальскага дэлегата, у германскія землі, тады яшчэ не меўшыя ніякай культуры і

пакрытыя глухімі лясамі. Там гэты самы адданы служка Рыма і паклаў пачатак замежнай уладзе рымскага пантыфікату.

Аб'яднаўшы агульным рэлігійным статутам народы Англіі, Галіі, Гішпаніі і Італіі паміж сабой, рымскі пантыфікат стварыў на захадзе Яўропы міжнародную рэлігію. Але толькі што нарадзіўшайся пантыфікальнай дзяржаве аб’яднаных германцаў і латынянаў ужо пагражала вялікая небяспека. Узнікшае ў VII стагоддзі адзінабожжа (ісламіцства) паднялося на барацьбу з іконашанавальнікамі. Канстантынопаль быў абложаны, на Міжземным моры панавалі безіконнікі. Яны пагражалі Італіі і Рыму, і спусьціліся із Гішпаніі ў правінцыю Паўднёвая Галія, каб знішчаць каралеўства франкаў, быўшае апорай рымскага пантыфікату на Захадзе. Але ў гэты бурны час адбылася падзея, дзякуючы якой існаванне як горада Рыма, так і ўсёй Італіі ўвасобілася ў новых формах.

Пасьля двух вайсковых візантыйскіх рэвалюцый, у выніку якіх былі пазбаўлены пасада імператары Анастас і Хвядос, 25 сакавіка 717 года на візантыйскі пасад уступіў малазіец Леў III, лічыўшы, што ўшанаванне выяваў у цэрквах з'яўляецца адзінай перашкодай для стасункаў юдэяў і магаметанаў з хрысьціянамі. Ён падняўся да адважнай задумы ачысьціць хрысьціянскі культ ад якога б то ні было ўплыву паганства. Але гэта была геркулесава праца, хаця тады яшчэ не было легендаў пра катаванні хрысьціянаў паганцамі. Сярод вядомых да гэтага часу ранніх сярэднявечных твораў мы не знойдзем ніводнага які б паведамляў пра пакуты таго ці іншага сьвятога. Падобныя выявы з'явіліся толькі значна пазьней, калі рэлігійнае пачуццё магло быць узбуджана толькі такімі прыдумкамі. Малярства катакомбаў і скульптура старажытна-хрысьціянскіх саркафагаў нідзе не перадаюць, напрыклад, жарсьцяў Хрыста. І тое, і другая малююць яго ці ў выглядзе павучаючага сваіх вучняў, ці ствараючага цуды. Хаця ў Рыме напачатку VIII стагоддзя, у працэсіях яшчэ і не насілі фігур сьвятых, зробленых із дрэва, але ва ўсякім выпадку ў цэрквах было дастаткова залатых, срэбных і бронзавых статуй Хрыста, Панны Марыі і сьвятых паловубагоў.

Знакаміты эдыкт імператара Ільва III, якім загадвалася выдаліць усе выявы із храмаў імперыі, быў выдадзены ў 726 годзе, і гэтае распараджэнне выклікала буру абурэння ў асяроддзі пантыфікальнага заходняга сьвятарства і на Ўсходзе. Шматлікія духоўныя пастыры разумелі, што іхная ўлада над натоўпам грунтуецца, галоўным чынам, на вонкавых сродках іхнай набажэнскай дзейнасьці. Калі Леў III даслаў у Рым свой эдыкт, Рыгор адказаў на яго булай, у якой аб'вяшчаў, што імператару не належыць выдаваць загады маючыя дачыненне да спраў веры, і скасоўваць пастановы пантыфікату. Леў паўтарыў свой загад, пагражаючы Рыгору пазбаўленнем пасады, калі ён не паслухаецца. А Рыгор звярнуўся да біскупаў і гарадоў Італіі з заклікам, прызываючы да паўстання супраць іконазмагальніцкага імператара, і, як паведамляе «Кніга пантыфексаў», узброіўся сам супраць яго, як супраць ворага. Яго лісты мелі паўсюдны поспех. Увесь Пентаполіс і Венецыя абвясьцілі, што яны гатовы абараняць вялікага рымскага пантыфекса. Усе гарады сярэдняй Італіі выгналі візантыйскіх урадоўцаў, выбралі сваіх уласных герцагаў і пагражалі ўзвесьці на грэцкі пасад новага імператара.

Гэтая рэвалюцыя нарадзіла новае ўпарадкаванне і ў Рыме і мела наступствам, перадусім, узнікненне ў ім гарадзкой міліцыі, якую узначальвалі judices de militia. У гэты час Рым упершыню выяўляецца горадам незалежным ад візантыйскай улады і маючым рэспубліканска-арыстакратычнае кіраванне. Напэўна, ён кіраваўся магістратам у асобе консулаў і герцагаў, пры гэтым улада

вялікага рымскага пантыфекса маўкліва прызнавалася ўсімі, як самы высокі аўтарытэт. Такім чынам, толькі падчас іконазмагальніцства быў пакладзены ва ўтоенай форме пачатак той свецкай улады папаў у Рыме і ў рымскім герцагстве, якая пазней набыла гістарычнае значэнне. Мы маем (вядома, толькі ў больш позніх сумнеўных копіях) два лісты, напісаныя Рыгорам імператару Ільву пад час разгару ўзнікшага ў Рыме незадавальнення. Іхная мова варварская. Але ў гэтых лістах рымскага біскупа да кіраўніка імперыі было ўпершыню выказана іерархічнае абгрунтаванне вярхоўнай улады рымскага pontifex maximus'a, як кіраўніка хрысьціянскіх народаў.

«*Мы можам пісаць табе,* – выказваецца Рыгор у сваім першым лісьце, – *толькі простай, грубай мовай, таму што ты не вучыўся і невук*». Ён паказвае імператару, змагаючамуся супраць ушанавання статуй, на малюнкі, на скрыжалі Майсея, на херувімаў каўчэга запавету і на «*праўдзівую выяву Хрыста, пасланую ім самім разам з уласнаручным лістом каралю Эдэсы Абгару*». «Падобных выяваў, – піша далей Рыгор, – *існуе шмат і да іх натоўпамі збіраюцца набожныя пілігрымы*». «*Ачысьці ж сваю душу ад спакус сьвету, якія адольваюць цябе. Нават малыя дзеці смяюцца над табой! Пайдзі ў школу, дзе вучаць альфабэту, і скажы: я разбураю выявы і пераследую за іхнае ўшанаванне, – і ў тую ж хвіліну школьнікі пачнуць кідаць табе ў галаву свае грыфельныя дошкі. Мы, атрымаўшыя нашу ўладу і магутнасць ад сьвятога Пятра, мелі жаданне ўчыніць над табой пакаранне, але ты ўжо сам засудзіў сябе на праклён, і гэтага дастаткова для цябе і для тваіх дарадцаў*»... «*Ты,* – піша яшчэ Рыгор, – *думаеш напалохаць нас, кажучы: я загадаю пабіць у Рыме статую Пятра; я самога папу* (анахранізм!) *загадаю закуць у ланцугі і даставіць да мяне, як некалі Кастусь адвёў із Рыма папу* (зноў анахранізм!) *Мартына. Ты павінен ведаць, што ў нас няма патрэбы змагацца з табой, калі ты будзешісьці шляхам дзёрзкай фанабэрыстасьці і пагроз, бо варта нам выдаліцца ў рымскую Кампанью, хаця б толькі на 24 стадыі, і табе давядзецца шукаць вецер у полі*».

Але чытач бачыць сам, што слова «папа», ужытае тут, – выяўляе, што гэты ліст мог бы належаць толькі Рыгору VII у XI стагоддзі. А Леў Ісаўранін, – запэўніваюць нас, – адказаў яму са спакойствам усьведамлення сьвятасьці сваёй улады коратка:

«*Я імператар і я ж пастыр*».

Рыгор II памёр у 731 годзе, і на яго месца заступіў сяміт Рыгор III, склікаўшы 7 лістапада 731 года сусьветны сабор у Рыме із прадстаўнікоў сьвятарства і шляхты (званых консуламі ў «Liber Pontificalis»). Ён прысудзіў іконазмагальнікаў да адлучэння ад царквы. Такім чынам мастацтва, загінуўшае ў сямітаў, было выратавана на Захадзе. «Італія, – кажа Грэгарэвіус[176], – якая змагалася за ўшанаванне статуй і абразоў, зацьвярджала шматбожжа, але яна знайшла сабе пазней апраўданне ў генію Джота, Леанарда ды Вінчы і Рафаэля. Пад час эпохі іконазмагальніцства шмат хто із ўсходніх майстроў перасяліліся ў Італію і ў Рым, будучы ўпэўненымі, што там іх сустрэнуць вельмі гасьцінна.

Нам цікава тут адзначыць, што ў гэты час Рым і ў афіцыйных актах зваўся рэспублікай. Так каля 742 года пры наступным вялікім рымскім пантыфексе Захарыі, ужо апошнім грэцкага паходжання, ламбардзкі кароль Ліутпранд абяцае вярнуць «рымскай рэспубліцы» частку захопленых ім у яе зямель[177].

[176] Т. II, стар. 206 рускага перакладу.
[177] Грэгарэвіус, т. II, стар. 223.

У гэты ж час адбылося зблiжэнне Рыма з французкiмi каралямi. 28 лiпеня 754 года вялiкi пантыфекс рымскай рэспублiкi Стэфан памазвае на царства ў Парыжы Пiпiна, яго жонку Бертраду i сыноў Карла i Карламана. Ён запавядаў франкскаму народу, пад пагрозай адлучэння ад царквы, заўсёды абiраць сабе каралёў толькi iз роду Каралiнгаў, выключна за якiм царква зараз прызнала законныя правы на пасад. А Пiпiн прынёс, за сябе i за сваiх спадкаемцаў, клятву ў тым, што будзе абараняць рымскi пантыфiкат i надзяляць яго землямi. Такiм быў iхны абарончы, i наступальны хаўрус. Пра вiзантыйскую iмператарскую ўладу замоўчвалася. Яна ў прынцыпе прызнавалася па-ранейшаму, але караля франкаў пантыфекс Стэфан абвясьцiў абаронцам веры i яе свецкай маёмасьцi. Надаўшы каралю i яго сынам сан патрыцыяў, права на што да гэтага часу належала экзарху, рымскi вялiкi пантыфекс прысвоiў сабе правы iмператара. А Пiпiн, як патрыцый, стаў грамадзянiнам горада i правадыром рымскай шляхты, хаця сам нiколi не карыстаўся гэтым тытулам, i толькi Карл Вялiкi з 774 года пачаў называцца ў актах patricius romanorum defensor ecclesiae.

У «Апiсаннях залатога горада Рыма» (Graphia aureae urbis Romae), меркуемага рукапiсу другой паловы X стагоддзя, выкладаецца i цырыманiял узвядзення ў сан патрыцыя. Той, хто абвяшчаўся патрыцыем, павiнен быў спачатку пацалаваць у iмператара ногi, калены i вусны, а потым перацалаваць усiх рымлянаў, якiя казалi пры гэтым:

– «Вiтаем цябе!»

А iмператар вымаўляў такую прамову:

– «Мы палiчылi цяжкiм несьцi ў адзiноце ўскладзеныя на нас богам абавязкi. Таму мы робiм цябе нашым памочнiкам i выказваем табе гэты гонар, каб i ты аддаваў усё належачае боскiм цэрквам i бедным людзям, у чым ты i павiнен будзеш даць адказ самаму высокаму суддзi».

Пасьля гэтага iмператар апранаў плашч на абiраўшагася ў патрыцыi, а на яго правы ўказальны палец – пярсцёнак, i iз уласных рук перадаваў пергамент, на якiм было напiсана; «Будзь лiтасьцiвым i справядлiвым патрыцыем». На галаву абранага ўскладаўся залаты абруч i ён адпускаўся дадому.

Апякун рымскага пантыфiкату перайшоў праз Альпы, перамог пры Сузе ламбардзкага караля, як суперніка рымскай улады, i аблажыў яго сталiцу Павiю. Напалоханы Айстульф пачаў сам прасiць замiрэння, якое i было неадкладна заключана, з той умовай, што ён верне рымскаму пантыфексу захопленыя ламбардцамi гарады. Адпаведнае афiцыйнае выказванне згадвала пра «рымскую рэспублiку», i пад гэтым найменнем немагчыма разумець штосьцi iншае як рымскае герцагства, кiраўнiком якога быў вялiкi пантыфекс, цi саму рымскую царкву, якая, як яшчэ толькi нараджаючаяся свецкая ўлада, з дыпламатычным тактам хавалася за агульным пазначэннем respublica.

Але ледзь Пiпiн паспеў аддалiцца ад Павii, як кароль Айстульф вырашыў парушыць дамову. Ён не вярнуў пантыфексу нiводнага горада i на прыканцы 755 года пайшоў на рымскае герцагства, маючы намер «пакараць лiсiцу, адважыўшуюся выцягнуць здабычу iз пасткi iльва».

Пантыфекс Стэфан пабачыў, што ён цалкам безабаронны. Баючыся быць падманутым франкамi, ён напiсаў iм слязлiвыя лiсты. Лацiнка гэтых лiстоў варварская; такая ж напышлiвая, як ва ўсiх iншых лiстах каралiнгаўскага збору рукапiсаў. Прыкрыя эпiтэты, накшталт «ваша саладкамоўная лiтасць, ваш салодкi, як мёд, погляд», – сведчаць, у якой ступенi непрывабнай была прыдворная мова

таго часу, уяўляўшая сумесь высакапарных выказванняў візантыйскай прыдворнай канцылярыі і біблейскіх выслоўяў. Да мёду сваіх лістоў Стэфан дамешвае і гаркату папрокаў, звернутых да Піпіна за яго легкавернасць. Ён нагадвае каралю, што памазаў яго на царства, што «сьвяты Камень» абраў яго пераважна перад усімі зямнымі валадарамі ў якасьці заступніка царквы і што ён даў клятву абараняць правы апостала. Гэтыя лісты былі выпраўлены ў франкскую дзяржаву, а Айстульф з'явіўся перад сьценамі Рыма.

1 студзеня 756 года рымляне пабачылі ворага, ішоўшга на іх трыма атрадамі. Стоячы каля сьцен ламбардцы са смехам крычалі абложаным:

«– Ну, клічце франкаў! Хай яны абароняць вас ад нашых мячоў!

Ламбардцы ў гэты час яшчэ былі арыянамі, г.азн. прыхільнікамі монатэізму з яго дэвізам: «няма бога акрамя бога-Грамабоя». Яны ламалі абразы і палілі іх на вогнішчах, але ў той жа час (і гэтая супярэчнасць больш усяго характарызуе пачатак сярэднявечча) тыя ж самыя «лангабарды», часткова дзякуючы набожнасьці, часткова із карысьці, раскопвалі магільні, каб вынесьці парэшткі асоб, лічымых сьвятымі.

Аблога працягвалася ужо 55 дзён і наступіла 23 лютага, калі Стэфан, каб атрымаць як мага хутчэй дапамогу ад франкаў, выправіў да Піпіна абата Вернера і іншых амбасадараў. Першы ліст да ўсяго народа франкаў быў напісаны ад імя вялікага пантыфекса, сьвятарства, усіх герцагаў (duces), хартулярыеў, графаў (comites), трыбунаў, усяго народа і войска рымлянаў. Другі ліст Стэфан напісаў ад уласнага імя. Свае ўгаворы ён падмацаваў яшчэ трэццім лістом, напісаным ужо ад імя «апостала Пятра». Гэтая выдатная прыдумка з'яўляецца адным із самых бязспрэчных довадаў дзікасьці не толькі народаў таго часу, але і самой царквы, якая ў сваіх матэрыяльных інтарэсах выкарыстоўвала, не вагаючыся, розныя шарлатанскія сродкі.

«*Наша валадарка*, – пісаў апостал Пятро Піпіну, – *боганараджальніца, прыснапанна Марыля, далучае свае маленні да нашых апостальскіх. Яна абураецца, нагадвае і загадвае, а разам з ёю тое ж робяць і пасады, і магутнасьці, і ўся процьма нябеснага ваярства. Таксама і пакутнікі, і спаведнікі Хрыста, і лісліўцы боскія, усе пераконваюць, замаўляюць і моляць Вас разам з намі, каб Вы, таму што дарагім для Вас з’яўляецца горад Рым, які даверaны нам самім богам; з’яўляецца дарагім гэты статак, што насяляе горад, і сьвятая царква, даверaная мне* (Пятру) *богам, паспяшаліся вызваліць і вырваць іх із рук праследуючых іх ламбардцаў, каб яны не змаглі апаганіць (ды не здарыцца гэтага!) маё цела, пацярпеўшае за спадара Езуса Хрыста і маю магільню, дзе яно спачывае згодна з загадам бога; каб мой народ не быў раскіданы і зьнішчаны гэтымі ламбардцамі, якія ганебна парушылі клятву і переступілі запаветы бога*».

Апостал Пятро, на прыканцы, нават распаляецца гневам:

«*Калі ж Вы, – чаго мы не думаем, – прамарудзіце, пачнеце ўхіляцца і не выступіце следам за нашым загадам вызваліць мой горад Рым і насяляючы яго народ, і дадзеную мне богам апостальскую царкву і яе вярхоўнага пастыра, – тады ведайце, што імем сьвятой тройцы, літасьцю апостальскага сана, даравaнага мне богам Хрыстом, Вы будзеце за непадпарадкаванне нашым патрабаванням пазбаўлены царства боскага і вечнага жыцця*».

Разлік на ўздзеянне апостальскага ліста выявіўся слушным. Піпін прыгатаваўся да паходу, і паведамленне пра яго выступленне прымусіла Айстульфа спыніць аблогу Рыма і паспяшацца на поўнач, каб перагарадзіць франкам доступ да межаў Італіі. Ён быў вымушаны пагадзіцца плаціць даніну каралю франкаў,

сумленна выканаць заключаную раней дамову, і, акрамя таго, саступіць папе яшчэ Камакіо (Comiaccum).

Біёграф Стэфана (дапасуемы да IX стагоддзя нашай эры) паведамляе пры гэтым, што Піпін выдаў даруючую грамату ад 754 года, якой надавалася права царкве і яе пантыфексам валодаць гарадамі, і што гэты акт яшчэ ў яго часы захоўваўся ў архіве рымскай царквы. І вось духоўнае згуртаванне вернікаў, існуючае ў нетрах імператарскага арганізма, ператварылася ў самастойную дзяржаву, на чале якой стаяў рымскі вялікі пантыфекс, дасягнуўшы ў духоўнай сферы аўтарытэта цэзараў. Пад час эпохі іконазмагальніцства была дасягнута незалежнасць пантыфікату ад Усходу. Пакінуўшы грэцкага імператара, разбіваўшага, разам з ісламітамі і ізраэлітамі статуі і выявы, рымская рэлігія заключыла хаўрус з вялікай манархіяй франкаў, новую дынастыю якой яна сама памазала на царства.

Згодна са сваім характарам тагачаснае пантыфікальнае кіраванне не было манархічным. Ужо пры першым узнікненні свецкай улады вялікіх рымскіх пантыфексаў, горад карыстаўся сваімі муніцыпальнымі правамі. Ён прызнаваў іх сваімі гаспадарамі (domini), але захоўваў правы сената і народа, і гэтыя правы больш усяго забяспечваліся тым, што вялікі рымскі пантыфекс тады абіраўся ўсім народам.

Ламбардзкаму каралю Айстульфу давялося пражыць не доўга пасьля свайго прыніжэння. Ужо на пачатку 757 года Стэфан мог паведаміць каралю франкаў, што яго злоснага ворага няма больш на сьвеце.

У сакавіку 757 года ламбардзкае войска абвясьціла сваім каралём герцага Тусцыі, Дэзыдэрыя, які ўступіў на пасад дзякуючы падтрымцы з боку Рыма, і Стэфан паспяшаўся прыняць пад сваю ўладу абяцаныя гарады: Фаэнцу з замкам Tiberianum, Jabellum і ўсё герцагства Ферары, «пашырыўшы такім чынам межы рэспублікі». Потым, 24 красавіка 757 года, у зеніце сваёй славы ён памёр.

Стэфан яшчэ ляжаў на сьмяротным ложку ў Латэране, калі нецярплівыя рымляне пачалі абранне яго наступніка. Адна партыя схілялася на карысць архідыякана Феафілакта, другая – на карысць дыякана Паўла, брата Стэфана. Першая партыя, відаць, жадала аднаўлення ранейшых дачыненяў з візантыйскай імператарскай уладай, другая – працягвання франкскай палітыкі Стэфана II. Да другой партыі належала большасць рымскай шляхты, з якой паходзілі абодва браты. Плыні новага часу хутка перамаглі прадстаўнікоў старажытна-кансерватыўнага пачатку. Пасьля нядоўгага супраціву супрацьлеглай партыі, Павел быў абраны і сеў на пасад 29 траўня 757 года.

Ён заняў пантыфікальны пасад у якасьці спадкаемцы, але напісаў пра сваё абранне «дабрадзею і заступніку царквы Піпіну, новаму Майсею і Давыду», тымі ж самымі паважнымі і вернападданніцкімі выказваннямі, з дапамогай якіх яго папярэднікі прызвычаіліся рабіць гэта ў дачыненні да візантыйскага экзарха. Такім чынам было прызнана, што ў справах Рыма кароль франкаў з’яўляўся зараз тым жа, чым быў раней экзарх.

У сваім лісьце да Піпіна, Павел абачліва піша, што, хаця ён і абраны ўсім народам, але, тым часам, ўсё ж палічыў за лепшае затрымаць у горадзе франкскага пасланніка Імо, пакуль не адбудзецца пасьвячэнне, каб пасланнік меў магчымасць пераканацца ў бездакорных паводзінах і прыхільнасьці да франкаў як яго самога, так і ўсіх іншых, і ў тым, што ён, Павел, і яго народ, целам і душой, да самай сьмерці застануцца адданымі каралю.

Піпін выправіў свой адказ на адрас рымскай шляхты і рымскага народа, дзе пераконваў іх заставацца верымі апосталу Пятру, царкве і вялікаму рымскаму першасьвятару. Такім чынам рымскі народ упершыню апынуўся пад уладай свайго пантыфекса. А пантыфекс Павел, ад імя ўсяго народа, адказаў Піпіну так:

«*Гасудар і кароль! Сапраўды дух Госпада стварыў сабе прыстанак у Вашым струменячым мёд сэрцы, калі Вы прыкладаеце намаганні сваімі добрымі парадамі накіраваць да дабра нашы думкі і пачуцці. Прэсвятлейшы із каралёў! Мы ўсе, вядома, знаходзімся вернымі рабамі сьвятой царквы і Вашага тройчы блаславёнага духоўнага айца, нашага гаспадара Паўла, першасьвятара і сусьветнага папу* (анахранізм!), *таму што ён з'яўляецца нашым бацькай і нашым найлепшым пастырам, які, падобна яго брату, шчасьлівай памяці, безперапынна апякуецца пра нашу выгоду, пячэцца пра нас і дзеля нашага выратавання кіруе намі, як сваім духоўным статкам, давераным яму богам*».

А надпіс на лісьце паведамляе:

«*Святлейшаму і вялікаму гасудару, пасланніку бога, вялікаму пераможцу, Піпіну, каралю франкаў і патрыцыю рымлянаў, увесь сенат і ўвесь народ ахоўваемага богам рымскага горада*».

Я даў тут нарыс палітычнай дзейнасьці Паўла, галоўным чынам, грунтуючыся на Грэгарэвіусе, а зараз перайду і да будынкаў, якія былі пабудаваны ў Рыме ім я яго братам.

Стэфан, – паведамляюць нам, – пабудаваў пры атрыуме базілікі званніцу і ўпрыгожыў яе золатам і срэбрам і гэта была **першая** званніца ў Рыме. Падобныя вежы каля цэркваў пачалі будавацца, відаць, толькі ў VIII стагоддзі. Яны мелі чатырохкутную форму, і ў іх былі напаловукруглыя вокны з маленькімі калонкамі па баках. Падобныя пабудовы больш позняга часу захаваліся ў Рыме ў вялікай колькасьці да сённяшняга дня. Толькі ад пабудовы званніц храмы страцілі свой класічны характар, і архітэктура перайшла да стылю феадальнай эпохі, пераважна якой уласьціва ўзвядзенне падобных веж. Сьвяцільня дачкі сьвятога Пятра – Петранілы – была ўладкавана дзеля ўшанавання «яе брата Піпіна», як прыёмнага сына гэтага апостала, і яшчэ ў больш познія часы каралі Францыі лічыліся патронамі гэтай капэлы. Меркаваныя мошчы Петранілы былі пахаваны ў капэле, калі Павел загадаў перанесьці ў горад усё, што яшчэ заставалася муміфікаванага ў катакомбах, і размеркаваць гэтыя рэліквіі паміж цэрквамі і кляштарамі, бо яны лічыліся ў той час неацэнным скарбам. Як напачатку XIX стагоддзя кожны колькі-небудзь значны музей у Яўропе імкнуўся набыць ягіпецкія муміі, так у тыя часы кожны хрысьціянскі горад і кожная царква гарэлі жаданнем набыць парэшткі із катакомбаў. Ангельцы, франкі і германцы выпраўлялі амбасадараў вымольваць іх, і такім чынам высахшыя парэшткі рымлянаў розных станаў, веку і дастатку пераносіліся ў аддаленыя дзікія месцы Германіі і там сярод лясоў з глыбокай павагай захоўваліся пад ахвярнікамі манастэрыёнаў, умацоўваючы рымскую веру.

У 761 годзе Павел I заснаваў існуючае да гэтага часу духоўнае сховішча «San Silvestro in Capite» у IV акрузе Рыма, але яно пачало называцца «на главе» толькі з XIII стагоддзя, калі ў яго была перанесена і канчаткова пакінута ў ім уяўляемая галава Яна Ахрышчальніка, доўга вандраваўшая па розных краінах зямлі і паўсюдна губляўшая то адны, то іншыя свае часткі.

Пра тое як прызначаліся вялікія рымскія пантыфексы нават і ў VIII стагоддзі мы маем наступны прыклад.

Калі разнеслася вестка пра сьмяротную хваробу Паўла, герцаг Тато ў суправаджэнні ўзброенага натоўпу і сваіх братоў Кастуся і Пасхаліса выступіў із

Нэпі, і яшчэ перш чым Павел памёр зайшоў у Рым праз браму Сьвятога Панкратыя і размясьціўся ў сваёй сядзібе. 28 чэрвеня 767 года Павел памёр, і на наступны ж дзень Тато загадаў абраць свайго брата Кастуся, хаця той ніколі не належаў да сьвятарства. Каб абыйсьці фармальнасць, ён вымусіў біскупа Рыгора неадкладна прысьвяціць Кастуся спачатку ў іпадыяканы і потым у дыяканы. Новаабраны вярхоўны пантыфекс вымусіў рымлянаў, пад пагрозай ужывання зброі, прынесьці сабе прысягу ў вернасьці, і ў нядзелю 5 ліпеня пайшоў у базыліку святога Пятра, дзе той жа біскуп Рыгор выканаў над ім пасьвячэнне.

Так на пасад сьвятога Пятра сеў просты землеўласнік, які за адзін дзень прайшоў усе духоўныя чыны, калі такія тады былі.

Бяручы прыклад са свайго папярэдніка, Кастусь паведаміў Піпіну, як патрыцыю рымлянаў, пра сваё абранне, прасіў яго па-ранейшаму быць абаронцай Рыма і запэўніў, што захавае яму вернасць і адданасць, як заступніку царквы. Але Піпін нічога не адказаў.

Карыстаючыся нявызначанасьцю становішча, нехта Вальдыперт арганізаваў сярод рымлянаў ламбардзкую партыю. Выправіўшыся ў кляштар сьвятога Віта на Эсквіліне, Вальдыперт знайшоў там прасвітара Піліпа, і рымляне, да свайго здзіўлення, пабачылі, што ў Латэран вядуць новага вялікага рымскага пантыфекса ў суправаджэнні ламбардцаў (г.азн. арыян) якія ўсклікалі:

– Піліп – папа (анахранізм!). Св. Пятро абраў яго.

Знайшоўся і біскуп, які выканаў пасьвячэнне над Піліпам. Заняўшы пасад вялікага пантыфекса, новы абраннік даў народу добраславенне і, згодна са звычаем, прыступіў да сьвяточнай трапезы, на якой прысутнічалі саноўнікі царквы, шляхта і міліцыя. Але, да іхнага няшчасьця, у гэты самы час у Рым прыбыў прыміцэрый Хрыстафор, разам з якім царкоўная партыя ўзялася за зброю, і яе правадыр, хартуларый Грацыёз, вымусіў Піліпа вярнуцца назад дадому.

Хрыстафор выставіў кандыдатуру свайго сябра, прасвітара Стэфана. На наступны дзень, 1 жніўня, той быў прыведзены ў Латэран і абвешчаны вялікім пантыфексам пад імем Стэфан III.

А Кастуся, які не здолеў сябе абараніць, вадзілі дзеля пасьмешышча па вуліцах горада і потым заняволілі ў Cella nova на Авентыне.

12 красавіка 769 года новы пантыфекс Стэфан адкрыў Латэранскі сабор, якому належыла асудзіць Кастуся і ўсталяваць, нарэшце, парадак абрання вялікіх пантыфексаў. Аслеплены Кастусь быў дастаўлены на першае паседжанне. На пытанне, як ён адважыўся, будучы парафіянінам, сесьці на пасад сьвятога Пятра, ён адказаў, што рымскія народ узвёў яго ў гэты сан гвалтоўна, жадаючы адпомсціць за ўціскі, якія народу давялося перанесьці ад Паўла І. Потым ён упаў ніц і пачаў маліць пра літасць. На наступны дзень дазнанне працягвалася. Абвінавачваемы спаслаўся ў сваю абарону на прыклад некаторых біскупаў, як то Сергія Равэнскага і Стэфана Неапалітанскага, якія дакладна так жа атрымалі біскупскі сан, будучы парафіянамі. Але гэтае ўказанне на тое, што было раней, прывяло суддзяў у лютасць, яны кінуліся на Кастуся, збілі яго з ног і выкінулі за царкоўныя дзьверы.

Потым сабор пастанавіў, што надалей ніхто не можа быць абвешчаны вялікім пантыфексом, не прайшоўшы ніжэйшых прыступак царкоўнай іерархіі да сана дыякана ці прасвітара-кардынала. Удзел парафіянаў у абранні было вырашана скасаваць і абмежаваць толькі правам акламацыі. Паседжанні закончыліся дэкрэтам пра неабходнасць ушанавання статуй і абразоў.

Такім быў пераход да абрання рымскіх вялікіх пантыфексаў выключна сьвятарствам. Мы бачым, што клерыкалізацыя рымскай царквы адбылася толькі ў 769 годзе на Латранскім саборы ў Рыме.

Падумаем жа, чытач, над гэтым гістарычным фактам.

«Толькі на Латаранскім саборы ў Рыме 12 красавіка 769 гады, было дэкрэтавана, што вялікім рымскім пантыфексам не можа быць абвешчаны чалавек непасрэдна са свецкага стану». Гэта азначае што да гэтага сабору такой царкоўнай пастановы не было. Мы бачым потым, што горад Рым і яго вобласць мелі афіцыйную назву, як у класікаў, рэспубліка; яе галоўная духоўная асоба мела назву, як у класікаў, pontifex maximus, вялікі жрэц ці вярхоўны першасьвятар бога Грамабоя, як у Бібліі. Там існавалі, як у класікаў, і трыбуны, і патрыцыі (спадчынныя дваране), і плебеі – просты люд, і што ўсяго больш здзіўляе са звычайнага боку гледжання, пераносячага класічны перыяд у такія часы, калі ў Рыме яшчэ не было грэцкага ўплыву, само слова патрыцый не старажытна-лацінскага, а грэцкага паходжання: ад πατρικός (патрыкос) – спадкаемны. Гэта азначае  што з'яўленне ў Італіі гэтага слова не магло быць раней перыяду візантыйскага панавання.

А да давяршэння бяды ў гэты ж перыяд мы бачым і класічную формулу дэкрэтавання SENATUS POPULUS QUE ROMANUS (сенат з рымскім народам), якая прысутнічае таксама і на арцы Ціта (грэцкая назва Ганорыя, і, напэўна, не імператара, а сярэднявечнага пантыфекса), так выдатна захаваўшайся разам з надпісам, што надаць ёй двухтысячагадовае існаванне цалкам немагчыма бяручы да ўвагі выветрыванне каменных матэрыялаў ад сезонных метэаралагічных уздзеянняў.

Уся тая тэрміналогія дзяржаўнага ўладкавання, якую мы знаходзім у легендарнай класічнай старажытнасьці выяўляецца існаваўшай пад час сярэдневечча! І ці не маю я права сцвярджаць, што шукаць для кожнага надпісу, дзе існуюць такія «класічныя» выказванні, перадусім старажытнае паходжанне, ці не тое ж самае, як, сустрэўшы на нейкім дакуменце выказванне Аляксандр Імператар і Самаўладзец Усерасійскі, імкнуцца прыпісаць яго не аднаму із трох Аляксандраў XIX стагоддзя, а Аляксандру Неўскаму?

Застаючыся на глебе фактычнага дасьледавання, мы бачым тут толькі адно:

Да сярэдзіны V стагоддзя Рым, як мы бачылі, быў мястэчкам вартым жалю, няздольным абараніцца нават і ад суседніх італійскіх народнасьцей, і нешматлікія гарнізоны для яго абароны высылаліся із Равэны. Ён паступова павялічваўся на працягу VI і VII стагоддзяў, як цэнтр рэлігійнага пілігрымства да магільні вярхоўнага апостала «Каменя». Ён зрабіўся ў гэты час рэспублікай, з патрыцыямі і плебеямі, з усенароднa абіраемым pontifex maximus'ам пры магільні апостала «Каменя», сенатам і курыямі. Пасьля сваёй эмансіпацыі ў VIII стагоддзі ад візантыйскай улады ён хутка развіваўся пад заступніцтвам сярэднявечнай Францыі пры Каралінгах незадоўга да узнікнення рэспублік у Венецыі, Фларэнцыі і іншых вялікіх італійскіх гарадах.

І ўсё гэта паказвае, што пры дасьледаванні падзей не толькі старажытнага сьвету, але таксама і першых стагоддзяў сярэднявечча, асабліва ў іх рэлігійнай і ідэалагічнай вобласьці, сучасны навуковы мысляр павінен перадусім вызваліцца ад збруі, якую надзелі на яго ранейшыя пісьменнікі, і перастаць, падобна паравозу, цягнуць пыхкаючы гістарычны цягнік па праржавелых рэйках, якія некалі праклалі прадзеды. І хай да чацьвёртага стагоддзя нашай эры ў нас застанецца ад гісторы

народаў амаль адна tabula rasa, але тут лепш сказаць падобна аднаму вялікаму мысляру ранейшага часу: «я ведаю, што нічога не ведаю», чым засмечваць сваё ўяўленне і перашкаджаць навуковаму мышленню чалавецтва бясконцымі нагрувашчваннямі прыдумак.



Мал. 100
Надмагільны помнік на Via Appia.

# Частка шостая.

## Клерыкальна-пантыфікальны Рым сярэднявечча.



Мал. 101
Выгляд з ракі Тыбр на мост св. Анёла ў Рыме і на «вежу Адрыяна», якая лічыцца пабудаванай легендарным рымскім імператарам Адрыянам (псеўда -138 г.), але хутчэй усяго ўзведзена вялікім пантыфексам Андрыянам II (857-872 гг.) ці Адрыянам I (472-495) для абароны ад наступаўшых ламбардцаў.

# Глава I.

## Развіццё клерыкалізму ў Рыме.



Мал. 102
Сярэднявечныя пісары.

Мы бачым із папярэднічаўшага, што пачатак клерыкалізму ў Рыме паклала змаганне некалькіх партый, меўшых фактычную магчымасць выставіць сваіх кандыдатаў на выбарную пасаду вялікага рымскага пантыфекса ў палове VIII стагоддзя.

Святарства здабыло ў ёй перамогу над падзяліўшымся свецкім насельніцтвам, і забяспечыла за сабой такое права назаўжды сваім саборным рашэннем. Гэтая падзея мае такое вялікае значэнне, што з яе мы павінны пачаць новую эру: царква тут упершыню фармальна аддзялілася ад мысляроў і навукоўцаў не належачых да сьвятарства, і ад свецкага ўплыву на развіццё сваёй ідэалогіі. Толькі з гэтага моманту навука і каталіцкая рэлігія пайшлі кожная сваім шляхам, хаця канчаткова ізалявацца яны яшчэ доўга не маглі і нават не мелі нагоды. Рэзкія супярэчнасьці паміж імі пачаліся толькі з часу Каперніка, хаця і ён быў яшчэ прысьвечаны ў духоўнае званне.

Пасьля сьмерці Стэфана, які зрабіў пераварот, рымскім пантыфексам быў абраны сьвятарствам 9 лютага 772 года Адрыян са шляхетнага роду, палац якога стаяў на Via Lata у Santo Marco. Дзядзька Адрыяна, Тэадат, меў сан консула і герцага (dux) і быў, акрамя таго, прыміцэрыем патарыяў. Яшчэ хлопчыкам Адрыян страціў бацьку, і маці аддала сірату на выхаванне прычту царквы св. Марка, да прыходу якой належала яе сядзіба. Вызначаўшыся сваім паходжаннем, хараством і розумам, Адрыян хутка прайшоў першыя прыступкі царкоўнай іерархіі. Пры Стэфану ён быў пасьвечаны ў дыяканы і пасьля яго сьмерці аднагалосна абвешчаны вялікім рымскім пантыфексам.

Пры ім і Карл Вялікі прыехаў на Вялікдзень у Рым. Велікоднае паломніцтва сюды да магіл сьвятых здавалася вернікам таго часу лепшым сродкам патрапіць у рай, і ўжо на працягу двух стагоддзяў пілігрымы сцякаліся ў Рым менавіта ў гэты

час. Падарожжа караля франкаў Карла Вялікага пры Адрыяну было пачаткам паломніцтва ў Рым і пазнейшых германскіх каралёў. Сустрэча, выказаная магутнаму заступніку Рыма, ўпершыню ўступаўшаму ў горад, была бліскучай. Згодна з дырэктывай пантыфекса, Карла сустрэлі на адлегласьці 24 мілі ад горада суддзі і атрады міліцыі, і суправаджалі яго да горада. Каля падэшвы Монтэ-Карла яго віталі дзеці, трымаючы ў руках пальмавыя і аліўкавыя галінкі, і шмат народу тоўпілася па баках дарогі з урачыстымі крыкамі:

– Жыве кароль франкаў, заступнік царквы!

Пабачыўшы такую сустрэчу, Карл злез з каня і, аточаны сваёй сьвітай, пакорліва прайшоў пешшу ў базыліку Пятра пад час жарснай суботы. Пантыфекс чакаў госьця, стоячы сярод сьвятарства на прыступках порціка, а ўвесь пляц перад базылікай быў запоўнены народам. На самай ніжняй прыступцы Карл апусьціўся на калены і потым, застаючыся на каленах і багавейна цалуючы кожную прыступку, падняўся да вярхоўнага першасьвятара. Такой была форма, якую пазней выконвалі самыя магутныя гасудары, набліжаючыся да рымскага сьвяцілішча. Карл і Адрыян абняліся і накіраваліся ў базыліку, пры гэтым кароль ішоў з правага боку, трымаючы Адрыяна за правую руку. «Яго размясьцілі ў адной із біскупскіх сядзіб, таму што, – наіўна, але слушна дадае Грэгарэвіус, – пра палацы старажытных цэзараў тады не было і гаворкі».

У 774 годзе Карл захапіў Павію і пачаў звацца каралём франкаў і ламбардцаў, патрыцыем Рыма. Такое заканчэнне мела ламбардзкае арыянства. Пры Адрыяну быў пабудаваны і вадавод, прыпісваемы старажытным рымскім імператарам. Толькі гэтае «будаўніцтва» называюць «аднаўленнем», як і ў іншых выпадках сярэднявечных пабудоваў, згадваемых у апакрыфічных старажытных аўтараў. Рэчаісная ж гісторыя паведамляе нам наступнае.

«*На працягу двух стагоддзяў увесь час павялічваючыся Рым пакутаваў ад недахопу вады і Адрыян, як новы Майсей, задаволіў смагу свайго народа. Каб напоўніць вадой крыніцу каля сьвятога Пятра і басейн, служыўшы для абмывання паломнікаў, з'яўляўшыхся сюды на Вялікдзень, даводзілася з вялікімі выдаткамі дастаўляць ваду ў пасудзінах*».

«*І вось,* – працягвае гісторык сярэднявечнага Рыма Грэгарэвіус, – *вадавод Траjana быў зноў адноўлены Адрыянам, таму што лічыцца, што ён быў разбураны ваяўнічым народам Айстульфа*»[178].

Я звяртаю тут увагу чытача на кур'ёзнае супадзенне імёнаў: пантыфекс Адрыян аднавіў вадавод Траяна, а згодна з класікамі – імператар Адрыян быў спадкаемцай імператара Траяна. Схільнасць да будавання, валодаўшая гэтым пантыфексам і яго бліжэйшымі наступнікамі, наклала пячатку велічы на першы перыяд свецкага валадарання рымскіх вярхоўных першасьвятароў.

У атрыуме храма Пятра Адрыян аднавіў галоўныя ўсходы і порцік па абодва іхныя бакі. Званніцу Стэфана II ён упрыгожыў вялікімі бронзавымі дзьвярамі. Падлога перад спавядальняй, на ўсім працягу ад бронзавых паручняў да труны апостала, была выслана лістамі чыстага срэбра, якія важылі 150 фунтаў. Сама спавядальня была ўсярэдзіне аздоблена лістамі золата, на якіх былі намаляваны падзеі са сьвятой гісторыі, і ахвярнік над спавядальняй быў пакрыты золатам кляпанай працы. У яго надпісе пра Хрыста паведамляецца наступнае:

«*Ён паходзіў із роду сьвятароў, і цароў, і таму дае права кіраваць сьветам і тым і другім адначасна. Авечак ён даў пасьвіць Пятру, вернаму пастыру, і потым даручыў іх*

---

[178] Т. II. стар. 327.

*Адрыяну. У сваім горадзе Хрыстос уручае рымскі сьцяг, слугам, якіх абірае паводле свайго меркавання. Карл, вялікі кароль, атрымаў гэты сьцяг са славай із багаслаўляючай яго рукі св. Пятра. На яго шчасьце і дзеля ўрачыстасьці яго ўлады, папа* (анахранізм) *прынёс гэты дарунак, здзейсніўшы пасьвячэнне згодна з зацьверджаным звычаем».*

Каля труны апостала стаялі срэбныя выявы сьвятых. Адрыян замяніў іх на іншыя з адлітага золата. Яны ўяўлялі Ратавальніка, Панну Марыю, і апосталаў Пятра, Паўла і Андрэя. Усё ўбранне базылікі было зроблена нанова і вызначалася асляпляючай раскошай. Пад час сьвятаў паміж калонамі каля сьцен развешваліся дываны, афарбаваныя пурпурам і аздобленыя золатам. Пад час Каляд, на Вялікдзень, пад час сьвята Пятра і Паўла і пад час ўгодак прысьвячэння вялікага пантыфекса запальвалася каласальных памераў сьвяцільня. Яна мела форму крыжа, прымацаванага да абітай срэбрам папярочнай бэлькі трыумфальнай аркі, і апускалася над спавядальняй. Калі запальваліся ўсе 1 370 агеньчыкаў гэтай сьвяцільні, яна сапраўды магла быць названа вялікім Фаросам.

Сотні майстроў, занятых выкананнем заказаў, працавалі тады на золаце і срэбры, рыхтавалі вырабы із эмалі і блакіту, рабілі мазаістыя выявы. Яны груба, але ўсё ж не без некаторага натхнення, распісвалі сьцены і высякалі скульптурныя выявы із мармуру. Ад часоў Адрыяна захавалася павучанне, у якім паведамляецца, як патрэбна фарбаваць мазаіку, як залаціць жалеза, як пісаць золатам, як вырабляць эмаль, медзяны блакіт і кадмій, і як магчыма выкарыстаць у вырабах некаторыя мінералы. Гэтае выдатнае павучанне напісана варварскай лацінкай і да некаторай ступені сведчыць на карысць самабытнасць мастацтваў у Італіі таго часу, хаця б само павучанне нават і было толькі перакладам з грэцкай.

Такой была натуральная і непазбежная прэлюдыя да наступнага класічнага перыяду мастацтва Фідыя і Праксіцеля, ненатуральна перанесеных у глыбокую старажытнасьць.

Толькі ўжываемыя тады ў вялікай колькасьці шыкоўныя дываны з вытканымі на іх выявамі розных падзей былі ўсходняга паходжання. Шматлікія назвы, якімі пазначаліся тады дываны (vela), усе грэцкія, і часта даваліся згодна з найменнем радзімы гэтых вырабаў: Александрыі, Тыра, Візантыі і Радоса. Тое ж самае патрэбна сказаць і пра белыя, пурпурова-чырвоныя і блакітныя ўборы, упрыгожаныя каштоўнымі камянямі і затканыя выявамі тых ці іншых падзей, ці фігурамі сьвятых і жывёл, нападобе арлоў, ільвоў, грыфаў, паўлінаў і аднарогаў. Назвы сьвятых пасудзін дакладна так жа даводзяць усходняе паходжанне гэтых рэчаў. «Вялікія рымскія пантыфексы і назіральнікі (біскупы), выяўляюць перад намі ў сваім уборах ўсё фантастычнае адзенне юдэйскіх «першасьвятароў», а ў цэрквах мы знаходзім бляск усіх сьвятых прынашэнняў, якімі быў перапоўнены казачны храм Саламона»[179].

Музыка квітнела ў Рыме, але муза паэзіі яшчэ маўчала. Звычай хрысьціянскіх надмагільных надпісаў – эпітафій меў наступствам з'яўленне неўзабаве асобнага роду паэзіі, самай сумнай із усіх, і гэта была адзіная паэзія, якая тады існавала ў Рыме. Аўтарамі такіх вершаў былі рымскія сьвятары, хаця і не заўсёды.

Карл Вялікі, які вывучаў навукі пад кіраўніцтвам Алкуіна, а граматыку, да якой дадаваліся таксама метрыка і паэзія, у Пятра Пізанскага, – паважаў пісаць вершамі да сваіх сяброў. Такія лісты ён пасылаў, між іншым, і Адрыяну, які не забываўся пахваліць іх.

---

[179] Грэгарэвіус. Тамсама. Т. II. стар. 338.

«*Я атрымаў,* – піша ён Карлу, – *цудоўныя, вызначаючыяся красою, салодкія вершы вашага каралеўскага, найсьветлага і богам блаславёнага генію. Перачытаў кожны верш у асобнасьці і, агорнуты захапленнем, прасякнуўся іхнай моцнасьцю і выразнасьцю*».

Адрыян таксама адказваў часам вершамі, із якіх дайшлі да нас нешматлікія. Яны напісаны акравершам і згодна са сваёй выразнасьцю і метрыкай не ніжэй свайго часу.

Якой была тагачасная лацінка? Лісты пантыфексаў да Каралінгаў, на якія спасылаюцца як на першакрыніцы, служаць дастатковай яе характарыстыкай. У іх не бачна ні граматыкі, ні логікі; лісты Стэфана III асабліва вызначаюцца наборам слоў. Няздольнасць выразна выказаць думкі такая ж вялікая ў гэтых лістах, як і варварства моўных выказванняў.

Нас пераконваюць, што гэта было сярэдневечнае псаванне першапачатковай класічнай мовы італійцаў, якая зноў пачала адраджацца пад час эпохі гуманізму ў Заходняй Яўропе. А згодна з эвалюцыйнымі меркаваннямі гэта быў, наадварот, зародак класічнай мовы пераддрукарскага часу і першых стагоддзяў друкарскай эры. Кожны дакумент, які згодна з дасканаласьцю сваёй мовы не адпавядае эвалюцыйнай тэорыі, павінен лічыцца апокрыфам, а ніяк не яе аспрэчваннем, тым больш, што рэчаісныя дакументы сапраўднага ранняга часу, напрыклад, надпісы знаходзімыя пры раскопах Пампеі, цалкам падцвярджаюць наша меркаванне. Гэтым тлумачыцца і звычнае непаразуменне гісторыкаў.

«*Лацінская мова* – выказваецца, напрыклад, Грэгарэвіус[180], – *павінна была б захавацца ў Рыме даўжэй, чым дзе-небудзь, таму што Рым быў радзімай гэтай мовы, і пры гэтым не зведаў варожым уварванняў, якія суправаджаліся б массавым перасяленем ў яго германцаў. Не існуе таксама ніякіх указанняў на тое, каб у той час для рымлянаў перакладаліся із лацінскай на агульнапашыраную мову прамовы сьвятароў і акты натарыусаў, як гэта практыкавалася ў Галіі. А тым часам «рымлянін часоў Тацыта» такжа мала зразумеў бы мову свайго народа пад час апісваемай эпохі, як мала зразумеў бы Карл Вялікі нямецкую мову нашага часу. Але лагічныя законы мовы старажытных рымлянаў* – заканчвае ён сумна – *былі «адкінуты» іхнымі сярэдневечнымі нашчадкамі і, разам са знікненнем паганскай рэлігіі і старажытнага дзяржаўнага ўладкавання, старажытная лацінка, мова герояў і дзяржаўных мужоў, памаленьку перастала струмяніцца жыватворным струменем*».

Падобным чынам выказваюцца і ўсе іншыя прыхільнікі старой храналогіі: «нашчадкі адкінулі мову сваіх герояў-дзядоў». Але толькі ці можа быць нешта падобнае з боку гледжання сучаснай навукі пра ўмоўныя рэфлексы? Устойлівасць жа мовы толькі тым і тлумачыцца, што яна ўся грунтуецца не на сьвядомай дамове размаўляючых, а на ўмоўных рэфлексах, узнікаючых яшчэ пад час нічога не разумеючага маленства і таму трымаючыхся надзвычай трывала. Даводзіцца зрабіць выснову, што ніякага адкідання класічнай лацінкі не было і не магло быць, і што разумовае жыццё ў Італіі пад час сярэдневечча ішло не назад, а ўсё наперад і наперад, як і варта было чакаць згодна з агульнымі законамі эвалюцыі чалавечых грамадстваў, згодна з якімі катастрафічна лопаюцца, як скарлупка ў вусені перад яе метамарфозай у матылька, толькі занадта аджыўшыя грамадзкія абалонкі, каб даць месца новым, лепшым.

Паспрабуем жа высветліць, у якіх грамадзянскіх умовах знаходзіўся горад Рым у VIII стагоддзі.

---

[180] Т. II, стар. 345 рускага перакладу.

Мы ўжо адзначылі падзел рымскага народа на тры станы: сьвятарства, вайскоўцы і грамадзяне ніжэйшага станаў, ці згодна з навейшай тэрміналогіяй: клір, шляхта і падатны народ. Святарства і шляхта часам зліваюцца ў тэрміне суддзі (Judices)[181] і аптыматы. Узброеныя грамадзяне ўтвараюць войска-міліцыю, кіраўнікамі якой з'яўляюцца адзначаныя шляхетным паходжаннем рымляне. Разабрацца ва ўзаемадачыненнях гэтых трох вялікіх станаў, якімі спачатку абіраўся вялікі пантыфекс, з'яўляецца цяжкім заданнем і гэтая цяжкасьць узрастае да крайнасьці яшчэ таму, што духоўны і свецкі пачаткі ўвесь час пераходзілі тады адзін у другі.

У часы готаў рымская царква, як і кожнае іншае біскупства, ведала толькі сваімі ўласнымі справамі, строга адмежаванымі ад гарадзкіх справаў. Горад жа, захоўваючы сваё муніцыпальнае ўладкаванне і самакіраванне, па-ранейшаму кіраваўся сенатам, старадаўнімі службовымі асобамі і прэфектам. Потым у гарадах Італіі, заваяваных ламбардцамі, старажытнае муніцыпальнае ўладкаванне перамянілася пад уплывам германскіх пачаткаў, і толькі ў Равенскім экзархаце і ў рымскім герцагстве, дзе ламбардцы не былі валадарамі, «законы Юстыніяна» працягвалі дзейнічаць.

Падчас візантыйскага валадарання, на чале ўсіх грамадзянскіх справаў стаялі прызначаныя экзархам герцагі (duces) і суддзі (judices), але і ў дачыненні да гэтага перыяду даводзіцца наракаць на адсутнасьць паведамленняў пра ўладкаванне гарадзкога кіравання. Новыя наступальныя дзеянні прыхільнікаў Аронавага закону (арыян), ламбардцаў выклікалі да жыцця ваярскае абарончае ўладкаванне пры якім шляхта і грамадзяне былі злучаны паміж сабой. Прыглядаючыся да рымскіх тытулаў службовых асоб той эпохі, мы большай часткай бачым, што гэта былі duces, magistri militum, трыбуны і часам comites і chartularii. Дзякуючы сваёй аддаленасьці візантыйскі ўрад перадаў царкве выплату пенсіёнаў ваярам, а бесперапынная барацьба пантыфіката з іконазмагальніцтвам візантыйскіх імператараў усё больш умацоўвала нацыянальны дух гэтага войска. Пад час першых момантаў іконазмагальніцтва, якое з нашага боку гледжання тоесна з юдаізмам, г.азн. богазмагальніцтвам біблейскай кнігі «Цары», гэты нацыянальны дух і паклаў пачатак свецкай уладзе вялікіх рымскіх пантыфексаў. Рымская міліцыя ахоплівала сабой толькі маёмасныя станы, працоўныя і плебеі не ўваходзілі ў яе склад. Яе кіраўнікамі былі, як я ўжо згадваў, шляхетныя рымляне, яны насілі тытулы герцагаў і трыбунаў, і гэтыя тытулы пазьней пачалі перадавацца па спадчыне.

Размеркаваная па акругах і падзеленая на палкі (numeri), міліцыя, акрамя ўласна ваярскай арганізацыі, валодала і чыста грамадзянскай, якая памаленьку лягла ў грунт грамадзянскага ўладкавання самога горада. Гэтае ўладкаванне пачыналася ад цэхаў (scholae) – такога ж інстытута, як і ў класікаў. Кожны цэх меў свой храм, свае могілкі і сваіх патронаў із ліку сьвятых, таму што, згодна са сведчаннем класікаў: у кожнай калегіі «старажытных рымлянаў» былі свае асобныя багі. Нагадаем, што іх заснаванне прыпісваецца яшчэ Нуме Пампілію, а пры рэспубліцы налічваюць восем цэхаў: collegia fabri aerarii, figuli, tibicines, aurifices, fabri tignarii, tinctores, sutores і fullones.

Сярод гэтых цэхаў, утвораных із грамадзян, асобна стаялі цэхі чужаземцаў (scholae peregrinorum), меўшыя важнае значэнне ў жыцці горада, таму што

---

[181] Я звяртаю ўвагу на сугучча лацінскага judex (памылкова judicus) – суддзя і judaicus – юдэйскі.

дзякуючы менавіта гэтым цэхам горад набыў свой касмапалітычны характар і атрымліваў сродкі.

Самай старажытнай із усіх існаваўшых у Рыме асад чужаземцаў была злучына юдэяў, становішча якой на працягу шматлікіх стагоддзяў застаецца нявысветленым. З часу Тэадорыха, які ўмацаваў яе, пра яе доўгі час не згадваецца ніводным словам, што і зразумела, таму што гэтая рэлігія тады мела назву арыянства, і толькі ў XII стагоддзі набывае назву жыдоўскай[182], г.азн. іберыйскай, маўрскай рэлігіі. А грэцкі цэх, наадварот, згадваецца шмат разоў.

Чатыры чужаземных асады: саксы, франкі, ламбардцы і фрызы мелі свае прыстанкі ў Ватыкане. Самай старажытнай была асада англасаксаў, заснаваная каралём Інай, прыйшоўшым у Рым у 727 годзе. Заданнем гэтай установы было навучанне ангельскіх прынцаў і ангельскага сьвятарства. Наплыў у Рым германскіх паломнікаў з кожным годам рабіўся ўсё большым; людзі поўначы ішлі туды праз моры, рэкі і горы, праз дзікія варожыя землі, зведваючы самыя цяжкія выпрабаванні. Каб забяспечыць існаванне сваёй школы, Іна ўсталяваў плату на яе ўтрыманне ў памеры аднаго дынарыя з кожнай сядзібы сваёй дзяржавы Ўэстсекса. Оффа Мерсійскі, з'явіўшыся ў Рым у 794 годзе, пашырыў гэтую асаду, і на яе ўтрыманне так жа прызначыў у сваёй краіне збор дынарыя Св. Пятра. Такія самаахвотныя прынашэнні веруючых каралёў з цягам часу ператварыліся ў цяжкі падатак на іхных падданых, якім на працягу стагоддзяў абкладалася кожная іхная хрысьціянская сядзіба, асабліва ў паўночных краінах. На вось гэтыя грошы і маглі быць пабудаваны тыя вялізныя пабудовы, якія мы прыпісваем класічнай старажытнасьці.

З якога часу ў Рыме з'явіўся сенат? – «Мы заўважаем яго існаванне, – паведамляе Грігарэвіус[183], – першы раз у лісьце рымскага народа да Піпіна, напісанага следам за абраннем Паўла I у якасьці вялікага пантыфекса ў 757 годзе. У ім самі рымляне падпісваюцца імем сената згодна з класічнай формулай senatus populus que romanus. Магутныя шляхетныя рады, займаўшыя першыя пасады ў царкве, у войску, і ў гарадзкім кіраванні, і надзеленыя тытуламі герцага (dux), графа (comes), трыбуна і консула, выявіліся зараз цалкам вызначыўшайся арыстакратыяй Рыма і насілі найменне сенатараў.

Згадванне пра консулаў часта сустракаецца ў рымскіх першакрыніцах VII стагоддзя і яшчэ больш у дакументах наступных стагоддзяў. Шляхетныя людзі ўпрыгожвалі сябе гэтым тытулам, звычайна дадаючы да яго яшчэ eminentissimus. Дзеці ўспадкоўвалі яго, напэўна, так жа, як сан герцага (правадыра), а ў адным дакуменце гэты тытул выяўляецца пашыраным нават на ўсю рымскую шляхту. Сан консула нярэдка сустракаецца, як у Рыме так і ў Неапалі, у спалучэнні з тытулам герцага, а потым ён стаў такім пашыраным, што ў IX стагоддзі выявіўся прысвоеным кожнай службовай асобе, – асабліва судовага ведамства. І мы сустракаем такіх консулаў, як, напрыклад, consul et tabellio, consul et magister censi, consul ex memorialis, а ў IX стагоддзі нават consul et negotiator.

Пад час візантыйскай эпохі вышэйшыя судовыя і адміністрацыйныя пасады замяшчаліся згодна з дырэктывай экзарха. Ён прызначаў герцага, які з'яўляўся правадыром войска і кіраўніком Рыма і герцагства, і потым суддзяў (judices, г.азн. юдэі), на якіх ускладалася «кіраванне горадам», хаця пад гэтым найменнем варта разумець і ўласна суддзяў.

---

[182] Mabillon: Ordo roman. XII.
[183] Т. II, стар. 365 рускага перакладу.

Толькі з таго часу, – кажуць нам, – як пасада рымскага герцага, існаваўшая яшчэ ў 743 годзе выявілася скасаванай, вялікія рымскія пантыфексы пачалі лічыць саміх сябе кіраўнікамі горада. Таму мы і знаходзім у Рыме не аднаго герцага, а шматлікіх, і гэтыя службовыя асобы (некалькі разоў згадваныя ў VIII стагоддзі) з'яўляюцца часта, хаця і не заўсёды, і ў ролі адміністратараў горада. Наогул, з часоў Піпіна грамадзянскае кіраванне Рыма здзяйснялася суддзямі і службовымі асобамі, стаяўшымі ў дачыненні да вялікага пантыфекса ў такім жа падначаленні, у якім яны раней знаходзіліся у дачыненні да экзарха, заступаўшага месца візантыйскага імператара. Але мы яшчэ раз заўважым, што Рым і тады працягваў існаваць, як самакіруемая рэспубліка.

Муніцыпальнае ўладкаванне Рыма было вайскова-алігархічным.

Дзякуючы перавазе вайсковай арганізацыі кіраўнікі гарадоў і ўмацаваных замкаў насілі пераважна тыя тытулы, якія спачатку служылі для пазначэння ваярскіх чыноў, г.азн. duces, tribuni і часам comites. Гэтыя назвы не былі, аднак, устойлівымі; для пантыфікальных кіруючых чыноў мы знаходзім яшчэ агульную назву actores і ёй пазначаюцца нават франкскія графы. Падчас панавання грэкаў і ламбардцаў кіраўнікамі вялікіх гарадоў былі герцагі, і мы сустракаем іх яшчэ ў VIII стагоддзі ў Венецыі, Неапалі, Ферма, Азіма, Анконе і Ферары, не кажучы ўжо пра Спалета і Беневентэ. Сан герцага (dux, г.азн. правадыр) сустракаецца не менш часта, чым сан консула, асабліва пасьля VIII стагоддзя.

Тытул «трыбун» з дадаваннем: Пышны (Magnificus) згадваецца некалькі разоў у дакументах правінцыйных гарадоў. Так мы сустракаем трыбунаў у Алатры і ў Ананы. У Рыме трыбуны заўсёды захоўвалі сваё значэнне вайсковых правадыроў, але ў VII стагоддзі яны пасылаліся часам у Равэну і ў якасьці прадстаўнікоў войска. Мы бачылі, што ўжо з сярэдзіны VIII стагоддзя Рымскаму герцагству давалася найменне **Respublica Romana**, ці **Respublica Romanorum**, і такім чынам яно прызнаецца як бы грунтам Заходняй імперыі.

Рымская вобласць і зараз падзяляецца Тыбрам на дзьве вялікія палавіны: на Тусцыю па правым яго боку і на Кампанью па левым. Абедзьве паловы распасьціраліся да мора, пачынаючы ад утокі ракі Марты і, праз утоку ракі Асура, да мыса Цырцэі. На паўночным усходзе размяшчалася трэццяя частка Рымскай вобласьці, уключаючы ў сябе збольшага Умбрыю і Табіну. Такім чынам агульнымі межамі Рымскай рэспублікі былі: мора, астатняя Тусцыя і герцагствы Беневентэ і Спалета.

Прабыўшы 23 гады вярхоўным пантыфексам, Адрыян I памёр пад час Каляд 795 года. Вызваліўшыся ад візантыйскага імперыялізму, царква і пры ім не магла існаваць у Рыме самастойна дзякуючы яго аддаленню ад цэнтраў матэрыяльнай культуры, і вымушана была ўступіць у хаўрус з дзяржавай, якая стваралася на захадзе Яўропы і валадаром якой быў кароль франкаў.

Наступнік Адрыяна, прыняўшы імя Ільва (трэцці згодна са злічэннем), быў рымлянінам згодна з паходжаннем, выхоўваўся з дзяцінства ў Латэране і дасягнуў у царкоўнай іерархіі самых высокіх ступеняў. Яго абранне было здзейснена клерыкаламі вольна, але каралю былі пасланы выбарчыя акты, і ў гэтай форме прызнавалася яго права як патрыцыя выказаць сваю згоду ці нязгоду. Да свайго прашэння пра зацьверджанне новы вялікі пантыфекс прыклаў, як ганаровы падарунак, ключы ад труны Пятра і потым, як цалкам асобны знак, сьцяг горада Рыма. У той жа час Леў прапанаваў Карлу даслаць у Рым каго-небудзь із франкскіх вяльможаў, які прывёў бы рымскі народ да прысягі на вернасць каралю. Такім

чынам тут мы маем неаспрэчны доказ таго, што Леў прызнаваў караля франкаў вярхоўным кіраўніком Рыма. У сваім адказе Ільву Карл (цалкам як Юда Макавей)[184] піша рымлянам:

«*Мы ўпаўнаважылі Ангільберта на ўсё, што здавалася для нас пажаданым і для вас патрэбным, каб вы, з узаемнай згоды, высветлілі, што вамі лічыцца патрэбным для ўзвышэння сьвятой Госпадавай царквы, для ўзвышэння вашага ўласнага сану і для ўмацавання нашага патрыцыяту. Заключыўшы сьвятую дамову з вашым папярэднікам, я жадаю таксама і з вамі заключыць непарушны хаўрус вернасьці і павагі. Ды стануся я годным апостальскага дабраславення вашай сьвятасці і ды паслужыць з дапамогай боскай наша набожнасць на абарону пасада рымскай царквы. У імя боскай павагі мы павінны бараніць святую царкву Хрыста ад яе вонкавых ворагаў, паганцаў і няверных, зброяй, а ад унутраных ворагаў – выкананнем каталіцкай веры. Вам, сьвяцейшы айцец, належыць, як Майсею, падняць рукі да неба і падтрымаць нашых рыцараў, каб хрысьціянства, дзякуючы вашаму заступніцтву і пад кіраўніцтвам бога, паўсюль і заўсёды здабывала перамогу над ворагамі яго сьвятога імя, і гэтае імя славілася б ва ўсім сьвеце*».

Летапісцы паведамляюць нам, акрамя таго, што ў 800 годзе Карлу былі паднесены падобныя ж знакі і ад палестынскага Ерусаліма. Першасьвятар гэтага горада быццам бы выправіў да Карла двух манахаў з Алейнай гары і із кляштара св. Савы. З'явіўшыся да караля, яны паднеслі яму, у адзнаку пасланага яму дабраславення, ключы ад труны Госпада і сьцяг. Але мы бачым, што гэта адна і тая ж легенда, а таму і Ерусалім у VIII стагоддзі яшчэ атаясамляецца з Рымам.

Ад асобы Карла Ангільберт прывёў рымлянаў да прысягі, і Леў прызнаў, што і Рым, і ён сам, павінны падпарадкоўвацца Карлу, як свецкаму вярхоўнаму валадару.

Мы бачым, што валадарачае становішча, занятае Карлам у Рыме і на Захадзе, і ідэі таго часу, прывялі да таго, што імператарская ўлада там трывала замацавалася. Дзякуючы доўгаму эвалюцыйнаму працэсу ў Заходняй Яўропе былі створаны дзьве ўлады, якім з гэтага часу было наканавана кіраваць еўрапейскім сьветам: у Рыме – духоўная ўлада, якой была аб'яднана царкоўная арганізацыя ўсіх правінцый Захаду, а па іншы бок Альпаў, у германскіх краінах была створана франкская манархія, улада якой распасьціралася да самога Рыма, і яе магутны кіраўнік быў ужо блізкі да аб'яднання большай часткі Захаду ў адну дзяржаву. Прадстаўнікоў той і другой улады злучалі адны і тыя ж інтарэсы, выклікаўшыя патрэбу ўзаемнай падтрымкі ў імкненні даць зноў узнікшаму грамадзкаму ўпарадкаванню трывалыя формы.

У базыліцы святой Сусаны, – паведамляюць нам, – сам Леў загадаў намаляваць сябе і Карла. Па канцах шэрагу асоб, складаўшагася із дзевяці фігур, і як бы на горных вяршынях, былі намаляваны: выява Ільва III без барады, з абстрыжанымі згодна з манастэрыёнскім звычаем валасамі, трымаўшая ў руцэ выяву храма, і Карл, у выглядзе патрыцыя, апрануты ў рымскую туніку і паверх яе ў доўгі плашч, каштоўна аздоблены па краях, а із пад плашча былі бачнымі ножны мяча. Галаву Карла ўпрыгожвалі бярэт і паверх яго карона; ногі, згодна з класічным і тагачасным рымскім звычаем, былі абуты ў чаравікі з завязкамі (tibialia), даходзіўшымі да каленяў.

[184] Адзначу, што Юда Макавей па-жыдоўску азначае Богаславец Молат, а родапачынальнікам дынастыі Каралінгаў (751-843) быў Карл Марчэл, г.азн. Кароль Молат. Па-жыдоўску гэту дынастыю таксама давялося б называць Макавеямі.

Такім чынам выяве караля было дадзена месца ў рымскай царкве нароўні са сьвятымі і апосталамі, падобна таму як у VI стагоддзі равенцы змясьцілі выяву Юстыніяна і яго жонкі ў апсідзе царквы святога Віталя.

Паміж 796 і 799 гадамі Леў III дадаў да трыклініяў Латэранскага палаца яшчэ адну шыкоўную трапезную, якую ён назваў triclinium majus. Гэтая трапезная была абкладзена мармурам і ўпрыгожана рэльефамі; калоны із парфіру і белага мармуру падтрымлівалі яе столь. Да нашага часу захаваўся толькі пазнейшы здымак із мазаік галоўнай із трох яе трыбун. У цэнтры размешчаны Хрыстос, стаячы на вяршыні гары, з якой збягаюць чатыры струмені, у яго левай руцэ разгорнутая кніга з напісанымі на ёй словамі: «мір вам!». Падняўшы правую руку, ён павучае вучняў, якія стаяць да абодва бакі, трымаючы сваё адзенне перакінутым праз рукі ў знак таго, што яны гатовы ісьці навучаць яго вучэнню. Пра тое ж паведамляе і надпіс:

«*І так ідзіце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Бацькі і Сына і Сьвятога Духа; і вось, я з вамі ва ўсе дні да сканчэння веку*».

Другі надпіс на арцы паведамляе:

«*Слава ў Вышніх Богу, на зямлі мір, у чалавецах любасць*».

Мы упершыню тут бачым словы Евангелля, калі гэтыя надпісы не былі зроблены пазьней.

Справа і злева ад гэтай выявы намаляваны яшчэ дзьве выявы, адлюстроўваючыя хаўрус духоўнай і свецкай улад і іхнае боскае паходжанне: з аднаго боку намаляваны вялікі рымскі пантыфекс Сільвестр і Кастусь Вялікі, а з другога – Леў III і Карл Вялікі.

Пад час больш ранніх стагоддзяў вярхоўны рымскі пантыфекс называўся на мазаіках толькі «біскупам і служкай Хрыста», але ужо з канца VIII стагоддзя яму, падобна імператарам, быў нададзены тытул dominus (спадар), якога яшчэ, аднак, не кляпалі на манетах. Але, нягледзячы на гэтую пышнасць, геаграфічныя ўмовы паранейшаму не давалі Рыму магчымасьці стаць сталіцай вялікай імперыі. Яе цэнтр быў вымушаны заўсёды абапірацца на іншае, больш зручнае ў стратэгічным і матэрыяльна-культурным дачыненні месца. Раней на Канстантынопаль, зараз на Ахен.

Адна выпадковая падзея павінна была паслужыць яшчэ новай нагодай да стварэння сьвятой Рымскай імперыі. Вось як маляўніча паведамляе пра яе Грэгарэвіус[185].

«На працягу VIII стагоддзя ў Рыме ўтварылася клерыкальна-арыстакратычнае кіраванне, таму што самы вялікі ўплыў там набылі proceres і judices de clero. Сем прыдворных міністраў ведалі ўсімі справамі, і на працягу амаль цэлага стагоддзя самым уплывовым чалавекам у Рыме нароўні з пантыфексам быў прыміцэрый натарывусаў. Род вялікага пантыфекса Адрыяна, адзін із самых выбітных сярод шляхты, дзякуючы яму стаў яшчэ больш магутным. Самыя блізкія сваякі Адрыяна бралі ўдзел ва ўсіх найбольш важных дзяржаўных справах і занімалі самыя высокія пасады. Дзядзька Адрыяна, Тэадат, называўся консулам і герцагам і быў прыміцэрыем царквы; пляменікі Хведар і Пасхалій мелі вялізны ўплыў у Рыме. Пасхалія Адрыян прызначыў прыміцэрыем, які захаваў за сабой гэтую пасаду і пасьля сьмерці Адрыяна. Пляменік вярхоўнага першасьвятара, кіраваўшага Рымам са славай 23 гады і надзяляўшага сваю радню

[185] Грэгарэвіус, т. II, стар. 404.

ўсімі высокімі ўшанаваннямі, не мог не ставіцца варожа да таго, што ўлада знаходзіцца зараз у руках Ільва III, чужой яму асобы. Гэтыя непрыязныя пачуцці Пасхалія мелі водгалас у асяроддзі ўсёй яго радні і кліентаў, крэатурах Адрыяна, і ў шмат каго із аптыматаў (лацінская назва арыстакратаў), як духоўнага, так і вайсковага звання.

Да асабістай варожасьці непатаў, пазбаўленых новым пантыфексам уплыву, якім яны да яго карысталіся, далучылася яшчэ нежаданне рымлянаў прызнаць яго вярхоўную ўладу. Гэты пратэст сярод рымлянаў бярэ пачатак ад самога моманту ўзнікнення свецкай улады рымскіх пантыфексаў у быў нагодай цэлага шэрагу рэвалюцыйных рухаў, працягваўшыхся да нашага часу. Ва ўсёй гісторыі чалавецтва мы сапраўды не сустракаем ніводнага такога зацятага змагання ў імя адной і тай жа нязменнай ідэі, як гэтае змаганне рымлянаў і італійцаў, накіраванае супраць свецкай улады рымскіх вярхоўных жрацоў, царства якіх павінна было быць не ад гэтага сьвету.

Пасхалій разам з сакелярыем Кампулам (відаць, гэта быў яго родны брат) склалі змову з мэтай пазбавіць Ільва III улады і захапіць яе ў свае рукі. На 25 красавіка, пад час сьвята св. Марка была прызначана вялікая працэсія, штогадова адбываўшаяся ў гэты дзень. Яна накіравалася ад Латэрана да Santo Lorenzo in Lucina, і тут яе сустракаў народ і прамаўлялася агульная малітва. Леў III згодна са звычаем ехаў верхам на кані ў суправаджэнні свайго двара, і калі ён выступіў із Латэрана, Пасхалій заняў у працэсіі сваё месца. Ён ехаў наперадзе, а Кампул ззаду яго. Астатнія змоўшчыкі чакалі працэсію каля кляштара св. Сільвестра in Capite і тут, агаліўшы мячы, напалі на яе.

Працэсія была разагнана, раз'юшаныя аптыматы скінулі Ільва з каня на зямлю, сарвалі з яго ўбор і загадалі грэцкім манахам зачыніць яго ў келлю і трымаць пад вартай. Ноччу ён быў пераведзены ў кляштар сьвятога Эразма на Цэліі і сьвятары паведамляюць, што там бог згодна з малітвамі апостала Пятра вярнуў яму адрэзаны ў яго нападаючымі язык і выкалатыя вочы, а потым да Пасхалія нечакана дайшла жудасная для яго вестка, што Леў збег. Камерарый Альбін і іншыя асобы, застаўшыяся вернымі Іьву III, вызвалілі яго са зняволення. Яны апусьцілі яго з манастэрыёнскай сьцяны на вяроўцы і потым завялі ў базыліку св. Пятра. Вініхіс, герцаг Спалецкі, даведаўшыся пра падзеі ў Рыме, пасьпяшаўся туды з атрадам жаўнер і адвёз Ільва III цэлым у Спалета.

Леў пасьпяшаўся да свайго абаронцы Карла і заспеў яго ў Падэрборне, паблізу Ліпегама на Рэйне.

Сустрэча гэтых двух людзей была падзеяй, якая мела сусветна-гістарычнае значэнне. Паэт IX стагоддзя, відаць, Ангільберт, намаляваўшы, у сваёй паэме пра Карла Велікам Ахен, у якасьці «другога Рыма» і ўхваліўшы двор караля, паднімаецца ў яго апісанні да вышыні класічнага стылю. Каралю, пагружанаму ў сон, з'яўляецца нечая выява, выгляд якой выклікае ў яго глыбокае спачуванне і жах. Гэта вялікі рымскі пантыфекс Леў з адрэзаным у яго языком і выкалатымі вачамі. Кароль выпраўляе ў Рым трох амбасадараў даведацца пра яго лёс, і потым апісваюцца адбыўшыяся там падзеі, збяганне папы і яго прыбыццё ў Падэрборн. Леў з'яўляецца ў суправаджэнні караля Піпіна, выйшаўшага яму насустрач з дзесяццю тысячамі вяяроў, а Карл чакае яго сярод свайго войска. Прыбыўшы ў лагер, вялікі рымскі пантыфекс дае ўсім дабраславенне, войска тры разы здзяйсняе каленаапусканне, і глыбока расчулены манарх абдымае ўцекача. Іх абодвух вітаюць натоўпы вяяроў устрасаючы паветра крыкамі, і натоўпы паладзінаў,

пераможцаў сарацынаў Гішпаніі, авараў Істра і саксаў Германіі. Бразганне зброі перамешваецца з гімнамі сьвятароў. Карл вядзе пантыфекса ў сабор, і пасьля ўрачыстай абедні пачынаецца баль, на якім, згодна са словамі паэта, у кубках Бахуса пенілася салодкае фалернскае віно.

Хай чытач не здзіўляецца перамяшаню хрысьціянскіх і «паганскіх» разуменняў у гэтай паэме. Такім было хрысьціянства таго часу. Алкуін, напрыклад, піша (Ep. IX): mitis et aetherio clementer Christus Olimpo; Ангільберт і Тэадульф, як у часы Прамоўцы, часта называе бога Грамабоем (tonans). Паэты Карла давалі сабе імёны Homerus, Corydon, Flaccus, Candidas, як быццам яны былі сябрамі Аркадзкай акадэміі. Самага Карла называлі Давыдам.

Карл вырашыў ужыць сваю вярхоўную ўладу з усёй строгай безстароннасьцю. Ён прыехаў у Рым, апраўдаў Ільва III і засудзіў яго ворагаў на выгнанне ў Францыю; такім выгнаннем было заменена ўжываемае раней выгнанне ў Візантыю.

Трыста дваццаць чатыры гады прайшлі з таго часу, калі амбасадары рымскага сената з'явіліся да імператара Зянона (474-491) і ўручылі яму рэгаліі, адчуваючы немагчымасць самастойнага палітычнага існавання, і дзякуючы гэтаму наступіў перыяд, калі візантыйскія імператары кіравалі Італіяй, як правінцыяй. Германцы і іншыя народы разбурылі гэту імперыю, але яны ж і аднавілі яе. Грэцкія імператары на Ўсходзе маглі трымаць Захад пад сваёю ўладай толькі да той пары, пакуль германскія землі былі краінай варвараў, яшчэ не ведаўшых руднай справы. Але гэтая ўлада ўжо не магла больш трымацца тады калі матэрыяльная культура сярэдняй Яўропы паднялася і ўзнікла магутная франкская дзяржава. Зараз Захад ужо вылучыў свае дамаганні на правы імперыі. Пры такіх умовах Леў III у сваім неспрыяльным стратэгічным становішчы непазбежна павінен быў спрыяць сваім маральным уплывам пераходу ўлады да заходняй дынастыі.

Рашэнне рымскай шляхты і народа, без сумневаў, папярэднічала каранаванню, і Карл быў узведзены ў сан рымскага імператара тымі ж трыма выбарчымі карпарацыямі, якія бралі ўдзел і ў абранні вялікіх рымскіх пантыфексаў.

Франкскія летапісцы паведаляюць, што Карл стаў імператарам дзякуючы абранню рымскага народа, ці спасылаюцца на агульны сход абедзьвюх злучаных нацый, прытым пералічваюць удзельнікаў у такім парадку: вялікі рымскі пантыфекс, увесь сход духоўных асоб, біскупаў і абатаў, сенат франкаў, увесь сход шляхетных рымскіх людзей і ўвесь іншы хрысьціянскі народ.

Леў, як бы натхняемы самім богам, усклаў на галаву караля залатую карону, і народ ужо падрыхтаваны і разумеўшы тое, што адбываецца перад ім, вітаў новага рымскага імператара воклічамі, якімі віталі візантыйскіх кесараў:

– «*Набожнейшаму Аўгусту Карлу, вянчанаму богам, вялікаму, мірашануючаму імператару рымлянаў, жыццё і перамога*!»

Гэтае прывітанне было паўторана двойчы. Леў апрануў Карла ў імператарскую мантыю і, апусьціўшыся на калены, схіліўся перад кіраўніком Рымскай імперыі. За ўрачыстасьцю ўкаранавання была здзейснена абедня і, пасьля яе заканчэння, Карл і Піпін падаравалі цэрквам прыгатаваныя раней прынашэнні: базыліцы Пятра – срэбны стол з каштоўным залатым начыненнем, базыліцы Паўла – тое ж, латранскай базыліцы – залаты крыж, упрыгожаны каштоўнымі камянямі, і царкве Santa Maria Maggiore не менш каштоўныя прынашэнні.

Так Карл склаў з сябе сан патрыцыя і стаў з той пары звацца імператарам і Аўгустам. Побач з вялікім рымскім пантыфексам і рымлянамі, у абранні бралі

ўдзел таксама франкі і іншыя германцы, прадстаўнікамі якіх з'яўляліся існаваўшыя ў Рыме карпарацыі (scholae) чужаземцаў. Выбарчае права, спачатку належаўшае выключна сенату і народу зараз страціла сваё значэнне, бо падмурак імперскай улады ўжо ўтварала германская нацыя. Карл меў намер, як паведамляе пагалоска, адружыцца з візантыйскай імператрыцай Ірынай, каб і Ўсход і Захад перайшлі пад уладу новай дынастыі і ўтварылася магчымасць захаваць сусветнае адзінства, як імперыі, так і царквы. Але гэтыя надзеі былі толькі марай.

Новая імператарская ўлада не пашырылася на Ўсход «*Абражаныя грэкі* – паведамляе Грэгарэвіус[186] – *паставіліся да яе, як да ўзурпацыі, і толькі смуткавалі пра тое, што вялікі франкскі меч рассёк сувязь існаваўшую паміж Рымам і Візантыяй і выдатная дачка адабрана назаўсёды ад сваёй убеленай сівізной старажытнасьці маці. З гэтага часу глыбокая прорва лягла паміж Усходам і Захадам. Царкоўнае і дзяржаўнае ўладкаванне, навука, мастацтва, норавы, парадак жыцця і нават успаміны, – усё гэта выявілася цалкам іншым на Ўсходзе і на Захадзе. Грэцкая Раманская імперыя ператварылася ва Ўсходнюю і праіснавала са славай яшчэ шэсць пакутлівых для яе стагоддзяў, а сьвятая Рымская імперыя Карла Вялікага сваім існаваннем прынесла ў жыццё заходніх народаў неспадзявана каштоўны змест.*

*Ва ўзнікшай зноў дзяржаве жывымі носьбітамі палітычных пачаткаў ужо былі германцы і, акрамя таго, сама дзяржава адважным рашэннем была высунута за межы выключна дзяржаўных падставаў: яна была матывавана боскім жаданнем і хутка набыла выгляд леннага валодання, падараванага богам. Новая ўлада мела тэакратычны характар. Ужо не свецкія законы, а пастановы царквы з'яўляліся сувяззю, злучаючай заходнія народы, кіраўнікамі якіх былі адзіны імператар у стратэгічным цэнтры і адзіны вярхоўны першасьвятар у Рыме, як рэлігійным цэнтры. Адукаванасць, культ, маральныя законы, сьвятарства, лацінская мова, сьвяты, каляндар, – словам, усё тое, што складала пад час сярэдневечча агульны набытак народаў, выходзіла зараз із царквы. Ідэя сусветнай рэспублікі, якою магло быць аб'яднана ўсё чалавецтва, набыла ў царкве свой бачны вобраз. Імператар з'яўляўся вярхоўным кіраўніком і яе абаронцай. Яму, свецкаму намесніку Хрыста, належыла павялічваць царкву і захоўваць у ёй парадак. Да народаў і дзяржаў, якія былі аб'яднаны імперыяй і прызнавалі – самаахвотна ці дзякуючы прымусу – грамадзянскую ўладу імператара, апошні стаяў з гэтага часу ў тых жа самых дачыненнях, у якіх стаяў рымскі пантыфекс да мясцовых цэркваў і мітрапалітаў, пакуль цэнтралізацыя царквы яшчэ не была канчаткова дасягнута. Хутка пасьля Карла Вялікага імператарская ўлада была заснавана хутчэй на агульнай для усіх народаў рэлігійнай догме і мела значэнне інтэрнацыянальнага аўтарытэта*».

Так нам паведамляюць лацінскія паданні, дапасуючы сьмерць Карла Вялікага да 814 года. А калі мы звернемся да гішпана-маўрытанскіх, то пабачым, што і згодна з імі ў гэты ж самы час жыла цалкам такая ж славутасць, якую яны па свойму завуць Гарун аль-Рашыд, г.азн. Арон Справядлівы, і адносяць яго смерць да 809 года, усяго на 5 гадоў раней, а месца жыхарства дапасуюць нават занадта далёка: да Багдада, на рацэ Тыгр. І Карл Вялікай, і Арон Вялікі – пераконваюць нас – адначасна апекавалі навукі і літаратуру, пышна развіваўшыяся пры іх у двух аддаленых краінах, нічым не злучаных адна з другой, і адначасова ж абодва «азмрочылі канец свайго жыцця падазронасьцю і сьмяротнымі пакараннямі». Пра Карла былі складзены цэлыя цыклы франкскіх легендаў, а пра Гаруна адначасова ж цэлыя цыклы гішпана-маўрытанскіх (таму што так званая «арабская мова Карана і наогул «арабская літаратура» цалкам не вядома карэннаму насельніцтву Аравіі, Сірыі і Месапатаміі, і квітнела ў якасьці навукова-літаратурнай пад час

[186] Том II, стар. 422.

сярэднявечча галоўным чынам у гішпанскіх маўраў). І, у давяршэнне ўсяго, Карл Вялікі быў таксама імператарам саміх гішпана-маўрытанскіх халіфатаў!

Усё гэта не можа не навесьці на думку, што абодва былі адной і той жа асобай у двух разнамоўных аперцепцыях[187].

Але вернемся да нашага прадмета.

«*Містычнаму разуменню рэчаіснага сьвету пад час сярэднявечча, на якую мы зараз глядзім, як на сафістычную гульню знакамі, увесь сьвет, – так жа, як і чалавек, – уяўляўся спалучэннем душы і цела*»... «*Вярхоўны рымскі першасьвятар уяўляўся намесьнікам Хрыста ва ўсіх пытаннях боскага і вечнага значэння, імператар быў такім жа намесьнікам у справах праходзячых і зямных*»...

Я знарок узяў гэтыя дзьве характарыстыкі сярэднявечча із Грэгарэвіуса[188], таму што цалкам згодзен з імі, і апісаны тут працэс узнікнення Сьвятой Рымскай імперыі знаходзіцца ў самай цеснай сувязі з маімі храналагічнымі вызначэннямі. У першай кнізе «Хрыста» я ўжо паказваў, што пад час той жа эпохі толькі-толькі ўзнікала евангельскае хрысьціянства, ды і то не на Захадзе, а ў Візантыі.

Агульнае развіццё рэлігійнай думкі з новага боку гледжання, бачыцца такім. Пачынаючы з канца IV стагоддзі, калі ў 395 годзе прагрымеў сваімі грознымі прадказаннямі Апакаліпсіс, на біблейскай гаворцы арабскай мовы ўзнікла прароцкая літаратура. Яна надала тыповы месіянскі адбітак рэлігійнаму настрою, абуджанаму тагачасным ажыўленнем сейсмічнай дзейнасьці, на ўсіх узбярэжжах Міжземнага мора. Яе прыпісвалі гневу бога Грамабоя і ўстрасальніка зямлі за благія паводзіны людзей у гэтых краінах, і тэалогія паўднёвай Яўропы выпрацавала ўяўленне пра будучага месію, адначасова як пра ўзнагароджвальніка дабрачыннасьці і як пра пакаральніка зла.

Ні арыянства, ні юдаізм, ні іслам, ні хрысьціянства яшчэ не аформіліся і не адасобіліся ў той час, і **юдэі** паўсюдна атаясамляліся з **суддзямі** (judices).

Жудасная чума, ахапіўшая ўсе ўзбярэжжы Міжземнага мора на самым заканчэнні VI стагоддзя (каля 590 года) і спыніўшаяся ў верасні, калі Сонца ўступіла ў сузор'е Панны, мела наступствам спачатку выпрацоўку культу Панны, нарадзіўшай бога Ратавальніка (у сімвале выйшаўшага із яе Сонца), а потым і культа яе сына, таго ж апакаліптычнага Езуса, але ужо не ў якасьці простага суддзі жывых і памёршых, а ў якасьці лекара-напаловубога. Асобныя легенды пра яго медычныя дзівы, развіваўшыяся ў наступным стагоддзі былі сабраны спачатку евангелістам Маркам, які нарадзіўся ў палове VII стагоддзя і памёр згодна з царкоўнай традыцыяй у 725 годзе, і ідэалагічна асьвечаны Янам Дамаскім, жыўшым згодна з той жа традыцыяй у наступным пакаленні VII стагоддзя (676-777гг.).

Каля гэтага ж часу жыў і Еранім Шчасьлівы, які пераклаў – кажуць нам – Біблію на лацінскую мову, калі час яго жыцця (330-419 гг.) мы будзем лічыць не згодна з сучасным злічэннем «ад Н. Х.», якога тады яшчэ не было, а згодна з эрай Дыяклетыяна, пры гэтым для жыцця Ераніма атрымаецца прамежак паміж 614 і 703 гадамі нашай эры. А Карл Вялікі быў імператарам Святой Рымскай імперыі ад

[187] Адзначу, што і само слова Парыс (г.азн. Перс) з'яўляецца толькі іншым вымаўленнем слова Парыж (Paris па-французку), а таму і франкі, атрымаўшы імя парыжане (parisiens) ад сваёй сталіцы, маглі быць пераблытаны не вельмі дасьведчанымі ў геаграфіі наступнымі тлумачальнікамі (не меўшых яшчэ геаграфічных мапаў) з персіянамі (persiens). Падобна таму як да гэтага часу я паказваў апакрыфічнасць усёй лацінскай класічнай літаратуры, так у наступных тамах буду паказваць апакрыфічнасць (і еўрапейскае паходжанне) і ўсёй, так званай, сярэднявечнай «арабскай» літаратуры, нават і самога Карана.
[188] Т. II, Кн. 4, гл. VII.

800 да 814 года. Такім чынам, заснаванне Сьвятой Рымскай імперыі Ільва III і Карла Вялікага ў 800 годзе нашай эры з'яўляецца з нашага боку гледжання першым прызнаннем хрысьціянства дзяржаўнай рэлігіяй у Заходняй Яўропе. Да гэтага ж часу існавала толькі сумесь апакаліптычнага месіянства біблейскіх пракрокаў з паганскім[189] шматбожжам, адлюстраваўшаяся ў знаходзімых і зараз помніках мітраізму.

# Глава II.
## Раздзяленне царквы і дзяржавы ў Заходняй Яўропе з часоў Карла Вялікага.

Вызваленне Рыма із пад улады ламбардцаў і грэкаў было важнай гістарычнай падзеяй. Піпін Кароткі і Карл Вялікі ўпершыню стварылі вакол яго ўласную вобласць і зрабілі пантыфекса яе валадаром. Кароль франкаў, як вярхоўны валадар, даў зарок бараніць гэтую царкоўную дзяржаву ад яе ўнутраных і знешніх ворагаў. З гэтага часу Рым, як агульны набытак усяго чалавецтва, не павінен быў належаць выключна нейкаму аднаму валадару, ці нейкаму асобнаму народу.

Карл разважліва адмовіўся ад думкі зрабіць геаграфічна глухі Рым сталіцай сваёй манархіі і гэтае рашэнне мела ў самай высокай ступені важнае гістарычнае значэнне. Ім была забяспечана магчымасць, з аднаго боку, палітычнага і вайсковага развіцця заходне-еўрапейскіх народаў, а з другога, – самастойнага развіцця каталіцкай царквы, для кіруючага цэнтра якой Рым быў вельмі прыдатным горадам, як ўжо аточаны міфамі.

Непадобнасьцю германскіх і рымскіх інтарэсаў улада імператара была назаўжды адлучана ад улады вялікіх пантыфексаў, і расколам паміж гэтымі дзьвюма магутнасьцямі, абмяжоўваўшых адна другую, была выратавана грамадзянская воля Яўропы. Новы імператар паўстаў на грунце заваёўнічых памкненняў германскага народа, а яго вярхоўны першасьвятар быў створаны Рымам і італійцамі. Кожная із гэтых двух нацыянальнасьцей павінна была развіваць у сабе адпавядаючую ёй сусветную магутнасць: поўнач стварыла палітычныя ўстановы, а поўдзень – рэлігійныя. Германіі было наканавана завяршыць развіццё імперыі, а Рыму – развіццё царквы. У заходнім сьвеце было два цэнтра прыцягнення: царкоўны горад Рым і імператарскі горад Ахен, і разам з тым імператар дзякуючы сваёй вайсковай магутнасьці павінен быў заставацца адзіным вярхоўным кіраўніком, як «сусветнай імперыі», так і царквы.

Прымусіўшы рымлянаў прызнаць вялікага пантыфекса сваім мясцовым валадаром, Карл разам з тым прымусіў іх, як імператарскіх васалаў (homines imperiales), прынесьці і сабе самаму прысягу ў вернасьці і падпарадкаванні.

Хаця вялікі рымскі пантыфекс і прызначаў сваіх суддзяў, але самай высокай судовай інстанцыяй быў усё ж імператар. Яго прадстаўніком быў пасланнік, ці легат, які ўтрымліваўся за кошт пантыфікальнай камеры, жыў пры царкве св. Пятра, і чыніў суд у ёй ці ў латранскай «Зале ваўчыцы», ці ў тым будынку, які раней меў назву Вайсковы трыбунал (Curia Ostilia), але зараз лічыцца класікамі за памяшканне (занадта шыкоўнае нават у нашыя часы!) для дзікіх звяроў, прызначаных для цкавання ў цырку імператара Веспасіяна (мал. 103). Пасол

[189] Нагадаем, што языкамі, пад час старажытнасьці зваліся чужыя народы (ἔθνικοί па-грэцку).

ахоўваў пантыфекса ад замахаў шляхетных людзей на яго ўладу, але разам з тым быў і ахоўнікам правоў імператара ў Рыме.



Мал. 103
Рэшткі сярэднявечнага будынка, які завецца «Вайсковы трыбунал» (Curia Ostilia), якое можа быць і было вайсковым трыбуналам пры наступніках Карла Вялікага (800-814 гг.) ці Атона Вялікага (962-973), заснавальніка «Сьвятой Рымскай Імперыі» пад гегемоніяй Германіі, але лічыцца класікамі за памяшканне для дзікіх звяроў легендарнага «амфітэатра Флавія Веспасіяна».

У асабліва важных выпадках імператар пасылаў у Рым і надзвычайнага амбасадара. Такім амбасадарам звычайна быў герцаг Спалецкі, які судзіў шляхетных рымскіх людзей і біскупаў, абвінавачваемых у дзяржаўнай здрадзе. Прызнаным вінаватымі ў ёй выносілі прысуд часам выгнанне за Альпы, падобна таму як раней, пад час эпохі візантыйскага кіравання, такія людзі спасылаліся куды-небудзь у Грэцыю.

Імператар прызнаў за вялікім рымскім пантыфексам права вырабляць уласную манету, разам з правам імунітэту. Пагэтму Леў III, дзеля падцверджання сваёй улады над краінай, выбіваў на адным боку рымскага дынарыя сваё ўласнае імя, а на другім – імя свайго вярхоўнага валадара, імператара.

25 красавіка 801 года Карл пакінуў Рым, каб вярнуцца ў Германію, прытым у Спалета яго напалохаў землятрус, адбыўшыся ноччу 30 красавіка. Ён быў нават заўважны у прырэйнскіх краінах, а ў Італіі былі моцна пашкоджаны некаторыя гарады. Гісторыкі здзіўляюцца таму, што летапісцы таго часу не надаюць ніякай увагі помнікам старажытнасьці, якія без сумневаў павінны былі б быць пашкоджанымі, у той час як амаль усе, як нямецкія, так і італійскія летапісцы, адзначаюць як важную падзею, што дах базылікі св. Паўла ў Рыме быў разбураны. А з нашага боку гледжання гэта толькі падцверджвае нашы высновы, што ніякіх сур'ёзных помнікаў старажытнасьці ў той час яшчэ не было пабудавана ў Італіі.

Імператар накіраваўся ў Равэну, потым у Павію, сталіцу італійскага каралеўства, і тут дапоўніў кодэкс ламбардзкіх законаў некалькімі капітулярамі. У гэтых эдыктах ён тытулуе сябе: «Карл, боскай воляю валадар імперыі рымлянаў,

сьвятлейшы Аўгуст» і нават пазначае эдыкты часам свайго **консульства**, як і ў «класічных» пісьменнікаў.

А ў Канстантынопалі ў гэты час, аточаная змоўцамі Ірына шукала сяброўства Карла, бо ў выпадку яе адружання з ім Усходняя і Заходняя Рымскія імперыі былі б злучаны пад уладай адной дынастыі. Карл і сам не быў супраць гэтага, ён прыняў амбасадараў Ірыны і ў сваю чаргу выправіў амбасадараў да яе. Але калі яны з'явіліся да візантыйскага двара, яны маглі толькі пераканацца на ўласныя вачы, што Нічыпар, які быў раней палацавым скарбнікам, без кровапралівання захапіў яе пасад 31 кастрычніка 802 года і выправіў Ірыну на выспу Лесбас.

Бачачы сябе самотным, Карл вырашыў пасьля гэтага абвясьціць сваім суваладаром спадчынніка сваёй манархіі Людовіка Аквітанскага, і, са згоды шляхетных людзей імперыі, узвёў яго ў імператарскі сан у Ахене 11 верасня 813 года.

Тэакратычная імперыя Карла была першай спробай стварыць усеагульны хаўрус народаў, у якасьці хрысьціянскай феадальнай федэрацыі.

Ні трошкі не падазраючы, што пазьней ўлада вялікіх рымскіх першасьвятароў стане бязмежнай, Карл у рэчаіснасьці сам паклаў грунт іхнай улады і стварыў царкоўную дзяржаву. Але хаця ён і быў вельмі набожным сынам царквы, на якую глядзеў, як на самае моцнае злучаючае звяно сваёй імперыі і як на боскую крыніцу чалавечай асьветы, ён ніколі не думаў быць сляпым служкай царквы. Ён ахоўваў імунітэт рымскага біскупа, але ніколі не забываўся, што валадар усёй манархіі – імператар. Падуладныя яму народы таксама бачылі менавіта ў ім вярхоўнага валадара таксама і царкоўных справаў. Ён засноўваў біскупствы, усталяваў пачаткі царкоўнага права, завёў школы і зацьвердзіў сваёю найвышэйшай ўладай царкоўны статут, уключыўшы яго, як закон, у свой кодэкс. І дзейнасць біскупаў, і сабораў былі падначалены вырашаючаму ўплыву імператара.

# Глава III.

## Дадатковыя каштоўнасьці чалавечай працы, зносімыя пілігрымамі ў Рым, працягваюць крышталізавацца у ім.

Ледзь рымляне даведаліся, што Карл памёр, як яны зноў далі волю нянавісьці да грамадзянскай улады пантыфекса.

Прыхільнікі Кампула і Пасхалія (якія жылі ў выгнанні ўжо 14 гадоў) склалі змову супраць свайго вярхоўнага першасьвятара. Гэтая змова, аднак, была выкрыта. Не доўга думаючы, Леў загадаў пакараць сьмерцю вінаватых у «дзяржаўнай здрадзе», але вестка пра іхнае пакаранне сьмерцю выклікала абурэнне нават і ў набожным спадкаемцаў Карла.

У Рым быў выпраўлены для дазнання кароль Італіі, і Леў паспяшаўся паведаміць вярхоўнаму кіраўніку Рыма свае тлумачэнні. Аднак раздражненне ў Рыме было вельмі вялікім, і ў тым жа 815 годзе ворагі Ільва зноў паўсталі супраць яго. Пантыфікальныя фермы, як ранейшыя, так і зноў пабудаваныя Ільвом, былі спалены. Рымская шляхта ўзброіла асаднікаў і рабоў, далучыла да паўстання правінцыйныя гарады і пагражала ўварвацца ў Рым, каб прымусіць вялікага пантыфекса вярнуць маёмасць, канфіскаваную ім у пакараных сьмерцю і абвешчаную ўласнасьцю пантыфікальнага скарбу. Каб задушыць паўстанне

рымскай шляхты, Бернгард накіраваў у Рым герцага Вінігаса са Спалета. Той прывёў свае войска ў Рым, але ўжо 11-га чэрвеня 816 года рымскі пантыфекс памёр.

Сваімі пабудовамі Леў III зрабіў для горада яшчэ больш, чым Адрыян. У гэты другі перыяд выдатных пабудоваў пры Каралінгах царкоўны Рым цалкам змяніўся.

Мы маем поўнае права не верыць здагадкам аматараў класічнай старажытнасьці быццам бы для гэтых пабудоваў карысталіся ўжо гатовымі калонамі і арнаментамі «старажытных рымскіх будынкаў», і што быццам бы «новае стваралася тады толькі са старажытнага» і што «эпоха Каралінгаў, пад час якой вельмі шмат цэркваў было пышна рэстаўравана, не пакінула пасьля сябе ніводнага самастойнага, вялікага будынка ў Рыме»[190]. Гэтым жа толькі маюць намер патлумачыць нябыт не неіснаваўшага!

«*За выключэннем некалькіх выяваў на шкле і мініятур у рукапісах* – сведчыць гісторык Рыма пад час сярэдневечча[191] – *мазаіка была, відаць, самым пашыраным мастацтвам і можна з упэўненасьцю* (??) *сказаць, што пад часта сустракаемым выказваннем малярства* (pictura) *патрэбна разумець менавіта гэтае мастацтва. Ліццё із бронзы, срэбра і золата рупліва практыкавалася, і гэтым спосабам выраблялася незлічонае мноства статуй. Умелі таксама срэбрыць і накладаць чэрнь. Да нас не дайшла ніводная із статуй таго часу, але наўрад ці магчыма сумнявацца, што ў цэрквах ужо ўжываліся фігуры сьвятых*».

А чытач ужо меў магчымасць бачыць, што з боку гледжання новай храналогіі, якая дапасуе ўсе класічныя старажытнасьці да сярэдневечча, гэтая пустэча з'яўляецца цалкам штучнай. Із папярэдніх тамоў гэтага самага дасьледавання, чытач мог бачыць, што евангельскае хрысьціянства толькі нараджалася ў момант заснавання так званай Заходняй Рымскай імперыі Карлам Вялікім каля 800 года нашай эры, таму што першы із евангелістаў, Марк Афінскі, памёр толькі за 75 гадоў да таго часу, другі – Ян Дамаскін памёр толькі за 25 гадоў, а Евангеллі Лукі і Мацьвея яшчэ не з'явіліся[192]. Называць вялікага рымскага пантыфекса Ільва III, пра якога мы тут распавядаем, папай цалкам недарэчна, таму што як ён, так і ўсе яго папярэднікі зваліся толькі pontifici maximi, як у класікаў, і былі больш падобнымі на біблейскіх першасьвятароў накшталт згадваемага ў Евангеллі Захарыя з яго жонкай Лізаветай, чым на больш пазніх, быўшых манахамі, папаў.

Пасьля заканчэння ўсяго 10 дзён пасьля сьмерці Ільва, вялікім рымскім пантыфексам быў абраны, акрамя імператара, шляхетны рымлянін, дыякан Стэфан, сын Марына. Новаабраны паспяшаўся, аднак, засьведчыць сваю адданасць вярхоўнаму валадару: ён прывёў рымлянаў да прысягі імператару і выправіў да яго амбасадараў з выбачэннем, што пасьвячэнне адбылося так паспешна.

Я не буду тут разважаць пра быццам бы «знікшыя» дакументы ў архівах Ватыкана, на якія спасылаюцца гісторыкі таго часу. Да іх ліку далучаецца і грамата Людовіка Набожнага ў 817 годзе, як такі акт, які замацоўваў за рымскім пантыфікальным пасадам вельмі шырокія ўладанні і надзяляў яго і іншымі важнымі правамі.

[190] Грэгарэвіус, т. III, ст. 23.
[191] Там жа, т. III, стар. 23.
[192] «Хрыстос», т. I, частка IV.

Гэтай граматай Людовік Набожны прызнаваў быццам бы, што пантыфікальнай уладзе падначалены не толькі Рым і дзюкат, і ўсё тое, што было падаравана і падцверджана Піпінам і Карлам, але яшчэ і патрымоніі Калабрыі і Неапаля, а таксама выспы Корсіка, Сардынія і Сіцылія, і, нарэшце, што рымлянам належыць права поўнай волі пры абранні вярхоўнага пантыфекса і пасьвячэння яго без папярэдняй згоды на тое імператара. Такім прыдумкам супярэчыць рэчаісная гісторыя, якою даводзіцца фактычны суверэнітэт імператара над Рымам. Яна ж сведчыць, што пад час той эпохі Калабрыя, Неапаль, Сіцылія і Сардынія была пад ўладай грэкаў, і што візантыйскія валадары былі ў міры з заходнім імператарам, таму што правінцыі былі размежаваны паміж абодвума бакамі згодна з дамовай.

Так жа і права вольнага абрання і пасьвячэння ў вялікія рымскія пантыфексы без згоды імператара аспрэчваецца знакамітым актам, дапасуемым да часу Яўгена II.

У Рыме захаваліся да гэтага часу некаторыя выбітныя помнікі аднаго із наступных вялікіх рымскіх пантыфексаў, Пасхалія, імя якога наводзіць на думку пра дэкрэтаванне пасхалій каталіцкай царквой. Яго мазаічныя выявы знаходзяцца ў трох пабудаваных (псеўда-адноўленых) ім цэрквах: Цэцыліі ў Транстэверыне, Праксіды на Эсквіліне і Марыі in Dominica на Цэліі. Больш позняя легенда прыпісала Цэцыліі вынаходства аргана, а адна із самых лепшых карцін геніяльнага Рафаэля малюе яе ў абліччы, нагадваючым музу.



Мал. 104
Выява Дольчэ (1616-1686 г.). Святая Цэцылія із Сіцыліі, апакрыфічная вынаходніца каталіцкай царкоўнай музыкі быццам бы яшчэ пад час II стагоддзя нашай эры.

Пабудова храма Цэцыліі была не малой справай таго часу. Гэта вялікая базыліка, падобна з узорам базілікі св. Агнэсы, мела ўсярэдзіне хары з падвайным шэрагам калон. Перад царквой быў размешчаны прасторны атрыум. Дах падтрымліваецца чатырма іянічнымі калонамі і двума слупамі з карынфскімі капітэлямі з кожнага боку. А фрыз упрыгожаны грубай мазаікай у выглядзе медальёнаў, размешчаных над кожнай калонай і над кожным слупом, адвображваючых трох сьвятых, парэшткі якіх былі пахаваны Пасхаліем у спавядальні. На сьценах бабінца, пабудаванага яшчэ ў XIII стагоддзі, намалявана: пахаванне гэтай панны Урбанам і з'яўленне яе Пасхалію. Вялікі пантыфекс намаляваны драмаючым, і перад ім стаіць фігура дзяўчыны.

Гэта азначае, што іянічныя і карынфскія калоны будаваліся ў Рыме і пры Пасхаліі...

Другой новай пабудовай Пасхалія была базіліка св. Пракседы на Эсквіліне. Стройныя калоны із граніту з **карынфскімі капітэлямі** дзеляць царкву на тры часткі, але без хароў. Прыўзняты прэсьвітэрый заканчаецца апсідай, на якой, таксама як і на трыумфальнай арцы, захавалася ўпрыгожваўшая іх старажытная мазаіка. Верхнюю сьцяну аркі занімае выява, на якой намалявана шмат асоб, у тым ліку: сьвятыя ў іхных вянках, Хрыстос, ўзносячыся сярод анёлаў над Ерусалімам і трымаючы зямны шар, і людзі, імкнучыяся ў гэты ахоўваемы анёламі горад.

Апошняя із яго буйных пабудоваў старажытная дыяконія S. Maria in Dominica (па-грэцку Кірыака) стаіць на Цэліі. Зараз яна мае назву della Navicella, бо на ёй пастаўлена тагачасная мадэль «старажытнага карабля», прынесенага ў дарунак Мадонне па аброку. Гэтай царкве Пасхалій таксама надаў яе сучасную форму базылікі з трыма караблямі. Галоўны карабель аддзелены з кожнага боку дзевяццю калонамі із граніту цалкам антычнай канструкцыі, як і папярэднічаючыя, што прывяло класікаў, пагардліва ставіўшыхся да архітэктуры сярэдневечча да высновы, што ўсе гэтыя калоны зроблены яшчэ задоўга да таго, пад час «класічных часоў» і перанесены із парэшткаў «старажытных храмаў». На жаль, мазаіка апсіды была пашкоджана падчас рэстаўрацыі царквы. Тут намалявана панна з дзіцёнкам, седзячай на пасадзе, па баках яе анёлы і стоячы на каленях Пасхалій, які аберуч датыкаецца да правай нагі «богамаці». З зямлі паднімаюцца яскравыя кветкі.

Якім было заканадаўства таго часу? Лотар патрабаваў, каб шляхетныя людзі, гэтак жа, як просты народ, аб'вяшчалі на грунце якога права кожны з іх асабіста жадае быць судзімым, таму што падзел асабістых правоў быў адметнай рысай сярэдневечча, калі грамадзянскае ўладкаванне грунтавалася на адрозненні прыватных вольнасьцей, за якімі, як за акопамі, ратаваліся ад самаволі асобы і цэхі. Нават германцы, адважваліся заяўляць перад рымскімі трыбунамі пра адмысловае права. Дзякуючы перамяшанню нацыянальнасьцей з'яўляліся і перабежчыкі правоў. Так жонкі пераходзілі да закону, які прызнавалі іхныя чалавекі, удовы вярталіся да правоў сваіх бацькоў. У якасьці кліентаў, асобы із ліку франкаў і ламбардцаў заяўлялі пра сваё жаданне падпарадкоўвацца Юстыніянаву закону, і тады яны былі ўрачыста абвешчаны рымскімі грамадзянамі.

Канстытуцыя Лотара тады з'яўлялася грунтам свецкага становішча вялікага рымскага пантыфекса і яго дачыненняў да імператара, які набыў, згодна з гэтай канстытуцыяй, значэнне вярхоўнай судовай інстанцыі ў царкоўнай дзяржаве. І калі рымляне, гэтак жа, як і пантыфекс, прынесьлі прысягу канстытуцыі, Лотар пакінуў горад і вярнуўся да бацькі, задаволенага паспяховай місіяй свайго сына.

У гэты ж час юная манархія Карла Вялікага, з нагоды сварак паміж асобамі яго хутка гінучай дынастыі, рабілася нетрывалай. На поўдні ісламіты із Гішпаніі, Афрыкі і Крыта ўсё больш і больш насоўваліся на Міжземнае мора. У 813 годзе яны захапілі Чывіту Векію, Лампадузу і Іскію, высадзіліся на Корсіцы і Сардыніі і пачалі рабіць свае наезды ў воды Сіцыліі.

З заваяваннем імі Сіцыліі быў знішчаны падмурак абараняўшы Італію ад ісламітаў. З той пары яе паўднёвыя правінцыі сталі арэнай крывавага змагання. Паведамленне пра тое, што прыгожая выспа і недалёкі ад Рыма Палерма ператварыўся ў сталіцу ісламіцкай дзяржавы, павінна была абудзіць у вялікага рымскага пантыфекса трывогу і за сам Рым. З боку мора горад быў дасягальным для ворага.

І вось папа Рыгор IV **будуе** ўмацаванне **Остыю**... А як жа пагадніць гэтую пабудову з паведамленнямі класікаў, што Остыя была ўмацаваннем Рыма яшчэ пад час дахрысьціянскай пары? Вельмі проста. Вялікі рымскі пантыфекс Рыгор каля 840 года пабудаваў – кажуць нам – свой новы горад выкарыстоўваючы матэрыялы старога, і таму «ўсе яго старажытныя помнікі былі знішчаны дашчэнту, моцныя сьцены атачылі новы горад і на іхных вежах былі пастаўлены кідальныя машыны»... «Спачатку гэты горад назвалі Рыгораполісам, але, гэтае груваcткае найменне не ўтрымалася і ператварылася назад у Остыю».

Але гэта ўсё толькі адны тэндэнцыйныя здагадкі...

А фактам застаецца тое, што Остыя, абараняючая з боку мора заўсёды слабы ў вайсковым дачыненні Рым, пабудавана толькі ў IX стагоддзі нашай эры... Остыя – гэта пераназваны пазней Рыгораполіс і кожнае згадванне пра яе ў класікаў з’яўляецца анахранізмам.

# Глава IV.
## Пашырэнне трупашанавання ў Заходняй Еўропе напачатку IX стагоддзя.

Наступнікам Пасхалія быў Яўген. Наступнікам Яўгена – Валянцін I, а наступнікам Валянціна – Рыгор IV, пры якім па ўсяму хрысьціянскаму сьвету пашырылася захапленне ўшанаваннем парэшткаў, падтрымліваемае карысьцю сьвятароў, і яно, нарэшце, дасягнула ступені поўнай апантанасьці. Незлічоныя пілігрымы, пакідаючы сьвяты горад, заўсёды выносілі з сабой нейкую «сьвятую рэч». Могілкавым ці катакомбавым вартаўнікам даводзілася праводзіць цэлыя ночы ў трывозе, як быццам у чаканні нападу гіен на тамтэйшыя высахшыя трупы. Адусюль да іх пракрадаліся злодзеі, якія выкарыстоўвалі разнастайныя хітрыкі, каб дасягнуць сваёй мэты. Але і самі злодзеі часта выяўляліся падманутымі. Сьвятары, сьмеючыся ў душы, падраблялі сьвятых, і забяспечвалі іх якімі-заўгодна надпісамі[193].

Так у 827 годзе былі выкрадзены франкамі і вывезены ў Суасон падробленыя парэшткі Марцэліна і Пятра; у 840 годзе сьвятар із Рэймса, выкраўшы парэшткі невядомай жанчыны, пачаў выдаваць іх за парэшткі маці Кастуся. Каб пазбегнуць

[193] Truncasti vivos crudeli; vulnere sanctos: vendere nunc horum mortua membra soles (Эпіграма на Рым у Codex Vdalrici, XX.)

падазрэння ў падробцы, прыкладаліся ўсе намаганні, каб выкрадзеныя высахшыя трупы здзяйснялі цуды на ўсім сваім шляху да новага месца.

Такімі з'яўляюца нашы першыя сапраўды гістарычныя паведамленні пра развіццё трупаўшанавання ў хрысьціянскай Яўропе. Ці было гэта звязана з ягіпецкім муміяўшанаванем? Відаць – так, бо з боку гледжання новай храналогіі муміфікаванне трупаў у Ягіпце пачалося яшчэ ў IV стагоддзі нашай эры, і прыярытэт у гэтай, мудрагелістай справе ва ўсякім разе застаецца за краінай пірамід. Але вучні, як і заўсёды бывае ў рэчаісным жыцці, далёка пераўзышлі сваіх настаўнікаў.

Самі вялікія рымскія пантыфексы давалі згоду на перанясенне рымскіх сушаных трупаў у іншыя краіны, каб падтрымліваць там свой уплыў. Калі такія муміі, пакладзеныя на размалёваную калясніцу, вывозіліся із горада, іх урачыста суправаджаў на некаторай адлегласьці натоўп рымскіх служак культу з паходнямі ў руках і са спевам малітваў. І паўсюдна, дзе паказвалася калясніца, насустрач ёй імкнуўся народ, маліўшы пра вылячэнне сваіх хворых. Прыбыццё такога трупа на месца, у нейкі із гарадоў Германіі, Францыі ці Англіі, святкавалася некалькі дзён.

Але высушаныя трупы мужчын, жанчын і нават дзяцей вывозіліся тады не із аднаго Рыма, а таксама і з Усходу і таксама нярэдкае пад маркай выкрадання.

Так у 828 годзе венецыянскім купцам, пасьля цэлага шэрагу прыгод, атрымалася вывезьці із Александрыі падробленыя парэшткі апостала Марка і прывезьці іх у свой горад, патронам якога з той пары і стаў гэты труп. У 840 годзе былі перавезены ў Яўропу парэшткі і іншага апостала; то было цела Варфаламея, дастаўленае ў Беневент з выспы Ліпары, на які яно прыплыло быццам бы ў мармуровым саркафагу із Індыі. Але ў гэтым жа годзе ісламіты захапілі Ліпары і выкінулі із магілы мумію сьвятога. Нейкі пустынік сабраў пазней яе кавалкі і прынёс іх зноў у Беневент.

Гэта пагоня за муміямі наўрад ці дзе-небудзь была ў такой ступені фанатычнай, як пры двары апошніх ламбардзкіх валадароў Італіі. Падобна таму як у XV і XVI стагоддзях папы і свецкія ўладцы з запалам збіралі прыпісваемыя старажытнасьці рукапісы і творы вытанчаных мастацтваў, так у IX стагоддзі Сікард выпраўляў сваіх агентаў па ўсіх выспах і берагах шукаць і збіраць для яго не толькі цэлыя засохшыя целы, але і іхныя косткі, чэрапы, і іншыя парэшткі. Усе гэтыя знаходкі складаліся ў цэрквы Беневента, так што яна ператварылася ў музей сьвятых выкапняў.

У цеснай сувязі з культам памёршых цел знаходзіўся вялікі рух у Рым пілігрымаў, якія ў той час ужо вандравалі па ўсяму Захаду, як і пад час наступных стагоддзяў.

Людзі абодвух стацей, усіх узростаў і станаў бралі ўдзел у гэтых паломніцтвах. Імператары, князі, біскупы пераадольвалі шлях, як бедныя; дзеці, юнакі, шляхетныя дамы і састарэлыя людзі ішлі босымі з кіямі ў руках. Такія вандраванні мелі, аднак, і станоўчы бок. Яны прынеслі ў заходне-еўрапейскае грамадства рамантычны дух і нарадзілі і ім імкненне да невядомага як да рэчаіснага, так і да звышнатуральнага. На Захадзе падарожжы пілігрымаў былі накіраваны перадусім у Рым, які прыцягваў іх у свае сьцены ўяўнымі дзівамі. Гэтыя вандраванні ў Рым не спыніліся нават і тады, калі ўсе правінцыі імперыі былі ўжо цалкам забяспечаны ўласнымі муміямі, і бліжэйшая патрэба ў іх магла быць здаволена на месцы. Забабоннае перакананне ў тым, што здзейсніўшы паломніцтва ў Рым таемна атрымліваў ключ да адкрыцця дзвярэй рая, стваралася

амаль два стагоддзі. Падахвочваючыя да паломніцтва біскупы падтрымлівалі гэтыя забабоны.

«*Незлічоныя натоўпы пілігрымаў*, – сведчыць Грэгарэвіус[194], – *пераходзілі праз Альпы ці плылі на караблях, накіроўваючыся адусюль у Рым. Але ў гэтых падарожжах набожны пілігрым быў вырачаны на занадта частае і блізкае сутыкненне з нахабнымі заганамі і падманам, і таму, ідучы шляхам да выратавання, нярэдка знаходзіў не выратаванне, а пагібель. Разбэшчваючае згуртаванне людзей, цалкам адарваных ад сямейных сувязяў, разнастайныя прыгоды і спакусы на шляху, спакусы шыкоўных гарадоў поўдня – усё гэта вяло да таго, што шмат дзяўчын, удоваў і манашак, пакінуўшы родную краіну дзеля таго, каб памаліцца пра сваё выратаванне каля труны св. Пятра, заставаліся ў Італіі і аддаваліся тут распутнаму жыццю.*

*Кожны дзень у брамы Рыма заходзілі новыя пілігрымы. Адны з іх мелі выгляд праўдзіва-набожных людзей, іншыя ўражвалі сваім дзікім выглядам. Крымінальны кодэкс сярэдневечча ўяўляе дзіўнае перамяшанне самага грубага варварства і евангельскай пакоры. Пад час аднаго дня згодна з прысудам сьвятога схода дзяржаўнаму злачынцу належыла зведаць асьляпленне ці праехаць па гораду на паршывым асле, а на другі дзень забойцы бацькі ці маці даваўся сьвятаром пашпарт пілігрыма, каб адкупіць у Рыме малітвай сваё злачынства.*

*У Рым, як у вялікае месца збірання грэшнікаў, прыходзілі абвінавачваемыя ў разнастайных злачынствах. Адны, як каючыяся індусы, мелі на сабе ланцугі; у іншых, напаловуаголеных, на шыі ці на плячы быў надзеты закуты жалезны абруч. То былі забойцы сваіх бацькоў, братоў ці дзяцей, здзяйсняўшыя падарожжа ў Рым у такім выглядзе адпаведна з загадам таго ці іншага біскупа. З крыкамі яны кідаліся на зямлю каля падножжа сьвятых магільняў, бічавалі свае цела, выкрыквалі малітвы і прыходзілі ў рэлігійны экстаз. У некаторых атрымоўвалася пры гэтым разбіваць свае кайданы аб мармур магільні пакутніка, і яны лічылі сябе вызваленымі ад іх.*

*Дзякуючы таму, што пасьведчанне, выдаваемае злачынцу, забяспечвала яму матэрыяльнае існаванне на ўсім яго шляху і ў самым Рыме, нярэдка пад маскай самага жудаснага злачынцы хаваўся просты махляр, шукаўшы вясёлых прыгод і нажывы. З фальшывым пасьведчаннем ён пераходзіў із краіны ў краіну, абуджаючы да сябе спачуванне даверлівых людзей, і знаходзіў у абацтвах і прыстанках для пілігрымаў ежу. Іншыя набывалі выгляд ашалелых, бегалі па гарадах, робячы розныя жахлівыя рухі цела, і кідаліся на зямлю перад выявамі сьвятых у кляштарах. А калі нібы-та дзяючы пагляду на гэтыя выявы ці ад дакранання да іх, такія ўяўныя хворыя здаравелі, абрадаваныя манастэрыянцы шчодра адорвалі іх. Атрымаўшы гасьцінцы, уяўны хворы знікаў і паўтараў сваю гульню дзе-небудзь у іншым месцы*»[195].

Рыгору IV прыпісвалі ўсталяванне для ўсяго Захаду сьвята Ўсіх Сьвятых. Гэтае сьвяткаванне было, відаць, дапасавана да заканчэння пабудовы Пантэона і прызначана на 1 лістапада, а ужо пазьней стварылася легенда, што гэты будынак быў яшчэ за некалькі стагоддзяў да таго пабудавана «Сьвятым» (Аўгустам на-лаціне), як звалі сябе і ўсе вялікія рымскія пантыфексы» уключаючы і Рыгора IV. Усе яны былі «Аўгусты», як і ўсе цары, хаця б яшчэ і не ў самай вышэйшай ступені, як у імператарскай Расіі.

Другой вялікай заслугай Рыгора IV перад Рымам з’яўляецца тое, што ён стварыў Траяну (Trajana), ці сабацінскі вадавод, які быццам бы ўжо быў аднойчы адноўлены із уяўляемых старажытных парэшткаў Адрыянам I, але потым зноў разбурыўшыся.

---

[194] Ф. Грэгарэвіус: Гісторыя горада Рыма пад час сярэдневечча, кн. 5, гл. II.
[195] Ф. Грэгарэвіус, кн. 5, гл. II.

Рыгор IV памёр, згодна са сведчаннем царкоўнага гісторыка, 15 студзеня 844 года.

«Першыя із квірытаў» (г.азн. сьвятарства і шляхта), як пачынае выказвацца адпаведна рымскім прыстойнасьцям «Пантыфікальная кніга», абралі ў якасьці вялікага пантыфекса Сергія, кардынала царквы Мартына і Сільвестра, народ жа стаў на бок славалюбівага дыякана Яна і са зброяй у руках прывёў яго ў Латэран. Паўстанне плябеяў было падаўлена патрыцыямі, і Сергій II быў пасьвечаны.

Пасьля Сергія, пры якім Кампанья была захоплена ісламітамі, быў абраны Леў, кардынал царквы Quattro Coronati, рымлянін ламбардзкага паходжання. Хрысьціянскі горад яшчэ не вызваліўся ад баязні перад ісламітамі і таму настойліва патрабаваў як мага больш хуткага пасьвячэння абранага ім вялікага пантыфекса, і Леў IV быў пасьвечаны да атрымання згоды імператара.

Хваляванні ў Рыме ўзраслі яшчэ больш, калі адбыўся землятрус, і пажар ператварыў саксонскі квартал у кучу попелу. Умацоўваючы сьценамі і атачаючы шанцамі пашкоджаны квартал св. Пятра, рымляне ў дадатак даведаліся, што із Сардыніі рыхтуецца да выступлення вялікі ісламіцкі флот. Гэта было ў 849 годзе.

Амальфі, Гаэта, Неапаль, быўшыя ў тую пару ўжо квітнеючымі гандлёвымі гарадамі, амаль незалежнымі ад Візантыі, аб’ядналі згодна з настойлівымі перакананнямі вялікага рымскага пантыфекса свае галеры, заключылі хаўрус і размясьцілі свае караблі перад портам. Размясьціўшы ваяроў у базыліцы Sancta Aurea, Леў вярнуўся ў горад, а на наступны дзень перад Остыяй ужо з’явіўся ісламіцкі флот. Неапалітанцы паплылі яму насустрач, але раптоўна наляцеўшы буран спыніў пачаўшуюся было бітву. Шмат маўраў зведала караблекрушэнне каля Тырэнскіх выспаў і было тут забіта, а іншыя былі ўзяты ў палон рымскімі ваярамі.

Бляск некалькіх заснаваных Ільвом IV гарадоў зацямніў пабудаваныя ім у Рыме будынкі, а тым часам і ў гэтым дачыненні ён выявіў вялікую энергію. Галоўны ахвярнік царквы Пятра быў пры ім аздоблены залатымі дошкамі з прымацаванымі да іх каштоўнымі камянямі і эмалевымі выявамі самага Ільва і Лотара. Адна із залатых дошак на ахвярніку важыла 216 фунтаў. Срэбнае вызалачанае ўкрыжаванне, упрыгожанае гіяцынтамі і дыяментамі, важыла 70 фунтаў; крыж із адлітага золата, абсыпаны жэмчугам, смагардамі і апаламі, важыў каля 1000 фунтаў.

Цікава, што sella stercoraria (сядалішча калу), як звалася крэсла, на якім сядзеў вялікі рымскі пантыфекс прымаючы свой сан, таксама бярэ пачатак ад перыяду рымскага біскупства, г.азн. з перыяду задаўга да таго часу, калі рымскія пантыфексы набылі найменне пап і пачалі весьці неадружанае жыццё. Цэнзівус[196] так тлумачыць гэтую дзіўную назву: quae sedes dicitur stercoraria... ut vere dicatur: suscitat de pulvere egenum, et de stercore erigit pauperem, ut sedeat cum principibus et solium gloriae teneat (сядалішча, меўшае назву крэсла калу... Калі перадаюць правільна, яно азначае: бог падымае маючага патрэбу із пылу, вынімае бедняка із гаўна для таго, каб быў поруч з самымі шляхетнымі, і валодаў пасадам славы). Але гэта толькі тлумачэнне, фактам жа з’яўляецца тое, што, прымаючы свой сан, абіраемы вялікім рымскім пантыфексам садзіўся ў капэле св. Сільвестра ў Латэране па чарзе на два парфіравыя крэслы з вялікімі круглымі адтулінамі.

На адным ён прынімаў ключы ад базілікі, на другім перадаваў іх прыёру (Mabil. Iter. Ital. I, 57), і гэты дзіўны звычай існаваў да заканчэння XV стагоддзя.

[196] Mabil. Museo Italiano, II, 211 (Грэгарэвіус, кн. 5, гл. III, заўвага. 47).

Такое сядалішча із чырвонага мармуру да гэтага часу стаіць у ватыканскім музеі. «*Я прачытаў пра яго*, – сведчыць Грэгарэвіус[197], *– у хрысьціянскіх надпісах Ватыкана: stercoriae filiae (кал дзяўчыны)*».

Такім чынам адкрышталізаваліся дадатковыя набыткі чалавечай працы, безперапынным струменем сцякаўшыяся ў гэты рэлігійна славуты горад ў IX стагоддзі.

Толькі зараз ён набыў поўную магчымасць зрабіць свае вялікія пабудовы, прыпісваемыя класічнай старажытнасьці, а да часу гэтага струменя пілігрымскіх прынашэнняў ён не мог быць і не быў у сваіх Пантыйскіх балотах нічым акрамя глухога правінцыянальнага мястэчка без якіх бы то ні было перспектываў далейшага развіцця.

# Глава V.

## Пантыфіцына Джавана. Жанчына на пасадзе вялікага рымскага пантыфекса.

У 850 годзе ў базіліцы св. Пятра яе вялікі першасьвятар усклаў імператарскую карону на Людовіка II, які раней, адпаведна са звычаем, быў пасьвечаны Латарам у сан імператара ў імперскім сойме.

Але 17 ліпеня 855 года Леў IV памёр, заснаваўшы між іншым Леаніну, і пасьля яго пантыфікальны пасад св. Пятра быў заняты жанчынай Джаванай. Прыгожая дзяўчына, дачка англасакса, але нарадзіўшаяся ў Інгельгейме, яна вывучала спачатку навукі ў школах Майнца і набыла ўсе веды, якія толькі было магчыма набыць у тыя часы. Яна здзейсніла, – паведамляюць нам, – разам з адным бенедыктынцам вандраванне ў Англію і ў Афіны, дзе наведвала вышэйшую школу філосафаў, якія, як сведчаць летапісцы, жылі і тады ў гэтым горадзе. У Афінах памёр сябар дзяўчыны, і Джавана накіравалася ў Рым. Тут дзякуючы сваім ведам яна атрымала прафесуру ў S. Maria Scholae Graecorum. Рымскія філосафы і кардыналы былі цалкам зачараваны ёю і хутка яна пачала лічыцца рымскім дзівам. Калі Леў IV памёр, выбар упаў на Джавану, таму што, згодана з агульнай думкай, ніхто не мог быць больш годным прадстаўніком хрысьціянства. Жанчына-пантыфекс пасялілася ў Латэране і ўступіла там у адружальныя дачыненні з адным са сваіх набліжаных. І вось, падчас шэсьця ў Латэран, на месцы паміж Калізеем і царквой св. Клімента, яна адчула радавыя болі, нарадзіла хлопчыка і хутка пасьля гэтага памёрла. Дзеля азнакі такога выключнага выпадку ў Рыме ўзвялі статую, якая адлюстроўвала прыгожую жанчыну з пантыфікальнай каронай на галаве і з дзіцём на руках, і гэтая статуя была выдалена толькі Сікстам V на прыканцы XVI стагоддзя, калі жанчыны пачалі лічыцца непрыдатнымі для здзяйснення набажэнстваў.

Падрабязныя паведамленні пра папесу Джавану (хаця ў IX стагоддзі рымскія вялікія першасьвятары ў Італіі яшчэ не мелі назву папаў) існуюць у рукапісах XIII стагоддзя, у Мартына Полана і Марыяна Скота. Пра гэта паведамляюць усе хронікі, і сведчанні пра Джавану карысталіся такім агульным даверам, што яе выява патрапіла ў шэраг папскіх партрэтаў, якімі былі ўпрыгожаны ў 1400 годзе сьцены Сіенскага сабора. На працягу двух соцень гадоў ён вісеў там, маючы надпіс: «Ян

[197] Стар. 101 руск. перакладу, гл. III.

IV, жанчына із Англіі». І толькі на пачатку XVII стагоддзя Клімент VIII загадаў перарабіць гэта ў **партрэт папы Захарыя** (!!).

Ці маем мы права аспрэчваць гэты факт пасьля такой колькасьці разнастайных сведчанняў пра яго, і пагадзіцца з хранікёрамі, пісаўшымі праз пяць соцень гадоў, калі ўжо была ўсталявана абавязковая неадружальнасць каталіцкага сьвятарства, што Джавана была пасьвечана ў вялікія рымскія пантыфексы не такім чынам, як ангельская Лізавета ці руская Кацярына на царскі пасад, а дзякуючы падману, пераапрануўшыя ў маладога чалавека і выявіла сваю падробку толькі нечаканымі для публікі родамі?

Вядома, ні ў якім выпадку, калі ёй была ўзведзена нават статуя ў першасьвятарскай кароне і з дзіцём на руках і калі яе партрэт быў у Сіенскім саборы сярод іншых вялікіх рымскіх пантыфексаў. Гэта было б гэтак жа наіўна, як пераробка яе партрэта папай Кліментам у XVII стагоддзі ў партрэт «папы Захарыя». Сур'ёзны гісторык тут можа зрабіць толькі адну выснову, што ў VIII стагоддзі яшчэ не існавала салічнага закона, забараняўшага жанчынам займаць пантыфікальны рымскі пасад і нават адружальнае сужыццё, тым больш, што сам заснавальнік гэтага пантыфікату «апостал Пятро» увесь час быў сямейным чалавекам, ды і апостал Павел ад біскупаў патрабуе толькі абавязковага аднаго адружання. Але зразумела, што пасьля таго як была створана манаская легенда пра старажытны рымскі пантыфікат, наяўнасць відавочнай жанчыны сярод вярхоўных рымскіх пантыфексаў, ператвораных a posteriori у папаў, пачала аспрэчвацца артадаксальнымі каталікамі, і на долю Джаваны-пантыфіціны дасталася больш біяграфічных дасьледаванняў, чым на долю самых знакамітых каралёў на сьвеце. Сярод іх Фрыдрых Шпангейм абараняў фактычную праўдзівасць усяго апавядання ў сваім дасьледаванні, якое Lanfant паклаў у грунт сваёй «Histoire de la papesse loanne» (1720 г.), хаця да яго Leo Allatius ужо напісаў сваё набожнае (калі не крывадушнае) «Confutatio fabulae de loanna Papissa» (1653 г.) і David Blondel у французкай працы пра яе ў «De loanna Papissa» (1657 г.) спрабаваў аспрэчыць паведамленні ранейшых гісторыкаў пра пантыфіцыну. Лейбніц, Экгарт, Лабэ, Бароній, Пажы, Бейль, Ланyа, Новаес таксама напісалі шматслоўныя аспрэчванні гэтага неаспрэчваемага факта, і нават у наш час Bianchi Giovini выдаў «Esame Critico degli atti e docurnenti relativi alla favola della Papessa Giovanna» («Крытычны разбор дакументаў, маючых дачыненне да фабулы папесы Джаваны») (1845 г.).

І само сабой зразумела, што калі мы дапусьцім a priori неверагодную думку, быццам бы рымская царква была заснавана ў тым самым выглядзе і з тым жа самым сьветапоглядам, з якім мы яе бачым пачынаючы ад часоў Эпохі Адраджэння, і не зведала пачынаючы з самых старажытных часоў ніякай ні ідэалагічнай, ні рытуальнай эвалюцыі, то ўсё апавяданне пра Джавану пераходзіць у катэгорыю чароўных казак.

Вынікае цалкам іншае, калі мы станем і ў гэтым пытані на эвалюцыйны бок гледжаня і выкажам меркаванне, што ўяўленне пра сярэднявечны рымскі пантыфікат, як пра манаскую ўстанову з далучэннем да яе салічнага закону супраць жанчыны з’яўляецца больш позняй падробкай каталіцкай царквы, з мэтай зацвердзіць сваё навейшае ўладкаванне не існаваўшай на справе старажытнасьцю.

Тады і ўсё апавяданне пра Джавану, вызваленае ад яе перапранання ў мужчыну (як першага кроку да яе поўнага адмаўлення), будзе так жа мала непраўдападобным, як і жыццяапісанні заходне-еўрапейскіх і ўсходніх каралеваў і імператрыц.



Мал. 105
Вясталка, здымак са старажытнай мармуровай статуі ў галерэі Ўфіцы ў Фларэнцыі.

# Частка сёмая.

## Каранаваны Рым напярэдадні эпохі гуманізму і пашырэння Евангелляў.



Pir. 106
Выгляд старажытнага маста Ponte Molle, «адноўленага» валадарачым пантыфексам Піем VII (regnante pontifice) пад час прамежку ад 1800 да 1823 года. Для «аднаўлення» гэтага моста ён пабудаваў вароты пасярод вежы ў выглядзе трыумфальнай аркі.

# Глава I.

## Вялікі пантыфекс Мікалай першым апранае на галаву тыяру. Характарыстыка яго часу. «Liber Pontificalis».



Калі пасьля ранняй сьмерці Джаваны было пачата абранне новага вялікага пантыфекса, у Рыме пачаліся буйныя хваляванні. Большасць рымлянаў падтрымлівала Бенедыкта, кардынала царквы св. Калікста, і ён, урачыстай працэсіяй быў адведзены ў Латэран. Святарства і шляхта падпісалі выбарчы дэкрэт, каб пазьней, «адпаведна са старажытным звычаем», накіраваць яго на зацьверджанне імператару. Але тым часам як прававерны Бенедыкт заставаўся ў Латэране, яго супернік іконазмагальнік Анастас пракраўся ў базіліку св. Пятра, спаліў яе абразы і пасёк сякерай статуі Хрыста і панны Марылі. Ён пасьпяшаўся са сваімі сябрамі ў Латэран, загадаў разламаць дзьверы ў палац і сеў на пантыфікальны пасад, тым часам як Бенедыкт, аточаны адданым яму сьвятарствам, сядзеў на другім пасадзе ў пантыфікальнай базіліцы. Згодна з загадам Анастаса, біскуп Раман Баньярэйскі і натоўп узброеных людзей пракраліся ў царкву, сьцягнулі Бенедыкта із пасада, сарвалі з яго пантыфікальнае адзенне і зняважылі

яго, пасьля чаго ён быў аддадзены пад нагляд некалькіх іконазмагальніцкіх кардыналаў. Усё гэта адбывалася 21 верасня 855 года. Але на наступны дзень прыхільнікі Бенедыкта, падбадзёраныя спачуваннем народа, сабраліся ў базыліцы Aemiliana і тут, нягледзячы на пагрозы імперскіх графаў, са зброяй у руках ўварваўшыхся ў прэсьтэрый царквы, заявілі, што яны не згодны прызнаць іконазмагальніка вялікім рымскім пантыфексам. У аўторак адбыўся новы сход у Латэране, і народ аднагалосна выказаўся за Бенедыкта. Амбасадары імператара саступілі і Анастас быў з ганьбай прагнаны із Латэрана, а Бенедыкт, вызвалены із-пад варты, пасаджаны на каня Ільва IV і ўрачыстай працэсіяй адведзены ў царкву Santa Maria Maggiore. Ён быццам бы «аднавіў» разбураную ісламітамі магільню св. Паўла, а на саймай справе, бяспрэчна, сам пабудаваў яе для падахвочвання новых пілігрымаў.

Пасьля яго пантыфікальны пасад заняў дыякан Мікалай, належаўшы да шляхетнага роду, і 24 красавіка прыняў пасьвячэнне ў базыліцы св. Пятра ў прысутнасьці імператара. На працягу першага ж года пасьля абрання ён далучыў да сваіх уладаняў Равэну. Арцыбіскуп гэтага горада ўсходнік Ян ставіўся да парафіянаў і сьвятарства як мясцовы цар і канфіскаваў у шмат каго маёнткі. Мікалай жа схіліў да сябе жыхароў Равэны, вярнуўшы ім іхныя маёнткі. Як было не павярнуцца пасьля гэтага тварам ад усходніх служак культу да заходніх?

Больш цяжкім выявілася змаганне за Канстантынопаль, якое пачалося ў гэты ж час, і закончылася поўным аддзяленнем Рыма ад грэцкай імперыі.

Бубучы вельмі заклапочаным поспехамі ісламіцтва ў Сіцыліі і паўднёвай Італіі, Мікалай у той жа час браў удзел у звадзе з імператарскім родам. Нагодай да непаразуменняў паслужылі прыгоды некаторых шляхетных жанчын. Так, Юдыф, дачка Карла Лысага і ўдава Этэльвольфа, адружылася са сваім пасынкам – Этэльбальдам. Гэты шлюб яшчэ не быў палічаны ў Рыме амаральным, а калі яна, пасьля сьмерці пасынка, вярнуўшыся ў Францыю, завабіла графа Балдуіна да такой ступені, што ён яе выкраў, кароль Карл загадаў адлучыць графа ад царквы. Закаханыя звярнуліся да пасярэдніцтва вялікага рымскага пантыфекса, і ён паміравў з імі бацьку. У гэты ж час Інгільтруда, дачка графа Мактыфрыда і жонка графа Базо, кінула свайго чалавека і, пераходзячы із абдымкаў аднаго каханка ў абдымкі другога, мала звяртала ўвагу на адлучэнне, якое прызначыў ёй вялікі рымскі жрэц. Потым брат імператара, Лотар Латарынгскі, дзеля сваёй каханкі Вальдрады прагнаў ад сябе сваю жонку Тэўтбергу, і пантыфікальныя легаты ў Мецы прызналі, што Вальдрада стала законнай жонкай Лотару. Мікалай скасаваў іхную пастанову, і гэта прывяло Людовіка ў лютасць.

Сабраўшы войска, ён накіраваўся на Рым у суправаджэнні сваёй жонкі Унгельбергі. Жаўнеры Людовіка накінуліся на сьвятарства, пачалі збіваць яго, сарвалі харугвы і паламалі крыж св. Алены, у які, згодна з вераваннямі таго часу, быў прымайстраваны кавалак сапраўднага крыжа. Вялікі пантыфекс таемна пераплыў на чоўне праз Тыбр, збег у базыліку Пятра і тут правёў два дні і дзьве ночы без ежы і пітва. Але яму дапамог выпадак: імператар раптам захварэў ліхаманкай, пакінуў горад і накіраваўся ў Равэну да арцыбіскупа Яна, а Мікалай хутка пасьля гэтага памёр.

Пантыфексам Мікалаем былі «адноўлены» (г.азн. на самай справе пабудаваны) два вадаводы: так званыя Точыя і Трайяна, ці Сабаціна, з якіх апошні забяспечваў вадой Леаніну і меў там назву не Траянавы вадавод, а вадавод св. Пятра. А калі ён быў «адноўлены» ўжо Рыгорам IV, то, трэба меркаваць, што з тых

часоў гэты вадавод быў сапсаваны, ці Мікалай палепшыў у ім накірунак і размеркаванне вады. Ён быў сябрам вольных мастацтваў і даў сыну магчымасць пазнаёміцца з імі. У гэты ж час імператар Лотар у 825 годзе загадаў заснаваць 9 цэнтральных школ: адну ў Павіі, дзе пазней яго школа стала знакамітым універсітэтам (заснаванне якога, безпадстаўна, прыпісваецца Карлу Вялікаму), і іншыя школы: у Іўрэі, Турыне, Крэмоне, Фларэнцыі, Ферма (для герцагства Спалецкага), Вероне, Вічэнцы і Форуме Юлія. Такое цалкам вызначанае ўказанне на ранейшую адсутнасьць школ сведчыць, што навучанне ў Італіі да таго часу знаходзілася ў стане вартым жалю. Пра вышэйшыя навучальныя ўстановы не было і згадкі, а тое, што пазначалася найменнем «дактрына», заключала ў сабе толькі пачаткі сякіх-такіх свецкіх ведаў.

У Рыме яшчэ да таго часу не існавала ніводнага навукоўцы, ніводнай школы, якія мелі б хоць нейкую вядомасць. Праўда, з таго часу, як бенедыктынцы пасяліліся ў горадзе, там існавалі клерыкальныя школы і, між іншым, старажытная латэранская, якая была заснавана тымі ж бенедыктынцамі і дала адукацыю шмат якім із пантыфексаў. Але гэтыя школы немагчыма было нават і параўнаць з існаваўшымі тады ў Германіі і Францыі, як, напрыклад, са школай у Фульдзе, у С. Галене, Туры, Карвеі, ці ў Ламбардыі, у Павіі. Рым не мог пахваліцца імёнамі такіх выбітных людзей, як Ян Скот, Рабан Маўр, Агабард Ліёнскі, шатландзец Дунгал у Павіі і Луі Фер'ерскі. Гэта азначае не толькі ў стратэгічным, але нават і ў разумовым дачыненні геаграфічнае становішча Рыма яшчэ не было тады спрыяльным.

З усіх свецкіх навук у Раме магла надавацца некаторая ўвага хіба што толькі юрыспрудэнцыі.

Некаторыя яго цэрквы і кляштары – пераконваюць нас – былі забяспечаны бібліятэкамі. Латэранская бібліятэка існавала па-ранейшаму і ганаровы тытул «бібліятэкара» існаваў і пазьней. У пантыфікальным архіве, – паведамляюць нам, – быццам бы захоўвалася тады шмат царкоўных актаў і лістоў вялікіх рымскіх першасьвятароў, але «яны зніклі без следу ў XII і XIII стагоддзях». Потым нас пераконваюць, што абацтва Цэнтула ці с. Рык'ера ў Галіі, дзе некалі абатам быў Ангільберт, славілася ў 831 годзе тым, што мела 256 рукапісаў, сярод якіх быццам бы былі Acthieus de mundi descriptione, гісторыя Гамера, уключаючы Дыктыса і Дарэса Фрыгійскіх, усяго Ёсіфа, Плінія малодшага, Філана, байкі Авіена, Вяргілія, а із граматыкаў, да якіх быццам бы пад час той эпохі была найбольшая цікавасць – пераконваюць нас, – былі Цыцэрон, Данат, Прысцыян Лангін і Праспер. Але старажытнасьць гэтага самога паведамлення не заслугоўвае даверу, і, акрамя таго, прама аспрэчваецца іншымі пасьлядоўнікамі, напрыклад, Андрэ, які сведчыць: il n'y avait pas dans toute la France un Terence, un Ciceron, un Quintillien.

Ды і ў рымскіх справаздачах нічога не гаворыцца пра свецкія рукапісы. У жыццяапісаннях пантыфексаў сустракаюцца згадванні толькі пра Евангеллі, антыфанарыі і месалы, таму што існаваў звычай мецць іх і ў цэрквах. Для таго каб напісаць пергаментны спіс і размаляваць яго, патрабавалася шмат стамляючай працы і мастацтва, значна больш, чым для таго каб адліць падсвечнік ці вазу і пазалаціць іх, таму рукапісы лічыліся каштоўнасцю. Вялікія рымскія пантыфексы падносілі іх у якасьці падарункаў цэрквам і яны пералічваюцца нароўні са сьвяцільнямі і дараносіцамі. Эпітафія архідыякана Пацыфіка Веронскага (1546) так услаўляе яго bis ceutenos terque senos codices fererat. Надпіс у св. Клімента ў Рыме абвяшчае, што прэсвітар гэтай царквы, Рыгор, прынёс ёй у якасьці падарунка як

удовіна ўкладанне, рукапісы (A 743):Veteris novique testamentorum denique libros, Octateuchum, Begum, Psalterium ac Prophetarium, Salomonem, Esdram, Storiarum Ilico Plenos. Гэтыя рукапісы тады хутчэй маляваліся, чым пісаліся, то пэндзлікам, то пяром, часткова рымскім паловууставам, маюскулам, ці мінускулам, часткова мудрагелістымі ламбардзкімі літарамі і потым, месцамі, яшчэ ўпрыгожваліся мініятурамі. Першая мініятура звычайна адлюстроўвала самога пісара ці абата-заказчыка, а то і абодвух разам, трымаючых у руцэ спіс і прыносячых яго ў дарунак якому-небудзь сьвятому. Складаныя абрысы літар ужо самі па сабе абцяжарвалі пісанне і вымушалі звяртацца да вымалёўвання. Акрамя таго, надзвычай майстэрскія вялікія літары спіса аздабляліся яшчэ залатам і фарбамі. Пра тое з якім майстэрствам, дбайнасьцю і мастацтвам, ўсё гэта рабілася, сведчыць знакаміты каралінгскі спіс Бібліі, які зараз дапасуецца, хаця і без грунтоўных доказаў, да XI стагоддзя і захоўваецца ў кляштары св. Паўла.

«*Як у старажытных дарыйцаў, ягіпцянаў і этрускаў,* – сведчыць Грэгарэвіус, сам не заўважаючы храналагічных наступстваў гэтага супастаўлення[198], – *дух IX і наступных стагоддзяў перапоўнены таямнічасьцю, загадкавасьцю і сімвалізмам, і пра гэта яскрава сведчыць характар выяваў і пісання, ужыванне манаграм на дакументах і манетах, і схільнасць да арабесак. Асабліва на манетах адбілася аблічча грамадзкага жыцця той эпохі: надпісы і выявы на пантыфікальных манетах гэтага часу маюць жудасны выгляд. Так, манеты Ільва III маюць на асноўным баку надпіс: S. PETRVS, па сярэдзіне LEO PA* (papa), *на адваротным баку CARLVS, пасярэдзіне IPA* (imperator). *Дынарыі Пасхалія маюць на адным боку надпіс: LVDOVVIKVS IMP, пасярэдзіне ROMA, на іншым боку SES PETRVS, пасярэдзіне манаграма PSCAL. Падобны ж характар маюць манеты і наступных пантыфексаў. Яны заўсёды не адны, а з імем імператара* (манета, якую прыпісваюць Стэфану IV, сумнеўная).

*Калі б Ананім Салернскі,* – працягвае Грэгарэвіус[199], – *наведаў Рым пры Мікалаю I, то ён, вядома, ніколі не змог бы знайсьці тут шматлікае згуртаванне 32 філосафаў, якіх ён налічыў у 870 годзе ў квітнеючым Бэневенце. Эрхемперт, прадаўжальнік гісторыі ламбардцаў, прыйшоў бы ў жах ад невуцтва рымскіх манахаў і кардыналаў, калі б яму давялося быць тады ў Рыме. А адлучаны ад царквы Мікалаем I грэцкі патрыярх Фоцій, адносна сваёй адукаванасьці, здаўся б тады ў Рыме сапраўдным дзівам. Ісламіты, якія быццам бы разрабавалі скарбы св. Пятра і св. Паўла, маглі з гонарам паказаць на свае ўніверсітэты, на сваіх філосафаў, тэолагаў, граматыкаў, астраномаў і матэматыкаў, праславіўшых горад Сявіллю, Александрыю і «Багдад». У Канстантынопалі, вялікім сусьветным горадзе тэолагаў і сафістаў, граматыкаў і навукоўцаў, знайшоўся свой магутны мецэнат, той самы кесар Варда, які пазбавіў пасады патрыярха Ігната. Канстантынопальскія валадары Леў Філосаф і яго сын, Кастусь Парфірародны, былі вялікімі прыхільнікамі навук, а Фоцій меў у сваёй знакамітай «бібліятэцы» цытаты із 280 аўтараў, складаўшую толькі малую частку ўсяго ім прачытанага. Візантыйцы ставіліся з пагардай да рымлянаў.*

*Імператар Міхал, у адным са сваіх лістоў да пантыфекса Мікалая I, здзекуецца над лацінай рымлянаў і заве яе мовай «варвараў» і «скіфаў». Аднак вялікі рымскі першасьвятар адказваў яму цалкам «класічнай лацінай», хаця б падставы, на якіх ён заснаваў абарону сваёй мовы, былі запазычаны выключна із хрысьціянскай літаратуры і выводзіліся із таго, што на крыжы літары I.N.R.I. былі быццам бы лацінскімі. Але як бы там ні было, ужо тады ўсімі прызнавалася, што лацінская мова з'яўляецца сусьветнай хрысьціянскую мовай. І больш за усіх у стварэнні лацінскай мовы і навук удасканальваліся тыя самыя народы Германіі і Галіі, якіх рімлне не перастравалі называць варварамі. У*

---

[198] Грэгарэвіус, т. III, стар. 124 рускі пераклад

[199] Грэгарэвіус, кн. 5, гл. V.

*рымлянаў не хапала таленту нават на тое, каб скласьці, хаця б варварскімі вершамі, нейкі надпіс для мазаік у цэрквах, на гарадскіх брама і на надмагільных помніках. А ў гэты ж час франкскія летапісцы, накшталт Эрмольда Нігелуса, пісалі свае гісторыі лацінскімі вершамі.*

Але менавіта пад час тэтай эпохі, – кажуць нам, – рымскі пантыфікат дбайна ўзяўся за складанне сваёй хронікі. Патрэба ў ёй адчувалася, відавочна, ужо тады, таму што стварылася шмат падобных зборнікаў і ў іхную падставу былі пакладзены пералічэнні рымскіх біскупаў, іхныя лісты ці регесты і іншыя акты. Акрамя таго, была складзена Агнелем – праўда, варварская, але і ўсё ж каштоўная, – гісторыя арцыбіскупаў Равэны, а дыяканам Янам – жыццяапісанне біскупаў Неапаля. Стварылася думка, што ў гэтую ж самую эпоху была сабрана і адрэгавана знакамітая «Liber Pontificalis»[200] Анастасам Бібліятэкарам, з імем якога неабгрунтавана злучаецца цалкам уся гэтая кніга (хаця толькі з часоў Панвія, як паказаў абат Duchesne у Etude sur le Liber Pontificalis. p. 2).

Гэты Анастас жыў пры Мікалаю I і Яну VIII. Але дакладна невядома, ці належаць яму біяграфіі нават тых вялікіх рымскіх пантыфексаў, якія былі яго сучаснікамі. Іхныя жыццяапісанні, у форме каляндарных пазначэнняў і пералічэння гадоў кіравання і дзейнасьці, вяліся, кажуць нам, быццам бы ужо пачынаючы ад II і III стагоддзяў «ад Нараджэння Хрыста», якое, як мы ўжо бачылі, само было ў IV стагоддзі ад «царкоўнага Нараджэння Хрыста». Самымі старажытнымі пералікамі рымскіх біскупаў лічацца грэцкія пералікі Егезіппа і Ірынея, дарэмна прыпісваемыя II стагоддзю «ад Нараджэння Хрыста». За ім ідзе пералік Яўсевія ў яго «Хроніцы» і ў «Гісторыі царквы»; потым ідуць лацінскія пералікі ў Аўгустына і Аптата, і «Catologus Liberianus», дапасуемы да 354 года ад таго ж «Нараджэння Хрыста».

З падобнага ж матэрыялу, яшчэ больш разросшагася, узніклі і афіцыйныя жыццяапісанні рымскіх пантыфексаў. Самыя поўныя з іх дапасуюцца да эпохі Каралінгаў, але яны ўяўляюць сабой толькі не звязаную сумесь нататак пра пабудовы, пра ахвяраванні і пра сапраўды гістарычныя падзеі. Дрэнны стыль гэтых жыццяапісанняў не мае нічога агульнага з мовай рымскай канцылярыі, якая ў регестах Мікалая I і Яна VIII чаруе сваёй вытанчанасьцю, выразнасьцю і магутнасьцю. А калі б не існавала гэтых няскладных жыццяапісанняў ці мы прызналі б іхную ненадзейнасць, то мы павінны былі б сказаць, што нам невядомы шмат якія стагоддзі існавання сярэднявечнага рымскага пантыфікату і самога горада Рыма.

На біяграфіі Мікалая I «Кніга рымскіх пантыфексаў» перарываецца. Дадатак да яе ў выглядзе дадавання жыцця Адрыяна II і Стэфана VI прыпісваюцца бібліятэкару Гуілельму.

Уяўленне пра рымскую духоўную і свецкую манархію знайшло ў Мікалаю сваё ўвасабленне. Сцвярджаюць, што ён першым із рымскіх пантыфексаў каранаваўся тыярай, але яна была завершана патройнай каронай ужо пры яго наступніках. Гэта сцвярджаюць Novaes, Pagi і іншыя, спасылаючыся на coronatur denique Пантыфікальнай кнігі. І сапраўды Сергій III (904) намаляваны на манетах яшчэ ў мітры. Каранаваная абручом тыяра цалкам усходняга характару звалася Regnum ці Phrygium. Таму Інакенцій III і сказаў:

«*In signum spiritualium contulit Mitram, io signurn temporalium dedit mihi Coronam, Mitram quoque pro sacerdotio, Coronam pro regno* (у адзнаку духоўнай улады бог паднёс

[200] «Liber Pontificalis» выдадзена абатам Duchesne у 1884 годзе з выдатнымі каментарамі. Яна ёсць у нас у акадэмічнай бібліятэцы.

мне мітру, у знак свецкай улады ён даў мне карону; мітру для набажэнстваў, карону для валадарання).

«Рымскія пантыфексы рэдка насілі – пісаў гэты папа – тыяру і амаль заўсёды мітру», але наколькі можна верыць яго словам? Ды і ці сапраўды гэтыя словы не апокрыф? Старажытных жа «папскіх карон» нідзе не знайлося хаця б адной; самая старажытная належала толькі Юлію II (1503 год).

Уяўны дарунак Кастуся I саслужыў добрую службу свецкім дамаганням рымскіх пантыфексаў, але больш важнае значэнне мелі для іх ілжэ-ісідораўскія дэкрэталіі. Гэта выдатная выдумка палягала ў тым, што было складзена шмат лістоў і дэкрэтаў, быццам бы напісаных старажытнымі рымскімі пантыфексамі. Усе гэтыя лісты і дэкрэты былі змешчаны ў збоніку «саборных» актаў, і іхным аўтарам быў абвешчаны знакаміты Ісідор Сявільскі. Гэты зборнік з'явіўся ў сярэдзіне IX стагоддзя, і Мікалай I быў першым пантыфексам, які скарыстаўся прыдуманымі лістамі і дэкрэтамі, як кодэксам сваіх правоў. Дзякуючы сваёй выдумцы рымская царква надзялялася такімі прывілеямі, якія рабілі яе цалкам незалежнай, ад дзяржавы. Ставячы каралеўскую ўладу значна ніжэй пантыфікальнай і згодна з вартасьцю ніжэй нават біскупскай, гэтыя прыдуманыя акты ў той жа час паднімалі вялікага рымскага пантыфекса на такую вышыню і над біскупамі, што на яго ўжо не маглі пашырацца пастановы мясцовых сабораў. Вярхоўным суддзёй над усімі мітрапалітамі і біскупамі прызнаваўся вярхоўны рымскі пантыфекс, і яго загадам павінны былі цалкам падначальвацца духоўныя чыны, а із пад улады караля яны цалкам вызваляліся. За вялікім рымскім пантыфексам прызнавалася дыктатура ў царкоўным сьвеце. Мікалай I знайшоў у іх самую прыдатную зброю для змагання з каралямі і мясцовымі саборамі і здабыў перамогу і над тымі, і над другімі. А імператар, які добра бачыў небяспеку, пагражаўшую яго палітычнаму значэнню, не мог зрабіць нічога іншага, як толькі заставацца пасіўным назіральнікам перамогі свайго вярхоўнага жраца.

Такім быў **рэчаісны** пачатак горада Рыма. Мы бачым, што ён не мае нічога агульнага з чароўнай казкай пра яго Шаноўнага Лівійца (Ціта Лівія па-грэцку). А наколькі магла паслужыць для стварэння такой казкі пра «старажытны магутны Рым» далейшая гісторыя гэтага горада і як магла стварыцца яго класічная літаратура пад час Эпохі Адраджэння, я пагавару ў наступных главаах.

# Глава II.

## Каранаваныя феадалы-жрацы і каралі-імператары Заходняй Рымскай імперыі заканчэння IX стагоддзя.

Пасьля сьмерці Мікалая ў 867 годзе выбар рымлянаў спыніўся на Андрыяне, кардыналу царквы св. Марка. Ён быў із роду Стэфана IV і Сяргея II. Знаходзіўшыяся ў горадзе імператарскія амбасадары ўжо не былі запрошаны на выбарчы сход.

У той час імператар Людовік знаходзіўся ў Паўднёвай Італіі. Яшчэ раней ён звярнуўся да ўсіх італійскіх васалаў з заклікам наладзіць напад на ісламітаў у Бары, і меў намер зараз жа пачаць свой паход на іх із Луканіі. У 871 годзе ў яго нарэшце атрымалася захапіць Бары і паланіць мясцовага султана. Удзел грэкаў у гэтым важным прадпрыемстве быў нікчэмным, і перамога Людовіка распаліла ў іх

зайздрасць. Імператар Васіль даслаў Людовіку пагардлівы ліст, у якім, між іншым, адмаўляў яму ў тытуле базілеўс і кпліва называў яго «riga». Я прыводжу частку адказа гэтага **рыгі**, не ручаючыся за яго праўдзівасць, каб ілюстраваць уяўленні той эпохі пра Рымскую імперыю і паказаць, што сьвятасць імператарскага сану, згодна з ўласным прызнаннем Заходняга імператара, калі ён не падробка, ужо ставілася тады ў непасрэдную залежнасць ад памазання рукой вялікага рымскага пантыфекса. Вось што, – кажуць нам, – пісаў Заходні імператар Усходняму.

«*Мы атрымалі ўладу ад нашага дзеда, але не ўзурпацыяй, як ты мяркуеш, а воляю бога, рашэннем царквы і пантыфекса, дзякуючы накладанню яго рук на нас і дзякуючы памазанню. Ты сцвярджаеш, быццам бы мы павінны звацца імператарамі франкаў, а не рымлянаў, але ты павінен ведаць, што калі б мы не былі рымскімі імператарамі, то мы не маглі б быць і імператарамі франкаў. І гэтае імя і гэты сан мы атрымалі ад рымлянаў, сярод якіх упершыню заззяла гэтая веліч, а з імі да нас перайшлі і боскае кіраванне рымскім народам і горадам, абарона і ўзвелічэнне маці ўсіх цэркваў, якая дала роду нашых продкаў спачатку каралеўскую ўладу, а потым і імператарскую. «Валадары франкаў зваліся спачатку каралямі, а імператарамі толькі тыя із іх, над якімі ўжо пазней было здзейснена памазанне. Так наш прадзед Карл Вялікі першы із нашага племя і роду быў памазаны папай* (анахранізм), *і дзякуючы нададзенай яму тым самым мілаце быў абвешчаны імператарам і памазанцам боскім, тым часам як некаторыя нярэдка дасягалі імператарскага сану без боскага ўплыву і пасярэдніцтва папы* (анахранізм), *будучы абраны толькі сенатам і народам». «Былі і такія, якія нават не абіраліся, а ўзводзіліся на імператарскі пасад жаўнерамі ці завалодвалі імператарскім скіпетрам Рыма іншымі спосабамі. Але калі ты асуджаеш дзеянні рымскага папы, то гань ужо і Самуіла, які, адкінуўшы Савула, памазанага раней ім самім, знайшоў патрэбным памазаць на царства Давыда».*

Я не змог набыць на рукі лацінскі арыгінал гэтага ліста, але калі ў ім, сапраўды, ужыта слова папа, замест pontifex, то яно з’яўляецца апокрыфам. У той час рымскія першасьвятары зваліся яшчэ pontifici maximi, як у класікаў, і задавольваліся мітрай, як і ўсходнія мітрапаліты аж да пантыфекса Мікалая, упершыню надзеўшага тыяру, але яшчэ не патройную. Ва ўсякім разе гэты ліст, відаць, удала выяўляе дзяржаўную ідэалогію таксама і таго часу.

Яшчэ адна акалічнасць спрыяла прэстыжу пантыфікальнай улады. Пераможац ісламітаў накіраваўся ў Беневент, а яго разрозненае войска пачало падпарадкоўваць паўстаўшыя гарады. Васал Людовіка Адальгіс, баючыся яго гневу за тое, што ён ужо не раз абражаў імператара сваім непадпарадкаваннем, вырашыў завалодаць ім. Напад быў зроблена ў жніўні, у палацы самага Адальгіса. Тры дні працягвалася змаганне, закончыўшаяся тым, што імператар, яго жонка і ўсе франкі былі ўзяты ў палон. Адальгіс трымаў іх у заняволенні больш месяца, а потым узяў з Людовіка клятвавае абяцанне, што ён ніколі не ўступіць з войскам у Беневенцкае герцагства і ніколі не будзе помсьціць за здзейснены над ім гвалт. Імператарская ўлада была, такім чынам, зняважана і абражана ўласным васалам імперыі. Вестка пра гэта разнеслася паўсюдна, і вершаскладальнікі – кажуць нам – спявалі па вуліцах лацінскую песьню пра паланенне імператара, і гэта, на думку гісторыкаў, паказвае, што італійскі lingua volgare у 871 годзе яшчэ не быў мовай паэтаў:

Audite omues fines terrae horrore cum tristitia
Quale scelus fuit factum Benevento Civitas,
Ludhuicum comprenderunt sancto, pio Augusto.
Beneventani se ad unarunt ad uaum consilium,
Adalferio loquebatur, et picebant Principi:
Si nos eum vivum demittemus, certe nos perihimus

Scelus magnum praeparavit in istam provinciam:
Regnum nostrum nobis tollit: nos habet pro nihilum
Plures mala nobis fecit. Rectum est, ut inoriad,
etc.
(Слухайце ўсе канцы зямлі з жахам і смуткам
Якое злачынства здзейснілася ў Беневенцкім графстве:
Захапілі раптам Людовіка ў сьвятым месяцы Жніўні.
Сабраліся беневенцы на адзін сход,
Гаварыў ім Адальферый, згаджаліся шляхетныя:
Калі мы яго адпусьцім, то загінем самі мы.
Ён вялікае злачынства прыгатаваў у вобласьці,
Ён пазбавіць нас царскай улады, за нішто лічыць нас,
Шмат зла вам зробіць, хай памрэ хутчэй ён, і г.д.)

Тут, вядома, мы бачым, не італійскую, а лацінскую мову, але гэта даказвае толькі тое, што песьню склаў не народны спявак, а тагачасны інтэлігент, падобны на таго, які напісаў і знакамітую студэнцкую песню:

Gaudeamus igitur Juvenes dum sumus.
Post jucundam juventutem, post malestern senectutem,
Nos habebit humus ...
(Будзем вясёлымі, сябры! Хіба юнацкасць дрэмле?
Пасьля юнацкасьці вясёлай, пасьля старасьці цяжкай
Нас зямля прымае!)

Мючы вялікае жаданне адпомсціць за нанесеную яму абразу, Людовік прыбыў у Рым у 872 годзе пад час Духава дня. Сустрэты з усімі ўшанаваннямі ў Латэране, імператар заявіў вялікаму пантыфексу пра сваё жаданне быць вызваленым ад клятвы, гвалтоўна навязанай яму ў Беневенце, і гэтае яго жаданне было задаволена сходам сьвятарства і шляхетных асоб.

Рымскі сенат, засядаўшы ў базыліцы Латэрана, абвясьціў Адальгіса ворагам рэспублікі і прысудзіў яго да выгнання. Летапісец (915 г.) паведамляе, што Адальгіс збег на Корсіку, і што імператар даручыў весьці вайну з ім сваёй жонцы. А ўсе клерыкалы таемна сьвяткавалі, бачачы паслабленне імператарскай улады.

Калі Андрыян II памёр і ў якасьці вялікага рымскага пантыфекса быў пасьвечаны 14 снежня 872 года яшчэ больш выбітны рымлянін, Ян VIII, памёр імператар Людовік II, апошні із Каралінгаў якому быў уласцівы дзейны розум. З гэтага моманту імперыя страціла значэнне ў рэлігійна ўзвысіўшымся Рыме, а Італія патрапіла ў тое прамежкавае становішча, якое з нагоды яе геаграфічнага становішча, рабіла яе яблыкам разладу паміж Аўстрыяй і Францыяй.

Акрамя дачкі Эрменгарды, Людовік не меў спадкаемцаў. Яго дзядзька Карл Лысы, французкі кароль, у процівагу сваім папярэднікам, не быў спадкоемцай бацькі на пасадзе і не быў абраны імперскім соймам. Дзякуючы гэтаму ён быў вымушаны прынізіцца да паддобрывання шляхетным рымскіх асобам і прасіць іх прызнаць яго кандыдатам на імператарскую карону, а пантыфекс Ян III адважыўся публічна назваць яго рымскім імператарам сваёй уласнай вытворчасьці.

Так канстытуцыя Карла Вялікага і Лотара страціла сваё значэнне для Італіі.

Абранне Карла Лысага з'явілася паваротным пунктам у яе гісторыі. У гэтым абранні адбілася, з аднаго боку, магутнасць рымскага пантыфікату, яго біскупаў і італійскіх вяльможаў, а з другога боку – італійскае нацыянальнае пачуццё, ужо ўзнікшае ў паўночнай Італіі. Кароль перадаў кіраванне італійскімі справамі герцагу Базону, з сястрой якога, Рахільдай, ён адружыўся, а сам накіраваўся ў Францыю, дзе ён таксама павінен быў абвясьціць сябе імператарам. Імперскі сойм адбыўся ў

ліпені. Карл з'явіўся туды ў шыкоўным візантыйскім адзенні і, як васал, атрымаў ад легатаў рымскага пантыфекса залаты скіпетр.

А ў Рыме тым часам пачалася анархія. Той імператарскай улады, якая аберагала яго, ужо больш не існавала, і перамога пантыфікату над імперыяй была разам з тым і цяжкай паразай для горада Рыма, па-ранейшаму арганічна непрыдатнага ў вайсковым дачыненні, дзякуючы свайму стратэгічна нязручнаму становішчу і зараз, як і пад час старажытнасьці.

Шляхетныя асобы Рыма складалі пышную сям'ю. У ліку іх былі генералы міліцыі, міністры двара, наменклатар Рыгор, яго зяць Рыгор, яго дачка Канстантына, секундыцэрый Стэфан і вайсковы магістр Сергій. Каб адружыцца з Канстантынай, Рыгор забіў сваю жонку, пляменіцу Бенедыкта III, і дзякуючы ўплыву свайго цесьця і подкупу суддзяў застаўся вольны ад якога б то ні было пакарання. Сергій, пляменнік вялікага пантыфекса Мікалая I, ідучы за прыкладам караля Лотара, таксама прагнаў ад сябе жонку і ўступіў у адкрытую сувязь са сваёй франконскай каханкай Вальвізандулай. Але пасьля абрання імператара і вяртання ў Рым вялікага пантыфекса ўсе гэтыя людзі спачатку абрабавалі Латэран і іншыя цэрквы, а потым адчынілі ноччу вароты св. Панкрація і пабеглі шукаць сховішча ў Спалецкім герцагстве. Ні на што большае Рым не быў здольным.

19 красавіка 876 года быў скліканы сабор у Пантэоне, і Ян VIII, пасьля прачытання абвінавачванннняў, абвясьціў, што ён адлучвае ад царквы збегшых рымлянаў і ў тым ліку біскупа Фармозу, калі, яны не вернуцца да прызначанага часу. Але ніхто із уцекачоў не прыехаў назад, і замест іх, толькі ісламіты (у 876 г.) прыйшлі ў Рымскую вобласць і некалькі разоў з'ўляліся каля брамаў Рыма, зноў даказваючы яго арганічную немач.

«*Гарады, умацаванні і вёскі знішчаны разам з іхнымі жыхарамі,* – узмаліўся вялікі рымскі пантыфекс імператару. – *Біскупы разагнаны, у сьценах Рыма шукаюць прытулку рэшткі цалкам безабароннага народу. За сьценамі горада ўсё спустошана і ператворана ў пустыню, і – ды выратуе нас ад гэтага Бог! – нам застаецца толькі загінуць. Уся Кампанья страціла сваё насельніцтва, мы, і манастэрыёны, і іншыя божыя ўстановы, і сам рымскі сенат, пакінуты без сродкаў да існавання. Наваколлі горада спустошаны да такой ступені, што ў іх ужо немагчыма знайсьці ніводнай жывой душы, ні сталага чалавека, ні дзіцяці*».

Але нягледзячы, на гэтае маленне Карл не прыйшоў, ды і бяда, відаць, была не такой ужо вялікай. «*Рэлігія не была перашкодай для саюзаў і нават сваяцтва паміж ісламітамі і паўднёва-італійскайі валадарамі,* – піша з гэтай нагоды Грэгаровіус[201]. – *Ужо пры Людовіку II гэтыя валадары, дзеля сваіх інтарэсаў, карысталіся паслугамі няверных, і імператар гучна жаліўся, што Неапаль стаў другім Палерма і другой Афрыкай. Стасавацца з ісламітамі італійскіх валадароў падахвочвалі аднолькава і гандлёвыя інтарэсы, і жаданне знайсьці хаўруснікаў у змаганні паміж сабой і з імператарамі ўсходу і захаду. Акрамя таго, гэтым валадарам былі вядомы задумы рымскай царквы, марыўшай пра набыццё патрымоній у Неапалі і Калабрыі, заяўляўшай дамаганні на Беневент і Капую і, карыстаючыся закалотамі, панаваўшымі ў Італіі, набывала ў ёй землі*».

І вось ісламіты пераканалі Неапаль, Гаэту, Амальфі і Салерна далучыцца да іх супраць царкоўнай дзяржавы. Адзіным энергічным іхным супернікам быў зараз толькі пантыфекс Ян. Ён узброіў рымскія караблі і сьвет ўпершыню пабачыў, праўда невялікі, але ўсё ж рымскі пантыфікальны флот.

---

[201] Т. III. стар. 154. Рус. пераклад.

Гэтыя вайсковыя караблі, як і пры Велізарыі, мелі назву драмоны; яны звычайна мелі ў даўжыню 170 футаў, былі забяспечаны кожны дзвюма вежамі, роднай каля носа, другой каля кармы, і вайсковымі машынамі для кідання, запальвання і абардажу. Як у класічных апісаннях, яны рухаліся з дапамогай сотні вёслаў, якімі грэблі галерныя рабы, тады як марскія жаўнеры размяшчаліся ў сярэдзіне карабля і ў вежах.

Ян выйшаў са сваім флотам у мора. Каля мыса Цырцэн ён дагнаў ісламітаў, адбіў у іх 18 караблёў, вызваліў 600 сваіх аднаверцаў, перададзеных у рабства, і знішчыў вялікую колькасць непрыяцеляў. Гэта быў першы выпадак, калі вялікі пантыфекс выступаў у змаганне, як адмірал. Гэта быў першы праўдзівы выпадак марской перамогі рымлянаў, але ён жа стаў і апошнім.

Ужо вясной 878 года наступілі падзеі, якія вымусілі Яна нават збегчы ў Францыю і парушылі яго планы адносна ніжняй Італіі.

Запрошаныя біскупам Апанасам у якасьці хаўруснікаў супраць Рыма і грэкаў, ісламіты падышлі да Неапаля і размясьціліся каля Вязувія. У 881 годзе яны ўжо канчаткова тут замацаваліся і занялі Аграполіс паблізу Пестума. Пакліканыя гаэтанскім герцагам Дэцыбелам, шукаўшым іхнай дапамогі супраць пантыфікату, яны размясьціліся спачатку лагерам каля Ітры, а потым заснаваліся на правым беразе Гарыльяпа.

Ян VIII быў апошнім выбітным рымскім пантыфексам, таму што з яго сьмерцю надоўга загас той бляск, якога ўпершыню дасягнуў пантыфікат як свецкая дзяржава з часу яго заснавання пры Каралінгах.

Пасьля Яна VIII быў абраны Марцін I, закляты вораг грэцкага патрыярха Фоція. Потым на пачатку 884 года, калі ён памёр, на пантыфікальны рымскі пасад уступіў Андрыян III, прыхільнік нацыянальнай незалежнасьці Італіі, але і ён памёр летам 855 года, і тады мы зноў знаходзім ў летапісцаў паведамленні, мала пагадняючыяся з тымі ўяўленнямі, якія нам надалі навейшыя клерыкальныя гісторыкі пра «сярэднявечнае папства» (тады як у той час слова папа яшчэ не было ва ўжыванні).

Пасьля Андрыяна III вярхоўным рымскім першасьвятаром, – кажуць нам, – аднагалосна быў абраны Стэфан і адведзены ў Латэран, дзе знайшоў усе палацавыя скарбніцы спустошанымі, «*дзякуючы таму што ўжо з даўніх часоў існаваў звычай, што пасьля сьмерці кожнага рымскага пантыфекса, яго слугі і народ урываліся ў яго пакоі і рабавалі не толькі ў іх, але і ў самым палацы, выкрадаючыў усё што там было: золата, срэбра, каштоўныя тканіны і каштоўныя камяні; і гэтае рабаванне было забаронена толькі на рымскім саборы 904 года*». А да гэтага часу аналагічнае рабаванне адбывалася паўсюдна, калі паміралі біскупы. Вось як апісвае іх штодзённае жыццё Ратэрыус Прэлоквіус: «*Біскупы жылі ў шыкоўных пакоях, бліскуча ўпрыгожаных золатам, пурпурам і аксамітам, елі падобна валадарам із залатога посуду і частаваліся віном із каштоўных кубкаў і прыгатаваных для гэтай мэты рагоў. Як на балі раджаў яны цешылі сябе відовішчам прыгожых скакунняў і цешылі свой слых музычнымі сімфоніямі. Спачываючы разам са сваімі наложніцамі* (г.азн. хутчэй усяго з законнымі жонкамі, таму што неадужальнасць каталіцкага сьвятарства была ўведзена нашмат пазьней) *на шаўковых падушках, у ложках, майстэрскі аздобленых золатам, яны пакідалі клопаты пра свой двор васалам, коланам і рабам, і потым гулялі ў косткі, палявалі і стралялі із лука. Абедню яны служылі са шпорамі на нагах і з кінжалам на поясе, але ахвотна пакідалі і ахвярнік і сваю катэдру, каб сесьці на каня з каштоўна аздобленай золатам збруяй, з саксонскім сядлом, і ехаць на сакалінае паляванне. Свае вандраванні біскупы здзяйснялі ў суправаджэнні цэлага натоўпу прыхвасняў, седзячых у павозках,*

*запрэжанымі коньмі, і гэтыя павозкі былі такімі шыкоўнымі, што сесьці ў іх не пасаромеўся б сам кароль*»[202].

Але калі такім было жыццё каталіцкіх біскупаў у правінцыі, то якім жа было становішча саміх іх вярхоўных пантыфексаў у сталіцы? Ды ці і сапраўды рабаванне іхнай маёмасьці пасьля сьмерці было агульным правілам, а не выключэннем?

«*Згодна са звычаем,* – сведчыць Грэгарэвіус[203], – *кожны рымскі пантыфекс павінен быў неадкладна пасьля свайго пасьвячэння ўзнагародзіць сьвятарства, манастэрыі і карпарацыі грашовымі гасьцінцамі, а бедным раздаць хлеб і мяса. Таму разам з яго сьмерцю ў Рыме пачыналася падвойная весялосць: і рабаваўся палац памёршага пантыфекса, і атрымоўваліся гасьцінцы ад новага*».

Але ж гэта зноў простае меркаванне, заснаванае на здагадцы, што ўсе вялікія пантыфексы сярэдневечча абіраліся выключна із заможных магнатаў...

# Глава III.

## Панаванне жанчын у пантыфікальным Рыме на прыканцы IX і на пачатку X стагоддзяў.

Стэфан V памёр у верасні 891 года, і пасьля яго пасад Пятра ў верасні 891 года заняў кардынал і біскуп Фармоз із Порта.

«*У гэты час* – зноў сведчыць Грэгарэвіус[204] – *Рым засланіў глыбокі змрок, і праз яго ледзь прабіваецца слабое сьвятло летапісаў, асьвятляючых тую эпоху. Перад намі бурлячым віхуром праносяцца жахлівыя выявы, дзеючымі асобамі якіх з'яўляюцца бароны, здзяйсняючыя гвалтаванні і называючыя сябе консуламі і сенатарамі; з'яўляюцца і знікаюць то грубыя, то няшчасныя вялікія пантыфексы, належачыя да таго ж асяроддзя баронаў; прыгожыя, неўтаймаваныя жанчыны і прывідныя імператары, пачынаючыя адзін з адным барацьбу і потым знікаючыя не пакінуўшы сьлядоў*».

Баніфацый VI быў абраны пасьля Фармоза рымлянамі на пасад Пятра гвалтоўна і праз 15 дзён памёр. Спалецкая нацыянальная партыя абвясьціла вялікім рымскім пантыфексам Стэфана VI, сына рымскага прэсвітара Яна, і гэты новы духоўны валадар Рыма, падахвочваемы ворагамі Фармоза да якіх належаў і сам, наладзіў над ужо памёршым Фармозай, як сваім заклятым ворагам, урачысты суд. Нябожчык павінен быў з'явіцца на суд сабора асабіста.

Яго труп, выкапаны із магілы, у якой ён праляжаў ужо некалькі месяцаў, быў апрануты ў пантыфікальнае адзенне і пасаджаны на пасад у зале сходу. Падняўся адвакат Стэфана і, павярнуўшыся да памёршага, прачытаў яму абвінавачванне. Жывы пантыфекс, седзячы на другім пасадзе, пачаў дапыт памёршага:

– Як ты адважыўся паддацца славалюбству і завалодаць апостальскім пасадам, калі раней ты быў толькі біскупам Парто?

Памёршы, вядома, нічога яму не адказаў. А прызначаны яму абаронца вымавіў слабую прамову, наколькі дазваляла яму выказвацца сьмяротная баязнь. Нябожчык быў асуджаны. Сабор падпісаў дэкрэт пра пазбаўленне яго пасады і абвясьціў яго адлучаным ад царквы. Прысутнічаўшыя сарвалі з яго пантыфікальнае адзенне, адсеклі яму тры пальцы правай рукі, якімі ён здзяйсняў дабраславенне,

---

[202] Ratherius Praeloquius, V, VI. p. 143. Edit. Ballerint. (Грэгарэвіус кн. 5, гл. VI, заўв. 30.)
[203] Грэгарэвіус, кн. 5, гл. VI.
[204] Том III, стар. 190.

выцягнулі труп із залы, павалаклі па вуліцах і, пры гагочучым выцці збегшагася натоўпу, кінулі ў Тыбр.

Злы рок дагнаў, аднак, і самога Стэфана ужо восенню таго ж 897 года.

Ён быў схоплены, заняволены ў турму і там задушаны.

І каля гэтага часу падняліся са сваіх станавішчаў у Паноніі шматлікія орды мадзьяраў. У жніўні 899 года яны прыйшлі ў верхнюю Італію і 24-га верасня пад Брэнтай пабілі войска Берэнгара.

Рым быў ахоплены закалотамі партыйных разладаў. Імператарская рука ўжо больш не стрымлівала іх. Вялікія рымскія пантыфексы сядалі на пасад Пятра сярод буры хваляванняў і вельмі хутка гублялі пасад.

На працягу васьмі гадоў іх было абрана і пазбаўлена пасады восем, і гэта яскрава сведчыць пра тое да якіх жудасных памераў дасягнула ў Рыме партыйнае змаганне. Памаленьку із гэтага хаосу пачаў вылучацца то той, то іншы шляхетны рымскі род і, нарэшце, адзін з іх змог захапіць уладу ў свае рукі.

Рэальная гісторыя рымскага сената і гарадзкой шляхты (патрыцыяў) пачынаецца толькі з гэтага, а не з да-хрысьціянскага часу.

Кіраўніком дасягнуўшага панавання рымскага арыстакратычнага роду быў тады Теафплакт, усемагутная жонка якога, Тэадора, была апякункай Сергія III, здабыўшага дзякуючы ёй сан рымскага пантыфекса ў студзені 904 года.

Царкоўныя гістарыёграфы, і на чале іх Бароній, выказваюцца пра Сергія III як пра пачвару. Яго ўдзел у працэсе, узбуджаным супраць Фармоза, гвалтоўны захоп ім пантыфікальнага пасаду і яго амурныя стасункі з рымлянкай Маросіяй, дачкой Тэадоры, пра якія паведамляе Ліутпранд, далі падставу для такога прысуду царкоўнікаў, хаця дзеля выратавання сваёй душы ён і загадаў манашкам спяваць штодня па сто разоў: «пане памілуй!»

Але нават і самыя артадаксальныя гісторыкі сцвярджаюць, што Сергій «аднавіў» (г.азн. проста пабудаваў) шмат храмаў, якія лічацца старажытна-рымскімі. Існуюць дакументы, сьведчачыя, што Латэранская базіліка была пабудавана Сергіем. «*За ўсе сем гадоў гэтага жудаснага часу*, – фантазіруюць старажытныя гісторыкі, не жадаючыя прызнаць усю базіліку тварэннем таго часу, – *яна ляжала ў выглядзе кучы парэшткаў, і рымляне не переставалі капацца ў іх, адшукваючы маючыяся ў іх каштоўныя ахвяраванні*». «*Вось у гэты час*, – здагадваюцца яны, – *і зніклі тыя творы старажытна-хрысьціянскага мастацтва, якія былі прынесены ў дарунак гэтай базіліцы Кастусём I і складалі, галоўным чынам, славу Латэрана. Дакладна так жа быў выкрадзены* (і да гэтага часу не знойдзены!) *і залаты крыж Велізарыя*».

А праўдзівыя факты, акрамя гэтых здагадак і фантазій, зводзяцца толькі да тога, што спакой, якім карыстаўся горад пад тыранічным кіраваннем партыі Сергія III, і каштоўныя падарункі пілігрымаў далі яму матэрыяльную магчымасць пабудаваць Латэранскую базіліку, і ён не дарэмна пад час наступных стагоддзяў набыў славу будаўніка гэтага будынка, які пазней памаленьку напоўніўся падробленымі гістарычнымі помнікамі і прастаяў амаль 400 гадоў, пакуль не быў знішчана пажарам. У 911 годзе ён памёр і за ім пайшлі следам у магілы: Анастас II, кіраваўшы не больш чым два гады, і наступнік Анастаса Ландо, дзейнасць якога таксама заслонена непраглядаемым змрокам. Ландо, сын ламбардзкага графа, меўшага вялікія маёнткі ў Сабіне, памёр праз 6 месяцаў, вясной 914 года, і на пасад Пятра ўступіў выдатны чалавек, Ян X, які здолеў з рэдкім мастацтвам утрымацца на гэтым пасадзе цэлых чатырнаццаць гадоў.

Згодна са словамі Ліутпранда, арцыбіскуп равэнскі часта выпраўляў яго ў якасьці прэсвітара ў Рым па справах царквы, і тут Ян стаў каханкам ужо вядомай нам шляхетнай рымлянкі Тэадоры, жонкі герцага і консула Тэафілакта, із самай высокай рымскай шляхты. Стаўшы хутка пазьней біскупам Балонні, ён быццам бы пасьля сьмерці арцыбіскупа Равэны заняў яго месца, а адсюль быў пакліканы Тэадорай у Рым і дзякуючы ёй заняў пасаду вялікага рымскага пантыфекса.

Імя Тэафілакта таксама, як і Тэадоры, часта сустракаецца ў тагачаснай Італіі, дзе раней панавалі грэкі. Але маючы на ўвазе толькі адно гэтае імя, мы яшчэ не можам зрабіць выснову, што продкі Тэафілакта сапраўды былі грэцкага паходжання. Візантыйскія імёны сталі звычайнымі ў Рыме ўжо стагоддзе таму назад. У X стагоддзі мы знаходзім іх у шмат якіх дыпломах, дзе імёны Даратэя, Стэфанія, Настасся, Тэадора, сустракаюцца так жа часта, як і імёны Тэадор, Анастас, Зьміцер, Сергій, Стэфан і Кастусь. У X стагоддзі гэта было модай, панаваўшай у асяроддзі арыстакратыі Рыма. Ды і там, дзе сустракаюцца лацінскія імёны, мы знаходзім яшчэ не класічных Сцыпіёнаў, Цэзараў ці Марыяў, а проста Бенедыкта, Ільва ці Рыгора, што ўжо адно гэта паказвае на больш позняе паходжанне класічнай літаратуры.

І вось, на пачатку X стагоддзя Теафілакт набывае вялікую ўладу. У 901 годзе пра яго згадваецца разам з іншымі шляхетнымі людзьмі, і ён, яшчэ не маючы класічнага імя, ужо мае класічны тытул «консула і сенатара рымлянаў». Магутным уплывам на горад карысталася побач з Тэафілактам і яго жонка Тэадора.

«*Мы не можам, вядома, прывесьці фактычных доказаў таго, што рымляне ў тую эпоху штогодова абіралі консулаў і ставілі іх на чале свайго муніцыпалітэта*, – сведчыць сам Грэгарэвіус[205], *– але ўсё ж немагчыма сумнявацца ў тым, што з часу зьнікнення імперыі Каралінгаў у горадзе адбыўся ўнутраны пераварот. Гарадзкое кіраванне перайшло ў рукі свецкіх людзей, а прэлаты былі адсунуты на другі план. Вызваліўшыся із-пад ярма імператарскай улады і беручы ўдзел, як сукіраўніца ва ўсіх палітычных справах, арыстакратыя прымусіла сваіх вялікіх пантыфексаў прызнаць за ёю больш значныя вольнасьці. «Консул рымлянаў» абіраўся із асяроддзя шляхты як самы старэйшы, зацьвярджаўся пантыфексам і, у якасьці патрыцыя, ставіўся на чале судовых установаў і гарадзкога кіравання. Будучы Consul Romanorum, гэты кіраўнік арыстакратаў ужо тады называўся, акрамя таго, яшчэ і Senator Romanorum.*

У такіх менавіта ўмовах мы і знаходзім у той час Тэафілакта, і ўжо адно гэта яго высокае становішча тлумачыць магутнасць Тэадоры, якая называла сябе «Senatrix». Яна была душой таго вялікага згуртавання, якое складала родная паміж сабой шляхта, а яе дочкі, Марсія (г.азн. Маруся)[206] і Тэадора, успадкавалі ад яе яе спакуслівае хараство і яе магутны ўплыў. Яшчэ пра Сергія III ішла пагалоска, што «Маруся» дарыла яму сваё каханне і нарадзіла яму дзіцёнка, які пазней быў рымскім пантыфексам Янам XI, і гэтая ж самая рымлянка прывяла ў сям'ю Тэафілакта чалавека выпадковага паходжання і нарадзіла ад яго дзіцёнка, стаўшага пазьней першым свецкім валадарам Рыма.

Альберык быў новым чалавекам у горадзе, і раней яго з такім германскім імем у Рыме ніхто яшчэ так высока не паднімаўся. Ён злучыўся з «Марусяй», адружыўся з ёю і з гэтага моманту для Рыма наставала новая эпоха, пад час якой значэнне мелі не столькі мужчыны, колькі іхныя жонкі. Той факт, што жанчыны на працягу некаторага часу распараджаліся пантыфікальнай каронай і мелі вялікую

---

[205] Грэгарэвіус, кн. 6, гл. I.

[206] Marosia – ласкава варыяцыя слова Maria, напэўна, пад славянскі ўплывам.

ўладу над Рымам, не можа быць аспрэчаным, а патлумачыць яго чым-небудзь іншым, як развітым тады культам Мадонны цяжка.

Падумайце самі. На працягу ўсяго часу VII, VIII і IX стагоддзяў мы не сустракаем ніводнай рымскай жанчыны, асоба якой магла б выклікаць да сябе хаця б нейкую цікавасць, і гэта не павінна здавацца дзіўным. У перыяд перавагі грубай магутнасьці жанчына не магла мець істотнай і відавочнай ролі ў грамадстве, і таму, калі на пачатку X стагоддзя на падмосткі гісторыі нечакана выступілі некаторыя шляхетныя жанчыны, вызначаўшыяся сваёй прыгажосьцю, уплывам і незвычайным лёсам, то гэта ўжо сведчыла пра тое, што ранейшыя сямейныя і грамадзкія дачыненні зведалі некаторыя змены.

Асляпляючы бляск усебаковай адукаванасьці, які мы бачым пазней у Лукрэцыі Борджыа, дачкі аднаго із больш позніх рымскіх пантыфексаў быў яшчэ чужым, вядома, для Тэадоры і Марусі X стагоддзя; але мы наўрад ці знойдзем тут больш вольнасьці нораваў, чым пад час пад эпохі Кацярыны ў Расіі і маркізы Пампадур у Францыі, якія вызначаліся вытанчанай адукаванасьцю.

Атрымаўшы сан рымскага пантыфекса з ласкі Тэадоры і консула Тэафілакта, Ян X усё ж не выявіўся простым паслужлівым царадворцам, а стаў першым дзяржаўным чалавекам свайго часу.

Менавіта ў гэты час гарільянскія ісламіты[207] зноў пачалі наводзіць жах на Рым. Ззаду Цівалі, на адной із горных вяршыць, да гэтага часу узвышаецца замак Сарацынеска, насельнікі якога яшчэ ў XIX стагоддзі вызначаліся старажытным адзеннем і сваімі асобнымі норавамі. Сваю назву ён атрымаў ад ісламітаў IX стагоддзя, зрабіўшых із гэтага замка ўмацаванае месца[208].

Па другі бок тых жа гор, сярод велічнай і дзікай прыроды Сабіны, стаіць замак Цыцілiяна, які ў часы Яна X быў таксама ўмацаваным месцам ісламітаў. І вось, калі накіроўваючыся ў Рым з поўначы падарожнікі спускаліся з Альпаў, ім перакрывалі далейшы шлях гішпанскія маўры, з 891 года трывала заснаваўшыяся ў Фраксінэце; калі ж у іх атрымлівалася адкупіцца тут, яны, ідучы па дарогах із Нарні, Рыэці і Нэпі, зноў траплялі ў рукі ісламітаў. Такім чынам ужо ніводзін пілігрым не мог больш патрапіць у Рым, захаваўшы ўсе свае прынашэнні, і такое становішча працягвалася на працягу трыццаці гадоў.

У гэтым роспачным становішчы Ян X вырашыў аднавіць імператарскую ўладу.

Верхняя Італія была тады пад скіпетрам Берэнгара і на ім, як некалі на Ламберту, былі засяроджаны надзеі нацыянальнай партыі.

Атрымаўшы запрашэнне рымскага пантыфекса праз амбасадараў, Берэнгард накіраваўся ў Рым. Невядомы прыдворны паэт апісаў, як сведка, урачысты заезд і ўкаранаванне гэтага валадара. Але ў яго вершах існуе адзін істотны недахоп: напісаныя гучным гекзаметрам і ўпрыгожаныя кветкамі паэзіі Вяргілія і Стадыя, ён быў «знойдзены» і надрукаваны толькі ў 1663 годзе Адрыянам-Валерам у Парыжы і таму не мае значэння арыгінала. Паэт пазначае, што дзіды, якімі была ўзброена міліцыя, былі ўпрыгожаны выявамі дзікіх жывёлаў, арлоў, ільвоў, ваўкоў і галоваў цмокаў. Прысутнічалі пры сустрэчы і карпарацыі (Scholae). Паэт укладае ў вусны грэкаў ухвальны «Дзедалавы гімн», а іншыя цэхі ў яго вітаюць Берэнгара кожны на

---

207 Garigliano – у Кампаніі на поўнач ад Неапаля.

208 Nibbi (Annal. III, 6) паказвае, што яшчэ да гэтага часу тут сустракаюцца жыдоўска-арабскія імёны: Mastorre, Argante, Morgante, Merant, Manasse, Morgutte і г.д. Другое Сарацынска, некалі быўшае маўрытанскім замкам, існуе да гэтага часу у дыяцэзіі Мантэ-Касіна (Грэгарэвіус, кн. 6, гл. 1, заўв. 35).

сваёй роднай мове. Асобна пазначаны з'явіўшыяся выказаць сваю адданасць двое шляхетных маладых людзей, апранутыя ў белае адзенне: брат рымскага пантыфекса і сын консула Тэафілакта. Сабраўшыся натоўп быў такім вялікім, што Берэнгар змог толькі з цяжкасьцямі наблізіцца да пантыфекса. Укаранаванне з урачыстасьцю адбылося пад час першых дзён снежня 915 года і пантыфікальны чытальнік прачытаў маніфест новага імператара, падцвердзіўшы ўладанні рымскіх служак культу. Пры заканчэнні ўрачыстасьці імператар у базіліцы св. Пятра падараваў гасьцінцы сьвятарству, шляхце і народу.

Наступствам укаранавання Берэнгара быў паход супраць ісламітаў. Пад кіраванне пантыфекса было перададзена войска із Тасканы, знаходзіўшаяся пад кіраваннем маркграфа Адальберта, атрады са Спалета і із Камерына, кіруемыя Альберыхам. Нават візантыйскі імператар працягнуў у гэтай справе руку дапамогі імператару рымлянаў. Вясной 916 года, яго вайскавы правадыр Піцынглі прывёз герцагам Гаэты і Неапаля званне патрыцыяў, пераканаў гэтых сяброў ісламітаў злучыцца з ім у лігу і размясьціў свой флот каля ўтокі Гарыльяна. Ісламіты былі выціснуты із Сабіны і былі вымушаны адступіць да Гарыльяна. У чэрвені 916 года пачалася яго аблога. На працягу двух месяцаў бараніліся ісламіты, але потым, страціўшы якую б то ні было надзею на падмацаванне із Сіцыліі, ноччу падпалілі свой лагер і кінуліся прабіваць сабе дарогу ў горы, але былі пры гэтым амаль усе забіты ці ўзяты ў палон. Як трыумфатар вярнуўся Ян Х у Рым. А імператар Берэнгар загінуў у тым жа 924 годзе ў Вероне ад рукі забойцы, і з той пары імператарская карона была назаўсёды згублена італійскім народам, як і патрэбна было чакаць пры глухім месцаванні Рыма. А панаванне жанчын у Італіі працягвалася. Ірменгарда, удава Адальберта, марк-графа Іўрэйскага, сваім харастввом умела прыцягнуць да сябе ламбардзкую шляхту: біскупы, графы і каралі пакорліва схіляліся да яе ног. Паспеўшы завабіць у свае сеткі самога Рудольфа Бургундзкага, новая Цырцэя зняла з яго галавы ламбардзкую карону, каб ускласьці яе на свайго зводнага брата Гуго.

З усімі гэтымі планамі супадалі і інтарэсы рымскага пантыфекса. Ён быў вельмі абмежаваны ў Рыме партыяй «Марусі», якая ўспадкавала прыхільнікаў і магутнасць сваіх, ужо памёршых, бацькоў. У 926 годзе ў Павіі Гуга быў абвешчаны каралём Італіі, але Ян ашукаўся ў выніках сваіх захадаў. Улада «Марусі» была ў гэты час яшчэ больш вялікая, чым калі-небудзь. Як толькі яна дазналася, што Гуга мае быць прызначаным каралём Італіі, яна вырашыла шукаць апірышча ў яго магутнага зводнага брата маркграфа Тусцыйскага Гвіда, і прапанавала яму сваю руку. Гвіда не пагрэбаваў рукой заможнай рымскай senatrix і пасьля вяртання яго ў Рым, няшчасны пантыфекс мог стаць толькі ахвярай сваіх ворагаў. Найміты Гвіда схапілі яго і, згодна з загадам «Марусі», заняволілі ў замак св. Анёла. Рымскі plebs радаваўся кожнаму зрынанню пантыфекса і падтрымаў рэвалюцыю. Дзякуючы Тэадоры Ян Х набыў пантыфікальную карону, а яе дачка «Маруся» пазбавіла яго і кароны і жыцця.

Наступнікамі Янам Х былі два не самастойныя пантыфексы, крэатуры «Марусі», якая зараз зрабілася ўсёмагутнай. Трэцці вялікі рымскі пантыфекс, юны Ян XI, быў сынам гэтай рымлянкі, якая загадала тытулаваць сябе ***патрыцыянкай***. Бацькам яго лічыўся Сергій III, але гэта не вельмі верагодна. У тую пару, другі чалавек «Марусі», Гвіда Тусцыйскі, узведзены, вядома, рымлянамі ў сан патрыцыя, ужо памёр, і яго марк-графства перайшло да яго брата Ламберта. «Маруся», ледзь

заўдавеўшы, вырашыла адружыцца ў трэцці раз і спыніла свае намеры на Гуга, каралю Італіі.

Урачыстасць іхнага адружання адбывалася ў Рыме ва ўмацаваным замку св. Анёла. Пад час гэтай эпохі «класічная гісторыя» замка св. Анёла была яшчэ невядомай, на працягу стагоддзяў ён служыў у якасьці ўмацавання і быў самым умацаваным месцам у горадзе.

«*І цікава*, – сведчыць Грэгарэвіус[209], – *што Ліутпранд, асабіста бачыўшы маўзалей Адрыяна, называе замак проста ўмацаваннем, не згадваючы імя імператара Адрыяна. Дакладна так жа не называе Ліутпранд замак і «сядзібай Тэадорыха», – імем, пад якім маўзалей, згадваецца ў сучаснага Ліутпранду франкскага летапісца. Здавалася б Ліутпранду патрэбна было б пры выкладанні падзей таго часу апісаць замак, як гэта зрабіў «апакрыфіст» Пракоп, паведамляючы пра штурм готаў. Але даўніна*, – працягвае Грэгарэвіус[210], – *была ўжо забыта людзьмі, і толькі вось што змог паведаміць Ліутпранд:*

«*Пры ўваходзе ў горад стаіць умацаванне здзіўляючай прыгажосьці і трываласьці. Перад яго брамай праз Тыбр перакінуты выдатны мост, па якому праходзяць з дазволу брамнай варты накіроўваючыся ў Рым і выходзячыя із яго. Само ўмацаванне, замоўчваючы пра ўсё іншае, такое высокае, што пабудаваная наверсе яго царква ў гонар архістратыга Міхала завецца царквой св. Анёла ў Нябёсах*».

Гуга быў уведзены ў замак св. Анёла, дзе адбылося адружанне, якое здзяйсняў, напэўна, родны сын «Марусі» Ян XI. Але нечаканы пераварот у Рыме зрабіў немагчымым каранаванне Гуга ў імператары. Маючы ў сваіх руках замак і будучы перакананым у сваёй блізкай і поўнай перамозе, ён пачаў пагардліва ставіцца да шляхетных рымскіх людзей і сьмяротна абразіў свайго юнага пасынка Альберыха, варожа ставіўшагася да адружання сваёй маці. Падахвочваемы ім народ схапіўся за зброю і кінуўся браць прыступам замак св. Анёла, дзе знаходзіліся Гуга і «Маруся». Напалоханы кароль спусьціўся ноччу па вяроўцы са сьцяны горада і збег у Ламбардыю, страціўшы такім чынам і жонку і імператарскую карону. Альберых быў абвешчаны рымскім валадарам і першай яго справай было заняволіць сваю маці ў турму, а свайго брата, пантыфекса Яна XI аддаць пад варту ў Латэране.

З гэтага моманту Рым ператварыўся ў шляхетную рэспубліку. Рэлігійная сталіца сьвету на некаторы час далучылася да шэрагу невялікіх італійскіх рэспублік, якімі былі Венецыя, Неапаль і Беневент. Рым зрабіўся вольнай свецкай дзяржавай, і яго пантыфексу пакідалася адна духоўная ўлада, як гэта было і раней.

«*Новаму кіраўніку*, – сведчыць Грэгарэвіус, за якім я амаль даслоўна паўтараю ў выкладанні фактычнай часткі, – *не было афіцыйна прысвоена званне рымскага консула ці патрыцыя, як згодна са звычаем яго звалі сучаснікі. Сан патрыцыя хаця і пазначаў тады таксама ўсю свецкую і судовую ўладу ў Рыме, але ён быў аб’яднаны з уяўленнем пра намесьніцтва імператара, адпаведна таму, чым некалі быў сан экзарха. Такім чынам тут мелася на ўвазе існаванне стаяўшай над ім вярхоўнай улады. А зараз было непажадана прызнаваць чыю б то ні было вярхоўную ўладу, і таму Альберыху быў нададзены тытул princeps atque omnium romanorum senator, і подпіс яго на актах, адпаведна стылю таго часу быў: «мы, Альберых, літасьцю боскай пакорлівы валадар і сенатар усіх рымлянаў». Із двух санаў: валадар і сенатар для Рыма быў новым толькі першы, які служыў сьведчаннем незалежнасьці горада і самастойнасьці ўтворанай ім*

[209] Грэгарэвіус, кніга 6, гл. II.

[210] Т. III, стар. 244

*дзяржавы. Гэты ж тытул валадара* (princeps) *прысвоіў сабе і Арыхіс Беневентцкі, калі пасьля заваявання Павіі ён абвясьціў сябе незалежным валадарам.*

*Дзякуючы таму што каралеўская ўлада была адасоблена ад пантыфікальнай, то пад тытулам princeps, мелася на ўвазе свецкая ўлада ў процівагу духоўнай, якая захоўвалася за пантыфексам, і гэты тытул ставіўся значна вышэй тытула senator, што бачна із дыпломаў і хронік, у якіх часам апошні не згадваецца. Яго таксама няма і на рымскіх манетах Альберыха. Муніцыпальны сан «сенатар рымлянаў» быў уведзены яшчэ Тэафілактам, але зараз дадаваннем слова «ўсіх» яго значэнне было падвышана, і Альберых быў такім чынам прызнаны кіраўніком як шляхты так і народа»*[211].

У VIII стагоддзі яшчэ няма ніякіх згадак пра дзейнасць рымскага сената, ды і пры Каралінгах яго існаванне нічым не выяўляецца, а ў гісторыкаў IX-X стагоддзяў і ў дакументах гэтых стагоддзяў назва сенат сустракаецца вельмі часта. Гэта азначае, што і ўсе «класічныя пісьменнікі», згадваючыя пра «рымскі сенат» пісалі не раней IX-X стагоддзяў. З той пары як была створана Сьвятая рымская імперыя, з'явіліся тытулы: імператар і аўгуст (часта атаясамляемы з Актавіянам Аўгустам) і пачало адзначацца пост-консульства імператараў. Слова сенат было настолькі ўжываемым у IX-X стагоддзях, што сустракаецца нават у актах аднаго сабора, на якім было пастаноўлена, што рымскі вялікі пантыфекс абіраецца ўсім сьвятарствам, згодна з прапановай «сената і народа». Такім быў акт сабора Яна IX у 898 годзе: constituendus pontifex eligatur expetente Senatu et Populo. (Той, каму належыць быць пантыфексам, абіраецца адпаведна жаданню сената і народа.) Такой жа з’яўляецца і петыцыя Равэнскага сабора ў тым жа годзе: si quis romanus cujuscumque sit ordinis, sive de clero, sive de Senatu. (Калі ён рымлянін якога-небудзь звання са сьвятарства ці із сенату.)

«*Але думка тых гісторыкаў*, – працягвае Грэгарэвіус, – *якія на падставе такога ўжывання нібы старажытнай назвы лічыць, што сенат працягваў існаваць і да X стагоддзя, не вытрымлівае сур'ёзнай крытыкі. Сенат не мог існаваць без сенатараў, г.азн. асобных сябраў, якім была б нададзена такая адметная назва. А мы знаходзім у незлічоных актах той эпохі, таксама як у актах папярэднічаўшых часоў, подпісы рымлянаў, як консулаў і герцагаў* (dux), *але не знаходзім ніводнага такога, у якім рымлянін быў бы названы «сенатарам». Тэафілакт быў першым рымлянінам, які назваў сябе «сенатар рымлянаў», а дадаванне да гэтага слова «ўсіх» сведчыць, што ні пра які арганізаваны сенат не магло быць тады і гаворкі. Дакладна так жа немагчыма дапусьціць, што тытул сенатара, прыняты Альберыхам, быў роўназначным з тытулам «сеньёр». Мы лічым, што тытул сенатара ў гэтым выпадку пазначаў грамадзянскую ўладу Альберыха. Усклаўшы на яго пажыццёвае консульства рымляне пазначылі больш шырокія паўнамоцтвы Альберыха ў межах новай рымскай рэспублікі санам сенатара «ўсіх рымлянаў». Не патрэбна таксама выпускаць із-пад увагі і тую акалічнасць, што і ў больш познія часы ў Рыме нярэдка быў толькі адзін сенатар. Акрамя таго, гэты тытул выяўляецца спадчынным толькі ў сям'і Альберыха, але ні ў якой іншай, таму што і жанчынам яго сям'і – яго цётцы, малодшай сястры «Марусі», Тэадоры і яе дочкам, таксама «Марусі» і Стэфаніі, быў таксама прысвоены поўны тытул senatrix omnium romanorum. Такім чынам, пяць жанчын у Рыме зваліся сенатаркамі, тады як у той жа самы час ніводны рымлянін не меў сану сенатара, за выключэннем Альберыха і потым яго нашчадка Рыгора Тускуланскага*».

У гэты час у Рыме існавалі толькі сьвятарства, шляхта і народ, а адукаванага сярэдняга грамадзкага стану не існавала.

---

[211] Грэгарэвіус, Гісторыя горада Рыма пад час сярэдневечча, кн. 6, гл, II.

«*Мы*, – выказваецца Грэгарэвіус[212] – *старанна шукалі ў дакументах таго часу нейкія сьляды жыцця рымскіх грамадзянаў і толькі дзе-нідзе знайшлі ўказанне на існаванне заняткаў і рамёстваў з такімі пазначэннямі, як lanista, opifex, candicator, sutor, negotiator. У воўнаўзбівальнікаў, залатых спраў майстроў, кавалёў, рамеснікаў і купцоў яшчэ не ўзнікла думка, што і яны таксама маюць права на ўдзел у кіраванні горадам. Толькі пры абранні пантыфекса падавалі яны свой голас – акламацыяй, ды збіраліся дзеля вырашэння грамадзкіх справаў на паседжанні цэхаў, адбываючыхся пад старшынствам старшын. Усе гэтыя людзі знаходзіліся ў залежнасьці ад шляхты так жа, як і коланы ці арандатары, існаваўшыя ў якасьці кліентаў, пад яе ж абаронай*».

Каб замацаваць сваё становішча, Альберых павінен быў засяродзіць сваю ўвагу на арганізацыі войска. Гарадзкую міліцыю ён схіліў на свой бок тым, што ўзяў на сябе вярхоўнае кіраванне над ёю і выплату ёй пенсіёнаў і, разам з тым, яна была рэарганізавана. Магчыма, што пры Альберыху ж горад быў упершыню падзелены па 12 псеўдакласічных акруг, і ў кожным з іх быў заснаваны полк міліцыі са сваім кіраўнікам, баючыся магчымых інтрыг варожых яму служак культу.

Дыпломы Альберыха так жа, як гэта рабілася і раней, пазначаны годам адпаведнага пантыфікату; але на манетах пры Альберыху ўжо кляпалася яго імя, як раней кляпалася імя імператара. Судовыя паседжанні звычайна адбываліся ў Латэране ці ў Ватыкане ў прысутнасьці пантыфекса, імператара ці іхнага упаўнаважанага, але з той пары як свецкая ўлада была забрана ў пантыфекса Альберыхам, самая высокая судовая інстанцыя была перанесена на «рымскага princeps'a». Як і раней, суд зараз адбываўся ў розных месцах, але характэрнай рысай для новага ўпарадкавання было тое, што Альберых зрабіў месцам судовага разбору таксама і свой уласны палац.

У той жа час пачалі развівацца і манастэрыянскія ордэны. А які было тагачаснае манастэрыянства, мы даведаемся із наступнага паведамлення Грэгарэвіуса, якое я прывожу даслоўна.

«*Манастэрыён Фарфа быў пабудаваны абатам Рафрэдам, які ў 936 годзе быў забіты двума сваімі манахамі, Кампа і Гільдэбрандам. Кампа, шляхетны сабінянін, прыйшоў у манастэрыён яшчэ будучы юнаком. Ён навучаўся ў абата граматыцы і медыцыне і сваё грунтоўнае знаёмства з апошняй даказаў атручваннем свайго настаўніка. Атрымаўшы потым ад караля сан абата, Кампа разам з абатам Гільдэбрандам вёў вельмі свецкае жыццё. І Кампа, і Гільдэбранд, хаця і былі сапраўднымі «манастэрыянцамі», мелі па жонцы. У Кампа, жанатага на Луізе, было сем дачок і тры сыны, і ўсіх іх ён забяспечыў па-княску. Ён раздаваў манастэрыёнскія маёнткі ў арэнду сваім прыхільнікам і ваярам, і паводзіў сябе ў Сабане як валадар.*

*Дакладна такім жа чынам гаспадарыў і Гільдэбранд у Фермо. Аднойчы ён наладзіў вялікае баляванне ў сваёй рэзідэнцыі Санта Вікторыя, дзе былі яго сыны, дочкі і шмат рыцараў, але калі ўсе баляваўшыя былі п'янымі, у замку здарыўся пажар і вынішчыў яго скарбы. Згодна з прыкладам абатаў дзейнічалі і манастэрыянцы; кожны меў жонку і быў з ёю павенчаны ў царкве. Манастэрыянцы не жылі ў манастэрыёнах, а размяшчаліся ў вілах, і з'ўляліся ў Фарфу толькі па нядзелях, каб прывітаць адзін аднаго*»[213].

Такім было «манаства» нават і ў X стагоддзі! Абаты тады мелі законных жонак і дзяцей, г.азн. цалкам не былі манахамі, і гэта трэба прыняць, як карэктыву наданых нам уяўленняў пра тагачаснае жыццё сьвятарства на Захадзе.

---

[212] Грэгарэвіус, т. VI, глава II.
[213] Грэгарэвіус, кн. 6, гл. II.

Вось чаму я і называю іх тут не манахамі, а манастэрыянцамі, іхнай першапачатковай назвай.

У ліпені 939 года Леў VII памёр, і на яго месца заступіў рымлянін Стэфан VII. Пра яго кіраванне гісторыя амаль нічога не паведамляе, бо пры Альберыху рымскія пантыфексы толькі падпісвалі свае імёны на булах. Альберых паспяхова змагаўся з Гуга, які не пераставаў дамагацца імператарскай кароны. Ужо ў 931 годзе Гуга абвясьціў свайго юнага сына Лотара суваладаром і каралём Італіі. У 938 годзе разлічваючы ўмацаваць сваё становішча ён адружыўся з Бертай, удавой Рудольфа II Бургундзкага, а з яго дачкой Адэльгейдэ, стаўшай пазней знакамітай, адружыў сына. Але 22-га лістапада 910 года юны кароль Лотар раптам памёр у Турыне, а 15 снежня Бerэнгар Іўрыйскі усклаў на сябе ламбардзкую карону, пры гэтым загадаў таксама каранаваць і свайго сына Адэльберга. Такім чынам у Італіі зноў існавалі два нацыянальныя каралі, меўшыя ў далёкай перспектыве імператарскую карону. Дзякуючы таму што прыгожая жонка яго папярэдніка на пасадзе Італіі выклікала ў Берэнгара недавер, то ён 20 красавіка 951 года заняволіў Адэльгейду ў турму, спачатку ў Кома, а потым у вежу на Гардзкім возеры. Але адважная жанчына збегла ў Рэджыо і замест таго, каб імкнуцца да ўсталявання ў сваёй краіне нацыянальнага ўрада, зноў паклікала ў Італію чужака. Ужо вядомы сваімі ваярскімі ўчынкамі кароль Атон выступіў з войскам із Германіі, прапанаваўшы сваю руку Адэльгейдзе. Адружанне адбылося на прыканцы 951 года ў Павіі, і юная каралева Ламбардыі, якая аддалася ў моцныя рукі Атона, выявілася сімвалам пакарыўшайся яму Італіі.

У такім становішчы былі справы верхняй Італіі, калі «валадар і сенатар усіх рымлянаў» пакінуў падмосткі гісторыі. Альберых памёр у Рыме ў 954 годзе ў стане самага росквіту сваіх здольнасьцей, але дынастыя яго не згасла разам з ім і з яго сынам Актавіянам, але забуяла шматлікімі адгалінаваннямі і ў XI стагоддзі другім разам набыла ўладу над Рымам у асобе герцагаў Тускуланскіх.

Да нас не дайшло рымскіх манет часу Актавіяна, але няма сумневаў, што ён таксама выбіваў на іх сваё імя і тытул, і таму ўзнікае пытанне, ці не яму належаць манеты, прыпісваемыя Актавіяну-Аўгусту, г.азн. Найясьнейшаму, як тытулаваўся і сярэднявечны Актавіян?

Восенню 955 года, калі пантыфекс Агапіт II памёр, гэты юны валадар рымлян прыняў яго званне. Акрамя саракцкага летапісца, ніводзін із гісторыкаў не згадвае пра тое, што Актавіян атрымаў нейкую духоўную адукацыю. Стаўшы рымскім пантыфексам, ён замяніў сваё імператарскае імя на імя Яна XII, і з той пары перамена ранейшага імя пры ўзвядзенні на пантыфікальны пасад стала правілам. Аднак схільнасць Яна быць свецкім валадаром значна перавышала яго гатоўнасць несьці духоўныя абавязкі. Неўзабаве ён страціў якую б то ні было разважлівасць. Яго Латэранскі палац ператварыўся ў месца весялосьці і, падобна біблейскаму цару Саламону, ён завёў сабе гарэм[214]. Замест царквы ён аднойчы здзейсніў пасьвячэнне ў дыяканы ў стайні, вярнуўшыся з балявання, на якім ухваляў старажытных багоў. Палітыку бацькі, у якой трываласць улады дасягалася абмежаваннем яе вядомымі межамі, Ян як рымскі пантыфекс працягваць не мог, і, нарэшце, пабачыў сябе вымушаным дзеля захавання сваіх свецкіх уладанняў, паклікаць на дапамогу караля Атона.

[214] Deligebat collectio feminarum (Vitae paparum, Muratori. Ill, 2, 327).

# Частка IV.
## Дарэмныя спробы Рыма зрабіцца сталіцай моцнай дзяржавы.

Кароль Атон прыняў на сябе абавязак ахоўваць рымскую царкву і набыў з некаторымі абмежаваннямі ўсе правы імперскай улады каралінгаў.

«*Калі богу будзе дагодна, каб я прыйшоў у Рым, – абвяшчала клятва Атона, – то я, адпаведна сваім магчымасьцям, буду спрыяць узвышэнню царквы і твайго, яе вярхоўнага кіраўніка. З маёй згоды і ў выпадку майго ведання не будзе прыносіцца ні ў чым шкода, ні табе, ні твайму сану. Ва ўсім, што мае дачыненне да цябе ці рымлянаў, я не буду прымаць нейкіх рашэнняў без тваёй згоды. Усё тое, што належыць св. Пятру і выявіцца пад маёй уладай, я вярну табе. І той, каму мне давядзецца перадаць каралеўства Італія, павінен прынесьці клятву, што ён адпаведна сваім магчымасьцям будзе табе дапамагаць у абароне царкоўнай дзяржавы*».

Пасьля гэтага Атон і Адэльгейда былі каранаваны ў саборы св. Пятра з урачыстасьцю яшчэ ніколі нябачанай.

Так італьянцы зноў паспрабавалі зрабіць Рымскую імперыю сваёй нацыянальнай, але іхная спроба зноў закончылася няўдачай дзякуючы геаграфічнай непрыдатнасьці Італіі для цэнтра магутнай імперыі, і сам пантыфікат, нягледзячы на падарункі пілігрымаў, зноў пачаў шукаць сваё выратаванне ў імператарскай уладзе, далёкай ад Італіі і Рыма. І вось, я яшчэ раз задаю чытачу сваё пытанне: якім жа чынам італійскі Рым мог быць магутнай дзяржавай, калі яшчэ не быў рэлігійным цэнтрам, і шляхі паведамленняў былі нашмат горшымі? Ніяк не мог!

Уплыў Германіі хутка адбіўся і на рэформе царквы і на развіцці навук, а ў Італіі з'явіліся гарадзкія рэспублікі, даўшыя пачатак і сучасным фантастычным паданням пра старажытны рэспубліканскі Рым.

«*Германія і Італія, гэтыя дзьве краіны ў якіх пачатак германскі і антычны знайшлі свае найбольш яскравыя адлюстраванні, у якіх чалавечая думка дасягнула найвялікшай магутнасьці* – выказваецца той жа Грэгарэвіус[215], – *былі прыведзены гістарычнай патрэбай да хаўрусу, захоўваўшаму сваю дзеяздольнасць на працягу доўгага часу*».

13 лютага імператар Атон падараваў рымскаму пантыфексу хартыю, якою за ім і яго пераемнікамі «пакідаліся ўсе правы і ўладанні, падараваныя сьвятому пасаду ранейшымі дамовамі з каралінгамі». Хаця яе як форма так і змест збольшага абуджаюць сумневы, але бясспрэчным з'яўляецца тое, што Атон зноў зацьвердзіў царкоўную дзяржаву ў тым аб'ёме, якой яна існавала пры каралінгах, і разам з тым захаваў за сабой права зацьведжання абрання папы і адпраўленне правасуддзя ў Рыме праз імператарскіх амбасадараў. Сам пантыфекс прынёс прысягу ў вернасьці імператару, абяцаючы ніколі не здраждваць яму і не пераходзіць на бок Бэрэнгара.

Але ледзь толькі Атон пакінуў Рым, як у асяроддзі рымскай шляхты зноў узнікла не маючая шанцаў для поспеху фантазія зрабіць цэнтрам сусветнай дзяржавы не прыстасаваны для гэтага згодна са сваім геаграфічным і палітычна-эканамічным месцаваннем Рым, і юны пантыфекс Ян, падахвочваемы шляхтай, пачаў перамовы з Берэнгарам і Адальбертам. Германская імператарская партыя ў

[215] Грэгарэвіус, кн. 6, гл. III.

Рыме, аднак, сачыла за кожным яго крокам і паведаміла пра яго здраду Атону, калі ён вясной 963 года знаходзіўся ў Павіі.

Атрымаўшы такую вестку, Атон восенню 963 года пакінуў замак Сан-Леонэ і пайшоў у Рым, а рымскі пантыфекс, сабраўшы храмавыя скарбы, збег у Камнанью і тут схаваўся, напэўна, у Цівалі. Прыхільнікі нацыянальнай італійскай імперыі склалі зброю, як і трэба было чакаць, без бою, далі Атону закладнікаў і 3 лістапада 963 года германскі імператар у другі раз уступіў у Рым.

6 лістапада ён склікаў сабор у базіліцы св. Пятра. У запрашальным лісьце да Яна было напісана:

«*Вярхоўнаму пантыфексу і сусьветнаму айцу, валадару-Яну, Атон, літасьцю боскай імператар, жнівень, з арцыбіскупамі Лігурыі, Тусцыі, Саксоніі і зямлі франкаў шле прывітанне ў госпадзе. Прыбыўшы ў нашым служэнні богу ў Рым, мы запыталі рымскіх біскупаў, кардыналаў і дыяканаў, а таксама і ўвесь народ, чаму вы адсутнічаеце і не жадаеце бачыць нас, вашага і вашай царквы абаронцу. У адказ мы пачулі пра вас такія ганебныя рэчы, што нас кінула б у чырвань ад сораму нават тады, калі б усё гэта гаварылася пра нейкага камедыянта. Мы нагадаем вашай сьвятасьці толькі сёе-тое, таму што для пералічэння ўсяго не хапіла б і цэлага дня*.

*Ведайце, што не асобныя людзі, а ўсе, і парафіяне, і духоўныя, абвінавачвалі вас у забойстве, блюзнерстве, кровазмяшанні з вашымі ўласнымі сваячкамі і вашымі дзвума сёстрамі*[216].

*Яны паведамляюць пра вас яшчэ такое, ад чаго дрыжыкі працінаюць, – што вы пілі за здароўе дз'ябла і, гуляючы ў косткі, кляліся імем Зеўса, Венеры і іншых злых дэманаў. Таму мы пераканаўча просім вашу айцоўскую літасць прыбыць у Рым і ачысціць сябе ад усіх гэтых абвінавачанняў. Калі вы асьцерагаецеся нястрыманасьці з боку народа, то мы сьвята абяцаем вам, што нічога не будзе зроблена супярэчачага кананічнаму закону. Дадзена 6 лістапада*.

Абвінавачаны адказаў са свайго сховішча коратка:

«*Ян, біскуп, раб рабоў Госпадавых, усім біскупам. Мы чулі, што вы маеце намер абвясьціць іншага пантыфекса. Калі вы гэта зробіце, я адлучваю вас уладай усемагутнага бога ад царквы, і вы не будзеце мець права ні здзяйсняць пасьвячэнні, ні служыць абедні*».

Пасьля прачытання ў Рыме гэтага адказу, Ян XII, не меўшы там абаронцы, быў абвешчаны злачынцам і дзяржаўным здраднікам, і пазбаўлены пасады. На месца яго імператар прызначыў кандыдатам аднаго шляхетнага рымляніна, і 4 снежня ён быў абраны, а 6-га – пасьвечаны пад імем Ільва III, хаця і належаў да ліку парафіянаў.

Але як толькі Атон у студзені 964 года з'ехаў з Рыма, так Ян вярнуўся ў яго ў суправаджэнні сяброў і васалаў. Леў III адразу ж пабачыў сябе пакінутым усімі і збег з невялікай сьвітай да імператара ў Камерына.

26 лютага Ян склікаў сабор у базіліцы св. Пятра. Біскупы Албана і Парто прызналі сябе вінаватымі ў тым, што «здзейснілі пасьвячэнне над Ільвом і абодва былі пазбаўлены свайго сану. Сіко Астыйскі, правёўшы Ільва праз усе стадыі царкоўнага пасьвячэння, быў таксама пазбаўлены сьвятарскага сану.

Атон зноў накіраваўся ў Рым, але перш чым ён паспеў дайсьці да горада, яму паведамілі пра сьмерць Яна XII. Распавядалі, што ноччу, сярод сваіх амурных прыгод па-за Рымам, ён патрапіў у рукі дз'ябла, з'явіўшагася перад ім у вобразе абражанага чалавека. Ён нанёс Яну ўдар у галаву, і праз 8 дзён пасьля таго, 14 траўня 964 года, Ян памёр.

---

[216] Viduam Rainerii et Stephaniam patris concubinam et Annam viduam cum nepte sua abusum esse, et palatium Lateranense lupanar et prostitulum fecisse (Luilprand, c. 10).

Але і пасьля яго сьмерці рымляне не прызналі папай Ільва III, пазбаўленага пасады 26 лютага. Яны вырашылі яшчэ раз выказаць супрацiў імператару. Пасьля вялікіх разладаў сярод розных партый міліцыяй быў абраны і абвешчаны пантыфексам кардынал-дыякан Бенедыкт.

Атон зноў з'явіўся ў Рым і склікаў сабор у Латэране. Няшчасны Бенедыкт, абраны рымлянамі, быў уведзены ў залу паседжанняў у пантыфікальным уборы і архідыякан прапанаваў яму адказваць на пытанне:

– «Якім чынам, ты, Бенедыкт, адважыўся ўскласьці на сябе знакі найсьвяцейшага сану, ведаючы, што яшчэ жывы твой валадар і пантыфекс Леў, у абранні якога ты сам браў удзел пасьля пазбаўлення пасады Яна? І як ты мог парушыць клятву, дадзеную свайму, тут прысутнічаючаму імператару, у тым, што без яго згоды ніколі не будзе абірацца пантыфекс?

– «Калі я зграшыў, я прашу літасьці»! – усклікнуў Бенедыкт, распасьціраючы рукі з маленнем.

Пры выглядзе такой пакоры Атон звярнуўся да сабора з прашэннем пра яго памілаванне. Леў III разрэзаў палій у антыпапы, забраў із яго рукі жазло, зламаў яго, загадаў сесьці на падлогу, зняў з яго пантыфікальное адзенне і пазбавіў духоўнага звання.

Правёўшы сьвята Пятра ў Рыме, Атон пакінуў горад 1 ліпеня 964 года і забраў з сабой Бенедыкта, якога пазьней выправіў у выгнанне ў Гамбург. А праз два гады прэфект горада Рыма Пятро падняў паўстанне супраць пантыфекса Яна XIII, наступніка Ільва VIII.

Правадыры міліцыі схапілі яго 16 снежня, заняволілі ў замак св. Анёла і потым выправілі ў Кампанью. Паўстанне мела дэмакратычны характар, таму што галоўную ролю ў ім бралі, побач з прэфектам горада, самыя ніжэйшыя станы насельніцтва (vulgus populi). Гаворка зноў ішла пра вызваленне Рыма ад чужацкага ярма, але і гэтае паўстанне скончылася таксама трагічна.

Восенню 966 года Атон прыбыў у Італію і аддаў прэфекта ў распараджэнне вызваленага перад гэтым пантыфекса Яна XIII, а апошні загадаў павесіць яго за валасы на Латэранскім пляцы на коннай статуі Caballus Constantini, якая дарэмна лічыцца класікамі зараз за статую Марка Аўрэлія.

«*Пры гэтым незвычайным учынку,* – сведчыць гісторык горада Рыма пад час сярэдневечча[217], – *толькі ўпершыню і з'яўляецца на сьвет са змроку мінулых часоў знакаміты помнік старажытнасьці, які да гэтага часу служыць лепшым упрыгожваннем Капітолія. Вакол гэтай статуі бурыліся храмы, базілікі і порцікі, сама ж яна заставалася непашкоджанай, як самотны геній вялікага мінулага Рыма*».

Але ці праўда некалі бурыліся вакол яе храмы і базілікі? І ці праўда яна адвображвае Марка Аўрэлія, ці Кастуся I? Сам жа Грэгарэвіус адказвае на гэта:

«*Імя статуі было забыта, і з гэтым творам мастацтва народная фантазія злучыла толькі наступную легенду. «У той час, калі горад кіраваўся консуламі, ён быў абложаны каля Латэранскай брамы чужацкім каралём. Нейкі збраяносец, ці селянін-волат прапанаваў гораду вызваліць яго ад бяды, але ў якасьці ўзнагароды запатрабаваў сабе 30 000 сестэрцыяў і помнік пра свой учынак у выглядзе пазалочанай коннай статуі. Сенат пагадзіўся на такую прапанову. Селянін сеў на неасядланага каня і ўзяў у руку серп. Ведаючы, што чужацкі кароль ноччу здзяйсняе свае натуральныя патрэбы пад адным дрэвам, – а ведаў ён пра гэта дзякуючы саве, якая ў такія моманты пачынала крычаць, – ён паланіў караля. Рымляне напалі на варожы лагер, застаўшыся без кіраўніка, і*

[217] Грэгарэвіус, кн. 6, гл. III.

*завалодалі вялікай здабычай. Сенат выдаў вызваліцелю абяцаную ўзнагароду і загадаў зрабіць із пазалочанай бронзы каня без сядла і на ім вершніка з працягнутай правай рукой, якою быў схоплены кароль. На галаву каня была прымацавана выява савы, а сам кароль быў адвабражаны са звязанымі нагамі, ляжачым пад капытом наступаючага на яго каня*».

Зараз у каня на ілбе – чубок, а не сава, і ўжо няма лежачага пад канём звязанага ваеннапалоннага. Гэтая легенда належыць, напэўна, ужо X стагоддзю, і ёй можна верыць у такой жа ступені, як і таму, што статуя адвображвае Марка Аўрэлія.

А што ж было потым з прэфектам, павешаным за валасы па гэтага каня? Ён быў зняты яшчэ жывым, распрануты дагала і пасаджаны верхам на асла, тварам да хваста, да якога быў прывязаны званочак. Прэфект павінен быў трымаць гэты хвост, як павадок, на галаву яго быў надзеты мяшок, утыканы пер’ем, і такія ж мяшкі затулялі ногі. У гэтым выглядзе ён быў правезены па ўсяму Рыму і выпраўлены за Альпы ў выгнанне.

Цэлых шэсць гадоў Атон быў вымушаны знаходзіцца у Італіі. Адсюль ён выправіў амбасаду ў Канстантынопаль да Нічыпара Факі, каб заключыць з ім мірнае пагадненне і прасіць у яго для свайго сына руку дачкі Рамана II.

Знакаміты Ліутпранд прыбыў з гэтай амбасадай у сталіцу Ўсходу 4 чэрвеня 968 года, але не хутка атрымаў аўдыенцыю. Дапусьціўшы, нарэшце, амбасадара да свайго стала, Нічыпар не хаваў сваёй пагарды да яго і заўважыў, што называючыя сябе ў Італіі рымлянамі не больш, як варвары і ламбардцы.

– «Рымляне, – быццам бы адказаў на гэта Ліутпранд, верагодна яшчэ разумеючы пад гэтым найменнем рамеяў (грэкаў), – паходзяць ад братазабойцы Ромула і рабаўнікоў, і мы – ламбардцы, саксы, франкі, лотарынгцы, швабы і бургундцы – пагарджаем рымлянамі настолькі, што называем іх найменнем нашых ворагаў, бо з найменнем «рымлянін» мы злучаем усё, што існуе на сьвеце невысакароднага, карыслівага, пачуццёвага і хлуслівага».

На прапанову Ліутпранда адружыць падчарку імператара Тыяфану з сынам Атона быў дадзены такі адказ:

– «Калі вы вернеце тое, што належыць нам, вы атрымаеце тое, чаго вы жадаеце. Аддайце нам Равэну, Рым і ўсе землі, прылягаючыя да іх і распасьціраючыяся да нашых правінцый. Калі ж твой валадар мае жаданне заключыць хаўрус, не ўступаючы ў сваяцтва, то хай ён верне Рыму волю».

Толькі на заканчэнні 968 года Ліутпранд змог, нарэшце, пакінуць Канстантынопаль, пройшоўшы праз бясконцы шэраг выпрабаванняў, апісаных ім, дарэчы, больш з гумарам, чым з гаркатой.

Для нас тут уяўляе цікавасць адзін дыплом Яна XIII, маючы дачыненне да знакамітага горада Лацыума – Прэнэстэ, месцаваўшагася на схіле гары на адлегласьці 24 міляў ад Рыма, адкуль яго можна бачыць няўзброеным вокам. Класікі пераконваюць нас, што Марый кінуўся там на свой меч, што Сула разбурыў Прэнэстэ, але потым пабудаваў у ім велічны храм Фартуны; што Фульвія адказала адсюль Актавіяну Аўгусту адмовай і што з ёю тут была Лівія, спачатку суперніца, а потым жонка Аўгуста, і што паэты – Авідый, Гарацый і Вяргілій шанавалі гэты ўпрыгожаны лаўрамі горад багіні шчасьця. Потым, у часы варвараў, – кажуць нам, – ён заняпаў; яго храмы, базілікі і тэатры ператварыліся ў адны руіны, і шыкоўныя стварэнні трох розных эпох старажытнасьці зніклі, нарэшце, у кучах смецця і ўсё было аддадзена забыццю. А праўдзівая гісторыя паведамляе нам толькі тое, што ў

X стагоддзі Прэнэстэ быў адным із сямі рымскіх вікарных біскупстваў і быў пастаўлены пад заступніцтва св. Агапіта.

Гэтаму сьвятому, які да гэтага часу лічыцца патронам горада, і прысвечаны сабор, пабудаваны быццам бы на знікшых парэштках старажытнага храма Фартуны. У лістападзе 970 года Ян перадаў гэты горад у спадчыннае леннае валоданне сенатарцы Стэфаніі за штогадовую плату роўную 10 залатым солідам. Стэфанія, яе дзеці і ўнукі атрымалі права валодаць горадам, але потым ён павінен быў быць вярнуты царкве. У гэтым дакуменце мы маем толькі прыклад надзялення людзей у Рымскай вобласьці феадальнымі ўладаннямі.

Але вернемся да адружальных прапановаў Атона. Выканаць тое, у чым адмовіў яму Нічыпар, выявіў згоду яго наступнік. Ян Цымісхій прыязна прыняў новых амбасадараў і дачка малодшага Рамана была заручана з Атонам II. Пасталеўшая пад небам Усходу, прызвычаіўшаяся да грэцкай мовы і грэцкага мастацтва, юная Тыяфана высадзілася ў Апуліі і прыбыла ў Рым 14 красавіка 972 года, дзе была сустрэта сваім нарачоным. Юнаму цэзару было 17 гадоў, ён быў яшчэ цалкам юнаком, але добра адукаваным згодна са сваім часам, адважным і валодаў вялікімі здольнасьцямі. Нарачоная, якой было ледзь ці больш 16 гадоў, таксама вызначалася як розумам так і прыгажосьцю.

Здавалася, што Ўсход замірыўся з Захадам... Але дачыненні паміж народамі не залежаць ад індывідуальных спалучэнняў, а таму і гэты бліскучы адружальны хаўрус не даў ніякіх дадатных вынікаў. Яго плёнам быў толькі выдатны дзіцёнак, які быў перапоўнены амаль хваравітай схільнасьцю да ўсяго грэцкага і рымскага. Я не магу тут зноў не пазначыць, што мы толькі ў X стагоддзі сустракаем рымлянаў з «класічнымі» прозвішчамі. Такімі з’яўляюцца Раман і Рыгор а Campo Martio, Ян de Campo Rotundo, Сергій de Palatio, Бенедыкт a Macello sub Templo Marcelli (з рынку каля тэатра Марцэла), Дурант a Via Lata, Ільдубранда a Septem Viis, Грацыян a Bolneo Micino, Ян a S. Angelo, Франка a S. Eustachia, Bonizo de Colossus, Андрэй de Petro, атрымаўшы сваё прозвішча ад завулка каля Калізея. А із гэтага вынікае толькі тое, што самі класікі, згадваючыя пра іх, не такія ўжо і старажытныя.

13 ліпеня 982 года адбылася важная падзея: бітва, у якой пад шаблямі ісламітаў загінулі лепшыя прадстаўнікі германскай і італійскай шляхты. Грэцкі карабель даставіў збегшага Атона ў Расано. Ратуючыся адтуль, уцякач прыехаў у Капую, а потым у Рым, дзе сьмяротна захварэў і памёр у імператарскім палацы пры базіліцы св. Пятра 7 снежня 983 года на 28-м годзе жыцця.

Магільня гэтага адзінага рымскага імператара, які памёр і пахаваны ў Рыме, знаходзіцца на ўсходнім боку атрыума, злева ад уваходу. Цела было памешчана ў саркафаг. У такім выглядзе магільня Атона II захавалася да нашага часу ў падзямеллях Ватыкана, недалёка ад магільні Рыгора V, сваяка Атона II, сярод рымскіх пантыфексаў, спачываючых у сваіх саркафагах у выглядзе мумій.

Пасьля сьмерці Атона II, Італія, прызнаўшы правы яго дзіцяці, зноў добраахвотна падпарадкавалася чужацкаму валадаранню і па ранейшаму працягвала ўскладаць свае надзеі на германскую нацыю, якая дзякуючы сваёй палітычнай магутнасьці непазбежна павінна была панаваць над гэтай ускрайкавай і не маючай металаў краінай. Аднак паводзіны некаторых рымлянаў, якія ўсё яшчэ марылі пра вялікую нацыянальную дзяржаву, абудзілі апасенні ў рэгентшы Тыяфане і падахвоціла яе паскорыць сваё вяртанне ў Рым, куды яе таксама паклікаў і ўціскаемы сваімі супернікамі пантыфекс. Тыяфана ўступіла ў Рым у 989 годзе, і падатлівая Італія выявіла ёй, грачанцы, поўнае падпарадкаванне, Тыяфана

не лічыла што імперская ўлада над Рымам спынілася са сьмерцю свайго чалавека і глядзела на яе, як на спадчыну свайго сына.

На Захадзе яшчэ не было такога выпадку, каб імператарская карона была ў руках жанчыны, але Тыяфана, як грэцкая прынцэса, магла спасылацца на прыклад Ірыны і Фядоры. Улада, якой яна карысталася ў Равэне і ў Рыме, была цалкам уладай імператрыцы, і яе імем вырашаліся судовыя справы.

Пасьля сьмерці Яна XV у 996 годзе і сьмерці сваёй маці Атон III прызначыў пантыфексам Бруна, свайго ўласнага капелана і свайго стрыечніка. Яму было ўсяго 23 ці 24 года, ён атрымаў добрую свецкую адукацыю і меў выбітныя здольнасьці, але вызначаўся палкасьцю і нястрыманасьцю. Яго прызначэнне было такой перамогай германскай імператарскай улады, якая далёка пакінула за сабой ўсё, што было дасягнута нават Атонам Вялікім.

Зрабіўшыся пантыфексам, Бруна, як германец, парушыў звычай, які палягаў у тым, што на пасад св. Пятра ўжо даўно ўзводзіліся толькі рымляне. З часоў сірыйца Захарыя, на працягу 250 гадоў, із 47 папаў толькі двое паходзілі не із Рыма і не із царкоўнай вобласьці: то былі Баніфацый VI, ураджэнец Тусцыі, і Ян XIV, ураджэнец Павіі, а тым часам з часоў Рыгора V рымскі пантыфікат выйшаў за межы ўласна Рыма і рымскай арыстакратыі і набыў сувязь з усім сьветам. Вядома, пры прызначэнні Бруна, інтэрнацыянальны прынцып яшчэ не быў дэкрэтаваны як закон, але ўсё ж яго пачатак паступова ўсталёўваўся сам сабой, таму што вялікія сусьветныя ўздзеянні нават і ў гэтым выпадку выявіліся больш магутнымі, чым галасы рымлянаў, якія нязменна настойвалі на тым, што рымскім пантыфексам павінен быць заўсёды ўраджэнец Рыма.

Заснаваўшы ў Вечным горадзе свой трыбунал і супакоіўшы рымлянаў амністыяй, Атон III напачатку чэрвеня вярнуўся ў Германію, і зноў нацыянальныя пачуцці рымскага народа разгарэліся, хаця і па-ранейшаму безвынікова. З мэтай пазбавіць пасады германскага пантыфекса і яго прыхільнікаў шляхетны рымлянін Крэстэнцый склаў змову. Адбылося паўстанне і 29 верасня 996 года пантыфекс збег і ў кіраванні Рыма здзейснілася поўная рэвалюцыя. Асобы, занімаўшыя месцы суддзяў, былі выгнаны і заменены прадстаўнікамі нацыянальнай партыі. Крэстэнцый абвясьціў сябе патрыцыем і консулам рымлянаў. Вырашыўшы весьці змаганне за ўладу да апошняй магчымасьці, ён быў гатовы хутчэй прызнаць вярхоўную ўладу візантыйцаў, чым ненавісных з нагоды доўгага панавання саксаў. Так заўсёды бывае, калі нейкі народ дзякуючы тым ці іншым непераадольным нагодам яшчэ не можа ўтварыць самастойную моцную дзяржаву: ён кідаецца ад пратэктарату аднаго суседа да пратэктарату другога і наадварот. Крэстэнцый прыязна прыняў грэка Філагата і прапанаваў яму вялікую суму грошай з тым, каб той усклаў на сябе пантыфікальную карону. У траўні 997 года той прыняў прапанову і назваўся Янам XVI. Але, перадаўшы Крэстэнцыю і шляхце свецкую ўладу, Філагат запатрабаваў у рымлянаў прызнання вярхоўнай улады грэцкага імператара, без падтрымкі якога ён не мог мець у Рыме трывалага апірышча.

Але і гэта яму не дапамагло.

Калі пад канец лютага 998 года Атон пайшоў на Рым, ён пабачыў, што гарадзкая брама адчынена для яго. Толькі замак св. Анёла быў заняты Крэстэнцыем і людзьмі яго партыі, якія адважыліся супрацяўляцца тут да апошняй кроплі крыві. Перапалоханы Філагат збег у Кампанью і схаваўся там у нейкай вежы, каб сушай ці морам бегчы да грэкаў. Але германскія вершнікі адшукалі яго, знявечылі, прывалаклі ў Рым і заняволілі ў манастэрыёнскую келлю. У сакавіку зацверджаны

Атонам пантыфекс Рыгор V склікаў сабор у Латэране, і перад біскупамі паўстаў знявечаны анты-пантыфекс. Філагат быў пазбаўлены ўсіх сваіх санаў. Пантыфікальнае адзенне, у якім ён павінен быў з'явіцца на суд, было груба сарвана з яго, яго пасадзілі на паршывага асла тварам да хваста і павезлі па гораду ў суправаджэнні шумнага натоўпу. Ішоўшы наперадзе герольд гучна абвяшчаў, што за ім ідзе чалавек, адважыўшыся назваць сябе вялікім рымскім пантыфексам. Але сапраўдны вінаваты рэвалюцыі ўсё яшчэ працягваў супраціўляцца ў замку св. Анёла. Не маючы ніякай надзеі на выратаванне, Крэстэнцый, відаць, не скарыстаўся нават магчымасьцю збегчы. Ён быў пакінуты рымлянамі. Народ адразу ж адрокся ад яго. Крэстэнцый бачыў выратаванне толькі ў мячах сваіх верных сяброў, застаўшыхся разам з ім у замку св. Анёла і гатовы памерці. І хаця канец прадбачыць было не цяжка, ўсё ж ніхто із яго сяброў не здрадзіў яму.

29 красавіка 998 года замак быў узяты штурмам. Крэстэнцый быў пазбаўлены галавы на сьцяне замка, скінуты ўніз і потым павешаны каля падэшвы Monte Mario.

Зноў адбылося тое, што падцверджвае і без астранамічных вылічэнняў маю выснову, што як Рым, так нават і ўся Італія, ніколі не маглі зрабіцца ініцыятыўным цэнтрам вялікай імперыі і што ўсё, што нам паведамляюць класікі пра старажытны магутны лацінскі Рым, з’яўляецца чароўная казкай.

Рымскія патрыёты доўга аплаквалі няшчаснага Крэстэнцыя, бацькі давалі дзецям яго імя. У гарадзкіх актах аж да XII стагоддзя імя Крэстэнцый сустракаецца надзіва часта, як успамін пра адважнага змагара за незалежнасць Рыма. На яго магіле быў пастаўлены наступны надпіс, захаваўшыся да гэтага часу:

«*Якім выдатным быў валадар і герцаг Крэстэнцый, адгалінаванне на ствале шляхетнага роду! У яго час краіна Тыбра была магутнай і права панавала ў ёй, даючы сьвет і цішыню кіраванню пантыфекса. Але гульня фартуны павярнула кола яго жыцця і выракла яго на жудасны канец. Ты, спяшаючыся атрымаць асалоду ад жыцця, дай яму сваю спагаду*».

І акрамя гэтага шкадавання вечна-нямоглы горад Рым нічым не мог аддзякаваць яму за яго ахвяру!

Жорсткі суд Атона III навёў на рымлянаў жах. Юны германскі імператар з пачуццём задавальнення адзначыў пакаранне сьмерцю Крэстэнцыя ў адной са сваіх грамат і быў упэўнены, што назаўжды ўтаймаваў дарэмныя памкненні рымлянаў да стварэння магутнай дзяржавы.

І само сабой зразумела, што «ўтаймаваць» такім спосабам мог толькі моцны нямоглага. А ў чым жа заключалася немач Рыма, калі ён быў такім заможным дзякуючы прынашэнням паломнікаў?

Жадаючы патлумачыць гэтую акалічнасць чым-небудзь іншым, акрамя нязручнага стратэгічнага становішча гэтага горада пад час сярэдневечча і старажытнасьці, што адразу выявіла б ілжывасць казак пра яго быццам бы старажытную магутнасць, гісторыкі ўжо даўно прыдумалі некалькі хітрыкаў, падобных на ўдары па пустой бочачцы: гулкія, але беззмястоўныя.

«*Па-за Рымам,* – паведамляе нам, напрыклад, той жа Грэгарэвіус, якім, як аўтарытэтам, я так шмат карыстаюся у выкладанні фактычнай часткі гэтага аддзела[218], *– не было ніводнага рымляніна. Нішто не аб’ядноўвала станы, із якіх складалася насельніцтва яго вобласьці і якія адрозніваліся сваім паходжаннем і норавамі. Вольнае грамадзянства ледзь толькі пачынала ўзнікаць у гарадах, і над масай калонаў і*

---

[218] Грыгарэвіус, кн. 6 гл. VI.

*прыгонных поўнаўладнымі спадарамі былі адны толькі бароны, біскупы і абаты. Гэтыя гаспадары ўсе імкнуліся да валодання правінцыйнымі гарадамі і замкамі, і пантыфексы саступалі то тыя, то іншыя мясцовасьці ва ўладанне асобам шляхетных сямействаў, біскупстваў і кляштароў. Феадалізм усё больш пашыраўся ў Рымскай вобласьці. Пачынаючы з сярэдзіны X стагоддзя валадарства баронаў, як свецкіх, так і духоўных, цалкам замацавалася і ў Рымскай вобласьці. Галоўным асяродкам феадальнай улады з'яўляецца пачынаючы з XI стагоддзя Тускул і Прэнэстэ*».

Але хіба ўсе гэтыя факты – тлумачэнне? Хіба яны былі падставамі дзяржаўнай немачы Рыма на ўсім працягу яго рэчаіснай гісторыі, а не наступствамі гэтай немачы, якая тлумачыцца толькі яго нязручным геаграфічным становішчам? Але гэтае рэалістычнае тлумачэнне непрымальна для веруючых у яго былую магутнасць, і таму ім нічога не застаецца, як выкарыстоўваць дзіцячыя хітрыкі, накшталт толькі што прыведзенага, ці пускацца ў містыку, кажучы, што «шляхі божыя невядомы».

Але нават і гэтае тлумачэнне не дапамагае па-хрысьціянску наладжаным гісторыкам у разглядаемым намі выпадку: калі старажытны паганскі Рым быў такім моцным, калі ў ім ушаноўвалі, замест бацькі сына і святога духу, Венеру і Марс, то ці не вынікае із гэтага тое, што зноў патрэбна вярнуцца да іх? Ні да чаго іншага містыка тут не прыводзіць, а з рэалістычнага боку гледжання тут нічога не застаецца як адважна сказаць: уся старажытная гісторыя Рыма аж да пятага стагоддзя з’яўляецца міфам, і ўсе яго цары спісаны з наступнікаў Аўрэліяна і Кастуся, так што і само выказванне: ab Urbe condita (ад заснавання сталіцы) павінна дапасавацца не да італійскага, а да балканскага Рыма, г.азн. да Андрыянопаля ці Канстантынопаля. Цэнтр Імперыі Жалеза павінен быў натуральна ўзнікнуць паблізу ад рудняў гэтага металу, і, у поўным пагадненні з такой высновай з'яўляюцца і філалагічныя перажыткі Балканскай паўвыспы, дзе да гэтага часу існуе і Румынія (на мясцовай мове Romania, ад слова Roma) і Румелія (ад слова Ромул), ды і тыя, каго мы называем грэкамі, на працягу ўсяго сярэдневечча звалі сябе толькі рамеямі, аспрэчваючы ў жыхароў італійскага Рыма якое б то ні было права на такую назву.

Усё, што я паведаміў тут, і ўсё, што буду выкладаць далей, навочна сведчыць, што Рым, нягледзячы на свой рэлігійны прэстыж, не быў здольным аб'яднаць пад час старажытнасьці нават і адну толькі Італію. Яе Ламбардзкая частка была згодна са сваёй прыродай нашмат больш прыдатнай для гэтага, і ён утрымліваў за сабой ўвесь час прывідную самастойнасць толькі ў якасьці спадкаемцы вялізнага прэстыжу, якім карысталіся да яго Пампея і Геркуланум як цэнтр культу бога Грамабоя і ўстрасальніка зямлі ў палымяным слупе Вязувія, прытым і разбурэнне гэтых гарадоў адбылося не раней заканчэння IV стагоддзя нашай эры. Зараз, вядома, Рым – сталіца аб'яднанай Італіі, але гэта толькі таму, што правядзенне чыгунак па ўсёй Апенінскай паўвыспе і рэгулярнае берагавое параходства, незалежнае ад надвор'я, вельмі скарацілі італійскія адлегласьці. Надыходзячая ў нашы дні паветраная эра чалавечай гісторыі зноў зменіць тапаграфію цэнтраў культуры, але і пры ім на першы план выступіць не Рым, а шырокія раўніны зямнога шара.

# Глава V.

# Страціўшы надзею зрабіць свой горад сталіцай сьвету, рымляне ў X стагоддзі пачынаюць складаць чароўную казку пра яго былую магутнасць. З'яўленне «апісанняў залатога горада Рыма».

Даведаўшыся пра сьмерць пантыфекса Рыгора, Атон прыбыў у Рым пад канец сакавіка 999 года. Горад быў спакойны. Рымляне нават і не спрабавалі самі абіраць сабе новага пантыфекса і церпяліва чакалі, калі імператар прызначыць наступніка памёршаму. Яго кандыдатам быў Герберт, знахдзіўшыся ў сьвіце Атона.

Гэты выдатны чалавек быў французам із Бургундыі і паходзіў із самага нізкага стану. Быдучы манастэрыянцам у Арыльяку, ён вывучаў матэматыку і філасофію і працаваў у Рэймсе з такім поспехам, што яго пазнейшае ўзвышэнне віталі тут, як настаўніка. Атон І пазнаёміўся з ім у Італіі і, зацікаўлены яго здольнасьцямі, выказаў яму падтрымку. У гэты час, відаць, ужо пачалі пашырацца міфы пра былую веліч Рыма. Так на адной са свінцовых булаў Атона III намалявана жанчына закутаная ў плашч і трымаючая ў руках шчыт і дзіду, а вакол яе надпіс: «Renovatio Imperii Romani». Атон павялічыў уладу сената. Аддаючы перавагу называцца імператарам рымлянаў, ён у той жа час надаваў сабе тытул консула рымскага сената і народа. У гэты ж час ён усталяваў пры сваім двары грэцкі прыдворны цырыманіял і пачаў апранацца з пышнасьцю ўсходніх валадароў.

«Імператар, – піша германскі летапісец, – імкнуўся аднавіць даўно забытыя звычаі рымлянаў і дзеля гэтага рабіў шмат такога, што выклікала плёткі (таму што і сапраўды ажывіць «забытае» можна толькі з дапамогай звышнатуральных магутнасьцей)». Калі ён запрасіў Герберта, які яшчэ ў той час не быў пантыфексам, даваць яму ўрокі, то царадворац, быццам бы адказаў, што ён бачыць незвычайную таямніцу боскага промыслу ў тым, што Атон, грэк згодна з нараджэннем і вярхоўны валадар рымлянаў, успадкуе скарбы рымскай і грэцкай мудрасьці. Дакладна так жа і прыдворныя, жадаючы дагадзіць імператару, пераймалі ўсё грэцкае. Нават загартаваныя ў баях германскія рыцары і віцязі вучыліся лапатаць на грэцкай мове, цалкам падобна таму, як у XIX стагоддзі рускія дваране імкнуліся размаўляць па-французку. У судовых актах, напрыклад, знаходзяцца подпісы германскіх суддзяў пры Атоне, Зігфрыда і Вальтэра, напісаныя грэцкімі літарамі, падобна таму як такая ж мода панавала ў Рыме і ў Равэне пры візантыйцах, калі нават лацінскі тэкст пісаўся грэцкімі літарамі.

Сваімі фантастычнымі прыдумкамі Атон шмат спрыяў таму, што рымляне зноў паддаліся ганарыстай і марнай мары пра Рым, як пра вечны сусьветны горад.

Абодва першыя Атоны, згодна з прыкладам грэцкіх імператараў, час-ад-часу ўзводзілі рымскіх аптыматаў у сан патрыцыя, а Атон III надаў гэтаму сану новае значэнне. Урачысты цырыманіял узвядзення ў сан патрыцыя апісаны ў другой нашай першакрыніцы паведамленняў пра псеўдаантычныя пабудовы горада Рыма; у «Апісаннях залатога горада Рыма» (Graphia aureae urbis Romae), якое з’яўляецца яшчэ больш пазьнім, чым «Дзівы горада Рыма» (Mirabilia Urbis Romae).

Протаспатарый і прэфект, – паведамляюць нам «Апісанні залатога горада Рыма», – прыводзілі будучага патрыцыя да імператара, у якога ён павінен быў пацалаваць ногі, калены і вусны, – потым кандыдат цалаваў таксама ўсіх рымлянаў, якія былі на цырымоніі і сустракалі яго прывітаннем. Імператар абвяшчаў

патрыцыя сваім памагатым, суддзёй і абаронцам царквы і бедных, апранаў плашч на яго плечы, пярсцёнак на правы ўказальны палец і залаты абруч на галаву.

Новы вялікі пантыфекс Сільвестр II знайшоў у Атона поўную падтрымку ў сваёй задуме царкоўнай рэформы. Дачыненні настаўніка і яго перапоўненага рамантызмам вучня былі ў вышэйшай ступені цікавымі, тым больш, што іхныя ідэі ў сваіх падставах, выключалі адна другую. Узвёўшы свайго настаўніка ў пантыфікальны сан, Атон спадзяваўся знайсьці ў ім змагара за свае ідэі. У сваю чаргу Сільвестр спадзяваўся, што ён зможа паўплываць на схільнага да мараў юнака і з яго дапамогай усталяваць царкоўную дзяржаву. Ён падтрымваў імператара ў яго непрактычным жаданні зрабіць Рым сваёю сталай рэзідэнцыяй. Ён ліслівіў Атону пры кожным зручным выпадку, называў яго сусьветным манархам, якому былі падначалены Італія, Германія, Францыя і славянскія землі, і пераконваў, што ён больш мудры чым самі грэкі. Уяўленне юнака было запалена ім да крайнасьці.

Выдатна, што першы заклік у хрысьціянскім сьвеце пра вызваленне палестынскага Эль-Кудса (палічанага за Ерусалім) із рук няверных паходзіў таксама ад Сільвестра. Царква і імперыя святкавалі ў той час новыя перамогі. Страта Баўгарыі была кампенсавана пераходам у хрысьціянства сарматаў. Польшча стала рымскай, вугорцы, яшчэ так нядаўна рабіўшыя спусташэнні ў Італіі, былі ўціхаміраны магутнасьцю германскай зброі і падпарадкаваліся рымскай царкве і германскім дзяржаўным установам.

«*Паглынуты такімі ідэямі*, – сведчыць Грэгарэвіус[219], – *Атон калі-нікалі пагружаецца ў містычны настрой. Грэцыя і Рым выносілі яго ўяўленне ў царства ідэалаў, але потым перад вачамі Атона зноў з‘яўляліся манастэрыянцы і схілялі яго да ціхага ладу жыцця. Так юнак-імператар пераходзіў ад мары пра веліч цэзара да мары пра каючагася грэшніка і пра адрачэнне ад сьвету. Цэлых 14 дзён аднойчы правёў Атон у пустэльніцкай келлі паблізу царквы св. Клімента ў Рыме, і потым у Субіяка, у манастэрыёне св. Бенедыкта, учыніўшы над сабой утаймаванне цела*»

Набліжаўся выклікаўшы апакаліптычныя настроі 1000 год, і Атон даў зарок здзейсніць паломніцтва да труны Адальберта. Ад'язджаючы ў Германію, ён узяў з сабой шмат каго із рымлян. А Сільвестр застаўся ў Рыме, перапоўнены баязні за сваю долю. Ён пераконваў Атона вярнуцца назад, але той не паехаў.

«*Я глыбока шаную і паважаю цябе*, – адказаў яму Атон, – *але акалічнасьці мацней за мяне, і паветра Італіі шкодзіць майму здароўю. Я пакідаю цябе толькі целам, а дух мой застаецца заўсёды з табой. Для аховы я пакідаю табе валадароў Італіі*».

Але вось, тысячны год хрысьціянскай эры наступіў, і сьвет не загінуў. Адзінаццатае стагоддзе хутчэй прынясло народам дабрабыт, і ў Рыме зноў абудзіўся мяцежніцкі дух. Сільвестр пачаў настойліва клікаць у яго імператара. У кастрычніку Атон накіраваўся ў горад і вырашыў наладзіць тут сваю сталую рэзідэнцыю.

Із рымскіх правінцыйных барадоў найбольш значнымі ў той час былі Прэнэстэ, Тускул і Тыбур.

«*З парэшткамі вілаў Тыбура*[220], – выказваецца летуценна Грэгарэвіус, – *паяднаны бліскучыя імёны часоў Аўгуста. Тут нам паказваюць парэшткі вілаў Мецэната, Гарацыя, Цыцэрона, Вара, Касія, Брута, Пізанаў, Салюстыя і Марцыяла. Выдатныя гроты, па якіх шумна бяжыць Авіен, абуджаюць у памяці легенды пра сірэнаў і пра*

[219] Грэгарэвіус, кн. 6, гл. VI.
[220] Гісторыя горада Рыма пад час сярэдневечча, т. IV, гл. VI.

*Няптуна* (такіх жа рэчаісных, дадам я, як Цыцэрон і К°). *Парэшткі храмаў аднаўляюць выявы Геркулеса, Весты і той альбанскай Сівілы, якая ў снабачанні адкрыла Актавіяну пра нараджэнне Хрыста. Атачаныя аліўкавымі гаямі і размешчаныя каля падэшвы Тывалійскіх гор парэшткі вілы Адрыяна, гэтага самага вялікага забаўляльнага замка на Захадзе, выклікаюць у гледача поўнае здзіўленне. У той час іх лічылі цэлым горадам і называлі старажытным Цівалі. Шмат статуй, мазаік і каштоўных камянёў ужо было* (быццам бы!) *узята адтуль, і ўсё ж, усяго гэтага яшчэ вельмі шмат павінна было заставацца ў Цівалі пры Атону III. Сярод адломкаў шыкоўных порцікаў,* – марыць далей аўтар, – *ляжалі тады, вядома, пакрытыя пылам і забытыя людзьмі знакамітыя статуі Антыноя, Флоры, фаўнаў, цэнтаўраў, Цэрэры, Ізіды, Гарпакрата, мазаіка Созаса, «чара з галубамі» і шмат іншых твораў мастацтва, у наш час напаўняючых музеі Рыма і іншых гарадоў*[221].

*Готы, лангабарды і сарацыны шмат разоў спусташалі Тыбур, але парэшткі сьцен і храмаў, парэшткі Клаўдыева вадавода, амфітэатр, фантаны, то тут то там статуі, усё яшчэ, вядома, захоўваліся; вуліцы мелі свае старажытныя імёны, хаця на руінах храмаў былі пабудаваны цэрквы і кляштары.*

*У дакументах Цівалі, дапасуючыхся да X стагоддзя, сустракаюцца такія класічныя назвы як форум, posterula de Vesta, porta Adriana і Pons Lucanus. Размешчаны каля гэтага маста надмагільны помнік Плаўтыеў, падобна маўзалею Андрыяна ў Рыме, быў тады замкам*».

Падобным чынам мараць і ўсе класікі. А ў рэчаіснасьці да пачатку нашай эры тут былі адны балоты.

Сваімі летуценнымі парывамі Атон спрыяў узнікненню ў рымлянах хібнага ўсьведамлення сваёй магутнасьці. Яны ўжо пачалі выказваць дамаганні на кіраванне суседнімі гарадамі. І з той пары тры прэтэндэнты на вярхоўную ўладу – пантыфекс, імператар і горад – уступілі ў бесперапыннае змаганне.

Але нязручнае ў стратэгічным дачыненні месцазнаходжанне Рыма рабіла сваю справу. Наступіў 1002 год і імператар, як і патрэбна было чакаць, атрымаў уразіўшую яго вестку пра тое, што ў Германіі незадаволенасць яго адсутнасьцю павялічваецца ўсё больш і больш і што народ ужо пагражаў на месца свайго караля, згінуўшага без вестак ў Італіі, абраць іншага валадара. І вось знясільваемы ліхаманкай, набытай ім у Пантыйскіх балотах, імператар, марыўшы пра сусьветную рымскую імперыю са сталіцай у Рыме, зараз паміраў, праследуемы фанабэрыстасьцю рымскіх васалаў. Пантыфекс Сільвестр прычасьціў яго, і ён памёр у Патэрна паблізу Рыма на руках сваіх сяброў 23 студзеня 1002 года на 22 годзе свайго жыцця.

Смерць Атона, як і яго жыццё, вельмі хутка набылі легендарны характар. Паведамлялі, што ўдава пакаранага ім сьмерцю Крэстэнцыя аблытала Атона сваімі чарамі. Яна, згодна з аднымі паданнямі, загарнула яго ў атручаную аленевую скуру, згодна з другімі – падмяшала да яго пітва атруту, згодна з трэццімі – надзела яму на палец атручаны пярсцёнак і такім чынам адпомсьціла за сьмерць чалавека. І вось, расчараваны і паміраючы, імператар выказаў жаданне быць пахаваным не ў Рыме, а ў Ахене...

Сумна выносілі германцы труну з целам зноў няўдалага «рымскага імператара» па палях, па якіх некалі ён ішоў у гэты горача шануемы ім Рым, на чале свайго войска, натхнёны адважнымі планамі зрабіць яго сталіцай сьвету.

---

[221] Першыя раскопы ў «Віле Адрыяна» дапасуюцца да часу Адександра VI і Ільва X. Выходзіць, што выдатныя творы мастацтва такім чынам не прыцягвалі да сябе ўвагі на працягу амаль 1100 гадоў... З іхнай гісторыяй нас знаёміць галоўным чынам Archivio storico dell'arte, год III, вып. 5 і 6, стар. 196 і наст.

Суайчыннікі Атона пахавалі яго ў Ахене ў саборы Карла Вялікага, а паданне ўшанавала памяць пра яго, як пра аднаго із цудаў сьвету.

Plangat mundus, plangat Roma, lugeat ecclesia.
Sit nullum Romae canticum, ululet palatium.
Sub caesaris absentia, sunt turbata Saecula[222].
(Галосіць сьвет, галосіць Рым, і ў жалобе ўся царква.
Няма ніякага спеву ў Рыме, стогне ўвесь палац.
Ад цэзара адсутнасьці стагоддзі прыйшлі ў замяшанне.)

Такой была адзіная рэчаісная спроба зрабіць італійскі Рым сталіцай вялікай імперыі, і так сумна яна закончылася!

Дык што ж такое паведамляюць нам класікі пра былую магутнасць гэтага самага горада, калі ў ім не было яшчэ і мары пра тыя багацці, якія прынесьлі яму пілігрымы пад час хрысьціянскага перыяду?!

Нам распавядаюць пра яго шырокую класічную літаратуру пад час дахрысьціянскага перыяду, але паглядзім, якой жа ў ім была адукацыя нават праз паўтары тысячы гадоў пасьля яго (перыяд дастатковы, каб чаму-небудзь навучыцца!).

«Недахоп у матэрыялах для пісання, – паведамляюць нам, – адчуваўся па ўсёй Італіі». Разумовае невуцтва, панаваўшае ў X стагоддзі ў Рыме, Мураторы прыпісвае менавіта гэтай акалічнасьці. «Аднаўленне папірусных спісаў абыходзілася неверагодна дорага, і таму ў Італіі паўсюдна карысталіся пергаментнымі рукапісамі».

Мы, як я ўжо паведамляў і раней, нічога не ведаем ні пра яго бібліятэкі, ні пра існаванне ў ім перапісчыкаў. А тым часам у гэты ж самы час у Германіі і ў Францыі ўжо прыкладалася неверагодныя высілкі да таго, каб стварыць калекцыі кніг.

Святарства, калі яно толькі было тут здольным чытаць, абмяжоўвала ўсе свае веды разуменнем знака веры, Евангелляў і лістоў. Пра матэматыку, фізіку і астраномію яшчэ не было і згадкі. Парой мы сустракаем найменне «граматык» (grammaticus), якое меў напрыклад Леў VIII, але і яно магло азначаць толькі грамацея. Пералічваючы разнастайныя прыдворныя чыны таго часу, наша першакрыніца Graphia не згадвае ні пра дактароў права, ні пра схаластаў, ні пра граматыкаў. Як пра раскошу, складаўшую неад’емную прыналежнасць двара Graphia згадвае толькі пра тэатр. Сапраўды, у Ватыкане і зараз захоўваецца спіс Тэрэнцыя, дапасуемы да IX стагоддзя. Ілюструючыя яго мініятуры належаць класічнаму стылю і малююць сцэны із камедый паэта. Але, мяркуючы па тым, што аўтар гэтых рукапісаў – Градгарый, можна думаць, што яны былі напісаны ў Францыі. Засмучаны тым, што духоўныя асобы прысутнічалі на тэатральных пастановах, Ота Вярчэльскі пераконваў іх неадкладна пакідаць баляванне, як толькі з'яўляліся акторы. Са слоў гэтага летапісца мы ведаем, што для забавы гасьцей на балях ладзіліся такія ж міфічныя пастановы, якія апісваюць і класічныя аўтары; на вяселлях таксама ладзілі тэатральныя пастановы, і яны выконваліся на працягу вялікоднага тыдня. Пастановы, уяўляўшыя «жарсьці хрыстовы» і іншыя біблейскія падзеі, ладзіліся ва ўсіх краінах на сьвятым тыдні ўжо пачынаючы з IX стагоддзя, але, акрамя таго, падчас гэтых жа сьвят ладзіліся і свецкія пастановы. Graphia, праўда, прысвячае тэатральным уяўленням толькі два параграфы, з'яўляючыяся адзінымі паведамленнямі пра тэатр сярэдневечча. У іх згадваецца пра паэтаў,

[222] Rhythmus de Obitu Ottonis III. D. Papste I. Beil. XVI. (Грэгарэвіус, кн, 6, гл. VI, заўв. 82.)

камедыі, трагедыі, падмосткі, аркестр, гістрыёнаў, сальтатораў і нават гладыятараў як існаваўшых тады. Тут мы сустракаем тэрмін thymelici, як ужываемы ў той час, і зразумела, што ўсе гэтыя ўказанні маюць дачыненне і да таго, што адбывалася тады, а не за тысячу гадоў таму назад[223].

У трэццім томе «Хрыста» я ўжо даводзіў, што лацінская мова ніколі не была народнай у Італіі і ўтварылася із вульгарнай італійскай пад уплывам грэцкай, як мова набажэнстваў, і, пашырыўшыся гэтым спосабам, дала пад канец сярэдневечча пачатак класічнай лацінцы.

У дачынені да гэтай мовы італійцы мелі тую перавагу, што яе разуменне палягчалася для іх мовай, на якой яны рамаўлялі спрадвеку. Калі ў Францыі, і асабліва ў Германіі, знаёмства з лацінскай літаратурай было даступна толькі нешматлікім адукаваным людзям, дасягнуўшых здольнасьці яе разумення з дапамогай упартай працы, і яна была цалкам чужой для простага народа, то для італійцаў X стагоддзя не патрабавалася вялікіх намаганняў каб разумець гэтую мову. І вось у X стагоддзі ўжо існуюць згадванні пра lingua volgare, як пра жывую мову, і пра лацінку, як літаратурную. Эпітафія, прысвечаная Рыгору V, славіць яго за тое, што ён умеў павучаць народы на трох мовах: на германскай, на лацінскай і на простанароднай (італійскай). Адукаваныя людзі размаўлялі паміж сабой, вядома, на народнай мове, і Ян XII, як рымскі аптымат, добра ведаў, відаць, толькі італійскую. Лацінская мова ўжывалася толькі ў набажэнствах, у літаратуры і ў судаводстве[224]. Больш позьнія пісьменнікі паведамляюць, што на прыканцы X стагоддзя, нейкі схаласт Вільгард так моцна шанаваў творы Вяргілія, Гарацыя і Ювенала, што гэтыя аўтары з'явіліся яму ў снабачані і абяцалі яму неўміручасць. Усхваляваны такім снабачанем, схаласт быццам бы публічна заявіў, што вучэнне названых паэтаў мае такое ж значэнне, як знак веры, і быў за гэта прыцягнуты да духоўнага суда па абвінавачванні ў паганстве. Але лацінскую мову ў Італіі ведалі амаль адны мужчыны. Сярод рымлянак нам паведамляюць толькі пра адну адукаваную даму, Імізу, да якой напісаны некаторыя із лістоў Герберта; нават самыя шляхетныя жанчыны не ўмелі пісаць. А тым часам у Германіі Гядвіга Швабская, – паведамляюць нам, – ужо чытала з манастэрыянцам Экгардам Вяргілія і Гарацыя. Юных германскіх дзяўчынак шляхетнага паходжання навучалі ў манастэрыянскіх школах Гандэрсгейма і Кведлінбурга лацінскай мове, як у рускіх інстытутах XIX стагоддзя французкай. Гэтыя дзяўчыны, незнаёмыя з геаграфіяй і гісторыяй уласнай радзімы, добра ведалі фантастычныя краіны Італіі. Нямецкая манастэрыянка Расвіта, – паведамляюць нам, – пісала на лацінскай мове эпічныя і драматычныя творы. Адэльгейда і Тыяфана «былі так жа класічна адукаванымі, як і ламбардская каралева Адельберга».

Такімі з’яўляюцца ўласныя словы знакамітага гісторыка сярэднявечнага Рыма, Грэгарэвіуса. Здавалася б, што пры такіх умовах у Рыме ўсё гэта павінна было б квітнець яшчэ больш. Але вось да здзіўлення аўтара выявілася наадварот.

«*Рымлянам,* – сведчыць ён, – *не паслужыла на карысць тая акалічнасць, што яны размаўлялі на мове, роднай класічнай мове, і рымскае грамадства ў сваёй адукаванасьці засталося ззаду нямецкага і французкага. У той самы час, калі Атон III жыў марай пра аднаўленне імперыі філосафа Марка Аўрэлія, рымляне былі ўпэўнены, што конная статуя гэтага імператара адвображвае нейкага селяніна, які некалі заспеў знянацку аднаго караля і ўзяў яго ў палон. Існаванне легендаў – звычайная прыналежнасць*

[223] Graphia aureae urbis Romae. De scena et orcistra.
[224] Грэгарэвіус, кн. 6, гл. VII.

*неадукаваных народных мас, ды і сама гісторыя літаратуры дае доказ некультурнасьці Рыма той акалічнасьцю, што паміж рымлянамі на працягу ўсяго X стагоддзя не было ніводнага літаратурнага таленту, хаця у гэты ж час у Ламбардыі былі чужаземцы, якія выдаваліся сваімі здольнасьцямі і сваёй адукаванасьцю. Такім там быў, напрыклад, вандрававаўшы па сьвету Ратэрый Веронскі, ураджэнец Люттыха, абавязаны сваёй адукаванасьці манастэрыянскай школе ў Лаўбэ, ці Ота Вярчэльскі і Ліутпранд Крэмонскі*.

І следам за гэтым гісторык горада Рыма, як і ўсё, выкаваецца: «*Іхная проза і паэзія былі ўпрыгожаны цытатамі із класікаў, і гэтыя запазычанні вылучаюцца на агульным фоне твораў названых пісьменнікаў так жа рэзка, як і парэшткі антычных фрызаў і калон у цэрквах і палацах, пабудаваных пад час сярэднявечча*».

А дзякуючы таму што мы ўжо шмат якімі спосабамі давялі, што ўсе апавяданні пра старажытны магутны і адукаваны Рым належаць да вобласьці чароўных казак, то і цытаты із класікаў у Ратэрыя, Ота Варчэльскага і Ліутпранда даводзяць толькі іхную апакрыфічнасць. Такія ж асаблівасьці мы сустракаем у Яна Дыякана, біёграфа Рыгора, і ў некаторых рымскіх пісьменнікаў, дапасуемых да X стагоддзя. Тое ж самае мы бачым і ў паданнях пра Атона III, пад час валадарання якога ўпершыню з'явіліся класічныя чыны, адзенне і ідэі, а мастацтва складаць лацінскія вершы стала ў часы Берэнгара такім звычайным, што гэты аўтар у прадмове да сваёй паэмы просіць прабачэння перад чытачом нават у тым, што напісаў яе. «Вершы зараз, – кажа ён, – складаюць нават у вёсках і з такім жа поспехам, як у гарадах». Аднак у Рыме вершы таго часу можна знайсьці толькі ў надпісах надмагільных помнікаў, ды яшчэ на царкоўных дзьвярах і на апсідах, і толькі некаторыя з іх, як, напрыклад, эпітафія, прысвечаная Крэстэнцыю, вытрымліваюць класічную крытыку.

«*Паўсюдна мы бачым імкненне да квяцістых выказванняў, а думка такая цяжкая і цёмная, як і сам той час,* – сведчыць Грэгарэвіус, – *Стваральнікамі падобных вершаў былі ў тую пару хутчэй свецкімі людзьмі, чым духоўнымі асобамі*».

Навука, – працягвае ён, – пачала развівацца тады ў Германіі і ў Англіі, а ў Францыі і Італіі тады была здзейснена рэформа манастэрыёнаў наступствам чаго быў іхны сучасны выгляд.

Яе аўтар Одзін Клюнійскі быў не толькі сьвятым, як Рамуальд, але і адукаваным чалавекам, вывучаўшым у Рэймсе філасофію, граматыку, музыку і паэзію. Праводзячы рэфармаванне рымскіх манастэрыёнаў, ён павінен быў паклапаціцца і пра аднаўленне навукі, якой кіравала царква, таму што навуковыя дасьледаванні і ўтрыманне школ ляжалі на абавязку манастэрыёнаў.

І вось, «жахлівы змрок, засьцілаючы Рым», пачаў знікаць ужо пад час апошняй траціны X стагоддзя. Вялікі рымскі пантыфекс Сільвестр, падняўшыся ў сваю абсерваторыю, назіраў з яе за зоркамі, маляваў геаметрычныя фігуры ў сваіх пакоях, абложаны пергаментамі. Ён уласнымі рукамі майстраваў сонечныя гадзіннікі ці вывучаў астранамічны глобус, зроблены із конскай скуры. «Здавалася, зноў ажыў Пталямей», і асоба Сільвестра II азначае пачатак новага перыяду сярэдневечча, перыяду схаластычнага, г.азн. прота-класічнага.

Знаёмствам з грэцкай філасофіяй, – пераконваюць нас, – Сільвестр быў абавязаны Баэтыю, быццам бы пераклаўшаму (ці напісаўшаму) ужо тады творы Арыстоцеля і Платона і выклаўшаму Архімеда, Эўкліда і Нікамаха. У X стагоддзі ён, – кажуць нам, – зазіхацеў пасьля доўгага забыцця, як зорка першай велічыні. «Філасофскае суцяшэнне» Баэтыя, – паведамляюць нам, – служыла ўзорам нават Ліутпранду, які так жа ахвотна дадаваў да сваёй прозы вершаваны памер. Яго

пераклаў на англа-саксонскую мову Альфрэд Вялікі, а яшчэ пазней каментаваў Тамаш Аквінскі. Сам Герберт, падобна Баэтыю, злучаў у сабе разнастайныя таленты і веды, і напісаў у вершах хвалебнае слова свайму настаўніку.

Італійская гістарыяграфія таксама абавязана таму часу некаторымі творамі. У паўночнай Італіі пісаў Ліутпранд. У Венецыі быў напісаны яе самы старажытны летапіс дыяканам Янам, міністрам Пятра Арсола II. У Кампаны з'явіўся працяг гісторыі Паўла Дыякана, вядомы пад назвай «Летапіс Ананіма Салернскага». Дакладна так жа і ў Рыме і па суседству з ім былі напісаны некаторыя гістарычныя працы. Бенедыкт, пустыннік манастэрыёна св. Андрэя in Fiumine на Сакарце, меў намер напісаць сусветны летапіс. Яго першая частка была запазычана ім із кніг Анастаса, Беды, Паўла Дыякана, Эгінгарда і некаторых летапісцаў Германіі і Італіі. У дачыненні да найбольш блізкіх часоў Бенедыкт карыстаўся працягам «Liber Pontificalis» і потым заносіў у сваю хроніку ўсё, што чуў, бо сам ён быў сведкам толькі нешматлікіх падзей. Але і ў тых выпадках, калі ён піша як сучаснік, яго сведчанні маюць сумнеўны характар і часта выяўляюцца запазычанымі із не вельмі праўдзівых крыніц.

Калі пілігрымы прыходзілі ў «Вечны Рым», праваднікамі для іх былі суайчыннікі із замежных карпарацый Рыма. І вось некаторыя із франкскіх і германскіх пілігрымаў пачалі глядзець на Рым вачамі археолагаў і гісторыкаў. Гэтыя пілігрымы складалі апісанні выбітных месцаў горада, дапасуючы іх, як і заўсёды, да глыбокай старажытнасьці, і несьлі свае нататкі на радзіму. Так узнікалі фантастычныя паданні пра помнікі старажытнага як паганскага, так і хрысьціянскага Рыма. З'явіўся і зборнік рымскіх надпісаў, складальнік якога вядомы пад імем Ананіма Эйнзыдэльнскага. Ён быў пазьней знойдзены у Эйнзідэльнскім кляштары Мабільёнам і ўпершыню выдадзены ім жа. На двух лістах, двума слупкамі, аўтар пералічыў, не абцяжарваючы апісаннем, назвы помнікаў у тым парадку, у якім яны сустракаліся яму справа і злева, калі ён ішоў па Рыму ў накірунку да гарадзкой брамы. Лічыцца, што пры гэтай працы яму служыў дапаможнікам план горада. Да пераліку назваў дададзены і надпісы, спісаныя ім з помнікаў і цэркваў. Такім чынам быў пакладзены пачатак рымскай эпіграфіцы, і гэты першы невялікі збор старажытных надпісаў, праца ананімнага паўночнага падарожніка, заставаўся да пачатку XV стагоддзя адзіным вядомым нам падобным творам.

Такім жа чынам псеўда-старажытныя «Акруговыя спісы» знаёмяць нас з паганскім Рымам, і толькі Ананім Эйнзідэльнскі адрознівае і старажытныя, і хрысьціянскія будынкі. Калізей ён называе проста амфітэатрам; прыводзячы надпісы, ён дае арцы Ціта назву «VII Lucernarum», таму што на ёй была намалявана сьвяцільня з 7 галінамі. Пазначаны цырк Фламінія, Circus Maximus і тэатр Пампея. Перададзены таксама надпіс на вершнай статуі Кастуся на Капітоліі і згаданы нават Umbilicus Romae. Брамы і шляхі ў аўтара маюць такую ж назву як і ў класічныя часы.

«Старыя будынкі Рама ўжо былі аточаны покрывам паданняў». Да 1000 года нашай эры пра іх існавала шмат мясцовых легендаў.

Так Ананім Салернскі, пісаўшы ў 980 годзе, паведамляе, быццам бы старажытныя рымляне пабудавалі на Капітоліі, – у гонар усіх народаў 70 бронзавых статуй. На грудзях кожнай статуі было напісана імя народа, які яна адлюстроўвала, а на шыі вісеў званочак. Дзень і ноч пры гэтых статуях вартавалі па чарзе служкі культу. Калі ў нейкай правінцыі здаралася паўстанне, адпаведная

статуя зараз жа пачынала рухацца, яе званочак пачынаў званіць, і жрацы паведамлялі пра гэта імператару. Летапісец, дадае да гэтага яшчэ наступнае:

«*Пад час спрадвечных часоў гэтыя статуі былі перанесены ў Канстантынопаль, і Аляксандрыю, сын імператара Васіля і брат Ільва Мудрага, жадаючы ўшанаваць іх, надзел на іх шаўковае адзенне. Але вось, да яго ноччу з'явіўся ўгневаны апостал Пятро і сказаў:*

*– Я адзін цар рымлянаў*!»

А на наступную раніцу імператар Васіль быў знойдзены памёршым.

Другое паданне паведамляе, што калі Агрыпа, прэфект Рымскай імперыі, пасьля заваявання швабаў, саксаў і іншых народаў Захаду, вярнуўся ў Рым, тады статуя Персіі, размешчаная ў храме Юпітара і Мапеты, на Капітоліі, зазваніла сваім званочкам. Сенатары даручылі тады Агрыпе вядзенне вайны супраць персаў. Ён папрасіў тры дні для разважанняў, і вось пад час апошняй ночы ў сне яму з'явілася жанчына і прамовіла:

*– Агрыпа, што з табой? Цябе гнятуць вялікія клопаты?*

*Ён адказаў:*

*– Так, спадарыня.*

*– Не трывожся, – адказала яна, – абяцай мне пабудаваць такі храм, які я табе пакажу і я абвяшчу табе, ці пераможаш ты.*

*Жанчына паказала яму ў бачанні жадаемы ёю храм. Агрыпа запытаў яе:*

*– Спадарыня, хто ты?*

*– Я Грамадзянская Боская Маці* (мал. 107), *– адказала яна. – Прынясі ахвяру Нептуну, богу мораў, і ён дапаможа табе. Пабудуй такі храм яму і мне. Мы будзем з табой, і ты пераможаш*».



Мал. 107

Грамадзянская Боская Маці згодна са старажытнай выявай. Класікі завуць яе Кібелай (Κυβέλη), але гэта хутчэй усяго звычайная грэцкая трансфармацыя італійскага слова Civile – грамадзянская. Гэта асобная аперцэпцыя сузорнай Панны, якая знаходзіцца таксама каля сузор'я Ільва. Яна ж звалася Вялікая Маці (Magna Mater), і паведамляюць, што сьвятарамі яе абавязкова былі валахі, перажыткам якіх служаць і навейшыя манахі.

Паведаміўшы сенату пра гэты сон, Агрыпа выступіў у паход з вялікім флотам і пяццю легіёнамі, перамог персаў у зноў вярнуў іх пад уладу рымлянаў. Вярнуўшыся пасьля таго ў Рым, ён пабудаваў абяцаны храм, прысьвяціў яго маці богаў Кібеле (г.азн. Грамадзянскай богамаці), Нептуну і ўсім іншым багам і назваў гэты храм Пантэонам (мал. 108).



Мал. 108
Выгляд царквы Santa Maria ad Martires, маючай назву Ратонда і лічымая класікамі за Пантэон Агрыпы.

Такім з'яўляецца змест легенды пра ўзнікненне Пантэона, выкладзены ў выдатнай кнізе, маючай назву «Graphia Aureae Urbis Romae» («Апісанні залатога горада Рыма»), якая пасьля «Эйнзыдэльнскіх нататак» лічыцца другім па парадку творам археалагічнай літаратуры Рыма. Гэты твор, аднак, атрымаў вялікую вядомасць толькі ў XIII стагоддзі, і як на «цалкам праўдзівы» на яго спасылаецца міланец Galvaneus Flamma[225]. Быўшы пазначаным як рукапіс бібліятэкі Laurentiana,

[225] Chronica, quae dicitur Graphia aureae urbis Romae, quae est liber valde authenticus, continens historias Romanorum antiquas (Летапіс, які мае назву «Апісанні залатога гораду Рыма», кніга цалкам праўдзівая, утрымліваючая гісторыі старажытных рымлянаў (Galvaneus Flamma: Manipulus florum, c. 4). Выказванне Aurea Roma часта сустракаецца на імператарскіх свінцовых пячатках з часоў Атона III.

належаўшы XII ці XIV стагоддзям, гэты твор усё ж заставаўся невыкастаным і быў надрукавана толькі ў 1850 годзе.

Кожны апісваючы твор, адпаведна самой сваёй прыродзе, выклікае неабходнасць дадаткаў, і тое ж самае мы бачым у кнізе «Апісанне залатога гораду Рыма». Яе розныя аддзелы не належаць аднаму і таму ж часу, і гэтая кніга заканчваецца выкладаннем такой падзеі.

«*Недалёка ад Рыма, Ной заснаваў горад і назваў яго сваім імем. Сыны Ноя – Янус, Іяфэт і Камес (Хам) – пабудавалі на Палаціне горад Яінкул, а ў Транстеверыне – палац Янікул. Янус жыў і пазней на Палаціне разам з Немродам ці Сатурнам, якога аскапіў яго сын Юпітар. Ён яшчэ пабудаваў горад Сатурнію на Капітоліі. Потым кароль Італ з сіракузцамі пабудаваў горад таго ж імя на рацэ Альбуле ці Тыбры, а каралі Гемілес, Тыбр, Эвандэр, Карыба, Глаўк, Энэй і Авентын пабудавалі іншыя гарады. Праз чатырыста трыццаць тры года пасьля падзення Троі, сямнаццатага красавіка, Ромул атачыў усе гэтыя гарады сьцяной і назваў іх Рымам, і ў яго прыйшлі жыць не толькі італьянцы, але і ўсе шляхетныя людзі з усяго сьвету з іхнымі жонкамі і дзецьмі*».

Пазней, у XIII і XIV стагоддзях паданні пра ўзнікненне Рыма пачалі складаць змест шматлікіх кніг, якімі з’яўляюцца; Liber Imperialist Romuleon, Fiorita d'Italia, Historia Trojana el Rornana. Але асаблівае пашырэнне гэтыя легенды атрымалі толькі тады, калі ў Італіі узнікла камунальная незалежнасць, і кожны горад імкнуўся да таго, каб аднесьці сваё паходжанне да магчыма глыбейшай старажытнасьці. Тады і франкі лічылі сябе непасрэднымі нашчадкамі траянцаў[226].

Сярод легендаў, паведамляемых ў «Graphia», адна мае дачыненне да пахавання Юлія Цэзара. Парэшткі Юлія Цэзара, – паведамляе аўтар, – былі пакладзены ў залаты шар, замацаваны на верхавіне Ватыканскага абеліска. Ён быў усеяны каштоўнымі камянямі і меў надпіс:

*«О, Цэзар! Некалі ты быў вялікі, як сусьвет,*
*«А зараз змешчаны ты ў маленечкую магілу».*

Парэшткі Юлія Цэзара – згодна са сведчаннем Графій – былі размешчаны так высока для таго, каб і пасьля яго сьмерці сьвет заставаўся падуладным яму. Сам абеліск дзякуючы гэтаму набыў назву Memoria ці Sepulcrum Caesaris. Пад такім імем ён згадваецца ў буле 1503 года, выдадзенай Ільвом IX, і тут яму даецца назва – Agulia, што на італійскай мове да нашага часу азначае абеліск. Магчыма, што проста слова Agulia хутка ператварылася ў вуснах простага народа ў Julio (Юлій) і паслужыла падставай да ўзнікнення толькі што прыведзенай лягенды пра пахаванне тут Юлія Цэзара.

Як і ў наш час, амаль кожная сядзіба ў Рыме мела вонкавыя каменныя ўсходы, а дзверы і вокны мелі ўгары рымскую арку. Карнізы былі аблямаваны дахоўкай. Сядзібы звычайна пакрываліся гонтам, сьцены былі із абпаленай цэглы,, але не тынкаваліся, і ў кожнай сядзібе звычайна існаваў гаўбец, чаму мы і сустракаем так часта выказванне casa solorata. Порцікі із простых слупоў ці калон класічнага тыпу, паўсюдна ў Італіі маючыя назву нямецкім словам laubia, былі вельмі пашыраны і доўга існавалі ў Рыме. Апошнія парэшткі гэтай сярэднявечнай рымскай архітэктуры можна бачыць у наш час у Транстэверыне і ў кварталах Пенка і Парнонэ.

Цяжкая мэбля з залатой разьбой і крэсламі была ў тым жа стылі, як і прыпісваемая класічным часам.

---

[226] Павел Дыякан: Gesta Episcoporum. Monumenta Germanica, II, 264

Да царквы S. Sehastiano in Palladio ужо тады, ці значна пазней, далучылася легенда, што на гэтым месцы некалі стаяў старажытны Паладый, дзе, «згодна з паданнем», у храме Геліягабала быў забіты сьвяты Севасцьян, а ў царквы Санта Лючыя in Septa Soils ці Septern Viis вырас апендыкс у выглядзе Септысолія, быццам бы пабудаванага яшчэ Сэптыміем Сяверам.

«Септысолій быў храмам Сонца і Месяца», – паведамляюць «Апісанні залатога горада Рыма».

Пра такія вялізныя пабудовы, як Circus Maximus і Калізей, у гэты час яшчэ няма ніякіх згадак[227]. Тое, што класікі называюць храмам Венеры і Ромы тады мела назву Temiplum Concordiae el Pietatis, і пад гэтым жа найменнем яно згадваецца ў «Апісанні залатога горада». Яго вялічэзныя калоны-маналіты із блакітнага граніту – уяўлялі тады велічнае гледзішча. Ідучы ўздоўж Via Sacro, падарожнік праз арку «Сямі сьвяцільняў» трапляў на форум, дзе невялікае ўзвышша Velia рабіла тады значны ўхіл, таму што форум яшчэ не быў накрыты такой вялікай колькасьцю смецця, як у наш час.

«Суправаджаемы ў вандраваннях па Рыму якім-небудзь археолагам, – паведамляе нам аўтар «Гісторыі горада Рыма пад час сярэдневечча», – Атон III знайшоў бы ў тлумачэннях свайго правадыра дзівосную сумесь памылковых і дакладных назваў старажытных помнікаў. Такі археолаг паказаў бы яму Templum Fatale, арку Януса паблізу царквы S. Adriano і памылкова патлумачыў бы, што арка Фабіяна паблізу царквы Santo Lorenzo in Miranda з’яўляецца Templum Iatone».

Тагачасныя праваднікі распавядалі, што ў пячоры, існаваўшай у Палаціне і зачыняемай бронзавымі дзьвярамі, хаваўся цмок, які быў забіты св. Сільвестрам. Каля Мамертынскай турмы яны паказвалі статую рачнога бога, вядомага пад найменнем Марфорыо, і пры гэтым паведамялі, што яна адвображвае Марса! Пра класічныя форумы захоўваецца яшчэ глыбокае маўчанне за выключэннем форума Траяна. Форум Аўгуста народ называў толькі Чароўным садам (Hortus Mirabilis) і тое, што зараз завецца калонай Марка Аўрэлія, – звалася тады Antonino. «Мы зацверджваем (за манастэрыёнам) – паведамляецца ў грамаце Яна XII, – вялікую мармуровую калону in integrum, маючую назву Antonino з яе статуямі, з царквой св. Андрэя, размешчанай каля яе, і з пляцоўкай зямлі, якая занята імі і аточана вуліцамі горада Рыма».

Тое, што мы называем маўзалеем Аўгуста, – у той час мела назву проста Сьвятая гара (Mons augustus), і адсюль паходзіць народная назва Austa, ці L'Austa. Тое, што мы зараз называем стадыумам Даміцыяна, Ананім Эйнзідэльнскі заве «цыркам Фламінія, дзе спачывае св. Агнэса», выводзячы гэтае найменне ад акругі, да якой належаў стадыум, а ў X стагоддзі ён быў вядомы ў народзе пад назвай Circus Adonalis (Цырк змагання). Спачатку ўсю гэту мясцовасць звалі «змагальніцкай», а потым n'Agona, і адсюль атрымалася, нарэшце, Navona, – найменне самага вялікага і прыгожага ў наш час пляца ў Рыме[228].

З XII стагоддзя, – сведчыць Грэгарэвіус, – рымляне пачалі схіляцца да думкі, што іхныя шляхетныя роды вядуць свой пачатак ад глыбокай старажытнасьці. Радаводы рымскай шляхты цалкам нечакана выявіліся то атажылкамі знакамітага Аўгуста на Палаціне, то выгадаванымі ў садах Мецэната, Пампея, Сцыпіёнаў і Максімаў. Род графаў Тускуланскіх быў выгадаваны ва ўлонні жонкі Св. Яўстафія і потым злучаны адважным палётам фантазіі з імем таго Актавія Мамілія

[227] Грэгарэвіус, кн. 6, гл. VII.
[228] Грэгарэвіус, кн. 6, гл. VII.

Тускуланскага, які быў забіты ў бітве каля Рэгільскага возера. Ад гэтага родапачынальніка паходзіць Актавій, а ад імператара Актавіяна – сенатар Агапіт Актавій, бацька Плацыда ці Яўстахія. Да таго ж роду належаў Тэртул, бацька св. Плацыда, вучня св. Бенедыкта. З часоў Мамілія гэты род заўсёды валодаў Тускулам, які быў прынесены ў дарунак кляштару Субіака Тэртулам, а апошні быў быццам бы стрыечнікам імператара Юстыніяна. Із роду Актавіяў паходзілі быццам бы і вялікі папа Рыгор і род Аніцыеў. Такім чынам выходзіла, што ад легендарнага Актавія Мамілія вялі сваё паходжанне не толькі графы Тускуланскія, але і графы П'ерлеонэ, Сеньі, Вальмантонэ і Франджыпані, паклаўшыя пачатак аўстрыйскаму роду.

Пра тэатр Пампея яшчэ нічога невядома, а тэатру Марцэла даецца ў дакументах гэтая ж назва, хаця народ і зваў яго Антанінавым. Тое, што зараз мае назву храм Fortunae Virilis, прыпісваючы яго заснаванне Серыю Тулію, – тады мела назву храм Марыі Ягіпецкай, ды і зараз гэты храм завецца Santa Maria Egiziaca. Размешчаны насупраць яго храм, лічымы класікамі за храм Весты, тады, пад час самых позніх гадоў сярэдневечча, меў назву хра Сівілы і быў раней царквой S. Stephano delle Carozze, ці, грунтуючыя на часе адной выявы, Santa Maria del Tole.

Закончу ж гэты кароткі нарыс узнікнення рымскіх класічных помнікаў уласнымі словамі Грэгарэвіуса (кн. VI, гл. VII, заўв. 79):

«*Храм Весты некалі лічыўся тут храмам Геркулеса Пераможцы. У наш час археолагі прызнаюць яго храмам Кібелы, але і гэтай багіні давядзецца, вядома, саступіць сваё месца іншаму божышчу, які, у сваю чаргу будзе зрынуты новай археалагічнай рэвалюцыяй*».

І ўвесь змест чатырох папярэднічаўшых тамоў гэтага майго дасьледавання паказвае непазбежнасць такой археалагічнай рэвалюцыі і прытым не для аднаго толькі храма Весты, а і для ўсёй класічнай старажытнасьці.

# Частка восьмая.

## Царкоўная рэвалюцыя ў Рыме



Мал. 109
Выгляд сярэднявечнага рымскага форума, які ў народзе звычайна мае назву «Каровіна поле» (Campo vaccino), з руінамі старажытных палацаў і храмаў.

# Глава I.
## Апошнія гады рымскага пантыфікату. Пантыфікальнае шматжонства.

І вось наступіў новы перыяд для горада Рыма, а з ім і для рымскага пантыфіката.

У яго гісторыі XI стагоддзе было адным із самых выдатных. І ў самым Рыме, і ў абласьцях, прылягаўшых да горада, па-ранейшаму валадарылі толькі магутныя прадстаўнікі шляхетных сямействаў, ленныя васалы пантыфікату. Яны па-ранейшаму выкрадалі ў пантыфексаў, сямейных асоб з усімі правамі князёў (principes), іхную ўладу і потым аспрэчвалі яе адзін у аднаго. У якасьці патрыцыяў, яны панавалі над Рымам на працягу першай паловы XI стагоддзя, прызначалі яго вялікіх пантыфексаў са свайго асяроддзя і зрабілі іхны пасад радавым набыткам. Але потым адбылася выдатная рэвалюцыя, пад сьцягам, відавочна, толькі тады з'явіўшыхся лацінскіх перакладаў Евангелляў, і рымская курыя са здзіўляючай хуткасьцю дасягнула сусветнай магутнасьці.

Пачатку такога перавароту вельмі істотна спрыялі Евангеллі, служыўшыя сьцягамі, і даўшыя дэмагагічную ідэалогію, але яго каранямі былі, як і заўсёды, сацыяльна-эканамічныя ўмовы, у якіх знаходзіўся Рым. Гэта былі між іншым і матэрыяльныя ўціскі, якімі рымская шляхта абцяжарвала пантыфікат і гэтым абумовіла для яго патрэбу сталай і пільнай абароны. І вось пантыфікат прыклаў усе свае здольнасьці да таго, каб скінуць з сябе ярмо патрыцыяў. Вялікія пантыфексы і ўсё астатняе сьвятарства, якое яшчэ не аддзялілася ад звычайных штатных навукоўцаў, – сцвярджалі служкі культу, – павінны прызначацца не магнатамі і не каралямі, іхнае абранне павінна здзяйсняцца аўтаномна пры ўдзеле толькі ўласных калег.

Гэтая «вялікая спрэчка за інвестытуру», як яе называюць гісторыкі, вызначыла ўвесь ход гісторыі горада Рыма пад час другой паловы XI стагоддзя. Толькі з гэтага моманту прадстаўнікі каталіцкага сьвятарства і ўтварылі тое, што зараз мае назву царква ў адрозненні ад дзяржавы. А раней гэта было адно із міністэрстваў яшчэ не аддзяліўшаяся ад міністэрства народнай асьветы.

Са сьмерцю Атона III Італія вызвалілася ад свайго караля, а Рым – ад свайго імператара. Паўночная Італія неадкладна ўсклала ламбардзкую карону на тубыльнага князя і ужо 15 лютага 1002 г. у Павіі быў абвешчаны каралём магутны вяльможа, іўрэйскі маркграф Ардуін, якога Атон III прысудзіў на выгнанне. А рымляне ўсклалі дыядэму патрыцыя на Яна, сына знакамітага Крэстэнцыя, і з той пары ён на працягу дзесяці гадоў кіраваў горадам як валадар. Абодва былі супернікі аўтаноміі сьвятарства.

«Пакінуты ўсімі аплакваў у Латэране сваю адзіноту састарэлы пантыфекс Сільвестр і адзіным суцяшэннем для яго былі толькі яго шануемыя пергаменты». Ён памёр праз год, 12 траўня 1003 г., і яго смерць была, хутчэй усяго, гвалтоўнай. І

толькі наступіўшая пазьней параза Ардуіна, каранаванне Генрыха і чаканне яго паходу на Рым адрадзіла магутнасць клерыкальнай партыі.

На адлегласьці 15 міль ад Рыма яшчэ да гэтага часу над Фраскаці ўзвышаюцца змрочныя парэшткі сярэднявечнага Тускула. Паданне прыпісвае яго заснаванне Тэлегону, сыну Адысея і Цыртэі. Легенда паведамляе, што валадар Тускула, Мамілій Актавій, даў у сябе прытулак свайму цесьцю, апошняму Тарквінію, і потым сам загінуў у бітве пры Рэгільскім возеры. Сучасныя чычэроне і зараз паказваюць месца, дзе быццам бы стаялі акадэмія Цыцэрона і яго віла, у якой ён пісаў свае Tusculanae Disputationes. А больш праўдзівыя першакрыніцы толькі паведамляюць, што ў X стагоддзі Тускуланскі муніцыпалітэт быў амаль непрыступным, і той, хто валодаў Тускуланскім замкам, меў у сваіх руках усю Лацінскую вобласць і частку Кампаны.

Пасьля сьмерці Яна Крэстэнцыя ў 1012 годзе яго партыя абрала вялікім пантыфексам рымляніна Рыгора, але кандыдат тускуланскай партыі Феафілакт, сын Рыгора Тускуланскага прабраўся ў Рым разам са сваімі братамі, і абедзьве партыі пачалі бойку за валоданне тыярай і за ўладу над горадам. Прагнаўшы Рыгора і гвалтоўна заняўшы Латэран, Феафілакт, не быўшы ніколі духоўнай асобай, прыняў сан вялікага пантыфекса пад імем Бенедыкта VII у траўні 1012 года. А выгнаны ім Рыгор, каб вярнуць свае правы, пасьпяшаўся звярнуцца за дапамогай да германскага караля. Але туды ж прыбыткі і амбасадары Бенедыкта, які, жадаючы забяспечыць за сабой пантыфікальны пасад, таксама пасьпяшаўся перацягнуць на свой бок караля, здаваўшагася яму небяспечным.

Пакінуўшы Рыгора на свой уласны лёс, хаця ён, магчыма, і быў абраны паводле кананічных правіл, імператар Генрых дазволіў тускуланскаму графу застацца вялікім рымскім пантыфексам, а Крэстэнцыі былі прагнаны.

Генрых і яго жонка Кунігунда прыехалі ў Рым. Яны там былі сустрэты карпарацыямі (shcolae) і аточаны 12 сенатарамі, у шасьці із якіх бароды былі паголены, а ў астатніх шасьці – адпушчаны, і ва ўсіх сенатараў у руках былі кіі. Укаранаванне новага імператара пантыфексам адбылося 14 лютага 1014 года ў базіліцы Пятра, згодна з усталяваўшымся рытуалам і ўрачыстая цырымонія была закончана баляваннем у Латэране. Абодва бакі маглі быць задаволены: Генрых вярнуў свайму народу імперыю, а Бенедыкт атрымаў надзею на тое што царкоўная дзяржава будзе адноўлена.

Італіі як адзінай дзяржавы і ў гэты час яшчэ не было. У Лацінскай вобласьці панавалі тускуланскія графы; у Кампаны – валадары Cessano ці Segni, пераважна перад іншымі графамі Кампаны; у Сабіне – Крэстэнцыі; Тусцыя была пад уладай графаў Галерыйскіх; а валоданні Берардзі Адэрызія, паходзіўшага із франкскага роду, ужо распасьціраліся ад Мерсійскай вобласьці да Субіяна.

Шляхта і тады яшчэ ўтрымлівала свае правы на абранне імператара так жа, як і на абранне пантыфекса, і таму ўкаранаванне Генрыха адбылося пры пагадненні са шляхтай. А кіраўніком Рымскай рэспублікі, сенатарам усіх рымлянаў, Бенедыкт VIII зрабіў свайго брата Рамана. Тытулы консула і герцага (г.азн., згодна з першапачатковым значэннем правадыра dux), якія лічацца старажытнымі, якраз толькі тады заквітнелі ў Рыме і на італійскай тэрыторыі.

Супернікамі пантыфікальнай рымскай царквы былі толькі ісламіты паўднёвай Італіі і выспаў (меўшыя назву сарацыны). У 1016 годзе Бенедыкт VIII сам павёў войска супраць іх, і дзякуючы яму іхны правадыр Магегід быў прагнаны із Сардыніі і выспа хутка ператварылася ў пізанскую асаду, што было цалкам

натуральна, дзякуючы таму што як Піза так і Генуя, якія доўга заставаліся ў змроку дзіцячага стану, дзякуючы развіццю мараплавання паклалі ў XI стагоддзі пачатак бліскучай эпосе гарадзкіх рэспублік паўночнай Італіі. А пантыфікату пачала пагражаць новая небяспека. Не прызнаючыя яго «праваслаўныя» (так званыя грэкі) зноў паспелі захапіць Калабрыю і Апулію і ўжо рыхтаваліся ўступіць у Камнанью. Здавалася, што валадарства праваслаўных у Апуліі было забяспечана, таму што ламбардзкія валадары прызналі сябе васаламі візантыйскага імператара. Непадалёку ад Беневента праваслаўныя пабудавалі ўмацаваны горад і назвалі яго **Трояй, якая ўпершыню з'яўляецца тут у рэчаіснай гісторыі.** Небяспека быць гвалтоўна далучаным да ўсходняй царквы пагражала нават Беневенту. Дайсьці да Рыма грэкі зараз маглі адным адважным пераходам, але іхны генерал прамарудзіў, спыніўшыся ў Гарыльяна, а ў снежні Генрых, выступіўшы супраць яго з Аўгсбурга, ужо быў у Вероне. Грэцкія і ламбардзкія ўмацаванні, і ў іхным ліку Троя, якую аблажыў сам імператар, здаліся летам таго ж года. Генрых вярнуўся ў Германію.

Паводле сваёй энергіі пантыфекс Бенедыкт выявіўся чалавекам вышэй звычайнага ўзроўню. Ім упершыню былі выдадзены саборныя дэкрэты, якімі забараняліся адружванні духоўных асоб, г.азн. асоб ужо меўшых сан сьвятара, як гэта існуе і зараз у грэка-рускай царкве, дзякуючы чаму жадаючыя пасьвячэння ў такі сан спяшаліся папярэдне адружыцца, таму што пасьля гэтага іх ужо немагчыма разводзіць грунтуючыся на тэксце: «што бог злучыў, чалавек ды не разлучыць». Дзякуючы таму ж таксама ўсталяваўся звычай замацоўваць прыходы за дочкамі сьвятароў. Той жа пантыфекс забараніў і куплю духоўных пасад[229]. Але яго дэкрэты былі нямоглымі.

Калі ў чэрвені 1025 года Бенедыкт VIII памёр, пантыфікальны пасад застаўся ў руках яго сям'і. Яго брат Раман, быўшы да таго сенатарам усіх рымлянаў, адважна завалодаў гэтым пасадам, дамогшыся абрання часткова дзякуючы подкупу, часткова гвалтоўна. Вясной 1024 года ён быў каранаваны пад імем Яна XIX, пры гэтым, верагодна, захаваў за сабой і сан сенатара.

Імператар Генрых II памёр 13 ліпеня 1024 года, і каранаванне яго наступніка Конрада і яго жонкі Гізелы была здзейснена з вялікай урачыстасьцю Янам XIX у 1027 годзе ў базіліцы Пятра, у прысутнасьці Рудольфа III, караля бургундзкага, і Канута, караля Англіі і Даніі.

Прастадушным помнікам знаходжання ў Рыме гэтага Конута з'яўляецца яго ліст да ангельскага народа. Конут з захапленнем правінцыяла паведамляе сваім падданым, што ён быў на ўшанаванні ва ўсіх сьвятынях Рыма і адчувае сябе тым больш шчасьлівым, што св. Пятро, як яму паведамілі пра тое мудрыя людзі, атрымаў ад госпада ўладу вязаць і дазваляць, чаму і важна ўсім мець заступніка перад богам у асобе захавальніка ключоў царства нябеснага. З дзіцячай гонарлівасьцю апісвае ён ушанаванне, якое было яму выказана бліскучым сходам валадароў, атачаючых вялікага пантыфекса і імператара і прыбыўшых із земляў, працягваючыхся ад гары Гаргапа і да Тусцыйскага мора, і потым паведамляе, што ангельцы і датчане, як паломнікі, так і купцы, наведваючы Рым, з гэтага часу ужо не будуць плаціць пошлін.

---

[229] Напрыклад, на саборы ў Павіі ў 1018 ці 1022 г. (Mansi, XIX, 323; Monumenta Germanica, Leges,11. 582). Легенда пра тое, што сужыццё сьвятароў з жанчынамі было асуджана яшчэ на Нікейскім саборы, вядома, апакрыфічная, бо на Ўсходзе яны ўвесь час былі адружанымі. Але і на пастанову Бенедыкта VIII ніхто не звярнуў увагі, як мы вельмі добра пабачым далей.

Такім чынам уздзейнічала пышнасць пантыфікальнага Рыма на тады яшчэ сьціплых цароў аддаленых еўрапейскіх краін!

Штогадова абіраўшыяся рымскія консулы, якія нічым не адрозніваліся ад апісваемых класікамі, набіралі усё большую і большую магутнасць менавіта ў гэты час.

Пасьля сьмерці Яна XIX у студзені 1033 года, рымскі консул Альберых паспрабаваў забяспечыць за сваім родам як свецкую, так і самую высокую духоўную ўладу, і вось напачатку 1033 года яго сын Феафілакт, 12 гадоў ад роду, бесперашкодна ўступіў ва ўладанне Латэранам пад імем Бенедыкта IX.

Усіх артадаксальных гісторыкаў натуральна здзіўляе, як мог быць абвешчаны вялікім пантыфексам дванаццацігадовы хлопчык, у дадатак да быўшай ужо перад гэтым пантэфіцыны-жанчыны Джаваны (855-888). Але гэтае здзіўленне дарэчнае толькі са старога боку гледжання, які дапасуе з’яўленне Евангелляў да першых стагоддзяў нашай эры і апісвае рымскіх пантыфексаў да Рыгора Гільдэбранда (1073-1085 г.) адпаведна з сутнасьцю сучасных рымскіх папаў. А з нашага боку гледжання тут няма ніякага дзіва, таму што закона, забараняўшага жанчынам быць служкамі культу (loi salique), да няшчаснай сьмерці Джаваны ад родаў падчас рэлігійнай працэсіі, яшчэ не існавала, ды і рымскія пантыфексы да Гільдэбранда былі больш падобнымі на «класічных pontifex maximus'аў» з нашчаднымі правамі, чым на сучасных, абіраемых кардыналамі папаў, і гэта падцверджваецца і ўсімі далейшымі паводзінамі Бенедыкта IX.

Як толькі ён адчуў у сабе наступленне фізічнай сталасьці, ён афіцыйна завёў сабе гарэм поводле ўзору Давыда і Саламона, але толькі без пустыніцтва сваіх жонак. «Мы, – сведчыць Грэгарэвіус, – толькі цьмяна ведаем пра змову рымскіх капітанаў, якія далі клятву задушыць яго ў дзень сьвята апосталаў, але ў гэты дзень адбылося сонечнае зацьменне».

Згодна з сучаснымі вылічэннямі яно ішло поўнай фазай каля паўдня паблізу Парыжа і паблізу Венецыі і Чорнага мора 29 чэрвеня 1033 года і было бачным у Рыме пасьля паўдня, як частковае. Магчыма, што яно навяло на змоўцаў жах і перашкодзіла ім прывесьці іхны намер у выкананне, ці сама змова была прыдумана для тлумачэнне гэтага зацьмення Сонца, але, ва ўсякім разе, Бенедыкт IX працягваў шчасьліва жыць і багаслужыць з усімі сваімі жонкамі, хаця узаконенае шматжонства ў Італіі, відаць, і выйшла тады ужо із моды ў асяроддзі хрысціянаў. Тады ж пачаліся аграрныя непаразуменні. Дробныя васалы (valvassores) паўсталі супраць сваіх феадалаў – герцагаў, графаў, біскупаў, і абатаў, патрабуючы ўсталявання больш трывалага парадку землеўладання. Да паўстаўшых далучыліся тыя ўладальнікі маёнткаў, якія заставаліся па-за феадальнымі дачыненнямі і якім з боку біскупаў увесь час пагражала страта незалежнасьці. Вольныя людзі і васальныя рыцары, якія паўсталі супраць міланскага арцыбіскупа Герберта, склалі паміж сабой так званы ламбардзкі звяз. Суду імператара Конрада Герберт адмовіўся падначаліцца і быў разам з трыма іншымі біскупамі зняволены ім у турму без суда. Зімой 1037 года Конрад накіраваўся ў паўднёвую Італію,ператварыўшы далучыўшуюся да паўстання Парму, як відаць гіпербалічна выказваюцца гісторыкі, «у кучу попелу», ён пайшоў потым на Перуджу. Ён адсвяткаваў Вялікдзень 1038 года разам з пантыфексам каля Спела, 13 траўня ўступіў у Капую і перадаў гэтае герцагства Салернскаму герцагу Веймару, а горад Аверсу ў леннае валоданне нарману Райнульфу. Горад Аверса з'явіўся такім чынам пачаткам нарманскай дзяржавы ў паўднёвай Італіі, але ў войску Конрада з'явілася

чума і ён быў вымушаны ўжо летам ісьці назад, выносячы з сабой заразу. Ён вярнуўся ў Германію і памёр тут 4 чэрвеня 1039 года.

Прайшло некалькі гадоў і ў Італію прыйшоў новы германскі кароль Генрых III. Вялікі пантыфекс Бенедыкт IX жыў у гэты час па-ранейшаму спакойна ў Латэранскім палацы з усімі сваімі шматлікімі жонакамі «як турэцкі султан». Але раптам здарыўшыся ў гэты час землятрус быў патлумачаны хрысьціянскімі містыкамі, ужо памножыўшыміся да таго часу, як кара пакаране народу за яго шматжонства і выклікала паніку. Рымляне адракліся ад Бенедыкта і абвясьцілі вялікім пантыфексам сабінскага біскупа Яна, атрымаўшага імя Сільвестра III.

Падзеі, суправаджаўшыя гэтае новае абранне, таксама мала адпавядаюць нашым сучасным уяўленням пра неадружальны стан рымскіх пантыфексаў пад час сярэдневеча. Яны супярэчаць нават уяўленням і пра іхнае аднажонства, і больш адпавядаюць біблейскаму і ісламіцкаму сямейнаму побыту сьвятарства. Нам паведамляюць, што Джэрарда дэ Сакса, хітры і магутны рымлянін, спачатку абяцаў Бенедыкту IX «адружыць з ім і сваю дачку», але потым адмовіўся выканаць сваё абяцанне. Каб атрымаць яе руку, закаханы вялікі пантыфекс быў гатоў на ўсё, і калі Джэрарда абвясьціў яму, што ён аддасць яму сваю дачку толькі ў тым выпадку, калі ён адмовіцца ад тыяры (магчыма даваўшую яму права на шматжонства), то Бенедыкт пагадзіўся і на гэта, і сам склаў з сябе свой сан, але, аднак, і пасьля гэтага не атрымаў сабе ў жонкі дачку Джэрарда.

Артадаксальныя гісторыкі, паўтараю, трапляюць у тупік перад гэтым гістарычным фактам, аспрэчыць які няма ніякай магчымасьці. **Напярэдадні ўвядзення неадружанасьці каталіцкага сьвятарства на чале яго стаяў вялікі рымскі пантыфекс, меўшы на працягу шматлікіх гадоў сапраўдны гарэм, ніколькі не саромячыся яго і не адмаўляючы ад яго!** Як бы ён мог гэта зрабіць, калі б да яго на працягу тысячагоддзя нічога падобнага не было? Тут ёсць ад чаго аслупянець, але патрэбна ж, нарэшце, выйсьці са слупняку і асэнсаваць тое, што мы ведаем. А асэнсаваць гэта можна толькі адным спосабам: шматжонства было такой жа нармальны з'явай сярод сярэднявечных рымскіх пантыфексаў, што пра яго нават і не згадвалася ў іхных жыццяапісаннях, як не згадвалася і пра тое, што яны кожны дзень абедалі ці час ад часу выходзілі пагуляць. А пра шматжонства Бенедыкта загаварылі толькі таму, што ў яго час яно ўжо пачало лічыцца заганай у асяроддзі астатняга вышэйшага грамадства і ўзнікла патрэба скасаваць яго і для кіраўніка культу, які, вядома, апошнім пагадзіўся б на такое памяншэнне сваіх прывілеяў. Гэтая рэформа ішла, відавочна, знізу ўверх, таму што непрывілеяваныя грамадзяне заўсёды жылі фактычна ў стане аднажонства дзякуючы натуральнай роўна-колькаснай наяўнасьці мужчын і жанчын, і звычайная нешляхетная моладзь, вядома, зайздросьціла гарэмшчыкам, якія забіралі ў іх лепшых нарачоных.

І наогул патрэбна сказаць прама, што ўсе такія недарэчнасьці у гісторыі сярэднявечнага рымскага пантыфікату знікаюць толькі пры наступных дапушчэннях:

1. Да рэформы Рыгора Гільдэбранда ў XI стагоддзі, не існавала нават і тытула «папа», а толькі існаваў тытул вялікі рымскі пантыфекс (pontifex maximus'ы), якія жылі ва ўмовах апісаных у класікаў.

2. У рымскіх пантыфексаў, як і ў князёў, не існавала салічнага закону, забараняўшага жанчынам займаць пантыфікальны пасад (асабліва пры панаванні культа Мадонны), таму што аднолькава непраўдападобна як аспрэчваць існаванне пантыфіцыны Джаваны, як рэчаіснай асобы, так і прызнаваць яе толькі

пераапранутай у мужчынскае адзенне падманшчыцай. Гэта больш позьнія хітрыкі, з мэтай прыстасаваць да новай ідэалогіі абноўленага Гільдэбрандам каталіцызму, ранейшыя падзеі сярэдневечча. Джавана сядзела на пантыфікальным пасадзе такжа законна, як Лізавета на ангельскім, Кацярына на рускім і Ірына на грэцкім.

3. Рымскім пантыфексам не было забаронена шматжэнства, і яно існавала аж да Бенедыкта IX, г.азн. да паловы XI стагоддзі нашай эры, ды і усё заходнееўрапейскае сьвятарства было звычайна свецкім і адружаным. Яно, як і пантыфексы, не займалася адной тэалогіяй ў навейшым сэнсе гэтага слова. Ды і сама тэалогія пад час сярэдневечча ўяўляла толькі філасофскае аб'яднанне ўсіх тагачасных, яшчэ большай часткай містычных ведаў, і аб'ектамі вывучэнні былі, галоўным чынам, магія, алхімія, астралогія (чаму і замкі служак культу зваліся манастэрыёнамі, г.азн. зоркамерамі, толькі з часоў крыжовых паходаў ператварыўшыхся ў сучасныя кляштары, дзякуючы аддзяленню рэлігіі ад навукі). Рупліва вывучалася і практыкавалася і медыцына, як між іншым бачна і із паведамленняў пра гэтага самага пантыфекса-шматжонца Бенедыкта IX.

«*У асяроддзі забабоннага народу,* – сведчыць Грэгарэвіус, – *распавядалі быццам бы ён сыходзіў у лясы і там заключаў дамовы з чарцямі, быццам бы жанчын ён прыцягваў да сябе чарамі і быццам бы у Латэранскім палацы існавалі магічныя кнігі, з дапамогай якіх ён здзяйсняў загаворы над дэманамі*»[230].

Але вось, калі адрокшыся Бенедыкт не атрымаў сабе дзяўчыну, дзеля якой ён гэта зрабіў, у ім з'явілася жаданне адпомсьціць Джэрарда за яго падступныя дзеянні. Шматлікая партыя Бенедыкта яшчэ трымала замак св. Анёла ў сваіх руках, і ўсяго праз 49 дзён, яго спадкаемца Сільвестр III быў імі прагнаны, і ў сакавіку 1043 года Бенедыкт зноў заняў пантыфікальны пасад, тым часам як Сільвестр III, схаваўшыся ў адным із сабінскіх замкаў, таксама працягваў называць сябе вялікім пантыфексам. Потым ён прадаў «за 1500 фунтаў» свой сан Яну Грацыяну, заможнаму протапрэсвітару царквы св. Яна каля Лацінскай брамы, і, такім чынам, Грацыян, ён жа Рыгор VI, заняў пантыфікальны пасад прама «за грошы» без якога б то ні было абрання.

І гэта зноў жа вельмі характэрыстычны факт для безстаронняга высьвятлення пытання пра тое, што такое ўяўляла сабой тагачасная рымская царква.

Праславіўшыся ў свой час у якасьці ідыёта, Рыгор VI у рэчаіснасьці быў, напэўна, не дурным чалавекам. Ён прабыў анты-пантыфексам амаль два гады, а ў гэты час пантыфекс Бенедыкт IX жыў і ў Тускуле, і ў Рыме. Ён працягваў, – сведчыць Грэгарэвіус, – сваё шматжонства, а пантыфікальнае сьвятарства бавіла час у вэрхалах. Анархія ў Рыме дайшла, згодна з паведамленнямі, да такой ступені, што ў горадзе ў адзін і той жа час мелі рэзідэнцыю тры пантыфексы: адзін у базіліцы св. Пятра, другі – у Латэране і трэцці – у цэрквы Santa Maria Maggiore.

Свецкія рымляне вырашылі, нарэшце, засяродзіць свае надзеі на кайзерыцэзары Германіі; архідыякан Пятро склікаў сабор, на якім было вырашана прасіць Генрыха прыбыць у Рым і выратаваць пантыфікат ад разбурэння. У верасні 1046 года суправаджаемы вялікім войскам Генрых III прайшоў із Аўгсбурга па Брэнерскаму шляху ў Верону. Сабор біскупаў і рымскага сьвятарства быў скліканы

---

[230] Гл. Benno: Vita Gildebrandi, стар. 82. Згодна з яго словамі, Бенедыкта пазнаёміў з магіяй амальфійскі арцыбіскуп Лаўрэн, настаўнікам якога быў Сільвестр II. Ад іх жа навучыўся магіі і Рыгор VII. Мы бачым і тут тое ж самае, што ў пытанні пра саліцкі закон пантыфікату і пра шматжонства; пра навуковыя заняткі пантыфексаў і назіральнікаў; (біскупаў па-грэцку) хранікёры не згадваюць дзякуючы таму, што да XI стагоддзя гэта і была іхная непасрэдная прафесія.

ім у Сутры незадоўга да Каляд 1046 года і на яго былі запрошаны ўсе тры папы, але з'явіліся толькі двое: Рыгор і Сільвестр ІІІ, а Бенедыкт не прыехаў. Пасьля сабора Генрых з біскупамі і маркграфам Баніфацыем накіраваўся ў Рым, які не зачыніў перад ім свае брамы, таму што Бенедыкт IX быў у Тускуле, а браты Бенедыкта не адважыліся супраціўляцца цэзару (па-нямецку: кайзеру).

Скліканы ім 23 снежня ў базіліцы Пятра сабор абвясьціў пазбаўленымі пасады ўсіх трох пантыфексаў, таму што ў Генрыха, яшчэ да яго каранавання, ужо быў чалавек, якому было наканавана ўскласьці на сябе тыяру. Але Генрых паступіў дыпламатычна.

– Рымскія сеньёры, – прамовіў ён быццам бы на другім паседжанні сабора 24 снежня, – якімі ні вар'яцкімі былі вашы ўчынкі да гэтага часу, але я ўсё ж, згодна са старажытным звычаем, захоўваю за вамі волю абрання; абвясьціце на гэтым сходзе таго, каго вы жадаеце.

– Калі ваша цэзарская вялікасць прысутнічае тут, – адказалі быццам бы рымляне, – нам нягодна займацца выбарамі; а калі вы адсутнічаеце, ваша месца заступае патрыцый. Мы прызнаём, што зрабілі па-вар'яцку, абіраючы пантыфексамі ідыётаў. З гэтага часу, пад шатамі вашай цэзарскай улады, рымская рэспубліка прызнае дабрадзейнае ўздзеянне законаў і ўпрыгожыцца добрымі норавамі, а царква знойдзе свайго абаронцу.

Кайзер-цэзар прапанаваў сходу біскупа бамберскага, і той стаў вялікім пантыфексам пад час Каляд 1046 года пад імем Клімента ІІ. Ён неадкладна каранаваў Генрыха і яго жонку імператарскай каронай.

*Падыходзячы да Рыма*, – сведчыць Грэгарэвіус[231], – *у суправаджэнні сваёй жонкі і сьвіты, імператар-выбраннік, як і іншыя каранаваўшыяся цары, спыніўся каля невялікага моста на «Неронавым* (г.зн. у перакладзе: Чорным) *полі» і тут перадусім даў рымлянам клятву ў тым, што правы і звычаі горада будуць ім заўсёды ахоўвацца. Потым, у дзень каранавання, ён уступіў у Рым праз Porta Castelli каля замка св. Анёла і тут зноў вымавіў сваю клятву. Святарства і рымскія карпарацыі сустрэлі яго каля царквы Santa Maria Transpontia, на тым легендарным месцы, якое мела назву Terebinthus Neroni.*

Сенатары ішлі па баках караля, наперадзе прэфект горада нёс аголены меч, а камерарыі караля раздавалі народу грошы. Каля дзядзінца кароль злез з каня і, суправаджаемы сьвітай, падняўся на пляцоўку, дзе яго чакаў вялікі пантыфекс, атачаны вышэйшым сьвятарствам. Кайзер пацалаваў у яго нагу, і даў клятву быць верным абаронцай царквы, пасьля чаго пантыфекс пацалаваў караля і абвясьціў яго сынам царквы. Потым яны абодва пры ўрачыстых спевах зайшлі ў царкву Santa Maria in Turri каля базылікі Пятра, і тут Генрых фармальна быў абвешчаны імператарам, кіраўніком базілікі. Пасьля таго, сьледам за латэранскім пфальцграфам і прыміцэрыем-суддзёй, Генрых падышоў да срэбных дзьвярэй сабора і памаліўся перад імі, пры гэтым біскуп албанскі прачытаў першую малітву. У самой базіліцы Пятра кайзер быў вымушаны браць удзел у незлічоным шэрагу розных містычных звычаяў. Непадалёку ад уваходу стаяў rota porphiretica, г.зн. умайстраваны ў падлогу круглы парфіравы (напэўна, спачатку метэарытны) камень (дзякуючы чаму і назва: храм Каменя Пасланніка, апостала Пятра па-грэцку). Каля яго як кайзер так і пантыфекс апусьціліся на калені. Будучы імператар вымовіў знак веры, і следам за тым кардынал-біскуп Пятро стаў на сярэдзіну каменя і вымовіў другую малітву.

---

[231] Т. IV, стар. 48.

«*Пры ўсіх такіх каранаваннях,* – сведчыць Грэгарэвіус, – *кайзера апраналі ў новае адзенне; у рызніцы пантыфекс абвяшчаў яго клірыкам; яго апраналі ў туніку, далматыку, сьвятарскую рызу, мітру і сандалі і, нарэшце, вялі да ахвярніка св. Маўрыкія; сюды ж накіроўвалася і каралева, пасьля такіх жа, але менш стамляючых цырымоній. Тут біскуп астыйскі здзяйсняў памазанне правай рукі і патыліцы кайзера і прамаўляў трэцюю малітву. Урачыстасць усіх гэтых цырымоній, іх містычны характар, цяжкаватая пышнасць, манатонны спеў малітваў у сьценах старажытнага сабора, – усё гэта павінна было вырабляць узрушаючае ўражанне на таго, хто каранаваўся. Вялікі рымскі пантыфекс спачатку апранаў на палец памазанцу залаты пярсцёнак у знак таго, што яго кіраванне павінна быць прасякнута верай, цьвёрдасцю і магутнасьцю. Такім жа знакам служыў меч, якім пантыфекс пры адпаведных усклíканнях падпяразваў караля. А пасьля ўсяго гэтага ён ускладаў на галаву кайзера (на-лаціне цэзара) карону, а царква напаўнялася гукамі «Gloria» і ўсклíканнямі: «Жыве імператар»!*

*Імператар здымаў з сябе імперскія знакі і, як інадыякан, служыў разам з пантыфексам абедню; пасьля яе заканчэння, пфальцграф здымаў з ног імператара сандалі і апранаў яму чырвоныя імператарскія боты са шпорамі св. Маўрыкія. Потым уся працэсія, разам з пантыфексам, выходзіла із царквы і, пры звоне званоў, сярод размалёваных гарадзкіх будынкаў накіроўвалася па так званаму трыумфальнаму шляху баляваць у Латэран*».

Генрых пасьля заканчэння такой цырымоніі далучыў да сану імператара яшчэ і рымскі патрыцыят, і гэтак жа, як некалі Карл Вялікі, называўся ў сваіх дакументах патрыцыем. А я яшчэ дадам да гэтага: замяніце тут толькі нямецкае слова **кайзер**, не яго выпадковым перакладам у нас кароль (г.азн. Карл), а яго лацінскім вымаўленнем **цэзар**, і ўся гэтая гісторыя набудзе самы сапраўдны класічны каларыт, як і ўся гісторыя «Святой Рымскай імперыі» Карла Вялікага.

Падтрыманы Генрыхам, Клімент II у студзені 1047 года склікаў першы сабор, накіраваны супраць «сіманіі»; потым пад канец таго ж месяца ён выправіўся суправаджаць Генрыха ў паўднёвую Італію. На шляху праз Лацыум імператар уціхамірыў некалькіх капітанаў, але не падначаліў сваёй уладзе тускуланскіх графаў. У Германію ён вярнуўся праз Рыміні і Равэну яшчэ ранняй вясной, захапіўшы з сабой ў якасьці дзяржаўнага закладніка былага пантыфекса Рыгора VI, таму што яго знаходжанне ў Рыме магло быць нагодай новых хваляванняў. Клімент жа вярнуўся ў Рым. Яшчэ не знікшае ўражанне магутнасьці германска-рымскага імператара забяспечвала яму спакойнае становішча, але гэта было толькі на кароткі час. Рымляне скарыліся перад імператарскай уладай, але яны па-ранейшаму ставіліся да яе, як да нясьцерпнага ярма, і нават самаму магутнаму валадару ніколі не атрымоўвалася падпарадкаваць гэты горад, не жывучы ў ім і не пакінуўшы ў ім гарнізон.

Рымляне зноў павярнулі свае позіркі да Бенедыкта IX, які, застаючыся са сваімі жонкамі ў Тускуле, назіраў за пераваротам у Рыме, дзе ў яго былі свае агенты, і чакаў толькі зручнага выпадку, калі ў яго з'явіцца магчымасць зноў завалодаць пантыфікатам. І вось 9 кастрычніка 1047 года германскі пантыфекс раптам памёр у кляштары св. Тамаша паблізу Пезара, і сьледам за гэтым Бенедыкт з усім сваім гарэмам з'явіўся ў Рым і зноў заняў пантыфікальны пасад.

Генрых загадаў абраць анты-пантыфексам Панона, біскупа брыксенскага. Яго амбасадары зноў прагналі Бенедыкта IX із Рыма і анты-пантыфекс уступіў на пасад 17 ліпеня 1048 года пад імем Дамас II. А Бенедыкт IX з'ехаў у свой замак Тускул, прабыўшы апошні раз у сьвятым сане 8 месяцаў і 9 дзён, і потым,

перанасыціўшыся жыццём, выдаліўся ў манастэрыён Grotta Ferrata, і пасьля сваёй сьмерці, як Давыд, быў прызнаны сьвятым[232].

А новы германскі пантыфекс пакінуў горад, ледзь паспеўшы паказацца рымлянам. Пакутуючы ад пякучай спёкі і, магчыма, асьцерагаючыся за сваё жыццё, Дамас пасяліўся ў Палестрыне, класічным «Прэнэстэ». Будучы царкоўным ленам, гэты горад яшчэ заставаўся пад уладай нашчадкаў Бенедыкта і Стэфаніі. Але 9 жніўня 1048 года, усяго толькі праз 23 дні пасьля пасьвячэння, яго спасьцігла нечаканая сьмерць. На пантыфікальны пасад сеў Бруна, блізкі сваяк імператара Конрада і, сам таго не ведаючы, паклаў пачатак новаму перыяду ў існаванні Рыма. У лютым 1049 года новы пантыфекс прыйшоў у Рым у суправаджэнні толькі невялікай сьвіты і ішоў па гораду босым, пакорліва чытаючы малітвы. Але сярод асоб, складаўшых яго невялікае атачэнне, быў выдатны чалавек, Гільдэбранд, капелан выгнанага пантыфекса Рыгора VI. Яшчэ будучы ў Францыі, Бруна наблізіў да сябе Гільдэбранда, і згодна з яго патрабаваннем, як паведамляюць, надзеў на сябе зараз адзенне паломніка і абвясьціў, што ён сядзе на сьвяты пасад толькі ў тым выпадку, калі будзе абраны згодна з кананічнымі правіламі. І вось, прыйшоўшы ў Рым без шуму і непрыкметна, разам з новым пантыфексам, Гільдэбранд вы'явіўся ў вечным горадзе стваруючай магутнасьцю, якая прынесла ў пантыфікат цалкам новае ўладкаванне, тое самае, якую мы і бачым зараз.

Рымляне сустрэлі паломніка-чужаземца працэсіяй каля брамы горада. На шматлікім сходзе, скліканым у базіліцы Пятра, Бруна абвясьціў рымлянам, што імператар прызначыў яго пантыфексам, але што сам ён вырашыў вярнуцца ў сваё біскупства, калі гэты сан не будзе ўскладзены на яго сьвятарствам і народам. Яго абранне, вядома, было толькі адной фармальнасьцю, але прынцып, абвешчаны ім, схіліў да яго народ і забяспечыў яму спакойнае жыццё ў Рыме.

# Глава II.
## Новыя павевы.

Пад імем Ільва IX ён уступіў на пасад «Каменя» 12 лютага і царква вельмі хутка адчула, што на яе падуў новы вецер строгіх рэформаў. Ён склікаў саборы, каб змагацца з сіманіяй (г.азн. галоўным чынам са спадкаемствам прыходаў, пазней пераўтворанага ў «прадаваемасць») і неадружаным сужыццём сьвятарства. А якім было гэта неадружанае сужыццё тагачасных сьвятароў дастаткова зазірнуць у кнігу «Gomorrhianus» Пятра Даміяні, дзе ён пералічвае грахі сучаснага яму сьвятарства[233].

---

[232] Плячэнтыні ў сваёй кнізе «De Sepulcro Benedicti IX» (1747 г.) сцвярджае, што магільня, знойдзеная ў Grotta Ferrata, належыць гэтаму пантыфексу. У самым кляштары шмат што сведчыць пра старажытнасьць і нагадвае гэтую эпоху. Над дзвярамі старажытнае выслоўе: Οίκου Θεοῦ μελλόντες είσβαίνειν πύλην έξω γένοισθε τῆς μέθης τῶν φροντίδων ἵν΄ έυμενῶς έυροιτε τον κριτήν έσω. А гэта, – сведчыць сам Грэгарэвіус (VII, 2), – паказвае, што грэцкая мова была ўжываемай у Італіі і тады. І ён падцвярджае гэта яшчэ і тым, што ў 1153 г. абат гэтага кляштара падпісвае адзін рымскі дакумент; εγω νικολαως ηγουμενος Κρηπτα Φερατ υπεγραφψα..

[233] Гл. яго «Liber Gomorrhianus, de diversitate peccantiam contra naturam» («Кніга Гамарыянская пра розныя ненатуральныя грахі») з пасьвячэннем пантыфексу Ільву IX і з яго адказваючым падзячным лістом. Адзін із пазнейшых пантыфексаў, Аляксандр II, нават забараніў гэтую кнігу. Амаральнасць рымскага сьвятарства дасягала такіх памераў, што потым кожны біскуп перад пасьвячэннем падпадаў допыту, ці не вінаваты ён у адным із чатырох злачынстваў, якія я лепш пакіну без перакладу: arsenochila q. e. masculo; pro ancilla dei

У часы «патрыцыяў» ці «сенатараў усіх рымлянаў» (ды, напэўна, і раней таго) усе царкоўныя пасады, ад чыну псаломшчыка да сану кардынала-біскупа, даваліся таму, хто даваў за іх больш грошай, пакуль, нарэшце, нават і пантыфікальны сан не зрабіўся таксама крыніцай штогадовай рэнты. Склікаўшы свой першы сабор у красавіку 1049 года, Леў IX прыйшоў да высновы, што рымскія цэрквы могуць застацца цалкам без пастыраў, калі толькі ён будзе строга праводзіць у жыццё свае рэформы, але ўсё ж шмат хто із асабліва амаральных ў стацевым дачыненні біскупаў і клірыкаў былі пазбаўлены ім пасады. За Ільвом стаяў Гільдэбранд, яго іпадыякан і абат манастэрыёна (я захоўваю грэцкую назву, каб адрозніваць гэтую ўстанову ад сучасных кляштароў), займаўшы з той пары пры шасьці папах пасаду усемагутнага міністра.

Змаганне за абнаўленне царквы і пастаянныя паездкі дзеля гэтага паміж Італіяй і Германіяй, не далі Ільву IX магчымасьці надаваць увагу палітычнаму становішчу царкоўнай дзяржавы. Пры Бенедыкце IX (ды, напэўна, і ўвесь час да яго) у Латэране існавала распутная сядзіба, і Леў IXператварыў яе ўпершыню ў сучасны кляштар. Але нават і такі аскетычны чалавек, як ён, не змог пазбегнуць свецкіх інтарэсаў.

У 1050 годзе імператар зацвердзіў яго рэгентам Беневента, саступіўшы пантыфікату гэты горад замест біскупства Бамберскага, якое было падаравана рымскай царкве Генрыхам II. У 1051 годзе Леў IX зрабіў спробу абараніць гэтае сваё набыццё ад дамаганняў нарманаў. У лютым 1053 года ён змог прывезьці з сабой із-за Альпаў германскіх наймітаў і натоўп шукальнікаў прыгод. Але ён быў пераможаны нармандцамі[234] і ўзяты імі ў палон. Раздаваліся галасы, сцвярджаўшыя, што яго спасьцігла «кара госпада». – «*Пастыру,* – выказваліся шмат хто, начытаўшыся пашыраючыхся зараз на Захадзе Евангелляў, – *належыць весьці змаганне толькі з дапамогай духоўнай зброі, а ўзбройвацца жалезным мячом дзеля мірскіх інтарэсаў яму не годна. Хрыстос павучаў сваіх вучняў не весьці вайну з народамі, падобна свецкім валадарам, а змагацца з грэшнасьцю людзей выказваннем хрысьціянскай навукі*».

І падобнае разважанне само сабой паказвае, што адмоўна ставіўшаяся да адружання Евангелле лягчэнца Мацьвея з'явілася на лацінскай мове незадоўга да XI стагоддзя: бо нікому ж із папярэднічаўшых пантыфексаў не забаранялася ваяваць і быць адружаным.

З рыцарскай ветлівасьцю і практычнай абачлівасьцю пераможцы правялі сваіх палонных у Беневент. Хворы і прыгнечаны горам пантыфекс уступіў у горад праз пяць дзён пасьля бітвы.

12 сакавіка 1054 года граф Гумфрыд праводзіў яго ў Капую і адтуль 3 красавіка Леў вярнуўся ў Рым, не з трыумфам, як некалі Ян X пасьля бітвы пры Гарыльяна, а як чалавек, існаванне якога было сапсавана. Для яго ўжо не заставалася нічога радаснага на сьвеце, і ён памёр 19 красавіка 1054 года, яшчэ не маючы і 50 гадоў ад нараджэння.

У гэтым жа годзе, – паведамляюць нам, – грэцкая царква перастала лічыць рымскага пантыфекса сваім аднаверцам. Падзел хрысьціянскай царквы на Ўсходнюю і Заходнюю гісторыкі дапасуюць да 1054 года, але дрэнна і

---

sacrata; pro quatuor pedes et pro muliere viro alio conjuncta (Ordo Romus VIII; Mabillon: Mus. Ital. II, 86. Грэгарэвіус VII, 2, заўв. 40).

[234] Грунтуючыся на геаграфічных меркаваннях лацінскіх нарманаў даводзіцца лічыць французкімі нармандцамі.

непераканаўча матывуюць яго падставы. Ці не быў гэты падзел у сувязі з вялікім павелічэннем вулканічнай дзейнасьці Вязувія паміж 1036 і 1049 гадамі, калі струмені лавы даходзілі да самога мора, а камета 1049 года прайшла праз галаву Авена і палохала ўсіх на працягу 114 дзён сваёй бачнасьці[235]? І ці не былі гэтыя ж грозныя з'явы, патлумачаныя гневам бога-бацькі на сапсаваўшыя норавы заходняга сьвятарства, падставай і пачынаня пазней рэформы пантыфікальнай царквы?

Генрых III памёр 5 кастрычніка 1056 года, маючы ўсяго 39 гадоў ад нараджэння, і ім быў закончаны шэраг магутных імператараў франкскага роду, якія вывялі Германію на вяршыню яе тагачаснай сусьветнай магутнасьці. Паміраючы, ён пакідаў пасьля сябе толькі жонку-валадарку Агнэсу і цэзара-дзіцёнка; самым блізкім дарадцам імператрыцы павінен быў быць пантыфекс, таму што імператар, паміраючы, пакінуў на яго апеку і сваю імперыю і свайго спадкаемцу. Імем імператара рымскі пантыфекс зараз кіраваў усімі землямі кароны, але хутка памёр.

Так бурылася адзіная апора імперскай улады ў Італіі. Пасьля сьмерці апошняга пантыфекса – прызначэнца імператара – пад час рэгенцтва слабой жанчыны можна было адважыцца на спробу здзейсніць абранне незалежна ад імператарскай улады.

Рымляне неадкладна пажадалі мець пантыфексам кардынала Фрыдрыха, чалавека княскага паходжання, валодаючага выбітным розумам і загартаваным характарам. Згараючы ад нецярпення, сьвятарства, шляхта і народ накіраваліся 2 жніўня ў Палатын. Магутны кардынал быў адведзены ў царкву S. Pietro ad Vincula, і тут паспешна абвешчаны вялікім пантыфексам пад імем Стэфана IX.

Гэты перыяд часу быў выдатным. Евангельскае вучэнне Мацвея і Лукі, як вада, прасочвалася з нізоў нястрымана, дзякуючы сваёй дэмагагічнай сутнасьці. «У той час, – сведчыць Грэгарэвіус (VII, 3), – біскупы бралі ўдзел у паганскіх оргіях, а ў келлях, уладкаваных у цяжка даступных гарах, манахі-анахарэты ляжалі распасьцёртымі ў поўным глыбокага ўшанавання экстазе, адрокшыся ад сьвету», і – дададзім ад сябе – чытаючы добравяшчанні Яна, Марка, Лукі і, асабліва, лягчэнца-дэмагога Мацьвея. Але гэтыя тысячы пустынікаў былі толькі ніжнімі прыступкамі піраміды, а больш адораныя натуры, паднімаючыся вышэй, набывалі ўплыў у шырокіх грамадзкіх колах і вялі заможных і шляхетных людзей да таго, што яны аддавалі рымскай царкве і сваю душу, і сваю маёмасць. Аднаму і таму ж стагоддзю належаць і Дамінік дзі Сора, і Пятро Даміяні. Апошні вызначаўся выбітнымі здольнасьцямі. Не будучы стваральнікам манаства, ён уяўляў сабой вялікую маутнасць, якую надаваў містычны запал. Ён нарадзіўся ў Равэне ў 1007 годзе. Дзяцінства яго было няшчаслівым, ён быў вымушаны пасьвіць свінней, пакуль не быў узяты на выхаванне сваімі роднымі. Прысьвяціўшы сябе вывучэнню граматыкі, ён потым зрабіўся навуковым чалавекам і быў ужо настаўнікам у Равэне, але, ідучы следам за сваім меланхалічным тэмпераментам, не пераставаў імкнуцца да адзіноты. Прыняўшы рашэнне зрабіцца пустыннікам, ён пасяліўся, нарэшце, у скіце, заснаваным Рамуальдам каля Губіо.

Падобна гэтаму Рамуальду і Пятро заснаваў скіт, сабраў вучняў і потым пачаў рассылаць іх у правінцыі як прапаведнікаў евангельскага жыцця. Яго слава пашырылася па ўсёй Італіі. Даміяні, як і ўсе энтузіясты, не валодаў моцным розумам. Ён вызначаўся вялікай прастатой, і яго ўяўленне было загрувашчана містычнымі выявамі Евангелляў, Апакаліпсіса і біблейскіх прарокаў. Але менавіта

---

[235] Хрыстос, кн. II, гл. II.

ўсё гэта і давала яму ўладу над народнымі масамі. Чалавеку з такімі талентамі, глыбока прасякнутаму рэлігійным запалам, немагчыма было заставацца пустынікам, і пантыфекс Стэфан IX прымусіў яго перасяляіцца ў Рым. Аднак пустынік не прымірыўся з жыццём сярод кардыналаў і шляхты. Строгі анахарэт меў дастаткова падставаў скардзіцца на кардыналаў, якія з сокаламі ў руках палявалі ў Кампаньі і захапляліся, як жаўнеры, гульнёй у косткі, высмейваючы пустыніка, калі ён забараняў ім нават нявінную гульню ў шахматы.

Атрымаўшы запрашэнне перайсьці ў Остыю, Даміяні стаў служыць царкве ў якасьці апостала неадружальнасьці і народнага прамоўцы адпаведна з тэкстамі запаведзей: «шчаслівыя бедныя духам, бо яны знойдуць суцяшэне» і «лягчэй вярблюду прайсьці праз іголкавае вушка, чым заможнаму патрапіць ў царства нябеснае».

Але сьмерць Стэфана IX дала магчымасць шляхце, як гарадзкой, так і тэрытарыяльнай, зноў высунуць наперад свае інтарэсы, і 5 красавіка яна самавольна пасадзіла на папскі пасад, пад найменнем Бенедыкта X, Яна Мінцыя, кардынала-біскупа Велетры.

Страціўшы які б то ні было ўплыў, але папярэдне аддаўшы ўсю шляхту анафеме, дэмагогі, з Пятром Даміяні на чале, шукалі выратавання ва ўцёках. Каб уладзіць спрэчку, пагражаўшую сур'ёзнымі непарзуменнямі, імператрыца Агнэса ў красавіку выправіла ў Фларэнцыю Гільдэбранда, як свайго ўпаўнаважанага, і паміж ім, Готфрыдам і Беатрысай, на саборы ў Сіене, было заключана пагадненне, згодна з якім вялікім пантыфексам быў абраны 18 снежня фларэнтыйскі біскуп Герард. Рымская шляхта выправіла ў Германію амбасаду з заявай, што рымляне заўсёды будуць верныя прысязе, дадзенай імі некалі Генрыху III. Бенедыкт збег у замак Пасарэна, заняты сынам прэфекта Крэстэнцыя, і адтуль, праз некаторы час, да графа галерыйскага. Бургундзец Герард быў без перашкод пасаджаны на пантыфікальны пасад пад імем Мікалая IV. Ён склікаў (у красавіку 1059 года) свой першы сабор із 113 біскупаў, амаль адных італійцаў, і на ім зноў былі забаронены адружанні сьвятарства пасьля прыняцця сану і прадажа царкоўных пасад і, нарэшце, быў прыняты закон пра парадак абрання вялікага пантыфекса.

Гэтым знакамітым дэкрэтам, аўтарам якога быў Гільдэбранд, калегія рымскіх кардыналаў узводзілася на ступень царкоўнага сената, із асяроддзя якога толькі і маглі быць абіраемы пантыфексы. Дэкрэтам было дэкралавана, што пантыфекс абіраецца выключна рымскімі кардыналамі, а народ толькі далучаецца да гэтага абрання. Такім чынам і атрымалася, што ў той час, калі гарадзкая шляхта вылучала прэтэнзію ўяўляць сабой па-ранейшаму рымскі сенат, пантыфекс супрацьпаставіў консулам і сенатарам калегію кардыналаў, і ўжо Даміяні з часу яго выбарчага дэкрэта прыраўноўваў сем кардыналаў-біскупаў Латэрана да старажытна-рымскага сената. Ахопленая на палову манархічным і на палову дэмагагічным духам, царква ўсё больш і больш набывала форму палітычна арганізаванай ўстановы. Народ быў адхілены ад выбараў свайго вялікага пантыфекса, і прызначэнне вярхоўнага біскупа ператваралася ў прывілей невялікай колькасьці вышэйшых сьвятароў, жыўшых у Рыме. Каб абараніць абранне пантыфекса ад станавых рухаў у Рыме, было ўсталявана, што абранне не павінна адбывацца неадменна ў Рыме, – і што вялікі рымскі пантыфекс можа абірацца, з выкананнем кананічных правілаў, нават не поўным сходам кардыналаў у якім заўгодна месцы. Абіраемы мог нават не належаць да рымскай царквы.

У той час кардыналы яшчэ не насілі пурпуру, але паступова пачалі дзяліць з пантыфексам яго свецкую ўладу, і яшчэ больш ганарлівыя, чым ранейшыя сенатары, падавалі дамаганні на становішча валадароў згодна з нараджэннем. І вось, маючы на ўвазе небяспекі, якімі пагражалі царкве германскія патрыцыі і рымская шляхта, пантыфексы ўсклалі ўсе свае надзеі на тых самых нармандцаў-заваёўнікаў (г.азн. грунтуючыся на геаграфічных меркаваннях не інакш, як паўночных французаў із Нармандыі), з якіх яшчэ нават не было знята імі адлучэнне ад царквы.

З часу сваёй перамогі над Ільвом IX гэтыя «нармандцы» паспелі зрабіць шмат набыццяў; пад іхнай уладай знаходзіліся амаль уся Апулія і Калабрыя. У 1058 годзе Рычард Авернскі забраў знакамітую Капую ў Ландульфа, апошняга ламбардзкага валадара гэтага горада, і неўзабаве потым Роберт Гюіскар захапіў моцную Трою. І абодва бакі, шукаўшыя падтрымкі адзін у аднаго, зблізіліся. У 1059 годзе Мікалай ІІІ склікаў сабор у Мельфі, і ўсе заваёвы, зробленыя нармандцамі, былі прызнаны, за выключэннем Беневента, які быў у іхным валоданні, як лен сьвятога пасада. Рычард быў прызнаны валадарам Капуі, Гюіскар – графам і герцагам Апуліі і Калабрыі. Яму ж была абяцана і Сіцылія на выпадак, калі ён забярэ яе ў ісламітаў і грэкаў. Як васалы, нармандцы прынесьлі прысягу пантыфексу і абавязаліся штогадова плаціць даніну. Яны пакляліся, што будуць ахоўваць уладанні царквы і падтрымліваць тых пантыфексаў, якія будуць абраны згодна з кананічнымі правіламі лепшымі кардыналамі.

Такім чынам выбарчы дэкрэт Мікалая ІІ быў пастаўлены пад узброеную абарону заваёўнікаў паўднёвай Італіі і прызнаны перадусім іх валадарамі, а рымская шляхта, не вагаючыся, перайшла на бок германскага двара, раздражнёнага і выбарчым дэкрэтам, і самавольнай аддачай нармандцам земляў у леннае валоданне. Інтарэсы абодвух бакоў зліліся ў агульным змаганні з новым пантыфікатам, які ў адрозненне ад ранейшага, да-манаскага, неўзабаве набыў назву папства. І вось Рым на цэлыя стагоддзі падзяліўся на партыю імператарскую і партыю папскую, на гвельфаў і гібелінаў, і іх змаганне паміж сабой дало пачатак легендам пра быццам бы старажытнае змаганне гарацыяў, г.азн. узвышэнцаў (баронаў), і курыяцыяў, г.азн. царкоўнікаў (ад курыя – царкоўнае кіраванне).

27 ліпеня 1061 года Мікалай ІІ памёр у Фларэнцыі, і крушэнне ранейшага пантыфікату стала непазбежным. Ворагі рэформы, цесна згуртаваўшыся, вырашылі адпомсьціць нармандцам за іхны паход, падчас якога было разбурана некалькі замкаў, належаўшых шляхце, скасаваць выбарчы дэкрэт, і аднавіць патрыцыят. Яны выправілі да юнага кайзера-цэзара адзнакі патрыцыяту: зялёную халаміду, мітру, пярсцёнак і дыядэму.

Хваляванні, выкліканыя рэфармаванем пантыфікальнай цэрквы, нідзе не дасягалі такіх памераў, як у Мілане. Гэты заможны, гандлёвы горад сваім пышным бляскам перавышаў тады ўсе іншыя гарады, а ў палітычным дачыненні засланіў на некаторы час нават і Рым. Сапраўднага сацыяльнага змагання ў Рыме яшчэ не было, тым часам як у Мілане ўжо стварыліся і моцны стан гараджанаў, і рэспубліканскі лад кіравання. Дэкрэты, усталёўваючыя рэформу, выклікалі асабліва вялікае абурэнне менавіта ў міланскай арыстакратыі, дзе царкоўныя месцы займаліся шляхтай, і вялізная большасць сьвятароў, як зрэшты і ўсюды пры старым пантыфікаце, мела жонак. Але дэмакратычны клас народа, наадварот, горача стаяў за рэформу адмяніўшую адружаны стан сьвятарства, злучаючы гэта з яго дэмакратызацыяй і, напэўна, са спыненнем спадчыннай перадачы храмаў па

жаночай лініі, захаваўшайся ў Расіі аж да паловы XIX стагоддзя, што, напэўна, і мела назву сіманія.

Немагчыма не пазначыць, што сама назва “сіманія” царкоўнымі аўтарамі выводзіцца ад Сымона Вешчуна, двайніка і цені Сымона Пятра ва ўсіх яго прыгодах, і я ўжо даводзіў у першым томе «Хрыста», што Сымон Вяшчун і Сымон Камень толькі дзьве пераплёўшыяся пазьней адна з адной аперцэпцыі таго ж самага заснавальніка рымскай царквы. Напэўна, рымскі пантыфікат і ўсе астатнія храмы замацоўваліся ў той час за дочкамі ранейшых іхных служак і хваляванні адбываліся тады, калі ў іх не было дачок, і прыход прадаваўся з аўкцыёну ці дзякуючы пратэкцыі свецкіх валадароў, як гэта і было да апошняга часу на Ўсходзе Яўропы.

Наступнік Герберта ў Мілане, Гвідон Велацкі, заняўшы пасаду арцыбіскупа ў 1045 годзе, ненавісны для партыі рэфарматараў як імператарская крэатура, сабраў вакол сябе ўсіх прыхільнікаў старых парадкаў. Партыя рэформы, якой была дадзена назва патараў, ад слова «патар» – бацька, ці «папа» па-грэцку, знайшла сваіх кіраўнікоў у асобе некаторых магнатаў. На чале народа сталі адзін за адным браты Ландфульд і Эрлембальд, паходзіўшыя са шляхетнага сямейства Кота. Пабач з імі, у якасьці прапаведніка, таксама выступіў евангельскі фанатык дыякан Арыяльд. Гэтыя людзі наладзілі з Гільдэбрандам самыя цесныя стасункі, дзякуючы чаму і Мілан, таксама як і Рым, распаўся на дзьве партыі, із якіх адна трымала бок імператара і ранейшага адружанага сьвятарства, другая настойліва патрабавала самай строгай рэформы.

Рымскія прыхільнікі рэформы выправілі да германскага двара кардынала Стэфана, але ён не быў прыняты пры двары і вярнуўся ў Рым, не дасягнуўшы ніякіх вынікаў. Гільдэбранд адважна вырашыў парваць усе сувязі з германскім дваром, і 1 кастрычніка 1061 года склікаў кардыналаў, якімі, згодна з новым выбарчым законам, быў абраны ў якасьці вялікага пантыфекса Ансельм, біскуп лукскі, пад імем Аляксандра II і з дапамогай войска Рычарда капуанскага. Прабрацца ў Латэран Ансельм змог, аднак, толькі ноччу, кружным шляхам, і пасьля сур'ёзнай бітвы з прыхільнікамі імператара. Германскія ж біскупы і некаторыя із ламбардцаў, пад правадырствам Віберта, сабраліся ў Базелі і тут абвясьцілі дзесяцігадовага кайзера-цэзара Генрыха патрыцыем. Потым, прызнаўшы дэкрэт Мікалая II і абранне Аляксандра II незаконнымі і скасаваўшы іх, сабор супольна з рымскімі дэлегатамі 28 кастрычніка абраў вялікім пантыфексам веронца Кадала, пармскага біскупа.

Так зноў з'явіліся два варожыя адзін аднаму пантыфексы: адзін – у Рыме, другі – па той бок Альпаў, гатовы з дапамогай зброі прагнаць свайго суперніка із Латэрана. І рэдка даводзілася сьвету назіраць відовішча, падобнае пачынаючамуся змаганню, у якім супернічаючымі бакамі былі ужо не партыі, а дзьве сусветныя магутнасьці: рымская царква і германска-рымская імперыя – і дзьве плыні: старая, пантыфікальная (pontifici maximi), і новая, папаская (pappi). І, вось, тут-та ўпершыню на сур'ёзную гістарычную арэну выступае псеўда-класічны Circus Maximus, як арэна, цалкам прыстасаваная для рэлігійных нарад у XI стагоддзі нашай эры.

«*Гэты старажытны тэатр,* – сведчыць Грэгарэвіус, сам не заўважаючы фізічнай немагчымасьці свайго цверджання, – *у якім ладзіліся тысячу гадоў таму назад* (!) *самыя шыкоўныя рымскія пастановы****, зноў ажыў у 1062 годзе***». «*Калі аточаны кардыналамі і сваімі прыхільнікамі, вялікі пантыфекс Аляксандр з'явіўся на гападроме, натоўп сустрэў яго шумным абурэннем, і радасны Бенцо звярнуўся да яго з грукочучай*

*прамовай. Назваўшы Аляксандра вераломным здраднікам цэзарскаму двару, якому ён быў абавязаны лукскім біскупствам, нахабным самазванцам, уварваўшымся ў Рым з дапамогай нармандзкай зброі, Бенцо імем кайзера-цэзара запатрабаваў ад Аляксандра, каб ён пакінуў «пасад Каменя» і ўпаў да ног Генрыха з маленнем пра дараванне. Прамова Бенцо выклікала бурныя ўхваленні натоўпу; а калі Аляксандр адказаў, што ён падначаліўся абранню, захоўваючы вернасць цэзару, і што выправіць да яго амбасаду, пачуўся дзікі абураны лямант. Аляксандр і яго партыя пакінулі сход, а Бенцо, суправаджаемы сваімі прыхільнікамі, вярнуўся «ў палац Актавіяна»*.

На наступны дзень, ён зноў склікаў імператарскую партыю і сам апісвае гэтае «паседжанне сената», як «пышны сход». Ён прыводзіць (цалкам у пагадненні з духам Ціта Лівія) прамовы некаторых із прысутнічаўшых на паседжанні, называючы іх бацькамі (patres).

Яны займалі месцы адпаведна свайму рангу. Магістр Мікалай паведаміў, якім спосабам Гільдэбранд узвёў Ансельма ў сан пантыфекса; потым із Капітолія да прыхільніка старога культу Кадала было выпраўлена амбасада, якая мела паўнамоцствы прапанаваць яму неадкладна ж заняць пантыфікальны пасад. Сам Бенцо застаўся ў Рыме, каб не згубіць уплыў на рымлянаў, якія, згодна з яго словамі, былі больш пераменлівымі, чым Пратэй.

Кадал, ці Ганорый II, накіраваўся ў Рым, і, дайшоўшы да яго, заходне-еўрапейскія стараверы размясьціліся лагерам на Monte Mario. Калі перамовы, якія вёў упаўнаважаны наватара Аляксандра, Леў-дэ-Бенедыкта, не прывялі ні да якіх вынікаў, наватары напалі на сваіх супернікаў. Бітва была жорсткай і крывавай; старавер Кадал перамог, і 14 красавіка ён пранік ў Леаніну. На Неронавым (г.азн. згодна са значэннем проста: Чорным) полі ляжалі сотні забітых; шмат рымлянаў утапілася ў рацэ. У горадзе чуліся стогны, а пераможцы радаваліся, віншуючы сябе з перамогай.

Але раптам праз пяць дзён пасьля таго было атрымана паведамленне, што абаронца абнаўленцаў Готфрыд выступіў у паход. Устрывожаны гэтай весткай, Кадал пакінуў «Чорнае поле», пераправіўся праз Тыбр каля замка Flaminium і стаў лагерам каля Тускула. Готфрыд падышоў да Мільвійскага маста і запатрабаваў, каб супернікі заключылі перамір'е. Ён прадыктаваў ім дамову, згодна з якой абодва пантыфексы павінны былі вярнуцца ў свае біскупствы, а Готфрыд – выправіцца да германскага двара, якому, згодна з дамовай, патрэбна было вырашыць спрэчку паміж старой і новай цэрквамі. Партыя Гільдэбранда здабыла там поўную перамогу; герцагу Готфрыду быў нададзены сан імперскага амбасадара ў Рыме і было даручана суправаджаць абнаўленчага пантыфекса Аляксандра II із Лукі назад у Рым. У студзені 1063 года злучанае войска Готфрыда і нармандцаў занялі Рым, Сабіну і Кампанью. Графскія замкі за прыхільнасць да старой, паміраючай, але ўсё яшчэ не памёршай рымскай царквы, былі часткай абложаны, часткай разбураны імі. Але ўсё ж гэтае войска не было дастаткова моцным для таго, каб прагнаць із Янаполіса і Леаніны прыхільнікаў свецкага жыцця сьвятарства, і Аляксандру II давялося задаволіцца валоданнем Рыма без яго прыгарадаў і, застаючыся ў Латэране, адчуваць сябе ў пастаяннай небяспецы.

Хаця германцы адмовіліся ад старавера Кадала, але рымляне па-ранейшаму стаялі за яго і настойліва прасілі імператрыцу вярнуць ім «іхнага пантыфекса Ганорыя».

У 1063 годзе паміж лацінскімі паміраючай і жывой цэрквамі зноў пачалася грамадзянская вайна. Абодва пантыфексы – адзін у Латэране, другі у замку св. Анёла, – служылі імшы, выдавалі булы і дэкрэты і аддавалі адзін аднаго анафеме.

Старавер Кадал, якога абнаўленцы называлі «апусташальнікам царквы, парушальнікам апостальскай набожнасьці, ворагам чалавецтва, коранем граху, вястуном дз'ябла, апосталам антыхрыста, стралой пушчанай із лука сатаны, жазлом Асура[236], губіцелем якой бы то ні было бязгрэшнасьці, гноем свайго стагоддзя, ежай пекла, гнюсным поўзаючым чарвяком», – сядзеў у «маўзалеі Адрыяна», а абнаўленец Аляксандр, ці Азінандр, г.азн. чалавек-асёл, як называлі яго прыхільнікі паміраючай царквы, прынімаў у сябе ў Латэране «наваспечаных» патараў, выдаваў дэкрэты супраць адружальнага жыцця сьвятарствы і разводзіў паўсюдна «крапіву і змей», – як гаварылі старaверы.

Я дадаю праўдзівыя выказванні із лістоў Даміяні да Ганно (Ep. VI, lib. III) і да караля (Ep. III, lib. VIII) пра Кадала:

*Serpens lubricus. coluber torluosus, slercus hominum, latrina criminum, sentina vitioium, aborainatio coeli naufragium castitatis etc. etc*. («Гнюсны змей, выгінаючаяся гадзюка, чалавечае гаўно, прыбіральня злачынстваў, клаака заган, жах неба, караблекрушэнне бязгрэшнасьці») і г.д. і г.д.

А Бенцо выказваецца пра Аляксандра добрымі класічнымі вершамі:

*Sed prandelli Asinander, asinus haereticus*
*Congregavit patarians ex viis et sepibus,*
*Et replevit totam terrain urticis et vepribus.*
*(На гулянку Азінандэр, ерэтычны асёл,*
*Па дарогах і платах збіраў сваіх «бацькаў»,*
*І крапівой і змеямі перапоўніў ён увесь сьвет.)*

Тым часам прыбыўшы новы атрад нармандцаў-наватараў аблажыў Porta Appia і базіліку св. Паўла. Абаронца «паміраючай царквы» Бенцо напісаў ад імя рымлянаў Генрыху і Альберту жаласныя лісты, у якіх нагадваў ім пра слаўныя рымскія паходы іхных продкаў Атона, Конрада і Генрыха. «Апосталы Пятро і Павел, – пісаў ён, – першы крыжам, другі мячом, забралі ў паганцаў Рым, гэтую цьвярдыню вашай Рымскай імперыі, і аддалі яго грэкам, галам, потым лангабардам і, нарэшце, на вечныя часы вам, германцам. Але вы, дзяржаўныя дарадцы германскай імперыі, замест таго, каб, падобна вашым бацькам, трымаць у сваёй уладзе Італію, саступілі яе нармандцам, і ў вас, германцаў, склалася нават такая дзіўная малітва:

*Ab omni bono libera nos Domine,*
*Ab arce imperii libera nos Domine*
*Ab Apulia et Calabria libera nos Domine,*
*A Benevente Capua libera nos Domine, etc.*
*(Ад усяго добрага, Пане, вызвалі нас.*
*Ад Цьвярдыні імперыі вызвалі нас,*
*Ад Апуліі і Калабрыі вызвалі нас,*
*Ад Беневента і Капуі вызвалі нас.*
*Ад Салерна і Амальфі вызвалі нас,*
*Ад Неапаля і Кампаны вызвалі нас,*
*Ад Прыгжай Сіцыліі вызвалі нас,*
*Ад Корсікі і Сардыніі вызвалі нас.)*

Пасланнік, даставіўшы гэты ліст, прывёз у адказ адно пустое абяцанне.

Прамучыўшыся больш за год у «маўзалеі Адрыяна» і на заканчэнне яшчэ абрабаваны сваім абаронцам Ченчыем, старавер Кадал збег адтуль. 31 траўня 1064

[236] Я нагадваю чытачам маю выснову, што біблейскі Асур азначае Германію (гл. «Хрыстос», кн. II).

года ён быў пазбаўлены пасады, а абнаўленец Аляксандр II абвешчаны законным пантыфексам.

Мэта «жывой царквы» была дасягнута. З прызнаннем Аляксандра II слабыя намаганні германскага рэгенцтва ўтрымаць за сабой патрыцыят скончыліся паразай.

Забарона для сьвятарства адружальнага сужыцця, якая такім чынам была ўведзена на Захадзе толькі ў XI стагоддзі нашай эры і толькі апакрыфікавана на сярэдневечча, з'явілася для хрысьціянскага сьвету сапраўдным сацыяльным пераваротам. «Шматлікае сьвятарства, – сведчыць Грэгарэвіус (кн. 7, гл. IV), – са скасаваннем яго грамадзянскіх сувязей адрывалася ад агульначалавечай глебы і ператваралася ў ваярства складаючаяся із манахаў. Рымскі вялікі пантыфекс – з гэтага часу манах – абвяшчаў анафему біскупам і сьвятарам, выказваўшым яму супраціў, і паціху яны здаваліся».

Гэта быў якраз той перыяд, калі на Захадзе, згодна з нашымі вылічэннямі (гл. т. I), ужо пашырыліся дэмагагічныя Евангеллі Мацвея і Лукі. Такога кіпучага жыцця ў Латэране, якое наступіла зараз, яшчэ ніколі там не было. «У папскі» палац з'яўляліся амбасадары ад усяго хрысьціянскага сьвету. Біскупы і валадары, і людзі, меўшыя вялікую вядомасць і займаўшыя высокае становішча, спяшаліся сюды, каб узяць удзел у саборах. Клерыкальны Рым быў падняты да ступені сусьветнага горада, а яго вайсковая магутнасць, нягледзячы на такую славу, усё ж была роўнай нулю, бо нічым іншым ён ніколі і не мог быць згодна з яго геаграфічным становішчам і якасьцю глебы яго наваколляў.

З гэтага часу рымская шляхта ўжо не адважвалася дамагацца пантыфікату, хутка ператвараўшагася ў папства. Крэстэнцыі і тускуланскія графы былі ўціхаміраны. Готфрыд і яго жонка ахоўвалі абноўлены Рым з поўначы; нармандзкія васалы служылі яму апірышчам з поўдня, і рымскія пантыфексы, з гэтага часу манахі, загадалі называць сябе па-грэцку папамі (πάππας), а падначаленых сабе сьвятароў па-лаціне патарамі (pater), што ў перакладзе азначае адно і тое ж: бацька.

Абнаўленец рымскага пантыфікату, Гільдэбранд, мог без перашкод ажыццяўляць свае планы. У 1067 годзе яго славалюбства было здаволена з'яўленнем у Рыме імператрыцы Агнэсы ў выглядзе каючайся паломніцы. Размовы з манахамі на новыя тады яшчэ апрасьціцельныя тэмы евангельскай «нагорнай прамовы», ўпершыню з'явіўшайся ў евангеліста Мацьвея, парушылі душэўны спакой маці Генрыха і яна вырашыла перамяніць сваю карону на манаскі ўбор. Апранутая ў халшчовую сукенку, з малітоўнікам у руках, імператрыца ўступіла ў Рым, седзячы на кепскім кані, і ўпала ніц каля труны апостала Пятра, заліваючыся слязамі. Набожны кардынал Даміяні, падбадзёрваючы валадарыню евангельскімі ж суцяшэннямі, напісаў ёй некалькі лістоў, захаваўшыхся і да нашых дзён. У іх ён аднаўляе перад Агнэсай трагічныя ўзоры імператараў, якія сваёй праходзячай уладай і жудасным заканчэннем як бы сведчаць пра непастаянства якой бы то ні было зямной велічы, і потым нагадвае ёй па яе ўласнага чалавека, які сышоў у труну, быдучы яшчэ ў квітнеючым узросьце.

У гэты ж самы час і ў Мілане моцна разгарэлася барацьба за ўвядзенне неадружальнасьці сьвятарства. «Магутны Эрлембальд Котт, – паведамляе той жа Грэгарэвіус (кн. II, гл. IV), – адзін із самых выбітных людзей свайго часу, адчуваў непрымірымую нянавісць да стараверчых схільных да жанчын сьвятароў, «зганьбаваўшых яго адружальны ложак». Здзейсніўшы паломніцтва ў палестынскі Ерусалім, ён спачатку меў жаданне прыняць манаскі сан, але потым вырашыў

паслужыць аднаўленчай царкве са зброяй у руках. Ён абвясьціў сябе сіньёрам Мілана і, трымаючы яго пад сваёй уладай некалькі гадоў, працягваў весьці непрымірымае змаганне са стараверскай шляхтай і яе адружаным сьвятарствам і, вядома, не без падставаў.

Быўшы ў сяброўскіх дачыненнях з Аляксандрам II, які таксама паходзіў з Мілана, Эрлембальд і Аріальд увесь час ездзілі ў Рым для таго, каб пагадніць агульныя планы дзеянняў. У 1066 годзе абнаўленчы пантыфекс Аляксандр II прыняў Эрлембальда пры паседжанні ўсёй кансісторыі ў Рыме і, абвясьціўшы яго «рыцарам цэрквы», уручыў яму белы сьцяг з чырвоным крыжом.

Барацьба за рэформу стара-пантыфікальнай цэрквы, адбываўшаяся пад час кіравання Аляксандра II, суправаджалася крайняй трывогай: «З часоў іконазмагальніцства хрысьціянская царква, – сведчыць Грэгарэвіус [VII, 44), – не перажывала такой бурнай эпохі. Аляксандр II быў у пастаянных раз'ездах, асабліва часта ён наведваў Таскану і потым сваё ранейшае біскупства Луку, ад якога, дзеля прыбыткаў, ён не адмовіўся і тады, калі сеў на пантыфікальны пасад. Хаця партыя старавераў-нобіляў была ўціхамірана, але ўсё ж заспакаене Рыма яшчэ не было забяспечана, і таму абнаўленец Аляксандр ахвотна з'язджаў з яго кожны раз, як толькі была да таго магчымасць.

Свецкая ўлада рэфарматараў была яшчэ абмежавана да крайнасьці. У дачыненні да графаў Кампаны яны былі цалкам нямоглымі. Пры каралінгах рымскія вялікія пантыфексы мелі сваіх рэктараў, консулаў і герцагаў і прызначалі іх у якасьці суддзяў, вайсковых правадыроў і фіскальных урадоўцаў у самыя аддаленыя гарады і нават у Пентаполіс і Раманню. А зараз пры рэформе яны не мелі яшчэ ніякай улады нават у мясцовасьцях, межаваўшых з Рымам. Царкоўная дзяржава часоў каралінгаў распалася; графы, быўшыя некалі ўрадоўцамі культу і яго арандатарамі, зараз лічылі гарады сваёю спадчыннай ўласнасьцю і прызначалі ў іх сваіх віконтаў. Тое, што яшчэ захавалася ад старой царкоўнай дзяржавы, як то: Лацыум, частка Сабіны і рымская Тусцыя, належала царкве толькі намінальна, а ў рэчаіснасьці ўсе гэтыя правінцыі распаліся на мноства асобных, невялікіх баронстваў.

У самым Рыме шляхетныя роды таксама не прызнавалі свецкую уладу рэфармаванага сьвятарства. Муніцыпальная і судовая ўлада, у іхных звычайных формах, былі ў веданні шляхты ці сената. Пасада прэфекта набыла такое важнае значэнне, якога раней яна ніколі не мела, нобілі горача аспрэчвалі яе адзін у аднаго і яе замяшчэнне звычайна суправаджалася вялікімі хваляваннямі ў Рыме.

Рымлянін Чэнчы працягваў весьці змаганне з рэфарматарамі ранейшага сямейнага стану сьвятарства нават і пасьля пазбаўлення асады Кадала. Не дамогшыся прэфектуры, ён пабудаваў вежу каля маста Адрыяна і, засланіўшы ёю доступ у горад, прыставіў да яе вартаўнікоў, якія спаганялі з усіх праходзіўшых па манеце. Із гэтага добра бачна, што ўлада абнаўленцаў у Рыме была яшчэ нікчэмнай.

Гільдэбранд ужываў усе намаганні да таго, каб перадаць прэфектуру горада ў рукі прыхільніка рэформы, і ён прызначыў агітатарам нейкага Цынці, які, згодна са сведчаннямі старавераў, быў падабенствам дз'ябла, а згодна са сведчаннямі наватараў – быў сьвятым. Цынці публічна прамаўляў у базіліцы «св. Каменя» палымяныя евангельскія прамовы, заклікаючы людзей да пакаяння. І ўсё гэта пакуль ужывалася: і старавер Чэнчы, які, валодаючы сваёю вежай каля моста Адрыяна, збіраў падаткі з ідучых у рэфармаваны храм, і Цынці, які ў базіліцы св. Пятра заклікаў заможных да раздачы сваёй маёмасьці бедным. І ў гэты ж самы час,

як заўсёды пад час крытычных маральных момантаў гісторыі, у Італіі вылучыліся ў шэрагі абаронцаў Хрыста выдатныя жанчыны. Мы ўжо пазначалі з'яўленне тут, пад час ранейшых стагоддзяў, Хвядоры і Марусі, Берты і Ірменгарды, якія, узначальваючы партыі, бралі ўдзел у вырашэнні маральных лёсаў Італіі і Рыма. І вось у сярэдзіне XI стагоддзя зноў з'яўляюцца жанчыны, меўшы вялізны ўплыў на ход падзей свайго часу. Побач з Беатрысай і Матыльдай, ужо даўно звярнула на сябе агульную ўвагу сваім запалам і магутнасцю Адэльгейда, маркграфіня Сузы ў П'ямонце.

# Глава III.

## Рыгор Гільдэбранд. Праўдзівы пачатак папства ў Рыме.

Абнаўленец Аляксандр II памёр 21 красавіка 1073 года, і яго наступнікам быў Гільдэбранд, дзейнасць якога, як мы бачылі, працякала на мяжы двух розных заходне-царкоўных эпох. Адна з іх ужо скончалася, другая яшчэ толькі пачыналася; знікаў рымскі напалову-біблейскі, напалову-паганскі, відаць, нават палігамічны пантыфікат і пачыналася сучаснае рымскае манаскае папства, базуючаяся выключна на Евангеллях і на Апакаліпсісе, як іхнай жахлівай падпорцы.

22 красавіка, калі цела памёршага Аляксандра яшчэ не было пахавана і заставалася ў Латэране, прагучалі гучныя крыкі, патрабаваўшыя абрання вялікім пантыфексам абнаўленца Гільдэбранда, і потым трыумфуючыя кардыналы, суправаджаемыя радасным народам, адвялі яго ў царкву «св. Каменя». Кардыналы абвясьцілі складзены загадзя, пры ўдзеле Беатрысы Тасканскай, выбарчы дэкрэт, і народ, стаяўшы густым натоўпам, далучыўся да ўсхваленняў, аддаваемых вартасьцям новаабранага пераўтваральніка царквы. Але ён разважліва адклаў сваё пасьвячэнне да таго часу, калі пабачыў, што яго зацьверджанне імператарам адбылося. І вось, 29 чэрвеня, у дзень «апостала-Каменя», Гільдэбранд пад імем Рыгора VII быў пасьвечаны ў пантыфікальны сан у прысутнасьці імперскага канцлера Італіі, маркграфіні Беатрысы і імператрыцы Агнэсы.



Мал.110
Рыгор Гільдэбранд, заснавальнік папства і манаскага сьвятарства ў Рыме.

Наступствы ўвядзення неадружанасьці сьвятарства (а згодна з нашымі высновамі, і першай урачыстасці евангелізму над бібліізмам) хутка выявіліся.

Ледзь уступіўшы на пантыфікальны пасад, Рыгор ужо збянтэжыў каралёў сваёй задумай стварыць сусветнае панаванне Рыма. Ён – як я ужо не раз паведамляў – першым із вялікіх рымскіх пантыфексаў загадаў называць сябе і сваіх наступнікаў па-грэцку папамі, а падначаленае сьвятарства па-лаціне патарамі, г.азн. у абодвух выпадках – бацькамі... З яго – паўтараю – пачынаецца папства ў Рыме, а да яго быў толькі пантыфікат, і ён жа першым задумаў крыжовы паход для вызвалення ўяўляемага ў Палестыне Ерусаліма. Да гэтага ж часу, можна думаць, ўпершыню пашырыліся на Захадзе лацінскія пераклады Евангелляў Мацвея і Лукі.

Яго напышлівае стаўленне да цароў было наступствам, відавочна, тады яшчэ новай думкі, што Хрыстос ужо з’яўляецца валадаром сьвету і што гэтая прэрагатыва перайшла на рымскага вярхоўнага першасьвятара, як на намесьніка Хрыста. Але ў яго не хапіла б адвагі абвясьціць гэтую думку, калі б яго не падахвочвалі да таго ўзнікшыя толькі тады, а не за тысячу гадоў раней, містычныя ўяўленні пра хрысьціянскую царкву і калі б гэтаму не спрыяў тагачасны сейсмічны неспакой Заходняй Яўропы і бязладзіца грамадзкіх дачыненняў. Заваёўнікі, жадаючы надаць захопленай імі здабычы законную форму валоданняў, прысягалі намесьніку Хрыста, як васалы, і набывалі дараванне свайго граху. Прэтэндэнты на карону, заклапочаныя тым, каб забяспечыць яе за сабой, аб'яўлялі свае дзяржавы

ленным валоданнем папы. Каралі, як грэшнікі, так і праведнікі, аднолькава выдзялялі рымскай царквы штогадовае ўтрыманне із маёмасьці сваіх народаў, не пытаючы на тое іхнай згоды, і гэты набожны падарунак Латэран ператвараў у абавязковую даніну.

Рымская царква прысвоіла сабе тады шмат правоў і некаторыя з іх былі вельмі кур'ёзнымі. Так абнаўленец папа Рыгор VII лічыў сябе валадарам Расіі, таму што збегшы наўгародзкі князь наведаў магільню св. Пятра і абвясьціў сваю краіну ленным валоданнем апостала. Ён лічыў сябе валадарам Вугоршчыны, таму што Генрых III прынёс у якасьці падарунка базіліцы св. Пятра дзяржаўную дзіду і карону гэтай краіны, калі скарыў яе. Уступіўшы на пантыфікальны пасад, Рыгор VII неадкладна ж паслаў кардынала Гуго ў Гішпанію, каб дамагчыся ў ёй прызнання суверэнітэту рымскай царквы, на той падставе, што гэтая дзяржава быццам бы здаўна належала св. Пятру. Такія ж патрабаванні ён накіраваў Корсіцы, Сардыніі, Далмацыі, Краатыі, Польшчы, Скандынавіі і Англіі, цалкам сур'ёзна лічачы ўсе гэтыя краіны ўласнасьцю св. Пятра.

Але такія дамаганні былі б цалкам неверагоднымі, калі б яны не выцякалі із узнікшага толькі тады, а не 1000 гадоў ляжаўшага без ужывання, евангельскага рэлігійнага вучэння пра царкву, і гэтаму ж уяўленню адпавядае і ідэя крыжовых паходаў. Рыгор выказаў здагадку спачатку прагнаць із Італіі нармандцаў, грэкаў і маўраў (сарацын), потым, вызваліўшы Візантыю ад мусульманаў, падначаліць яе рымскай царкве і, нарэшце, узняць у палестынскім Ерусаліме крыж, бо месца дзеяння евангельскага Хрыста было перанесена ўжо на грэцкі Ўсход, адкуль прыйшлі Евангеллі. Пра гэта ён пісаў валадарам Італіі, Вільгельму Бургундзкаму і яшчэ ў снежні 1074 г. Генрыху, якому ён выказваў, што готовы сам весьці войска ў крыжовы паход і ў такім выпадку ўскласьці на яго абарону рымскай царквы і труны госпада ў палестынскім Эль-Кудсе, што зараз ужо лічымым ўсімі за біблейскі Ерусалім.

«Здзіўляе, – усклікае Грыгарэвіус (кн. VII, гл. I), – фантастычнасць гэтага плана і не менш здзіўляе тое, што ён з'явіўся ў такі час!» I яго здзіўленне цалкам непазбежнае са звычайнага боку гледжання, дапасуючага ўзнікненне евангельскага хрысьціянства за 1 000 гадоў да пачатку крыжовых паходаў. А з боку гледжання нашай храналогіі, інакш не магло і быць: ідэалогія Евангелляў была тады яшчэ свежая і новая, а таму і моцная, як дэмагагічны сродак.

Але грандыёзная задума Рыгора VII пры ім нічым не скончылася. Праўда, было сабрана войска ў 50 000 чалавек, часткова ў Італіі, часткова па той бок Альпаў, але ўжо хутка яго дбайнымі памочніцамі засталіся толькі дзьве тасканскія графіні, маці і дачка, нават проста адна дачка. Выхаваная сваёй набожнай маці на Евангеллях, графіня Матыльда неўзабаве засталася адзіным шляхетным сябрам Рыгора і геніем-ахоўнікам абнаўленчай царкоўнай іерархіі. У той час ёй было толькі 28 гадоў, яе чалавек увесь час адсутнічаў і не падзяляў яе сентыментальнага захаплення новымі рэлігійнымі кнігамі і яна аддала ўяўнаму іхнаму абаронцы Рыгору сваё жаночае сэрца, верачы ва ўсе яго здзяйсненні, як у ідэал. Дзяцей у яе не было і гэтая акалічнасць тлумачыць шмат што. Калі б яна была звычайнай манашкай-летуценніцай, накшталт Мартэлы ці Схаластыкі таго стагоддзя, яна праславілася б, магчыма, хіба толькі сваім сяброўствам з такім чалавекам, як Рыгор. Але яна была прыроджанай валадарніцай, і сваё служэнне евангельскім ідэям яна ўрачыста пачала з удзелу ў саборы 1074 года, на які з'ехалася шмат біскупаў і валадароў. Рыгор падцвердзіў усе дэкрэты сваіх папярэднікаў, меўшыя

дачыненне да рэформы пантыфікату, і потым без якой бы то ні было спагады абвясьціў пазбаўленымі пасады ўсіх тых духоўных пастыраў, якія працягвалі весьці сямейнае жыццё. У сваіх лістах да біскупаў Захаду ён патрабаваў ад іх безумоўнага падначалення пастановам сабора. Як Леў Ісаўранін задумаў некалі эдыктам ачысціць усходнюю царкву ад ідалаўшанавання, так Рыгор вырашыў зараз канчаткова выгнаць із заходняй царквы тых яе служак, лад жыцця якіх супярэчыў новым (і, вядома, не існаваўшым ужо 1 000 гадоў да таго часу) уяўленням пра хрысьціянскую царкву.

І гэтае рашэнняе мела наступствам у заходне-хрысьціянскім сьвеце такое ж глыбокае хваляванне, якім быў ахоплены Ўсход у часы іконазмагальніцства.

Наступствам такога гвалтоўнага перавароту было бязлітаснае змаганне, доўжыўшаяся цэлых 50 гадоў паміж прыхільнікамі старой і новай царквы на Захадзе Яўропы. І ў самым Рыме Рыгор сустрэў вялікі супраціў. Насуперак саборнай пастанове, амаль усё рымскае сьвятарства працягвала па-ранейшаму жыць у сям'і ці замест яе ў стане неадружанага сужыцця. Нікому не здавалася дзіўным, – сведчыць гісторык горада Рыма – што іхныя дзеці і пляменікі набывалі багацце за кошт царкоўнага набытку і ўспадкоўвалі бенефіцыі сваіх бацькаў. Адзін із летапісцаў, апісаўшы падзеі адбываўшыяся ў сьценах базілікі св. Пятра, дае нам разуменне таго, што ўяўлялі сабой ў той час рымскія храмы. У гэтай базіліцы было 60 духоўных наглядальнікаў (mansionarii). Яны ўсе былі адружанымі, свецкімі людзьмі. Апранутыя кардыналамі, яны пад час дня служылі абедню і прымалі прынашэнні, а калі наставала ноч яны наладжвалі ў базіліцы оргіі са сваімі парафіянкамі. Служба за тыдзень у базіліцы св. Пятра была размеркавана паміж кардыналамі цэркваў: Св. Марыі, Хрыдагона, Цэцыліі, Настассі, Сільвестра, Ларэнца і Дамазо, Марка і Мартына. Парадак карыстання ўсім тым, што прыносілася на ахвярнік св. Пятра, быў вызначаны пантыфікальнымі наказамі і гэтыя прынашэнні, асабліва на Вялікадні, дасягалі вялікіх памераў, так што нават і каралі маглі пазайздросьціць такім прыбыткам сьвятароў.

Усе, зараз пазбаўленыя пасады, сьвятары, іхныя сваякі і кліенты глыбока ўзненавідзелі Рыгора і далучыліся да гарадзкой шляхты, варагаваўшай з яго папярэднікам.

Не цяжка было прадбачыць, што хутка адбудзецца разрыў таксама і паміж каралём і Рыгорам. Юны Генрых, праўда, абяцаў Рыгору падначаліцца дэкрэтам, якімі ўводзілася рэформа, але гэтае абяцанне было вымушаным. Нікольки не саромеючыся, Генрых па-ранейшаму прадаваў царкоўныя месцы, і большасць сьвятароў у імперыі мела жонак. Адна думка прымусіць прэлатаў, якія жылі, як князі, і некалькі тысяч іншых духоўных асоб у імперыі зробяцца манахамі, падпарадкоўваючыся забараняючым адружанні пастановам сабора, павінна была здавацца дзёрзкасьцю, і, вось, калі пасьля гэтага сабора легаты Рыгора, у суправаджэнні імператрыцы-маці, з'явіліся ў Германію, усю краіну ахапіла неапісуемае хваляванне. Грамадзкая думка згаджалася знішчыць куплю царкоўных пасад, і біскупы нічым не маглі апраўдаць сіманію; але было дастаткова падставаў да таго, каб змагацца з забаронай сямейнага жыцця. Melius est nubere quam uri – сцвярджалі сярэднееўрапейскія біскупы, і дадавалі, што папа consuetum cursum naturae negaret, fornicationi frena laxaret (Lambert, Annal. Anno 1074). Так адмоўна глядзелі на манаства нават у XI стагоддзі, а нас запэўніваюць, што яно квітнела ў хрысціянаў на працягу ўсяго сярэдневечча! І ўсё ж у гэтым трагічным змаганні із-за інстытуту адружання, вызначыўшага ход шмат якіх гістарычных падзей

Заходняй Яўропы, пераможаным выявіўся, пад непасрэдным уздзеяннем Евангелля Мацьвея, натуральны бок чалавечага існавання, а пераможцай – суровы манаскі аскетызм, ды і сам дэкрэт пра забарону адружанага стану святарства, напэўна, быў злучаны з пашырэннем сярод тагачаснага сьвятарства і парафіянаў венерычных захворванняў, інакш цяжка патлумачыць і апраўдаць такую навіну.

Германія, Францыя і Італія распаліся на партыі, жорстка варагаўшыя паміж сабой. Адны стаялі за адружальнасць, другія былі супраць яе.

І цікава, што ў гэты ж самы час пачала забараняцца палігамія і ў еўрапейскіх жыдоў, якія раней таго часу сваім сямейным побытам нічым не адрозніваліся ад ісламітаў-магаметанаў, ды і згодна з рэлігійнай ідэалогіяй былі амаль аднолькавымі з імі. Каран з'яўляецца толькі зародкам пяцікніжжа і псалмоў, самастойнымі ў Бібліі з'яўляюцца толькі прароцкія кнігі. А першая забарона палігаміі для жыдоў пад небяспекай абвяшчэння анафемы прыпісваецца настаўніку Гершому Меор ха-Гола, правёўшаму яе на Майнцкім саборы на пачатку XI стагоддзя, хаця шматжонства, згодна з жыдоўскімі аўтарамі сустракалася ў шляхетных і ў XIII стагоддзі, як выключэнне.

Бачачы немагчымасць прыйсьці да пагаднення, Рыгор на другім сваім саборы, пад канец лютага 1075 года абвясьціў свецкую ўладу пазбаўленай права інвестытуры ў дачыненні да сьвятарства. Пачынаючы з гэтага часу ніхто із біскупаў і абатаў не павінен быў браць ад каралёў, імператараў, герцагаў і графаў пярсцёнак і кій. Такой пастановай быў зроблены выклік усёй свецкай уладзе, феадальная сувязь паміж свецкімі і духоўнымі асобамі, быўшая дзяржаўна-прававой, павінна была зараз адразу скасавацца. Святарству было наканавана быць цалкам выключаным із феадальнай сістэмы, але Рыгор меў жаданне зрабіць гэта з захаваннем за царквой усёй падараванай ёй маёмасьці. Ранейшыя сьвятары былі свецкімі людзьмі; іхнае адзенне асабліва не адрознівалася ад адзенняў герцагаў і графаў, сямейнае становішча было аднолькавым, дзяржаўныя правы, абавязкі і патрэбы былі адны і тыя ж і ў тых, і ў другіх, і таму Рыгор VII, робячы царкву цалкам незалежнай ад дзяржавы, меў жаданне у той жа час захаваць за ёю ўсе яе шырокія ўладанні. Ён меў жаданне забяспечыць ёй свецкую ўладу над шырокімі землямі ва ўсіх краінах, вызваліўшы яе ў той жа час ад васальнай залежнасьці ў дачыненні да кароны, і такім чынам із паловы Яўропы стварыць рымскую царкоўную дзяржаву. Момант, абраны для пазбаўлення караля права інвестытуры, быў, відаць, спрыяльным, таму што Генрыха жорстка ціснулі саксы. Але перамога, здабытая ім у чэрвені 1075 гада каля Унструге, развязала яму рукі, і ён ўпершыню адчуў сябе цэзарам.

Ён працягваў, як і раней, прадаваць царкоўныя месцы, і наблізіў да свайго двара адлучаных ад царквы царкоўнікаў. Гэтая акалічнасць і паслужыла Рыгору да таго, каб зрабіць рашучы напад на яго. Рымскія легаты абвясьцілі кайзеру, што ён павінен пакаяцца ў сваіх грахах, а калі не выканае гэтага, то будзе адлучаны ад царквы. Загадаўшы прагнаць іх з ганьбай, Генрых склікаў свой сабор у Вормсе і германскія біскупы 24 студзеня абвясьцілі Рыгора страціўшым пасад. Кайзер напісаў яму:

«*Генрых, цэзар не дзякуючы захопу, а боскай літасьцю, Гільдэбранду, не папе, а вераломнаму манаху*.

*Ты, сейбіт разладу, рассылаючы не дабраславенні, а праклёны служкам царквы! Арцыбіскупаў, біскупаў і сьвятароў, ты топчаш нагамі, як рабоў, у якіх няма сваёй волі. Ты лічыш усіх іх невукамі і аднаго сябе дасьведчаным. Дзякуючы глыбокай павазе да апостальскага пасаду, мы трывалі ўсё гэта, але ты палічыў нашу глыбокую павагу за*

*баязлівасць. Ты паўстаў нават супраць цэзарскай улады, якая падаравана нам богам, і пагражаеш забраць яе ад нас, як быццам улада і дзяржава не ў руках госпада, а ў тваіх. Хрыстос паклікаў нас на царства, а цябе на папства – не заклікаў. Ты дасягнуў яго хітрасьцю і падманам. Ганьбячы сваю манаскую рызу, ты грашамі набываеш прыхільнасць людзей, а іхным размяшчэннем – купляеш зброю, і зброяй – захопліваеш пасад сьвету. Але, заняўшы гэты пасад, ты парушаеш мір, таму што ўзбройваеш падданых супраць урада і навучаеш не слухацца біскупаў. Яны заклікаваны богам, а ты даеш уладу нават парафіянам пазбаўляць іх пасады і асуджваць іх. Мяне, не маючага віны цэзара, якога судзіць толькі бог, ты маеш жаданне пазбавіць пасады, тады як нават Юльяна Богаадступніка біскупы пакінулі судзіць адзінаму богу. Ці не сказаў Пятро, сапраўдны папа: «бойцеся бога, шануйце цара»? Але ты бога не баішся, а таму і мяне, яго стаўленіка, не шануеш. Апостал Павел абвяшчае табе анафему. Рашэннем усіх нашых біскупаў табе вынесены прысуд, і ён абвяшчае: пакінь апостальскі пасад, якім ты завалодаў незаконна, і хай іншы сядзе на яго, – той хто не будзе здзяйсняць гвалты над рэлігіяй і будзе навучаць праўдзіваму вучэнню Пятра. Я Генрых, боскай літасьцю, цэзар, разам з усімі нашымі біскупамі заклікаю цябе: ізыдзі, ізыдзі!»*

Даставіць у Рым гэтую пастанову сабора было даручана Роланду, аднаму із пармскіх сьвятароў. 22 лютага ў Латэранскай базіліцы быў прызначаны новы пантыфікальны сабор, і за дзень перад тым з'явіўся пасланнік. Як толькі паседжанне было адкрыта звычайным царкоўным спевам, Роланд выступіў наперад і, павярнуўшыся да папы, абвясьціў:

– Цэзар, мой валадар, і ўсе біскупы па той бок гор загадваюць табе неадкладна пакінуць пасад, якім ты завалодаў незаконна, таму што без згоды іх і імператара ніхто не павінен займаць гэты пасад. Вас жа, браты (і гаварыўшы павярнуўся да прысутнага сьвятарства), я запрашаю з'явіцца пад час Троіцына дня да цэзара. Ён прызначыць вам папу, таму што той, які сядзіць тут, не папа, а драпежны воўк.

Крыкі абурэння былі адказам на гэтыя словы. Усе прысутнічаўшыя на сходзе падняліся са сваіх месцаў, кардынал горада Порта абвясьціў, што пасланнік павінен быць арыштаваны, і прэфект Рыма ўжо кінуўся на Роланда з мячом, але Рыгор не дапусьціў сходу здзейсніць забойства пасланніка.

Калі спакой быў адноўлены, ламбардзкія і германскія біскупы, падпісаўшыя такія дэкрэты ў Вормсе і Піячэнцы, і сам кайзер былі адлучаны ад царквы.

І гэта адлучэнне, да якога першы рымскі папа прысудзіў магутнага хрысьціянскага манарха, прагрымела па ўсяму сьвету, як аглушаючы ўдар грому. Зараз усе хрысціяне захаду Яўропы ўжо паверылі, што ўлада дабраслаўляць і праклінаць сапраўды належыць кіраўніку рымскай царквы і што наступствы ад праклёну для праклятага будуць жудаснымі.

Згодна са словамі летапісца таго часу, Рымская імперыя была ўзрушана ўся да падставы гэтым паведамленнем. Змаганне цэзара з папай тады выглядала як бы змаганнем простага чалавека з чараўнікам. Вось некаторыя із 27 тэзаў, уключаных у рэгістры Рыгора, хаця іхная праўдзівасць і лічыцца свецкімі гісторыкамі сумнеўнай.

«*Рымская царква ўсталявана самім богам. Аднаму папе належыць права выдаваць новыя законы, засноўваць новыя хрысьціянскія згуртаванні і пазбаўляць пасады біскупаў акрамя саборных пастановаў. Ён адзін мае права распараджацца знакамі імператарскай годнасьці, у яго аднаго валадары цалуюць нагу. Толькі яго імя абвяшчаецца ва ўсіх цэрквах, гэта імя адзінае ва ўсім свеце. Ён валодае правам пазбаўляць імператараў пасада, ён можа вызваляць падданых ад прысягі, дадзенай імі вярхоўнай уладзе, калі гэтая ўлада парушае справядлівасць. Без яго ўхвалы, ніводны запіс, ніводная кніга не*

*лічацца кананічнымі. Яго рашэнні неаспрэчваемыя, ён не падпарадкоўваецца ніякаму суду. Рымская царква была заўсёды бязгрэшнай і застанецца бязгрэшнай на вякі вякоў, як сведчыць св. Пісанне. Калі здзяйсняецца пасьвячэнне рымскага папы, згодна з кананічнымі правіламі, ён набывае сьвятасць дзякуючы заслугам «св. Пятра. Толькі той сараўдны каталік, хто ва ўсім адпавядаез рымскай царкве*».

Святарству, шляхце і народу Германіі было дадзена зразумець, што яны могуць абраць іншага караля, які атрымае апостальскае дабраславенне, калі папа знойдзе яго годным. І вось дзьве траціны Германіі, начытаўшыся Евангелляў і Апакаліпсіса, сталі на бок Рыма. Магутныя ворагі Генрыха і на чале іх Вельф баварскі (ад якога паходзіць назва прыхільнікаў папскай курыі гвельфы), Рудольф швабскі і Бертольд карынтыйскі не прынялі яго запрашэнне прыбыць у Вормс, і ў кастрычніку з'ехаліся на сойм у Трыбур, дзе былі і папскія легаты. Сойм пастанавіў, што папа меў права абвясьціць свой прысуд, і гэтым рашэннем за папай была прызнана вярхоўная судовая ўлада над імперыяй. Сойм абвясьціў Генрыха пазбаўленым пасады, калі з яго не будзе знята адлучэнне да 2 лютага 1077 года. Напалоханы Генрых паехаў у Італію, дзе ламбардцы-стараверы сустрэлі яго дзякуючы непаразуменню шумнай весялосьцю. Яны лічылі, што ён прыбыў у Італію для таго, каб прагнаць абнаўленца Рыгора, «ворага чалавецтва», з пантыфікальнага пасаду. Да яго з'явіліся натоўпы васалаў-стравераў са шматлікіх гарадоў, размешчаных часткова на поўнач ад ракі По, часткова да поўдзень ад яе. Сам папа Рыгор, спыніўшыся часова ў Мантуі, да таго напалохаўся, што збег у Кносу, умацаваны замак графіні Матыльды, і зачыніўся ў ім. Графы і біскупы, трымаўшыя бок старовераў, пераконвалі Генрыха ісьці на Рым, але ў душы караля змагаліся адзін з адным як гонар, так і забабоны, і ён заставаўся ў нерашучасьці. Пазней, патрапіўшы пад уплыў развіўшайся зараз паўсюдна містыцы, ён пакінуў ламбардцаў у паехаў да папы ў Кносу. Там, за патройным шэрагам сьцен, пад ахавай уладальніцы замка сядзеў манах, які аддаў яго анафеме, і сюды ж, каб вымаліць у яго дараванне, кожны дзень прыбывалі адлучаныя ім германскія біскупы-стараверы.

Генрых пачаў перамовы з рэфарматарам царквы з дапамогай графіні Матыльды і графіні Адэльгейды, сваёй жонкі. На працягу трох дзён стаяў ён перад унутранай брамай замка, молячы адчыніць яе яму. Нарэшце, Рыгор зняў з яго царкоўнае адлучэнне, але ўсё ж пазбавіў яго кайзерской улады. Генрых павінен быў аддаць сваю карону папе, і заставацца прыватным чалавекам да таго часу, пакуль над ім не адбудзецца суд на новым саборы, і, у выпадку новага абрання, ён павінен быў даць прысягу ў тым, што будзе заўсёды падпарадкоўвацца волі папы.

Так змяняліся часы дзякуючы ўплыву Евангелляў! Некалі Атон І расчуліўся і плакаў пры выглядзе няшчаснага рымскага пантыфекса, прасьціраўшага да яго рукі і маліўшага пра дапамогу, а зараз новы пантыфекс-папа Рыгор таксама быў расчулены, калі пабачыў, што да яго ног упаў з плачам рымска-германскі цэзар, вярхоўны валадар Захаду.

– «*Калі я,* – прамовіў Рыгор, – *прымаючы ў храме прычашчальны хлеб, – вінаваты ў тым, у чым мяне вінавацяць, хай неадкладна спасьцігне мяне смерць, як толькі я прыму гэта*».

І, прыняўшы пры захопленых крыках фанатызаванага натоўпу, адну палову прычашчальнага хлеба, ён перадаў другую палову кайзеру, заклікаючы яго зрабіць тое ж.

Але Генрых адступіў перад жудасным для яго выпрабаваннем. Пакінуўшы замак, ён накіраваўся ў Ламбардыю, але быў тут сустрэты ўжо магільным

маўчаннем. Ламбардзкія стараверы, яшчэ не распусьціўшыя сваё войска, паставіліся да яго з пагардай, графы і біскупы пазбягалі сустрэчы з ім ці ставіліся холадна, гарады, у якіх рэспубліканскі дух быў ужо моцным, адмаўлялі каралю ў прытулку, ці з вялікай неахвотай дазвалялі яму спыніцца толькі за сьценамі. Паўночную Італію ахапіла незадаволенасць і пад гэтымі ўплывамі ў душу Генрыха закраліся сумневы адносна ўсемагутнасьці папы. І вось, ён абвясьціў ламбардцам, што дамагаўся зняцця з яго царкоўнага адлучэння толькі для таго, каб атрымаць волю і адпомсціць за сябе. Ён пасьпяшаўся ў Германію, каб пачаць змаганне за сваю карону. А Рыгору, які застаўся ў замку Матыльды, пачалі пагражаць стараверы ламбардцы, з якімі Генрых заміраўся. Дзякуючы прывілеям, якія былі падараваны Генрыхам гэтым гарадам, іхная незалежнасць значна павялічылась. Вялікі пантыфекс, зараз папа, ахоплены ўладалюбствам, здаваўся для Італіі больш небяспечным, чым знясілены кайзер з яго суверэнітэтам. Усе ламбардзкія гарады і ўся Раманія далучыліся да сьцяга Генрыха; яны перакрылі Рыгору праход праз Альпы, узялі ў палон яго легатаў і потым вырашылі, склікаўшы і Ранкалье сойм, зноў пацвердзіць пастановы п’ячэнцскага сходу і абвясьціць рэфарматара царквы пазбаўленым пасада. Толькі войска энтузіясткі Матыльды абараніла яго ад узброенага нападу. Вярнуўшыся ў Рым, Рыгор зразумеў, што становішча, у якім ён апынуўся, было амаль не маючым выратавання, і што змаганне з германскай імперыяй за самаўладдзе абноўленай хрысьціянскай царквы, якую ён спадзяваўся закончыць за кароткі час, толькі пачыналася.

У сакавіку 1080 года ў Рыме быў скліканы новы абнаўленчы сабор. На ім Рыгор абвясьціў Генрыха зноў пазбаўленым германскай і італійскай карон і пракляў, як заклінальнік, яго зброю. Ён урачыста прызнаў абнаўленца Рудольфа цэзарам і на заканчэнне заклікаў апосталаў Пятра і Паўла паказаць сьвету доказ таго, што ім дадзена ўладу не толькі вязаць і развязваць на небе, але што яны дакладна так жа і на зямлі валодаюць уладай дараваць і забіраць дзяржавы, княствы, графствы і розныя іншыя ўладанні.

Але адлучэнне ад царквы, абвешчанае другі раз, ужо не мела такога ж уздзеяння, якое яно мела ў першы раз. 31 траўня ў Майнцы быў скліканы староверскі сабор із 19 біскупаў, прыхільнікаў Генрыха, у яны зноў абвясьцілі папу пазбаўленым пасада. 25 чэрвеня 1080 года ў Брысене адбыўся яшчэ новы, таксама староверскі, сабор са шмалікіх італійскіх біскупаў, і тут, згодна з жаданнем Генрыха, папай быў абраны Віберт равэнскі. Падобна таму як абнаўленчы папа змагаўся з кайзерам, выстаўляючы супраць яго ў Германіі другога цэзара, так зараз і Генрых, у сваю чаргу, выставіў супраць Рыгора антыпапу. Рымляне спачатку змагаліся за папу-абнаўленца, але потым у іх знікла жаданне ахвяраваць сабой дзеля яго. Адзін нарманскі манах таго часу абсыпае іх за гэта цэлым градам папрокаў:

– «*Ты гінеш, Рым*, – усклікае Гауфрыд, – *ад свайго пагарджаемага падступства! Ні ў кога не абуджаеш ты павагі. Ты гатовы кожнаму падставіць сваю спіну пад удары. Твая зброя затупілася, твае законы парушаны, ты поўны хлусні. Табе ўласьцівы марнатраўнасць і скупасць, ты не ведаеш, што такое вернасць і прыстойнасць, язва сіманіі з'ядае цябе. Усё ў табе продажна. Аднаго папы для цябе мала і ты ждаеш двух. І калі нейкі із іх шчодра адорыць цябе, то ты праганяеш другога; а калі першы перастае быць шчодрым, ты клічаш другога. Ты робіш з аднаго папы пагрозу другому і такім спосабам набіваеш сабе каліту. Некалі ты быў крыніцай усіх цнотаў, а зараз ты сборышча бруду. У табе больш няма шляхетнасьці! З таўром безсаромнасьці на чале ты перасьледуеш адны толькі подлыя карыслівыя мэты*».

Паскораным маршам Генрых вярнуўся ў Рым 21 сакавіка 1084 года, і размясьціўся разам з антыпапай у Латэране. Цэзара суправаджалі яго жонка і некалькі германскіх і італійскіх біскупаў і нобіляў.

Абнаўленец Рыгор-Гільдэбранд, гатовы хутчэй памерці, чым зняважыць сябе перад кайзерам, заставаўся ў замку св. Анёла, ахоўваемы толькі жменяй рашучых людзей. Сход біскупаў і рымскіх саноўнікаў абвясьціў яго пазбаўленым пасады, і, выканаўшы ўсе патрэбныя фармальнасьці, абвясьціў старавера Віберта папай пад імем Клімента III. Ён быў адведзены ў Латэран і пасьвечаны ламбардзкімі біскупамі ў сан вялікага пантыфекса, а 31 сакавіка, у першы дзень Вялікадня, ён усклаў на Генрыха і яго жонку імператарскія кароны. У гэты ж час рымлянамі была даравана новаму імператару і патрыцыянская ўлада.

Амбасадары папы-абнаўленца без стомы ездзілі ў гэты час па Кампаны, шукаючы Роберта Гюіскара, каб кінуцца да яго ног і маліць яго прыйсьці як мага хутчэй з яго ісламітамі на дапамогу да папы. Гюіскар вырашыў пасьпяшацца яму на выручку, таму што ў выпадку падзення папы Рыгора Генрых мог бы павярнуць сваю зброю супраць яго самога, утварыўшы грозны хаўрус усіх яго ворагаў. Ён выступіў у паход на пачатку траўня, маючы 6 000 вершнікаў і 30 000 чалавек пяхоты. Дэзідэрый апавясьціў папу пра гэты паход Гюіскара, але ў той жа час паведаміў пра яго і імператару.

Пачынаць змаганне з самымі грознымі ваярамі таго часу Генрых не мог, таму што яго войска было невялікім. Абвясьціўшы, што дзяржаўныя справы заклікаюць яго ў Ламбардыю, ён разам са староверскім вялікім пантыфексам Клімента III 21 траўня накіраваўся на поўнач. А Гюіскар, рухаючыся паскораным маршам, дасягнуў Рыма 24 траўня, – усяго праз тры дні пасьля сыходу Генрыха. Рымляне кінуліся было насустрач нармандцам, але тыя змаглі прабіцца да моста праз Тыбр, праз Марсава поле, ахопленае полымем, вызваліць папу із замка св. Анёла і правясьці яго ў Латэран. Паўстанне рымлянаў-старавераў было задаўлена сярод струменяў крыві і полымя пажару, таму што Роберт-Гюіскар дзеля свайго выратавання, загадаў падпаліць горад. Сарацыны[237] гналі ў свой лагер натоўпы звязаных рымлянаў-старавераў. Шляхетныя жанчыны, мужчыны, меўшыя званне сенатараў, дзеці і юнакі, вырачаныя на рабства, выстаўляліся зараз у Рыме на продаж так жа адкрыта, як быдла. Некаторыя, і ў іхным ліку прэфект горада прызначаны імператарам, былі выведзены ў якасьці ваеннапалонных, у Калабрыю[238]. Пераможцы цэлымі днямі займаліся гвалтам, рабаваннем і забойствамі.

Нарэшце, рымляне-старaверы, з вяроўкамі на шыях, з'явіліся да Гюіскара і ўпалі да яго ног, молячы пра літасць, але ён ужо не меў магчымасьці кампенсаваць ім іхныя страты. А папа Рыгор застаўся пасіўным назіральнікам наклiканых ім бедстваў. Ні ў кога із яго сучаснікаў мы не знаходзім сведчанняў пра тое, каб ён зрабіў нейкую спробу выратаваць староверскі Рым ад рабавання ці выказаў сваё

[237] Сарацынамі (saraceni) пад час сярэдневечча зваліся цалкам ўсё ісламіты. Тут, відаць, маюцца на ўвазе маўры-іберыйцы (гішпанцы), інакш іберы, згодна з іншым вымаўленні эверы, ці яўрэі, адкуль шляхам фанетычнай перастановы ўтварылася слова арабы (ебр-ерб-араб), агульнае імя біблейскіх богазмагальнікаў-шматжонцаў. Толькі ў апакрыфічнай геаграфіі Пталямея іх родапачынальніка перасялілі ў Меку і ў Медыну.

[238] Multa milia romanorum vendidit ut judaeos, quosdam vero captivos duxit usque Calabriam, – выказваецца прыхільнік Рыгора, Баніцо, стар. 818. – Mulieres conjugatas et simplices vinctis post tergum manibus, violenter prius oppressas ad tabernacula adduci praecepit. (Шмат тысяч рымлянаў, як юдэяў, прадаў і адвёў палоннымі ў Калабрыю. Жанчын адружаных і неадружаных параможаных, з рукамі за спінай, жорстка перад тым абражаных, агадаў адвесьці ў намёты. Vido, з. 20.)

спачуванне яго бядотнаму становішчу. Але што магло азначаць для яго разбурэнне непаслухмянага горада ў параўнанні з ідэяй, у ахвяру якой ён прынёс спакой усяго сьвету? Разбурэнне старога Рыма аплакваў, праз шмат гадоў, чужацкі біскуп, Гільдеберт Турскі, наведаўшы горад у 1106 годзе і, калі гэты новы «плач Ераміі» адпавядае рэчаіснасьці, то ўжо ў XII стагоддзі пачалі ствараца легенды пра вялікае мінулае Рыма.

«*Нічога*, – выказваецца Гільдэберт, – *не зможа параўнацца з табой, Рым, нават зараз, калі ты ператвораны ў разваліны і гледзячы на твае парэшткі можна скласьці ўяўленне, чым ты быў пад час дзён сваёй велічы! Час разбурыў тваю шыкоўную пышнасць, імператарскія палацы і храмы богаў стаяць, патанаючы ў балотах. Твая магутнасць мінула, і трапятаўшы перад ёю грозны перс*[239] *аплаквае яе. Цары сваім мячом, сенат мудрымі пастановамі і самі небажыцелі зрабілі цябе некалі кіраўніком сьвету. Цэзар* (г.азн. на самай справе Kaiser) *злачынна вырашыў завалодаць табою непадзельна, не думаючы быць табе бацькам і сябрам. Ты ішоў трыма мудрымі шляхамі: перамагаў ворагаў магутнасьцю, змагаўся са злачыннасцьцю з дапамогай закону, набываў сяброў падтрымкай. Клапатлівыя правадыры* (duces – герцагі) *пільна вартавалі цябе ў тваёй зыбцы і дапамагалі твайму ўзрастанню. Трыумфы консулаў адбываліся ў тваіх нетрах, лёс абдорваў цябе сваёю прыхільнасьцю, мастакі аддавалі табе пэрлы сваёй творчасьці, увесь сьвет абсыпаў цябе скарбамі. О гора! Ахоплены ўспамінамі, я гляджу на твае парэшткі, горад, і ў глыбокім хваляванні ўсклікаю: такім быў Рым! Але ні час, ні полымя пажараў, ні меч ваяра не змаглі пазбавіць цябе ўсяго твайго ранейшага харастве. І тое, што застаецца, і тое, што знікла, велічнае. Адно не можа быць знішчана, другое – адноўлена. Хай будуць у тваім распараджэнні і золата, і мармур; хай будуць у табе майстэрскія майстры і дапамогуць ім багі* **(дзіўнае выказванне у вуснах каталіцкага біскупа, калі ўяўляць яго згодна з вобразам патара XVIII-XIX стст.),** *але нічога падобнага табе і тваім парэшткам ужо не можа быць створана. Ствараючая магутнасць людзей уклала некалі ў Рым столькі магутнасьці, што ён змог выстаяць нават супраць гневу богаў* (**зноў шматбожжа**!) І *іхныя выявы тут дзівосна выдатныя, што не яны на богаў, а самі багі жадаюць быць падобным на іх. Прырода ніколі не магла стварыць такіх чароўных выяваў богаў, якія стварыў чалавек. Гэтыя выявы жывуць, і ў іх вобразе ушаноўваюць ужо не саму боскасць, а майстэрства стварыўшага яго майстра. Шчаслівы горад! О, калі б ты не быў пад уладай тваіх тыранаў, калі б твае валадары не былі пагарджаемымі падманшчыкамі*!»[240]

Так пачала ствараца легенда, што не зараз прыхільнікамі папы-рэфарматара, а пад час глыбокай старажытнасьці былі разбураны статуі, меўшыяся

[239] Відавочна, гаворка ідзе пра ўжо насоўваўшыхся турак, меўшых тады назву персы, ці парфяне (згодна з сугучнасьцю з грэцкім партэнас – дзяўчына. (Яны ж далі нагоду да падання і пра магутнае парфянскае царства, быццам бы існаваўшае за 250 гадоў да нашай эры.)

[240] Вось пачатак элегіі, прыведзенай у Beaugendr'a (Op. Hildebraodi col. 1334) і цытуемай Грэгарэвіусам (кн. VII, 6, заўв. 30), пачатак якой дадаю ў якасьці ўзора класічнага складання XIII стагоддзя:

Par tibi, Roma, nihil, cum sis prope tota ruina,
Quam magua fueris integra, fracta doces.
Longa tuos faslus aetas destruxit, et arces.
Caesaris et superum templa palude jacent.
(Няма нічога роўнага табе, Рым, хаця ты весь у разбурэннях.
Пераможаны ты нас вучыш, якім велічным быў у цэласьці.
Працяглы час знішчыў ужо твае летапісы і форты цэзара
І над храмамі тваімі толькі балоты цягнуцца.)

Я звяртаю асаблівую ўвагу на тое, што кожны раз, калі ў лацінскай літаратуры сустракаецца, як тут, слова цэзар, не патрэбна забывацца, што такую назву мелі пад час сярэдневечча і эпохі гуманізму нямецкія кайзеры-каралі (Цэзар-кесар-кайзер).

ў Рыме, і тыя яго будынкі, ад якіх потым у прыродзе не выявілася ніякіх слядоў ці засталіся адны парэшткі.

«*Пры аблозе базілікі св. Паўла, яшчэ пры Генрыху быў,* ***напэўна****, разбураны старажытны порцік, які ішоў да базілікі ад брамы*», – здагадваецца Грэгарэвіус (VII, 6). – *Ватыканскі порцік,* – працягвае ён, – *быў ператвораны ў разваліны пры ўзяцці Барго. Ляаніна была знішчана пажарам, і пры гэтым* ***павінна была быць*** *пашкоджанай і сама базіліка св. Пятра. У горадзе былі спустошаны Палацін і Капітолій; тая ж доля, якую зведаў Septizonium, самая прыгожая частка імператарскіх палацаў,* ***павінна была*** *спасьцігнуць і іншыя ўмацаваныя будынкі горада. Але спусташэнні, якія зведаў горад пры Кадале і Генрыху, былі нязначнымі ў параўнанні з тымі, якія ён зведаў ад пажару зробленага нармандцамі. Гюіскар два разы падпальваў горад, – першы раз, калі прайшоў у браму Фламінія, і ў другі раз, калі рымляне перайшлі ў наступленне. Пажар спустошыў Марсава поле,* ***напэўна****, аж да моста Адрыяна. У гэтай мясцовасьці загінулі рэшткі порцікаў і шматлікія іншыя помнікі. Ацалелі толькі «маўзалей Аўгуста» і «калона Марка Аўрэлія». Квартал ад Латэрана да Калізея, тады густа заселены, быў знішчаны полымем, і з той пары Латэранская брама набыла назву «абгарэлая». Старажытная царква Quatro Coronati, ператварылася ў кучу попелу; Латэран і шматлікія цэрквы* ***павінны былі*** *зведаць разбурэнні і,* ***напэўна****, у значнай ступені; Калізей, трыумфальныя аркі і парэшткі Circus Maximus таксама* ***наўрад ці*** *маглі застацца непашкоджанымі*[241]. *Усе летапісцы, згадваючыя пра гэтую жудасную катастрофу, згодны ў тым, што пажарам была знішчана значная частка горада. Пісьменнік XV стагоддзя* (Blondus: «Historia Decad. II» (III. 204) *сцвярджае, што менавіта пакліканыя абнаўленцам Рыгорам нармандцы былі нагодай вартага жалю стану, у якім Рым апынуўся пасьля таго. Некалі густа населены Цэлій* (акруга Калізея) *пачаў усё больш і больш пусцець і той жа лёс спасьціг Авентын, які яшчэ пры Атоне III вылучаўся сваім квітнеючым выглядам. У наш час на гэтых узгорках пануе цішыня і толькі дзе-нідзе стаяць адны старыя цэрквы, ды разбурэнні*».

Такім чынам, ва ўсім вінаваты папа-абнаўленец Рыгор VII. Але куды ж падзеліся калоны і падмуркі стараверчых храмаў і палацаў, лічымыя зараз за класічныя?

«*Каменныя камлыгі,* – сведчыць Грэгарэвіус, – *і калоны везліся* (!) із *Рыма ў іншыя гарады. Калі Гюіскар і не выкарыстаў паганскімі статуі ў якасьці здабычы, то каштоўныя ўпрыгожванні і калоны ён лёгка* ***мог забраць*** *і выкарыстаць на пабудову сабора св. Мацьвея ў Салерна. Але хутчэй* ***можна меркаваць****, што Гюіскарам, як некалі Гензерыхам, былі вывезены із Рыма і сапраўдныя мастацкія творы*».

Усё гэта, вядома, **магчыма**, але самым праўдападобнай з'яўляецца тут выснова, што антычныя руіны Рыма і адломкі яго статуй і па-сутнасьці парэшткі стараверчага пантыфікальнага Рыма, ліквідаваны толькі Рыгорам VII з дапамогай «сарацынаў» Гюіскара. «*Нарманы,* – паведамляе гісторык горада Рыма пад час сярэднявечча (VII, VI), – *вызвалілі Рыгора VII, але тыя жудасныя гвалты, якія былі здзейснены імі, выраклі яго на вечнае выгнанне із гэтага горада*». Ды нічога іншага, вядома, і не заставалася для гэтага рэфарматара старадаўняга рымскага культу з яго лёгка-адружальным, напалову біблейскім, напалову паганскім, месіянскім сьвятарствам. Палітычнае жыццё рэфарматара было закончана, калі Рым выявіўся ператвораным у разваліны. Праўда, рымляне абяцалі Рыгору поўнае падначаленне, але ён не мог не разумець, што будзе ахвярай іхнай помсты, як толькі нармандцы і

---

[241] Згодна з Пандольфам Пізанскім (стар. 313) згарэлі акругі circa Lateranum et Coliseum; згодна з Рамуальдам – ад Латэрана да замка св. Анёла; згодна з Баніцыю – амаль усе акругі; згодна з Готфрыдам (Panteon) – частка Рыма; Ландульф (Hist. Med. III, 33) паведамляе, што тры чвэрці горада згарэлі; Бернольд і Відо паўтараюць тое ж.

ісламіты пакінуць Рым. Роберт Гюіскар узяў закладнікаў у старавераў, пакінуў у замку св. Анёла гарнізон і ў чэрвені, разам з папай, выступіў у Кампанью. Там Рыгор Гільдэбранд і памёр 25 траўня 1085 года ў Салерна.

Рэзюмуючы зоблены ім пераварот, Грэгарэвіус выносіць яму такую эпітафію:

«*Рыгор упершыню прынёс у царкву* (разам з манаствам сьвятарства) *дух цэзарызму. Гэтая, як яму здавалася, дасканалая сістэма павінна была злучыць у сабе ўсе іншыя палітычныя формы: дэмакратычную, арыстакратычную і манархічную, але на справе выйшла інакш. Залежнасць усяго ад волі адной асобы і засяроджванне ўсёй дагматычнай улады ў руках адной касты не маглі не спарадзіць усяго зла, да якога звычайна прыводзяць самаволя і дэспатызм, і таму цалкам зразумела, што за сістэмай, створанай Рыгорам VII, павінна была наступіць нямецкая рэфармацыя*».

# Глава IV.

## У чым былі рэчаісныя падставы скасавання сямейнага жыцця для служак рымска-каталіцкай царквы?

Усё гэта так, але чаму ж аўтар не дасьледуе тых нагод, якія павінны былі спрыяць зацьверджанню гэтага «духу манаства і цэзарызму» ў заходне-еўрапейскай царкве менавіта ў той час? Калі б жа сам Рыгор Гільдэбранд не быў выразнікам ужо наспеўшых патрэбаў у самім тагачасным грамадстве, то адзіным вынікам яго наказу пра неадкладнае скасаванне адружанага да таго часу стану заходне-еўрапейскага сьвятарства было б толькі тое, што іхныя жонкі выдрапалі б рэфарматару вочы, а чалавекі засадзілі б яго ў сядзібу для звар'яцелых. Гэта азначае што існавалі нейкія істотныя нагоды, не толькі дазволіўшыя Рыгору Гільдэбранду зрабіць такі адважны крок, але і давесьці да ажыццяўлення такую ідэю, якая не толькі не падмацавана натуральнымі патрэбамі чалавека, але проста была ненатуральнай. Немагчыма ж сапраўды патлумачыць гэта толькі тым, што сам апостал Пятро, меркаваны заснавальнік рымскага пантыфікату, якраз наадварот, меў жонку і дзяцей, ды і апостал Павел дэкрэтаваў «ад сьвятога духу» што «біскуп павінен быць абавязкова чалавекам толькі адной жонкі?» Менавіта ж дзякуючы гэтаму сьвятары ўсходняй царквы і да гэтага часу адружаныя. Як жа так атрымалася, што на Захадзе на прыканцы XI стагоддзя было, наадварот, забаронена адружаным людзям быць сьвятарамі?

У першай кнізе гэтага дасьледавання я ўжо дастаткова паказаў, што лісты ад імя апостала Паўла носяць вельмі позні характар, не раней VIII стагоддзя нашай эры, таму што грунтуючыся на самым сваім змесьце яны напісаны аўтарам ужо валадарачай, а не гнанай царквы, і калі б яны маглі быць прыпісаны каму-небудзь із вядомых у гісторыі царквы біскупаў, то ніяк не раней, чым канстантынопальскаму вярхоўнаму біскупу Паўлу IV, які сеў на свой пасад у 780 годзе, адначасова з уцараваннем Ірыны, ўсталяваўшай (а не аднавіўшай) на Ўсходзе ўшанаванне маляўнічых выявам богаў і напаўбагоў (г.азн. сьвятых), пасьля таго як памёр яе папярэднік Леў IV Статуялом (Іконаклас па-грэцку).

Ды ў чаму ж на прыканцы VIII стагоддзя, пры жанчыне на чале дзяржавы, прагучаў на грэцкім усходзе біскупскі заклік, каб сьвятары былі чалавекамі толькі адной жонкі? Відавочна таму, што да таго часу яны жылі ў стане шматжонства, а шматжонства ўжо пачало выходзіць са звычаю і асабліва было непрыемна

жанчыне-імператрыцы. Але і тут мы яшчэ не ведаем, як хутка яно знікла ў Візантыі пасьля згаданага ліста Паўла. А чаму ж на Захадзе ў XI стагоддзі Рыгор Гільдэбранд замест адной жонкі цалкам забараняе заходнім сьвятарам адружанае жыццё, і чаму ён здолеў гэтага дасягнуць?

Тут у нас не можа быць іншага выйсьця, як дапусьціць, што да таго часу заходнія прэлаты жылі не толькі ў стане шматжонства, але і ў стане афіцыйнай храмавай прастытуцыі, якая прыводзіла да пашырання венерычных хвароб (хаця імя багіні Венеры і азначае у перакладзе проста: Ушанаваная, і з’яўляецца, як-быццам адным са шматлікіх найменняў панны Марыі). Я выдатна разумею, як усё гэта не адпавядае наданым нам уяўленням пра жыццё сярэднявечнага сьвятарства ў Рыме, але ўсё ж і за гэта існуюць грунтоўныя факты. Хіба мы не ведаем, напрыклад, што сярэднявечныя феадалы на захадзе, не гледзячы на тое, што былі адружанымі, мелі яшчэ права правесьці першую ноч з кожнай дзяўчынай, якая адружваецца у іхных уладаннях, так што не жадаючая маладая павінна была прынесьці ім за сябе вядомы выкуп? А мы толькі што бачылі, што заходнееўрапейскія біскупы і прэлаты былі таксама феадаламі, ды і евангельскія паданні сцвярджаюць, быццам бы Хрыстос (легендарны, ён, ці не) спагадліва ставіўся да «распусніц», і некаторыя з іх, як Марыля Магдаліна, Сусанна, і іншыя, прылічаны да ліку сьвятых.

Пасьля таго як я паказаў у III кнізе «Хрыста», ды і тут, што ўся класічная гісторыя – апокрыф, даводзіцца прызнаць, што і вэрхалы ўзніклі ўжо пад час хрысьціянскага перыяду і што паданне пра Вакха, вынаходніка вінаробства, з’яўляецца толькі адной са шматлікіх староннiх легендаў пра таго ж евангельскага Хрыста, даўшага запавет піць віно ў якасьці ўспамінаў пра таемную вячэру. Акрамя таго, з'яўляецца пытанне, чаму ж і калі ў заходнееўрапейскай царкве быў парушаны такі выразны «запавет Хрыста» і замест хлеба і віна пачалі даваць прычашчаючымся адны аблаткі?

Згадаем толькі, як моцна насельніцтва трымаецца за рэлігійныя рытуалы. Калі маскоўскі патрыярх Нікан загадаў вернікам хрысьціцца трыма пальцамі, а не двума, як у Масковіі ўсталявалася да яго, і матываваў гэта тым, што праваслаўны бог не ў двух, а ў трох асобах, хіба вялікая частка сьвятароў і паствы не адышла ад яго дзякуючы гэтай дробязнай змене звычаю? Хіба адразу прызналі і прапанаваную Ніканам перамену арфаграфіі ў імені Хрыста, хаця Нікан і даводзіў цалкам слушна, што яно па-грэцку пішацца Іісус, а не Ізус. Із гэтага зразумела да відавочнасьці, што нават і маленькія перамены ва ўсталяваным рытуале атрымліваецца хутка правесьці толькі тады, калі яны з нейкай нагоды вельмі непрыемна адбіваюцца на цэлай масе насельніцтва. Задума Нікана не мела за сабой гэтага апраўдання і таму, якой бы ні была яна дробязнай і добра абгрунтаванай, але выклікала раскол праваслаўнай царквы, які атрымалася пераадолець толькі праз некалькі стагоддзяў, калі само праваслаўе ўжо так саслабела, што стала набыткам толькі адной напаўпісьменнай часткі насельніцтва.

Дык чаму ж, паўтараю, не выклікала расколу ў заходняй царкве ні забарона даваць прычашчаючымся віно, насуперак запавету «самога Хрыста», ні забарона адружанага жыцця сьвятарства насуперак наказу «самога сьвятога духа, праз апостала Паўла», каб біскуп абавязкова быў чалавекам адной і толькі адной жонкі?

З этна-псіхалагічнага боку гледжання гэта магло б здарыцца толькі таму, што запавет ад імя «Хрыста» (хто б ён ні быў і калі б ні жыў) піць віно ў якасьці ўспаміну пра яго ператварылася на прыканцы сярэдневечча у храмавыя вэрхалы,

пры якіх ап'янеўшыя сьвятары ў храмах выказвалі свае боскія правы на кожную жанчыну ці дзяўчыну, якая ім спадабалася. У гэтым выпадку лінгвістычныя сляды служаць лепшымі дакументамі, чым заўсёды аперцэпцыйныя гістарычныя паведамленні. А што ж яны нам паказваюць? У сярэднявечных хрысціянаў, згодна з паведамленнямі саміх гісторыкаў рэлігіі, у рытуал уключаліся начныя сходы, меўшыя назву агапы, г.азн. «начы кахання». І як ні імкнуцца тэолагі патлумачыць, што гэтыя хрысьціянскія «вячэры кахання» былі прысвечаны адным толькі сяброўскім дачыненням, але само спрадвечнае значэнне слова агапа выяўляе цалкам іншае. Для звычайнага бескарыслівага кахання па-грэцку заўсёды ўжываецца слова філія (φιλία) – братэрскае пачуццё, адкуль і бяруць пачатак нашы словы славянафіл, украінафіл, філолаг, філосаф і шмат іншых. А слова агапа (ἀγάπη) ужываецца выключна для эратычнага пачуцця, і яно захавалася ў імёнах Агапій, Агапія, – умілаваны і ўмілаваная. Ніхто замест слова філолаг не скажа агаполаг, таму што гэта было б смешна, але таксама няправільна разумець і старажытныя хрысьціянскія агапы інакш як у сэнсе «начэй кахання».

Зразумела, што ўсё гэта з першабытнага боку гледжання нават не ўяўляла нічога заганнага. Таму што ўся наша сучасная інстынктыўная мараль выпрацавалася толькі як умоўны грамадзкі рэфлекс, узнікшы мэтанакіравана. Калі Лівінгстан падчас свайго вандравання ў XIX стагоддзі ва ўнутраную Афрыку сказаў аднойчы краўшаму негру:

– Падумай і скажы: ці добра красьці?

Той падумаў і адказаў з поўным перакананнем:

– Добра, калі я нешта ўкраду ў каго-небудзь, але дрэнна, калі ўкрадуць у мяне.

Лівінгстон быў так здзіўлены першабытнай лагічнасьцю гэтага адказу, што спачатку не ведаў, што яму запярэчыць, а тым часам і сапраўды ніякай іншай маралі не магло існаваць у яго суразмоўцы, жыўшага ў асяроддзі першабытнага ўладкавання свайго грамадства. Хіба не адчувае тое ж самае і кожная варона ў сваім гняздзе, і хіба грудны дзіцёнак не цягне сваю ручку да ўсяго, што бачыць блізка, а захапіўшы, ці аддае іншым добраахвотна?

Але вось абкрадзеныя пачалі помсціць за крадзяжы, і той жа самы негр мог бы дадаць да свайго разважання яшчэ новае.

– Добра, калі я ўкраду і мяне не зловіць абкрадзены мной, але дрэнна, калі яны мяне зловяць і паб'юць.

І толькі пазней, калі з развіццём дзяржаўнасьці пакаранне за крадзяжы стала агульным правілам, баязнь перад якім заглушыла ў культурнага чалавека першабытнае задавальненне ад набыцця без працы пажаданай чужой рэчы, і выказванне «дрэнна красьці» пачало ўжывацца без якога б то ні быдо матывавання, а толькі грунтуючыся на выпрацаваным дзякуючы шматлікім пакараннем продкаў пачуццю агіды да небяспечнага ўчынку, выклікаючага агульнае асуджэнне, і з'явіўся сорам за яго перад сабой і перад атачаючымі. Але яшчэ і зараз сорам за крадзёж не з'яўляецца прыроджаным, і не будзе такім, пакуль гэтае, ужо агульнае ў еўрапейцаў у наш час, пачуццё не выпрацуе ў сперматазоідзе мужчыны ці ў ядзерку жаночага яечка свой спадчынны ген, выклікаючы пачуццё сораму за крадзеж як прыроджанае пачуццё, накшталт нашай прыроджанай агіды да сьмярдзючых прадметаў. А да таго часу яно будзе знікаць кожны раз, калі чаму-небудзь будзе спыняцца ў грамадстве яго першапачатковая нагода: пакаранне ці грамадзкае асуджэнне, якое асабліва важна.

Для доваду справядлівасьці гэтага цверджання, возьмем, напрыклад, вайну. Запытайце сучаснага ардынарнага чалавека ў Яўропе, і большасць адкажа так жа, як той негр: «добра ваяваць, калі перамога будзе наша, і дрэнна, калі нас паб'юць». Але вось і тут умовы ўзбраення і тактыкі пачалі прыводзіць ужо да таго, што індывідуальнае рабаванне забітых забіўшымі зрабіўся немагчымым, і замест такой прывабнай індывідуальнай прынады ваякам пачалі маляваццa ў перспектыве толькі параненыя часткі цела. І ў выніку такіх новых умоваў ведання вайны асабістая ваяўнічасць зараз жа стала знікаць і ў наш час падтрымліваецца толькі трыумфальнымі сустрэчамі пераможцаў, а сама вайна матывуецца рознымі нагодамі не асабістага характару.

Із гэтых двух прыкладаў мы выразна бачым, што наша сучасная мараль з'явілася і развілася ў нас не таму, што ў біблейскай кнізе Лявіт нейкі аўтар напісаў: «паважай блізкага, як самога сябе», і не таму, што гэта ж паўтарыў евангельскі Хрыстос, а дзякуючы вельмі працягламу і складанаму эвалюцыйнаму шляху. І само падобнае павучанне было на справе толькі рэзюмаваннем таго, што было ўжо выпрацавана да яго грамадзкім жыццём. Гэты запавет не падстава, а вынік, гэта кветка на ўжо развіўшайся расьліне, а не яе корань, які схаваны глыбока ў зямлі разам з нашымі памёршымі продкамі.

З падобнага ж боку гледжання мы павінны разглядаць і сучасную паміж стацевую мараль.

– Ці добра хадзіць на вэрхалы ў гонар «Ушанаванай» (Венеры на-лаціне)? – запыталі б вы вашых аддаленых продкаў у Заходняй Яўропе.

– Вельмі добра! – адказалі б яны ўсе, за выключэннем дзяўчын, баючыхся стаць цяжарнымі, раней чым знойдуць сабе памочніка для выхавання дзяцей. І вы нічым не змаглі б пераканаць іх і прымусіць адмовіцца ад паходаў у храмы на «ночы кахання». Але вось з'явіліся мікробы-ганакокі (мал. 111), і з гэтых храмавых агап пачалі вяртацца з гнойнымі запаленнямі ў мачавых каналах, маючымі назву ў медыцыне ганарэямі, і пакутаваць ад іх месяцамі... І на толькі што прапанаванае пытанне вам пачалі б даваць іншы адказ:



Мал. 111
Рэальныя настаўнікі сучаснай полавай маралі. Ганакокі – мікробы перылоя.



Мал. 112
Рэчаісныя настаўнікі сучаснай полавай маралі. Спірахеты – мікробы пранцаў.

«Вельмі дрэнна! Ушанаваная (Венера на-лаціне) пакарае агіднай хваробай!»

Толькі ў гэты момант і ўзнікла б магчымасць з поспехам павучаць пра пажыццёвае адно адружванне свецкіх і поўнае скасаванне адружвання для духоўных асоб грамадства, як галоўных арганізатараў «вечароў кахання».

Із гэтага мы бачым, што публічная сядзіба аддзялілася ад царквы не так ужо і даўно, як мы прывыклі думаць, і запавет Майсея: «не блудадзейнічай!», дарэмна дапасуемы «да 1496 года да Нараджэння Хрыста», быў не нагодай, а толькі фармулёўкай таго, што ўжо зрабілі «Пасьля Нараджэння Хрыста» мікробы венерычных хвароб і што замацавала сама карыснасць адружальнай вернасьці для забяспячэння існавання жанчын і дзяцей і для працягу чалавечага роду на зямлі. Самы факт усталявання неадружальнасьці каталіцкага сьвятарства з часу Рыгора Гільдэбранда, як справы згодна са сваёй сутнасьцю ненатуральнай, паказвае, што сьвятарства да яго характарызавалася цалкам процілеглымі ненатурльнасьцямі, як гэта мы ўжо бачылі ў дайшоўшых да нас характарыстыках папярэднічаўшага рэформе пантыфікальнага сьвятарства, а поспех дэкрэта Рыгора Гільдэбранда і знішчэнне прычашчальнага віна пры набажэнствах паказвае, што ганакокі да яго часу ўжо дастатова распаўсюдзіліся. Да гэтай ж высновы прыводзіць і адначасовае скасаванне палігаміі ў часткі ісламітаў, зрабіўшыхся з гэтага моманту аднажонцамі (жыды). Ды і сам звычай абразання быў толькі ўяўным сродкам пазбавіцца ад венерычнай хвароб без адмаўлення ад вэрхалаў, напэўна, вынайдзеным яшчэ пры Арыі ад нейкай іншай венерычнай хваробы.

Мы не знойдзем, вядома, у тагачасных гісторыкаў, якія прытым жа ўсе былі клерыкаламі, тлумачэння рэчаісных падставаў так званай рэлігійнай рэвалюцыі Рыгора Гільдэбранда. Яны заўсёды імкнуліся паказаць сваіх родапачынальнікаў не такімі, якімі яны былі на самай справе, а такімі, якімі ім было пажадана іх мець, і калі прагаворваліся, як мы бачылі не раз у гэтым кароткім выкладанні, то малявалі справу не як правіла, а як выключэнне. Усё адмоўнае, што заставалася ў памяці ад продкаў, клерыкалы Эпохі Адраджэння ўсяго зручней звальвалі, як і зараз робяць усе вузкія сектанты і палітыканы, на сваіх рэлігійных ці грамадзкіх супернікаў. Але сапраўды сур'ёзны дасьледчык павінен заўсёды стаяць вышэй дасьледуемага дакумента і вышэй аўтара, інакш ён ніколі не выйдзе із ролі простага і бескарыснага капііста. А ў выпадку вялікіх гістарычных пераваротах ён заўсёды павінен шукаць падставы не ў асобах, якіх лёс ці выпадак паставіў вярхоўнымі кіраўнікамі руху, а кіравацца тым, што карані кожнага грамадзкага руху апускаюцца, як у глебу, у папярэднічаўшыя ім пакаленні. А ў дадзеным выпадку мы не можам не спыніцца на гіпотэзе, што «ночы кахання» трымаліся ў хрысьціянскай царкве, зазвычай, аж да XI стагоддзя нашай эры і былі скасаваны не аднаасобнай воляй Рыгора Гільдэбранда, а непамерна распаўсюзіўшыміся дзякуючы ім у Яўропе гонакокамі, дзякуючы чаму прастытуцыя пры храмах захавалася амаль да нашых дзён толькі ў Індыі, дзе венерычным хваробам, відаць, не спрыяў гарачы клімат.

Але гэтае пытанне яшчэ распрацавана так мала, што я павінен матываваць сваю думку трохі падрабязней.

# Глава V.

## Некалькі думак пра стан сярэднявечнай рымскай рэлігіі раней царкоўнай рэвалюцыі пры Рыгору Гільдэбранду.

У главе пра Ціта Лівія я ўжо даў дастаткова выразнае апісанне вэрхалаў, быццам бы існаваўшых пад час легендарнага класічнага рэспубліканскага Рыма. Я паведаміў і гісторыю іхнага скасавання згодна з паведамленнем гэтага ж аўтара. Але калі старажытны Рым спісаны з сярэднявечнага, то і яго вэрхалы павінны быць спісаны з нейкіх аналагічных з'яваў сярэднявечнага хрысьціянскага Рыма. Паглыбімся ж крыху і ў вывучэнне гэтага пытання.

Вось перада мной ляжыць вельмі цікавая кніжка Шампфлеры пад назвай: «Гісторыя карыкатуры пад час сярэдневечча». Яна напісана аўтарам у прамежак ад 1867 да 1871 года[242]. Але перш чым карыстацца ёю, разбярэмся ў тым, што ўяўляе сабой карыкатура. Гэтае ж мастацтва складаецца толькі ў тым, каб перабольшвае ўжо існуючыя асаблівасьці суб'екта. Калі ў каго-небудзь доўгі нос, карыкатурыст выцягвае яго ўдвая ці ўтрая, пакідаючы тую ж форму; калі нізкі лоб, ён яшчэ больш паніжае яго; шырокі рот ён пашырае, а доўгія вушы падаўжае і г.д. Толькі пры гэтых умовах вы адразу ж пазнаеце намаляванага чалавека, а калі мастак надасць яму нешта не існуючае, то атрымаецца ўжо не карыкатура, а недарэчнасць, і вы проста скажаце, што гэты вырадак нейкі цалкам іншы чалавек, а не той, якога ўяўляюць. Із гэтага зразумла, што старажытная карыкатура можа вельмі выдатна служыць і для сур'ёзных гістарычных пошукаў, калі ўмець яе разумець і слушна ёю карыстацца. Яна можа нават даць нашмат больш выразную выяву сучаснага ёй стану дадзенага грамадзкага асяроддзя, чым сухое празаічнае апісанне.

Паглядзім жа, што яна нам паведамляе пра старажытнае рэлігійнае жыццё на Захадзе Яўропы.

«*Дзіўныя забавы*, – адзначае Шампфлеры[243], – *ладзіліся ў саборах і кляштарах на вялія сьвяты царквы пад час сярэдневечча і Эпохі Адраджэння. Не толькі самае ніжэйшае святарства бярэ ўдзел у вясёлых песьнях і скоках, асабліва на Вялікдзень і Каляды, але нават і самыя галоўныя царкоўныя саноўнікі. Манастэрыянцы мужчынскіх манастэрыёнаў скакалі тады з манастэрыянкамі суседніх жаночых, і біскупы далучаліся да іхных забаваў. Эрфурцкая хроніка апісвае нават, як адзін саноўнік царквы аддаўся пры гэтым такім эксцэсам, што памёр ад прыліву крыві да галавы*»...

[242] Champfleury: Histoire de la Carricature au Moyen Age. Paris. 1867-1871.
[243] Champflery, p. 53.



Мал. 113
Вячэра сярэднявечных манастэрыянцаў. Мініяцтура ў Бібліі XIV стагоддзя (Парыжская нацыянальная бібліятэка).

І аўтар прыводзіць, як самы сціплы ўзор, выдаючы яго за карыкатуру, выяву вячэры манастэрыянцў і іхных каханак із Бібліі XIV стагоддзя, што захоўваецца пад № 166 у Парыжскай нацыянальнай бібліятэцы (мал. 113). Але якім жа чынам такая карыкатура патрапіла ў Біблію?? Імкнучыся пагадніць тагачаснае манастэрыянскую жыццё з сучаснай мараллю, Шампфлеры наіўна пераконвае нас, што на такія малюнкі трэба глядзець не як на ілюстрацыю існаваўшай рэчаіснасьці, а як на перасьцярогу ад магчымасьці такіх учынкаў! Але ж калі б такіх выпадкаў не было, то навошта ж было і перасьцерагаць ад іх, ды яшчэ ў такой панадлівай форме? Хто, напрыклад, пачаў бы перасьцерагаць публіку ад распусты пашырэннем узбуджаючых стацевую дзейнасць парнаграфічных малюнкаў? Калі б гэта былі перасьцярогі, то былі б пералічаны і нейкія непрыемныя наступствы ад такіх учынкаў, а нічога падобнага тут няма. Падобныя ілюстрацыі магчымы толькі ў тым выпадку, калі яны прама адлюстроўваюць звычайны лад жыцця тагачаснага сьвятарства, факт, які ўсімі прызнаецца звычайным, а калі б мастак зрабіў гэта дзеля ганьбавання звычаяў, ужо перастаўшых ўхваляцца пры новых павевах у каталіцкай царкве, але яшчэ існаваўшых перад царкоўнай рэвалюцыяй Рыгора Гільдэбранда, то ён намаляваў бы гэтую гулянку ў нейкай агіднай форме, з чарцямі, завабліваючымі ўдзельнікаў у пекла, з выродлівымі выявамі венерычных хвароб і г.д. Іншага рашэня тут няма і не можа існаваць. І калі Шампфлеры[244] дадае, як бы ў якасьці прабачэння, што «так жа скакаў і цар Давыд пры рэлігійных

[244] Champfleury, p. 57.

працэсіях», то сам жа дапаўняе із прамовы 205, апакрыфічна прыпісваемай Шчасьліваму Аўгустыну, быццам бы гэта быў толькі перажытак паганства:

«Існаваў паганскі звычай, захаваўшыся ў хрысціянаў, каб пад час сьвяточных дзён ладзіць «бляянні», г.азн. спевы і скокі, таму што гэта звычка да «бляянняў» засталася ад назірання паганскіх звычаяў»[245].

Але паганскай царквой, як мы бачылі, пазней гільдэбрандаўскія каталіцкія аўтары лічылі папярэднічаўшую ім стараверчаскую рымскую царкву, а такім чынам, і ўсе класічныя апісанні дапасуюцца менавіта да яе. Гэта ў ёй бляялі па казлінаму і скакалі...

Яшчэ ў VII стагоддзі, г.азн. ужо праз 700 гадоў пасьля ўзнікнення хрысьціянства згодна са звычайнай храналогіяй (а згоздна з нашай атрымліваецца ў X ці XI стагоддзі) сабор у Шалоне на Саоні забараняе жанчынам співаць у цэрквах непрыстойныя песьні (chansons licencieuses). А «Рыгор Турскі», ці нейкі апакрыфіст ад яго імя, падымае свой голас супраць манастэрыёнскіх маскарадаў, адбываўшяхся ў Пуацье, у сувязі з існаваўшымі пад час тых стагоддзяў на рэлігійным падмурку «вар'яцкі сьвятаў» (fetes des fous), са «сьвятамі нявінных» (fetes des innocents) і са «святамі асла» (fetes de l'Ane)[246].

«*Толькі ў 1212 годзе*, – паведамляе Шампфлеры[247], *– парыжскі сабор забараніў манастэріянкам наладжваць «вар'яцкія сьвяты» ў такой форме*:

«*Ад вар'яцкіх свят, дзе прымаюць фалус, паўсюдна ўстрымлівацца, і гэта мы тым мацней забараняем манастэрыянцам і манастэрыянкам*».

Але забарона, відаць, дапамагла мала, таму што і потым, у 1245 годзе, абнаўленчы арцыбіскуп Адон (Odon), наведваючы руанскія манастэрыёны, пабачыў, што манастэрыянкі аддаюцца там на сьвяты разнастайным непрыстойным задавальненням (ejusmodi lasciviis operam dedisse)[248]. І ён забараніў ім звычайныя скокі паміж сабой і са свецкімі ў гонар вясёлага сына бога, яго вясёлай маці-панны, і самага вясёлага бога-бацькі, атаясамляемага, відавочна, з Зеўсам і Юпітарам (aut inter vos, seu cum secularibus choreas ducendo). І ён дадае:

«*Яны аддаваліся празмерным свавольствам, блюзьнерскім песьням, асабліва дурыкам, зводам, рухам цела» і г.д.*

У адпаведнасьці з гэтымі разуменнямі пра вясёлы характар раннехрысьціянскай боскай тройцы ў Безансоне на Вялікадні ў цэрквах співалі:

*Не п'яны голас абвяшчае ўсім верным:*
*Накіруйце Сіён да весялосьці,*
*Адна толькі радасць ды будзе ва ўсіх,*
*Адкупленых, адной мілатой.*
*(Fidelium sonet vox sobria*
*Convertere Sion in gaudia,*
*Sit omnium una laeticia,*

---

[245] Erat gentilium ritus inter christianos retentus ut diebus fostis ballationes, id est cantilenas et saltationes exorcerunt... quia ista ballandi consueludo de paganorum observalione remansit (p. 57). Але ж справа не ў тым, ад якіх бацькоў нарадзілася дзіцё, а ў тым, што яно існавала ў якасьці хрысьціянскага звычая пад час сярэдневечча, калі паганства ўжо не было і ў згадках. А выснова адсюль толькі адна: сярэднявечныя хрысьціяне лічылі і бога-бацьку, і бога-сына, і бога-святога-духу, за вясёлую тройцу, якой падабаюцца і песьні, і скокі, і двухсэнсоўныя жарты наконт першага запавету, дадзенай богам чалавеку і жывёлам ў кнізе Быццё: «пладзіцеся і размнажайцеся!» Цалкам як апісваецца ў класікаў.

[246] A festis follorum (заміж phallorum?) ubi baculus accipitur omnino abstineatur idem fortius monachis et monialibus prohibimus.

[247] Champfleury, p. 57.

[248] Nimia jocositate et scurrilibus cantibus utebantur, ut pole farsis, conductis, motulis ets.

*Quos unica redemit gretia.)*

Вельмі падобнымі на храмавыя «вар'яцкія сьвяты» былі (г.азн. з festi follorum, пераназванымі із festi phallorum) згаданыя вышэй сьвяты «нявінных» (г.азн. не ведаючых розніцы паміж дазволеным і недазволеным). І тыя і другія былі, напэўна, толькі іншымі найменнямі перша-хрысьціянскіх «начэй кахання» (ἀγάπαι па-грэцку) і вэрхалаў. Яны існавалі згодна з Шампфлеры ў Безансоне яшчэ і паміж 1284 і 1559 гадамі, калі іх і там забараніла абноўленчая царква. Ды і кароль Шарль VII у 1430 годзе зноў забараняе ў катэдрале ў Труа (Trojes) гэтыя рэлігійныя «вар'яцкія сьвяты».

«Збіраюцца разам, – кажа ён, – ладзіць сьвяты вар'ятаў» з вялікімі неўстрыманнямі, свавольствамі, непрыстойнымі гледзішчамі, маскарадамі, шутаўскімі, двухсэнсоўнымі песьнямі і з іншымі вар'яцтвамі... да вялікага сораму і ганьбы ўсяго царкоўнага стану[249].

Нават і ў 1497 годзе капітул Санлі (Le chapitre de Senlis) дазваляе святкаваць сьвятарству Богаз'яўленне толькі пры ўмове, што не будуць на ім «спявацца безсаромныя песні, выказвацца безсаромныя жарты і здзяйсняцца безсаромныя скокі перад галоўным парталам храма, і не будзе нічога із таго, што мела месца на леташнім «сьвяце нявінных».

Так, толькі праз тысячу чатырыста гадоў меркаванага існавання хрысьціянства, ранейшыя агульнапрызнаныя звычаі хрысьціянскай царквы пачалі скандалізаваць яе вярхоўных кіраўнікоў. Цалкам жа відавочна, што распушчаныя песні пры перамяшанні мужчын і жанчын не маюць ніякага сэнсу, калі яны не з'яўляюцца заахвочваючымі адзін аднаго да распушчаных жа ўчынкаў, якія непазбежна і пачынаюцца следам за імі.

Абнаўленчы прапаведнік Гільём Пепэн (Guillaum Pepin) так піша пра стараверчых манахаў свайго часу, якія яшчэ не далучыліся да рэформы:

«*Шмат якія не рэфармаваныя* (Рыгорам Гільдэбрандам) *служкі культу, нават і пасьвечаныя ў царкоўны сан, мелі звычай заходзіць у жаночыя не рэфармаваныя кляштары і аддавацца з манашкамі неустрыманым скокам, і гэта днём і ноччу. Маўчу пра астатняе, каб не абразіць набожныя розумы*»[250].

А яшчэ больш знакаміты яго сучаснік, таксама абнаўленец, Мішэль Мэна (M. Menot) піша:

«*Пастанова тэолагаў парыжанам дзеля агіды і пагарды да паўсюдна ўшаноўваемага, забабоннага і скандальнага рэлігійнага звычая, які некаторыя завуць сьвятам вар'ятаў ... Такія паганскія парэшткі не да часу. Сапраўды, да гэтага часу захоўваюцца ў нас, дзякуючы вельмі пашыранай традыцыі, беззаконні Яна* (другое вымаўленне слова Іаан), *і падобныя гульбішчы ў гонар Яна ладзяцца на пачатку студзеня*»[251].

---

[249] Pour faire la feste aus folx avec grans excez, mocqueries, spectacles desguissemens, farses, rigmeries (г.азн. двухсэнсоўнымі песнямі) et aulres folies au tres grand vitupere et diffame de tout l'estat ecclesiastique.

[250] Solent multi clerici etiam religiosi non reformali ingredi monasteria monialium non reformatarum et cum eis choreas etiam insolentissimas ducere et hoc, tam de die quam de nocte, taceam de reliquo, ne forsam offendam pias aures (G. Pepinus: Sermones quadraginta de dcstructione Ninive, Paris, 1525).

[251] Decretum teologorum parisiensibus ad detestandum, condemnandum et omnino adolendum quemdam superstitiosum et scandalosum ritum quern quidam «festum fatuorum» vocant... Tales paganorum reliquiae cessarunt... solo vero sparcissimi Iani (г.азн. Яна) nefaria tradicio huc usque perseverant. Similia ludibria in capile Ianuarii faciebant in honorem Iani.

І нават у XVIII стагоддзі ў вераснёвым нумары часопіса «Mercure de France» за 1742 год з'яўляецца артыкул, у якім апісаны сучасны вялікодны рытуал 1581 года і паведамляецца:

«*Пасьля заканчэння сняданку і службы на прыканцы нонаў ладзяцца скокі ў кляштары ці ў сярэдняй частцы царквы, калі час дажджлівы, співаючы нейкія вершы, каб ухіліцца ад працэсій... Пасьля заканчэння скокаў .... ладзяць вячэру з чырвоным і белым віном*»[252].

Із гэтага зразумела, што класічныя вэрхалы не толькі існавалі, але і квітнелі ў рымска-каталіцкіх храмах аж да царкоўнай рэвалюцыі Рыгора Гільдэбранда ў XI стагоддзі, калі ўпершыню пачалі аддзяляць Вакха ад Хрыста.



Мал. 114
Скульптура ў падземнай зале катэдральнага сабора ў Буржэ. Згодна з малюнкам Балы (Bailly) рэстаўраваўшага яго.

«*Не раз*, – сведчыць аўтар «Гісторыі карыкатуры пад час сярэдневечча», – *калі я даследаваў старажытныя саборы, імкнучыся знайсьці сакрэт, збіваючы з толку* (deroutante), *непрыстойнай іхнай арнаментацыяй, усе мае тлумачэнні здаваліся мне самому тлумачэннямі на кнігу, напісаную на нейкай чужой мне мове*».

«*Што падумаць*, – працягвае ён, – *напрыклад, пра дзіўную скульптуру, змешчаную у цені пад калонай падземнай залы* (мал. 114) *сярэднявечнага катэдральнага сабора ў Буржэ* (Bourges)? *Ці знойдзецца такое парадаксальнае ўяўленне, каб вызначыць суадносіны падобнага, выходзячага за межы магчымасьці, жарту з набожным месцам,*

[252] Finito prandio post sermonem, finita Nona, fiunt chorae in claustro, vel in medio Navis ecclesiae, si tempus fuerit pluviosum, cantanda aliqua carmina ut in processionariis continetur. Finita chorea ... fit collatio in capitulo cum vino rubreo et claro.

*дзе вылеплена гэтая выява? Якія аўтарытэтныя ўплывы былі патрэбнымі, каб не спыніць руку рамесніка, які вырабляў такія дэталі*?»[253].

І кожны чытач, які зірне на дададзены ім малюнак (мал. 114) пагадзіцца з ім і задасць, акрамя таго, іншае пытанне: як маглі трываць такую выяву карыстаўшыяся гэтай таямнічай залай манахі, раней таго часу, калі гэтая скульптура пачала захоўвацца ў выглядзе перажытку даўно мінулых дзён?

Але і гэтым непаразуменні не абмяжоўваюцца.

«*На сьценах залаў некаторых старажытных хрысьціянскіх храмаў*, – працягвае той жа аўтар, – *мы са здзіўленнем бачым выявы стацевых органаў чалавека, якія дагодліва выстаўлены напаказ сярод прадметаў, прызначаных для набажэнства. Як быццам бы ў якасьці рэха антычнага сімвалізму, такія парнаграфічныя скульптуры ў храмах з дзіўнай нявіннасьцю высечаны каменячосамі .... Гэтыя іты-фалічныя ўспаміны даўніны, размешчаныя ў цёмных залах катэдральных сабораў цэнтральнай Францыі, асабліва шматлікія ў Жырондзе. Бардоскі навуковец-археолаг Леа Друэн* (Leo Drouyn) *паказваў мне кур'ёзныя ўзоры безсаромных скульптур, выстаўленых напаказ у старажытных цэрквах яго правінцыі, якія ён хавае ў глыбіні сваіх папак! Але такі лішак сарамлівасьці пазбаўляе нас важных навуковых фактаў. Навейшыя гісторыкі, замоўчваючы пра хрысьціянскія выявы стацевых органаў у некаторых памяшканнях старажытных храмаў, накідаюць покрыва на думку таго, хто меў бы жаданне параўнаць помнікі класічнай старажытнасьці з помнікамі сярэдневечча. Сур'ёзныя кнігі пра культ фалуса з дапамогай сур'ёзных малюнкаў выразна асвятлілі б гэтае пытанне і выявілі б сьветапогляд тых, хто і пад час сярэдневечча яшчэ не мог адрачыся ад паганскіх культаў*»[254].



Мал. 114а.
Яшчэ прыклад упрыгожвання храмаў.

---

[253] Champfleury, p. 230.
[254] Champfleury, p. 240.

І ніводзін навуковец гісторык не можа не пагадзіцца з гэтымі яго словамі. Мы зараз перараслі той нізкі маральны ўзровень, які існаваў у нашых продкаў пад час сярэдневечча. Нам арганічна агідна вывучаць стацевыя скажэнні старажытных культаў, як агідна мікрабіёлагу размазваць па шкельцы мікраскопа сіфілітычныя і іншыя заразлівыя мікробы. Але мы павінны нарэшце зрабіць і гэта ў імя праўды, навукі і далейшага мэтанакіраванага шляху чалавецтва да лепшага жыцця.

У разглядаемай намі зараз кнізе арыгінальны навуковы дасьледчык упершыню пракладае нам дарогу да вывучэння, як ён выказваецца, гісторыі сярэднявечнай карыкатуры, хаця яго кнігу лепш было б назваць гісторыяй рэлігійнай сімвалістыкі. Ён таксама паказвае нам на сувязь паміж культам фаллуса і культам Хрыста напярэдадні царкоўнай рэвалюцыі Рыгора Гільдэбранда і нават і пасьля яго ў аддаленых ад Італіі месцах. Калі б паміж першым культам і другім прайшло каля тысячагоддзя, то якім жа чынам старажытны фалічны культ мог бы ажыць із памёршых якраз напярэдадні царкоўнай рэформы Гільдэбранда ў XI стагоддзі нашай эры?

І мы непазбежна прыходзім да высновы, што ён існаваў у хрысьціянаў на Захадзе бесперапынна да XI стагоддзя. Такія выявы на сьценах сярэднявечных храмаў перастаюць для нас быць напісанымі на «незнаёмай мове» толькі ў тым выпадку, калі мы будзем лічыць, што культ фалуса быў абавязковай прыналежнасьцю таго пантыфікальнага стараверскага Рыма, які разбурыў Рыгор Гільдэбранд, замяніўшы яго, як антытэзісам, ідэалізацыяй неадружанага стану.

А Лютар і Кальвін з такога боку гледжання з'яўляюцца толькі ўсталёўшчыкамі гегелеўскага сінтэзісу ў гэтай трыядзе рэзкага рэвалюцыйнага пераходу рэлігійнай думкі і рэлігійнага рытуалу да новай больш высокай стадыі развіцця містычных рэлігійных установаў. Пад час першай стадыі рымскі храм «сьвятога Каменя» і ўсе храмы ў гонар нябеснай панны і яе сына ў Яўропе, Азіі і Афрыцы прыцягвалі да сябе публіку не абяцаннем царства нябеснага пасьля сьмерці, а ўзаконеннем пад час дзён агульных храмавых свят прывабных тады для публікі стацевых эксцэсаў у разнастайных, нярэдка ненатуральных формах. Яны і апісваюцца ў Бібліі пад найменнем садомскага граху, варыянты якога ў дайшоўшых да нас лацінскіх і грэцкіх «споведных апытальніках» у хрысьціянскіх сьвятароў дэталізаваны да агіднай крайнасьці.

З такога боку гледжання і выявы накшталт той, якую мы бачылі ў падземнай зале катэдральнага храма ў Буржэ, і выявы стацевых органаў мужчын і жанчын у старжытных храмах сярэдняй Францыі, ніяк не з'яўляюцца здзекамі над царквой, а маюць такое ж чыста практычнае запрашаючае значэнне, як і выявы кубкаў з пеністым півам на дзвярах нямецкіх правінцыйных біргалей.

І я ўжо згадваў, што гэтыя вакхічныя сьвяты ў гонар Хрыста і Нябеснай Панны ніколі б Рыгор Гільдэбранд не здолеў знішчыць, калі б рэзкі пераход ад такой тэзы да яго манаскай антытэзы не быў падрыхтаваны паўсюдным пашырэннем да таго часу мікробаў заразлівых венерычных хвароб, асабліва перылоя і мяккага шанкру, як вынікаў стацевых празмернасьцей і скажэняў.

З гэтага боку гледжання ўзнікае нават пытанне: якім шляхам узнілі ўсе віды заразлівых мікробаў? Шмат акалічнасьцей сведчыць за тое, што яны не існавалі пад час да-чалавечага перыяду, і формы некаторых із іх, напрыклад, сіфілітычных спірахет да такой ступені нагадваюць сперматазоіды розных відаў жывёл, што мімаволі з'яўляецца пытанне: ці не з‘яўляюцца яны толькі перараджэннем гэтых самых сперматазоідаў шляхам іхнага прыстасавання да ўмоваў асяроддзя, не

адпавядаючага іхнаму нармальнаму існаванню? Мы ведаем, што звычайна сперматазоіды аднаго віду жывёл няздольны апладніць яйкаклеткі самак іншага віду, бо раствараюцца чужой для іх крывяной сыроваткай. Але ці не бывае выпадкаў, калі замест растварэння адбываецца толькі іхнае перараджэнне ў чужой крыві і некалькі перамяніўшыяся і памножыўшыяся дзяленнем арганізмы, якія, перапоўніўшы ўсё цела заражанага, пачынаюць, нарэшце, разбураць яго тканкі? Тады магчыма стала б зразумелым паходжанне не толькі пранцаў, але і праказы і чумы, як вынік ненатуральных скажэнняў ненармальных чалавечых індывідаў мінулага часу.



Мал. 115
Выявы на капітэлі катэдральнага сабора ў Магдэбургу. Голая жанчына на казле, малпа гуляе на гітары і арол выносіць саву (Otto: Manuel do I'Archeologie de l'art religieux an moyen age. 1884).

Усё гэта ставіць на чаргу мікрабіялагічнай навукі сістэматычныя дасьледаванні вынікаў пераносу сперматазоідаў розных відаў жывёл пад тэрмастатам у крывяную сыроватку іншых.



Мал. 116
Выявы на капітэлі Страсбургскага катэдральнага сабора XVII стагоддзя. Мядзведзь нясе крапільніцу са сьвятой вадой, за ім з крыжам воўк, за ім заяц з паходняй, а ззаду свінні і казёл нясуць насілкі з лісіцай і знізу малпа трымае свінню за хвост.



Мал. 117
Іншы капітэль Страсбургскага катэдральнага сабору XVII ст. Казёл стаіць перад прчашчльнай чаркай, і асёл чытае Евангелле над галавой малпы.



Мал. 118
Барэльеф на скляпенні партала царквы Notre-Dame de Paris XII стагоддзя з непрыстойнымі выявамі.

Але вернемся да нашага пытання.

Калі непрыстойныя выявы ў старажытных хрысьціянскіх храмах з'яўляюцца толькі запрашаючымі шыльдамі для падахвочвання публікі да хрысьціянскіх забаваў, практыкаваўшыхся ў храмах да XV стагоддзя нашай эры, то што ж пазначаюць выявы на іх разнастайных вядзьмарак, чарцей і г.д.?

Самыя позьнія із іх, дзе чэрці цягнуць грэшнікаў у пекла, маюць бяспрэчна, палохаючае значэнне. Але што ж пазначаюць такія, дзе, напрыклад, чорт гуляе на гітары, дзе намалявана жанчына верхам на казле у стане юрлівасьці (мал. 115)? Што пазначаюць, нарэшце, працэсіі нападобе існаваўшай на капітэлі Страсбургскага катэдральнага сабора XIII стагоддзя (разбуранага ў XVII стагоддзі), дзе наперадзе ўсіх мядзведзь нясе царкоўную крапільніцу і чарку з асьвечанай вадой, а за ім воўк нясе крыж, заяц паходню, а ззаду ўсіх свіння і казёл нясуць на

плячах насілкі, на якіх стаіць лісіца, а за хвост свінні трымаецца малпа. Што азначае і другая скульптура, дзе асёл чытае кнігу, а казёл стаіць перад прычашчальнай чаркай (мал. 117)? Што азначае скульптура, выстаўленая на паказ публіцы на партале царквы ў Ploërmel, дзе маладая панна нацягвае нос свайму чалавеку ў начным каўпаку (мал. 119)?



Мал. 119
Маладая жонка нацягвае нос свайму чалавеку. Старажытная скульптура на партале царквы Ploërmel (па Champfleury).

Шампфлеры не пажадаў зразумела і прама адказаць на гэтыя свае ж пытанні, грунтуючыся на той жа набожнай сціпласьці, якая перашкодзіла яго сябру, навукоўцу-археолагу Леа Друэну, нават паказваць чужым свае копіі з непрыстойных выяваў фалічных скульптур на сьценах храмаў старажытнай Жыронды. Але сэнс апошняга із пералічаных малюнкаў (мал. 119) цалкам зразумелы. Такі малюнак відавочна служыць не проста недарэчнай карыкатурай, а цалкам дарэчнай шыльдай на легалізаваным месцы сардэчных спатканняў адружаных жанчын. Такія сядзібы напаловулегальна існавалі ў еўрапейскіх сталіцах да апошняга часу. Нейкая састарэлая вялікасьвецкая какотка, страціўшы магчымасць зарабляць непасрэдна сваім целам, ладзіла ў сябе сядзібу спатканняў. Яна шукала грунтуючыся на чутках і запрашала да сябе маладых жанчын, якія жадалі пафранціць, але не атрымлівалі ад сваіх чалавекаў дастаткова грошай, і зводзіла іх, нярэдка з дапамогай альбомаў фатаграфій, з заможнымі гулякамі. Чутка пра такую сядзібу спатканняў шырылася з вуха да вуха ці нават праз газеты, нападобе кароткага паведамлення: «мадам такая-та вярнулася із Парыжа, адрас яе вось такі». Прымаліся толькі адружаныя жанчыны і прыстойныя мужчыны, «із грамадства» звычайна па рэкамендацыі адзін аднаго, плата давалася непасрэдна гаспадыні, якая і дзялілася ёю са сваёй кліенткай... І вось, уявіце сабе, якую шыльду павесіла б на сваёй сядзібе спатканняў (калі б ёй дазволілі) гэтая былая какотка, як не тую, якая дадзена на мал. 119?

А калі чытач мяне запытае, як жа чалавекі дапускалі існаванне такіх храмаў, то я адкажу: чалавечая ганарыстасць не мае межаў, і кожны чалавек самазадаволена лічыў, што гэты малюнак адвображвае чужых жонак, а не яго ўласную, за выключэннем такіх выпадкаў, калі яна пападалася без якіх бы то ні было сумневаў, без магчымасьці выкруціцца дзякуючы нейкай прыдумцы. Усе падобныя выявы на сьценах храмаў, вядома, маглі ўзнікнуць і існаваць асэнсавана,

пакуль гэтыя храмы служылі не месцамі набожных разважанняў у сучасным сэнсе, а забаўляльнымі сядзібамі ў гонар вясёлых богаў з эратычным адценнем, і сама прычашчальная чарка ў іх служыла толькі для папоек. Але гэтыя выявы маглі захавацца дзякуючы традыцыі некаторы час і пасьля рэформы царквы, як захаваліся і зараз шмат якія звычаі і падрабязнасьці адзення, ужо страціўшыя які б то ні было сэнс.



Мал. 120
Класіцызм у старажытным каталіцызме. Фігура голага юнака, працы
Мікель Анджэла (памёр у 1564 г.) на сьцяне Сікстынскай капэлы ў Ватыкане.



Мал. 121
Гістарычнае снабачанне. Ван Эйк Van Eyck), бацька жанру краявіду ў малярстве (1370-1426). Першая мастацкая выява панны Марыі. Яна намалявана ў выглядзе маладой жанчыны, чытаючай кніжку ў атачэнні рэчаў XIV стагоддзя. (Мадрыд, Музай Прада).

Так, нават у XVII стагоддзі знакамітыя мастакі пісалі на сьценах каталіцкіх храмаў цалкам класічныя выявы, накшталт голых юнакоў (мал. 120), а першая із вядомых да гэтага часу сапраўды мастацкіх выяваў панны Марыі паказвае яе ў сярэднявечным атачэнні (мал. 121).

Ды і свецкі тэатр Эпохі Адраджэння і яе пярэдадня нічым не адрозніваецца ад класічнага. Вось, напрыклад, выява актора XIV стагоддзя і каля яго два класічныя акторы (мал. 122). Чым жа яны адрозніваюцца?




Мал. 122
Адзінства акторскага ўбрання і прыёмаў у класікаў і ў заходне-еўрапейскіх народаў. Налева намаляваны сярэднявечны актор (із кнігі Roman de Fauvel, XIV стагоддзі), а направа два класічныя акторы (у Тэрэнцыя ў рукапісе, дапасуемай да IX стагоддзя).

А што да да выявы чарцей на старажытных храмах, то мы заўсёды павінны мець на ўвазе, што ўяўленні пра гэтыя фантастычныя істоты моцна змяніліся за перыяд навейшага часу. Зараз мы перадусім уяўляем сабе чорта, як істоту, імкнучуюся зацягнуць грэшніка ў пекла, а пад час сярэдневечча яго ўяўлялі проста як асістэнта пры кожнай дазволенай царквой эратычнай непрыстойнасьці і падахвочваючай да іх, г.азн. амура на адварот. Пагледзіце толькі «Жыцці сьвятых». Ці падбухторвае там чорт праведнікаў да забойстваў, крадзяжоў, рабаванняў? Я не магу згадаць ніводнага такога прыкладу, але памятаю шмат чортавых падбухторванняў да парушэння сёмага запавету Майсея, і старажытныя малюнкі часта паказваюць чарцей, хаваючыміся ў рукавах і ў падоле прыгожых жанчын, прычэсваючымі яе валасы і падаючымі ёй люстэрка, як, напрыклад, на малюнку (мал. 123) XIV стагоддзя, прысутнічаючаму і ў Шампфлеры[255].



Мал. 123
Гномікі-чорцікі апранаюць і прычэсваюць маладую дзяўчыну (Із манускрыпта XIV стагоддзя, па Champfleury).

[255] Champfleury, p. 188.

Дык што ж дзіўнага, калі гэтыя істоты маляваліся пад час сярэдневечча і на храмах, служыўшых не толькі месцамі для маленняў і ахвяраванняў, але і месцамі для забаваў у гонар вясёлага Хрыста і не менш вясёлага бацькі богаў, які не адрозніваўся ад класічнага Юпітара?




Мал. 124
Архітэктурны мадыльён царквы ў Пуацье. Гномік-чорцік трымае разгорнутае Евангелле, на якім напісана: L'ASSAGE (СПАЗНАЙ ЯГО)!

А без падобнай высновы наяўнасць толькі што апісаных выяваў і скачучых чарцей на сярэднявечных храмах вы ніяк не зможаце патлумачыць.

Нават жа і малюнкі херувімаў і серафімаў, лётаючых на нашых царкоўных, выявах каля нябеснай Панны, нічым не адрозніваюцца ад амураў, лунаючых каля класічнай Венеры і іншых антычных прыгажунь (мал. 125 і. 126).



Мал. 125
Адзінства класічных амураў і хрысьціянскіх царкоўных херувімаў. Карціна Рафаэля: Трыумф Галатэі (Рым, Фарнезіна).



Мал. 126
Адзінства класічных амураў і хрысьціянскіх херувімаў Карціна Рафаэля; Мадонна (Ватыкан).

Параўнаеце самі, і вы пабачыце, што гэта тая ж школа і тая ж эпоха, ды і чорцікі, з іхнымі свавольствамі, як быццам бы змаляваны із пацешных гішпанскіх малпаў, да якіх дададзены казліныя рожкі. І гномы таго ж паходжання. І вось, мы павінны непазбежна прызнаць, што ніводная із існуючых рэлігій не ўзнікла на нашай зямлі адразу ў сваёй канчатковай форме згодна з загадам стваральніка сусьвету, а, як у сваім вучэнні, так і ў звычаёвасьці развівалася эвалюцыйна.

І калі, часам зацята ідучы па ілжываму і дэмагагічнаму шляху, яна трапляла, нарэшце, у такое становішча, што яе служкам было немагчыма ні ісьці наперад, ні адступіцца назад, яна зведвала рэзкую рэвалюцыю, перакульваўшую як яе вучэнне так і яе рытуал ад тэзы, да антытэзы, пасьля якіх прыходзіў гегелеўскі сінтэзіс, і яна на некаторы і нярэдка працяглы час зноў развівалася паступова і эвалюцыйна, як казурка пасьля сваёй метамарфозы.

# Глава VI.

# Рым, Італія і Заходняя Яўропа пасьля царкоўнай рэвалюцыі Рыгора Гільдэбранда. Крыжовыя паходы і пачатак чароўнай казкі пра старажытны, паганскі, магутны Рым.

«*Пасьля падзення Рыгора,* – паведамляе нам мастацкі Грэгарэвіус (кн. 7, гл. VII) – *Рым уяўляў сабой як бы падмосткі, пакінутыя акторамі; толькі памаленьку гэтыя падмосткі зноў пачалі напаўняцца дзейнічаючымі асобамі, гэтым разам больш дробнымі. Справы вялікага чалавека гэтак жа, як і само яго падзенне, адлюстроўваюцца ў часе падобна хвалям, разбягаючымся із цэнтра; іхныя незлічоныя колы робяцца ўсё слабейшымі і слабейшымі і канчаткова знікаюць у далёкай прасторы. Як некалі, атачаючы цела Аляксандра Вялікага, стаялі яго генералы, так зараз каля труны Рыгора стаялі людзі, складаўшыя створаную ім іерархію. Хто павінен быў успадкаваць царкоўную ўладу? Ці не пагражалі дробныя пачуцці зайздрасьці і ўладалюбства спыніць яе існаванне? У свецкай дзяржаве гэта магло б мець месца. Але ў дзяржаве духоўных асоб, дзе магчымасць усталявання радавой дынастыі была цалкам выключана, парадак пераемнасьці вызначаўся штоpазова іерархічнымі пачаткамі, якія з гэтага часу ўжо не маглі быць парушанымі*.

*Сьмерць Гюіскара пазбавіла зараз аманашаную Заходнюю царкву магутнай падтрымкі; гэты незвычайны чалавек, гэтак жа як і Рыгор падняўшыся із нікчэмнасьці і гэтак жа як і ён пакрыўшы сябе славай героя ў гісторыі Італіі, памёр у Кефалоніі 17 ліпеня, крыху пазьней пасьля Рыгора.*

*Што ўяўляў сабой Рым у той час,* – выказваецца той жа гісторык горада Рыма, у якога я запазычваю тут фактычную частку, – *мы не ведаем, і ў гэтым дачыненні магчымы толькі адны здагадкі». «У гэты час кіравання антыпапаў і анты прэфектаў у горадзе панавала самае жудаснае безуладдзе. Штодзённыя вулічныя бойкі, тыранія грубых нобіляў, бядотнае становішча агалеўшага народа – вось усё, што ўяўляў тады Рым. Здавалася, Рыгор VII вырак на выгнанне цэлы шэраг сваіх абнаўленчых наступнікаў. Мы бачым, што, пачынаючы з яго, шмат якія папы амаль увесь час свайго кіравання праводзяць у выгнанні і адлучаны ад царквы».* Рымская вобласць раздзіралася на часткі то стараверскімі, то абнаўленчымі біскупамі; што ж да графаў Кампаны, то яны карысталіся расколам царквы, каб рабаваць яе. На прыканцы XI стагоддзя еўрапейскія краіны былі падобнымі на полі бітвы. Жахі бясконцых разладаў паміж староверамі і абнаўленцамі паслабілі поўнае глыбокай пашаны стаўленне да Рыма і зрабіўшыся сьвятым, нікчэмны да таго часу горад у Палестыне, набываў усё большае і большае значэнне сьвятыні, адпаведна таму як сярод публікі пашыраліся лацінскія пераклады Евангелляў, пераносіўшыя менавіта туды месца дзейнасьці свайго «настаўніка».

І вось, хаця становішча хрысьціянаў у Сірыі і не ўяўляла тады нічога жудаснага, пачаліся заклікі да вызвалення труны госпада ад ісламітаў. Быў склікаyы ўсеагульны сабор рэфармаванага сьвятарства Заходняй Яўропы і яго прыхільнікаў. На Клермонскай полі сустрэлі вітаннем новага вялікага рымскага пантыфекса – зараз папу рымскага Урбана: 13 абнаўленчых арцыбіскупаў, 205 біскупаў, шмат паверыўшых ў іх нобіляў, з'ехаўшыхся з розных месцаў Францыі, і натоўп у некалькі тысяч чалавек прышлага народу, чакаўшага ад яго выратавання сваіх душ і размясьціўшагася лагерам вакол горада напаўняючы паветра захопленымі воклічамі. Гэты натоўп чакаў толькі аднаго дэмагагічнага слова, каб грымнуць навальніцай, падобна хмары, насычанай электрычнасьцю. Наўрад ці калі-небудзь яшчэ евангельскае вучэнне мела такую прывабную магутнасць.

«*Урбан ведаў,* – сведчыць Грэгарэвіус (VII, 7), – *што шматтысячны натоўп, стаяўшы перад ім, амаль увесь складаўся із рабаўнікоў і забойцаў, і ўсё ж гэта акалічнасць нікольві не паслабіла яго запал, але яшчэ больш садзейнічала ўзвышэнню яго мышлення і пачуццяў. Кантраст, які мы сустракаем тут, уражвае нас сваёй выключнасьцю*»... «*Да грамадзкага пачуцця робіцца заклік у імя Евангелля, і рабаўнікі і забойцы заклікаюцца для служэнне яму, менавіта таму, што яны рабаўнікі і забойцы*». Папа яскрава намаляваў ім заняволенае становішча ўяўляемага сьвятога горада ў Сірыі, у якім цар цароў быццам бы жыў, пакутаваў і памёр і, каб узмацніць ураженне ад сваіх слоў, суправаджаў іх плачам, стогнамі і выслоўямі прарокаў. Заклікаючы хрысьціянаў да згоды, ён запрашаў іх аперазацца мечам і ісьці на вызваленне Хрыста.

– «*Паўстаньце*! – прамаўляў ён, – *накіруйце сваю зброю, пабарвёную крывёй вашых братоў, супраць ворагаў хрысьціянскай веры! Вы, прыгнятальнікі сірот і ўдоваў, забойцы, апаганьшчыкі храмаў, рабаўнікі чужога набытку, вы, якіх наймаюць для таго, каб разліваць хрысьціянскую кроў, якіх гэтак жа, як коршакаў, вабіць да сябе пах поля бітвы! – спяшайцеся, калі толькі для вас з'яўляецца каштоўнасьцю выратаванне вашай душы, стаць пад Сьцяг Хрыста, на абарону Ерусаліма! Вінаватыя ў злачынствах, пазбаўляючых вас царства нябеснага, адкупіце іх гэтым коштам, таму што такой з'яўляецца воля Госпада*»!

І цесна згуртаваныя слухачы неаднаразова перапынялі словы паны фанатычнымі воклічамі:

– Deus lo volt (гэтага жадае бог)!

Дрыжачымі ад хвалявання рукамі абнаўленчыя князі, рыцары, біскупы і кнехты спяшаліся прышыць да сваёй сукенкі чырвоны крыж. Славалюбству, шуканню прыгод і якому заўгодна злачынству была дадзена магчымасць накрыцца гэтым знакам; рабы, прыгонныя, запазычыўшыяся і ўсе, хто быў асуджаны на выгнанне, сцякаліся пад сьцяг крыжовага паходу, цалкам упэўненыя, што яны пры жыцці атрымаюць дараванне грахоў, а пасьля сьмерці будуць прыняты ў рай, але перад гэтым у Сірыі знойдуць залатыя горы.

Поспех павучання перавысіў чаканні Урбана. Ён адхіліў, аднак, настойлівае прашэнне некаторых біскупаў асабіста ўзначаліць паход і прызначыў сваім намесьнікам Адэмара, біскупа Пюі.

І вось, выкладаючы ўсё гэта амаль уласнымі словамі афіцыйных гісторыкаў, я зноў і зноў пытаюся ў чытача.

Ці магло б усё гэта адбыцца згодна з логікай, калі б Евангеллі паспелі да гэтага часу ўжо надакучыць з нагоды больш чым тысячагадовай няздольнасьці абнавіць чалавецтва? Ці не давялося б Урбану выбіраць для такой рэлігійнай авантуры іншы сьцяг і іншае месца?

Хаця тады ўсе французкія, ангельскія і нават нямецкія рыцары натоўпамі пабеглі ў Сірыю. «Толькі горад Рым быў яшчэ стараверчы, і гісторыку крыжовых паходаў не давялося запісаць у іхны летапіс «gesta Dei per romanos». У войску, якое выступіла пасьля гэтага ў паход пад сьцягам Евангелля, рымлянаў не было[256]. Заможнаму сенату і рымскаму народу абнаўленец Урбан здаваўся, напэўна, толькі смешным, калі заклікаў іх аддацца евангельскаму запалу і, пакінуўшы Рым, ён не знайшоў прыхільнікаў сярод навукоўцаў, у якіх і тады магчыма яшчэ не зніклі ўспаміны пра тое, што падмосткі падзей Бібліі і Евангелляў былі не ў Сірыі, а каля падэшвы Вязувія.

[256] Грэгарэвіус VII, 7.

У цалкам іншых умовах знаходзіліся аддаленыя краіны і двары нядаўніх нармансkіх валадароў паўднёвай Італіі. Будучы рыцарамі згодна з нараджэннем, гэтыя вандруючыя шукальнікі прыгод завалодалі сваімі землямі не дзякуючы традыцыі, а згодна з правам заваёўнікаў, прымусіўшы ісламітаў і грэкаў, з усімі іхнымі традыцыямі, бегчы із Сіцыліі. Перанос Ерусаліма ў Сірыю не ўяўляў для іх нічога дзіўнага, і вось, пад правадырствам Танкрэда і Боэмунда злучыліся натоўпы паўднёва-італійскіх нававерцаў-крыжакоў, але і зараз без рымлянаў. І летапісец Дзюшэн, які з'явіўся ў сваім паэтычным апісанні іхнага войска папярэднікам Тасо, ні словам не згадвае пра іхны ўдзел у крыжовых паходах.

Гісторыкі нас запэўніваюць, быццам бы рымскія «шляхта і гараджане стаялі тады адносна сваёй адукаванасьці значна ніжэй, чым у Балонні, Пізе, Павіі і Мілане», і быццам бы ў вытанчанай і навуковай літаратуры Рым займаў у XI стагоддзі ў параўнанні з усёю астатняй Італіяй «апошняе месца». Але ці не таму гэта атрымліваецца, што мы ўсю рымскую літаратуру X і XI стагоддзяў дапасуем да «класічнай старажытнасьці?» Гэтае ж тлумачэнне нашмат больш праўдападобна з эвалюцыйнага і матэрыяльна-культурнага бакоў гледжання, нават і без маіх астранамічных вылічэнняў. Ды і ці сапраўды ў Рыме адсутнічаюць якія б то ні было прыкметы высокай культурнай дзейнасьці ў XII-XIII стагоддзях? Хіба паэма Вільгельма Апулійскага пра здзяйсненні Роберта Гюіскара саступае творам Вяргілія? Хіба не Рымам пашыраны ў музыцы ноты, вынайдзеныя ў XII стагоддзі Гвідо Арцінскім? Мы ж ведаем, што зведаўшы пераслед з боку равэнскіх манахаў, гэты музычны вынаходнік быў вымушаны збегчы із Пампозскага кляштара менавіта ў Рым да Яна XIX, які загадаў ужываць яго метад у латэранскай пеўчай школе. Захаваўся нават і ліст, у якім Гвідо распавядае пра сваю ўрачыстасць. Дакладна так жа і аўтар Пампозскага кніжнага каталога выхваляючыся пазначае, што бібліятэка Пампозы больш паўная чым рымскія, а гэтая заўвага даводзіць, што рымскія бібліятэкі тады лічылася самымі шырокімі. Ды і знакаміты Герберт на прыканцы X стагоддзя звярнуўся не ў Ламбардыю, а ў Рым, жадаючы набыць кнігі для сваёй бібліятэкі. Абаты кляштара Пампозы, Гвідо і Еранім, збіралі кнігі адусюль. У масе тэалагічных складанняў там пазначаны імёны: Еўтроній, Historia Miscella, Пліній, Солін, Юстын, Сенека, Данат і Лівій, хаця із гэтага яшчэ ніяк немагчыма зрабіць выснову, што іхныя рукапісы не былі толькі зародкамі тых кніг, якія ў папоўненым і апрацаваным выглядзе мы маем зараз. У манастэрыёне[257] Монтэ Касіна вывучалася ў XI-XII стагоддзях нават медыцына, квітнеўшая ў Салерна пад уплывам гішпанскіх ісламітаў. У 1060 годзе ў гэтым манастэрыёне славіўся, як лекар і навуковец, Кастусь Афрыканскі[258], выхадзец із Картахены і «перакладчык на лацінскую мову арабскіх і грэцкіх твораў». Гэты выдатны знаток «халдэйскай мудрасьці» быў першым у Яўропе навукоўцам, пра якога дакладна вядома, што ён ведаў «арабскую мову». Манастэрыён Монтэ Касіна быў дбайным прыхільнікам абнаўленчай царквы. Двое із шэрагу тых папаў, якія стаялі за рэформу, паходзілі із яго, а бенедыктынскі манастэрыён Фарфа, наадварот, зацята бараніў правы старога пантыфікату. Пры Атону III там руплів займаўся навукамі і

[257] Я зноў звяртаю ўвагу чытача, што першапачатковая назва кляштароў была манастэрыёны і іхныя насельнікі мелі назву манастэрыёнцы, што паказвае на іхную сувязь з сярэднявечнымі астролагамі і, хутчэй усяго, не патрабавала манаскага ладу жыцця.

[258] У мяне выклікаюць вельмі вялікія сумневы, што Афрыкай у той час звалася не Гішпанія, а сучасны афрыканскі кантынент. Гэтае найменне ў перакладзе азначае проста «Залатаносная» (aurica), а золата ў Афрыцы здабываецца толькі ў Трансваалі, ды паміж рэкамі Замбезі і Лімпапо.

літаратурай абат Гуга, аўтар некалькіх твораў, прысвечаных апісанню заняпаду гэтага абацтва, і выдатны збор яго рэгестаў служыць з мінулага стагоддзя адной із галоўных крыніц па гісторыі сярэдневечча. Дыпломы, падараваныя князямі, імператарамі і папамі, рэестры ўладанняў, спадчынныя арэнды (emphithenses) і судовыя акты, напісаныя на пергаменце і абдымаючыя больш трох стагоддзяў, сабраны там са здзіўляючай дбайнасьцю.

«*Уздым папскага аўтарытэту*, – сведчыць Грэгарэвіус (VII, 7), *– здавалася б, павінен быў бы мець наступствам больш грунтоўнае выкладанне гісторыі самога папства, а тым часам і ў гэтым стагоддзі усё зводзіцца толькі да вельмі бедных каталогаў і да ўрыўкавых хparty храналагічных нататак. «Творы Баніцо* (1075 года), *не вольныя ад тэндэнцыйнасьці, з'яўляюцца першай спробай напісаць гісторыю папства*».

Але інакш, – адкажам мы, – не магло і быць, з новага боку гледжання. Апакрыфаваўшы евангельскія ідэі ў I стагоддзе нашай эры, як маглі аўтары таго часу капіяваць аспрэчваючыя гэта рукапісы? А без капіявання яны, натуральна, павінны былі ператварыцца ў сьмецце.

Урбану II успадковаў клюнійскі манах Райнэр. 14 жніўня 1099 года ён быў пасьвечаны ў абнаўленчыя папы пад імем Пасхалія II. Але змаганне ў Рыме паміж абнаўленцамі і стараверамі яшчэ існавала па-ранейшаму. Старавер Клімент III які перажыў трох знакамітых абнаўленчых папаў, готавы быў весьці барацьбу і з чацьвёртым папай. Пасяліўшыся ў Албано, ён аддаў сябе пад абарону графаў Кампаны, і толькі з дапамогай нарманскага войска Пасхалій здолеў прагнаць яго адтуль. Хаця гэтыя стараверы і прычынілі Пасхалію шмат трывог, але яны не змаглі яго пераадолець і злучанае з гэтым пытанне пра інвестытуру, заставалася ўсё яшчэ не вырашаным. Палітычная ўлада ў Рыме зараз зноў перайшла пад уплыў староверчай рымскай шляхты і ператварыла яе ў кіраванне алігархіі. Заваяваны абнаўленцамі мір працягваўся толькі да прыезду германскага цэзара. Яго прыезду папярэднічала з'яўленне вялікай каметы, пра якую знойдзеныя ў Кітаі запісы паведамляюць пад 1106 годам:

«*З'явілася камета на захадзе* (10 лютага, пры Сонцы ў Казярогу*), падобная на вялікую пасудзіну. Яе сьвяцячаяся абалонка была раскідана і здавалася разбуранай зоркай. Яна мела 60 локцяў у даўжыню і 3 у шырыню, з накірункам на паўночны ўсход. Яна прайшла праз вобласць β-δ-ξ Андрамеды і праз зоркі ў Рыбах, прайшла праз галаву Авена, праз Пляяды і Рогі Цяльца*».

І яна ж, відавочна, апісана і пад 1110 годам.

Забабонныя людзі пабачылі ў ёй грознага вестуна вайны, чумы і агульнай пагібелі за рэформы старога пантыфікату. Імператарская ўлада, глыбока зняважаная абнаўленцамі, зараз зноў адраджаўшаяся ў асобе сына Генрыха IV, была гатова адпомсціць за сваё зняважэнне і падначаліць сабе пантыфікат у асобе наступнікаў Рыгора. Пасьля доўгіх перамоваў Генрых V здолеў дасягнуць таго, што ўзяты ім у палон Пасхалій, адчуваючы сябе ў бездапаможным стане, выявіў згоду ўскласьці на яго імператарскую карону і падпісаць такі дакумент:

«*Згодна з боскім жаданнем наканавана было тваёй імперыі ўступіць з царквой у цалкам выключны звяз, а мужнасць і мудрасць тваіх папярэднікаў здабылі ім абедзьве кароны: і рымскую, і імперскую. Бог, у сваёй велічы праз нас, яго паслушнікаў, узвысіў цябе, шануемы сын Генрых, у гэты каралеўскі і імператарскі сан. Таму у тваёй асобе мы падцвярджваем, з дапамогай дадзенага прывілею, усе правы, якія нашы папярэднікі прызналі за імперскай уладай тваіх папярэднікаў, як каталіцкіх імператараў, а менавіта: мы прызнаём за табой права надання інвестытуры, з дапамогай уручэння пярсцёнка і кія, на ўсіх біскупаў і абатаў тваёй імперыі, якія будуць абраны вольна і без подкупу. Пасьля*

*іхнага кананічнага зацверджання, яны павінны атрымаць пасьвячэнне ад належнага біскупа. Але ніхто із тых, хто будзе абраны сьвятарствам і народам мінуючы тваю згоду, не можа быць пасьвечаным раней, чым ты падаруеш яму сан. Біскупам і арцыбіскупам дазваляецца пасьвячаць згодна з кананічным правіламі тых біскупаў і абатаў, якія атрымалі ад цябе інвеституру. Твае папярэднікі, дараваннем шматлікіх бенефіцый, настолькі павялічылі каронныя правы цэркваў імперыі, што патрэбна, каб у сваю чаргу біскупы і абаты сваёй падтрымкай спрыялі ўмацаванню імперыі і каб барацьба, суправаджаючая народныя выбары, стрымлівалася каралеўскай уладай. Такім чынам, будучы мудрым і магутным, ты павінен клапаціцца пра тое, каб веліч рымскай царквы і дабрабыт усіх цэркваў імперыі падтрымліваліся з боскай дапамогай цэзарскімі ленамі і міласьцямі. І калі б нехта із духоўных ці свецкіх асоб адважыўся грэбаваць дадзеным табой прывілеем і аспрэчваць яго, то павінен ён быць аддадзены анафеме і пазбаўлены ўсіх сваіх ушанаванняў. Ды аберагае бог у сваёй літасьці тых, хто будзе выконваць гэты, дадзены намі табе, прывілей, і ды даруе ён шчасьце імперыі тваёй вялікасьці*».

Пасьля з'яўленнем гэтай былы ўсе забарончыя дэкрэты адносна інвеституры, выдадзеныя Рыгорам VII і яго наступнікамі, скасоўваліся.

Але вось камета знікла і абнаўленцы падбадзёрыліся. Бура абурэння паднялася ў іхным асяроддзі. Яны палічылі, што папа сваёй слабасьцю загубіў вялікую справу Рыгора VII, створаную такім зацятым змаганнем. Тыя із кардыналаў-абнаўленцаў, якія змаглі пазбегнуць палону, бэсьцілі Пасхалія за тое, што ён не аддаў перавагу хутчэй загінуць пакутніцкай сьмерцю, чым падначаліцца загадам кайзера, і патрабавалі скасавання дамовы. Фанатыкі паказвалі на Пасхалія пальцамі, як на богаадступніка, і няшчасны папа, прыведзены ў поўную роспач, хаваўся ў адзіноце ў Тэрачыне і потым на выспе Понца. Падахвочваемы абнаўленчымі біскупамі, ўтварыўшымі згуртаваную апазіцыю, Пасхалій склікаў, нарэшце, у сакавіку 1116 года, сабор у Латэране, і ўрачыста аддаў анафеме дадзены ім цэзарам прывілей на інвестытуру, як акт, здабыты пад ціскам. Нават і перад сьмерцю ён пераконваў кардыналаў змагацца супраць «дзёрзкіх дамаганняў германцаў».

Пачаліся новыя хваляванні, паўсталі папы і антыпапы і, нарэшце, каб уціхамірыць абураную імперыю, а, магчыма, і сам схіліўшыся да новых ідэй хрысьціянства, Генрых саступіў. Былі складзены дзве дамовы: кароль павінен, адмовіцца ад права на інвестытуру пярсцёнкам і кіем, і прызнаць за царквой волю выбараў і пасьвячэння біскупаў і аднавіць усе яе ўладанні. Са свайго боку і новы вялікі пантыфекс Калікст II (1119-1124) пагаджаўся на тое, каб абранне біскупаў у Германскай імперыі адбывалася ў прысутнасьці імператарскіх амбасадараў і прызнаў за імператарам у межах Германіі права на інвестытуру скіпетрам, як знакам даравання лена. А за межамі Германіі спачатку павінна было адбывацца пасьвячэнне абранай асобы, і толькі пасьля таго, на працягу 6 месяцаў, гэтая асобе мог быць падараваны скіпетр.

Перамога, здабытая абнаўленцамі была, па сутнасьці, больш значнай чым выгады набытыя супраціўляўшайся ім дзяржавай. Апошняй давялося прызнаць за царквой самае важнае для яе права на волю абрання, а царква адмаўлялася толькі ад удзелу ў васальных дачыненнях біскупаў са свецкай уладай. Царква захоўвала за сабой права пасьвячэння біскупаў у іхны духоўны сан, а імператару пакідалася права надзяляць тых жа асоб, знаходзіўшыхся ў дачыненні да яго ў становішчы васальных адносін, уладай валадарачых князёў ці феадалаў. Падчас гэтай жа барацьбы паміж старой і новай царквой і, магчыма шмат у чым дзякуючы ёй,

абудзілася і філасофская думка, павысілася цікавасць да вывучэння свецкага права, і «захапленне класічнай старажытнасьцю». Наступіў росквіт рэспубліканскай волі і грамадзянскае грамадства перайшло да больш незалежных і мякчэйшых чалавечых формаў.

У гэты ж час пад уплывам Евангелляў, відаць, адбылося і адасабленне месіянцаў (жыдоў), як ад ісламітаў, так і ад хрысьціянаў. Нам кажуць, што месіянская (г.азн. жыдоўская) царква працягвала вольна існаваць у Рыме, нягледзячы на ўсе перажытыя ім перавароты. І магчыма, што яна тады адрознівалася ад хрысьціянаў толькі традыцыйным звычаем абразання, а не дагматамі, а ад ісламітаў – нічым. Веніямін Тудзельскі, наведаўшы Рым паміж 1160 і 1180 гг., г.азн. ужо пад час абнаўленчага перыяду, паведамляе, што знайшоў у ім каля 200 месіянцаў, г.азн. абрэзаных хрысьціянаў, і аднажонных ісламітаў, але ці не лічыў ён такімі адных сьвятароў? Ён жа сцвярджае, што некаторыя з іх займалі высокія пасады пры пантыфікальным двары, як напрыклад, Данііл, Іегіэль, Ёаў, Натан, Менахем, і іншыя. Пад час дзён каранацыйных сьвят, яны таксама спявалі гімны, і толькі ў адным выпадку мы знаходзім указанне на перасьлед некаторых із іх за меркаванае вядзьмарства ў 1020 годзе, калі з нагоды землятрусу папа загадаў пакараць сьмерцю некалькіх «юдэяў», але гэта не мае ніякага дачынення да рэлігіі (judaices– judices).

А падчас шэсьцяў папаў «юдэі» стаялі juxta palatium Cromacii ubi Iudaei faciunt Laudem (супраць палаца Крэмацыя, дзе моляцца юдэі) непадалёк ад Ярданскай гары (Monte Giordano). Лепшымі лекарамі і самымі заможнымі мянялamі былі яны, і ад іх жа бяруць пачатак некаторыя арыстакратычныя роды. Так дзед Пятра Ільва, які браў самы вялікі ўдзел у змаганні за інвестытуру, быў юдэем із Транстэверына і толькі пазней атрымаў імя Бенедыкта Хрысьціяна. Яго славалюбіваму сыну, названаму Ільвом у гонар папы Ільва IX, хутка праклалі бліскучую дарогу багацце і прыроджаныя здольнасьці. Ён парадніўся з рымскімі стараверчымі нобілямі, якія ахвотна адружвалі заможных жыдовак са сваімі сынамі і дочак з жыдоўскімі сынамі. Бенцо, асабіста ведаўшы Ільва, паведамляе пра яго: Leone, originaliter procedente de judaica coogregatione (Леў паходзіць із юдэйскага веравызнання) ... Ды і S. Bernhard (Ep. 139) адзначае: judaicam sobolem sedem Petri occupasse (юдэйскі нашчадак заняў сядалішча Пятра). Арцыбіскуп Равэны Гвальтыера (Mansi, XXI, 434) называе секту Анаклета (як называў сябе ў папстве Пьерлеонэ) ерассю юдэйскага падступства, а, з другога боку, Бароній прыводзіць із кодэкса Монтэ Касіна, у якім ёсць вершы Альфана, надмагільны надпіс, прысьвечаны гэтым арцыбіскупам родапачынальніку таго ж самага Пьерлеонэ:

*Hic jacet in tumulo Leo vir per cuncta fidelis sedis apostolicae temporequo viguit. Romae natus, opum dives, probus et satis alto Sanguine materno nobilitatus erat.*

*(Тут ляжыць у магіле Леў, верны муж, паўсюдна шануемы падчас апасталічнага сядалішча. Народжаны ў Рыме, заможны ўладай, сумленны муж і шляхетны дзякуючы высокай крыві сваёй маці.)*

І вось сын гэтага Ільва, атрымаўшы назву Petrus Leonis, ці Пьерлеонэ, змог набыць вялізны палітычны ўплыў.

Акрамя замка каля тэатра Марцэла, ён меў у сваіх руках знаходзіўшуюся па суседству выспу на Тыбры і потым яшчэ замак св. Анёла, перададзены яму Урбанам II. Наступнікі Урбана таксама шукалі дапамогі Пьерлеонэ, і яго род праз вельмі кароткі час пачаў славіцца, як адзін із самых шляхетных у Рыме. Ужо з часоў Ільва Пьерлеонэ, яго нашчадкі мелі тытул «консулаў рымлянаў», а ў XV стагоддзі паведамлялася, быццам бы два браты Пьерлеонэ, графы Авентынскія,

перасяліліся ў Германію і там паклалі пачатак роду Габсбургаў. Нават аўстрыйскія імператары лічылі сябе ганараванымі, уступаючы пазней у сваяцкія дачыненні з імі.

І вось, як толькі памёр Ганорый II над яго труной пачалося новае змаганне старавераў з абнаўленцамі. Стараверы абралі Пьерлеонэ вялікім пантыфексам пад імем Анаклета II, а абнаўленцы, сабраўшыся таемна ў цэркве св. Рыгора, абралі папай кардынала Рыгора пад імем Інакенція II.

Абодва прэтэндэнты, абраныя ў адзін і той жа дзень, апынуліся ў становішчы Якава і Ісава, аспрэчваючых адзін у аднаго права першарадства. Абнаўленец Рыгор, дзякуючы падступству яго партыі, змог першым атрымаць дабраславенне, але Анаклету прысягнуўся амаль увесь Рым з яго тэрыторыяй. Інакенцій II збег у той жа дзень у замак Паладыум на Палаціне. А Анаклет II, падтрыманы сваімі братамі, Ільвом, Джарданам, Раджэра і Угічыёнэ і шматлікімі кліентамі, накіраваўся да базілікі св. Пятра, загадаў кардыналу Пятру здзейсніць над сабой пасьвячэнне, узяў прыступам Латэран і сёл у знаходзіўшаяся там папскае крэсла. І ў шумных працэсіях, якімі ён ушаноўваў сваё ўступленне на пасад, мы зноў сустракаем каля легендарнага палаца Крэмацыя сябраў юдэйскага згуртавання з вялізным скруткам Пяцікніжжа.

Інакенцій збег у Транстэверын і схаваўся там у замку свайго сямейства, а Анаклет спакойна адсвяткаваў Вялікдзень у базіліцы св. Пятра. Ён адлучыў ад царквы свайго суперніка, пазбавіў пасад абнаўленчых кардыналаў і прызначыў на іх месца новых.

Паўстала пытанне, якога із прэтэндэнтаў прызнае папай хрысьціянскі сьвет?

Германія, Англія і Францыя, вялікая частка Італіі і ўсе манаскія ордэны назвалі папай Інакенція II. Заставалася чакаць, каго зацвердзіць германскі кайзер-цэзар, але той не адказваў, і, сустракаючы агульнае маўчанне на свае заклікі, Анаклет вырашыў шукаць хаўрусніка ў самым блізкім суседстве.

З часоў Вормскага канкардату ў партыях, існаваўшыях здаўна, адбылася дзіўная на выгляд перамена. Кароль Германіі і ўсе яго сталыя прыхільнікі ў Італіі трымалі зараз у сваіх руках каталіка-французкі абнаўленчы сьцяг, тым часам як нармандцы, якія некалі былі носьбітамі гэтага сьцяга, пакінулі яго, з'яўляючыся натуральнымі ворагамі імперскай улады. Анаклет заключыў з нармандцамі абаронччы і наступальны хаўрус і следам за тым кардынал-легат паспяшаўся ў Палерма, і на Каляды 1130 года здзейсніў памазанне Рожэра I як караля Сіцылійскага.

Так было створана сіцылійскае каралеўства, існаваўшае на працягу 730 гадоў і закончыўшае сваё існаванне ужо ў нашы дні. А абнаўленец Інакенцій II збег яшчэ далей у Францыю, дзе яго апекуном вы'явіўся клервонскі абат Бярнард, які праславіўся як цудадзей і прапаведнік самага строгага манаскага жыцця. Ён паступова заснаваў 160 кляштароў свайго ордэна, замяніўшых манастэрыёны ранейшага перыяду ва ўсіх еўрапейскіх краінах, але, валодаючы жывым розумам, не змог выракчы сябе на самотнае існаванне ў пустыні і прыняў самы дзейны і ўплывовы ўдзел у абнаўленчых справах свайго часу.

На саборы ў Рэймсе Англія і Гішпанія прызналі Інакенція папай, і там жа старавер Анаклет быў урачыста адлучаны ад царквы. Але гэта не мела вялікага значэння і абнаўленцы не змаглі яго пазбавіць пасада да самай яго сьмерці, якая наступіла 25 студзеня 1138 года, пасьля таго як ён на працягу васьмі гадоў падтрымліваў старую паміраючую царкву Рыма і вытрымаў два паходы на Рым.

Але час панавання стараveraў ужо скончыўся і ў Рыме.

Пра спыненне памёршай рымскай царквы было ўрачыста абвешчана абнаўленцам Інакенціем II на Латэранскім саборы 1139 года, і дэкрэты Анаклета былі скасаваны. На рымскі папскі пасад зараз без перашкод сеў Інакенцій II, які правёў свой час часткова ў выгнанні, часткава у якасьці вайсковага правадыра ў вайсковых экспедыцыях, але адразу пасьля сваёй урачыстасці ён раптам пабачыў, што разам са старой верай захісталіся слава і ўлада св. Пятра ў Рыме. Прыгнечаны горам, ён памёр 24 верасня 1143 года ў той момант, калі Капітолій чуў радасныя воклічы пракраўшыхся туды рэспубліканцаў.

Як жа гэта адбылося?

«Узнікненне сената ў Рыме, – сведчыць Грэгарэвіус (VIII, 4), – з'явілася збольшага наступствам незалежнасьці ламбардскіх гарадоў. Грамадзяне гэтых гарадоў, абнесеных моцнымі сьценамі, скарысталіся змаганнем абнаўленчай царквы з дзяржавай, абараняўшай старую царкву, паслабіўшую як біскупствы, так і імперскую ўладу, і гарады выступілі ў якасьці трэцяй маладой магутнасьці. З пачаткам XII стагоддзя большасць суполак у Ламбардыі, Тусцыі, Раманіі і Мархіі кіраваліся класічнымі консуламі, абіраўшыміся штогадова і надзеленымі юрысдыкцыяй ранейшых графаў. Пад іхным жа наглядам знаходзілася і вялікая частка прыбыткаў.

Існаванне вольных рэспублік абуджала зайздрасць рымлянаў проста фактам свайго існавання. Але біскупам, якому належала ўлада ў Рыме, быў вялікі пантыфекс. Яго вярхоўная ўлада над краінай, у адрозненне ад улады біскупаў, была заснавана не на прывілеях імунітэту, падараванага ў недалёкім мінулым, а сама меней, на франкскіх установах. Ён заўсёды меў магчымасць выставіць для абароны сваёй свецкай улады магутныя сродкі: сьвяты папскі сан, войска імператараў, нармандцаў, і грашовыя зборы з хрысьціянаў. Такім чынам той аўтаноміі, якая існавала ў ламбардзкіх гарадах, Рым доўга не меў, хаця ён і пачаў змаганне за незалежнасць раней іх – яшчэ пры Альберыху і Крэатэнцыях.

Але перш чым мы разгледзіма гэты пераварот, з якога, згодна з нашай думкай, спісаны класічныя, паглядзім на грамадзкае ўладкаванне Рыма XI стагоддзя.

Ранейшы тытул герцаг (dux – правадыр) зараз ужо больш не ўжываўся, але шляхта ўсё ж звала сябе «консуламі» (біблейскія – суддзі), і ў XII стагоддзі гэтаму ранейшаму тытулу было нават нададзена асобнае значэнне. З найменнем консула тады было злучана, галоўным чынам, уяўленне пра асобу, надзеленую судовай ўладай і належаўшую да складу гарадзкога кіравання. Тытул Consul з дадаткам Romanorum ужываўся ў Рыме заканчэння сярэднявечча, раней чым ён быў уведзены ў італійскіх гарадах. Шляхта звала консуламі сваіх найболей магутных прадстаўнікоў, стаяўшыхлі на чале арыстакратычнай рэспублікі. Тытул Capitaneus (г.азн. кіраўнік), звычайны ў паўночнай Італіі, існаваў таксама і ў Рыме, і тут яго атрымлівалі тыя асобы са шляхты, якім пантыфекс дараваў зямлю ў леннае валоданне. Гэтымі «кіраўнікамі» былі найбольш магутныя правінцыйныя магнаты, графы і віконты Кампаны, і, прысягаючы пантыфексу ў якасьці васалаў, яны бралі на сябе абавязак служыць яму на вайне. Аднак рымскія пантыфексы усё ж змаглі аддаліць ад гарадзкіх спраў некалі такую ўплывовую правінцыйную шляхту, і нават тускуланскія патрыцыі да таго часу ўжо страцілі сваю магутнасць і былі толькі выгнаннікамі ў сваіх правінцыйных гарадах. Толькі больш позьнія

сямействы консулаў, як-то Франджыпані і Пьерлеонэ, узвысіўшыяся падчас міжусобнай вайны, мелі вялікую ўладу.

Побач з капітанамі існавалі і дробныя феадалы (milites – баяры, вайсковыя кіраўнікі), быўшыя васаламі буйных феадалаў. У Рыме, і асабліва ў Кампаны, дзе вялікая частка маёнткаў знаходзілася ў валоданні цэркваў, такія вайсковыя кіраўнікі ўтваралі стан шляхетных рыцараў, аналагічных вальвасарам у Ламбардыі і Раманіі. Вось гэтая радавая арыстакратыя і трымала ў Рыме стырна кіравання ў сваіх руках ужо ў XI стагоддзі і асабліва з часоў так званага змагання за інвестытуру. Хаця змаганне насамрэч ішло не толькі за яе адну, а за рэформу самой царквы, але ўлада шляхты была, нарэшце, скасавана плябеямі ў 1143 годзе. Суполка скасавала консульскае кіраванне шляхты і паставіла на яго месца суполкавую раду, даўшы ёй рымскую назву сенат (Sacer Senatus – сьвятая рада старэйшын). Ініцыятыва і тут выходзіла, дарэчы, ад самой шляхты, і гарадзкі стан толькі далучыўся да паўстання. Менш шляхетныя людзі, кіруемыя зайздрасьцю да «консулаў», аб’ядналіся тады са станам гараджанаў, і новая гарадзкая суполка, завалодаўшы Капітоліем, абвясьціла сябе «сапраўдным» сенатам. Яна абвясьціла вайну больш магутным асобам са шляхты, і спачатку тым з іх, якія не пажадалі далучыцца да яе. Рым падзяліўся на два варожыя лагеры: адзін бок змагаўся за старое дзяржаўнае ўладкаванне, за ўладу арыстакратыі ў асобе консулаў, другі за новае ўладкаванне, за ўладу народнай суполкі ў асобе дэмакратычнага сената на Капітоліі.

Што ж уяўляў тады Капітолій?

«*На працягу больш за 500 гадоў,* – сведчыць гісторык горада Рыма (VIII, 4),– *непраглядны змрок ночы ахутвае Капітолій. Цьмянае згадванне пра яго сустракаецца толькі ў Ананіма Эйнзідэльнскага; нават у паданнях і легендах мы знаходзім пра яго таксама толькі цьмяныя згадванні. Так мы даведваемся, што ў X стагоддзі ўжо існаваў манастэрыён Панны Марыі Капіталійскай. Класічнае умацаванне на Тарпейскай скале ніколі не згадваецца побач з Септызоніумам і замкам св. Анёла, як умацаванае месца ў горадзе. Насельніцтва каля Капітолія месцавалася знізу бліжэй да Марсавага поля і па суседству з Тыбрам, важным таксама і ў стратэгічным дачыненні, і толькі з X стагоддзя Капітолій набывае гістарычнае значэнне і засяроджвае ў сабе палітычную дзейнасць горада, у якім абудзіўся дух грамадзянскай незалежнасьці. У XI стагоддзі Капітолій быў цэнтрам усіх чыста гарадзкіх справаў. У часы Атона III і шляхетных патрыцыяў у ім, і, вядома, не на кучах парэшткаў, адбываліся сходы. У часы Бенцо, Рыгора VII і Геласія II рымляне заклікаліся ў гэты ж Капітолій, калі мелі быць бурныя выбары прэфектаў, калі была патрэба атрымаць згоду народа на абранне Калікста II ці была патрэба заклікаць рымлянаў да зброі. Магчыма, што сваё памяшканне прэфект горада меў таксама ў Капітоліі, таму што прэфект, прызначаны Генрыхам IV і выдаліўшы пантыфекса Віктара III із Рыма, жыў менавіта тут. Судовыя справы разглядаліся ў палацы, які знаходзіўся таксама ў Капітоліі, чаму і судовыя акты пазначаліся такою формулай*:

*Actum civitate Romana apud Capitolium.*

Ці можна нават і ў думках дапусьціць, што ўсё гэта здзяйснялася на кучах старых калон, а не у знарок і зручна пабудаваных памяшканнях, парэшткі якіх мы і бачым зараз? А вось у якім недарэчным выглядзе малюе нам гэтыя ўрачыстыя заканадаўчыя сходы вялікі «гісторык горада Рыма», прытрымліваючыся класічнага боку гледжання пра «былую веліч» гэтага месца:

«*Седзячы на перакуленых калонах храма Юпітара ці пад скляпеннямі дзяржаўнага архіва, сярод пабітых статуй і дошак з надпісамі, капіталійскі манах, драпежны консул, невуцкі сенатар, маглі пры выглядзе гэтых парэшткаў адчуваць здзіўленне і пускацца ў*

*разважанні пра пераменлівасць лёсу*». Выява бачнага паўсюдна разбурэння павінна была нагадаць ім верш Вяргілія пра Капітолій: *Зараз залаты, а некалі пакрыты дзікім калючым зараснікам.*

Але гэты верш ужо патрэбна было замяніць іншым, процілеглым, бо Капітолій у другі раз набыў свой дзікі выгляд: *Некалі залаты, а зараз пакрыты парэшткамі і пустазельным зараснікам.*

«*І вось,* – працягвае аўтар, не заўважаючы камічнай неверагоднасьці такіх заканадаўчых сходаў, пры папах, прэтэндуючых на сусьветную ўладу, – *сенатары, прыходзіўшыя на парэштки Капітолія ў высокіх мітрах і парчовых мантыях, мелі хіба толькі смутнае ўяўленне пра тое, што некалі менавіта тут дзяржаўнымі людзьмі абвяшчаліся законы, аратарамі вымаўляліся прамовы, урачыста святкаваліся перамогі над народамі і вырашаўся лёс сьвету. Няма насмешкі жудасней за тую, якую пераҗыў Рым*!» (VIII, 4),

А я адкажу аўтару:

– Няма насмешкі над цьвярозым розумам больш з'едлівай, чым тая выява паседжанняў пышнага папскага сената XI стагоддзя сярод сьмецця, якую вы тут намалявалі, глыбока паважаемы мной, лепшы, адзіны гісторык горада Рыма і горада Афіны!

Але ж і ніхто іншы, падзяляючы ранейшы погляд, не мог бы сказаць нічога лепшага.

А вось і далей працягвае ён:

«*Сярод мармуровых камлыг* (і, дададзім мы, засядаючых на іх сенатараў) *пасьвіліся статкі коз, чаму гэтая частка Капітолія і насіла тады назву казлінай гары*» (Monte Caprino), падобна таму як Рымскі Форум тады меў назву «выган» (ці ужо не сенатараў?). *На пляцы яго былі пастаўлены балаганы для тавараў, і рымляне ўжо даўно ладзілі тут свае кірмашы*».

«*Акрамя манахаў царквы Santa Maria in Ara-Coeli, сьвятароў царквы св. Сергія і св. Вакха* (г.азн. скажам прама, Бахуса, як таго ж Хрыста пад славянскім найменнем – бох) *і потым насельнікаў замка Карсі, тут жыло вельмі няшмат народу*».

«*У наш час не існуе* (ды, відавочна, і не было!) *ніякіх слядоў тых класічных храмаў, якія знаходзіліся на вяршыні Капітолія. На Clivus ацалела толькі некалькі парэшткаў, прыпісваемых храмам Сатурна і Веспасіяна, падмурак Капкордні, скляпенні* (відавочна, сярэднявечнага) *архіва, добра захаваўшыяся і зараз пакоі Schola Xantha, рэшткі трыбуны для прамоўцаў і верставога слупа, і, нарэшце, арка, прыпісваемая Сэптымію Сяверу, выстаяўшая да гэтага часу насуперад разбураючаму ўздзеянню часу*».

У апісанні Капітолія, якое даецца ў больш пазняй кнізе «Дзівы горада Рыма» (Mirabilia Romae), мы бачым яго як бы пры сьвятле загасаючага зарыва.

*«Капітолій,* – паведамляе гэтая кніга, – *завецца так таму, што быў кіраўніком* (Caput) *усяго сьвету і там жылі консулы і сенатары* (г.азн. суддзі і старэйшыны, як іх называе Біблія), *кіраваўшыя горадам і сьветам. З вонкавага яго боку былі высокія і моцныя сьцены, пакрытыя шклом, золатам і майстэрскай мазаікай. Пасярэдзіне гэтага ўмацавання быў палац, аздоблены золатам і размалёваны каштоўнымі камянямі. Ён адзін каштаваў трэцюю частку ўсяго сьвету. Тут стаялі статуі, колькасць якіх адпавядала колькасьці правінцый, і ў кожнай статуі на шыі вісеў званочак. Як толькі ў нейкай рымскай правінцыі адбывалася абурэнне, адпавядаючая гэтай правінцыі статуя паварочвалася ў яе бок і звоніла сваім званочкам. Назіраўшыя за статуямі прадракальнікі паведамлялі пра гэта сенату... Тут, таксама было шмат і храмаў. На вяршыні ўмацавання знаходзіўся храм Юпітара і Манеты, які ўзвышаўся над Porticus Crinorum. З боку форума быў храм Весты і Кесара* (Кайзера па-нямецку). *Тут стаяла крэсла паганскага жраца, на якое на 6-ты дзень сакавіка сенатары ўзвялі Юлія Цэзара. На*

*другім баку Капітолія каля форума Геркулеса (г.азн. таго ж Хрыста пад іншай назвай) знаходзіўся храм Юноны* (г.азн. той жа панны Марыі, таму што Юнона ўвесь час звалася Virgo Coelestis – Нябесная Панна, а жыдоўскае значэнне гэтага імя: галубка*). У Тарпейюме знаходзіўся храм Сховішча, дзе Юлій Цэзар быў забіты сенатарамі. Там, дзе зараз стаіць царква Santa Maria, былі два храмы. Яны злучаліся з палацам і былі прысвечаны: адзін – Фебу, другі – Карменце, і тут было бачанне на небе імператару Актавіяну. Каля Camelaria стаяў храм Януса, ахоўніка Капітолія. Капітолій зваўся залатым, таму што перасягаў усе царствы сьвету сваёю мудрасьцю і прыгажосьцю*».

А якое ж бачанне было Актавіяну?

Згодна з першапачатковым выкладаннем «Дзіваў горада Рыма» гэтае бачанне з'явілася яму ў яго палацы, а не ў храме Юпітара. У Палацінскай хроніцы таксама паведамляецца толькі, што Актавіян бачыў яго ў Капітоліі, пасярэдзіне горада, дзе Піфія (Pithonia) абвясьціла яму, што infans hebraeus juhente Deo e Caelo, beator descendens in hoc domicilium statim veniet... quare exiens inde Augustus Caesar a divinatione, aedificavit in Capitolio aram magnam in sublimiori loco, in qua et scripsit latinis literis dicens: Haec ara filii Dei est. (Жыдоўскае дзіцё, сходзячае з неба згодна з боскім пажаданнем, неадкладна прыйдзе ў гэтае жыллё... Выйшаўшы адсюль, як бы дзякуючы прадраканню, цэзар Аўгуст пабудаваў у Капітоліі на самым высокім месцы вялікі ахвярнік, на якім і напісаў лацінскімі літарамі: тут знаходзіцца ахвярнік сына Боскага.)

Мы бачым, што пра храм Юпітара цалкам нічога не паведамлялася ў часы складання Мірабілій (XIII стагоддзе), і яны згадваюць пра легенду толькі мелькам.

Імя Ara Coeli азначае Нябесны ахвярнік, а пытанне пра Юнону высветлілася дзякуючы аднаму надпісу, які знайшлі пры раскопах. Гэты надпіс быў прысвечаны Флавіі Эпікардзе, жрыцы Deae Virginis Caelestis (багіні Нябеснай Панны), пра якую ў тым жа запісе паведамляецца: Juno Caelestis – Virgo Caelestis (нябесная Юнона – Панна Нябесная). Мы сустракаем згадванне пра гэтую багіню ў розных іншых надпісах і ў некаторых класікаў, заўсёды пры тым жа самым яе вызначэнні: Juno Caelestis -Virgo Caelestis ці проста Caelestis. Ушанаванне гэтай Deae Caelestis на вяршыні Капітолія цалкам адпавядае ўсім гістарычным і тапаграфічным успамінам дадзенай мясцовасьці. Самы старажытны ахвярнік меў назву Ara Deae Caelestis (ахвярнік Нябеснай Панны) ці яшчэ прасьцей Ara Caelestis. Адсюль паходзіць і назва ўсёй гэтай часткі Капітолія, якая паступова скарацілася да наймення Ara Coeli[259] (Нябесны Ахвярнік). Із гэтага ж бачна, што псеўда-класічная багіня Юнона – не што іншае як хрысьціянская Панна Марыля ў адным із яе шматлікіх сярэднявечных эпітэтаў.

А пытанне пра тое, дзе знаходзіўся храм Юпітара Капіталійскага, г.азн. сярэднявечнага бога-Бацькі, да гэтага часу застаецца нявырашаным з дапамогай археалагічных пошукаў. Нас пераконваюць, што з той пары, як вандалы разбурылі (з дапамогай якіх магутных прылад?) гэтую сьвятыню і звезлі (ох!) дах храма, ён быў вырачаны на поўнае забыццё. Але ўжо той факт, што галоўны храм у Рыме быццам бы не быў ператвораны ў хрысьціянскую базіліку ад пачатку і некалі быў параўнаны з зямлёй – заўсёды здаваўся дзіўным нават для артадаксальных гісторыкаў, хаця б для тлумачэння гэтага факту яны і прыводзілі «выключную

[259] Borsari: Topographia di Roma Antica, p. 200; Gatti: Atti del'Accademia Pontific. dei Nuovi Lincei, 1896, p. 331 (Грэгарэвіус VIII, 4, нататка 27).

агіду хрысьціян да гэтага цэнтра ўшанавання бога-Бацькі (Ю-пітэр азначае Егова-бацька).

Але пяройдзем і да іншых асаблівасьцей сярэднявечнага Рыма.

Заснаванне дэмакратычнага сената ў Рыме ў 1143 годзе не было адной толькі ілюзіяй. Гэта, сапраўды, мела месца і ўславіла сярэднявечных рымлянаў. Знакаміты рэфарматар таго часу Арнольд Брэшыянскі няправільна лічыцца тут за галоўнага натхняльніка пераварота, які быў выкліканы непазбежным ходам падзей. Забраць у шляхты яе ўладу, а ў сьвятарства – яго зямлю, пазбавіць папу ўлады свецкага валадара і перадаць яго вярхоўныя правы народнай суполцы – было тады вельмі вызначанымі гістарычнымі заданнямі. З часоў змагання за абнаўленне царквы трэцці стан не пераставаў змагацца з феадальнай сістэмай, як свецкай, так і з духоўнай. Палымя волі, запаленае італійскімі рэспублікамі, разбурыла феадалізм старажытна-франкскай імперыі і подых скептыцызму ўжо дакрануўся да царкоўнай навукі. Але было б няправільна сцвярджаць, што знішчэнне феадалізму з'ўлялася такой мэтай, якая перасьледавалася ў XII стагоддзі сьвядома, як было б негрунтоўна меркаваць, што дэмагогі таго часу былі здольнымі марыць пра еўрапейскую федэрацыйную рэспубліку.

Вучэнне Арнольда сустрэла ў Ламбардыі і ў Рыме поўную спагаду толькі таму, што секулярызацыя царкоўнай маёмасьці, якой навучаў Арнольд, адказвала патрэбам таго часу. Грамадзянская суполка дасягнула таго, што была прызнана і новым папай Яўгенам III, пры гэтым апошні здолеў захаваць за сабой суверэнныя правы, дзякуючы таму што сенат атрымваў ад яго свае паўнамоцтвы. Спачатку ў сенаце пераважалі гараджане і гэта надало яму плябейскі характар, хаця ў той час і шмат якія шляхетныя асобы ўжо былі сябрамі суполкі. Штогадова, у верасні ці лістападзе, увесь склад сената абнаўляўся. А выбары адбываліся пры папскім упаўнаважаным.

Якой была першапачатковая колькасць сенатараў, невядома. Хутка пасьля 1144 года, за норму было прынята 56 сенатараў, і гэта залежала, відаць, ад таго, што ў той час (гэтак жа, як быццам бы і ў старажытнасьці) Рым быў падзелены на 14 акруг, із якіх із кожнай належыла абіраць па 4 сенатары, так што сенат мог узнікнуць із 14 гарадзкіх карпарацый. Сенат у поўным яго складзе ўтвараў Вялікую раду, ці Consistorium. На чале яго стаяў камітэт, сябры якога мелі назву consiliatores, ці procuratores рэспублікі. Такія ж кансіліятары існавалі пры консулах у Генуі і Пізе ў якасьці дарадчых сябраў; але ў Рыме яны з'ўляліся ўстановай выканаўчай улады, як вышэйшая кіруючая рада, сенату ж належала толькі заканадаўчая ўлада. Гэтыя кансіліятары абіраліся са складу сената і пермяняліся па некалькі разоў на год. Такім чынам існавала дзьве рады: малая, складаўшаяся із кансіліятараў, і вялікая, Consistorium, складаўшаяся із сената. А ўсе паўнапраўныя грамадзяне і выбарцы сената складалі народны сход, які склікаўся на Капітоліі (і, відавочна, не на кучах старых парэшткаў, а ў асобна і нядаўна пабудаваных для гэтай мэты будынках). Пастановы, прынятыя сенатам і справаздачы магістрата, выходзячага ў адстаўку, падаваліся на зацьверджанне гэтаму сходу. Цяжка сказаць, якія прыбытковыя артыкулы былі пад наглядам сенату, і што складала яго рэгаліі. Манетная справа была, напэўна, у той час ужо забрана сенатам із ведання папы і пасьля перапынку, доўжыўшагася на працягу некалькіх стагоддзяў (??), у рымлянаў зноў (?) аднавіла абарачэнне срэбныя манеты з ранейшым класічным надпісам: Senatus Populus que Romanus. Толькі на некаторых із такіх манет яшчэ існавала

выява апостала з надпісам навокал: «Цар рымлянаў» і гэта, бяспрэчна, былі манеты пантыфікату.

Грамадзянская юстыцыя таксама перайшла пад падпарадкаванне сенату. Але судовая палата (Curia Senatus), засядаўшая таксама на Капітоліі (і таксама наўрад ці на кучы старажытных парэшткаў!) і складаўшаяся із сенатараў і юрыстаў, нярэдка папаўнялася палацавымі суддзямі і judices dativi у якасьці шэфенаў, так што некаторыя судовыя акты з'яўляюцца супольнымі рашэннямі як сенатарскага, так і папскага суда.

Сенат імкнуўся падначаліць сваёй юрысдыкцыі нават такія грамадзянскія справы, у якіх абодва бакі, як пазыўнік, так і адказчык, належалі да духоўнага стану. Але папы аспрэчвалі гэтыя дамаганні і папская курыя працягвала дзейнасць побач з курыяй сената. У спрэчным справах цэркваў увесь час знаходзяць рашэнні, вынесеныя судом папы незалежна ад суда сената, і часта здаралася, што бакі апелявалі то да папы на сенат, то наадварот.

Такімі былі асноўныя рысы ўлакавання, наладжанага тады рымлянамі, і з той пары Рым сапраўды пратварыўся у самакіруючуюся рэспубліку, аб'вяшчаўшую вайну і заключаўшую мір незалежна ад свайго вялікага пантыфекса. Так клерыкальная рэвалюцыя скончылася грамадзянскай. Знемагаючы пад яе цяжарам, абнаўленец Яўген аплакваў свой лёс і, уздыхаючы, паўтараў словы св. Бярнарда, што рымскаму пастыру даводзіцца пасвіць не авечак св. Пятра, а ваўкоў, цмокаў і скарпіёнаў. Ён збег із Рыма ў Сутры і Вітэрба, дзе заставаўся да канца года. Пасьля таго ён накіраваўся ў Пізу, а ў сакавіку 1147 года, праз Ламбардыю, у Францыю.

Цалкам так жа, як апісваецца ў класікаў, Рым зараз меў, замест збегшага папы, сенат і вёў вайну з лацінскімі і тусцыйскімі гарадамі, якія, у сваю чаргу, зноў аб’ядналіся разам, каб весьці барацьбу з Рымам. Царкоўная ўлада распалася на некалькі дэспатый з баронамі на чале, якія, ставячыся аднолькава варожа як да папы так і да сената, паслаблялі аўтаномію Рыма. Тыранія гэтых шляхетных асоб асабліва моцна адчувалася ў Лацыуме, беднай правінцыі, дзе не было, як у Тусцыі і Умбрыі, заможных суполак, магшых быць процівагай шляхце.

Менавіта пад час гэтага перыяду ў Рыме з'яўляецца і выступае дэмагогам Арнольд Брэшыянскі, знаходзіўшыся да таго ў невядомым выгнанні. Калі папа збег у Францыю, ён выступаў перад народам, паўстаючы супраць свецкай улады папы. Вучэнне Арнольда пра беднату і чысьціню нораваў набыло яму шмат прыхільнікаў, асабліва жанчын. Пасьлядоўнікі Арнольда мелі назву «ламбардцы» («lombardini»), ці арнальдзісты. Дэмакратызаваны зараз рымскі сенат, не вагаючыся, далучыўся да палітычнай дактрыны, якую развіваў палымяны пасьлядоўнік Евангелля Мацвея. Голасна перад народам ён абвяшчаў, што нават і абнаўленчы папа не з’яўляецца нашчадкам апосталаў і пастырам душ, а падпальшчыкам і забойцай, царкоўным катам і губіцелем нявіннасьці, толькі кормячым сваё цела, і напаўнячым свой грашовы куфар чужым дабром. Выказваць яму падпарадкаванне і павагу ніхто не абавязаны.

Ён быў дарадцам у справах гарадзкога ўладкавання і ў гэтым дачыненні, – сведчыць Грэгарэвіус (VIII, 4), – не быў нейкім выключэннем, бо ў Італіі ва ўсе часы царкоўныя рэфарматары пераходзілі ў сферу палітыкі і ператвараліся ў дэмагогаў. Арнольд меў на ўвазе аб'яднаць дробную шляхту, ставіўшуюся прыязна да плебеяў, і супрацьставіць яе, як узброеную магутнасць, арыстакратыі консулаў і капітанаў.

Ідучы за прыкладам прадстаўнікоў дробнай шляхты, далучыўшайся да суполкі, ніжэйшае сьвятарства таксама прасякнулася ідэяй роўнасьці асоб сьвятога сану. Але і гэта не зрабіла Рым магутным, дзякуючы яго глухому месцаванню ў Заходняй Яўропе, і сама дэмагогія Арнольда хутка вымусіла рымлянаў звярнуцца за дапамогай, як і заўсёды раней, да чужой магутнасьці.

Прайшло 673 гады з таго часу, калі рымскія сенатары з'явіліся ў Візантыю да Зянона і абвясьцілі яму, што Рым задаволіцца, калі Італіяй будзе кіраваць у якасьці візантыйскага патрыцыя Адаакр. Мінула 614 гадоў з таго часу, як сенат у сваім апошнім лісьце да Юстыніяна маліў яго быць апекуном Рыма. Зараз перад пасадам германскага кайзера Конрада зноў стаялі рымляне, пераканаўшыяся ў сваёй няздольнасьці наладзіць у гэтым горадзе грамадзянскі парадак, хаця і называлі сябе сенатарамі. Яны настойвалі на тым, каб цэзар Германіі ўзяў у свае рукі спадчыну Кастуся і Юстыніяна.

«*Найсьвятлейшаму валадару горада і ўсяго сьвету, Конраду Аўгусту, боскай літасьцю цэзара рымлянаў,* – пісалі яны, – *сенат і рымскі народ шле прывітанне і пажаданне шчасьлівага і ўхвальнага валадарання! Мы ўжо апавясьцілі вашу цэзарскую вялікасць пра падзеі, якія адбыліся ў нас, і пра тое, што мы застаёмся адданыя вам, і што бляск вашай кароны складае прадмет нашых штодзённых клопатаў. Мы, аднак, здзіўлены, што вы цалкам не ганаравалі нас адказам. Мы адзінадушна жадаем, каб Рымская імперыя, якую бог даручыў вашаму заступніцтву, была зноў узведзена на тую ступень магутнасьці, на якой яна стаяла пры Кастусю і Юстыніяну, кіраваўшых, абапіраючыся на паўнамоцтвы, атрыманыя ад рымскага сената і народа. Таму мы, з боскай дапамогай, аднавілі сенат і перамаглі шмат якіх ворагаў вашай імператарскай улады, каб стала вашым тое, што належыць цэзару. Мы зрабілі добры падмурак. Мы забяспечваем правам і мірам усіх тых, хто гэтага жадае. Завалодаўшы замкамі гарадзкой шляхты, якая ў хаўрусе з Сіцыліяй і папай Яўгенам мелі намер пагражаць вам, мы часткова захапілі гэтыя замкі, часткава разбурылі. За гэта папа Пталямей Франджыпані, сыны Пьерлеонэ (акрамя Ярдана, у нашай міліцыі) і шмат хто іншыя ціснуць на нас з усіх бакоў. Яны маюць намер перашкодзіць нам каранаваць вас імператарам. Але з павагі да вас мы зведваем шматлікія беды, таму што для шчыра паважаючага не існуе нічога цяжкага, і вы ўзнагародзіце нас, як бацька, аддаўшы ворагаў імперыі на заслужанае імі пакаранне. Не слухайце тых, хто ўзводзіць паклёп на сенат. Яны рады пасеяць паміж вамі і намі разлад, каб загубіць і вас, і нас. Не забывайцеся, колькі зла прычыніў вашым папярэднікам папскі двор і гэтыя былыя нашы суграмадзяне, якія з дапамогай сіцыліянцаў у наш час яшчэ больш імкнуцца нашкодзіць гораду. Але, з ласкі Хрыста, мы мужна стаім за вас і ўжо прагналі із горада шмат каго із самых злых ворагаў імперыі. Спяшайцеся выказаць нам дапамогу вашай імператарскай уладай! Горад аддае сябе на вашу волю. Вы можаце зараз знаходзіцца ў Рыме, сталіцы сьвету, выяўляючы ўсю сваю магутнасць пасьля таго як скасаваны перашкоды, ўзводзімыя сьвятарамі, ці кіраваць усёй Італіяй і германскай дзяржавай больш неабмежавана, чым амаль усе вашы папярэднікі. Мы просім вас – не марудзьце! Уважце супакоіць вашых пакорлівых слуг пісьмова і праз амбасадараў! Мы зараз прыкладаем усе намаганні да таго, каб аднавіць Мільвійскі мост, які быў разбураны з мэтай пашкодзіць імператарам, і спадзяёмся хутка закончыць каменны мур. Ваша войска будзе мець магчымасць пераправіцца праз яго і абыйсьці замак св. Анёла, дзе Пьерлеонэ, змовіўшыся з Сіцыліяй і з папай, задумваюць пагубу для вас.*

«*Жыве Цэзар*! *Ды выканаецца яго воля! Ды пераможа ён ворагаў, і захавае імперыю! Ды будзе ён у Рыме і кіруе зямлёй! Ды будзе ён валадаром сьвету, як некалі Юстыніян! Хай Кесар валодае тым, што належыць Кесару, а папа – тым, што складае неад'емны набытак папы. Так запаведаў Хрыстос і Пятро выплаціў даніну*».

Але Конрад III палічыў за лепшае атрымаць карону із рук рымскага папы, а не рымскага сената і разважліва не перанёс сваю рэзідэнцыю ў гэтае стратэгічна непрыдатнае месца.

Тое ж зрабіў і яго наступнік, Фрыдрых Барбароса, і так працягвалася да 1154 года, калі на пантыфікальны пасад сеў Мікалай Брэкстэр пад імем Адрыяна IV. Адрыян IV неадкладна стаў у рэзкую апазіцыю да рымскай суполкі і запатрабаваў выгнання Арнольда. Ён лічыў, што аднаго выдалення гэтага дэмагога ўжо будзе дастаткова для таго, каб скончылася існаванне рэспублікі. Не маючы падставаў ўскладаць нейкія надзеі на Фрыдрыха, рымляне таемна звярнуліся тады за дапамогай да Вільгельма I, які ў лютым 1154 года ўспадкаваў пасад Сіцыліі пасьля свайго знакамітага бацькі Ражэра і неадкладна пачалі спрэчку з папай.

Не маючы ніякай магчымасьці завалодаць Латэранам, Адрыян быў вымушаны заставацца ў базіліцы св. Пятра, ператворанай ва ўмацаванне. Але нянавісць рымлянаў да абнаўленчага сьвятарства, апазіцыя якога з'яўлялася перашкодай да іхнага грамадзянскага паразумення, расла ўсё больш, і хутка прывяла да катастрофы. Калі на Via Sacra адзін із кардыналаў быў паранены кінжалам, Адрыян паставіўся да гэтага, як да зневажання цэрквы, і наклаў на Рым інтэрдыкт.

Каб зразумець усё значэнне гэтага пакарання, трэба прыняць да ўвагі хрысьціянскія вераванні таго часу. З накладаннем інтэрдыкту спыняліся ўсе набажэнствы. Ніводнае із таемстваў больш не здзяйснялася, за выключэннем хрышчэння і прычашчэння паміраючых, але і яны выконваліся ў такой форме, якая наводзіла жах. Целы нябожчыкаў закопваліся ў зямлю без здзяйснення пахавальнага звычаю і адружваючыяся атрымлівалі добраславенне на могілках.

Шляхетныя рымляне паставіліся да інтэрдыкту з грэбаваннем, але набожныя і бедныя людзі, асабліва жанчыны і сьвятары, адмовіліся ад супрацаву. У народзе пачаліся хваляванні, што вымусілі і сенатараў кінуцца да ног папы і маліць яго пра памілаванне.

Папа пагадзіўся зняць з Рыма адлучэнне ад царквы, але з умовай, каб Арнольд быў неадкладна выгнаны. Няшчасны рэфарматар падзяліў долю ўсіх прарокаў: зачараваны ім спачатку народ здрадзіў яму пры першым жа няшчасьці.

Пасьля дзевяці гадоў служэння справе грамадзянскай незалежнасці, Арнольд збег із Рыма, і замест яго ў Рым з'явіўся германскі імператар з войскам. Пасьля заканчэння свайго каранавання ён выправіўся ў свой лагер на Неронавым (г.азн. папросту Чорным) полі, а папа застаўся ў Латэране. Але ўжо дастаткова фанатызаваныя Арнольдам натоўпы народа рынуліся праз Тыбрскія масты ў Леаніну. Перабіўшы тут трапляўшыхся ў адзіноце немцаў і абрабаваўшы сьвятарства, кардыналаў і прыхільнікаў імперскай партыі, яны накіраваліся потым у лагер Фрыдрыха. Бітва працягвалася з пераменным посьпехам да самай ночы, калі, нарэшце, рымскія паўстанцы саступілі суперніку, перавышаўшаму іх магутнасьцю.

«*Нашы ваяры*, – піша германскі гісторык, – *секлі рымлянаў, як бы кажучы пры гэтым: «атрымвай, Рым, германскае жалеза, замест аравійскага золата! Вось як купляе Германія сабе імперскую ўладу!»*.

Каля тысячы народа было часткова забіта, часткова патанула ў рацэ, шмат хто быў паранены і каля 200 узята ў палон. Астатнія збеглі за сьцены горада. Усе рымляне адмовіліся прадаваць імператару харчовыя запасы і вырашылі працягваць змаганне. Ён зняў свой лагер 19 чэрвеня, забраў з сабой папу і ўсіх кардыналаў і

накіраваўся перадусім да Сарокты. Усюды ён загадаў разбураць замкі, якія былі ўзведзены рымскімі нобілямі ў іхных маёнтках.

У гэты ж час па суседству з Сароктай, быў пакараны сьмерцю і Арнольд. Рэшткі яго спаленага цела былі кінуты ў Тыбр. З таго часу і пачынаецца шэраг знакамітых пакутнікаў чалавечай за чалавечую свабоду. Яны гінулі на вогнішчах, але іх адважны дух, як Фенікс, адраджаўся із полымя і працягваў жыць у наступных пакаленнях.

Вясной 1159 года, рымляне выправілі да Фрыдрыха амбасадараў, просячы амністыі і абяцаючы аднавіць яго ўладу ў Рыме. Пагадзіўшыся пачаць перамовы з рымскай суполкай, Фрыдрых вырашыў прызнаць сенат, але на падставах, якія ён сам вызначыць. Аднак пагадненне не змагло адбыцца, збольшага з нагоды ўмоваў, пастаўленых непадатлівым сенатам, збольшага з нагоды сьмерці папы.

Скасаваць рымскую рэспубліку выявілася немагчымым для папы Адрыяна. Як толькі ён памёр, неадкладна пачаўся разлад у ўжо абноўленай зараз рымскай цэркве, як гэта і было непазбежна пры супярэчнасьці яе ідэалогіі і ўладкавання з патрэбамі агульначалавечага жыцця.

Для абрання наступніка Адрыяну ў базіліцы св. Пятра быў скліканы сход, у склад якога ўвайшлі кардыналы, імператарскія амбасадары, сьвятарства, шляхта, народ і сенатары. Апошнія ўзялі на сябе ахову сабора і трымалі яго дзверы замкнёнымі. Прайшло тры дні, але пагадненне ўсё яшчэ не было дасягнута. І вось, самая мацная на месцы рымская арыстакратычная партыя абвясьціла 7 верасня папай Роланда Бандынэлі, родам із Сіены.

Але, ледзь толькі гэты кандыдат быў апрануты ў чырвоную мантыю, як кардынал Актавіян, кіраўнік імператарскай і разам з тым дэмакратычнай для Рыма партыі, сарваў яе з яго плячэй. Сьледам за гэтым нейкі рымскі сенатар-арыстакрат, у сваю чаргу забраў мантыю ў Актавіяна, але капелан апошняга збегаў за другой, і Актавіян спехам надзеў яе навыварат. Якім ні смешным быў выгляд кардынала ў падобным уборы, сходу ўжо было не да таго, бо пачалася вялікая бязладзіца. Стаяўшыя напагатове натоўпы ваяроў са зброяй у руках прайшлі ў базіліку св. Пятра, пасьля чаго дэмакратычная партыя абвясьціла Актавіяна папай і была падтрымана ніжэйшым сьвятарствам, асабліва капітулам базілікі св. Пятра, народам, большасьцю сенатараў і шмат кім із капітанаў; быў праспяваны Te Deum, і новы папа-дэмакрат, пад імем Віктара IV, быў урачыста адведзены ў Латэран.

Роланд і яго прыхільнікі збеглі ва ўмацаваны Ватыкан. Праз тры дні яны былі вызвалены адтуль былымі староверамі. Ва ўрачыстай працэсіі, пры звоне званоў, з развяваўшыміся харугвамі, Роланд прайшоў па вуліцах Рыма, але потым, у суправаджэнні ўсіх сваіх прыхільнікаў са сьвятарства, шматлікага ўзброенага народа і шляхты, калегіі суддзяў і школы пеўчых, неадкладна пакінуў горад і накіраваўся ў Кампанью. Тут 20 верасня ён быў пасьвечаны пад імем Аляксандра III.

Але хаця Аляксандр III і забяспечыў сабе падтрымку Францыі і Англіі, прызнаўшых яго папай, аднак, ён часьцей заставаўся ў Сане (Sens), і Рым спакойна кіраваўся сенатам. Прызнаўшы за ім суверэнныя правы, горад Рым ўсё ж на справе заставаўся незалежнай самастойнай рэспублікай.

У лістападзе 1165 года рымляне заключылі дамову з Генуяй, згодна з якой гэтая рэспубліка атрымала права вольнага гандлю на ўсім працягу ад Тэрачыны да Карпета, а генуэзцы ў сваю чаргу надалі такія ж правы рымлянам. Але вельмі хутка ў Рыма пачалася вялікія непрыемнасьці з Германскай імперыяй праз невялікія

суседнія гарады, Албана, Цівалі і Тускулум, якія не пажадалі прызнаць суверэнітэт іхнага сената і далучыліся да імператара. Гэта хутка прывяло да катастрофы. Уціскаемы рымлянамі Тускулум звярнуўся за дапамогай да імперцаў, і канцлер Рэйнальд толькі што перад тым, 18 траўня, завалодаўшы з дапамогай пізанцаў Чывіта Векіяй, уступіў у яго, пасьля чаго горад быў абложаны рымлянамі.

На выручку абложаным прыбыў Хрысьціян Майнцкі з 1 300 германцаў і наймітаў брабансонаў. Хаця колькасць рымлянаў і перавышала колькасць германцаў у 20 разоў, але германцы не спалохаліся. Праўда, брабансоны спачатку былі хутка адціснуты рымлянамі, але кёльнскія рыцары, стаўшыя цесным строем, своечасова зрабілі вылазку із Тускула, а адзін із атрадаў Хрысьціяна напаў на непрыяцеля з флангу. Рымская кавалерыя кінулася наўцёкі, пяхота таксама разбеглася. Уцекачы з поля бітвы гінулі пад мячамі перасьледаваўшых ці здаваліся ў палон. У перапалоханы Рым вярнулася толькі трэццяя частка ўсяго рымскага войска, і толькі непрыступныя сьцены і наступіўшая ноч вымусілі германцаў спыніць пераслед.

Гэтая выдатная бітва адбывалася 29 траўня 1167 года, а яна зноў выявіла дрэнныя баявыя здольнасьці рымлянаў. Іхны перапалох у горадзе – паведамляюць нам – не паддаваўся апісанню. Насуперак класічным характарыстыкам, старыя і жанчыны напаўнялі вуліцы лямантам і плачам. Забіты горам папа плакаў. Германцы, узмоцненыя падмацаваннямі, узятымі із гарадоў Кампаны, размясьціліся ў наваколлі. Перад Рымам стаяла, бяручы ўдзел у аблозе, насельніцтва ўсё тых жа гарадоў: Тыбра, Альбы, Тускула і іншых, як і ў апісаннях класікаў. Каб давяршыць падзенне Рыма, Хрысьціян паклікаў імператара, і Фрыдрых, вымусіўшы Анкону капітуляваць, 24 ліпеня ўжо падняў свой імперскі сьцяг на Monte Marino.

На працягу васьмі дзён абнаўленчая Мека вытрымлівала прыступы германскіх евангелістаў-арнальдыстаў і міліцыі Вітэрба. Сабор Пятра быў узяты 29 ліпеня 1167 года, а на другі дзень Фрыдрых, падобна Генрыху IV, неадкладна пасяліў у саборы свайго стаўленіка, і падчас урачыстасьці, надзеў на галаву залаты абруч рымскага патрыцыя. Потым, 1 жніўня Пасхаліем III была каранавана жонка Фрыдрыха, Беатрыса, а сам Фрыдрых з'явіўся з імператарскай каронай на галаве. А арыстакратычны папа Аляксандр III збег, што знясіліла яго партыю. Мір з Рымам быў заключаны на такіх умовах:

«*Сенат і народ прыносяць імператару прысягу на вернасць і абавязваюцца ахоўваць яго суверэнныя правы ў межах горада і па-за ім. Імператар прызнае сенат у яго ўсталяванай форме, але свае паўнамоцтвы сенат атрымлівае ад імператара*».

Ад гэтага часу Рымская рэспубліка была падначалена непасрэдна імперскай уладзе, але рок, здавалася, наклаў на Фрыдрыха сваю руку. 2 жніўня 1167 г. змрочныя хмары грымнулі ліўнем над горадам, і потым наступіла пякучая спякота. Пачалася чума. Вершнікі, пехацінцы і збраяносцы хварэлі і паміралі, часта нечакана, едучы ці ідучы па вуліцы. Хутка пачало не хапаць людзей для пахавання нябожчыкаў.

На працягу цэлых стагоддзяў горад не перажываў такіх жудасных бедстваў, як бітва пры Monte Porcio і следам за тым чуму. Панічны жах ахапіў і германцаў.

– Караючая рука госпада, – казалі яны, – уразіла нас за тое, што напалі на сьвяты горад.

Імператар зняўся з лагера 6 жніўня і пайшоў з рэшткамі свайго войска, у якім людзі былі падобнымі на цені. Дарогай у яго памёрла яшчэ больш за 2000 чалавек, а астатнія, вернуўшыся ў Германію, прынесьлі з сабой сьмерць на радзіму.

Прайшло яшчэ восем гадоў, і ў дзень бітвы пры Леньяна, 29 траўня 1176 года, хаўрусная грамадзянская міліцыя ламбардзкіх гарадоў перамагла да шчэнту магутнага імператара. Наступствам гэтай перамогі былі, перш усяго, таемныя перамовы яго з варожым яму раней папай Аляксандрам, і Аляксандр не запаволіў скарыстацца перамогай ламбардцаў у інтарэсах царквы, хаця гарады і западозрылі яго ў здрадзе.

Так абнаўленчае змаганне рымскага пантыфікату хутка ператварылася ў змаганне за ўладу, пры якой Евангелле стала толькі шырмай. «*Нідзе ў сьвеце,* – сведчыць Грэгарэвіус(VIII, 6), *– мы не сустракаем падобнага спалучэння падзей, што сведчыць пра глыбокі трагізм, на які вырачана чалавецтва сваімі незлічонымі патрэбамі. Выявы змагання апантаных партый пры звоне зброі і ўцёкамі папаў, нязменна замяняліся ў Рыме выявамі вяртання папаў і сустрэчы іх радасным насельніцтвам. Гэтыя ўвесь час паўтараючыяся выдаленні і заклісканні папаў надаюць гісторыі горада Рыма чыста эпічны характар, і мы не ведаем ніякага іншага больш вялікага эпасу, чым яго гісторыя*».

Народ і сенат прызналі Аляксандра III, быдучы вымушанымі да таго, але ў пытанні пра парадак кіравання гарадом, змаганне паміж рэспублікай і папай, як вярхоўным кіраўнікам, па-ранейшаму не спынялася. Папская ўлада не надавала баязьні; незадаволенасць і гатоўнасць да новага паўстання адчувалася не толькі ў самым Рыме, але і па ўсёй царкоўнай вобласьці. Кожны горад рымскай тэрыторыі марыў наладзіць сваё жыццё згодна з прыкладам ламбардцаў, г.азн. мець свой уласны муніцыпалітэт, з консуламі ці іншымі кіраўнікамі на чале суполкавай рады. Ужо паспеўшы прызвычаіцца да незалежнасьці, шмат хто із правінцыйных баронаў Тусцыі і Сабіны не знаходзілі патрэбным выказваць пакорлівасць. Яны не прызнавалі над сабой ўлады ні сената, у склад якога пасьля заключэння міру нобілі ўвайшлі яшчэ ў большай колькасьці, ні папы.

У сакавіку 1179 года Аляксандр, які зараз клапаціўся ужо не пра перабудову царкоўных дагматаў, а толькі пра сусветную ўладу папаў, склікаў у Латэране сусветны сабор у ліку 300 біскупаў, і там было пастаноўлена, што абранне папы з гэтага часу вырашаецца большасьцю двух трацін кардыналаў. Потым зноў было абвешчана, што згодна з кананічным законам папа абіраецца выключна калегіяй кардыналаў і незалежна ад якога б то ні было далучэння да справы свецкай улады.

Так, пасьля доўгага змагання, папа Аляксандр змог, нарэшце, дасягнуць таго, што ён быў прызнаны аднаўладным кіраўніком царквы, і толькі ў Рыме і ў царкоўнай вобласьці ён па-ранейшаму не меў улады. Сенат, як і раней, толькі намінальна атрымліваў свае паўнамоцтвы ад папы, а па сутнасьці быў ад яго незалежным, абапіраючыся на магутнасць міліцыі. Здабыўшы здзіўляючыя перамогі над самымі аддаленымі краінамі, Аляксандр тым часм адчуваў сябе ў Рыме, як у стане сваіх ворагаў. Ужо летам 1179 года ён пакінуў гэты горад і з той пары, зноў у становішчы выгнанніка, жыў то ў гарадах Лацыума, то ў Тускуле, і 30 жніўня памёр у Чывіта Кастэлана. Рымскі народ, некалі высьцілаўшы яго шлях кветкамі, зараз, пасьля яго сьмерці, кідаў на яго труну камяні, і кардыналы толькі з вялікімі цяжкасьцямі змаглі пахаваць яго ў Латэране.

З часоў Адрыяна I ніводзін із папаў не заставаўся так доўга на сваім пасадзе, як Аляксандр III, але із 22 гадоў свайго кіравання, ён 18 гадоў правёў у змаганні са староверствам і 20 гадоў і выгнанні.

З часу кангрэса ў Венецыі і пакаяння Генрыха ангельскага, сусветны аўтарытэт папства ў Заходняй Яўропе дасягнуў пры ім небывалай вышыні.

Із таго факта, што тры наступнікі Аляксандра былі вымушаны жыць у выгнанні, мы ўжо можам зрабіць выснову, якія дачыненні існавалі паміж абноўленым пантыфікатам і горадам Рымам. Люцый, наступнік Аляксандра, вельмі хутка стаў у варожыя дачыненні да рымлянаў, таму што не пажадаў прызнаць за імі тых правоў, якія былі прызнаны раней яго. Ён урачыста абвясьціў рымлянам анафему, патлумачыўшы, што яны, паўстаючы супраць свецкай улады папаў, пераймаюць вучэнне Арнольда і з'яўляюцца такімі ж ерэтыкамі, як вальдэнцы, катары, гуміліяты, ліёнскія жабракі і пасьлядоўнікі іншых сектаў, усё больш і больш пашыраўшыяся ў той час. Але хутка (25 лістапада 1185 года) ён памёр у Вероне.

Наступнік Люцыя, – не менш сумная выява, чым сам Люцый, – заставаўся ўвесь час у выгнанні ў Вероне. Ён быў пасьвечаны ў сан папы пад імем Урбана III 1 снежня 1185 года і памёр у лютым гэтага ж года. І якраз каля таго часу адбылася падзея, надзвычай важная для ўсяго хрысьціянскага сьвету: 2 кастрычніка 1186 года Саладын завалодаў палестынскім Эль-Кудсам, і захоп гэтага горада, куды ўжо было перанесена месца дзеяння біблейскіх і евангельскіх паданняў, уразіла ўсю Яўропу так моцна, што найбольш важныя справы, хваляваўшыя Захад, адышлі на задні план, і дзейнасць папы, імператара, каралёў і біскупаў была яшчэ раз зноў скіравана на Ўсход.

Новы папа, Клімент III, вярнуўся ў Рым і ў лютым 1187 года быў прыняты тут з усімі ўшанаваннямі. За 44 гады, якія працяклі з часу рэспубліканскага перавароту здзейсніўшагася ў Рыме і адзначыўшагася заснаваннем сената, папы амаль без перапынку былі ахвярамі гэтага перавароту. Трагічна закончылі сваё існаванне Інакенцій II і Цэлестын II. Люцый II быў сьмяротна паранены кінутым у яго каменем, Яўген, Аляксандр, Люцый III, Урбанаў III і Рыгор VII памёрлі, застаючыся ў выгнанні. Але зараз папства, у асобе Клімента III, вярталася, нарэшце, у Рым і з горадам быў заключаны мір, як з незалежнай уладай.

Абвяшчэнне дэмакратычных пачаткаў у Рыме было выдатнай падзеяй таго часу, яно і дало, з нашага боку гледжання, матэрыял для класічных паданняў пра старажытны рэспубліканскі Рым, але зараз гэты перыяд трохі затуманіўся. Права кляпаць манету зноў было перададзена папе, і толькі трэцяя яе частка з гэтага часу належала сенату. Становішча папы ў горадзе, дарэчы, і зараз нічым не адрознівалася ад становішча біскупаў у іншых незалежных гарадах, нягледзячы на тое, што яму былі прысвоены тытулы і ўшанаванні свецкага валадара. Магутнасць яго зараз залежала ад таго, што ён быў самым буйным землеўласнікам, раздаваў самыя буйныя лены і мог заклікаць да зброі шмат «людзей». Усё значэнне яго, як мясцовага валадара, складалася толькі ў праве на інвестытуру, якім ён валодаў у дачыненні да прадстаўнікоў выканаўчай улады ў рэспубліцы, вольна абраных суполкай. «*Знішчэнне свецкай папскай улады адзіна магчымасьцямі самой рымскай суполкі з'яўляецца,* – сведчыць Грэгарэвіус (VIII, 6), – *адной із самых выдатных падзей у сярэднявечнай гісторыі Рыма, які толькі з гэтага моманту* (а ніяк не да пачатку нашай эры!) н*абыў права на агульную ўвагу ў грамадзянскім дачыненні*».

Пачынаючы з 1143 года ў сенаце спачатку пераважалі прадстаўнікі простага народу, потым памаленьку ў яго пачалі абірацца шляхетныя людзі, і з часоў Клімента III і Цэлестына III большасць сената ўжо зноў складалася із патрыцыяў

старажытнага роду, а не грамадзянаў і рыцараў. Наплыў шляхты ў сенат быў такім вялікім, што ранейшая колькасць у 56 сябраў сената хутка выявілася перавышанай.

Наступствам гэтых змен ужо ў 1191 годзе быў пераварот. Просты народ паўстаў супраць арыстакратыі, знішчыў канстытуцыю, і, як было ўжо аднойчы, паставіў на чале ўрада адну асобу. Рымляне назвалі свайго вярхоўнага кіраўніка ўжо не патрыцыем і не падэстай, як у італійскіх гарадах, а вярхоўным сенатарам, і гэты вярхоўны сенатар, Бенедыкт, перш усяго пазбавіў папу ўсіх яго прыбыткаў. Праз два гады ён быў, аднак, пазбаўлены пасады паўстаннем і зняволены ў Капітолій, дзе ўтрымліваўся доўгі час і пасьля яго вярхоўным сенатарам быў абвешчаны Джавані Капачо. Потым яго месца заняў Джавані дзі Пьерлеонэ, а ў 1197 годзе зноў адбыўся пераварот: ранейшая канстытуцыя з 56 сенатарамі і выканаўчым камітэтам кансіліятараў была зноў адноўлена. Вялікі першасьвятар ужо не браў удзел у гэтых пераваротах, а рымляне, не будучы ў стане і зараз утварыць магутную дзяржаву, аддаліся летуценням пра сваё мінулае.

# Глава VII.

## Далейшае развіццё чароўнай казкі пра старажытны магутны Рым.

Дзе распрацоўваліся легенды пра былую магутнасць горада Рыма? У самым Рыме ці за мяжой яго вобласьці, за якой яго слава тым больш павялічвалася, чым далей была да яго адлегласць? Відаць удалечыні. Перадусім пачала апакрыфавацца распрацаваная ў Балонні пад час сярэдневечча юрыспрудэнцыя, але пакуль не старажытнаму Рыму, а Візантыі. А імператары і рэспублікі яшчэ раней спасылаліся на падробленыя імі законы Юстыніяна, каб абгрунтаваць свае дамаганні. Нядаўняе ўзнікненне італійскага муніцыпальнага і рэспубліканскага ўладкавання хутка пачало адмаўляцца, і яго паходжанне тлумачылася нібыта на падставе старажытнага рымскага права. З часоў канстытуцыі Лотара 824 года і потым канстытуцыі Атонаў, правы чужых нацыянальнасьцей у Рыме ўсё больш і больш абмяжоўваліся, пакуль, нарэшце, пры імператары Конраду, адзіна дзейнічаючым законам не выявілася «рымскае права», якое дзеля надання яму аўтарытэту даводзілася складаць апакрыфічна і нават прыдумляць падрабязнасьці яго складання ў самыя старажытныя часы. А на справе са старажытных рэгістраў нават у дачыненні да кіравання царкоўнымі даменамі да Піпіна не вядома ніводнага. Толькі калі ўзнікла спрэчка праз спадчыну Матыльды, і горад Рым выказаў дамаганні на рэгаліі св. Пятра, а папства пабачыла, што ўласнасьці, якой яно валодала, пагражае небяспека, былі складзены ў даволі вялікай колькасьці дакументальныя і, як бы, старадаўнія доказы правоў сьвятога пасада.

Упершыню гэта было зроблена толькі ў 1181-1185 гадах, пры Люцыі III, клірыкам Альбінам. У 1192 годзе падобная ж вялікая праца была выканана Чэнчыем, рымлянінам із сямейства Савалі, камерарыем пры Кліменту III і Цэлестыне III. Так позна і дзякуючы такім нагодам узнікала ў рэчаіснасьці знакамітае «рымскае права!».

А што да складання агульнай гісторыі рымскай дзяржавы, то пра яе нават у XII стагоддзі не было і згадак. Пачаліся толькі асобныя летапісы. Так суддзя Фалько напісаў у 1140 годзе «хроніку Беневента»; консул Кафара, выконваючы

даручэнне ўскладзенае на яго генуэзскай рэспублікай, склаў «Аналы Генуі»; Бярнарда Марангонэ напісаў самую старажытную хроніку Пізы; двое суддзяў із Лодзі, Ота і Ацэрба Марэна, і міланец Сір Рауль апісалі здзяйсненні Фрыдрыха; Гуга Фальканда даў каштоўнае апісанне аднаго перыяду із гісторыі Сіцыліі пры нармандцах (1154-1169). Пятро Малій, канонік сабора св. Пятра ў Рыме, склаў апісанне гэтай базілікі і прысьвяціў сваю працу Аляксандру III. Але праца Малія зводзіцца да сухога нагрувашчвання ўрыўкавых нататак. Ён пачынае з пабудовы гэтай базілікі быццам бы пры Кастусю I і надае шмат месца Карлу і падараванай ім у дарунак гэтаму сабору царкоўнай вобласьці. Дакументальнае абгрунтаванне правоў сабора Пятра з'яўляецца для Малія галоўным заданнем.

Самае старажытнае апісанне Латэранскай базілікі складзенае Янам, канонікам гэтай царквы, згодна з загадам таксама Аляксандра III аналагічна працы Малія.

А грунтам гэтым абедзьвюм манаграфіям паслужылі два розныя, адносна свайго характару, літаратурныя творы таго часу: «Ordines Romani», «ці Кніга царкоўных рытуалаў», і «Дзівы горада Рыма» (Mirabilia Romae), прытым Малій перанімаў як з адной, так і з другой кнігі.

«*У Наўмахіі, каля царквы Santa Maria in Transpontia*, – паведамляе ён, напрыклад, – *размешчаны помнік Ромула, маючы назву Meta. Ён быў пакрыты плітамі із выдатнага каменя, які зараз выкарыстаны для пабудовы ўсходаў базілікі св. Пятра. Вакол помніка існавала маставая із траверціна на адлегласьці 20 футаў, і тут жа быў уладкаваны вадасьцёк і пабудаваны квятнік. Непадалёку стаяла «Тэрпентынавае дрэва»* (Terebinthus) *Нярона, – такое ж высокае, як замак імператара Адрыяна. Яно было аздоблена выдатным каменем. Падобна замку, гэты будынак быў круглы і меў два паверхі, якія з краёў былі пакрыты каменнымі плітамі, замяняўшымі жалабы. Каля яго быў укрыжаваны апостал Пятро*».

Гэты «Тарпентын», пра які існуюць паведамленні ў «Mirabilia Romae» і ў Малія (і ў «Ordines Romani»), мае цесную сувязь з легендарным тэрпентынавым дрэвам, каля якога быў быццам бы пахаваны св. Пятро. Сярэднявечная легенда ператварыла гэтае дрэва ў вялізны помнік, нападабе Meta Romuli. Гэта – казачны помнік, які часта сустракаецца на выявах Рыма, – перадусім, на карціне Чымабуэ.

«*Там жа*, – працягвае аўтар, – *знаходзіцца замак, які лічыўся помнікам імператара Адрыяна, як бачна із павучання, вымаўленага св. папай Ільвом у дзень св. Пятра. У гэтым павучанні гаворыцца: «У памяць імператара Адрыяна».* (Такой з'яўляецца першакрыніца нашых ведаў пра помнік Адрыяна! Адно царкоўнае павучанне XII стагоддзя!) *Гэты будынак уяўляе храм дзівоснай велічыні, які ўвесь пабудаваны із каменя і ўпрыгожаны выявамі розных гістарычных падзей. Знадворку на ім пастаўлены атачаючыя яго бронзавыя пярылы, вялізныя паўліны і бронзавае цяля. Два із ліку гэтых паўлінаў знаходзяцца зараз каля Райскага фантана* (Paradiso). *Па кутах храма стаялі чатыры пазалочаныя бронзавыя кані, у кожным яго фасадзе былі бронзавыя дзьверы. У самым цэнтры будынка размяшчалася магільня із парфіру, якая зараз перанесена ў Латэран і ў ёй пахаваны папа Інакенцій II. Накрыўка гэтай магільні знаходзіцца ў раю* (paradiso) *базілікі св. Пятра, на магільні прэфекта Цыптыя, сябра Рыгора VII.*

Гэтае фантастычнае, нават і на думку артадаксальных гісторыкаў, апісанне Малій запазычаў з вельмі нязначнымі зменамі із «Дзіваў горада Рыма».

Із гэтага мы бачым, што толькі ў XII стагоддзі ўзнікла рымская археалогія. Яе першакрыніцамі былі Mirabilia Romae, а таксама і больш пазьняя і параўнальна нядаўна знойдзеная кніга «Апісанне залатога горада Рыма» («Graphia aureae urbis

Romae»), калі яна не падробка. Гэта азначае, што нашы веды пра помнікі старажытнага класічнага Рыма засноўваюцца на двух кнігах, атрымаўшых свой пачатак, нават і на думку такога спецыяліста, як Грэгарэвіус, ніяк не раней чым калі ўжо быў усталяваны рэспубліканскі сенат XII стагоддзя ў Рыме.

«*З той пары,* – паведамляе ён (VIII, 7), – *абедзьве кнігі ўвесь час перапісваліся, пашыраліся і пераіначваліся да недарэчнасьці*».

Па-сутнасьці і той і другі твор маюць аднолькавае ўтрыманне, адрозніваючыся адзін ад аднаго толькі парадкам выкладання. Немагчыма сказаць, што царкоўны Рым ігнаруецца ў іх наўмысна, але ў іх абодвух праглядаецца відавочная перавага казачнага Рыма. І гэтая перавага здавалася ў той час да такой ступені натуральнай, што нават папскія архіварыусы, як Бенедыкт, Альбін і Чэнчы, не задумваючыся ўключылі Мірабіліі у свае афіцыйныя зборнікі.

З нагоды згадвання ў іх пра магільні Інакенція II і Анастаса IV, пра замкі Франджыпані і Пьерлеонэ і потым пра палац сенатараў на Капітоліі, патрэбна зрабіць выснову, што самыя старажытныя із маючыхся у нас манускрыптаў Мірабілій былі напісаны не раней паловы XII стагоддзя, а ў «Апісаннях залатога горада Рыма» сустракаюцца, вядома, раздзелы дапасуючыяся і да больш ранніх часоў, як, напрыклад, «Кніга пра імператарскія рытуалы часоў Атонаў», але і гэты дадатак зроблены, згодна з Грэгарэвіуса, таксама пазней, і наогул, мы не маем спіса Мірабілій, які можна было б дапасаваць да часу раней XII стагоддзя.

У гэтым выдатным творы невядомага схаластыка, апісваючага выбітныя месцы горада Рыма ў прымітыўнай, наіўнай форме і на адпавядаючай прымітыўнай лацінскай мове, мы ўпершыню знаходзім выразныя зародкі рымскай археалогіі, дасягнуўшай у наш час такіх дзіўных, згодна са сваімі фантастычнымі высновамі, памераў.

Для нашай мэты, г.азн. для выяўлення сярэднявечнага паходжання ўсіх рымскіх помнікаў старажытнасьці, у найвышэйшай ступені цікава аднавіць тую выяву, якую ўяўляў сабой Рым XII стагоддзя, калі яго велічныя будынкі яшчэ не стаялі, як падмуркі, расчышчаныя з навуковай мэтай, абгароджаныя і абкапаныя, а ўяўлялі сабой ці грозныя, непрыступныя замкі консулаў ці грамадзкія і царкоўныя пабудовы, ці прыватныя палацы і сядзібы, старэйшыя із якіх былі вядомы ў народзе ўжо пад легендарнымі, а нкаторыя, больш новыя пад сапраўднымі назвамі. Ды і легендарныя часта тады мелі іншыя назвы, чым зараз. Так тое, што зараз мае назву форум Нервы, у «Ordo Romanum» (прыпісваемы каноніку Бенедыкту, 1143 г.) мае назву форум Траяна; сучасная арка Януса там мае назву Templum fatale, арка Сявера мае назву проста трыумфальнай аркі, базіліка Кастуся – храм Ромула (як і атрымліваецца згодна з нашай гіпотэзай, што Ромул спісаны з Кастуся), арка Ціта і Веспасіяна мае назву Septem Lucernarum, цалкам без ужывання імёнаў гэтых імператараў... А як выпадковы дадатак дадам, што храм Ромула Бекер (I, 377) лічыць за Aedes Penatium, Бунзен за храм Венеры і Ромы, а Грэгарэвіус сцвярджае, што гэта Basilica Nova Кастуся.

Наколькі легкадумнымі былі аўтары гэтых «Дзіваў горада Рыма», бачна паўсюдна. Так, напрыклад, цалкам засяроджаны на сьвятцах, наіўны перапісчык палічыў Fasti Авідыя за мартыралог сьвятога і часта робіць адсюль запазычанні: Sicut reperitur in Marthirologio Ovidii de Fastis, – сведчыць ён. А Альбін гэта называе: Marthirologio Ovidii de Faustis і Рамуальд проста – Marthirologio.

«*Адсутнасць сэнсу,* – выказваецца сам гісторык горада Рыма, – *нярэдка даходзіць да смешнага. – Вароты Сэптымія* (Porta Septimiana) *патлумачаны ў «Дзівах*

*Рыма» так: «там сем ухвалаў рабіліся Актавіяну». А ў «Апісаннях залатога горада Рыма» і ў Альбіна гаворыцца, што гэтае імя паходзіць ад Сямі Наяд* (Septem Najades juncte Jano). *Так із «Сямі Ухвал» і із «Сямі Наяд» атрымаліся вароты класічнага рымскага імператара Сэптымія Сявера*».

Імя Латэран выводзіцца ў «Апісаннях залатога горада» ад таго, што тут быццам бы на цэгле была жаба: in palatio Neronis, quod ex Iatere et rana dicis Lateranum а ў адным спісе да гэтага яшчэ дададзена: rana quam latenter peperit Nero (жаба, якую таемна нарадзіў Нярон).

Назва Квірынал выводзіцца ад квірытаў: quia ibi stabant quirites, а Нерва названы багіняй Нервіяй.

Мірабіліі складаюцца із некалькіх аддзелаў, размешчаных у розных копіях у рознай пасьлядоўнасьці. Там ёсць між іншым паведамленні: пра стаяўшае ў Рыме ўпрыгожванне ў выглядзе кедравай шышкі, пра Капітолій, пра храм Марса ў Рыме, пра мармуровых коней, пра імператарскіх суддзяў у Рыме і пра калону Антаніна.

А каб даць разуменне пра агульны характар «Дзіваў горада Рыма», я толькі прывяду із іх некалькі вытрымак.

«*Тут* (паблізу Форума) *знаходзіцца храм Весты, у якім, згодна з паданнем, спаў цмок, пра што можна прачытаць у жыцці св. Сільвестра. І тамсама быў храм Палады, форум Цэсара* (кайзера па-нямецку*) і храм Януса, які, як сцвярджае Авідый і ў сваіх Fasti, прадбачыў усё што здзяйснялася на працягу года ад яго пачатку і да заканчэння. Зараз гэты храм мае назву Вежа Чэнчы Франджыпані*» (якім ён, вядома, і быў ад самага свайго пачатку).



Мал. 127
Ціркус Максімус у Рыме (рэстаўрацыя Рэлендэра).

Пра будынкі на Палатыне, які таксама меў назву Дваровая гара (Palatius Mons), згадваецца толькі коратка: «*Пасярэдзіне «Палацавага ўзгорку» знаходзіцца храм Юлія, насупраць яго – храм Сонца. На тым жа самым Палацавым узгорку размяшчаецца храм Юпітара, маючы назву «Вялікая Сядзіба»* (Casa major)». А вось што пра Circus Maximus: «*Цырк Прыска Тарквінія прыгожы, з сядушкамі, размешчанымі такімі вялікімі ўступамі, што гледачы цалкам не загароджваюць адзін аднаму падмосткі. Наверсе яго знаходзіліся аркады, упрыгожаныя паўсюдна шклом і жоўтым золатам, і тут 14 траўня жанчыны садзіліся колам і назіралі за адбываўшыміся пастановамі. На яго сярэдзіне стаялі два абеліскі* (aguilae), *адзін, меншы, меў 87 футаў вышыні, другі, больш высокі,*

*122 футы. Наверсе трыумфальнай аркі, стаяўшай каля ўваходу, быў пастаўлены вызалачаны, бронзавы конь, які, здавалася, быў готавы памчацца, выносячы на сваёй спіне ваяра. На арцы, знаходзіўшайся на процілеглым канцы, стаяў другі конь, таксама бронзавы і вызалачаны. На ўзвышэнні, з якога можна было назіраць за спаборніцствамі, знаходзіліся месцы, прызначаныя для цэзара* (кайзера) *і каралевы*». «*Насупраць храма Траяна, там, дзе яшчэ да гэтага часу захаваліся яго дзьверы, стаяў храм Зеўса*»[260]. «*Каля Schola Graeca знаходзіўся храм Лентула; на другім баку, дзе зараз стаіць вежа Gentius de Origo, існаваў храм Вакха. Каля Элефанта быў храм Сівілы, храм Цыцэрона in Tulliano, храм Зеўса з залатой альтанкай усярэдзіне яго, і храм Северыяна*». «*На Марсавай полі – храм Марса; тут 1 ліпеня абіраліся консулы, якія захоўвалі свае паўнамоцтвы да 1 студзеня. Калі абраны консулам выяўляўся невінаватым ні ў якіх злачынствах, то ён тут зацьвярджаўся ў сваім сане. У гэтым храме рымскія пераможцы выстаўлялі rosta караблёў, служыўшых прадметам гледзішча для ўсіх народаў*». «*Зверху над фасадам Пантэона былі размешчаны два бронзавыя, вызалачаныя цяляці* (як у лягендзе пра Арона-Арыя). *Насупраць палаца Аляксандра знаходзіліся два храмы Флоры і Фебы. Ззаду палаца, дзе зараз змяшчаецца ракавіна-чарка, стаяў храм Белоны, на якім быў надпіс: Я раней быў старажытным Рымам: але зараз я буду звацца новым Рымам; із пылу адноўлены, я да неба ўзнясуся*».

Із гэтага бачна, што і храм Белоны быў пабудаваўшы ўжо ў Новым Рыме.

Помнікі, лічымыя зараз за класічныя, часта пазначаюцца ў «Дзівах Рыма» яшчэ імёнамі цэркваў, якія лічацца зараз пабудаванымі быццам бы на парэштках тых помнікаў. Як археалагічнае аднаўленне старажытнага горада, кніга «Мірабілій» з'яўляецца такім чынам лагічна і храналагічна злучанай з эпохай абвяшчэння рымскай гарадской рэспублікі ў XII стагоддзі.

З поўным усьведамленнем таго, што яго праца перасьледуе па-сутнасьці археалагічныя заданні, аўтар Мірабілій выказваецца:

«*Адпаведна нашым магчымасьцям, мы прыклалі намаганні пакінуць на памяць нашчадкам магчыма больш выразнае апісанне гэтых і шмат якіх іншых храмаў і палацаў, існаваўшых у Залатым горадзе пад час паганскага мперыяду і належаўшых імператарам, консулам, сенатарам і прэфектам, і ўсе гэтыя будынкі, зіхацеўшыя сваімі ўпрыгожваннямі із золата, срэбра і бронзы, са слановай косткі і каштоўных камянёў, мы апісалі такімі, як чыталі пра іх у* (неіснуючых нідзе) *старажытных хроніках, бачылі ўласнымі вачамі і чулі із паданняў*».

Так у XII стагоддзі і нават у XIII-XIV стагоддзях пачалі пашырацца (галоўным чынам самай царквой, каб прыцягнуць больш пілігрымаў) разнастайныя паданні пра «старажытны магутны Рым».

Ва ўсякім разе да Флавія Блонда, завяршыўшага гэтую чароўную казку, невядомы аўтар «Дзіваў горада Рыма» зрабіў першую спробу легендарызаванага апісання гістарычных будынкаў сярэднявечнага Рыма. Вядома, у кнізе Мірабіліі (гэтак жа, як і ва ўсіх іншых археалагічных дасьледаваннях) старажытны горад паўстае перад намі толькі ва ўяўленні аўтараў навейшага часу. Першыя ж друкаваныя выданні гэтай кнігі з'явіліся толькі на прыканцы XVII стагоддзя. Выданне Montfaucon'a дапасуецца да 1702 года. Пазнейшымі былі ў Effemeridi Literarie di Roma.. Потым іх выдалі Grasse, Hofler, Urlich і інш. А із рукапісаў, знойдзеных у розных бібліятэках, самымі старажытнымі лічацца: кодэкс каноніка Бенедыкта (Liber Polypticus), Codex Vaticanus пад № 3973 (Хроніка Рамуальда), Codex Ottobon. № 3057 (Codex Albinus). Дэ-Росі лічыць, што гэта першы адпаведна

[260] Г.азн. Бога-Бацькі. Нагадаем, што слова Зеўс з'яўляецца толькі элінізаваным лацінскім словам Дэус, дзякуючы чаму ў астатніх склонах і захавалася пачатковае d (родны дыяс, давальны дыё і г.д.).

з часам спіс. Існуе яшчэ шмат і іншых кодэксаў, але ўсе яны па-за межамі Італіяй і пазьнейшага часу. Выдадзены Л. Меркліным (Дэрпт, 1852) Anonimus Magliabecchianus XV стагоддзя ўяўляе кампілятыўную апрацоўку Reggionaria, Mirabilia і іншых тапаграфічных нататак. У нашай Акадэмічнай бібліятэцы кніга «Mirabilia Romae» e codicibus Vaticatiis emendata існуе ў выданні G. Parthey, 1869 года. Ім я і карыстаўся, як першакрыніцай пры апрацоўцы гэтай часткі свайго дасьледавання.

У Мірабіліях мы знаходзім легенды пра класічныя статуі, якія апісваюцца існаваўшымі яшчэ і тады ў Рыме ў поўнай цэласьці, як цалкам нядаўнія. Такой, напрыклад, з’яўляецца легенда пра мармуровую Венеру ў Рыме, якая выдатна характарызуе настрой тагачасных людзей. Нейкі юнак, жартам, надзеў мармуровай Венеры на палец пярсцёнак, і яна, – казалі, – як бы ў знак адбыўшыхся заручын, трымала з тых часоў гэты пярсцёнак на сваёй руцэ і не давала нікому яго зняць.



Мал. 128

Трыумфальная арка, напэўна, у адзнаку ўзяцця графам Балдуінам Эль-Кудса, званага хрысьціянамі Ерусалімам, у 1099 годзе нашай эры. Яна – кажуць нам – «адноўлена ў першапачатковай форме папай Піем VII (1800-1823 гг.) і на ёй зроблены надпіс: Senatus Populusque Romanus Divo Tito Divi Vespasianis Augusto (Сенат і народ рымскі Боскаму Ціту Боскага Веспасіяна Найяснейшаму).

Аўтарамі такіх легендаў пра статуі маглі быць аднолькава як рымляне так і чужынцы, і некаторыя із гэтых казак, без сумневаў, былі створаны ўзбуджанай фантазіяй паўночных пілігрымаў. Такой з’яўляецца гісторыя пра бронзавую статую на Марсавым полі, якая паказвала пальцам на зямлю і на галаве мела надпіс: «стукайся тут! (hic percute!)». Ён быў разгаданы – кажуць нам – толькі знакамітым папай Гербертам, які адкапаў тут цудоўны падземны палац, і абавязана сваім паходжаннем, бяспрэчна, нейкаму пілігрыму, трызніўшаму пра чароўныя скарбы старажытнага Рыма, быццам бы закапаныя ў зямлі.

Згодна са словамі «Мірабілій», Ромул паставіў у сваім палацы ўласную залатую выяву з такім выслоўем: «Не зваліцца, пакуль панна не народзіць», і гэтая статуя ўпала, як толькі нарадзіўся Хрыстос. Тамсама згадваецца легенда і пра

іншую статую, якая звярнулася з прамовай да імператара Юльяна, схіляўшагася да хрысьціянства, і пераканала яго вярнуцца да паганства.

Пазней легенда пра статуі на Капітоліі атрымала сувязь з цыклам паданняў пра «чараўніка Вяргілія». Твораў гэтага вялікага лацінскага паэта тады яшчэ не існавала, і «мы, – сведчыць Грэгарэвіус, – не змаглі б паказаць школу якога-небудзь граматыка, які выкладаў бы сваім вучням Энэіду ці Эклогі». Легенда пра Вяргілія, жыўшага пад час сярэдневечча, з’яўляецца ў нашы дні ўпадабаным прадмет дасьледаванняў і тлумачэнняў. Вядома, што ужо не раз некаторыя месцы ў творах Вяргілія нездарма лічыліся маючымі дачыненне да хрысьціянства. Такімі з’яўляюцца вядомыя вершы IV эклогі:

*Ultima Cumaei venit jam carminis aetas,*
*Magnus ab integro saeculam nascitur ordo.*
*Jam redit et Virgo: redeunt Saturnia regna,*
*Jam nova progenies caelo demittitur alto.*
*(Прыйшоў апошні тэрмін Кумейскім спевам,*
*Ад усіх стагоддзяў вялікае стагоддзе нарадзіцца,*
*Прыходзіць Панна, і Сатурна царства,*
*І новае дзіцё нам пасылае неба.)*

І калі царква паставілася да Вяргілія з павагай, бачачы і паэту новага Ісаю, то літаратурна-адукаваная публіка аж да Эпохі Адраджэння лічыла яго за філосафа, матэматыка і вялікага чараўніка. Так у французкім апавяданні мы знаходзім пра Вяргілія легенду пра тое, што ён, быдучы чараўнікам, узвёў для выратавання Рыма вежу, у якой знаходзіліся статуі гучаўшыя званочкам, калі Рыму дзе-небудзь пагражала небяспека. Згодна з іншым паданнем, гэтая вежа пад час дня зіхацела золатам, а ноччу асвятлялася яркай лямпай і была бачнай плывучым караблям. І ў ёй жа знаходзілася люстэрка, адлюстроўваўшае ў сабе ўсё, што адбываецца ў сьвеце, і яно ж выяўляла кожную варожую задуму супраць Рыма. Як запэўніваюць археолагі, вежа Франджыпані паблізу аркі Ціта (пасьля таго як яна, згодна з загадам Рыгора IV, была разбурана ў XIII стагоддзі) мела ў народзе назву «вежы Вяргілія», у ва ўсякім разе ён быў тады вядомы толькі ў якасьці чараўніка, а не паэта.

Да ліку цудоўных талісманаў Вяргілія, захаваўшыхся ў Рыме, належала, і так званая Bocca della verita (пашча праўды), якая знаходзілася, як сцвярджае легенда, у царкве Santa Maria in Cosmedino. У атрыуме гэтай базілікі і зараз яшчэ захавалася вялікая клаачная адтуліна, маючая выгляд маскі. Пад час сярэдневечча ў народзе існавала павер'е, што старажытныя рымляне, даючы клятву, павінны былі класьці руку ў адкрытую пашчу гэтай маскі, пыгатаванай Вяргіліем, і яна адкусвала руку таму, хто даваў ілжывую клятву, пакуль, нарэшце, цудадзейная здольнасць маскі не была разбурана адной хітрай жанчынай, вінаватай у парушэнні вернасьці чалавеку.

Пра ўсе гэтыя дзівы Вяргілія «Мірабіліі» ужо маўчаць і згадваюць пра яго толькі з наступнай нагоды:

«*На Вімінале стаіць царква св. Агаты, куды быў заняволены рымлянамі Вяргілій, які, аднак, зрабіўшыся нябачным, знік і збег у Неапаль; таму і кажуць: vado ad Neapolum*». Відаць, тут маецца на ўвазе легенда, у якой паведамляецца, як Вяргілій памчаўся на паветраным караблі ў Апулію із турмы, у якую ён быў заняволены імператарам, калі дазволіў сабе ў дзіўнай форме адплаціць адной рымлянцы за яе ганарлівасць. Дзякуючы таму, што пра гэтую легенду згадваецца толькі ў Мірабіліях, то патрэбна думаць, што рымляне XII і XIII стагоддзях ведалі не адну легенду пра Вяргілія, але і шэраг іншых.

Радзімай чараўніка Вяргілія лічыўся тады Неапаль, яго шануемы горад, дзе таксама знаходзілася і легендарная магільня Вяргілія. Ангелец Гервазій Тыльберыйскі, паведамляючы ў сваім творы Otia Imperialia прысьвечыным імператару Атону IV, пра розныя сусьветныя дзівы, з асаблівай цікавасьцю паведамляе пра дзівы, здзесненыя Вяргіліем у Неапалі. Ён уславіўся і тым, што стварыў Salvatio Romae, дзіўную дзяржаўна-паліцэйскую ўстанову. З дапамогай бронзавай мухі ён выгнаў із горада сапраўдных мух, зачыніў усіх змеі ў Капуанскую браму, пазбавіў з дапамогай бронзавага каня ўсіх коней ад прагінання спіны; кавалкам чароўнага мяса захоўваў мяса на рынку заўсёды свежым, засадзіў Гару Паннаў лекавымі травамі, із ліку якіх горны купальнік («барановая трава») вяртала сляпым авечкам зрок. З дапамогай бронзавай статуі, адлюстроўваўшай трубача ці стралка із лука, ён лавіў паўднёвы вецер і прымушаў Вязувій заставацца спакойным. Іншымі здзяйсненняміі Вяргілія былі: пабудова Castel dell Uovo з падмуркам у выглядзе пакладзеных адно на адно яек, пракопка падземнага ходу Пазіліпа і пабудова лекавых ваннаў у Путэолі, хаця карыстанне гэтымі ваннам і выявілася немагчымым, дзякуючы таму, што зайздрослівыя салернскіе лекары знішчылі ўсе тлумачальныя надпісы. Дзіваў у Вяргілія (імя якога азначае – Сын Панны, нагадваючы гэтым Хрыста) так шмат, што яны не саступаюць дзівам і самога евангельскага сына панны Марыі. Ці не аднаго паходжання абедзьве гэтыя легенды?

Канцлер Генрыха Конрад паведамляе з поўным перакананнем, – якое, вядома, падзялялася і яго імператарам, – што сам пераканаўся ў дзівах Вяргілія і сваімі вачамі бачыў, як ад костак паэта, выстаўленых на паветра, неба імгненна засьцілалася змрокам і на моры пачынаўся буран. Ліст Конрада да Генрыха Гільдэсгеймскага, утрымліваючы самыя непраўдападобныя апісанні і змешчанае, як рэдкая пярліна, у славянскую хроніку Арнольда, кладзе пачатак бясконцаму шэрагу падарожных нататак па Італіі. Конрад знаходзіць у Італіі і Парнас, і Алімп і радуецца, што Гіпакрэна, крыніца натхнення, цячэ зараз у межах Германскай імперыі, а далей – апісвае, як, ахоплены жахам, ён мінуў Сцылу і Харыбду, прыйшоў у захапленне, пабачыўшы тут жа Скірас, на якім Фетыда хавала свайго сына, героя Ахіла, лічыць тэатр у Таўраменіі за жудасны лабірынт Мінатаўра і знаёміцца ў Сіцыліі з сарацынамі, валодаўшымі вартай зайдрасьці, успадкаванай ад апостала Паўла, магутнасьцю, дзякуючы якой яны мелі здольнасць забіваць атрутных змей непасрэдна сваёй слінай.

Цікавае апісанне Рыма было зроблена і гішпанскім юдэем Веньямінам Тудэльскім, выкладзенае збольшага фантастычна, згодна з духам таго часу, і напісанае на жыдоўскай мове. За ўвесь перыяд сярэдневечча гэта адзінае дайшоўшае да нас апавяданне вандроўніка наведаўшага Рым.

«*Рым,* – піша Веніямін Тудэльскі, – *складаецца із двух частак. Іх падзяляе рака Тыбр такім чынам, што, стоячы ў нейкай адной частцы, можна бачыць другую. У першай частцы знаходзіцца самы вялікі храм. Па-рымску ён мае назву S. Petrus; тут жа стаіць* (а не стаяў!) *палац вялікага Юлія Цэзара, са шматлікімі пабудовамі цалкам не падобнымі на ўсе іншыя будынкі, існуючыя на сьвеце. Горад, месцамі ўяўляючы адны развалiны, месцамі заселены, мае ў акружнасьці 24 мілі. У ім 80 палацаў, 80 цароў. Пачынаючы ад Тарквінія і да Піпіна, бацькі Карла, забраўшага ад ізмаільцянаў Гішпанію і падпарадкаваўшага яе сабе, усе гэтыя цары зваліся імператарамі. На ўскраіне Рыма стаіць палац Ціта, якога адмовіліся сустрэць 300 сенатараў, таму што ён не выканаў іхны загад: захапіў Ерусалім не на працягу двухгадовага тэрміну, а толькі пасьля трэццяга года. Далей, можна бачыць яшчэ палац Веспасіяна, магутную і трывалую*

*пабудову, нагадваючую храм. Потым палац цара Галбіна, меўшы, адпаведна колькасьці дзён у годзе 360 залаў, і займаўшы па акружнасьці тры мілі. У гэтым палацы пад час адной із міжусобных войнаў было забіта звыш 100 000 ідумеян; іхныя косткі вісяць там да гэтага часу. Жадаючы, каб наступныя пакаленні назаўсёды захавалі памяць пра старажытную вайну, гэты валадар загадаў адвобразіць яе ва ўсіх падрабязнасьцях з дапамогай скульптуры. Высечаныя із мармуру выявы аднаўляюць некалькі бітваў і іхных удзельнікаў на конях, са зброяй і руках. Далей, там знаходзіцца падземная пячора, у якой паважна сядзяць на пасадах цар і царыца, і размешчана каля сотні статуй, якія пазначаюць усіх рымскіх цароў уключна да нашых дзён. У царкве св. Стэфана каля яго выявы ў сьвяцілішчы стаяць дзьве бронзавыя калоны, пабудаваныя царом Саламонам, спачыўшым у міры. На кожнай калоне існуе надпіс: «Саламон, сын Давыда». Жывучыя тут жыды паведамілі мне, што кожны год 9 ліпеня із гэтых калон як бы сачыцца вада. Тут жа знаходзіцца пячора ў якую Цітам, сынам Веспасіяна, былі пакладзены сьвятыя пасудзіны, узятыя із храма ў Ерусаліме. Існуе яшчэ іншая пячора ў гары паблізу ракі Тыбр. У ёй спачываюць 10 праведнікаў (ды будзе блаславёнай іхная памяць!), забітых пад час кіравання тыранаў. Перад Латэранскім храмам стаіць статуя, уяўляючая Самсона з каменным глобусам* (!) *у руцэ; потым статуя Авесалома, сына Давыда, і цара Кастуся, які пабудаваў горад Кастусю і назваў яго Канстантынопалем. Статуя гэтага цара, прыгатаваная седзячым на кані, зроблена із бронзы, але раней яна ўся была пазалочанай*».

Вось якімі з’яўляюцца нашы першакрыніцы пра старажытную гісторыі Рыма і апісанні яго помнікаў!

Падобныя паданні пра Рым, – паведамляюць нам, – існавалі быццам бы яшчэ з даўняй пары. Ужо ў VI стагоддзі, – пераконваюць нас, – армянскі біскуп Захарыя сцвярджаў, што ў Рыме Веспасіянам пастаўлены 25 бронзавых статуй жыдоўскіх цароў, а ў «Апісанні залатога гораду Рыма» («Graphia aureae urbis Romae») паведамляюць, што ў Латэране захоўваецца Майсеевы ківот запавета Госпада, сяміручная сьвяцільня і парэшткі Майсея і Аарона. Нават і ў Мірабіліях мы знаходзім апавяданне пра тое, як паблізу царквы св. Васіля (каля сьцяны форума Аўгуста) быў пабудаваны вялікі бронзавы стол, на якім па-грэцку і на-лаціне была напісана залатымі літарамі мірная дамова, некалі заключаная рымлянамі з Юдай Макавеем.

Шмат якія пабудовы, лічымыя класічнымі, тады былі проста прыватнай уласнасьцю. Вось, напрыклад, хаця б арка, зараз маючая назву імя Сэптымія Сявера.

У 1199 годзе Інакенцій III зацвердзіў за царквой св. Сергія і св. Вакха валоданне часткай гэтай аркі. «*Мы зацверджаем за вамі*, – абвяшчае була, – *палову ўсёй трыумфальнай аркі, складаючайся із трох асобных арак, – менавіта адну із двух арак меншай велічыні* (над якой узведзена адна із веж), *стаячую бліжэй да вашай царквы, і палову ўсёй сярэдняй аркі з камерамі, прылягаючымі да меншай аркі*». А далей паведамляецца, што другой палавінай аркі валодаюць спадчыннікі нейкага Тыміна.

Мы бачым, што гэтая трыумфальная арка належала тады двум розным сямействам і мела тады зверху вежу. Розныя казачныя апавяданні пра дзівы ў Рыме змяшчаюцца таксама і ў Guidi у «Descrizionc di Roma nei geographi arabi»[261].

Царква прызнавала тады сваёй уласнасьцю замак св. Анёла і Пантэон. І вось па велічных «сьценах Аўрэліяна» мы знаходзім нароўні з імёнамі класічных імператараў і консулаў і імёны сярэднявечных сенатараў часоў Барбаросы... Якім жа надпісам верыць? Якія із іх лічыць за сапраўдныя? У 1157 годзе сенат аднавіў частку сьцяны паблізу Porta Metrobia, і ў наш час у гэтым месцы на вежы Мараны

[261] Arch. d. Societ. Rom, V. I, p. 174.

яшчэ можна бачыць дошку з надпісам, у якім усё гэта паведамляецца і потым пералічаны імёны сенатараў, быўшымі тады кіраўнікамі. Гэты сенатарскі надпіс самы старажытны і адзіны ў Рыме.

Але мы маем яшчэ і іншае, больш выдатнае сведчанне пра сенат у XII стагоддзі. 27 сакавіка 1162 года рымскі сенат пастанавіў зрабіць захады да захавання таго, што ён палічыў за калону Траяна, «*каб яна ніколі не магла быць разбурана ці пашкоджана і, застаючыся недатыкальнай у яе сучасным выглядзе, служыла б заўсёды да славы рымскага народа, пакуль існуе сьвет. Тот, хто адважыцца зрабіць ёй шкоду, будзе пакараны сьмерцю, а маёмасць яго будзе канфіскавана*».

Але гэты помнік вялікім ваярскім здзяйсненням Траяна ў той час належаў жаночаму кляштару св. Кірыяка, і рымскі сенат не знаходзіў у гэтай акалічнасьці нічога дзіўнага. Ён прызнаў за кляштаром права валодання калонай і размешчанай каля яе невялікай царквой св. Мікалая. Другая калона, якой далі імя Марка Аўрэлія, належала мужчынскаму кляштару св. Сільвестра in Capite. Надпіс, размешчаны на атрыуме гэтага кляштара, паведамляе:

«*Бяручы да ўвагі тое, што калона Антаніна, належачая кляштару св. Сільвестра, і размешчаная каля яе царква св. Андрэя з даруначнымі прынашэннямі пілігрымаў у верхнім і ніжнім ахвярніках, ужо з даўняй пары арэнднымі дамовамі перадаваліся ў пабочныя рукі, то мы, жадаючы, каб гэтае адчуджэнне ніколі больш не паўтаралася, уладай св. апостала Пятра і св. Стэфана, Дзіянісія і Сільвестра, праклінаем і аддаём анафеме манахаў і абатаў, калі яны адважацца здаць у арэнду калону і царкву ці саступаць іх у выглядзе бенефіцыі. І калі некаму заманецца забраць у нашага кляштара гэтую калону гвалтоўна, то ды будзе пракляты, як рабаўнік царквы, і навекі аддан анафеме. Няхай будзе так! Пастаноўлена ўладай біскупаў і кардыналаў у прысутнасьці шмат каго са сьвятоў і парафіянаў. Склаў і засьведчыў Пятро, літасьцю бога пакорлівы абат кляштара, супольна з брацiяй, у лета ад Нараджэння Хрыста 1119 пад час XII індыктыёна*».

Але дзеля чаго ж, – запытаеце вы, – гэтыя аркі і калоны здаваліся ў арэнду, як прыбытковыя пабудовы? – Адказ тут можа быць толькі адзін: яны прыносілі нейкі прыбытак сваім валадарам, а гэта азначае, што і легенды пра іхнае старажытнае паходжанне складаліся з карысьлівай мэтай. Якім было іхнае ўжыванне – я не магу адказаць, але без сумневаў яно засноўвалася на нейкіх забабонах...

І цалкам зразумела, што пры моцным жаданні знайсьці ў кожным помніку, мінулае якога ўжо забыта, класічныя парэшткі, аматары старажытнасьці прыходзілі да таго, што пры рэстаўрацыі рабілі на ім і надпісы, адпавядаючыя сваім здагадкам. Такім шляхам мог узнікнуць і надпіс на арцы Ціта.

Пасьля дасягнення незалежнасьці, рымляне пачалі ставіцца да сваёй старажытнасьці з асобным захапленнем. У нобіляў з'явілася жаданне самім уславіцца з дапамогай узвядзення пабудоваў і тым спрыяць упрыгожванню горада. Менавіта з гэтай мэтай была ўзведзена на масту сенатараў (ponte Rotto) вежа, якая ў больш позьнія часы сярэдневечча атрымала назву Manzone, у народных жа паданнях вядомая да сучаснасьці пад найменнем сядзіба Пілата ці сядзіба Кола дзі Рыенца. Захаваўшыяся парэшткі гэтай вежы, пабудаванай із трывалай цэглы, з'яўляюцца ў наш час адным із самых выдатных помнікаў старажытнай архітэктуры прыватных пабудоваў Рыма часоў сярэдневечча. Звонку яна была ўпрыгожана статуямі, грубыя паловукалоны із цэглы падтрымваюць фрыз, ўяўляючы самую разнастайную сумесь разетак із мармуру, арабесак і невялікіх міфалагічных рэльефных выяваў. У нішы, уладкаванай у вонкавай сьцяне каля ўваходу, спачатку

знаходзіўся бюст будаўніка (гэта азначае, тады ў Рыме выраблялiся і бюсты). Пазней гэты бюст знік і захавалася адно толькі пасьвячэнне, выкладзенае высакамоўным стылем.

У іншым вялізным надпісе, напісаным леанінскімі вершамі, так іменаваны будаўнік і яго сямейства:

«*Велічная сядзіба гэтая ўздымаецца да зорак. Яна ўзведзена першым із першых, вялікім Мікалаем, пажадаўшым аднавіць славу сваіх продкаў. Яго бацька меў імя Крэстэнцый, маці Теадора. Гэтая знакамітая сядзіба пабудавана бацькам для свайго другога дзіцяці Давыда*».

І вось без якой бы то ні было падставы стварылася здагадка, быццам гэтым будаўніком быў адзін із Крэстэнцыяў: вялікі Мікалай і нават менавіта той знакаміты Крэстэнцый, які жыў у часы Атона III! Добра яшчэ, – дададзім мы, – што не Мікалай Мірлікійскі.

Ад гэтай пабудовы «ацалелі да гэтага часу толькі нікчэмныя парэшткі, якія зараз прыстаўваны пад стайню і вышкі».

Жывапісцы ў той час, відаць, ужо карысталіся дабрабытам і пашанай. Так у 1148 годзе нейкі маляр Бентывенга быў нават сенатарам.

У гэты ж час у Рыме мела шырокую вядомасць сям'я скульптараў-мастакоў, якую ачольваў Ranucius. Імі былі выкананы мазаічныя працы ў цэркве Santa Maria di Castello in Corneto. Потым каля 1180 года набываюць вядомасць Космацi, сям'я яшчэ больш знакамітых мастакоў-скульптараў XII ст. Такімі былі першыя крокі мазаікі, пачаткам для якой паслужыла так званае opus Alexpndrinum, г.азн. мазаістае аздабленне цэркваў, пры якім ужываліся кавалачкі каляровага мармуру. Такія творы зводзіліся да архітэктурных упрыгожванняў і выраблялiся каменячосамі. На Латэранскім пляцы, – як піша ў сваім апісанні Веньямін Тудэльскі, – стаяла конная статуя Марка Аўрэлія. Згодна з загадам Клімента III перад ёю быў пабудаваны фантан, і Рыкабальд сведчыць, што Клімент III загадаў выліць яе із бронзы і паставіў у Латэране. Гэтае сведчанне Рыкабальда існуе і ў Muratori (IX, 178), і яго дарэмна лічаць памылковым.

Такімі былі на світанні нараджаўшагася мастацтва яго першыя прадстаўнікі, ганарліва называўшыя сябе майстрамі мармуровых вырабаў (marmorarii) і навучанымі рымскімі майстрамі (doctissimi magistri Romani). Размяшчаючыся ў сваіх адасобленых майстэрнях, яны, сярод шуму і бедстваў міжусобных войнаў, стварылі ўсю класічную скульптуру. Іхнае майстэрства пераходзіла ад бацькі да сына і ўнука, і паступова развівалася, ствараючы школы. Пачынаючы ад паловы XII стагоддзя рымскія скульптары пачалі атрымліваць усё больш і больш заказаў, дзякуючы таму, што амаль усе папы без выключэнняў ўжо клапаціліся пра ўпрыгожванне цэркваў статуямі.

Люцый II пабудаваў нанова царкву св. Крыжа (S. Croce). Яўген II аднавіў царкву Santa Maria Maggiore і ўпрыгожыў яе порцікам. Вялікія пантыфексы, так жа як і кардыналы, будавалі і палацы. Так Анастас IV узвёў палац паблізу Пантэона, а Яўген III – палац у Сянье, дзе меў сваю рэзідэнцыю. Яўген III павялічыў колькасць пабудоваў і ў Ватыкане. Існуе меркаванне, што менавіта гэтыя абодва пантыфексы паклалі падмурак і Ватыканскаму палацу.

Такім чынам на прыканцы XII стагоддзя ў Рыме назіраецца абуджэнне мастацтва, цесна злучанае з узнікненнем яго па ўсёй Італіі. І цалкам зразумела з эвалюцыйнага боку гледжання, што перадусім тут патрэбна шукаць стваральнікаў

усіх тых выдатных статуй і скульптур із мармуру, якія дапасуюцца да глыбокай – занадта глыбокай! – старажытнасьці...

# Частка дзевятая.

Папскі Рым.



Мал. 129
Выгляд базілікі св. Пятра ў Рыме закладзенай, згодна з легендамі, яшчэ Кастусём Вялікім, але фактычна даведзенай да сучаснага выгляду вялікімі пантыфексамі і папамі пад час розных стагоддзяў, аж да нядаўніх.

## Глава I.

## Гвельфы і гібеліны. Першыя ўплывы евангельскай ідэалогіі на насельніцтва Заходняй Яўропы.



Мал. 130
Папа на шпацыры.

Папярэднічаўшым нарысам мы маглі б і закончыць наш агляд рэчаіснай гісторыі горада Рыма пад час сярэдневечча, калі б шмат якія із апакрыфікаваных у старажытнасьць класічных помнікаў лацінскай навукі, мастацтва і літаратуры не належалі да больш пазьняй эпохі, чым XII стагоддзе. Пагэтаму ўзнікае патрэба разгледзець і так званую Эпоху Гуманізму, няправільна называемую Рэнесансам, таму што яна нічога не аднаўляла, а ўсё стварыла сама, хаця і апакрыфічна ад імя ўяўляемых старажытных славутасьцей.

«*Пасьля рыцарскага і рэлігійнага натхнення XII стагоддзя мы бачым выяву Заходняга чалавецтва, вядучага гарачае змаганне за сваё грамадзянскае ўладкаванне і ужо карыстаючагася шматлікімі новымі дабротамі жыцця, дзякуючы працы, ведам і мастацтву. Старажытная германская Рымская імперыя знікае разам з Гагенштаўфенамі з гістарычных падмосткаў, пакідаючы ў Італія вольнае месца для самастойных нацыянальных дзяржаваў. Трынаццатае стагоддзе з'яўляецца часам вялікага змагання за волю супраць састарэлай легітымнасьці, час буржуазнай рэвалюцыі супраць феадальнага дваранства, дэмакратыі супраць імператарскай манархіі, царквы супраць імперыі, вольнай думкі супраць царквы*».

Так пачынае Грэгарэвіус дзявятую кнігу сваёй «Гісторыі горада Рыма пад час сярэдневечча», і, не будучы здольным лагічна абгрунаваць нагоду ўзнікнення **старажытнага** рэспубліканскага Рыма, ён выдатна абгрунтоўвае падставы **новага**.

«*Гэта,* – кажа ён, – *была перамога капіталізма над феадалізмам, набыццё жыццёвых даброт дзякуючы ведам і працы, стварэнне нацыянальных культур. Доўгім працэсам утварыўшыяся магутнасьці свецкага грамадства патрабавалі для сваёй аховы афармлення, дзе яны б мелі магчымасць назапашвацца і існаваць. Такімі месцамі і былі вольныя гарады, лепшае стварэнне сярэднявечча, у якіх адбывалася бесперапынная выпрацоўка новай культуры*».

Утварыліся хаўрусы гарадоў, але злучэнне іх у адзін замацаваны агульнай дамовай італійскі хаўрус пад вяршэнствам Рыма зноў выявілася немагчымым, дзякуючы яго нязручнаму для гэтага геаграфічнаму месцаванню.

Пачалося змаганне гвельфаў, абаронцаў свецкай улады папаў над усім сьветам, з гібелінамі, абаронцамі ўсяго сьвету ад свецкай улады папаў з дапамогай імператарскай улады, і гэтае змаганне дало пачатак, як я ўжо казаў, легендам пра

грацыяў і курыяцыяў[262]. Не царква перашкодзіла аб'яднанню італійскіх гарадоў, заснаваўшы французкую манархію, а фізічная немагчымасць наладзіць у Рыме сталіцу моцнай дзяржавы. Італійскія гарады запалі ў стан замкнёнай адасобленасьці. Пасьля заканчэння сусьветнага змагання паміж царквой і імперыяй і не знаходзячы цвёрдага апірышча ў горадзе Рыме, яны не шукалі іншага цэнтра дзякуючы яго папулярнасьці і таму накіравалі назапашаныя ў іх магутнасьці на спусташаючыя паміж станавыя вайны, якія непазбежна прывялі да валадарства спачатку натоўпы, потым гарадзкіх тыранаў і, нарэшце, дробных валадарачых князькоў, із якіх і былі спісаны класічныя дэмагогі і тыраны.

У горадзе Рыме муніцыпальнае ўладкаванне выявілася падобным жа. Не будучы здольным і зараз, як і на працягу ўсіх ранейшых часоў, узвысіцца да сталіцы сьвету (urbs orbis) ці зрабіцца кіраўнікам хаўрусу італійскіх гарадоў, ён абмежаваў сваё славалюбства валадараннем у межах рымскага герцагства вакол Капітолія. Нават у тыя часы калі германская Рымская імперыя знясілілася да таго, што ад яе застаўся толькі цень, а царква дасягнула сваёй вялікай мэты зрабіцца сусветным апекуном, рымляне нязменна накіраўвалі свае позіркі на шэрыя сьцены Капітолія, зачыняючы свае брамы як папам, так і імператару, і думалі толькі пра лепшае ўладкаванне сваёй суполкі. Так, папства, быўшае ў XIII стагоддзі на вяршыні сваёй сусьветнай магутнасці, было ў той жа час цалкам нямоглым ў Рыме, а Рым па-ранейшаму быў не ў стане зрабіцца магутным горадам сярод сваіх балот.

На пачатку і пад канец гэтага вялікага стагоддзя стаяць Інакенцій III і Баніфацый VIII, як памежныя слупы самага важнага перыяду гісторыі сярэднявечнай культуры, якія разам з тым пазначаюць найвышэйшы ўздым і пачатак знясілення папства ў цэлым.

8 студзеня 1198 года папай быў абраны кардынал Лотар, які набыў імя Інакенція III. Падкуплены яго грашовымі гасьцінцамі, рымскі народ адрокся нават ад важнага права вольнага абрання сенатараў, якое Інакенцій прызнаў папскім прывілеем.

Але было б памылкова думаць, што пасьля гэтага папа набыў неабмежаваную каралеўскую ўладу над Рымам. Усе папы той эпохі прызнавалі горад Рым не толькі за грамадзянскую, але і за палітычную, аўтаномную ўладу. Тая акалічнасць, што пад час першай паловы XIII стагоддзя вельмі шмат хто із рымлян выпраўляліся консуламі ў чужыя гарады, даводзіць, якой магутнасьцю валодала тагачаснае рымскае дваранства і якой павагай яно карысталася. Шмат што адбывалася цалкам так жа, як апісана ў біблейскай кнізе Макавеі, само імя якіх у перакладзе азначае Молаты, на-лаціне Мартэлы, г.азн. як быццам бы нашчадкі Карла Мартэла (715-814гг.). Гарады, знаходзіўшыяся большай частай у абарончым хаўрусе з Рымам, нярэдка выпраўлялі ўрачыстыя амбасады да рымскага народа, каб папрасіць сабе ў яго ў якасьі кіраўніка шляхетнага рымляніна. Шэраг такіх падэстаў, якія ва ўсіх актах называюць сябе рымскімі консуламі (Consules Romanorum, з якіх спісаны і класічныя консулы), пачынае сабой ўжо ў 1191 годзе Стэфан Карцула. За ім ідуць ў 1199 годзе Ян Капочы, абодва ў Перуджы, і Пятро Парэнцыус у 1199 годзе ў якасьці консула ў Арвіета, дзе ён быў забіты прыхільнікамі гібелінскай партыі.

Галоўная ўвага Інакенція адразу ж была накіраваа на наваколлі горада. Земляробчы Лацыум, не меўшы, як і ў наш час, ні гандлю, ні прамысловасьці, быў

[262] Гарацыі азначае – горцы, а курыяцыі – царкоўнікі, ад curia царква, таго ж кораня як грэцкае кюр – спадар.

тады пераважна месцазнаходжаннем буйных і дробных зямельных баронаў, таму што значных гарадоў там не было. Вялікая частка тамтэйшых населеных месцаў уяўляла сабой лапікі зямлі, абнесеныя сьцяной (Castra) з умацаваннем на скале (Rocca ці Arx), пераважна сатурнінснага тыпу, утвораных із колаў цыклапічных камянёў. Там і жыў барон ці яго намесьнік, ці папскі кастэлян, тады як прымацаванае да зямлі працоўнае насельніцтва жыло каля падэшвы скалы, скучанае на яго зямлі. Нават і ў наш час у лацінскіх горных мясцовасьцях існуюць старажытныя паселішчы, маючыя назву Rocca. Кіраваўшы там гаспадар быў маленькім дынастам у сваёй акрузе, уладальнікам зямлі і валадаром над жыццём і сьмерцю людзей, жывучых на яго зямлі, тыповым гарацыем (ад грэцкага **гора**, па-руску гара).

Вандраванне Інакенція III па Лацыуму мела на мэце зацьвердзіць тамтэйшых васалаў і гарады ў вернасьці рымскай царкве, і ён дасягнуў гэтага.

Але больш усяго папства падтрымлівалі аддаленыя краіны. Спрэчка за германскі пасад была канчаткова вырашана Інакенціем на вялікім саборы 11 лістапада 1215 года ў Латэране. Адвакаты Атона і прадстаўнікі Фрыдрыха выслухалі рашэнне, якое першым было аспрэчана, а апошні прызнана. Больш за 1 500 прэлатаў із усіх хрысьціянскіх краін, разам з князямі і пасланцамі каралёў і рэспублік, схілілі калены перад самым магутным із папаў, сядзеўшым зараз на сусьветным пасадзе, як валадар усёй Яўропы. Гэты сабор, апошні ўрачысты акт Інакенція III, быў паказчыкам вялізнай і новай магутнасьці, якую набыла ў Заходняй Яўропе хрысьціянская царква. Папства пры Інакенцію III дасягнула недасягаемй вышыні, на якой яно, вядома, не магло ўтрымацца, таму што знаходзілася ў супярэчнасьці з асноўнай крыніцай сваёй уласнай евангельскай ідэалогіі і таму натуральна адразу ж пачалі ўзнікаць секты.

Вучэнне пра абсалютную беднасць, як пра адзіны праўдзівы накірунак пасьлядоўнікаў Хрыста, складала дагматычнае ядро ерэтычных вучэнняў таго часу, і ўжо гэта адно сведчыць пра тое, што Евангеллі пашырыліся на Захадзе Яўропы не за 1000 гадоў да таго. Ліёнскія беднякі ці Вальдэнцы ўяўлялі асаблівую небяспеку для царквы, таму што іхнае аскетычнае вучэнне якраз і было евангельскім і давала ворагам пантыфікальнай манархіі вострую зброю. Папства зразумела, што яно хутка апынецца ў вельмі небяспечным становішчы, калі не прысвоіць і сабе патрабаванні хрысьціянскага самаадрачэння. І вось із асяроддзя царквы раптам з'явіліся два апосталы той жа беднасьці – Францыск і Дамінік. Стаўленне іх да царквы адлюстравана ў лягендзе пра сон папы, які пабачыў, што падаючы Латэран быў падтрыманы дзвума звычайнымі людзьмі, у якіх ён, прачнуўшыся, пазнаў гэтых двух сьвятых. Але яны былі вельмі рознымі.

Францыск быў сынам заможнага купца ў Асізі, дзе ён нарадзіўся ў 1182 годзе і, начытаўшыся яшчэ свежых тады Евангелляў, апрануўся ў лахманы. Над ім смяяліся, звалі вар'ятам, але хутка, начытаўшыся згодна з яго ж рэкамендацыяй тых жа Евангелляў, іншыя юнакі пайшлі следам за ім, і ён заснаваў грамадзкую сядзібу ў капэле Партыкула, каля Асізі, і евангельскі наіўны заклік «адрачыся ад усяго, што маеш, і ідзі за мной» прагучаў на вуліцах паміж энтузіястамі беднаты, намерыўшыхся літаральна выканаць гэты запавет.

«*Загадкавае імкненне да містычнага братэрскага хаўрусу, асноўным пастулатам якога было адрачэнне ад уласнасьці, сродкам для жыцця – прынашэнні* (із рук не адмовіўшыхся ад яе) *і ўпрыгожваннем – жабрацкае адзенне,* – сведчыць Грэгарэвіус (IX,3), – *з’яўляецца адной із самых незвычайных з'яваў заканчэння сярэднявечча*», і яно, –

дадаю я, – назаўсёды застанецца загадкавым, калі мы не будем лічыць, як я паказаў у першым томе «Хрыста», што і самі Евангеллі ўзніклі пад час сярэдневечча і былі перакладзены на лацінскую мову не за тысячу гадоў да Францыска.

Францысканцы пасяліліся ў Рыме ў 1229 годзе ў шпіталі С. Блазіо, потым Інакенцій IV, які не мог ім супрацiўляцца відавочна, таму што сам прызнаваў Евангеллі, перадаў ім у 1250 годзе кляштар св. Марыі ў Ара-Чэлі, таму што яны, вядучы жабрацкі лад жыцця, не заміналі яму, як іхнаму апекуну, імкнуцца да свецкага панавання над сьветам. Але яшчэ больш ён быў задаволены, калі кастыліянец Дамінік дэ-Калагора пажадаў у 1205 годзе, падчас вандравання па паўднёвай Францыі, прысьвяціць сваё жыццё схіленню да пантыфікальнага пасаду тых самых ерэтыкоў, якія паўставалі на яго ў імя евангельскіх ідэалаў.

Інакенцій лепш зразумеў практычныя погляды гэтага палымянага прапаведніка супраць сваіх супернікаў, чым летуценні Францыска, і схіліўся да прызнання ордэна з адпаведным статутам. Але сьмерць перашкодзіла яму ў гэтым, і толькі 22 снежня 1216 года Ганорый III зацвердзіў ордэн дамініканцаў у той час, калі Дамінік дэ-Калагора быў зноў у Рыме. Ён даў братам прапаведнікам (frates praedicatores) права духоўнага пастырства і павучання ва ўсіх краінах, і вельмі хутка ордэн дамініканцаў зрабіўся грозным тым, што захапіў у свае рукі інквізіцыю, напачатку разам з францысканцамі, а пазней адзін.

Гэтыя два ордэны былі цалкам іншымі, чым ранейшыя. Ранейшыя засноўвалі абацтвы, дзе іхныя сябры займаліся навукамі ў стане заспакаення, а іхныя абаты ў якасьці імперскіх ці ленных князёў, кіравалі васаламі. А новае манаства размясьцілася ў гарадзкім асяроддзі, у народным натоўпе. Яно таксама прымала да сябе не толькі манахаў, але і парафіянаў, у форме так званых тэрцыярыяў. Старажытныя ордэны былі арыстакратычнымі і феадальнымі, а Францыск і Дамінік дэмакратызавалі манаства і ў гэтым была падстава іхнай папулярнасьці. Народ бачыў, як пагарджаемая беднасць была ўпершыню ўзведзена імі на ахвярнік і пастаўлена ў ззянні нябеснай славы. Таму прыток бядноты да новых ордэнаў быў вельмі вялікім. Ужо ў 1219 годзе Францыск змог налічыць на агульным сходзе ў Асізі 5 000 братоў, ішоўшых за яго ордэнскім сьцягам. Заснаванне жабрацкіх кляштароў хутка зрабілася ў гарадах такой важнай акалічнасьцю, якой у наш час магло б быць хіба што ўладкаванне нейкага адкрыцця, перамяняючага ўмовы жыцця. Багатыя і бедныя далучаліся да гэтых ордэнаў, і паміраючыя ўсіх санаў жадалі быць апранутымі ў рызу сьвятога Францыска, каб больш надзейна патрапіць у рай.

Жабруючыя манахі мелі ўплыў ва ўсіх пластах грамадства. Толькі зараз, а не пад час першых стагоддзяў нашай эры, пашырылася евангельскае хрысьціянства. Але да чаго ж яно прывяло? Яны канчаткова адціснулі белае адружанае сьвятарства ад споведзяў і павучанняў. Яны заселі ў калегіі кардыналаў і рабіліся папамі. «*Іхны голас*, – сведчыць Грэгарэвіус (IX, 3), – *пракрадаўся ў самае ціхае сямейнае жыллё, на сходы гараджанаў і да бліскучага двара, дзе даходзіў да вушэй караля, якога яны былі спаведнікамі і дарадцамі; ён чуўся ў залах Латэрана і ў бурных парламентах рэспублік. Яны ўсё бачылі і ўсё чулі. Яны вандравалі па краіне, па-евангельску, «без кія, без торбы, без хлеба, без грошай» і басанож. Але гэтыя натоўпы жабракоў былі ў той жа час арганізаваны ў сотнях новых кляштароў, размеркаваных па правінцыях. Яны кіраваліся адной ўладай – генералам, згодна з загадам якога кожны із братоў быў готавы зрабіцца місіянерам і пакутнікам, прапаведнікам крыжовага ці караючага паходу, сусьветным суддзём, збіральнікам войска для папы, суддзёй ерэтыкоў і*

*інквізітарам, таемным пасланнікам і шпіёнам, самым строгім зборшчыкам і спаганяльнікам разнастайных набораў і дзесяцін для Латэранскай касы*».

Рымская царква выкарыстала дэмакратычны накірунак гэтых ордэнаў, спрыяўшых яе збліжэнню з простым народам і цалкам вызваліўшыхся ад нагляду свецкага сьвятарства і біскупаў. Папы паступова ўтварылі з іх гатовае да змагання войска, утрыманне якага ім нічога не каштавала. Перакананне ў боскай уладзе папаў тысячамі шляхоў прыносілася гэтымі жабруючымі манахамі ў сьвядомасць заходнееўрапейскага насельніцтва, якое, пад уплывам наданых Евангеллямі пакут сумлення, летуценнасьці, зычлівасьці, адданасьці і самаахвяравання, схілялася ў церпялівым паслушэнстве перад загадамі бязгрэшнага папы.

Аднак дэмакратычная прырода францысканцаў цяжка паддавалася кіраванню. «*Іхны містыцызм пагражаў ператварыцца ў ерась, і апостальскі прынцып беднаты ставіў царкву не адін раз у небяспечнае становішча. Ордэн раскалоўся ўжо хутка пасьля сьмерці яго заснавальніка, бо адна партыя, больш умераная, кіраўніком якой быў Фра Эліа, найбольш паважаемы із вучняў сьвятога, патрабавала дазволу, пры вядомых умовах, на права карыстання прыбыткамі ад маёмасьці. Запаветы жабрацкай беднаты пярычылі законам чалавечай прыроды, якая практычна можа выяўляць сваю жыццёвую і ствараючую магутнасць толькі ў маёмасных дачыненнях, і вось, заснавальнік жабрацкага ордэна ўжо спачываў у саборы, блішчэўшм золатам і мармурам. Яго бедныя дзеці хутка наладзілі сабе прыемнае жыццё ў забяспечаных маёмасьцю кляштарах усяго сьвету, а бедната засталася за варотамі іхных кляштароў*».

Але ўсё ж із попелу набожнага сьвятога ўзнікла і больш строгая партыя, вызначаўшаяся ўзнёслай захапляльнасьцю. Яна абвяшчала прынцып абсалютнай адсутнасьці маёмасці не толькі сярод сваіх свецкіх братоў, але і ў асяродзі самай сьвета-дзяржаўнай царквы. Евангеллем гэтай «Секты сьвятога духа», ці спірытуалаў, былі павучанні калабрыйскага абата Іякіма дэ-Флора, які лічыў існаваўшую да таго часу царкву толькі пярэдаднем да царства сьвятога духа. Гэтыя мужныя манахі мелі адвагу думаць, што Францыск павінен заняць месца апосталаў, а іхнае манаскае царства – месца папскага, каб пачаць падказанае стагоддзе сьвятога духу, з якім не будуць злучаны ніякія формы агульнага сужыцця, ніякага кіравання, нічога «твайго і майго».

Так моцна Евангеллі тады ўздзейнічалі на людзей, у якіх яшчэ не было іншага чытання! І хіба можна нават падумаць, што гэтыя парасткі выраслі толькі праз 1200 гадоў пасьля іхнага пасеву? Якое заўгодна насенне высахла б за такі час і скамянела. Нішто больш красамоўна не можа давесьці пашырэнне «першых сентыментальных раманаў» на захадзе Яўропы толькі ў XII-XIII стагоддзях, як гэтыя жабруючыя ордэны і крыжовыя паходы.

Але вернемся да Рыма.

Стары кардынал Чэнчыус Савелі стаў наступнікам Інакенція пад імем Ганорый.

Адзінае жарснае жаданне перапаўняла яго душу, гэта – ажыццяўленне абвешчанага Інакенціем III крыжовага паходу ў Палестыну, на чале якога ён спадзяваўся бачыць Фрыдрыха. Але перш чым ён запрасіў апошняга ў Рым для ўкаранавання, ён 9 красавіка 1217 года каранаваў Пятра дэ-Куртэнэ ў якасьці візантыйскага імператара, што надало новы бляск царкве, якая з гэтага часу спадзявалася мець у сваім ленным валоданні кароны Ўсходу і Захаду. Французкі граф заклікаўся лацінскімі баронамі на латынізаваны зараз Канстантынопальскі пасад у якасьці чалавека Іяланты, сястры другога франкскага імператара Візантыі,

Генрыха, у асобе якога 11 чэрвеня 1216 года загасла мужчынская лінія фландрскіх графаў. Пятро прыбыў у Рым са сваёй жонкай, чатырма дочкамі і вялікай сьвітай і атрымаў у Рыме карону з рук папы.

А Фрыдрых не выканаў свайго абяцання і толькі са смехам глядзеў на дзіўны крыжовы паход некалькіх тысяч дзяцей, сведчыўшы не столькі пра нязменнасць імкнення рыцарства на Ўсход, колькі пра хваравітае перараджэнне крыжовых паходаў.

Ганорыю III успадкоўваў чалавек моцнага характару, Гуголін, астыйскі кардынал-біскуп, абраны 19 сакавіка 1227 года пад імем Рыгора IX. На трэцці дзень пасьля свайго пасьвячэння ён апавясьціў пра сваё абранне Фрыдрыха, і разам з тым, запатрабаваў ад яго выступлення ў крыжовы паход. Фрыдрых выступіў, але, захварэўшы на моры, загадаў сваёй галеры вярнуцца і зноў высадзіўся ў Атранта. Разгневаны папа падняўся ў поўным убранні на катэдру сабора ў Ананні і абвясьціў адлучэнне імператару, а стаячыя шэрагамі па баках галоўнага ахвярніка сьвятары пакідалі на зямлю быўшыя ў іхных руках запаленыя свечкі ў якасьці адзнакі грознасьці гэтага акта.

У сваім агульным лісьце да ўсіх біскупаў, Рыгор намаляваў самымі чорнымі фарбамі няўдзячнасць Фрыдрыха і гэта заахвоціла імператара да такога ж бязлітаснага адказу. Прадстаўнік вышэйшай дзяржаўнай улады выставіў заганы царквы на абмеркаванне ўсяго сьвету і падзяляў думкі ерэтыкоў пра неапостальскія паводзіны папаў. І сьледам за тым ён выступіў у крыжовы паход, застаючыся пад адлучэннем. Калі 28 чэрвеня 1228 года Фрыдрых із Брындызі выйшаў у мора, царква суправаджала яго гнеўнымі словамі, што ён выпраўляецца ў Ерусалім як «пірат», а не як крыжак. Замест дабраславення яму спадарожнічаў царкоўны праклён, які сустрэў яго нават каля ўяўляемай там «труны Ратавальніка». Але Фрыдрых не звярнуў на гэта ніякай увагі. 18 сакавіка 1229 года ён уласнаруча надзеў у Ерусаліме карону на сваю галаву. Дзякуючы дамове з султанам ён вярнуў хрысьціянам гэты горад і, нечакана прыбыўшы 10 чэрвеня ў Брындызі, выгнаў папскае войска са сваіх уладанняў.

Збегшы Рыгор IX усю зіму правёў у Пяруджы, не выказваючы жадання вярнуцца ў Рым. Але раптам 1 лютага 1230 года Тыбр выйшаў із берагоў, Леаніна і Марсава поле былі затоплены вадой, Сенатарскі мост быў знесены і паводка мела наступствам голад і павальныя хваробы. Рымляне, якія за час доўгага выгнання папы забыліся пра яго, зараз пад уплывам забабоннага жаху згадалі, што «сьвяты бацька з’яўляецца валадаром іхнай вобласьці». У Пяруджу спешна выправіліся пасланнікі. Яны кінуліся ў ногі папе і прасілі яго даравацць зрабіўшы памылку народ і вярнуцца ў асірацелы, горад, каб бог перастаў яго караць.

# Глава II.

## Пачатак інквізіцыі.

Рыгор знайшоў Рым у стане глыбокай галечы, даканцова адзічэлым і напоўненым «ерэтычным пустазеллем», да якіх часткова схілялася нават сьвятарства. Ён загадаў аднавіць Сенатарскі мост, ачысціць клаакі, падвезьці хлеб, раздаваць народу грошы і пабудаваць багадзельню ў Латэране. Гэта схіліла да яго масы і адблегчыла яму нанесьці яго галоўны ўдар, накіраваны на хрысьціянскіх вальнадумцаў, якія натуральна ўзнікалі зараз паўсюдна, з нагоды відавочных

супярэчнасьцей паміж пантыфікальнай царквой і ўсё больш і больш распаўсюджваемымі ёю ж Евангеллямі. Вынішчальныя вайны Інакенція III супраць руплівых чытараў гэтых сентыментальных апавяданняў і выдадзеныя ім наказы пра выкараненне іхных асабліва руплівых пасьлядоўнікаў ва ўсіх гарадах, здавалася, толькі павялічвалі іхную колькасць. Тысячы людзей падперазваліся поясам св. Францыска, але і з іх шмат хто адпадаў ад папства. У царкоўнай вобласьці, у Вітэрба, у Перуджы, у Арвіета, хрысьціянскія секты сталі шматлікімі. Ламбардыя была перапоўнена імі, у гвельфскім Мілане існавала іхная галоўная царква. Без карысьці гарэлі вогнішчы. Адпаўшыя збіраліся ў самым Рыме падчас выгнання папы. Палітычныя гледжанні аб’ядноўваліся ў гэтых выпадках з рэлігійнымі і ў ліку рымскіх прыхільнікаў евангельскай навукі гібелінская секта арнальдыстаў была без сумневаў больш шматлікай, чым секта ліёнскіх беднякоў. Дагматычныя непагадненні на падставе Евангелляў не аддзяліся ад палітычных, таму што царква лічыла лжэвучэннямі нават указы гарадзкіх магістратаў, накіраваныя на абкладанне сьвятарства падаткамі ці на разбіранне яго непаразуменняў з парафіянамі звычайнымі судамі ўстановамі.

Упершыню масавы суд над тлумачальнікамі Евангелляў быў наладжаны ў Рыме, і публічна запалалі вогнішчы, із якіх спісаны Няронавы, і гэта зноў, і зноў, і зноў служыць яскравым падцверджаннем таго, што Евангеллі пашырыліся на Захадзе не за тысячу гадоў да таго, а амаль непасрэдна перад узнікненнем непагадненняў пры іх тлумачэнні. Інквізітары размясьцілі свой трыбунал перад дзьвярамі царквы Марыі Маджыорэ. Кардыналы, сенатары і суддзі займалі месцы на трыбунах, а цікавіўшыся народ атачаў жахлівы трыбунал, выносіўшы прысуды няшчасным якога заўгодна стану і стаці. Шмат якія із духоўных асоб, абвінавачаныя ў літаральным разуменні евангельскіх запаветаў, былі пазбаўлены іхнага сьвятарскага адзення ці ж прысуджаны на высыланне дзеля пакаяння ў далёкія кляштары, калі яны абвяшчалі пра сваё пакаянне. А зацятых хрысьціянскіх вальнадумцаў спальвалі на драўляных вогнішчах, часам на пляцы каля самой царквы. Дзякуючы таму што гэтыя змрочныя трагедыі, быўшыя адлюстраваннем альбігойскіх войнаў, ладзіліся пасьля разводдзя Тыбра і эпідэмій, то яны лічыліся злучанымі з імі і выклікалі ў Рыме вялікую трывогу. Пануючая царква аб'явсьціла, што дзякуючы іхнай дзейнасьці адбыліся ўсе гэтыя бедствы і не спыняцца, пакуль дэмагогі не будуць знішчаны. Было пастаноўлена, што кожны сенатар пры ўступленні на пасаду браў на сябе абавязак арыштаваць усіх тлумачальнікаў Евангелляў, на якіх пакажа інквізіцыя, і пасьля належнага разбірання на працягу васьмі дзён пакараць іх сьмерцю. Іхная маёмасць павінна была быць падзеленай паміж даносчыкам і сенатарам і збольшага ісьці на пакрыццё выдаткаў па паляпшэнню гарадзкіх сьцен.

Прыстанкі тлумачальнікаў Евангелля павінны былі быць разбуранымі. За прадастаўленне ім прытулку прызначалася грашовая пяня ці цялеснае пакаранне і скасаванне ўсіх грамадзянскіх правоў. «*Кожны сенатар павінен быў пацвердзіць клятвай гэты ўказ і, пакуль ён гэтага не зрабіў, ён не лічыўся маючым права выконваць свае абавязкі*». «*Гэта быў,* – сведчыць Грэгарэвіус, – *жудасны час, і яго поўным адлюстраваннем былі эдыкты Рыгора IX, згодна з якмі вышук хрысьціянскіх вальнадумцаў прызначаўся самым высокім абавязкам грамадзяніна; гэта быў час, калі якая заўгодна публічная ці прыватная размова пра нейкі із запаветаў Евангелля каралася, як злачынства*».

Да такой супені абноўленая царква была напалохана сваімі ж уласнымі кнігамі, пасьля таго як яны зрабілі сваю справу, разбурыўшы ранейшае

пантыфікальнае ўладкаванне з яго састарэлай ідэалогіяй і адружанымі сьвятарамі-жрацамі, а зараз яны пагражалі зрабіць тое ж і з замяніўшым яго псеўда-евангельскім, папскім уладкаваннем царквы. Ды і сапраўды, у чым сутнасць евангельскай маралі? Зірніце на яе галоўныя патрабаванні: ухваленне ўсеагульнага жабрацтва з аднаго боку і заахвочанне да скапецтва з другога, і вы пабачыце самі, што яна была напалову дэмагагічнай і напалову ненатуральнай.

Сьледам за сьвятарствам да перасьледу ерэтыкоў далучыліся князі і кіраўнікі рэспублік. І мы можам сьмела сцвярджаць, што не за іншавер'е – дапускалі ж усе яны існаванне не толькі магаметанаў, але і жыдоў, пра якіх самі ж пашыралі чуткі, быццам бы яны ўкрыжавалі Хрыста! – гэта рабілася таму, што ўсе заможныя людзі лічылі іх сацыяльна небяспечнымі і, далучыўшыся для выгляду да пануючай зараз евангельскай царквы, спяшаліся спальваць нязручных тлумачальнікаў евангельскай навукі і канфіскаваць іхную маёмасць. Некаторым каралям полымя вогнішчаў служыла для ўслаўлення іхнай набожнасьці, некаторыя із баязні ці із разліку імкнуліся давесьці сваю павагу да ўзвысіўшыхся зараз папаў самымі жорсткімі праследамі ўсіх нязгодных з імі. Нават Фрыдрых II, які згодна са сваёй адукаванасьцю быў вышэй свайго стагоддзя, і той выдаў у 1220 і 1232 гадах самыя жорсткія законы супраць сама-тлумачальнікаў Евангелляў, нічым не адрозніваючыяся ад папскіх эдыктаў.

«*Ерэтыкі*» (г.азн. разумеўшыя ў непасрэдна літаральным сэнсе запаветы ад імя Хрыста «раздай сваю маёмасць бедным і ідзі следам за мной»), – кажа ён, – *маюць жаданне разарваць непадзельнае адзенне нашага Бога. Мы загадваем, каб яны былі на вачах народа аддаваемы жывымі сьмерці ў полымі*».

«*Яго законы супраць хрысьціянскіх ерэтыкоў,* – сведчыць Грэгарэвіус (IX, 4), – *знаходзяцца ў самай рэзкай супярэчнасьці з яго ж апярэдзіўшым сваё стагоддзе заканадаўствам, дадзеным у жніўні таго ж 1231 года каралеўству Сіцылія*». А з нашага боку гледжання атрымліваецца, што тут не было ніякай супярэчнасьці, калі імператар Фрыдрых, кінуўшы пасад і ўзяўшы торбу, не меў жадання ісьці жабраком прасіць падаяння ў астатніх такіх жа жабракоў. Жорсткія законы супраць «хрысьціянскіх ерэтыкоў» (г.азн. прапаведнікаў усеагульнага жабрацтва і жабравання «на славу Бога Езуса») былі адзіным сродкам самаабароны тагачаснага грамадства ад немінучай згубы ад паўсюднага ўсталявання некалькіх ненатуральных і нібы-та «хрыстовых запаветаў», пашыраных Евангеллем лягчэнца Мацьвея напярэдадні (а, паўтараю зноў, не за 1 200 гадоў да таго!) самой жа рымскай царквой. Згадаем толькі яго запавет пра скапецтва (лягчэнне):

– «Магучы ўмясьціці, ды ўмесьціць!»

# Частка III.

## Змаганне царквы і дзяржавы на захадзе Яўропы напярэдадні рэфармацыі. Разгар класіцызму.

Але вялікі суд над хрысьціянскімі тлумачальнікамі Евангелляў так мала падзейнічаў на рымлян, што ужо 1 чэрвеня 1231 года яны вымусілі Рыгора IX зноў выдаліцца із Рыма ў Рыет, дзе ён і заставаўся да лета 1232 года.

«*Рымскі народ,* – зноў сведчыць Грэгарэвіус, – быў *прасякнуты ў гэты час* ***новым*** *духам. Як пад час старажытнасьці* (??), *у часы Каміла і Карыялана, ён і* ***зараз***

*выступіў на заваёву Тусцыі і Лацыума.* ***Зноў*** (??)*на палях змаганняў з'явіліся рымскія сьцягі са старажытнымі ініцыяламі S. P. Q. R.* (Senatus Populus que Romanus) *на чырвоным з золатам полі і рымскае нацыянальнае войска зноў было складзена із рымскіх грамадзянаў і хаўруснікаў ад васальных гарадоў пад кіраваннем сенатараў. Яны пагражалі нават самому папе пад сьценамі яго роднага горада Ананьі, дзе ён знаходзіўся са жніўня месяца, але народ* (plebs) *памірыўся з ім за грошы*».

Але ці сапраўды, чытач, усё гэта паўтарылася зноў цалкам у тым жа выглядзе і ў тым жа месцы, праз паўтары тысячы гадоў? І ці не прасьцей лічыць, што старажытная легенда была спісана менавіта з гэтай падзеі? Паглядзім жа з гэтага боку гледжання і на тое, што было далей, пасьля таго як плебеі «памірыліся з папай за грошы».

«*Адзін нячысьцік,* – паведамляе біёграф Рыгора XI, – *быў своечасова прагнаны із Рыма, але затое сем іншых зайшлі ў яго*». Заможныя рымляне ўжо ў 1234 годзе зноў пачалі заўзятае змаганне супраць свецкай улады папы ў сябе ў горадзе, і ў гэты ж час, – сведчыць гісторык горада Рыма, – яны «***згадалі*** (!!) *пра свае старажытныя звычаі, паставіўшы памежныя камяні* (termini) *і забяспечыўшы іх надпісамі S. P. Q. R., якія павінны былі пазначаць юрысдыкцыю горада Рыма*».

А мы зноў адкажам: ім не было чаго і згадваць, таму што псеўда-старажытныя камяні і былі спісаны із гэтых.

Заможныя рымляне патрабавалі ад папы вольнага абрання сената, права кляпання манеты, перадачы сабе розных падаткаў і звычайнай папскай даніны сабе ў 5 000 фунтаў. Яны скасавалі судовую ўладу сьвятарства і вызваленне яго ад павіннасьцей, што зрабілі тады ж і шмат якія із іншых рэспублік. Яны заявілі таксама патрабаванне, каб папа ніколі не накладаў адлучэння ні на аднаго рымскага грамадзяніна на той падставе, што Вечны горад, згодна з іхнымі словамі, карыстаўся прывілеем быць вольным ад царкоўных пакаранняў.

І ў гэты ж самы час яны самі паўсюдна палілі «хрысьціянскіх іншадумцаў, патрабаваўшых літаральнага разумення евангельскіх запаветаў!»

Я прапаную чытачу самому патлумачыць гэтую супярэчнасць, калі ён усё яшчэ лічыць, што іх спальвалі выключна за думку, быццам Езус быў не «аднасутным», а «падобасутным» богу, ці за іншыя такія ж нікому не шкодзячыя глупствы, а не за палітычна-эканамічныя меркаванні на грунце эканамічнага матэрыялізму таго часу.

Якое гэта мела б заканчэнне, калі б Рым быў пакінуты самаму сабе ці змог ператварыцца ў магутны горад, цяжка сказаць. Але папы ў цяжкія часы заўсёды заклікалі староннюю магутнасць для зацішэння сваёй непакорлівай краіны, і аддалены хрысьціянскі сьвет ніколі не адмаўляў ім у грашовай ці вайсковай дапамозе. Рыгор IX заклінаў каталіцкі сьвет даць яму зброю супраць не схільнага да падпарадкавання Рыма. Ён напісаў скаргі на яго сваім васальным каралям, партугальскаму і арагонскаму, а таксама графу русільёнскаму, герцагу аўстрыйскаму, біскупам Германіі, Гішпаніі і Францыі, і дапамога была яму дадзена. Крыжакі падалі царкве свой меч і свае таленты супраць Рыма. Нават ангельцы і французы, як вернікі так і авантурысты, сталі пад пантыфікальныя сьцягі. Магчымасьці рымлянаў былі знясілены і іхныя фінансы, не гледзячы на прымусова атрымліваемыя із царквы падаткі, былі выдаткаваны. Горад не здолеў дасягнуць мэты свайго змагання і ў сярэдзіне траўня 1235 года яшчэ раз прызнаў над сабой вярхоўную ўладу папы.

А класікі нам распавядаюць казкі пра нейкае былое валадаранне гэтага арганічна няздольнага ні на што горада над цэлым сьветам!

Вось якой была мірная дамова:

«*Мы, Ангелус Малабранка, літасьцю божай кіруючы сенатар Высокага горада, абяцаем, грунтуючыся на дазволе высокага сената, на даручэнні і агульнай згодзе слаўнага рымскага народа, скліканага звонам званоў і гукамі труб на сход у Капітоліі* (і відавочна, не на кучы парэшткаў!), *а таксама і згодна з прапановай высокашаноўных кардыналаў Романуса, біскупа Парто і Руфіны, Яна Коланы із Праксэдэ і Стэфана ад св. Марыі ў Трастэверыне, з нагоды спрэчкі паміж сьвятой рымскай царквой, сьвятым папай і сенатам і народам рымскім, ад імя сената і народа:*

*Мы згодны задаволіць патрабаванні папы адносна вежы і закладнікаў у Мантальта, адносна ўсталяванай пры сенатары Луцэ Савеллі прысягі на вернасць і адносна пастаўленых у царкоўных землях памежных знакаў. Што ж да дырэктываў пра суддзяў, патрабаваўшых гэтай прысягі ў Сабіне і Тусцыі і займаўшых царкоўныя ўладанні; пра абвяшчэнне ў няміласьці кардынала Рэйнера із С. Марылі ў Касмедыне і натарыуса Барталамея; пра рабаванне Латэранскага палаца і сядзіб некаторых кардыналаў; пра ўзнагароду за страты, накладзеныя на біскупствы Остыю, Тускул, Прэнэстэ і іншыя царкоўныя ўладанні; пра пастанову, што папа не павінен вяртацца ў Рым да таго часу, пакуль ён не выплаціць рымлянам дамоўленую ў Рока дзі Папа пазыку роўную 5 000 фунтаў і ўсе страты, – то ўсе гэтыя дырэктывы мы, грунтуючыся на дазволе сената і народа, скасоўваем, як нікчэмныя.*

*Для знішчэння якога б то ні было непагаднення паміж намі, царквой і папай, шануемым намі, як набожнымі сынамі праз глыбокую павагу да Хрыста, якой ён намеснік на зямлі, і перад вярхоўным апосталам, якому ён намесьнік на зямлі, а таксама і таму, што ўсё гэта спрыяе выкананню жадання высокага і слаўнага горада, мы загадваем наступнае. Усе духоўныя асобы, знаходзячыяся ў Рыме і па-за Рымам, і асобы належачыя да сямействаў папы і кардыналаў не павінны судзіцца ў свецкіх судах ці быць прымушанымі да гэтага з дапамогай расчынення жылля ці якім-небудзь іншым спосабам, ці быць патрывожанымі дзякуючы нейкаму здарэнню. Але тое, што тут сказана пра сем'і папы і кардыналаў, не павінна дапасавацца да рымскіх грамадзянаў свецкага стану, маючых сядзібы ці людзей у горадзе, хаця б яны былі ці зваліся фаміліярамі. Ніхто са сьвятарства, братоў манаскіх ордэнаў ці парафіянаў, калі ён ідзе да апостальскага пасада і да св. Пятра, ці там застаецца, ці адтуль вяртаецца, не павінен прыцягвацца да суда свецкага суддзі, але, наадварот, ён павінен знаходзіцца пад абаронай сенатара і сената. Ніякі падатак не павінен спаганяцца ні ў горадзе, ні па-за яго межамі з цэркваў, сьвятароў і манашых ордэнаў. Мы ўсталёўваем вечны мір з імператарам і яго людзьмі; з народам Ананьі, Сеньі, Вялетры, Вітэрба, з народам Кампаньі, Марытымы і Савіны, з графам Вільгельмам (*Тусцыйскім*), з усімі іншымі жыхарамі вотчыны св. Пятра і з усімі сябрамі царквы. Мы загадваем і падмацоўваем гэтым дэкрэтам, каб наперад ніякі сенатар, ці будзе ён адзін, ці іх шмат, не дзейнічаў насуперак гэтай нашай палягчаючай граматы. Будзе ж нехта зробіць учынак насуперак ёй, той павінен зведаць самы моцны гнеў і нянавісць сената і, звыш таго, будзе абавязаны выплаціць пяню роўную ста фунтам золата на аднаўленне гарадзкіх сьцен. Але і пасьля выплаты гэтай пяні гэты прывілей не менш захоўвае сваю магутнасць*».

Гэтай мірнай дамовай была закончана адна із самых жорсткіх войн, калі-небудзь ведзеных рымскай рэспублікай супраць папскай улады. Рэспубліка не страціла з гэтай нагоды сваёй аўтаноміі, але яна была зноў уведзена ў межы, прызнчаныя для яе Інакенціем III.

Ужо цэлы год Рыгор IX знаходзіўся ў выгнанні ў Тусцыі і потым яшчэ два гады, нягледзячы на мір, заставаўся па-за Рымам, бо ў ім ён ні на хвіліну не мог бы знайсьці заспакаення. Але ўсё ж ён, дзякуючы сваёй папулярнасьці ў Заходняй

Яўропе, патрабаваў сабе ўлады над яе каралямі, грунтуючыся на падробленым, нават і згодна з меркаваннем саміх сучасных царкоўных аўтараў, дэкрэце Кастуся I.

«*Галовы каралёў і князёў*, – пісаў Рыгор IX імператару Фрыдрыху, – *схіляюцца да ног сьвятароў, і хрысьціянскія імператары павінны падначальваць свае дзеянні не толькі аднаму рымскаму папе, але і іншым прадстаўнікам сьвятарства. Бог пакінуў толькі сабе суд над сьвятым пасадам, суду якога ва ўсім таемным і відавочным ён падначаліў увесь сьвет. Усяму сьвету вядома, што сьветадзяржаўны манарх Кастусь са згоды сената і народа горада Рыма і ўсёй рымскай дзяржавы прызнаў, як права, што намесьнік вярхоўнага апостала з'яўляецца валадаром ва ўсім сьвеце над сьвятарствам і над усімі душамі, а таксама мае ўладу над усімі зямнымі рэчамі і целамі. Дзякуючы таму, што ён прызнаў, што той, каму бог перадаў нябесную ўладу над Зямлёй, павінен быць кіруючым суддзёй і ў мірскіх справах, то ён перадаў рымскаму папе знакі імператарскай годнасьці, і імператарскі скіпетр, і горад Рым з усёй яго акругай, які ты маеш жаданне адхіліць ад нас, спакусіўшы сваім золатам, і імперыю на вечныя часы. І, лічачы бязбожным, каб зямны імператар карыстаўся ўладай там, дзе кіраўнік усёй хрысьціянскай рэлігіі пастаўлены валадаром ад нябеснага цара, Кастусь перадаў Італію пад кіраванне папы, а сам знайшоў сабе месцаванне ў Грэцыі. Сьвяты пасад перадаў (быццам бы!) імперыю немцам у асобе Карла, які з пакорай узяў на сябе гэты вельмі цяжкі для рымскай царквы цяжар. Але, перадаўшы з дапамогай каранавання і памазання тваім папярэднікам і табе судовую і вайсковую ўладу ў імперыі, папа гэтым не адмовіўся ад сваіх вярхоўных правоў, ты ж парушаеш гэтыя правы папы і не менш таго ганьбіш свой гонар і вернасць, не прызнаючы твайго ўласнага стваральніка*».

Але Фрыдрых, як больш магутны валадар, натуральна не пагадзіўся з гэтым. А рымская шляхта дадала да сваіх тытулаў яшчэ адзін псеўда-антычны тытул. Шляхетныя рымляне пачалі зваць сябе «праконсуламі рымлянаў», калі яны займалі высокую пасаду ў горадзе ці ў правінцыі і засядалі ў якасьці падэст у гарадзкой радзе нейкай рэспублікі, ці ў якасьці рэктараў кіравалі нейкай акругай пантыфікальных уладанняў. Хаця «класічны» тытул Consul Romanorum, які арыстакраты насілі яшчэ тады, калі яны складалі палітычную карпарацыю, супрацьстаяўшую суполцы, заставаўся і ў гэты час ва ўжыванні, але ён ужо страціў сваё важнае значэнне з тых часоў, як зніклі гарадзкія кіруючыя консулы, і консуламі пачалі звацца старшыны цэхаў. Усе яго правы перайшлі зараз выключна да прысвоенага вышэйшай арыстакратыяй тытула праконсула. Магчыма, што найбольш выбітныя прадстаўнікі арыстакратыі пачалі ўжываць гэты тытул і для пазначэння сапраўднага адрознення іх у сенаце, дзе яны ўтварылі нешта накшталт палаты пэраў, і гэтае новае тытулаванне было афіцыйна прызнана ў першай траціне XIII стагоддзя, як папамі, так і імператарам. І з яго было спісана класікамі «антычнае праконсульства».

Такім чынам і Фрыдрых, і рымская шляхта зноў сталі ў апазіцыю да сваёй царквы.

Стомлены надмернымі дамаганнямі рымскага папы, Фрыдрых апеляваў, нарэшце, да скліканага для разбору ўзаемных скаргаў сабора.

«*З мора выйшаў звер*, – пісаў ён словамі Апакаліпсіса, – *перапоўнены найменнямі блюзнерскімі, спусташаючц ўсё сваімі лапамі як у мядзведзя, і сваёй пашчай як пастка ільва, целам жа ён падобны барсу. Зяпа яго адчыняецца, каб вывяргаць хулу на бога, і не стамляецца вымаўляць такую ж хулу на яго скінію і на жывучых на небе*».

Із гэтага бачна, што сапраўдны сэнс Апакаліпсіса яшчэ не быў канчаткова забыты ў XIII стагоддзі.

Фрыдрых вырашыў глядзець на царкву толькі як на варожую яму палітычную магутнасць і цалкам разбурыць яе арганізацыю ўсярэдзіне дзяржавы.

Бязлітасны пераслед чакаў біскупаў і ніжэйшае сьвятарства за супрацію у Сіцылійскім каралеўстве, а евангельскія павучанні на тэму «калі маеш дзьве кашулі, аддай адну з іх немаёмаснаму», абвяшчаемыя прызнанымі па-за законам жабруючымі манахамі, караліся сьмерцю, заняволеннем ці выгнаннем. Царкоўная маёмасць ўсюды канфіскавалася ці абкладалася падаткамі, 9 жніўня 1240 года із абацтва Грота-Ферата, папа (зараз адначасовы абаронца і чужога жабрацтва і свайго багацця «ў імя царства нябеснага») склікаў у Рыме сабор на бліжэйшы Вялікдзень. А Фрыдрых паслаў свайму сьвятарству пісьмовыя паведамленні, у якіх забараняў усім ехаць на сабор, і яго сьвятарства падтрымала яго.

«*Як можаце вы,* – выказваўся адзін з іх, – *быць у бяспецы ў Рыме, дзе ўсе, грамадзяне і сьвятарства, штодня ваююць за і супраць двух супернікаў? Спякота там несцерпная, вада гнілая, ежа грубая і сырая. Паветра там можна памацаць рукамі, і яно кішыць маскітамі, усюды процьма скарпіёнаў, народ брудны і агідны, поўны злосьці і шаленства. Пад усім Рымам выкапаны пячоры, і із катакомбаў, напоўненых змеямі, падымаецца атручваючы і сьмяротны туман*».

Так упершыню мы даведваемся пра катакомбы ў Рыме, якія з гэтай нагоды павінны быць прызнанымі характарыстыкай усяго пантыфікальнага Рыма і знішчанымі не раней сярэдзіны XIII стагоддзя абнаўленчай царквой, калі рымскі вялікі пантыфекс перайменаваўся ў папу, а манастэрыянцы сталі сучаснымі манахамі.

Аднак шмат хто із прэлатаў Гішпанія, Францыі і Верхняй Італіі, нягледзячы на такую вялікую небяспеку для свайго жыцця, не адмовіліся ад падарожжа ў Рым на генуэзскіх караблях. Але яны хутка пабачылі ветразі сіцылійскага флота, які з баявымі намерамі ішоў да іх насустрач. Знакамітае марское змаганне 2 траўня 1241 года каля выспы Монтэ-Крыста і Джыгліо было адным із самых дзіўных відовішчаў, калі-небудзь бачаных на моры. Больш за сто прэлатаў, кардыналаў, біскупаў і абатаў збольшага былі патоплены, збольшага ўзяты ў палон, а імператарскі адмірал з усёй сваёй здабычай накіраваўся, святкуючы, у Неапалітанскі заліў. Вайна паміж папай і імператарам успыхнула нанова, але якраз у гэты час татарскія орды Актая спустошылі Расію, Польшчу і Дунайскія краіны і аднавілі на лацінскім захадзе той перапалох, які некалі папярэднічаў гунам. Хрысьціянскі сьвет маліў імператара і папу пра выратаванне.

Напалоханы Фрыдрых выправіў амбасадараў да папы, але той намерыўся, падобна Рыгору VII, хутчэй памерці, чым саступіць. І невядома, чым бы скончылася спрэчка, калі б папа раптоўна не памёр. Гэта адбылося 21 жніўня 1241 года ў Латэране. (Рыгор IX)

Пасад «св. Каменя» застаўся пустым, як пасьля сьмерці Рыгора VII. Рымляне шумелі, сенатар пагражаў важакам заняволеннем. Нязгодныя з ім кардыналы замкнуліся, хто ў Ананьі, хто ў сваіх замках. Рымская царква амаль два гады была без папы. Вялікая духоўная манархія, здавалася, ператварылася ў алігархію, таму што курыя із нешматлікіх прабываўшых у Ананьі кардыналаў ажыццяўляла царкоўную ўладу. Фрыдрых настойліва патрабаваў ад кардыналаў, каб яны, нарэшце, абралі кіраўніка царквы. Нарэшце, 25 чэрвеня 1243 года яны абвясьцілі ў Ананьі папай кардынала царквы С. Ларэнца ў Люцыне пад імем Інакенція IV.

Але і новы папа вызначана выказаўся, што ніколі не пагадзіцца на мір з Фрыдрыхам і не будзе цярпець, калі ён ці яго сыны, гэтыя «стварэнні яхідны», былі на пасадзе.

Аднак заснаваная Фрыдрыхам у яго каралеўстве манархічная ўлада выявілася дастаткова трывалай. Народ і гарады, узнагароджаныя за страту сваіх

вольнасьцей строгімі законамі, накіраванымі супраць абсалютызму баронаў, не паўсталі супраць яго. І ён памёр каралём пасьля недоўгачасовай хваробы 19 снежня 1250 года ў сваім замку Фіярэнтына, каля Лючэрыі.

У змаганні Фрыдрыха II супраць папства мы бачым першыя зародкі еўрапейскай рэфармацыі. Гэта і было знакамітае змаганне гвельфаў і гібелінаў – прыхільнікаў папскага і прыхільнікаў імператарскага валадарання, прытым і тыя і другія аднолькава вынішчалі «хрысьціянскіх ерэтыкоў», патрабаваўшых выканання евангельскіх запаветаў усеагульнага жабрацтва і падзелу маёмасьці.

Гвельфскія рэспублікі, стаўшы на бок царквы, прынесьлі Інакенцію IV, як папе, клятву на вернасць, але яны патрабавалі ад яго вялікай узнагароды за свае вайсковыя выдаткі ў змаганні з імператарам, марудзілі з вяртаннем былых царкоўных маёнткаў і відавочна паказвалі, што не згодны прамяняць імператарскае ярмо на валадарства царквы. Яны скарысталіся змаганнем царквы з імперыяй, каб з дапамогай сьвятарства зрабіцца незалежнымі ад імператара, а зараз царква пабачыла, што яны зрабіліся незалежнымі і ад яе самой.

Але і гібелінскія гарады і валадары толькі часова былі прыгнечаны сьмерцю свайго правадыра, імператара Фрыдрыха II. Імператар памёр, але яго прынцып застаўся жывы, і магутныя правадыры Паланчыні і Эцэлін яшчэ пераможна падтрымлівалі яго ў Італіі. Папа, вярнуўшыся, пабачыў іншую Італію, чым была тая, якую ён пакінуў і павінен быў прызнаць, што вялікая мэта Гільдэбранда і Інакенція III прывесьці пад сьцягам Евангелляў усю італійскую паўвыспу пад пастырскае жазло св. Пятра была недасяжнай.

Справа ў тым, што дэмагагічная частка евангельскага вучэння ўжо дасягнула тады сваёй мэты – разбурэнне старой феадальнай імперыі Карла Вялікага і феадальнай пантыфікальнай царквы – і пачала выдыхацца, не даўшы самай беднай частцы насельніцтва тых вялікіх даброт, якіх яно чакала.

Пачалося новае будаванне жыцця.

# Глава IV.

## Новая неўстойлівая душэўная раўнавага. Сенатары і флагеланты.

У XIII стагоддзі італійскія вольныя гарады, як я ўжо паведамляў, моцна заквітнелі і завялі ў сябе дзеля ўмацавання ўзаемнай сувязі звычай абіраць сваіх падэстаў із арыстакратыі іншых сяброўскіх гарадоў. Запрошаны на шэсць месяцаў для кіравання чужаземец замацоўваў гарадзкую сувязь і, акрамя таго, уяўляў большую заруку за тое, што кіраванне будзе беспартыйным і меншую верагоднасць замацавацца ў якасьці тырана, чым мясцовы магнат. А на пасаду падэсты запрашалі звычайна толькі выбітных людзей.

Рымляне звыкліся з тым, што ўрачыстыя амбасады са шматлікіх гарадоў, нават із Пізы і Фларэнцыі, з'яўляліся ў Капітолій, каб паклікаць да сябе ў якасьці падэсты каго-небудзь із рымскіх арыстакратаў, але самі яны яшчэ ніколі не запрашалі свайго сенатара із чужога горада. І калі яны так зрабілі ў 1252 годзе, у той час, калі Інакенцій IV жыў у Перуджы, то да гэтага іх павінна было прымусіць моцнае засмучэнне ў справах іхнай суполкі.

Рымляне звярнуліся ў Балонню, і балонская рада рэкамендавала ім Бранкалеоне графа Казалекіо, чалавека старажытнага роду, рэспубліканскага накінку думак і грунтоўнага знатака права. І Бранкалеоне выказаў сваю згоду кіраваць Рымам, калі яму дадуць тэрмін на тры гады. І яму далі гэтыя тры гады.

Перад уступленнем на пасаду ён прынёс клятву перад выбарнымі ад парламента выконваць статуты горада, падтрымліваць указы супраць шкодных хрысьціянскіх летуценнікаў і згодна з законам кіраваць горадам Рымам. Нам застаецца толькі патлумачыць чытачу, што гэта было за званне падэста, ад якога паходзіць і слова патэстат – магутнасць. Яго карэннае значэнне спадар з’яўляецца, відаць, пераіначаным грэцкім словам дэс-па-тая = па-дес-та.

У аздомленым мехам ярка-чырвоным адзенні, з капялюшыкам на галаве, падобным на той, які насілі венецыянскія дожы, гэты сенатар, аточаны сваім дваром, з'яўляўся ў вачах мас прадстаўнікам велічы рымскага народа падчас народных гульняў, пры ўступленні папаў на пасад ці пры нейкіх палітычных актах. Яго падобная з дыктатурай улада кантралявалася радай, выбарнымі прадстаўнікамі ад народа і правам народнага сходу даваць сваю згоду на яго абранне. Кароткатэрміновая пасада такога вярхоўнага сенатара знаходзілася заўсёды пад пагрозай шматлікіх небяспек з нагоды партыйных змаганняў і народных паўстанняў і часта з'яўлялася не больш як бліскучым катаваннем. Кожны яго крок назіраўся і ўлічваўся. Ён быў прымацаваны да Капітолія (які, зноў і зноў паўтараю, не мог у гэты час уяўляць сабой старажытныя руіны!) і не павінен быў пакідаць горад на тэрмін звыш чым на вядомы ўзаконены час і адлегласць.

За два дні да заканчэння тэрміну яго кіравання абвяшчальнік публічна паведамляў з прыступак Капітолія пра тое, што найсьвятлейшы рымскі сенатар будзе падпадаць пад суд, і на працягу дзесяці дзён сіндык выслухваў усіх абвінаваўцаў. Калі падэста быў абвінавачаны ў дрэнным кіраванні, то прысуджаўся да вяртання трэццяй часткі яго ўтрымання, а калі і гэтага выяўлялася недастаткова, то яго трымалі пад вартай да той пары, пакуль ён не даваў поўнага задавальнення гораду. Калі ж ён заслугоўваў ухвалы, то горад з трыумфам праводзіў яго ў тую рэспубліку, адкуль ён прыйшоў. Ва ўсіх важных справах яго герольды склікалі народ у парламент пры гучанні капіталійскага звона. Калі парламент быў у поўным складзе (plenum et publicum), ён засядаў перад будынкам сената, прытым грамадзяне месьціліся на капіталійскім пляцы (і само сабой зразумела не на кучах смецця і адломкаў антычных калон, якія, відавочна, былі не так даўно пабудаваны) і на прылеглым да яго схіле да сучаснага пляца Нябеснага ахвярніка (Piazza di Araceli). Сенатар паведамляў гэтаму народнаму сходу праекты, меўшыя дачыненне да ўнутраных і вонкавых спраў, і «высокі рымскі народ» потым прынімаў рашэнне з дапамогай падачы галасоў ці ўзняцця рук, ці акламацыі, ці варта весьці вайну ці заключыць хаўрус з іншымі рэспублікамі, прызнаць імператара ці патрабаваць вяртання выгнанага папы. Тут выслухоўваліся лісты кляштароў і гарадоў, а часам і прамовы пасланнікаў, з'явіўшыхся для таго, каб выказаць парламенту свае жаданні.

Калі на нараду склікаліся толькі народныя абранцы ад кожнай із 13 гарадзкіх частак, г.зн. вялікая і малая рада (consilium generale et speciale), то яны знаходзілі дастатковае для сябе памяшканне ў базіліцы Арачэлі (яна ж Ara Coeli), пабудаванай быццам бы на месцы храма Канкордыі, дзе (зноў жа быццам бы!) шмат разоў збіраліся народныя сходы старажытных рымлянаў, Patres conscripti сярэднявечнай рэспублікі. Арыстакраты ці дэмагогі, гвельфы ці гібеліны, выяўлялі ў аточаным калонамі прытворы гэтай францысканскай царквы сваё красамоўства і

выказвалі свае нападкі на імператара ці папу. Да XVI стагоддзя капіталійскі пляц быў пышнай арэнай парламенцкіх дэбатаў і трыбуналам Рыма, прытым дэбаты мелі месца толькі ў вялікай і малой радзе, і толькі там выступалі прамоўцы падобна з духам Цыцэрона, каб падтрымаць ці аспрэчыць прапановы, пераносімыя пазней на зацверджанне народнага сходу, пасьля чаго сенатар абвяшчаў іх, як законы.

«*Назіральнік, кінуўшы пагляд на гэтыя шумныя парламенты, на трыбуналы і суды Капітолія і на разнастайныя праявы жыцця дэмакратыі з яе прысяжнымі таварыствамі, калегіямі, магістратамі і іхнай дзіўнай выбарчай сістэмай, прасякаўся б здзіўленнем,* – сведчыць Грэгарэвіус (IX, 7). – *Але гэтая сярэднявечная рэспубліка нейкім дзіўным чынам знікла із Капітолія. У гарадзкім архіве пра яе не згадвае ніводны пергамент. Зніклі таксама надпісы і гербы ўсіх тых рэспубліканцаў, якія ў эпоху гвельфаў і гібелінаў былі валадарамі Высокага Рыма*».

– Але ці не таму гэта, – запытаю я знакамітага аўтара, – што ўсе тагачасныя дэбаты былі апакрыфікаваны ў да-хрысьціянскую эпоху? І ці не там, у класікаў, мы знойдзем усе гэтыя дзіўным чынам знікшыя дакументы?

Пасьля свайго абрання ў жніўні 1252 года Бранкалеоне прыбыў у Рым, напэўна, напачатку лістапада, каб прыступіць да выканання абавязкаў сваёй пасады. Яго суправаджала бліскучая сьвіта суддзяў, натарыусаў і рыцараў, паступіўшых да яго на службу ў Балонні, Імоле і іншых гарадах. Гэта быў момант, калі ўпершыню вышэйшая магістратура горада складалася выключна із чужаземцаў, і асобы із Раманні кіравалі Рымскай рэспублікай. Яго жонка Галеана таксама суправаджала сенатара.

Магутнасьцю зброі ён аднавіў юрысдыкцыю Капітолія ў навакольнай вобласьці і ў замках баронаў, перавёў шмат якія царкоўныя маёнткі ў гарадзкое фінансавае кіраванне, абклаў падаткамі сьвятарства і падначаліў яго грамадзянскаму суду.

Афіцыйны тытул «капітана (г.азн. завадатара) рымскага народа», які Бранкалеоне ўпершыню далучыў да тытула сенатара і пачаў ужываць у актах у 1254 годзе, паказвае адпаведна свайму сэнсу на народную суполку, утвораную із прадстаўнікоў заможнага стану (populus). Падзел сената, існаваўшы пры Інакенцію III, калі дэмакратычная партыя вылучыла давераных людзей (boni homines), дало першую нагоду для стварэння пазней populus'a, г.азн. хаўрусу ўсіх цэхаў. Пасада народнага капітана, падобная з пасадай народнага трыбуна, была, як мы ўжо бачылі, заснавана пачынаючы ад 1250 года ў розных італійскіх гарадах, так што валадар-падэста заставаўся палітычным прадстаўнікам гарадзкога грамадства, тады як завадатар-капітан быў надзелены вайсковай і збольшага судовай уладай. У Рыме, дарэчы, народны капітан з'яўляецца толькі часова, ужо таму, што тут, як агульнае правіла, існавала два сенатара, і толькі Бранкалеоне, аб’яднаўшы ў 1252 годзе ў сваёй асобе падзеленую сенацкую ўладу, набыў назву «сенатара высокага горада і капітана рымскага народа».

Выключна доўгі, трохгадовы тэрмін яго кіравання закончыўся напачатку лістапада, і народ меў жаданне пераабраць яго зноў, але адваротная партыя абвінавaціла яго перад сіндыкам. Яна шумна скардзілася, што існуе намер увекавечыць тыранію чужынца, і, нарэшце, пайшла на штурм Капітолія. Бранкалеоне быў вымушаны скласьці зброю, здаўся народу і знаходзіўся пад яго аховай спачатку ў Септызоніі, але быў выдадзены арыстакратам і зняволены ў вежу Пасэрана. І ён без сумневаў загінуў бы, калі б яго не выратавалі рымскія закладнікі, якіх Балоння да гэтага часу трымала ў сябе. Яго мужная жонка Галеана

збегла із Рыма і разам са сваякамі чалавека маліла балонскую гарадзкую раду не выдаваць закладнікаў і настойваць на вызваленні іхнага суграмадзяніна.

І пасьля шматлікіх спрэчак ён, дзякуючы гэтаму, вярнуўся і свой родны горад.

Кіраванне яго наступніка Эмануэля дэ Мадыо было бурным і нешчаслівым. Старыя закалоты пачаліся зноў. Вясной 1257 года паўстанне набыло ўсеагульны характар. Цэхі аб'ядналіся і абралі сваім правадыром булачніка родам із Англіі. Эмануэль быў забіты падчас грамадзянскай вайны, частка арыстакратаў выгнана, і сам папа быў вымушаны з'ехаць у Вітэрба.

Рымскі народ зноў паклікаў Бранкалеонэ, і ён з'явіўся, не без сумневаў, таму што царква падпілноўвала яго. Усе «прыгнятальнікі народа» былі ім выгнаны, закуты ў ланцугі ці пакараны сьмерцю. Новы папа Аляксандр IV адлучыў Бранкалеоне і яго litдарадцаў, але на яго нямоглыя дзеянні яны адказалі толькі насмешкай. Вярхоўны сенатар заявіў, што папа не мае права адлучваць ад царквы рымскіх службовых асоб. Грамадзянская ўлада папы ў Рыме ўжо цалкам не прызнавалася.

Бранкарлеонэ загадаў разбурыць дваранскія замкі і палацы, на якія просты народ накінуўся з шаленствам. Прызначаныя да знішчэння будынкі былі ў той жа час аддадзены на рабаванне і пры гэтым загінулі шматлікія сямейныя архівы разам з захоўваемымі ў іх дакументамі. Тое ж самае адбывалася і ў іншых гарадах Італіі. У 1248 годзе гібеліны разбурылі ў Фларэнцыі 36 гвельфскіх палацаў і веж, у ліку якіх была адна, меўшая 130 локцяў вышыні. Падкопвалі падмурак, падтрымліваючы вежу драўлянымі падпоркамі, потым запальвалі іх, і вежа валілася (Villiani, VI, з. 33). І вось мы зноў прыходзім да высновы, што частка антычных руін Рыма былі на самай справе гвельфскімі пабудовамі, разбуранымі ў XIII стагоддзі гібелінамі!

Выгляд, які набыў горад пасьля гэтага, быў жудасным.

«*Грамадзяне*, – сведчыць Грэгарэвіус (IX, 7), – *хадзілі сярод парэшткаў і амаль кожны дзень бачылі, што да іх дадаюцца новыя парэшткі. Варварскае разбурэнне будынкаў было тады такой жа звычайнай справай, як звычайныя паліцэйская дырэктывы ў нашы дні. Як толькі народ дзе-небудзь падымаў паўстанне, ён адразу бурыў будынкі ворагаў. Калі адзін род ваяваў з другім, то разбураліся палацы пераможанага боку; калі дзяржаўная ўлада выганяла вінаватых, то іхныя сядзібы аддаваліся на спусташэнне; калі інквізіцыя знаходзіла ў нейкай сядзібе нязручнага тлумачальніка Евангелляў, то гэтая сядзіба згодна з загадам дзяржаўнай улады раўналася з зямлёй; калі войска завалодвала непрыяцельскім горадам, то бурыла яго сьцены, і часта разбурала і сам горад. Пасьля знакамітай бітвы пры Мантаперта раззлаваныя гібеліны ледзь былі ўтрыманы ад разбурэння Фларэнцыі*».

*Бранкалеоне кіраваў*, – зноў сведчыць Грэгарэвіус (IX, 7), – *выклікаючы жах і павагу, але не доўга. Ён захварэў ліхаманкай падчас аблогі Карэнта, адмовіўшагася прысягаць яму на падданства, загадаў перавезьці сябе ў Рым і памёр у Капітоліі ў стане росквіту жыццёвых здольнасьцей у 1258 годзе*».

Аднагалоснае меркаванне сучаснікаў уславіла яго, як непахіснага помсніка за кожную несправядлівасць, строгага сябра закона і абаронцу народа, але мы наўрад ці можам пагадзіцца з гэтым, гледзячы на рымскія руіны (якія лепш было б назваць гвельфскімі, чым антычнымі).

Народ незвычайным чынам ушанаваў памяць свайго «лепшага сенатара». Яго галава была памешчана ў каштоўную вазу, і для ўшанавання яго памяці выстаўлена на мармуровай калоне. Зараз успаміны пра Бранкалеонэ зніклі ў Рыме,

дзе пра яго не сведчыць ніводны помнік, ніводны надпіс. Захаваліся толькі яго манеты. На адным іхным баку знаходзіцца выява ідучага льва і імя Бранкалеонэ, на другім – **эмблема Рыма, седзячая на пасадзе** з шарам і пальмавай галінкай у руках і надпіс: «Рым – глава сьвету». Такім чынам імя сенатара было ўпершыню змешчана на рымскія манеты, і яны былі пазначаны толькі свецкімі знакамі, без ужывання, як было перад гэтым, выявы св. Пятра ці яго імя. Ды гэтага і немагчыма было зрабіць, калі ён пад выглядам гвельфскіх пабудоваў разбурыў і ўсе храмы, тэрмы і грамадзкія ўстановы папскага Рыма. Застаецца толькі вырашыць, хто із антычных герояў быў спісаны з яго?

Паміраючы, Бранкалеонэ раіў выбраць сваім наступнікам яго ўласнага дзядзьку, і дзякуючы гэтаму сенатарам быў прызначаны Кастэлана делі Андала, быўшы да гэтага часу прэтарам у Фермо. Дарэмна папа патрабаваў і сабе выбарчага права, дарэмна ён пераконваў, што, нават як просты рымскі грамадзянін, ён мае голас пры абранні сенатара. Яму было адмоўлена, таму што ён знаходзіўся ў гэты час у Ананьі. І ён не вяртаўся ўжо больш у Рым. Але выгнаная арыстакратыя гэтак жа, як і папа, увесь час падкопвалася пад уладу Кастэлана, так што ён толькі пры пастаянным змаганні змог пратрымацца да вясны 1259 года, калі падкуплены народ паўстаў супраць яго. Пад уплывам папы зноў былі абраны два мясцовыя сенатары, але і яны працягвалі ахоўваць незалежнасць Рыма.

Кастэлана, склаўшы зброю, быў заняволены ў турму і, гэтак жа, як раней яго пляменік, быў пакінуты жывым толькі дзякуючы рымскім закладнікам, якіх ён трымаў пад аховай сваіх сяброў у Балонні.

Яго выратавала, нарэшце, узнікненне выдатнага рух у італійскіх гарадах, паўстаўшага следам за падзеннем Эцэліна і яго рода. Гэты, ўвайшоўшы у пагаворку, сярэдневечны гарадзкі тыран, правобраз класічных тыранаў, памаленьку запанаваў над самымі значнымі суполкамі Ламбардыі. Ніякія спакушэнні з боку пантыфікату не змаглі заахвоціць зяця Фрыдрыха здрадзіць сваім прынцыпам і перайсьці на службу царкве, якая за гэта даравала б яму ўсе злачынствы. Пасьля адчайнага супраціву 27 верасня 1259 года ён патрапіў, нарэшце, у рукі сваіх аб’яднаўшыхся ворагаў і памёр, абцяжараны трайным праклёнам, поўны маўклівай пагарды да папства і да ўласнага лёсу, прадказанага яму астролагамі. Ён памёр 7 кастрычніка 1259 года ў замку Санчына. Больш жудасным быў лёс яго брата Альберыха, які пасьля адчайнага супраціўлення ў вежы св. Зянона, здаўся са сваімі сямю сынамі, дзьвюма дочкамі і жонкай. Уся яго сям'я была задушана ў яго на вачах, а сам ён быў прывязаны да коней, якія валаклі яго да сьмерці.

«*Жудасная сьмерць рода Романа,* – сведчыць Грэгарэвіус (IX, 7), – *далучылася да іншых жахаў, вымусіўшы ўжо перапоўненыя пачуцці людзей выступіць цераз край. Бесперапынныя вайны і бедствы спусташалі гарады*».

«*Душа мая жахаецца,* – піша адзін хранікёр таго часу, – *паведамляючы пра пакуты майго часу і пра пагібель горада, таму што прайшло вось ужо дваццаць гадоў, як дзякуючы разладу паміж царквой і імперыяй італійская кроў ільецца ракой*».

Нейкі электрычны ўдар раптам прайшоў па заходнееўрапейскай частцы чалавецтва і накіраваў яго да пакаяння. Замест ужо амаль страціўшых прывабнасць Евангелляў раптам на захадзе набыў новую магутнасць Апакаліпсіс. Незлічоныя натоўпы з жаласнымі крыкамі з'явіліся ў гарадах; сотні, тысячы, нават дзясяткі тысяч ішлі працэсіямі, бічуючы сябе да крыві, і ішлі далей, з гаротным ускрыканнем: «Мір! мір! Пане, памілуй нас!» Шмат хто із гісторыкаў таго часу са здзіўленнем паведамляюць пра гэтую дзіўную з'яву. Маральная бура спачатку

пачалася ў Перуджы і потым перайшла ў Рым. Яна ахапіла ўсе узросты і ўсе грамадзкія станы. Нават пяцігадовыя дзеці бічавалі сябе. Манахі і сьвятары бралі крыж і павучалі пра пакаянне; старэчыя пустынікі выходзілі са сваіх магільняў у пустынях і з'яўляліся на вуліцах, таксама павучаючы пра пакаянне. Людзі скідалі адзенне да пояса, закрывалі галаву манаскім кукалем і браліся за бізуны. Яны ішлі стуленымі шэрагамі адзін за адным ці парамі, ноччу са свечкамі, босыя ў зімовы мароз. З наводзячымі жах песьнямі яны абыходзілі вакол цэркваў, з плачам валіліся ніц перад ахвярнікамі і бічавалі сябе пад спеў гімнаў пра жарсьці госпада з апантанасьцю, падобнай на ўтарапёнасць. Часам яны кідаліся на зямлю, часам уздымалі свае голыя рука да неба. Той, хто за імі назіраў, павінен быў быць каменным, каб не зрабіць таго ж, што і яны. Сваркі спыняліся, ліхвяры і рабаўнікі аддавалі сябе ў рукі правасуддзя, грэшнікі прызнаваліся ў грахах, турмы адчыняліся, забойцы ішлі да сваіх ворагаў, даючы ім у рукі аголены меч і молячы забіць іх, а тыя адкідалі ад сябе іхную зброю і са слязьмі падалі да іхных ног.

Калі гэтыя наводзячыя жах бадзяжныя натоўпы накіроўваліся ў іншы горад, яны абвальваліся на яго, як навальнічная хмара і, такім чынам, хвароба бічуючыхся братоў перадавалася, як зараза, усё далей з аднаго горада ў другі.

Дзіўныя апісанні гэтай з'явы даюць нам: падуянскі манах Салімбене, Герман Альтагенскі, Кафарус, Рыкабальд, Ф. Піпін, Гальван Флама і Якаў дэ Вараджынэ. Палавічылі і Манфрэд забаранілі, нарэшце, гэтае евангелічнае вар'яцтва пад пагрозай пакарання сьмерцю, а Торы ў Мілане паставіў там для пагрозы ім 600 шыбеніц, так што яны сышлі адтуль[263].

«*У Рым яны прыйшлі позняй восенню 1260 года із Перуджы і нават суровыя рымляне запалі ў экстаз. Іхыя турмы адчыніліся і такім чынам Кастэлана д'Андала пайшоў із Рыма ў свой родны горад Балонню*»[264].

З'яўленне бічуючыхся (флагелантаў на-лаціне) з’яўляецца адным із самых узрушаючых феноменаў заканчэння сярэднявечча. У іх, як і ў набожнай апантанасьці крыжовых паходаў, яскрава адлюстравалася нядаўняе з'яўленне на Захадзе Яўропы даступных тамтэйшай публіцы лацінскіх перакладаў Евангелля. Цікава тое, што ў паўднёвай Італіі яшчэ і ў XIII стагоддзі панавалі жыдоўска-магаметанскія прыхільнікі бога-Грамабоя, жыўшага на Этне і Вязувіі, і рымскія абнаўленчыя манахі-прапаведнікі, якіх некалькі разоў выпраўляў у паўднёвую Італію Рыгор IX, не павярнулі іх да сябе. Імя бога-Грамабоя і Ўстрасальніка Зямлі (Алаха-Элаіма) як і раней прызывалася там з вышыні веж. Фрыдрых стварыў там сваю гвардыю із гэтых «прававерных» і без якой бы там ні было прадузятасьці прызначыў шмат каго із іх на высокія пасады. Калі сведчанне ангельскага хранікёра, што іх у яго было 60 000 чалавек, здольных да бою, і перабольшана, то ўсё ж яны былі дастаткова шматлікімі. Папы называлі сіцылійскага караля таго часу Манфрэда за гэта султанам у хаўруснікам паганцаў, і іхныя павучанні на карысць крыжовых паходаў былі заўсёды накіраваны адначасова і супраць абодвух «султанаў». Супраціўляўшаяся вялікаму рымскаму пантыфексу, Фларэнцыя, стаўшая зараз гібелінскай, Піза, Сіена і шмат якія іншыя гарады заключылі 28 сакавіка 1261 года наступальны і абарончы харус пад правадырствам Манфрэда супраць усіх гвельфаў і іхных прыхільнікаў, і гэта адно ўжо дастаткова сведчыць пра тое, што рэлігійная ідэалогія гібелінаў была блізкай да арыянства. Я ужо не раз даводзіў у першых кнігах «Хрыста», што Арый і Арон былі адным і тым жа самым,

---

[263] Muratori: Antiq. Ital. VI, dis. 75.

[264] Грэгарэвіус: Гісторыя горада Рыма пад час сярэдневечча. Пераклад Лінда. 1912 г.

ды і Магамет, як мы пабачым у наступных кнігах, спісаны ў асноўным з іх жа. А ў агульным немагчыма не прыйсьці да высновы, што і ўвесь рымскі пантыфікат, да яго трансфармацыі ў папства пры Рыгору Гільдэбранду, быў арыянскім, але не ў тым выглядзе як нам малююць арыянства хрысьціянскія аўтары, а хутчэй як яно акрэслена ў біблейскім Пяцікніжжы.

І вось зараз паміж **абедзьвюма партыямі** адбыўся апошні і рашучы бой.

Абнаўленчы папа Аляксандр IV выставіў супраць паўднёва-італійскага «караля-султана» – Манфрэда – свайго хаўрусніка Анжуйскага графа Карла, у вачах якога і яго ваяўнічых правансальцаў гэты паход меў самы рыцарскі характар і быў працягам крыжовых паходаў.

23 траўня Карл зайшоў у Рым праз браму св. Паўла. Яго суправаджалі толькі 1000 рыцараў без коней. Працэсія сьвятарства і грамадзянаў, дваранства і рыцараў на конях урачыста сустрэла яго. Рымскія гвельфы выявілі незвычайную пышнасць пры ўшанаванні свайго новага сенатара. Быў наладжаны турнір капейшчыкаў і скокі са зброяй, спяваліся хвалебныя песьні, славіўшыя новую веліч Карла. На памяці людзей, – сцвярджалі сучаснікі, – рымляне не выяўлялі такога бляску ні для каго са сваіх валадароў.

З гэтага часу Карл пачаў глядзець на сябе як на караля Сіцыліі, хаця марудлівы папа толькі 4 лістапада зацвердзіў яго інвестытуру. Ужо пачынаючы з ліпеня ён пачаў выдаваць у Рыме каралеўскія загады, а 14 кастрычніка 1265 года дзеля ўвекавечвання памяці свайго сенатарства ў Рыме, «да якога ён быў закліка初 боскім промыслам, і для выгоды вялікага горада» ён загадаў заснаваць універсітэт.

Але яму яшчэ патрэбна было забраць Сіцылію ў яе караля Манфрэда. Ён выступіў у паход, і праз некаторы час напісаў папе із-пад Беневента такі ліст:

«*Пасьля гарачай сутычкі з абодвух бакоў, мы з дапамогай боскай павалілі два першыя баявыя шэрагі непрыяцеля, пасьля чаго ўсе астатнія шукалі выратавання ва ўцёках. Разаніна на полі бітвы была такой вялікай, што трупы забітых пакрылі сабой зямлю.* Не ўсе ўцякаўшыя *збеглі. Шмат каго нагнаў меч переследуючых, шмат палонных было накіравана ў нашы турмы і паміж імі Ярдан і Барталамей, якія да гэтага часу ілжыва называлі сябе графамі. Таксама ўзяты ў палон П'ер Азіна дельі Ўберці – бязбожны правадыр фларэнтыйскіх гібелінаў. Хто із нашых непрыяцеляў быў забіты, мы яшчэ не можам сказаць з упэўненасьцю, збольшага з нагоды спешнасьці гэтага паведамлення, але шмат хто сцвярджаюць, што былыя графы Гальвана і Герычэкус забіты. Пра Манфрэда да гэтага часу нічога не чутна: ці загінуў ён у бітве ці ўзяты ў палон, ці збег. Але быўшы пад ім баявы конь, які зараз знаходзіцца ў нас, даводзіць як быццам бы пра яго сьмерць. Паведамляю вашай сьвятасьці пра гэтую вялікую перамогу, каб вы падзякавалі ўсемагутнага, падараваўшага нам яе і ўмацаваўшага маёю рукой справу царквы. Калі я вынішчу ў Сіцыліі корань зла, то будзьце ўпэўнены, што я вярну гэтае каралеўства да яго старажытных звычайных васальных абавязкаў адносна царквы, дзеля гонару і славы боскай, дзеля ўслаўлення яго імя, міру царквы і дастатку гэтага каралеўства. Дадзена ў Беневенте 26 лютага 9 Індыкта, пад час першага года нашага каралявання*».

Потым знайшлі і труп Манфрэда. Яго маладая жонка Алена адразу пасьля першага паведамлення пра яго сьмерць збегла із Лучэрыі, захапіўшы з сабой дзяцей. Пакінутая ў няшчасьці баронамі, яна ў суправаджэнні некалькіх велікадушных людзей прыбегла ў той самы храм, дзе яна ў 1259 годзе была сустрэта, як каралеўская нарачоная, бліскучымі ўрачыстасьцямі. Яна жадала тут сесьці на карабель, каб ехаць у Эпір, але бурнае мора перашкодзіла яе намерам. Жабруючыя манахі, блукаўшыя па краіне ў якасьці шпіёнаў, даведаўшыся пра яе

знаходжанне ў замку Трані, напалохалі кастэляна выявамі вечных пакут на небе і прымусілі яго выдаць яе рэйтарам Карла. Яна памёрла праз пяць гадоў у заняволенні ў Ночэры ў лютым ці сакавіку 1271 года, не дажыўшы да 29 гадоў. Яе дачка Беатрыса на працягу васямнаццаці гадоў пакутавала ва ўмацаванні Кастэль-дэль-Ова ў Неапалі, маладетнія сыны, Гейнрых, Фрыдрых і Энцыус, выраслалі і гінулі ў трыццацітрохгадовых пакутах турэмнага заняволення.

Карл Анжуйскі здзейсніў свой заезд у Неапаль у пышным узбраенні, верхам на кані, які быў з ім пры Беневенце, у суправаджэнні бліскучых французкіх рыцараў і пераможных ваяроў свайго войска, пры радасных крыках падкупленага яго грашамі народа, абсыпаўшага яго кветкамі, і вітаемы напалоханымі баронамі Апуліі і трыумфуючым абнаўленчым сьвятарствам. Ганарлівая каралева Беатрыса, дасягнуўшая вяршыні сваіх славалюбівых жаданняў, ехала ў адкрытай карэце, абітай блакітным аксамітам.

Мэта, да якой столькі гадоў імкнуліся папы, была, нарэшце, дасягнута. Старажытны культ бога-Грамабоя каля падэшвы неапалітанскіх і сіцылійскіх вулканаў закончыў сваё існаванне. Старазапаветная біблейская ідэалогія саступіла месца новазапаветнай евангельскай, і на пасадзе Сіцыліі сядзеў абнаўленчы валадар, папская прылада і васал, і разам з тым раманская народнасць перамагла германцаў у Італіі.

Падзенне Манфрэда было канцом гібелінаў па ўсёй Італіі, большасць гарадоў якой прызналі зараз абнаўленца Карла сваім пратэктарам, а просты народ, як і заўсёды, прызнаў той культ, які прызнавалі яго валадары: згадаем хрышчэнне Русі пры князю Уладзіміры.

Але невыносная фанабэрыстасць гвельфскай арыстакратыі так раз’юшыла рымскі народ, што ужо ў першай палове 1267 года рымляне паўсталі, усталявалі дэмакратычнае кіраванне із 26 давераных асоб і прызначылі народным вайсковым правадыром Анджэла Капочы із партыі гібелінаў. Потым яны паклікалі да сябе ўнука Фрыдрыха Вялікага Конрадына, якому было толькі 14 гадоў. Зноў пачалася кровапралітная барацьба, скончыўшаяся новай перамогай Карла Анжуйскага пад Палантына.

«*Калі ноч апусьцілася на поле бітвы,* – сведчыць Грэгарэвіус (X, 3), – *змрочны Карл зноў сядзеў у сваім намёце і дыктаваў папе паведамленне пра перамогу, якое было настолькі паўтарэннем ліста, напісанага із Беневентскага поля, што ў ім, здавалася, былі заменены толькі некаторыя імёны:*

*«Пасылаю вам, сьвяты бацька, як фіміям, радасную вестку, якую так доўга чакалі вернікі ўсяго сьвету. Бацька! Прымíце і ядзіце ад паляўнічай здабычы вашага сына!.. Мы забілі столькі ворагаў, што параза пры Беневенце здаецца параўнальна нязначнай. Ці забіты, ці збеглі Конрадын і сенатар Генрых, мы яшчэ не можам сказаць упэўнена, таму што гэты ліст напісаны адразу пасьля бітвы. Конь, на якім сядзеў сенатар, злоўлены без вершніка. Ды ўзнясе царква, наша маці, свае радасныя ўхвалы ўсемагутнаму, падараваўшаму свайму ваяру такую вялікую перамогу! Зараз, здаецца, Бог паслаў заканчэнне усім яе бедствам, і яна выратавана із пашчы свайго ганіцеля. Дадзена на Палатынскім полі, 23 жніўня, Індыкта XI, у чацьвёртым годзе*».

І адразу пасьля сваёй перамогі Карл быў абраны пажыццёвым, рымскім вярхоўным сенатарам.

Такое мела заканчэнне Рымская рэспубліка.

Прызначыўшы сваіх кіраўнікоў у Капітоліі і абвясьціўшы гвельфам пра сваю перамогу, Карл на пачатку кастрычніка вярнуўся ў Джэнацана, каб адтуль

выправіць палонных у Неапаль і там іх пакараць смерцю. Тамсама быў пакараны смерцю і Конрадын.

З гэтага часу на рымскіх манетах ставілася імя Карла.

У зале сенатарскага палаца яшчэ і зараз можна бачыць мармуровую выяву гэтага караля, з каронай на галаве, седзячага ў крэсле, упрыгожаным ільвінымі галовамі, са скіпетрам у руцэ, апранутым у рымскае адзенне.

Наступіла некаторае заспакаенне разгарэўшыхся захапленняў. Новы рымскі папа Рыгор X склікаў вялікі сабор, які быў адкрыты 7 траўня і працягваўся да 17 ліпеня. На ім атрымалася пераканаць і грэцкую царкву далучыцца да абнаўленчага Рыма. Але для Міхала Палеалога мэтай прапанаванага ў Ліёне злучэння было толькі прызнанне яго пасада Захадам. Знакаміты Ліёнскі дэкрэт упершыню ўсталяваў вызначаную форму канклава пры абранні папы. Пасьля сьмерці папы кардыналы павінны былі не болей дзесяці дзён чакаць сваіх адсутнічаючых братоў у тым горадзе, дзе ён памёр. Потым яны павінны былі сабрацца ў палацы памёршага, маючы пры сабе кожны толькі аднаго слугу і жыць разам у адным пакоі, уваходы і выхады ў які павінны быць замураванымі, акрамя аднаго вакна для перадачы ежы. Калі пасьля трох дзён папа не будзе абраны, то на працягу наступных пяці дзён кардыналам падаецца толькі па адной страве на абед і на вячэру, а потым, нарэшце, ім даецца толькі віно, хлеб і вада. Якія б то ні было стасункі са сьветам забараняюцца пад пагрозай адлучэння. Вышэйшае назіранне за канклавам даручаецца свецкім уладам таго горада, у якім адбываецца абранне папы, і ўрачыстая клятва абавязвала гэтых службовых асоб да безпадманнага выканання ўскладзенага на іх важнага даручэння, пад пагрозай, што, у выпадку парушэння клятвы, яны падпадаюць інтэрдыкту і самі, і іхны горад.

Следам за гэтым Рыгор прызнаў Габсбурга рымскім каралём. Задаволены сваім становішчам, ён нагадаў «пра добрыя ўзаемныя дачыненні абедзьвюх улад: царквы і імперыі, якіх злучала адно з адным таемная, сімпатычная рыса». Ён ужо не згадваў у містычных прыпавесьцях пра сонца-папу і пра месяц-караля, але, як практычны чалавек, пераконваў, што царква ў духоўных справах, а імперыя ў свецкіх былі вышэйшай ўладай.

«*Іхная дзейнасць розная,* – пісаў папа, – *але адна канчатковая мэта злучае іх непарыўна. Патрэба іхнага аб'яднання даводзіцца бедствамі, ўзнікаючымі, калі адзін бок застаецца без другога. Калі пустуе сьвяты пасад, імперыі недастае кіраўніка да выратавання; калі пустуе імператарскі пасад, царква застаецца безабароннай, аддадзенай на рашэнне яе ворагам. Імператары і каралі павінны прыкладаць намаганні да абароны волі і правоў царквы і не забіраць у яе часовых даброт. Абавязак валадароў царквы захоўваць за каралямі іхную уладу ў поўнай недатыкальнасьці».*

Такім быў эпілог закалота, народжанага Евангеллямі і Апакаліпсісам на еўрапейскім Захадзе ў XIII стагоддзі. Апостал Павел мог парадавацца зараз, кажучы:

– «*Няма ўлады не ад бога*».

# Глава V.

## Папа пустынік і папа юбіляр.

17 верасня 1276 года ў якасьці папы быў абраны кардынал-біскуп Тускуланскі, назваўшыся Янам XXI, пра якога хранікёры паведамляюць як пра

чараўніка. Яны называюць яго адразу і глыбока-адукаваным і неразважлівым, лічаць яго «мудрым дурнем на папскім пасадзе, чалавекам пазбаўленым прыстойнасьці і вартасьцей, паважаўшым навуку і ненавідзеўшым манахаў»... А народны натоўп і ў XIII стагоддзі ставіўся да чалавека, дасьведчанага ў астралогіі і ў прыродазнаўчых навуках, з такім жа забабонным жахам, з якім і ў X стагоддзі глядзелі на вялікага пантыфекса Сільвестра II. І раптам праз год яго забіла абваліўшаяся столь пакоя, які ён наладзіў для сябе ў палацы ў Вітэрба. Як было гэта патлумачыць? Пасьля першага аслупянення такое крушэнне столі над ім было прызнана, нарэшце, карай бога за яго акультныя заняткі, а іх пачалі лічыць за грэх і перасьледаваць, як чортаву навуку.

Новы папа Мікалай III паспяшаўся забраць пад сваё валоданне і італійскую Раманню і па-княжаму надзяліць у ёй сваіх сваякоў. Радавыя дынасты з'явіліся там яшчэ ў часы Гагенштаўфенаў, то як гвельфы, то як гібеліны. Яны захапілі ў свае рукі кіраванне ў разладжаных рэспубліках Балонні, Равэны і Ферары і заснавалі больш-менш трывалыя валадарствы, якія на працягу трох стагоддзяў змагаліся супраць папскай улады больш паспяхова, чым гэта маглі рабіць дэмакратыі. Гэтыя сіньёры мелі назву, у процілегласць рэспубліканскім службовым асобам, «тыраны», і яны сапраўды імі былі якраз у сэнсе антычных гарадзкіх тыранаў. Яны былі аднаасобнымі валадарамі, абмежаванымі суполкай ці падначаленымі ім валадарамі. З іх і былі сьпісаны антычныя тыраны, але зараз і яны прысягнуліся на вернасць папе.

Мікалай першым пажадаў абмежаваць сенатарскую ўладу ў Рыме законам, каб яна ніколі не магла пасьля Карла патрапіць у рукі замежнага валадара. 18 ліпеня 1278 года ён выдаў закон, у якім выводзіць права папаў на Рым ад Кастуся, быццам бы перадаўшага ім вярхоўную ўладу над горадам, каб папства было незалежным. Ён паказвае на шкодныя наступствы, якія мела сенатарская ўлада іншаземных валадароў: разбурэнне сьцен і будынкаў і напаўненне горада пачварнымі парэшткамі. Пачынаючы ад часоў Інакенція III ён быў першым папай, які стаў раздаваць сваім сваякам княскія ўладанні нават за кошт царкоўнай дзяржавы. Больш позняя язва царквы – непатызм – вядзе свой пачатак ужо ад яго. Гэты факт і яго прагнасць да золата наклікалі на яго жорсткае асуджэнне, што і вымусіла Дантэ размясціць яго ў сваім пекле.

Новы папа Арсіні быў абраны ў Рыме сярод змагання фракцый 22 студзеня 1284 года. Капітолій быў узяты прыступам, абараняўшыя яго французы былі перабіты, прасенатар заняволены ў турму, сенатарская ўлада Карла абвешчана скасавай і ўсталявана народнае кіраванне. Гарадзкім вайсковым правадыром і трыбунам новай рэспублікі быў абраны шляхетны чалавек із рада Арсіні.

А свецкая ўлада папаў пачала памяншацца. Двухсотгадовыя вайсковыя перамяшчэнні Яўропы, «падобныя ўсходнім войнам старажытнага Рыма», – як выказваецца і Грэгарэвіус (IX, 5), – дзейнічалі як моцны рычаг у механізме папства дзеля дасягнення сусветнага валадарання. Заканчэнне вялікага змагання царквы з імперыяй і спыненне крыжовых паходаў звузілі гарызонт папства і із яго каласальнага будынка пачынаюць выпадаць адзін камень за другім.

Зноў загаварылі пра неадпаведнасць жыцця рымскага вышэйшага сьвятарства з евангельскімі патрабаваннямі і такія думкі пачалі пракрадацца і ў сам Капітолій і непакоіць душы кардыналаў. Мікалай IV памёр у 1292 годзе ў стане меланхоліі і, каб выратаваць царкву, набожны і прастадушны кардынал Латынус

прапанаваў падпарадкавацца евангельскім запаветам і абраць у якасьці папы знакамітага ў той час анахарэта-цудадзея Пятра.

Мабыць гэты новы Пятро і сапраўды быў незвычайным чалавекам, таму што мог, як сьведчыць яго біёграф, на вачах у ранейшага папы павесіць у паветры сваю манаскую рызу на сонечным прамені. Ён жыў на гары Мурон, паглыбленым у свае вычыны набожнасьці, і, верагодна, супярэчнасць паміж рэчаісным царкоўным жыццём і евангельскім сапраўды была тады такой вялікай, што ўсе кардыналы падалі голас за яго. Ён быў абраны аднагалосна 5 чэрвеня 1294 года, і пачалася вельмі дзіўная камедыя, меўшая трагічнае заканчэнне, як і патрэбна было чакаць.

Ледзь пераводзячы дыханне кардыналы падняліся па пастуховай сцяжынцы на вапняковую гару, каб знайсьці цудадзея якога яны павінны былі прывесьці із цёмнай пячоры на бліскучы сусветны пасад, яны пабачылі перад сабой вартую жалю халупу з закратаваным вакном. Чалавек з ускалмачанай барадой і бляклым зняможаным тварам, захутаны ў кудлатую рызу, напалохана глядзеў на прыйшоўшых. Яны багавейна ўпалі перад ім ніц. Анахарэт адказаў такім жа чынам на іхнае прывітанне. А калі ён даведаўся, што іх туды прывяло, ён напачатку паспрабаваў збегчы, і толькі гарачыя прашэнні манахаў яго ордэна, не падзяляўшых яго сціпласьці, вымусілі яго прыняць дэкрэт пра абранне. Гэтыя «вучні Святога духа» з захапленнем прадчувалі, як з абраннем іхнага кіраўніка на папскую пасаду ажыццявіцца ў рэчаіснасьці тое прароцкае царства, у якім ніхто не будзе клапаціцца пра заўтрашні дзень і якое прадказваў ім грунтуючыся на Евангеллі абат Ёахім дэ-Флірэ.

Незлічоныя натоўпы народу, сьвятарства, бароны, кароль Карл і яго сын паспяшаліся вітаць новага абранніка, і на дзікай гары Мурон здзейснілася самая дзіўная пастанова, якую калі-небудзь бачыла гісторыя.

Шэсьце накіравалася ў горад Аквілу. Пятро-пустынік ехаў у сваёй жабрацкай рызе на асле, якога з клапатлівай павагай вялі за аброць два каралі, тады як шэрагі бліскучых рыцараў і хор сьвятарства, спяваючага гімны, ішоў наперадзе, а пярэстыя натоўпы народа ішлі ззаду ці з глыбокай павагай стаялі на каленах уздоўж дарогі.

Кароль Карл адразу ж завалодаў новым выбраннікам і не выпускаў яго са сваіх рук, як ляльку. Кардыналы заклікалі пустыніка ў Перуджыю, а пустынік клікаў іх да Аквілы, таму што так яму загадаў Карл. Яны з'явіліся неахвотна, і славалюбівы кардынал Бенедыкт Гаэтані прыбыў пасьля ўсіх. Раздражнёны тым, што ён пабачыў, ён паспрабаваў забяспечыць сабе ўплыў на курыю, і шчасьцем для набожнага кардынала Латынівуса, прапанаваўшага такога папу, было тое, што ён памёр у гэты час у Перуджы, не пабачыўшы блізка выніку сваёй прапановы. Але яго смерць была няшчасьцем і для новага Пятра. Кардыналы, свецкія і адукаваныя людзі, са здзіўленнем глядзелі на свайго выбранніка, выступаўшага перад імі як запалоханы лесавік, слабы, не меўшы ні дарунку слова, ні ўмення сябе трымаць.

У царкве, знаходзіўшайся перад сьценамі Аквілы, цудадзей атрымаў пасьвячэнне 24 жніўня 1294 года, прыняўшы імя Нябесны (Цэлестын V). Пры гэтым, як паведамляе сведка, прысутнічала да 200 тысяч народа. Потым ён здзейсніў свой заезд у горад ужо не на асле, а на каштоўна ўпрыгожаным белым інаходцы, у кароне, з усёй пышнасьцю. Як служка Карла, ён адразу ж прызначыў новых кардыналаў паказаных каралём, і аднавіў асноўны закон Рыгора X пра канклаў. Хітрыя прыдворныя атрымлівалі ад яго пячатку і подпіс для ўсяго, што ім было пажадана. Сьвяты не мог нікому адмовіць у прашэнні і раздаваў царкоўную

маёмасць на ўсе бакі. «Ён быў падобны, – паведамляе яго біёграф, – на дзікага фазана, які, схаваўшы сваю галаву, думае, што яго ніхто не бачыць, і дазваляўшы пераследуючым яго паляўнічым схапіць сябе голымі рукамі».

Але вось, страціўшы цярпенне кардынал Гаэтані, пад час начной цемры, грымотным голасам з дапамогай рупара, прыпадабняючыся боскаму голасу з неба, грозна загадаў яму адрачыся ад папства, як нявартаму грэшніку, і перапалоханы папа неадкладна адрокся, усяго толькі праз пяць месяцаў пасьля свайго пасьвячэння. Ён быў адзіным рымскім папай, які склаў сваю тыяру падпарадкаваўшыся голасу з неба.

Спроба «братоў Святога духу» утрымаць на папскім пасадзе апостала галечы і пачаць з яго новую эру царства божага на зямлі пры сутыкненні з практычным жыццём выявілася немагчымай і пасьля рамантычнай інтэрмедыі, у якую завёў царкву цудадзей, на папскі пасад уступіў славалюбівы Гаэтані пад імем Баніфацый VIII, каб са свайго боку ўявіць доказ таго, як небяспечна мець палітычнага кіраўніка не маючага ні адзінай якасьці святога, хаця б ён і меў здольнасць выказвацца грымотным голасам з неба з дапамогай рупара.

Зрабіўшыся папай, ён вырашыў вызваліць пантыфікальны пасад ад якіх бы то ні было уплываў да той пары абмяжоўваўшых яго волю. Ён перадусім пабаяўся пакінуць на волі свайго папярэдніка «сьвятога чалавека», які ў руках ворагаў мог зрабіцца небяспечнай прыладай супраць яго. Са згоды караля ён паслаў няўдалага папу пад канвоем у Рым. Святы збег. Карл выправіў за ім пагоню, каб арыштаваць, але яго не знайшлі.

Яго спадкаемца пакінуў Неапаль у суправаджэнні Карла пад час першых дзён студзеня 1295 года, але ледзь яны з'ехалі ў Капую, як у Неапалі пашырыўся слых, што хітры Баніфацый па дарозе раптам памёр, і гэта замест смуткавання абудзіла нястрыманую радасць. Неапалітанцы наладзіці ў сваім горадзе ўрачыстае сьвята, і з такімі провадамі наступнік Цэлестына працягваў свой шлях у Рым.

Заезд і ўрачыстасць яго каранавання, якое адбылося 23 студзеня 1295 года ў храме св. Пятра, былі адсвяткаваны з нечуванай пышнасьцю. Баніфацый паважна сядзеў на беласнежным іназодцы, пакрытым гунькай із кіпрскіх пёраў, з каронай св. Сільвестра на галаве, апрануты ва ўрачыстае папскае адзенне. Паабапал яго ехалі, апранутыя ў чырвонае, два васальныя каралі, Карл і Карл Мартэл, трымаючы за аброць каня папы, а толькі за паўгода перад гэтым тыя ж самыя каралі суправаджалі папярэднічаўшага папу, ехаўшага на асле ў адзенні пустыніка. Зараз яны занялі сціплыя месцы паміж кардыналамі за сталом, на якім паміж дарагімі стравамі зіхацелі «куфлі Бахуса»[265].

А Цэлестын у гэты час блукаў у лясах Апуліі, уцякаючы ад сваіх праследнікаў. Ён вярнуўся ў пустэльную мясцовасць каля Сульмо, дзе спадзяваўся працягваць свой ранейшы лад жыцця. Але адрокшыся папа ўжо не меў права быць вольным. Калі шукаўшыя яго прыйшлі на Муронэ, Цэлестын пайшоў адтуль. Ён працягваў сваё падарожжа з адным спадарожнікам і, пасьля некалькіх стамляючых тыдняў, дасягнуў берага мора. Ён сеў на барку, каб дабрацца да Далмацыі, дзе спадзяваўся канчаткова схавацца. Але мора выкінула сьвятога зноў на бераг. Грамадзяне Вістэ пазналі яго і віталі з вялікай павагай, як цудадзея. Яго прыхільнікі патрабавалі ад яго, каб ён зноў абвясціў сябе папай. Але Вільгельм

[265] Reticere juvat velamina muri et vestes, mensaeque situs, fulgentia Bacchi. Pocuia, gemnatos calices, et fercula... (Opus Metricum).

л'Эстандар, канэтабль караля, арыштаваў яго і даставіў у траўні на мяжу царкоўнай вобласьці.

Абрадаваны тым што небяспечны папярэднік знаходзіцца пад яго ўладай, Баніфацый VIII загадаў спачатку трымаць яго пад вартавай у сваім палацы ў Ананьі. Яго абсыпалі запэўніваннямі ў павазе і, нарэшце, выправілі ў заняволенне ў замак Фумонэ. Гэтае змрочнае ўмацаванне, пабудаванае на крутой гары каля Алатары, са старажытных часоў служыла дзяржаўнай турмой, у вежах якой закончылі сваё жыццё шмат хто із мяцежнікаў. Тут і сьвяты хутка памёр.

Смерць Цэлестына замацавала Баніфацыя на пасадзе. Калі ён не меў магчымасьці скасаваць пагалоску, абвінавачваючую яго ў тым, што ён дасягнуў пасаду падступнымі сродкамі, то ўсё ж ён забраў у сваіх супернікаў жывога прадстаўніка евангельскіх запаветаў. Зараз яго самай блізкай мэтай стала набыццё Сіцыліі для Анжуйскага роду і разам з тым для царквы.

Пасьля каранацыйных сьвятаў абодва каралі з'ехалі із Рыма, каб рыхтавацца да вайны супраць Фрыдрыха, на якую Баніфацый даў сродкі із царкоўнай дзесяціны. Але сіцылійцы не звярталі ўвагі на сваё адлучэнне. Гэтая духоўная зброя, якая перад тым дзейнічала больш разбуральна, чый порах, прытупілася ад ужывання.

Найбольш жарснымі супернікамі Баніфацыя былі браты «целестынскага ордэна», абураўшыяся на яго яшчэ мацней дзякуючы таму, што Баніфацый скасаваў спрыяльныя для іх акты, выдадзеныя яго папярэднікам. Яны бачылі ў ім сіманіста і ўзурпатара, увасабляўшага ў сваёй асобе тую мірскую царкву, якую яны асуджалі і жадалі рэфармаваць у адпаведнасьці са сваімі марамі пра «царства Сьвятога духа».

Апазіцыя ззгуртавалася вакол кардыналаў Калона і іхных сваякоў-арыстакратаў, ўсведамляючых сваю магутнасць. Але хутка Калоны былі пераможаны, дзякуючы таму, што засталіся самотнымі. Кароль Фрыдрых не даслаў ім ніякай дапамогі, гібеліны ў царкоўнай вобласьці не паўсталі, а ў Лацыуме адзінкавае паўстанне Яна Чэкапа із роду Анібальдзі не мела значэння.

Горад Палестрына здаўся папе па дамове, але папа не стрымаў слова.

«*Сула,* – выказвацца Грэгарэвіус (X, 5), сам не ўсведамляючы фатальнага значэння сваіх слоў *для класічнай гісторыі, – якому некалі здаўся Прэнэстэ, параўнаў горад з зямлёй, а праз 1 400 гадоў і папа са старажытнарымскай лютасьцю таксама сцёр яго з твару зямлі. Баніфацый даў свайму вікарыю ў Рыме загад разбурыць Палестрыну* (як і тады зваўся Прэнэстэ) *дашчэнту*».

І вось я зноў стаўлю пытанне: ці не было разбурэнне гэтага горада Сулой спісана із разбурэння яго Баніфацыем, і ці не з'яўляюцца класічныя руіны гэтага горада пабудовамі роду Калона? Ці не з'яўляюцца сучасныя рымскія руіны, маючыя назву класічных, толькі парэшткамі пышных пабудоваў гвельфаў, разбураных гібелінамі, і радавых пабудоў гібелінаў, разбураных гвельфамі, падчас гэтых міжусобных войнаў, і ці не з'яўляюцца класічныя гарацыі і куріацыі толькі міражом гэтых гвельфаў і гібелінаў?

Згадаем, што слова куріацый [царкоўнік] паходзіць ад слова курыя, як і да гэтага часу завецца вярхоўнае кіраванне рымскай царквы, а слова гарацый, г.зн. горац, ад грэцкага δροι (гарай) – горы, магло быць элінізаванай назвай феадальных баронаў, замкі якіх узводзіліся на ўзгорках і гарах.

Палестрына знаходзілася тады, як і зараз, на сярэдзіне гары, пакрытай зелянеючымі аліўкавымі і лаўровымі дрэвамі. Яе вяршыню занімала Рока С. П'етра,

цытадэль з вежамі, абнесеная цыклапічнымі сьценамі, дзе сядзеў у ланцугах Канрадын. Там жа былі палацы і шмат сядзіб. Ніжэй гэтага ўмацавання тэрасападобна спускаўся абнесены моцнай сьцяной горад, пабудаваны быццам бы із парэшткаў храма Фартуны, пры гэтым у ім месцаваліся шматлікія псеўда-старажытныя палацы і яшчэ захаваліся значныя рэшткі храма. Галоўны палац, – пераконваюць нас, – быў збольшага антычнай пабудовы, прыпісваемай Юлію Цэзару, грунтуючыся на тым, што будынак быў пабудаваны ў выглядзе літары С, але ж гэтае С азначае не толькі Caesar, а і Colonna! З ім быў злучаны круглы храм, прысьвечаны «сьвятой Панне» і падобны на рымскі Пантэон, падмуркам «другога служылі мармуровыя ўсходы ў сто ступеняў такой шырыні, што па ёй можна было спакойна заехаць верхам.

Іншыя «антычныя» помнікі (шмат статуй і бронзавых рэчаў) із невычэрпнага багацця квітнеючага перыяду Прэнэстэ быццам бы захаваліся там да то часу ад антычнага перыяду пад аховай шанваўшых мастацтва Калона, сабраўшымі ў сваім палацы ўсю раскошу таго часу і ўсе скарбы «старажытнасьці» і дакументы свайго роду. Усё гэта, кажуць нам, загінула на працягу некалькіх дзён. Пашкадаваны быў толькі сабор Св. Агапіта, і па парэшках Прэнэстэ «быў праведзены плуг і пасыпана соль». Так яшчэ адзін із самых старажытных гарадоў Італіі, падобна Тускулуму ў Лацыуме, загінуў у сваім «антычным» выглядзе, хаця потым і быў зноў адбудаваны. Але ці сапраўды антычнасць гэтай Альба-Лонгі сыходзіла глыбей за XIII стагоддзе?

«*Падобна таму як Сула пасяліў на раўніне разбуранага ім горада вайсковую асаду,* – зноў сведчыць Грэгарэвіус, не падазраючы пра сапраўднае значэнне гэтых сваіх параўнанняў (X, 5), – *так і Баніфацый загадаў няшчасным яго жыхарам, усю прыватную маёмасць якіх ён забраў у скарб, будавацца каля яго. Яны пабудавалі халупы на нізінным месцы, дзе зараз знаходзіцца мадонна дэль Аквіла. Папа даў гэтаму месцу назву Папскі горад і перанёс у яго месцазнаходжанне пелестрынскага кардынала-біскупа. У чэрвені 1299 года ён прызначыў Тэадорыха Райнэры із Арвіеты, свайго рымскага вікарыя, біскупам новага горада, жыхарам якога ён вярнуў іхную маёмасць у выглядзе лена, але ужо вясной 1300 года зноў, як угневаны тыран, ён разбурыў толькі-што пабудаванае селішча, пасьля чаго яго жыхары перасяліліся ў іншыя месцы і разышліся*».

Прадстаўнікі рода Калона разбегліся, хто ў адзін, хто ў другі бок.

Маючы на мэце, нарэшце, хаця б у аддаленых краінах папулярызаваць папства, Баніфацый VIII адкрыў пачатак XIV стагоддзя (1300 год) знакамітай паломніцкай урачыстасьцю.

Нас пераконваюць, што такія ж стагадовыя юбілеі існавалі і ў старажытным Рыме і суправаджаліся шыкоўнымі гульнямі, але «ўспаміны пра гэта зніклі на працягу сярэдневечча». Такія масавыя паломніцтвы да Св. Пятра, – кажуць нам, – прыпыніліся падчас крыжовых паходаў, але пасьля іх заканчэня зноў аднавіліся і накіраваліся да магільні апосталаў. А на справе, у гэтым набожным імкненні значная доля належала спрытным деянням рымскага сьвятарства. Баніфацый надаў толькі форму і санкцыю ўсё павялічваючамуся пілігрымскаму руху, абнародаваўшы 22 лютага 1300 года юбілейную булу, якая абяцала поўнае дараванне грахоў усім тым, хто на працягу года наведае базіліку Пятра і Паўла. Із амністыі былі выключаны толькі ворагі царквы, Фрыдрых Сіцылійскі, Калона з іхнымі прыхільнікамі і ўсе хрысьціяне, меўшыя гандлёвыя стасункі з прававернымі.

Була падзейнічала. Прыліў паломнікаў быў небывалым. Рым дзень і ноч уяўляў відовішча войска прыходзячых і выходзячых багамольцаў. З поўдня і

поўначы, з усходу і заходу ішлі, як быццам падчас перасялення народаў, натоўпы людзей: італьянцы, правансальцы, французы, вугорцы, славяне, немцы, гішпанцы і ангельцы. Італія дазволіла вандроўнікам вольна рухацца па дарогах і на гэты час усталявала «боскае замірэнне». Людзі праходзілі ў плашчах пілігрымаў ці ў нацыянальных адзеннях іхных краін, пешшу, конна, ці ў павозках, на якіх везлі стомленых і хворых, і на якіх былі нагружаны іх пажыткі. Тут былі і стагадовыя старыя, суправаджаемыя іхнымі ўнукамі, і юнакі, нёсшыя ў Рым на плячах бацьку ці маці. Летапісец із Асты лічыць, што на працягу таго года прыйшло два мільёны пілігрымаў. Яны размаўлялі на розных мовах, але спявалі малітоўныя спевы на адной лацінскай мове царквы, і іхныя жарсныя памкненні мелі адну і тую ж мэту. Калі на фоне асьветленай сонцам далечыні ім паказваўся цёмны лес вежаў сьвятога горада, яны пачыналі радасна крычаць: «Рым! Рым!», як мараплаўцы, пасьля доўгага вандравання заўважалі выступаючы із мора бераг. Яны падалі на зямлю, каб памаліцца і падніmaліся крычучы:

– Сьвятыя Пятро і Павел, памілуйце нас!

Каля гарадзкой брамы іх сустракалі землякі і гарадзкія апекуны, кіраваўшыя забяспячэннем, каб паказаць ім памяшканні. Але перш усяго яны кіраваліся да храма Пятра, падніmaліся на каленях па ўсходах пярэд дзвярамі і потым у экстазе падалі на зямлю каля апостальскай магільні. Так яшчэ і тады ўдзейнічала чытанне Евангелляў і Апакаліпсіса, перакладзеных на лацінскую мову і пашырыўшыяся, згодна з ўсёй логікай падзей, няйнакш як толькі зараз па ўсяму заходу Яўропы!

Вельмі магчыма, што менавіта для гэтай урачыстасьці і быў пабудаваны ў Рыме знакаміты Калізей (мал. 131) і толькі пазней, калі ўжо мінаваў першы жахлівы перыяд інквізіцыі, наступіўшы за юбілеем, успаміны пра пакараных тут сьмерцю вальнадумцаў і былі апакрыфікаваны ў глыбокую старажытнасьць і прыпісаны паганскаму «Чорнаму цару – Нярону».



Мал. 131
Выгляд амфітэатра, званага Калізеем (Colosseo) і абудаванга быццам бы імператарам Флавіем Веспасіянам у садзе Нярона ў 72 годзе нашай эры.



Мал. 132
Унутраны выгляд Калізея.

Само сабой зразумела, што я не маю намеру сцвярджаць, што Калізей быў пабудаваны адмыслова для публічнага ўсенароднага спальвання ці затраўлівання зьвярамі хрысьціянаў не прызнаючых папскую уладу. Цалкам наадварот, усе факты сведчаць, што ён быў пабудаваны, як сучасныя гіпадромы, для забавак шматлікай публікі.

Я кіну на яго позірк толькі з эканамічнага боку гледжання. Колькі каштавала яго пабудова, колькі народу і колькі часу яго будавалі? Вазьму прыклад са сваёй практыкі.

У 1914 годзе, будучы сябрам рады С-Пецярбургскай біялагічнай лабараторыі (якая складалася згодна са статутам із 8 пажыццёвых сябраў, замяшчаўшыхся пасьля сьмерці і быўшых юрыдычнымі ўладальнікамі гэтай установы), я, пасьля сьмерці Лесгафта, прапанаваў туды на вызваліўшаяся месца свайго сябра, доктара Сіманава, які склаў каштарыс перабудовы яе двухпавярховага флігеля, дзе я жыў, у шасьціпавярховы дом. І выявілася, што з прыстасаваннямі для навуковай працы гэта патрабуе каля 200 000 рублёў, якія ён, як вельмі заможны чалавек, і ахвяраваў, і дом быў пабудаваны за гады два.

Але ў колькі ж разоў – уяўляецца мне, – Калізей большы чэм гэты дом? Зірніце толькі на яго парэшткі (мал. 132) і папрасіце каго-небудзь із вашых знаёмых архітэктараў скласьці каштарыс яго пабудовы:

1) колькі каштаваўла прыгатаванне камянёў для яго муроў з дапамогай прылад маючыхся ў тыя часы;

2) колькі каштавала іхная перавозка;

3) колькі каштавала само ўзвядзенне муроў; і, акрамя таго;

4) колькі працоўных рук і колькі часу патрабавалася на кожную із гэтых трох аперацый?

І кожны архітэктар без сумневаў скажа вам, што гэта каштавала вельмі шмат, патрабавала вялізнай колькасьці працоўных рук і, пры стане тагачаснай тэхнікі, не аднаго дзесяцігоддзя для выканання прац.

Адсюль зразумела, што Калізей, калі мы адкінем старадаўнія ўяўленні пра тое, што нашы продкі былі тытанамі, мог быць пабудаваны толькі ў такі перыяд, калі ў Рыме ўжо назапасілася вялізная колькасць рухомага капіталу, г.азн. манет, ужо ўвайшоўшых ва ўсеагульны ўжытак. Гэтая ўмова неабходна, таму што манета з'яўляецца адзіным ўсюды пранікаючым растваральнікам дадатковай каштоўнасьці чалавечай працы, адкуль яна можа крышталізавацца ў вялікім прадукце пры спрыяльным месцаванні і пры спрыяльных умовах. Вядома, значныя пабудовы могуць вырабляцца і непасрэдна, шляхам рабскай прымусовай дададзенай працы, як крышталі, утвараючыяся без бачнага растваральніка шляхам сухой перагонкі. Пры феадальнай структуры грамадства, будынкі ўзнікалі і без пасярэдніцтва манеты, а шляхам простага націску на насельніцтва, ужо дастаткова густога ў бліжэйшым наваколлі і таму здольнага вылучыць із сябе значную частку ад земляробскай, сілкуючай працы на прамысловую працу, паглынаючую лішкі вырабляемай земляробствам ежы[266], пры карыснай вытворчасьці на яго ж карысць (даючы яму на абмен адзенне, жыллё, асьвету, забавы і г.д.), а пры не маючым карысьці – толькі запавольваючы развіццё яго натуральнай культуры.

Але да якога б роду із гэтых двух крышталізацый дададзеных каштоўнасцей чалавечай працы мы ні аднеслі б Калізей, усё адно гэты вялізны крышталь, – як я толькі што сказаў, мог утварыцца толькі із моцна насычанага каля яго раствору, для чаго мы не бачым магчымасьці раней таго часу, калі Рым ужо стаў цэнтрам вялізнага рэлігійнага пілігрымства, бо аднаго феадальнага націску на наваколле было б тут недастаткова.

Але чаму ж, запярэчаць мне, дадатковая праца пілігрымаў і навакольнага насельніцтва, была яна рабскай ці наёмнай, крышталізавалася тут не ў выглядзе новага вялізнага храма Мадонне, а ў выглядзе гіпадрома? Вельмі проста. Таму што пантыфікальная рэлігія сярэднявечнага Рыма не была яшчэ такой вузкай, як зараз. У чацьвёртым томе «Хрыста» я ўжо паказваў, што цырк, царква і тэатр яшчэ не аддзяляліся адзін ад аднаго пад час сярэдневечча ў Заходняй Яўропе і служылі праявамі таго ж самага містычнага сьветапогляду.

Возьмем хаця б рыцарскія турніры і дуэлі больш позняга часу (мал. 133). Скажыце, чым яны па сваёй сутнасьці адрозніваюцца ад гладыятарскіх баёў? Ніяк не сваёю сутнасьцю, а толькі тым, што нам аднабакова надалі пра іх людзі, якія самі атрымалі пра іх аднабаковыя наданні ад іншых. Рыцары – кажуць нам – былі высакароднымі шляхетнымі маладымі джэнтльменамі, якія змагаліся адзін з адным, каб заслужыць лагодны пагляд сваіх высакародных дам, таму што дуэль тады лічылася «боскім судом», на які яны, а пасьля іх і ўсе мужчыны ў прывілеяваным грамадстве, аддавалі сябе ў выпадку абразы. Гладыятары ж былі, – кажуць нам, – подлымі, невысакароднымі людзьмі, якія змагаліся адзін з адным за грошы.

[266] Усе гэтыя меркаванні будуць дапасаваны мной у апошнім томе «Хрыста» і да складання каштарысу на пабудову трох ягіпецкіх вялікіх пірамід пад час трох пасьлядоўных валадаранняў.



Мал.13

Рэальная першакрыніца паданняў пра класічных гладыятараў. Сярэднявечны турнір у прысутнасьці караля і публікі, так званы « боскі суд » ў славу дамы ці мадонны (згодна са старажытным малюнкам).

Але ж слова гладыятар, – адкажу я, – азначае проста мечнік, г.азн. вайсковец, і ніводзін гістарычны дакумент не паведамляе нам, колькі грошай яны атрымлівалі за свае баі. Дык якія ж мы маем падставы лічыць, што і гладыятары, падобна ўсім тагачасным вайскоўцам, не спаборнічалі адзін з адным у славу, напрыклад, Мадонны, як самай прыгожай із усіх шляхетных дам?

Нас пераконваюць, што ў класічныя часы ладзіліся баі гладыятараў і з дзікімі звярамі. Але хіба аж да апошняга часу мы не бачым у Гішпаніі, як публіка збягаецца ў цыркі і на баі тарэадораў з папярэдне раз'юшанымі быкамі? Чаму з быкамі, а не з ільвамі і тыграмі? Ды толькі таму, што быкі заўсёды пад рукой, а ільвоў і тыграў цяжка здабыць у Гішпаніі, ды і каштавала б гэта занадта дорага.

Нагадаем, што выказванне «вайна для вайны» было дэвізам усіх вайскоўцаў аж да XIX стагоддзя, а мянушак «зух» і «асілак» дамагаліся і не вайсковыя маладыя людзі, раней таго часу калі адвага і зухаватасць пачалі аб’ядноўвацца пад назвай хуліганства.

Мы ведаем, што турніры былі звычайна калектыўнымі, на якія да вядомага часу склікалася рыцарства цэлых абласьцей. І вось, мімаволі прыходзіць у галаву,

што і такі будынак як Калізей, спачатку быў пабудаваны для нейкага выключнага турніру, у славу Мадонны. Усё яго ўладкаванне прыстасавана да гэтага, а сведчанні пра яго легендарнае мінулае ўсе позняга часу. Першыя праўдзівыя паведамленні пра яго гісторыю зводзяцца да таго, што таварыства Gonfalone (г.азн. харугваносцы) ладзіла ў ім свае «гледзішчы» (г.азн. спаборніцтвы і турніры) яшчэ і ў 1443 годзе, а узнікла гэтае таварыства, – кажуць нам, – у 1264 годзе. Ці не выходзіць адсюль, што яшчэ тады, за 36 гадоў да апісваемага зараз намі сусьветнага рымскага юбілею, упершыню пачаў будавацца згодна з ініцыятывай Клімента IV гэты будынак для мяркуемай сусьветнай царкоўнай урачыстасьці і што для яго падрыхтоўкі было заснавана і само таварыства «харугваносцаў»? Гэта ж самае лепшае тлумачэнне!

І вось урачыстасць надышла праз 36 гадоў, калі на сродкі цэлых пакаленняў папярэднічаўшых пілігрымаў і на каштоўныя падарункі каралёў быў пабудаваны гэты будынак...

Увесь год Рым уяўляў сабой паломніцкі лагер, перапоўнены народам і вавілонскім змешваннем розных моваў. Сучаснікі сведчаць, што штодня ў яго задзілі і із яго выходзілі 30 000 багамольцаў, і што кожны дзень у горад прыбывала да 20 000 чужаземцаў.

Выдатная адміністрацыя клапацілася пра парадак і пра таннасць жыцця. Год быў урадлівым. Кампання і найбольш блізкія правінцыі дасылалі шмат правізіі. Быўшы ў ліку паломнікаў хранікёр паведамляе нам:

«*Хлеб, віно, мяса, рыба і авёс былі на рынку ў вялікай колькасьці і былі таннымі; сена, наадварот, было вельмі дарагім. Кватэры былі такімі дарагімі, што я за свой ложак і за стойла для маіх коней павінен быў штодня выплачваць торнскі грош, акрамя выдаткаў на авёс і сена. Калі я пад час куцці з'язджаў із Рыма, я бачыў вялізныя натоўпы сыходзячых паломнікаў, якіх ніхто не мог злічыць. Рымляне налічвалі іхную агульную колькасць роўнай двум мільёнам мужчын і жанчын. Не раз я бачыў, што мужчыны і жанчыны былі затоптаны пад нагамі натоўпаў, і сам я некалькі разоў насілу пазбег гэтай небяспекі*».

Дарога, якая вяла із горада праз мост св. Анёла да храма Пятра, была занадта цеснай. Таму ў сьцяне недалёка ад надмагільнага помніка Meta Romuli прабілі новы шлях да ракі. Дзеля пазбягання няшчасных выпадкаў было ўсталявана, каб ідучыя наперад шлі па адным боку маста, а вяртаючыяся – па другому. Гэты мост у той час быў увесь забудаваны крамамі і падзяляўся ўздоўж на дзве паловы. Працэсіі безперапынку ішлі да храма Паўла і да храма Пятра, дзе ўжо тады паказвалі высока-ўслаўленую рэліквію – намочаную потам хустку св. Веранікі. Кожны багамолец клаў ахвяравальны падарунак на ахвярнік апосталаў, і той жа хранікёр із Асьці сцвярджае, як сведка, што каля ахвярніка св. Паўла днём і ноччу стаялі два клірыкі з граблямі ў руках, якімі яны зграбалі незлічоную колькасць медзяных і рэдка срэбных манет. Казачны выгляд духоўных асоб, якія з усмешкай грэблі грошы, як сена, даваў нагоду староверам гібелінам сцвярджаць, што абнаўленчы папа толькі дзеля грашовага прыбытку і прызначыў юбілейны год.

Калі б манахі каля св. Паўла, замест медзяных манет, знаходзілі залатыя флорыны, то, вядома, яны сабралі б казачныя багацці, але горы грошай каля св. Паўла і ў св. Пятра складаліся большай часткай із дробных манет, ахвяруемых беднымі багамольцамі. Кардынал Якаў Стэфанэскі асобна пазначыў гэта і жаліўся на перамяніўшыяся часы. «Зараз, – сведчыць ён, – ахвяравалі толькі беднякі, а каралі, не падобныя на трох вешчуноў, не прыносілі больш дарункаў Ратавальніку». Але юбілейны прыбытак быў усё ж больш значным і папа меў

магчымасць із яго надаць абедзьвюм базілікам капітал для купляння маёнткаў. А так як і пад час звычайных гадоў дарункі, прыносімыя паломнікамі Св. Пятру, дасягалі 30 000 залатых гульдэнаў, то можна сабе ўявіць, наколькі больш значнымі павінны былі быць барышы вялікага юбілейнага года! «Дарункі паломнікаў, – пісаў фларэнтыйскі летапісец, – склалі скарбы царквы і ўсе рымляне шмат зарабілі ад продажу тавараў».

Можна сабе ўявіць, якая маса рэліквій, кудменяў і выяваў сьвятых была прададзена за гэты час у Рыме і як шмат не толькі падробленых кавалачкаў крыжа госпада, але і падробленых парэшткаў старажытнасьці, манет, гемаў, пярсцёнкаў, скульптурных рэчаў і мармуровых адломкаў было вынесена пілігрымамі на іхныя бацькаўшчыны. Калі гэтыя вандраўнікі дастатова задавальнялі свае рэлігійныя патрэбы, яны павярталі свае здзіўленыя позіркі на «старажытныя» будынкі залатога горада, які яны абыходзілі з напісанай перад гэтым, і магчыма знарок для гэтага, кнігай «Дзівы Рыма» («Mirabilia Romae») у руках. Усё гэта рабіла на іх чароўнае ўздзеянне.

«*Я таксама браў удзел,* – піша Джыавані Вілані, – *у гэтым пабожным паломніцтве ў сьвяты горад Рым, і калі я пабачыў у ім вялікія і старажытныя прадметы ў прачытаў* (калі і дзе?) *гісторыю вялікіх здзяйсненняў рымлян, апісаных Вяргіліем, Салюстыем, Луканам, Цітам Лівіем, Валерам Паўлам, Арозыем і іншымі майстрамі-гісторыкамі, то я запазычыў ад іх свой склад і форму, хаця, як вучань, і быў нявартым здзейсніць такую вялікую справу. Такім чынам у 1300 годзе, вярнуўшыся із Рыма, я пачаў пісаць кнігу ў славу бога і сьвятога Яна і ў гонар нашага горада Фларэнцыі*».

Гэта была яго гісторыя Фларэнцыі, самая вялікая і самая наіўная хроніка, якую стварыла Італія на сваёй сярэднявечнай мове.

І шмат хто із іншых таленавітых людзей маглі ў гэты час набыць у Рыме натхненне да пісьменніцтва.

Для Баніфацыя юбілей быў сапраўднай перамогай. У тыя дні ён меў магчымсць празмерна адчуваць такую паўнату амаль божай улады, як наўрад ці які із быўшых да яго пантыфексаў. Ён займаў самы высокі пасад Заходняй Яўропы, упрыгожаны здабычай забранай у імперыі. Ён быў «намесьнікам бога» на зямлі, дагматычным вярхоўным кіраўніком сьвету, трымаўшым у сваіх руках ключы дабраславення і пагібелі. Ён бачыў тысячы людзей, прыходзіўшых здалёк да яго пасада і ператвараўшыхся перад ім у пыл, як перад найвышэйшай істотай. Ён не бачыў перад сабой толькі каралёў і магнатаў. Акрамя Карла Мартэла, ніводзін манарх не з'явіўся ў Рым, каб у якасьці верніка атрымаць драванне грахоў. Гэта паказвала, што вера, некалі даваўшая перавагу царквы перад каралямі, пры каралеўскіх дварах ужо вычарпала сябе і гэта было цалкам натуральна: не маглі ж наіўныя евангельскія запаветы трымацца вечна.

Баніфацый VIII закончыў векапомнае сьвята пад час каляднай куцці 1301 года, і гэтым сусьветным юбілеем я і закончу сваю **рэчаісную гісторыю горада Рыма.**

Чытач самастойна, калі ў яго толькі ёсць вочы каб бачыць, не можа не пераканацца, што праз усю яго гісторыю праходзяць чырвонымі ніткамі дзьве рысы.

Першая із іх – гэта вечная вайсковая немач Рыма, абумоўленая яго краявым месцаваннем у Яўропе і аддаленасьцю ад яе мінеральных багаццяў, асабліва жалеза і медзі, і адсутнасьцю добрых сухапутных і марскіх шляхоў стасункаў з астатнімі культурнымі краінамі. Без добрай гавані ён ніколі не мог мець улады на моры, а да

вынаходніцства чыгункі і паветраных шляхоў паведамленяў не мог быць валадаром кантынентаў не толькі пад час старажытнасьці, але і пад час сярэднявечча.

Другая чырвоная нітка – гэта ўсё большы і большы яго ўплыў на псіхіку Заходне-еўрапейскага насельніцтва, які, як Фенікс, адраджаўся із уласнага яго попелу пасьля кожнага, здавалася б, сьмяротнага ўдару.

Чым жа патлумачыць гэтую яго перавагу?

Тут нам нічога іншага не застаецца рабіць, як, ці дапусьціць, падобна каталікам, што на ім засяроджана асаблівая схільнасць бога-бацькі і асабліваe заступніцтва яго сына і апостала Пятра, ці патлумачыць усё гэта тым, што пасьля знікнення Геркуланума (ці Пампеі) слава гэтага біблейскага Ерусаліма перанеслася на яго, як на самае бліжэйшае бяспечнае месца, ці тут адбылося паданне гіганцкага метэарыта, узрушыўшага краіну, які даў нагоду да ўзнікнення легенды пра апостала Каменя (Пятра). І яна сапраўды магла падтрымлівацца доўга, як дзякуючы традыцыі, так і дзякучы размешчаным за Рымам рэчаісным дзівам полымядыхаючых гор, якія час-ад-часу вымушалі гаварыць пра сябе па ўсёй Заходняй Яўропе і гэтым засяроджваць на Рымскай і Неапалітанскай мясцовасьцях усеагульную ўвагу.

Багатыя прынашэнні пілігрымаў служылі сапраўднымі падмуркамі яго велічных пабудоваў і гадавальнікам узнікшых у іх, як і ў кожным матэрыяльна забяспечаным асяроддзі, навукоўцаў, пісьменнікаў і мастакоў. А калі дзякуючы грамадзянскім пераваротам і зменлівасьці шчасьця ў вайне гвельфаў і гібелінаў самыя буйныя із рымскіх пабудоваў першымі ператварыліся ў разваліны, над імі пачалі лётаць чароўныя бачанні абуджаючайся на захадзе Яўропы чалавечай фантазіі і пераносіцца, падобна аблокам, у глыбокую старажытнасьць.

Усё гэта толькі павялічвала яго непераадольную прывабнасць, і таму, толькі з часу ўзнікнення ў Яўропе рэалістычнай, назіральнай і досьледнай навукі, замяніўшай памаленьку ранейшую, містычную, Рым пачаў саступаць сваю культурную першасць іншым, больш прыдатным згодна з геаграфічнымі асаблівасьцямі, цэнтрам і больш прыдатным для новага накірунку чалавечай думкі і чалавечай творчасьці.

І няма нічога дзіўнага ў тым, што, ужо праз пяць гадоў пасьля толькі што апісанага юбілею, папы былі вымушаны выехаць із гэтага горада ў французкі Авіньён, пад заступніцтва чужацкага караля.



Мал. 134
Папская варта XIX стагоддзя пры ўваходзе ў Ватыкан.

# Глава VI.
## Пачатак класіцызму.

У XIII стагоддзі веды ўжо пачалі браць верх над містыкай і з'явіліся, нарэшце, у даволі значным памеры. «*Італія паднялася,* – выказваецца ўсё той жа Грэгарэвіус (X, 7), – *на новую вышыню. Пад шум зброі партый, пры амаль штодзённых дзяржаўных пераваротах, заканазнаўцы, філосафы, паэты і мастакі збіралі тут вакол сябе шматлікіх вучняў. Сума разумовай працы гэтага стагоддзя пачала заўважацца ужо часткова ў ім жа, часткова напачатку наступнага стагоддзя, на прыкладзе трывалых культурных дасягненняў. Із іхнага шэрагу вылучаюцца працы юрыстаў: Акурсіуса, Адафрэда і Вільгельма Дурантэ, схаластыка Тамаша Аквінскага, хроніка Джавані Вілані, творы Чымабуэ і Джыёта і, нарэшце, вялікая сусветная паэма Дантэ, – сапраўднае рэзюмэ ўсяго духоўнага працэсу XIII стагоддзя*».

Адлюстраванне гэтага парыву думкі распаўсюджваецца таксама і на Рым. Із 18 папаў, валадарыўшых ад 1198 да 1303 года, большасць былі навуковыя людзі, такімі ж былі і кардыналы.

Аднак і ў XIII стагоддзі, – як мы ўжо пазначалі, – тут яшчэ не было вышэйшай навучальнай установы. Шляхетныя рымляне выпраўлялі сваіх сыноў у Парыж, дзе яны вывучалі схаластыку і набывалі акадэмічную ступень магістра. У звычаі было таксама выпраўляцца ў Балонню, таму што тамтэйшы ўніверсітэт быў першай у Яўропе навучальнай установай правазнаўства. Туды адусюль прыходзілі студэнты (часта да 10 000 чалавек), каб слухаць лекцыі такіх юрыстаў, як Аццо, Акурсіус, Адафрыд і Дыно. Папы пасылалі ў гэту вышэйшую школу нават свае зборы дэкрэталіяў, а Фрыдрых II свае законы, дзеля іхнага сусьветнага пашырэння і надання ім навуковага аўтарытэту. Пачынаю з 1222 года таксама пачала выдавацца сваёй вышэйшай школай Падуя, а пачынаючы з 1224 года і Неапаль.

Інакенцій III выдаў на саборы 1215 года агульны закон пра заснаванне школ пры саборных цэрквах, а Ганорый III загадаў капітулам пасылаць маладых людзей ва ўніверсітэты.

Інакенцій IV (1223-1254 гг.) выдаў указ пра заснаванне ў Рыме грамадзкай вучэльні правазнаўства і надаў ёй прывілеі ўніверсітэта. Такім чынам узнік кодэкс царкоўнага права, знакаміты, але не карыстаючыся добрай рэпутацыяй, твор рымскай сярэднявечнай юрыспрудэнцыі.

Толькі пачынаючы з XIII стагоддзя ўпершыню афіцыйныя пісары гарадзкіх рэспублік пачалі запісваць эдыкты гарадзкіх кіраўнікоў і пратакалісты пазначаць змест кожнага паседжання гарадзкой рады ў сшытках із паперы, зробленай із бавоўны. Толькі з XIII стагоддзя архіварыусы пачалі збіраць грамадзкія прысуды і назапашваць іх у гарадзкім архіве ў выглядзе прыкладаў для кіравання, а да таго часу нічога падобнага не было і пры імператарскіх дварах. Кожная рэспубліка мела зараз свой архіў і часта ставілася да яго з непараўнальна большай клапатлівасьцю, чым гэта рабілі ў той час каралі. Яшчэ і зараз існуюць парэштткі італійскіх архіваў XIII стагоддзя, ды і развіццё гарадзкіх канстытуцый прыпадае таксама на першую палову XIII стагоддзя, працягваючыся да XV стагоддзя ўключна. Не было амаль ніводнага замка, які не меў бы сваіх статутаў акуратна напісаных на пергаменце. Сучасная нова-гістарычная навука старанна збірае, выдае і каментуе гэтыя помнікі вольнага і бліскучага гарадзкога жыцця, із якіх асабліва выдаюцца Statuti di Bologna, выдадзеныя Луіджы Фраці у 1869 годзе, але, на жаль, яна не можа далучыць да іх старажытнейшых статутаў Рыма. Толькі з 1877 года пачалося дасьледаванне гэтага важнага складніка рымскага сярэднявечнага супольнага жыцця. Але старажытных статутаў Рыма не было знойдзена.

Кодэксы, знойдзеныя да гэтага часу, рэдагаваны пазьней; час іх напісання не ідзе ў мінулае далей пачатку XV стагоддзя.

У Капіталійскім архіве самы старажытны арыгінальны статут, напісаны на пергаменце, дапасуецца толькі да 1469 года, а «Кодэкс сакрэтнага архіва» ў Ватыкане належыць 1438 году.

Нам паведамляюць, што каля 1261-1264 гадоў Урбан IV запрасіў у Рым Тамаша Аквінскага і прапанаваў яму скласьці тлумачэнні на творы Арыстоцеля, якія быццам бы пачынаючы ўжо з XII стагоддзя перакладаліся з грэцкай і арабскай моваў, і вывучэннем якіх займаўся быццам бы таксама Фрыдрых II. Але мы ведаем толькі, што Тамаш Аквінскі выкладаў у палацавай школе філасофію і мараль каля 1269 года часткова ў Рыме, часткова ў тых гарадах, дзе папы трымалі свой двор. Потым, на працягу двух гадоў, ён зноў знаходзіўся ў Парыжы, адкуль у 1271 годзе вярнуўся ў Рым, але толькі на кароткі час, бо Карл I паклікаў яго ў Неапаль.

Пры папскім двары, – пераконваюць нас, – знаходзіліся навукоўцы замежнікі, якія займаліся філасофіяй, астраноміяй, матэматыкай і медыцынай і перакладалі на лацінскую мову грэцкія і арабскія (г.азн. арыянскія і маўрытанскія) творы, але якімі былі іхныя творы і іхныя пераклады ніхто не ведае.

Толькі Баніфацый VIII (1294-1303 гг.) заснаваў той рымскі ўніверсітэт, які зараз носіць назву Sapienza. Куды ж дзеліся ранейшыя навуковыя ўстановы ў Рыме? Куды дзеліся яго пісьменнікі?

«*Мы са здзіўленнем заўважаем*, – сведчыць Грэгарэвіус (X, 7, 3), – *што лепшыя паведамленні пра рымскую гарадзкую гісторыю можна знайсьці толькі ў ангельскіх хроніках. Пра становішча справаў у рымлянаў Ражэр Гаведэн, Матэус Парыс і раней іх Вільгельм Мальмсберы ў Англіі былі лепш дасьведчаны, чым самі італійскія хранікёры. Чаму ж ніводнаму рымляніну не прыйшла ў галаву думка напісаць гісторыю свайго роднага горада, як Джавані Вілані ў Фларэнцыі ці іншыя патрыятычна настроеныя грамадзяне нават у дробных італійскіх суполках? Чаму не існуе ніводнай гарадзкой хронікі Рыма XIII стагоддзя і раней яго? Чаму тым часам як нават сярэднія гарады Умбрыі і Патрымоніума, як Вітэрба і Тодзі, Перуджа і Арвіета, нават Нарні і Тэрпі, захавалі яшчэ шмат парэшткаў актаў рэспубліканскай эпохі і ў іхных архівах знаходзяцца акуратна запісаныя на пергаменце регесты і пратаколы паседжанняў рад* (libri deliberationum), *капіталійскі архіў не змяшчае падобных дакументаў, якіх ён некалі меў больш чым усе гэтыя гарады*?»

Таму, адкажам мы, што рымскія пісьменнікі той эпохі апакрыфікаваны ў глыбокую старажытнасьць. Там яны ўтварылі прывіднае асьвятленне, а сярэдневечча Рыма пагрузілася дзякуючы гэтаму пераносу ў штучную цемру.

– Але як жа гэта магло здарыцца? – запытаеце вы, і аўтар сярэднявечнай гісторыі Рыма нічога вам не адкажа. А тым часам адказ просты: усе гэтыя хронікі былі ўпрыгожаны фантазіямі і перанесены ў фантастычную класічную гісторыю. З гэтага боку гледжання станавяцца зразумелымі і далейшыя непагадненні аўтара «Гісторыі горада Рыма пад час сярэдневечча».



Мал. 135
Сучасны выгляд пляца Monte Cavallo у Рыме і Пантыфікальны палац.



Мал. 136
Неправўдападобны згодна са сваім новым стылем фасад будынка ў Рыме, які лічыцца класікамі за храм Антаніна Пія, узведзены «сенатам і народам рымскім» на форуме яго імя. Хутчэй усяго гэты стыль мог бы належаць часу папы Пія II (1455-1464 гг.), а не II стагоддзю нашай эры.

Адзіная першакрыніца нашых ведаў пра рымскі пантыфікат гэта «Liber Pontificalis», кніга, якую ў XII стагоддзі скампілявалі грунтуючыся на невядомых дакументах Пятро Пізанскі, Пандульф і Басо, але і яна неаднаразова перапыняецца. З Інакенція III (1178г.) пачынаецца другі, хаця таксама з перапынкамі, шэраг папскіх біяграфій, складзены грунтуючыся па паведамленнях службовых канцылярый, якія, пад найменнем «папскіх регест», захаваліся толькі ад 1198 года аж да нашага часу, і пачынаюцца яны «Здзяйсненнямі Інакенція III». Ананімны аўтар, вельмі падрабязна выкладаючы стасункі пантыфікату з Усходам і Сіцыліяй, пакідае без увагі Германію. Ён няскладна паведамляе пра рымскую гарадзкую гісторыю і раптам перапыняе сваё апавяданне яшчэ да сьмерці папы[267].

Кароткія жыццяапісанні наступных папаў XIII стагоддзя знаходзяцца ў зборніках дамініканца Бернгарда Гвідоніса і аўгустынскага прыёра Амальрыка Аўгерыя. Чэх Мартын Трапаўскі (ці Мартын Палонус) напісаў сваю хроніку імператараў і папаў, напоўніўшы яе фантастычнымі паведамленнямі. І раптам пасьля яго дамініканец Пталамей із Лукі склаў нейкім звышнатуральным чынам гісторыю царквы ад Нараджэння Хрыста да 1312 года, а Бернгард Гвідоніс напісаў такую ж гісторыю папаў і імператараў, якія і перапісваюць сучасныя гісторыкі ў якасьці сваіх асноўных дакументаў... Але хіба гэта навукова?

Тое ж самае можна сказаць і пра літаратуру.

Эгідый з'яўляецца першым літаратурным упрыгожваннем рода Калона, які ў XVI стагоддзі ўславіла паэтка Віторыя. У паўночнай Італіі паэты пачалі пісаць ужо на правансальскай мове. У Сіцыліі lingua volgare стаў прыдворнай паэтычнай мовай Гагенштаўфенаў. У Балонні і Таскане выступілі паэты, якія да свецкай кахальнай песьні дадалі і метафізічны дух. Францысканцы складалі лацінскія

[267] У нашай Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы «Liber Pontificalis» ёсць у выданні Момзена Gestorum Pontificum Romanorum. Volum. I. 1898 г. Гэтым дакументам я тут і карыстаўся.

вершы, а народная мова, якая так шчасьліва развілася ў Італіі, як vulgare illustre, не знайшла для сябе культуры ў Рыме. Ніводнага надпісу на ёй не сустракаецца за гэты час сярод шэрагу шматлікіх надмагільных надпісаў, большай часткай яшчэ захоўваючых псеўдастаражытную леанінскую форму. Рымляне ставіліся з грэбаваннем да народнай мовы, а Дантэ з пагардай называў іхную гарадзкую гаворку «вартай жалю мовай рымлянаў», грубай і непрыемнай, як і іхныя норавы.

Сярод папаў XIII стагоддзя знаходзіліся таксама і апекуны мастацтваў. Нават па-за Рымскай вобласьцю, у Монтэфіясконе, Тэрні, Вітэрба, Сарыяна, папы будавалі палацы і вілы, і гэтае ўсё павялічваючаяся захапленне раскошай наклікала на іх папрокі з усіх бакоў, бо ў ім бачылі ці занадта вялікую свецкасць, ці занадта вялікі непатызм.

Толькі пачынаючы з палавіны XIII ст. у Рыме таксама з’яўляецца гатычны стыль, які мы ўпершыню сустракаем на прыкладе капэлы Santa Sanctorum. Але гатычная архітэктура не атрымала развіцця ў класічным горадзе, за выключэннем царквы св. Марылі сопра Мінерва.

Пачынаючы ўжо з XI стагоддзя рымскія мармуршчыкі працавалі ў сярэдняй і паўднёвай Італіі. Яны зваліся marmorarii, ці arte mormoriti, і таму зразумела, што Рым быў пазьней усыпаны каштоўнымі мармуровымі адломкамі і ўяўляў сабой сапраўдную Карару нават для іншых гарадоў. Тут узнікла і асобнае мастацтва мазаікі із кавалкаў мармуру.

Із асяроддзя рымскіх скульптараў і разьбяроў із каменя вылучыўся на прыканцы XII стагоддзя выдатны род Казматаў, меўшы вялікае значэнне для мясцовага мастацтва. Гэтая сям'я напоўніла Лацыум, Тусцыю, нават Умбрыю творамі, аб’яднаўшымі ў сабе архітэктуру, скульптуру і мазаічеснае малярства.

Асабліва звяртаюць на сябе ўвагу ў Рыме надмагільныя помнікі. Тады квітнеў звычай рабіць саркафагі антычнага ўзору, але з нагоды хуткага развіцця пізанскай школы і ў Рыме пачалі будаваць маўзалеі, пераходныя да сучасных. У 1256 годзе кардынал Вільгельм Фіескі яшчэ пахаваны ў мармуровым саркафагу, рэльефы якога адвображваюць рымскае вяселле.

У Арачэлі мы знаходзім радавы склеп Савеллі, у якім адзін помнік ужо аб’ядноўвае ў сабе антычную форму з сярэднявечнымі: мармуровая ўрна з вакхічнымі рэльефамі служыць падставай, на якой узвышаецца ўпрыгожаны мазаікай саркафаг з гатычнай надбудовай.

Надмагільныя пліты, часьцей усяго сустракаючыяся ў XIV стагоддзі, выдатныя тым, што яны пазначаюць паступовую змену літарнага шрыфта. У першай палове XIII стагоддзя ў Рыме на саркафагах мы бачым эпіграфічны характар шрыфту, той самы, які прапісваецца класічнай старажытнасьці. А каля заканчэння гэтага стагоддзя літары робяцца ўжо зменлівымі. У іхным напісанні, асабліва літар E, M, N, V, заўважаецца поўная самаволя, а E і C пачынаюць пісацца з росчыркам на заканчэнні. Характэрнай для новай формы з’яўляецца выява літары T, у якой гаплікі папярочнай перакладзіны глыбока і выгнута апускаюцца ўніз. Гэтая маляўнічая манера робіць шрыфт пярэстым і надае яму дзіўны выгляд. Такую форму літар, панаваўшую на працягу усяго XIV стагоддзя і знікшую толькі пад час Эпохі Адраджэння, і назвалі гатычнай, хаця яна з готамі мае столькі ж мала агульнага, як і названы іх імем стыль мастацтва. А ў статуях XIII стагоддзя мы часта бачым, як выказваюцца гісторыкі, «правобразы формаў, маючых назву антычныя».

Ужо Клімент III на прыканцы XII стагоддзя, загадаў паставіць, як мы бачылі вышэй, перад Латэранам у якасьці ўпрыгожвання антычную конную статую Марка-Аўрэлія.

*«Геній пізанца Нікола, – сведчыць Грэгарэвіус (X, 7, 4), – насычаны духам старажытнасьці, і ў Рыме існавалі мастакі яго школы». Не было забыта і малярства. Самыя старажытныя карціны XIII стагоддзя знаходзяцца ў цэркве С. Ларэнца і дапасуюцца да часу Ганорыя III* (1216 г.), *аднавіўшага прыгожую базіліку. Яны сведчаць пра ўжыванне фрэскавага малярства на вялікіх паверхнях сьцен напачатку XIII стагоддзя.*

*Пад канец гэтага стагоддзя ў Рыме квітнела і школа мазаістаў, на чале якой уславіўся Джакопа дэла Турыта са сваім таварышам Якавам дэ Камерына. Лепшы твор Турыта быў выкананы ім у царкве св. Марылі Маджыорэ. Гэта – каранаванне панны Марылі Ратавальнікам, вялікая карціна на блакітным фоне. Процьма анёлаў лунае навакол і «можна падумаць,* – выказваецца Грэгарэвіус (X, X), – *што мастак меў перад сабой антычныя мазаікі, накшталт палестрынскіх падлог, і што ён узяў адтуль для абедзьвюх сваіх мазаік баркі з амурамі, лебедзяў, п’ючых жывёл, кветкі, рачных багаў*».

А з нашага боку гледжання можна думаць, што, наадварот, усе «антычныя» мастакі паходзілі із яго школы... Паразмышляйце хаця б над такімі фактамі: род Капочы жыў у будынках, якія зараз дарэмна завуцца тэрмамі Траяна, а жыллё графаў Тускуланскіх ужо мае назву тэрмы Кастуся I. «Графская вежа» Конці зараз мае назву Форум Нервы і цытадэль Конці апісваецца зараз як гіганцкія парэшткі форумаў Аўгуста і Цэзара. «Нішто не сведчыць пра тое, – выказваецца гісторык горада Рыма, – каб умацаванне Конці стаяла ўжо шмат стагоддзяў і было толькі павялічана Конці». Туфавыя чатырохкутныя пліты служылі яе падставай, а сьцены былі складзены із абпаленай цэглы. Яна была чатырохкутнай і, акрамя велічэзнага падмурку, складалася із трох звужваючыхся ярусаў, з патройнай зубчатай надбудовай, якая, здавалася, сыходзіла за аблокі. Яна лічылася самай шыкоўнай із усіх гарадзкіх веж, нават цудам будаўнічага майстэрства, але вызначалася толькі сваёй каласальнай велічынёй, а цалкам не архітэктурным хараством. Пятрарка, які бачыў яе раней, чым землятрус ператварыў яе ў разваліны, аплакваючы яе разбурэнне, усклікаў, што іншай падобнай ёй не было ва ўсім сьвеце.

Яе двайнікам была яшчэ больш велічная згодна са сваім высокім становішчам вежа Міліцыі (Forre delle Milizie). Сучасны падарожнік може яшчэ і зараз бачыць яе ў Рыме ад Монтэ Пінчыо ці ад кляштара «Ахвярнік неба» (Арачэлі). Адтуль яна бачна лепш ўсяго і ўяўляецца самай велічнай сярэдневечнай развалінай, пануючай над горадам, і як самы выразны ўспамін пра часы гвельфаў і гібелінаў у Рыме. Але народнае паданне ці фантазіі паломнікаў бачылі ў ёй палац Актавіяна, і ўжо значна пазьней было прыдумана, што з яе зубчатай вяршыні Нярон, граючы на цытры, назіраў за пажарам у Рыме. У Рыме толькі «згадвалі», што сады Мецэната і сядзіба чарадзея Вяргілія знаходзіліся ў гэтай жа мясцовасьці.

Мімаволі аб’ядноўваючы магутныя пабудовы рымскіх арыстакратаў XIII стагоддзя з антычнымі, Грэгарэвіус (X, 7) усклікае:

«*Рымляне бралі свае ўзоры із парэшткаў тварэнняў продкаў! Яны імкнуліся стварыць калосы, якія маглі б супернічаць са старажытнымі, і дзьве гэтыя вежы з крутымі і голымі сьценамі падняліся над Рымам, як цыклапічныя пабудовы*».

Той факт, што ўрачыстыя дзяржаўныя акты здзяйсняліся пры Карлу Анжуйскім у манастэрыёне «Ахвярнік неба» даводзіць, што тагачасны будынак сената не быў у стане ўмясьціць дастатковую колькасць людзей, тады як гэты

ўмацаваны манастэрыён меў шырокія памеры і служыў таксама для сходаў калегіі гарадзкіх суддзяў. Ён і быў легендарны «палац Актавіяна», а з 1250 года ён служыў таксама месцам знаходжання генерала ордэна францысканцаў. Яшчэ і зараз гэты будынак над крутымі туфавымі сьценамі Капітолія з'яўляецца адным із самых значных помнікаў рымскага сярэднявечча.

А больш усяго паказвае на фантастычнасць усіх нашых уяўленняў пра старажытны горад Рым выяўляе той факт, што толькі XIII стагоддзю належыць першы дайшоўшы да нас план гэтага горада, – выява грубая, але вельмі каштоўная, таму што яна самая старажытная.



Мал. 137
Выгляд Рыма ад порціка базілікі св. Пятра.



Мал. 138
Вялікая зала Ватыканскай бібліятэкі.



Мал. 139
Геаграфічная галерэя ў Ватыкане.



Мал. 140
Ватыканская Галерэя.

Такім, чытач, з’яўляецца мой маленькі эпілог да рэчаіснай гісторыі горада Рыма, не маючай абсалютна нічога агульнага з яго «антычнай гісторыяй» і нізколькі не патрабуючай яе. На прыканцы, узнікае жаданне толькі сказаць:

– Я зрабіў усё, што мог, для аднаўлення тваёй асэнсаванай гісторыі, Вялікі Горад Чалавецтва, і жадаю толькі аднаго, каб іншыя зрабілі гэта і лепш, і паўней.

# Эпілог

# Лёгкі абрыс грамадзкага жыцця ранняга рэнесансу, як фона інтэлектуальнай і рэлігійнай творчасьці, прыпісваемай глыбокай старажытнасьці.



Мал. 141
Выгляд горада Эпохі Адраджэння. Карціна Клод-Ларана (памёр 1682 г.): Месінскі порт у XII стагоддзі.

# Глава I.
## Рым і Эллада.

Я ужо не раз паведамляў, што рамеямі, г.азн. рымлянамі, на грэцкай мове пад час сярэдневечча зваліся не італьянцы, а грэкі, што слова РЫМ (ρώμη) азначае па-грэцку моцны, гэтак жа, як і рамалеос (ρωμαλέος = рамалей), адкуль і імя Ромул, г.азн. моцны, цьвёрды, тое ж самае як і імя Кастусь (Constans), азначаючае на-лаціне: устойлівы, гэтак жа як і імя Канстанцый[268]. Із гэтага вынікае, што класічны Рым (Roma) і Канстантынопаль адзін і той жа горад і злічэнне гадоў «ад заснавання горада» (ab Urbe condita) спачатку было злічэннем ад заснавання Грэцка-рымскай імперыя, верагодна тое ж самае, што эра Дыяклетыяна (з 284 года), ці з 330 года, калі тут пасяліўся Кастусь.

З такога боку гледжання класічны магутны Рым, заснаваны быццам бы Ромулам і Рэмам (Кастусём і Канстанцыям) у мінус 752 годзе, ссунуты храналагічна на 1036 ці на 1082 гады[269], ды і яго месцаванне неразважліва

[268] У славянскім «Пандэхавым прароцкім паданні» паведамляецца: «Візантыя ёсць град. Прыдзе Кастадын «із Рыма» і развалі і сазда гэты град і наречэ імя яму па свайму стварэнню Канстантынград. І царстваваша ў ім рамеі (г.азн. грэкі) да Кіра Мануіла-цара (Эмануіла, памёршага ў 1425 г.). І потым рамеі не царуюць дандэ жэ пройдзе колькасць гневу гадоў». І там жа пра рускіх: «русы па ваўчынаму повыют і разыдуцца, лютую кару прымуць, растануць акі воск ад выгляду полымя».
[269] 752 + 284 = 1036 ці 752 + 330 = 1082 гады.

перанесена на берагі ракі Тыбр з берагоў Басфора, дзе яно і павінна было б быць грунтуючыся на стратэгічных, металургічных, эканамічных і іншым меркаванням, а ніяк не ў Пантыйскіх балотах, якія цалкам не асушаны, нягледзячы на шматстагоддзевыя намаганні, нават і зараз. Дадаўшы лічбы 1036 ці 1082 да гадоў спадкаемцаў Ромула, мы і накладзём першую рымскую імперыю на імперыю Дыяклетыяна і Кастуся да сьмерці Аркадзя, а потым будзе ўжо другі зрух да ўяўляемага «Нараджэння Хрыста» – у снежні нулявога года нашай эры (першага «да Н. Х.» у гісторыкаў).

Слова Эллада па-грэцку Елленіс (родны склон Елленідос, ἑλ-ληνίς, ἑλ-λενίδος) паходзіць ад жыдоўскага Ел (אל) – бог, і грэцкага Лэпіс (родны склон ленідос) – вакханка і азначае Бога-вакханка, тое ж самае азначае і імя Алена, г.азн. прыхільніца бога вінаробства.

Тут лінгвістыка паказвае нам не толькі на блізкія суадносіны паміж класічным Рымам і класічнай Эладай, але нават выводзіць рымлянаў ад грэкаў, баўгараў і румынаў, а не наадварот, як прынята лічыць да гэтага часу.

Але да гэтага ж новага ўяўлення прыводзяць нас і асаблівасьці розных гаворак лацінскай мовы, як я ўжо даводзіў у трэццяй кнізе «Хрыста», але спынюся яшчэ і тут.

Дзякуючы адрозненню народных гаворак Заходняй Яўропы натуральна ўтварылася і некалькі варыяцый, ужываемай у іх для набажэнстваў і пісьмовасьці элінізаванай італійскай мовы, якую мы называем лацінскай, г.азн. лотавай мовай, таму што слова Лот, як я ўжо паказаў у другім томе «Хрыста», паходзіць ад назвы вобласьці Латыум (ці Лотыум) у Італіі і набыло па-жыдоўску пад час сярэдневечча значэнне: кіраўнік, правадыр, dux, duc, герцаг.

Мы ж і зараз бачым, што большасць людзей у сталым узросьце цалкам губляюць здольнасць артыкуляваць і нават даводзіць да сваёй сьвядомасьці нязвыклыя для іх замежныя гукі: для вуха сталага француза, напрыклад, гук **Ц** здаецца тоесным з **ТС**, а гук **Ч** тоесным з **ТШ**, а рускае сталае вуха зьлівае гулкае польскае **Ц** з **ДЗ** ці з **ЦЗ**, а гулкае ангельскае **Ч** з **ДЖ** ці **ЧЖ**. Вось, напрыклад, у словах Джон, ці Маньчжурыя, існуе у цвёрдым выглядзе той жа самы гук, які ў мяккім выглядзе нам лёгка вымаўляць пасьля мяккага **ЖЬ** у словах “вожьжі” [а не вожь(чж)і і не вожь(дж)і]; “дрожьжі” [а не дрозжі]; ці “дожьжік” [а не дожь(чж)ік], як вы самі пераканаецеся, прыслухаўшыся да свайго хуткага вымаўлення звычайных для вас словаў: “дождік”, “дрозжі”, “возжі”. Але вы нават і не ўсведамляеце такога свайго вымаўлення, і гэта толькі таму, што вы не маеце ў рускім альфабэце адменнай літары для гэтага гуку. Дакладна так жа і беларускае дзэканне (цьзяканне) з’яўляецца не злучэннем **Д** і **З**, а гулкім **Ц**, якое вы лёгка вымавіце пасьля мяккага ЗЬ, напрыклад у назве грыбоў “грузζі” якое вы няправільна пішаце “грузді”. Гэтая асіміляцыя ўсьведамляемага намі гуку з яго пісьмовым знакам такая моцная, што нават лінгвісты-фанетыкі, наколькі мне вядома, да гэтага часу не заўважылі існаванне ў рускай мове гулкіх **Ч** і **Ц**, ці нават таго, што літарай **Щ** пазначаецца ў нас не асобны, як выказваюцца, «шчоўкаючы гук», а простае злучэнне мяккага **ШЬ** з мяккім **Ч**, напрыклад, у слове “щі” = шьчі ці “щель” = шьчель.

Тым больш лёгка такія памылкі рабілі заходнія еўрапейцы пры пашырэнні ў іх у набажэнствах латыумскай (лацінскай) мовы, у якой, напрыклад, і да гэтага часу нямецкае слова кайзер (Kaiser), узнікшае з часу заснавання Заходне-Рымскай германскай імперыі Карлам Вялікім, пачало вымаўляцца ў Латыуме і ў Грэцыі

«Кесар» і вульгарызавалася ў «Цэзар» (Caesar). А зараз самі ж немцы абарачальна чытаюць на-лаціне кайзар (caesar), як «цэзар», італьянцы ж вымаўляюць яго «чэзар», французы «сэзар», грэкі «кесар», пераіначваючы аналагічна і іншыя шматлікія словы, дзе ў лацінскай існуюць склады **ЧЕ** ці **ЧІ**, не кажучы ўжо пра ўмоўнасць вымаўлення гуку **QU** у выглядзе квакання жабы, ці вымаўлення грэцкага χ у выглядзе **кс**.

І без сумневаў, што калі б класічная лацінская мова некалі існавала, як народная, то размаўляўшыя на ёй памёрлі б ад нястрымнага рогату, чуючы, як мы чытаем: Авідыя ці Цыцэрона.

Але, на шчасьце, для нас і для іх, класічная лаціна ніколі не існавала ў якасьці народнай мовы, а толькі ў выглядзе калекцыі схаластычных жаргонаў, на якіх размаўлялі, смеючыся над вымаўленнем адзін аднаго, рознапляменныя навукоўцы заканчэння сярэдневечча і пад час розных эпох гуманізму.

«*Лацінская мова перайначаная і па абласьцях і па эпохах*» – жаліцца Шчасьлівы Аўгустын, і яго гэтая скарга мае дачыненне нават не да фанетычных асаблівасьцей, пра якія я толькі што згадваў, а да наяўнасці ў розных лацінскіх гаворках мясцовых слоў, мясцовых граматычных формаў і мясцовых канструкцый лацінскіх выказванняў.

У заходне-еўрапейскіх «Праўдах» V і VI стагоддзяў творны склон стаіць, напрыклад, замест вінавальнага, а ў насьценных надпісах старажытных пабудоваў замест элінізаваных склонавых канчаткаў (суфіксаў) мы бачым яшчэ, як і ў раманскіх мовах, прыназоўнікі (прэфіксы). У гэтай перад-лаціне яшчэ няма і параўнальнай ступені, якая замяняецца, як у мясцовых мовах, прэфіксам “больш” (magis і plus) перад дадатнай формай; няма і залежнай ступені, і замест будучага часу ўжываецца, як у раманскіх мовах, дапаможны дзеяслоў, напрыклад, замест «пабачу» кажуць «маю бачыць» (videre habeo). І гэта цалкам не пераіначванне нібы-та існаваўшай раней класічнай лаціны, а менавіта яе распрацоўка, гэта не «перараджэнне яе ў раманскія мовы», а якраз наадварот яе ўзнікненне із італійскай і іншых раманскіх моваў, пад вялікім уплывам грэцкай культуры. Вось чаму ў розных месцах і ў розныя часы сярэдневечча ў той жа самай культурнай краіне і былі распрацаваны розныя лацінскія гаворкі, у якіх змяненні адносна мясцовасьці ніяк немагчыма змешваць са змяненнямі згодна з часам ў той жа мясцовасьці і народнасьці.

Дакладна тое ж патрэбна заўсёды мець на ўвазе і адносна дыялектаў грэцкай мовы, накшталт янічнага, дарыйскага і эалійскага, побач з якімі, і нават раней іх, а ніяк не ў выглядзе іхнага пераіначвання, мы павінны паставіць і візантыйскую гаворку царкоўных пісьменнікаў, у грунце якіх павінна знаходзіцца мова Апакаліпсіса, без сумневаў належчы заканчэнню IV стагоддзя нашай эры.

Толькі тады эвалюцыя лацінскай і грэцкай моваў, як літаратурных гаворак, і з’явіцца перад намі ў сваёй строгай заканамернасьці.

Але само сабой зразумела, што, адмаўляючы старажытнасьць класічнай літаратуры, я ні ў якім выпадку не аспрэчваю яе вялізнай самастойнай цікавасьці ці патрэбы яе выкладання нават і ў агульнаадукацыйных установах. Цалкам наадварот. Акрамя ж так званых палітычных ці дынастычных гісторый, існуюць гісторыі чалавечай культуры і чалавечай літаратуры і, калі, з майго боку гледжання, лацінскія і грэцкія класічныя пісьменнікі губляюць значэнне ў якасьці першакрыніц для дынастычных і палітычных гісторый старажытнага сьвету, то яны набываюць вельмі важнае значэнне, як непасрэдныя папярэднікі нашай сучаснай

цывілізацыі, разумеючы гэтае слова ў шырокім сэнсе. З сучаснага звычайнага боку гледжання класічная літаратура ўяўляе сабой штосьці нападобе прабацькі Адама, непасрэдна створанага богам, памёршага, пахаванага і ажыўшага праз тысячу гадоў згодна з пісаннем, ўзышоўшай на нябёсы Эпохі Адраджэння і седдячага там па правы бок свайго рахітычнага сына – клерыкальнай літаратуры.

А з новага боку гледжання клерыкальная літаратура, як больш першабытная згодна і з магутнасьцю ўздзеяння, і з мовай, і з фабулай, і з ідэалогіяй, была сапраўдным бацькай класічнай літаратуры, толькі апакрыфікаванай дзякуючы рэлігійным і дыпламатычным нагодам у глыбокую старажытнасьць.

Выказваючыся гегелеўскім тэрмінам, клерыкальная літаратура была тэзай, класічная – яе антытэзай, а наступная за ёй – сучасная – сінтэзісам іх абодвух. А таму і вывучэнне як той так і другой набывае для гісторыка-рэаліста нечакана глыбокую цікавасць.

Тут патрэбна толькі раз і назаўсёды пакончыць з «глыбокай старажытнасьцю» і са стаўленнем да класічных гістарычных пісьменнікаў, як да старажытных Карамзіных, Макалеяў, Тэнаў і г.д. Гэта былі проста гістарычныя раманісты пярэдадня Эпохі Адраджэння, папярэднікі сучасных гісторыкаў-белетрыстаў, нападобе французкага Дзюма-бацькі, ці нашых – Мардоўцава і Саліяса дэ Турнэміра, але толькі нашмат больш першабытныя за іх як адносна тэхнікі, так і мастацкасьці апавядання.

# Глава II.

## Французкія і ламбардзкія рэспублікі заканчэння сярэднявечча, як узоры, грунтуючыся на якіх былі прыдуманы класічныя.

Такім чынам, усе старажытныя класічныя рэспублікі Грэцыі і Рыма – просты міраж Эпохі Адраджэння. Але ж для таго каб міраж мог узнікнуць, патрэбна нешта рэчаіснае, нешта здольнае адбіцца на гістарычным гарызонце ў выглядзе гэтых вісячых садоў Семіраміды[270], як я ўжо і раней называў усе класічныя старажытныя рэспублікі і магутныя старажытныя імперыі.

Сапраўды ж, для таго каб уяўленне пра старажытныя фантастычныя рэспублікі з усімі апісваемымі ў класікаў дэталямі іхнага ўладкавання магло ўзнікнуць у галовах нашых продкаў XIV-XVI стагоддзяў, патрэбна, каб такія рэспублікі ўжо існавалі ў іхны час не ў якасьці эфемернай з'явы, а вырабілі б у іхных мазгавых звілінах адпаведныя трывалыя адбіткі, дастатковыя для выклікання ўмоўных рэфлексаў.

Як я ўжо даводзіў і раней, наша фантазія, нават і ў тых выпадках, калі яна дзейнічае па-за звычайнай асацыяцыяй ўяўленняў, не здольна вырабіць нешта ўжо не адбіваўшаяся ў нашых галовах із рэчаіснага жыцця, і што яна здольна толькі мудрагеліста, як у сне, камбінаваць урыўкавыя дэталі ўсяго пабачанага, пачутага і цалкам успрынятага намі із атачаючага і ўнутранага сьвету з дапамогай нашых розных вонкавых і ўнутраных пачуццяў.

[270] Я зноў нагадваю, што слова «Семіраміда» азначае «ахоўніца месца».

Із асяроддзя бачымых уяўленняў фантазія камбінуе толькі ўжо пабачанымі. Яна толькі ненатуральна прыстаўляе то галаву чалавека да тулава каня ў выяве цэнтаўра, то тулава чалавека да казліных ног у выяве сатыра, а ва ўяўленні чорта яна прыладжвае да казла-падобнай чалавечай галавы тулава з казлінымі нагамі і пацучыным хвастом.

Сярод чуемых уяўленняў фантазія здольна даць толькі мудрагелістыя камбінацыі ўжо пачутых намі гукаў, а ў сваіх псіхалагічных выдумках толькі небывалыя спалучэнні ўсім вядомых сярод нас адчуванняў, ды і то з псеўда-натуральным падборам для таго, каб створаныя ёю легенды ці міфы не былі падобнымі на трызненне вар'ята, якое уяўляе сабой толькі простую кучу адломкаў усяго пабачанага, пачутага і адчутага псіхічна хворым чалавекам у розныя часы.

Нават у агульным уяўленні тэолагаў пра бога самыя па-філасофску наладжаныя галовы не былі здольнымі і будуць няздольнымі адмовіцца ад антрапамарфізмаў, хаця яны зараз і паўстаюць супраць старажытнага ўяўлення пра «стваральніка сусьвету», як пра старога з сівой барадой і ў доўгай мантыі седзячага на пасадзе на блакіце неба.

Нядаўна мне паведалі цікавы выпадак із адной рэлігійнай спрэчкі ў вёсцы, у Яраслаўскай губерніі.

– У самым Евангеллі паведамляецца, што бога ніхто нідзе не бачыў, – сказаў пасьля доўгай прамовы антырэлігійнік. – Як жа можна верыць у яго існаванне?

– А ці бачылі вы калі-небудзь розум у чалавечай галаве? – запярэчыў яму адзін веруючы аграном. – У ёй ніхто нічога не бачыў, акрамя мазкоў, а вы толькі што праслаўлялі розум.

Адказ быў вельмі ўдалы, але толькі і ў ім адбілася тое ж самае антрапамарфічнае ўяўленне пра бога. Розніца толькі ў тым, што раней богу надавалі чалавечае цела, а зараз ён стаў «сусветным розумам», але зноў дакладна такім жа, як і ў чалавечай галаве. Ды і вызначэнне апостала Яна: «бог ёсць шанаванне», не менш антрапаморфнае. І як бы ні характарызавалі мы «стваральніка сусьвету», а ўсё ж усе нашы яго вызначэнні былі і будуць толькі новай мудрагелістай камбінацыяй унутраных ці вонкавых успрыманняў нашых жа ўласных чалавечых пачуццяў.

Тое ж самае разважанне мы можам дапасаваць і да пытання пра паходжанне сучасных апавяданняў пра класічныя рэспублікі, быццам бы існаваўшыя яшчэ да пачатку нашай эры, і пра іхнае разнастайнае палітычнае і разумовае жыццё. Патрэбна, каб да таго перыяду часы, калі пачалі ствараціца падобныя міфы, само рэчаіснае народнае жыццё ўжо мела ўсе патрэбныя для гэтых міфаў дэталі. Патрэбна было, каб у той час існавалі ўжо і дэмагогі, і публічныя прамоўцы, і арыстакраты, і плябеі, і гетэры, і матроны, і ўсё астатняе, пра што мы чытаем у класічных аўтараў.

І вось выяўляецца, што і сапраўды ўсе ўзоры класічных рэспублік і дэспатый у гатовым выглядзе існавалі напярэдадні крыжовых паходаў і падчас іх саміх, якраз перад пачаткам Эпохі гуманізму і ў яе час. Пакінем пакуль у баку міфы пра класічнае жыццё ў культурных гарадах «добрага старога часу», ўзнікшых цудоўным чынам. Пакінем у баку нават і Тэламонскую бітву, адбыўшуюся быццам бы яшчэ ў 225 годзе «да Нараджэння Хрыста», і тагачаснаеператварэнне Галіі (як і зараз завецца па-грэцку Францыя) у Цызальпійскую правінцыю магутнага Старажытнага Рыма. Пяройдзем на рэчаісную глебу і, каб не хадзіць у Дзяржаўную

публічную бібліятэку і ў еўрапейскія музеі, выкарыстаем хаця б агульнадаступную манаграфію Т. Мараўскага: «Французкія гарады пад час сярэдневечча»[271].

«Толькі пад час першай паловы сярэдневечча, – сведчыць ён, – у Францыі пачалі ўзнікаць гарады і заўсёды такім спосабам. Навакольнае насельніцтва згуртоўвалася пад абаронай сьцен замка ці ўмацаванага абацства, і такім чынам узнікаў горад. Такой, між іншым, з'яўляецца гісторыя ўзнікнення Манпелье на поўдні Францыі, Бруселя і Гента на паўночным усходзе ад яе. Часам гарады выраслі і вакол рынкаў, у маёнтках феадальных уладальнікаў, і таму яны павінны былі падначальвацца тым жа ўмовам, якія памаленьку прывялі ўвесь дробны люд сярэднявечнай дзяржавы ў залежнасць ад буйных землеўласнікаў, як «валадароў у сваім маёнтку».

Да канца X стагоддзя ў французкіх гарадах амаль не было «гараджан»: яны зліваліся з вясковым насельніцтвам у адну агульную масу не маючых правоў тубыльцў (manentes).

Але вось із гэтага першапачатковага хаосу пачалі ўзнікаць вызначаныя абрысы сярэднявечнай дзяржавы і грамадства. Памаленьку ўсталяваўся некаторы грамадзянскі парадак, выпрацоўваўшыся ў адпаведнасьці з патрэбамі людзей таго часу, і дачыненні людзей адзін да аднаго набылі вызначаны характар.

Насельніцтва павялічвалася, яго патрэбы расьлі разам з павелічэннем дабрабыту і з паляпшэннем і ўскладненнем жыцця ў залежнасьці ад агульнага ўзвышэння ўзроўню культуры і без якіх бы то ні было ўспамінаў пра дзівы антычнага сьвету, як быццам яго ніколі не бывала. Паміж асобнымі мясцовасьцямі завязваліся гандлёвыя стасункі, рабіўшыяся ўсё больш і больш ажыўленымі па меры паляпшэння шляхоў паведамлення. Толькі перавоз тавараў што ні крок сустракаў розныя цяжкасьці: дарогі і масты знаходзіліся ў самым вартым жалю стане, і, акрамя таго, купец заўсёды мог асьцерагацца ўзброенага нападу, рызыкуючы не толькі маёмасцю, але і жыццём.

Так натуральна ўзнікала сярэднявечная культура проста із натуральных зародкаў свайго асяроддзя, а не шляхам партэнагенезісу з неаплодненага яйка антычнай культуры, праляжаўшага некалькі стагоддзяў цэлым у кляштарскім склепе.

---

[271] Кніга для чытання па гісторыі сярэдневечча. Пад рэдакцыяй праф. П. Г. Віноградава. 1903.



Мал. 142
Пасеў паблізу замка. Мініяцюра са старажытнай кнігі: Livres d'heures, у калекцыі герцага Бэры ў Парыжы.

Пад час сярэдневечча яшчэ не існавала кітайскіх сьцен, якія ў новы час пачалі аддзяляць адну дзяржаву ад другой, і гэта значна палягчала міжнародныя стасункі. Хаця і даводзілася ачышчаць тавар пошлінай пры праездзе праз кожны феадальны маёнтак, праз кожны горад, але гэтыя зборы былі нікчэмнымі. У XII ці XIII стагоддзях цяжка было сказаць, дзе заканчваецца Францыя і дзе пачынаецца Гішпанія, Англія, Германская імперыя ці Італія. Ніякай памежнай варты яшчэ не існавала. Міжнародны характар мелі і ўсе вялікія сярэднявечныя кірмашы. Ніколі яны не былі такімі шматлюднымі, такімі пярэстымі адносна свайго складу, як пад час сярэдневечча. На кірмашы Lendi, які ладзіўся на С.-Дэніскай раўніне, кожны французкі горад меў сваё месца і сваіх прадстаўнікоў. На кірмаш у Бокэрэ на рацэ Роне штогод збіраліся купцы із Барселоны, Генуі, Венецыі, Канстантынопаля, Александрыі, Леванта, Туніса, Марока. У Шампані, з'яўляўшайся цэнтрам для заходне-еўрапейскага гандлю таго часу, кірмашы ладзіліся адзін за другім амаль без перапынкаў. Тут можна было сустрэць не толькі французаў Брэтані, Праванса,

Анжу і Гасконі, але і фламандцаў, і немцаў з паўднёвых прырэйнскіх абласьцей, і італьянцаў, і гішпанцаў, і ангельцаў.

З канца Х стагоддзя гандаль у Францыі пачынае расьці і набіраць моцы, а разам з ім павялічвацца і дабрабыт гараджанаў. Перашкоды, якія гэтыя людзі сустракал наі сваім шляху, вымусілі іх згуртавацца для больш паспяховай дзейнасьці. Пры адсутнасьці паліцыі, набылі пашырэнне супраць драпежніцтва розныя таварыствы і хаўрусы. Нават сярод сьвятарства таварыствы былі шырока пашыраны ў выглядзе манаскіх суполк і капітулаў, а таксама згуртаванняў некалькіх абацстваў пад кіраваннем аднаго з іх, з'яўляўшагася як бы іхнай метраполіяй.



Мал. 143
Сярэднявечныя тыпы. Ландскнехт імператара Максіміліяна (мал. Дзюрэра, пачатку XVI стагоддзя).

На прыканцы XI і пачатку XII стагоддзя ў гарадах амаль паўсюдна ўзнікаюць гільдыі, прысяжныя аб’яднанні (conjurations), братэрствы, сябрыны, суполкі (banquets) і іншыя прафесійныя хаўрусы пад рознымі назвамі. Кожны прафесійны хаўрус абіраў сабе ў патроны нейкага сьвятога, памяць якога багавейна ўшаноўвалася рэлігійнымі працэсіямі і агульнымі трапезамі, часта набываўшымі характар разгульнага балявання. Хаўруснікі дапамагалі адзін аднаму на выпадак хваробы, калецтва, сьмерці і іншых бедстваў. Яны збіраліся на сходы, на якіх абменьваліся думкамі, абмяркоўвалі сваё становішча і прыдумлялі сродкі для дасягнення запланаваных мэтаў. Яны складалі грамадзкія касы і абіралі службовых асоб і прадстаўнікоў свайго прафесійнага хаўрусу, якія стаялі, наколькі яны разумелі гэта, на варце яго інтарэсаў. Праўда, гэтыя згуртаванні ствараліся толькі для дасягнення дробных мэт, але наступіў час, калі яны спатрэбіліся і для іншых, больш буйных справаў: для змагання з тымі самымі феадаламі, пад заступніцтвам якіх некалі ўзніклі гарады.




Мал. 144
Сярэднявечныя тыпы. Гулянка. Малюнак Зебальда Бегама.




Мал. 145
Сярэднявечныя тыпы. Скачучыя сяляне. Малюнак Зебальда Бегама.

Поспех гэтага змагання часта палягчаўся той акалічнасьцю, што ў горадзе быў ужо не адзін, а два ці некалькі сеньёраў, якія то і справа супернічалі адзін з адным, так што падданыя аднаго феадальнага валадара падчас паўстання супраць свайго сеньёра знаходзілі сабе дзейнага хаўрусніка ў асобе сеньёра іншай часткі горада. У бургундзкім Оксэры, напрыклад, граф даў сваю згоду на ўсталяванне муніцыпальнага кіравання на зло біскупу, а ў Ам'ене, наадварот, біскуп стаў на бок гараджанаў супраць іхнага графа.

Не раз феадальны ўладальнік горада самастойна дараваў сваім падданым самакіраванне, падзяляючы іхныя інтарэсы. Часта ён рабіў гэта для спынення закалоту ці для таго, каб папярэдзіць хваляванні. Прыкладамі могуць служыць, гарады Нуайён і Сэн-Кантэн. Жыхары першага з іх увесь час сварыліся з мясцовым сьвятарствам, і біскуп Бадры, маючы на мэце спыніць гэтыя сваркі, склікаў іх усіх – клірыкаў, рыцараў, купцоў і рамеснікаў – і падаў гэтаму сходу грамату, на падставе якой у горадзе засноўвалася муніцыпальнае кіраванне. Гэта здарылася ў 1108 годзе. А за некалькі гадоў перад тым, у 1102 годзе, граф Вермандуа з мэтай папярэдзіць хваляванні адбыўшыяся перад тым у суседнім горадзе Бавэ, таксама дараваў жыхарам Сан-Кантэна «камунальнае (г.азн. муніцыпальнае) ўладкаванне», прызнаваць якое пакляліся як духоўныя асобы, так і рыцары.

Некаторыя феадалы, асабліва свецкія, з цягам часу пачыналі разумець, што, даруючы гораду волю, яны спрыяюць дабрабыту гараджанаў, а таксама і росквіту ўсёй мясцовасьці, і, такім чынам, не толькі нічога ад гэтага не губляюць, але яшчэ і набываюць. У большасьці выпадкаў, як мірнага, так і рэвалюцыйнага вызвалення гарадоў, грошы гулялі вельмі значную ролю: грамадзяне проста куплялі сабе самакіраванне.

Такім чынам, далёка не ўсе гарады са зброяй у руках здабылі сабе самастойнасць, хаця адкрытае змаганне гараджанаў з феадаламі займае бачнае

месца ў гісторыі самакіравання французкіх гарадоў. Яна кладзе яму трывалую падставу. Крывавыя рэвалюцыі ў тым ці іншым горадзе заўсёды ўяўляюць сабой яскравыя прыкметы таго, што гэтае пытанне дастаткова наспела. Але чым больш развіваецца нейкі вызваленчы рух, тым больш мірны характар ён набывае з цягам часу. Сустракаючы на сваім шляху ўсё менш і менш перашкод, ён у той жа час пастаянна ўзмацняецца спрыяючымі яму акалічнасьцямі.

Так усе французкія гарады пад канец сярэдневечча вызваліліся ад феадальнай улады, і ўпершыню паўсталі (а не дзякуючы ўспамінам пра нейкі знікшы тысячу гадоў назад і фантастычны лад кіравання) гарадзкія рэспублікі, таму што і само слова res-publica азначае грамадзкае кіраванне[272].

У склад гарадзкога самакіравання далёка не заўсёды ўваходзілі ўсе жыхары дадзенага горада. У шмат якіх выпадках сябрамі рэспублікі былі толькі ўладальнікі нерухомай маёмасьці ў межах гарадзкой акругі. Жыхары горада, належаўшыя да прывілеяваных станаў, на поўначы Францыі звычайна не ўваходзілі ў склад гарадзкой рэспублікі. На поўдні Францыі і ў Італіі яны, наадварот, большай часткай з'яўляюцца яе ўплывовымі сябрамі. Тут гарады былі больш заможнымі і буйнымі, у іх здаўна жылі і нават займаліся гандлем шматлікія рыцары і духоўныя асобы, тады паўсюдна сямейныя, якія больш-менш зліваліся з вышэйшым станам гандлёва-прамысловага насельніцтва і часта бралі ўдзел у набыцці імі незалежнасьці. Гарадзкая рэспубліка з'яўляецца ў некаторай ступені адмежаваўшымся ўтварэннем, раўніва аберагаючым правы і прывілеі належаўшыя яе сябрам. Каб зрабіцца сябрам гэтага прывілеяванага згуртавання, патрэбна было заплаціць вядомы ўнёсак. З іншага боку, з нагоды цеснай узаемнай сувязі ўсіх сябраў, вылучэнне із яе таксама патрабавала вядомых фармальнасьцей: перш чым выйсьці із гарадзкой суполкі, патрэбна было з ёю разлічыцца матэрыяльна.

Іншай адметнай рысай гарадзкой рэспублікі з'яўляецца дакладна ўсталяваныя дамоўныя дачыненні да ранейшага феадальнага ўладальніка горада. Умовы гэтай дамовы пазначаліся ў асобнай грамаце, так званай «камунальнай хартыі», якую даваў гарадам, арганізаваўшымся ў самакіруючуюся рэспубліку, іхны былы сеньёр і якую для большай трываласьці зацьверджваў сюзерэн гэтага сеньёра, часьцей сам кароль, вярхоўны апякун усёй краіны.

[272] Ад res – юрыдычная справа і publicus – грамадзкі, дакладна так жа як ад res communis (грамадзкая справа) утварылася выказванне: гарадзкія камуны, г.азн. агульныя самакіраванні.



Мал. 146
Сярэднявечныя будынкі. Царква сьвятога Апалінара ў Равэне. Адна із самых старажытных пабудоваў сярэдневечча.

Наладзіўшы ў сябе рэспубліку, гараджане тым самым выходзілі із ліку не маючага правоў насельніцтва і падніmaліся ў верхні пласт прывілеяванага феадальнага грамадства. Натуральна што пры гэтым на арганізацыі сярэднявечных рэспублік адлюстроўваліся ўсе характэрныя асаблівасьці сучаснага ім грамадзкага ўладкавання.

Гарадзкая рэспубліка рабілася такой жа маленькай дзяржавай, якой было ў той час кожнае феадальнае ўладанне, з той толькі розніцай, што ў бароніі валадарам быў барон, у камуне ж вярхоўная ўлада належала ўсёй супольнасьці яе сябраў і ажыццяўлялася абіраемымі службовымі асобамі. Гарадзкой рэспубліцы, як сеньёрыі, належала і заканадаўчая ўлада: яе абіраемыя службовыя асобы выдавалі дырэктывы, меўшыя магутнасць закона для яе насельніцтва. У яе было права вайны і міру, для чаго яна мела сваё войска – міліцыю[273], мела права заключаць дамовы і складаць хаўрусы з іншымі маленькімі дзяржавамі, із якіх складалася сярэднявечнае каралеўства. На поўдні, напрыклад, тры гарады – Арль, Авіньён, Марсэль – і сеньёр Бараль дэ-Бо заключылі паміж сабой ў 1247 г. абарончы і наступальны хаўрус на 50 гадоў, а ў 1226 г. Арль выпраўляе 12 дэпутатаў для заключэння «хаўрусу сяброўства і стасункаў» нават да караля Францыі Людовіка VIII.

[273] 4 Ад лацінскага militia, г.азн. войска, адкуль і Французкае militaire – вайсковец.



Мал. 147
Сярэднявечныя будынкі. Канал у Амстэрдаме згодна са старажытнай выявай.

Знакамі грамадзянскай незалежнасці рэспублікі з'яўляліся пячатка і вежа (beffroi), на якой віселі заклікаючыя званы. На вышцы гэтай вежы размяшчаліся вартавыя, якія аглядалі гарызонт і білі ў набат, як толькі заўважалі з'яўленне нейкай небяспекі. У тыя ж званы званілі каб паклікаць абвінавачваемых у суд, каб абвясьціць працуючым пра пачатак і заканчэнне працоўнага дня, а ўсім жыхарам горада пра ўзыход сонца ці пра тое, што наступіў час тушыць агні. На гукі гэтага звона выходзілі грамадзяне для абмеркавання важных пытанняў. У ніжнім паверсе вежы была зала, дзе засядала гарадзкая рада, а таксама размяшчаліся архіў і арсенал. Калі ў нейкім горадзе скасоўвалася рэспубліка, то звычайна забіралі ў яе мэра пячатку, здымалі вечавы звон, а самую вежу разбуралі дашчэнту.



Мал. 148
Сярэднявечныя будынкі. Усходні флігель сярэднявечнага замка ў Таргаў у Саксоніі.

Дзякуючы таму, што камуна прыраўноўвалася да сеньёріі, то яна павінна была браць вызначанае месца ў феадальнай іерархіі. У яе быў свой сюзерэн, – звычайна былы феадальны ўладальнік горада, ці ж сам кароль, які быў абавязаны не толькі паважаць яе правы і прывілеі, але і даваць ёй заступніцтва і абарону, у чым ён урачыста прысягаў. Са свайго боку, рэспубліка адбывала ў дачыненні да свайго сюзерэна ўсе абавязкі сапраўднага васала. Яе прадстаўнікі прыносілі яму прысягу, у якой кляліся «верна служыць і аберагаць яго цела і часткі цела, жыццё і ўладанні» ад ворагаў. Яна была абавязана вайсковай павіннасьцю, памеры якой былі дакладна вызначаны. Акрамя таго, яна павінна была дапамагаць яму грашамі.



Мал. 149
Палац Піліпа II (1559-1584) у гішпанскім манастэрыёне Эскуріал са знакамітай бібліятэкай.

Усе гарадзкія справы вырашаліся абіраемай гарадзкой радай, сябры якой мелі назву суддзі (jures), бацькі (pairs) ці эшевены (echevins ад грэцкага слова ἔχω – валодаю). Іхная колькасць вагалася ад 12 (у Пероне) ці 13 (у Бавэ) да 100 (у Руане) і нават больш. Так у Бардо ў XIII стагоддзі існавала дзьве рады: адна із 30, другая із 300 сябраў. Такая ж разнастайнасць назіралася і ў спосабе іхнага абрання, і ў арганізацыі гарадзкой рады. Не было, здаецца, выбарчай сістэмы, якая б не практыкавалася ў той ці іншай гарадзкой рэспубліцы. У Руане, напрыклад, пасада пэра была пажыццёвай, і ўсіх пэраў было 100. Яны вылучалі са свайго складу камісію із 24 журы, якая ў сваю чаргу распадалася на дзьве падкамісіі: адну із 12 эшевенаў і другую із 12 дарадцаў. Пэры збіраліся раз на два тыдні па суботах. Журы – штотыднёва, эшевены два разы на тыдзень. Яны вырашалі бягучыя справы, утвараючы тое, што нядаўна ў нас мела назву ўправа. У Марсэлі із 89 сябраў рады 80 належалі да класа заможнай буржуазіі, 3 былі са стану клірыкаў, маючых ступень доктара, астатнія 6 вакансій былі замяшчаемы рамеснымі старастамі. У Арлі ў радзе засядалі арцыбіскуп, консулы і найбольш значныя із грамадзян.

Кіраўніком гарадзкога ўраду на захадзе быў мэр, на поўдні – консул (а таксама сіндык). Мэр быў звычайна адзін, рэдка два, колькасць консулаў вагалася ад двух да шасьці , часам іх было і больш.

Народная маса мела не вельмі значную ролю ў кіраванні гарадзкой рэспублікай. Час-ад-часу народ збіраўся вечавым звонам, але ўся яго роля абмяжоўвалася тым, што ён выслухваў і прымаў да ўвагі тое, што пастанаўлялі кіраўнікі.

Самым слабым бокам гарадзкога рэспубліканскага самакіравання былі фінансы. Адкупіўшыся ад падданства і стаўшы ў васальныя дачыненні да свайго сіньёра, рэспубліка працягвала несьці вядомыя павіннасьці, із якіх самай цяжкай

была вайсковая: спачатку гараджане выконвалі яе натурай, потым памаленьку пачалі замяніць яе штогадовым грашовым падаткам. Уяўляе цікавасць ўрывак із запісаў выдаткаў Нуайенскай камуны за 1260 год:

«*Калі кароль* (Людовік Сьвяты) *выправіўся ў мора, мы далі яму 1 500 ліўраў* (каля 150 тысяч франкаў). *Калі ён быў за морам, каралева дала нам ведаць, што ён мае патрэбу ў грашах, і мы далі ёй 500 ліўраў. Калі кароль вярнуўся із-за мора, мы яму пазычылі 600 ліўраў, із якіх атрымалі назад толькі 500, а 100 пакінулі яму. Калі кароль заключыў мір з ангельскім каралём, мы далі яму 1 200 ліўраў. Кожны год мы павінны выдаткаваць 200 ліўраў на самакіраванне, якое нам даравал кароль. Акрамя таго, гасьцінцы праязджаючым праз горад шляхетным асобам штогадова каштуюць нам 100 ліўраў і нават больш. Калі граф Анжуйскі* (брат караля) *быў у Эно* (Hainaud), *нас апавясьцілі, што ён мае патрэбу ў віне. Мы выправілі яму 10 бочак, што каштавала разам з дастаўкай 100 ліўраў. Акрамя таго, гараджане Нуайена накіравалі графу 500 сяржантаў, каб ахоўваць яго ўладанні, а таксама і целаахоўнікаў, – усё гэта каштавала нам 1100 ліўраў»*... «*Калі каралеўскае войска выступіла, нам паведамілі, што графу патрэбны грошы і што з нашага боку было б падпутствам не дапамчы яму; мы пазычылі яму 1200 ліўраў, але із іх скінулі з рахунку 300 для таго, каб атрымаць распіску з пячаткай на астатнія 900*».

Вельмі важны артыкул выдаткаў для кожнай рэспублікі складалі накладаемыя на яе судовыя штрафы. Неспакойныя гараджане знаходзіліся ў пастаянным змаганні са сваім сіньёрам у з іншымі феадаламі, а таксама з капітуламі із-за павіннасьцей і г.д. Раззлаваныя гэтым змаганнем буржуа дазвалялі сабе часам вельмі рэзкія выхадкі супраць сваіх ворагаў, асабліва супраць сьвятарства. Так аднойчы грамадзяне горада Сэн-Рык'е вырашылі пасмяяцца над манахамі мясцовага абацтва, з якімі яны ўвесь час былі на нажах. Гэтыя манахі штогадова ладзілі ўрачыстую працэсію, у якой несьлі парэшткі заснавальніка сваёй суполкі і парэшткі сьвятога Віктара. Але ў 1264 годзе буржуа ўзялі здохшую кошку і паклалі яе ў каўчэг, падобны на той, у якім захоўваліся парэшткі сьвятога Рык'е, патрона іхнага горада; у другі каўчэг яны паклалі конскую костку, якая павінна была служыць у якасьці рукі сьвятога Віктара. Яны панеслі гэтыя прадметы па гарадзкіх вуліцах, парадыруючы ўрачыстае шэсьце манахаў. Потым з'явіліся нейкія два суб'екты і пачалі паміж сабой бязлітасна біцца. Працэсія спынілася і з натоўпу прагучаў вокліч.

– Сьвяты Рык'е! Ты не пойдзеш далей, стары, пакуль не створыш мір паміж двума ворагамі.

Пры гэтых словах б'ючыяся спынілі бойку, упалі адзін аднаму ў абдымкі і абмяняліся братэрскім пацалункам. Увесь натоўп закрычаў:

– Дзіва! Дзіва здзейснена з дапамогай парэшткаў сьвятога Рык'е!

Гараджане паставілі тут загадзя прыгатаваную капліцу з шыкоўна ўпрыгожаным ахвярнікам і размясьцілі ў ёй ракі з кошкай і конскай косткай. Наіўныя багамольцы, не ведаючы пра падробку, пачалі заходзіць сюды пакланіцца. Два дні прастаяла капліца, вакол якой буржуазія наладзіла непрыстойныя скокі.

Сутыкненні гараджанаў са сьвятарствам і феадаламі былі самай звычайнай з'явай. І кожны раз, калі гэтыя сутыкненні набывалі занадта сур'ёзны характар, справа заканчвалася тым што сьвятарства ці феадал падаваў скаргу ў каралеўскі парламант, які не ставіўся спагадліва да гараджанаў і прыгаворваў іх да грашовых штрафаў вялізных памераў. Так, напрыклад, у 1305 годзе рэспубліка ў Бавэ павінна была выплаціць за нешта ў скарб 10 тысяч ліўраў, г.азн. больш мільёна франкаў.

Усё гэта, галоўным чынам, мае дачыненне да Францыі, але яшчэ большае развіццё набылі гарадзкія рэспублікі ў Паўночнай Італіі.

У XII стагоддзі Ламбардыя, якая тады толька адна мела назву Італія, была краінай пераважна муніцыпальнага духу. У IX і X стагоддзях біскупы, – выказваецца С. Ражкоў у сваім артыкуле «Ламбардзкія гарады ў XII стагоддзі»[274], – ператварыліся тут у сапраўдных валадароў. Паступова яны захапілі ў свае рукі ўладу, належаўшую раней графам. Калі ў некаторых гарадах, як, напрыклад, у Мілане, яшчэ трымаюцца графы і маркграфы, то іхнае значэнне здаецца нікчэмным у параўнанні са становішча біскупа. Пад шатамі біскупскай улады і складалася суполкавае жыццё Ламбардыі.

Атачаныя моцнымі сьценамі, населеныя жыхарамі, якіх злучалі агульныя інтарэсы, гарады тут рана набываюць усведамленне сваёй моцы і ўменне карыстацца ёю. Купцы і рамеснікі ўтвараюць асобныя карпарацыі валодаючыя самакіраваннем. А’ядноўваючыся разам, гэтыя карпарацыі паступова выпрацоўваюць рэспубліканскую адміністрацыю. Нават біскуп, кіруючы горадам, мае да некаторай ступені характар абіраемага магістрата. Грамадзяне маюць голас пры яго абранні, а біскуп са свайго боку, прызначаючы давераных асоб для суда і адміністрацыі, абірае іх із асяроддзя грамадзянаў. Той жа біскуп збірае ў выпадку патрэбы народны сход. І нідзе ў Ламбардыі біскуп не стаяў так высока, як у Мілане, дзе ўжо з IX стагоддзя ён быў амаль усемагутным. У IX стагоддзі, калі гэты горад налічваў трыста тысяч жыхароў, а яго прамысловасць і гандаль квітнелі, арцыбіскуп Герберт лічыў сябе такім моцным, што пачаў змаганне з самім імператарам Сьвятой рымскай імперыі.

Але амаль для ўсіх ламбардзкіх гарадоў, нарэшце, настае момант, калі гарадзкая рэспубліка, набраўшаяся моцы пад валадарствам біскупа, набывае жаданне пазбавіцца ад яго ўлады, якой яна ўжо цягаціцца. Так, у Крэмоне яшчэ напачатку XI стагоддзя грамадзяне выганяюць біскупа Ландульфа і разбураюць яго палац. Гэты пераварот у гарадзкой арганізацыі, паставіўшы ў большасьці гарадоў гарадзкую аўтаномію на месца біскупскай улады, заканчваецца ўжо ў першай палове XII стагоддзя. У Ламбардыі ён адзначаецца больш усяго пашырэннем консульства, якое раней існавала толькі ў выглядзе выключэння ў асобных гарадах.

Супольнае кіраванне ламбардзкіх гарадоў складалася із трох істотных элементаў: консулаў, рады і народнага сходу. У руках консулаў знаходзілася адміністрацыйная, судовая і вайсквая ўлада. Але не заўсёды ўлада консулаў аднолькава пашыралася на ўсе станы гарадзкога насельніцтва. У ламбардзкіх гарадах мы маем тры станы, не лічачы сьвятарства: дваранства (milites, capitani, valvassores) гандлёва-прамысловы стан і просты народ (чарналюд).

Пераважна консулаў было 12, але іх колькасць паступова перамянялася нават у адным і тым жа горадзе. А звычайна, іх колькасць адпавядала колькасці гарадзкіх кварталаў (rioni). Каля консулаў дзейнічала гарадзкая рада, звычайна меўшая назву credentia, таму што яе сябры давалі абяцанне давяраць консулам (credentiam consulum juraverunt). Што ж да народнага сходу (parlamentum), то ён збіраўся толькі ў асабліва значных выпадках і складаўся з усіх сябраў гарадзкой рэспублікі. Вольнае ўладкаванне і багацце ламбардзкіх гарадоў мімаволі кідалася ў вочы замежным пісьменнікам, і Ота Фрэйзінгенскі са здзіўленнем апісвае гарады,

---

[274] Чытанне па гісторыі сярэдневечча, вып. II, ч. I, стар. 361.

дзе дваранства ідзе побач з гараджанамі і дзе людзі нізкага паходжання носяць зброю, што належыць рыцарам, і займаюць значныя пасады.

Але сярэднявечнае грамадства ўсё ж не было дастаткова прыстасавана да рэспубліканскага кіравання, і таму сярэднявечныя рэспублікі амаль усе паступова ператарыліся ў манархіі ці далучыліся, як складнікі, да больш буйных манархічных утварэнняў. Асабліва яскрава гэты працэс вымалёўваецца ў французкіх абласьцях.

Каб зразумець, у чым тут была справа, паглядзім спачатку, адкуль гарадзкая рэспубліка брала грошы, каб забяспечыць свае нярэдка вялікія выдаткі.

Асноўнай крыніцай прыбыткаў быў прамы падатак на сябраў камуны. Але збор гэтага падатку спалучаўся з вялізнымі цяжкасьцямі. Некаторыя грамадзяне цалкам ухіляліся ад яго выплаты, некаторыя ўтойвалі значную частку сваёй маёмасьці, каб паменшыць падатак. Шмат хто выяўляўся не ў стане плаціць, і нядаімкі за імі назапашваліся часам за дзесяць і больш гадоў. Ураду кожнай гарадзкой рэспублікі што ні крок даводзілася лічыцца з недахопам грошай на пакрыццё нейкага бягучага выдатку, і з хранічным перавышэннем выдаткаў над прыбыткамі. Адзіным сродкам выйсьця із падобных цяжкіх становішчаў здавалася пазыка, і яны пачалі карыстацца ёю так шырока, што канчаткова заблытвалі свае грашовыя справы. За пазычаныя грошы даводзілася плаціць 10-15%, часам нават да 25% за год, ці ж выплочваць крэдытору пажыццёвую рэнту. Дзякуючы гэтаму штогадовы дэфіцыт увесь час павялічваўся, і ніякіх істотных захадаў для знішчэння зла не рабілася. Перыяд фінансавага банкруцтва вольных і незалежных гарадзкіх рэспублік пачаўся з другой паловы XIII стагоддзя.

Паралельна з гэтым развівалася і іншая падстава палітычнага крушэння гарадзкіх рэспублік. Іхнае самакіраванне ў праважаючай большасьці гарадоў мела арыстакратычны характар. Пакуль усе мачымасьці і ўся ўвага гарадзкога насельніцтва была засяроджана на змаганні з феадальным уладальнікам, усе гараджане былі цесна згуртаванымі сваёй агульнай справай, ініцыятарам якой заўсёды былі найбольш заможныя жыхары. Але як толькі мэта была дасягнута і гарадзкая рэспубліка забяспечвала сабе больш-менш трывалае існаванне, так адразу ж выяўлялася розніца інтарэсаў у заможных і ў бедных, у гаспадароў і ў працаўнікоў, у кіруючых і ў кіруемых. У Генце для спынення звады паміж ніжэйшымі пластамі насельніцтва і гарадзкім урадам у 1275 годзе спатрэлася пасярэдніцтва графіні фландрскай. Амаль у той жа час у Дуэ працоўныя ткацкага цэха паўсталі супраць сваіх гаспадароў. У Арасе працаўнікі рзбурылі сядзібы сваіх цэхмайстраў (рамесных старастаў) і разгульвалі па гораду са сьцягамі, гучна патрабуючы сьмяротнага пакарання для мэра і эшевенаў. У Сане ў 1283 годзе гарадзкія партыі не маглі прыйсьці да пагаднення адносна абрання службовых асоб, і справа закончылася тым, што ўвесь склад муніцыпалітэта быў прызначаны каралём. У Дыжоне з нагоды такога ж становішча кароль не толькі прызначыў сваёю ўладай сябраў гарадзкога ўрада, але і цалкам знішчыў у ім рэспубліку.

Спачатку гарадзкая арыстакратыя спрабавала з дапамогай гвалтоўных захадаў ўтрымаць за сабой сваё прывілеяванае становішча. Але напор дэмакратыі быў занадта моцным і вышэйшай буржуазіі давялося паступова зрабіць цэлы шэраг саступак. Рамесныя карпарацыі атрымалі больш шырокі ўдзел у абранні службовых асоб. Побач з ранейшым муніцыпалітэтам у шмат якіх камунах з'явіліся прадстаўнікі народнай масы, меўшыя права кантролю над фінансавай часткай і нават да некаторай ступені бралі ўдзел у кіраванні горадам. Такім чынам, да пачатку XIV стагоддзя, гарадзкія рэспублікі (якія прынялі большай часткай назву

«камун») набылі некалькі больш дэмакратычнае ўладкаванне, але ператварыцца ў чыста дэмакратычныя рэспублікі не паспелі. Мы ўжо бачылі, што, вызваліўшыся ад падданства свайму феадальнаму ўладальніку, гарадзкая рэспубліка ставілася ў больш непасрэдныя дачыненні да караля. Хутка ўвайшло ў звычай, што кароль неадменна падцвярджае камунальную хартыю, і гарадзкія рэспублікі падначаліліся юрысдыкцыі каралеўскага парламента, які часта накладаў на іх вялізныя штрафы. Пастаянныя сутыкненні аўтаномных гарадоў з іхнымі шматлікімі вонкавымі ворагамі, а яшчэ больш узаемныя звады паміж гараджанамі давалі каралю шмат нагод для таго каб браць удзел ва ўнутраным жыцці вольнага горада. Фінансавыя цяжкасьці рэспублік мелі наступствам каралеўскую апеку над іхнай грашовай справай, палітычныя і сацыяльныя звады – да апекі над іхным кіраваннем. Такім чынам, дзякуючы гэтым нагодам гарадзкая рэспубліка страціла свае характэрныя прыкметы, перастала быць адмежаванай, незалежнай суполкай і феадальнай адзінкай, вольна наладжваючай дачыненні з іншымі такімі ж феадальнымі адзінкамі.

У канчатковым выніку на момант уцаравання дынастыі Валуа ў Францыі ўжо не было ніякіх гарадзкіх рэспублік, а калі некаторыя гарады яшчэ і захавалі такую назву, то толькі ў выглядзе перажытку. Тут, як і ў шматлікіх іншых выпадках, форма перажыла ўтрыманне, некалі напаўняўшае яе.

За выключэннем швейцарскіх рэспублік, ды некаторых германскіх вольных гарадоў, амаль усе сярэднявечныя рэспублікі загінулі, але іхне ўнутранае жыццё і вонкавыя стасункі далі вельмі вялікі матэрыял для пісьменнікаў Эпохі гуманізму, якія і стварылі грунтуючыся на іх цэлы шэраг фантастычных апавяданнаў пра «класічныя рэспублікі, быццам бы існаваўшыя ў Грэцыі і ў Італіі да пачатку нашай эры». Прачытайце ўсіх нашых псеўда старажытных класічных пісьменнікаў, і вы не знойдзеце ў іх ніводнай дэталі і ніводнага асобнага тэрміна, маючага дачэнне да кіравання, якія не былі б запазычаны із сярэднявечнага слоўніка і сярэднявечнага жыцця.

# Глава III.

## Рыцар як носьбіт сярэднявечнай культуры.

Сярэднявечнае дваранства было натуральным асяроддзем, у якім утварылася не толькі прызнаная ўсімі літаратура канца сярэдневечча, але і тая класічная, якая потым была апакрыфакавана у глыбокую старажытнасьць[275].

Рыцарства, як вайсковы і земляробчы стан, узнікла ў франкаў у VIII стагоддзі ў сувязі з пераходам ад народнага пешага войска да коннага войска васалаў. Яшчэ ў VII стагоддзі ў франкаў пераважае пешае войска вольных людзей, а на конях з'яўляюцца толькі дружыннікі караля (антрустыёны), але хутка ад вестготаў запазычваецца і ў франкскую дзяржаву коннае ўладкаванне. Дзякуючы таму, што вольны селянін не быў здольным адбываць конную службу ў аддаленых паходах, то каралінгам для стварэння конніцы давялося абаперціся на сеньярат. Карл Молат і яго сыны раздавалі землі сваім людзям у абмежаваную ўласнасць і

[275] Фактычная частка дзеля безстароннасьці выкладання непасрэдна рэферавана мной із выдатнага артыкула Яўгена Шчэпкіна «Рыцарства» ў «Кнізе для чытання па гісторыі сярэдневечча» пад рэдакцыяй прафесара П. Г. Вінаградава (1903 г.).

патрабавалі ад іх коннай службы. Пачынаючы з VIII стагоддзя ў дачыненні да такіх «ваеннаабавязаных» людзей пачынае ўжывацца найменне васы і васалы. Вольны, але праз недахоп ўласнасьці нявдольны да нясення коннай службы чалавек мог таксама стаць васалам, прынёсшы свайму сеньёру прысягу на вернасць (fidelitas) і атрымаўшы ад яго бенефіцый ці, пазьней, лен. Падпаўшы пад уплыву царквы і паэзіі, гэтае ранняе рыцарства, г.азн. стан конных васалаў, выпрацавала сабе асобны маральны і эстэтычны ідэал ваяра, а пад час эпохі крыжовых паходаў, пад уплывам узнікшых тады духоўна-рыцарскіх ордэнаў, яно замкнулася ў спадчынную арыстакратыю, вызнаючы сябе міжнародным вайсковым ордэнам.

Уплыў царквы на вайсковы стан спачатку меў падставай прысягу на вернасць, якую васал прыносіў сеньёру, пазней прысягу на ахову зямнога і боскага міру сярод людзей (treuga et pax), – і, нарэшце, звычай пасьвячэння зброі перад уручэннем яго ваяру пры дасягненні ім паўналецця. Захоўваць «боскі мір» – азначала абараняць ад гвалту ўсё невайсковае насельніцтва. Захоўваць «зямны мір» – азначала папярэджваць звады паміж самімі рыцарамі.

Паджыо Брачыаліні пад імем Тацыта так апісаў гэты «сярэднявечны» германскі звычай узбраення юнака пры дасягненні ім паўналецця, дапасаваўшы яго да класічнай старажытнасьці:

«*Усе грамадзкія і прыватныя справы германцы вядуць ва ўзбраенні, але надзець зброю звычай дазваляе кожнаму толькі тады, калі грамадства прызнае яго саспелым. Тады сярод самога сходу нехта із правадыроў народа, бацька ці сваяк, упрыгожвае юнака шчытом і дзідай. У іх гэта ўсё адно, што тога: гэта першае ўшанаванне для юнака. Да здзяйснення гэтага звычаю ён лічыўся як бы часткай сям'і, ад гэтага часу ён робіцца часткай дзяржавы*».

Але гэты звычай узнік толькі пры Каралінгах, напярэдадні XI стагоддзя, і што не менш чым усё астатняе даводзіць нашу ранейшую выснову ў гэтай кнізе, што ўсе творы Тацыта былі напісаны Паджыо Брачыаліні напачатку XV стагоддзя.

Зрабіць некага рыцарам на-лаціне мела назву «надзець ваярскі пояс» (cinigilum militare), а па-французку пад час сярэднявечча «аперазаць мячом» (ceindre l'epee). Гэта азначае  пад лацінскай класічнай назвай хаваецца па-сутнасьці сярэднявечны германскі звычай.

Не кожны васал быў рыцарам. Сустракаліся васалы, якія, дзеля памяншэння выдаткаў, на ўсё жыццё заставаліся «дамуазо». З другога боку, званне рыцара давалася часам і нязначным людзям, не меўшым ніякага дачынення да сістэмы ленаў. Ніжэй панцырных рыцараў вольнага паходжання (miletes) стаялі лёгка ўзброеныя вершнікі, не вольныя згодна з паходжаннем (caballarii). Але ад чыншавага насельніцтва можна было падняцца да міністэрыяла, атрымаўшы пасаду пры двары сеньёра і нясучы службу ў якасьці лёгкаўзброенага вершніка, а потым, заслужыўшы адпаведны лен, перайсьці ў цяжкую конніцу і стаць, рыцарам.

Толькі пачынаючы ад Гагенштаўфенаў нямецкае рыцарства замыкаецца ў спадчынны стан. Загад Фрыдрыха I ад 1156 года забараняў сялянам насіць дзіду і меч, нават купец не меў права падпярэзвацца мячом, а павінен быў прывязваць яго да свайго сядла.



Мал. 150
Гістарычная рэчаіснасць. Паляванне з сокаламі ў XIV стагоддзі (са старажытнага малюнка ў кнізе Гнедзіча: Гісторыя мастацтва).

Згодна з «Саксонскім Зерцалам» ў сапраўднага рыцара ўжо бацька і дзед павінны быць рыцарамі. Другі загад Фрыдрыха I (1187-88 гг.) забараняў сынам сьвятароў, дыяканаў і сялян падпяразвацца мячом па-рыцарску. У Францыі хаця простыя людзі і траплялі часам у рыцары, але пераважным правілам было тое, што ў рыцары прысвячаўся толькі ўладальнік лена. У Англіі права пасьвячаць у рыцары (knigt) рана стала прэрагатывай царквы. Генрых III і Эдуард I патрабавалі абавязковага пасьвячэння кожнага ленніка, які валодаў штогадовым прыбыткам з зямлі не ніжэй 20 ці 30 фунтаў стэрлінгаў. Факт валодання цэнзам тут узяў верх над паходжаннем асобы.



Мал. 151
Гістарычны сон. Старажытна рымскі рыцар (Reiter, caballero, chevalier, вершнік). Згодна са стажытным малюнкам (Гнедзіч: Гісторыя мастацтва).

Немагчыма было стаць рыцарам, не будучы хрысьціянінам, але ў французкім сярэднявечным эпасе выводзяцца і рыцары-бязбожнікі. Такім, напрыклад, быў Рауль Камбрэйскі. У старажытнай быліне распавядаецца пра яго паядынак з Эрыа, графам дэ Дуэ, у якога Рауль забіў пляменіка і загубіў дваіх дзяцей. У гэтым паядынку Эрыа ўвасабляе сабой права, Рауль – моц. Беднаму графу Дуэ не хапае моцы доўга змагацца са сваім ворагам: адзін кулак у яго адсечаны, і ён бяжыць па полю, сыходзячы крывёй і блізкі да сьмерці. Ён прачувае сваю пагібель і чулліва моліць пра літасць:

– Я яшчэ малады, я не жадаю паміраць!

Ён гатовы зрабіцца манахам і перадаць сваю зямлю пераможцу, але Рауля немагчыма ўласкавіць. Само слова «бог» даводзіць яго да шаленства:

– Я адракаюся ад бога! – крычыць ён. – Я адракаюся!

– Калі так, – адказвае Эрыа, – то ты для мяне толькі шалёны сабака, а да мяне нават сама зямля і яе травы прыйдуць на абарону, і бог славы, можа, злітуецца нада мной.

І раптам люты Рауль адчуў, што памірае. У апошнюю хвіліну знікае яго бязвер'е.

– Бог бацька, зіхацячы славай, сусьветны суддзя! І ты, рахманая панна нябёс! Прыйдзіце да мяне на дапамогу! – заклікае ён, але гэта – былі яго апошнія словы. Ніхто не прыйшоў яго ратаваць.

А Эрыа застаўся жывы.

Ужо першыя казкі і быліны, надаваўшыя ўяўленню шляхетнага дзіцяці ідэалы, распавядалі не пра спакойную і мірную працу, а пра змаганне і небяспекі.

Такой, напрыклад, была быліна XIII стагоддзя «Даоп Майнскі» (Doon de Maince), такога зместу.

Стары граф Гюі жыў на берагах Рэйна недалёка ад утокі, каля самога «салёнага мора». Гэта быў адважны паляўнічы. На працягу ўсяго жыцця ён ведаў толькі дзва захапленні – вайну і паляванне. Аднойчы граф пераследаваў аленя ў глыбіні леса і раптам са здзіўленнем пабачыў, што жывёліна схавалася ў маленькі надворак нейкай келлі. Вось і сам выйшаўшы із яе пустэльнік упаў да ног графа і моліць яго літаваць аленя, блізкага да скону.

– Не! не! – крычыць няўмольны паляўнічы. – У мяне няма літасьці. Але дроцік быў накіраваны няправільна: замест жывёліны лязо трапляе ў пустыніка і пранізвае яму сэрца. Анёл апускаецца з неба, каб забраць душу паміраючага, а мімавольны забойца зараз у роспачы.

– Я даю зарок, – прамаўляе ён, – заняць месца гэтага пустынніка і застацца ў яго келлі да канца маіх дзён.

Знікшага графа лічаць ужо загінуўшым і яго сенешаль намераны завалодаць жонкай і землямі свайго сеньёра. Але графіня супраціўляецца. Здраднік пачынае яе біць, і забіў бы да сьмерці, калі б яе не выратаваў сямігадовы хлопчык Даален (Doolin), старэйшы із трох сыноў графа. Ён, як маленькае ільвяня, кідаецца на злыдня, падняўшага руку на жонку свайго сеньёра.




Мал. 152
Рыцар у баявым узбраенні.

Каб пазбавіцца ад такіх дзяцей, сенешаль намерыўся ўтапіць іх, але ён змог загубіць толькі самога малодшага. Двое старэйшых на старым чоўне пушчаны ў адкрытае мора, і хвалі нясуць іх усё далей і далей. Даален не журыцца, але яго брацік занадта малы і слабы для такога выпрабавання: яму ледзь мінула пяць гадоў. Ён такі прыгожы са сваімі сакалінымі вочкамі, але голад робіць сваю справу: дзіцёнак бялее, вочы яго зачыняюцца, вось ён ужо памёршы. А Даален застаецца адзін, стомлены голадам, сярод не маючага межаў акіяна ахутаны непрагляднай ноччу. Раніцай ўдалечыні паказваецца паласа зямлі, але Даален такі слабы, што ледзь паднімае руку да галавы. Пачынаецца бура, гром, дождж, град. Дзіцёнак ужо даручае сваё жыццё пану Богу і нябеснай панне. Яго смага і голад робяцца невыноснымі. Даален падбірае градзіны і смокча іх, ловіць галінкі, плаваючыя па хвалях, і абгрызае іхнае лісьце. Але вось вецер прыбівае яго да берага. Тут расьце глухі лес, і хлопчык памяншае свой голад яго дзікімі яблыкамі і арэхамі. У лесе выюць ваўкі.

– Хай прыходзяць! Я ім засуну мой нож у самую пастку,– думае Даален.

Куды яму захавацца на ноч? Вось стары, дуплаваты дуб. Тут і ложак і прытулак для Даалена.

Сярэднявечныя паэты не абмяжоўвалі сябе ні геаграфіяй, ні прыродазнаўствам і таму стваральнік быліны пра Даалена насяляе гэты лес пры ўтоцы Рэйна тыграмі, ільвамі і леапардамі. Хлопчык са свайго логава чуе і бачыць, як яны грызуцца. Вось, нарэшце, заняўся світанак. Гэта быў той самы лес, дзе жыў у келлі бацька Даалена. Граф Гюі сустракаецца з сынам, і абодва пазнаюць адзін аднаго. Забыўшыся пра зарок дадзены богу, пустынік намераны зараз пакінуць келлю і зноў стаць рыцарам. Ён спяшаецца вызваліць жонку і пакараць здрадніка, завалодаўшага яго спадчынай. Але бог карае графа за парушэнне зароку. Анёл спускаецца з неба і ўражвае яго слепатой. І вось Даален, як маленькі Рабінзон, таксама застаецца жыць у глухім лесе, адзін са сляпым бацькай, якога трэба карміць і вадзіць. Кожны дзень ходзіць хлопчык на паляванне, прыносіць вечарам

дзічыну для сляпога, соліць мяса на будучае марской соллю, пляце цыноўкі із лыка, шые адзенне са звярыных скур.

У лесе пачуўся тупат капытоў рыцарскага каня. Гэта едзе пасланнік злога сенешаля-здрадніка, заняволіўшага ў турму маці Даалена. Дзіцёнак кідаецца на ворага і забівае яго ўдарам булавы. З захапленнем бачыць ён яго вызалачаны шчыт, бліскучы шлем, кальчугу, прыгатаваную із дробных жалезных колаў, а галоўнае сталёвы меч. Рыцарская кроў закіпае ў ім, і наданнем ён спасьцігае цяжкае мастацтва рыцарскага ўбору. Праз некалькі імгненняў Даален ужо на кані са шлемам на галаве і мячом у руцэ. Сляпы чуе конскі тупат і вобмацкам выходзіць насустрач вершніку. Па голасу ён пазнае сына.

– О, госпадзі! – усклікае ён. – Дай мне зрок, дай пабачыць мне майго сына!

І вось, у старога графа раптам адчыняюцца вочы.

Даалену няма чаго больш рабіць у лесе, яму патрэбна вярнуць сваю спадчыну, адпомсьціць за маці і пакараць здрадніка. І ён здзяйсняе гэта.

Такім малюецца бурнае дзяцінства рыцара спеваку XIII стагоддзя. Хатні прытулак, спадчына, сям'я – усё гэта не трывалае. З маленства ўся надзея рыцара толькі на свой меч, ды на сваю малітву. Толькі да такога жыцця і рыхтуе юнага барона хатняе выхаванне, пачынаючаяся з сямі гадоў. Падобныя сагі ён чуе з самага дзяцінства, і яны напаўняюць яго ўяўленне і ствараюць яго характар.

Развіццё абстракнага мышлення і назапашванне разнастайных ведаў у вобласьці прыроды і гісторыі былі тады толькі ў зародку. Не кожны рыцар ведаў нават грамату, рэдкі ўмеў чытаць на-лаціне.

Калі ў каго і былі хатнія настаўнікі ці школа, то не хапала часу ісьці далей пачаткаў. Уся сярэднявечная навука XI-XII стагоддзяў была засяроджана ў руках сьвятарства: свецкія веды нават у навукоўцаў былі беднымі і поўнымі памылак і забабонаў. Да рыцараў даносіліся толькі водгаласы тагачаснай навукі на ўроках пад час дзяцінства і із апавяданняў пражыўшых жыццё людзей, ды із былін жанглёраў і з казак, прачытаных паміж бітвамі, калі не лічыць першых энцыклапедый нападобе розных Images Bibliotheques, Miroirs du Monde. У геаграфіі ў рыцара вылучаюцца толькі тры гарады – Рым, Візантыя і Ерусалім, ды і гэты Ерусалім размешчаны, як быццам бы, у цэнтры заселенай зямлі, якая на ранніх мапах малявалася ў выглядзе правільнага плоскага кола. З гісторыі ён ведае, магчыма, Аляксандра Вялікага і Цэзара, ды і то ў апраўе створанай паэтамі сярэдневечча. У тагачасных апавяданнах Аляксандр Вялікі абірае сабе 12 пэраў, цалкам як Карл Вялікі, ён, падобна Улісу, пазбаўляецца ад сірэнаў, падначальвае амазонак, падобна Тэзею ці Геркулесу. А Юлій Цэзар у гэтых апавяданнях забіты продкамі Ганелона, здрадзіўшага Раланду ў Рансевальскай цясьніне. Уся гісторыя Францыі да крыжовых паходаў зліваецца для рыцара ў адну магутную выяву Карла Вялікага. Карл Вялікі ў эпапеях – волат. Ён урачыста вядзе выгнанага папу ў Рым, дасягае Візантыі і нават Ерусаліма, дзе абмывае слязамі труну госпада, змагаецца з арабамі на поўдні Італіі і бачыць першыя здзяйсненні свайго пляменіка Роланда на палях Апрэмона. Паход Карла Вялікага на Пірынейскую паўвыспу ўвасабляецца ў вобразе гэтага Роланда, які памірае аточаны адзінаццацю пэрамі на вяршыні, з якой ён аглядае ўсю Гішпанію. Нават із урокаў сьвятой гісторыі рыцары выносілі толькі ўрыўкі, як запас на ўсё жыццё, таму што рэдка хто з іх мог чытаць лацінскую Біблію ці разумець царкоўную службу на лацінскай мове. Увесь Стары запавет зводзіўся да выяваў зямнога раю, ды да трох паданняў: да Данііла ў ільвіным раву, Іёны ва ўлонні кіта і да трох падлеткаў у палаючай печы. Толькі жыццё Хрыста ён павінен быў

памятаць добра, дзякуючы таму, што яно зноў і зноў пераказваецца яму ва ўсіх буйных эпапеях. Але і гэтыя нямоглыя ўяўленні пра сьвет атручаны для яго, як і ўся навука таго часу, верай у пачвары, у краіны без Сонца і Месяца, у людзей з ільвінымі кіпцюрамі на руках і нагах, людзей рагатых ці гаўкаючых, падобна сабакам.

Не пра разумовае развіццё клапацілася сярэднявечнае выхаванне, а пра моц і веру; фехтаванне і паляванне былі ўзведзены на ступень навукі. З дзяцінства ваявалі на мячах, ваявалі на дзідах, біліся на палках; з дзяцінства палявалі з сабакамі ці з сокаламі. Хлопчыкі амаль што жылі ў лесе ў вучыліся высочваць дзічыну, а вяртаючыся з палявання дахаты, яны ішлі да сваіх хартоў, да сваіх коней ці да сокалаў сваіх бацькаў.

Адна французкая быліна распавядае, напрыклад, як намерыліся было перавыхаваць пляменіка вялікага Гільёма д'Аранж, які двойчы ваяваў з няверными на палях Алікана і перамог іх у другім змаганні.

Бедны Віўен яшчэ дзіцёнкам быў перададзены сарацынам дзеля выратавання бацькі. Потым яго захапіў дацкі пірат кароль Гармонд і прадаў за сто марак жонцы купца Гадэфруа. Гэтая добрая жанчына, скарыстаўшыся сямігадовай адсутнасьцю чалавека, пачала пазьней выдаваць яму Віўена за іхнага сына, нарадзіўшагася быццам бы пасьля ад'езду бацькі, і паспрабавала даць хлопчыку добрае купецкае выхаванне.

– Я навучу цябе, як купляць і прадаваць, – кажа Віўену купец.

– О не, не! – супрацівіцца васьмігадовы хлопчык.– Дайце мне толькі каня і двух хартоў, ды сокала!

Гадэфруа ўсё ж прыставіў яго да гандлю, але Віўен за сто стосаў тавару вымяняў сабе сокала і зграю сабак. Купец б'е за гэта свайго прыёмнага сына, але хлопчык толькі рахмана паўтарае:

– Бацька, павер мне: гэта цудоўныя харты!

Такім з'яўляецца сын, унук і пляменік герояў-рыцараў.

Ранняя рыцарская паэзія, як і яе героі, мала звяртае ўвагі на жанчын. Аднак і яна стварыла некалькі ідэальных жаночых тыпаў: прыгожую Од (Aude), паміраючую, даведаўшыся пра сьмерць свайго нарачонага Роланда; настойлівую Германіяр (Germengart) із Павіі, дачку караля Баніфацыя, якая можа адружыцца толькі з адным Эмеры, выбраннікам свайго сэрца; Берту, жонку Жырара Русільёнскага, узорную швачку і ў той жа час узорную гаспадыню адносна дабрыні і прастаты. Але тып жонкі сярэднявечнага барона, валадарыцы замка пад час адсутнасьці чалавека, з асаблівай выразнасьцю ўвасобіўся ў Гібур (Guiboure), жонцы Гільёма д'Аранж (у паэме «Aliscand»).

Гільём д'Аранж пераможаны пры Алкане. Ён толькі адзін застаўся жывым і на волі із усіх хрысьціянскіх рыцараў. Яго жонка Гібур далёка ад поля змаганя, у сваім замку Аранж, чакае выніку змагання з сарацынамі. Раптам брамнік паведамляе:

– Нейкі мужчына просіць пусціць яго ў замак і выдае сябе за Гільёма.

Дрыготка прабягае па жылах Гібур. Яшчэ не давяраючы, але ўсё ж усхваляваная, яна кідаецца на маленькую вежку. На іншым баку рава нерухома стаіць рыцар высокага росту ў арабскіх даспехах.

– Гэта няверны, – шэпча Гібур.– Не трэба адчыняць яму нашых дзвярэй.

– Няверны! Ты не пройдзеш сюды! – крычыць яна рыцару.

Але той ціха і сумна адказвае:

– Я Гільём.

Яму зараз няма часу тлумачыць, як дзеля выратавання ён надзеў сарацынскую зброю.

– Я Гільём! – паўтарае ён, і слёзы буйнымі кроплямі цякуць яму на шчокі.

Яго рукі пабарвянелі ад крыві, яго вочы распухлі ад плачу.

– Дваццаць тысяч турак перасследуюць мяне па пятах! Адчыніце, адчыніце мне!

Здалёк чуецца спачатку невыразны, але ўсё больш і больш нарастаючы тупат тысячы скачучых коней, Гібур усё яшчэ вагаецца.

– Ваш голас падобны на Гільёмавы, але ж шмат людзей падобны адзін на аднаго вымаўленнем і голасам.

Граф адчыняе забрала, адкідвае шлем за плечы і агаляе перад Гібур сваю акрываўленую галаву.

– Зірніце на мяне, – зноў прамаўляе ён. – Ці я гэта!

Яна нахіляецца і з жахам пазнае Гільёма. А блізка ўжо чуюцца крыкі хрысьціянскіх палонных, якіх сарацыны гоняць, як статак, перад сабой, у ланцугах, пад ударамі.

Кроў кідаецца ў галаву Гібур.

– Як! – крычыць яна, –Ты выдаеш сябе за барона Гільёма, і можаш спакойна выносіць гэтае зневажаючае відовішча! Не! Не! Ты не Гільём! Гільём ніколі не дапусьціў бы, каб так ставіліся да хрысьціян! Не! Ты не Гільём!

І вось пераможаны, знясілены ўцякач, змагаючыся ўжо шэсцьдзесят гадзін і страціўшы не мала крыві, моўчкі апранае шлем, замацоўвае забрала і з дзідай у руках зноў кідаецца ў натоўп няверных. Ён даганяе іх, наносіць удары, б'ецца адзін супраць сотні і вызваляе палонных.

– Што? Ці Гільём я? – пытае ён тады Гібур.

Дзьверы Аранжкага замка адчыняюцца, нарэшце, перад няшчасным. Аднак Гібур усё яшчэ не вельмі верыць. Для яе нязвыкла бачыць Гільёма пераможаным: яна так звыклася з яго перамогамі. Пятнаццаць ран, пасечанае і акрываўленае цела, буйныя слёзы на шчаках выклікаюць у яе спагаду, але адна думка пра былую паразу зноў робіць яе неадчувальнай.

– Не! Гэта ўсё ж немагчыма, каб ты быў Гільёмам. Тады ты быў бы пераможцай. Дзе ж усе французы?

– Забіты.

– Дзе твае пляменікі?

– Забіты.

– Дзе Віўен, якога я так кахала?

– Забіты.

Са стогнамі і слязамі, Гільём, як дзіцё, толькі паўтарае:

– Забіты, забіты! Яны ўсе забіты пры Алкане.

Да яе першай вяртаецца мужнасць.

– Ну, зараз не да адпачынку, – прыспешвае яна, стрымліваючы слёзы: – трэба адпомсціць! Ідзі і прасі дапамогі ў Парыжы ў імператара! З богам.

– Ці не выправіць мне вястуна замест сябе? – разважае Гільём.

Але Гібур забываецца і пра яго пяцьдзесят ран, і пра 60 гадзін змагання.

– Не! Выпраўляйся сам!

– Але я баюся пакінуць цябе адну.

– Я адна здолею вытрымаць аблогу турак. Я паднімуся на ўмацаванні і зверху буду забіваць іх. Ідзі!

Надышла хвіліна развітання, графіня адчувае, што мужнасць пакідае яе, і на імгненне яна робіцца зноў жанчынай. Чалавек і жонка далікатна абдымаюць адзін аднаго.

– Ах! Ты сустрэнеш там іншых жанчын, маладзейшых і прыгажэйшых, – кажа Гібур чалавеку, – ты забудзешся пра мяне.

Тады Гільём, каб суцешыць яе, дае клятву адпусьціць сабе бараду і валасы, не стрыгчыся, пакуль не вернецца дахаты, у ніколі за час вандравання не дакранецца да іншых вуснаў.

І вось пераможаны герой зноў на кані і скача ад Аранжа да Лана, дзе сам кароль Людовік. Гільём некалі вызваліў яго ад ворагаў, пасадзіў на пасад і даў яму сваю сястру ў жонкі. Ад каго ж, як не ад Людовіка, чакаць пераможанаму Гільёму дапамогі? Але ў палацы ніхто із балюючых не жадае прызнаць Гільёма ў яго лахманах, на загнаным кані.

– Я вам кажу, што хрысьціяне пераможаны пры Алкане, што Віўен забіты, што ўсе французы загінулі.

Але нават сама каралева, сястра Гільёма, ганарліва застаецца на сваім пасадзе. У яе не знаходзіцца ні ўсмешкі, ні пяшчотнага слова для пераможанага брата, прыйшоўшага засмучаць усіх пад час угодак яе адбыўшагася каранавання, Гільём адчувае, што кроў із усіх жылаў пачынае біць яму ў галаву. Ён кідаецца па няўдзячную сястру, хапае яе за бялявыя косы, валачэ яе па падлозе, дастае і ножнаў меч і готавы ўжо нанесьці апошні ўдар. Але раптам у дзвярах паказваецца азораная сьвятлом маладая прыгожая дзяўчына, з мяккім паглядам і ўсмешкай на вуснах. Гэта дачка каралевы і пляменіца Гільёма, Аэлі (Aelis). На вачах у напалоханых гледачоў, сярод магільнага маўчання Аэлі ідзе прама да ашалелага дзядзькі і моўчкі апускаецца на калені. Гільём як бы замірае на месцы, і дзяўчына адважваецца загаварыць:

– Я не паднімуся, пакуль вы не даруеце маю маці!

Гільём ужо адчувае, што слёзы набягаюць яму на вочы, кідае меч, бярэ пляменніцу ў абдымкі.

«О, божа, як радуецца прыгожая Аэлі»! – паведамляе паэт на заканчэнні гэтай пастановы сваёй першабытнай белетрыстыкі.

У IX стагоддзі Яўропа пачынае пакрывацца ўмацаваннямі. Яе першыя замкі будаваліся толькі із дрэва і гліны, без каменя. Спачатку насыпаўся штучны ўзгорак (motte), і на ім ставіўся зруб на чатыры сьцены, вышынёй тры-чатыры паверхі. Пад гэтай вежай у глыбіні насыпу будаваўся яшчэ адзін падземны паверх са студняй, патрэбнай на выпадак працяглай аблогі. Такім было жыллё гаспадара (dominio, donjon). Вакол яго, акрамя рова, ладкаваўся вал, ці жывая агароджа, ці грубы частакол, адсюль і назвы ўсіх гэтых замкаў: «La Haye, Le Plessis, La Motte» і г.д. Толькі бліжэй да XII стагоддзя рыцарскія замкі сталі больш складанымі. Дрэва ўсюды замяняецца каменем. Чатырохкутная драўляная вежа (donjon) ператвараецца ў каменную самай разнастайнай формы. Частакол застаўся, але ззаду яго вырастаюць стройныя сьцены з зубцамі, байніцамі, атачаючай дарожкай і вежамі.

Афіцыйнае адзенне, якое насяць як рыцар так і яго жонка, – гэта мантыя (mantel) без рукавоў, із шаўковай тканіны з гарнастаевым атачэннем. Мантыя на правым плячы змацоўвалася спражкай, і сам рыцар лёгка падтрымліваў яе рукой на

вышыні грудзей. Адсюль спісаны і класічныя мантыі. На галаву рыцар апранаў капялюшык.

Чым ён запаўняўняў увесь свой дзень, калі не было вайны?

Ён наведваў турніры ў акрузе, хаця б выдаткі на ўзбраенне і шлях паглыналі палову яго прыбыткаў; паляваў у лясах ці на балотах; лавіў рыбу ў сажалках і ў хутка бягучых ручаях, ці проста рабіў бясконцыя шпацыры па палях.

Ён адчыняў свае дзьверы для разнастайных менестрэляў, прымаў і частаваў гасьцей, практыкаваўся на рапірах ці даваў іншым урокі фехтавання, гуляў у шахматы, перамяжаючы гэты занятак трык-тракам і гульнёю ў косткі, доўга і шмат еў, здзяйсняў суд над залежнымі віланамі, завіхаўся па гаспадарцы, наглядаў за чэляддзю. У кожнага сеньёра меўся свой «двор», хаця б яго вежа і была із дрэва.

Ад сярэдневечча дайшло шмат павучанняў, як паподзіць сябе рыцару ў грамадстве, асабліва за сталом[276]. Не раілася з'ядаць хлеб, перш чым паспеюць падаць першую страву. Пальцы трэба трымаць у чысьціні і коратка стрыгчы ногці, таму што мяса даводзілася браць рукамі із агульнай псудзіны. Падчас знаходжання за сталом не часаць сабе рукамі ні шыю, ні вушы, і не калупаць у носе. Не мачаць у агульную чарку кавалкаў хлеба, якія абкусваюцца, не кідаць за сваю спіну абгрызеныя косткі, не распускаць за сталом пояс і г.д.. Roman de la Rose дае парады і дамам: гаспадыня, павінна завіхацца па гаспадарцы так, каб гэта было ўсімі заўважаема; знарок спазняцца да стала, сядаць апошняй. Дамы не павінны апускаць у чарку пальцы да самых суставаў; яны могуць браць кавалачкі толькі кончыкамі пальцаў, піць маленькімі глыткамі, не абліваццa пітвом і перад кубкам выціраць тлушч із вуснаў.

Вось у зале дзе ідзе баль, ужо цямнее, і з'яўляюцца хлопчыкі з паходнямі ў руках: васковыя і лоевых свечкі пачалі з’яўляцца толькі з канца сярэдневечча.

Старажытныя хронікі прыпісваюць вынаходніцтва турніраў Жафруа дэ-Прэл’і, памёршаму ў 1066 годзе, але Дюканж даводзіў, што турніры існавалі і раней. Адно можна сказаць з упэўненасьцю: яны ўзніклі ў Францыі і адтуль былі перанесены ў Германію і Англію: нездарма ж яны мелі назву «гальскія спаборніцствы» (conflicti gallici у Мацьвея Парыжскага). Гільём дэ-Ньюберы (памёр 1208 г.) паведамляе, быццам бы Рычард Ільвінае Сэрца заснаваў турніры і ў Англіі, пераканаўшыся ў тым, што французы менавіта ім абавязаны сваёй вайсковай перавагай; тое ж паведамляе і Мацьвей Парыжскі пад 1194 годам.

Турніры заўсёды былі небяспечнай забавай. У XIII стагоддзі забітых на іх лічылі дзясяткамі, не кажучы ўжо пра рассечаныя твары і цэлыя вазы параненых. Толькі пазней пачалі мячы і дзіды, прызначаныя для турніру, прытупляць.

Сярэднявечныя дамы не баяліся крыві і напаўнялі ложы і прыступкі на падмостках для гледачоў, упрыгожаныя дыванамі і сьцягамі. Толькі Клермонскі сабор, сабраўшыся ў Аверні ў 1130 годзе, пры папе Інакенцію II, забараніў турніры, таму што яны «нярэдка каштавалі людзям жыцця». Калі хто паранены на турнірах, – быццам бы пастанавіў ён, – то яму не варта адмаўляць у споведзі і перадсьмяротным прычашчэнні, але яго патрэбна пазбавіць царкоўнага пахавання.

Дарэчы гэтую пастанову немагчыма лічыць цалкам праўдзівай, таму што пазьней яе папа Аляксандр III (1150-1181) і абодва «вялікія Інакентыі» (III і IV) аж да 1254 года таксама змагаліся супраць турніраў. Толькі папа Мікалай III у 1279 г. загадаў кардыналу Сымону дэ С. Сэсіль адлучыць ад царквы ўсіх рыцараў,

[276] Reineri Phagitacetus sive de faceutia comedendi; Contenance de la table; Altdeutsche Tischzuchten і г.д.

браўшых удзел у турніры, які французкі кароль Пiлiп III дазволіў дзякуючы сваёй слабасьці.

Запрашэнні на турнір рассылаліся звычайна ўсім рыцарам на 20-30 іль ў акружнасьці.

Для дам і для суддзяў турніру спехам узводзіліся ложы на падмостках із дрэва. Уся мясцовасць навокал рысталішча пакрывалася на час турніру шматлікімі намётамі, а ў самім горадзе, ладзіўшым такое сьвята, над усімі вокнамі і над усімі дзвярамі будынкаў умацоўваліся сьцягі гасьцяваўшых рыцараў.

Кіравалі турнірам і яго парадкам яго правядзення – герольды, загадзя аб'язджаўшыя мясцовасць і апавяшчаўшыя пра дзень сьвята, а перад пачаткам турніру яны голасна абвяшчалі імёны рыцараў, выязджаўшых на спаборніцтва. Падчас бітвы яны падбадзёрвалі змагаючыхся, нагадваючы ім пра здзяйсненні іхных продкаў, ці звярталіся да дамаў, каб тыя не шкадавалі знакаў павагі. І вось дамы, якія ўжо да пачатку спаборніцтваў раздавалі знаёмым рыцарам свае шаўковыя рукавы на сьцягі, зараз, падчас бітвы, кідалі ім дзеля заахвочання на арэну свае хусткі, пальчаткі, веееры, мантыллі.

Нам застаецца толькі разгледзець зараз стаўленне рыцараў да жанчын свайго стану.

Разгледзім спачатку германскае рыцарства. Да крыжовых паходаў жанчына ў германцаў рэдка вылучалася ў першыя шэрагі свецкага грамадства і ніколі не рабілася цэнтрам разумовага ці палітычнага жыцця. Яна заўсёды знаходзілася ў залежнасьці ад нейкага мужчыны: дзіцёнак у сядзібе бацькі, жонка ў замку рыцара. Да яе часта ставіліся жорстка, груба, але не распутна, яе маглі пабіць, але не зганьбаваць.



Мал. 153
Французкі убор XV стагоддзя пад час росквіту ветразёвага мараплаўства (Гнедзіч: Гісторыя мастацтваў).

Мужчына заваёўвае жанчыну ўчынкамі, а жанчына паважае чалавека за яго гераізм і шануе яго за прыхільнасць. «Minne» – як пад час сярэдневечча звалася ў германцаў каханне – працягвалася ў яе да труны, нават ідзе ў магілу. Нездарма ж выпрацаваўся пахавальны звычай, дзе жанчына, перажыўшая каханага чалавека, ішла за ім на вогнішча, пажыраўшае нябожчыка з яго канём, зброяй і лодкай. Але стаўленне да жанчыны зведвае перараджэнне на пацягу XII-XIII стагоддзяў, пад уплывам крыжовых паходаў і ўшанавання Мадоны. Замест грубых ваяроў з'яўляюцца вытанчаныя прыдворныя рыцары. Жанчыны перастаюць сьціпла выдаляцца ў сямейнае жыццё і выходзяць на першае месца ў грамадстве. Яны пачынаюць нават кіраваць мужчынамі, знемагаючымі ў пакланенні перад імі. Паходы на Ўсход, у Візантыю і ў Ерусалім упершыню расчынілі феадальнаму рыцарству вока на ўвесь неабсяжны сьвет. Дзікім і вузкім павінна была адразу здацца феадалу ўсё яго ранейшае адасобленае жыццё ў змрочным замку. Пад паўднёвым небам, сярод блаславёнай прыроды, дзе побач з небяспекамі рыцарства знаходзіла і небывалую па багацці здабычу, упершыню ў яго душы з’явіўся запал да вытанчанага задавальнення як усіх сваіх пяці ніжэйшых пачуццяў, так і самых высокіх патрэб розуму і сэрца.

Пошукі ідэалаў у спалучэнні з патрэбай цешыцца рэчаіснасьцю і культ Мадонны ў вобразе маладой жанчыны складаюць асаблівасьці рыцарскага духу XIII стагоддзя.

Феадальнае рыцарства, згуртаваўшыся ў крыжовых паходах, перастае сядзець па сваіх замках і імкнецца да двароў тых сюзерэнаў, якія раней іншых былі ахоплены новым духам. Так упершыню з'явіліся грамадзкія цэнтры, дзе пачалі панаваць жанчыны.



Мал. 154
Ангельская жаночая мода XVI стагоддзя
(Гнедзіч: Гісторыя мастацтваў).

Рыцар быў па-ранейшаму абавязаны тут служыць усім жанчынам, як істотам фізічна слабым, але адной із іх ён пераважна пасьвячае сябе ў якасьці ўвасабленага ідэалу. Зараз як жанчына схіляецца перад гераізмам героя, так і рыцар перад хараством сваёй дамы сэрца. Правансальскія трубадуры выпрацавалі цэлую сістэму ўшанавання культу жанчыны і вызначылі ў ім некалькі прыступак. На першай стаіць нясмелы рыцар, ужо носячы ў сэрцы таемнае каханне, але яшчэ не адважваючыся адкрыцца прызнацца ўмілаванай. Калі, падбадзёрваемы сваёй дамай, ён адважваецца на прызнанне, то ён ужо паднімаецца на другую прыступку і ператвараецца «ў молячага». Калі дама дазваляе яму адкрыта ўшаноўваць сябе, рыцар ператвараецца ў «пачутага» і г.д.

Дапушчэнню да культу дамы папярэднічала больш ці менш працяглае выпрабаванне ў гераізме і вернасьці. Вытрымаўшы выпрабаванне, рыцар рабіўся васалам сваёй дамы. Як пры заключэнні васальнай залежнасьці, так і тут ён схіляў калені, клаў свае рукі ў рукі «сюзерэна», а сюзерэн даваў яму пацалунак і пярсцёнак, як адзнаку злучэння душ. З гэтага часу рыцар пачынаў насіць колеры дамы і герб, які яна яму дала. У якасьці гярба маглі служыць яе пярсцёнак, пояс, вэлюм ці рукаў. Рыцар замацоўваў падарунак каханай да шчыта ці дзіды і чым больш гэты знак зведваў удараў пад час бойкі, тым мацней цешылася дама. Часам дамы патрабавалі ад сваіх рыцараў нейкага надзвычайнага доказу кахання і паслухмянасьці, часьцей усяго ўдзелу ў крыжовым паходзе. Распешчаныя ўсеагульным культам дамы не заўсёды прытліваліся межаў павагі, якую павінен быў бы выклікаць у іх гераізм іхных прыхільнікаў. Яны набылі звычку гуляцца пачуццямі, якія ўласна мелі дачыненне не столькіда іх саміх, колькі да ідэалу.



Мал. 155
Дамскае адзенне XII стагоддзя ў Францыі. Са старажытнай выявы (Гнедзіч: Гісторыя мастацтваў).

Тангейзэр, лірык XIII стагоддзя, смяецца над гэтай жаночай фанабэрыстасьцю:

«*То я павінен прынесьці прыгажуні саламандру, то вымусіць Рону бегчы да Нюрнберга, а Дунай перакінуць праз Рэйн. Ледзь я вымаўлю «так», як яна ўжо кажа «не»... Адна надзея засталася яшчэ ў мяне: калі гара згодна з маім загадам растане, як снег, то яна адкажа мне каханнем. Нейкае дрэва стаіць недзе далёка ў Індыі. Калі я прынясу яго ёй, тады яна выканае маё жаданне ... О гора, гора мне! Я буду ёй, пачынаючы ад гэтага часу, ненавісным, калі не дастану зараз жа каўчэг, адкуль Ной выпускаў сваіх галубоў!*».

У кнізе «Frauenbuch und Frauendienst» нямецкі рыцар – паэт XIII стагоддзя Ульрых Фон-Ліхтэнштэйн – апеў дзівацтвы сваёй дамы.



Рыс, 156
Прыдворная дама французкага караля Францыска I (1494 –1515 г.).

Яшчэ будучы экюйе, ён выбірае сабе даму сэрца і з захапленнем п'е ваду, у якой яна мылася. З гадамі яго ўтрапёнасць павялічваецца. Ён адразае сабе вельмі шырокую верхнюю губу, таму што гэтага патрабуе дама. Ульрых пракалоў палец, але дама лічыць, што гэтая рана дробязная. Тады Ліхтэнштэйн адсякае ўвесь палец і пасылае яго ёй у каштоўнай скрыначцы, але зараз дама знаходзіць у гэтым учынку толькі верх неразважлівасьці.

А тым часам у Ульрыха Фон-Ліхтэнштэйна ў замку жыве жонка, да якой ён шчыра прывязаны, але для абстрагаванага культу згодна з духам часу ён абраў іншую жанчыну.

Разважаючы пра гэтае стаўленне заходне-еўрапейскіх рыцараў да жанчын іхнага кола, немагчыма не прыйсьці да высновы, што яно з'яўляецца вынікам крыжовых паходаў. Для рыцараў, пражыўшых гады на чужыне, не бачачы ніводнай жанчыны свайго кола, а толькі чужых як адносна расавай прыналежнасьці так і адносна мовы сірыянак, прыезд да іх жанчыны, з якой яны маглі размаўляць на роднай мове, павінен быў здавацца чымсьці нападобе з'яўлення анёла, спусьціўшагася з неба, за адну ўсмешку якога яны былі гатовы пачаць сьмяротнае змаганне адзін з адным. Толькі гэтым і магчыма патлумачыць узнікненне такога дзікага на выгляд звычаю, як турніры ў гонар дам.

Росквіт феадальнага рыцарства быў толькі ў XII стагоддзі. У XIII стагоддзі ўжо пачынаецца яго перавытанчанасць.

Дзякуючы развіццю вытворчасьці паперы для пісання і памнажэнню прафесійных перапіснікаў – каліграфаў, напісанае якімі лёгка чытаецца, развіваецца і празаічная рукапісная літаратура, хаця і адрозная ад сучаснай нам як аднагадовы парастак ад стагадовага дрэва.

Рыцары раманаў «Круглага стала» (пра караля Артура і яго 12 паладынаў, пра чараўніка Мерліна, пра Трыстана і Ізольду і г.д.) не маюць нічога агульнага са старым рыцарствам, якім яго малюе французкі эпас. Школа Крэцьена дэ-Труа (Chretien de Troyes), трувера заканчэння XII стагоддзя, чарпала сюжэты із кельтскіх паданняў Брэтані і Вэльса і прынесла дух крыжовых паходаў у рыцарскую паэзію, якая раней была прадстаўлена германска-хрысьціянскімі chansons de geste. А раманы Круглага стала (Les Romans de la Table Ronde), адлюстроўваючыя рыцарства XIII стагоддзя кельтскага паходжання, заўсёды даюць амаль адны і тыя ж тэмы падобныя гэтай:

Сярод прыгожых краявідаў, ажыўляемых птушкамі і кветкамі, ганарліва едзе малады рыцар у пошуках чагосьці невядомага і пераживае шмат прыгод, у большасьці выпадкаў падобных адна на адну. Ён сустракае нахабныя выклікання, пачынае дуэлі, заходзіць у зачараваныя замкі, пачынае тонкія сардэчныя прыгоды, атрымлівае таямнічыя талісманы. Цудоўнае перамешваецца з натуральным, чараўнікі чаргуюцца са сьвятымі, феі з анёламі, і ўсё гэта распавядаецца на адшліфаванай і апрацаванай да дасканаласьці мове.

Гэтая вытанчаная паэзія існавала ўжо і ў XII стагоддзі побач з шансон дэ жэст, але пачынаючы з XIII стагоддзя яна ўзяла верх у літаратуры, а ў XIV стагоддзі рыцары Круглага стала, у асобе Валуа, селі па пасад Францыі.

Із гэтага захопу імі цэнтральнай улады пачынаецца нацыяналізацыя ранейшага міжнароднага рыцарства.

Стагадовая вайна паміж Францыяй і Англіяй у XIV стагоддзі прыносіць ідэю «нацыянальнага гонару» ў асяроддзе рыцарства абедзьвюх варагуючых краін, якое раней утварала агульначалавечы ордэн. Новая ідэя нацыянальнага суперніцтва ў рыцарскім гераізме ажыўляе ў адмысловых формах характэрыстычныя бакі гэтай установы, яго ваярскую мужнасць, вернасць сюзэрэну, шанаванне радзімы і ўсьведамлене сваіх абавязкаў у дачыненні да больш нізкіх станаў, належачых да таго ж племені.

А вычурны культ жанчын уваходзіць у разумныя рамкі і ўтрымліваецца роўна гэтакім, каб надаць мяккасць, гуманнасць і доля паэзіі грамадзкім стасункам паміж людзьмі.

Хранікёр XIV стагоддзя Фруасар у сваіх хроніках, прысьвечаных пераважна гісторыі Стогадовай вайны, славіў сучаснае яму французкае і ангельскае рыцарства, падобна таму як chansons de geste апявалі феадальнае рыцарства XI-XII стагоддзяў, і як мінезінгеры і ўсе труверы ў легендах пра караля Артура і пра рыцараў Круглага стала славілі вытанчанае прыдворнае рыцарства XIII стагоддзя.

«*Я нарадзіўся на сьвет разам з вычынамі і прыгодамі*», – піша Фруасар і згадвае словы, павядомленыя яму асабіста адным рыцарам той эпохі, графам Гастонам дэ-Фуа з нагоды яго хронік:

«*На працягу апошніх пяцідзесяці гадоў здзейснена больш вайсковых вычынаў і дзіваў у сьвеце, чым на працягу папярэднічаўшых трыста гадоў*».

Вычыны рыцараў за першыя гады Стагадовай вайны былі яшчэ ва ўсіх у памяці, калі Фруасар задумваў сваё апавяданне. Стасуючыся з ангельцамі і французамі, ўдзельнічаўшымі ў бітвах, ён чэрпаў сваю хроніку непасрэдна із вусных апавяданнаў. Падчас свайго вандравання на поўдзень у Беарн да графа Гастона дэ-Фуа, Фруасар недалёка ад Анжэра сустракаецца з рыцарам Гільёмам Д'Ансень.

– «*Бачыце вы там гэтую вежу*? – запытаў яго французкі рыцар. – *Гэта замак Рылы, які ангельцы і гасконцы аднойчы ўмацавалі, каб абцяжарваць паборамі ўсю вобласць Луары. Бачыце вы таксама вунь тую маленькую рэчку і лес, адцяняючы яе? Мы перайшлі яе ў брод, затаіліся пад гэтымі галінастымі дрэвамі, каб перахапіць іх, калі яны павінны былі ехаць да Самюра. На гэтым самым лужку, дзе пасьвяцца нашы коні і дзе мы з такім задавальненнем спакойна зараз размаўляем на волі, мы тады зрабілі напад на рабаўнікоў. Іх было дзевяцьсот чалавек, а ў нас налічвалася да пяцісот дзідаў. Месір Жан дэ-Бэль разгарнуў свой сьцяг, пад якім у гэты дзень было дагодна пазмагацца і Бяртрану дзю-Геклэну, побач з Морысам дэ-Трэзгідзі* (Treseguidi), *Жафруа дэ-Кермелем і іншымі гераічнымі брэтонскімі рыцарамі, ішоўшымі паўсюдна за яго шпорамі. Сутычка была крывавай і жорсткай, але тры сотні нашых ворагаў засталіся распасьцёртымі вось на гэтым самым месцы, дзе мы размаўляем. З таго часу не было больш у гэтым краю ні ангельцаў, ні гасконцаў*».

Ад Пам'е да Артэза (Orthez) Фруасар ехаў дзесяць дзён з рыцарам Эспенам дэ-Ліён (Espaing de Lion). Рыцар паказваў хранікёру самыя знакамітыя замкі, і ўвесь час, пакуль яны ехалі сенажацямі ўздоўж Гароны, не пераставаў распавяаць пра крывавыя прыгоды, сведкамі якіх былі гэтыя месцы.

Ён паведаміў яму пра графа Гастона дэ-Фуа, да якога яны абодва ехалі ў Артэз, што ў яго ў скарбніцы захоўваецца тры мільёны флорынаў і што кожны год ён раздае шэсцьдзесят тысяч «чужаземцам, рыцарам і экюйэ, ідучым і едучым праз яго зямлю, герольдам і менестрэлям і ўсім, хто звяртаецца да яго. Ніхто не пакідае яго без гасьцінца.

Граф дэ-Фуа затрымаў Фруасара ў сябе ў замку на 12 тыдняў з гакам, і ў асяроддзі пярэстага натоўпу рыцараў і экюйэ ў Артэзе Фруасар меў магчымасць распытваючы папоўніць апавяданні Эспена дэ-Ліёна.

Раніца ў Артэзе тады выдаткавалася на паляванні на раўнінах і па горах, а вечар быў прысьвечаны балям, чытанню вершаў і песьням менестрэляў. Прыклады рыцарскіх годнасьцей падавалі Фруасару самі каралі. Так Эдуард III, рыцарскі кароль Англіі, ідзе за мора інкогніта пад сьцягам Гацье дэ-Мані і абірае сабе супернікам Эсташа дэ-Рыбемон (Eustache de Ribemont), таму што той быў рыцарам

моцным і адважным. Эсташ двойчы быў пастаўлены каралём на калені і двойчы паднімаўся і аднаўляў бой.

– Рыцар, я здаюся вам у палон! – крычыць, нарэшце, сір дэ-Рыбемон свайму суперніку, якога ён яшчэ (быццам бы) не ведае.

І ён даведваецца, што гэта быў сам кароль толькі тады, калі яму прыносяць у якасьці падарунка ад Эдуарда III новую сукенку і запрашаюць на вячэру ў замак Калэ. Кароль пажадаў, каб яго ўласны сын, прынц Валійскі, служыў пераможанаму ім рыцару за сталом і пасьля заканчэння вячэры прамовіў:

– Сір Эсташ! Я даю вам у якасьці падарунка гэтую нітку жэмчугу, як лепшаму ваяру сёняшняга дня, і прашу насіць яе з павагай да мяне. Я добра ведаю, што вы вясёлы, ўлюблівы рыцар, ахвотна бавячы час ў грамадстве дам і маладзіц. Дык паведамляйце ж усюды, куды ні пойдзеце, што я падараваў вам гэты жэмчуг.

А вось іншае апавяданне пра рыцарскую ветлівасць.

Аднойчы падчас аблогі горада Рэн (Rennes) ангельцамі, абложаны французкі рыцар Аліўе дэ-Мані (Monny) пераплыў у поўным узбраенні ўмацавальны роў толькі дзеля таго, каб забраць у знаходзіўшагася там ангельскага рыцара шэсць захопленых ім курапатак, збітых яго ястрабам, і падараваць іх дамам абложанага горада. Ён бярэ курапатак разам з ангельскім рыцарам у палон, але быў сам паранены падчас вычыну. Ён вярнуў палоннаму волю, але за гэта папрасіў у яго дазволу застацца ў лагеры аблажваючых, каб загаіць свае раны. У лагеры яго ветліва прыняў герцаг Ланкастарскі і пасьля акрыяння ўзнагародзіў на развітанне каштоўнымі гасьцінцамі:

– Мані, перадайце, калі ласка, маё прывітанне вашым дамам і маладзіцам, – сказаў герцаг. – Паведаміце, што мы часта ад душы жадалі ім курапатак.

Дамы горада Рэн – паведамляе аўтар – шмат смяяліся над прыгодамі Аліўе дэ-Мані, але ўсяго больш смяяўся яго кузэн, знакаміты канэтабль Бяртран дзю-Геклен.

* * *

Вынаходніцства пораху ў палове XIV стагоддзя[277] і Стогадовая вайна, моцна вынішчаўшая рыцараў як Францыі так і Англіі, нарэшце дала перавагу новым грамадзкім пачаткам. Яны мелі наступствам умацаванне каралеўскай улады і заснаванне пастаяннага войска, узброенага агнястрэльнай зброяй.

Але, нягледзячы на перавагу агнястрэльнай зброі ў асобных войнах, першапачатковы ідэал рыцарства часам аднаўляўся і ў XVI стагоддзі, напрыклад, у асобе Баярда, рыцара без баязні і папроку, але, як установа, рыцарства ўжо памёрла. Аднак рыцарскі дух не загінуў разам з гэтай установай: із замкнёнага кола ордэнаў і феадальнай шляхты ён спачатку пашырыўся на ўвесь шляхетны стан Заходняй Яўропы. Шляхам даравання за выслугі ці за грошы рыцарскі ідэал разам з яго вартасьцямі пачаў пашырацца пад найменнем дваранскага ці вайсковага гонару і на згуртаванні гараджан.

«*Калі пад канец мінулага* (г.азн. XVIII) *стагоддзя прывілеі шляхты пачалі, нарэшце, губляць сваё значэнне, і вышэйшыя пласты войска і грамадства ўжо папаўняліся прадстаўнікамі із непрывілеяваных станаў, парэшткі рыцарскага духу ператварыліся ў агульны набытак адукаванай часткі насельніцтва незалежна ад станавай прыналежнасьці і перамяшаліся з разуменнямі свецкасьці, грамадзкай прыстойнасьці, гонару джэнтльмена. Рыцарскі кодэкс з яго патрабаваннямі ветлівасьці, вернасьці слову, павагі да слабых, павагі да жанчын, шчодрасьці, абароны праўды – да*

[277] Упершыню гарматы выкарысталі ангельцы ў бітве з французамі пры Крэсі 26 жніўня 1346 года.

*гэтага часу выконвае сваё спрадвечнае значэнне і стрымлівае імем умоўнага грамадзкага «гонару» грубыя ці маладушныя натуры, мала развітыя ці яшчэ недастаткова сфармаваўшыяся для таго, каб без якога б то ні было ціску з боку грамадзкай думкі дабрахвотна падпарадкоўвацца у сваіх учынках унутранаму безумоўнаму маральнаму закону*».

Такімі словамі заканчвае Яўген Шчэпкін сваю характарыстыку рыцарства, але ён усё ж мала асьвятляе тую ролю, якую мела гэтая ўстанова ў развіцці інтэлектуальнага боку заходнееўрапейскага жыцця.

Доўгія абеды супольна з дамамі выклікалі патрэбу ў шматлікіх апавяданнях у коле сабраўшыхся пра разнастайныя дзіўныя ці смешныя прыгоды і напаўнялі ўяўленне моладзі, падахвочваючы яе да самастойнай творчасьці.

Дзякуючы ім з'явіліся першыя раманы, і разам з тым узніклі і сатыры на пахвальбу занадта нецырымонных у сваіх апавяданнях рыцараў.

Ужо ў XIII стагоддзі з'явілася жартоўная паэма «Адыж’е» (Audigier), высьмейваючая рыцарскія звычаі. Вось як браты пасьвячаюць у ёй Адыж’е ў рыцары: яго ўзводзяць на кучу гною, на галаву насоўваюць сталёвы шлем, гады тры праляжаўшы у закладзе за дынарый, яму даюць каня з тоўстай галавой, у якой шыя варонкай, а спіна вострая, як рыбіная костка; яна робіць тры кроку, а на чацьвёртым ужо спыняецца.

– Які гарачы конь! – з жахам усклікае Адыж’е. – О, пане! Выратуй маю галаву! Захавай яе для сьмяротнага бою! І г.д.

А потым з'яўляецца і знакаміты Дон-Кіхот...

Такой, чытач, была глеба, прыдатная для ўзнікнення рамана, аповесьці, камедыі, трагедыі, павучальнай гісторыі, паэзіі, малярства, скульптуры, архітэктуры і містычнай філасофіі пад канец сярэднявечча. І мы бачым, што на гэтай глебе сапраўды магло вырасьці ўсё, што мы дарэмна дапасуем да старажытнай класічнай культуры.

А перасадзіць гэтыя цяплічныя кветкі на глебу старажытнай пастухоўскай Аркадыі, гэта ўсё адно, што пасадзіць фруктовы сад на пяску.

# Глава IV.

## Асьвечаныя царквой рыцарскія ордэны і іхная роля ў культурным развіцці Заходняй Яўропы.

Арыгінальны прадмет для гістарычнага дасьледавання пад час эпохі крыжовых паходаў уяўляюць із сябе ўзнікшыя тады: рыцарскія ордэны, асьвечаныя каталіцкай царквой і меўшыя сваёю першапачатковай мэтай узброенае змаганне з іншаверчымі дзяржавамі і абарону ў іх сваіх аднаверцаў.

Фактычную частку, перш усяго, бяру запазычваючы яе амаль цалкам, із іншай выдатнай манаграфіі Яўгена Шчэпкіна «Ерусалімскае каралеўства»[278].

«*Ідэя крыжовых паходаў*, – паведамляе гэты аўтар, – *паўней усяго увасобілася і даўжэй усяго трымалася ў рыцарскіх ордэнах. Ахвяруючы сабой і сваімі сродкамі дзеля змагання з няверными, гэтыя ордэны занялі выключнае становішча як на Ўсходзе так і на Захадзе. Засяродзіўшы ў сваіх руках буйныя зямельныя ахвяраванні шчодрых дабрачынцаў,*

---

[278] Яўген Шчэпкін: Ерусалімскае каралеўства («Кніга для чытання, па гісторыі сярэдневечча», пад рэд. праф. П. Г. Вінаградава, 1903).

*яны разам з італійскімі купцамі сталі пасярэднікамі паміж дзьвюма культурамі – Яўропай і Азіяй. Але сусветная вядомасць і палітычная магутнасць адхілілі іх ад першапачатковых сціплых мэтаў*».

Самым верным сваім першапачатковым задачам, у адрозненні ад іншых, заставаўся ордэн янітаў: ён працягваў развіваць сваю дабрачынную дзейнасць у абодвух накірунках і ў Палестыне, і на Радасе, і нават на Мальце, паступова звужваючыся і заміраючы. Па супрацьлегламу шляху пайшоў ордэн тампліераў. Абапіраючыся на зямельную ўласнасць і на выключныя прывілеі, падараваныя яму царквой, ён развіўся ў незалежную палітычную магутнасць, на якую з баязню і зайздрасьцю пачалі глядзець як свецкія ўлады так і каталіцкае сьвятарства.

Калыскай ордэна янітаў была багадзельная сядзіба (госпіс), заснаваны прыватным ахвяравальнікам у Ерусаліме.

Незадоўга да пачатку крыжовых паходаў заможны гараджанін Амальфі Панталеон Маўра заснаваў у Антыёхіі прытулак для купцоў і паломнікаў. Потым, атрымаўшы ў якасьці падарунка ад каліфа пляцоўку зямлі ў хрысьціянскім квартале Эль-Кудса-Ерусаліма, ён заснаваў і тут кляштар Santa Maria Latina, які павінен быў служыць прытулкам для купцоў із Мальфі, вёўшым ў XI стагоддзі левантскі гандаль. Побач пазьней быў заснаваны і жаночы кляштар Santa Maria Maddalena з прытулкам для паломніц. Абедзьве ўстановы ў Эль-Кудсе пашырылі сваю дабрачыннасць на ўсіх каталікоў, але яна далёка не магла задаваліць патрэбы дапамогі з таго часу, калі пасьля заваёвы Палестыны ў 1099 годзе туды павялічыўся прыток паломнікаў. Тады дзевяць шляхетных юнакоў з Горгардам на чале злучыліся ў «суполку св. Яна Міласьцівага», якога пазьней замяніў «Ян Ахрышчальнік», і пасяліліся ў шпіталі недалёка ад манастэрыёна Панталеона Маўра. Чуткі пра іхную самаадданую дзейнасць дасягнулі да Захаду, і на іх пачалі сыпацца адтуль ахвяраванні. А ў паўднёвай Францыі яны атрымалі зямлю ў якасьці падарунка яшчэ напачатку XII стагоддзя.

Дзякуючы таму, што паломніцтва ў Палестыну не было бяспечным, гэтая суполка была вымушана пашырыць кола сваіх клопатаў і пачала са зброяй у руках ахоўваць пілігрымаў на шляху ад берагавых прыстаняў да Эль-Кудса, які лічыўся імі за евангельскі Ерусалім. Адсюль паціху ўзнік запавет усіх рыцараў Шпіталя: «біцца супраць сірыйскіх ісламітаў». Так утварыўся цэлы духоўна-рыцарскі ордэн, першым магістрам якога стаў наступнік Гергарда – Раймунд дзю-Пюі. Пры ім быў дадзены ордэну і статут, але арыгінал гэтай хартыі з папскім зацьверджаннем загінуў пры падзенні Аконы ў 1291 годзе, і таму ў 1300 годзе БаніфацыюVIII давялося аднавіць згублены дакумент.

Раймунд, «бедны раб Хрыста і апякун Шпіталя ў Ерусаліме», патрабуе, згодна з гэтым статутам, зароку праведнасьці, паслушэнства і адрачэння ад уласнасьці ад усіх, хто мае жаданне далучыцца да гэтага ордэна. Яны павінны задавальняцца вадой і хлебам і хадзіць у самым простым адзенні, таму што іхныя гаспадары – жабракі, якім яны павінны служыць, – церпяць ад недахопаў і галізны, а рабу не годна раскашаваць, калі бядуе яго гаспадар. Але ўся гэтая дабрачыннасць абмяжоўвалася толькі хрысьціянамі. Згодна з правіламі Раймунда дзю-Пюі, хворы, маючы патрэбу ў дапамозе шпіталя, павінен быў спачатку спавядацца перад духоўнікам ордэна і далучыцца: толькі тады яму давалі ложак і забяспечвалі ўсім патрэбным, як свайго «гаспадара».

У 1181 годзе пры шпіталі янітаў было ўжо чатыры адукаваных лекары, каб вызнаваць хваробы і рабіць братам ордэна ўказанні адносна прыгатавання лекаў.

Кожная «правінцыя ордэна» павінна была дасылаць у шпіталь тыя рэчы, якімі яна асабліва славілася, напрыклад, прыёр уладанняў ордэна ў Францыі пасылаў штогадова ў Эль-Кудс-Ерусалім 101 кавалак зялёнага сукна на коўдры для хворым; прыёры Пізы і Венецыі дастаўлялі фарбаваныя папяровыя тканіны, а балі Тыверіяды – цукар. Усю чорную працу па догляданню за хворымі рабілі не самі рыцары, а прылічаныя да ордэна – «службовыя браты». Ян Вюрцбургскі чуў ад гэтай брацііі, што колькасць даглядаемых у шпіталі хворых даходзіла да 2 000 чалавек. Акрамя таго, шпіталь раздаваў падаянні, як беднякам па сядзібах, так і жабракам, хадзіўшым ад дзьвярэй да дзьвярэй. Акрамя таго, яніты падтрымлівалі сваёй дапамогай яшчэ шмат людзей жыўшых ва ўмацаваннях і абараняўшых хрысьціян ад ісламіцкіх качэўнікаў.

Само сабой зразумела, што з цягам часу ўся гэтая дабрачынная дзейнасць пачала выконвацца выключна службовымі братамі, а самі рыцары ператварыліся ў прывілеяваны стан і пазбягалі абавязкаў супярэчачых, як ім здавалася, рыцарскаму гонару. Калі да абавязкаў рыцара шпіталя дадалася вайсковая ахова паломнікаў і змаганне з нявернымі, тады вайсковы пачатак узяў у ордэне перавагу, а рэлігійны адсунуўся на задні план. Абавязак папярэдняга пастрыжэння ператварыўся ў фармальнасць, і маладая шляхта лёгка рабілася янітамі, асабліва, калі выяўляла жаданне плыць за мора на Ўсход для змагання з нявернымі.

Узмацненне вайсковага пачатку адбілася і на адзенні рыцараў. Толькі белы крыж на грудзях, усталяваны яшчэ правіламі Раймунда дзю-Пюі, застаўся адметнай прыкметай янітаў. Ён захоўваўся пазьней і на чырвоным каптане і на чорным плашчы, якія рыцары апраналі перад бітвай. Зараз магутнасць янітаў грунтавалася не столькі на саміх рыцарах, колькі на згуртаванні асоб, стаяўшых пад аховай ордэна. Гэта былі так званыя «данаты» і «субраты» (confratres). Данаты прыносілі ордэну прысягу на вернасць, не цураючыся мірскога жыцця. Пад найменнем «субраты» да ордэна далучаліся валадары і вышэйшая шляхта, ахвяруючы яму пры гэтым частку сваіх зямель ці прыбыткаў, і ў такое ж дачыненне да янітаў маглі ставіцца і жанчыны.

Да заканчэння крыжовых паходаў ордэн янітаў валодаў на Ўсходзе шырокімі землямі на ўсім працягу Сірыі ад гор Арменіі і да межаў Ягіпта, з віланамі і свецкімі рыцарамі-леннікамі, сядзібамі, крамамі, млынамі, хлебнымі печкамі, лазнямі і рознымі прыбытковымі артыкуламі. Акрамя інтэрнатаў рыцараў у псеўда-Ерусаліме, Аконе, Ціры, Монтэ Пелегрына, паблізу Трыпаліса і Антыёхіі, ордэн валодаў будынкамі амаль ва ўсіх гарадах Палестыны, ужываючы іх для дабрачынных мэтаў ці здаючы ў наймы.

Сістэма гаспадарання на ордэнскіх землях была такая ж, як і ў казаліях баронаў ці італійскіх камунах, г.зн. яніты раздавалі землі то на ленных умовах, то ў арэнду, пераважна спадчынную. Нароўні з феадаламі, яны валодалі і прыбытковымі артыкуламі, і прыгоннымі, і рабамі, напрыклад, у 1160 годзе кароль Балдуін III падараваў ордэну 60 сямействаў бедуінаў, а ў Аконе яніты атрымвалі некаторую долю пошлін з гавані.

Дзякуючы такім прыбыткам, ордэн сьвятога Яна ператварыўся ў буйную грашовую магутнасць свайго часу і даваў пазыкі вялікімі сумамі баронам Палестыны. У XIII стагоддзі пад яго кіраваннем на Захадзе і Ўсходзе налічвалася 19 тысяч зямельных адзінак (manoirs), а аднаго мануара было дастаткова для ўтрымання узброенага рыцара. Гаспадарчыя і вайсковыя магутнасьці янітаў былі засяроджаны ў трох месцх: уздоўж ягіпецкай мяжы паміж Аскалонам і Хеўронам,

потым вакол гары Фавор і Тыверыядзкага возера на небяспечных месцах усходняй мяжы і на поўначы ў вобласьці Трыпаліса і Антыёхіі. Ва ўсіх гэтых трох цэнтрах ордэн пабудаваў моцныя замкі: такім быў Кракум, ці Курдзкі замак на поўначы (Castrum curdorum). Для Анамейскай вобласьці, дастаўшайся яму тут у 1167 годзе, ордэн атрымаў права вайны і міру і набыў магчымасць праводзіць сваю ўласную палітыку ў дачыненні да ісламскіх валадароў. Чыста дзяржаўнае верхавенства ордэна над гэтай вобласьцю выяўлялася і ў тым, што нават біскуп Валенсіі з 1215 года зацвярджаўся магістрам ордэна янітаў. У цэнтры гэтай вобласьці на трохкутным плато высокай скалы ў недаступным замку Маргатэ з яго каласальнай вежай было месцазнаходжанне магістра.

А потым султан Келуан захапіў гэтую цьвярдыню. Яго прыстасаванні для аблогі былі па частках падняты на вышыню, а падкопы, падведзеныя з паўднёвага боку, дзе плато злучалася з гарамі, разбурылі бліжэйшы бастыён і пагражалі паданнем галоўнай вежы. У траўні 1285 года гарнізон паспяшаўся здацца. Новая няўдалая абарона Трыпаліса ў 1289 годзе падарвала веру ў будучыню ордэна, а са стратай апошніх хрысьціянскіх уладанняў у Сірыі пачалося яго стагадовае разбурэнне.

Але спроба янітаў стварыць ордэн-дзяржаву не засталася не заўважанай і паслужыла напрыклад для іншых падобных яму суполак, напрыклад, для Тэўтонскага ордэна, узнікшага тут жа ў Палестыне.

«Хаця удзел нямецкіх рыцараў у заваёве Палестыны і быў нязначным, – паведамляе той жа аўтар, – але паломнікі із Германіі наведвалі ў вялікай колькасьці «сьвятыя месцы». Адзін ураджэнец Германіі, перасяліўшыся са сваёй жонкай у псеўда-Ерусалім яшчэ пры Балдуіне І, заснаваў тут на свае сродкі багадзельную сядзібу для паломнікаў, а побач пабудаваў капліцу. Шпіталь пачаў разрастацца дзякуючы ахвяраванням: набожныя людзі ішлі туды ў якасьці служак. Калі ў 1197 годзе германскія князі з'явіліся ў Палестыне з Конрадам Майнцскім, каб падрыхтаваць глебу для крыжовага паходу свайго імператара, гэты нямецкі шпіталь быў пашыраны да духоўна-рыцарскага ордэна, згодна з узорам італійскага і французкага. Нямецкія рыцары павінны былі даглядаць хворых, як яніты, і ваяваць з нявернымі, як тампліеры. У іхным статуце, зацверджаным Інакенціем ІІІ, перамяшаліся статуты абодвух ордэнаў.

Гэтую ж вайсковую арганізацыю, сістэму гаспадарання і культурныя мэты нямецкі ордэн перанёс пазьней і на берагі Віслы. Мясцовых паганцаў нямецкія рыцары часта і тут называлі сарацынамі, а найменні палестынскіх мястэчак з'явіліся і паблізу Балтыйскага мора. Да гэтага часу у сучаснай Прусіі можна знайсьці і Ерусалім (паблізу Кёнігсберга) і Эмаўс (аблізу Данцыга). У вайне з нявернымі ордэн і тут ужываў тую ж сістэму, як і крыжакі ў Сірыі. Пад абаронай цэлага згуртавання крыжакоў спачатку будаваўся замак на пануючай над шырокай вобласьцю вышыні, запланаванай для пашырэння хрысьціянства. Пасьля таго як паганцам ужо быў нанесены цяжкі ўдар і крыжакі разышліся па сядзібах, у замку заставаўся гарнізон, каб шляхам пастаяннай дробнай вайны прымусіць жыхароў вобласьці ахрысьціцца ці высяліцца. Пасьля гэтага замак рабіўся цэнтрам для кіравання. Такім было прызначэнне Кульма, Марыенвердэра, Кёнігсберга: яны адпавядалі Марату і Манфору ў Палестыне. Частка палеткаў апрацоўвалася на сродкі ордэна для задавальнення яго ўласных патрэбаў, а астатнія палеткі аддаваліся ў арэнду суполкам віланаў ці асобным вольным гаспадарам. Рэнта за карыстанне палеткамі, часьцей усяго, выплочвалася рыцарам курамі, яйкамі,

сырамі; акрамя таго, сяляне ордэнскіх земляў як у Палестыне так і ў Прусіі былі абавязаны дапамагаць пры пабудове замкаў, і ў выпадку ўварвання непрыяцеля брацца нават за зброю.

Тэўтонскі ордэн пазьней разбурыўся, але яго рыцары паспелі стварыць Прусію, як свецкую дзяржаву. Толькі адны тампліеры загінулі пад час сярэдневечча.

Для барацьбы з сірыйскімі качэўнікамі бургундзкі рыцар Гюго дэ-Пэн (Payns) аб'яднаўся з уражэнцам паўночнай Францыі Гадфруа дэ С.-Амер; да іх далучылася яшчэ шэсць іншых рыцараў, і падмурак для ордэна тампліераў быў закладзены ў 1119 годзе. Ні статута, ні кляштарскага зароку спачатку не існавала. Яшчэ ў 1123 годзе сам кіраўнік суполкі мае назву парафіяніна, жыве ў адружанні і мае сына. Але неўзабаве Гюго дэ Пэн выбраў са статута Бенедыкта некалькі правіл, якія рабілі рыцараў ад гэтага часу манахамі. Кароль Балдуін падараваў ім сядзібу каля былой мячэці, якая, як сцвярджалі фантазёры, стаяла на месцы знікшага невядома куды храма Саламона. І вось, уся брація набыла назву «беднае рыцарства Хрыста із храма Саламона», ці проста «храмоўнікі» (тампліеры). Гэтае незвычайнае злучэнне рыцарства з храмам Саламона ўражвала сучаснікаў, і ахвяраванні ў ордэн пачалі сцякацца з усіх бакоў. Ордэн тампліераў, у адрозненні ад янітаў, ужо пры самым сваім заснаванні даў перавагу ў сваім асяроддзі рыцарскаму пачатку над манаскім і ўмеў гэтым прыцягваць да сябе напаловудзікіх феадалаў, з'явіўшыхя на Ўсход без разумення мэты крыжовых паходаў і шукаўшых перадусім прыгод. У студзені 1128 года Гюго дэ-Пэн з пяццю іншымі рыцарамі з'явіўся на сваёй радзіме на правінцыйным сінодзе ў Труа, каб дамагчыся для новага ордэна асьвячэння царквой. Тут быў выпрацаваны поўны статут ордэна (спачатку ледзь не на французкай мове) у форме запаветаў рыцарам ад імя сінода.

На радзіме Гюго дэ-Пэна ў Шампані тампліеры ўпершыню набылі шырокую пазямельную ўласнасць дзякуючы ахвяраванням графа Тыба IV (з 1125 г.). Граф Дытрых Фландрскі падараваў ім relief de Flandre, г.азн. збор, які павінен быў выплочвацца храмаўнікам кожны раз, калі лен пераходзіў па спадчыне не па прамой лініі. Берэнгарый III, граф Барцэлоны і маркграф Праванса сваімі ахвяраваннямі ўмацавалі становішча ордэна ў паўднёвай Францыі і за Пірынеямі, дзе ў ім мелі патрэбу для змагання з маўрамі. Маладая Партугальская дзяржава, цалкам выдаткаваўшая свае магчымасьці на змаганне з нявернымі, падаравала храмаўнікам вобласць паміж Каімбрай і Лепрай.

Так жа як у Палестыне, ордэн будаваў тут умацаванні і прыцягваў асаднікаў. Хрысьціяне з усіх станаў насельніцтва далучаліся тут да ордэна пад найменнем «дамачадцы» (familiares) і станавіліся амаль у васальную залежнасць ад яго. Графства Тулузскае, Іль-дэ-Франс, Брэтань, Нармандыя і г.д. сталі нівай для мірных заваёваў ордэна. Ордэн прымаў новых сябраў у сваё асяроддзе з вялікай пераборлівасьцю і патрабаваў ад іх неадменна шляхетнага паходжання. Для змагання з нявернымі ён трымаў на пенсіёне наёмных рыцараў і экюйе, служыўшых пад правадырствам рыцараў. Клопаты па кіраванню маёнткамі вымусілі тампліераў дапусьціць у ордэн і больш нізкія пласты грамадства, але толькі на становішчы «службовых братоў», сервіентаў, г.азн. сябраў ордэна з паменшанымі правамі. Із гэтай «службовай браціі» пазьней набіралася і войска ордэна. Згодна з загадам булы папы Аляксандра III, усе правінцыйныя сядзібы ордэна былі падначалены «Тамплю» (рыцарскай сядзібе) у Эль-Кудсе (Псеўда-Ерусаліме). У вачах вернікаў паловы XII стагоддзя ў ордэне храмоўнікоў бачылі

«атлетаў Хрыста», «новых Макавеяў». Навуковец сябар папы Аляксандра III, Ян Салісберыйскі, назваў іх «адзінымі людзьмі, вёўшымі справядлівыя войны».

Усе правы і прывілеі падараваныя ордэну папамі, былі сабраны разам і падцверджаны булай Аляксандра III ад 1163 года, якая згодна з першымі словамі мае назву Omne datium optimum. Для ордэна яна была нечым падобным на Вялікую хартыю вольнасьцей. Яна адасабляла яго амаль у незалежную царкву.

Тагачаснае сьвятарства з вялікім незадавальненнем глядзела на гэты прывілей, таму што тамплієры заставаліся для яго пераважна парафіянамі. І вось пры Інакенцію III з'явіліся чуткі пра ерась у асяроддзі ордэна, узнікшыя на грунце яго нежадання ва ўсім падначальвацца папе. А згодна з вучэннем тагачаснай рымскай царквы, ад непаслушэнства папе, намесніку Хрыста, быў як бы адзін крок і да адрачэння ад Езуса.

Падставай было тое, што, не разумеючы набажэнстваў на лацінскай мове, больш адукаваныя рыцары карыстаючыся незалежнасьцю ордэна, насуперак забароне царквы задавальнялі сваю рэлігійную дапытлівасць вывучэннем Бібліі ў перакладах на сваю мову. Падчас следства над тампліерамі ў Правансе ў 1308 годзе ў галоўнай сядзібе рыцараў у Арлі была знойдзена кніжка з тлумачэннямі на Біблію («Liber interpretationibus super libris Bibliae»). А сярод рукапісаў Парыжскай нацыянальнай бібліятэкі і зараз існуе пергамент із 248 лістоў, спісаны ў два слупкі на французкай мове, які лічыцца за кнігу тампліераў. Яе змест – гэта пераклады пяці кніг Майсея, кнігі Езуса Навіна, кніг Суддзяў, Цароў і Макавеяў, Товіі і Юдыфі. Кнізе Суддзяў быў прыдадзены пралог у французкіх вершах, які тлумачыць нагоды і мэту аўтара працы. Пераклад кнігі Суддзяў зроблены згодна з даручэннем «магістра Рыхарда» і «брата Атона», сябраў «высокашануемага таварыства», «Сьвятога Братэрства». Дзякуючы таму, што аўтар потым вельмі ўзносіць ордэн Рыхарда і Атона за яго гатоўнасць ахвяраваць жыццём дзеля абароны веры, называе яго абраным рыцарствам Бога, крыж якога ён носіць на сабе, а літасць і пакору лічыць галоўнымі годнасьцямі гэтага ордэна, то ў дадзеным выпадку справа, як лічаць, мае дачыненне да французкіх тампліераў.

На палях гэтай Бібліі сустракаюцца тлумачэнні, а да кніг Майсея і Езуса Навіна дададзены ўводзіны. Хаця ў іх і няма прамых ерэтычных вучэнняў, але тлумачэнне біблейскіх падзей уражвае вольным, разумным стаўленнем да літары закона. Тлумачальнік, напрыклад, настойвае на тым, што бог стварыў увесь сусьвет, бачны і нябачны, адразу, а калі кніга Быцця і паведамляе пра дні тварэння, то тут патрэбна разумець толькі паступовае размеркаванне істой і ўпарадкаванне таго, што ўжо было створана адразу. І сам пераклад Бібліі для рыцараў, і гэтыя тлумачэнні супярэчэлі агульнаму духу каталіцкай царквы XIII стагоддзя.

Такой з’яўляецца не выклікаючая спрэчак гісторыя ордэна тампліераў, а потым пачынаецца і спрэчны перыяд, пазначаны яго змаганнем з інквізіцыяй, якая, вядома, як таемная ўстанова, не толькі пагубіла яго, але і мела поўную «магчымасць» абылгаць яго.

Магутнасць ордэна ішла ў разрэз з ідэяй манархічнай улады, якую праводзілі французкія каралі і іхныя лягісты, і ад яго знішчэння Піліп IV мог чакаць толькі выгад. Але не кароль стварыў нагоду для знішчэння храмоўнікоў: яна з'явілася сама сабой.

Паўднёвая Францыя ўжо раней была тэатрам бясконцых працэсаў супраць вальнадумцаў. Інквізіцыя набыла там сабе вопыт на ніжэйшых і сярэдніх станах грамадства і як бы права патрабаваць ахвяр больш высокапастаўленых. Да

храмоўнікаў яна магла ўжыць тыя ж выклікаючыя абурэнне формы крымінальнага працэсу, якія здаваліся яе жорсткаму часы дазваляльнымі супраць вальнадумцаў цалкам. Працэсы тады вялі інквізітары (следчыя суддзі inquisitores haereticae porivitatis), непасрэдна прызначаемыя папамі. У Францыі іх было некалькі, але пачынаючы ад Інакенція IV прыёр парыжскіх манахаў ордэна прэдыкантаў (дамініканцаў) быў звычайна кіраўнікам установы. Становішча інквізіцыі было яшчэ больш прывілеяваным, чым ордэна храмоўнікаў. Не дарэмна касіліся на інквізітараў і біскупы. Але новая магутнасць – дзяржаўная ўлада французкіх каралёў – ахвотна падтрымлівала інквізіцыю сваёй узброенай рукой. Для таго каб пачаць працэс, інквізітары маглі не чакаць прамога даносу, дастаткова было, калі пра каго-небудзь ішла худая пагалоска (diffamatio).

Тады інквізітар «інструіраваў» працэс, г.азн. прыступаў да допытаў западозранай асобы, якая далучалася да вышуку як бы на правах сведкі, і фармуляваў пункты абвінавачання. А ў рэчаіснасьці ўжо на гэтай ступені працэсу прызнанне «сведкі» вымушалася амаль паўсюдна катаваннямі. У выпадку прызнання «сведкі», царква давала яму дараванне грахоў і зноў прынімала ва ўлонне царквы, але гэта нічога не азначала. Згодна з інструкцыяй, інквізітару была дадзена на самавольнае рашэнне выбіраць і ўключаць у пратакол толькі тыя са сведчанняў абвінавачваемага, якія здаваліся яму найбольш праўдзівымі, прасьцей кажучы, толькі тое, што падцвярджала яго віну. І вось, пачыналася другая ступень працэсу. Адпушчанага «сведку» аб'яшчалі «абвінавачваемым» і зноў прыцягвалі на суд. Яму зачытваўся (звычайна на народнай мове) пратакол з яго сведчаннямі. Калі абвінавачваемы адмаўляўся ад іх, то гэта лічылася вяртаннем да ранейшага вальнадумства і мела наступствам за сабой спальванне ці іншае пакаранне згодна з прысудам суда; таму ахвяры інквізітараў яшчэ ў якасьці сведак пад клятвай замацоўвалі такі пратакол. У пратаколах нават рабілася прыпіска, што ўсе выкладзеныя сведчанні абвінавачаны прызнаў самаахвотна, не вымушанымі ні пагрозамі, ні катаваннямі, ні подкупам.

Ступень пакарання таксама была аддадзена на самавольнае рашэнне інквізітара. Дзяржава дапамагала інквізіцыі на ўсіх ступенях працэсу, таму што набывала за гэта маёмасць, канфіскаваную ў абвінавачанага.



Мал. 157
Інквізіцыя загадвае Галілею зрачыся ад вучэння пра абарачэнне Зямлі вакол Сонца пад пагрозай спальвання жывым на вогнішчы.

«*Калі да мяне прыводзяць першы раз ерэтыка для допыту*, – выказваецца аўтар аднаго «дапаможніка» для абвінавачвання ерэтыкоў[279], – *ён прымае даверлівы і шчыры выгляд чалавека, перакананага ў сваёй нявіннасьці. Я пытаю яго, для чаго ён прыведзены да мяне? Ён адказвае, з ветлівай ўсмешкай*:

[279] Цытую грунтуючыся на артыкуле М.Н.Пакроўскага «Сярэднявечныя ерасі і інквізіцыя», а аўтар у сваю чаргу, відаць, узяў гэта із кнігі H. C. Lea: History of the inquisition. 1888. (Кніга для чытання па гісторыі сярэдневечча, пад рэд. П. Г. Вінаградава. 1903).

*– Я быў бы вельмі рады даведацца гэта ад вас.*

Інквізітар. *Вы абвінавачваеся ў ерасі, у тым, што вы верыце і вучыце інакш, чым верыць сьвятая царква.*

Дапытваемы (падымае вочы да неба, з выглядам самай глыбокай веры). *Божа, ты ведаеш, што я нявінны ў гэтым, і што я ніколі не верыў інакш, чым павінны верыць сапраўдныя хрысьціяне.*

Інк. *Вы называеце вашу веру хрысьціянскай, таму што нашу вы лічыце ілжывай і ерэтычнай. Але я пытаюся, ці лічылі вы некалі праўдзівай іншую веру, чым тая, якую прызнае праўдзівай рымская царква?*

Дап. *Я лічу праўдзівай верай тую, якой прытрымліваецца рымская царква, і якой вы нас навучалі.*

Інк. *Магчыма із вашай секты нехта ёсць у Рыме, каго вы і называеце «рымскай царквой». Я, калі павучаў, выказаў некаторыя думкі, агульныя нам абодвум, напрыклад, што існуе бог, а вы пагэтаму верыце нечаму із таго, чаму я павучаў. І ўсё ж вы можаце быць ерэтыком, таму што не верыце ў шмат што іншае, у што патрэбна верыць.*

Дап. *Я веру ва ўсё, у што павінен верыць хрысьціянін.*

Інк. *Ведаю я вашы хітрыкі. Тое, у што вераць сябры вашай секты, па-вашаму і ёсць хрысьціянская вера. Але мы дарэмна марнуем час у гэтай спрэчцы. Скажыце прама, ці верыце вы ў Бога-Бацьку, Сына і Сьвятога Духа?*

Дап. *Веру.*

Інк. *Ці верыце вы ў Хрыста, народжанага ад Панны, які пакутаваў, ажыў і ўзнёсся на неба?*

Дап. (жыва). *Веру.*

Інк. *Ці верыце, што хлеб і віно ў прычашчэнні, здзяйсняемым сьвятаром, ператвараюцца ў сапраўднае цела і кроў Хрыста?*

Дап. *Ды хіба я не павінен у гэта верыць?*

Інк. *Я вас не пытаю, ці павінны верыць, а ці верыце?*

Дап. *Я веру ўсяму, чаму загадваеце верыць вы і іншыя добрыя настаўнікі.*

Інк. *Гэтыя добрыя настаўнікі – прапаведнікі вашай секты. Ці верыце вы ў тое ж, у што і я? Так ці не?*

Дап. *Ахвотна, калі тое, чаму вы вучыце, добра для мяне.*

Інк. *Для вас добра, калі я вучу таму ж, чаму і вашы прапаведнікі... Скажыце тады, ці верыце вы, што цела Бога Езуса Хрыста знаходзіцца на ахвярніку?*

Дап. (хутка). *Веру.*

Інк. *Вы ведаеце, што там ёсць нешта і што ўсё на сьвеце належыць Богу. Я пытаю, ці знаходзіцца там цела Бога нашага, народжанага ад Панны, укрыжаванага, ажыўшага і г.д.*

Дап. *А вы хіба ў гэта не верыце?*

Інк. *Я веру цалкам.*

Дап. *Я таксама веру.*

Інк. *Вы верыце ў тое, што я гэтаму веру, але я пытаю не пра гэта, а пра тое, ці верыце вы самі?*

Дап. *Калі вы маеце намер пераіначыць усе мае простыя і выразныя словы навыварат, то я ўжо не ведаю, што мне і гаварыць. Я просты і неадукаваны чалавек. Прашу не лавіць мяне на словах.*

Інк. *Калі вы просты чалавек, адказвайце проста, без выкрутаў.*

Дап. *Ахвотна.*

Інк. *Ці хочаце вы паклясьціся, што вы ніколі не чулі нічога адваротнага той веры, якую мы лічым праўдзівай?*

Дап. (пабялеўшы). *Калі я павінен паклясціся, то ахвотна зраблю гэта.*

Інк. *Я вас не пытаю, ці павінны , а ці жадаеце?*

Дап. *Калі вы загадваеце мне паклясціся, я гатовы.*

Інк. *Я не павінен вас прымушаць, таму што клятва тады не будзе мець моцы, і грэх клятвапарушэння ўпадзе на мяне, але калі вы жадаеце паклясьціся, я выслухаю вас.*

*Тады, калоцячыся і пыкаючы, як быццам ён не можа згадаць формулу прысягі, дапытваемы прамаўляе яе так, каб яе можна было дапасаваць не да яго, а да іншага. Ці ж ён надае клятве форму малітвы, напрыклад:*

*«Пане, дапамажы мне, каб я не быў ерэтыкам» і г. д..*

*А калі яго перапытваюць, ён здзіўляецца:*

*– Хіба вы не чулі, як я прысягаў?*

*Ці ж спрабуе разжаліць інквізітара, выказваючыся так:*

*– Я ахвотна пакаюся, калі я ў нечым саграшыў, толькі дапамажыце мне вызваліцца ад ганебнага абвінавачвання, якое ўзвялі на мяне без якой бы то ні было віны з майго боку.*

*Але сапраўдны інквізітар не павінен паддавацца на такія хітрыкі, а нястомна працягваць допыт пакуль не вымусіць чалавека прызнацца ў яго памылках ці публічна адзрачыся ад ерасі, каб, калі б ён пазьней выявіцца прысягаўшым ілжыва, то інквітар мог бы без далейшага дазнання справы перадаць іх у свецкія рукі. Калі нехта пагаджаецца прысягнуць, што ён не ерэтык, я кажу яму:*



Мал. 158

Спаленне хрысьціянскіх вальнадумцаў інквізіцыяй. Із карціны Алонза Беругветэ (1480-1561 г).

*– Калі вы жадаеце паклясьціся для таго, каб пазбегнуць вогнішча, то ведайце, што адной клятвы для мяне недастаткова, ні дзесяці, ні сотні, ні тысячы, таму што вам вашы настаўнікі дазваляюць наперад патрэбную колькасць клятвапарушэнняў пры патрэбе. Вы павінны будзеце прысягнуць незлічоную колькасць разоў. Звыш таго, калі супраць вас будзе хаця б адно сведчанне, усе вашы клятвы не выратуюць вас ад спальвання. Вы толькі запляміце сваё сумленне, але не пазбегнеце сьмерці. А калі вы проста прызнаецеся ў сваёй памылцы, вас даруюць*».

«*У такім цяжкім становішчы,* – дадае аўтар, – *некаторыя прызнаваліся ў сваёй віне*».

Вось якой была ўстанова, якая вуснамі інквізітара Францыі Гільёма Імбіра (Imbert) запатрабавала ў Піліпа IV дазнання над храмоўнікамі. Удар быў добра падрыхтаваны і атрымаўся: пад час ночы з 12 на 13 кастрычніка былі адначасова арыштаваны ўсе храмоўнікі ў тагачаснай Францыі, а на іхную маёмасць накладзены секвестр. Была зроблена і пародыя на галоснасць. Праз два дні (14 кастрычніка) у зале капітула Парыжскай Боскай маці былі сабраны канонікі і магістры ўніверсітэта. Магістр тампліераў, Якаў Мале, відавочна не перанёсшы катаванняў, прызнаў, што адрачэнне ад Езуса і пляванне на крыж былі звычайнымі звычаямі ордэна пры пасьвячэнні новага сябра і, напэўна, згодна з парадай інквізітара, хітра абяцаўшага дараванне, апраўдваў іх тым, што гэта было толькі выпрабаваннем паслухмянасьці. Некалькі іншых арыштаваных тампліераў падцвердзілі сведчанні свайго магістра, як быццам яны лічылі магчымым такімі тлумачэннямі выратаваць ордэн і ўладзіць справу палюбоўна. Але праз тры дні пасьля гэтага пачаўся фармальны інквізіцыйны працэс супраць іх.

З 19 кастрычніка па 24 лістапада былі выслуханы сведчанні 138 тампліераў. Тут былі ў наяўнасьці прадстаўнікі ўсіх разрадаў ордэна: сярод «служачай брацii» – простыя земляробы, пастухі, а з другога боку – службовыя асобы з магістрам Якавам Мале на чале. Згодна з інструкцыяй, «у выпадку патрэбы» павінна было ўжывацца катаванне, і сляды стараннага допыту адбіліся на некаторых пратаколах супярэчнасьцямі. Амаль усе абвінавачваемыя без выключэнняў прызналі толькі два пункты абвінавачання, як і іхны магістр: адрачэнне ад Езуса і зневажанне крыжа, а сведчанні пра ўшанаванне стодаў, пра дваяверра, пра прызнанне двух пачаткаў у сьвеце, Бога Вышэйшага і Бога Апраметнага нападобе вучэння катараў і багамілаў і пра дазвол заганнага жыцця сустракаліся толькі зрэдку.

Папа Клімент V пайшоў далей караля і ў буле ад 22 лістапада 1307 года звярнуўся да ўсіх валадароў з патрбаваннем арыштаваць тампліераў у іхных дзяржавах бяручы да ўвагі факты, выяўленыя французкім працэсам. Тады адбылося затрыманне храмоўнікаў у Англіі, Правансе і Неапалі. А ў Арагоніі і на Кіпры рыцары замкнуліся ў свае замкі і пайшлі на пагадненне толькі пасьля доўгага супраціўлення.

Толькі адзін партугальскі кароль Дзяніс не надаў увагі ні намовам Піліпа IV, ні буле папы і стаў на бок ордэна, які служыў яму ў поўным паслушанні супраць маўраў.

27 чэрвеня 1308 года ў Францыі былі пададзены да папскага дазнання першыя 8 ці 9 храмоўнікаў; іхная колькасць хутка павялічылася да 72 рыцараў, клірыкаў, сервіентаў. Шмат хто із тампліераў пры дазнанні па епархіях адмаўляюцца ад сваіх ранейшых сведчанняў, жаляцца на катаванні, застрашванні, жорсткае стаўленне да сябе ў турмах. Некаторыя, прама не аспрэчваючы сваіх першых сведчанняў, спрабуюць не вяртацца да іх, а толькі выказваюцца пра незаконнасць усяго парыжскага працэсу, пра заслугі ордэна, запэўніваюць у сваёй вернасьці вучэнню царквы, хапаюцца за юрыдычныя фармальнасьці, каб ставіць перашкоды камісіі і зрабіць праслед усяго ордэна ў сукупнасьці немагчымым. Такімі, напрыклад, былі і паводзіны самога магістра ордэна перад папскай камісіяй.

У сакавіку 1310 года ўсе тампліеры, з якімі мела справу камісія, у колькасці 546 чалавек былі адразу сабраны ў садзе ззаду біскупскага палаца. Тут ім былі прачытаны абвінаваўчыя пункты, а потым яны павінны былі выбраць са свайго

асяроддзя пракуратараў для адказу, па аднаму упаўнаважанаму ад кожных 6-10 храмоўнікаў. Біскупы, даўнія ворагі ордэна, скарысталіся правам пераследу асобных тампліераў у сваіх епархіях і вялі справу з жорсткасьцю, як бы заканчваючы першы інквізіцыйны працэс. Асаблівую настойлівасць выяўляў біскуп Сана (Sens). Не чакаючы выніку агульнага прысуду папскай камісіі, ён склікаў у Парыжы правінцыйны сінод і вынес сьмяротны прысуд 54 тампліерам. 11 траўня 1310 года асуджаныя былі ўзведзены на вогнішча. На наступны дзень за імі было пакарана яшчэ 4 тампліеры.

У Англіі, дзе катаванні не былі ў звычаі, тампліеры амаль аднагалосна аспрэчвалі сваю вінаватасць; царква не здолела іх засудзіць. На Кіпры таксама не выявілася ніякіх сьлядоў ерасі, і храмоўнікі былі аддадзены на катаванне і былі асуджэны толькі згодна з палітычнымі меркаваннямі – былі прызнаны вінаватымі ў змове супраць караля Генрыха.

Такім было становішча, калі восенню 1311 года сабраўся сабор у Віене. Пад старшынствам самога Клімента V тут прысутнічала больш сотні прэлатаў Францыі, Італіі, Германіі, Англіі, Шатландыі, Даніі, Вугоршчыны. Абранай із асяроддзя сабора камісіі былі пададзены ўсе дакументы працэсу тампліераў. Сабор не знаходзіў у іх дастаткова сведчанняў для асуджэння ўсяго ордэна. Справа гатова была зацягнуцца, і таму непрымірымы вораг тампліераў Піліп IV паспяшаўся націснуць на папу. Ён пісаў, што віна ордэна даказана, яго знішчэнне непазбежна; што маёмасць храмоўнікаў папа можа перадаць нейкаму іншаму із існуючых ордэнаў ці адмыслова для гэтага выпадку стварыць новы рыцарскі ордэн.

Вясной 1312 года кароль сам з'явіўся ў Віену з братамі, сынамі, світай і сядзеў каля папы на трохі ніжэйшым пасадзе. Але папа і без таго пад час апошняга перыяду працэса адрэзаў сабе шляхі да адступлення; і, акрамя таго, большасць сабора разам з зацятасьцю ў пытанні пра тампліераў пачала заўважаць некаторую схільнасць да абмежавання папскай самаволі. На ўрачыстым паседжанні сабора 3 красавіка 1312 года лёс рыцараў быў вырашаны. Усе ўладанні і прыбыткі тампліераў (за выключэннем Гішпаніі) перадаваліся ордэну янітаў.

Для нас тут не мае значэння вырашэнне пытання пра тое, ці існаваў у ордэне тампліераў, узнікшым на месцы ніколі не існаваўшага храма Саламона ў Эль-Кудсе, звычай пляваць на крыж і адракацца ад Езуса (хутчэй усяго ў сэнсе «сына божага»), нам тут толькі важна пазначыць, што рэлігійныя ордэны мелі свае асаблівасьці не толькі ў статутах, але і ў рэлігійных поглядах. Рэлігійнае адзінства з каталіцкім рытуалам і каталіцкімі поглядамі было дасягнута толькі шляхам дзейнасьці інквізіцыі, а да яе існавала значная воля тэалагічных паглядаў і розныя плыні рэлігійнай думкі яшчэ не былі разлютаваны адна на адну.

І гэта ж тлумачыць нам і тую з’яву, чаму ўся навуковая і вольна-глыбакадумная літаратура таго часу пайшла ў **апокрыф** і затаілася ў выглядзе вялікай колькасьці твораў таго часу, выдаваемых, за творы прыдуманых старажытных «класічных» мысляроў да-хрысьціянскага перыяду, якія яшчэ мелі права выказваць усё, што думалі. Другой жа магчымасьцю выказацца быў той накірунак, што свае ўласныя творы выдаваліся за пераклады із арабскай мовы, і такім чынам, побач з класічным міражом з'явіўся яшчэ арабскі міраж, што асабліва практыкавалася ў Гішпаніі, з перанясеннем месца свайго стварэння на магаметанскі Ўсход, тады як у «арабаў», г.азн. сірыйцаў, турак і персаў, «на Ўсходзе» літаратура і навука квітнелі яшчэ менш, чым у наш час. Але пра гэту я буду падрабязна выказвацца ў наступнай кнізе «Хрыста».



Мал. 159
Першая ахвяра пачаўшагася ў XVI стагоддзі змагання хрысьціянскай царквы з сучаснай навукай. Джардана Бруна, спалены жывым на вогнішчы 17 лютага 1600 года за вучэнне пра абарачэнне Зямлі вакол Сонца і пра бясконцасць сусьвету ў часе і ў прасторы.

# Глава V.

## Змаганне містыкі і схаластыкі XI-XII стагоддзяў у Заходняй Яўропе.

Alles Verhangliche ist nur ein Gleichniss
Dann Unzulangliche hier wird's Ereigniss
(Усё патаемнае з’яляецца толькі падабенствам,
Перш нечаканае зараз здзяйсняецца.)
Goethe: Faust.

Кожны раз, калі мне даводзілася чытаць розныя палітычныя і царкоўныя гісторыі і манаграфіі, мне здавалася, што аўтар дэманструе перада мной пасьлядоўны шэраг чалавечых шкілетаў, на якіх няма ніякага цела, ніякіх мускулаў і ніякіх нерваў. Адзін добры гістарычны раман, здавалася мне, лепш знаёміў мяне з рэчаісным чалавечым жыццём, з яго радасьцямі і пакутамі пад час дадзенай эпохі, чым цэлы шэраг гэтых сухіх і дакументальных выкладанняў, у якіх бачацца толькі ўчынкі людзей, але не праглядаецца іхная чалавечая душа.

Вось хаця б гісторыя пантыфіцыны Яны, ці, дакладней, Джаваны, якім імем яе называлі атачаючыя і яна сама сябе. Я пазначыў тут, як гісторык, яе трагічную

сьмерць ад родаў падчас урачыстай рэлігійнай працэсіі ў Рыме і паказаў, што гэтая акалічнасць і магла паслужыць падставай забароны жанчынам займаць вярхоўныя, адказныя пасады ў хрысьціянскай царкоўнай і ў свецкай манархічнай іерархіі ў Заходняй Яўропе. Але ці шмат гэтыя сухія словы паведамляюць чытачу, не валодаючаму рамантычным уяўленнем? Ці малюе ён сабе, напрыклад, такую выяву:

Вось у Рыме святкуецца з харугвамі і сьцягамі ўрачыстае рэлігійнае сьвята. Натоўпы народа запаўняюць усе вуліцы, а з вокнаў усіх сядзіб глядзяць тысячы мужчынскіх, жаночых і дзіцячых вачэй. Наперадзе ўсіх, у сьвятарскім убранні выступае прыгожая маладая жанчына – вялікі рымскі пантыфекс, дзіва ўсяго сьвету, гонар усіх жанчын.

І раптам пасярод вуліцы, пад усімі накіраванымі на яе позіркамі, яна выдае раздзіраючы душу крык. За ім ідуць новыя крыкі, увесь яе твар пераіначваецца ад болю, яна хапаецца за свой жывот, і валіцца на зямлю. Да яе падбягаюць суправаджаўшыя яе кардыналы. Яна крычыць пра дапамогу і следам за гэтым, магчыма праз паўгадзіны часу, пад падолам яе доўгага адзення чуецца дзіцячы крык і адзін із атачаючых дастае адтульнованароджае немаўля...

Як яна змагла б потым адважыцца з’явіцца перад публікай зноў ва ўрачыстым першасьвятарскім адзенні? І як магло рымскае сьвятарства не выпрацаваць пасьля гэтага знакаміты салічны закон, забараняючы жанчынам успадкоўваць пантыфікальны ці каралеўскі пасад? І як яно магло праз некалькі пакаленняў не абвясьціць і саму гэтую падзею, і нават само існаванне пантыфіцыны Джаваны простай прыдумкай?

Толькі ў форме рамана ці паэмы і можна даць цалкам зразумелую для звычайнага чытача выяву такіх трагічных падзей чалавечай гісторыі. Не дзіўна, што як раман так і аповесць, асабліва пасьля таго як яны сталі рэалістычнымі і псіхалагічнымі, пераіначылі ўсю душу чытаючага чалавецтва, і зрабілі яе больш спагадлівай да радасьцяў і пакут нават такіх людзей, якія належаць да іншых станаў грамадства і да іншых рас.

Нашы продкі, не карыстаўшыяся падобнай літаратурай, былі чужымі для якіх бы то ні было касмапалітычных пачуццяў. Чужыя народы яны лічылі пагалоўна сваімі ворагамі, а таму аперцэпцыйна прызвычаіліся злучаць з кожным сваім уяўленнем пра іх толькі злаславасць і жорсткасць, і глядзелі на іхнае вынішчэнне, як на справу годную ўхвалення. У гэтым складаецца адзінае тлумачэнне тых жорсткасцей, якімі характарызуюцца старажытныя вайны.

Але не адзін толькі раман спрыяе развіццю ў нас тых пачуццяў, якія маюць назву альтруістычных, ці лепш бы сказаць альтрацэнтрычных, як процівага старажытным эгаістычным ці эгацэнтрычным, перадаючымся ў спачыну, дзякуючы чаму кожнае немаўля, будзь яно хлопчыкам ці дзяўчынкай, перш за ўсё імкнецца схапіць сваёй ручкай усё што пабачыць паблізу і не аддае нікому. Спрыяць знішчэнню гэтага спадчыннага інстынкту можа і той напалову раман, які мы называем біяграфіяй выбітных людзей, выклікаючых спагаду, ці выбітных злыдняў, выклікаючых агіду. Згодна з ўяўленнямі гісторыкаў Эпохі Адраджэння, гэта і было галоўным заданнем гісторыі народаў, якую яны шчыра і прыстасоўвалі да такой мэты, перамяжуючы апавяданні рознымі маральнымі павучаннямі. Яны ўсхваляюць адных грамадзкіх дзеячаў і ганяць іншых, нават не заўважаючы, што ўсе іхныя ўхвалы і ганьбаванні суб'ектыўныя і больш характарызуюць самага аўтара, чым тых асоб, якіх ён апісвае грунтуючыся на сведчаннях іхных далёка не

старонніх сяброў ці такі х жа не старонніх ворагаў, пры гэтым псіхалагічная аперцэпцыя адных аўтараў памнажаецца пры кожнай новай передачы на аперцэпцыю іншых, таму што ў псіхіцы выбітных людзей надзвычай цяжка разабрацца, не быдучы самому псіхалагічна вышэй за іх.

Новы гісторык імкнецца быць больш аб'ектыўным. Як антытэзіс гісторыка-маралiста, ён імкнецца быць гісторыкам аб'ектывістам, нярэдка цалкам выключаючы індывідуальнасць са свайго выкладання. Але і гэтая крайнасць мне ўяўляецца перабольшваннем. Гістарычны працэс жа выяўляецца не сам сабой, а менавіта дзякуючы эвалюцыі чалавечай асобы ад пакалення да пакалення і пры адсутнасьці асобы не мае ніякага рэчаіснага сэнсу.

Із усяго, што дае «грамадства» мае значэнне для гісторыка чалавецтва, ці яго асобных народаў толькі тое, што служыць для выгод ці нязручнасьцей адмежаваных адзін ад аднаго чалавечых індывідаў і для іхнага далейшага развіцця ў наступных пакаленнях. Без ведання іхнага душэўнага стану гістарычная навука адпавядае не біялогіі, а толькі параўнальнай астэалогіі, і ў ёй, акрамя костак мінуўшых пакаленняў, мы нічога не знаходзім на гістарычных могілках.

Вось чаму белетрыстычныя і напалову белетрыстычныя дадаванні, узятыя із літаратуры той эпохі і характэрызуючыя яе душу, цалкам неабходны для ўсебаковага гістарычнага дасьледавання. І гэта тлумачыць нагоду таго, чаму я час-ад-часу звяртаюся тут да іх, выпісваючы цэлыя старонкі із дакументаў, ці спрабую для скарачэння і выпукласьці адцяніць тыя ці іншыя выбітныя бакі мінулага жыцця нават у форме лірычных, ці гумарыстычных вершаў[280].

І вось зараз, калі ў мяне існуе намер як магчыма больш коратка выказаць псіхіку таго цікавага моманту, калі абноўленая Рыгорам Гільдэбрандам хрысьціянская містычная царква ўпершыню аддзялілася і нават пачала змагацца з сучаснай ёй схаластычнай навукай, мне не прыходзіць у галаву нічога лепшага, як паказаць гэта на прыкладзе змагання схаластыка-рацыяналіста Абеляра з манахам-містыкам Бернарам каля паловы XII стагоддзя, за адно пакаленне да таго часу, калі Роджар Бэкан стварыў падставы алхіміі.

Выходзячым зараз із моды містыцызмам называецца той накірунак чалавечай думкі, які акрамя звычайных спосабаў спазнання, г.азн. уласнага назірання, досьведу, меркавання і даступных праверцы чужых паведамленняў і паданняў, дапускае магчымасць непасрэдных стасункаў пазнаючага суб'екта са звышнатуральнымі магутнасьцямі. Нас пераконваюць, што быццам бы гэтая містыка прыйшла ў Яўропу із азіяцкага Ўсходу, была распрацавана яшчэ ў дахрысьціянскіх вучэннях «Смярдзючага сходу» (па-грэцку піфагарэйскага)[281] і ў вучэнні Тройчы Найвялікшага Вяршыннага Каменя (Гермія Трысмегістоста па-грэцку)[282], сына бога Азарыса і Ізіды, а таксама і ў вучэнні «спазнаўшых» (гностыкаў па-грэцку). Пры гэтым, кажуць нам, увайшлі ў звычай рэлігійныя таемствы і цырымоніі з шэсьцямі бога і яго сьвіты, пры гэтым былі асабліва ўслаўлены таемствы «прышэсьця госпада» (па-грэцку «элеўсінскія»)[283], адкуль і

[280] Гл. маю кнігу «Ў пошуках Філасофскага каменя», дзе я даказваю, што і алхімія – справа заканчэння сярэдневечча і ўзнікла і развілася не ў арабаў на Ўсходзе, а ў Заходняй Яўропе.

[281] Піфагор (Πυθαγορος) ад (πυθίος) – піфійскі (г.азн. смярдзючы) і агорас (ἀγόρος) – сход на полі, адкуль лацінскае і стара-італійскае agri – палеткі.

[282] Ад Герма (ἑρμα) – апірышча, умацаванне, уцёс, трохкутны камень замыкаючы збору арку.

[283] Ад грэцкага елеўсіс (ἔλευσις) – прыход. Дзякуючы сугучнасьці з горадам Леўзінам каля Ляўзінскага заліва ў Грэцыі іх радзіма аднесена гістарычнымі апакрыфістамі туды.

вокліч у праваслаўнай царкве: кіріа-ялейсан (бог ідзе)! Такія ж містычныя цырымоніі, – пераконваюць нас, – здзяйсняліся і ў гонар «нашчадкаў Вулкана», што злучае іх з дзейнасьцю асоб, атрымаўшых свае наданні на Вязувіі і Этне.

Потым, – кажуць нам, – усё гэта знікла неяк без следу і зноў аднавілася ў XI стагоддзі ў такіх жа цырымоніях, але ўжо хрысьціянскіх, пад назвай пасій (г.азн. прышэсьцяў) і міраклей (г.азн. дзіваў) у Заходняй Яўропе. А ў Візантыі і ў славянскіх зямлях забытае ўсімі на сотні гадоў і потым нейкім дзівам згаданае адрадзілася ў «шэсьцях на асьляняці» пад час вербнага тыдня, у «печкавых дзействах», адлюстроўваючых прарока Данііла і трох падлеткаў пасаджаных у палаючую печку і ў саміх нашых царкоўных службах.

У чацьвёртай кнізе «Хрыста» я ўжо даводзіў сувязь усяго гэтага з сярэднявечным тэатрам, а зараз хачу паказаць, што гэтая царкоўная містыка, як і царкоўная схаластыка, паўсталі толькі пад час сярэдневечча. Яны не былі адраджэннем навукі Найлепшага Завяршальніка (Арыстоцеля па-грэцку) ці Тройчы Найвялікшага Вяршыннага Каменя (г.азн. Гермія Трысмегістоса, па-грэцку Пятра, адкуль, магчыма, пахозіць і апостал Пятро) праз дзьве тысячы гадоў пасьля іхнай сьмерці. Яны ўзніклі не на «Сьмярдзючым пляцы», ператвораным у мудрага Піфагора, а цалкам натуральным эвалюцыйным шляхам. І для таго каб маё выкладанне фактычнай часткі не было палічана за тэндэнцыйнае, я даю яго і тут, як заўсёды, шляхам амаль даслоўных выпісаў із артадаксальных аўтараў, і бяру ў дадзеным выпадку В. Іваноўскага[284].

«*Каля паловы XI стагоддзя,* – паведамляе ён, – *з'яўляюцца новыя запыты, выступаюць на першы план ідэальныя патрэбы і падымаецца аўтарытэт папства. Яно рыхтуецца сабраць увесь заходне-еўрапейскі сьвет пад сваёй уладай і спрабуе перабудаваць усю вялізную піраміду феадальнага грамадства, заснаваную на землеўладанні і завяршаючуюся імператарам, на піраміду тэакратычную, замацаваную ўладай сьвятарства, з папай у якасьці верхняга каменя. Разам з тым пачынае пашырацца і адукацыя, ідучы з Італіі на поўнач. Узнікае і філасофія, але толькі як ancilla theologiae* (прыслужніца багаслоўя)».

Яшчэ і раней XI стагоддзя ў біскупскіх і кляштарскіх школах былі выпрацаваны некаторыя лагічныя цверджанні, выкладзеныя ад імя Арыстоцеля дзеля выпраўлення розуму навучэнцаў і падрыхтоўкі іх да новага разумення і да новай распрацоўкі ранейшага напалову паганскага веравучэння. Памаленьку, спачатку нясмела і няўпэўнена, а потым усё мацней у настойлівей, пачало развівацца імкненне і да ведаў цалкам, і узнікла пачуццё асалоды ад ведаў дзеля ведаў. Амаль створаны да XII стагоддзя «Арыстоцель» пачаў нават называцца «praecursor Christi in rebus naturalibus» («папярэднік Хрыста ў справах прыроды»).

Той факт, што сярэднявечная схаластыка вырасла на логіцы, абумовіў яе фармальна-лагічны характар. Схаластыкі стварылі із прынятых імі асноўных цверджанняў цэлыя сістэмы высноваў, правялі паміж імі шмат самых тонкіх адрозненняў, але пры ўсіх злоўжываннях дыялектыкай яны выпрацавалі дакладную мову і звычку да пасьлядоўнага мышлення, якія былі вельмі карыснымі пазьней пры далейшым развіцці навукі.

«*Пры першых жа кроках сваёй дзейнасьці,* – выказваецца В. Іваноўскі, – *схаластыцы давялося сутыкнуцца з надзвычай важным пытаннем, з пытаннем пра прыроду агульных разуменняў* (ці ўніверсалій)».

---

[284] Яго першакрыніцамі служаць Anselm: Cantuariensis Archiepiscopi Opera omnia (выд. Migne, v. 158); Abellari Opera omnia (выд. Migne, v. 178).

Справа ў тым, што ў філасофіі ад пачатку зацьвердзіўся цалкам слушны погляд, што праўдзівай навукай з’яўляецца вывучэнне не асобнага, адзінкавага і выпадковага, а таго, што ў рэчах існуе агульнага, пастаяннага, істотнага. Што ж такое гэтае агульнае, сталае, істотнае ў розных прадметах, дзякуючы чаму яны і з'яўляюцца менавіта тым, чым яны на самай справе і з’яўляюцца? Вызначаны адказ на гэтае пытанне ўпершыню быў дадзены ад імя Платона. Бачачы, што ўсё на зямлі нетрывалае і пераменлівае, што душы людзей і навакольныя рэчы як-бы ўтрымліваюць у сабе штосьці непазбежна прыводзячае іх да псавання, перамены, разбурэння, Платон (г.азн. яго сярэднявечны стваральнік) прыйшоў да думкі, што сапраўдны прадмет пазнання, – гэта не наш зямны, даступны пачуццям, сьвет. Існуе, – лічыў ён, – іншы сьвет вечных, чыстых, нязменных рэчаў – сьвет ідэй. Гэта як-бы ўзоры, тыпы ўсіх рэчаў у іх сапраўдным выглядзе і значэнні. Наш зямны сьвет згодна з вучэннем платаністаў з’яўляецца проста дрэннай, сапсаванай копіяй з вечнага сьвету ідэй; нашы зямныя, хуткамінаючыя рэчы – толькі слабыя цені, бляклыя адлюстраванні вечна існуючых ідэй. Людзі на працягу свайго жыцця на зямлі знаходзяцца як бы ў пячоры, размешчанай пры дарозе. Акаваныя па руках і па нагах, яны сядзяць спінай да адтуліны, праз якую ў пячору ўрываецца струмень сьвятла. За адтулінай узад і наперад рухаюцца розныя рэчы, адкідаючыя невыразныя, вагаючыяся цені на заднюю сьцяну пячоры. Гэтыя цені і складаюць наш зямны сьвет; ён дае толькі вельмі слабое разуменне пра хараство і складнасьць свайго прататыпа. Прысутнічаючыя ў пячоры людзі бачаць толькі адны гэтыя цені і памылкова лічаць іх чымсьці сапраўды існуючым. Але калі б нехта з іх выбраўся са сваёй пячоры, то ён мог бы, прызвычаіўшыся да нязвыклага для яго яркага сьвятла, адрозніць і прадметы вечнага сапраўднага сьвету. Такі чалавек мог бы потым вярнуцца ў пячору да пакінутых там братоў і мог бы паведаміць ім усё, што ён бачыў, але яны не зразумелі б яго слоў...

Выкладаючы гэтае сярэднявечнае вучэнне пра сьвет ідэй той жа аўтар справядліва заўважае, што яно мела глыбокія карані ў стане ведаў і ў грамадзкіх умовах той эпохі. Перадусім навакольны сьвет, пры недастатковасьці дадатных ведаў пра яго, здаваўся пад час сярэдневечча ў значнай ступені выпадковым.

«Вось дрэва. – выказваецца В. Іваноўскі. – Полымя ператварае яго ў «самога сябе», а потым само ператвараецца ў паветра. Паветра згушчаецца ў хмары, хмары разліваюць дождж: зямля пакрываецца брудам і лужынамі. У лужынах з'яўляюцца дажджавыя чарвякі, потым лужыны высыхаюць, і на гэтым месцы вырастае трава і гэтак далей, да бясконцасьці. Гэты струмень з'яваў, здавалася б, робіць немагчымым сапраўднае спазнанне навакольнага сьвету. Трэба спыніць гэты струмень; трэба знайсьці дрэва, якое заўсёды было б самім сабой, не ператвараючыся ні ў што іншае, патрэбна вечнае полымя, заўсёды аднолькавае і гэтак далей. Гэтае пастаянства, гэтую вызначанасць і надавала сьвету піфагарыйская здагадка пра «існаванне «ідэй». Сувязь паміж словам і рэччу здавалася тады значна больш цеснай, чым зараз нам. Навукоўцы былі ўпэўнены, што не толькі кожная рэч мае найменне, але і кожнаму найменню павінна адпавядаць рэч. Яны верылі ў самую цесную сувязь паміж славамі і рэчамі. Таму, раз існуе слова: «дрэва», «чалавек», то павінны існаваць і адпавядаючыя рэчы: дрэва цалкам, – не тое ці іншае асобнае дрэва (бяроза, хвоя), а проста дрэва: чалавек цалкам, не Сакрат ці Платон, а проста чалавек.

Адвольнасьцям і выпадковасьцям людзкіх думак схаластыкі супрацьстаўлялі асобныя, незалежныя ад людзей, «натуральныя нормы дабра і зла», ўсталяваныя

самой прыродай. Прыродзе, – сцвярджалі яны, – напрыклад, агідна існаванне рабства, згодна з прыродай усе людзі роўныя паміж сабой...

Маральнасць, выгода, хараство, справядлівасць, мужнасць, разважлівасць, памяркоўнасць і таму падобныя разуменні, – казалі яны, – не прыдумкі людзей, не ўмоўныя і зменлівыя выпадковасьці: усё гэта сапраўды існуе ў якасьці «рэчаісных субстанцый» (хаця і нябачных і неадчуваемых), і пры гэтым існуе ў значна больш вызначаным сэнсе, чым усё тое, што мы звычайна называем «рэчаісным», чым, напрыклад, адзінкавае дрэва, стол, чалавек і г. д. Усе гэтыя адзінкавыя пэўныя рэчы – мінаючыя і зменлівыя. Яны ўзнікаюць і разбураюцца, псуюцца і пераіначваюцца, – у іх няма вечнай нязменнасьці. Наадварот, іх нябачныя і неадчуваемыя субстанцыі несмяротныя і нязменныя, толькі яны адны і існуюць сапраўды адпведна ўласнаму і строгаму сэнсу гэтага слова.

Падобнае вырашэнне пытання пра агульныя разуменні рабіла іх рэчаіснымі рэчамі (res), а таму і гэтае вучэнне тады атрымала назву рэчаіснасць, хаця пазней слова рэчаіснасць і набыло цалкам адваротнае значэнне.

Такім чынам першыя мысляры сярэдневечча былі «містычнымі рэалістамі» адпаведна толькі што патлумачанаму сэнсу. Ёган Скот, Эрыгена, Ансельм Кентэрберыйскі і іншыя былі ўпэўнены, што «ідэі», ці агульнасьці (універсаліі), сапраўды існуюць як асобныя прадметы. Але хутка з'явілася і іншая думка. На прыканцы XI стагоддзя Расцэлін, канонік із Камп'ена ў Францыі, пачаў вучыць, што «агульнасьці» цалкам не рэчы: гэта проста словы – гукі (flatus vocis), найменні (nomina), што ніякай «ідэі чалавека», асобна ад усіх чалавечых асоб, не існуе, і гэтае вучэнне атрымала назву наміналізм. За яго Расцэлін быў абвінавачаны ў жахлівай ерасі «трохбожжы», асуджаны на саборы ў Суасоне ў 1092 годзе і выгнаны із Францыі. Згодна са словамі яго абвінаваўцаў, раз наміналізм утрымлівае ў сабе праўду, то даводзіцца зрабіць выснову, што ў богу рэчаісна існуюць толькі яго тры асобы: адзіная ж іхная сутнасць, г.азн. тое што з’яўляецца агульным для ўсіх гэтым тром істот, аспрэчваецца. А дзякуючы таму, што кожная із гэтых трох асоб з’яўляецца сапраўдным богам, то атрымліваецца, што богаў тры.

Каталіцкая царква, пачуўшы, што із цверджанняў наміналізма можа выцякаць такая жудасная выснова, з агідай адвярнулася ад гэтага вучэння і доўга пазней падтрымлівала сваім аўтарытэтам платанізм.

Супернікам платанізму давялося выказваць свае пярэчанні ўжо апакрыфічна, ад імя іншага старажытнага мудраца Арыстоцеля, хаця і не заўсёды. Так, у наступным жа пакаленні на гора самаму сабе выступіў схаластык XII стагоддзя – Пятро Абеляр (1079-1142 г.).

Ён быў рыцарскага роду із Брэтані, замак яго бацькі меў назву Палэ і быў паблізу Нанта. Прыгожы сабой, адважны і самаўпэўнены, лёгка і вытанчана валодаўшы думкай і словам, Абеляр яшчэ ў маладосці прыцягваў да сябе агульную ўвагу. Ужо пад час ранняй юнацкасьці ён абыйшоў некалькі тагачасных школ у пошуках ведаў, а на самым заканчэнні стагоддзя мы бачым яго дваццацігадовым юнаком у Парыжы. Ён лічыў, што хаця ідэі асобна ад рэчаў і не існуюць, аднак іх немагчыма прызнаць толькі аднымі словамі. Ідэі – прадукты (conceptio) розуму і выяўляюць істотную ўласцівасць думкі. Яго вучэнне атрымала назву канцэптуалізм. З'ехаўшы із Парыжа, ён заснаваў сваю ўласную школу спачатку ў Мялене, а потам паблізу Парыжа, у Карбэйле. Вярнуўшыся ў Парыж, ён атрымаў дазвол выкладаць багаслоўе і філасофію. Яго лекцыі вызначаліся жвавасьцю, арыгінальнасьцю і нечаканасьцю параўнанняў. Паслухаць яго збіраліся адусюль: із

Англіі, Брэтані, Нармандыі, Фландрыі, Гішпаніі і Германіі. У Парыжы ўсе яго ведалі: адны ганарыліся і цешыліся ім, іншыя зайздросьцілі яму.

Абеляр быў запрошаны ў якасьці настаўніка да адной маладой дзяўчыны, якая сумяшчала ў сабе прыгажосць, пяшчоту і веліч духу з дзіўнымі для таго часу ведамі і з выдатнай спагадлівасьцю да разумовых інтарэсаў. Гэта была Элаіза, пляменіца каноніка царквы Notre Dame de Paris Фульберта. Агульнасць сімпатый і супольныя заняткі зблізілі вучаніцу і настаўніка і яны пакахалі адзін аднаго.

Абеляр закінуў лекцыі ў школе, а калі і прыходзіў туды, то часьцей усяго імправізаваў у гонар любай Элаізы. Чутка пра яго каханне да яе пранеслася па ўсяму Парыжу і дайшла да яе дзядзькі. Фульберт быў вельмі ўгневаны на Абеляра і, напаўшы са слугамі, вылегчаў яго. Абеляр пайшоў у манахі ў абацтва С.-Дэні, а Элаіза таксама пастрыглася ў кляштар, лічачы, што, страціўшы Абеляра, яна страціла ўсё на сьвеце.

«*Клянуся богам,* – пісала яна яму, – *што калі б Аўгуст, валадар сусьвету, палічыў бы мяне годнай быць яго жонкай і кінуў бы да маіх ног сваю ўладу над сьветам, я ўсё ж аддала б перавагу твайму каханню... Ды і хто, якая жанчына ці дзяўчына не гарэла б жаданнем бачыць цябе, не спяшалася зірнуць на цябе, калі ты з'яўляўся на вуліцах! Ты выдатна валодаў тымі двума дарункамі, якія так высока шануюцца жанчынамі: хараством размовы і вытанчанасьцю сьпявання. Вершы, якія ты жартам складаў у хвіліны адпачынку ад філасофскіх заняткаў, зрабілі маё імя вядомым у шмат якіх краінах... І калі б ты апынуўся ў пекле, то бачыць бог, я не толькі не завагалася б пайсьці следам за табой за тваім заклікам, а з радасьцю паспяшалася б туды, каб сустрэць цябе там*».

Імя Элаізы перайшло ў песьні, рамансы і апавяданні. Яно вядома ўсяму заходне-еўрапейскаму сьвету ў сувязі з імем Абеляра.

Пастрыгшыся ў манахі, Абеляр працягваў займацца багаслоўем і вучыць... Але яго вучэнне пра боскую траічнасць хутка выклікала незадавальненне супраць яго.

Богу-бацьку Абеляр даў найменне боская магутнасць, богу-сыну – боскі розумам, св. духу – боскае шанаванне. На саборы ў Суасоне ў 1121 годзе яго засудзілі за гэта, як ерэтыка, і прысудзілі да заняволення, але хутка выпусьцілі.

Выйшаўшы на волю, ён наладзіў школу паблізу Нажана на Сене і заснаваў тут суполку «Параклет» (г.азн. Суцяшальнік) у імя св. духа. Тут каля яго зноў сабралася шмат вучняў, але хутка ён саступіў Паракліт Элаізе, якая наладзіла тут жаночы кляштар, а сам зноў вярнуўся ў Парыж і выкладаў там з ранейшым поспехам.

Але канцэптуалізм Абеляра быў мала зразумелы сярэднявечнаму хрысьціянскаму натоўпу. Ім магла захапляцца выключная згодна з тым часам Элаіза, але не яе пагалоўна непісьменныя сяброўкі. Нават і мужчыны заможных пластоў насельніцтва былі тады ў большасьці непісьменнымі. Замардаваўшы сябе пастом і малітвамі падзьвіжнік падабаўся ім больш, чым філосаф, са слоў якога яны нічога не разумелі. Такім падзьвіжнікам і выявіўся Бярнар, абат кляштара Клерво.

Бярнард (1091-1153) быў чалавекам цалкам іншага гатунку, чым Абеляр. Калі Абеляр усё жыццё вучыў, вучыўся і жыў сваім розумам, то Бярнард быў увесь увасабленнем рэлігійнага пачуцця.

З дзяцінства ён вызначаўся незвычайнай задуменасьцю, паважаў адзіноту, і хаця яго рыцарскае паходжанне, прыгожы выгляд і бліскучы прамоўніцкі талент абяцалі яму наперадзе поспехі на мірской ніве, але ён ад усяго адмовіўся і пайшоў

у строгі кляштар Сіто. Пазней ён і сам заснаваў кляштар у Клерво, і, будучы там абатам, увёў самы строгі статут.

Начытаўшыся, да таго часу ўжо паўсюдна пашырыўшыхся Евангелляў, Бярнар стаў вялікім рэлігійным паэтам і прамоўцай. Яго моцная асоба і гарачае слова захапляючы ўздзейнічала на атачаючых. Ён палымяна абараняў манаства і ўсіх пераконваў цалкам аддацца богу. І яго павучанне не было марным... Ён заахвоціў пайсьці за сабой у кляштар свайго бацьку, двух братоў, і адружаную сястру. Аднаму із братоў, калі той адмаўляўся пастрыгчыся, Бярнард прыклаў палец да грудзей і прадказаў, што хутка тут пройдзе дзіда і адчыніць шлях волі боскай да непакорлівага сэрца. І гэта так падзейнічала на брата, што, калі хутка малады рыцар быў паранены, ён даў зарок пастрыгчыся ў манахі.

Бярнард стаў адным із правадыроў таго вялікага руху, які заахвоціў Захад да крыжовых паходаў, і з яго маральна спісаны шмат якія сьвятыя Чэцці-Міней, якія, такім чынам, таксама вельмі позняга паходжання.

У асобе яго і Абеляра сытукнуліся – як справядліва выказваецца В. Іваноўскі – дзьве галоўныя плыні канца сярэдневечча: схаластычнае і містычнае. Схаластыкі, наступнікі талмудыстаў, працавалі над раздзяленнем і злучэннем разуменняў, містыкі маліліся і сузіралі; у адных была ўпэўненасць у здольнасьцях свайго розуму, у другіх замілаванне сваёй нікчэмнасьцю, у адных – школа, хаця і цесна злучаная з царквой, у другіх – кляштар.

Зразумела, што Бярнард не мог спачуваць вучэнню Абеляра. У 1140 годзе ён выставіў супраць яго абвінавачанне ў самых жахлівых вальнадумствах. Ён называў яго адразу пасьлядоўнікам як Арыя так і Савелія, сцвяржаў, што Абеляр ужо не лічыць сына боскага пасьля яго ўвасаблення другой асобай сьвятой Сямухі, што веру ён называе проста «думкай» (opinio), грахом лічыць не сам ўчынак, а намер, асуджае не грэшную справу, а толькі грэшную волю, так што злое, зробленае праз недасведчанасць, згодна з яго думкай, не грэх... Гэта азначае, грунтуючыся на вучэнні Абеляра, не вінаваты жыды, укрыжаваўшыя Хрыста, таму што яны, з іхнага боку гледжання, каралі сьмерцю ў яго асобе не Месію, а простага злачынцу.

Падахвочваемы Бярнардам, кароль Людовік VII склікаў для суда над Абелярам сабор у горадзе Сане на Троіцын дзень 1141 года. Туды з'ехалася шмат біскупаў, графаў, рыцараў, абатаў, дэканаў, прыёраў, архідыяканаў і простых клірыкаў. Сан быў горадам цалкам царкоўным, уплыў біскупа быў там усемагутным, і народ ужо раней звыкся чуць, як Абеляра ў павучаннях называлі антыхрыстам і сатаной... І вось абодва супернікі прыходзяць у горад: з аднаго боку заваходзіць Бярнар, апрануты ў грубую сукенку свайго кляштара, з другога боку заязджае Абеляр, яшчэ смела, нягледзячы на свае гады і няшчасьці, нясучы сваю прыгожую галаву, аточаны вучнямі далёка не манаскага выгляду... Бярнарду папярэднічае пагалоска пра яго вялікую сьвятасць у дзівах. Усюды, дзе праходзіць сьвяты абат, народ падае на калені, і галовы схіляюцца дзеля дабраславення цудадзейнай рукі; а калі нехта пажадаў зірнуць на Абеляра, то кожнага ахапляў жах пры думцы пра яго нязгоду са сьвятым.

Сабор прызнаў Абеляра ерэтыком...

Ён накіраваўся ў Рым шукаць суду ў папы, але па дарозе патрапіў у кляштар у Клюні, дзе абатам быў Пятро Шаноўны (Petrus Venerabilis), вельмі рахманы і асьвечаны чалавек. Абеляр застаўся ў яго і пражыў амаль два гады, выконваючы самыя цяжкія абавязкі ў кляштары, сумны, маўклівы, задумёны. Ён напісаў тут адрачэнне ад сваіх думак, асуджаных Сянскім саборам, замірыўся з Бярнарам і

памёр 21 красавіка 1142 года. Пазней яго цела было пакладзена ў адну магільню з парэшткамі Элаізы і надпіс паведамляў: Requiescant a labore doloroso et amore (ды супакояцца ад цяжкай працы і кахання).

Але справа Абеляра не знікла: ён стварыў той дыялектычны метад, на грунце якога працавалі пазней усе сьвяцілы схаластычнага багасло̆уя і філасофіі.

Такой была псіхалагічная атмасфера, сярод якой выпрацоўваліся тыя дыялогі, пазней увайшоўшыя ў зборы «твораў класічных навукоўцаў» і так рыхтавалася тая містыка і аскетызм, якія хутка прывялі да ўзнікнення інквізіцыі. І зноў мы бачым, што грэка-лацінская літаратура, і класічная і царкоўная першых стагоддзяў нашай эры, магла натуральна ўзнікнуць толькі пад час эпохі Гуманізму ў Заходняй Яўропе і ў латынізаванай тады Грэцыі, а ніяк не ў глыбокай старажытнасьці.

# Глава VI.

## Сярэднявечная лірыка і эпіка як папярэднікі класічных.

Звычайна сцвярджаюць, што лірычная пявучая літаратура, служачая выразнікам суб'ектыўнага пачуцця, пачалася разам са з'яўленнем пісьмовасці, але гэта не так. Яна пачалася задаўга да пісьмовасьці і менавіта таму, што найбольш добра замяняла пісьмовасць. Празаічнае апавяданне, асабліва доўгае і складанае, немагчыма перадаць даслоўна без варыяцый тых ці іншых слоў, а з імі і сэнсу самога апавядання. Іншая справа, калі ён перадаецца ў форме размеранага вымаўлення, дзе перастаноўка аднаго слова замест другога парушае музычнасць фразы і робіць відавочным кожнае ўхіленне апавядання ад яго першапачатковай формы. Размеранае выкладанне было як бы друкарскім станком дадрукарскага перыяду, і яно яшчэ больш стала такім, калі была вынайдзена рыфма, канчаткова замацаваўшая страфу і, акрамя таго, моцна спрыяўшая лёгкасьці запамінання. Кожны ж із літаратурна-адукаваных людзей перакажа напамяць цэлы шэраг вершаў, а ці шмат ён зможа даслоўна працытаваць празаічных урыўкаў падобнага ж памеру? Я, напрыклад, акрамя малітваў, цвёрда-завучаных яшчэ ў дзяцінстве, не перадам даслоўна больш пяці-шасьці радкоў із большасьці добра вядомых мне па змесце празаічных кніг, а вершаў магу колькі заўгодна.

У гэтай лёгкасьці запамінання складаецца галоўнае значэнне вершаванага прамаўлення, і нездарма ж усе першабытныя народы выпрацавалі сабе, акрамя музыкі, і песьню, ды і само разуменне лірычная паэзія паходзіць ад музычнай прылады ліры, на якой рабіўся да яе музычны акампанемент.

Самыя старажытныя дайшоўшыя да нас лірычныя песьні маюць кахальны ці рэлігійны характар. Такімі, напрыклад, з’яўляюцца біблейскія псалмы і «Песня песьней», і ў першай кнізе «Хрыста» мы ўжо вызначылі час іхнага стварэння не раней IV стагоддзя нашай эры, г.зн. дапасавалі да пачатку сярэднявечча. Гэта азначае, мы павінны шукаць не раней гэтага ж часу працяг развіцця і лірычнай літаратуры, кіруючыся, як компасам, эвалюцыйнай тэорыяй, не дапускаючай сусьветных катаклізмаў чалавечай думкі і выхаду сухім із вады патопу таго, што пайшло на яго дно тысячу гадоў назад.

З такога боку гледжання поўдзень Францыі пад час сярэдневечча быў праўдзівай зыбкай лірычнай паэзіі[285].

І не толькі Праванс ва ўласным сэнсе слова, але і ўся правансальская акруга, г.азн.. Аквітанія, Лімузен, Пуату і Авернь, складаюць тую вобласць паўднёвай Францыі, якая паклала пачатак так званай правансальскай паэзіі.

Тут упершыню загучалі лірычныя песьні, якія на працягу сярэдневечча давалі ўзоры ўсёй астатняй Яўропе, таму што пасьлядоўна ішлі ў паўночную Францыю і далей, змяніўшы мову, у Германію, дзе асабліва спадабаліся пазней; у Італію, і, нарэшце, у Гішпанію.

Лірыка Праванса, пачаўшыся з вясковай народнай песні на працягу XI стагоддзя ператварылася ў штучную і атрымала назву «складальніцтва» (art de trobar), чаму і правансальскі паэт меў назву «прыдумшчык», ці «тробадор». Такіх тробадораў, ці, як кажуць, трубадураў, у паўднёвай Францыі было вельмі шмат, – да нас дайшлі амаль 500 імёнаў, – і часам іхнага росквіту варта лічыць XII і XIII стагоддзі.

Вершы трубадураў былі, у поўным сэнсе слова, песьнямі, таму што яны складаліся не для чытання, а для спявання. Трубадуры ведаўшыя музыку, самі былі і кампазітарамі і выканаўцамі, ці ж карысталіся паслугамі менестрэляў, спяваўшых іхныя творы перад публікай і пашыраўшых іх у тых месцах, куды самі аўтары не маглі патрапіць. Рыцары і феадалы, нават валадарачыя князі, ганарыліся магчымасьцю быць трубадурамі, і становішча апошніх, з якога б стану яны не паходзілі, было вельмі добрым: да іх ставіліся заўсёды з вялікай павагай. Творчасць трубадураў часта пранізвае тонкае разуменне прыгажосьці, чуллівы інстынкт у падборы выразаў і шчырае захапленне простай і далікатнай мелодыяй. Трубадур перадусім рыцар у якога сэрца належыць яго даме, а рука мячу, і таму цалкам натуральна, што асноўнымі матывамі яго песень застаюцца каханне і вайна. Толькі часам, і галоўным чынам з пачатку XIII стагоддзя, пад уплывам крыжовых паходаў іх паэзія набыла і грамадзкае значэнне. Узорамі яе могуць служыць, акрамя кахальных і вайсковыя песьні, і песьні, бічуючыя заганы.

Вось некалькі прыкладаў, у рускім перакладзе, якія я бяру із артыкула І. Казанскага: «Сярэднявечная лірыка».

Калі з галінкі пупырышка выбягае,
То тут, то там распусьціцца кветка,
Шчабеча птушачка, схаваўшыся ў кустах, –
Мая душа ў асалодзе патанае.
Але вось прыбраліся дрэвы ў пышныя кветкі,
І салаўі заспявалі хорам дружным,
Тады глядзіш і з сэрцам цяжка зладзіць,
Каханню валадарачаму паслухмянаму.

Ці:

Шчасьлівы, каму дасталася, як асалода,
Каханне, крыніца featнага дабра.
Ці не ад яго душа робіцца бадзёрай
Рахманай, праўдзівай, далікатнай,
Больш здольнай, чым заўсёды, у парадзе і ў вайне?
Ды будзе ж каханне блаславёным!

[285] Гл. І. Казанскі: «Сярэднявечная лірыка», якую для безстароннасьці выкладання я тут рэферую.

А іншы трубадур, барон Бяртран дэ-Бэрн, пасьвечаны ў рыцары ў 1179 годзе, піша ўжо ваяўніча:

Якім салодкім мне здаецца разгул вясны!
І зноў ліст і кветка ажываюць,
І зноў весёлы птушак хор
Лес песьняй свежай напаўняе.
Куды ні накіруецца позірк,
Хаткі ён усюды сустракае.
Але салодкі для мне і поля выгляд
(Хай гэта будзе восенню, вясной),
Дзе цвёрда шэраг людзей, стаіць.
Ужо цалкам гатовых да бою.

А потым, захапіўшыся, ён усклікае з запалам юнака:

Мне люба бачыць: толькі мільгануць
Удалечыні ваяры перадавыя –
Усе людзі і статкі спяшаюцца
Схавацца ў гушчары стогадовыя.
Ах, люба! Вось насустрач ім,
Ужо з шумам выйшла войска,
І змаганне зараз неабходна!
Калі ж таран па сьценах бухне,
Калі сьцяна, раптам трэснуўшы, абваліцца,
Надзейны замак магутнасьцю захоплены –
Не адарваўся бы мой пагляд!

Прыблізна каля таго ж часу, калі правансальская лірыка вырабіла свой уплыў на паўночную Францыю, яна пранікла і ў Германію. Упершыню песеннае мастацтва трубадураў было занесена сюды яшчэ раней 1190 года паэтам Генрыхам фон-Фельдэке, а потым, дзякуючы сталым палітычным стасункам Германіі з Францыяй, дзякуючы рыцарству і крыжовым паходам, у немцаў з'явіліся мінезінгеры, таму што самай шануемай тэмай іхных песень было «Minne» – каханне.

Яны былі амаль выключна із дваранства, чаму і іхная паэзія знаходзіла сабе прытулак у рыцарскіх замках і ў княскіх палацах, ад якіх і атрымала назву прыдворнай.

Мінезінгеры пераймаюць трубадурам, але ў іх застанецца асноўнай рысай іхнага характару: задумёнасць і мяккасць, вечна ўласцівыя нямецкай рыцарскай паэзіі. Вось адзін із яе ўзораў:

Каму незнаёма сляпая варожасць,
Той жорсткага слова ці слова пагарды
Не скажа пра жанчыну, ёй у асуджэнне,
Але будзе ёй мілашчы прывітання дарыць
І спагадліва пра яе гаварыць.
Асалоду і радасць у жыццё наша прыносячае,
Сціплым і нямым каханне сапраўднае з’яўляецца,
Як дым, ляціць пакута ад нас
Перад далікатнай жаночай усмешкай адзінай.
У нас сэрца трапеча кахальнай журбой
Ад погляду чароўных вачэй.
Ушануйце ж належна вобраз чысьціні,
Рубінавыя далікатныя вусны,
Чало маладое, лілейна-прамяністае,

І пунсовыя, як ружы, шчокі.
Выгляд любых стварэнняў з іхнымі цудоўнымі позіркамі
Нас пра усё вымушае забыцца,
І не існуе тых захопленых песень, якімі б
Мы іх не былі гатовы ўшанаваць;
Але ўсё ж таго, што я думаю, адчуваю
І самай гучнай хвалой сто вустаю
Не выказаць людзям цалкам:
Такія любыя, выдатныя яны!

На тыя ж матывы спявалі і Фрыдрых Фон-Гузен, і Гартман фон-Ауэ, і Ульрых фон-Зінгепберг, і Хрысьціян фон-Гамле, і вельмі шматлікія іншыя мінезінгеры. І гэтая ж літаратура кахальных песень стварыла мастака з больш шырокім даляглядам, Вальтара фон-дэр-Фогельвейдэ.

Нарадзіўся ён, як мяркуюць, у паўднёвым Тыролі каля 1168 года і юнацкасць сваю правёў пры двары аўстрыйскага герцага Фрыдрыха Каталіка. Калі гэты апошні памёр у Палестыне ў 1198 годзе, Вальтар пачаў бадзяжнае жыццё, падчас якога абышоў не толькі Германію, але і шмат чужых земель. Бяручы там бок таго ці іншага валадара, ён браў удзел дзякуючы свайму розуму і таленту і ў палітычных падзеях. Яму давялося пабываць і пры двары вядомага апекуна паэтаў, ландграфа Германа Цюрынгенскага і браць удзел у знакамітым Вартбургскім спаборніцтве паэтаў. Потым ён схіляецца на бок імператара Атона супраць папы Інакенція III і з гэтай пары у сваіх творах вельмі часта вяртаецца да пытання пра дамаганні Рыма і пра паводзіны сьвятарства.

«*Добра папе смяяцца ў Рыме,* – усклікае ён між іншым, – *у той час, як лагодныя немцы апаражняюць капшукі на карысць крыжовых паходаў. Баюся я толькі, што гэтыя грошы ніколі не пабачаць Святую зямлю, і ў адным Рыме будуць ведаць, колькі ёсць яшчэ ў Германіі дурняў*». Праз некаторы час Вальтар пакінуў Атона і атрымаў ва ўласнасць ленны маёнтак ад Фрыдрыха II. Але нядоўга ён пражыў і на гэтым месцы і зноў узяўся за свае вандроўкі, а калі Фрыдрых II пайшоў на Палестыну, разам з ім выправіўся і Вальтар. Вось адзін з яго вершаў:

У чужых краях нярэдка я блукаў,
Але, захоплены чароўнай магутнасьцю,
Я ніколі не забываў
Ні паннаў, ні жанчын сваёй айчыны любай.
Навошта мне маніць? У сардэчнай глыбіні
Насіў я вобраз жанчыны нямецкай,
І быў заўсёды ён любы і дарагі мне
Сваёю беззаганнасьцю дзіцячай.
Чый прагне дух кахання і хараства.
Няхай спяшаецца ў наш край блаславёны!
О, край родны! Магілай будзь мне ты!
Цябе выдатней няма ва ўсім сусьвеце.

Ён памёр у Вюрцбургу ў 1230 годзе.

Такай была паэзія трубадураў і мінезінгераў, і немагчыма не пагадзіцца з І. Казанскім, што гэтая лірыка зрабіла сваю справу: пакінуўшы свае незнішчаемыя сьляды па ўсёй Яўропе, яна зрабіла вялікі ўплыў на ўтварэнне яе больш позняй вытанчанай літаратуры.

Але адначасова з гэтай паэзіяй і нават раней яе існаваў і іншы род рыцарскай літаратуры. Гэта кантылены[286], із якіх пазней выраслі доўгія гераічныя нацыянальныя эпапеі нападобе Адысеі і Іліяды (да 30 000 радкоў), меўшыя назву chanson de geste, г.азн. песні пра вычыны.

Такой, напрыклад, з'яўляецца кантылена IX стагоддзя пра Феранэ, якую захаваў у жыццяапісанні гэтага сьвятога Гельгарый, біскуп горада Мо пры Карлу Лысым (823-870). Гэтая кантылена з'яўляецца духоўным вершам і распавядае пра схіленне саксонскіх амбасадараў да хрысьціянства.

Змест яе такі.

Кароль Клатар II чатаваў у Мо амбасадараў Бертольда, караля саксонскага. Амбасадары прынесьлі яму выклік ад імя свайго караля і паведамілі, што саксы прыйдуць забраць яго зямлю, якая належыць ім. Клатар разгневаўся, загадаў кінуць амбасадараў у турму і прызначыў на наступны дзень для іх пакаранне сьмерцю.

Дружыннікі караля дарэмна спрабавалі супрацівіцца такому парушэнню міжнародных звычаяў. Кароль нічога не хацеў слухаць, але вось сьвяты Ферон ідзе ў турму да няшчасных амбасадараў і, паведаміўшы саксам вучэнне каталіцкай царквы, пераконвае іх прыняць хрышчэнне. На наступны дзень, калі Клатар думаў выканаць пакаранне іх сьмерцю, Ферон падняўся і прамовіў, што нехта на працягу ночы паспеў ахрысьціць заняволеных: ён сам бачыў іх у белых адзеннях. Кароль дараваў ахрысьціўшыхся амбасадараў, але сам пачаў паход супраць саксаў і знішчыў іх шмат.

Згодна са словамі Гельгарыя, перамога Клатара над саксамі распавядалася ў народнай песні (rustico carmine), якую спявалі жанчыны, стаўшы ў кружок і пляскаючы ў далоні. Гельгарый прыводзіць урыўкі кантылены на лацінскай мове, але, напэўна, яна спявалася на раманскай, таму што пры Меравінгах у Брэтані пераважаў кельтскі ўплыў, у Аўстразіі – нямецкі, а ў астатняй Францыі раманскі.

Яшчэ больш невычарпальны матэрыял для паэзіі дала асоба Карла Вялікага, і раманскія кантылены з яго часу робяцца вельмі пашыранымі. Але яны спяваюцца яшчэ не спевакамі па рамяству (баянамі), як спяваліся chansons de geste (песні пра вычыны)[287], а жывуць у вуснах усяго народа.

Сьляды ўласна гераічных эпапей пачынаюцца ў Францыі з XI стагоддзя. І немагчыма сказаць, што першыя chansons de geste заўсёды ўзнікалі шляхам аб'яднання асобных кантылен, хаця, магчыма, яны і нададзены кантыленамі. Калі гістарычная падзея ўражвае народ, то легенда хутка авалодвае ім, а пры перакладанні легенды ў паэтычны твор, над легендай, злучанай яшчэ паданнем, бярэ ўжо верх вольная фантазія. Так і ўзніклі галоўныя цыклы французкай эпічнай паэзіі – chansons de geste – пра Карла Вялікага, пра Гільёма д'Аранж і пра Рэнэ дэ-Мантабан.

Аднак кантылены не былі знішчаны ўтварыўшыміся з іх эпапеямі, аператварыліся пазьней ў маленькія быліны духоўнага зместу, у духоўны верш, накшталт, напрыклад, «Жыція Аляксея божага чалавека», якое узнікла ў Нармандыі ў XI стагоддзі.

Такія вершы пазьней спяваліся сляпымі пад гукі іхнай ліры (vielle a roue).

Росквіт эпічнай творчасьці ў Францыі даасуцца да перыяду ад XI стагоддзя да ўцаравання Валуа, г.азн. да 1328 года. Аўтарамі эпапеяў былі часьцей усяго тыя

---

[286] Італійскае cantilena – манатонная песенька.
[287] Ад італійскага gesta – вычын.

людзі, якія на поўначы Францыі мелі назву труверы (trouveres), а на поўдні, дзе іх было значна менш, трубадуры.

Эпічных трубадураў не патрэбна атаясамляць з лірычнымі, нападобе ўжо апісаных Бярнара дэ-Вантадур ці Бяртрана дэ-Борн. Апошнія не карысталіся добрым стаўленнем царквы: яны славілі каханне, аддаючы даніну розным захапленням, і заканчалі жыццё ў пакаянні дзе-небудзь у кляштары. Вось чаму ў адным рукапісе XIII стагоддзя, служыўшым дапаможнікам для споведзі, царква дазваляе спаведнікам спагадліва ставіцца толькі да эпічных паэтаў.

«*Акрамя трувераў, існуюць іншыя спевакі, якія маюць назву жанглёры і апяваюць справы князёў а не жыціі сьвятых на суцяшэнне людзям; іх можна трываць*», – пісаў папа Аляксандр.

Існуюць эпапеі, злучаныя з імёнамі вызначаных паэтаў. Так быліна пра Рауля дэ-Кембрэ належала спеваку Бартале із Ліёна. Але асноўная маса французкай эпічнай паэзіі адносіцца да вобласьці безімённых твораў. Із сотні з гакам былін толькі 19 дайшлі да нас з імёнамі паэтаў. Першыя трубадуры натхняліся паданнямі, а наступныя перапрацоўвалі і павялічвалі паэмы сваіх папярэднікаў. Толькі апошняе іхнае пакаленне часам цалкам вызваляецца ад паданняў і стварае герояў і іхныя вычыны выключна магутнасьцю фантазіі.

Самыя старажытныя рукапісы дайшоўшых да нас песень дапасуюцца да XII стагоддзя. Яны маленькага фармату, так што іх лёгка браць з сабой у дарогу, і ўтрымліваюць у сабе па адной песьні. З XIII стагоддзя колькасць чытачоў павялічваецца і тады асобныя каліграфы пачынаюць перапісваць для продажу адразу цэлыя зборнікі паэм.

Chansons de geste пісаліся звычайна ў 10 складовых ці 12 складовых вершах з сугучнасьцю апошняй галоснай (асанансам), а рыфма з'явілася крыху пазьней. Напрыклад, старажытная быліна пра Роланда (Chanson de Ronald), узнікшая ў асяроддзі нарманаў у Англіі пасьля перамогі Вільгельма Заваёўніка пры Гастынгсе, напісана вершам у 10 складоў, з аддышкай пасьля чацьвёртага склада і асанансам апошняй галоснай, рыфмуючы, напрыклад, lune і pasture.

Дзякуючы адсутнасьці друкарства і кніжнага рынку гэтыя эпапеі, як я ўжо паведамляў, пашыраліся спевакамі па рамяству, меўшымі назву то баянаў (joculatores), то менестрэлей. Самыя старажытныя баяны з'яўляюцца ў Францыі, адкуль гэты тып спевакоў і песень пашырыўся ў Гішпанію і Англію. Існавалі баяны злучаўшыя з уменнем спяваць быліны яшчэ і майстэрства акрабатаў і музыкантаў. Гэта бачна із паэм, пасьвечаных іхнаму жыццю.

Паміж імі былі як свецкія людзі так і духоўныя, былі вольна вандраваўшыя менестрэлі, і менестрэлі, прывязаныя да нейкага аднаго сеньёра, сядзібы ці паэта; былі спевакі, былі музыканты, былі conteors і fableors (г.азн. распавядальнікі легендаў і апошнесьцей), спяваўшыя чужое і ствараўшыя сваё. Жыццё гэтых сьпевакоў праходзіла ў вандраваннях і было поўнае выпадковасьцей. У менестрэля часта бываюць у кішэні грошы, і ён мае каня і служку. Ён памятае песьні велічынёй ў тысячы вершаў, але ўсё ж гэты запас патрэбна час ад часу асвяжаць, і ў яго ёсць маленькія спісы гераічных паэм. Вось ён злез з каня, адпачыў, падмацаваўся. Яго смыковы інструмент пры ім і ён накіроўваецца на пляц, ужо аточаны натоўпам.

– Слухайце мяне, рыцары і жаўнеры, гараджанкі і гараджане, бароны і мудрыя клерыкі, умеючыя чытаць! Слухайце дамы і дзяўчыны, і вы, маленькія дзеткі, слухайце мяне ўсе мужчыны і жанчыны, вялікія і малыя! Слухайце!

Ён не чытае быліны, а спявае, але спявае ўсе радкі на нейкія дзьве-тры музычныя тэмы, якія тут жа бярэ на сваёй нескладанай прыладзе. За грошы ён спявае хвалу сеньёру, але часам насмешліва закранае свецкіх і духоўных вяльможаў. Дзякуючы гэтаму, у 1395 годзе, французкі кароль забараніў менестрэлям згадваць ў песнях папу, караля і сеньёраў Францыі пад пагрозай двухмесяцовага турэмнага заняволення на хлебе і вадзе. Рыцары, у палацах якіх часта спяваюць жанглёры, акрамя грошай, даруюць ім адзенне, коней; іх клічуць на хрэсьбіны, на вяселлі, на балі, на турніры і пасьвячэнні ў рыцары. Ці абіраюць папу, ці сьвяткуюць царкоўнае сьвята, ці з'язджаюцца на кірмаш, яны павінны паспець усюды, у іх свой уласны каляндар. Як і ўсе сярэднявечныя рамеснікі, яны месцамі ўтвараюць цэхі, г.азн. сярэднявечныя прафесійныя хаўрусы для сваёй абароны. У 1321 годзе ў Парыжы былі зацьверджаны статуты менестрэляў. На чале іхнага прафесійнага хаўрусу стаяў «кароль менестрэляў», экзаменаваўшы новых спевакоў, дамагаючыхся гэтага звання. Разам з цэхамі з'явіліся і школы для менестрэляў.

Да XIII стагоддзя быліны дзякуючы паступовым дадаванням ці аб' яднанню некалькіх у адну дасягаюць ужо 8-10 тысяч вершаў кожная. У XIV стагоддзі яны пераходзяць да больш доўгага верша ў 12 складоў і даводзяць кожную эпапею да 20 тысяч вершаў.

А пачынаючы з XV стагоддзя, дзякуючы вынаходніцтву друкарства, з’явілася магчымасць пашыраць літаратурныя творы і ў выглядзе доўгім празаічным апавяданняў, эпапеі пачынаюць перакладацца ў раманы. У XVII стагоддзі друкарства робіць непатрэбнымі баянаў, як папашыральнікаў літаратурнай творчасьці і гэтая прафесія, як і сама быліна, спыняе сваё існаванне, як першабытная...

І вось, калі мы запытаем, калі ж узніклі Адысея, Энэіда, Іліяда, то павінны будзем адказаць: гэта кампіляцыі із песень менестрэляў, па-руску – баянаў. Яны склаліся ў сваёй канчатковай форме не раней XIV стагоддзя нашай эры.

Адысея дасягнула свайго канчатковага развіцця не раней XII стагоддзя, і нездарма ў ёй апісана сонечнае зацьменне 13 верасня 1178 года, і само слова Адысей – азначае эдэсіт. А найменне Іліяда паходзіць ад горада Іліі (Aelia Capitolina), як зваўся пад час сярэдневечча палестынскі Ерусалім. Гэта – паэма з часоў крыжовых паходаў.

# Глава VII.

## Народная адукацыя пад час сярэдневечча.

Адно із самых цяжкіх заданняў, паўставаўшых перад навукоўцамі пачынаючы ад самых старажытных часоў, было класіфікаваць разрозненыя факты згодна з іхным падабенствам у аднастайныя згуртаванні, і можна смела сказаць, што, дзе няма класіфікацыі, там няма і навукі. З гэтага боку гледжання вывучэнне кожнай навукі павінна пачынацца із класіфікацыі яе прадметаў. Вывучаць без яе батаніку, заалогію, фізіку, хімію і г.д. гэта тое ж самае, як пачынаць вывучэнне геаграфіі без геаграфічнай мапы ці арыфметыкі без табліцы памнажэння. Але да апошняга часу ніякай класіфікацыі не было зроблена ні ў вобласьці чалавечай працы са шматлікасьцю яго прафесій, ні ў вобласьці гісторыі са шматлікасьцю яе падзей, а таму абедзьве гэтыя вобласьці ведаў і ўяўлялі сабой не навуку, а толькі

сыры матэрыял для навукі. І калі можна сказаць, што сацыялогія стане сур'ёзнай навукай толькі тады, калі розныя вобласьці чалавечай дзейнасьці будуць класіфікаваны і апісаны ў ёй, падобна розным расьлінам у батаніцы, так і пра гісторыю чалавецтва немагчыма не зрабіць выснову, што яна не будзе навукай, пакуль усе яе факты не будуць падведзены пад адзін агульны эвалюцыйны прынцып і не будуць так ці інакш асэнсаваны.

Возьмем хаця б развіццё школьнай адукацыі ў Яўропе, без якой, вядома, немагчыма ніякая культура. Гісторыкі пачынаюць яе ад старажытна-рымскай і грэцкай культур, нягледзячы на тое, што згодна з сучаснай храналогіяй атрымліваецца паміж абодвума зіяючая, пустая бездань працягам у некалькі стагоддзяў.

Нават і грунтуючыся на адных толькі агульна-эвалюцыйных меркаваннях патрэбна ссунуць краі гэтай бездані і злучыць пачатак з яго працягам бесперапыннасьцю ў часе. Але не адважваючыся на такое блюзнерства, як крытычнае стаўленне да «гістарычнай традыцыі», артадаксальныя гісторыкі да гэтага часу працягваюць захоўваць бездань паміж стара-класічным і нова-класічным перыядамі, звальваючы ўсё на «вялікае перасяленне народаў», хаця такога грунтуючыся на эканамічных меркаваннях таксама цяжка чакаць у V стагоддзі нашай эры, як і ў наш час. Пры адсутнасьці нейкіх стыхійных бедстваў, ахопліваючых цэлыя краіны, катаклізматычныя перасяленні людзей немагчымы, ды і ў такіх выпадках перасяляліся б не пераможцы, падначальваючыя больш культурныя краіны, а пераможаныя прыродай вартыя жалю, замардаваныя людзі, молячыя толькі пра кавалак хлеба.

А артадаксальныя гісторыкі паўтараюць старыя зады:

«*Сістэма школ, развіўшаяся ў Рымскай імперыі, загінула разам са шматлікімі іншымі ўстановамі пад час эпохі так званага «вялікага перасялення народаў*», – выказваецца В. Іваноўскі ў сваім артыкуле «Народная адукацыя і ўніверсітэты пад час сярэдневечча»[288], – і такім чынам адразу адсякае нязручны для складнасьці падзей перапынак культуры ад IV да XI стагоддзя, і пачынае апавяданне, як і варта, з XII стагоддзя нашай эры.

І раптам, выяўляецца, што ніякага старажытнага прыдатка тут цалкам не патрэбна, а, наадварот, і сам прыдатак вырастае менавіта толькі ў гэты час пад выглядам адраджэння нечага даўно знікшага і забытага.

Вось рэзюмэ гэтага вельмі добрага артыкула.

«*Уменне чытаць,* – цалкам справядліва выказваецца аўтар, – *патрабавалася тады толькі на лацінскай мове для патрэб набажэнства. Падобная ж пісьменнасць і вельмі бедныя пазнанні патрабаваліся і для некаторых іншых мэт: для складання актаў грамадзянскага ўжывання, разнастайных справаводчых лістоў і грамат, для мэт грамадзянскага кіравання і г. д. Але ўсё ж асноўным заахвочваннем да набыцця тых вельмі бедных ведаў, якія толькі і былі даступнымі напачатку сярэдневечча, з'яўляліся патрэбы набажэнства. І хаця далёка не ўсё сьвятарства той грубай эпохі было пісьменным, але па-за сьвятарствам ужо цалкам не існавала людзей ўмеючых чытаць. Адсюль бяручы да ўвагі пераважную прафесію пісьменных людзей, усе яны зваліся «клірыкамі»* (clerici ад κλῆρος – клір, сьвятарства), *і ўсе яны мелі права на адно са знешніх адрозненняў сьвятарства – на танзуру* (г.азн. на выстрыжэнне верхушкі галавы).

[288] Кніга для чытання па гісторыі сярэдневечча, пад рэд. праф. П. Г. Вінаградава. 1903 г.

Больш таго, усе атрымаўшыя адукацыю мужчыны (так як жанчыны лічыліся няздольнымі), прысьвячаючы сябе навуцы, з часу ўвядзення неадружальнасьці ў асяроддзі каталіцкага сьвятарства пры Рыгору Гільдэбранду, таксама звычайна заставаліся неадружанымі, падобна з прыкладам сьвятарства. Адружыўшыся навуковы клірык назаўсёды губляў права на атрыманне «бенефіцыя» ці «прэбэнды», г.азн. прыбытку ад нейкай царкоўнай пасады – галоўнай крыніцы існавання для тагачасных навукоўцаў. У Парыжскім унівэрсітэце, напрыклад, нават дактары медыцыны, якія далей чым іншыя стаялі ад рэлігіі, атрымалі дазвол адружвацца толькі пачынаючы з паловы XV стагоддзя, а для адружвання аднаго венскага прафесара ў XIV стагоддзі сучаснікі не маглі знайсьці іншага тлумачэння, акрамя вар'яцтва: «uxorem duxit versus in dementiam» («з глузду з'ехаў – адружыўся»). Так доўга каталіцкае грамадства не магло аддзяліць уяўленне пра адукаванасць ад уяўлення пра неадружанасць, і гэта зразумела: клопаты пра сям'ю перашкаджалі цалкам аддаць сябе навуцы.

Але хаця сярэднявечная школа ўзнікла і ўвесь час жыла ў некаторай сувязі з царквой, аднак, гэта не рабіла яе простым прыдаткам да царкоўнай арганізацыі. «Абавязак клапаціцца пра пашырэнне і ўтрыманне школ, пра які паўтараюць сваім прэлатам каталіцкія заканадаўцы, ператвараецца жыццём у адно із феадальных правоў. Прывілеяваныя духоўныя і свецкія сеньёры «трымаюць школы» на поўных правах прыватнай уласнасьці ў тым выглядзе, у якім яны існавалі пад час сярэдневечча. Школа не ведае ні дзяржаўнай, ні царкоўнай апекі. Яна ўяўляе сабой прыватнае прамысловае прадпрыемства, і таму немагчыма было патрабаваць ад навучаўшыхся ў ёй нават і **вызначанай умоўнай арфаграфіі**, і зараз даючайся ўсім вучням з вялікімі намаганнямі, нягледзячы на аднастайныя друкаваныя прописы. Колькасць школ, патрэбных для дадзенай мясцовасьці, выбранне настаўнікаў, вызначэнне школьнай таксы – усё гэта залежала не ад духоўнага кіравання, а ад школьных патронаў. Імі часта з'яўляліся духоўныя асобы і валадары, але не ў якасьці прадстаўнікоў дзяржаўнага ці царкоўнага пачатку, а ў якасьці ўсіх іншых феадальных уласьнікаў. Права «школьнага патранату» вельмі шанавалася: яно ўвесь час згадваецца ў купчых дамовах, яго даюць у лен, яго дораць, ім дзеляцца. Школы, так патрэбныя для паднаўлення сьвятарства, прыносяць патронам прыбытак, патроны аддаюць іх за грошы ці якасьці ўзнагароды за паслугі, і патранат не толькі дорыцца, але і прадаецца асобна ад маёнткаў. Адзін нармандзкі сеньёр, Іўдэ-В'енон, піша ў 1403 годзе: «*дзякуючы маёй палавіне бароніі ў мяне існуе права даваць у сваю чаргу дазвол на школу ў Нэфбургу: даваемае на тры гады, і адзін раз даю яго я, а другі раз сеньёр дэ-Камбон, і так далей адпаведна чарагаванню*».

Аднак не ўсе школы залежалі ад мясцовых сеньёраў. Пасьля пачатку XII стагоддзя пачалі ўзнікаць самакіруючыся адукацыйныя карпарацыі, залежаўшыя ўжо не ад мясцовых, а непасрэдна ад адной із сусьветных улад: ад папы ці ад імператара: гэта былі «ўнівэрсітэты». Узнікненне ўнівэрсітэтаў не знішчыла, вядома, ранейшыя школы, але надало ім яшчэ адну функцыю: старыя школы ператварыліся ў падрыхтоўчыя ўстановы для ўнівэрсітэтаў. Эпоха ўзнікнення першых унівэрсітэтаў, г.азн. заканчэнне XII і пачатак XIII стагоддзя, утварае мяжу у гісторыі сярэднявечнай адукацыі. Толькі з гэтага моманту і магла ўзнікнуць тая складаная лацінская і грэцкая літаратура, якой з'яўляецца класічная.

Патрэбна пазначыць яшчэ адну асноўную рысу сярэднявечнай школы, выцякаўшую із яе становішча адносна царквы і дзяржавы: гэтая школа не была

рэгламентавана. Мы прызвычаіліся бачыць падзел школ на тры ступені: пачатковую, сярэднюю і вышэйшую, – як нешта само сабой разумеючаяся і непазбежна вынікаючае із сутнасьці справы. Гэтыя ступені ў нас строга размежаваны шляхам заканадаўчых пастановаў. Але сярэдневечча яшчэ не ведала школьнага заканадаўства. Толькі адна адукацыйная ўстанова вылучалася яскрава акрэсленымі межамі із сукупнасьці ўсіх тагачасных школ. Гэта быў універсітэт, які таму і меў найменне «прывілеяваная школа». Усе іншыя вучэльні не падначальваліся ніякай рэгламентацыі: у іх цалкам не існавала ўсталяваных заданняў выкладання, не было і раз назаўсёды вызначанага кола вывучаемых прадметаў. У кожнай навучальнай установе выкладалася тое, што было пажадана і магчыма згодна з агульным станам рэчаў у дадзены час. Ніякіх правоў адносна адукаванасьці тады не існавала і ў думках. Нават да паступаўшых у студэнты ўніверсітэт не выпрацаваў тады ніякіх вызначаных патрабаванняў у сэнсе адукацыйнай падрыхтоўкі...

Гэтым тлумачыцца неўстойлівы і пярэсты характар сярэднявечных школ. У іх толькі паступова і самабытна складаецца тое, што набывае цвёрдыя формы на працягу новага часу.

Пачатковая школа была тады перш за ўсё лацінскай школай. Яна вучыла лацінскай мове грунтуючыся на лацінскіх падручніках, што рабіла яе цалкам чужой для народа ў яго цэлым. Акрамя таго, пад час сярэдневечча пры агульнай беднасьці і малалікасьці навучальных устаноў, немагчыма было і думаць правесьці праз школу колькі-небудзь значную частку народа. У той час нават простая пісьмовасць патрабавала значных намаганняў. Патрэбна было непісьменнага чалавека навучыць чытаць незразумелыя яму лацінскія словы неразборлівых рукапісаў. Гэта рабіла мастацтва чытання такім цяжкім, што школьнае выкладанне ішло пад час сярэдневечча такім чынам: дзеці спачатку завучвалі з голасу не толькі самыя галоўныя малітвы, але і ўвесь лацінскі псалтыр, а ўжо потым вучылі альфабэт і пачыналі чытаць завучанае грунтуючыся на той жа псалтыры.

Гэта была школа для падрыхтоўкі школьных настаўнікаў, перапісчыкаў рукапісаў, сьвятарства, набіраўшыхся пры існаванні цэлібата із усяго народа, і толькі ў гэтым сэнсе яе можна назваць «народнай».

Нам паведамляюць пра захады Карла Вялікага (742-814 гг.) і пра заснаванне ім школ у сваёй імперыі. Але ўсе адукацыйныя ўстановы першай паловы сярэдневечча зводзяцца да манастэрыёнскім і да кангрэгацыйных школ. І тыя, і другія падзяляліся на «ўнутраныя» і «вонкавыя». Ва ўнутраных выхоўваліся вучні, якія ўжо ў дзіцячым узросьце былі прыняты ў манастэрыёны, ці канонікі (pueri oblati); у вонкавых вучыліся «свецкія дзеці». Але і гэтыя свецкія дзеці ішлі туды толькі дзеля таго, каб пазней папаўняць сабой шэрагі таго ж сьвятарства. Навучанне ва ўсіх гэтых школах было бясплатным, вучні «ўнутраных» школ жылі на сродкі ўстаноў трымаўшых школы, а вучні «вонкавых» школ на сродкі бацькоў ці добраахвотных падарункаў. Звычайна самыя здольныя із выхаванцаў маленькіх школ выпраўляліся для завяршэння сваёй адукацыі ў «вялікія» школы таго ж тыпу, праславіўшыяся талентамі і вучонасьцю сваіх выкладачоў: туды такім чынам збіраліся тысячы вучняў. Із такіх «саборных» (кафедральных, біскупскіх і капітульных) школ у XI і XII стагоддзях славіліся школы Рэймса, Лана, Парыжа (пры саборы Notre Dame) і некаторых іншых гарадоў, а із «кляштарскіх» – школа Бэкскага абацтва (у Нармандыі) і школы пры парыжскіх кляштарах св. Віктара і св. Жэнеўевы.

Для выкладання ў саборных школах капітулы абіралі са свайго асяроддзя адменных асоб, насіўшых розныя тытулы: схаластык (scholasticus), начальнік школ (magister scholarum), канцлер (cancellarius), кантар (cantor), г.азн. начальнік хору, рэктар і г.д. Пачынаючы з XI стагоддзя ў сябраў саборных капітулаў заўважаецца імкненне да вылучэння із кангрэгацыйных маёнткаў асобных бенефіцый, дапасаваных да той ці іншай із гэтых пасад. Чым больш важнай была пасада, тым больш прыбытковы дставаўся ёй бенефіцый. А дзякуючы таму, што схаластык ці канцлер, кіраваўшы біскупскай школай, лічыўся другой асобай у капітуле пасьля дэкана, то і надаваемы яму бенефіцый быў адным із самых заможных. Стаўшы заможным чалавекам, «схаластык» губляў цікавасць да выкладання і пачынаў самастойна занімацца навукай і пісаць кнігі. Гэта была часьцей усяго малодшая асоба уплывовых дваранскіх радоў, і ён наймаў выкладаць за сябе ў школах іншых настаўнікаў із людзей менш забяспечаных.

Гэтыя падручныя настаўнікі, школьныя «чаляднікі», «правізары», «локаты» і г.д., набіраліся пераважна ці са старэйшых вучняў той жа школы, із клірыкаў, із недавучыўшыхся ў вышэйшых школах і ўніверсітэтах. Нярэдка ў настаўнікі траплялі і «бадзяжныя» клірыкі (clerici vagantes): яны складалі цэлы ордэн («ordo vagorum») і звалі сябе «галіярдамі», паствай нябачнага біскупа Галія, патрона свайго ордэна. Калі такому бадзяжнаму клірыку надакучвала хадзіць із аднаго горада ў іншы, ён часта наймаўся ў званары ці ў псаломшчыкі, злучаючы гэта з пасадай школьнага настаўніка ў гарадзкой школе. Школьныя заняткі там ішлі ў такім парадку.

«*Кожны браўшыся за навуку дзіцёнак павінен быў перадусім вывучыць напамяць на-лаціне «ойча наш», малітву багародзіцы, «знак веры» і ўсе паўтары сотні псалмоў. Паканчыўшы з псалмамі, хлопчык браўся за альфабэт. Настаўнік даваў яму ў рукі дошчачку, на якой былі напісаны па парадку літары алфабэта і некаторыя склады, а потым пераводзіў яго на псалтыр... Па меры поспехаў у чытанні вучні памаленьку пераходзілі да пісання, а потым ім выкладалі спевы і злічэнне*». Спевы, як спосаб запамінання, займалі самае выбітное месца ў сярэднявечнай школе: другі адносна важнасьці свайго сану сябар капітула, засяроджваўшы ў сваіх руках правы і абавязкі апекуна навучальнай акругі, так жа часта надзяляўся тытулам кантара, як і тытулам схаластыка. Вывучэнне злічэння абмяжоўвалася амаль адным складаннем і адыманнем, ды табліцай памнаэння.

Да гэтага і зводзіўся курс пачатковай школы. Далучыўшы да іх святцы, малую пасхалію, ды трохі Статута, школьнік ужо мог падавацца на пасьвячэнне ў духоўны сан і разлічваць на атрыманне адной із ніжэйшых царкоўных пасад... Да вывучэння ж сямі вольных мастацтваў (septem artes liberales) прыступалі толькі найбольш здольныя і найбольш настойлівыя із тых, хто спрабаваў свае здольнасьці ў навуцы.

Гэтыя сем прыступак усходаў прамудрасьці (septemplex sapientia) падзяляліся на трывіум, г.азн. цыкл моўных прадметаў (artes sermonicales) у склад якіх уваходзілі: граматыка, рыторыка, дыялектыка і на навадрывіум (artes reales sive materiales), складаўшыся із арыфметыкі, астраноміі, музыкі і геаметрыі.

«Маці вольных навук на працягу ўсёй першай паловы сярэдневечча лічылася граматыка. На карцінах таго часу яна малявалася ў выглядзе царыцы, спачываючай пад дрэвам спазнання дабра і зла; на галаве ў яе карона, у правай руцэ нож, служыўшы для падчышчанняў памылак у рукапісах, а ў левай розка – неабходная прыналежнасць сярэднявечнага настаўніка. Заняткі граматыкай пачыналіся чытаннем Эзопавых баек і зборніка маральных павучанняў, прыпісваемых Катону

старэйшаму, а таксама завучваннем настаўлення Даната, якое гісторыкі дапасуюць да IV стагоддзя «пасьля Н. Х.». Із гэтага зразумела, што да IV стагоддзя нашай эры не існавала нават і агульнапрызнанай рукапіснай граматыкі.

Завяршэннем заняткаў граматыкай служыла мастацтва пісаць лацінскія вершы, і пісаліся яны якраз тымі ж памерамі, якія мы знаходзім у класічных аўтараў.

Рыторыка разумелася тады ў сэнсе мастацтва складаць акты справаводства... Тут жа разглядаліся і зборнікі духоўных законаў і іншыя юрыдычныя крыніцы.

Дыялектыка служыла толькі для падрыхтоўкі навучэнцаў да разумення тых вынікаў разумовай творчасьці папярэдніх пакаленняў, без якіх сярэднявечнаму грамадству немагчыма было абыйсьціся ў практычным жыцці.

У арыфметыку акрамя дзеянняў над лічбамі, якія былі незвычайна цяжкімі (асабліва дзяленне шматзначных лічбаў) да вынаходніцтва дзесяткавай сістэмы, яшчэ ўключалася сімвалічнае тлумачэнне лічбаў. Вось, напрыклад, як тлумачыў вядомы навуковец IX стагоддзя Рабан Маўр таемны сэнс таго, што Майсей, Ілія і сам Хрыстос пасьціліся па 40 дзён. «*Лічба 40 утрымлівае ў сабе чатыры разы 10. А лічба 4 паказвае на ўсё, што дапасуецца да часовага жыцця. Таму што адпаведна ліку чатыры працякаюць часы дня і года. Часы дня распадаюцца на раніцу, дзень, вечар, ноч; поры года – на вясну лета, восень, зіму... І хаця мы жывём у часовым жыцці, але дзеля вечнасьці, у якой мы жадаем жыць, мы павінны ўстрымлівацца ад часовых задавальненняў і пасьціцца*».

У самай цеснай сувязі з арыфметыкай знаходзілася і астраномія. Сярэднявечны школьны тэрмін Computus ахоплівае сабой асновы абедзьвюх гэтых навук адразу.

Пад найменнем геаметрыі школа выкладала апісанне Зямлі і істот яе насяляючых. У яе ўваходзілі і тыя «фізіялогіі» і «бестыарыі», дзе можна было знайсьці бараноў растучых із каранёў, птушак нараджаючыхся із пладоў і інш. Такім быў цыкл «сямі вольных мастацчтваў», вычэрпваючы амаль усе веды таго часу. Перамяніўся, пашырыўся аб'ём выкладання і цалкам навукі ўжо толькі з узнікненнем універсітэтаў. Толькі пасьля гэтага і маглі, вядома, з'явіцца такія складаныя філасофскія кнігі, як творы Арыстоцеля, геаметрыя Эўкліда, геаграфія і астраномія Пталямея і г.д.

Вельмі прымітыўныя прыёмы выкладання, недахоп навучальных дапаможнікаў і інструкцый, невыразная і нязграбная форма гэтых дапаможнікаў, выкладзеная пераважна ў выглядзе лацінскіх вершах з living рознымі скарачэннямі і ўмоўнымі пазначэннямі, – усё гэта мела наступствам тое, што прымусіць юных вучняў вучыцца можна было амаль толькі дзякуючы баязьні целеснага пакарання.

Сярэднія стагоддзі не пагаджаліся нават дапусьціць, каб сам Хрыстос мог вучыцца без розак. Адна паэма XII стагоддзя распавядае, што калі ён хлопчыкам пачаў хадзіць у пачатковую школу і пры першай жа літары Алеф выказаў жаданне патлумачыць яе значэнне, то настаўнік высек яго за заўчасныя веды[289].

Для таго каб прайсьці поўны курс навучання пад час сярэдневечча, патрэбна было валодаць не толькі выбітнымі духоўнымі якасьцямі – добрай памяццю, вялікай здольнасьцю да фармальна-лагічнага ці дыялектычнага мыслення, незвычайнай уседлівасьцю, увагай і цярплівасьцю, але і жалезным здароўем і ўстойлівай нярвовай сістэмай. Сярэднявечная школа выпускала не мала людзей з

---

[289] В. Іваноўскі. Там жа, стар. 279.

вялікімі ведамі і характарамі, але яна дасягала гэтага не столькі выхаваннем, колькі падборам. Зразумела, што пры такіх умовах дзяўчынак у яе не бралі цалкам.

Незвычайнай цяжкасьцю і цяжарам сярэднявечнай школы тлумачыцца адна яе выдатная акалічнасць: у яе ахвотна бралі дзяцей бедных бацькоў, якія і складалі галоўную масу навучэнцаў. Таму пастыры цэркваў і адукаваныя памочнікі свецкіх валадароў набіраліся ў значнай ступені із дзяцей «простых», «сярэдніх» людзей.

Вышэйшыя навучальныя ўстановы тады, часьцей усяго, мелі назву Studium Generale, што азначала «ўсеагульная школа». Гэта была школа для ўсіх жадаючых набываць веды, без адрознення тых мясцовасьцей, установаў, нацый і дзяржаваў, із якіх паходзілі навучэнцы.

Першыя такія школы з'явіліся ў Салерна, Балонні, Парыжы і ў Оксфардзе, і цалкам не як адраджэнне даўно забытых старажытных класічных, а натуральным працэсам развіцця; астатнія засноўваліся згодна з ўзорам адной із гэтых школ. Яшчэ ў XII стагоддзі некаторыя із кляштарскіх і саборных вучэльняў і некаторыя школы асобных выкладчыкаў, напрыклад, Абеляра на рацэ Сена і ў Параклеце, пачалі набываюць гучную вядомасць у Яўропе. Гэтыя вялікія школы можна лічыць папярэднікамі «ўніверсітэтаў», як пад час сярэдневечча зваліся карпарацыі, валодаўшыя вядомай доляй самастойнасьці. І вось, напачатку XIII стагоддзя, школы ў Парыжы і Балонні, карыстаўшыяся агульнай славай і задавальняўшыя патрэбам усяго заходне-еўрапейскага сьвету, упершыню набылі назву ўніверсітэтаў.

Дзякуючы таму што гэтыя першыя ўніверсітэты былі прызнаны ўсім Заходне-еўрапейскім сьветам і прынімалі слухачоў адусюль, то было цалкам натуральна, што і набываемыя імі веды і выдаваемыя імі навуковыя ступені таксама мелі ўсеагульнае прызнанне. Але Парыж і Балоння да такой ступені даражылі сваімі прывілеямі, што калі пачынаючы з першай трацінны XIII стагоддзя пачалі засноўвацца новыя ўніверсітэты, то дыпламаваныя там навукоўцы не мелі права выкладаць у Парыжы і Балонні, і гэтае пераважнае становішча самых старэйшых універсітэтаў знікла толькі пазьней. Спачатку ўніверсітэт павінен быў быць прызнаны папай ці імператарам, а некаторыя мелі ўказы ад абодвух валадароў Так із 44 Studia Generalia, узнікшых да 1400 года, 21 былі заснаваны на падставе адных папскіх указаў, а 10 мелі як папскія, так і імператарскія (ці каралеўскія) указы. Каралі і тэрытарыяльныя князі засноўвалі ўніверсітэты, толькі папярэдне запыташы згоду і дабраславенне ў папы ці дазвол у імператара.

Назвы выкладашыхся ва ўніверсітэтах прадметаў засталіся тымі ж, якія існавалі і ў ранейшай школе (дадалася адна медыцына), але аб'ём кожнага прадмета значна пашырыўся і яны пачалі выкладацца больш сістэматычна і больш метадычна. У той жа час усё больш і больш выступае на першы план «дыялектыка». Тое, што мы зараз называем сярэднявечнай (схаластычнай) філасофіяй, з'яўляецца дзіцём гэтых універсітэтаў, толькі падкінутым пазьней у міфічную дахрысьціянскую сям'ю, таксама як і сярэднявечныя рытары, паэты, філасафы і гісторыкі, сасланыя ў да-хрысьціянскія стагоддзі.

Самай старажытнай з Studia Generalia была медычная школа ў Салерна, час узнікнення якой дакладна невядомы, але салернскія лекары ўжо ў XI стагоддзі карысталіся славай у Яўропе, і далі нагоду да легендаў пра старажытных вялікіх медыкаў.

У XII стагоддзі ўзнік універсітэт у Балонні са школы рымскага права знакамітага Ірнерыя, і даў, як мы пабачым далей, пачатак псеўда-рымскаму праву.

Парыжскія школы славіліся яшчэ з часоў Гільёма із Шампо, які вучыў напачатку XII стагоддзя ў катэдральнай школе пры Notre Dame, а потам у школе абацтва св. Віктара. Яшчэ больш уславіў іх рыцар схаластыкі Абеляр, пра якога я ўжо раней паведамляў.

У XII стагоддзі ў Парыжы існавала таксама шмат прыватных настаўнікаў, якія выкладалі ў сябе на сядзібе ці проста пад голым небам, даючы пачатак легендам пра Дыягена, пра Сакрата і інш. Большасць іх жыла каля «Малога моста», злучаўшага цэнтральную частку горада, размешчаную на выспе Сены, з левым берагам. Агульнае імкненне прымусіць канцлера царквы Notre Dame de Paris даваць licentiam docendi толькі годным людзям, – такім, якіх яны самі былі б не супраць прыняць у сваё асяроддзе, – гуртавала гэтых магістраў у таварыствы. Так, на прыканцы XII стагоддзя ўтварыліся чатыры карпарацыі магістраў чатырох дысцыплін (facultates): багаслоўя, права, медыцыны і таго, што пад час сярэдневечча атрымаа назву artes liberales.

«*Струмень мудрасьці,* – паведамляе адна кніга, – *падзяляецца на «чатыры здольнасьці»: багаслоўе, юрыспрудэнцыю, медыцыну і філасофію рацыянальную, натуральную і маральную – гэта як бы чатыры райскія ракі*». Магістры, выкладаўшыя на гэтых факультэтах, атрымалі ад абедзьвюх улад, г.азн. ад папы а ад свецкай улады, карпарацыйны ці ўніверсітэцкі лад (corpus universitatis) і шмат прывілеяў і палёгак, таму што ім больш вальна і спакойна можна было займацца, калі яны былі злучаны нейкімі асобнымі юрыдычнымі дачыненнямі.

Парыжу пад час сярэдневечча далі найменне «горад навукі», «новыя Афіны», і выказваліся, што «Італія мае папства», Германія – імперыю, а Парыж – універсітэт» (Stadium). Парыжскі багаслоўскі факультэт «уяўляў сабой не толькі сусветна-знакамітую ўстанову, выпрацаваўшую «Гісторыю хрысьціянскай царквы» шляхам апакрыфікавання жыцій і твораў сьвятых у першыя стагоддзі, але ў той жа час на працягу доўгага шэрагу гадоў з'яўляўся душой каталіцкай царквы і сапраўдным кіраўніком рэлігійнага жыцця Яўропы. Каб зразумець моц яго ўплыву, варта толькі згадаць яго ролю падчас вялікай царкоўнай схізмы і эпоху рэфармацыйных сабораў. Кіраўнік гэтага факультэту, сялянскі сын Герсан, быў самым галоўным правадыром таго руху, які давёў да канца Лютар.

Факультэты ў Парыжы складаліся з магістраў, выкладаўшых разнастайныя навукі; студэнты залічваліся да факультэтаў праз сваіх магістраў. На чале факультэтаў стаялі дэканы, абіраўшыяся магістрамі са свайго асяроддзя на адно паўгоддзе. Дэканы назіралі, каб магістры спраўна чыталі лекцыі, загадвалі экзаменамі, кіравалі сходамі факультэтаў, клапаціліся пра прыбыткі, пра палёгкі і пра правы сваіх факультэтаў. Пад канец кожнага курса сябры факультэта размяркоўвалі паміж сабой чытанне лекцый на наступнае паўгоддзе ці на год, прызначалі лекцыйныя гадзіны і памеры студэнцкай платы за слуханне лекцый (honorarium).

Філасофскі ці артыстычны ўніверсітэт быў тады толькі падрыхтоўчым, і ў студэнты астатніх «старэйшых» факультэтаў паступалі амаль выключна клірыкі, закончыўшыя курс і атрымаўшыя ступень магістра артыстычнага факультэта.

Наколькі шматлюднымі былі старэйшыя факультэты, відаць, напрыклад, з аднаго запісу, дзе паведамляецца, што ў «*Лейпцыгу на прыканцы XV стагоддзя было 700 з невялікім студэнтаў, із якіх больш за 600 былі «артыстамі», каля 100 – юрыстамі, багасловаў было ўсяго 6-7 чалавек, а медыкаў – 5*». Заможныя слухачы, відаць,

пераважна гуртаваліся на юрыдычным факультэце, а багаслоўскі складаўся амаль запар із беднаты.

Цікава, што багаслоўе пад час сярэдневечча цалкам не займала ва ўніверсітэтах пераважаючае становішча, хаця Дэніфль і выказваецца, што «звычайна прынята лічыць багаслоўе вянком і нават ядром усяго ўніверсітэцкага выкладання» сярэдневечча»[290].

Толькі ў XII стагоддзі мясцовасць, дзе жылі парыжскія студэнты, атрымала ад іх назву «лацінскі квартал»; знакамітая вуліца Фуар, цэнтр парыжскага студэнцкага насельніцтва, была забудавана толькі каля 1225 года.

Адной із першых калегій, як тады зваўся студэнцкі інтэрнат, была знакамітая Сарбона, заснаваная духоўнікам караля Людовіка IX Робертам Сарбонам, на 16 бедных студэнтаў багаслоўскага факультэта (па 4 ад кожнай нацыі). Хутка яна была пашырана дзякуючы новым ахвяраванням, а таксама таму, што ў яе пачалі браць і платных пансіянераў, жадаўшых карыстацца яе выгодамі.

Сьледам за Сарбонай хутка узнік шэраг іншых калегій, да якіх пазьней далучыліся і так званыя «педагогіі», куды вучні браліся толькі за плату. Па меры ўзрастання колькасьці падобных установ, універсітэт усё больш пачынае ўціскаць «стрыжэй», г.азн. студэнтаў, жывучых на вольных кватэрах, і, нарэшце, у палове XV стагоддзя ўсе вучні найбольш шматлікага, малодшага, «артыстычнага» факультэту, бацькі якіх жылі не ў Парыжы, месцаваліся выключна ва ўніверсітэцкіх калегіях і педагогіях... Адначоса з гэтым інтэрніраваннем вучняў зведвае перамены і арганізацыя выкладання. Замест таго, каб вадзіць вучняў на прафесарскія лекцыі, рэктары шматлюдных калегій пачалі запрашаць прафесароў да сябе ва ўстановы. Гэта пазьнейператварылася ў агульнае правіла, і, такім чынам, універсітэт з вольнага звязу вучняў і настаўнікаў, якім ён быў спачатку, ператварыўся ў шэраг адмежаваных навучальных установ, із якіх развіліся сучасныя французкія ліцэі і вышэйшыя адмысловыя школы. Ад заканчэння XII да заканчэння XIV стагоддзя ў Парыжскім універсітэце было заснавана грунтуючыся выключна на прыватных ахвяраваннях 50 калегій з 1000-1100 стыпендыямі. Такое моцнае развіццё атрымала гэтая справа!

Чытанне лекцый працягвалася звычайна ад 19-20 кастрычніка да 7-га верасня. Гэты час і складаў звычайны навучальны год, а верасень і кастрычнік прызначаліся на «вялікія вакацыі». Акрамя таго, ад заняткаў былі вольнымі: два тыдні на Вялікадні, 11 дзён на каляды і чацвяргі на тых тыднях, у сярэдзіне якіх не было сьвят. І ўся гэтая навуковая і выкладніцкая дзейнасць здзяйснялася на лацінскай мове, агульнай пад час сярэдневечча для навукоўцаў усіх заходне-еўрапейскіх нацый. Але гэта быў у сярэдняй Яўропе яшчэ не класічны стыль Цыцэрона, Лівія, Вяргілія і іншых лацінскіх аўтараў.

Упершыню класічная мова узнікла не тут, а ў Неапалі, Рыме, Фларэнцыі і тыраніях паўночнай Італіі, і адным з першых не апакрыфікаваных пісьменнікаў на ёй быў Франчэска Пятрарка (1304-1374 гг.), каранаваны ў Капітоліі ў 1341 годзе за свае лацінскія вершы.

Такім чынам адрозненні кухоннай лаціны ад класічнай тлумачацца рознымі месцамі ўзнікнення іх абедзьвюх, а ніяк не адрозненнямі ў часе: Францыя і Германія стварылі кухонную, а Італія класічную лаціну.

---

[290] Denifle: Die Universitaten des Mittelalters. I. 403.

# Глава VIII.

## Рымскае права ці балонскае права.

Няма нічога больш нявызначанага чым уяўленне выклікаемае ў нас словам права. Ва ўсіх еўрапейскіх мовах яно этымалагічна злучана са словам справядлівасць. Ці возьмем мы яго назву jus на-лаціне, le droit па-французку, das Recht па-нямецку, the right па-ангельску, ці права па-руску, заўсёды знаходзім прыметнік таго ж лінгвістычнага кораня, азначаючы справядлівы: justus, droit, ricbtig, right, ці нават назоўнік з сэнсам праўда, справядлівасць, як процілегласць няпраўдзе, няспраўядлівасьці. І аднак гэтае ж самае слова – права – ужываецца ўсюды і як процілегласць слову абавязак і ў гэтым сэнсе яно робіцца ўжо сінонімам слова прывілей.

Уся гэта нявызначанасць сэнсу тлумачыцца тым, што слова права моцна перамяняла свой сэнс на працягу апошніх стагоддзяў, ды гэта было і непазбежным.

Права ж з’яўляецца  дзіцём чалавечай грамадзкасьці. Самотны чалавек на незаселенай выспе не мае ні праў, ні абавязкаў сярод атачаючых яго звяроў, і пачуццё справядлівасьці да іх адсутнічае ў яго. Я ўжо згадваў, як аднойчы злоўлены на крадзяжы негр, на дакорлівае пытанне (здаецца, Лівінгстана): «скажы, ці добра красьці?», падумаўшы, адказаў з поўнай упэўненасьцю: «добра, калі я краду ў іншых і мяне не ловяць, але дрэнна, калі іншыя ўкрадуць у мяне і іх ніхто не зловіць». Так і самотны чалавек, апынуўшыся на выспе сярод звяроў, сказаў бы, нітрохі не сумнеючыся: «добра, калі я іх буду лавіць і ёсці, але не добра, калі яны мяне зловяць і з'ядуць».

Гэта азначае, што наша разуменне пра справядлівасць і норавы абмяжоўваецца межамі чалавечага роду, і нават не цалкам усяго, а толькі больш-менш шырокага кола людзей, якіх мы прызнаём роўнымі сабе адносна палітычнага развіцця. Ніводнае згуртаванне сучасных еўрапейцаў, патрапіўшае ў грамадства антрапафагаў у цэнтральнай Афрыцы, не будзе лічыць сябе раўнапраўным з імі, а вылучыцца ў адасобленую суполку, лічачы гэта цалкам справядлівым. Такім жа чынам лічыў сябе справядлівым і феадальны барон, ствараючы для сябе асобнае феадальнае права, і сярэднявечны царкоўнік, выпрацаваўваючы для сябе асобнае царкоўнае права, не маючае дачынення да свецкіх прафесій. І толькі вельмі позна пачало лічыць сябе раўнапраўным усё насельніцтва той жа самай культурнай краіны, а асобныя правы тых ці іншых прафесій ці асоб пачалі называцца прывілеямі (хоць і за імі ў грамадстве яшчэ захавалася назва «права», што прыводзіць да блытаніны гэтых абодвух цалкам розных разуменняў).

Із гэтага зразумела, што, абмяжоўваючы сваё ўжыванне вядомым колам людзей, першапачатковае права ў сэнсе справядлівасьці, а не прывілеяў, грунтавалася на ўяўленні пра аднолькавасць гэтых людзей і рэгулявала дачыненні паміж імі ў сэнсе найбольшай выгоды для ўсіх уключаных у дадзенае згуртаванне мужчын, жанчын, ці дзяцей, да якіх да паўналецця ўжывалася асобнае бацькоўскае права... Але гэтыя першапачатковыя правы – маючыя назву звычайных – у залежнасьці ад звычаяў дадзенай мясцовасці ніколі не з'яўляліся вынікам вольнай дамовы паміж насельнікамі, а выпрацоўваліся, як маральны ўмоўны рэфлекс, пастаяннымі ўрокамі самога жыцця на працягу шматлікіх пакаленняў, як і ўсе цалкам умоўныя рэфлексы ў фізіялогіі.

Кожны першабытны чалавек, у тым ліку і нашы продкі, разважаючы пра добрае і благое, сказаў бы, як той негр: «добра, калі я ўкраду і мяне не зловяць, але дрэнна, калі ў мяне ўкрадуць і іх ніхто не зловіць»... Але вось то аднаго, то другога злодзея лавілі, ім адсякалі крадучую руку, і ў выніку з уяўленнем пра крадзёж пачало злучацца і пакаранне за яго. «Не добра, калі мне адсякуць руку», – разважаў з поўным перакананнем першабытны чалавек. А так як гэтае «нядобрае» ўяўленне асыцыяцыйна злучалася ў яго з уяўленнем пра «добры» крадзёж, то ў выніку змагання гэтых двух уяўленняў з'явілася, як умоўны грамадзкі рэфлекс, і баязнь перад здзяйсненнем крадзяжу, і выпрацавалася разуменне, што і сам гэты ўчынак не добры. Але пра гэта я ўжо выказваўся і раней у сувязі з вэрхаламі першых хрысьціянаў.

Так развіваліся эвалюцыйна, а не прыроджана, нашы маральныя інстынкты, як умоўныя грамадзкія рэфлексы, да таго часу, пакуль чалавечая думка не выпрацавала ім і фармуліроўку: «не рабі іншаму таго, што ты не меў бы жадання бачыць зробленым табе». А потым з'явіліся і «дзесяць запаветаў» на Вязувіі-Сінаі – адзінае «рымскае права», узнікшае ў старажытнай Італіі. Маральныя паводзіны людзей тады ўпершыню былі пастаўлены пад непасрэнаеназіранне бога Грамабоя, які ўсё бачыць і чуе, і ад якога не схаваецца нішто і нішто не застанецца без адплаты.

Такім чынам і справядлівасць, і прывілеі напачатку пачалі выпрацоўвацца ад імя Грамабоя, але тут жа выявілася, што Грамабой не спяшаецца з пакараннем пры кожным парушэнні яго законаў-запаведзяў. Давялася выпрацаваць вучэнне пра ўзнагароду і пра пакаранне ў замагільным жыцці, і пра «жахлівы суд». Але і ён, як вельмі аддалены, не стрымліваў ад спакусы тых, хто кіраваўся ў сваім жыцці правілам «хоць дзень ды мой», ды, акрамя таго, амаль усю пагрозу хрысьціянская царква знішчыла вучэннем пра «божую міласэрднасць», які дарue «пакаяўшымся грэшнікам».

Без свецкага пакарання абыйсьціся стала немагчыма, і так будзе да поўнагаператварэння чалавека, г.зн. да надання яму (шляхам пакарання то таго, то другога із яго субратаў, а часам і яго самога) інстынктыўнай агіды ад усіх несправядлівых учынкаў.

Наколькі ж адпавядае гэтай натуральнай эвалюцыі «права» ўяўленне пра тое, што амаль усе сучасныя законы былі даўным-даўно выпрацаваны рымлянамі ў Італіі, а ў VI стагоддзі нашай эры сабраны візантыйцамі (якія таксама называюць сябе да гэтага часу тым жа імем – рамеі), і што потым, пагрузіўшыся на пяцьсот гадоў у Раку Забыцця, гэтыя законы былі выкінуты яе хвалямі на бераг Эпохі Адраджэння?

Вось як выказваецца пра гэта А. Вормс у сваім артыкуле «Балонскі ўніверсітэт і рымскае права пад час сярэдневечча»[291].

На прыканцы XI стагоддзя ў Балонні ўзнікла школа «гласатараў», г.зн. тлумачальнікаў. Заснавальнік гэтай школы Ірнерый быў спачатку выкладчыкам рыторыкі, але згодна з запрашэннем маркграфіні Матыльды Тасканскай, ён каля 1088 года пачаў чытаць у Балонні «рымскае права», г.зн. рамейскае, грэцкае права.

[291] «Кніга для чытання па гісторыі сярэдневечча», складзеная кружком выкладчыкаў, пад рэдакцыяй П. Г. Вінаградава. 1903 г.

«*Захавалася паданне*, – сведчыць А. Вормс, – *што Ірнерый першым змог зноў сабраць па частках поўны тэкст Юстыніянавых збораў рымскага* (г.азн. рамейскага) *права*».

Гэта азначае, і тут мы натыкаемся на тую ж сярэднявечную бяздонную прорву. Захавалася – кажуць нам – паданне, што Ірнерый напачатку XII стагоддзя, аднавіў не ўжываўшыся на працягу 500 гадоў Юстыніянавы кодэкс. Але ці не прасьцей дапусьціць, што ён сам і стварыў яго і што ў VI стагоддзі пры Юстыніяне існавалі толькі адны яго зародкі?

Згодна са сведчаннем аднаго із яго наступнікаў, Ірнерый быў знаўцам логікі (logicus fuit) і чалавекам тонкага розуму (vir subtilis), ён хутка заняў уплывовае становішча, як у якасьці суддзі так і выкладчыка. Не ведаючы як доўга выкладаў Ірнерый, – хутчэй усяго да 1125 года, – вырашыць, ці яго вучнямі былі тыя чатыры гласатары, якія, грунтуючыся на «рымскім вучэнні пра неабмежаванасць дзяржаўнай улады», баранілі ў 1158 годзе на Ранкальскім сойме права кайзера Фрыдрыха I як законнага наступніка рымскіх кесараў. Шануючы падтрымку сярод выкладчыкаў рымскага права, нова-рымскія (г.азн. аўстрыйскія) імператары выказвалі гэтай школе асаблівую падтрымку, якая шмат спрыяла хуткаму яе развіццю. Знакамітыя выкладчыкі права бесперапынна замянялі ў іх адзін аднаго на працягу паўтары стагоддзя. Найбольшую вядомасць із іх набыў юрыст пачатку XIII стагоддзя Ацо. Пры ім на працягу некалькіх гадоў у Балонню збіраліся з усіх канцоў Яўропы да 10000 слухачоў штогадова. Тлумачэнні Ацо прымаліся ў якасьці агульнапрызнаных у суднах выкарыстоўваўшых так званае «рымскае права». Яго вучнем Акурсіем (памёр у 1260 годзе) заканчаецца шэраг гласатараў. Як бы падводзячы вынік дзейнасьці сваіх папярэднікаў, Акурсій склаў поўны збор сваіх тлумачэнняў, і гэтым зборам («glossa ordinaria») амаль выключна карысталіся ўсе пазнейшыя юрысты[292].

Такім чынам сучаснае «рымскае права» больш правільна было б называць «балонскім правам». З эвалюцыйнага боку гледжання яно ўсё – апокрыф, тым больш, што нічым не бянтэжыўшыяся гласатары дапасавалі да законаў рымскіх імператараў і сярэднявечныя пастановы пра леннае валоданне і апраўданне радавой помсты.

Падобна таму як адзін італійскі мастак наступнага перыяду намаляваў Сцыпіёна Малодшага ў даспехах каля гарматы, накіраванай супраць гатычных веж Карфагена, так і меркаванні гласатараў малююць нам часам побыт сярэднявечнай Італіі, а не старажытнага Рыма. Але менавіта гэтая апакрыфічнасць, надаваўшая вагу маральным пастановам лагічна (а не царкоўна) усталяваным, і была цікавай для сучаснікаў, у якіх яшчэ не абудзілася здольнасць да самастойнага мышлення.

Вучэнне пра свецкае права, узнікшае ў Балонні пад найменнем старажытнага рымскага права, хутка пашырылася па ўсёй Заходняй Яўропе.

«У XII стагоддзі, – кажа той жа аўтар, – яшчэ адны толькі балонскія гласатары выкладалі права як самастойную галіну ведаў, як навуку, а не як асобныя боскія і імператарскія ўказы, і таму ад самога заснаваня школы ў Балонні ў яе пачалі збірацца вучні не толькі із Італіі, але таксама із-за Альпаў, з раманскіх і славянскіх земляў. Замежнікі тут хутка набылі рашучую перавагу. Пад іхным уплывам балонская школа із гарадзкой, якой яна была спачатку, ператварылася ў школу агульную для ўсіх народаў, у «Studium Generale».

---

292 Glossa (адкуль рускае: голас) згодна з сярэднявечнай лацінкай пазначаецца цалкам кожнае замежнае слова, а таксама яго тлумачэнне.

Яшчэ больш сур'ёзным было значэнне падтрымкі выказанай у той час вышэйшай школе папскай ўладай, хаця свецкі характар новай навукі і не цалкам адпавядаў Бібліі. Да папы звярталіся дзеля вырашэння спрэчных пытанняў, узнікаючых паміж выкладчыкамі і слухачамі, сярод якіх доўга пераважалі клірыкі. Для бедных студэнтаў пры ўніверсітэце быў заснаваны шэраг інтэрнатаў (collegia ці bursae, адкуль рускае бурса), а выкладчыкам бедных слухачоў, часта даваліся бенефіцыі, г.азн. вызначаныя прыбыткі із царкоўнай маёмасьці.

Вышэйшай ступенню, якую даваў універсітэт скончыўшым студэнтам, было званне «доктара», г.азн. навукоўцы. Яно адпавядала званню «майстра» ў тэхніцы і давала права выкладаць цалкам самастойна дзе б там ні было, і пазней, калі ўзнікла шмат універсітэтаў, такая магчымасць вельмі спрыяла ўсталяванню цеснай сувязі паміж імі. Лепшыя ўніверсітэты Захаду пачалі прыцягваць яшчэ большую колькасць слухачоў і заўсёды не звяртаючы ўвагі на падданства. Усталяваўся нават звычай наведваць на працягу шматгадовых заняткаў па некалькі ўніверсітэтаў у розных краінах. Захаваліся паведамленні пра вандруючых студэнтаў, навучаўшыхся ў 15 і больш універсітэтах.

Сярэднявечная навука, яшчэ цесна злучаная са школай, не ведала нацыянальнага адасаблення, і мы бачым на прыкладзе рымскага права, што новыя веды і прыёмы дасьледавання, нягледзячы на адсутнасьць друку, надзіва хутка пашыраліся па ўсёй Заходняй Яўропе.

У Балонні асобнае значэнне набылі згуртавані слухачоў. У склад гэтых згуртаванняў доўга ўваходзілі толькі адны студэнты-юрысты, карыстаўшыяся шэрагам прывілей на той падставе, што балонская школа спачатку была выключна юрыдычнай школай.

Але і ў сярэдзіне ўніверсітэта паўтарыўся працэс, які можна прасачыць у гісторыі гарадзкой суполкі: да заканчэння сярэдневечча улада пераходзіць да прафесійных звязаў, г.азн. цэхаў і гільдый, як іх тады звалі.

Згуртаванне студэнтаў у 1497 годзе называе сябе братэрствам (fraternitas). Яно абірае са свайго асяроддзя двух пракуратараў для знешняга прадстаўніцтва і для кіравання справамі братэрства. Пракуратарам надаецца судовая ўлада над таварышамі і забараняецца пад пагрозай высокага грашовага штрафу прыцягваць таварыша да агульнага суду, акрамя свайго карпарацыйнага. Статут абавязвае сяброў згуртавання паважаць адзін аднаго (fraterna caritas), даглядаць хворых, падтрымліваць патрабуючых дапамогі сяброў, суправаджаць іх да выпрабавання на ступень доктара і потым дахаты; збіраць грошы, каб годна пахаваць сваіх нябожчыкаў і, нарэшце, разам святкаваць урачыстыя для згуртавання дні. Кожны нанова ўступаючы сябар згуртавання павінен прынесьці прысягу, што будзе строга выконваць яго статут. Гэтая рыса, у сувязі з усім вышэйпавядомленым, даводзіць, што карпарацыі былі не чым іншым, як старажытна-германскімі Schwurbruderschaften (прысяжнымі братэрствамі), звычайнай формай прафесійных згураванняў купцоў і рамеснікаў.

Так было і ў узнікшых пасьля Балонні італійскіх універсітэтах у Вічэнцы (1204 г.) і ў Падуі (1222 г.)....



Мал. 160
Пляц Св. Марка ў Венецыі падчас старжынага карнавалу. Пасярэдзіне званніца Св. Марка, за ёю Піяцэта



Мал. 161
Зала Вялікай Рады ў Венецыі пад час эпохі рэспублікі, распісаная Тынтарэта.

Карпарацыйныя правы выкладчыкаў і вучняў былі асноўнай падставай росквіту і культурнага ўплыву ўніверсітэтаў. І раней, да іхнага ўзнікнення, у школе вядомага навукоўцы збіраліся шматлікія вучні. Але калі такі выкладчык перамяняўся, ці наставалі неспрыяльныя вонкавыя ўмовы большасць вучняў сыходзіла, а школа, пасьля недоўгачасовага росквіту, занепадала. Падобная ж доля пагражала б і школе заснаванай гласатарамі, калі б яна не ператварылася ў самастойны незалежны хаўус, са сваім асобным жыццём, асобнымі звычаямі і паданнямі, злучаўшымі пасьлядоўныя пакаленні выкладчыкаў і слухачоў. Толькі тады і было забяспечана на шматлікія стагоддзі параемства навуковай працы і

безперапыннае існаванне школы сярод закалотаў і войнаў сярэдневечча. Універсітэцкія гарады Італіі шмат разоў пераходзілі ад аднаго заваёўніка да другога і нярэдка пры гэтым спусташаліся, але ўніверсітэты ў іх развіваліся амаль без перапынення. Вось як позна пачалася **пераемная** навука!

Падобнае ўладкаванне вышэйшай школы, узнікшае амаль адначасова і незалежна адзін ад аднаго ў Балонні і ў Парыжы, так адпавядала патрэбам эпохі, што неадкладна мела наступствам перайманні. Да канца XIV стагоддзя ў розных краінах Заходняй Яўропы з'явілася каля 50 універсітэтаў, і ўсе яны былі заснаваны згодна з ўзорам першых двух.

Балонскі ўніверсітэт, такім чынам, **стварыў рымскае права**. Ён жа выхаваў і асоб, якія павінны былі правесьці яго ў жыццё еўрапейскіх дзяржаваў.

Гэтыя асобы, прынамсі галоўная іхная колькасць, выйшлі ўжо не са школы гласатараў. Апошніх замянілі на прыканцы XIII стагоддзя пост-гласатары, ці «каментатары». А дзякуючы таму што гласатары адпавядалі жыдоўскім масарэтам, то і масарэты павінны быць дапасаваны да той жа эпохі. Іхнымі вучнямі былі французкія «лягісты» і нямецкія «юрысты», дзейныя змагары за псеўда-рымскае права на сваёй радзіме. Такой актыўнай, практычнай роляй і абмяжоўваецца гістарычнае значэнне каментатараў.

Лепшыя з іх, накшталт Бартола (памёр 1357 г.) і Бальдо (1400 г.), карысталіся небывалай павагай і як юрысты-практыкі. Да іх звярталіся за рашэннем спрэчных пытанняў не толькі ў вобласьці прыватнага права, але нярэдка таксама ў міжнародных стасунках і нават у царкоўных пытаннях. І такім вялікім быў іхны ўплыў на грамадзкую думку, што іхным рашэнням даводзілася падпарадкоўвацца, хаця ніхто не надаваў іх судовай улады. Толькі зараз наступіла эпоха, калі балонскае права пад псеўданімам рымскага набыло аўтарытэт дзейнічаючага права, калі яго імкнуліся прыняць і, па-магчымасьці, цалкам прыстасаваць да жыцця. Суды пачалі слепа схіляцца перад ім нават у тых выпадках, калі дзяржаўная ўлада не наказвала гэтага.

Шматлікія, выхаваныя на «рымскім» праве, «лягісты», як зваліся ў Францыі і ў Англіі навукоўцы юрысты, у сваім захапленні лічылі, што кожны недахоп у звычайным праве павінен быць дапоўнены із «рымскага права». Толькі частка лягістаў прызнавала за ім толькі значэнне ratio scripta, найбольш разумнага права, якое мела патрэбу для практычнага ўжывання ў асобнай санкцыі. Але як тыя, так і другія, на справе толькі шырока чэрпалі із вялікіх скарбніц «балонскіх зборнікаў».

Першыя папаўняльнікі мясцовага права абмяжоўваліся простымі дадаваннямі да яго, побач са звычаямі і каралеўскімі ўказамі, пастановамі псеўда-рымскага і блізкага яму кананічнага права. Так зрабілі аўтары самых старажытных зборнікаў, напрыклад, зборніка «Etabllissements de St. Louis», складзенага прыватнай асобай каля 1272 года. Не згадваючы пра цяжкае пытанне пра час, аўтар іншага зборніка – «Livre de Jostice et de Plet» («Кніга пра праўду і суд») – называе рэскрыптам **Людовіка Сьвятога** той яго том, які зараз юрысты прыпісваюць – каму б вы думалі? – імператару **Адрыяну**! І можна думаць, што аўтар кнігі пра «Праўду і суд» меў рацыю...

Асабліва шмат балонскіх разуменняў запазычыў зборнік «Coutumes de Beauvoisis» (1283 года) у вобласьці абавязковага права і ў прыватнасьці па пытанню пра заключэнне і выкананне дамоваў.

Старажытна-французкія куцюмы патрабавалі ўрачыстай формы заключэння дамоваў, г.азн. вымаўлення вызначаных формул пры вядомых абставінах, і

падлягаючых выкананню без выключэнняў. Але Бамануар ужо прытрымліваецца балонскіх разуменняў і выказваецца ў сваім зборніку:

«*Дамовы, заключаныя пад уплывам прымусу ці баязні, можна не выконваць. Толькі прымус і баязнь бываюць рознымі. Кажучы: «я зрабіў гэта дзякуючы прымусу», варта паказаць, у чым ён складаўся, і даказаць яго, калі адваротны бок будзе адмаўляць гэта. Пасьля гэтага ўжо і належыць разгледзець, ці такім быў прымус, каб гэта дало падставу скасаваць пагадненне. Тое ж самае, калі нехта заключыць дамову дзякуючы баязні*»

Пад уплывам балонскіх паглядаў пачалі перамяняцца і іншыя пастановы звычайнага права, напрыклад, парадак успадкавання. Сярэднявечныя звычаі пры падзеле спадчыны (асабліва нерухомай маёмасьці) аддавалі перавагу сынам перад дочкамі (так званы саліцкі закон), і часам старэйшаму сыну за кошт маладзейшых. У Балонскіх жа зборніках даводзіцца роўнае надаванне ўсіх дзяцей без адрознення стаці.

Ужыванне балонскіх правіл разам з іншымі, цесна з імі злучанымі пастановамі, паступова пашыралася ў Заходняй Яўропе, пакуль яны, ад заканчэння мінулага стагоддзя, не ляглі ў грунт агульнафранцузкага права. У Францыі лягістаў вывеў на глебу практычнай дзейнасьці Людовік Сьвяты, лічачы, што яны больш здольны пасяліць праўду і справядлівасць на судзе, чым невуцкія феадалы, але ён не прадбачыў тую палітычнай ролю, якую ім было наканавана выканаць. Пры яго наступніках амаль усе галіны дзяржаўнага кіравання перайшлі ў іхныя рукі. Яны засядалі ў каралеўскай радзе і ў вярхоўным судзе, яны ж звычайна занімалі пасады бальі і прэва, якім даручалася мясцовае кіраванне, збор падаткаў і выпраўленне суда. Паступова лягісты ўтварылі як бы асобны стан, шматлікае і згуртаванае чынавенства, моцнае сваімі ведамі пісанага права і справаводчымі набыткамі. Абапіраючыся на аўтарытэт псеўда рымскага, а на справе балонскага права, лягісты зацята праводзілі яго ідэалы, варожыя сярэднявечным формам і адпавядаючыя патрэбам буржуазіі, ішоўшай на змену феадальнаму барону.

Кароль, згодна з гэтым вучэннем, быў, не толькі вярхоўным сюзэрэнам, – але быў імператарам сваіх уладанняў і ахоўнікам усяго права. Бамануар выказваецца: «ce qui lui plait a faire doit etre pour la loi» (тое, што яму падабаецца, павінна быць законам. Beaumanoir, 30, 29). Адсюль імкненне пасьлядоўна абмяжоўваць усімі сродкамі кола дзеяння феадальных судоў і падрываць самастойнасць, як феадальных баронаў, так і гарадзкіх суполак. На змену сярэднявечнаму рознавалоданню стваралася «цэнтралізаванае» кіраванне. Паціху рыхтуючы манархію Людовіка XIV, лягісты жадалі, каб кароль, з дапамогай сваіх устаноў, із аднаго цэнтра меў магчымасць накіроўваць і пагадняць жыццё ўсіх асобных частак дзяржавы. Лягісты адважыліся нават на небяспечную тады адкрытую вайну з царкоўнай уладай. Яны аспрэчвалі і пасьлядоўна звужалі свецкія паўнамоцтвы сьвятарства, яны адважыліся нават асудзіць сваім свецкім судом духоўны ордэн тамплiераў і папу Баніфацыя VIII.

У Германіі рымскае права пачало выказваць заўважаемы ўплыў на грамадзкі і прыватны побыт краіны пазьней, чым у Францыі. Перакананне, што Германская імперыя з’яўляцца працягам легендарнай Рымскай імперыі, вымушала імператараў карыстацца сваім псеўда-рымскім правам для абгрунтавання і пашырэння сваіх правоў.

Цалкам вызначана гэта выкладзена Фрыдрыхам III ва ўказе 1484 года.

«*Наша воля і самыя энергічныя нашы высілкі накіраваны на тое, каб бясконцамудрыя законы і ўказы нашых продкаў, сьвятой памяці рымскіх імператараў, усё больш*

*засвойваліся нашымі падданкамі, бо мы перакананы, што толькі пры пасьлядоўным іхным ужываньні наша дзяржава будзе мацнець і пашырацца. Толькі магутная каралеўская ўлада, абапіраючаяся на гэтае права, зможа ўтаймаваць неабмежаваныя захапленні падданых і забяспечыць будучыню дзяржаве*».

Але Германская імперыя ўжо не змагла ці не здолела скарыстацца балонскім правам. Яно вылучыла і замацавала ў XV-XVI стагоддзях уладу абласных прынцаў (Territorialfursten), стварыўшых новыя суды і выхаваўшых умелае чынавенства. Пры дапамозе і ўдзеле «юрыстаў» абласныя валадарачыя князі перамаглі як феадальна-супольны сьвет, так і самастойнасць сьвятарства, якое пад час той эпохі пашырыла нават выказванне; «Juristen bose Christen» (юрысты дрэнныя хрысьціяне).

Такім было развіццё «рымскага права» на працягу ўсёй яго рэчаіснай гісторыі. Старажытны Рым выяўляецца для яго цалкам непатрэбным давескам і таму мы з поўным перакананнем можам сказаць:

Рымскае права з’яўляецца толькі апакрыфікаваным для надання аўтарытэтнасьці балонскім правам.

**Ніякага старажытна-рымскага класічнага права ніколі не існавала,** акрамя хіба дзесяці запаветаў Дыяклетыяна-Майсея на двух гліняных плітках.

І што ж мы бачым пасьля ўсяго сказанага ў гэтых першых пяці тамах нашага дасьледавання?

**Ад старажытнай класічнай Грэцыі і ад старажытнага класічнага Рыма нічога рэчаіснага не засталося.** Не засталося нічога рэчаіснага і ад старажытнай Фінікіі, старажытнага Карфагена і ад царстваў Ізраільскага і Юдэйскага.